Пераклад Васіля Раманава 2017 год.

Анры дэ Таквіль

# ДЭМАКРАТЫЯ Ў АМЕРЫЦЫ

## Змест

## Частка другая: уплыў дэмакратыі на пачуцці амерыканцаў.

Частка трэццяя: Ўплыў дэмакратыі на норавы як такія.

# Прадмова аўтара да Дванаццатага французскага выдання.

Наколькі б значнымі і нечаканымі ні былі падзеі, імкліва адбываўшыяся на нашых вачах, аўтар гэтай працы мае поўнае права заявіць, што яны не заспелі яго знянацку. Калі я пісаў гэтую кнігу пятнаццаць гадоў таму назад, мной валодала адна-адзінюткая думка – пра набліжаючаяся няўхільнае наступленне дэмакратыі ва ўсім сьвеце. Перачытайце маю працу, і вы на кожнай старонцы сустрэнеце ўрачыстыя паведамленні пра тое, што Грамадства перамяняе сваё аблічча, што чалавецтва пераіначыць умовы свайго існавання і што ў недалёкай будучыні яго чакаюць перамены ў лёсах.

Кнізе папярэднічалі наступныя словы:

«Паступовае ўсталяванне роўнасьці з'яўляецца наканаванай звыш непазбежнасьцю. Гэты працэс пазначаны наступнымі асноўнымі прыкметамі: ён носіць сусветны, доўгачасовы характар і з кожным днём усё менш і менш залежыць ад волі людзей; усе падзеі, як і ўсе людзі, спрыяюць яго развіццю. Ці з'яўляецца разважлівым лічыць, што так далёка зайшоўшы сацыяльны працэс магчыма прыпыніць намаганнямі аднаго пакалення? Няўжо нехта лічыць, што, знішчыўшы феадальную сістэму і перамогшы каралёў, дэмакратыя адступіць перад буржуазіяй і багацеямі? Ці спыніцца яна зараз, калі яна стала такой магутнай, а яе супернікі такімі слабымі?».

Чалавек, які напісаў гэтыя зрабіўшыяся пазьней прароцкімі радкі ў той час, калі Ліпеньская рэвалюцыя не столькі паслабіла, колькі ўмацавала манархію, можа сёння без баязні зноў прыцягнуць увагу чытаючай публікі да сваёй працы.

Яму дазволена будзе дадаць да гэтага і тое, што сучасныя акалічнасьці абудзілі да яго кнігі найжывейшую цікавасць і надалі ёй практычнае значэнне, якога яна не мела пры першым з'яўленні.

Тады існавала каралеўская ўлада. Сёння яна знішчана. Амерыканскія палітычныя інстытуты, выклікаўшыя толькі цікавасць у манархічнай Францыі, павінны стаць прадметам паглыбленага вывучэння ў Францыі рэспубліканскай. Але ўладу ўмацоўваюць не толькі магутнасць, але і добрыя законы. Сьледам за

ваяром прыходзіць заканадавец. Адзін разбурае, другі закладвае падмурак. У кожнага свая праца. Гаворка ўжо ідзе не пра тое, ці будзем мы Францыяй каралеўскай ці рэспубліканскай; патрэбна зразумець, ці будзе гэтая Рэспубліка буянай ці спакойнай, упарадкаванай ці неўпарадкаванай, Рэспублікай мірнай ці ваяўнічай, ліберальнай ці дэспатычнай, той Рэспублікай, якая пагражае сьвятым правам уласнасьці і сям'і, ці ж Рэспублікай, прызнаючай і паважаючай гэтыя правы. Надзвычай важная праблема, ад вырашэння якой будзе залежаць лёс не толькі Францыі, але і ўсяго цывілізаванага сьвету. Калі мы ратуем сябе, мы тым самым ратуем усе атачаючыя нас народы. Калі мы губім сябе, мы губім усіх разам з намі. У залежнасьці ад таго, ці створым мы вольную дэмакратыю ці ж дэмакратычную тыранію, будзе перамяняцца і аблічча сьвету, і можна сказаць, што сёння мы вырашаем, ці будзе Рэспубліка нарэшце абвешчана паўсюдна ці ж паўсюдна яна будзе знішчана.

А гэтую ж праблему, толькі што паўстаўшую перад намі, Амерыка вырашыла больш шасьцідзесяці гадоў таму назад. Суверэннасць правоў народа, якую мы толькі ўчора абвясьцілі вярхоўным прынцыпам дзяржаўнасьці, непадзельна панавала там на працягу шасьцідзесяці гадоў. Гэты прынцып быў праведзены амерыканцамі ў жыццё самым прамым, бяспрэчным і безумоўным чынам. На працягу шасьцідзесяці гадоў народ, які зрабіў гэты прынцып агульнай крыніцай усіх сваіх законаў, няспынна павялічваўся колькасна, засяляў новыя тэрыторыі, багацеў і, звярніце ўвагу, на працягу гэтага перыяду быў не толькі самым паспяховым із народаў, але і жыў у самай стабільнай дзяржаве на зямлі. Калі ўсе нацыі Яўропы выявіліся спустошанымі вайной ці закатаванымі грамадзянскімі разладамі, амерыканцы былі адзіным народам ва ўсім цывілізаваным сьвеце, захаваўшым поўны спакой. Амаль уся Яўропа скаланалася ад рэвалюцый, а Амерыка не ведала нават хваляванняў. Рэспубліка выявілася не падбухторшчыцай упарадкавання, а ахавальніцай правоў людзей. Індывідуальная ўласнасць была ў іх лепш абаронена гарантыямі, чым у якой бы то ні было іншай краіне сьвету, і анархія, роўна як і дэспатызм былі ім невядомы.

Што яшчэ здольна ў большай ступені ўмацаваць нашы надзеі і з чаго мы зможам здабыць больш карысныя ўрокі? Звярнуўшы нашы позіркі на Амерыку, не станем, аднак, па-нявольніцку капіяваць тыя інстытуты, якія яна стварыла для сябе, а лепш паспрабуем зразумець у ёй тое, што нам прыдатна, пазычаючы не столькі прыклады, колькі проста набіраючыся розуму і ўжо калі станем пераймаць, то самі прынцыпы, а не прыватныя дэталі іхных законаў. Законы Французскай Рэспублікі ў шмат якіх выпадках могуць і павінны адрозьнівацца ад тых, якія вызначаюць жыццё Злучаных Штатаў, але тыя прынцыпы, на якіх засноўваецца заканадаўства амерыканскіх штатаў, прынцыпы, забяспечваючыя грамадзкае ўпарадкаванне, падзел і ўраўнаважванне ўлады, сапраўдную свабоду, шчырае і глыбокае шанаванне закона, — гэтыя прынцыпы неабходны кожнай Рэспубліцы, яны павінны быць агульнымі для ўсіх рэспубліканскіх дзяржаваў, і можна загадзя прадказаць, што там, дзе іх не будзе, Рэспубліка хутка спыніць сваё існаванне.

1848

# КНІГА ПЕРШАЯ.

## Уводзіны

Сярод шматлікіх новых прадметаў і з’яваў, прыцягнуўшых да сябе маю ўвагу падчас знаходжання ў Злучаных Штатах, больш усяго я быў здзіўлены роўнасьцю ўмоваў існавання людзей. Я без цяжкасьцей усталяваў той велізарны ўплыў, які вырабляе гэтая першарадная акалічнасць на ўсю плынь грамадзкага жыцця. Надаючы вызначаны накірунак грамадзкай думцы і законам краіны, яно вымушае тых, хто кіруе ёю, прызнаваць зусім новыя нормы, а тых, кім кіруюць, вымушае знаходзіць асобныя навыкі.

Хутка я ўсьвядоміў, што тая ж самая акалічнасць пашырае свой уплыў далёка за межы сферы палітычных нораваў і юрыдычных нормаў і што яе ўлада адчуваецца як на ўрадавым узроўні, так і ў роўнай ступені ў жыцці самога грамадства; роўнасць стварае думкі, спараджае вызначаныя пачуцці, з’яўляецца падставай выпрацоўкі звычаяў, мадыфікуючы ўсё тое, што не з’яўляецца яе непасрэдным вынікам.

Такім чынам, па меры таго як я займаўся вывучэннем амерыканскага грамадства, я ўсё больш выразна заўважаў у роўнасьці ўмоваў першапачатковую першападставу, із якой, па ўсёй бачнасьці, утваралася кожная асобная з'ява грамадзкага жыцця амерыканцаў і я ўвесь час знаходзіў яе перад сабой у якасьці той цэнтральнай кропкі, да якой сыходзіліся ўсе мае назіранні.

Потым, калі разумовым позіркам я павярнуўся да нашага паўшар'я, мне здалося, што я і тут магу заўважыць нешта падобнае таму, што я назіраў у Новым Сьвеце. Я бачыў роўнасць умоваў, якая, не дасягаючы тут, у адрозненні ад Злучаных Штатаў, сваёй крайняй мяжы, штодня набліжалася да яе. І мне ўявілася, што тая самая дэмакратыя, якая панавала ў амерыканскім грамадстве, імкліва ідзе да ўлады ў Яўропе.

Пад час гэтага перыяду ў мяне і саспела думка напісаць дадзеную кнігу.

Мы жывём пад час эпохі вялікай дэмакратычнай рэвалюцыі; усе яе заўважаюць, але далёка не ўсе ацэньваюць яе падобным чынам.

Адны лічаць яе моднай навіной і, разглядаючы яе як выпадковасць, яшчэ спадзяюцца яе спыніць, тады як іншыя мяркуюць, што яна неадольная, таму што ўяўляецца імі ў выглядзе бесперапыннага, самага старажытнага і сталага із усіх вядомых у гісторыі працэсаў.

Я ў думках вяртаюся да той сітуацыі, у якой знаходзілася Францыя сем соцень гадоў таму назад: тады яна была падзелена паміж невялікай колькасьцю сямействаў, валодаўшых зямлёй і кіраваўшых насельніцтвам. Права панаваць у той час передавалася ад пакалення да пакалення разам са спадчыннай маёмасьцю; адзінага сродка, з дапамогай якога людзі ўплывалі адзін на аднаго, існавала магутнасць; адзінай крыніцай магутнасьці з’яваўлялася зямельная ўласнасць.

Пад час таго перыяду, аднак, пачала ўтварацца і хутка шырыцца палітычная ўлада святарства. Шэрагі святарства былі даступныя для ўсіх: для бедных і заможных, для просталюдзіна і сеньёра. Праз Царкву роўнасць пачала пранікаць у

асяроддзе кіруючых колаў, і чалавек, які быў бы вырачаны весьці вартае жалю існаванне ў якасьці вечнага раба, зрабіўшыся сьвятаром, займаў сваё месца сярод дваранаў і часта паднімаўся вышэй каранаваных асоб.

У сувязі з тым што з часам грамадства рабілася больш цывілізаваным і ўстойлівым, паміж людзьмі пачалі ўзнікаць больш складаныя і больш шматлікія сувязі. Людзі пачалі адчуваць патрэбу ў грамадзянскім заканадаўстве. Тады з’явіліся заканазнаўцы. Яны пакідаюць свае непрыкметныя месцы за агароджай у залах судовых паседжанняў і пыльныя каморкі судовых канцылярый і ідуць засядаць у каралеўскія рады, дзе сядзяць побач з феадальнымі баронамі, убранымі ў гарнастаевыя мантыі і даспехі.

Тым часам як каралі губяць сябе, імкнучыся ажыццявіць свае грандыёзныя задумы, а дваране выдаткуюць сваю моц на міжусобныя войны, прасталюдзіны абагачаюцца, займаючыся гандлем. Пачынае адчувацца ўплыў грошай на дзяржаўныя справы. Гандаль робіцца новай крыніцай здабывання магутнасьці, і фінансісты ператвараюцца ў палітычную магутнасць, якою пагарджаюць, але перад якой лісьлівяць.

Памаленьку пашыраецца асьвета; абуджаецца цікавасць да літаратуры і мастацтва; розум робіцца адной із неабходнейшых падставаў поспеху; веды выкарыстоўваюцца ў якасьці сродку кіравання, а інтэлект здабывае статус сацыяльнай магутнасьці; адукаваныя людзі атрымліваюць доступ да справаў дзяржавы.

Па меры таго як знаходзяцца новыя шляхі вядучыя да ўлады, паходжанне чалавека губляе сваё значэнне. У XI стагоддзі шляхетнасць лічылася не маючым кошту дарункам. У XIII стагоддзі яе ўжо можна было купіць. Першы выпадак даравання дваранства меў месца ў 1270 годзе, і роўнасць, нарэшце, пракралася ў асяроддзе маючых уладу з дапамогай самой арыстакратыі.

На працягу мінуўшых сямісот гадоў часам здаралася так, што дваране, змагаючыся супраць аўтарытэту каралеўскай улады ці супернічаючы паміж сабой, даравалі народу магчымасць карыстацца значным палітычным уплывам.

А яшчэ часьцей мы бачым, як каралі адкрывалі доступ ва ўрады прадстаўнікам ніжэйшых станаў з мэтай зняважыць арыстакратыю.

У Францыі каралі выконвалі ролю самых актыўных і самых пасьлядоўных ураўняльнікаў. Калі яны бывалі славалюбнымі і моцнымі, яны імкнуліся падняць народ да ўзроўню дваранства; будучы ж стрыманымі і слабымі, яны дазвалялі народу самому брацьць над імі верх. Адны із іх дапамагалі дэмакратыі сваімі талентамі, другія – сваімі недахопамі. Людовік XI і Людовік XIV клапаціліся пра тое, каб каля пасада не было ніякіх супернікаў, ураўноўваючы падданых зверху, а Людовік XV на прыканцы сам з усім сваім дваром дайшоў да поўнай нікчэмнасьці.

Пачынаючы з таго часу як грамадзяне атрымалі права землеўладання не толькі на ўмовах леннай залежнасьці і назапашаная імі рухомая маёмасць і багацце ў сваю чаргу пачалі даваць уладальнікам грамадзкі ўплыў і адкрываць ім доступ да ўлады, якія б то ні было вынаходніцтвы ў вобласьці рамёстваў і якія б то ні было ўдасканаленні ў гандлі і прамысловасьці не маглі адначасова не спараджаць новых фактараў, спрыяючых умацаванню роўнасьці паміж людзьмі. Пачынаючы з гэтага моманту ўсе тэхналагічныя выаходніцтвы, усе зноў нараджаючыяся патрэбы і ўсе жаданні патрабуючыя задавальнення, робяцца прыступкамі ўсходаў, вядучых да ўсеагульнай раўнасьці. Імкненне да раскошы, схільнасць да вайны, улада моды – усе самыя мімалётныя, як і самыя глыбокія захапленні чалавечага сэрца, здавалася

б, аб'ядналіся дзеля таго, каб разам спрыяць згаленню заможных і абагачэнню бедных.

Пачынаючы з таго часу як намаганні інтылекта ператварыліся ў крыніцу магутнасьці і багацця, усё развіццё навукі, усе новыя веды, кожную новую ідэю можна разглядаць у якасьці зародка будучай магутнасьці, цалкам даступную для народа. Паэтычная адоранасць, красамоўства, учэпістасць памяці, светлы розум, палымянае ўяўленне, глыбіня думкі – усе гэтыя здольнасьці, раздаваемыя нябёсамі наўздагад, мелі наступствам карысць для дэмакратыі нават тады, калі імі валодалі яе супернікі, яны ўсё адно працавалі на дэмакратыю, навочна ўвасабляючы ідэю прыроднай велічы чалавека. Такім чынам, урачыстасць цывілізацыі і асьветы адначасова азначала пераможнае шэсьце дэмакратыі, а літаратура была адкрытым для ўсіх арсеналам, дзе слабыя і бедныя штодня падбіралі для сябе зброю.

Калі прабягаеш вачамі старонкі нашай гісторыі, у ёй цяжка сустрэць хаця б трохі значныя падзеі, адбыўшыяся на працягу апошніх сямісот гадоў, якія б не мелі б сваёй станоўчай ролі ў справе ўсталявання роўнасьці.

Крыжовыя паходы і войны з Ангельшчынай спусташаюць шэрагі дваранства і маюць наступствам падзел іхных зямельных уладанняў; інстытут гарадзкіх камунальных рад замацоўвае практыку дэмакратычнай свабоды ў самой цытадэлі феадальнай манархіі; вынаходніцтва агністрэльнай зброі ўраўноўвае прасталюдзіна з дваранінам на полі бітвы; вынаходніцтва друкарскага стану стварае роўныя магчымасьці для разумовага развіцця людзей; створаная паштовая служба дастаўляе сродкі асьветы як да парога халупы бедняка, так і да парадных палацаў. Пратэстантызм сцвярджае, што ўсе людзі ў роўнай меры здольны знайсьці шлях вядучы на нябёсы. Амерыка пачынаючы з часу яе адкрыцця дае людзям тысячы новых спосабаў здабыць багацце, даючы магчымасць нават нікому не вядомым авантурыстам знаходзіць багацце і ўладу.

Калі вы будзеце разглядаць з інтэрвалам роўным пяці дзесяткам гадоў усё тое, што адбывалася ў Францыі пачынаючы ад XI стагоддзя, вы здолееце заўважыць на заканчэнні кожнага із гэтых перыядаў, што ў грамадзкім уладкаванні адбылася падвойная рэвалюцыя: дваранін апынаўся стаячым на больш нізкай прыступцы сацыяльных усходаў, а прасталюдзін – на больш высокай. Адзін апускаецца, а другі паднімаецца. Пасьля заканчэння кожнай паловы стагоддзя яны зближаюцца і хутка узаемна дачыкнуцца.

І гэты працэс паказальны не толькі для Францыі. Куды б мы ні кінулі нашы позіркі, мы пабачым усё тую ж рэвалюцыю, адбываючуюся ва ўсім хрысьціянскім сьвеце.

Паўсюдна самыя розныя падзеі, здараючыяся ў жыцці народаў, выяўляюцца карыснымі для дэмакратыі. Усе людзі дапамагаюць ёй сваімі намаганнямі: як тыя, хто сьвядома спрыяе яе поспеху, так і тыя, хто і не думае служыць ёй, роўна як людзі, змагаючыяся за дэмакратыю, так і людзі, абвяшчаючыя сябе яе ворагамі. Усе яны накіраваныя ўперамешку, падштурхоўваемыя ў адным накірунку і ўсе разам працуюць на яе карысць: адны – супраць сваёй волі, а іншыя – нават не ўсведамляючы гэтага, будучы сляпымі прыладамі ў руках Бога.

Такім чынам, паступовае ўсталяванне роўнасьці ўмоваў з'яўляецца наканаванай звыш непазбежнасьцю. Гэты працэс пазначаны наступнымі асноўнымі прыкметамі: ён мае сусьветны, даўгачасовы характар і з кожным днём усё менш і менш залежыць ад волі людзей; усе падзеі, як і ўсе людзі, спрыяюць яго развіццю.

Ці разважліва лічыць, што так далёка зайшоўшы сацыяльны працэс можа быць прыпынены намаганнямі аднаго пакалення? Няўжо нехта лічыць, што, знішчыўшы феадальную сістэму і перамогшы каралёў, дэмакратыя адступіць перад буржуазіяй і багацеямі? Ці спыніцца яна зараз, калі яна стала такой магутнай, а яе супернікі такімі слабымі?

Такім чынам, куды ж мы ідзём? Ніхто не можа сказаць, таму што нам ужо няма з чым параўноўваць нашу сучаснасць: умовы існавання людзей у хрысьціянскіх нацыях у наш час зрабіліся больш роўнымі, чым яны былі калі-небудзь у якой-небудзь із краін сьвету. Таму ўжо дасягнутая намі ступень велічы не дае магчымасьці прадбачыць тое, што яшчэ можа адбыцца.

Уся гэтая прапаноўваемая ўвазе чытачоў кніга была напісана цалкам ў стане адмысловага сьвятога трапятання, ахапіўшага душу аўтара пры выглядзе гэтай нястрымліваемай рэвалюцыі, здзяйсняючайся на працягу стольких шматлікіх стагоддзяў, пераадольваючай якія б то ні было перашкоды і нават сёння працягваючай ісьці наперад праз вырабленыя ёю разбурэнні.

Богу зусім не патрэбна ўзвышаць свой уласны голас для таго, каб мы выявілі дакладныя азнакі яго волі. Для гэтага нам дастаткова назіраць за звычайнымі прыроднымі працэсамі і лавіць дзейнічаю ўвесь час тэндэнцыю развіцця падзей. Нават не чуючы голасу Стваральніка, я ведаю, што зоркі рухаюцца ў нябеснай прасторы па тых арбітах, якія былі намаляваны ім.

Калі даўгачасовае назіранне і нестароннія разважанні прывялі ў наш час людзей да прызнання таго, што мінулае і будучае нашай гісторыі ў роўнай меры вызначаюцца паступовым, пасьлядоўным наступам роўнасьці, адно гэтае адкрыццё ўжо надае дадзенаму працэсу сьвяты характар падзей, наканаваных воляй вярхоўнага Валадара. Жаданне затрымаць развіццё дэмакратыі, такім чынам, уяўляецца змаганнем супраць самога Бога, і народам не застаецца нічога іншага, апроч таго як прыстасавацца да таго грамадзкага ўладкавання, якое навязваецца ім Усявышнім.

Той стан, у якім у дадзены час знаходзяцца хрысьціянскія народы, як мне здаецца, уяўляе із сябе жахлівае гледзішча; плынь, захапіўшая іх, ужо дастаткова моцная для таго, каб немагчыма было яе спыніць, але яшчэ не вельмі імклівая і ёй яшчэ можна неяк кіраваць: лёс народаў знаходзіцца ў іхных уласных руках, але хутка ён стане ім непадуладным.

Навучаць людзей дэмакратыі, адраджаць, наколькі гэта магчыма, дэмакратычныя ідэалы, ачышчаць норавы, рэгуляваць дэмакратычныя рухі, паступова далучаць грамадзянаў да справаў кіравання дзяржавай, пазбаўляючы іх ад неспрактыкаванасьці ў гэтых пытаннях і замяняючы іхныя сляпыя інстынкты ўсведамленнем сваіх сапраўдных інтарэсаў; перамяняць сістэму кіравання згодна з часам і месцам, прыводзячы яе ў адпаведнасць з акалічнасьцямі і рэчаіснымі людзьмі, – такімі з’яўляюцца самыя важныя із абавязкаў, накладаемых у нашы дні на тых, хто кіруе грамадствам.

Цалкам новаму сьвету неабходны новыя палітычныя веды.

Але менавіта пра гэта мы амаль не задумваемся: апынуўшыся на быстрыні хуткай ракі, мы ўпарта не адрываем позірк ад тых некалькіх развалін якія яшчэ бачны на беразе, тады як струмень імчыць нас да той бездані, якая знаходзіцца ў нас за спінай.

Ні ў аднаго із народаў Яўропы тая вялікая сацыяльная рэвалюцыя, пра якую я збіраюся пісаць, не працякала так імкліва як у нас, аднак яна заўсёды ішла тут наўздагад.

Кіраўнікі нашай дзяржавы ніколі не думалі пра тое, каб падрыхтавацца да яе загадзя; яна здзяйснялася насуперак іхнай волі ці ж без іхнага ведама. Самыя магутныя, самыя інтэлектуальна і маральна развітыя станы не спрабавалі авалодаць ёю з тым, каб яе накіроўваць. Таму дэмакратыя была аддадзена пад уладу дзікіх інстынктаў; яна вырасла, як дзіця пазбаўленае бацькоўскага дагляду, выхоўваемае на вуліцах нашых гарадоў, бачучы перад сабой толькі заганы і ўбоства грамадства. Яе існаванне, відаць, яшчэ не цалкам усьведамляецца людзьмі, як раптам яна нечакана захоплівае ўладу. Тады кожны рабалепна імкнецца выканаць яе самае найменшае жаданне; яе ушаноўваюць як увасабленне магутнасьці; потым, калі яна слабее дзякуючы ўласнай нястрыманасьці, заканадаўцы пачынаюць абдумваць не велімі разумныя праекты яе знішчэння, замест таго каб паспрабаваць наставіць і выправіць яе, і, не жадаючы выкладаць ёй навуку кіравання, яны думаюць толькі пра тое, як бы пазбавіць яе ўлады.

У выніку ў жыцці грамадства адбываецца дэмакратычная рэвалюцыя, не суправаджаемая пры гэтым тым пераіначваннем законаў, ідэй, звычаяў і нораваў, якія патрэбны дзеля дасягнення мэты дадзенай рэвалюцыі. Такім чынам, мы атрымалі дэмакратыю, не маючы таго, што павінна памякчаць яе недахопы і ўзвышаць яе натуральныя перавагі, і, ужо зведаўшы прычынянае ёю зло, мы яшчэ не ведаем таго дабра, якое яна павінна прынесьці.

Калі каралеўская ўлада, падтрымліваемая арыстакратыяй, мірна кіравала народамі Яўропы, грамадства, нягледзячы на ўсе свае нягоды, адчувала сябе шчаслівым пад час такіх момантаў, якія з цяжкасьцю можна зразумець і ацаніць у нашы дні.

Магутнасць асобных падданых мела ролю непераадольваемай перашкоды, перашкаджаўшай валадару зрабіцца тыранам, і каралі, да таго ж адчуваючы, што ў вачах натоўпу яны маюць амаль боскія атрыбуты, знаходзілі ў той самай павазе, якую яны выклікалі, падтрымку свайму жаданню не злоўжываць уласнай уладай.

Захоўваючы вялізную дыстанцыю паміж сабой і народам, вяльможы тым не менш выяўлялі да яго лёсу такую ж зычлівую, спакойную зацікаўленасць, з якой пастух ставіцца да свайго статка, і, не лічачы беднякоў раўнымі сабе, яны лічылі клопаты пра іхную долю абавязкам, ускладзеным на гаспадароў самім Усявышнім.

Не ўяўляючы сабе нейкага іншага грамадзкага ўладкавання і цалкам не марачы пра магчымасць калі-небудзь стаць роўным са сваімі валадарамі, народ прынімаў іхныя дабрадзействы і не абмяркоўваў іхныя правы. Ён паважаў іх тады, калі яны выяўляліся літасьцівымі і справядлівымі, і без гоману, не адчуваючы нізкіх пачуццяў, падначальваўся іхнай суровасьці як няўхільнаму злу, пасылаемаму яму воляй самога Бога. Звычаі і нѳравы, акрамя таго, у вызначанай ступені абмяжоўвалі тыранію, зацвердзіўшы свайго роду законнасць у сьвеце, заснаваным на гвалце.

Дзякуючы таму што двараніну і ў галаву не прыходзіла думку пра тое, што нехта ўзнамерыцца забраць у яго тыя прывілеі, якія ён лічыў належачымі яму адпаведна з законам і таму што прыгонны разглядаў сваё прыніжанае становішча як праяву непарушнаха ўпарадкавання рэчаў, можна ўявіць сабе, што паміж гэтымі двума станамі, надзеленымі такімі рознымі лёсамі, магла ўсталявацца свайго роду

ўзаемная зычлівасць. У тыя часы грамадства ведала няроўнасць і цяжкасьці, але душы людзей не былі сапсаванымі.

Людзей разбэшчвае не сама ўлада як такая і не звычка да пакорнасьці, а ўжыванне той улады, якую яны лічаць незаконнай, і пакорнасць тым валадарам, якіх яны лічаць узурпатарамі і прыгнятальнікамі.

Адным належала ўсё: багацце, магутнасць, вольны час, што давала ім магчымасць імкнуцца да вытанчанай раскошы, удасканальваць свой густ, цешыцца духоўнасьцю і культываваць мастацтва; цяжкая праца, грубіянства і невуцтва былі доляй іншых.

Аднак у гэтым невуцкім і грубым натоўпе сустракаліся людзі, якія валодалі жывымі захапленнямі, вялікадушнымі пачуццямі, глыбокімі перакананнямі і прыродным гераізмам.

Падобным чынам уладкаванае грамадства магло быць устойлівым, магутным і, што асабліва характэрна, імкнучымся да славы.

Але вось адрозненні заснаваныя на чыне пачынаюць губляць выразнасць, высокія бар'еры паміж людзьмі робяцца ніжэйшымі; маёнткі раздрабняюцца, улада пераходзіць у рукі шматлікіх, пашыраецца адукаванасць, і інтэлектуальныя здольнасьці людзей ураўнаважваюцца. Сацыяльнае ўладкаванне робіцца дэмакратычным і дэмакратыя ў канчатковым выніку мірна зацьверджвае свой уплыў на палітычныя інстытуты і грамадзкія норавы.

У гэтым накірунку я цалкам уяўляю сабе такое грамадства, у якім кожны, ставячыся да законаў як да сваёй асабістай справы, паважаў бы іх і падначальваўся ім без цяжкасьцей; дзе ўлада ўрада, не будучы абагаўляемай, карысталася б павагай у якасьці зямной неабходнасьці; дзе павага, адчуваемая людзьмі да кіраўніка дзяржавы, была б не запалам, а разумным, спакойным пачуццём. Калі кожны чалавек нададзены правамі і ўпэўнены ў нескасуемасьці гэтых правоў, паміж усімі станамі грамадства можа ўсталявацца мужны давер і свайго роду ўзаемная прыхільнасць, не маючая таксама нічога агульнага ні з пачуццём ганарыстасьці, ні з нізкапаклонствам.

Усьвядоміўшы свае сапраўдныя зацікаўленасьці, народ зразумеў бы, што для таго каб карыстацца тымі дабротамі, якія дае грамадства, яму патрэбна выконваць ускладзеныя на яго абавязкі. Свабодная асацыяцыя грамадзянаў у гэтым выпадку магла б набыць ролю магутных вяльможаў, абароняючы дзяржаву як ад небяспекі тыраніі, так і ад пагрозы ўсёдазволенасьці.

Я разумею, што ва ўладкаванай падобным чынам дэмакратычнай дзяржаве грамадства не стане нерухомым, але рухі ў сярэдзіне яго сацыяльнага цела могуць набыць характар упарадкаванасьці і паступальнасьці. Калі ў такім грамадстве і будзе менш бляску славы, чым у арыстакратыі, то яно ўсё ж не будзе ведаць той крайняй нікчэмнасьці; асалоды ў ім стануць больш умеранымі, а дабрабыт – больш даступным; веды людзей будуць менш шырокімі, але і невуцтва стане менш пашыраным; пачуцці страцяць сваю моц, але манера паводзін зробіцца больш згладжанай; заганы і недахопы будуць часьцей сустракацца сярод людзей, але злачыннасць стане больш рэдкай з'явай.

Замест ранейшага запалу і палкасьці перакананняў асвечанасць і спрактыкаванасць грамадзянаў будуць часам падахвочваць іх ісьці на вялікія ахвяры. Дзякуючы таму што кожны чалавек, у роўнай меры адчуваючы сваю слабасць і патрэбу ў сабе падобных, зразумее, што ён атрымае іхную падтрымку толькі пры ўмове, што сам будзе гатовы дапамагчы ім, грамадзяне без цяжкасьцей

ўсвядомяць, што іхныя асабістыя зацікаўленасьці трывала злучаны з грамадзкімі зацікаўленасьцямі.

Такая нацыя, кажучы ў цэлым, будзе менш бліскучай, менш услаўленай і, магчыма, менш моцнай, але большасць яе грамадзян будуць квітнець, і народ выявіць міралюбнасць свайго нораву не таму, што ён страціў надзею дамагчыся для сябе лепшай долі, але таму, што ўсьвядоміў, як добра яму жывецца.

Хаця ў падобным упарадкаванні зусім не ўсё было б добрым і карысным, грамадства ва ўсякім разе магло б запазычаць із яго ўсё тое, што ўяўляе цікавасць і карысць, і людзі, назаўсёды адмаўляючыся ад тых сацыяльных пераваг, якія спараджаліся арыстакратычным уладкаванай, узялі б у дэмакратыі ўсё тое добрае, што яна ў стане ім прапанаваць.

А мы, пазбаўляючыся ад сацыяльнага ўладкавання, дастаўшагася нам ад продкаў, і бязладна адкідаючы прэч іхныя палітычныя інстытуты, іхныя ідэі і норавы, – што мы ўзялі наўзамен?

Прэстыж каралеўскай улады знік, але сама яна не была заменена яго вялікасьцю законам; у нашы дні народ пагарджае ўрадам, але баіцца яго і дзякуючы гэтаму ён мае магчымасць выцягнуць із яго больш, чым мог раней, калі народ ставіўся да яго з павагай.

Я заўважаю, што мы знішчылі магутнасць вызначаных асоб, здольных паасобку змагацца супраць тыраніі, але я бачу, што ўрад апынуўся адзіным спадкаемцай усіх тых прэрэгатыў, якія былі забраны ў сямейных кланаў, карпарацый і прыватных асоб. Такім чынам, часам прыгнятаючая, але часьцей ахоўваючая магутнасць невялікай колькасьці грамадзян была заменена бездапаможнасьцю ўсіх.

Раздрабненне маёмасьці паменшыла дыстанцыю, аддзяляючую бедняка ад багацея, але, збліжаючыся, яны, відаць, выяўляюць усе новыя і новыя нагоды, вымушаючыя іх адчуваць узаемную нянавісць і, кідаючы адзін на аднаго пагляды поўныя баязні і зайздрасьці, яны адштурхоўваюць адзін другога ад улады. Як для аднаго, так і для другога ідэя права яшчэ не існуе, і абодвум магутнасць ўяўляецца адзіным маючым значэнне аргументам, наяўным у іх у наш час, а таксама адзінай гарантыяй будучыні.

Бядняк успадкаваў большую частку забабонаў сваіх бацькаў, страціўшы іхныя перакананні; ён такі ж невуцкі, але пазбаўлены іхных учыннасьцей. У якасьці падставы сваіх дзеянняў ён прыняў дактрыну асабістай зацікаўленасьці, не разумеючы належным чынам гэтага вучэння і яго эгаізм зараз мае такі ж неасьвечаны характар, як і ранейшая адданасць беднякоў сваім гаспадарам, гатовых ахвяраваць уласнымі зацікаўленасьцямі.

Грамадства захоўвае спакой, але не таму, што яно ўсведамляе сваю магутнасць і свой дабрабыт, а, наадварот, таму, што яно лічыць сябе слабым і нямоглым; яно баіцца, што кожнае намаганне можа каштаваць яму жыцця: кожны чалавек адчувае дрэннасць грамадзкага ўладкавання, але ніхто не валодае патрэбнай мужнасьцю і энергіяй, каб дамагацца паляпшэння яго ўладкавання. Жаданні, шкадаванні, засмучэнні і радасьці людзей не ствараюць нічога адчувальнага і трывалага, падобна таму як захапленні старых прыводзяць іх толькі да немачы.

Такім чынам, адмовіўшыся ад усёй той выгоды, якая магла ўтрымлівацца ў старым грамадзкім уладкаванні, і не набыўшы нічога карыснага із таго, што можна было б атрымаць у нашым сучасным становішчы, мы, цешачыся сабой, спыніліся

пасярод парэшткаў старога рэжыму і, магчыма, маем жаданне застацца тут назаўсёды.

Не менш сумная сітуацыя назіраецца і ў духоўным жыцці грамадства.

Дэмакратыя Францыі, якую то стрымлівалі ў яе пасоўванні, то пакідалі на волю лёсу, робячы забаўкай сваіх неўтаймаваных захапленняў, пераіначыла ўсё, што толькі патрапілася ёй на шляху, і расхістала тое, што яна не здолела знішчыць. Яна не заваёўвала грамадства паступова з мэтай мірнага ўсталявання сваёй улады; наадварот, яна няспынна пасоўвалася наперад, спараджаючы хваляванні і грукат бітваў. У запале змагання кожны чалавек, падахвочваемы экстрэмізмам меркаванняў і выказванняў сваіх супернікаў, схільны пераступаць натуральныя межы ўласных перакананняў, губляючы із свайго зроку сам прадмет сваіх шуканняў і карыстаючыся мовай, дрэнна пазначаючай яго сапраўдныя пачуцці і таемныя рухі душы.

Адсюль паходзіць тое дзіўнае замяшанне розумаў, назіраць якое мы вымушаны зараз.

Я дарэмна напружваю сваю памяць, не знаходзячы ў ёй нічога, што заслугоўвала б большага смутку і жалю, чым тое, што адбываецца на нашых вачах. Пачынае здавацца, што пад час нашых дзён распалася натуральная сувязь паміж поглядамі і схільнасцямі людзей, паміж іхнымі ўчынкамі і перакананнямі. Назіраўшаяся на працягу ўсіх часоў гарманічная адпаведнасць паміж чалавечымі пачуццямі і ідэямі ўяўляецца знішчанай, і ствараецца ўражанне, што ўсе законы маральнай пагодненасьці скасаваны.

Сярод нас яшчэ сустракаюцца дбайныя хрысьціяне, чые душы патрабуюць падмацоўваць сваю рэлігійную веру праўдамі замагільнага жыцця, хрысьціяне, якія, без сумневаў, з прыхільным натхненнем падтрымаюць ідэю чалавечай вольнасьці як крыніцы якой бы то ні былр маральнай велічы. Хрысьціянства, абвясьціўшае роўнасць усіх людзей перад Богам, не павінна адводзіць свой позірк ад выявы роўнасьці ўсіх грамадзянаў перад законам. Адпаведна з дзіўным збегам абставін, аднак, рэлігія ў дадзены момант знаходзіцца ў сувязі з тымі магутнасьцямі, якія знішчаюцца дэмакратыяй, і таму рэлігіі часта даводзіцца адкідаць любую яе сэрцу роўнасць і праклінаць вольнасць як свайго ворага, тады як, узяўшы яе за руку, яна была б здольнай дабраславіць яе ва ўсіх яе пачынаннях. Побач з падобнымі набожнымі людзьмі я бачу іншых, позіркі якіх накіраваны не столькі да неба, колькі да зямлю. Гэта – прыхільнікі вольнасьці, яны змагаюцца за яе не толькі таму, што бачаць у ёй крыніцу вышэйшай чалавечай годнасьці і гераізму, але асабліва таму, што разглядаюць яе як сродак здабывання максімальных выгод. Яны шчыра жадаюць дапамагчы ёй зацьвердзіць сваю ўладу для таго, каб людзі спазналі яе даброты. Я лічу, што гэтым апошнім патрэбна было б як мага хутчэй звярнуцца за дапамогай да рэлігіі, таму што яны павінны ведаць, што царства вольнасьці немагчыма дасягнуць без панавання маральнасьці, так жа як немагчыма зрабіць маральным грамадства, пазбаўленае веры. Але яны бачылі вернікаў у шэрагах сваіх супернікаў, і гэтага дастаткова, каб адны нападалі на рэлігію, а іншыя не адважваліся яе абараняць.

На працягу мінулых стагоддзяў нізкія, прадажныя душы ўзвялічвалі рабства, тады як незалежныя шляхетныя сэрцы вялі безнадзейнае змаганне за выратаванне чалавечай вольнасьці. Пад час нашых дзён, аднак, часта здараецца так, што людзі, надзеленыя прыроднай шляхетнасьцю і адвагай, прытрымліваюцца перакананняў прама процілеглых іх уласным схільнасьцям, ухваляючы тое нізкапаклонства і тую

душэўную ганебнасць, якіх яны самі ніколі не ведалі. Іншыя ж, наадварот, выказваюцца пра вольнасць так, нібы яны асабіста змаглі адчуць яе святасць і веліч, і шумна патрабуюць выкананні тых правоў чалавека, якіх яны самі ніколі не прызнавалі.

Я бачу так жа ўчынных і рахманых людзей, маральная чысціня і мірны нораў, заможнасць і адукаванасць якіх робяць іх натуральнымі лідарамі той акругі, у якой яны жывуць. Адчуваючы шчырую павагу да айчыны, яны гатовы дзеля яе ісьці на вялікія ахвяры; і ўсё ж цывілізацыя часта мае ў іх асобе сваіх супернікаў. Яны змешваюць яе недахопы з яе вартасьцямі, і ў іхнай свядомасьці ідэя зла непарыўна злучана з ідэяй навізны.

Побач з гэтымі я бачу іншых, тых, хто, спрабуючы ў імя прагрэсу зрабіць людзей матэрыялістамі, жадае знайсьці карысць, не абцяжарваючы сябе клопатамі пра справядлівасць, навуку вольную ад рэлігійных перакананняў і дабрабыт, адмежаваны ад учыннасьці. Гэтыя людзі называюць сябе змагарамі за сучасную цывілізацыю і часта робяцца яе правадырамі, авалодваючы вызваліўшыміся месцамі, якіх яны зусім нявартыя.

Такім чынам, што ж з намі адбываецца?

Вернікі ваююць супраць вольнасьці, а сябры вольнасьці нападаюць на рэлігію; шляхетныя, велікадушныя людзі абараняюць рабства, а душы нізкія і дагодлівыя выступаюць за незалежнасць; сумленныя і асьвечаныя грамадзяне робяцца ворагамі якога б то ні было прагрэсу, тады як людзі, пазбаўленыя маральнасьці і пачуцця патрыятызму, абвяшчаюць сябе апосталамі цывілізацыі і асьветы!

Ці не адбывалася нешта падобнае на працягу ўсіх часоў? Ці заўсёды людзі, як і ў нашы дні, мелі перад вачамі сьвет, цалкам пазбаўлены якой бы то ні было логікі, сьвет, дзе ўчыннасць бясталанная, а талент ганебны, дзе схільнасць да парадку не адрозніваецца ад тыранічных схільнасьцей, а сьвяты культ вольнасьці – ад грэблівага стаўлення да законнасьці, дзе сумленне адкідае толькі няслушны водбліск на ўчынкі людзей, дзе нішто больш не ўяўляецца ні забароненым, ні дазволеным, ні прыстойным, ні ганебным ні сапраўдным, ні ілжывым?

Ці павінен я лічыць, што Стваральнік стварыў чалавека толькі для таго, каб дазволіць яму да канца сваіх дзён ваяваць з той галечай духу, якая нас атачае? Я не магу ў гэта паверыць: Бог прыгатаваў еўрапейскім народам больш трывалую і больш спакайную будучыню. Я не ведаю яго задумак, але я не перастану ў гэта верыць толькі таму што не магу іх спасьцігнуць, і я аддам перавагу ўсумніцца ў маіх уласных разумовых здольнасьцях, чым у яго справядлівасць.

На сьвеце існуе адна краіна, дзе тая вялікая сацыяльная рэвалюцыя, пра якую я кажу, відаць, амаль дасягнула натуральнай мяжы свайго развіцця. Яна здзейснілася там простым і лёгкім спосабам, ці, дакладней сказаць, гэтая краіна карыстаецца вынікамі той дэмакратычнай рэвалюцыі, якая адбываецца ў нас, не зведаўшы самога рэвалюцыйнага перавароту.

Іміграданты, абсталяваўшыяся ў Амерыцы напачатку XVII стагоддзя, нейкім чынам здолелі аддзяліць дэмакратычныя прынцыпы ад усяго таго, супраць чаго яны змагаліся ў нетрах старога грамадства Яўропы, і здолелі перавезьці гэтыя прынцыпы на берагі Новага Сьвету. Там, растучы вольна, у гарманічнай адпаведнасьці з норавамі, гэтыя прынцыпы мірна развіваліся пад шатамі законаў.

Мне ўяўляецца, што мы, без сумневаў, падобна амерыканцам, рана ці позна дасягнём амаль поўнай роўнасьці ўмоваў існавання людзей. На гэтай падставе я

зусім не прыходжу да высновы, што аднойчы мы непазбежна будзем вымушаны прызнаць усе тыя самыя палітычныя высновы якія ў падобнай грамадзкай сітуацыі былі зроблены амерыканцамі. Я вельмі далёкі ад думкі, што яны знайшлі тую адзіную форму кіравання, якая толькі і можа быць створана дэмакратыяй; цалкам дастаткова і таго, што ў абодвух краінах законы і норавы вызначаюцца адной і той жа пачатковай першападставай, і мы таму з глыбокай зацікаўленасьцю павінны назіраць за тым, менавіта што ж яна спараджае ў кожнай із гэтых краін.

Пагэтаму я дасьледаваў Амерыку не толькі дзеля таго, каб задаволіць сваю цалкам законную цікаўнасць, але і меў жаданне здабыць із гэтага тыя карысныя ўрокі якія маглі б нам спатрэбіцца. Уяўленне пра тое, быццам бы я меў намер напісаць панегірык, – нічым не абгрунтаваная памылка; кожны чалавек, які стане чытаць гэтую кнігу, можа цалкам пераканацца, што нічога падобнага ў мяне і ў думках не было. Не збіраўся я таксама вельмі ўхваляць і формы іхнага дзяржаўнага кіравання як такія, таму што асабіста я належу да ліку людзей якія лічаць, што законы амаль ніколі не з’яўляюцца абсалютна дасканалымі. Я нават лічу, што не маю права прапанаваць свае меркаванні адносна таго, ці нясе сацыяльная рэвалюцыя, наступленне якой мне ўяўляецца непазбежным, дабро ці ж зло ўсяму чалавецтву. Я стаўлюся да гэтай рэвалюцыі як да факта ўжо адбыўшагася ці гатовага вось-вось адбыцца, і із усіх народаў, якія выпрабавалі яе ўзрушэнні, я выбраў той, у якога працэсы яе развіцця працякалі самым мірным шляхам і дасягнулі пры гэтым самай вышэйшай ступені завершанасьці, з тым каб уважліва разгледзець яе заканамерныя наступствы і, наколькі гэта магчыма, адшукаць сродкі, з дапамогай якіх із яе можна было б атрымаць карысць для людзей. Я прызнаю, што ў Амерыцы я бачыў не проста Амерыку: я шукаў у ёй выяву самой дэмакратыі, яе асноўныя ўласцівасьці і рысы характару, яе забабоны і жарсьці. Я меў жаданне спасьцігнуць яе з тым, каб мы ва ўсякім разе ведалі, што ад яе можна чакаць і чаго варта асьцерагацца.

Таму ў першай частцы дадзенай працы я паспрабаваў паказаць, які накірунак натуральным чынам набывае заканатворчая дзейнасць дэмакратыі, амаль бескантрольна аддадзеная ў Амерыцы сваім жарсьцям і сваім інстынктам, якія працэсы яна выклікае ва ўстановах дзяржаўнага кіравання, а таксама паказаць у цэлым, наколькі вялікую ўладу яна набывае ў вобласьці палітыкі. Я меў жаданне дазнацца што добрае і што дрэннае спараджаецца дэмакратыяй. Я ўважліва дасьледаваў, якія захады засьцярогі рабілі амерыканцы з тым, каб ёю кіраваць, а якімі захадамі яны грэбавалі, і я паспрабаваў усталяваць, якія ўмовы дазваляюць дэмакратыі кіраваць грамадствам.

У другой частцы дадзенай працы я меў жаданне намаляваць той уплыў, які роўнасць умоваў жыццядзейнасьці людзей і панаванне дэмакратыі выказваюць на грамадзянскі стан амерыканскага грамадства: на яго звычаі, ідэі і норавы. Аднак з цягам часу я адчуў, што той запал, з якім я прыступіў да ажыццяўлення гэтай задумы, пачаў у мне памяншацца. Перш чым я буду ў стане выканаць пастаўленае перад самім сабой заданне, мая праца выявіцца амаль не маючай карысьці. Іншы аўтар хутка павінен паказаць чытачам выяву асноўных рыс амерыканскага характару і, ахінуўшы карціну вельмі сур'ёзную згодна з тэмай, лёгкім вэлюмам, надаць праўдзе такое зачараванне, якога я ніколі не здолеў бы дасягнуць[1].

[1] У той час калі я надрукаваў першае выданне дадзенай працы, спадар Гюстаў дэ Бамон, мой паплечнік па вандраванню ў Амерыцы, яшчэ працягваў працаваць над сваёй кнігай, якая мела назву «Мэры, ці Рабства ў Злучаных Штатах» і якая потым была выдадзена. Галоўным сваім заданнем спадар дэ Бамон лічыў патрэбу

Я не ведаю, ці атрымалася ў мяне зразумела выказаць тое, што я пабачыў у Амерыцы, але я шчыра жадаў гэтага і свядома ніколі не паддаваўся спакусе падганяць факты пад ідэі, замест таго каб падначальваць самі ідэі фактам.

Калі існавала магчымасць пацмацаваць нейкае цьверджанне дакументамі, я імкнуўся карыстацца праўдзівымі тэкстамі, а так жа найбольш праўдзівымі і аўтарытэтнымі творамі[2]. У нататках я даю спасылкі на свае крыніцы, і кожны мае магчымасць іх праверыць. Калі гаворка вялася пра погляды, палітычныя традыцыі і норавы, я спрабаваў раіцца з самымі дасьведчанымі людзьмі. У найбольш важных ці сумнеўных выпадках я не задавальняўся сведчаннямі аднаго сведкі, але рабіў высновы не інакш, як грунтуючыся на дадзеных, павядомленых шматлікімі сведкамі.

Тут патрэбна, каб чытач паверыў мне на слова. У падтрымку ўласных выказванняў я часта мог бы спасылацца на вядомыя аўтарытэты ці ж, прынамсі, на імёны людзей, цалкам годных вядомасьці, але я свядома ўстрымліваўся ад гэтага. У гасьцях чужак нярэдка даведваецца ад гаспадара сядзібы такія важныя праўды, што іх, магчыма, чалавек не адважыўся б паведамляць нават сваім сябрам; з госьцем можна аблегчыць душу, адмовіўшыся ад вымушанага маўчання і не асьцерагаючыся яго бестактоўнасьці дзякуючы кароткачасовасьці яго знаходжання. Выслухоўваючы падобныя адкрыцці, я адразу ж іх запісваў, але яны назаўсёды застануцца сярод маіх папер; я хутчэй аддам перавагу таму, каб зведала недахопы якасць майго выкладання, чым папоўню сабой спіс імёнаў тых вандроўнікаў, якія адплачвалі за выказаную ім ветлівую гасьціннасць тым, што засмучалі сваіх гаспадароў, ставячы іх у непрыемнае становішча.

Я ведаю, што, нягледзячы на ўсе мае намаганні, раскрытыкаваць гэтую кнігу будзе вельмі проста, калі некаму будзе пажадана гэта зрабіць.

Уважлівы чытач, я лічу, выявіць у працы адну асноўную думку, злучаючую, калі можна так выказацца, усе яе часткі паміж сабой. Аднак тэмы, распрацаваныя ў кнізе, з'яўляюцца такімі разнастайныя і шматлікімі, што чалавек, наважыўшыся знайсьці супярэчнасьці паміж нейкім асобным фактам і ўсёй сукупнасьцю паведамляемых мной фактаў, паміж асобнай думкай і ўсім комплексам ідэй, будзе мець поспех у гэтым нікірунку без вялікіх намаганняў. Таму мне было б пажадана, каб маю працу чыталі з тым жа настроем, з якім яна пісалася, і каб гэтую кнігу ацэньвалі толькі грунтуючыся на тым агульным уражанні, якое яна пакідае, таму што я сам прыходзіў да тых ці іншых меркаванняў, грунтуючыся не на асобных довадах, а на іхнай сукупнасьці.

---

прыцягнуць грамадзкую ўвагу да рабства, падкрэсліўшы вартае жалю становішча неграў ва ўлонні англа-амерыканскага грамадства. Яго твор паказаў у новым, яскравым асьвятленні фенамен рабства – жыццёва важную для аб'яднанай рэспублікі праблему. Магчыма, я памыляюся, але мне здаецца, што кніга спадара дэ Бамона, выклікаўшы жывы водгук сярод тых чытачоў, якія шукалі ў ёй крыніцу моцных эмоцый і навочнасьці выявы, павінна таксама знайсьці больш самавітую і трывалую рэпутацыю ў коле тых чытачоў, якія вышэй усяго шануюць шчырасць меркаванняў і глыбіню разуменні праўды. – Тут і далей заўв. Аўтара.

[2] Я заўсёды з падзякай буду згадваць тую ветлівасць, з якой мне была дадзена магчымасць карыстацца дакументамі заканадаўчых і выканаўчых устаноў краіны. Із ліку амерыканскіх дзяржаўных дзеячаў мне асабліва хацелася б падзякаваць спадара Эдварда Лівінгстона, тады выконваўшага абавязкі дзяржаўнага сакратара (зараз надзвычайны і ўпаўнаважаны амбасадар ЗША ў Парыжы). Падчас майго знаходжання ў амерыканскай сталіцы спадар Лівінгстон добразычліва перадаў мне вялікую частку дакументаў, асвятляючых дзейнасць федэральнага ўрада, якія зараз існуюць у мяне. Спадар Лівінгстон належыць да ліку тых рэдкіх людзей, чые ўласныя творы выклікаюць у нас такую сімпатыю, што мы захапляемся імі і адчуваем да іх павагу раней, чым атрымваем магчымасць асабіста пазнаёміцца з імі. Усведамленне таго, што ты павінен адчуваць пачуццё ўдзячнасьці да такога чалавека, дастаўляе сапраўдная задавальненне.

Не варта таксама забывацца, што аўтар, ждаючы быць зразуметым, павінен мець на ўвазе ўсе тэарэтычныя наступствы, выцякаючыя із кожнай яго ідэі, часта даводзячы іх да мяжы неверагоднага і нездзяйсняемага, таму што калі ў практычнай дзейнасьці часам патрэбна адмаўляцца ад законаў логікі, то падчас камунікавання зрабіць гэта немагчыма, і людзі выяўляюць, што ім амаль так жа цяжка быць непасьлядоўнымі ў славах, як быць паслядоўнымі ў сваіх учынках.

На заканчэнне мне было б пажадана самому звярнуць увагу чытаючай публікі на тую акалічнасць, якая шмат кім будзе разглядацца ў якасьці асноўнага недахопу дадзенай працы. Гэтая кніга не разлічана на густы тых ці іншых пэўных людзей; працуючы над ёю, я не меў намеру ні служыць нейкай із партый, ні змагацца з ёю; не засяроджваючы ўвагу на сваёй уласнай думцы, я паспрабаваў зазірнуць далей, чым гэта робяць прыхільнікі розных партый: іх цікавіць толькі заўтрашні дзень, тады як мне было пажадана задумацца пра будучыню.

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ.

## Глава I

### Вонкавыя абрысы Паўночнай Амерыкі

Дзве шырокія тэрыторыі ўтвараючыя Паўночную Амерыку: адна распасьціраецца да полюса, другая – да экватара. – Даліна ракі Місісіпі. – Сьляды зямных катаклізмаў. – Узбярэжжа Атлантычнага акіяна, дзе ўзніклі першыя асады. – Адрозненні паміж Паўднёвай і Паўночнай Амерыкай пад час эпохі іхнага адкрыцця. – Лясы Паўночнай Амерыкі. – Прэрыі. – Вандруючыя плямёны тубыльцаў. – Іхны выгляд, норавы і мовы. – Сьляды невядомага народа.

Вонкавыя абрысы Паўночнай Амерыкі адзначаны некаторай своеасаблівасьцю, што мімаволі кідаецца ў вочы.

У размеркаванні зямлі і вады, гор і далін адчуваецца нейкая мэтанакіраванасць, нейкае лагічнае ўпарадкаванне. Нават у блытаніне прадметаў і з’яваў навакольнага сьвету, у іхнай надзвычайнай шматстатнасьці выяўляецца гэтае ўпарадкаванне.

Паўночная Амерыка падзяляецца на дзве шырокія і практычна роўнавялікія тэрыторыі.

Адна із іх распасьціраецца да Паўночнага полюса і абмываецца на захадзе і ўсходзе двума вялікімі акіянамі. У сваёй паўднёвай частцы гэтая тэрыторыя ўтварае трохкутнік, бакі якога, маючыя няроўныя абрысы, распасьціраюцца ніжэй канадзкіх Вялікіх азёр.

Другая тэрыторыя пачынаецца там, дзе заканчваецца першая, і займае ўсю астатнюю прастору кантынента.

Адна частка Паўночнай Амерыкі трохі ссунута да полюса, а другая – да экватара. Прастора першай часткі працягваецца на поўнач з ледзь прыкметным ухілам, і ствараецца ўражанне, што гэта раўніны ці пласкагор'і: і сапраўды, на гэтай шырокай пляцоўцы зямной паверхні вы не сустрэнеце ні высокіх гор, ні глыбокіх далін.

То тут, то там, мудрагеліста выгінаючыся, бягуць рэкі, рачулкі, раўчукі; яны то перасякаюцца, то зліваюцца, то разыходзяцца ў розныя бакі і зноў зближаюцца, знікаюць у шматлікіх балотах, губляюцца ў створаных імі самімі і напоўненых

вільгаццю лабірынтах і толькі пасьля бясконцага блукання зліваюцца нарэшце з Палярным морам. Вялікія азёры, атачаючыя гэтую тэрыторыю на поўдні, размешчаны, у адрозненні ад большасьці азёр Старога Света, не паміж скаламі і ўзгоркамі – іхныя берагі плоскія і ўсяго толькі на некалькі футаў узвышаюцца над паверхняй вады. Кожнае із гэтых азёр нагадвае напоўненую да краёў вялізную чарку: самыя нязначныя перамены ў геалагічнай структуры Зямлі маглі б мець наступствам скідванне іхнай вады або ў напрамку Паўночнага полюса, або ў напрамку трапічных мораў.

Другая частка Паўночнаамерыканскага кантынента больш перасечаная і лепш прыстасавана для сталага пасялення чалавека. Два горныя ланцугі перасякаюць яе па ўсёй даўжыні: адзін, маючы назву Алеганскія горы, працягнулася ўздоўж усяго ўзбярэжжа Атлантычнага акіяна, другі ж цягнецца паралельна паўднёвым морам.

Тэрыторыя паміж гэтымі дзвюма горнымі хрыбтамі займае 228343 квадратных лье[3], што амаль у шэсць разоў перавышае плошчу, якую займае Францыя[4].

Уся гэтая шырокая прастора ўяўляе сабою адну вялізную даліну, якая раскінулася без перашкод паміж круглявымі горнымі вяршынямі Алеган і хрыбтамі Скалістых гор.

У глыбіні гэтай даліны цячэ шырокая рака. У гэтую раку з усіх бакоў імкліва нясуцца струмені вады, спадаючыя з горных вяршынь. Раней французы ў якасьці памяці пра сваю страчаную радзіму далі ёй назву рака Сьвятога Людовіка; індэйцы ж урачыста называлі яе Бацькай вады, ці Місісіпі. Місісіпі бярэ свой пачатак на стыку двух вялізных тэрыторый, пра якія ішла гаворка вышэй, у верхняй частцы пласкагор'я, падзяляючага іх.

Каля Місісіпі бярэ пачатак яшчэ адна рака[5], зліваючаяся потым з Палярным морам. Сама ж Місісіпі нейкі час нібы-та вагаецца, выбіраючы, куды накіраваць свой шлях: не адзін раз яна вяртаецца назад, і толькі пасьля таго, як яе плынь запавольваецца сярод азёр і балот, яна нарэшце канчаткова вырашае ў які бок накіравацца, і павольна пракладае сабе дарогу на поўдзень.

То спакойная ў сваім глiністым ложы, якое стварыла для яе прырода, то паднятая на дыбкі бурай, Місісіпі арашае больш тысячы лье зеямлі, размешчанай на працягу яе плыні[6].

На адлегласьці шасьці соцень лье[7] ад вусьця глыбіня Місісіпі складае ў сярэднім ужо каля пятнаццаці футаў, і караблі водазмяшчэннем роўным трыста тон могуць вольна праходзіць да двух соцень лье ўгару па плыні.

Пяцьдзясят сем вялікіх суднаходных рэк нясуць сваю ваду ў Місісіпі. Адзін із яе прытокаў мае працягласць роўную 1300 лье[8], іншыя – роўную 900 лье[9], роўную 600 лье[10], роўную 500 лье[11], і чатыры ракі – па 200 лье[12], не згадваючы ўжо пра незлічоную шматлікасць раўчукоў, збягаючых да яе з усіх бакоў.

---

[3] 1341649 міль. Гл.: Дарбі. Агляд Злучаных Штатаў, с. 499. Я перавёў мілі ў ілье пры ўмове, што кожнае лье складаецца із 2 000 туазаў.

[4] Плошча Францыі складае 35 181 квадратных лье.

[5] Рэд-Рывер

[6] 2500 міль, ці 1032 лье. Гл.: Уордэн. Апісанне Злучаных Штатаў, т. I, с. 166.

[7] 1364 міль, ці 563 лье. Там жа, т. I, с. 169.

[8] Місуры. Там жа т. I, с. 132 (1278 лье).

[9] Арканзас. Там жа, т. I, с. 188 (877 лье).

[10] Рэд-Рывер. Там жа, т. I, с. 190 (589 лье).

якой строгасьцю караліся блудніцтва і згвалтаванне. Самыя звычайныя ўзаемадачыненні паміж людзьмі, якія не былі адружаны, строга перапыняліся. За суддзямі замацоўвалася права ўжываць да вінаватага адно із трох пакаранняў: грашовы штраф, лупцоўка ці адружанне[39], прытым, калі верыць пратаколам тагачасных Нью-Хэйвенскіх судоў, справы падобнага роду зусім не былі рэдкімі. У судовым рашэнні ад 1 траўня 1660 года запісана, што адна дзяўчына была прысуджана да грашовага штрафу і зведала суровае папярэджванне толькі за тое, што яна вымавіла некалькі не вельмі сьціплых слоў маладому чалавеку і дазволіла сябе пацалаваць[40]. Кодэкс 1650 года таксама мае шмат папярэджваючых захадаў. Лянота і п'янства падпадалі, згодна з гэтым законам, пад строгае пакаранне[41]. Карчмары не мелі права даваць наведвальнікам больш віна, чым было вызначана законам; самая нязначная хлусня, калі яна была здольнай некаму прынесьці шкоду, вабіла за сабой штраф ці цялеснае пакаранне[42]. У некаторых месцах кодэкса заканадаўцы, цалкам забыўшыся, што ў Яўропе яны самі ж абаранялі велічныя прынцыпы рэлігійнай вольнасьці, прызначалі накладанне грашовага штрафу з мэтай прымусіць людзей прысутнічаць на богаслужэннях[43] і нават прызначалі вельмі суровыя пакаранні[44], аж да пакарання сьмерцю ўключна, тым хрысьціянам, якія маліліся Богу інакш, чым яны самі[45]. Стараннасць гэтых заканадаўцаў у напрамку рэгламентацыі ўсіх і ўся часам мела наступствам тое, што яны даходзілі да спраў ужо цалкам нявартых. Так, напрыклад, у тым жа зборы законаў існуе закон забараняючы ўжыванне тытуню[46]. Не патрэбна, дарэчы, выпускаць із пад увагі тое, што гэтыя дзіўныя, ці лепш сказаць тыранічныя законы прымаліся зусім не прымусовым шляхам: яны былі ўхвалены вольным галасаваннем сярод усіх зацікаўленых у іх грамадзянаў.

Не патрэбна таксама выпускаць із-пад увагі тое, што ў гэтым грамадстве норавы былі яшчэ больш строгімі і больш пурытанскімі, чым самі законы. Так, напрыклад, у 1649 годзе ў Бостане ўтварылася вельмі ўплывовае грамадства, мэтай якога было змаганне супраць свецкай блазноты – нашэння доўгіх волос[47].

---

[39] Кодэкс 1650 года, с. 48. Відаць, часам здаралася і так, што суддзі прызначалі такія вельмі розныя пакаранні адначасова, пра што сведчыць рашэнне аднаго із судоў, вынесенае ў 1643 годзе (Нью-Хэйвенская даўніна, с. 114), у якім вырашана, што Маргарэт Бэдфард, абвінавачаная ў заганных учынках, павінна была зведаць цялеснае пакаранне, а потым адружыцца з Нікаласам Джэмінгсам, сваім каханкам.

[40] Нью-Хэйвенская даўніна, с. 104. Гл. таксама ў «Гісторыі» Хатчынсона, т. I, с. 435, шматлікія прыклады аналагічных судовых рашэнняў.

[41] Там жа, 1650, с. 50,57.

[42] Там жа, с. 64.

[43] Там жа, с. 44.

[44] Так было не ў адным толькі Канектыкуце. Побач з іншымі паглядзіце на закон, выдадзены 13 верасня 1644 года ў Масачусетсе, згодна з якім анабаптыстаў прысудзілі да выгнання. Сбор афіцыйных дакументаў па гісторыі штата, т. I, с. 538. Гл. таксама закон, надрукаваны 14 кастрычніка 1656 года і накіраваны супраць квакераў. «З нагоды таго, – паведамляецца ў ім, – што нядаўна ўзнікла секта праклятых ерэтыкоў, ці так званых квакераў...». Далей ідзе пералічэнне надзвычай вялікіх штрафаў, прызначаемых капітанам караблёў, калі яны будуць перавозіць квакераў у Амерыку. Квакеры, якія здолеюць прабрацца ў краіну, будуць прысуджаны да цялеснага пакарання і зняволены ў турму для прымусовай працы. За пашэрэнне сваіх перакананняў пры затрыманні першым разам яны павінны будуць заплаціць штраф, у другі раз – зведаць турэмнае зняволенне, а ў трэцці – зведаць высяленне із дадзенай правінцыі. Гл.: Сбор афіцыйных дакументаў, т. I, с. 630.

[45] Адпаведна з крымінальным заканадаўствам штата Масачусетс, каталіцкія святары, якія зноў з'яўляліся ў асадзе пасьля таго, як былі адтуль прагнаны, прысуджаліся да пакарання сьмерцю. 27 Кодэкс 1650 года, с. 96

[46] Кодэкс 1650 года, с. 96.

[47] Мемарыял Новай Ангельшчыны, с. 316.

Падобныя неадпаведнасьці, бясспрэчна, з’яўляюцца ганебнымі для разумнага чалавека; яны сведчаць пра нікчэмнасць нашай натуры, якая не ў стане канчаткова ўсвядоміць, што такое праўда і справядлівасць, у выніку чаго чалавек часцяком вымушаны рабіць выбар паміж двума крайнасьцямі.

Нароўні з гэтым крымінальным заканадаўствам, у якім так глыбока адбіліся як абмежаванасць сектанцкага светапогляду, так і ўсе абуджаныя праследамі і не перастаючыя хваляваць душы людзей рэлігійныя жарсьці, з’явіўся ў нейкай ступені абумоўлены імі сбор законаў палітычнага характару. Складзеныя дзьве сотні гадоў таму назад, гэтыя законы адпаведна са сваім духам вольнасьці пайшлі далёка наперад у параўнанні з нашым часам.

Агульныя прынцыпы пабудовы сучасных канстытуцый, якія большасць еўрапейцаў XVII стагоддзя разумела з вялікай цяжкасьцю і якія толькі часткова перамаглі пад час таго перыяду ў Вялікабрытаніі, былі цалкам прызнаны ў Новай Ангельшчыне і замацаваны яе законамі: удзел народа ў грамадзкіх справах, вольнае галасаванне па пытаннях маючых дачыненне да падаткаў, адказнасць прадстаўнікоў улады перад народам, асабістая воля і суд прысяжных – усё гэта было ўспрынята пагоднена і рэчаісна праведзена ў жыццё ў Новай Ангельшчыне.

Гэтыя выточныя прынцыпы набылі тут самае шырокае ўжыванне і пашырэнне, тады як у Яўропе ніводная нацыя на гэта не адважылася.

У Канектыкуце выбарчы корпус ад самага пачатку складаўся із усіх грамадзян, жыўшых у пазначаным штаце, што, дарэчы, вельмі зразумела[48]. У асяроддзі гэтага нараджаючагася народа тады яшчэ панавала амаль поўная роўнасць паміж людзьмі ў тым, што мела дачыненне да іхнага маёмаснага становішча і тым больш узроўня іхнага інтэлектуальнага развіцця[49].

Пад час таго перыяду ў Канектыкуце належала абіраць усе службовыя асобы выканаўчай улады, аж да губернатара штата[50].

Усе грамадзяне ў веку старэй шаснаццаці гадоў былі абавязаны насіць зброю; яны ўтваралі народную міліцыю, самі прызначалі са свайго асяроддзя афіцэраў і павінны былі знаходзіцца ў стане пастаяннай прыгатаванасьці да абароны бацькаўшчыны[51].

Законы Канэктыкута, так жа як і законы іншых штатаў Новай Ангельшчыны, адлюстроўвалі нараджэнне і развіццё той супольнай незалежнасьці, якая і ў нашы дні па-ранейшаму з’яваўляецца падставай амерыканскай вольнасьці і прыладай яе ўвасаблення ў жыццё.

У Яўропе палітычнае жыццё большасьці краін пачыналася зверху афіцыйнай піраміды і потым паступова, ды і то не ў поўнай меры, ахаплівала ўсе ячэйкі грамадства.

У Амерыцы ж, наадварот, злучына была ўтворана раней, чым акруга; акруга з’явілася раней штата, а штат – раней, чым уся канфедэрацыя.

Да 1650 года ў Новай Ангельшчыне злучына цалкам і канчаткова зацьвердзілася. Злучына была тым месцам, якое аб’ядноўвала і моцна злучала людзей і дзе яны маглі выявіць свае зацікаўленасьці і прыхільнасьці, ажыццявіць

---

[48] Канстытуцыя 1638 года, с. 17.

[49] У 1641 годзе Генеральная асамблея Род-Айланда пры поўным пагадненні ўсталявала дэмакратычную форму кіравання ў штаце і заявіла, што ўлада ўскладаецца на корпус вольных грамадзянаў, валодаючых выключным правам выдаваць законы і сачыць за іхным выкананнем. – Кодэкс 1650 года, с. 70.

[50] Піткін. Гісторыя, с. 47.

[51] Канстытуцыя 1638 года, с. 12.

свае правы і выканаць абавязкі. У сярэдзіне злучыны кіпела сапраўднае і актыўнае палітычнае жыццё, цалкам дэмакратычнае і рэспубліканскае згодна са сваёй сутнасьцю. Асады пакуль яшчэ працягвалі прызнаваць вярхоўную ўладу метраполіі, штаты па-ранейшаму кіраваліся адпаведна з законамі манархіі, аднак рэспубліка ўжо паўнакроўна развівалася ў межах злучыны.

Злучына абірала службовых асоб усіх узроўняў, прызначала мясцовыя падаткі, а таксама спаганяла ўсе іншыя[52]. У злучынах Новай Ангельшчыны не было прынята ніякіх законаў пра прадстаўнічыя ўстановы. Кожная супольная справа злучыны, маючая дачыненне да зацікаўленасьцей усіх яе жыхароў, абмяркоўвалася, як у Афінах, на цэнтральным пляцы ці на агульным сходзе*[53].

Калі ўважліва вывучаеш законы, якія прымаліся на працягу ўсяго першага перыяду існавання амерыканскіх рэспублік, мімаволі здзіўляешся дзяржаўнай мудрасьці заканадаўцаў, увасабляўшых у жыццё перадавыя тэорыі.

Відавочна, што амерыканскія заканадаўцы разумелі абавязкі грамадства ў дачыненні да сваіх сяброў значна больш шырока і ўзнёсла, чым еўрапейскія заканадаўцы таго ж часу і грунтаваліся на такіх высокіх патрабаваннях да грамадства, ад выканання якіх у іншых частках сьвету яно пакуль яшчэ вызвалялася. У штатах Новай Ангельшчыны беднякі былі на поўным забеспячэнні суполкі[54] з моманту яе ўзнікнення; строгія захады прадугледжваліся для таго, каб падтрымліваць у належным стане дарогі – для назірання за імі прызначаліся нават адмысловыя ўрадаўцы[55]; у публічныя рэестры злучын заносіліся вынікі абмеркавання грамадзянамі розных пытанняў, факты сьмерці, адружання і народзінаў сяброў злучыны[56]; для вядзення гэтых рэестраў адмыслова прызначаліся рэгістраторы[57]. Існавалі таксама ўрадаўцы, на якіх ускладаўся абавязак наглядаць за незапатрабаванымі спадчынамі. На абявязку іншых ўрадаўцаў было тое, што яны назіралі за захаваннем межаў перадаваемых па спадчыне зямельных уладанняў. Галоўным абавязкам шэрагу службовых асоб было падтрыманне грамадзянскага парадку ў злучыне[58].

Закон прадугледжваў тысячы самых розных захадаў, каб задаволіць шматлікія ўжо існуючыя ці магучыя з’явіцца сацыяльныя патрэбы, пра якія ў Францыі нават і ў наш час існуюць толькі вельмі цьмяныя ўяўленні.

Аднак самабытнасць амерыканскай цывілізацыі адпачатку найбольш яскрава выявілася ў наказах, маючых дачыненне да грамадзкай адукацыі.

«Бяручы да ўвагі, – гаворыцца ў законе, – той факт, што Сатана, вораг роду чалавечага, знаходзіць у невуцтве людзей сваю самую магутную зброю і, клапоцячыся пра тое, каб веды, прынесеныя сюды нашымі бацькамі, не адышлі ў нябыт разам з імі; бяручы да ўвагі тое, што ў выхаванні дзяцей перадусім зацікаўлена дзяржава, мы, з дапамогай Боскай...»[59]. Далей пералічваюцца параграфы, вызначаючыя стварэнне школ ва ўсіх злучынах і абавязваючыя ўсіх жыхароў пад пагрозай вялікіх штрафаў браць на сябе ўтрыманне гэтых школ. Аналагічным чынам у найбольш густанаселеных раёнах ствараліся вышэйшыя

[52] Кодэкс 1650 года, с. 80.
[53] (*53 заўвага пасьля заканчэння кнігі I)
[54] Там жа, с. 78.
[55] Там жа, с. 49.
[56] Гл.: Хатчынсон. Гісторыя, т. I, с. 455.
[57] Кодэкс 1650 года, с. 86.
[58] Там жа, с. 40.
[59] Там жа, с. 90.

школы. Муніцыпальныя ўлады павінны былі назіраць за тым, каб бацькі выпраўлялі сваіх дзяцей у школы; гэтыя ўлады надзяляліся правам прызначаць штрафы тым бацькам, якія не выконвалі дадзенага патрабавання; у выпадку ж, калі падобнае непадпарадкаванне працягвалася, грамадства брала на сябе ролю сям'і, забірала дзіцёнка пад сваю апеку і пазбаўляла бацькаў гэтых дзяцей правоў, якімі іх надзяліла сама прырода і якімі яны так дрэнна карысталіся[60]. Чытач, без сумневаў, звярнуў увагу на прэамбулу дадзеных арданансаў: у Амерыцы да асьветы вядзе менавіта рэлігія, тады як да вольнасьці чалавека накіроўвае выкананне ім законаў Боскіх.

Калі, кінуўшы такім чынам беглы позірк на амерыканскае грамадства 1650 года, звяртаешся да становішча ў Яўропе і асабліва да той сітуацыі, якая склалася на ўсім кантыненце пад час той жа эпохі, цябе напаўняе глыбокае здзіўленне: напачатку XVII стагоддзя паўсюдна на парэштках алігархічнай і феадальнай вольнасьці сярэднявечча перамагла абсалютная манархія. У гэтай бліскучай і асьвечанай Яўропе ідэя правоў чалавека ігнаравалася цалкам – як ніколі больш; ніколі яшчэ народы так мала ўдзельнічалі ў грамадзкім і палітычным жыцці сваіх дзяржаў; ніколі яшчэ прынцыпы сапраўднай вольнасьці так мала цікавілі розумы людзей. І ўсё гэта тады, калі ўсе гэтыя прынцыпы, невядомыя еўрапейскім нацыям або пагарджаемыя імі, былі абвешчаны ў пустынных краях Новага Сьвету і ляглі ў падмурак будучага развіцця вялікага народа. Самыя перадавыя тэорыі, створаныя чалавечым розумам, былі ўжыты на практыцы ў гэтым такім простым на першы пагляд грамадстве, якое ніводны дзяржаўны дзяяч, без якіх бы то ні было сумневаў, нават не ганараваў бы сваёй увагай. Аддаўшыся на волю сваёй самабытнасьці, чалавек, карыстаючыся толькі адным уяўленнем, стварыў экспромтам не маючае прэцэдэнтаў заканадаўства. Пры гэтай невядомай дэмакратыі, якая яшчэ не дала сьвету ніводнага генерала, ніводнага філосафа ці вялікага пісьменніка, чалавек меў магчымасць падняцца ў прысутнасьці вольных грамадзян і пры ўсеагульным ухвальныў стаўленні даць наступнае выдатнае вызначэнне вольнасьці:

«Нам не варта памыляцца адносна таго, што мы разумеем пад нашай незалежнасьцю. Сапраўды, існуе нейкая заганная вольнасць, якой карыстаюцца як жывёлы, так і людзі і якая складаецца ў тым, каб дзейнічаць грунтуючыся на ўласных жаданнях. Такая вольнасць з'яўляецца варожай для якой бы то ні было ўлады; яе цяжка падначаліць якім бы то ні было правілам; пры ёй мы апускаемся ўсё ніжэй і ніжэй; яна – вораг праўды і міру; нават Бог палічыў патрэбным запрацівіцца ёй! Але адначасова існуе вольнасць грамадзянская і маральная; магутнасць, увасабляемая ў яднанні ўсіх; магутнасць, якую самой уладзе прызначана ахоўваць: гэтая вольнасць складаецца ў тым, каб без баязні здзяйсняць добрае і справядлівае. Гэтую сьвятую вольнасць мы абавязаны бараніць ад якіх бы там ні было выпадковасьцей і ў выпадку патрэбы ахвяраваць дзеля яе ўласным жыццём»[61].

Я ўжо паведаміў дастаткова шмат, каб паказаць у сапраўдным асьвятленні характар англа-амерыканскай цывілізацыі. Яна з'яўляецца вынікам (дадзенае выточнае цверджанне павінна заўсёды існаваць падчас якіх бы то ні было

---

[60] Там жа, с. 83.

[61] Мэзер. Вялікія здзяйсненні Хрыста ў Амерыцы, т. II, с. 13. Гэтая прамова была вымаўлена Уінтрапам. Яго абвінавачвалі ў тым, што, будучы службовай асобай, ён здзейсніў некалькі незаконных учынкаў; аднак пасьля выказвання прамовы, із якой узяты дадзены ўрывак, ён быў апраўданы пад усеагульныя воплескі і з таго часу яго заўсёды пераабіралі губернатарам штата. Гл.: Маршал, т. I, с. 166.

разважанняў) двух цалкам розных пачаткаў, якія, дарэчы, вельмі часта знаходзіліся ў супрацьстаянні адзін аднаму, але якія ў Амерыцы нейкім чынам атрымалася злучыць адно з другім і нават цудоўна спалучаць. Гаворка ідзе пра вернасць рэлігіі і пра дух вольнасьці.

Заснавальнікі Новай Ангельшчыны былі дбайнымі сектантамі і адначасова захопленымі наватарамі. З аднаго боку, іх стрымлівалі кайданы вызначаных рэлігійных вераванняў, а з іншага – яны былі цалкам вольнымі ад якіх бы то ні было палітычных забабонаў.

Адсюль і з’явіліся дзьве розныя, але зусім не супярэчачыя адна адной тэндэнцыі, адбітак якіх няцяжка заўважыць паўсюдна – як у норавах грамадства, так і ў яго законах.

Гэтыя людзі здольны прынесьці ў ахвяру рэлігійным перакананням сваіх сяброў, сваю сям’ю і сваю радзіму; можна выказаць здагадку, што яны паглынуты пошукам нейкай інтэлектуальнай выгоды, за якую гатовы заплаціць такі вялікі кошт. Тым часам, выяўляецца, што яны практычна з той жа настойлівасьцю імкнуцца дамагчыся не толькі маральнага задавальнення, але і матэрыяльных даброт, шукаючы шчасьця на тым сьвеце і адначасова дабрабыту і вольнасьці на гэтым.

Палітычныя перакананні і створаныя чалавецтвам законы і інстытуты ператвараюцца ў іхных руках у нешта такое падатлівае і гнуткае, што, здаецца, яны могуць прымаць які заўгодна напрамак развіцця і як заўгодна камбінавацца.

Перад гэтымі людзьмі падаюць усе перашкоды, скоўваўшыя грамадства, у якім яны нарадзіліся; састарэлыя погляды, на працягу доўгіх стагоддзяў уплываўшыя на сусьвет, пастулова знікаюць; перад імі адчыняюцца практычна бязмежныя магчымасьці, нагадваючыя нейкую бясконцую прастора без небасхілу. Чалавек накіроўвае свой розум да гэтага поля дзейнасьці, ён абходзіць яго ўздоўж і папярок, аднак, дасягнуўшы мяжы сьвету палітыкі, ён мімаволі спыняецца. Трапечучы, ён адмаўляецца выкарыстаць свае самыя жахлівыя магчымасьці, ён больш не жадае ні сумнявацца, ні ствараць нешта новае, ён нават устрымліваецца ад жадання прыўзняць заслону, зачыняючую свяцілішча, – перапоўнены павагі, ён схіляе калены перад праўдамі, якія падзяляе без пярэчанняў.

Такім чынам, у сьвеце маральнасьці ўсё ўпарадкавана, узгоднена, агадана і вырашана загадзя. У сьвеце ж палітыкі ўсё знаходзіцца ў пастаянным руху, усё аспрэчваецца, усё неяк непазначана; у адным – пасіўнае, хаця і самаахвотнае падпарадкаванне, у іншым – незалежнасць, недавер да досьведу і гарачае адмаўленне якога б то ні было аўтарытэту.

Гэтыя дзьве тэндэнцыі, такія процілеглыя на першы пагляд, не робяць адна адной ніякай шкоды, наадварот, яны развіваюцца ў поўным пагадненні і нават як бы падтрымліваючы адна другую.

Рэлігія бачыць у грамадзянскай вольнасьці шляхетнае ўвасабленне чалавечых здольнасьцей, а ў палітычным накірунку – поле дзейнасьці, дадзенае чалавечаму розуму Стваральнікам. Вольная і магутная ў сваёй сферы, цалкам задаволеная вызначаным ёй у грамадстве месцам, рэлігія выдатна ўсведамляе, што яе імперыя выявіцца больш трывалай, калі яна будзе панаваць абапіраючыся толькі на ўласныя магчымасьці і панаваць над сэрцамі без якой бы то ні было падтрымкі звонку.

Вольнасць жа бачыць у рэлігіі сваю хаўрусніцу ў змаганні і ў перамогах, зыбку свайго ўласнага дзяцінства, боскую крыніцу сваіх правоў. Яна ўспрымае

рэлігію як ахоўніцу маральнасьці, а саму маральнасць лічыць гарантыяй законнасьці і закладам свайго ўласнага існавання[62].

# Падставы некаторых асаблівасьцей англа-амерыканскіх законаў і звычаяў

–Што захавалася ад арыстакратычных інстытутаў пры самай поўнай дэмакратыі. –Чаму гэта адбылося. –Патрэба адрозніваць, што мае пурытанскі пачатак, а што прыйшло із арыстакратычнай Ангельшчыны.

Чытач не павінен рабіць із усяго выкладзенага занадта агульныя і занадта безумоўныя высновы. Безумоўна, грамадзкае становішча, рэлігійныя перакананні і норавы першых эмігрантаў зрабілі каласальны ўплыў на лёсы іхнай новай бацькаўшчыны. І ўсё ж, не ад іхнай волі залежала стварэнне такога грамадства, дзе яны самі сталі б выключнымі яго стваральнікамі адпачатку. Ніхто не здольны цалкам вызваліцца ад свайго мінулага. Асаднікам не раз здаралася перамешваць, як свядома, так і несьвядома, тыя перакананні і звычаі, якія былі ўласцівы толькі ім самім, з іншымі перакананнямі і звычаямі, якія яны атрымалі падчас адукацыі ці запазычылі із нацыянальных традыцый краіны, адкуль яны былі родам.

Такім чынам, жадаючы скласьці рачаіснае ўяўленне пра сучасных англа-амерыканцаў, патрэбна ўмець дакладна аддзяляць тое, што мае пурытанскія карані, а што – ангельскія.

У Злучаных Штатах нярэдка можна сустрэцца з законамі ці звычаямі, якія істотна адрозніваюцца ад усяго таго, што іх атачае. Ствараецца ўражанне, што гэтыя законы складзены грунтуючыся на духу, цалкам процілеглым таму, які пануе ў амерыканскім заканадаўстве ў цэлым; што гэтыя звычаі як бы супярэчаць усёй атмасферы, уласьцівай дадзенаму грамадству. Калі б ангельскія асады былі заснаваны пад час менш асьвечанай эпохі ці калі б іх паходжанне гублялася ў глыбіні стагоддзяў, то тады заданне, хутчэй усяго, выявілася б невырашальным.

Для таго, каб патлумачыць сваю думку, прывяду тут адзін прыклад.

Грамадзянскае і крымінальнае заканадаўствы амерыканцаў прызнаюць усяго толькі два захады папярэджвання: турэмнае зняволенне ці выплочванне закладу. Згодна з працэдурай, адказваючаму спачатку прапануецца ўнесьці заклад, калі ж ён адмаўляецца гэта зрабіць, то падлягае турэмнаму зняволенню. Пасьля гэтага разглядаюцца абгрунтаванасць і цяжар вылучанага абвінавачвання.

Цалкам відавочна, што падобнае заканадаўства накіравана перадусім супраць бедняка і спрыяе толькі заможнаму.

Бядняк далёка не заўсёды ў стане знайсьці патрэбную для закладу суму, нават калі гаворка ідзе пра грамадзянскую справу; акрамя таго, калі ён павінен чакаць судовага вырашэння ў турме, то вымушаная бяздзейнасць хутка ва ўсякім разе прывядзе яго да галечы.

Заможнаму ж, наадварот, у грамадзянскіх справах заўсёды атрымліваецца пазбегнуць зняволення. Больш таго, калі ён і здзейсніў парушэнне права, то лёгка можа пазбегнуць пагражаючага яму пакарання: пасьля таго як ён унёс заклад, ён

---

[62] У Злучаных Штатах існуе сістэма пратэкцыянісцкіх тарыфаў. Малалікасць мытных службаў і велізарная працягласць берагавых ліній вельмі палягчаюць завоз у краіну кантрабандных тавараў; аднак кантрабандны гандаль вядзецца тут не так актыўна, як у якой бы то ні было іншай дзяржаве, дзякуючы таму, што кожны амерыканец імкнецца яго скасаваць. Дзякуючы таму што ў Злучаных Штатах няма прафілактычнай пажарнай службы, пажары тут здараюцца часьцей чым у Еўропе, аднак у цэлым яны тушацца хутчэй, таму што насельніцтва акругі заўсёды гатова пры патрэбе хутка сабрацца ў небяспечным месцы.

без цяжкасьцей знікае. Такім чынам, можна сцвярджаць, што для яго ўсе пакаранні, вызначаныя законам, зводзяцца ўсяго толькі да простага грашовага спагнання, то бок звычайнага штрафа[63]. Нішто не нясе на сабе большай пячаткі арыстакратычнага духу, чым падобнае заканадаўства!

Аднак у Амерыцы законы складаюцца беднымі, якія, натуральна, імкнуцца захаваць за сабой найбольшыя грамадзкія прывілеі і перавагі.

Тлумачэнне гэтаму феномену варта шукаць у Ангельшчыне: законы, пра якія ідзе гаворка, – ангельскія[64]. Амерыканцы перынялі іх без якіх бы то ні было перамен, нягледзячы на тое што яны прама супярэчаць агульнаму зместу іхнага заканадаўства і ўсім іхным перакананням.

Народ менш за ўсё схільны перамяняць як свае звычаі, так і сваё грамадзянскае заканадаўства. Грамадзянскія законы дасканала вядомы толькі юрыстам, то бок тым, чыя прамая зацікаўленасць палягае ў захаванні іх у тым выглядзе, у якім яны ўжо існуюць, незалежна ад таго, добрыя гэта законы ці дрэнныя, – адпаведна толькі з той простай нагодай, што яны іх выдатна ведаюць. Вялікая ж частка насельніцтва знаёма з законамі толькі вельмі прыблізна; людзі сутыкаюцца з імі толькі ў пэўных выпадках, з цяжкасьцю ўспрымаюць іхную агульную накіраванасць і таму падначальваюцца ім цалкам бяздумна.

Я прывёў тут усяго толькі адзін прыклад, тады як мог бы пералічыць іх значна больш.

Выява, якую паказвае сабой амерыканскае грамадства, нібы-та накрыта, калі так можна выказацца, пластом дэмакратыі, із-пад якога час ад часу выступаюць ранейшыя, арыстакратычныя фарбы.

# Глава III

## Грамадзкае ўладкаванне англа-амерыканцаў

Грамадзкае ўладкаванне звычайна ўзнікае як вынік нейкай падзеі, часам усталёўваецца заканадаўчым шляхам, а часьцей усяго з’яваўляецца вынікам аб’яднання гэтых двух акалічнасьцей. Аднак, як толькі яно ўтвараецца, яно самастойна пачынае нараджаць большасць законаў, звычаяў і поглядаў, вызначаючых паводзіны нацыі; тое, што не з’яваўляецца ўзнікшым ад яго самога, яно імкнецца перамяніць.

Такім чынам, для таго каб зразумець заканадаўства і звычаі таго ці іншага народа, патрэбна пачаць з вывучэння яго грамадзкага ўлпдкавання.

### Асноўная асаблівасць грамадзкага ўладкавання англа-амерыканцаў – гэты яго асабліва дэмакратычны пачатак

–Першыя эмігранты ў Новай Ангельшчыне.. –Роўнасць паміж імі. –Арыстакратычныя законы, уведзеныя на Поўдні. Эпоха рэвалюцыі. –Перамена законаў пра ўспадкаванне. –Наступствы гэтай перамены. –Роўнасць у самым поўным аб’ёме ў новых штатах Захаду. –Роўнасць ва ўзроўні адукаванасьці.

[63] Безумоўна, існуюць такія злачынствы, па якіх не прадугледжваецца ніякага закладу, аднак іхная колькасць вельмі нязначная.
[64] Гл.: Блэкстан Дэлолм, кн. I, гл. X.

Можна было б зрабіць нямала важных заўваг з нагоды грамадзкага ўладкавання англа-амерыканцаў, аднак патрэбна асобна спыніцца на самым важным.

Грамадзкае ўладкаванне англа-амерыканцаў у вышэйшай ступені дэмакратычнае. Такі характар яно набыло з моманту заснавання асад; зараз жа яно зрабілася яшчэ больш дэмакратычным.

У папярэдняй главе я паведамляў пра тое, што першыя эмігранты, пасяліўшыяся на ўзбярэжжы Новай Ангельшчыны, былі ў шмат якіх дачыненнях роўнымі паміж сабой. У гэтай частцы Звязу ніколі не адчувалася хаця б найменшага ўплыву арыстакратыі. Ды тут ніколі і не магло б узнікнуць ніякага іншага ўплыву, акрамя уплыву розуму. Народ прызвычаіўся шанаваць некаторых знакамітасьцей у якасьці знака асвечанасьці і ўчыннасьці. Асобныя грамадзяне набылі над ім некаторую ўладу, якую не без падставаў можна было б назваць арыстакратычнай, калі б яна нязменна перадавалася ад бацькі да сына.

Такімі справы былі на ўсход ад Гудзона; на паўднёвы захад ад гэтай ракі і аж да Фларыды мы бачым нешта цалкам іншае.

У большасьці штатаў, размешчаных на паўднёвы захад ад Гудзона, пасяліліся заможныя землеўладальнікі. Яны прынесьлі з сабой арыстакратычныя прынцыпы і разам з імі – ангельскія законы пра ўспадкоўванне. Я згадваў пра нагоды, перашкаджаўшыя ўзнікненню ў Амерыцы магутнай арыстакратыі. Гэтыя нагоды, хаця і існавалі ў месцах паселішчаў  на паўднёвы захад ад Гудзона, усё ж мелі там меншае значэнне, чым на ўсходніх ад ракі тэрыторыях. На Поўдні адзін чалавек, выкарыстоўваючы працу нявольнікаў, быў у стане апрацаваць вялізныя прасторы зямлі. Як вынік, у гэтай частцы Амерыканскага кантынента жылі галоўным чынам заможныя землеўладальнікі. Аднак яны не карысталіся тым уплывам, які мае арыстакратыя ў Яўропе, таму што ў іх не было ніякіх прывілеяў; у выніку таго, што зямля апрацоўвалася з дапамогай рабскай працы, яны не мелі арандатараў, і, такім чынам, сама сістэма патранату тут адсутнічала. І ўсё ж, буйныя землеўладальнікі, жыўшыя на поўдзень ад Гудзона, уяўлялі сабой вышэйшы стан, якому былі ўласцівы адметныя перакананні і схільнасьці і які размяшчаўся ў цэнтры палітычнага жыцця грамадства. Гэта была вельмі своеасаблівая арыстакратыя, мала адрозніваўшаяся ад асноўнай масы насельніцтва, чые зацікаўленасьці і густы яна лёгка ўспрымала, не абуджаючы ні ў кога ні шанавання, ні нянавісьці – іншымі словамі, яна была слабой і не вельмі жывучай. Менавіта гэты стан і ўзначаліў на Поўдні паўстанне: Амерыканская рэвалюцыя абавязана яму сваімі самымі вялікімі людзьмі.

Пад час гэтай эпохі ўсё грамадства прыйшло ў рух: народ, у імя якога вялася вайна, народ, стаўшы магутным, пажадаў дзейнічаць самастойна; у яго абудзіліся дэмакратычныя інстынкты. Скінуўшы ярмо метраполіі, людзі адчулі густ да розных праяваў незалежнасьці: уплыў вызначаных асоб стаў адчувацца ўсё менш і менш і паступова знік наогул; як звычаі, так і законы пачалі гарманічна распрацоўвацца ў адзіным накірунку да агульнай мэты.

Аднак апошнім крокам да роўнасьці стаў закон пра ўспадкаванне.

Мяне здзіўляе той факт, што юрысты, як сучасныя, так і ранейшыя, не прызнавалі таго вялізнага ўплыву, які робяць законы пра ўспадкаванне[65] на

[65] Пад законамі пра ўспадкоўванне я маю на ўвазе ўсе законы, галоўным заданнем якіх было вызначэнне лёсу маёмасьці пасьля сьмерці яе ўладальніка. Да іх ліку далучаецца і закон пра субстытуцыі; гэты закон, па праўдзе сказаць, хоць і перашкаджае ўласніку распараджацца сваёй маёмасцю пры жыцці, але адначасова

развіццё чалавечых дачыненняў. Праўда, што гэтыя законы адносяцца да грамадзянскага заканадаўства, але на самай справе іх патрэбна было б пакласьці у падмурак усіх палітычных усталяванняў, таму што яны самым неспадзяваным чынам уплываюць на грамадзкае ўладкаванне, пры якім жывуць тыя ці іншыя народы, тады як палітычныя законы з'яваўляюцца непасрэдным адлюстраваннем гэтага ўладкавання. Акрамя таго, законы пра ўспадкаванне маюць бясспрэчны і пастаянны ўплыў на ўсё грамадства, яны ў пэўным сэнсе ўплываюць на цэлыя пакаленні задаўга да іхнага нараджэння. Гэтыя законы даюць чалавеку амаль боскую ўладу над будучыняй яму падобных. Заканадавец, аднойчы ўсталяваўшы парадак успадкоўвання маёмасьці грамадзянамі, потым адпачывае на працягу стагоддзяў. Запусьціўшы механізм у дзеянне, ён можа сядзець склаўшы рукі: машына ўжо рухаецца ўласным ходам адпаведна з вызначаным раней накірункам. Задуманая вызначаным чынам, яна аб'ядноўвае, канцэнтруе, размяркоўвае вакол асоб спачатку ўласнасць, а хутка і ўладу; яна ў нейкай ступені спараджае зямельную арыстакратыю. Калі ж у канструкцыю дадзенай машыны закладзены іншыя прынцыпы і калі мэта яе стварэння іншая, то яе ўплыў выяўляецца яшчэ хутчэйшым: яна падзяляе, размяркоўвае, раздрабняе маёмасць і магутнасць. Часам здараецца так, што яна наводзіць баязнь хуткасьцю свайго руху: ужо і не спадзеючыся прыпыніць яе ход, людзі спрабуюць прынамсі неяк абцяжарыць яе працу, перашкодзіць ёй; яны робяць спробы супрацьстаяць яе ўздзеянню – але, на жаль, дарэмныя намаганні! Яна раздрабняе усё, што ёй ні патрапіцца, на дробныя часткі, бачацца толькі разлятаючыяся ў бакі аскепкі. Яна нястомна то падымаецца ўгару, то зноў апускаецца на зямлю да той пары, пакуль гэтая зямля неператворыцца ў зыбкі і практычна неадчувальны пыл, на якім зручней уладкоўваецца дэмакратыя.

У тых выпадках, калі закон пра ўспадкаванне дазваляе і, тым больш, патрабуе роўнага падзелу маёмасьці бацькі паміж дзецьмі, наступствы яго ўжывання могуць быць дваякімі; патрэбна выразна адрозніваць іх паміж сабой, хаця мэта ў іх адна і тая ж.

У адпаведнасьці з законам пра ўспадкаванне сьмерць кожнага ўладальніка вабіць за сабой карэнныя перамены ва ўласнасьці: маёмасць не проста перамяняе ўладальніка, але перамяняе, так бы мовіць, і сваю прыроду, таму што яна безперапынна раздрабняецца на ўсё больш і больш драбныя часткі.

Менавіта ў гэтым і складаецца непасрэдны, рэальна адчуваемы вынік ужывання дадзенага закона. У тых краінах, дзе заканадаўства ўсталёўвае роўнасць пры падзеле спадчыны, маёмасць і асабліва зямельныя ўладанні павінны, такім чынам, увесь час амяншацца ў памерах. Тым часам наступствы падобнага заканадаўства рабіліся б заўважаемымі толькі праз працяглы час, калі б закон дзейнічаў толькі сам сабой, таму што рэдка якая сям'я мае больш дваіх дзяцей (напрыклад, у такой густанаселенай краіне, як Францыя, у сярэднім на сям'ю прыпадае трое дзяцей); падзяліўшы паміж сабой маёмасць бацькі і маці, дзеці наўрад ці апынуцца больш беднымі, чым кожны із бацькоў паасобку.

Аднак закон пра роўны падзел спадчыны выказвае свой уплыў не толькі на лёсе маёмасьці: ён уплывае і на самі душы ўладальнікаў, маючы наступствам гульню жарсьцяў, якая адбіваецца на яго ажыцціяўленні. Такія з'яўляюцца

---

абавязвае ўладальніка захоўваць яе толькі для таго, каб яна без перашкод перайшла да спадчынніка. Асноўнай мэтай закона пра субстытуцыі ўсё ж з'яўляецца размеркаванне маёмасці пасьля сьмерці ўладальніка, астатняе ж з'яўляецца толькі сродкамк для дасягнення дадзенай мэты.

ўскосныя наступствы закона, маючыя наступствам хуткае разбурэнне вялікіх багаццяў, і асабліва вялікіх землевадлоданняў.

У тых народаў, у якіх закон пра ўспадкаванне грунтуецца на праве першароднасьці, зямельныя ўладанні часьцей усяго пераходзяць ад пакалення да пакалення, не зведваючы раздрабнення. Такім чынам, валоданне зямлёй спараджае радавы дух. Сям’я – гэта зямля, якой яна валодае, зямля – гэта сям’я; зямля увекавечвае прозвішча роду, яго паходжанне, яго славу, яго магутнасць і яго ўчыннасьці. Яна з’яваўляецца несьмяротным сведкам мінулага і каштоўным закладнікам будучага існавання сям’і, роду.

Закон пра ўспадкаванне, усталёўваючы роўны падзел маёмасьці, скасоўвае тую цесную сувязь, якая існавала паміж прыналежнасьцю да пэўнага роду і захаванасьцю зямельнага валодання; зямля перастае ўвасабляць сабой сям’ю, род, таму што, няўхільна падпадаючы падзелу праз адно ці два пакаленні, яна, натуральна, павінна паменшыцца ў памерах і, урэшце, зусім знікнуць. Сыны буйнога землеўладальніка, калі іхная колькасць невялікая ці калі ім спадарожнічае поспех, вядома, могуць яшчэ захоўваць надзею стаць не менш заможнымі, чым іхныя бацькі, аднак яны не здолеюць валодаць той жа ўласнасьцю, якой валодалі іхныя продкі: іхнае багацце неадменна будзе складацца із іншых элементаў, чым багацце бацькоў.

Такім чынам, як толькі вы пазбавіце землеўладальнікаў іхнай вялізнай зацікаўленасьці ў захаванні зямлі, што абумоўлена іхнымі пачуццямі, успамінамі, гонарам і славалюбствам, можна быць цалкам упэўненымі ў тым, што рана ці позна яны прададуць свае ўладанні; іх будзе схіляць да продажу зямлі немалая фінансавая зацікаўленасць, таму што рухомая маёмасць забяспечвае свайму ўладальніку большыя адзоткі, чым нейкая іншая, і тым самым у большай ступені спрыяе задавальненню штодзённых патрэб і жаданняў чалавека.

Будучы хаця б аднойчы падзеленым, буйное землеўладанне ўжо не аднаўляецца зноў у сваім першапачатковым выглядзе, таму што дробны землеўладальнік атрымлівае, калі параўнаць памеры зямлі і яго прыбыткі, большы прыбытак ад сваёй дзялянкі[66], чым буйны ўласнік ад сваіх уладанняў, таму ён і прадае сваю пляцоўку значна даражэй, чым апошні. Такім чынам, эканамічныя разлікі, заахвоціўшыя заможнага чалавека прадаць свае шырокія зямельныя ўладанні, тым больш не дазволяць яму набываць маленькія пляцоўкі зямлі з мэтай пазьней аднавіць із іх вялікую.

Тое што мае назву пачуццё роду, насамрэч не што іншае, як ганарыстасць. Кожны імкнецца падоўжыць свой род, каб дасягнуць у пэўным сэнсе неўміручасьці, увасобіўшыся ў сваіх нашчадках. Калі пачуццё роду знікае, з асаблівай магутнасьцю праяўляецца эгаізм чалавека. Род успрымаецца як нешта вельмі размытае, няпэўнае і невыразнае, кожны чалавек думае толькі пра ўласны дабрабыт у штодзённым жыцці і пра тое, каб проста нарадзіць нашчадкаў.

Такім чынам, ніхто не клапоціцца пра ўвекавечанне свайго роду, а калі і клапоціцца, то часьцей усяго іншымі сродкамі, чым захаванне зямельнай уласнасьці.

Такім чынам, закон пра ўспадкаванне не толькі робіць цяжкім захаванне ў цэласьці радавых зямельных уладанняў, але і пазбаўляе ўласнікаў нават жадання

---

[66] Я не маю намеру сцвярджаць, што дробны землеўладальнік больш якасна апрацоўвае глебу, але ён робіць гэта больш старанна, кампенсуючы сваёй працай недахоп умення ў апрацоўцы зямлі.

гэта рабіць; ён у пэўнай ступені вымушае іх спрыяць свайму ж уласнаму збядненню.

Закон пра роўны падзел маёмасьці дзейнічае дваякім чынам: уплываючы на ўласнасць, ён непазбежна ўплывае і на чалавека; ўплываючы на чалавека, ён не можа не закрануць і ўласнасць.

Сваім падвойным уплывам закон прыносіць вялізную шкоду інстытуту зямельнай уласнасьці і мае наступствам хуткае знікненне як саміх родаў, так і іхных багаццяў[67].

Нам, французам XIX стагоддзя, пастаянным сведкам палітычных і сацыяльных перамен адбываючыхся ў якасьці выніку дзеяння закона пра ўспадкаванне, не належыць ставіць пад сумнеў яго значэнне. Штодня мы бачым, як гэты закон то тут, то там выяўляе сваё ўздзеянне на нашай зямлі, разбураючы сьцены нашых сядзіб і знішчаючы агароджы вакол нашых палёў. Разам з тым калі адпаведна з законам пра ўспадкаванне і было праведзена нямала спраў у нашай краіне, то наперадзе такіх спраў яшчэ больш. Дзеянню гэтага закона шмат у чым перашкаджаюць нашы ўспаміны, нашы перакананні і нашы звычкі.

У Злучаных Штатах яго разбураючая магутнасць ужо амаль дасягнула сваёй мяжы. І менавіта на прыкладзе гэтай краіны і варта вывучаць асноўныя вынікі ўжывання гэтага закона.

Ангельскае заканадаўства пра перадачу маёмасьці па спадчыне было ліквідавана пад час эпохі рэвалюцыі практычна ва ўсіх паўночнаамерыканскіх штатах.

Закон пра субстытуцыі быў зменены такім чынам, каб практычна ніяк не абцяжарваць вольнае абарачэнне маёмасьці*.

Пайшло першае пакаленне, пачалося раздзяленне земляў. З цягам часу дадзены працэс развіваўся ўсё хутчэй і хутчэй. Сёння, пасьля заканчэння ўсяго толькі шасьцідзесяці гадоў, грамадства зрабілася ўжо зусім непазнавальным; амаль усе сем'і буйных землеўладальнікаў рассыціліся ў агульнай масе насельніцтва. У штаце Нью-Ёрк, дзе ў свой час налічвалася даволі вялікая колькасць буйных землеўладальнікаў, толькі двое прымудрыліся ацалець у гатовым паглынуць іх віры. Дзеці заможных грамадзянаў зрабіліся сёння камерсантамі, адвакатамі, лекарамі. Шмат хто із іх адышлі ў поўны нябыт. Апошнія сьляды высокага грамадзкага становішча і шляхетнасьці, успадкаваных ад продкаў, былі знішчаны; закон пра ўспадкаванне звёў усіх да адзінага ўзроўня.

Гэта зусім не азначае, што ў Злучаных Штатах, ды і ў іншых месцах немагчыма сустрэць заможных сучаснікаў. Наадварот, я, мабыць, нават не ведаю іншай такой краіны, дзе б павага да грошай займала такое трывалае месца ў сэрцах людзей і дзе б адкрыта выказвалася такая глыбокая пагарда да тэорыі пра

---

[67] Дзякуючы таму, што зямля з'яваўляецца самай надзейнай формай уласнасьці, час ад часу з'яваўляюцца заможныя людзі, якія ахвотна гатовы выдаткаваць значную частку сваіх прыбыткаў з тым, каб быць упэўненымі ў астатніх. Аднак падобныя выпадкі з'яваўляюцца выключэннем. Схільнасць да нерухомасьці звычайна сустракаецца ў людзей бедных. Дробныя зямельныя ўласнікі, у якіх менш ведаў, менш фантазіі і менш схільнасьцей у параўнанні з заможнымі ўладальнікамі, звычайна клапоцяцца толькі пра тое, каб пашырыць свае ўладанні, і, такім чынам, часьцяком здараецца, што спадчына, адружанне ці ж поспех у камерцыі паступова расчыняюць перад імі магчымасьці дамагчыся сваёй мэты. Побач з тэндэнцыяй вядучай да таго, што людзі дробняць свае землеўладанні, існуе і іншая тэндэнцыя, якая вядзе да назапашвання зямлі. Дадзеная тэндэнцыя, будучы дастатковай для таго, каб перашкодзіць драбненню зямельных уладанняў да бясконцасьці, між іншым, не з'яваўляецца такой моцнай, каб спрыяць узнікненню буйных уладанняў і тым больш захаванню такіх зямельных уладанняў у руках аднаго роду.

непазбежную маёмасную роўнасць. Аднак багацці абарачаюцца ў гэтай краіне з неверагоднай шпаркасьцю, а досьвед сведчыць пра тое, наколькі рэдка здараецца, каб два пакаленні запар карысталіся прывілеем быць заможнымі.

Гэтая выява, якой бы маляўнічай яна ні была, усё ж дае толькі самае прыблізнае ўяўленне пра тое, што адбываецца ў новых штатах Захаду і Паўднёвага захаду Амерыкі.

Да канца мінулага стагоддзя дзейныя шукальнікі прыгод пачалі пранікаць у даліну Місісіпі. Гэта зрабілася як бы новым адкрыццём Амерыкі, і хутка туды накіравалася вялікая колькасць эмігрантаў; із пустынных неабжытых месцаў пачалі раптам даходзіць паведамленні, што там з’явіліся нейкія невядомыя злучыны. Штаты, якіх не было і ў згадваннях усяго некалькі гадоў таму назад, трывала занялі сваё месца ў амерыканскім Звязе. Менавіта на заходніх тэрыторыях развіццё дэмакратыі дасягнула свайго найвышэйшага узроўню. У гэтых штатах, узнікшых у некаторай ступені дзякуючы волі выпадку, людзі пасяліліся на занятых імі землях зусім нядаўна. Яны былі ледзь знаёмымі адзін з адным, і ніхто не ведаў мінулага свайго самага блізкага суседа. Насельніцтва гэтай часткі Амерыканскага кантынента, такім чынам, пазбегла ўплыву не толькі шляхты ці буйных багацеяў, але і так званай арыстакратыі ад прыроды, то бок людзей, сваім паходжаннем злучаных з асьветай і прыстойнасьцю. Тут ніхто не карыстаўся той вялікай павагай, якая выклікаецца памяццю людзей пра прайшоўшае перад іхнымі вачамі жыццё, прысвечанае служэнню іншых. У новых штатах Захаду існуюць проста жыхары, але грамадства як такое тут пакуль яшчэ не ўтварылася.

Аднак у Амерыцы людзі маюць не толькі аднолькавыя набыткі; яны да вядомай ступені роўныя і ў сваім інтэлектуальным развіцці.

Я не лічу, што недзе ў сьвеце існуюць дзяржавы, дзе сумерна колькасьці насельніцтва сустракалася б так мала поўных невукаў і так жа мала вельмі адукаваных людзей, як на Паўночнаамерыканскім кантыненце.

Пачатковая адукацыя ў гэтай краіне даступна ўсім і кожнаму. Вышэйшая адукацыя не даступная практычна нікому.

Дадзеную сітуацыю лёгка зразумець; яна з’яўляецца непазбежным вынікам усяго таго, пра што гаварылася вышэй.

Амаль усе амерыканцы дастаткова заможныя, таму яны маюць магчымасць лёгка набыць пачатковыя элементы чалавечых ведаў.

Аднак у Амерыцы мала вельмі заможных людзей, дзякуючы чаму практычна ўсе амерыканцы вымушаны займацца нейкай прафесійнай дзейнасьцю. Тым часам кожная прафесія патрабуе папярэдняга навучання. Такім чынам, набыццю агульнаадукацыйных ведаў амерыканцы могуць прысьвячаць толькі першыя некалькі гадоў свайго жыцця: ужо ў пятнаццацігадовым веку яны пачынаюць сваю прафесійную дзейнасць, і, як вынік, атрыманне імі адукацыі завяршаецца часьцей усяго менавіта ў тую ж пару жыцця, калі ў нас яно толькі толькі пачынаецца. Калі ж амерыканец працягвае вучыцца і далей, то часьцей усяго ён засяроджваецца толькі на прадметах вызначаных, ад якіх пазьней будзе магчымым атрымаць выгоду. Ён глядзіць на навуку з выключна дзелавога боку, бяручы із яе толькі тое, што можа прынесьці непасрэдную карысць менавіта зараз.

У Амерыцы большасць сеняшніх заможных людзей былі некалі беднымі; практычна ўсе, хто зараз лайдачыць, пад час юнацтва руплiва працавалі. Таму калі ў чалавека і магла некалі існаваць цяга да ведаў, то ў яго не было часу займацца сваёй адукацыяй, а калі ў яго нарэшце з’явіўся вольны час, то знікла само жаданне.

У Амерыцы цалкам адсутнічае такі пласт людзей, якія маглі б разам з багаццем і магчымасьцю мець вольны час для перадачы ў спадчыну нашчадкам сваё імкненне да ведаў і якія лічылі б за гонар займацца разумовай працай.

Такім чынам, амерыканцы і не жадаюць прысьвячаць сябе гэтай працы, і не маюць магчымасьці ёй займацца.

У гэтых умовах у Злучаных Штатах усталяваўся нейкі сярэдні ўзровень ведаў, да якога ўсе неяк наблізіліся: адны, – падымаючыся да яго, іншыя, – апускаючыся.

У выніку тут можна сустрэць вялізную масу людзей, у якіх склалася амаль аднолькавае разуменне рэлігіі, гісторыі, навук, палітычнай эканоміі, заканадаўства, дзяржаўнага ўладкавання і кіравання.

Розум даецца чалавеку Богам – адзін атрымлівае больш, іншы – менш, – і чалавек не ў стане перамяніць такую няроўнасць; гэта было і будзе заўсёды.

Аднак, як прынамсі бачна са сказанага вышэй, хаця разумовыя здольнасьці людзей адпаведна з воляй Стваральніка і застаюцца неаднолькавымі, людзі разам з тым атрымліваюць роўныя магчымасьці для свайго развіцця.

Такім чынам, у Амерыцы арыстакратычная эліта, будучы вельмі слабой ужо ў момант свайго зараджэння, у наш час калі яшчэ і не знішчана канчаткова, то бясспрэчна паслаблена да такой ступені, што наўрад ці можна казаць пра нейкі яе ўплыў на развіццё падзей у краіне.

Наадварот, час, падзеі і законы стварылі такія ўмовы, у якіх дэмакратычны элемент апынуўся не толькі пераважаючым, але і, так бы мовіць, адзіным. У амерыканскім грамадстве не заўважаецца ні радавога, ні станавага ўплыву, тут нават вельмі рэдка здараецца, каб нейкая асоба мела вагу ў грамадстве на працягу доўгага часу.

Амерыканскае грамадзкае ўладкаванне, такім чынам, уяўляе сабой надзвычай дзіўную з’яву. Ні ў адной краіне сьвету і ніколі на працягу стагоддзяў, памяць пра якія захоўвае гісторыя чалавецтва, не існавала людзей, больш роўных паміж сабой адпаведна са сваім маёмасным становішчам і ўзроўнем свайго інтэлектуальнага развіцця, іншымі словамі – больш цьвёрда стаячых на гэтай зямлі.

## Уплыў англа-амерыканскага грамадзкага ўладкавання на палітычнае жыццё краіны

Зусім няцяжка выказаць здагадку, якім чынам грамадзкае ўладкаванне можа ўплываць на палітычнае жыццё краіны.

Было б цалкам незразумелым, калі б роўнасць, характэрная для розных сфер чалавечага жыцця, не закранула б нарэшце і сьвет палітыкі. Немагчыма ўявіць сабе, каб людзі, роўныя паміж сабой у шмат якіх дачыненнях, у адной нейкай вобласьці заставаліся навечна няроўнымі, таму, натуральна, з часам яны павінны дамагчыся роўнасьці ва ўсім.

Тым часам мне вядома ўсяго два спосабы, якімі можна дасягнуць роўнасьці ў палітычнай сферы: патрэбна ці даць усе правы кожнаму грамадзяніну краіны, ці ж не даваць іх нікому.

Тым із народаў, якія дайшлі да такога ж грамадзкага ўладкавання, якое існуе ў англа-амерыканцаў, выяўляецца надзвычай складана заўважыць нейкую мяжу паміж вярхоўнай уладай, належачай усяму насельніцтву, і аднаасобнай абсалютысцкай уладай.

Наўрад ці варта адмаўляць, што пры апісаным мной вышэй грамадзкім уладкаванні можа з аднолькавай лёгкасьцю існаваць як першы, так і другі вынік.

І сапраўды, існуе нейкае настойлівае і заканамернае імкненне чалавека да такой роўнасьці, якое выклікае ў людзях жаданне стаць моцнымі і паважаемымі ў грамадстве. Гэта жарснае жаданне служыць таму, што нязначныя людзі падымаюцца да узроўня вялікіх. Аднак у чалавечых душах жыве часам і нейкае пераіначанае стаўленне да роўнасьці, калі слабыя жадаюць звесьці моцных да ўласнага узроўню, і людзі хутчэй гатовы пагадзіцца на роўнасць у рабстве, чым на няроўнасць у вольнасьці. Гэта зусім не азначае, што людзі, жывучыя пры дэмакратычным грамадзкім уладкаванні, з лёгкасьцю грэбуюць вольнасьцю; наадварот, ім уласьціва інстынктыўная схільнасць да яе. Аднак здабыццё вольнасьці зусім не з'яваўляецца галоўнай і пастаяннай мэтай іхнага жыцця. Адзінае, што яны паважаюць бязмежна, – дык гэта роўнасць; гэтыя людзі неяк неспадзявана, пад уплывам імгненных імпульсаў, накіроўваюцца да вольнасьці і калі яны ўсё ж не дасягаюць сваёй мэты, то пакорліва скараюцца лёсу; ім нічога не патрэбна, акрамя роўнасьці, і яны хутчэй пагадзіліся б загінуць, чым пазбавіцца яе.

З іншага боку, калі ўсе грамадзяне больш-менш роўныя паміж сабой, ім робіцца складана бараніць сваю незалежнасць ад націску ўлады. Ніхто із іх не з'яўляецца дастаткова моцным, каб паспяхова супрацівіцца паасобку, таму, толькі аб'яднаўшы свае намаганні разам, людзі здольны гарантаваць сабе захаванне вольнасьці. Аднак падобнае аб'яднанне намаганняў дасягаема далёкае не заўсёды.

Такім чынам, на грунце аднаго і таго ж грамадзкага ўладкавання народы могуць дамагчыся двух асноўных вынікаў: гэтыя вынікі кардынальна адрозніваюцца паміж сабой, але крыніца ў іх адна.

Першымі сутыкнуліся з гэтай апісанай мной небяспечнай альтэрнатывай англа-амерыканцы; яны былі дастаткова шчаслівымі, пазбегнуўшы неабмежаванай, абсалютысцкай улады. Акалічнасьці, паходжанне, адукаванасць і асабліва норавы дазволілі ім заснаваць ў сябе і захаваць вярхоўную ўладу ўсяго народа.

# Глава IV

## Пра прынцып народаўладдзя ў Амерыцы

–Усёахопліваючае панаванне прынцыпа народаўладдзя ў амерыканскім грамадстве. –Ужыванне амерыканцамі дадзенага прынцыпу да рэвалюцыі. –Уплыў рэвалюцыі на развіццё прынцыпа народаўладдзя. –Паступовае і няўхільнае зніжэнне цэнзу.

Разважаючы пра палітычныя законы Злучаных Штатаў, патрэбна неадменна пачаць з канцэпцыі народаўладдзя.

Прынцып народаўладдзя, які ў той ці іншай ступені заўсёды закладзены ў падмурак якіх бы то ні было грамадзкіх інстытутаў, звычайна амаль незаўважаецца. Яму падначальваюцца, хаця яго і не прызнаюць, а калі ўсё ж часам здараецца выняць яго на сьвет божы, то людзі адразу ж спяшаюцца зноў захаваць яго ў змрок свяцілішча.

Воля народа з'яўляецца, мабыць, адным із тых лозунгаў, якім інтрыганы і дэспаты ўсіх часоў і народаў найбольш злоўжывалі. Адны лічылі, што гэтая воля выяўляецца ўхвалай, паходзячай ад асобных прадажных прыслугвачэй улады; іншыя бачылі яе ў галасах зацікаўленай ці баязлівай меншасьці; некаторыя нават лічылі, што воля народа найбольш поўна выяўляецца ў яго маўчанні і што із самога факта яго падпарадкавання нараджаецца іхнае права валадарыць.

У Амерыцы, у адрозненне ад іншых краін, прынцып народаўладдзя праводзіцца ў жыццё адкрыта і плённа. Ён прызнаецца звычаямі краіны, абвяшчаецца ў яе законах, ён вольна эвалюцыянуе і бесперашкодна дасягае сваіх канчатковых мэт.

Калі на сьвеце існуе такая краіна, у якой магчыма па-вартасьці ацаніць прынцып народаўладдзя, дзе можна вывучыць яго ва ўжыванні да грамадзкай дзейнасьці і лічыць як пра яго перавагі, так і пра яго недахопы, то гэтай краінай, бясспрэчна, з’яваўляецца Амерыка.

Як я ўжо паведамляў раней, шматлікія асады Новай Ангельшчыны з моманту іхнага з’яваўлення кіраваліся прынцыпам народаўладдзя. Між тым у той час было яшчэ вельмі далёка да таго, каб гэты прынцып стаў такім дамінуючым у кіраванні краінай, як гэта мае месца зараз.

Дзьве перашкоды – адна із іх знешняя, другая ўнутраная – стрымлівалі яго ўсёахопліваючае паступальнае развіццё.

Прынцып народаўладдзя не мог адкрыта з’явіцца ў законах, таму што асады яшчэ працягвалі фармальна падначальвацца метраполіі, і яго былі вымушаны хаваць, абвяшчаючы толькі на правінцыйных сходах і галоўным чынам у злучынах, дзе ён такім шляхам развіваўся таемна.

Амерыканскае грамадства таго часу яшчэ не было дастаткова падрыхтаваным да таго, каб прыняць гэты прынцып з усімі вынікаючымі наступствамі. Асьвечаныя людзі ў Новай Ангельшчыне і заможныя грамадзяне ў штатах, размешчаных на поўдзень ад Гудзона, на працягу доўгага часу выяўлялі, як гэта ўжо было апісана мной у папярэдняй главе, свайго роду арыстакратычны ўплыў на грамадства, накіраваны на засяроджванне ўсёй улады ў руках адзінак. Яшчэ далёка было да таго часу, калі ўсе грамадзкія службовыя асобы пачалі абірацца, а ўсе грамадзяне лічыліся выбіраючымі. Выбарчае права было паўсюдна абмежавана вызначанымі рамкамі і пэўным выбарчым цэнзам. Дадзены цэнз вельмі мала ўжываўся на Поўначы і значна больш – на Поўдні.

Успыхнула Амерыканская рэвалюцыя. Прынцып народаўладдзя выйшаў за межы злучыны і пашырыўся на сферу дзейнасьці ўрада; усе станы пайшлі на саступкі дзеля ўрачыстасьці гэтага прынцыпу; у імя яго ваявалі і перамагалі; ён стаў нарэшце законам законаў.

Усярэдзіне амерыканскага грамадства так жа адбываліся хуткія змены. Закон пра ўспадкаванне завяршыў знішчэнне мясцовага ўплыву.

Да таго часу, калі ўплыў законаў і вынікі рэвалюцыі сталі памаленьку відавочнымі для ўсяго грамадства, дэмакратыя ўжо здабыла безумоўную перамогу. Дэмакратыя перамагла на справе, захапіўшы ўладу ў свае рукі. Супраць яе не дазвалялася нават весьці змаганне. Вышэйшыя станы падначаліліся ёй пакорліва і без супраціўлення, як злу, зрабіўшамуся пачынаючы з гэтага часу непазбежным. З імі адбылося тое, што здараецца звычайна з тымі, хто губляе сваю магутнасць: на першы план выходзяць чыста эгаістычныя зацікаўленасьці кожнага ў асобнасьці, а дзякуючы таму што ўладу ўжо немагчыма вырваць із рук народа і таму што масы не выклікаюць у іх такой глыбокай нянавісьці, каб не падначальвацца ім, пагэтаму яны прымаюць рашэнне дамагчыся чаго б гэта ні каштавала прыхільнасьці народу. У выніку самыя дэмакратычныя законы адзін за адным былі пастаўлены на галасаванне і ўхвалены тымі самымі людзьмі, чые зацікаўленасьці больш усяго пакутавалі ад гэтых законаў. Дзейнічаючы такім чынам, вышэйшыя станы не абудзілі супраць сябе народнага гневу; наадварот, яны самі паскорылі ўрачыстасць

новага ўладкавання. І – дзіўная справа! – дэмакратычны парыў больш усяго нястрымана праявіўся ў тых штатах, дзе арыстакратыя пусьціла найбольш глыбокія карані.

Штат Мэрыленд, заснаваны ў свой час шляхетнымі дваранамі, першым абвясьціў усеагульнае выбарчае права[68] і ўвёў у сістэму кіравання штатам дэмакратычныя формы.

Калі нейкі народ спрабуе перамяніць дзейнічаючы ў краіне выбарчы цэнз, можна выказаць здагадку, што рана ці позна ён скасуе яго цалкам. Такім з’яўляецца адно із нязменных правіл жыцця якога б то ні было грамадства. Чым больш пашыраюцца выбарчыя правы грамадзянаў, тэм узнікае большая патрэба ў іхным далейшым пашырэнні, таму што пасьля кожнай новай саступкі магутнасць дэмакратыі нарастае і адначасова з умацаваннем новай улады ўзрастаюць і яе патрабаванні. Чым больш людзей атрымлівае права выбіраць, тым мацнейшым робіцца жаданне тых, хто яшчэ абмежаваны выбарчым цэнзам, набыць гэтае права. Выключэнне робіцца, нарэшце, правілам, саступкі ідуць адна за другой, і працэс развіваецца да таго часу, пакуль не ўводзіцца ўсеагульнае выбарчае права.

У нашы дні прынцып народаўладдзя так шырока ўвасабляецца ў жыццё ў Злучаных Штатах, наколькі гэта толькі можна сабе ўявіць. Ён быў вычышчаны ад разнастайных прыдумак, стварыць вакол яго ў іншых краінах; паступова, у залежнасьці ад акалічнасьцей, ён пачынае выяўляцца ў самых разнастайных формах: то народ у поўным складзе, як гэта было ў Афінах, сам усталёўвае законы; то дэпутаты, абраныя на падставе ўсеагульнага выбарчага права, прадстаўляюць гэты народ і дзейнічаюць ад яго імя і пад яго непасрэдным кантролем.

Існуюць такія краіны, у якіх улада, знаходзячыся як бы па-за грамадзкім арганізмам, уплывае на яго і вымушае яго распрацоўвацца згодна з тым ці іншым накірункам.

Існуюць таксама і іншыя краіны, дзе ўлада падзелена і знаходзіцца часткова ў руках грамадства, а часткова – па-за ім. Нічога падобнага ў Злучаных Штатах вы не пабачыце; грамадства тут дзейнічае цалкам самастойна, кіруючы сабой самастойна. Улада выходзіць выключна ад яго; практычна немагчыма сустрэць чалавека, які адважыўся б уявіць і асабліва выказаць меркаванне пра тое, каб шукаць яе ў іншым месцы. Народ бярэ ўдзел у стварэнні законаў, абіраючы заканадаўцаў; бярэ ўдзел ён і ў правядзенні гэтых законаў у жыццё – шляхам абрання прадстаўнікоў выканаўчай улады. Можна сказаць, што народ сам кіруе краінай, таму што правы, перададзеныя ўраду, вельмі нязначныя і абмежаваныя; урад увесь час адчувае сваю спрадвечную сувязь з народам і падпарадкоўваецца той магутнасьці, якая яго стварыла. Народ пануе ў сьвеце амерыканскай палітыкі нібы Пан Бог у Сусьвеце. Ён – пачатак і канец усяму існуючаму, усё выходзіць ад яго і ўсё вяртаецца да яго.

# ГлаваV

## Патрэба вывучыць адбываючаяся ў асобных штатах, перш чым перайсьці да апісання кіравання ўсім звязам

[68] Папраўкі да канстытуцыі штата Мэрыленд, зробленыя ў 1801 і ў 1809 гадах.

У дадзенай частцы мяркуецца вызначыць, якой з’яўляецца тая форма кіравання, якая ўсталявалася ў Амерыцы на падставе прынцыпу народаўладдзя, разгледзець уласцівыя ёй сродкі ўплыву, яе цяжкасьці, перавагі і недахопы.

Першы недахоп складаецца ў наступным: уладкаванне Злучаных Штатаў надзвычай складанае; у гэтай краіне адначасова існуюць два розныя грамадствы, якія, калі можна так выказацца, уціснуты адно ў другое. І мы бачым тут два ўрады, цалкам аддзеленыя адзін ад аднаго і практычна незалежныя: адзін із іх мае самы звычайны характар, ён мае вельмі шырокія функцыі і забяспечвае задавальненне патрэб грамадства; тады як другі – асобны, сфера яго дзейнасьці абмежавана і ахаплівае толькі самыя агульныя зацікаўленасьці ўсёй краіны. Адным словам, гэта дваццаць чатыры невялікія сувярэнныя штаты, складаючыя адзін вялікі Звяз.

Разглядаць Звяз у цэлым, не вывучыўшы як след асобныя штаты, – гэта азначае ступіць на шлях са шматлікімі перашкодамі. Форма федэральнага кіравання Злучанымі Штатамі з’явілася на сьвет апошняй; яна з’яўляецца не чым іншым, як асобнікам рэспублікі, увабраўшай у сябе ўсе палітычныя прынцыпы пашырыўшыяся ў грамадстве яшчэ да яе ўзнікнення і працягваючыя існаваць незалежна ад яе. Федэральны ўрад, як я толькі што сказаў, усяго толькі выключэнне, тады як урад штата – з’ява звычайная. Пісьменнік, які пажадаў бы апісаць агульны выгляд падобнай выявы, не абмаляваўшы перш яе пэўных дэталяў, няўхільна запаў бы ў нявызначанасць ці ў паўторы.

Вялікія палітычныя прынцыпы, ляжачыя у падставе сістэмы кіравання сучаснай Амерыкі, узніклі і атрымалі сваё развіццё ў рамках штата – сумнявацца ў гэтым не даводзіцца. Такім чынам, каб знайсьці ключ да разумення ўсяго цэлага, варта разгледзець сістэму кіравання штата як такога.

Штаты, складаючыя ў наш час амерыканскі Звяз, маюць у тым, што мае дачыненне да іхнага бачнага ўладкавання, нейкую агульнасць характарыстык. Іх палітычнае і адміністрацыйнае жыццё засяроджана ў трох асноўных цэнтрах дзейнасьці, якія можна было б параўнаць з рознымі цэнтрамі нярвовай сістэмы, кіруючымі рухамі чалавечага цела.

На першым узроўні знаходзіцца злучына, далей – акруга і, нарэшце, – штат.

## Злучынная сістэма ў Амерыцы

–Нагоды, падахвочваючыя аўтара пачаць разгляданне палітычных інстытутаў са злучыны. –Злучына сустракаецца ва ўсіх народаў. –Цяжкасьці ўсталявання і захавання злучыннай свабоды. –Яе значэнне. –Нагоды, згодна з якімі галоўных аб’ектам аналізу злучыннага ўладкавання аўтар абраў штаты Новай Ангельшчыны.

Я не выпадкова пачаў дасьледаванне палітычных інстытутаў Злучаных Штатаў са злучыны.

Злучына з’яўляецца тым адзіным аб’яднаннем, якое так добра адпавядае самой прыродзе чалавека, таму што паўсюдна, дзе б ні збіраліся людзі разам, злучына ўзнікае як бы сама сабой.

Такім чынам, злучыннае ўладкаванне існуе ва ўсіх народаў, незалежна ад іхных звычаяў і законаў. Існуюць каралеўствы і рэспублікі, ствараемыя чалавекам; злучына ж, здаецца, выходзіць непасрэдна із рук Боскіх. І хаця злучына існуе пачынаючы з тых часоў, як з’явіліся людзі, злучынная свабода застаецца нечым рэдкім і далікатным. Краіна заўсёды ў стане стварыць вялікія палітычныя арганізмы, таму што звычайна знаходзіцца вызначаная колькасць людзей, асвечанасць якіх да вядомай ступені здольна замяніць досьвед у справах. Злучына

ж складаецца із элементаў грубейшых, часьцяком не паддаючыхся ўплыву заканадаўцы. Цяжкасьці ва ўсталяванні незалежнасьці злучыны, замест таго каб скарачацца па меры ўзрастання адукаванасьці народаў, наадварот, павялічваюцца. Найбольш цывілізаванае грамадства з цяжкасьцю пераносіць спробы злучыны дамагчыся незалежнасьці; яно паўстае, сутыкаючыся са шматлікімі праблемамі, і прыходзіць у поўную роспач, зняверыўшыся ў поспеху значна раней, чым дасягне канчатковага выніку.

У шэрагу ўсіх іншых відаў незалежнасьці незалежнасць злучыны, якая так цяжка зацьверджваецца, больш усіх схільна да ўмяшання ў яе справы ўлады. Самі па сабе інстытуты злучыннай улады цалкам няздольны супрацьстаяць моцнаму і дзейнаму ўраду; для таго каб паспяхова абараняць сябе ім патрэбна ўсебакова развівацца і ўспрымаць тыя погляды і звычаі, якія пашыраны па ўсёй краіне. Такім чынам, да таго часу пакуль незалежнасць злучыны не пашырыцца да ўзроўня звычаю ў грамадстве, яе можна без цяжкасьцей скасаваць, а стаць звычайнай для грамадства яна можа толькі пасьля таго, як доўгі час праіснуе ў законах.

Такім чынам, злучынная свабода не паддаецца, калі так можна выказацца, намаганням людзей. Таму вельмі рэдкімі з’яўляюцца выпадкі, калі незалежнасць злучыны ўсталёўваецца людзьмі: яна ўзнікае нібы сама па сабе і развіваецца амаль непрыкметна ў нетрах напаловудзікага грамадства. І толькі пры бесперапынным уплыве законаў звычаяў і акалічнасьцей і асабліва часу яе атрымліваецца нарэшце ўмацаваць. Можна сцьвярджаць, што ніводзін із народаў Еўрапейскага кантыненту не ведае, што такое незалежнасць злучыны.

Тым часам, менавіта ў злучыне заключаецца магутнасць вольных народаў. Злучынныя інстытуты маюць для ўсталявання незалежнасьці тую ж ролю, як і пачатковыя школы для навукі; яны адчыняюць народу шлях да сабоды і вучаць яго карыстацца гэтай свабодай, цешыцца яе мірным характарам. Без злучынных інстытутаў нацыя можа сфармаваць свабодны ўрад, аднак сапраўднага духу свободы яна так і не набудзе. Хуткачасовыя жарсьці, хвілінныя зацікаўленасьці, выпадковыя акалічнасьці могуць стварыць толькі бачнасць незалежнасьці, аднак дэспатызм, загнаны ўсярэдзіну грамадзкага арганізма, рана ці позна зноў з’явіцца на паверхні.

Для таго каб зрабіць відавочна зразумелымі для чытача тыя агульныя прынцыпы, на якіх грунтуецца палітычнае ўладкаванне злучыны і акругі ў Злучаных Штатах, я лічу карысным узяць за ўзор нейкі штат, падрабязна разгледзець усё тое, што там адбываецца, і потым даць беглы агляд у цэлым па ўсёй краіне.

Для гэтай мэты я абраў адзін са штатаў Новай Ангельшчыны.

Злучына і акруга ў розных частках Звязу ўладкаваны па-рознаму, хаця лёгка заўважыць, што ў межах усёй дзяржавы ў падставе ўтварэння як злучыны, так і акругі ляжалі больш-менш падобныя прынцыпы.

Аднак, як мне здаецца, у Новай Ангельшчыне гэтыя прынцыпы набылі самае вялікае развіццё і прывялі да больш глыбокіх вынікаў, чым дзе б там ні было. Яны выяўляюцца тут трохі больш рэльефна, калі можна так выказацца, і таму назіральніку з боку іх лягчэй разгледзець.

Злучынныя інстытуты Новай Ангельшчыны ўяўляюць сабой стройную і закончаную сістэму; яны маюць даўнюю гісторыю; яны здабываюць сваю магутнасць ў законах і, у яшчэ большай ступені, у звычаях; яны выказваюць вельмі значны ўплыў на ўсё грамадства ў цэлым.

Адпаведна з ўсімі гэтымі нагодамі яны заслугоўваюць нашай самай пільнай увагі.

## Памеры злучыны

Злучына Новай Ангельшчыны (Township) з’яваўляецца нечым сярэднім паміж кантонам і камунай у Францыі. Звычайна ў такой злучыне налічваецца ад двух да трох тысяч жыхароў[69], такім чынам, з аднаго боку, яна не так вялікая, каб зацікаўленасьці яе жыхароў занадта адрозніваліся, а з іншага боку, злучына дастаткова густа населена, так што тут заўсёды можна знайсьці людзей, здольных кіраваць ёю.

## Злучынныя ўлады у Новай Ангельшчыне

–У злучыне, як і ўсюды, народ – крыніца ўсёй улады. –У межах злучыны народ самастойна вырашае ўсе свае асноўныя праблемы. –Адсутнасць муніцыпальнай рады. –Самая вялікая доля злучыннай улады засяроджана ў руках абіраемых асоб (select-men). –Дзейнасць абіраемых асоб. –Агульны сход жыхароў злучыны (Town-Meeting). –Пералік усіх пасад існых у злучыне. –Абавязковыя функцыі і функцыі аплочваемыя.

У злучыне, як, дарэчы, і паўсюль, народ з’яваўляецца крыніцай улады ў грамадстве, аднак больш непасрэдна, чым у злучыне, ён нідзе не ажыццяўляе сваю ўладу. У Амерыцы народ з’яўляецца гаспадаром, якому варта падпарадкоўвацца ў той меры, у якой толькі гэта магчыма.

У Новай Ангельшчыне пры абмяркаванні спраў, маючых дачыненне да ўсяго штата, большасць дзейнічае праз прадстаўнікоў. Такі парадак дыктуецца патрэбай. Аднак у злучынах, дзе заканадаўчая і выканаўчая ўлады максімальна набліжаны да насельніцтва, прынцып прадстаўніцтва цалкам не выкарыстоўваецца. Тут не існуе муніцыпальнай рады; корпус выбарцаў пасьля прызначэння службовых асоб злучыны сам накіроўвае іхную дзейнасць ва ўсім, што не падначалена законам штата, якія выконваюцца злучыннымі ўладамі прама і безагаворачна[70].

Падобнае ўпарадкаванне настолькі несумяшчальна з нашымі ўяўленнямі і ў такой ступені супярэчыць нашым звычаям, што тут патрэбна прывесьці некалькі прыкладаў, каб зрабіць яго па магчымасьці больш зразумелым.

У злучыне існуе шмат самых разнастайных пасад, характэрнай асаблівасьцю якіх з’яваўляецца вузкая спецыялізацыя, драбненне функцый, у чым мы зможам пераканацца ніжэй. Разам з тым значная доля выканаўчай улады засяроджана ў руках некалькіх штогадова абіраемых сябраў гарадзкога кіравання, маючых назву select-men[71].

---

[69] У 1830 годзе ў штаце Масачусетс існавала 305 злучын, а колькасць жыхароў складала 610 014 чалавек, такім чынам, на кожную злучыну прыпадала 2000 жыхароў.

[70] Гэтыя правілы немагчыма прыстасаваць у дачыненні да вялікіх згодна са сваімі памерамі злучын. Вялікія злучыны звычайна маюць мэра і двухпалатную муніцыпальную раду. Аднак падобнае ўладкаванне з’яваўляецца выключэннем і павінна быць дазволена ў заканадаўчым парадку. Гл. закон ад 22 лютага 1822 года, рэгулюючы адпраўленне ўлады ў горадзе Бостане. Законы Масачусетса, т. II, с. 588. Гэта мае дачыненне толькі да буйных гарадоў. Разам з тым нярэдка здараецца, што і ў маленькіх гарадах існуе асобная сістэма кіравання. У 1832 годзе ў штаце Нью-Ёрк налічвалася 104 злучыны, якія мелі асобнае кіраванне («Даведнік» Уільямса).

[71] У маленькіх злучынах абіраецца тры сябры гарадзкога кіравання, у самых буйных – дзевяць чалавек. Гл.: «Службовая асоба гарадзкога кіравання», а таксама асноўныя законы штата Масачусетс, маючыя дачыненне да выбарных асоб: закон ад 20 лютага 1786 года, т. I, с. 219; ад 24 лютага 1796 года, т. I, с. 488; ад 7 сакавіка

Законы штата ўскладаюць на гэтых абарных асоб вызначанае кола абавязкаў. Для іх выканання яны не павінны прасіць дазвол у сваіх выбарцаў, але ўхіленне ад выканання абавязкаў ляжыць на асабістай адказнасьці выбраных асоб. Так, напрыклад, адзін із законаў штата ставіць ім у абавязак складанне спісаў выбарцаў у сваіх злучынах. Калі ж яны не робяць гэтага, то лічацца вінаватымі ў парушэнні права. Аднак ва ўсіх справах, якія знаходзяцца ў выключным веданні злучынных улад, сябры гарадзкога кіравання з'яваўляюцца выканаўцамі волі народа, падобна таму як, скажам, у нас існуе мэр, выконваючы рашэнні прынімаемыя муніцыпальнай радай. Часьцей усяго яны дзейнічаюць пад сваю асабістую адказнасць і ў большасьці выпадкаў выконваюць свае абавязкі, непасрэдна кіруючыся тымі прынцыпамі, якія былі раней ухвалены. Але як толькі яны пажадаюць унесьці тую ці іншую перамену ў склаўшыся парадак ці адважацца пачаць нешта новае, яны абавязаны звярнуцца за дазволам да народа – крыніцы сваёй улады. Будзем лічыць, што гаворка ідзе пра стварэнне новай школы. На прызначаны дзень сябры гарадзкога кіравання склікаюць у загадзя прызначаным месцы ўсіх выбарцаў. На гэтым сходзе яны паведамляюць прысутным пра ўзнікшую патрэбу ў школе, потым прапануюць, якім чынам гэта можна ажыццявіць, вызначаюць, колькі на гэта запатрабуецца грошай, а таксама паказваюць месца, якое яны прызначымі для будучага будынка. Сход, абмеркаваўшы ўсё падрабязна, прымае прапанову ў цэлым, зацьвердвае месцазнаходжанне будучай школы, вызначае памеры падатку і зноў даручае выкананне сваёй волі сябрам гарадзкога кіравання.

Сход злучыны (town-meeting) можа збірацца толькі сябрамі гарадзкога кіравання, аднак да іх можна звярнуцца з прашэннем пра яго скліканне. Калі дзесяць уласнікаў складаюць новы праект і маюць жаданне падаць яго на ўхваленне злучыны, то перадусім яны просяць склікання ўсіх жыхароў злучыны, і сябры гарадзкога кіравання абавязаны падначаліцца гэтаму патрабаванню; за імі захоўваецца толькі права старшынства на сходзе[72].

Падобныя звычаі ў палітыцы і ў грамадзкім жыцці, безумоўна, вельмі далёкія ад нашых. У дадзены момант я не збіраюся ні даваць ім сваю ацэнку, ні тлумачыць схаваныя нагоды, спараджаючыя іх і падтрымліваючыя, – абмяжуюся толькі іхным апісаннем.

Сябры гарадзкога кіравання штогадова абіраюцца ў красавіку ці ў траўні месяцы. У гэты ж час сход злучыны абірае шмат іншых муніцыпальных урадоўцаў[73], на якіх ускладаюцца вельмі важныя адміністрацыйныя абавязкі. Адны, маючыя назву асэсары, павінны прызначаць памеры падаткаў; на іншых – зборшчыкаў – ускладаецца абавязак спагнання гэтыя падаткаў. Афіцэр, маючы назву канстэбль, выконвае паліцэйскія абавязкі; ён назірае за парадкам у грамадзкіх месцах і дапамагае выкананню законаў. Сакратар гарадзкога кіравання вядзе пратаколы сходаў, рэгіструе ўсе справы злучыны і складае акты грамадзянскага стану. Скарбнік захоўвае грашовыя фонды злучыны. Дадайце да гэтых урадоўцаў таксама і апекуна немаёмасных, у надзвычай складаныя абавязкі якога ўваходзіць прывядзенне ў выкананне законаў, маючых дачыненне да немаёмасных; упаўнаважаных па справах школ і грамадзкай адукацыі; інспектароў

---

1801 года, т. I, с. 45; ад 16 чэрвеня 1795 года, т. I, с. 475; ад 12 сакавіка 1808 года, т. II, с. 186; ад 28 лютага 1787 года, т. I, с.302; ад 22 чэрвеня 1797 года, т. I, с. 539.

[72] Гл.: Законы Масачусетс, т. I, с. 150, закон ад 15 сакавіка 1786 года.

[73] Там жа.

дарог, наглядаюць за станам вялікіх і малых шляхоў спалучэнняў, – і вы атрымаеце поўны спіс адміністрацыйных урадоўцаў. Аднак падзел функцый на гэтым не заканчваецца: сярод муніцыпальных службовых асоб[74] сустракаюцца яшчэ і прыходзкія ўпаўнаважаныя, на абавязку якіх знаходзіцца вызначэнне выдаткаў на выкананне рэлігійных звычаяў; разнастайныя інспектары, якія павінны кіраваць дзеяннямі жыхароў у выпадку пажару ці ж назіраць за зборам ураджаю, ці ж назіраць за правільнасьцю правядзення межаў паміж уладаннямі і вырашаць узнікаючыя час ад часу спрэчкі ў гэтай вобласьці, ці ж, нарэшце, наглядаць за праўдзівым абмерам лясоў і інспектаваць выкананне шаляў і мер.

Усяго ў злучыне налічваецца дзевятнаццаць асноўных пасад. Кожны жыхар злучыны пад пагрозай штрафу абавязаны браць на сябе выкананне гэтых абавязкаў, але большасць із іх аплочваецца, з тым, каб немаёмасныя грамадзяне былі ў стане выдаткаваць дзеля выканання гэтых абавязкаў свой час без страт для сябе. Дарэчы, згодна з амерыканскай сістэмай, выплочванне фіксаванага пенсіёну ўрадаўцам не прадугледжваецца. Кожная службовая асоба мае сваю аплату, і, такім чынам, урадоўцы атрымліваюць узнагароду адпаведна са сваімі высілкамі пры выкананні сваёй працы.

## Жыццё злучыны

–Кожны чалавек з’яўляецца лепшым суддзёй у тым, што мае дачыненне да яго аднаго. – Непазбежны вынік ажыццяўлення прынцыпу народаўладдзя. –Ажыццяўленне дадзеных прынцыпаў у амерыканскіх злучынах. – Злучына Новай Ангельшчыны абсалютна самастойная ва ўсіх справах маючых дачыненне да яе асабістых спраў і падначалена штату ва ўсіх астатніх сферах. –Абавязкі злучыны ў дачыненні да штата. –У Францыі ўрад накіроўвае сваіх урадоўцаў у злучыны. –У Амерыцы злучына выкарыстоўвае сваіх урадоўцаў у агульнадзяржаўных мэтах.

Раней я ўжо паведамляў пра тое, што ўся англа-амерыканская палітычная сістэма пабудавана на прынцыпе народаўладдзя. На кожнай старонцы гэтай кнігі будуць апісаны ўсе новыя і новыя сферы ўжывання гэтай дактрыны.

У краінах, дзе пануе прынцып народаўладдзя, кожны чалавек валодае роўнай доляй гэтай улады і кожны ў аднолькавай ступені бярэ ўдзел у кіраванні дзяржавай.

Такім чынам, лічыцца, што кожны чалавек з’яваўляецца такім жа асьвечаным, такім жа ўчынным і такім жа моцным, наколькі і іншыя, яму падобныя.

Чаму ж у такім разе ён падначальваецца грамадству і дзе знаходзяцца натуральныя межы падобнага падпарадкавання?

Ён падначальваецца грамадству зусім не таму, што менш чым іншыя здольны кіраваць дзяржаўнымі справамі, і не таму, што менш чым іншыя здольны кіраваць самім сабой, – ён падпарадкоўваецца грамадству таму, што прызнае для сябе карысным хаўрус з сабе падобнымі і разумее, што дадзены хаўрус не можа існаваць без улады, падтрымліваючай парадак.

Такім чынам, ва ўсім тым, што мае дачыненне да ўзаемных абавязкаў грамадзянаў у дачыненні адзін да аднаго, ён выяўляецца ў становішчы падначаленага. Аднак ва ўсім тым, што мае дачыненне толькі да яго самога, ён

[74] Усе гэтыя службовыя асобы рэальна існуюць у паўсядзённым жыцці злучыны. Каб больш падрабязна азнаёміцца з функцыямі гэтых урадоўцаў гл. кнігу «Службовая асоба гарадзкога кіравання», напісаную Айзэкам Гудзьвінам і выдадзеную ў Вустэры ў 1827 годзе, а таксама збор агульных законаў штата Масачусетс у трох тамах. Бостан, 1823 год.

застаецца поўнаўладным гаспадаром: ён вольны і абавязаны даваць справаздачу ў сваіх учынках толькі перад Богам. Адсюль вынікае правіла, што кожны чалавек з'яўляецца лепшым і адзіным суддзёй у тым, што мае дачыненне да яго ўласных зацікаўленасьцей і што грамадства толькі тады мае права накіроўваць яго дзейнасць, калі гэтымі дзеяннямі ён у стане пашкодзіць грамадству, ці ж у тым выпадку, калі грамадства вымушана звяртацца за дапамогай да гэтага чалавека.

У Злучаных Штатах дадзеная канцэпцыя прынята паўсюдна. Далей я буду паведамляць пра той шырокі ўплыў, які выказвае гэтая канцэпцыя нават на самыя звычайныя ўчынкі чалавека. Ну а пакуль працягнем размову пра злучыну.

Злучына, разглядаемая ў цэлым, а таксама ў дачыненні да цэнтральнага ўрада, з'яўляецца не больш чым звычайнай адзінкай, пагэтаму да яе таксама можа быць выкарыстана апісаная мной вышэй тэорыя.

Такім чынам, незалежнасць злучыны ў Злучаных Штатах лагічна вынікае із самога прынцыпу народаўладдзя; усе амерыканскія рэспублікі ў той ці іншай ступені прызналі гэтую незалежнасць, аднак у штатах Новай Ангельшчыны абставіны выявіліся асабліва спрыяльнымі для яе развіцця.

У гэтай частцы Звязу палітычнае жыццё ўзнікла непасрэдна ў межах самой злучыны; з некаторымі абмоўкамі можна было б сцвярджаць, што з моманту сваёго стварэння кожная із дадзеных злучын уяўляла сабой незалежную нацыю. Калі пазьней ангельскія каралі запатрабавалі сваю долю вярхоўнай улады ў амерыканскіх асадах, яны абмежаваліся тым, што засяродзілі ў сваіх руках толькі цэнтральную ўладу. Яны пакінулі злучыну некранутай. Зараз злучыны Новай Ангельшчыны знаходзяцца ў падначаленым становішчы, аднак спачатку яны не падначальваліся нікому ці ж калі і падначальваліся, то вельмі нязначна. Такім чынам, яны не атрымалі ўладу звонку; наадварот, яны самі як бы саступілі частку сваёй незалежнасьці штату. Гэта вельмі важная акалічнасць, якую чытач павінен заўсёды мець на ўвазе.

Злучына толькі тады падначальваецца штату, калі гаворка ідзе пра такую зацікаўленасць, якую я б назваў грамадзкай, што азначае калі справа мае дачыненне не толькі да яе самой, але таксама і да іншых злучын.

Ва ўсім жа, што мае дачыненне непасрэдна да самой злучыны, яна па-ранейшаму застаецца незалежнай адзінкай, і сярод жыхароў Новай Ангельшчыны наўрад ці знойдзецца хаця б адзін чалавек, які прызнаваў бы за ўрадам штата права браць удзел у кіраванні справамі маючымі дачыненне выключна да злучыны.

Мы бачым, што злучыны Новай Ангельшчыны займаюцца купляннем і продажам уласнасьці, падаюць позвы і бароняцца ў судах, павялічваюць ці ж памяншаюць памеры свайго бюджэту, і ніякая іншая адміністрацыйная ўлада нават і не падумае гэтаму перашкаджаць[75].

Што ж мае дачыненне да абавязкаў, агульных для ўсяго штата, то злучыны абавязаны іх выконваць. Так, напрыклад, калі штат мае патрэбу ў грошах, то злучына не вольная вырашаць, дапамагаць яму ці адмовіць у такой дапамозе[76]. Калі штат мае намер правесьці новую дарогу, то злучына не мае права пратэставаць супраць яе правядзення праз сваю тэрыторыю. Калі паліцыяй усталёўваецца тое ці іншае новае правіла, то злучына павінна ўвесьці яго і ў сябе. Калі штат мае намер арганізаваць школьнае навучанне адпаведна з адзіным планам на ўсёй сваёй

---

[75] Гл.: Законы Масачусетс, закон ад 23 сакавіка 1786 года, т. I, с. 250.

[76] Там жа, закон ад 20 лютага 1786 года, т.1, с.217

тэрыторыі, то злучына абавязана ствараць вызначаныя законам школы[77]. Калі гаворка пойдзе пра сістэму кіравання ў Злучаных Штатах у цэлым, мы пабачым, хто і як у самых розных выпадках вымушае злучыны падначальвацца. А тут я проста маю намер пазначыць, што ў злучыны ёсць вызначаныя абавязкі. Гэтыя абавязкі вельмі абмежаваны, аднак урад штата, накладаючы іх, усяго толькі ўсталёўвае сам прынцып стасункаў; што ж да непасрэднага выканання дадзеных абавязкаў, то тут злучына зноў ужо уступае ў свае ўласныя правы. Так, напрыклад, памер падаткаў сапраўды вызначаецца заканадаўчым сходам штата, аднак усталёўвае іх і спаганяе сама злучына; наяўнасць школы з'яўляецца абавязковай умовай, аднак менавіта злучына будуе, аплочвае будаўніцтва і кіруе гэтай школай.

У Францыі зборшчык падаткаў прызначаецца дзяржавай, каб спаганяць злучынныя падаткі; у Амерыцы ж зборшчык падаткаў прызначаецца злучынай, але спаганяе падаткі для дзяржавы.

Такім чынам, у нас цэнтральны ўрад выпраўляе сваіх урадаўцаў у злучыну, тады як у Амерыцы злучына выкарыстоўвае сваіх урадаўцаў у агульнадзяржаўных мэтах. Ужо адзін гэты факт сведчыць пра тое, да якой ступені адрозніваюцца паміж сабой гэтыя два грамадствы.

## Злучынны дух у Новай Ангельшчыне

–Чаму злучына Новай Ангельшчыны так шануема тымі, хто ў ёй жыве ? –Чаму ў Яўропе так цяжка ствараюцца злучыны? –Злучынныя правы і абавязкі спрыяючыя зараджэнню злучыннага духу ў Амерыцы. –Разуменне бацькаўшчыны ў Злучаных Штатах выяўляецца значна больш паўным, чым у іншых краінах. –У чым выяўляецца супольны дух у Новай Ангельшчыне. –Спрыяльныя наступствы яго праяўлення ў Новай Ангельшчыне.

У Амерыцы існуюць не толькі злучынныя інстытуты, але таксама і злучынны дух, падтрымліваючы злучыну і надаючы ёй жыватворную магутнасць.

Злучына Новай Ангельшчыны мае дзьве перавагі, якія заўсёды, дзе б з імі ні сустракаліся, выклікаюць жывую зацікаўленасць людзей: гэта – незалежнасць і ўлада. Праўда, сфера дзейнасьці злучыны абмежавана, і яна не ў стане выйсьці за яе межы, але ўсярэдзіне гэтай сферы злучына цалкам вольная ў сваіх дзеяннях. Ужо адна гэтая незалежнасць надае ёй вялікую вагу, нягледзячы на колькасць яе насельніцтва і на памеры занімаёмай ёю тэрыторыі.

Патрэбна памятаць, што людзі звычайна схіляюцца да прымусу. У заваяванай краіне павага да сваёй бацькаўшчыны непазбежна і вельмі хутка слабее. Жыхар Новай Ангельшчыны прывязаны да сваёй злучыны не столькі таму, што ён тут нарадзіўся, колькі таму, што ён бачыць у гэтай злучыне вольную і моцную карпарацыйную структуру, часткай якой ён з'яўляецца і якая заслугоўвае таго, каб прыкласьці намаганні для ўдзелу ў кіраванні ёю.

У Яўропе нярэдка здараецца так, што нават тыя, хто стаіць ва ўладзе, шкадуюць пра адсутнасць злучыннага духу, таму што ўсе прызнаюць той факт, што ён з'яўляецца важным элементам падтрымання грамадзкага парадку і заспакаення; аднак яны не ведаюць, якім шляхам можна стварыць гэты злучынны дух. Яны баяцца, што, зрабіўшы злучыну моцнай і незалежнай і падзяліўшыся з ёю ўладай, яны ў выніку атрымаюць у краіне анархію. Тым часам, забярыце ў злучыны яе магутнасць і незалежнасць, і вы знойдзеце ў ёй толькі кіруемых, але тады ўжо не спадзявайцеся сустрэць тут грамадзян.

---

[77] Там жа, закон ад 25 чэрвеня 1789 года і ад 8 сакавіка 1827 гады, т. I, с. 367 і т. III, с. 179.

Дарэчы, звярніце ўвагу на адну важную дэталь: злучына Новай Ангельшчыны ўладкавана такім чынам, што, выклікаючы ў сэрцах людзей гарачую да сябе прыхільнасць, яна зусім не распальвае славалюбівыя намеры грамадзян.

Урадаўцы акругі не абіраюцца, і іхная ўлада абмежавана. Сам штат мае ўсяго толькі другараднае значэнне; яго існаванне незаўважальнае і ціхае. Знаходзіцца вельмі мала людзей, якія пажадалі б парушыць спакой свайго жыцця і выдаліцца ад таго месца, дзе засяроджаны іхныя непасрэдныя зацікаўленасьці, з тым каб атрымаць права браць удзел у кіраванні справамі штата.

Тыя, хто кіруе федэральным урадам, дасягаюць магутнасьці і пашаны, аднак колькасць людзей, якія маюць магчымасць уплываць на яго дзейнасць, вельмі невялікая. Прэзідэнт – гэта вельмі высокая пасада, якую можна атрымаць толькі ў сталым веку; іншых значных урадавых пасад дасягаюць або дзякуючы волі выпадку, або ўжо пасьля таго, як чалавек уславіўся на нейкай іншай ніве. Дамагчыся гэтых пасад, кіруючыся толькі несціхаючым славалюбствам, немагчыма. Менавіта ў злучыне, дзе ідзе штодзённае жыццё і ўтвараюцца непасрэдныя чалавечыя адносіны, у людзей узнікае імкненне заслужыць павагу атачаючых, з'яўляецца патрэба задаволіць свае сапраўдныя зацікаўленасьці, вымалёўваецца смага ўлады і славы. Жарсьці, так часта парушаючыя спакой грамадства, набываюць тут зусім іншы характар, таму што яны выяўляюцца каля хатняга агменю, як бы ва ўлонні ўласнай сям'і.

Паглядзіце, з якім мастацтвам у амерыканскай злучыне ўсе клапоцяцца пра размяркаванне, калі можна так выказацца, улады для таго, каб зацікавіць як мага больш людзей у справах грамадства. Акрамя таго што самі выбарцы час ад часу займаюцца рознымі пытаннямі кіравання злучынай, існуе шмат разнастайных пасад, шмат разнастайных урадаўцаў, і ўсе яны праяўляюць, у межах сваёй кампетэнцыі, магутную карпарацыю, ад імя якой выступаюць! Як шмат людзей, такім чынам, выкарыстоўваюць ва ўласных мэтах уладу злучыны, будучы ў ёй зацікаўленымі асабіста!

Падзел муніцыпальнай улады, згодна з амерыканскай сістэмай, паміж вялікай колькасьцю грамадзян зусім не выклікае баязні, што ў злучыне ўзнікне зашмат пасад. У Злучаных Штатах справядліва лічаць, што павага да радзімы з'яўляецца свайго роду культам, які людзі тым больш шчыра прызнаюць, чым часьцей яны яго выконваюць.

Такім чынам жыццё злучыны не замірае ні на секунду; яно штодня выяўляецца то ў выкананні таго ці іншага абавязку, то ў выкарыстанні таго ці іншага права. Сталае далучэнне да палітыкі мае наступствам ў грамадстве бесперапынны і паступовы рух актывізуючы яго жыццё, не парушаючы ў той жа час яго спакой.

Нагоды, дзякуючы якім амерыканцы прывязваюцца да таго месца, дзе яны жывуць, падобны на тыя, якія выклікаюць у горцаў павагу да свайго краю. Іх бацькаўшчына мае свае адметнныя асобныя рысы, у яе больш выразнасьці, чым у іншых месцах.

Злучыны Новай Ангельшчыны звычайна жывуць вельмі шчасліва. Злучынныя ўлады, якія яны самі сабе абіраюць, цалкам адпавядаюць іхным уяўленням. Ва ўмовах поўнага спакою і матэрыяльнага дабрабыту, пануючых у Амерыцы, муніцыпальнае жыццё рэдка парушаецца ўзрушэннямі. Вядзенне злучынных спраў не патрабуе асаблівых намаганняў. Акрамя таго, людзі ўжо даўно далучыліся да палітыкі, больш дакладна, яны былі палітычна цалкам адукаванымі

ўжо тады, калі ўпершыню ступілі на гэтую зямлю. У Новай Ангельшчыне падзел на станы ўжо даўно знік нават із самай памяці людзей, таму ў злучыне не існуе такога становішча, калі нейкае згуртаванне імкнецца падначаліць сабе ўсіх астатніх, а калі да асобных людзей выяўляецца несправядлівае стаўленне, то гэта амаль незаўважаецца на фоне ўсеагульнага задавальнення жыццём.

І калі ўстановы кіравання злучынай усё ж робяць прамахі, што, вядома, не так ужо складана заўважыць, то гэтыя прамахі не ўспрымаюцца як нешта вельмі значнае, таму што жыхары злучыны самі стварылі свае ўстановы кіравання і, ганарачыся імі, як бацькі дзецьмі, даруюць ім шмат што, як бы дрэнна яны ні працавалі. Ды і, да таго ж, грамадзянам няма з чым іх параўноўваць. Нават у той час, калі Ангельшчына панавала над усімі асадамі, народ сам грунтоўна вырашаў усе справы маючыя дачыненне да злучыны. Народаўладдзе ў злучыне, такім чынам, не толькі існуе здаўна, але і з'яўляецца асноўным падмуркам самога яе існавання.

Грамадзянін Новай Ангельшчыны прывязваецца да сваёй злучыны таму, што яна моцная і незнішчаемая; ён цікавіцца яе справамі, таму што бярэ ўдзел у яе кіраванні; ён паважае яе таму, што тут яму не даводзіцца жаліцца на свой лёс; ён бачыць у ёй ажыццяўленне сваіх славалюбівых спадзяванняў і надзей; ён бярэ ўдзел у кожным, нават самым дробным здарэнні ў жыцці злучыны, таму што ў гэтай даступнай яму, хай і абмежаванай сферы дзейнасьці ён вучыцца кіраваць грамадствам; ён прызвычваецца да ўсталяванага парадку, які толькі і можа забяспечыць вольнае развіццё грамадства без нейкіх сацыяльных узрушэнняў; ён прасякаецца духам гэтага парадку, набывае да яго густ, пачынае разумець гарманічную структуру ўлады і атрымлівае, нарэшце, яскравае і рэачаіснае ўяўленне пра прыроду сваіх абавязкаў і аб'ём сваіх правоў.

## Пра акругу у Новай Ангельшчыне

–Падабенства акругі ў Новай Ангельшчыне з акругай у Францыі. –Выключна адміністрацыйныя нагоды яе стварэння. –Адсутнасць прадстаўнічых установаў. –Акруга кіруецца прызначанымі, а не абранымі службовымі асобамі.

Амерыканская акруга ў шмат якіх дачыненнях надзвычай падобна на акругу ў Францыі. Як і межы французскай акругі, яе мяжы ўсталёўваліся цалкам адвольна. Яна ўяўляе сабой нейкае адміністрацыйнае ўтварэнне, розныя часткі якога не маюць паміж сабой чым-небудзь абумоўленых сувязей, а жыхароў не родняць з ёю ні іхныя схільнасьці, ні ўспаміны, ні агульнасць уладкавання жыцця. Такім чынам, акруга была створана выключна ў адміністрацыйных мэтах.

Злучына мела занадта абмежаваныя памеры для таго, каб тут можна было выпраўляць правасуддзе. Як вынік, акруга робіцца першым судовым цэнтрам. Кожная акруга мае свой суд[78], шэрыфа, забяспечваючага выкананне судовых рашэнняў, а таксама турму, у якой утрымліваюцца злачынцы.

Злучыны, уключаныя у склад акругі, адчуваюць тыя ці іншыя патрэбы амаль у аднолькавай меры і таму было справай цалкам натуральнай стварэнне нейкага цэнтра ўлады для таго, каб забяспечыць іхнае задавальненне. У Масачусетсе падобная ўлада засяроджана ў руках вызначанага ліку службовых асоб, якіх прызначае губернатар штата са згоды[79] існуючай пры ім рады[80].

---

[78] Гл. закон ад 14 лютага 1821 года. – Законы Масачусетс, т. I, с. 551.

[79] Гл. закон ад 20 лютага 1819 года. – Законы Масачусетс, т. I, с. 494.

[80] Рада, існуючая пры губернатары, з'яўляецца выбіраемай установай.

Улады акругі маюць вельмі абмежаваныя паўнамоцствы, пашыраючыяся толькі на нязначную колькасць загадзя вызначаных выпадкаў. Для кіравання штодзённымі справамі цалкам дастаткова штата і злучыны. У акрузе займаюцца толькі падрыхтоўкай праекта бюджэту ўсёй акругі, які потым зацвярджаецца галасаваннем у заканадаўчым сходзе штата[81]. У Амерыцы не існуе ніякай асамблеі, прама ці ўскосна прадстаўляючай акругу.

Строга кажучы, акруга ў палітычным сэнсе не існуе.

У большасьці амерыканскіх канстытуцый можна заўважыць наяўнасць дваістай тэндэнцыі, якая падахвочвае заканадаўцаў падзяляць выканаўчую ўладу і канцэнтраваць заканадаўчую. Злучына Новай Ангельшчыны мае ўласьцівы толькі ёй жыццёвы падмурак, якога яе немагчыма пазбавіць. У акрузе ж падобнае жыццё давялося б ствараць фіктыўна, у чым не адчувалася аніякай патрэбы: злучыны, аб’яднаныя разам, складаюць штат, які з’яўляецца носьбітам дзяржаўнай улады; па-за злучыннай і дзяржаўнай сферамі дзейнічаюць, калі можна так выказацца, толькі асобістыя магутнасьці.

## Пра кіраванне ў Новай Ангельшчыне

–Дзейнасць выканаўчай улады ў Амерыцы працякае цалкам непрыкметна. –Падставы гэтага. – Еўрапейцы лічаць, што свабоды можна дамагчыся, адняўшы ва ўлады некаторыя із яе правоў; амерыканцы забяспечваюць падзел улады. –Па-сутнасьці, практычна ўсё кіраванне засяроджана ў межах злучыны і размеркавана паміж злучыннымі ўрадаўцамі. –Адсутнасць адміністрацыйнай іерархіі як у самой злучыне, так і ў утварэннях, стаячых над ёю. –Падставы гэтага. –Як усё ж атрымліваецца, што штат кіруецца аднастайна. –Хто валодае правам абавязваць улады злучыны і акругі дзейнічаць у адпаведнасьці з законамі. – Злучэнне выканаўчай і судовай улад. –Вынік пашырэння прынцыпа выбарнасьці на ўсіх службовых асоб. –Міравыя суддзі ў Новай Ангельшчыне. – Кім яны прызначаюцца. –Кіраванне акругай. –Забеспячэнне кіравання злучынамі. –Сесійны суд. –Яго дзейнасць. –Хто перадае справы ў суд. –Права нагляду і права скаргі, ажыццяўляемыя паасобна, як і ўсе іншыя адміністрацыйныя функцыі. –Данос, заахвочваемы выплочваннем даносячаму часткі спаганяемага штрафа.

Еўрапейца, вандруючага па Злучаных Штатах, больш усяго ўражвае адсутнасць таго, што ў нас мае назву ўрад ці адміністрацыя. У Амерыцы існуюць пісаныя законы, выкананне якіх заўважаецца ў штодзённым жыцці. Усё вакол вас знаходзіцца ў бесперапынным руху, аднак нідзе не заўважаецца крыніца гэтага руху. Рука, кіруючая грамадзкім механізмам, нязменна схавана ад вачэй.

Разам з тым, падобна таму як усе людзі для выказвання сваіх думак вымушаны звяртацца да выкарыстання прызначаных граматычных канструкцый і ўтварэнняў мовы, так і ўсе грамадствы, для таго каб існаваць, абавязаны падначальвацца нейкай уладзе, таму што без яе настае анархія. Дадзеная ўлада можа размяркоўвацца самымі рознымі спосабамі, аднак патрэбна, каб яна ўсё ж недзе існавала.

У нацыі існуе два спосабы паслабіць магутнасць ўлады.

Першы спосаб заключаецца ў паслабленні ўлады ў саміх яе асновах, прытым у гэтым выпадку грамадства, часам пазбаўляецца права і магчымасьці абараняць само сябе: падобнае паслабленне ўлады і ёсць тое, што ў Яўропе звычайна мае назву ўсталяванне свабоды.

---

[81] Гл. закон ад 2 лістапада 1791 года. – Законы Масачусетс, т. II, с. 61.

Існуе таксама і другі спосаб паменшыць ролю ўлады ў грамадстве: ён складуцца не ў тым, каб пазбавіць грамадства шэрага яе правоў, і не ў тым, каб паралізаваць яе дзейнасць, а ў тым, каб падзяліць гэтую ўладу, перадаўшы яе ў розныя рукі, павялічыць лік службовых асоб, прызнаючы за кожнай з іх усю паўнату ўлады, патрэбную для выканання даручаных ёй абавязкаў. У некаторых народаў падобны падзел дзяржаўнай улады яшчэ ў стане прывесьці да анархіі; аднак сам ён не хавае ў сабе нічога анархічнага. Патрэбна сказаць, што ў выніку такога падзелу магутнасць ўлады робіцца менш непераадольнай і не такой небяспечнай, але пры гэтым улада зусім не разбураецца.

Рэвалюцыя ў Злучаных Штатах была плёнам спелага і прадуманага імкнення да свабоды, а не нейкага няпэўнага, інстынктыўнага жадання незалежнасьці. Яна зусім не была выклікана імкненнем да бязладдзя; наадварот, яна ішла пад знакам павагі да парадку і законнасьці.

У Злучаных Штатах ніхто і не лічыў, што чалавек у вольнай краіне можа мець права рабіць абсалютна ўсё, што пажадае; наадварот, у яго як у грамадзяніна з'явілася яшчэ больш разнастайных, чым у якой бы то ні было іншай краіне, абавязкаў; не было нават намеру ні аспрэчваць той прынцып, што ўлада належыць грамадству, ні аспрэчваць у грамадства яго права на ўладу; абмежаваліся толькі тым, што ажыццяўленне гэтай улады зрабілі паасобным. Гэтым шляхам мелі намер дасягнуць таго, каб аўтарытэт улады быў высокім, а ўплыў службовай асобы – нязначным, з тым каб грамадства, працягваючы заставацца вольным, разам з тым добра кіравалася.

У сьвеце не існуе іншай такой краіны, дзе закон быў бы такім усемагутным, як у Амерыцы, такой краіны, дзе права ўжываць закон належала б такой вялікай колькасьці людзей.

Выканаўчая ўлада ў Злучаных Штатах вызначаецца тым, што ў яе сярэдзіне няма ні цэнтралізацыі, ні іерархіі: менавіта таму яна такая незаўважальная. Улада існуе, але невядома, дзе яе шукаць.

Вышэй мы змаглі пераканацца ў тым, што злучыны Новай Ангельшчыны не знаходзяцца ні пад чыёй апекай. Яны самастойна турбуюцца пра свае ўласныя зацікаўленасьці.

І нарэшце, на муніцыпальных урадаўцаў таксама нярэдка ўскладаецца абавязак спрыяць выкананню агульных законаў штата ці ж самім прыводзіць іх у выкананне[82].

Акрамя прыняцця агульных законаў, штат часам займаецца рэгламентацыяй дзейнасьці паліцыі; аднак звычайна менавіта злучына і яе службовыя асобы разам з міравымі суддзямі, грунтуючыся на мясцовых патрэбах і беручы да ўвагі прыватныя падрабязнасьці жыцця грамадства, усталёўваюць вызначаныя правілы і выдаюць дырэктывы, маючыя дачыненне да грамадскай аховы здароўя,

---

[82] Гл. у кнізе «Службовая асоба гарадзкога кіравання» пераважаюць разуменні: выбарныя сябры гарадзкой управы (select-men), падатковыя ўрадаўцы (assessors), зборшчыкі падаткаў (collectors), асобы назіраючыя за станам шляхоў спалучэнняў (surveyors of highways)... Адзін прыклад із тысячы: штат забараняе без патрэбы падарожнічаць у нядзелю. За выкананнем гэтага закона назіраюць асобныя злучынныя ўрадаўцы – дзясяцкія (tythingmen). Гл. закон ад 8 сакавіка 1792 года. – Законы Масачусетса, т. I, с. 410. Сябры гарадзкога кіравання складаюць выбарчыя сьпісы для выбараў губернатара і паведамляюць вынікі галасавання сакратару рэспублікі. Закон ад 24 лютага 1796 года. – Там жа, т. I, с. 488.

забеспячэння належнага парадку ў грамадстве і чысьціні нораваў грамадзянаў злучыны[83].

І нарэшце, злучынныя службовыя асобы самастойна, без якіх бы то ні было ўказанняў з боку, робяць захады да задавальнення нечакана ўзнікаючых у грамадстве патрэб, што здараецца даволі часта[84].

З усяго намі сказанага вынікае, што ў Масачусетсе выканаўчая ўлада амаль цалкам засяроджана ў самой злучыне[85] хаця яна размяркоўваецца тут паміж цэлым шэрагам урадаўцаў.

У французскай злучыне, строга кажучы, існуе толькі адзін адміністрацыйны ўрадавец – сам мэр.

У злучыне Новай Ангельшчыны, як мы бачылі, іх налічваецца прынамсі дзевятнаццаць чалавек. Гэтыя дзевятнаццаць службовых асоб у большасьці выпадкаў цалкам не залежаць адзін ад аднаго. Закон дакладна вызначае кола абавязкаў кожнага із іх. Пры выкананні сваіх абавязкаў яны ўсемагутныя і не падначальваюцца ніякай іншай уладзе ў злучыне.

Калі ж прыгледзецца да таго, што адбываецца за межамі злучыны, то выявіцца, што прыкметы адміністрацыйнай іерархіі ледзь заўважаюцца. Часам здараецца так, што службовыя асобы акругі перамяняюць рашэнне, прынятае злучынамі ці злучыннымі ўладамі[86], але ў цэлым можна сцвярджаць, што ўлады акругі не маюць права браць удзел у дзейнасці злучыны[87]. Яны ў стане даваць ёй загады толькі тады, калі гаворка ідзе пра справы маючыя дачыненне ўсёй акругі.

Службовыя асобы злучыны, як і ўрадаўцы акругі, абавязаны ў вельмі рэдкіх выпадках, загадзя вызначаных законам, паведамляць пра вынікі сваіх дзеянняў прадстаўнікам цэнтральнага ўрада[88]. Разам з тым цэнтральны ўрад не мае прадстаўніка, у чые абавязкі ўваходзіла б распрацоўка агульных правіл пра дзейнасць паліцыі ці ж арданансаў пра правядзенне ў жыццё законаў; ён таксама не мае ўрадаўцаў, якія б пастаянна супрацоўнічалі з уладамі акругі і злучыны, ажыццяўлялі нагляд за іхнымі дзеяннямі, накіроўвалі іхную дзейнасць і каралі іх за памылкі.

---

[83] Напрыклад, сябры гарадзкой кіруючай установы выдаюць дазволы на будаванне вадасьцёкаў і каналізацыйнай сеткі, вызначаюць месцы для размяшчэння быдлабоень ці такіх камерцыйных прадпрыемстваў, чыё суседзтва можа пашкодзіць. Гл. закон ад 7 чэрвеня 1785 года, т. I, с. 193.

[84] Напрыклад, сябры гарадзкой кіруючай установы ў выпадку з'яўлення заразнай хваробы сочаць за станам здароўя сябраў злучыны, выконваючы дзеля гэтай мэты супольна з міравымі суддзямі ўсе неабходныя ў падобных выпадках захады. Закон ад 22 чэрвеня 1797 года, т. I, с. 539.

[85] Я выказваюся "амаль" таму, што існуе шэраг сітуацый у жыцці злучыны, якія рэгулююцца або міравым суддзёй у межах яго кампетэнцыі, або згуртаваннем міравых суддзяў, сабраўшыхся ў галоўным горадзе акругі. Напрыклад: ліцэнзіі на права гандляваць выдаюцца міравымі суддзямі. Гл. закон ад 28 лютага 1787 года, т. I, с. 297.

[86] Напрыклад: ліцэнзія на права гандлю выдаецца толькі таму, хто можа паказаць пасьведчанне пра годныя паводзіны, выдаваемае сябрамі ўстановы гарадзкога кіравання. У выпадку, калі ў выдачы падобнага пасьведчання адмоўлена, чалавек мае права паскардзіцца міравым суддзям, сабраўшымися на агульную сесію суда, і суддзі маюць права выдаць яму гэтую ліцэнзію. Гл. закон ад 12 сакавіка 1808 года, т. II, с. 186. Злучыны маюць права выдаваць свае зборы правіл (by-laws) і абавязаць жыхароў выконваць іх пад пагрозай штрафу, памеры якога вызначаны загадзя. Аднак гэтыя зборы павінны быць зацьверджаны на сесіі суда. Гл. закон ад 23 сакавіка 1786 года, т. I, с. 254.

[87] У Масачусетсе адміністрацыйныя ўлады акругі нярэдка разглядаюць скаргі на дзеянні службовых асоб злучыны і даюць сваё рашэнне. Аднак, як мы пабачым далей, яны займаюцца разглядannем скаргаў як прадстаўнікі судовай, а не выканаўчай улады.

[88] Напрыклад: злучынныя школьныя камітэты абавязаны штогадова даваць справаздачу сакратару рэспублікі пра стан рэчаў у школе. Гл. закон ад 10 сакавіка 1827 года, т. III, с.183.

Із вышэйсказанага вынікае, што ў Новай Ангельшчыне не існуе цэнтра, дзе збіраліся б усе ніткі выканаўчай улады.

Якім жа чынам тады атрымліваецца кіраваць грамадствам больш-менш аднастайна? Якім чынам можна вымусіць падпарадкавацца акругі і іхных службовых асоб, злучыны і іхных урадаўцаў?

У штатах Новай Ангельшчыны заканадаўчая ўлада пашыраецца на больш шырокае кола пытанняў, чым у нас. Заканадавец пранікае, так бы мовіць, у самую сярэдзіну кіравання грамадствам, вызначаючы ўсё да самых драбнюткіх падрабязнасьцей; закон адначасова ўсталёўвае як асноўныя правілы, так і сродкі іхнага ўвасаблення ў жыццё; тым самым закон штата строга і выразна выяўляе тыя шматлікія абавязкі, якія кладуцца на ніжэйшыя ўстановы ўлады і іхных урадаўцаў.

Із гэтага вынікае, што калі ўсе ніжэйшыя ў адносінах да штата адміністрацыйныя ўтварэнні і іхныя службовыя асобы будуць кіравацца ў сваіх дзеяннях законам, то ва ўсіх сферах грамадства жыццё будзе ісьці аднастайна; і ўсё ж застаецца незразумелым, якім чынам можна абавязаць гэтыя ўстановы і іхных службовых асоб падначальвацца закону.

У цэлым можна сцвярджаць, што ў распараджэнні грамадства існуе ўсяго два спосабы прымусіць службовых асоб падпарадкоўвацца.

Грамадства можа перадаць аднаму із іх непадзельную ўладу над усімі астатнімі, а так жа права пазбавіць іх пасады ў выпадку непадпарадкавання.

Ці ж грамадства можа даручыць судм ужываць судовыя санкцыі да парушальнікаў.

Аднак далёка не заўсёды можна скарыстацца тым ці іншым спосабам.

Права кіраваць урадаўцам прадугледжвае таксама права пазбаўляць яго пасады, калі ён не выконвае аддаваемых яму загадаў, ці ж павысіць яго па службе, калі ён старанна выконвае свае абавязкі. Тым часам выбарную службовую асобу немагчыма ні пазбавіць пасады, ні павысіць. У самай прыродзе выбарнай пасады закладзены прынцып нязменнасьці да заканчэння тэрміну паўнамоцтваў. І сапраўды, выбарная службовая асоба можа нічога не чакаць і нікога не баяцца, акрамя сваіх выбаршчыкаў, калі ўсе дзяржаўныя пасады замяшчаюцца ў выніку выбараў. Такім чынам, сярод урадаўцаў не можа існаваць ніякай іерархіі, таму што немагчыма аднаму і таму ж чалавеку надаць падвойнае права: і загадваць, і эфектыўна караць за непадпарадкаванне – і таму, што немагчыма да ўлады распараджацца дадаць уладу ўзнагароджваць і караць.

Краіны, усталёўваючыя прынцып выбарнасьці службовых асоб на ніжніх узроўнях урадавага механізму, непазбежна апынаюцца перад патрэбай ужываць судовыя санкцыі ў якасьці сродку адміністрацыйнага ўплыву.

Адразу вызначыць гэта немагчыма. Трымаючыя ўладу лічаць сваёй першай саступкай згоду на абіраемасць усіх службовых асоб, а другой – падначаленне выбранага ўрадаўца пастановам суддзяў. Яны роўна асьцерагаюцца як той так і другой навізны, а таму што ад іх звычайна больш дамагаюцца першай саступкі, чым другой, то яны пагаджаюцца на абіраемасць службовых асоб, пакідаючы іхную незалежнасць ад суддзяў. А тым часам, кожны із гэтых захадаў з’яўляецца тым адзіным, што можа ўраўнаважыць другі. Неабходна выразна разумець, што выбарная ўлада, не падначальваемая судовым установам, рана ці позна пазбавіцца ад якога б то ні было кантролю ці ж будзе знішчана. Паміж цэнтральнай уладай і выбарнымі адміністрацыйнымі ўстановамі адзінымі пасярэднікамі могуць служыць

суддзі. Толькі яны ў стане прымусіць абранага ўрадаўца падпарадкоўвацца, не парушаючы пры гэтым правы выбарцаў.

**Такім чынам, пашырэнне судовай улады на сферу палітыкі павінна знаходзіцца ў непасрэднай сувязі з пашырэннем абіраемасьці ўстаноў улады. Калі ж гэтыя два элемента не існуюць адначасова, тая дзяржава прыходзіць на прыканцы або да анархіі, або да рабства.**

Ва ўсе часы адзначалася, што судовая дзейнасць дастаткова дрэнна падрыхтоўвала людзей да практычнай адміністрацыйнай дзейнасьці.

Амерыканцы запазычылі ў сваіх ангельскіх продкаў адзін із інстытутаў, не маючы аналогаў нідзе на Еўрапейскім кантыненце, а менавіта – інстытут міравых суддзяў.

Міравы суддзя знаходзіцца недзе пасярэдзіне паміж свецкім чалавекам і ўрадаўцам, паміж адміністрацыйнай службовай асобай і суддзёй. Міравым суддзёй звычайна робіцца адукаваны, але не абавязкова добра разбіраючыся ў законах грамадзянін. Да яго абавязкаў належыць толькі ажыцця ўленне паліцэйскіх функцый, а гэта патрабуе, перадусім, цьвярозага розуму і сумленнасьці, чым ведаў. Міравы суддзя прыносіць у адміністрацыйны працэс, у якім ён бярэ ўдзел, патрабаванне выконваць прызначаныя формы і галоснасць, што робіць яго перашкодай для якіх бы то ні было праяваў дэспатызму; разам з тым ён не робіцца рабом літары закона, што звычайна ператварае кожнага ўрадаўца ў чалавека, мала здольнага да выпраўлення сваіх функцый.

Амерыканцы заснавалі ў сябе інстытут міравых суддзяў, адначасова цалкам пазбавіўшы яго арыстакратычнага характару, што адрознівала гэты інстытут у метраполіі.

Губернатар Массачусетса[89] прызначае ва ўсе акругі вызначаную колькасць міравых суддзяў на сямігадовы тэрмін[90].

Акрамя таго, із ліку гэтых міравых суддзяў ён прызначае траіх, якія ўтвараюць у кожнай акрузе тое, што вядома пад назвай **сесійны суд**.

Міравыя суддзі бяруць непасрэдны ўдзел у працэсе кіравання. Часам ім даручаецца разам з абіраемымі ўрадаўцамі прынімаць пэўныя адміністрацыйныя акты[91], у іншых жа выпадках у іхныя абавязкі ўваходзіць фарміраванне судоў, на паседжаннях якіх прадстаўнікі ўлады коратка выкладаюць абвінавачванне ў дачыненні да грамадзяніна, які адмаўляецца падпарадкоўвацца законам, ці сам грамадзянін заяўляе пра тыя ці іншыя злоўжыванні службовых асоб. Аднак свае найбольш важныя адміністрацыйныя абавязкі міравыя суддзі выконваюць падчас паседжання сесійных судоў.

Сесійны суд засядае два разы на год у галоўным горадзе акругі. У Масачусетсе менавіта на гэты суд ускладзены абавязак трымаць у падпарадкаванні максімальную колькасць[92] дзяржаўных урадаўцаў[93].

---

[89] Далей мы патлумачым, што такое губернатар штата; але ўжо зараз патрэбна пазначыць, што губернатар уяўляе ў сваёй асобе выканаўчую ўладу штата.

[90] Гл. канстытуцыю штата Масачусетс, гл. II, разд. I, § 9; а таксама гл. III, § 3.

[91] Адзін прыклад са шматлікіх: замежнік прыязджае ў злучыну із краіны ў якой пашырана нейкая заразная хвароба. Ён захворвае. Двое міравых суддзяў маюць права, адпаведна з рэкамендацыяй сябраў гарадзкога кіравання, даць загад шэрыфу акругі перавезьці хворага ў іншае месца, дзе за ім будзе ўсталяваны нагляд. Закон ад 22 чэрвеня 1797 года, т. I, с. 540. Наогул міравыя суддзі бяруць удзел ва ўсіх самых важных адміністрацыйных справах, надаючы ім напалову судовы характар.

[92] Я выказваюся максімальная колькасць таму, што ў рэчаіснасьці некаторыя адміністрацыйныя парушэнні права належаць веданню звычайных судоў. Напрыклад, калі злучына адмаўляецца ствараць патрэбныя

Патрэбна звярнуць асаблівую ўвагу на той факт, што ў Масачусетсе сесійны суд з'яваўляецца адначасова і адміністрацыйнай установай у прамым сэнсе слова і палітычным судом.

Мы ўжо паведамлялі пра тое, што акруга[94] існуе толькі ў якасьці адміністрацыйнай адзінкі. І сесійны суд як такі кантралюе толькі тыя нешматлікія справы, якія адначасова маюць дачыненне да зацікаўленасьцей некалькіх злучын ці ж усіх злучын адной акругі і якія, такім чынам, немагчыма даручыць ніводнай са злучын у асобнасьці.

Такім чынам у справах, маючых дачыненне да кампетэнцыі акругі, абавязкі сесійнага суда зводзяцца да чыста адміністрацыйных, і калі суд і карыстаецца нярэдка ў сваёй працэдуры тымі ці іншымі судовымі формамі, то з адзінай мэтай патлумачыць для сябе справу[95] і для таго, каб тым самым даць гарантыі тым злучынам, агульныя справы якіх разглядаюцца. Аднак у выпадку патрэбы забяспечыць належнае кіраванне ўсярэдзіне злучыны, суд практычна заўсёды выступае ў ролі органа правасуддзя і толькі ў надзвычай рэдкіх выпадках – у якасьці адміністрацыйнай установы.

Галоўная цяжкасць палягае ў тым, каб абавязаць злучыну, валодаючу практычна поўнай незалежнасьцю, выконваць агульныя законы штата.

Мы ўжо бачылі, што злучыны абавязаны штогадова прызначаць вызначаную колькасць службовых асоб, маючых назву падатковымі ўрадаўцамі, для абкладання насельніцтва падаткамі. Злучына можа паспрабаваць пазбегнуць выплаты падатку тым, што не прызначыць гэтых урадаўцаў. У гэтым выпадку сесійны суд прыгаворвае яе да суровага грашовага штрафу96, пры гэтым дадзены штраф расмяркоўваецца паміж усімі жыхарамі злучыны без выключэнняў. Шэрыф акругі ў якасьці судовага ўрадаўца забяспечвае выкананне прысуду. Такім чынам, у Злучаных Штатах выканаўчая ўлада імкнецца, пры гэтым, вельмі дбайна, абараніць сябе ад чужых пазіркў. Адміністрацыйны загад амаль заўсёды хаваецца ў гэтай краіне за пастанову суда; ад гэтага загад толькі набывае яшчэ большую магутнасць, магутнасць, фактычна непераадольную, якой людзі звычайна надзяляюць закон.

Такое ўпарадкаванне спраў лёгка прасачыць і зразумець. Абавязкі злучыны ў большасьці выпадкаў вызначаны выразна і зразумела: гэта прасты і неадменны факт, гэта прынцып, а не яго дэталёвае выкананне[97]. Цяжкасьці выяўляюцца тады, калі даводзіцца вымушаць падпарадкоўвацца не саму злучыну, а яе ўрадаўцаў.

---

фонды для ўтрымання сваіх школ ці ж прызначаць школьны камітэт, то яна прыгаворваецца да вельмі суровага грашовага штрафу, і гэтае рашэнне прынімаецца вышэйшым судом (supreme judicial court) ці судом, які разбірае толькі побытавыя справы (common pleas). Гл. Там жа, закон ад 10 сакавіка 1827 года, т. III, с. 190. Ці ж калі злучына не гатуе баявых прыпасаў на выпадак вайны. Гл. закон ад 21 лютага 1822 года, т. II, с. 570.

[93] У межах сваёй кампетэнцыі міравыя суддзі бяруць удзел у кіраванні злучынамі і акругамі. Звычайна самыя важныя рашэнні ў жыцці злучынны ніколі не прымаюцца без удзелу хаця бы аднаго міравога суддзі.

[94] Разглядаемыя сесійным судом справы, маючыя дачыненне да акругі, зводзяцца да наступнага: 1) пабудова турмаў і будынкаў судоў; 2) разгляданне праектаў бюджэту акругі (зацьверджваюцца заканадаўчым сходам штата); 3) размеркаванне ўсталяваных у рамках той жа працэдуры падаткаў (шляхам галасавання); 4) выдача некаторых катэгорый патэнтаў; 5) будаванне і рамонт дараг у акрузе.

[95] Так, напрыклад, калі гаворка ідзе пра дарогу, то сесійны суд можа вырашыць практычна ўсе цяжкасьці па яе будаўніцтву на падставе рашэння прысяжных.

[96] Гл. закон ад 20 лютага 1786 года, т. I, с. 217.

[97] Існуе ўскосны спосаб вымусіць злучыну падпарадкоўвацца. Напрыклад, закон абавязвае злучыны ўтрымліваць дарогі ў належным стане. Калі ж яны не палічылі патрэбным прагаласаваць за стварэнне фондаў, патрэбных для гэтага, то злучынны ўрадавец, у чые абавязкі ўваходзіць нагляд за дарогамі, мае права сваёй уладай сабраць патрэбныя сродкі. А таму што ён сам таксама адказвае перад грамадзянамі за дрэнны стан дарог і ў сваю чаргу можа стаць перад сэсійным судом згодна з іхным патрабаваннем, то можна

Усе не вельмі добрыя ўчынкі, якія можа здзейсніць службовая асоба злучыны, у канчатковым выніку, зводзяцца да наступнага:

– урадавец можа выконваць наказы закона з вялікімі намаганнямі, але не вельмі старанна;

– ён можа наогул не выконваць гэтыя наказы;

– і нарэшце, ён можа рабіць тое, што і цалкам забаронена законам.

Падсуднымі з’яўляюцца толькі дзеянні службовай асобы ў двух апошніх выпадках. Падставай для судовага разбірання павінна служыць толькі наяўнасць відавочнага і не выклікаючага сумневаў факта парушэння.

Так, напрыклад, калі сябры гарадзкога кіравання не выконваюць усіх патрабуемых законам фармальнасьцей падчас выбараў у злучыне, то іх можна прысудзіць да грашовага пакарання[98].

Аднак калі службовая асоба выконвае свае абавязкі бяздумна, калі яна праводзіць у жыццё наказы закона без належнай стараннасьці і дбайнасьці, то суд на яе ўплываць ніяк не можа.

Сесійны суд, хаця і надзелены адміністрацыйнымі функцыямі, у дадзеным выпадку не ў стане прымусіць урадаўца выконваць належным чынам свае абавязкі. Толькі пагроза адзывання можа папярэдзіць падобныя парушэнні, а сесійны суд, не маючы ніякага дачынення да фарміравання злучыннай улады, не ў стане пазбавіць пасады ўрадаўцаў, якіх не ён прызначаў.

Дарэчы, каб пераканацца ў нядбайнасьці ці нерупліваасьці той ці іншай службовай асобы, патрабуецца пастаянны нагляд за дзейнасьцю ніжэйшых урадаўцаў. Разам з тым сесійны суд, збіраючыся ўсяго толькі два разы на год, нагляд не ажыццяўляе; ён толькі вырашае перададзеныя на яго разгляд справы грунтуючыся на фактах парушэння правоў.

Адзінай гарантыяй актыўнага і разумнага выканання ўрадаўцам даручаных яму абавязкаў з’яваўляецца нічым не абмежаванае права пазбаўлення іх пасады, што не падуладна судовым установам.

У Францыі мы спрабуем знайсьці гэтыя гарантыі ў адміністрацыйнай іерархіі; у Амерыцы ж іх бачаць у абіраемасьці службовых асоб.

Такім чынам, падводзячы вынік вышэйпавядомленаму, можна ў некалькіх словах сказаць наступнае.

Калі дзяржаўны ўрадавец у Новай Ангельшчыне здзяйсняе злачынства пры выкананні сваіх службовых абавязкаў, то ён заўсёды паўстае перад звычайным судом.

Калі ж ён здзяйсняе адміністрацыйную памылку, то яго карае суд, маючы чыста адміністрацыйны характар; а ў тых выпадках, калі справа вельмі сур’ёзная ці не можа быць адтэрмінавана, суддзя выконвае функцыі дадзенага ўрадаўца[99].

І нарэшце, урадавец, вінаваты хаця бы ў адным із тых невідавочных парушэнняў, якія немагчыма вызначыць ці ацаніць установам правасуддзя, штогадова паўстае перад судом, прысуды якога не падлягаюць абскарджанню і які ў стане адразу ж пазбавіць урадаўца якіх бы то ні было паўнамоцтваў, таму што яго

быць упэўненымі, што ён абавязкова выкарыстае ў злучыне тое выключнае права, якое дадзена яму законам. Так сесійны суд, пагражаючы ўрадаўцу, вымушае да падпарадкавання ўсю злучыну. Гл. закон ад 5 сакавіка 1787 года, т. I, с. 305.

[98] Законы Масачусетса, т. II, с. 45.

[99] Напрыклад, калі злучына зацята адмаўляецца абіраць падатковых урадаўцаў, то сесійны суд прызначае іх сам; пры гэтым урадаўцы прызначаныя такім чынам, маюць усе тыя ж правы, што і абраныя службовыя асобы. Гл. вышэйпрыведзены закон ад 20 лютага 1787 года.

паўнамоцтвы заканчаюцца адначасова са спыненнем дзейнасьці яго мандата на ўладу.

У дадзенай сістэме, бясспрэчна, нямала істотных вартасьцей, аднак на практыцы сустракаюцца некаторыя цяжкасьці, на якія патрэбна паказаць.

Я ўжо пазначаў, што адміністрацыйны ці так званы сесійны, суд не мае права нагляду за службовымі асобамі злучыны; ён можа дзейнічаць толькі ў тым выпадку, калі, выказваючыся юрыдычнымі тэрмінамі, справа перададзена ў суд. Менавіта вось у гэтым і складаецца слабае звяно ўсёй сістэмы.

Амерыканцы Новай Ангельшчыны не сталі засноўваць пры сэсійным судзе пракурорскі нагляд[100] і патрэбна прызнаць, што заснаваць яго ім было б вельмі складана. Калі б яны абмежаваліся тым, што прызначылі ў кожным галоўным горадзе акругі ўрадаўца-абвінаваўцу, не даўшы яму адначасова памагатых у злучынах, то якім бы чынам гэты абвінаваўца здолеў ведаць больш пра тое, што робіцца ў акрузе, чым самі сябры сесійнага суда? Калі ж у кожнай злучыне ён меў бы сваіх агентаў, то ў яго руках засяродзілася б самая жахлівая форма ўлады – улада кіраваць ад імя правасуддзя. Законы, тым часам, па-сутнасьці працяг звычаяў, хаця нічога падобнага ў ангельскім заканадаўстве не існавала.

Такім чынам, амерыканцы аддзялілі права нагляду і права абвінавачвання, як і ўсе астатнія адміністрацыйныя функцыі ў грамадстве.

Сябры пашыранай калегіі прысяжных, згодна з законам, абавязаны папярэджваць суд, пры якім гэтая калегія створана, пра якія б то ні было парушэнні права, здзяйсняемыя ў акрузе[101]. Існуе некалькі відаў буйных адміністрацыйных парушэнняў права, па якіх менавіта атарнэй абавязаны афіцыйна ўзбуджаць судовую справу[102]. І ўсё ж абавязак караць парушальнікаў права часьцей усяго ускладаецца на фіскальных урадаўцаў, выконваючых абавязкі па збору грашовых штрафаў. Такім чынам, скарбнік злучыны абавязаны пераследаваць у судовым парадку вялікую частку адміністрацыйных правапарушэнняў, здзяйсняемых на яго вачах.

Аднак амерыканскае заканадаўства перадусім павёрнута тварам да прыватных зацікаўленасьцей[103]; і менавіта з гэтым асноўным прынцыпам увесь час даводзіцца сустракацца пры вывучэнні законаў Злучаных Штатаў.

Амерыканскія заканадаўцы вельмі мала верацъ у чалавечую сумленнасць, аднак яны заўсёды грунтуюцца на разумнасьці людзей. Як вынік, яны вельмі часта ўскладаюць надзею на тое, што прыватная зацікаўленасць паслужыць да выканання законаў.

Калі ў выніку злоўжывання адміністрацыйнай уладай сур’ёзна і адчувальна пакутуе прыватная асоба ўсе выдатна разумеюць, што яго асабістая зацікаўленасць, яго заклапочанасць пра сябе непазбежна заахвоціць яго падаць скаргу.

Тым часам, нескладана прадбачыць, што, калі наказ закона, якім бы ён ні быў карысным для грамадства, зусім не закранае зацікаўленасьцёй асоб, кожны

[100] Я маю на ўвазе менавіта пры сэсійным судзе. Справа ў тым, што пры звычайных судах існуе ўрадавец, які выконвае асобныя функцыі атарнэя.

[101] Прысяжныя засядальнікі абавязаны, напрыклад, паведамляць суду пра дрэнны стан дарог. – Законы Масачусетс, т. I, с. 308.

[102] Калі, напрыклад, скарбнік акругі наогул не дае ніякіх справаздач. – Законы Масачусетс, т. I, с. 406.

[103] Адзін прыклад із тысячы: калі прыватная асоба, едучы па дрэннай дарозе, пашкодзіць свой экіпаж ці атрымае цялесныя пашкоджанні, то яна мае права звярнуцца ў сесійны суд з патрабаваннем кампенсацыі сваіх выдаткаў ад той злучыны ці акругі, якія адказвае за стан дадзенай дарогі. – Законы Масачусетса, т. I, с. 309.

падумае пра тое, ці патрэбна яму выступаць у ролі абвінаваўцы. Менавіта таму, ды яшчэ і пры ўмове адмысловай маўклівай змовы, законы лёгка могуць выйсьці із ужывання.

У выніку існуючай сістэмы, штурхаючай людзей на крайнасьці, амерыканцы вымушаны падахвочваць даносчыкаў, прапануючы ім у асобных выпадках частку спаганяемых штрафаў[104].

Гэты спосаб вельмі небяспечны: выкананне закона суправаджаецца маральным разбэшчваннем людзей.

Над службовымі асобамі акругі, строга кажучы, ужо не існуе ніякай іншай адміністрацыйнай улады, акрамя улады ўрада.

## Разважанні пра кіраванне Злучанымі Штатамі

–Адрозненні сістэм кіравання ў штатах, уваходзячых у склад Звязу. –Чым далей на поўдзень, тым злучыннае жыццё робіцца менш актыўным і менш поўным. –Павелічэнне ролі ўрадаўцаў, звужэнне ўлады выбарцаў. –Адміністрацыйныя функцыі пераходзяць ад злучыны да акругі. –Штаты Нью-Ёрк, Агаё і Пенсільванія. –Прынцыпы адміністрацыйнага ўладкавання ўласьцівыя ўсяму Звязу ў цэлым. –Абранне дзяржаўных урадаўцаў і іхная незмяняемасць на пасадзе. –Адсутнасць іерархіі. –Заснаванне інстытутаў судовага ўплыву ў сістэму кіравання.

Вышэй я ўжо абяцаў, што, разгледзеўшы падрабязна ўладкаванне злучыны і акругі ў Новай Ангельшчыне, я зраблю агульны агляд таго, што адбываецца ў астатняй частцы Звязу.

Па меры пасоўвання на поўдзень злучыннае жыццё робіцца заўважальна менш актыўным; у злучыне менш службовых асоб, і ў іх менш правоў і абавязкаў; жыхары ўжо не могуць непасрэдна ўплываць на справы злучыны; злучынныя сходы, ці асамблеі, праводзяцца значна радзей, і кола абмяркоўваемых на іх пытанняў заўважальна больш вузкае. Як вынік, улада абіраемых урадаўцаў істотна павялічваецца, тады як улада саміх выбаршчыкаў памяншаецца; злучынны дух тут менш відавочны і менш магутны[105].

---

[104] У выпадку нашэсьця непрыяцеля ці ў выпадку ўзброенага паўстання, калі злучынныя ўрадаўцы не дастаўляюць міліцыі боепрыпасы ці іншыя патрэбныя ім рэчы, злучына можа быць прысуджана да выплочвання штрафу ў памеры ад 200 да 500 даляраў (1000–2700 франкаў). Натуральна, што ў гэтай сітуацыі наўрад ці нехта будзе зацікаўлены ці проста пажадае выступіць у ролі скардзячагася. Таму закон дадае: «Усе грамадзяне будуць мець права патрабаваць пакарання падобных правін, пры гэтым палова спаганяемага штрафу павінна ісьці на карысць абвінавачваючага». Гл. закон ад 6 сакавіка 1810 года, т. II, с. 236. Падобныя параграфы нярэдка сустракаюцца і ў законах штата Масачусетс. Часам бывае і так, што закон такім спосабам вымушае не прыватную асобу абвінавачваць дзяржаўнага ўрадаўца, а ўрадаўца – заклікаць да адказнасьці прыватных асоб. Напрыклад, калі жыхар адмаўляецца выканаць ускладзеную на яго частку працы па ўпарадкаванню дарогі, то інспектар, назіраючы за дарогамі, абавязаны ўзбудзіць супраць яго справу і калі ён дамагаецца яго асуджэння, то атрымлівае палову спаганяемага з вінаватага штрафу. Гл. вышэйзгаданыя законы, т. I, с. 308.

[105] Больш падрабязна гл.: Папраўкі да законаў штата Нью-Ёрк, ч. I, гл. XI, маючыя назву «Пра паўнамоцтвы, абавязкі і прывілеі гарадоў», т. I, с. 336–364. Гл. таксама ў зборніку «Дайджэст законаў Пенсільваніі» артыкулы: «Падатковыя ўрадаўцы», «Зборшчыкі падаткаў», «Канстэблі» (Constables), «Інспектары па справах немаёмасных» (Overseers of the poor), «Асобы, назіраючыя за станам дарог». І ў зборніку пад назвай «Акты агульнага ўтрымання штата Агаё» закон ад 25 лютага 1834 года ў дачыненні да злучын, с. 412. І нарэшце, адмысловыя пастановы, маючыя дачыненне да розных дзяржаўных пасад, як, напрыклад, урадаўцы гарадзкой управы (Township's clercs), сябры кіруючай установы (Trustees), інспектары па справах немаёмасных, інспектары стану агароджаў і меж (Fence-Viewers), ацэншчыкі ўласнасьці (Appraisers of property), гарадзкі скарбнік (Township's Treasurer), канстэблі, асобы назіраючыя за станам дарог.

Гэтыя адрозненні робяцца заўважаемымі ў штаце Нью-Ёрк і ужо вельмі рэзка выяўляюцца ў штаце Пенсільванія; аднак пры пасоўванні на паўночны захад яны зноў робяцца менш адчувальнымі. Большасць эмігрантаў, якія заснавалі штаты Паўночнага захаду, былі выхаднікамі із Новай Ангельшчыны; яны перанеслі ў сваю новую бацькаўшчыну звыклую ім сістэму кіравання. Злучына ў штаце Агаё шмат у чым нагадвае злучыну штата Масачусетс.

Мы ўжо бачылі, што ў Масачусетсе злучына – гэта асноўны падмурак кіравання грамадствам. Яна з'яваўляецца тым цэнтрам, дзе засяроджаны як усе зацікаўленасьці, так і ўсе пачуцці людзей. Аднак становішча істотна перамяняецца, калі трапляеш у штаты, дзе людзі менш адукаваныя і, такім чынам, злучына ў цэлым менш здольна да разумных дзеянняў і ў яе менш магчымасьцей забяспечыць належнае кіраванне. Такім чынам, па меры аддалення ад штатаў Новай Ангельшчыны тая роля, якую мае злучына, да некаторай ступені пераходзіць да акругі. Акруга ператвараецца ў буйную адміністрацыйную адзінку, улады якой робяцца прамежкавым звяном паміж урадам штата і простымі грамадзянамі.

Я ўжо паведамляў пра тое, што ў Масачусетсе справы акругі вядуцца сесійным судом. Сесійны суд складаецца із вызначанай колькасьці службовых асоб, прызначаемых губернатарам і існуючай пры ім радай. Акруга не мае прадстаўнічых установ, а яе бюджэт зацвярджаецца заканадаўчым сходам штата.

У такім вялікім штаце, як Нью-Ёрк, а таксама ў штатах Агаё і Пенсільванія, наадварот, жыхары кожнай акругі абіраюць вызначаную колькасць дэпутатаў, із якіх фарміруецца прадстаўнічая ўстанова – рада акругі[106].

Рада акругі мае, у вядомых межах, права прызначаць падаткі на сваіх жыхароў – у гэтым выпадку яна выступае як сапраўдны заканадаўчы орган. Адначасова рада акругі з'яваўляецца і выканаўчым органам, нярэдка бярэ ўдзел у кіраванні злучынамі, заўважальна абмяжоўваючы іхныя паўнамоцтвы, так што, у параўнанні з Масачусетсам, мясцовыя злучыны карыстаюцца значна меншай уладай.

Такімі з'яўляюцца галоўныя адметныя рысы, характэрныя для ўладкавання злучыны і акругі ў розных штатах федэрацыі. Калі б у мае намеры ўваходзіла апісаць больш дэталёва розныя формы функцыянавання ўлады, то мне давялося б паказаць на яшчэ большую колькасць разыходжанняў. Аднак маім заданнем не з'яўляецца напісанне курса амерыканскага дзяржаўнага права. Я лічу, што ўжо дастаткова паведаміў для таго, каб стала зразумелым, на якіх агульных прынцыпах будуецца кіраванне грамадствам у Злучаных Штатах. Гэтыя прынцыпы ажыцця̆ўляюцца па-рознаму і ў розных частках краіны прыводзяць да больш-менш розных вынікаў, хаця, па сутнасьці, яны паўсюдна адны і тыя ж. Законы адрозніваюцца па форме, але іх аб'ядноўвае агульны дух.

Нягледзячы на тое, што злучыны і акругі ўладкаваны не ўсюды аднолькава, можна сцвярджаць, што паўсюдна у Злучаных Штатах у падмурку іхнай арганізацыі ляжыць адна і тая ж ідэя: кожны чалавек з'яўляецца лепшым суддзёй таго, што мае дачыненне толькі да яго самога і дзякуючы гэтаму ён лепш, чым хто б там ні было іншы, здольны паклапаціцца пра задавальненне сваіх патрэб. Такім

[106] Гл.: Папраўкі да законаў штата Нью-Ёрк, ч. I, гл. XI, т. I, с. 340; Там жа, гл. XII; Там жа, с. 366; Там жа, «Акты штата Агаё». Закон ад 25 лютага 1824 года маючы дачыненне да акруговых упаўнаважаных (county commissioners), с. 263. Гл.: у «Дайджэсьце законаў Пенсільваніі» артыкулы: «Нарматывы акруговага прадстаўніцтва» (County-Rates), «Квоты» (Levies), с. 170. У штаце Нью-Ёрк кожная злучына абірае дэпутата, які адначасова бярэ ўдзел як у кіраванні акругай, так і ў кіраванні злучынай.

чынам, на абавязку як злучыны так і акругі з’яўляецца забеспячэнне сваіх уласных зацікаўленасьцей. Штат валадарыць, але не кіруе. Сустракаюцца, вядома, выключэнні із гэтага правіла, але супярэчнасьцей гэтаму правілу вы не знойдзеце нідзе.

Першым вынікам дадзенага падыходу было тое, што жыхары пачалі самастойна абіраць усіх прадстаўнікоў выканаўчай улады як у злучыне так і ў акрузе ці, прынамсі, адбіраць гэтых службовых асоб выключна са свайго асяроддзя.

А дзякуючы таму што службовыя асобы паўсюдна з’яваўляюцца абіраемымі ці, як найменш, нязменнымі, у Злучаных Штатах нідзе не змагла замацавацца іерархічная структура ўлады. У гэтай краіне існуе амаль столькі ж незалежных урадаўцаў, колькі і пасад. Выканаўчая ўлада апынулася падзеленай сярод вялікай колькасьці людзей.

Дзякуючы таму, што ў краіне цалкам адзутнічае адміністрацыйная іерархія і службовыя асобы з’яўляюцца абіраемымі і нязменнымі аж да заканчэння тэрміну дзеяння іхных паўнамоцстваў, з’яўляецца патрэба ў большай ці меншай ступені далучаць судовую ўладу да сферы кіравання. Адсюль у сваю чаргу ўзнікае сістэма накладання штрафаў, з дапамогай якіх ніжэйшыя ўтварэнні і іхныя прадстаўнікі прымушаюцца да выканання законаў. Гэтая сістэма ўжываецца ва ўсіх штатах Звязу без выключэння.

Дарэчы, права стрымлівання службовых правапарушэнняў ці права выступаць, у выпадку патрэбы, у ролі выканаўчай улады належыць у розных штатах розным катэгорыям суддзяў.

Англа-амерыканцы запазычылі інстытут міравых суддзяў із агульнай крыніцы; міравыя суддзі існуюць паўсюдна у Злучаных Штатах. Аднак іхная роля не ўсюды аднолькавая.

Міравыя суддзі паўсюдна дапамагаюць кіраванню злучынамі і акругамі[107], ці непасрэдна бяручы ўдзел у працэсе кіравання, ці перасьледуючы тых, хто здзейсніў тыя ці іншыя службовыя правіны і парушэнні; разам з тым у большасьці штатаў найбольш сур’ёзныя із гэтых правін і парушэнняў усё ж перадаюцца на разгляданне звычайных судоў. Такім чынам, абранне службовых асоб ці іхная неперамяняемасць, адсутнасць адміністрацыйнай іерархіі, заснаванне судовага кантролю над больш нізкімі ўтварэннямі ў сістэме кіравання дзяржавай – такімі з’яўляюцца асноўныя прыкметы, адрозніваючыя амерыканскую сістэму выканаўчай улады на ўсёй тэрыторыі дзяржавы ад штата Мэн да штата Фларыда.

У асобных штатах можна назіраць нараджаючыяся элементы цэнтралізацыі выканаўчай улады. У гэтым накірунку найбольш далёка прасунуўся штат Нью-Ёрк.

У штаце Нью-Ёрк урадаўцы цэнтральнага дзяржаўнага апарата ў некаторых выпадках ажыццяўляюць нагляд і кантроль за функцыянаваннем больш нізкіх установаў улады[108]. У іншых выпадках яны ствараюць нешта накшталт апеляцыйнага

[107] На Поўдні існуюць нават асобныя штаты, дзе на судовых урадаўцаў акругі (county-courts) ускладзены ўсе, нават самыя дробныя, абавязкі. Гл.: Законы і пастановы штата Тэнэсі, артыкулы: «Судовыя ўстановы», «Падаткі»...

[108] Напрыклад, кіраванне грамадзкай адукацыяй засяроджана ў руках урада. Заканадаўчы сход прызначае адміністрацыю ўніверсітэта, так званых рэгентаў. Губернатар і віцэ-губернатар штата неадменна ўваходзяць у іхную колькасць (Папраўкі да законаў, т. I, с. 456). Рэгенты ўніверсітэта штогадова наведваюць каледжы і акадэміі, падаючы потым заканадаўчаму сходу справаздачу пра стан рэчаў; падобны нагляд не з’яўляецца фармальным грунтуючыся на наступных, вельмі спецыфічных, падставах: каледжам, дзеля атрымання статусу юрыдычнай асобы (карпарацыі), валодаючай правам прадаваць, купляць і валодаць уласнасьцю, патрабуецца хартыя, якая даецца толькі адпаведна з прадстаўленнем рэгентаў. Акрамя таго, штат штогадова

суда для вырашэння вызначаных спраў[109]. У штаце Нью-Ёрк судовыя санкцыі ў якасьці адміністрацыйных захадаў выкарыстоўваюцца значна менш, чым дзе б там ні было ў іншых месцах. Права пераследу за пасадавыя правіны надаецца меншай колькасьці асоб[110].

У нязначнай ступені аналагічная тэндэнцыя назіраецца і ў шэрагу іншых штатаў[111]. Аднак у цэлым можна сцвярджаць, што адметнай рысай выканаўчай улады ў Злучаных Штатах з'яваўляецца яе крайняя дэцэнтралізацыя.

## Пра штат

Я ўжо пісаў пра злучыны і іхнае кіраванне, зараз мне застаецца апісаць толькі штат і яго ўрад.

На дадзенай тэме я магу спыніцца толькі коратка, не асьцерагаючыся выявіцца незразуметым: тое, што я маю намер паведаміць, выкладзена ва ўсіх пісаных канстытуцыях, якія кожны можа без цяжкасьцей знайсьці[112].

Канцэптуальны пдмурак гэтых канстытуцый вельмі просты і рацыянальны.

Большасць змешчаных у іх пастаноў прыняты ўсімі маючымі канстытуцыю нацыямі, а таму яны нам у дастатковай ступені знаёмы.

Такім чынам, я абмяжуюся тут толькі самым кароткім выкладаннем. Пасьля я паспрабую даць ацэнку таму, пра што зараз маю намер паведаміць.

## Заканадаучая ўлада штата

–Падзел заканадаўчага корпуса на дзьве палаты. –Сенат. –Палата прадстаўнікоў. –Розныя функцыі палат.

---

размяркоўвае паміж каледжамі і акадэміямі вызначаныя сумы грошай із адмысловага фонду, створанага для заахвочання адукацыі. Размяркоўваюць гэтыя сумы зноў-такі рэгенты. Гл. главу XV «Народная адукацыя». – Папраўкі да законаў, т. I, с. 455. Камісіянеры па справах грамадзкіх школ таксама абавязаны адзін раз на год падаваць справаздачу пра стан рэчаў наглядчыку школ рэспублікі. Там жа, с. 488. Акрамя таго, аналагічны даклад падаецца штогадова і пра колькасць і становішча самых немаёмасных пластоў насельніцтва. Там жа, с. 631.

[109] Калі нехта лічыць сябе зведаўшым страты ў выніку тых ці іншых дзеянняў камісіянераў па справах школ (якія прыналежаць да ліку злучынных службовых асоб), ён можа звярнуцца са скаргай на іх да наглядчыка школ, чыё рашэнне з'яваўляецца канчатковым. – Папраўкі да законаў, т. I, с. 487. У законах штата Нью-Ёрк час ад часу сустракаюцца параграфы, аналагічныя тым, якія толькі што прыведзены мной у якасьці прыкладаў. Аднак у цэлым падобныя спробы цэнтралізацыі ўлады з'яўляюцца рэдкімі і малаэфектыўнымі. Ускладаючы на вышэйшых службовых асоб штата права нагляду і кіравання ніжэйшым звяном службовых асоб, штат не дае ім у той жа час права ўзнагароджваць ці караць апошніх. Практычна ніколі не бывае так, каб адзін і той жа чалавек валодаў правам даваць загад і адначасова караць за непадпарадкаванне; у выніку, маючы права загадваць, ён не ў стане прымусіць чалавека падначаліцца свайму загаду. У 1830 годзе наглядчык за школамі ў сваёй штогадовай справаздачы заканадаўчаму сходу паскардзіўся на тое, што шмат хто із камісіянераў па справах школ не перадалі яму, нягледзячы на яго настойлівыя патрабаванні, справаздач, якія яны былі абавязаны яму даць. «Калі падобны недагляд паўторыцца зноў, – дадаў ён, – я буду вымушаны, згодна з законам, падаць на іх скаргу ў адпаведны суд».

[110] Так, напрыклад, у кожнай акрузе на атарнэя (district-attorney) ускладзены абавязак здзяйсняць спагнанне ўсіх штрафаў, сума якіх перавышае пяцьдзясят даляраў, у тым выпадку, калі дадзенае права не было непасрэдна ўскладзена законам на іншую службовую асобу. – Папраўкі да законаў, ч. I, гл. X, т. I, с. 383.

[111] У Масачусетсе мы знаходзім нямала прыкмет цэнтралізацыі выканаўчай улады. Напрыклад, школьныя камітэты ў злучынах абавязаны штогадова складаць справаздачу пра сваю дзейнасць і перадаваць яе сакратару штата. – Законы Масачусетса, т. I, с. 367.

[112] Гл. тэкст канстытуцыі штата Нью-Ёрк.

Заканадаўчая ўлада штата даручана дзвум палатам; першая з іх мае назву сенат. Сенат – гэта, перадусім, заканадаўчая ўстанова, хаця зрэдку ён выконвае функцыі выканаўчай ці судовай улады.

У адпаведнасьці з канстытуцыямі розных штатаў[113] сенат ажыцьцяўляе адміністрацыйныя функцыі рознымі спосабамі, аднак часьцей усяго ён бярэ ўдзел у дзейнасьці выканаўчай улады шляхам удзелу ў прызначэнні службовых асоб.

Ён бярэ на сябе частку абавязкаў судовай улады, выносячы пастановы па шэрагу парушэнняў права палітычнага характару, а таксама часам вырашаючы некаторыя грамадзянскія справы[114].

Колькасць яго сябраў заўсёды невялікая.

Палата прадстаўнікоў – другая частка заканадаўчага сходу – ніякай выканаўчай дзейнасьцю не займаецца, а ў правасуддзі бярэ ўдзел, толькі абвінавачваючы перад сенатам дзяржаўных урадаўцаў.

Умовы абрання сяброў абодвух палат практычна паўсюдна аднолькавыя. І тыя і другія абіраюцца на падставе адзінай працэдуры аднымі і тымі ж грамадзянамі.

Адзінае адрозненне паміж імі палягае ў тым, што сенатары звычайна абіраюцца на больш працяглы тэрмін, чым сябры палаты прадстаўнікоў. Апошнія рэдка застаюцца на сваёй пасадзе больш аднаго года, тады як сенатары часьцей усяго абіраюцца на два ці тры гады.

Надаючы сенатарам прывілей быць абранымі на шматгадовы тэрмін і часткова абнаўляючы іхны склад, закон паклапаціўся пра тое, каб захаваць у асяроддзі заканадаўцаў ядро, складаючаяся із людзей ужо дасьведчаных у справах і здольных аказваць карысны ўплыў на нанова абраных.

Падзяліўшы заканадаўчы корпус на дзьве палаты, амерыканцы не ставілі перад сабой задачу ператварыць адну ў спадчынную, а другую – у абіраемую ўстанову; яны таксама не мелі намеру зрабіць адну палату арыстакратычнай, а другую – дэмакратычнай. Не задаваліся яны і мэтай знайсьці ў першай падмацаванне для ўрада, а за другой пакінуць абарону зацікаўленасьцей і спадзеванняў народа.

Адзінымі дадатнымі вынікамі стварэння ў сучасных Злучаных Штатах двухпалатнай структуры з'явіўся падзел заканадаўчай улады з тым, каб стрымліваць дзейнасць палітычных установаў, і ўсталяванне апеляцыйнага суда для праверкі законаў.

Час і досьвед пераканалі амерыканцаў, што, акрамя вышэйпазначаных пераваг, падзел заканадаўчай улады з'яўляецца найпершай патрэбай для грамадства. Пенсільванія, адзіная із усіх аб'яднаных у звяз рэспублік, спачатку паспрабавала стварыць аднапалатную ўстанову. Сам Франклін, які знаходзіўся пад уплывам лагічных пабудоваў, выцякаючых із канцэпцыі пра народаўладдзе, спрыяў ажыцьцяўленню гэтага намеру. Аднак хутка запатрабавалася перамяніць закон і стварыць дзьве палаты. Прынцып падзелу заканадаўчай улады атрымаў, такім чынам, апошняе прызнанне; з гэтага часу можна лічыць, што падзел заканадаўчай дзейнасьці паміж некалькімі ўстановамі з'яваўляецца даказанай патрэбнасьцю. Дадзеная тэорыя, практычна невядомая антычным рэспублікам, з'явілася на сьвет ледзь ці не выпадкова, як, дарэчы, адкрылася і большасць іншых вялікіх праўд. У наш час яна, нарэшце, прынята ў якасьці аксіёмы палітычнымі навукамі.

---

[113] У Масачусетсе сенат не мае ніякіх адміністрацыйных функцый.

[114] Як у штаце Нью-Ёрк.

## Пра выканаўчую ўладу штата

–Што такое губернатар штата. –Якім з'яўляецца становішча, займаемае ім у дачыненні да заканадаўчага корпуса. –Якімі з'яўляюцца яго правы і абавязкі. –Яго залежнасць ад народа.

Губернатар з'яваўляецца прадстаўнікам выканаўчай улады штата. Я не выпадкова ужыў тут слова «прадстаўнік». Губернатар штата ў рэчаіснасьці ўяўляе выканаўчую ўладу, але разам з тым кола яго правоў ў сферы выканання абмежаваны вызначанымі межамі.

Губернатар як самая высокая службовая асоба пастаўлены каля заканадаўчага сходу для таго, каб стрымліваць заканадаўчую ўладу і выступаць у якасьці дарадцы. Ён валодае правам «адкладваючага вета», дазваляючага яму адпаведна са сваімі меркавання спыняць ці, прынамсі, адтэрміноўваць тыя ці іншыя дзеянні заканадаўчага корпуса. Ён паведамляе заканадаўчаму сходу пра патрэбы штата і прапануе тыя сродкі, якія ён лічыць патрэбнымі для іхнага задавальнення. І натуральна, ён з'яваўляецца адзіным выканаўцам рашэнняў заканадаўчых устаноў маючых дачыненне да ўсіх тых пачынанняў, якія закранаюць зацікаўленасьці ўсяго штата ў цэлым[115]. У выпадку адсутнасьці заканадаўчага сходу ён павінен здзяйсняць усе магчымыя захады з тым, каб абараніць штат ад якіх бы то ні было гвалтоўных узрушэнняў і неспадзяваных небяспек.

Губернатар засяроджвае ў сваіх руках усю вайсковую магутнасць штата. Ён з'яўляецца кіраўніком міліцыяй штата і кіраўніком узброенага войска.

У тым выпадку, калі парушаецца грамадзкая воля, увасобленая пры ўсеагульнай згодзе ў законах, губернатар сам асабіста ўзначальвае ўсе ўзброеныя падраздзяленні штата з тым, каб задушыць супраціў закону і аднавіць належны парадак.

Губернатар не бярэ ніякага ўдзелу ў кіраванні злучынамі і акругамі, ці, больш дакладна, мае да гэтага толькі ўскоснае дачыненне, прызначаючы міравых суддзяў, якіх сам жа потым не мае права пазбаўляць пасады[116].

Губернатар – абіраемая службовая асоба. Звычайна ён абіраецца на адзін ці два гады і такім чынам застаецца ў пастаяннай і трывалай залежнасьці ад абраўшай яго большасьці.

## Палітычныя наступствы дэцэнтралізацыі выканаучай улады ў Злучаных Штатах

–Адрозненне, якое патрэбна рабіць паміж урадавай і адміністрацыйнай цэнтралізацыяй. –Адсутнасць у Злучаных Штатах адміністрацыйнай цэнтралізацыі побач з моцнай цэнтралізацыяй урадавай улады. –Некаторыя негатыўныя наступствы, выцякаючыя із крайняй адміністрацыйнай дэцэнтралізацыі ў Злучаных Штатах. –Перавагі падобнага ўладкавання з адміністрацыйнага боку гледжання. –У параўнанні з Яўропай улада, кіруючая амерыканскім грамадствам, менш упарадкавана, менш дасьведчаная і менш узброена ведамі, але значна больш магутная. –Палітычныя перавагі такога ўладкавання. –У Злучаных Штатах разуменне бацькаўшчыны вельмі блізка ўсім. –Павялічваючаяся патрэба ў мясцовых інстытутах улады па меры дэмакратызацыі грамадзкага ўладкавання. –Нагоды гэтага.

[115] На практыцы не заўсёды толькі губернатар ажыццяўляе рашэнні заканадаўчага сходу. Нярэдка здараецца так, што, прынімаючы нейкую пастанову, заканадаўцы адначасова прызначаюць адмысловых урадаўцаў для назірання за яго выкананнем.

[116] У шмат якіх штатах міравыя суддзі прызначаюцца не губернатарам.

У нашы дні ўвесь час разважаюць пра цэнтралізацыю, аднак ніхто не спрабуе патлумачыць сэнс гэтага разумення.

Тым часам, існуе два цалкам розныя тыпы цэнтралізацыі, якія не варта блытаць.

Існуюць вызначаныя зацікаўленасьці, агульныя для ўсіх пластоў грамадства, такія, як, напрыклад, усталяванне агульных законаў і ўзаемадачыненні з замежнікамі.

Існуюць таксама зацікаўленасьці, уласцівыя нейкім асобным пластам грамадства, як, напрыклад, тыя ці іншыя здзяйсненні і пачынанні злучыны.

Урадавая цэнтралізацыя, на маю думку, – гэта засяроджванне ўлады ў адзіным цэнтры ці ў адных руках для абароны першага згуртавання зацікаўленасьцей.

Пад адміністрацыйнай цэнтралізацыяй я маю на ўвазе падобную ж канцэнтрацыю ўлады дзеля абароны другога згуртавання зацікаўленасьцей.

Існуе шэраг прыкмет, згодна з якімі гэтыя два віды цэнтралізацыі супадаюць. Аднак, разглядаючы ў комплексе тыя пытанні, якія знаходзяцца ў кампетэнцыі кожнай з іх у асобнасьці, можна без цяжкасьцей адрозніць іх паміж сабой.

Урадавая цэнтралізацыя, і гэта зразумела, набывае небывалую магутнасць ў спалучэнні з адміністрацыйнай цэнтралізацыяй. У гэтым выпадку яна прывучае людзей цалкам і ўвесь час адмаўляцца ад праяўлення ўласнай волі, прывучае падначальвацца, прытым неаднойчы і не згодна з нейкай адной пэўнай нагодай, але ва ўсім і заўсёды. Яна не проста падначальвае людзей сабе, утаймоўваючы іх з дапамогай гвалту, – яна выкарыстоўвае таксама іхную прыхільнасць да ўласных звычак; спачатку яна дзейнічае ізалявана, на кожнага ў асобнасьці, а потым і на масу ў цэлым.

Гэтыя два віды цэнтралізацыі злучаны паміж сабой і спрыяюць адзін аднаму, разам з тым я не магу сказаць, што яны непадзельныя.

Пры Людовіку XIV Францыя выявілася сведкай найвялікшай цэнтралізацыі ўрадавай улады, якую толькі можна сабе ўявіць, таму што адзін і той жа чалавек выдаваў агульныя законы і адначасова валодаў правам іх тлумачыць; прадстаўляў Францыю за мяжой і дзейнічаў у краіне ад яе ж імя. «Дзяржава – гэта я», – выказваўся ён і цалкам быў маючым рацыю.

Аднак пры Людовіку XIV адміністрацыйная цэнтралізацыя была значна слабейшай, чым у нашы дні.

Сёння мы бачым, што ў такой краіне, як Ангельшчына, дзе цэнтралізацыя ўрадавай улады даведзена да надзвычай высокай ступені, дзяржава дзейнічае нібы адзін чалавек; па сваёй волі рухае каласальныя масы людзей, скрозь і ўсюды, дзе толькі пажадае, збірае моц і выкарыстоўвае ўсю сваю магутнасць.

Тым часам у Ангельшчыне, здзейсніўшай за апошнія пяцьдзясят гадоў такія вялікія справы, цалкам адзутнічае цэнтралізацыя адміністрацыйнай улады.

Са свайго боку, я не магу нават уявіць, каб нацыя змагла існаваць і асабліва дасягаць росквіту без моцнай цэнтралізацыі ўрадавай улады.

Разам з тым я лічу, што цэнтралізацыя адміністрацыйнай улады здольна толькі раздражняць людзей, якія гэтай уладзе падначальваюцца, таму што яна ўвесь час імкнецца паслабіць у іх злучынны дух. Цэнтралізацыя адміністрацыйнай улады сапраўды можа спрыяць аб’яднанню на вызначаным этапе і ў вызначаным месцы ўсіх магутнасьцей нацыі, аднак яна аказвае негатыўны ўплыў на абнаўленне

гэтых магутнасьцей. Такім чынам, яна цудоўна можа забяспечыць нейкаму чалавеку мімалётную веліч, але зусім не трывалы дабрабыт цэлага народа.

Патрэбна з вялікай асцярожнасьцю слухацца тых, хто сцвярджае, што дзяржава не здольна функцыянаваць без цэнтралізацыі, – у гэтым выпадку, самі таго не ўсведамляючы, людзі звычайна маюць на ўвазе пра цэнтралізацыю ўрадавай улады. Германская імперыя – бесперапынна паўтараюць яны – так ніколі і не змагла скарыстацца ўсімі сваімі магчымасьцямі. Але ў чым падставы гэтага? А ў тым, што магутнасьці нацыі ніколі не былі цэнтралізаванымі; у тым, што дзяржава так і не змагла прымусіць сваіх грамадзянаў падпарадкоўвацца асноўным законам; у тым, што разрозненыя часткі гэтага вялікага цэлага заўсёды валодалі або правам, або магчымасьцю адмаўляць у сваім спрыянні прадстаўнікам агульнанацыянальнай улады нават у тых справах, якія былі карыснымі для ўсіх жыхароў, – іншымі словамі, у тым, што не існавала цэнтралізацыі ўрадавай улады. Аналагічная заўвага можа быць дапасавана і да сярэднявечча: нагодай усіх няшчасьцяў і бед феадальнага грамадства з’явілася тое, што магчымасць не толькі валадарыць, але і кіраваць была распылена сярод вялікай колькасьці людзей і ажыццяўлялася шматлікімі самымі разнастайнымі спосабамі. Адсутнасць якой бы то ні было цэнтралізацыі ўрадавай улады перашкаджала народам Яўропы таго перыяду рашуча пасоўвацца да той ці іншай мэты.

Мы бачылі, што ў Злучаных Штатах цалкам не існавала цэнтралізацыі адміністрацыйнай улады, ды і прыкметы іерархіі ўлад былі толькі слаба заўважаемы. Дэцэнтралізацыя дасягнула тут такога узроўню, што, будзь гэта ў Яўропе, ніводная нацыя не пазбегла б пры гэтым вялізных цяжкасьцей, і нават у Амерыцы падобная дэцэнтралізацыя ў асобных выпадках мае вынікам вельмі адчувальнае зло. Разам з тым цэнтралізацыя ўрадавай улады ў Злучаных Штатах надзвычай высокая. І лёгка давесьці, што магутнасць нацыі тут больш згуртавана, чым у якой бы то ні было са старых еўрапейскіх манархій. Справа не ў тым, што ў кожным штаце існуе адзіная ўстанова выдаючая законы, і не ў тым, што існуе толькі адна магутная крыніца палітычнай актыўнасьці грамадства, а ў тым, што ў цэлым тут пазбеглі аб’яднання шматлікіх асамблей акруг із баязі, што гэтыя асамблеі могуць паспрабаваць выйсьці за межы сваёй кампетэнцыі і тым самым парушыць належнае функцыянаванне ўрада. У Амерыцы не існуе ўлады, здольнай супрацівіцца заканадаўчаму сходу штата. Нішто не ў стане перашкодзіць яго дзейнасьці: ні прывілеі, ні недатыкальнасць мясцовай улады, ні асабістыя ўплывы, ні нават аўтарытэт розуму, таму што ён з’яўляецца прадстаўніком большасьці, прэтэндуючым на тое, што толькі ён з’яўляецца адзіным носьбітам гэтага розуму. Такім чынам, дзейнасць заканадаўчага сходу нічым не абмежавана і ён кіруецца толькі сваёй воляй. Каля яго і пад яго рукой заўсёды знаходзіцца прадстаўнік выканаўчай улады, які з дапамогай цалкам рэчаісных магутнасьцей павінен прымушаць да падпарадкавання незадаволеных.

У дзейнасьці ўрада слабых звенняў вельмі мала.

Амерыканскія рэспублікі не маюць сталага узброенага войска, каб уціхамірваць незадаволеныя меншасьці, але, дзякуючы таму што гэтыя меншасьці да гэтага часу яшчэ ніводнага разу не ўступалі ў адкрытае змаганне, патрэба ў пастаянным войску пакуль і не адчувалася. Для ўплыву на сваіх грамадзянаў штат часьцей усяго выкарыстоўвае ўрадаўцаў акругі ці злучыны. Так, напрыклад, у Новай Ангельшчыне менавіта злучынны падатковы ўрадавец прызначае падаткі, злучынны зборшчык падаткаў збірае іх, злучынны скарбнік перадае гэтыя грошы ў

дзяржаўны скарб, а ўзнікаючыя па ходу справаводства прэтэнзіі перадаюцца ў суды агульнай юрыстдыкцыі. Дадзены спосаб збірання падаткаў павольны і нязручны; ён пастаянна абцяжарвае штодзённую дзейнасць урада, якому патрэбны вялікія грошы штодня. Наогул было б натуральным імкнуцца да таго, каб урад ва ўсіх накірунках неабходных для яго жыццядзейнасьці, меў бы сваіх урадаўцаў, адабраных ім самім, замяшчаемых толькі ім самім, а так жа здольных да хуткай дзейнасьці. Аднак жа пры той арганізацыі цэнтральнай улады, якая існуе ў Амерыцы, заўсёды існуе магчымасць, у выпадку патрэбы, без адкладанняў здзейсніць больш рашучыя і больш эфектыўныя захады.

Такім чынам, зусім не з нагоды поўнай адсутнасьці цэнтралізацыі ў Злучаных Штатах, як гэта нярэдка сцвярджаецца, могуць загінуць рэспублікі Новага Сьвету. Урады амерыканскіх штатаў не толькі немагчыма назваць слаба цэнтралізаванымі – наадварот, яны залішне цэнтралізаваны, і я пазьней давяду правамернасць падобнага цьверджання. Заканадаўчыя сходы штодня прысвойваюць сабе нейкія асобныя элементы ўрадавай улады; яны імкнуцца паглынуць іх, як гэта ў свой час зрабіў французскі Канвент. І дзяржаўная ўлада, цэнтралізуемая падобным чынам, увесь час пераходзіць із рук у рукі, таму што яна падначальваецца волі народа. Нярэдка ёй недастае мудрасьці і абачлівасьці таму, што яна ў стане рабіць усё, што ёй заманецца. Вось у гэтым і складаецца найвялікшая для яе небяспека. Такім чынам, менавіта дзякуючы сваёй магутнасьці, а зусім не праз ўласную слабасць дзяржава знаходзіцца пад небяспекай некалі загінуць.

Дэцэнтралізацыя адміністрацыйнай улады мае ў Амерыцы шэраг самых розных наступстваў.

Мы ўжо бачылі, што амерыканцы практычна цалкам ізалявалі мясцовыя ўлады ад урада, перайшоўшы, як мне здаецца, якія б то ні было межы цьвярозага розуму, таму што парадак, хай нават і ў другарадных адпаведна са значымасьцю рэчах, тым не менш, усё ж адпавядае зацікаўленасьцям усёй нацыі[117].

З нагоды таго, што штат не мае ўласных адміністрацыйных урадаўцаў, займаючых пэўныя пасады ў тых ці іншых населеных месцах, якіх ён можа прымусіць праводзіць на месцах агульную палітыку, ён рэдка робіць спробы ўсталяваць адзіныя для ўсёй тэрыторыі правілы функцыянавання паліцыі. Тым часам, патрэба ў падобных правілах адчуваецца дастаткова моцна і еўрапеец вельмі часта адзначае іх адсутнасць. Гэтая кідаючаяся ў вочы павярхоўная бязладзіца пераконвае яго з першага позірку ў тым, што ў гэтым грамадстве пануе поўная анархія і толькі ўважліва ўгледзеўшыся ў тое што адбываецца, ён пачынае разумець, што яго першае ўражанне было цалкам ілжывым.

Некаторыя пачынанні, уяўляючыя цікавасць для ўсяго штата, усё ж не атрымліваецца рэалізаваць таму, што не існуе агульнанацыянальнай адміністрацыі, якая была б у стане гэта здзейсніць. Пакідаемыя на заклапочанасць злучын, акруг і іхных абіраемых і часовых прадстаўнікоў, гэтыя пачынанні застаюцца або цалкам не маючымі вынікаў, або вынік выяўляецца кароткачасовым.

[117] Улады штата, хаця самі па сабе і не кіруюць, усё ж не павінны, на мой пагляд, адмаўляцца ад права кантролю над мясцовымі ўладамі. Напрыклад, я лічу, што прадстаўнік урада, займаючы некаторую пасаду ў кожнай акрузе, мог бы паведамляць суду пра ўсе парушэнні права, здзяйсняемыя ў злучынах і акругах; хіба гэта не мела б наступствам ўсталяванне адзінага ўпарадкавання, пры тым, што мясцовая незалежнасць ад гэтага ніколькі б не была абмежавана? Тым часам, у Амерыцы нічога падобнага не існуе. Над акруговымі судамі няма больш высокай установы, а сведчанні пра парушэнні права адміністрацыйнага характару, якія ім прызначана скасоўваць, трапляюць сюды ў дастатковай ступені выпадкова.

Прыхільнікі цэнтралізацыі ў Яўропе сцвярджаюць, што ўрад здольны лепш кіраваць злучынамі, чым яны маглі б рабіць гэта самі; гэта, магчыма, і правільна ў тым выпадку, калі прадстаўнікі цэнтральнай улады з’яваўляюцца людзьмі асьвечанымі, а жыхары злучын – неадукаванымі; калі цэнтральная ўлада дзейная, а грамадзяне – інэртныя; калі ўрад прызвычаіўся загадваць, а народ – падпарадкоўвацца. Вядома, што з павелічэннем цэнтралізацыі ўзмацняюцца і гэтыя два працэсы, што азначае, ўсе большая актыўнасць з аднаго боку і поўная няздольнасць дзейнічаць, – з другога, робяцца відавочнымі.

Але ў тым выпадку, калі народ адукаваны, добра ведае, чаго ён жадае, і прызвычаіўся клапаціцца пра свае зацікаўленасьці, як гэта адбываецца ў Амерыцы, нічога падобнага, я лічу, быць не павінна.

Наадварот, я цалкам перакананы, што аб’яднаная магутнасць грамадзянаў заўсёды выявіцца больш здольнай забяспечыць грамадзкі дабрабыт народа, чым урадавая ўлада.

Прызнаюся, аднак, што вельмі цяжка дакладна паказаць той спосаб, з дапамогай якога можна абудзіць спячы народ, выклікаць у яго тыя ці іншыя жаданні і даць яму веды, якіх ён быў пазбаўлены; пераканаць людзей у тым, што яны самі павінны займацца ўласнымі справамі, – гэта, не стану хаваць, заданне вельмі складанае. Нярэдка людзей значна прасьцей зацікавіць дробязямі прыдворнага этыкету, чым рамонтам іх уласнай сядзібы.

Адначасова я лічу, што ў тых выпадках, калі цэнтральная ўлада сцвярджае, што яна можа цалкам замяніць сабой вольны ўдзел непасрэдна зацікаўленых у тым ці іншым пачынанні людзей, яна або памыляецца сама, або спрабуе падмануць вас.

Цэнтральная ўлада, якой бы асьвечанай і спрактыкаванай яна не ўяўлялася, не ў стане адна ахапіць усе прыватнасьці жыцця вялікага народа. Яна не здольна гэтага зрабіць таму, што падобнае заданне перасягае ўсе межы чалавечых магчымасьцей. Калі такая ўлада імкнецца толькі сваімі намаганнямі стварыць і прывесьці ў дзеянне незлічоную шматлікасць розных грамадзкіх механізмаў, яна павінна або задаволіцца вельмі сьціплымі вынікамі, або яе намаганні будуць проста дарэмнымі.

Сапраўды, ва ўмовах цэнтралізацыі лёгка атрымліваецца дасягнуць нейкую аднастайнасць вонкавых праяўленняў чалавечай актыўнасьці, што прыводзіць людзей да задаволенасьці гэтай аднастайнасцю як такой, не залежачы ад таго, да чаго яна мае дачыненне. Гэта нагадвае багамольцаў, якія ўшаноўваюць выяву Бога, забываючы пра Яго самога. Цэнтралізацыя без цяжкасьцей надае бачнасць упарадкаванасьці ў штодзённых справах, пры ёй можна ўмела і грунтоўна кіраваць дзейнасьцю паліцыі, ахоўваючай грамадства, спыняць нязначныя хваляванні і нязначныя парушэнні права, падтрымліваць грамадства ў нейкім статус кво, што, па сутнасьці, не з’яўляецца ні заняпадам, ні прагрэсам, падтрымліваць у грамадзкім арганізме свайго роду адміністрацыйную дрымоту, якую ўладаўцам звычайна падабаецца называць «належачым парадкам» і «грамадзкім заспакаеннем»[118]. Адным словам, цэнтралізацыя з’яўляецца выдатным тормазам у якіх бы то ні было

[118] Як мне здаецца, Кітай уяўляе нам найбольш яскравы прыклад таго грамадзкага дабрабыту, які ў стане даць свайму народу толькі надзвычай цэнтралізаваная ўлада. Вандраўнікі сцвярджаюць, што кітайцам уласьцівы спакой, пазбаўлены шчасьця; у іх існуе прамысловасць, аднак яна стаіць на месцы; грамадства стабільнае, але не здольнае на здзяйсненні; парадак у ім існуе, але адсутнічаюць маральныя прынцыпы. У Кітаі справы заўсёды ідуць дастаткова добра, але ніколі – вельмі добра. Я лічу, што калі Кітай зробіцца адкрытым для еўрапейцаў, яны сустрэнуць тут самую дасканалую мадэль цэнтралізацыі выканаўчай улады, якая толькі існуе ў сьвеце.

пачынаннях, а не стымулам для іх ажыццяўлення. Калі ж узнікае патрэба прывесьці ў рух глыбінныя магутнасьці грамадства ці ж рэзка паскорыць яго развіццё, цэнтралізаваная ўлада неадкладна губляе якую б то ні было магутнасць. Як толькі ёй для правядзення нейкіх захадаў запатрабуецца падтрымка грамадзянаў, усе, на сваё здзіўленне, выяўляюць слабасць гэтага гіганцкага механізма, які разам выяўляецца цалкам ні да чаго не прыдатным.

Часам здараецца, што цэнтралізаваная ўлада, не знаходзячы іншага выйсьця, робіць роспачныя спробы заклікаць грамадзянаў сабе на дапамогу, разам з тым кажучы ім: вы будзеце дзейнічаць так, як я жадаю; столькі, колькі мне запатрабуецца, і менавіта ў тым накірунку, які я абяру самастойна. Вы будзеце займацца выкананнем асобных спраў, не імкнучыся да кіравання цэлым; вы будзеце працаваць, знаходзячыся ў недасведчанасьці, і толькі пасьля гэтага вы будзеце мець магчымасць судзіць пра маю дзейнасць грунтуюяыся на яе выніках.

Аднак на такіх умовах самаахвотнае спрыянне чалавека атрымаць немагчыма. Чалавеку патрэбна воля дзеянняў, усведамленне адказнасьці за свае справы. Чалавек так ужо ўладкаваны, што аддае перавагу заставацца ў стане бездзейнасьці, чым рухацца не па сваёй волі да невядомай яму мэты. Я не буду адмаўляць, што ў Злучаных Штатах часта шкадуюць пра адсутнасць аднастайных правіл, з якімі кожны із нас як бы параўноўвае свае ўчынкі.

У гэтай краіне час ад часу можна сустрэцца з яскравымі прыкладамі безтурботнасьці і сацыяльнай апатыі. Зрэдку выяўляюцца ганебныя заганы, ўступаючыя ў кідаючуюся ў вочы супярэчнасць з атачаючай іх цывілізацыяй.

Нярэдка карысныя пачынанні, патрабуючыя для іхнага пасьпяховага завяршэння сталай увагі і асаблівай дакладнасьці выканання, урэшце перапыняюцца на палове дарогі, таму што ў Амерыцы, як і ў іншых краінах, людзі нярэдка дзейнічаюць пад уплывам моманту і падначальваючыся раптоўным парывам.

Еўрапеец, прызвычаіўшыся заўсёды адчуваць каля сябе ўрадаўца, гатовага ўзяць удзел у якой заўгодна справе, даволі цяжка прыстасоўваецца да складанага механізму злучыннай улады. У цэлым можна сцьверджаць, што ў Амерыцы на дэталі дзейнасьці дзяржаўнай паліцыі, робячую жыццё прыемным і зручным, ніхто не звяртае абсалютна ніякай увагі. Разам з тым асноўныя гарантыі правоў чалавека ў грамадстве існуюць тут так жа, як і ва ўсіх іншых дзяржавах. У Амерыцы ўлада, кіруючая штатам, менш упарадкавана, менш асьвядомлена, менш узброена ведамі, аднак яна ў сто разоў больш магутная, чым у Яўропе. Не існуе іншай такой краіны ў сьвеце, дзе б людзі распачыналі ў канчатковым выніку столькі высілкаў, дзеля дасягнення грамадзкага дабрабыту. Я не ведаю такога іншага народа, які б стварыў такую вялікую шматлікасць школ, даючых такія высокія вынікі; храмаў, так адпавядаючых рэлігійным патрэбам вернікаў; злучынных дарог, знаходзячыхся ў такім выдатным стане. Так што ў Злучаных Штатах не патрэбна шукаць аднастайнасьці і пастаяннасьці поглядаў, дробнай заклапочанасці пра прыватнасьці жыцця, дасканаласьці адміністрацыйнай працэдуры[119]; што ў гэтай краіне сапраўды

[119] Адзін таленавіты пісьменнік, параўноўваючы фінансавую сістэму Злучаных Штатаў і Францыі, паказаў, што розум не заўсёды можа замяніць сабой веданне фактаў, і справядліва абвінаваціў амерыканцаў у тым, што бюджэты іхных злучын дастаткова бязладныя. Прыводзячы ў якасьці прыкладу бюджэт аднаго із дэпартаментаў Францыі ён дадае: «Дзякуючы цэнтралізацыі, гэтаму годнаму здзіўлення тварэнню вялікага чалавека, муніцыпальныя бюджэты, як вялікіх гарадоў, так і самых сціплых, размешчаных як на адным канцы каралеўства, так і на другіх, складзены на падставе адзінай методыкі і грунтуючыся на адзінай схеме». Вядома, я захапляюся падобным вынікам цэнтралізацыі, але ў той жа час бачу, што большасць французскіх

можна знайсьці – дык гэта ўзор улады, праўда некалькі дзікаватай, але напаўненай магутнасьцю і жыццём, схільнай да розных выпадковасьцей і разам з тым дзейнай і мабільнай.

Дарэчы, я прызнаю, калі заўгодна, што злучыны і акругі ў Злучаных Штатах кіраваліся б з большай карысьцю цэнтральнай уладай, размешчанай удалечыні ад іх і застаючайся для іх нечым чужым, чым урадаўцамі, абранымі з іхнага ўласнага асяроддзя. Калі запатрабуецца, я нават магу прызнаць той факт, што ў Амерыцы жыццё было б больш спакойным і бяспечным, калі б у гэтай краіне грамадзкія рэсурсы выкарыстоўваліся больш разважліва і мэтанакіравана, калі б кіраванне ўсёй дзяржавай было засяроджана ў адных руках. І, усё ж, палітычныя перавагі, атрымліваемыя амерыканцамі ад існуючай у іх сістэмы дэцэнтралізацыі ўлады, вымушаюць мяне аддаць перавагу падобнаму ўладкаванню якому б то ні было іншаму адрознаму ад яго.

І нарэшце, што мне да таго, што недзе існуе ўлада, заўсёды дзейная, клапацячаяся пра тое каб я спакойна жыў дзеля свайго задавальнення, улада, якая апераджае кожны мой крок, каб адхіліць ад мяне ўсе небяспекі раней, чым у мяне паўстане патрэба нават задумацца пра іх, калі гэтая ўлада, пазбаўляючы мяне ад якіх бы то ні было цяжкасьцей, адначасова робіцца паўнапраўнай валадаркай маёй волі і майго жыцця, калі яна так падначальвае сабе кожны рух у грамадстве і нават само яго існаванне, што ўсё вакол яе чэзне, калі марнее яна сама; што ўсё спіць, калі засынае яна; што ўсё гіне, як толькі сьмерць напаткае яе?

У Яўропе сустракаюцца краіны, жыхары якіх, лічачы сябе нечым накшталт асаднікаў, абыякавыя да лёсу той зямлі, на якой яны жывуць. Якія б то ні было, нават самыя буйныя перамены адбываюцца ў іхнай краіне без іхнага ўдзелу; яны часьцяком нават не ведаюць дакладна, што адбылося; яны толькі здагадваюцца, таму што выпадкова недзе пачулі размовы пра нейкую падзею ў краіне. Больш таго, дабрабыт іхнай вёскі, паліцыя на іхных вуліцах, лёс іхнай царквы і іхнага прыходу цалкам не хвалюе людзей; яны лічаць, што ўсё гэта належыць нейкаму магутнаму чужаку, які мае назву ўрад. Яны карыстаюцца гэтымі дабротамі як чужой маёмасьцю; у іх няма разумення таго, што ўсё гэта належыць ім самім, як няма і жадання нешта палепшыць. Гэтая адсутнасць удзелу ў сваім лёсе заходзіць так далёка, што, нават калі іхная ўласная бяспека ці бяспека іхных дзяцей зведвае пагрозу, замест таго каб знішчыць гэтую пагрозу, яны складаюць рукі і чакаюць, калі ж уся краіна цалкам прыйдзе да іх на дапамогу. Дарэчы, гэтым людзям, хаця яны і цалкам адмовіліся ад сваёй асабістай волі, усё ж падабаецца падпарадкоўвацца не больш чым іншым. Праўда, яны гатовы падначальвацца ўказанням урадаўца, але як толькі магутнасць аддаляецца ад іх на некаторую адлегласць, яны пачынаюць задзірліва ігнараваць закон, нібы пераможанага імі

---

камун, чыя бухгалтарская справаздачнасць з'яўляецца такой дасканалай, абсалютна не ведаюць сваіх сапраўдных зацікаўленасьцей і знаходзяцца ва ўладзе такой глыбокай апатыі, што грамадства тут хутчэй гібее, чым жыве. З другога боку, я назіраю, што ў аналагічных амерыканскіх злучынах, бюджэт якіх складзены без якой бы то ні было методыкі і, тым больш, не грунтуючыся на адзіным узоры, насельніцтва адукаванае, дзейнае і прадпрымальнае; я бачу, як грамадства безперапынна працуе. Гэтая з'ява не перастае ўражваць мяне: на мой пагляд, асноўнай мэтай дзейнасьці добрага ўрада з'яўляецца тое, каб дамагчыся дабрабыту народа, а цалкам не тое, каб усталяваць нейкі парадак сярод бедных людзей. Такім чынам, я пытаю сябе, ці немагчыма прыпісаць адной і той жа нагодзе росквіт амерыканскай злучыны ў спалучэнні з бачнай бязладзіцай у яе фінансах і бядотнае становішча камуны ў Францыі пры дасканаласьці яе бюджэту. Ва ўсякім разе, я з падазронасьцю стаўлюся да праяваў дабра, суправаджаемага такім злом, і лёгка міруся са злом, якое акупляецца такім дабром.

ворага. Такім чынам, яны ўвесь час вагаюцца паміж дагодлівасьцю і бурным сваволлем.

Калі нацыі даходзяць да такога становішча, яны павінны перагледзець свае законы і свае звычаі, інакш яны вырачаны на пагібель, таму што крыніца грамадзкіх учыннасьцей тут, па ўсёй бачнасьці, вычарпалася: і хаця у гэтых краінах яшчэ існуюць падданныя, грамадзянаў вы ўжо не сустрэнеце.

Я б нават сказаў, што народы, знаходзячыяся ў такім стане, могуць лёгка стаць ахвярай заваёўніка. Калі яны і не знікнуць з твару зямлі, то толькі таму, што апынуліся ў асяроддзі сабе падобных ці нават яшчэ слабейшых, чым яны самі, нацый; ці таму, што ў іх яшчэ захаваўся нейкі нетлумачымы інстынкт павагі да бацькаўшчыны, нейкі неусведамляемы гонар за сваю краіну, за яе імя, нейкі невыразны ўспамін пра яе мінулую славу. І хаця яны не адчуваюць прыхільнасьці да чагосьці вызначанага, гэтых адчуванняў бывае дастаткова, каб у выпадку патрэбы абудзіць у іх парыў да самазахавання.

Было б памылкай супакойваць сябе на той падставе, што некаторыя народы выяўлялі дзівы гераічнасьці, абараняючы сваю бацькаўшчыну, у якой яны жылі нібы чужакі. Прыгледзеўшыся больш уважліва, мы пабачым, што галоўнай заахвочвальнай магутнасьцю у падобных выпадках амаль заўсёды выяўлялася рэлігія.

Даўгавечнасць, слава і росквіт нацыі зрабіліся для іх сьвятымі дагматамі, і, абараняючы сваю радзіму, яны абаранялі той сьвяты горад, грамадзянамі якога яны ўсе з’яўляліся.

Насельніцтва Турэччыны ніколі не брала ніякага ўдзелу ў кіраванні грамадзкімі справамі. Тым часам, туркі здзейснілі вялікія справы, таму што ў заваёвах султанаў яны бачылі ўрачыстасць магаметанства. Сёння ўплыў рэлігіі паступова слабее, застаецца адзін толькі дэспатызм, – і нацыя ў выніку гіне.

Мантэск’ё, прызнаючы за дэспатызмам асобную, толькі яму ўласьцівую магутнасць, надаваў яму, як мне здаецца, незаслужаны гонар. Дэспатызм сам сабой не можа быць трывалым падмуркам грамадства. Прыгледзеўшыся больш уважліва, пачынаеш разумець, што абсалютысцкія ўрады квітнелі такі працяглы час дзякуючы рэлігіі, а не баязні.

Як бы мы ні спрабавалі, мы ніколі не знойдзем па-сапраўднаму моцнага грамадства, якое не абапіраецца на вольнае волевыяўленне людзей. У сьвеце не існуе нічога іншага, акрамя патрыятызму ці рэлігіі, што магло б прымусіць самых розных грамадзянаў на працягу доўгага часу разам імкнуцца да агульнай мэты.

Законы не ў стане ажывіць згасаючыя вераванні, аднак менавіта яны могуць выклікаць зацікаўленасць грамадзянаў да лёсу сваёй краіны. Менавіта законы здольныя абудзіць і накіраваць у патрэбнае рэчышча гэты неўсведамляемы інстынкт павагі да бацькаўшчыны, які фактычна ніколі не пакідае чалавечае сэрца, і, аб’яднаўшы гэты інстынкт з вызначанымі паглядамі, спадзяваннямі і ўкаранёнымі звычаямі, пертварыць яго ва ўсведамляемае і трывалае пачуццё. І хай не кажуць, што ўжо позна нават спрабаваць гэта зрабіць: нацыі старэюць цалкам інакш, чым людзі. Кожнае новае народжанае пакаленне з’яўляецца як бы новым народам, трапляючым у рукі заканадаўцы.

У Амерыцы я захапляюся больш усяго не адміністрацыйнымі, а палітычнымі наступствамі дэцэнтралізацыі. У Злучаных Штатах пачуццё радзімы адчуваецца паўсюдна. Радзіма – гэта прадмет заклапочанасьці для ўсіх, пачынаючы са злучыны і заканчваючы Звязам у цэлым. Чалавек жыве зацікаўленасьцямі сваёй

краіны, як сваімі ўласнымі. Ён ганарыцца славай сваёй нацыі, дасягнутымі ёю поспехамі, у якіх ён бачыць часьцінку сваёй працы і гэта яго ўзвышае; ён цешыцца ўсеагульным росквітам, пашыраючымся і на яго самога. Ён адчувае да сваёй радзімы такое ж пачуццё, як да ўласнай сям'і. І разам з тым ён цікавіцца справамі дзяржавы, падахвочваемы вызначанымі эгаістычнымі памкненнямі.

Часьцяком еўрапеец бачыць у дзяржаўным урадаўцу толькі магутнасць; амерыканец жа бачыць у ім права. Такім чынам, можна сцвярджаць, што ў Амерыцы чалавек ніколі не падначальваецца іншаму чалавеку, а падпарадкоўваецца толькі правасуддзю ці закону.

І хаця ён нярэдка пра сябе вельмі высокай думкі, гэта заўсёды адбіваецца на ім становуча. Ён адважна разлічвае на свае ўласныя магчымасьці, якіх, як яму здаецца, хопіць на ўсё.

Напрыклад, у нейкай прыватнай асобы была распрацавана думка пра рэалізацыю нейкага пачынання, якое, скажам, мае непасрэднае дачыненне да грамадзкага дабрабыту, – аднак яму нават у галаву не прыходзіць ідэя звярнуцца да дзяржаўнай улады за дапамогай. Ён тлумачыць свой план, бярэцца сам яго ажыццяўляць, кліча сабе на дапамогу іншых людзей і змагаецца сам-насам з усімі перашкодамі. Безумоўна, нярэдка здараецца так, што ён дамагаецца меншых поспехаў, чым гэта атрымалася б, будзь на яго месцы дзяржава. Аднак, на прыканцы, агульны вынік усіх прыватных пачынанняў нашмат перавышае тое, што была б у стане зрабіць дзяржава.

Дзякуючы таму, што мясцовая ўлада знаходзіцца ў непасрэднай блізкасьці ад тых, кім яна кіруе і таму што яна нейкім чынам прадстаўляе іх саміх, то як зайздрасьці, так і нянавісьці яна ні ў каго не выклікае. А з нагоды таго, што яе сродкі абмежаваны, кожны адчувае, што ён не можа спадзявацца выключна на яе.

Калі ж гэтая ўлада дзейнічае ў межах сваёй кампетэнцыі, яна ніколі не застаецца ў адзіноце, як гэта нярэдка здараецца ў Яўропе. Ніхто не лічыць, што калі да справы далучыўся прадстаўнік дзяржавы, то паўнамоцтвы прыватных асоб скончыліся. Наадварот, кожны накіроўвае дзеянні гэтай службовай асобы і спрыяе ёй ўсімі магчымасьцямі.

Калі індывідуальныя намаганні аб'ядноўваюцца з грамадзкімі, часьцяком атрымліваецца дамагчыся таго, чаго самая сканцэнтраваная і самая дзейная ўлада была б не ў стане зрабіць[120]*.

Я мог бы прывесьці вялікую колькасць фактаў, падмацоўваючых сказанае мной, аднак я аддаю перавагу абмежавацца адзіным прыкладам, выбраўшы той, які мне найлепш знаёмы.

У Амерыцы ў распараджэнні ўлады знаходзіцца вельмі мала сродкаў для выведвання злачынстваў і лаўлення злачынцаў[121].

Нагода такога становішча палягае ў тым, што ў гэтай краіне ўсе людзі зацікаўлены ў знаходжанні доказаў парушэння права і ў злаўленні злачынцы.

[120] (*120 заўвага аўтара пасьля заканчэння кнігі І)

[121] Адміністрацыйнай паліцыі тут не існуе, пра пашпарты ніхто не мае ніякага разумення. Крымінальную паліцыю ў Злучаных Штатах немагчыма нават параўнаць з нашай: прадстаўнікі атарнейскай службы вельмі нешматлікія, пры гэтым яны далёка не заўсёды маюць права заводзіць справы; дазнанне звычайна вядзецца нядоўга і вусна. Аднак я сумняваюся, што ў нейкай іншай краіне злачынства так жа рэдка застаецца безпакараным.

За час майго знаходжання ў Злучаных Штатах я быў сведкам таго, як жыхары акругі, дзе было здзейснена сур'ёзнае злачынства, стыхійна ўтварылі некалькі камітэтаў з мэтай злавіць вінаватага і аддаць яго пад суд.

У Яўропе на злачынцу глядзяць як на няшчаснага чалавека, які робіць усё магчымае, каб выратаваць сябе ад прадстаўнікоў улады, пры гэтым насельніцтва ў некаторым сэнсе прысутнічае пры гэтым паядынку. У Амерыцы ж ён лічыцца ворагам роду чалавечага і супраць яго паўстае ўсё насельніцтва.

Я лічу, што мясцовыя інстытуты ўлады з'яўляюцца карыснымі ўсім народам, аднак ніхто не адчувае ў іх большай патрэбы, чым народ, жывучы пры дэмакратычным грамадзкім уладкаванні.

У арыстакратычнай дзяржаве заўсёды можна з упэўненасьцю разлічваць на захаванне вядомага парадку ва ўмовах волі.

Калі ўрадаўцы рызыкуюць страціць занадта шмат, то парадак набывае для іх велізарнае значэнне.

Можна таксама сцвярджаць, што пры арыстакратычным кіраванні народ абаронены ад крайніх праяваў дэспатызму, таму што заўсёды знаходзіцца нейкая арганізаваная магутнасць, здольная выказаць супраціўленне дэспату.

Дэмакратычная ж дзяржава, не маючая мясцовых інстытутаў улады, цалкам не гарантавана ад падобнага зла.

Як жа можна навучыць масу людзей карыстацца воляй у вялікіх справах, калі яны не прызвычаіўсялі да яе ў малых?

Як супрацьстаяць тыраніі ў краіне, дзе кожны слабы, а людзі ў цэлым не аб'яднаны ніякімі агульнымі зацікаўленасьцямі?

І тыя, хто асьцерагаецца сваволля, і тыя, хто баіцца абсалютысцкай улады, павінны, такім чынам, разам імкнуцца да паступовага развіцця волі на месцах.

Дарэчы, я цалкам перакананы, што менавіта тыя краіны, у якіх сфармавалася дэмакратычнае грамадзкае ўладкаванне, больш, чым іншыя, рызыкуюць патрапіць у кайданы цэнтралізацыі выканаўчай улады.

Для гэтага існуе цэлы шэраг падставаў і ў ліку іншых наступныя.

У гэтых краінах з'яўляецца сталая тэндэнцыя засяроджваць усю ўрадавую магутнасць у руках адзінай улады, непасрэдна прадстаўляючай народ, таму што без такога разумення, як народ, застаюцца толькі асобныя, роўныя паміж сабой грамадзяне, зліваючуяся ў агульную масу.

Тым часам, калі ў гэтай улады ўжо існуюць усе атрыбуты ўрадавай установы, ёй робіцца вельмі складана пярэчыць жаданню пракрасьціся ў самыя дробязі кіраванні і таму яна абавязкова рана ці позна знаходзіць для гэтага нагоду. Мы былі сведкамі падобнага развіцця падзей у сваіх уласных краінах.

У часы Французскай рэвалюцыі існавала два процілеглыя адпаведна са сваім накірункам рухі, якія не варта змешваць: адзін із іх стварыў спрыяльныя перадумовы для развіцця волі. А другі – для дэспатызму.

У старой манархіі ўсе законы выдаваў выключна сам кароль. На ніжэйшым узроўні ўлады захаваліся нейкія парэшткі правінцыйных інстытутаў кіравання, ужо напалову знішчаных. Гэтыя правінцыйныя інстытуты былі слаба злучаны паміж сабой, дрэнна кіраваліся і нярэдка былі проста абсурднымі. У руках арыстакратыі яны часам нават ператвараліся ў прылады прыгнёту.

Рэвалюцыя выступіла як супраць каралеўскай улады, так і супраць правінцыйных установаў кіравання. Яна аднолькава зненавідзела ўсё, што ёй папярэднічала, – і абсалютысцкую ўладу, і тое, што магло памякчыць яе

жорсткасць. Наступствам Рэвалюцыі было адначасова і стварэнне рэспублікі, і цэнтралізацыя ўлады.

Гэты дваісты характар Французскай рэвалюцыі быў спрытна выкарыстаны прыхільнікамі абсалютысцкай улады. Калі вы бачыце, наколькі заўзята яны абараняюць цэнтралізацыю адміністрацыйнай улады, вы лічыце, што яны працуюць на карысць дэспатызму? Нікольki, яны абараняюць адну із самых вялікіх заваёваў Рэвалюцыі. Так яны могуць заставацца папулярнымі сярод народа і разам з тым працівіцца наданню волі гэтаму народу, таемнымі прыслужнікамі тыраніі і галаснымі прыхільнікамі волі.

Я пабываў у двух краінах, дзе сістэма мясцовай вольнасьці існуе вельмі шырока, і я чуў думкі розных бакоў з гэтай нагоды.

У Амерыцы я сустракаўся з людзьмі, якія таемна імкнуліся да знішчэння дэмакратычных інстытутаў у сваёй краіне. У Ангельшчыны я сустракаўся з тымі, хто рэзка нападаў на ўладу арыстакратыі. Аднак ні ў адной із гэтых краін я не знайшоў чалавека, які адмаўляў бы, што мясцовая вольнасць з’яўляецца вялікай выгодай для грамадства.

І ў той і ў другой краіне я чуў пра шмат розных нагод, якімі тлумачыліся тыя ці іншыя заганы дзяржавы, аднак сярод іх ніхто і ніколі не згадваў мясцовыя вольнасьці.

Я чуў, як шматлікія грамадзяне, выказваючыся пра веліч і росквіт сваёй радзімы, прыводзілі нямала доказаў у якасьці доказу гэтага; і ўсё ж, усе яны ставілі на першае месца, вылучаючы ў якасьці асноўнай перавагі іхнай краіны, існаванне мясцовай вольнасьці.

Ці можна пасьля ўсяго гэтага выказаць здагадку, што факты, згоднена прызнаваемыя такімі непадобнымі паміж сабой людзьмі, маючымі адрозныя рэлігійныя перакананні і палітычныя прынцыпы, факты, пра якія яны найлепш могуць судзіць, таму што ўвесь час і штодня сустракаюццм з імі ў жыцці, выявіліся ілжывымі?

Толькі тыя народы, у якіх мясцовыя інстытуты кіравання або слаба распрацаваны, або цалкам адсутнічаюць, адмаўляюць іхную карыснасць; гэта азначае, што іх крытыкуюць толькі тыя, хто цалкам незнаёмы з імі.

# Глава VI

## Судовая ўлада ў Злучаных Штатах і яе уплыў на палітычнае ўладкаванне грамадства

–Англа-амерыканцы захавалі ўсе адметныя рысы судовай улады, якія ўласцівы ёй і ў іншых краінах. –Аднак яны надалі ёй вялікую палітычную вагу. –Як гэта адбылося. –У чым судовая сістэма англа-амерыканцаў адрозніваецца ад судовых сістэм у іншых краінах. –Чаму амерыканскія суддзі маюць права прызнаваць законы неканстытуцыйнымі. –Якім чынам амерыканскія суддзі карыстаюцца гэтым правам. –Меры засьцярогі, прынімаемыя заканадаўцамі для папярэджання злоўжыванняў гэтым правам.

Я палічыў патрэбным прысьвяціць асобную частку разгляданню сістэмы судовай улады ў Злучаных Штатах. Яе палітычнае значэнне такое вялікае, што, на мой пагляд, згадваць пра яе між іншым азначала б прынізіць яе ролю ў вачах чытачоў.

Федэрацыі, акрамя Амерыкі, існавалі і ў іншых месцах; рэспублікі існавалі ў шмат якіх краінах, а не толькі на берагах Новага Сьвету; сістэма прадстаўнічых

устаноў прынята ў некалькіх дзяржавах Яўропы; аднак я не ведаю, каб некалі ў якой-небудзь краіне сьвету сістэма судовай улады была б створана на тых жа прынцыпах, што і амерыканская.

Замежніку цяжэй усяго зразумець у Злучаных Штатах менавіта арганізацыю правасуддзя. Можна сказаць, што няма такой палітычнай падзеі, з нагоды якой ён не чуў бы спасылак на аўтарытэт суддзі, із чаго замежнік, натуральна, робіць выснову, што ў Злучаных Штатах суддзя ўяўляе сабой адну із найважнейшых палітычных магутнасьцей грамадства. Калі ж потым ён пачынае вывучаць уладкаванне судоў, то спачатку не выяўляе нічога, акрамя чыста судовых атрыбутаў і нормаў. Яму здаецца, што суддзі бяруць удзел ў дзяржаўных справах няйнакш як выпадкова, хаця такія выпадковасьці паўтараюцца штодня.

Калі Парыжскі парламент, робячы свае заўвагі, адмаўляе ў рэгістрацыі таго ці іншага ўказа ці ж калі ён выклікае на сваё судовае паседжанне правініўшагася ўрадаўца, у гэтым бачаць адкрытую палітычную дзейнасць судовай улады. Нічога падобнага ў Злучаных Штатах не назіраецца.

Амерыканцы захавалі ўсе характэрныя рысы, уласьцівыя судовай уладзе, і дакладна вызначылі сферу яе дзейнасьці.

Першая адметная ўласцівасць судовай улады ва ўсіх народаў палягае ў тым, што яна служыць арбітрам у спрэчных выпадках. Для таго каб суд пачаў разбіраць нейкую справу, патрэбна наяўнасць спрэчнай сітуацыі. Каб з’явіўся суддзя, павінен існаваць судовы працэс. Да таго часу пакуль закон не дае падставаў лічыць сітуацыю спрэчнай, судовая ўлада не мае магчымасьці браць у ёй удзел. Падобная сітуацыя можа ўжо ўзнікнуць, аднак судовая ўлада як бы не заўважае яе. Калі суддзя, вядучы нейкую справу, ставіць пад сумнеў закон, маючы дачыненне да дадзенай справы, ён тым самым пашырае сферу сваёй кампетэнцыі, але не выходзіць за яе межы, таму што для таго каб выказаць сваю думка пра справу, ён вымушаны ў той ці іншай ступені выказаць сваё меркаванне і пра закон. Калі ж ён дае ацэнку закону, не маючаму дачынення да пэўнага судовага працэсу, то ў гэтым выпадку ён цалкам выходзіць за рамкі сваёй кампетэнцыі і залазіць у сферу дзейнасьці заканадаўчай улады.

Другая адметная ўласцівасць судовай улады складаецца ў тым, што яна выносіць сваё рашэнне грунтуючыся на вызначаных справах, але не на агульных разважаннях. Калі пры разгляданні прыватнага пытання суддзя выступае супраць нейкага агульнага прынцыпа, будучы перакананы, што, аспрэчыўшы падчас разбірання справы кожны довад, выцякаючы із гэтага прынцыпу, ён знішчыць сам прынцып, то ў дадзеным выпадку суддзя застаецца ў межах натуральнай для яго сферы дзейнасьці. Калі ж суддзя непасрэдна выступае супраць нейкага агульнага разумення і знішчае яго без якой бы то ні было сувязі з той ці іншай пэўнай справай, тады ён выходзіць із тых межаў, якія прызначаны для судовай улады грунтуючыся на агульным пагадненні ўсіх народаў: ён робіцца больш важнай, а магчыма, нават і больш карыснай асобай, чым проста суддзя, аднак ён адначасова перастае быць прадстаўніком судовай улады.

Трэццяй адметнай рысай судовай улады з’яўляецца тое, што яна можа дзейнічаць толькі ў тым выпадку, калі да яе звернуцца, ці, кажучы мовай юрыспрудэнцыі, калі ў судзе ўзбуджаецца справа. Дадзеная ўласцівасць не так характэрная для судовай улады, як дзьве папярэднія. Аднак я лічу, што, нягледзячы на выключэнні, гэтую рысу можна лічыць вельмі істотнай. Згодна са сваёй прыродай судовая ўлада статычная – для таго каб яна прыйшла ў рух, яе патрэбна

падштурхнуць. Ёй паведамляюць пра злачынства – і яна карае вінаватага, яе запытваюць пра аднаўленне справядлівасьці – і яна яе аднаўляе, ёй падаюць дакумент – і яна тлумачыць яго змест. Разам з тым сама яна не пачынае ні праследу злачынцаў, ні пошукі фактаў несправядлівасьці, ні вывучэння гэтых фактаў. Судовая ўлада парушыла б нейкім чынам сваю прыродную пасіўнасць, калі б сама выяўляла ініцыятыву і крытычна ацэньвала законы.

Амерыканцы захавалі за судовай уладай гэтыя тры адметныя рысы. Суддзя ў Злучаных Штатах можа выказвацца толькі тады, калі ўзнікае спрэчная сітуацыя; ён займаецца толькі пэўнымі выпадкамі і пачынае дзейнічаць толькі тады, калі ў судзе ўзбуджаецца справа.

Такім чынам, амерыканскі суддзя нічым не адрозніваецца ад суддзяў у іншых краінах. Разам з тым ён надзелены вялізнай палітычнай уладай.

Чаму так адбываецца? Ён дзейнічае ў тых жа межах і карыстаецца тымі ж сродкамі, што і іншыя суддзі; чаму ж ён валодае ўладай, якой пазбаўлены яны?

Нагода гэтага складаецца ў адзіным факце: амерыканцы прызналі за сваімі суддзямі права тлумачыць свае рашэнні, грунтуючыся перадусім на канстытуцыі, а потым ужо на законах, – іншымі словамі, яны дазволілі суддзям кіравацца толькі тымі законамі, якія, на іхны погляд, не супярэчаць канстытуцыі.

Наколькі мне вядома, падобнага права дамагаліся і суддзі іншых краін, аднак яны яго так і не атрымалі. У Амерыцы ж яно прызнаецца ўсімі ўладамі, там вы не сустрэнеце ніводнай партыі, ніводнага грамадзяніна, які б пачаў аспрэчваць дадзенае цьверджанне.

Тлумачэнне гэтаму можна знайсьці ў асноўных прынцыпах, на якіх пабудаваны ўсе амерыканскія канстытуцыі.

У Францыі канстытуцыя нязменная ці, прынамсі, лічыцца такой. Ніякая ўлада не ў стане нешта перамяніць у ёй – такой з’яўляецца агульнапрынятая тэорыя[122]*.

У Ангельшчыне за парламентам прызнаецца права рабіць змены ў канстытуцыю. Такім чынам, у Ангельшчыне канстытуцыя можа зведваць перамены да бясконцасьці, ці, больш дакладна, яе не існуе ногул. Парламент, будучы заканадаўчым органам, з’яўляецца адначасова і ўстаноўчым сходам.

У Амерыцы палітычныя тэорыі вызначаюцца большай прастатой і рацыянальнасьцю.

Канстытуцыя ў Амерыцы не лічыцца непарушнай, як у Францыі; яна не можа быць перагледжана абіраемай уладай, як у Ангельшчыне. Яна з’яўляецца самастойным тварэннем, адлюстроўваючым волю ўсяго народа; яна з’яўляецца абавязковай для заканадаўцаў так жа, як і для простых грамадзянаў. Разам з тым яна можа быць пераменена воляй усяго народа ў адпаведнасьці з усталяванымі правіламі і ў загадзя вызначаных выпадках.

Такім чынам, у Амерыцы канстытуцыя можа змяняцца, аднак да таго часу, пакуль яна існуе, яна з’яўляецца крыніцай якой бы то ні было ўлады, у ёй заключана адзіная пануючая ў грамадстве магутнасць.

Лёгка зразумець, якім чынам вышэйзгаданыя адрозненні адлюстроўваюцца на становішчы і правах судовых устаноў у трох названых мной краінах.

Так, калі б у Францыі суды мелі б права не падпарадкоўвацца законам на той падставе, што яны знаходзяць іх супярэчачымі канстытуцыі, то ў гэтым выпадку ўстаноўчая ўлада сапраўды апынулася б у іхных руках, таму што яны адны

[122] (*122 заўвага аўтара на праканцы кнігі)

валодалі б правам тлумачыць канстытуцыю, вызначэнні якой не могуць быць нікім зменены. Такім чынам, яны занялі б месца ўсяго народа і пачалі б панаваць у грамадстве ў той меры, якую б дазволіла ўласьцівая якой бы то ні было судовай уладзе слабасць.

Я разумею, што, пазбаўляючы суддзяў права аб'вяшчаць законы неканстытуцыйнымі, мы тым самым ускосна даём заканадаўчым органам магчымасць перамяняць канстытуцыю, таму што іх больш не стрымліваюць ніякія праўныя бар'еры. Аднак усё ж лепш даць права перамяняць канстытуцыю, адбіваючую волю народа, тым, хто хай далёка не цалкам, але ўсё ж прадстаўляе гэты народ, чым тым, хто прадстаўляе толькі саміх сябе.

Было б яшчэ больш неразумным даваць ангельскім суддзям права выступаць супраць волі заканадаўчых устаноў, таму што парламант, прымаючы законы, стварае і канстытуцыю, і, такім чынам, закон, выходзячы ад трох улад, ні ў якім разе немагчыма назваць неканстытуцыйным.

Ні тое, ні іншае із вышэйпрыведзеных разважанняў недастасуецца да Амерыкі. У Злучаных Штатах канстытуцыя пануе над заканадаўцамі дакладна так жа, як і над простымі грамадзянамі. Такім чынам, канстытуцыя з'яўляецца асноўным законам дзяржавы, які не можа быць зменены ніякім іншым законам. Таму цалкам слушна, што суды перадусім падначальваюцца канстытуцыі, аддаючы ёй перавагу перад іншымі законамі. Гэта цалкам адпавядае самай сутнасьці судовай улады, таму што натуральным правам кожнага суддзі з'яўляецца адбор сярод нарматыўных актаў тых, з якімі ён найбольш цесна ўзаемазлучаны.

І ў Францыі канстытуцыя з'яўляецца асноўным законам дзяржавы, і суддзі маюць такое ж права браць яе за грунт пры вынясенні сваіх прысудаў. Разам з тым, ажыццяўляючы гэтае права, яны не могуць не спрабаваць скарыстацца іншым правам, больш сьвятым, чым іхнае ўласнае, – а менавіта правам грамадства, ад імя якога яны дзейнічаюць. У гэтым выпадку довады шараговага чалавека павінны саступаць перад довадамі Дзяржавы.

У Амерыцы, дзе народ заўсёды можа, перамяніўшы сваю канстытуцыю, прывесьці суддзяў да падпарадкавання, падобнай пагрозы няма чаго асьцерагацца. У гэтым дачыненні палітыка і логіка сходзяцца, а народ і суддзі карыстаюцца кожны сваімі правамі.

Калі ў судзе Злучаных Штатаў спасылаюцца на закон, які суддзя знаходзіць не адпавядаючым канстытуцыі, ён можа адмовіцца яго ўжываць. Гэтае права маецца толькі ў амерыканскіх суддзяў і яно дае ім вялікі палітычны ўплыў.

У рэчаіснасьці існуе дастаткова мала законаў, якія згодна са сваёй прыродай маглі б працяглы час пазбягаць крытычнага пагляду суддзі, таму што толькі вельмі нешматлікія із гэтых законаў не закранаюць асабістых зацікаўленасьцей, тым больш што бакі ў судовым працэсе маюць права спасылацца на які заўгодна закон.

Тым часам, як толькі суддзя адмаўляецца ўжыць нейкі закон падчас судовага разбору, тут жа маральны ўплыў дадзенага закона звужаецца. І тым людзям, правы якіх гэты закон абмяжоўвае, прыходзіць у галаву думка, што, нарэшце, з'явілася магчымасць пазбавіцца ад абавязку падпарадкоўвацца яму. У гэтай сітуацыі заўважальна павялічваецца колькасць судовых працэсаў, і закон губляе сваю магутнасць. Тады адбываецца адно із двух: або народ уносіць змены ў сваю канстытуцыю, або заканадаўчая ўлада скасоўвае дадзены закон.

Такім чынам, амерыканцы далі сваім судам вялізную палітычную ўладу. Разам з тым суддзі маюць права выступаць супраць нейкага закона толькі шляхам

выкарыстання судовага механізму. Гэтым у значнай ступені памяншаецца небяспека, якую ўтойвае ў сабе падобная ўлада.

Калі б суддзя меў права ставіць пад сумнеў закон тэарэтычна ці ж у агульным плане, ці, калі б ён мог проста згодна са сваёй ініцыятывай наглядаць за дзеяннямі заканадаўцаў, ён стаў бы, такім чынам, выконваць адну із вядучых роляў на палітычных падмостках. Зрабіўшыся прыхільнікам ці ж супернікам той ці іншай партыі, ён пачаў бы далучаць да палітычнага змагання ўсе тыя жарсьці, якія звычайна раздзіраюць краіну. Аднак калі суддзя выказвае недавер закону ў рамках нейкага таемнага судаводства, ды яшчэ і толькі ў дачыненні да прыватнага выпадку, то ён збольшага хавае ад грамадзкай думкі ўсё значэнне сваёй акцыі. Яго прысудам закранаюцца толькі тыя ці іншыя прыватныя зацікаўленасьці, тады як сам закон пры гэтым пакутуе як бы выпадкова.

Акрамя таго, закон, разкрытыкаваны падобным чынам, працягвае існаваць: яго маральны ўплыў памяншаецца, аднак у выніку на практыцы ён цалкам не губляе сваёй магутнасьці. Калі ж закон усё ж спыняе сваё існаванне, то гэта адбываецца паступова, крок за крокам, у выніку бесперапынна наносімых яму ўдараў з боку судовых устаноў.

Акрамя таго, цалкам няцяжка зразумець, што калі закон зведвае крытыку падчас судовага разглядання прыватнага выпадку і калі судовы працэс супраць закона цесна злучаны з працэсам супраць чалавека, то не так лёгка – і ў гэтым можна быць упэўненым – зрабіць заканадаўства аб’ектам нападкаў. Пры такой сістэме заканадаўства не з’яўляецца адкрытай мішэнню і для штодзённых нападкаў з боку розных партый. На памылку заканадаўцы паказваецца ў тым выпадку, калі ў гэтым існуе рэчаісная патрэба, таму што ў судовым працэсе заўсёды грунтуюцца на рэчаісных фактах, паддаючыхся неабходнай праверцы.

Цалкам магчыма, што падобная працэдура амерыканскіх судоў, выдатна адказваючая патрабаванням падтрымкі парадку, таксама спрыяе ў поўнай меры забеспячэнню волі.

Калі б суддзі належыла выступаць супраць заканадаўцаў толькі падчас адкрытай, лобавай атакі, то часам ён не адважваўся б на гэта ці ж, наадварот, пад уплывам сваёй партыйнай прыналежнасьці нападаў бы на іх штодзённа. У гэтым выпадку атрымвалася б так, што законы, прынятыя слабай уладай, зведвалі б безперапынныя нападкі, а законам, уводзімым моцнай уладай, пакорліва б падначальваліся. Іншымі словамі, тыя законы, якія было б карысней усяго выконваць, часта маглі б служыць аб’ектам нападу і, наадварот, падпарадкоўваліся б тым законам, імем якіх існавала б магчымасць лёгка ўціскаць.

Аднак амерыканскі суддзя быў выведзены на палітычную арэну без яго волі. Ён прэпаруе закон толькі таму, што яму патрэбна вынесьці рашэнне па пэўнай судовай справе, а не прыняць такога ашэння ён не мае права. Палітычнае ж пытанне, якое суддзя павінен вырашыць, узаемазлучана з зацікаўленасьцямі бакоў, і ён не ў стане абыйсьці яго, не парушыўшы тым самым справядлівасьці. Выконваючы свае непасрэдныя функцыі, дадзеныя яму ў абавязак у адпаведнасьці з пасадай, суддзя выконвае і свой грамадзянскі абавязак. Цалкам натуральна, такім чынам, што судовы нагляд за законамі, ажыццяўляемы судамі, не можа ахапіць усе законы без выключэння, таму што існуюць і такія законы, якія ніколі не змогуць даць нагоду для крытыкі менавіта ў такой выразна вызначанай форме, як судовы працэс. А калі ж падобнае і здарыцца, то цалкам магчыма, што не знойдзецца нікога, хто пажадаў бы перадаць справу ў суд.

Амерыканцы часта сустракаліся з гэтым недахопам, але ўсё ж пакінулі сродкі ўплыву на закон у незавершаным выглядзе праз баязнь надаць ім залішнюю магутнасць, якая ва ўсякім выпадку можа ўяўляць сабой значную небяспеку.

Разам з тым, нават застаючыся ў вызначаных межах, права амерыканскіх судоў аб'вяшчаць той ці іншы закон не адпавядаючым канстытуцыі служыць усё ж адной із самых магутных перашкод, якія калі-небудзь узводзіліся супраць тыраніі палітычных устаноў.

## Іншыя правы, нададзеныя амерыканскім суддзям

–У Злучаных Штатах усе грамадзяне маюць права заводзіць справу супраць службовых асоб у звычайных судах. –Як яны карыстаюцца гэтым правам. –Артыкул 75-ы французскай канстытуцыі VIII года. –Амерыканцам і ангельцам незразумелы нават сэнс гэтага артыкула.

Я не ведаю, ці патрэбна нагадваць пра тое, што ў такога вольнага народа, як амерыканцы, усе грамадзяне валодаюць правам заводзіць справу супраць той ці іншай службовай асобы ў звычайным судзе і што ўсе суддзі маюць права выносіць абвінаваўчы прысуд у дачыненні да дзяржаўных службоўцаў, – настолькі гэта натуральна.

Наданне судам права караць прадстаўнікоў выканаўчай улады ў выпадках парушэння імі закона цалкам не з'яўляецца асаблівай прэрагатывай судовых устаноў. Наадварот, пазбаўленне іх дадзенага права азначала б парушэнне самой прыроды правасуддзя.

Я не заўважаў, каб у Злучаных Штатах усталяванне адказнасьці ўсіх службовых асоб перад судом мела б наступствам паслабленне ўрадавай улады.

Наадварот, мне здалося, што, зрабіўшы гэта, амерыканцы паднялі павагу народа да тых, хто ім кіруе, таму што прадстаўнікі ўлады ўсімі захадамі імкнуцца нічым не наклікаць на сябе крытыку.

Я таксама не заўважаў, каб у Злучаных Штатах вялося шмат палітычных працэсаў, і я без цяжкасьцей магу гэта сабе патлумачыць. Кожны судовы працэс, незалежна ад яго характару, – заўсёды складаная і дарагая справа. Лёгка вылучыць абвінавачванні супраць службовай асобы ў газетах, аднак для перадачы справы ў суд патрэбны сур'ёзныя падставы. Таму, для таго каб пачаць судовы перасьлед нейкага ўрадаўца, неабходны перадусім грунтоўныя нагоды для скаргі, тады як урадаўцы, асьцерагаючыяся такога судовага перасьледу, зробяць усё, каб не даць такіх падставаў.

Гэта не залежыць ад існуючай у Амерыцы рэспубліканскай формы кіравання; такое ж можа штодня адбывацца і ў Ангельшчыне.

Абодва гэтыя народы цалкам не думалі, што змогуць забяспечыць сваю волю і незалежнасць, дазволіўшы аддаваць пад суд самых высокапастаўленых прадстаўнікоў улады. Яны лічылі, што воля будзе гарантавана хутчэй у тым выпадку, калі ўсе грамадзяне будуць добра асьвядомленымі пра дробныя судовыя працэсы, вядучыяся штодня, чым зрэдку дазнавацца пра буйныя, якія амаль не праводзяцца, а калі і праводзяцца, то занадта позна.

Пад час сярэднявечча, калі злавіць злачынцаў было надзвычай складана, суддзі, да якіх некаторыя з іх усё ж часам трапялі, часта імкнуліся ўчыніць над гэтымі небаракамі самыя жахлівыя пакаранні, што, аднак, не прыводзіла да колькі-небудзь заўважальнага скарачэння злачынстваў. З часам чалавецтва прызнала той

факт, што: робячы правасуддзе больш непазбежным і адначасова больш мяккім, яго ператвараюць у рэчаісна дзейнічаючую магутнасць.

Амерыканцы і ангельцы лічаць, што да самаволі і тыраніі патрэбна ставіцца як да крадзяжу, то бок, іншымі словамі, палягчаць іхны перасьлед у судовым парадку і памякчаць пакаранні.

На VIII годзе існавання Французскай рэспублікі была складзена канстытуцыя, артыкул 75-ы якой абвяшчаў: «Прадстаўнікі ўрада, за выключэннем міністраў, могуць падпадаць перасьледу за свае дзеянні, маючыя дачыненне да іхных службовых абавязкаў, толькі ў выніку пастановы Дзяржаўнай рады; у тадобным выпадку справа падлягае разгляданню ў звычайных судах».

Канстытуцыя VIII года ўжо сцёрлася із памяці, аднак дадзены артыкул захаваўся; на яго і дасёння ўвесь час спасылаюцца, каб аспрэчыць справядлівыя дамаганні грамадзян.

Я нярэдка спрабаваў патлумачыць амерыканцам і ангельцам сэнс 75-а артыкула, але гэта заўсёды выяўлялася для мяне вельмі цяжкай справай.

Ім, перадусім, уяўлялася, што Дзяржаўная рада Францыі – гэта нейкі найвышэйшы суд, створаны ў самым цэнтры каралеўства, а яго функцыі папярэдняга заслухоўвання скардзіўшыхся здаваліся ім праявай тыраніі.

Але калі я паспрабаваў патлумачыць ім, што Дзяржаўная рада цалкам не з’яўляецца судовай інстанцыяй у літаральным сэнсе слова, а належыць да адміністрацыйных установаў, сябры якой знаходзяцца ў поўнай залежнасьці ад караля, так што кароль, самаўладна загадаўшы здзейсніць незаконную справу аднаму са сваіх урадаўцаў, які мае назву прэфект, сваёй вярхоўнай уладай можа загадаць іншаму ўрадаўцу, які мае назву дзяржаўны дарадца, перашкодзіць пакаранню першага. Калі я паказваў ім на чалавека, пацярпеўшага ў выніку каралеўскай дырэктывы і вымушанага звяртацца да таго ж караля за дазволам заклікаць на дапамогу правасуддзе, яны адмаўляліся паверыць у існаванне падобных жахлівых недарэчнасьцей і абвінавачвалі мяне ў хлусні і невуцтве.

Раней пры манархічным уладкаванні нярэдка здаралася так, што парламент выдаваў пастанову пра арышт дзяржаўнага ўрадаўца, здзейсніўшага тое ці іншае парушэнне права. Часам у гэтай справе браў удзел сам кароль і выдаваў загад спыніць пачаты працэс. У гэтым выпадку дэспатызм выяўляўся адкрыта і падпарадкаванне апыналася вынікам падначалення моцы.

Мы ж, як выявілася, адышлі далёка назад ад таго, чаго дамагліся нашы бацькі: мы дазваляем, каб пад маркай правасуддзя і ад імя закона ўзнікалі такія сітуацыі, з якімі нашы продкі мірыліся толькі пад ціскам непрыкрытага гвалту.

# Глава VII

## Пра палітычную юстыцыю ў Злучаных Штатах

–Што аўтар разумее пад палітычнай юстыцыяй. –Што такое палітычная юстыцыя ў Францыі, у Ангельшчыне, у Злучаных Штатах. –У Амерыцы палітычны суд разглядае толькі справы дзяржаўных службовых асоб. –Адхіленне ад пасады як адзін із захадаў пакарання, найбольш часта ўжываемы палітычным судом. –Палітычнае судаводства як звычайны сродак уплыву на службовых асоб з боку ўрада. –Палітычная юстыцыя, існуючая ў Злучаных Штатах – вельмі моцная зброя ў руках большасьці, нягледзячы на сваю мяккасць, а магчыма, і дзякуючы ёй.

Пад палітычнай юстыцыяй я разумею маючую часовы характар судовую функцыю устаноў палітычнай улады.

Урадам, маючым неабмежаваную уладу, не патрэбна надаваць судовым захадам нейкія надзвычайныя формы: манарху, імем якога чыніцца правасуддзе і які з’яўляецца поўнаўладным гаспадаром судовай сістэмы, як, дарэчы, і ўсяго астатняга, няма патрэбы шукаць апраўдання сваім дзеянням, таму што дадзеная яму ўлада сама па сабе з’яўляецца яго гарантам. Адзіная баязнь, якая можа ў яго паўстаць, палягае ў тым, што ў рэчаіснасьці не будзе выконвацца нават бачнасць правасуддзя і што замест таго, каб умацоўваць яго ўладу, яе зняслаўяць.

Але ў шмат якіх вольных краінах, дзе большасць наогул не мае магчымасьці аказваць ціск на суды так, як гэта зрабіў бы абсалютны манарх, часам здаралася, што судовая ўлада на час даручалася ўстановам, непасрэдна прадстаўляючым грамадства. Лічылася, што лепш аб’яднаць на кароткі час розныя ўлады, чым парушыць падставаўтвараючы прынцып урадавага адзінства. Ангельшчына, Францыя і Злучаныя Штаты замацавалі заканадаўчым шляхам увядзенне палітычнага судаводзтва, – было б цікава прааналізаваць, да якіх вынікаў прыйшлі гэтыя тры вышэйзгаданыя вялікія дзяржавы.

Палата лордаў у Ангельшчыне і палата пэраў у Францыі ўтвараюць вышэйшыя крымінальныя суды[123] сваіх краін. Яны не разглядаюць усе без выключэння справы палітычнага характару, але маюць права гэта рабіць.

Нароўні з палатай пэраў і палатай лордаў у гэтых краінах існуюць установы палітычнай улады, валодаючыя правам вылучаць абвінавачванні. Адзінае адрозненне, якое існуе ў гэтым дачыненні паміж дзвума краінамі, складаецца ў наступным: у Ангельшчыне сябры палаты злучын могуць абвінавачваць у палаце лордаў усіх, каго ім толькі заманецца, тады як у Францыі сябры палаты дэпутатаў могуць прыцягваць да адказнасьці толькі каралеўскіх міністраў.

У астатнім жа як палата лордаў, так і палата пэраў маюць права выкарыстоўваць якія заўгодна нормы крымінальнага заканадаўства для пакарання парушальнікаў права.

У Злучаных Штатах, як і ў Яўропе, адна із палат заканадаўчага корпуса надзелена правам пачынаць справу, а іншая – правам выносіць прысуд. Палата прадстаўнікоў паказвае на вінаватага, а сенат прызначае яму пакаранне.

Аднак ніхто, акрамя сябраў палаты прадстаўнікоў, не мае права звяртацца ў сенат з мэтай пачынання справы, а абвінавачванні палаты прадстаўнікоў могуць быць накіраваны толькі супраць дзяржаўных службовых асоб. Такім чынам, кампетэнцыя сената некалькі вужэйшая, чым кампетэнцыя палаты пэраў у Францыі, аднак палата прадстаўнікоў карыстаецца правам абвінавачвання больш шырокага кола асоб, чым нашы дэпутаты.

Разам з тым самае істотнае адрозненне паміж Амерыкай і Яўропай складаецца ў наступным: у Яўропе палітычныя суды могуць ужываць якія заўгодна нормы крымінальнага заканадаўства. У Амерыцы ж палітычны суд, пасьля таго як ён прыняў рашэнне пазбавіць афіцыйнай пасады абвінавачваемага і абвясьціў яго нявартым займаць у будучым якую б то ні было палітычна значымую пасаду, вычэрпвае свае паўнамоцтвы і справа перадаецца ў суды агульнай юрысдыкцыі.

Будзем лічыць, што прэзідэнт Злучаных Штатаў здзейсніў злачынства, кваліфікуемае як дзяржаўная здрада.

[123] Акрамя таго, палата лордаў у Ангельшчыне з’яўляецца апошняй апеляцыйнай інстанцыяй у некаторых грамадзянскіх справах. Гл.: Блэкстан, кн. III, гл. IV.

Палата прадстаўнікоў выступае ў ролі абвінаваўцы, сенатары прымаюць рашэнне пазбавіць яго пасады, а потым ён паўстае перад судом прысяжных, які валодае вылучным правам пазбавіць яго волі ці нават жыцця.

Гэтая акалічнасць канчатковая і ў дэталях тлумачыць цікавячае нас пытанне.

Усталяваная законам сістэма палітычнай юстыцыі ў Яўропе мела на мэце прыцягненне да адказнасьці асабліва важных злачынцаў, незалежна ад іхнага паходжання, сацыяльнага статусу ці узроўню іхнай улады ў дзяржаве. Каб дасягнуць гэтага, вярхоўнаму органу палітычнай улады пад час вызначаных момантаў надаюцца ўсе прэрагатывы судоў.

Заканадавец, такім чынам, ператварыўся ў суддзю: ён атрымаў магчымасць усталёўваць факт злачынства, кваліфікаваць яго і прызначаць для парушальніка права меру пакарання. Надаючы заканадаўцу права суддзі, закон усклаў на яго і ўсе судзейскія абавязкі і абавязаў яму выконваць усе фармальнасьці, якія звычайна ўласцівы правасуддзю.

Калі французскі ці ангельскі палітычны суд прыцягвае да адказнасьці дзяржаўнага ўрадаўца і выносіць яму абвінаваўчы прысуд, самім гэтым фактам ён пазбаўляе яго пасады і можа абвясьціць яго нявартым займаць падобныя пасады ў будучыні. Аднак такія палітычныя захады пакарання, як пазбаўленне пасады і забарона займаць яе пазьней, з’яваўляюцца вынікам прысуду, але не ўтрымліваюцца ў самым прысудзе як такім.

У Яўропе, такім чынам, судова-палітычнае рашэнне з’яўляецца хутчэй актам правасуддзя, чым адміністрацыйным захадам.

У Злучаных Штатах справа ідзе цалкам інакш, у чым лёгка пераканацца: судова-палітычнае рашэнне уяўляе сабой перадусім адміністрацыйны захад, а не акт правасуддзя.

Бясспрэчна, што рашэнне сената па сваёй форме мае ўсе ўласцівасьці судовай пастановы. Для таго каб прыняць яго, сенатары павінны дзейнічаць у адпаведнасьці з уласцівымі судовай практыцы ўрачыстасьцю і фармальнасьцямі. Гэтае рашэнне мае прыкметы судовага і згодна з характарам свайго матывавання: звычайна, падчас прыняцця рашэння сенатары павінны грунтавацца на факце парушэння нормаў агульнага права. Аднак сутнасць самага рашэння з’яўляецца чыста адміністрацыйнай.

Калі б амерыканскія заканадаўцы сапраўды імкнуліся надаць установе палітычнай улады шырокія судовыя паўнамоцтвы, яны б не абмежавалі сферу яе дзейнасьці прыцягненнем да адказнасьці толькі дзяржаўных службовых асоб, таму што самыя небяспечныя ворагі дзяржавы могуць цалкам не займаць ніякай дзяржаўнай пасады. І гэта перадусім мае дачыненне да тых рэспублік, дзе падтрымка той ці іншай партыі з’яўляецца галоўнай крыніцай магутнасьці і дзе самую вялікай уладу часта маюць тыя, хто афіцыйна не займае ніякіх важных пасад.

Акрамя таго, калі б амерыканскія заканадаўцы збіраліся пакінуць самаму грамадству права папярэджваць буйныя злачынствы так, як гэта адбываецца ў выніку дзейнасьці судоў, то бок надаючы людзям баязнь перад пакараннем, то яны б дазволілі палітычным судам карыстацца ўсімі захадамі, абумоўленымі крымінальным заканадаўствам. Аднак заканадаўцы надалі гэтым судам толькі нейкую вельмі недасканалую зброю, якая не здольна ўплываць на найбольш небяспечных злачынцаў. Ды і што азначае пазбаўленне права займаць дзяржаўныя пасады для таго, хто імкнецца скасаваць самі законы?

Такім чынам, галоўным заданнем палітычнай юстыцыі ў Злучаных Штатах з'яўляецца пазбаўленне ўлады тых, хто няправільна выкарыстоўвае яе, а таксама гарантыя таго, што і пасьля дадзены грамадзянін не будзе надзелены падобнай уладай. Із гэтага вынікае, што рашэнне палітычнага суда ёсць не што іншае, як адміністрацыйны акт, выяўлены ва ўрачыстай форме судовай пастановы.

Такім чынам, амерыканцы стварылі нейкую змяшаную сістэму: яны надалі працэдуры адхілення ад пасады вызначана судова-палітычны характар і разам з тым забралі ў палітычнай юстыцыі магчымасць ужываць найбольш суровыя захады пакарання.

Зыходзячы із гэтага, мы можам бачыць, наколькі ўсё робіцца ўзаемазлучаным: знаходзіцца тлумачэнне таму, чаму згодна з амерыканскімі канстытуцыямі ўсе грамадзянскія службовыя асобы падлягаюць юрысдыкцыі сената і чаму гэта не мае дачынення да вайскоўцаў, хаця іхных злачынстваў варта асьцерагацца яшчэ больш. У грамадзянскай сферы ў амерыканцаў практычна ўсе дзяржаўныя службовыя асобы нязменныя: адны займаюць свае пасады пажыццёва, іншыя атрымліваюць паўнамоцтвы ад выбарцаў, і, такім чынам, іх немагчыма ліквідаваць. Таму, для таго каб пазбавіць улады гэтых дзяржаўных службоўцаў, іх усіх патрэбна аддаць пад суд. Тым часам вайскоўцы падначальваюцца кіраўніку дзяржавы, які, у сваю чаргу з'яўляецца грамадзянскай службовай асобай. Такім чынам, кожны ўдар, накіраваны супраць яго, пашыраецца і на ўсіх вайскоўцаў[124].

Калі зараз мы пачнём параўноўваць вынікі, да якіх прыводзяць ці могуць прывесьці дзеянні як еўрапейскай, так і амерыканскай сістэмы, то выявім, што і тут ёсць вельмі істотныя адрозненні.

У Францыі і ў Ангельшчыне палітычныя суды разглядаюцца ў якасьці надзвычайнага сродку, які грамадства павінна выкарыстоўваць для свайго выратавання толькі ў перыяды найвялікшай небяспекі.

Немагчыма адмаўляць той факт, што палітычны суд, прынамсі такі, якім яго бачаць у Яўропе, парушае кансерватыўны прынцып падзелу ўлады і з'яўляецца сталай пагрозай волі і жыццю людзей.

У Злучаных жа Штатах палітычны суд толькі ўскосна закранае прынцып падзелу ўлады і цалкам не пагражае жыццю грамадзянаў; у адрозненні ад Яўропы, не навісаючы дамоклавым мячом літаральна над усімі галовамі, ён карае толькі тых, хто, пагаджаючыся на тую ці іншую дзяржаўную пасаду, загадзя гатовы да яго суровых захадаў.

Палітычны суд у Злучаных Штатах адначасова і менш грозны, і менш дзейсны.

Акрамя таго, заканадаўцы Злучаных Штатаў разглядалі яго не ў якасьці надзвычайнага сродку выратавання грамадства ў выпадку вялікіх бедзтваў, а як звычайны сродак кіравання краінай.

З гэтага боку гледжання палітычны суд, магчыма, выказвае больш істотны ўплыў на грамадзкае ўладкаванне Амерыкі, чым на грамадзкае ўладкаванне Яўропы. Сапраўды, не варта памыляцца ў дачыненні да ўяўнай мяккасьці амерыканскага заканадаўства ў тым, што да судова-палітычных вырашэнняў. Перадусім, варта пазначыць, што ў Злучаных Штатах суд, выносячы судова-палітычныя рашэнні, складаецца із тых жа элементаў і зведвае тыя ж уплывы, што і ўстановы палітычнай улады, маючая права абвінавачвання, і гэта непазбежна

[124] Гэта цалкам не азначае, што афіцэра можна пазбавіць яго звання, але гэта азначае, што яго можна адхіліць ад кіруючай пасады.

прыводзіць да разгулу помслівых міжпартыйных жарсьцяў. Такім чынам, хаця палітычныя суддзі ў Злучаных Штатах не могуць прызначаць такія суровыя пакаранні, да якіх звяртаюцца палітычныя суддзі ў Яўропе, у Амерыцы існуе значна менш шанцаў быць апраўданым імі. Асуджэнне менш грознае, аднак, больш непазбежнае.

Еўрапейцы, засноўваючы палітычныя суды, мелі сваёй галоўнай мэтай пакараць вінаватых; амерыканцы мелі на мэце пазбавіць іх улады. У Злучаных Штатах судова-палітычнае рашэнне з'яўляецца, у некаторай ступені, прэвентыўным захадам. Такім чынам, тут суддзя не павінен быць моцна абмежаваны дакладнай дэфініцыяй складу злачынства.

Няма нічога больш небяспечнага чым невыразнасць вызначэнняў, так званых, палітычных злачынстваў, якія даюцца ў амерыканскіх законах. «Злачынствы, могучыя мець наступствам асуджэнне прэзідэнта, – гаворыцца ў Канстытуцыі Злучаных Штатаў, разд. IV, ст. 1, – па-сутнасьці дзяржаўная здрада, хабарніцтва ці іншыя важныя злачынствы і правіны». Большасць канстытуцый амерыканскіх штатаў яшчэ больш нявызначаныя і невыразныя.

«Дзяржаўныя службовыя асобы, – гаворыцца ў канстытуцыі штата Масачусетс, – могуць быць прыцягнуты да адказнасьці за злачынныя паводзіны, якім яны вызначыліся, а таксама за дрэннае кіраванне»[125]. «Кожны ўрадавец, паставіўшы Дзяржаву пад небяспеку дрэнным кіраваннем, хабарніцтвам ці іншымі правінамі, – паведамляецца ў канстытуцыі штата Віргінія, – можа паўстаць у якасьці абабвінавачваемага перад палатай прадстаўнікоў». Існуюць канстытуцыі, якія цалкам не пазначаюць ніякіх відаў злачынстваў з тым, каб не выказваць ціск на дзяржаўных службовых асоб, таму што кола дзеянняў, за якія яны маглі б несьці адказнасць, цалкам не абмежавана[126].

Аднак адважуся заўважыць, што менавіта мяккасць амерыканскіх законаў у гэтай вобласьці надае ім асабліва грозны характар.

Мы ўжо бачылі, што ў Яўропе адхіленне дзяржаўнага ўрадаўца ад пасады і палітычная забарона займаць падобную пасаду ў будучыні з'яўляецца ўсяго толькі адным із наступстваў прызначанага яму пакарання, тады як у Амерыцы гэта і ёсць само пакаранне. Із гэтага вынікае наступнае: у Яўропе палітычныя суды надзелены жахлівымі правамі, якімі яны не заўсёды ведаюць як карыстацца; здараецца, што яны цалкам не прызначаюць пакарання праз баязнь пакараць занадта сурова. У Амерыцы ж ніхто не спыняецца перад пакараннем менавіта таму, што яно не выклікае жаху ў людзей: прысудзіць палітычнага суперніка да сьмерці з мэтай пазбавіць яго ўлады з'яўляецца жахлівым забойствам у вачах усіх людзей; аднак абвясьціць свайго суперніка нявартым распараджацца ўладай і пазбавіць яго гэтай улады, пакінуўшы яму волю і жыццё, можа выглядаць сумленным вынікам змагання.

Тым часам дадзенае рашэнне, прынімаемае так проста, не робіцца ад гэтага меншым няшчасьцем для тых, на каго яно пашыраецца. Буйныя злачынцы, бясспрэчна, не звернуць ніякай увагі на гэтыя марныя праявы строгасьці закона, тады як звычайныя людзі будуць бачыць у ім акцыю, маючую на мэце зьнішчыць іхнае становішча ў грамадстве, заплямiць іхны гонар і прысудзіць іх да ганебнай бяздзейнасьці, якая для іх з'яўляецца больш жахлівай чым сама сьмерць.

---

[125] Гл. I, раздзел II, § 8.

[126] Гл. канстытуцыі штатаў Ілінойс, Мэн, Канэктыкут і Джорджыя.

Такім чынам, уплыў, рабімы рашэннямі палітычных судоў на жыццё грамадства, з той нагоды што яны здаюцца менш згубнымі, робіцца ад гэтага яшчэ больш значным. Механізм прыняцця судова-палітычнага вырашэння не мае непасрэднага дачынення да тых, кім кіруюць; аднак ён цалкам перадае тых, хто кіруе, пад уладу большасьці; права прынімаць судова-палітычныя рашэнні цалкам не дае заканадаўчаму органу той вялізнай улады, якой ён можа карыстацца толькі ў крызісных сітуацыях; яно дае заканадаўцам умераную і спарадкаваную ўладу, ажыццяўляемую штодня. Калі магутнасць меньшая, то, з аднаго боку, ёю больш зручна карыстацца, а з другога – ёю лягчэй злоўжываць.

Таму, пазбаўляючы палітычныя суды права ўсталёўваць чыста судовыя пакаранні, амерыканцы, як мне здаецца, хутчэй папярэдзілі жахлівыя наступствы тыраніі заканадаўчых устаноў, чым тыранію як такую. І калі ўзважыць усё «за» і «супраць», то яшчэ невядома, ці не выявіцца палітычны суд у тым выглядзе, як яго разумеюць у Злучаных Штатах, самай грознай зброяй, якая калі-небудзь была перадаваема ў дырэктыву большасьці.

Думаю, будзе лёгка вызначыць момант, калі амерыканскія рэспублікі пачнуць занепадаць; для гэтага дастаткова будзе ведаць, павялічылася ці не колькасць палітычных працэсаў у судах[127]*.

# Глава VIII

## Пра федэральную канстытуцыю

Да гэтага часу я разглядаў кожны штат як нейкае асобнае цэлае і паказваў на розныя механізмы грамадзкага жыцця, рухаемыя самім народам, а таксама на розныя сродкі, выкарыстоўваемыя імі. Аднак усе штаты, пра якія я згадваў як пра незалежныя дзяржавы, у вызначаных выпадках усё ж абавязаны падначальвацца вярхоўнай уладзе, а менавіта ўладзе ўсяго Звязу ў цэлым. Нарэшце, прыйшоў час апісаць тыя паўнамоцтвы вярхоўнай улады, якія былі перададзены Звязу, і адначасова кінуць збеглы пагляд на федэральную канстытуцыю[128].

### Гісторыя федэральнай канстытуцыі

–Паходжанне першага Звязу. –Яго слабасць. –Кангрэс звяртаецца да устаноўчай улады. –Двухгадовы адрэзак часу, аддзяляючы гэты момант ад даты абнародавання новай канстытуцыі.

Трынаццаць асад, якія адначасова вызваліліся ад панавання Ангельшчыны на прыканцы мінулага стагоддзя, мелі, як ужо было пазначана мной вышэй, агульную рэлігію, агульную мову, агульныя звычаі і амаль аднолькавыя законы. Яны вялі змаганне з агульным ворагам, і, такім чынам, у іх непазбежна павінны былі знайсьціся сур’ёзныя нагоды да ўтварэння цеснага звязу і зліцця ў адзіную нацыю.

Тым часам кожная асада жыла сваім уласным жыццём і мела свой уласны ўрад, у кожнай із іх склаліся асобныя зацікаўленасьці і традыцыі. З нагоды гэтага ўсе яны актыўна пярэчылі стварэнню апісанага вышэй трывалага і ўсебаковага звязу, які мог набыць сваю значнасць толькі коштам страты індывідуальнай ролі кожнай із іх. Адсюль вынікаюць дзьве працілеглыя тэндэнцыі: адна

[127] (* 127 заўвага на прыканцы першай кнігі)

[128] Гл. тэкст федэральнай канстытуцыі.

падштурхоўвала англа-амерыканцаў да аб’яднання, другая ж прыводзіла іх да раз’яднання.

Пакуль ішла вайна з метраполіяй, жыццёвая патрэбна вымушала аддаваць перавагу прынцыпу аб’яднання. І хаця законы, на падставе якіх быў заснаваны дадзены звяз, былі вельмі недасканалыя, узаемасувязь паміж штатамі працягвала існаваць[129].

Аднак, як толькі мір быў заключаны, заганы заканадаўства выявіліся з усёй відавочнасьцю: дзяржава распалася фактычна на вачах. Кожная асада, здабыўшы незалежнасць, стала цалкам суверэннай рэспублікай. Федэральны ўрад, які сама канстытуцыя выракла на немач і які асады перасталі падтрымліваць адчуўшы адсутнасць агульнай для ўсіх небяспекі, страціў свой аўтарытэт да такой ступені, што сьцяг Злучаных Штатаў ператварыўся ў аб’ект для кпінаў з боку ўсіх вялікіх народаў Яўропы. Гэты ўрад нават не здолеў знайсьці магчымасць даць адпор індэйскім плямёнам і адначасова выплачваць адсоткі па пазыкам, зробленых ім пад час перыяду Вайны за незалежнасць. Знаходзячыся на краю пагібелі, ён афіцыйна абвясьціў сябе недзеяздольным і заклікаў на дапамогу ўстаноўчую ўладу[130].

Калі ў Амерыкі калі-небудзь і атрымлівалася, хаця б на імгненне падняцца да таго найвялікшага піка славы, якую яе жыхары, ахопленыя гонарам, жадалі б навечна ўкараніць у нашу свядомасць, то гэта, мабыць, адбылося ў той урачысты момант, калі агульнанацыянальная ўлада ў пэўным сэнсе адмовілася ад свайго панавання.

Няма нічога незвычайнага ў тым, што той ці іншы народ энергічна змагаецца за сваю незалежнасць, – у кожным стагоддзі мы можам знайсьці такія прыклады. Дарэчы, намаганні, выдаткаваныя амерыканцамі з тым, каб пазбавіцца ад валадарства ангельцаў, моцна перабольшаны. Аддзеленыя ад свайго суперніка акіянскімі абшарамі адлегласьцю роўнай 1300 лье і падтрыманыя магутным хаўруснікам, Злучаныя Штаты абавязаны сваёй перамогай у значна большай ступені свайму геаграфічнаму месцаванню, чым магутнасьці сваёй зброі ці патрыятызму грамадзянаў. Хто адважыўся б параўноўваць вайну амерыканцаў з войнамі перыяду Французскай рэвалюцыі, а намаганні Злучаных Штатаў – з нашымі намаганнямі, калі Францыя, адбіваючы атакі літаральна ўсёй Яўропы, без грошай, без крэдытаў, без хаўруснікаў, кідала дваццатую частку свайго насельніцтва насустрач непрыяцелю, адначасова тушачы пажар, ахапіўшы ўсю краіну, а ў другой руцэ трымаючы паходню, асвятляючую ўсё навакол? Аднак новае ў гісторыі чалавецтва было ўсё ж у тым, што вялікі народ, апавешчаны сваімі заканадаўцамі пра скасаванне ўрадавай машыны, без залішняй паспешнасьці і без страху звярнуў увагу на самога сябе, ацаніў глыбіню зла і, стрымліваючы сябе на працягу двух гадоў, паспрабаваў знайсьці той сродак, які б яго выратаваў, а, ужо знойшоўшы гэты сродак, падначаліўся яму самаахвотна, не праліўшы ніводнай слязы і ні найменшай кроплі крыві.

Калі недахопы першай канстытуцыі сталі для ўсіх відавочнымі, запал палітычных жарсьцяў, меўшых наступствам рэвалюцыю, збольшага ўжо паменшыўся, а ўсе вялікія людзі, народжаныя гэтай рэвалюцыяй, былі яшчэ жывымі. Для Амерыкі гэта выявілася падвойным поспехам. У нешматлікай

[129] Гл. артыкулы першай канфедэрацыі, утворанай у 1778 годзе. Усімі штатамі дадзеная канстытуцыя была прынята толькі ў 1781 годзе. Гл. таксама аналіз гэтай канстытуцыі, прыведзены ў «Федэралісце» (№ 15-22), а таксама Сторы: Каментары да Канстытуцыі Злучаных Штатаў, с. 85-115.

[130] Кангрэс зрабіў гэтую заяву 21 лютага 1787 года.

асамблеі[131], пачаўшай стварэнне другой канстытуцыі, бралі ўдзел лепшыя розумы і самыя шляхетныя характары, якія калі-небудзь сустракаліся ў Новым Сьвеце. Старшынёй на гэтай асамблеі быў Джордж Вашынгтон.

Гэтая агульнанацыянальная камісія пасьля працяглых і ўдумлівых абмеркаванняў прадставіла, нарэшце, на зацьверджанне народа збор асноўных законаў, якія аж да нашых дзён вызначаюць жыццё Звязу. Паступова ўсе штаты, адзін за адным, прынялі яго[132]. Новы федэральны ўрад прыступіў да выканання сваіх абавязкаў у 1789 годзе, пасьля двухгадовага перыяду міжцарства. Такім чынам, Амерыканская рэвалюцыя скончылася якраз тады, калі пачалася наша.

## Агульныя рысы федэральнай канстытуцыі

–Падзел улады паміж федэральным урадам і ўрадамі асобных штатаў. –Урады штатаў з'яўляюцца ўстановамі, дзейнічаючымі на грунце агульнага права, тады як федэральны ўрад – на грунце надзвычайнага права.

Амерыканцы сытукнуліся з першай цяжкасьцю: справа ішла пра падзел улады такім чынам, каб розныя штаты, уваходзячыя ў склад Звязу, працягвалі кіраваць сваімі справамі самастойна ва ўсім, што мела дачыненне да іхнага ўнутранага дабрабыту, і каб пры гэтым уся нацыя, аб'ядняная ў Звяз, існавала як адзінае цэлае і валодала б уладай, дастатковай для забеспячэння ўсіх агульных для яе патрэб. Гэтае заданне выявілася вельмі складаным і цяжка вырашаемым.

Было цалкам немагчыма загадзя з усёй дакладнасьцю і паўнатой усталяваць, якія паўнамоцтвы пры падзеле вярхоўнай улады павінны перайсьці да ўрада штата, а якія – да федэральнага ўрада.

Хто мог наперад прадбачыць усе драбнюткія падрабязнасьці штодзённага жыцця народа?

Правы і абавязкі федэральнага ўрада было проста і лёгкае ўсталяваць, таму што сам Звяз быў створаны дзеля задавальнення некаторых найбольш агульных для ўсіх патрэб. Правы і абавязкі ўрадаў штатаў выявіліся, наадварот, вельмі шматлікімі і складанымі, таму што гэтыя ўрады бралі ўдзел ва ўсіх падрабязнасьцях жыцця грамадства.

Такім чынам, спачатку з усёй дбайнасьцю былі вызначаны паўнамоцтвы федэральнага ўрада, а потым было заяўлена, што ўсе тыя паўнамоцтвы, якія не ўвайшлі ў гэты пералік, перадаюцца ў кампетэнцыю ўрадаў штатаў. У выніку ўрадам штатаў былі перадзены ўсе агульныя правы, тады як федэральны ўрад пакінуў за сабой толькі надзвычайныя[133].

Але, як і меркавалася, на практыцы могуць узнікаць пытанні пра дакладныя межы кампетэнцыі гэтага выключнага адпаведна са сваім характарам урада, а таму што было небяспечна пакідаць рашэнне дадзеных праблем на меркаванне

[131] У яе склад уваходзіла ўсяго 55 сябраў, у ліку якіх Вашынгтон, Мэдысан, Гамільтон і двое Морысаў.

[132] Прынімалі яе цалкам не заканадаўцы, а адмыслова з гэтай мэтай абраныя народам дэпутаты. Новая канстытуцыя стала прадметам самых грунтоўных і гарачых дыскусій падчас асамблей, праходзіўшых у кожным штаце.

[133] Гл. папраўкі да федэральнай канстытуцыі. «Федэраліст», № 132; Сторы: с.711; Кент: Каментары, т. I, с. 364. Варта таксама адзначыць, што ў тых выпадках, калі канстытуцыя не надае кангрэсу надзвычайнага права вырашаць тыя ці іншыя пытанні, штаты могуць рабіць гэта самі да тых пор, пакуль кангрэс не зробіць ласку гэтым заняцца. Напрыклад, кангрэс мае права выдаць агульны закон пра банкруцтва, аднак не робіць гэтага: кожны штат у такім разе можа прыняць гэты закон у тым выглядзе, у якім яму пажадана. Дарэчы, дадзенае правіла было ўсталявана толькі пасьля працяглых абмеркаванняў у судах, таму што яно мае самае непасрэдна дачыненне да юрыспрудэнцыі.

звычайных судоў, створаных у розных штатах самімі ж штатамі, то ў сувязі з гэтым быў заснаваны федэральны Вярхоўны суд[134], унікальная судовая ўстанова, адной із прэрагатыў якой было падтрыманне таго падзелу ўлады паміж двума супернічаючымі ўрадамі, які быў першапачаткова ўсталяваны самай канстытуцыяй[135].

## Прэрагатывы федэральнага ўрада

–Перадача федэральнаму ўраду права заключаць мір, аб'яшчаць вайну, усталёўваць агульныя падаткі. –Пытанні ўнутранай палітыкі, якія знаходзяцца ў яго веданні. –Урад Звязу, больш цэнтралізаваны ў некаторых дачыненнях, чым каралеўская ўлада пад час эпохі старой французскай манархіі.

Народы ўступаюць у дачыненні адзін з адным падобна таму, як гэта робяць асобныя людзі. Такім чынам, для таго каб паспяхова падтрымліваць стасункі з замежнымі дзяржавамі, нацыі патрэбны адзіны ўрад.

І Звязу было перададзена выключнае права заключаць мір і аб'яшчаць вайну, заключаць гандлёвыя пагадненні, фарміраваць войска, ствараць і ўтрымліваць вайскова-марскі флот[136].

Неабходнасць стварэння агульнанацыянальнага ўрада адчуваецца менш настойліва падчас кіравання ўнутранымі справамі грамадства.

Аднак і ў гэтай вобласці існуюць вызначаныя, агульныя для ўсіх зацікаўленасьці, задаволіць якія з большай карысьцю здольна толькі агульнанацыянальная ўлада.

Звязу было перададзена права вырабляць манету, рэгуляваць яе каштоўнасць і каштоўнасць замежных грошай, ствараць паштовыя службы, пракладаць асноўныя шляхі стасункаў, злучаючыя разам розныя часьці нацыянальнай тэрыторыі[137].

Усімі было прызнана, што ўрад кожнага штата цалкам вольна дзейнічае ў сферы сваіх паўнамоцтваў, хаця ён мог і злоўжываць дадзенай яму воляй і неразумнымі дзеяннямі стварыць пагрозу бяспекі ўсяго Звязу ў цэлым. У такіх

---

[134] Як мы зможам далей пераканацца, вышэй згаданы суд меў да гэтага вельмі ўскоснае дачыненне.

[135] У 45-м нумары «Федэраліста» падзел вярхоўнай улады паміж федэрацыяй і асобнымі штатамі тлумачыцца наступным чынам: «Паўнамоцтвы, надаваемыя канстытуцыяй федэральнаму ўраду, дакладна вызначаны і нешматлікія. Тыя ж паўнамоцтвы, якія замацаваны за ўрадам кожнага штата, наадварот, дастаткова невыразныя і шматлікія. Першыя рэалізуюцца пераважна ў знешняй сферы дзейнасьці дзяржавы, напрыклад, у пытаннях вайны і міру, перамоваў, гандлю. Правы, якія пакінулі за сабой асобныя штаты, пашыраюцца на ўсе вобласьці штодзённага жыцця і выкарыстоўваюцца для забеспячэння адпаведных умоваў існавання людзей, волі і дабрабыту дадзенага вызначанага штата». Мы яшчэ нярэдка будзем спасылацца ў гэтым творы на «Федэраліста». Калі законапраект, пераўтвораны пасьля ў Канстытуцыю Злучаных Штатаў, усё яшчэ знаходзіўся на абмеркаванні народа, ухвалу якога ён павінен быў атрымаць, тры знакамітыя грамадзяніны, якія пазьней набылі яшчэ большую вядомасць, а менавіта Джон Джэй, Гамільтан і Мэдысан, агульнымі намаганнямі імкнуліся паказаць народу ўсе перавагі пададзенага на яго ўхвалу праекта. З гэтай мэтай яны апублікавалі шэраг артыкулаў, сабраўшы іх у адным часопісе. Дадзеныя артыкулы ўсё разам склалі канчатковы трактат пра канстытуцыю. Яны назвалі гэты зборнік «Федэраліст», і дадзеная назва так і засталося за выданнем. «Федэраліст» – гэта выдатны зборнік, які, нягледзячы на тое, што мае дачыненне толькі да Амерыкі, павінен быць добра вядомы дзяржаўным дзеячам усіх краін сьвету.

[136] Гл. канстытуцыю, разд. VIII; «Федэраліст», № 41, № 42; Кент. Каментары: т. I, с. 207; Сторы: с. 358-382, с. 409-426.

[137] Яму было перададзена яшчэ нямала аналагічных правоў: напрыклад, права прымаць аднастайныя законы пра банкруцтва, замацоўваць за аўтарамі выключнае права на вынаходніцствы... Няцяжка зразумець, чаму менавіта ў гэтых пытаннях перадача ініцыятывы Звязу была палічана мэтазгоднай.

рэдкіх і загадзя вызначаных выпадках федэральны ўрад атрымаў права браць удзел ва ўнутраных справах штатаў[138]. Такім чынам, цалкам прызнаючы за кожнай із уваходзячых у федэрацыю рэспублік права рабіць змены ў сваім заканадаўстве і пераглядаць яго, ім, аднак, забаранілі выдаваць законы, маючае зваротнае ўздзеянне, а таксама даравАць дваранскія тітулы[139].

І нарэшце, для таго каб федэральны ўрад меў магчымасць выконваць ускладзеныя на яго абавязкі, яму было дадзена неабмежаванае права спаганяць падаткі[140].

Калі ўважліва паглядзець на падзел кампетэнцыі паміж федэрацыяй і штатамі, як гэта зафіксавана ў федэральнай канстытуцыі, калі прааналізаваць тыя паўнамоцствы вярхоўнай улады, якія пакінулі за сабой асобныя штаты, а таксама тыя, якія былі перададзены Звязу, то лёгка заўважыць, што федэральныя заканадаўцы склалі сабе надзвычай выразныя і дакладныя ўяўленні пра тое, што я раней назваў цэнтралізацыяй урадавай улады.

Злучаныя Штаты з'яваўляюцца не толькі рэспублікай, але яшчэ і федэрацыяй. Тым часам агульнанацыянальная ўлада ў гэтай краіне выявілася ў пэўных дачыненнях больш цэнтралізаванай, чым у шмат якіх абсалютысцкіх манархіях Яўропы той жа эпохі. У якасьці доказу я прывяду тут усяго толькі два прыклады.

У Францыі налічвалася трынаццаць вярхоўных судоў, якія, звычайна, валодалі правам тлумачыць законы ў апошняй інстанцыі. Акрамя таго, у Францыі існавалі правінцыі, ці так званыя дзяржаўныя землі, якія нават пасьля таго, як прадстаўляўшая ўсю нацыю вярхоўная ўлада загадвала спагнаць той ці іншы падатак, маглі адмовіць ёй у спрыянні.

Амерыканскі Звяз мае ўсяго толькі адзін суд, які тлумачыць законы, а таксама адну заканадаўчую установу, выдаючую гэтыя законы; падаткі, ухваленыя падчас галасавання прадстаўнікамі ўсёй нацыі, з'яўляюцца абавязковымі для ўсіх грамадзянаў. Такім чынам, у гэтых двух важных сферах Звяз вызначаецца больш высокай ступенню цэнтралізацыі, чым французская манархія, хаця Звяз з'яўляецца не чым іншым, як простым аб'яднаннем рэспублік.

У Гішпаніі некаторыя правінцыі валодалі правам наладжваць уласную мытную сістэму, хаця, па сутнасьці, дадзенае паўнамоцтва павінна належаць выключна цэнтральнай вярхоўнай уладзе.

У Амерыцы толькі кангрэс мае права вызначаць гандлёвыя стасункі паміж штатамі. Такім чынам, у гэтым выпадку ўрадавая ўлада федэрацыі больш цэнтралізавана, чым урад каралеўскай Гішпаніі.

Праўда, як у Францыі так і ў Гішпаніі каралеўская ўлада заўсёды мела магчымасць, а ў выпадку патрэбы нават шляхам ужывання гвалту, ажыццяўляць тое, чаго не дазваляла ёй канстытуцыя каралеўства, так што ўрэшце канчатковы вынік быў аднолькавым. Аднак у дадзеным выпадку гаворка ідзе пра тэорыю.

## Федэральныя ўлады

[138] Нават у гэтых выпадках яго ўдзел мае ўскосны характар. Звяз дзейнічае праз свае суды, як мы пазней зможам пераканацца.

[139] Гл. федэральную канстытуцыю, разд. X, ст 1.

[140] Канстытуцыя, разд. VIII, IX, X; «Федэраліст», №30-36, а таксама 41, 42, 43, 44; Кент. Каментары: т. I, с. 207, 381; Сторы: с. 329, 514.

Пасля таго як мы вызначылі, што ў федэральнага ўрада ёсць выразна акрэсленае кола дзейнасьці, патрэбна высветліць, якімі ж з'яўляюцца асноўныя накірункі яго дзейнасьці.

## Заканадаўчая ўлада

–Падзел заканадаўчай установы на дзьве палаты. –Адрозненні ў фармаванні гэтых двух палат. –Прынцып незалежнасьці штатаў мае першараднае значэнне пры фармаванні сената. –Прынцып народаўладдзя служыць падставай для вызначэння складу палаты прадстаўнікоў. – Своеасаблівыя наступствы, выцякаючыя із таго факта, што канстытуцыі толькі тады адрозніваюцца лагічнасьцю, калі народы яшчэ вельмі маладыя.

Пры стварэнні кіруючых установаў звязу амерыканцы шмат у чым дзейнічалі згодна з той схемай, адпаведна якой раней будаваліся канстытуцыі кожнага асобнага штата.

Федэральная заканадаўчая ўстанова Звязу складаецца із сената і палаты прадстаўнікоў.

Было вызначана, што фарміраванне гэтых двух палат будзе адбывацца грунтуючыся на розных правілах, што павінна было адпавядаць духу замірэння розных зацікаўленасьцей.

Як я ўжо згадваў вышэй, пры распрацоўцы федэральнай канстытуцыі давялося лічыцца з двума процілеглымі тэндэнцыямі, панаваўшымі тады ў грамадстве. Гэтыя дзьве тэндэнцыі паслужылі грунтам для ўзнікнення двух розных сістэм паглядаў.

Адны жадалі бачыць у Звязе нейкую лігу незалежных дзяржаў – нешта падобнае на кангрэс, у якім прадстаўнікі розных народаў збіраліся б для абмеркавання тых ці іншых пытанняў, адлюстроўваючых агульныя для ўсіх зацікаўленасьці.

Іншыя мелі намер аб'яднаць усіх жыхароў былых асад у адну адзіную нацыю і стварыць такі ўрад, сфера дзейнасьці якога хаця і была б абмежаванай, але які ў межах сваёй кампетэнцыі меў бы магчымасць дзейнічаць у якасьці адзінага прадстаўніка ўсёй нацыі. Гэтыя дзьве пазіцыі прывялі б на практыцы да цалкам розных наступстваў.

Так, калі б гаворка ішла пра ўтварэнне лігі незалежных дзяржаваў, а не пра стварэнне агульнанацыянальнага ўрада, то права прымаць законы належала б большасьці грамадзянаў штатаў, а цалкам не большасьці жыхароў Звязу. Справа ў тым, што ў дадзеным выпадку кожны штат, вялікі ці маленькі, захоўваў бы за сабой статус незалежнай дзяржавы і ўваходзіў бы ў склад Звязу на правах абсалютнай роўнасьці з іншымі штатамі.

У тым жа выпадку, калі б усіх жыхароў Злучаных Штатаў разглядалі б як адзіны народ, то, натуральна, стваральнікамі закона павінны былі б стаць усе грамадзяне Звязу.

Цалкам зразумела, што невялікія штаты не маглі пагадзіцца з ужываннем дадзенай сістэмы, таму што пры вярхоўнай уладзе федэрацыі яны цалкам пазбаўляліся б магчымасьці існаваць у якасьці самастойнай адзінкі, таму што із дзяржавы, ўдзельнічаючай побач з іншымі ў кіраванні, яны ператварыліся б у нязначную частку вялікага народа. Першая сістэма дазваляла ім захаваць неабгрунтавана вялікую ўладу, тады як другая мела б наступствам іх поўнае знішчэнне.

Пры такім становішчы адбылося тое, што звычайна здараецца, калі зацікаўленасьці супярэчаць разважанням: правілы логікі былі падначалены патрабаванням рэчаіснасьці. І заканадаўцы абралі нешта сярэдняе паміж гэтымі дзвума крайнасьцямі і тым самым спалучылі дзьве сістэмы, тэарэтычна несумяшчальныя.

Прынцып незалежнасьці штатаў стаў пераважаючым пры фарміраванні сената, а прынцып народаўладдзя – пры ўтварэнні палаты прадстаўнікоў.

Кожны штат мае права накіроўваць у кангрэс двух сенатараў і вызначаную колькасць сябраў палаты прадстаўнікоў, адпаведна з колькасьцю насельніцтва дадзенага штата[141].

У выніку аж да цяперашняга часу штат Нью-Ёрк мае ў кангрэсе сорак сябраў палаты прадстаўнікоў і ўсяго двух сенатараў, штат Дэлавэр – двух сенатараў і ўсяго толькі аднаго сябра палаты прадстаўнікоў. Такім чынам, штат Дэлавэр згодна з колькасьцю сенатараў роўны штату Нью-Ёрк, тады як у палаце прадстаўнікоў апошні мае ў сарок разоў большы уплыў, чым першы. Такім чынам, можа здарыцца так, што меншасць насельніцтва, пераважаючая ў сенаце, зможа цалкам паралізаваць волю большасьці, прадстаўленай у іншай палаце, а гэта рашуча супярэчыць самаму духу канстытуцыйнага кіравання.

Вышэйпавядомленае з’яўляецца выдатным сведчаннем таго, наколькі цяжка і наколькі рэдка атрымліваецца лагічна і рацыянальна аб’яднаць разам усе разрозненыя часткі дзяржаўнага заканадаўства. З цягам часу адзін і той жа народ пачынае выяўляць розныя зацікаўленасьці і ўсталёўваць розныя правы. Калі ж гаворка заходзіць пра складанне новай, усёахопліваючай канстытуцыі, гэтыя зацікаўленасьці і правы ператвараюцца ў натуральныя перашкоды для таго, каб тыя ці іншыя палітычныя прынцыпы ажыццяўляліся ў жыццё цалкам, з усімі вынікаючымі адзюль наступствамі. Такім чынам, законы могуць быць лагічнымі толькі на світанні станаўлення кожнага грамадства. І калі вы бачыце, што нейкі народ лагічны ў сваёй заканатворчасьці, не спяшаецеся рабіць выснову пра яго мудрасць, лепш бярыце да ўвагі той факт, што ён проста яшчэ вельмі малады.

Пад час перыяду стварэння федэральнай канстытуцыі ў асяроддзі англа-амерыканцаў існавала ўсяго толькі два падыходы, рашуча процілеглыя адзін другому: першы складаўся ў імкненні да захавання індывідуальнага аблічча кожнага штата ў асобнасьці, а другі – у аб’яднанні ўсяго народа ў адзіны звяз. Такім чынам, патрэбна было знайсьці нейкі кампраміс.

Патрэбна тым часам прызнаць, што дадзены падзел канстытуцыі да гэтага часу не прывёў да тых адмоўных вынікаў, якіх можна было б асьцерагацца на пачатку.

---

[141] Кожныя дзесяць гадоў кангрэс нанова вызначае колькасць дэпутатаў накіроўваемых ад кожнага штата ў палату прадстаўнікоў. Іх агульная колькасць у 1789 годзе складала 69 чалавек, а ў 1833 годзе – ужо 240 чалавек (Амерыканскі альманах, 1834, с. 194). У канстытуцыі было сказана, што на кожныя 30 тысяч жыхароў колькасць прадстаўнікоў не павінна перавышаць аднаго, тым часам як не была пазначана найменшая колькасць жыхароў, якія мелі б права накіроўваць прадстаўніка ў палату. Кангрэс не палічыў патрэбным павялічваць колькасць сябраў палаты прадстаўнікоў у той жа прапорцыі, у якой павялічвалася колькасць насельніцтва. Першым законам, меўшым дачыненне да гэтага пытання, стаў закон ад 14 красавіка 1792 года (гл.: Сторы. Ізаконы Злучаных Штатаў, т. І, с. 235), які ўсталяваў, што на кожныя 33 тысячы жыхароў будзе прыпадаць па аднаму сябру палаты прадстаўнікоў. Згодна з апошнім законам, выдадзеным у 1832 годзе, сябра палаты прадстаўнікоў вылучаецца ад кожных 48 тысяч жыхароў. Пры вызначэнні квоты насельніцтва, прадстаўляемага ў палаце, у разлік бралася ўсё вольнае мужчынскае насельніцтва і тры пятых ад агульнай колькасьці рабоў.

Усе штаты яшчэ маладыя, дастаткова блізкія адзін да аднаго; у іх падобныя звычаі, перакананні і патрэбы; адрозненні ж, узнікаючыя з нагоды іхных вялікіх ці меншых памераў, недастатковыя для таго, каб зацікаўленасьці штатаў выявіліся рашуча процілеглымі. Таму ніколі яшчэ не было выпадку, каб у сенаце маленькія штаты аб'ядналіся дзеля таго, каб супрацівіцца намерам буйных штатаў. Акрамя таго, выказванне волі ўсяго народа заканадаўчым шляхам уяўляе сабой такую непераадольную магутнасць, што, калі большасць падчас галасавання ў палаце прадстаўнікоў сапраўды выяўляе гэтую волю, сенат выяўляецца цалкам не ў стане нешта пераменіць.

Не варта таксама забывацца на тое, што цалкам не ад амерыканскіх заканадаўцаў залежала ператварэнне ў адну адзіную нацыю народа, для якога яны складалі законы. На мэце федэральнай канстытуцыі было не тое каб знішчыць штат як самастойную адзінку, а толькі абмежаванне гэтай самастойнасьці. Таму калі гэтым прыватным структурам пакідалася рэчаісная ўлада (а забраць гэтую ўладу ў іх было немагчыма), то тым самым ужо загадзя прызнавалася адмаўленне ад пастаяннага прымусу з мэтай падначаліць штаты волі большасьці. Як толькі быў сфармуляваны дадзены прынцып, увядзенне індывідуальных магутнасьцей штатаў у адзіны механізм функцыянавання федэральнага ўрада не ўяўляў ужо сабой нічога незвычайнага. Гэта служыла прызнаннем існуючай рэальнасьці, а менавіта: раз улада афіцыйна прызнана, з ёй патрэбна ладзіць, а не парушаць яе ўсталяванні.

## Іншыя адрозненні паміж сенатам і палатай прадстаўнікоў

–Сенатары абіраюцца заканадаўчым сходам штатаў. –Сябры палаты прадстаўнікоў абіраюцца народам. –Двухпрыступкавае абіранне ў сенат. –Прамое ў палату прадстаўнікоў. –Тэрміны паўнамоцтваў сенатараў і сябраў палаты прадстаўнікоў. –Прэрагатывы.

Сенат адрозніваецца ад палаты прадстаўнікоў не толькі самім прынцыпам прадстаўніцтва, але таксама і парадкам абрання, працягласьцю тэрміну паўнамоцтваў сенатараў і сутнасьцю саміх паўнамоцтваў.

Палата прадстаўнікоў абіраецца народам, сенат – заканадаўчымі сходамі штатаў.

Палата прадстаўнікоў фарміруецца шляхам прамых выбараў, сенатары абіраюцца ў два туры.

Тэрмін паўнамоцтваў сябраў палаты прадстаўнікоў – усяго толькі два гады, сенатары атрымліваюць свае мандаты на шэсць гадоў.

Палата прадстаўнікоў мае выключна заканадаўчыя функцыі. Яна бярэ ўдзел у сферы судовай улады толькі ў тым выпадку, калі вылучаецца абвінавачванне дзяржаўным службовым асобам. Сенат жа бярэ ўдзел у стварэнні законаў, ён судзіць палітычныя парушэнні права, перадаваемыя на яго разгляд палатай прадстаўнікоў; акрамя таго, ён з'яўляецца вышэйшай выканаўчай радай усёй нацыі. Пагадненні, заключаемыя прэзідэнтам, набываюць моц толькі пасьля іхнага зацьверджання сенатам, усе прызначэнні на пасады, вырабляемыя прэзідэнтам, каб стаць канчатковымі, павінны быць таксама зацьверджаны гэтай установай[142].

## Выканаўчая ўлада[143]

[142] Гл. «Федэраліст», № 52-66; Сторы: с. 199-314; Канстытуцыя, разд. 2, 3.

[143] Гл. «Федэраліст», № 67-77; Канстытуцыя, ст. 2; Сторы, с. 315, 515-780; Кент. Каментары, с. 255.

–Залежнасць прэзідэнта. –Абіраемасць і адказнасць. –Воля прэзідэнта ў межах адведзенай яму кампетэнцыі; нагляд за яго дзейнасьцю з боку сената, без права накіроўваць гэтыя дзеянні. –Пенсіён прэзідэнта, прызначаемы пры яго ўступленні на пасаду. –Адкладваючае вета.

Перад амерыканскімі заканадаўцамі стаяла цяжкавыканваемае заданне: яны імкнуліся да стварэння выканаўчай улады, якая залежала б ад волі большасьці і якая разам з тым была б дастаткова моцнай, каб вольна дзейнічаць у межах сваёй кампетэнцыі.

Падтрыманне рэспубліканскай формы кіравання патрабавала, каб прадстаўнік выканаўчай улады быў падначалены волі ўсяго народа.

Прэзідэнт з’яўляецца абіраемай службовай асобай. Яго гонар, яго маёмасць, яго воля, яго жыццё з’яўляюцца ў вачах народа сталымі гарантыямі належнага ўжывання даручанай яму ўлады.

Карыстаючыся ўладай, прэзідэнт, дарэчы, не цалкам незалежны: сенат ажыццяўляе кантроль за яго стасункамі з замежнымі дзяржавамі, а таксама за тым, як ён размяркоўвае дзяржаўныя пасады, каб запабегчы карупцыю самаго прэзідэнта і яго магчымыя намеры карумпаваць іншых.

Заканадаўцы Звязу разумелі, што носьбіт выканаўчай улады будзе не ў стане з карысьцю і годнасьцю выконваць ускладзеныя на яго абавязкі, калі не атрымаецца надаць гэтай уладзе большую стабільнасць і большую моц, чым тая, якой яна валодала ў рамках асобных штатаў.

Прэзідэнт стаў абірацца тэрмінам на чатыры гады з правам наступнага пераабрання. Перспектыва пераабрання надавала яму мужнасць, каб працаваць на ўсеагульную выгоду, і пашырала магчымасьці яго дзейнасьці.

Прэзідэнт быў зроблены адзіным прадстаўніком выканаўчай улады ўсяго Звязу. Заканадаўцы нават устрымаліся ад таго, каб ставіць яго рашэнні ў залежнасць ад ухвалы якой бы то ні было рады: гэта быў небяспечны сродак, які, паслабляючы магутнасць ўрада, адначасова памяншаў бы і яго адказнасць за свае дзеянні. Сенат меў права абвясьціць не маючымі моцы некаторыя дырэктывы прэзідэнта, аднак ён не мог ні прымусіць прэзідэнта дзейнічаць у тым ці іншым накірунку, ні падзяліць з ім выканаўчую ўладу. Уплыў заканадаўчай улады на выканаўчую можа быць як прамым, але мы толькі што пераканаліся ў тым, што амерыканцы зрабілі ўсё, каб гэтага не адбылося. Ён можа быць таксама і ўскосным.

Маючы магчымасць пазбавіць дзяржаўную службовую асобу яго пенсіёну, палаты кангрэса забіраюць у яго вядомую долю яго незалежнасьці; акрамя таго, толькі яны могуць выдаваць законы, і, такім чынам, можна асьцерагагацца, што яны паступова, крок за крокам, пазбавяць яго нават той долі ўлады, якую імкнулася захаваць за ім канстытуцыя.

Падобная залежнасць выканаўчай улады з’яўляецца адной із заган рэспубліканскіх канстытуцый. Амерыканцы не здолелі нейтралізаваць тэндэнцыю да захопу ўрадавай улады, уласьцівую заканадаўчым установам, аднак яны змаглі некалькі паслабіць яе.

Пенсіён прэзідэнта прызначаецца пры яго ўступленні на пасаду на ўвесь тэрмін яго паўнамоцтваў. Прэзідэнту таксама дадзена права адтэрміноўваючага вета, дазваляючае яму затрымліваць прыняцце законаў, могучых ліквідаваць незалежнасць дадзеную яму канстытуцыяй. Аднак змаганне паміж прэзідэнтам і заканадаўчай уладай заўсёды застаецца няроўным, таму што заканадаўчая ўстанова, заўпарціўшыся ў сваіх намерах, заўсёды ў стане зламаць рабімы ёй

супрацiў. Разам з тым права адтэрмiноўваючага вета, ва ўсякiм разе, мае наступствам тое, што iм даводзiцца зноў вяртацца да разглядання таго ж самага пытання i гэтым разам яны павiнны прымаць рашэнне ужо на падставе большасьцi роўнай дзьве трацiны галасоў. Акрамя таго, права вета з'яўляецца свайго роду зваротам да народа. Выканаўчая ўлада, якая ва ўмовах адсутнасьцi такой гарантыi магла б быць зацiснута таемна, даводзiць праўдзiвасць сваiх дзеянняў i вымушае выслухаць свае довады. Аднак, калi заканадаўчая ўлада па-ранейшаму ўпарцiцца ў сваiх намерах, цi не апынецца зноў перамога ў яе руках? На гэта я адкажу, што ў канстытуцыi кожнага народа, якой бы яна нi была, iснуе становiшча, згодна з якiм заканадавец вымушаны звяртацца да разважлiвасьцi i зычлiвасьцi грамадзянаў. Дадзенае становiшча больш вiдавочна i больш падобна адлюстравана ў канстытуцыях рэспублiк i схавана i завэлюмавана ў канстытуцыях манархiй; аднак яно заўсёды iснуе. Няма такой краiны ў сьвеце, дзе б закон мог прадугледзець усё i дзе iнстытуты ўлады былi б у стане замянiць сабой разважлiвасць i маральнасць жыхароў.

## У чым становiшча прэзiдэнта Злучаных Штатаў адрознiваецца ад становiшча канстытуцыйнага манарха ў Францыi

–У Злучаных Штатах выканаўчая ўлада абмежавана i мае выключны характар, як i сама вярхоўная ўлада народа, ад iмя якой яна дзейнiчае. –Выканаўчая ўлада ў Францыi ўсёахоплiваючая, як i вярхоўная ўлада. –Кароль з'яўляецца адным iз аўтараў законаў. – Прэзiдэнт – толькi выканавец законаў. –Iншыя адрозненнi, выцякаючыя iз адрозненняў у тэрмiнах знаходжання ва ўладзе гэтых двух асоб. –Сфера дзейнасьцi прэзiдэнта як прадстаўнiка выканаўчай улады абмежавана. –Воля караля ў сферы выканання. –Францыя, нягледзячы на ўсе гэтыя адрозненнi, больш падобна на рэспублiку, чым Звяз – на манархiю. –Параўнанне колькасьцi службовых асоб, дзейнiчаючых у сферы выканаўчай улады ў абодвух краiнах.

Выканаўчая ўлада мае такую важную ролю ў лёсах нацыi, што я лiчу цалкам патрэбным спынiцца на гэтым пытаннi i больш падрабязна патлумачыць, якое месца адведзена ёй амерыканцамi.

Каб скласьцi выразнае i дакладнае ўяўленне пра становiшча прэзiдэнта ў Злучаных Штатах, будзе карысна параўнаць яго ролю з роляй караля ў адной iз канстытуцыйных манархiй Яўропы.

Пры параўнаннi я не буду звяртаць асаблiвай увагi на вонкавыя праявы ўлады: яны хутчэй уводзяць у зман таго, хто iх заўважае, чым служаць яму наколькi-небудзь рэчаiснай шляхапазначаючай нiткай.

Калi манархiя паступова ператвараецца ў рэспублiку, носьбiт выканаўчай улады працягвае захоўваць у гэтай краiне свае тытулы, яму выказваюць тыя ж ушанаваннi i знакi павагi, у яго нават застаюцца належачыя яму грашовыя сродкi, i ўсё гэта адбываецца на працягу працяглага часу пасьля таго, як сама ўлада ўжо страцiла сваю рэчаiсную моц. Ангельцы, адсёкшы галаву аднаму са сваiх каралёў i пазбавiўшы пасада другога, па-ранейшаму схiлялi калены звяртаючыся да наступнiкаў гэтых манархаў.

З iншага боку, калi рэспублiка трапляе пад уладу аднаго чалавека, гэты чалавек працягвае захоўваць прастату, роўнасць i сцiпласць у стасунках, як калi б ён нi ў чым не адрознiваўся над усiмi астатнiмi. Калi iмператары дэспатычна распараджалiся маёмасьцю i нават самым жыццём сваiх суграмадзянаў, людзi,

вядучыя з імі размовы, усё так жа звалі іх «цэзарамі», а самі яны па-ранейшаму проста заходзілі павячэраць да сваіх сяброў.

Такім чынам, пакінем убаку вонкавыя атрыбуты і паспрабуем зазірнуць глыбей.

Вярхоўная ўлада ў Злучаных Штатах падзелена паміж Звязам і штатамі, тады як у нас яна адзіная і непадзельная. У гэтым я бачу першае і самае істотнае адрозненне паміж прэзідэнтам Злучаных Штатаў і каралём Францыі.

У Злучаных Штатах выканаўчая ўлада абмежавана і мае выключны характар, як і сама вярхоўная ўлада народа, ад імя якой яна дзейнічае. У Францыі выканаўчая ўлада ўсёахопліваючая, як і сама вярхоўная ўлада.

Амерыканцы маюць федэральны ўрад, мы ж маем агульнанацыянальны ўрад.

Гэта першая, але не адзіная акалічнасць, абумоўліваючая больш нізкі статус прэзідэнта, выцякае із самай прыроды рэчаў. Другой важнай акалічнасцю з'яўляецца тое, што менавіта вярхоўнай уладзе належыць права прымаць законы.

У Францыі кароль у рэчаіснасьці мае вызначаную частку паўнамоцтваў вярхоўнай улады, таму што без яго санкцыі законы не могуць набыць магутнасць, ды да таго ж ён сам з'яўляецца і выканаўцам законаў.

Прэзідэнт таксама з'яўляецца той асобай, якая выконвае законы, аднак ён таму не бярэ ніякага рэчаіснага ўдзелу ў іхным стварэнні, што яго адмова ўхваліць закон не мае вырашаючага значэння для існавання гэтага закона. Такім чынам, ён не валодае ніякай вярхоўнай уладай, а можа лічыцца толькі яе прадстаўніком.

Кароль у Францыі не толькі сам валодае часткай паўнамоцтваў вярхоўнай улады, але да таго ж бярэ ўдзел у фарміраванні заканадаўчых установаў, якім належаць астатнія правы вярхоўнай улады. Кароль можа прызначаць сябраў адной палаты і датэрмінова распускаць другую, калі ён таго пажадае. Прэзідэнт Злучаных Штатаў ніякім чынам не бярэ ўдзел у фармаванні заканадаўчых установаў і не мае права іхага распускання.

Кароль нароўні з сябрамі палат мае права прапанаваць той ці іншы закон на разгляданне. Прэзідэнт права заканадаўчай ініцыятывы не мае.

У палатах караля прадстаўляюць некалькі міністраў, выкладаючых яго меркаванне, падтрымваючых яго пазіцыі і імкнучыхся дамагчыся перамогі яго прынцыпаў кіравання краінай у парламенце.

Прэзідэнт і яго міністры не маюць права быць сябрамі кангрэса, так што ён можа ўплываць на гэтую надзвычай важную ўстанову і выкладаць там свае погляды толькі з дапамогай пасярэдніка.

Такім чынам, французскі кароль стаіць нароўні з заканадаўчым сходам, які не ў стане дзейнічаць без яго, як і сам кароль не можа кіраваць краінай без заканадаўчага сходу.

Прэзідэнцкая ўлада існуе як бы каля заканадаўчай улады і з'яўляецца больш нізкай адпаведна з узроўнем і залежнай ад заканадаўчай.

Нават у самой дзейнасьці выканаўчай улады – а гэта тая самая сфера, у якой становішча прэзідэнта, відаць, найбольш падобна на становішча французскага караля, – існуе цэлы шэраг характэрных рыс, абумоўліваючых значна ніжэйшы узровень улады прэзідэнта ў параўнанні з уладай караля.

Перавагай каралеўскай улады ў Францыі, калі яе параўноўваць з уладай прэзідэнта, з'яўляецца яе вялікая працягласць; хаця менавіта працягласць знаходжання ва ўладзе і з'яўляецца найпершай умовай яе магутнасьці. Шануюць і баяцца толькі таго, каму наканавана доўгае існаванне.

Прэзідэнт Злучаных Штатаў – гэта ўсяго толькі службовая асоба, абіраемая на чатыры гады. Кароль Францыі – гэта спадчынны кіраўнік дзяржавы.

Прэзідэнт Злучаных Штатаў выконвае свае абавязкі пад нястомным і староннім кантролем. Прэзідэнт праводзіць усю першапачатковую працу па падрыхтоўцы дамоваў, але не мае магчымасьці прыняць канчатковае рашэнне ў гэтай вобласьці, ён прапануе кандыдатуры на тыя ці іншыя пасады, аднак зацьвярджае іх зноў жа не ён[144].

Кароль Францыі з’яўляецца неабмежаваным валадаром у сферы выканаўчай улады. Прэзідэнт Злучаных Штатаў нясе адказнасць за свае дзеянні. Французскія ж законы сцвярджаюць, што асоба караля Францыі недатыкальная.

Тым часам, як над адным, так і над другім існуе нейкая накіроўваючая ўлада – улада грамадзкай думкі. У Францыі гэтая ўлада вызначаецца менш выразна, чым у Злучаных Штатах; яна менш прызнана і слабей замацавана ў законах, хаця яна і існуе дэ-факта. У Амерыцы гэтая ўлада выказвае свой уплыў падчас выбараў і пры прыняцці тых ці іншых рашэнняў; у Францыі яна выяўляецца ў выглядзе рэвалюцый.

Такім чынам, нягледзячы на ўсе адрозненні канстытуцый, Францыя і Злучаныя Штаты падобныя ў тым, што дамініруючай магутнасьцю ў гэтых краінах з’яўляецца грамадзкая думка. Такім чынам, выточны прынцып, ляжачы ў падмурку законаў гэтых краін, па сутнасьці адзін і той жа, хаця яго ўжыванне адрозніваецца большай ці меншай ступенню волі і прыводзіць часцяком да самых розных вынікаў. Згодна са сваёй прыродай гэты прынцып цалкам адлюстроўвае рэспубліканскі дух. Таму, як мне здаецца, Францыя са сваім каралём больш падобна на рэспубліку, чым Звяз са сваім прэзідэнтам – на манархію.

Ва ўсім вышэйпавядомленым я толькі паспрабаваў паказваць на найбольш істотныя адрозненні. Калі б я імкнуўся паказаць падрабязнасьці, то ў гэтым выпадку непадабенства двух краін выявілася б яшчэ больш уражваючым. Аднак мне яшчэ патрэбна паведаміць вельмі шмат чаго, таму я паспрабую быць кароткім.

Я ўжо пазначаў, што сфера ўлады прэзідэнта Злучаных Штатаў абмежавана, як і сфера вярхоўнай улады, тады як улада караля ў Францыі бязмежная.

Я мог бы паказаць, што выканаўчая ўлада караля Францыі выходзіць нават за сваю натуральную мяжу, наколькі б яна ні была шырокай, тысячай шляхоў пранікаючы ў вобласць кіравання зацікаўленасьцямі асоб.

Адна із падставаў такога вялікага ўплыву французскага караля палягае ў тым, што ў Францыі існуе вялізная колькасць урадаўцаў, якія практычна ўсе без выключэння абавязаны сваім прызначэннем носьбіту выканаўчай улады. У нашай краіне іхная колькасць перавысіла ўсе натуральныя межы і дасягае 138 тысяч человек[145]. Як вынік, кожнага із гэтых 138 тысяч прызначаных службовых асоб варта разглядаць у якасьці дадатковай часткі ўзмацняючай выканаўчую ўладу.

[144] Канстытуцыя пакінула невырашаным пытанне пра тое, ці абавязаны прэзідэнт прасіць згоды сената пры прызначэнні федэральных службовых асоб ці ў выпадку іхнага адхілення ад пасады. «Федэраліст» у № 77-м схіляецца да сцвярджаючага адказу, аднак у 1789 годзе кангрэс абгрунтавана вырашыў, што таму што прэзідэнт з’яўляецца асобай адказнай, то яго немагчыма прымусіць трымаць на службе ўрадаўцаў, якім ён не давярае. Гл.: Кент. Каментары: т.1, с. 289.

[145] Грашовыя сумы, якія французская дзяржава штогадова выплачвае ўсім гэтым службовым асобам, складаюць 200 мільёнаў франкаў.

Прэзідэнт жа пазбаўлены неабмежаванага права прызначаць службовых асоб на дзяржаўныя пасады, ды і колькасць гэтых пасад не перавышае 12 тысяч[146].

## Выпадковыя акалічнасьці, здольныя ўзмацніць уплыў выканаўчай улады

–Вонкавая бяспека Звязу. –Чакаючая палітыка. –Войска, налічваючае 6 тысяч жаўнераў. –Флот, складаючыся ўсяго із некалькіх караблёў. –Значныя прэрагатывы, прэзідэнта, якімі ён не мае выпадку скарыстацца. –Слабасць прэзідэнта, выяўляючаяся падчас яго дзейнасьці.

Калі выканаўчая ўлада ў Амерыцы слабейшая, чым у Францыі, то нагоды гэтага, хутчэй, варта шукаць у пэўных акалічнасьцях, а не ў законах.

Выканаўчая ўлада краіны мае самую вялікую магчымасць выявіць уласьцівую ёй магутнасць і спрыт галоўным чынам у сферы стасункаў з замежнымі дзяржавамі.

Калі б існаванню Звязу бесперапынна пагражала нейкая небяспека, калі б яго жыццёвыя зацікаўленасьці штодзённа перапляталіся з зацікаўленасьцямі іншых народаў, то ў гэтым выпадку роля носьбіта выканаўчай улады ў грамадзкай думцы магла б заўважальна павялічвацца ў залежнасьці ад таго, як ён выконвае тое, што ад яго чакаюць.

Сапраўды, прэзідэнт Злучаных Штатаў з'яўляецца галоўнакамандуючым узброеным войскам, аднак войска налічвае ўсяго 6 тысяч жаўнераў, а флот мае ўсяго некалькі караблёў. Ён кіруе сферай стасункаў Звязу з замежнымі дзяржавамі, але Злучаныя Штаты не маюць суседзяў. Аддзеленыя ад усяго астатняга сьвету акіянам, пакуль яшчэ занадта слабыя, каб імкнуцца да панавання на моры, Злучаныя Штаты Амерыкі не маюць ніякіх ворагаў, а іхныя зацікаўленасьці рэдка прыходзяць у нейкі судотык з зацікаўленасьцямі іншых краін зямнога шара.

Із гэтага робіцца відавочным, што не варта рабіць выснову пра практыку кіравання краінай, грунтуючыся толькі на адных тэарэтычных пабудовах.

Прэзідэнт Злучаных Штатаў валодае амаль каралеўскімі прэрагатывамі, якімі ён не мае выпадку скарыстацца, а тыя правы, якімі ён у наш час валодае, выяўляюцца дзякуючы акалічнасьцям абмежаванымі; законы даюць яму магчымасць быць магутным, аднак умовы, у якіх ён дзейнічае, робяць яго слабым.

У Францыі выканаўчая ўлада знаходзіцца ў нястомным змаганні з каласальнымі перашкодамі, узнікаючымі на яе шляху, і выкарыстоўвае вялізныя сродкі для іхнага пераадолення. Яе роля ўзрастае ў залежнасьці ад яе дасягненняў і важнасьці тых падзей, якімі яна кіруе. Пры ўсім тым яе канстытуцыя не зведвае ніякіх змен.

Калі б законы зрабілі гэтую ўладу такой жа слабой і абмежаванай, якую мы бачым яе ў Злучаных Штатах Амерыкі, то ўсё адно неўзабаве яе ўплыў заўважальна б узмацніўся.

---

[146] У Злучаных Штатах штогадова публікуецца альманах, «Нацыянальны каляндар», у якім можна знайсьці імёны ўсіх федэральных службовых асоб. Лічбы, якія я тут прывожу, узяты мной із «Нацыянальнага календара» за 1833 год. Із усяго вышэйпавядомленага вынікае, што кароль Францыі мае ў сваім падначаленні ў адзінаццаць разоў больш дзяржаўных пасад, чым прэзідэнт Злучаных Штатаў, хаця колькасць насельніцтва Францыі ўсяго толькі ў паўтары разы большая, чым колькасць насельніцтва Звязу.

## Чаму прэзідэнт Злучаных Штатаў для выканання сваіх абавязкаў не мае патрэбы ў падтрымцы большасьці сенатараў і сябраў палаты прадстаўнікоў

Канстытуцыйны манарх не можа кіраваць, калі яго погляды разыходзяцца з пануючымі ў заканадаўчых установах паглядамі, – дадзенае становішча ў Яўропе лічыцца аксіёмай.

Шмат хто із прэзідэнтаў Злучаных Штатаў, здаралася, гублялі падтрымку большасьці ў заканадаўчых установах, аднак гэтая акалічнасць цалкам не вымушала іх адмаўляцца ад улады і не прычыняла грамадству наколькі-небудзь заўважаемых непрыемнасьцей.

Я чуў, як гэты факт прыводзіўся ў якасьці доказу незалежнасьці і магутнасьці выканаўчай улады ў Амерыцы. Аднак дастаткова крыху паразважаць, каб, наадварот, пабачыць у гэтым сведчанне яе немачы.

Кароль у Яўропе мае патрэбу ў падтрымцы заканадаўчых установ для выканання абавязкаў, прызначаных для яго канстытуцыяй, таму што гэтыя абавязкі надзвычай шырокія і значныя. Канстытуцыйны манарх у еўрапейскіх краінах з'яўляецца не проста выканаўцам законаў, ён валодае ўсёй паўнатой улады ў сферы іх ажыццяўлення, так што, калі закон накіраваны супраць караля, ён мае магчымасць паралізаваць дзеянне закона. Яму патрэбна падтрымка палат у прыняцці законаў, палаты ж маюць патрэбу ў ім для рэалізацыі дадзеных законаў. Гэтыя дзьве ўлады не могуць існаваць адна без другой, таму што як толькі паміж імі плануюцца непагадненні па таму ці іншаму пытанню, функцыянаванне дзяржаўнага механізма неадкладна парушаецца.

У Амерыцы ж прэзідэнт не мае магчымасьці перашкодзіць прыняццю законаў, ён таксама не мае магчымасьці ўхіліцца ад іхнага выканання. Яго шчыры і зацікаўлены ўдзел у кіраванні краінай, без сумневаў, карысны, але не з'яўляецца неабходным. Яго дзейнасць прама ці ўскосна падначалена заканадаўчай уладдзе, а там, дзе ён ад яе не залежыць, ён практычна не ў стане нешта зрабіць. Такім чынам, слабасць, а не магутнасць, дазваляе яму функцыянаваць ва ўмовах супрацьстаяння з заканадаўчай уладай.

У Яўропе згода паміж каралём і заканадаўчымі установымі з'яўляецца абавязковай умовай, таму што паміж імі можа паўстаць сур'ёзнае змаганне; у Амерыцы згода не абавязкова, таму што немагчыма само змаганне.

## Абранне прэзідэнта

–Узрастанне небяспек утойваючыхся ў сістэме абіраемасьці кіраўніка выканаўчай улады, у залежнасьці ад пашырэння яго прэрагатываў. –Для амерыканцаў магчыма ўсталяванне гэтай сістэмы, таму што ў іх няма патрэбы ў моцнай выканаўчай уладзе. –Якім чынам акалічнасьці могуць спрыяць увядзенню сістэмы абіраемасьці. –Чаму абранне прэзідэнта ні ў чым не перамяняе прынцыпаў функцыянавання ўрадавага механізма. –Уплыў абіраемасьці прэзідэнта на долю ніжэйшых урадаўцаў.

У сістэме абіраемасьці кіраўніка выканаўчай улады вялікага народа крыецца шэраг небяспек, на якія дастаткова выразна паказвае нам наш уласны досьвед, а таксама дасьледаванні гісторыкаў.

Таму я закрану дадзеную тэму толькі ў дачыненні да Амерыкі.

Справа ў тым, што небяспекі, якія хавае ў сабе сістэма абіраемасьці, могуць быць больш-менш значнымі ў залежнасьці ад таго месца, якое займае ў грамадстве

выканаўчая ўлада, ад яе значэння ў структуры дзяржаўнай улады, ад парадку выбараў і ад умоваў, у якіх жыве народ, рыхтуючыся браць удзел у выбарах.

Заганы сістэмы абіраемасьці кіраўніка дзяржавы палягаюць у тым – і гэта нярэдка і небеспадстаўна падкрэсліваецца, – што яна дае такую панадлівую магчымасць для праяўлення асабістых амбіцый і так моцна распальвае жарсьці ў пагоне за ўладай, што часта законных сродкаў дасягнення гэтай улады ўжо недастаткова і, як вынік, людзі адважваюцца ўжыць гвалт, калі ім станавіцца недастаткова правоў.

Відавочна, што чым шырэй прэрагатывы выканаўчай улады, тым большым робіцца жаданне дамагчыся яе; чым мацней распальваецца славалюбства прэтэндэнтаў, тым больш актыўна іх падтрымліваюць ніжэйшыя, але не менш славалюбівыя ўрадаўцы, разлічваючыя падзяліць уладу і магутнасць пасьля таго, як пераможа іхны кандыдат.

У выніку небяспекі, утойваемые ў сістэме абіраемасьці, узрастаюць прама сумерна таму ўплыву, які мае выканаўчая ўлада на справы ўсёй дзяржавы.

Рэвалюцыі ў Польшчы немагчыма патлумачыць адным толькі фактам існавання там абіраемасьці, патрэбна ўлічваць і тое, што абіраемая службовая асоба кіравала шырокай манархіяй.

Такім чынам, перш чым разважаць пра безумоўныя вартасьці сістэмы абіраемасьці, патрэбна вырашыць наступнае прэюдыцыйнае пытанне, а менавіта: ці дазваляюць геаграфічнае становішча, законы, звычаі, норавы і перакананні народа, маючага намер увесьці ў сябе дадзеную сістэму, усталяваць у гэтай краіне слабую і залежную выканаўчую ўладу, таму што імкненне мець кіраўніка дзяржавы з шырокімі і моцнымі паўнамоцтвамі і адначасова жаданне абіраць яго з'яўляюцца, на мой пагляд, цалкам несумяшчальнымі. Што ж да мяне, то мне вядомы адзіны спосабператварыць спадчынную каралеўскую ўладу ва ўладу абіраемую: спачатку патрэбна звузіць сферу яе дзейнасьці, а потым паступова скарачаць яе паўнамоцтвы, патроху прывучаючы народ існаваць без яе спрыяння. Але менавіта гэтым-та рэспубліканцы ў Яўропе і не жадаюць займацца наогул, таму што шмат хто із іх толькі таму ненавідзіць тыранію, што непасрэдна на сабе выпрабоўваюць яе жорсткія праявы, тады як размах выканаўчай улады іх асабіста не закранае. Яны крытыкуюць толькі саму прыроду гэтай улады, не заўважаючы існуючую паміж гэтымі двума з'явамі цесную сувязь.

Дагэтуль яшчэ не знайшлося чалавека, які рызыкнуў бы сваім гонарам і жыццём дзеля таго, каб стаць прэзідэнтам Злучаных Штатаў, таму што ўлада прэзідэнта часовая, абмежавана і залежная. Патрэбна каласальная стаўка ў гэтай гульні для таго, каб з'явіліся роспачныя гульцы, гатовыя пачаць змаганне. Пакуль яшчэ ніводзін із кандыдатаў не здолеў выклікаць ні занадта гарачых сімпатый, ні небяспечных жарсьцяў сярод насельніцтва. Нагода гэтага надзвычай простая: дасягнуўшы становішча кіраўніка дзяржавы, ён не ў стане даць сваім прыхільнікам ні вялікай улады, ні вялікага багацця, ні вялікай славы; яго ўласны ўплыў у краіне занадта слабы, каб у выніку яго прыходу да ўлады розныя групоўкі дамагліся вялікіх поспехаў ці ж мелі ў выніку поўную паразу.

Спадчынныя манархіі маюць адну істотную перавагу: прыватныя зацікаўленасьці адной сям'і тут стала і самым цесным чынам злучаны з зацікаўленасьцямі дзяржавы, і таму ніколі не здараецца так, каб дзяржава апынулася цалкам пакінутай на саму сябе. Я не магу сцвярджаць, што ў гэтых манархіях справы вядуцца лепш, чым недзе ў іншых месцах, аднак, прынамсі, там

заўсёды існуе нехта, хто добра, ці дрэнна, але займаецца ў адпаведнасьці са сваімі здольнасьцямі ўсімі дзяржаўнымі справамі.

Наадварот, у дзяржавах, дзе кіраўнікі ўрадаў абіраюцца, па меры набліжэння выбараў і нават задаўга да іх механізм дзяржаўнай улады пачынае дзейнічаць па інэрцыі. Бясспрэчна, можна распрацаваць такія законы, адпаведна з якімі выбары праводзіліся б проста і хутка, каб пасада кіраўніка выканаўчай улады ніколі не заставалася б, так бы мовіць, вакантнай. Аднак, нягледзячы ні на што, безуладдзе ўсё ж адчуваецца людзьмі, насуперак усім намаганням заканадаўцаў.

Па меры набліжэння выбараў кіраўнік выканаўчай улады пачынае думаць толькі пра хуткае змаганне; у яго ўжо няма будучыні, ён не ў стане нічога распачынаць і толькі млява ажыццяўляе ўсё тое, што, цалкам магчыма, давядзецца завяршаць камусьці іншаму. «Я ўжо так блізкі да моманту маёй адстаўкі, – пісаў прэзідэнт Джэферсан 21 студзеня 1809 года (за шэсць тыдняў да выбараў), – што бяру ўдзел у справах толькі тым, што паведамляю сваю думку. Я лічу справядлівым пакінуць майму наступніку ўсю ініцыятыву тых пачынанняў, за выкананнем якіх яму наканавана назіраць і за якія ён павінен будзе несьці ўсю паўнату адказнасьці».

З іншага боку, позіркі ўсёй краіны таксама засяроджаны на падрыхтоўцы да новых выбараў, яна чакае іхнага выніку.

Чым больш значным з’яўляецца месца, занімаемае кіраўніком выканаўчай улады ў кіраванні справамі дзяржавы, тым больш шырокай і неабходнай з’яўляецца яго штодзённая дзейнасць і тым большую небяспеку ўтойвае ў сабе падобнае становішча. У народа, звыкшагася з тым, што ім кіруе выканаўчая ўлада і, больш таго, прызвычаіўшагася да яе адміністрацыйных дырэктыў, выбары не могуць не выклікаць надзвычай глыбокіх узрушэнняў.

У Злучаных Штатах выканаўчая ўлада мае магчымасць без вялікай шкоды запавольваць сваю дзейнасць, таму што ў сваіх праявах гэтая ўлада слабая і абмежаваная.

Пасьля абрання новага кіраўніка дзяржавы ва ўнутранай і вонкавай палітыцы краіны амаль заўсёды адчуваецца нестабільнасць. У гэтым складаецца адна із асноўных заган сістэмы абіраемасьці.

Аднак гэты недахоп адчуваецца ў большай ці меншай ступені ў залежнасьці ад той долі ўлады, якую мае абіраемая службовая асоба. У Рыме прынцыпы, закладзеныя ў падмурак урадавай улады, заставаліся нязменнымі, хаця консулы пераменяліся штогадова, таму што рашаючай, кіруючай магутнасьцю быў сенат, а ён быў спадчынным інстытутам. Калі б у большасьці еўрапейскіх манархій каралёў абіралі, то каралеўства перамяняла б аблічча з кожным новым выбраннікам.

У Амерыцы прэзідэнт выказвае дастаткова істотны ўплыў на дзяржаўныя справы, аднак не ён кіруе імі – над усім вяршэнствуе ўлада народа. Такім чынам, каб перамяніць асноўныя накірункі ажыццяўляемай палітыкі, патрэбна перамяніць усю масу насельніцтва, а не толькі самога прэзідэнта. Таму ў Амерыцы прынцып абіраемасьці кіраўніка выканаўчай улады не мае заўважаемага негатыўнага ўплыву на ўстойлівасць усяго ўрада.

Дарэчы, тая ж няўстойлівасць, да якой прыводзяць заганы сістэмы абіраемасьці, выразна адчуваецца і ў сферы дзейнасьці прэзідэнта, якой бы яна ні была абмежаванай.

Амерыканцы цалкам абгрунтавана лічылі, што кіраўніку выканаўчай улады, для таго каб ажыццяўляць усе ўскладзеныя на яго абавязкі і несьці за іх выкананне

ўсю паўнату адказнасьці, патрэбна па магчымасьці вольна выбіраць сваіх урадаўцаў і пазбаўляць іх пасады паводле свайго меркавання, а заканадаўчай установе варта хутчэй назіраць за дзейнасьцю прэзідэнта, чым кіраваць ім. Такім чынам, кожныя новыя выбары прыводзяць да таго, што федэральныя дзяржаўныя службоўцы не ведаюць, якім будзе іхны далейшы лёс.

У канстытуцыйных манархіях Яўропы ўвесь час чуюцца скаргі на тое, што доля другарадных урадаўцаў нярэдка залежыць ад лёсу міністраў. Іхнае становішча значна горшае ў тых дзяржавах, дзе абіраецца і сам кіраўнік урада. Нагода гэтага простая: у канстытуцыйных манархіях міністры замяняюць адзін іншага даволі часта, аднак асноўны прадстаўнік выканаўчай улады не перамяняецца ніколі, і таму дух абнаўлення ў дастатковай ступені абмежаваны. Такім чынам, перамены ў сістэмах кіравання тут адбываюцца хутчэй у прыватнасьцях, чым у сваім грунце: немагчыма рэзка замяніць адну сістэму кіравання на іншую без адмысловай рэвалюцыі. У Амерыцы ж такая рэвалюцыя адбываецца кожныя чатыры гады, і пры гэтым ад імя закона.

Што ж да праблем асабістага характару, непазбежна ўзнікаючых у выніку ўжывання падобнага заканадаўства, то патрэбна прызнаць, што няўстойлівасць становішча службовых асоб у Амерыцы не суправаджаецца тымі бедствамі, якіх можна было б чакаць у іншых дзяржавах. У Злучаных Штатах так лёгка забяспечыць сабе незалежнае існаванне, што, пазбавіўшы ўрадаўца пасады, можна ў шэрагу выпадкаў пазбавіць яго тых ці іншых жыццёвых выгод, але ніколі – сродкаў да існавання.

Напачатку дадзенай часткі я згадваў пра тое, што небяспекі, вынікаючыя із ужывання сістэмы абіраемасьці кіраўніка выканаўчай улады, могуць быць большымі ці меншымі ў залежнасьці ад умоваў жыцці, якія характэрны для народа, бяручага ўдзел у выбарах.

Дарэмнымі выяўляюцца якія б то ні было намаганні паменшыць значэнне выканаўчай улады ў грамадстве, таму што існуе адна вобласць, у якой дадзеная ўлада мае надзвычай вялікі ўплыў незалежна ад ролі, адведзенай ёй законамі. Гаворка ідзе пра вонкавую палітыку дзяржавы: перамовы могуць пачынацца і працягвацца паспяхова толькі ў тым выпадку, калі яны вядуцца адным і тым жа чалавекам.

Чым больш безнадзейным і роспачным з’яўляецца становішча народа, тым больш адчуваецца патрэба ў пасьлядоўнай і ўстойлівай вонкавай палітыцы і тым больш небяспечным робіцца ўжыванне сістэмы абіраемасьці ў дачыненні да кіраўніка дзяржавы.

Палітыка амерыканцаў у сферы міжнародных дачыненняў надзвычай простая: можна было б сказаць, што ніхто не мае ў іх патрэбы і самі яны таксама не адчуваюць ні ў кім вялікай патрэбы. Іхная незалежнасць знаходзіцца па-за небяспекай.

Такім чынам, у Злучаных Штатах сфера кампетэнцыі кіраўніка выканаўчай улады абмежавана не толькі законамі, але і акалічнасьцямі. Прэзідэнт можа часта перамяняць свае погляды, аднак дзяржава нісколькі не пакутуе ад гэтага і не можа ад гэтага загінуць.

Якімі б ні былі прэрагатывы кіраўніка выканаўчай улады, той перыяд, які непасрэдна папярэднічае выбарам, а таксама той прамежак часу, калі гэтыя выбары праходзяць, варта заўсёды лічыць перыядам агульнанацыянальнага крызісу.

Чым больш складаным з’яўляецца ўнутранае становішча краіны і чым больш вялікай з’яўляецца вонкавая небяспека, тым больш небяспечным для нацыі з’яўляецца дадзены перыяд. Сярод еўрапейскіх краін мала знойдзецца такіх, дзе б не асьцерагаліся падчас перамены вярхоўнага ўладаўцы выявіцца захопленымі іншай дзяржавай ці ж наступлення анархіі ўсярэдзіне дзяржавы.

У Амерыцы ж грамадства ўладкавана такім чынам, што яно ў стане падтрымліваць само сябе без якога б то ні было спрыяння з боку; яму ніколі не пагражае наколькі-небудзь істотная небяспека звонку. Таму абранне прэзідэнта з’яўляецца нагодай для хваляванняў, але цалкам выключае пагрозу знішчэння дзяржавы.

## Працэдура выбараў

–Амерыканскія заканадаўцы выявілі вынаходлівасць пры выпрацаванні працэдуры абрання прэзідэнта. –Стварэнне асобнага выбарчага корпуса. –Паасобнае галасаванне адмысловых выбарцаў. –У якіх выпадках прэзідэнт абіраецца палатай прадстаўнікоў. –Што адбывалася падчас тых дванаццаці выбарчых кампаній, якія мелі месца з моманту ўступлення канстытуцыі.

Незалежна ад праблем, непарыўна злучаных з самім прынцыпам абіраемасьці кіраўніка выканаўчай улады, існуе таксама нямала іншых небяспек, выцякаючых із розных форм правядзення выбараў; аднак дзякуючы намаганням заканадаўцаў іх усё ж можна пазбегнуць. Калі масы народа збіраюцца ў публічным месцы для абрання кіраўніка сваёй дзяржавы, яны падпадаюць не толькі пад небяспекі, утойваемыя ў самай сістэме абіраемасьці, але і пад пагрозу грамадзянскай вайны, якую ў стане справакаваць падобныя выбары.

Паставіўшы абранне караля ў залежнасць ад вета аднаго чалавека, польскія законы выракалі гэтага чалавека на сьмерць ці ж прадвызначалі надыход анархіі.

Па меры вывучэння розных інстытутаў у Амерыцы і больш уважлівага аналізу грамадзка-палітычнага становішча ў гэтай краіне пачынаеш заўважаць дзіўнае супадзенне шчасьлівых акалічнасьцей з чалавечымі намаганнямі. Амерыка была краінай новай; аднак людзі, якія засялілі яе, ужо на працягу доўгага часу прызвычаіўсялі карыстацца воляй у тых месцах, дзе яны жылі раней: такімі з’яўляюцца дзьве асноўныя нагоды ўнутранага ўпарадкавання. Акрамя таго, Амерыка не асьцерагалася, што яе нехта паспрабуе захапіць. Амерыканскія заканадаўцы, скарыстаўшыся гэтымі спрыяльнымі акалічнасьцямі, здолелі без цяжкасьцей стварыць слабую і залежную выканаўчую ўладу, а потым ужо без якой бы то ні было боязні зрабіць яе абіраемай.

Пасля гэтага ім заставалася толькі знайсьці сярод розных выбарчых сістэм тую, якая ўяўляла б найменшую небяспеку. Усталяваныя імі ў дадзеным накірунку правілы выдатна дапаўняюць тыя гарантыі, якія забяспечвала геаграфічнае становішча і палітычнае ўладкавану Злучаных Штатаў.

Заданне, якую патрэбна было вырашыць, палягала ў тым, каб знайсьці такі спосаб абрання прэзідэнта, пры якім, з аднаго боку, адлюстроўвалася б сапраўдная воля народа, а з іншага – не абуджаліся б занадта моцна народныя жарсьці і людзі як мага менш знаходзіліся б у невядомасьці. Спачатку было вырашана, што прэзідэнт будзе абірацца непасрэднай большасьцю галасоў. Аднак атрымаць гэтую большасць без доўгіх затрымак выявілася надзвычай цяжка, а вось гэтага якраз і мелі намер пазбегнуць.

Сапраўды, рэдка здараецца так, што нейкі адзін чалавек адразу ж атрымлівае большасць галасоў у краіне з такім шматлікім насельніцтвам. Яшчэ цяжэй дамагчыся гэтага ў федэрацыйнай рэспубліцы, складаючайся са штатаў, у якіх вельмі моцна пашыраны мясцовыя ўплывы.

Для знішчэння гэтай другой перашкоды існаваў адзіны сродак, а менавіта дэлегаванне выбарчых правоў насельніцтва нейкай установе, якая б яго прадстаўляла.

Дадзены парадак абрання лепш забяспечваў дасягненне большасьці галасоў, дзякуючы таму што, чым менш асоб брала ўдзел у выбарах, тым лягчэй ім было прыйсьці да пагаднення. Гэты спосаб даваў таксама і вялікія гарантыі ў дачыненні да правільнасьці выбару.

Але ці было мэтазгодным надаваць права абірання прэзідэнта самой заканадаўчай установе, звычайна прадстаўляючай народ, ці ж патрэбна было сфармаваць выбарчую камісію, адзінай функцыяй якой было б абранне прэзідэнта?

Амерыканцы аддалі перавагу другому варыянту. Яны прыйшлі да высновы, што людзі, якіх выбралі для таго, каб яны прынімалі звычайныя законы, не здольны адэкватна выказаць волю народа ў тым, што мае дачыненне да абрання кіраўніка дзяржавы. Акрамя таго, будучы абранымі на тэрмін больш года, яны могуць адлюстроўваць погляды, якія за мінулы час ужо перамяніліся. Амерыканцы таксама разважылі, што калі на заканадаўчую ўстанову будзе ўскладзены абавязак абіраць кіраўніка выканаўчай улады, то яшчэ задаўга да пачатку выбараў заканадаўцы зробяцца аб'ектам падкуплення і цацкай у руках інтрыганаў, тады як адмысловыя выбарцы, падобна прысяжным засядальнікам, застануцца невядомымі натоўпу аж да таго самога дня, калі ім прыйдзе час дзейнічаць, пры гэтым яны з'яўляюцца на палітычныя падмосткі толькі для таго, каб аддаць свае галасы.

Таму было ўсталявана, што кожны штат абірае вызначаную колькасць выбаршчыкаў[147], якія ў сваю чаргу будуць абіраць прэзідэнта. А дзякуючы таму што было заўважана, што асамблеі, якім даручалася абіраць кіраўніка дзяржавы ў тых краінах, дзе ўжываўся прынцып абіраемасьці, непазбежна ператвараліся ў цэнтр разнастайных жарсьцяў і інтрыг, і таму што гэтыя асамблеі ў асобных выпадках прысвойвалі сабе ўладу, ім не належачую, і таму што нярэдка працэдура, у якой яны бралі ўдзел, працягвалася занадта доўга, з нагоды чаго стваралася нейкая нявызначанасць, ставіўшая пад пагрозу функцыянаванне дзяржаўнай машыны, – то з нагоды ўсіх гэтых меркаванняў было ўсталявана, што выбарцы будуць браць удзел у галасаванні ўсе разам, на працягу аднаго дня, але не збіраючыся ў адным месцы[148].

Пры падобнай мадэлі выбараў, складаючайся із двух тураў, дасягненне большасьці галасоў рабілася цалкам верагодным, але разам з тым поўнай гарантыі ўсё ж не было, таму што цалкам магло здарыцца, што выбарцы так жа разыйдуцца ў думках, як маглі б разысьціся ў думках тыя, хто даручыў ім права абрання.

У гэтым выпадку была патрэба выкарыстаць адзін із трох захадаў: ці прызначыць новых выбарцаў, ці зноў звярнуцца да ўжо адабраных выбарцаў, ці ж, нарэшце, перадаць права абрання кіраўніка дзяржавы іншай установе.

---

[147] Столькі ж колькі чалавек ён накіроўвае ў кангрэс. На выбарах 1833 года колькасць выбаршчыкаў складала 288 («Нацыянальны каляндар»).

[148] Выбаршчыкі ад аднаго штата збіраюцца разам і накіроўваюць ва ўрад спіс усіх асоб, за якіх галасавалі ў індывідуальным парадку, а не вынік галасавання большасьці.

Першыя два спосабы, акрамя таго, што не гарантавалі патрэбнага выніку, суправаджаліся б яшчэ і затрымкамі і спараджалі б заўсёды небяспечныя ў такім выпадку хваляванні.

Таму было прынята рашэнне спыніцца на трэццім спосабе, пры гэтым пагадзіліся на тым, што вынікі галасавання выбарцаў у апячатаным выглядзе будуць перадавацца старшыні сената і што ў прызначаны дзень у прысутнасьці сябраў абодвух палат ён раскрывае апячатаныя спісы і робіць падлік. Калі ж ніводзін із кандыдатаў не набірае большасьці галасоў, то палата прадстаўнікоў неадкладна прыступае да абрання прэзідэнта, аднак гэтае яе права абрання было строга абмежавана: палата прадстаўнікоў магла абраць толькі аднаго із трох кандыдатаў, за якіх была пададзена большая колькасць галасоў[149].

Такім чынам, выяўляецца, што выбары ўскладаюцца на звычайных прадстаўнікоў народа толькі ў вельмі рэдкіх і цяжка загадзя прадказваемых выпадках, пры гэтым нават у гэтай сітуацыі яны могуць абраць толькі таго, каго ўжо падтрымалі адмысловыя выбарцы, колькасць якіх вельмі невялікая. Гэта даволі ўдалае спалучэнне дазваляе, з аднаго боку, выказаць павагу да народа, а з другога – хутка і з належным парадкам правесьці выбары, што адказвае зацікаўленасьцям дзяржавы. Дарэчы, надаванне палаце прадстаўнікоў права абрання прэзідэнта ў выпадку падзелу галасоў выбарцаў далёка яшчэ не было поўным вырашэннем усіх цяжкасьцей, таму што не было ўпэўненасьці, што і там кандыдат збярэ патрэбную большасць галасоў, а ў гэтым выпадку канстытуцыя ўжо не прапаноўвала ніякага рэчаіснага рашэння. Аднак, усталяваўшы абавязковыя кандыдатуры і абмежаваўшы іхную колькасць трыма, а таксама спадзяючыся на разумнасць выбару, зробленага згуртаваннем дасьведчаных людзей, канстытуцыя здолела згладзіць усе тыя перашкоды[150], на якія яна была ў стане ўплываць непасрэдна, таму што астатнія праблемы былі ўласьцівы самай сістэме абіраемасьці прэзідэнта, як такой.

Федэральная канстытуцыя існуе ўжо сарок чатыры гады і Злучаныя Штаты вось ужо дванаццаць разоў абіралі свайго прэзідэнта.

Дзесяць разоў выбары прайшлі практычна імгненна, шляхам адначасовага галасавання адмысловых выбарцаў, якія знаходзіліся ў гэты час у самых розных частках Злучаных Штатаў.

Што ж да палаты прадстаўнікоў, то яна пакуль усяго толькі двойчы скарыстала тое выключнае права, якім была нададзена на выпадак падзелу галасоў выбарцаў. Першы раз гэта адбылося ў 1801 годзе пры абранні Джэферсана, а другі – у 1825 годзе, калі прэзідэнтам быў абраны Куінсі Адамс.

## Крызісная сітуацыя падчас выбараў

–Перыяд прэзідэнцкіх выбараў можна разглядаць як перыяд агульнанацыянальнага крызісу. –Нагоды гэтага. –Народныя хваляванні. –Заклапочанасць прэзідэнта. –Спакой, настае сьледам за хваляваннямі падчас выбараў.

---

[149] У гэтым выпадку пытанне вырашаецца большасьцю прадстаўнікоў штатаў, а не большасьцю ад агульнай колькасьці кангрэсменаў, з тым каб, напрыклад, Нью-Ёрк меў такі ж уплыў падчас абмеркавання, як і Род-Айланд. Такім чынам, спачатку пытаецца думка ўсіх грамадзянаў Звязу як складаючых адзін цэласны народ, а калі яны не могуць прыйсьці да адзінага рашэння, то зноў звяртаюцца да апытання думкі кожнага штата, якому даецца асобны і незалежны голас. Такой з'яўляецца яшчэ адна дзіўная акалічнасць, ўтойваючаяся ў федэральнай канстытуцыі, якую можна патлумачыць толькі сутыкненнем процілеглых зацікаўленасьцей.

[150] Аднак Джэферсан у 1801 годзе быў абраны толькі ў выніку 36-ай балатыроўкі.

Я ўжо казаў, што ўмовы, у якіх знаходзяцца Злучаныя Штаты, спрыялі прыняццю сістэмы абіраемасьці прэзідэнта, а таксама паведаміў пра тыя захады засьцярогі, якія прынялі заканадаўцы для памяншэння небяспек, спараджаемых дадзенай сістэмай. Амерыканцы прызвычаіліся браць удзел у самых разнастайных выбарах. Яны грунтуючыся на ўласным досьведзе ведаюць, які напал жарсьцяў можна сабе дазволіць, а калі лепш і спыніцца. Вялізная працягласць іхнай тэрыторыі і раскіданасць жывучага ў краіне насельніцтва робіць сутыкненні паміж рознымі партыямі менш верагоднымі і менш згубнымі, чым у іншых дзяржавах. У Амерыцы палітычнае становішча, у якім да гэтага часу праходзілі выбары, не ўяўляла ніякай рэчаіснай небяспекі.

І тым не менш, выбары амерыканскага прэзідэнта ўсё ж можна разглядаць як перыяд агульнанацыянальнага крызісу.

Уплыў, вырабляемы прэзідэнтам на ход спраў у дзяржаве, безумоўна, слабы і апасрэдаваны, але ён пашыраецца на ўсю гэтую дзяржаву. Для кожнага грамадзяніна, узятага ў асобнасьці, выбранне таго ці іншага чалавека на пасаду прэзідэнта не мае такога ўжо істотнага значэння, аднак ён важны для ўсяго грамадства ў цэлым. Справа ў тым, што нават самая нязначная спачатку зацікаўленасць набывае велізарнае значэнне, калі яна ператвараецца ва ўсеагульную.

У параўнанні з каралямі ў еўрапейскіх краінах, у прэзідэнта, бясспрэчна, мала сродкаў для таго, каб заваяваць сабе прыхільнікаў. Аднак колькасць пасад якімі ён распараджаецца, выяўляецца ўсё ж дастаткова вялікай для таго, каб шмат тысяч выбарцаў былі непасрэдна ці ўскосна зацікаўлены ў яго абранні.

Акрамя таго, партыі ў Злучаных Штатах, дарэчы, як і ў іншых краінах, імкнуцца згуртавацца вакол нейкай асобы, каб народным масам было прасьцей іх распазнаваць. Яны звычайна выкарыстоўваюць імя кандыдата ў прэзідэнты ў якасьці знака, персаніфікуючы ў яго асобе свае тэорыі. Такім чынам, партыі надзвычай зацікаўлены ў абранні свайго кандыдата, і не столькі дзеля таго, каб нанова абраны прэзідэнт спрыяў перамозе іхных тэорый, колькі дзеля таго, каб давесьці самім фактам яго абрання, што іхныя дактрыны здолелі завалодаць большасьцю.

Задаўга да прызначанага дня выбары робяцца самай важнай і, калі так можна выказацца, адзінай справай сапраўды цікавячай розумы людзей. Розныя згуртаванні падвойваюць свае намаганні і тут, у гэтай шчаслівай і спакойнай краіне, пачынаюць бушаваць такія штучна ўзбуджаныя эмоцыі, якія толькі можна сабе ўявіць.

Што ж да прэзідэнта, то ён цалкам заняты тым, каб абараняць сябе. Ён ужо не думае пра зацікаўленасьці дзяржавы, а дзейнічае з адзінай мэтай дамагчыся пераабрання. Ён літаральна валіцца на калені перад большасьцю і нярэдка замест таго, каб супрацьстаяць жарсьцям раздзіраючым гэтую большасць, да чаго, дарэчы, яго абавязвае пасада, сам ідзе насустрач гэтым капрызам.

Па меры набліжэння выбараў інтрыгі нарастаюць, а хваляванне людзей набывае ўсё больш ліхаманкавы і масавы характар. Грамадзяне падзяляюцца на некалькі лагероў, кожны із якіх падтрымлівае вызначанага кандыдата. Уся краіна ўзрушана, выбары робяцца штодзённай тэмай усіх публічных выданняў, усіх прыватных размоваў, мэтай розных пачынанняў, аб’ектам усіх намераў – словам, адзінай у гэты момант зацікаўленасьцю ўсёй краіны.

Праўда, як толькі абвяшчаюцца вынікі выбараў, гэтая мітусня заканчваецца, усе супакойваюцца, нібы рака, выйшаўшая із берагоў, а потым мірна вяртаючаяся ва ўласнае рэчышча. І нават здзіўляе наогул, што падобная бура была здольнай паўстаць?

## Перавыбранне прэзідэнта

–Калі перавыбранню падлягае кіраўнік выканаўчай улады, інтрыгамі і подкупам займаецца ўжо сама дзяржава. –Жаданне быць зноў абраным перавышае над усімі намерамі прэзідэнта Злучаных Штатаў. –Неспрыяльныя ўмовы перавыбрання, характэрныя для Амерыкі. –Натуральная загана дэмакратычных дзяржаў складаецца ў паступовым падначаленні якім бы то ні было найменшым пажаданням большасьці. –Перавыбранне прэзідэнта спрыяе ўкараненню гэтай заганы.

Слушна ці не зрабілі заканадаўцы Злучаных Штатаў, дапусьціўшыя магчымасць перавыбрання прэзідэнта?

На першы пагляд забарона перавыбрання на другі тэрмін кіраўніка выканаўчай улады здаецца супярэчачай цьвярозаму розуму. Усім вядома, які ўплыў могуць зрабіць на лёсы цэлага народа, асабліва пад час цяжкіх абставін ці перыяду крызісаў, таленты ці характар аднаго-адзінюткага чалавека. Законы, забараняючыя грамадзянам пераабіраць першую асобу ў дзяржаве, пазбаўляюць яе выдатнай магчымасьці для дасягнення дастатку краіны ці для яе выратавання. Усё гэта магло б прывесьці і да такой недарэчнай сітуацыі, калі чалавек адхіляўся б ад кіравання дзяржавай менавіта ў той момант, калі ён давёў, што ў стане добра ёй кіраваць.

Безумоўна, гэтыя довады вельмі пераканаўчыя, аднак ці немагчыма супрацьпаставіць ім яшчэ больш істотныя аргументы?

Інтрыгі і карупцыя з’яўляюцца натуральнымі заганамі абіраемых урадаў. Аднак у тым выпадку, калі кіраўнік дзяржавы можа быць пераабраны, гэтыя заганы сторазова павялічваюцца і само існаванне краіны ставіцца на карту. Калі поспеху на шляху інтрыг мае намер дамагчыся просты кандыдат, то яго хітрыкі пашыраюцца на вельмі абмежаванае кола людзей. Калі ж, наадварот, у гэтай гульні вырашыў паўдзельнічаць сам кіраўнік дзяржавы, то ён пачынае выкарыстоўваць у сваіх уласных зацікаўленасьцях моц усёй дзяржавы.

У першым выпадку гэта праста грамадзянін, маючы пад сваім кіраваннем дастаткова сціплыя сродкамі, тады як у другім – гэта сама дзяржава, з яе вялізнымі магчымасьцямі для інтрыг і подкуплення.

Просты грамадзянін, выкарыстоўваючы разнастайныя не вельмі прыстойныя захады для таго, каб прыйсьці да ўлады, у стане толькі ўскосным чынам нанесьці шкода грамадзкаму дабрабыту. Аднак калі ў передвыбарчае змаганне ўступае прадстаўнік выканаўчай улады, то тады дзяржаўныя зацікаўленасьці адсоўваюцца для яго на другі план, а на першы выступае яго ўласнае перавыбранне. Перамовы з іншымі краінамі, роўна як і выкананне законаў, ператвараюцца для яго ўсяго толькі ў передвыбарчыя камбінацыі; размеркаванне пасад разглядаецца ім у якасьці кампенсацыі за выказаныя паслугі, але паслугі, выказаныя не нацыі, а асабіста яму. І нават калі дзейнасць урада і не супярэчыць зацікаўленасьцям дзяржавы, яна ўсё ж ужо не накіравана на забеспячэнне гэтых зацікаўленасьцей. Тым часам яе галоўнае заданне складаецца менавіта ў гэтым.

Назіраючы за штодзёнными справамі Злучаных Штатаў, немагчыма не заўважыць, што жаданне быць зноў абраным пануе над усімі намерамі прэзідэнта; што палітыка яго адміністрацыі накіравана менавіта на гэта; што ўсе яго, нават

самыя нязначныя дзеянні падначалены гэтай мэце; што асабліва па меры набліжэння да крытычнага моманту асабістыя зацікаўленасьці цалкам выціскаюць із яго свядомасьці зацікаўленасьці дзяржавы.

Такім чынам, прынцып пераабрання прэзідэнта вырабляе згубны ўплыў абіраемых урадаў яшчэ больш глыбокім і яшчэ больш небяспечным. Гэта суправаджаецца таксама заняпадам палітычнай маралі нацыі і прыводзіць да замены патрыятызму спрытнасьцю.

У Амерыцы ж ужыванне гэтага прынцыпу непасрэдна закранае жыццёвыя асновы краіны.

Кожнаму ўраду ўласьцівы заганы, абумоўленыя самай прыродай яго дзейнасьці. Геній заканадаўцы палягае ў тым, каб распазнаць іх як мага найлепш. Дзяржава можа паспяхова справіцца з вялікай колькасьцю дрэнных законаў, тым больш што зло, прычыняемае гэтымі законамі, часта перабольшана. Аднак кожны закон, спрыяючы развіццю гэтых забіваючых пачаткаў, не можа з цягам часу не зрабіцца пагібельным для грамадства, хаця яго згубны ўплыў выяўляецца не адразу.

Такім разбуральным прынцыпам ва ўмовах абсалютысцкіх манархій з’яўляецца бязмежнае і супярэчачае цьвярозаму розуму пашырэнне ўплыву каралеўскай улады. Таму якія б то ні было захады, знішчаючыя процівагі гэтай уладзе, прадугледжаныя канстытуцыяй, шкодныя ад пачатку, нават калі адмоўныя наступствы гэтых захадаў не выявяцца на працягу вельмі працяглага часу.

Дакладна так жа і ў краінах, дзе пануе дэмакратыя і дзе народ увесь час імкнецца ўсё падначаліць сабе: законы, спрыяючыя хуткасьці яго дзеянняў і надаючыя гэтаму дзеянню неадольны характар, непасрэдна пагражаюць самаму існаванню ўрада.

Самай вялікай заслугай амерыканскіх заканадаўцаў было тое, што яны выразна ўсвядомілі гэтую праўду і мелі мужнасць улічыць яе на практыцы.

Яны зразумелі, што акрамя народаўладдзя павінна існаваць вызначаная колькасць інстытутаў улады, якія, не будучы цалкам незалежнымі ад волі народа, усё ж маглі б у сваёй вобласьці карыстацца даволі шырокай воляй, з тым каб, нязменна падпарадкоўваючыся рашэнням большасьці, усё ж супрацьстаяць яе капрызам і адказваць адмовай на яе самыя небяспечныя патрабаванні.

Для гэтага яны засяродзілі ўсю выканаўчую ўладу краіны ў руках аднаго чалавека; яны надалі прэзідэнту самыя шырокія паўнамоцтвы і ўзброілі яго правам вета для таго, каб ён быў здольны выказваць супраціўленне замахам заканадаўчых устаноў на свае правы.

Аднак, абвясьціўшы прынцып перавыбрання, заканадаўцы часткова разбурылі сваё ўласнае тварэнне. Яны надалі прэзідэнту вялікую ўладу, але пазбавілі яго імкнення выкарыстоўваць яе толькі па прызначэнню.

Не маючы магчымасьці быць абраным на другі тэрмін, прэзідэнт не пераставаў бы ўсё ж залежаць ад народа, таму што ён працягваў бы несьці адказнасць перад сваімі выбарцамі. Разам з тым прыхільнае стаўленне да яго народа не ператваралася б для яго ў такую настойлівую патрэбу, каб ён прымушаў сябе лічыцца з кожных яго жаданнем.

Валодаючы ж правам перавыбрання (а гэта асабліва выяўляецца ў наш час, калі палітычная мараль усё больш і больш знішчаецца, а вялікія асобы паступова знікаюць з падмосткаў грамадзкага жыцця), прэзідэнт Злучаных Штатаў робіцца ўсяго толькі паслухмянай прыладай у руках большасьці. Ён пачынае як шанаваць

так і ненавідзець усё тое, што шануе ці ненавідзіць яго большасць, ён папярэджвае ўсе яе жаданні і скаргі, падначальваецца кожнаму яе капрызу; заканадаўцы мелі жаданне, каб прэзідэнт вёў за сабой большасць, а на справе ён сам апынуўся ў ролі кіруемага.

Такім чынам, не жадаючы пазбавіць дзяржаву магчымасьці скарыстаць таленавітую асобу, заканадаўцы дамагліся таго, што таленты гэтага чалавека апынуліся практычна не маючымі карысьці; а іх імкненне забяспечыць сабе адпаведны сродак уплыву на грамадства ў надзвычайных акалічнасьцях паставіла краіну пад пагрозу сталай небяспекі.

## Федэральныя суды[151]

–Палітычнае значэнне судовай улады ў Злучаных Штатах. –Цяжкасьці ў вывучэнні гэтага пытання. –Карыснасць правасуддзя пры федэрацыйным уладкаванні. –Якія суды, маглі быць заснаваны ў рамках Звязу? –Патрэба стварэння федэральных судоў. –Структура федэральнай судовай сістэмы. –Вярхоўны суд. –У чым яго адрозненне ад іншых вядомых нам судовых устаноў.

Я разгледзеў заканадаўчую і выканаўчую ўладу Звязу. Зараз мне патрэбна прааналізаваць судовую ўладу.

Тут я павінен выказаць чытачам свае заклапочанасьці.

Судовыя ўстановы маюць вялізны ўплыў на лёсы англа-амерыканцаў і займаюць вельмі важнае месца сярод тых інстытутаў, якія завуцца палітычнымі. Менавіта з гэтага боку гледжання яны заслугоўваюць нашай асаблівa пільнай увагі.

Аднак як жа апісаць палітычную дзейнасць амерыканскіх судоў, не разглядзеўшы падрабязна іхную структуру; якім чынам, паглыбляючыся ў дэталі, не паменшыць цікавасьці чытача да гэтай тэмы ўласьцівай ёй сухасьцю? Як патлумачыць гэтае пытанне зразумела і разам з тым коратка?

Я цалкам не лісліўлю сябе надзеяй, што ў мяне атрымаецца пазбегнуць усіх гэтых шматлікіх небяспек. Людзі неазнаёмленыя ва ўсякім выпадку палічаць маё выкладанне залішне доўгім, а юрысты знойдуць, што я неабгрунтавана кароткі. Аднак гэты недахоп можна дапасаваць як да выкладаемай мной тэмы ў цэлым, так і да таго вызначанага пытання, якое я мае намер зараз закрануць.

Самая вялікая цяжкасць складаецца не ва ўменні стварыць федэральны ўрад, а ў тым, каб прымусіць падначальвацца законам, выдаваемым гэтым урадам.

Усе ўрады маюць усяго толькі дзьве магчымасьці пераадолець супраціўленне, выказваемае яму грамадзянамі: матэрыяльныя сродкі, якімі яны самі распараджаюцца, і рашэнні судоў, да чыёй дапамогі яны могуць звяртацца.

Урад, які можа прымушаць да падпарадкавання сваім законам толькі магутнасьцю зброі, знаходзіцца на мяжы знішчэння. З ім, напэўна, адбудзецца адно із двух: калі гэта слабы і ўмераны ўрад, то ён вырашыцца выкарыстаць гвалт толькі ў самым крайнім выпадку, пакідаючы без увагі шматлікія дробныя выпадкі непадпарадкавання, і тады дзяржава апынецца ва ўладзе анархіі.

[151] Гл. главу VI пад назвай «Судовая ўлада ў Злучаных Штатах...». У гэтай частцы тлумачацца агульныя прынцыпы амерыканскага правасуддзя. Гл. таксама федэральную канстытуцыю, ст. 3. Гл. у № 78-83 «Федэраліста» твор Томаса Сарджэнта, азагалоўлены «Канстытуцыйнае права, а таксама агляд практыкі і юрысдыкцыі судовых устаноў у Злучаных Штатах». Гл.: Сторы: с. 134-162, 489-511, 581, 668. Гл. закон пра судовае ўладкаванне ад 24 верасня 1789 года ў складанцы Сторы: азагалоўленай «Законы Злучаных Штатаў», т. I, с. 53.

Калі ж урад моцны і рашучы, то ён будзе выкарыстоўваць гвалт штодня і хутка ператворыцца ў вайскова-дэспатычны. Яго бяздзейнасць, роўна як і яго дзейнасць, выявіцца аднолькава згубнымі для насельніцтва, якім ён кіруе.

Вялікая мэта правасуддзя складаецца ў замене ідэі гвалту ідэяй права, ва ўсталяванні праўнай перагародкі паміж урадам і выкарыстоўваемай ім магутнасьцю.

Дзіўна, якое велізарнае значэнне грамадзкая думка надае звычайна далучэнню да справы судовай улады. Роля грамадзкай думкі такая вялікая, што людзі працягваюць задавольвацца судовай формай нават у тых выпадках, калі ад яе засталася адна бачнасць – грамадзкая думка надае жыццё здані.

Маральны ўплыў, які выяўляюць суды, спрые таму, што ўжыванне дзяржавай зброі робіцца надзвычай рэдкай падзеяй, таму што ў большасьці выпадкаў суд замяняе яе, а калі ўзнікае патрэба, каб да справы далучыліся і матэрыяльныя магутнасьці, то суд падвойвае іхную моц, далучаючыся да іх.

Федэральнаму ўраду больш, чым якому-небудзь іншаму, патрэбна падтрымка судовай улады, таму што згодна з самай сваёй прыродай ён больш слабы і, такім чынам, яму прасьцей выказаць непадпарадкаванне[152]. Калі б яму ўвесь час даводзілася перадусім карыстацца прымусам, то ён перастаў бы адпавядаць свайму прызначэнню.

Такім чынам, каб прымусіць сваіх грамадзян падпарадкоўвацца законам ці ж каб запабегчы саму магчымасць нападанняў на гэтыя законы, федэрацыі асабліва патрэбны суды. Аднак якія суды павінен быў мець Звяз? У кожнага штата ўжо існавала свая судовая сістэма. Ці патрэбна было карыстацца гэтымі судамі? Ці ж патрабавалася стварыць федэральную судовую сістэму? Лёгка давесьці, што Звяз не мог прыстасаваць да сваіх патрэб тыя судовыя установы, якія ўжо існавалі ў асобных штатах.

Без якіх бы то ні было сумневаў, для забеспячэння бяспекі кожнага, як і для гарантыі волі ўсіх, вельмі важным з'яўляецца аддзяленне судовай улады ад усіх іншых улад; аднак для лёсаў краіны не менш важна і тое, каб розныя кіруемыя дзяржавай установы мелі адзінае паходжанне, падначальваліся адным і тым жа прынцыпам і дзейнічалі згодна: іншымі словамі, каб яны былі ўзаемазлучанымі і аднастайнымі. Нікому, я лічу, ніколі нават у галаву не прыходзіла звяртацца да замежнага суда з тым, каб ён судзіў злачынствы, здзяйсняемыя ў Францыі, разлічваючы на вялікую безстароннасць іхных суддзяў.

У дачыненні да федэральнага ўрада амерыканцы ўяўляюць сабой адзіны народ; аднак у краіне былі захаваны палітычныя ўстановы, якія толькі згодна з асобнымі пытаннямі залежалі ад федэральнага ўрада, а згодна з усімі астатнімі – не залежалі; установы, якія адрозніваліся сваім асаблівым паходжаннем, сваімі ўласнымі паглядамі і ўласьцівымі толькі ім сродкамі ўплыву. Даручыць выкананне законаў усяго Звязу судам, заснаваным гэтымі палітычнымі установымі, было раўназначна таму, каб даручыць краіну замежнаму суду.

Больш таго, у дачыненні да ўсёй федэрацыі кожны штат з'яўляецца не толькі свайго роду замежнай дзяржавай, але яшчэ і сталым, штодзённым супернікам, таму

[152] Суды больш чым каму б там ні было патрэбны для забеспячэння дзейнасьці федэральных законаў, хаця менавіта гэтыя законы, магчыма, выкарыстоўваюцца імі ў найменшай ступені. Нагода гэтага палягае ў тым, што большасць канфедэрацый была сфармавана із незалежных дзяржаў, у якіх не было рэчаіснага намеру падначальвацца нейкаму цэнтральнаму ўраду і якія, хаця і перадалі яму права распараджацца сабой, усё ж, адначасова старанна захоўвалі за сабой магчымасць адмовіць яму ў падпарадкаванні.

што кожнае звужэнне маштабаў вярхоўнай улады Звязу суправаджаецца непазбежным пашырэннем вярхоўнай улады асобных штатаў.

Такім чынам, даручаючы правядзенне ў жыццё законаў усяго Звязу судам асобных штатаў, краіну аддалі б не толькі пад уладу замежных суддзяў, але, акрамя таго, яшчэ і суддзяў вельмі староннiх.

Дарэчы, суды асобных штатаў былі няздольнымі служыць агульнанацыянальным мэтам не толькі дзякуючы сваёй прыроды, але галоўным чынам таму, што іх было вельмі шмат.

У момант стварэння федэральнай канстытуцыі ў Злучаных Штатах ужо дзейнічала трынаццаць судоў, рашэнні якіх не падлягалі перагляду. Сёння іх налічваецца ўжо дваццаць чатыры. Як можа існаваць дзяржава, у якой яе асноўныя законы тлумачацца і ўжываюцца на практыцы дваццаццю чатырма рознымі спосабамі адначасова! Такая сістэма так жа супярэчыць цьвярозаму розуму, наколькі і назапашанаму досьведу.

З нагоды гэтага амерыканскія заканадаўцы вырашылі стварыць адзіную федэральную судовую сістэму, ужываўшую на практыцы законы ўсёй федэрацыі і вырашаўшую пытанні, маючыя дачыненне да агульнанацыянальных зацікаўленасьцей, старанна вызначаных загадзя.

Уся судовая ўлада Звязу была засяроджана ў руках аднаго суда, атрымаўшага назву Вярхоўны суд Злучаных Штатаў. Аднак для палягчэння выканання спраў яму былі нададзены суды больш нізкага ўзроўню, меўшыя права самастойна вырашаць нязначныя справы і прымаць рашэнні па больш істотных справах у якасьці судоў першай інстанцыі. Сябры Вярхоўнага суда не абіраліся ні народам, ні заканадаўчай уладай; іх прызначаў сам прэзідэнт Злучаных Штатаў пасьля таго, як сваю думку па кожнай із кандыдатур выказаў сенат.

Каб забяспечыць незалежнасць сябраў Вярхоўнага суда ад якой бы то ні было іншай улады, гэтую пасаду зрабілі пажыццёвай. Акрамя таго, было вырашана, што іхны пенсіён, аднойчы вызначаны, вынімаецца із-пад кантролю заканадаўчай улады[153].

У прынцыпе абвясьціць стварэнне федэральнай судовай сістэмы дастаткова лёгка, аднак як толькі ўзнікае патрэба вызначыць прэрагатывы федэральных судоў, тут і ўзнікае шмат разнастайных цяжкасьцей.

## Спосаб вызначэння сферы кампетэнцыі федэральных судоў

[153] Звяз быў падзелены на акругі; у кожнай із іх прызначаўся на сталай падставе адзін федэральны суддзя. Суд, у якім старшынстваваў гэты суддзя, меў назву акруговы суд (district-court). Акрамя таго, кожны суддзя, уваходзіўшы у склад Вярхоўнага суда, быў абавязаны штогадова аб’язджаць вызначаную частку тэрыторыі рэспублікі з тым, каб на месцах вырашаць некаторыя найбольш важныя справы; суд, ўзначальваемы гэтай службовай асобай, атрымаў назву аб’язднога (circuit-court). І нарэшце, самыя сур’ёзныя справы або непасрэдна, або ў выніку апеляцыі перадаваліся ў Вярхоўны суд, у межах якога ўсе аб’язныя суды збіраліся адзін раз на год на адмысловае паседжанне. Сістэма прысяжных засядальнікаў была ўведзена ў федэральныя суды ў тым жа выглядзе, у якім яна існавала ў судах асобных штатаў, і для вырашэння аналагічных спраў. Такім чынам, мы бачым, што не існуе амаль ніякіх аналогій паміж Вярхоўным судом Злучаных Штатаў і нашым касацыйным судом. Вярхоўны суд можа разглядаць справы ў якасьці суда першай інстанцыі, тады як касацыйны суд лічыцца толькі другой ці нават трэццяй інстанцыяй. Вярхоўны суд, як і касацыйны, уяўляе сабой адзіную судовую ўстанову, на абавязку якой знаходзіцца ўсталяванне аднастайнасьці ў вобласьці юрыспрудэнцыі; аднак Вярхоўны суд судзіць як сам факт, так і праўную норму і самастойна выносіць рашэнні, не перадаючы справу ў іншы суд, тады як касацыйны суд не можа рабіць ні таго, ні іншага. Гл. закон пра судовае ўладкаванне ад 24 верасня 1789 года. Сторы. Законы Злучаных Штатаў, т. I, с. 53.

–Цяжкасьці вызначэння сферы кампетэнцыі розных судоў у рамках федэрацый. – Федэральныя суды дамагліся права самастойна вызначаць межы сваёй кампетэнцыі. – Чаму дадзенае права закранае тыя паўнамоцтвы вярхоўнай улады, якія належаць асобным штатам. –Вярхоўная ўлада штата, абмяжоўваемая як самімі законамі, так і тлумачэннем гэтых законаў. –Хутчэй уяўная, чым рэчаісная небяспека для асобных штатаў, вынікаючая із дадзенай сітуацыі.

Адразу ж узнікае першае пытанне: таму што Канстытуцыя Злучаных Штатаў усталёўвае два розныя ўзроўні вярхоўнай улады, пры гэтым у дачыненні да правасуддзя гэта выяўляецца ў існаванні двух розных катэгорый судоў, із гэтага вынікае, што, як бы ні імкнуліся старанна вызначыць юрысдыкцыю судоў кожнай катэгорыі, усё адно немагчыма цалкам пазбегнуць перадумоваў для прыватных сутыкненняў паміж імі. Каму ж у дадзеным выпадку павінна належаць права ўсталявання сферы кампетэнцыі гэтых судоў?

Калі ў народаў, утвараючых адзінае палітычнае грамадства, узнікае пытанне пра падзел сфер кампетэнцыі паміж двума судамі, то звычайна яго вырашэнне перадаецца трэццяму суду, выступаючаму ў ролі арбітра.

Гэта робіцца без асаблівых цяжкасьцей, таму што ў гэтых народаў пытанне пра сферу кампетэнцыі правасуддзя ніякім чынам не злучана з праблемамі вярхоўнай улады.

Аднак над Вярхоўным судом штата і над Вярхоўным судом Злучаных Штатаў немагчыма было заснаваць нейкі трэцці суд, які не быў бы ні тым, ні другім.

Такім чынам, адной із гэтых двух судовых інстанцый патрэбна было надаць права як самастойна вырашаць уласныя справы, так і браць на сябе ці пакідаць за сабой разгляданне спраў, права на вядзенне якіх аспрэчвалася. Дадзены прывілей немагчыма было пакінуць на кампетэнцыю розным судоў штатаў, таму што гэта азначала б, што, усталяваўшы законам вярхоўную ўладу Звяза, на справе яе фактычна знішчалі: справа ў тым, што права тлумачыць канстытуцыю хутка вярнула б штатам тую долю незалежнасьці, якой іх пазбавілі артыкулы дадзенай канстытуцыі.

Мэтай стварэння федэральнага суда было забараніць судам асобных штатаў згодна са сваім меркаваннем прынімаць рашэнні па справах, маючых агульнанацыянальнае значэнне, і дамагчыся стварэння такой установы правасуддзя, якая магла б тлумачыць законы Звязу. Аднак гэтая мэта апынулася б недасягальнай, калі б суды асобных штатаў, фармальна ўстрымліваючыся ад вядзення працэсаў федэральнага значэння, усё ж маглі б рабіць гэта, сцвярджаючы, што тая ці іншая разглядаемая справа не мае дачынення да кампетэнцыі федэральнага суда.

Вярхоўны суд Злучаных Штатаў атрымаў, такім чынам, права вырашаць усе пытанні, злучаныя з вызначэннем сферы кампетэнцыі якога заўгодна суда[154].

---

[154] Дарэчы каб паменшыць колькасць спраў, маючых дачыненне да сферы кампетэнцыі, было вырашана, што згодна са шмат якімі спрэчнымі сітуацыямі суды асобных штатаў будуць мець права выносіць сваё рашэнне нароўні з судамі Звязу; у той жа час абвінавачваемаму боку па-ранейшаму пакідалася магчымасць апеляваць у Вярхоўны суд Злучаных Штатаў. Вярхоўны суд Віргініі аспрэчваў у Вярхоўнага суда Злучаных Штатаў права разглядаць па апеляцыі тыя справы, па якіх ён прымаў рашэнне, аднак поспеху не дамогся. Гл.: Кент. Каментары: т. I, с. 300, 370 і г.д. Гл.: Сторы. Каментары: с. 646, і закон пра судовае ўладкаванне 1789 года. – Законы Злучаных Штатаў, т. I, с. 53.

Гэта быў самы грозны ўдар, які калі-небудзь наносіўся вярхоўнай уладзе штатаў. У выніку гэтага яна апынулася абмежаванай не толькі самімі законамі, але таксама і іхным тлумачэннем – адно абмежаванне было цалкам звыклым, тады як другое ўводзілася ўпершыню; першае было дакладна вызначаным правілам, другое – адвольным рашэнням. Праўда, канстытуцыяй былі ўсталяваны пэўныя межы вярхоўнай улады Звязу, аднак кожны раз, калі гэтая ўлада ўступала ў суперніцтва з уладай асобных штатаў, спрэчка паміж імі вырашалася ў федэральным судзе.

Дарэчы, небяспека для вярхоўнай улады асобных штатаў у рэчаіснасьці была значна меншай, чым гэта здавалася б на першы пагляд.

Далей мы пабачым, што ў Амерыцы сапраўдная ўлада належыць хутчэй урадам штатаў, чым федэральнаму ўраду. Федэральныя суддзі ўсведамляючы адносную слабасць той улады, ад імя якой яны выступаюць, і хутчэй схільныя адмовіцца ад права вырашэння справы нават у тых выпадках, калі гэта ім прызначана згодна з законам, чым браць справу да вырашэння.

## Розныя справы, маючыя дачыненне да федэральнай юрысдыкцыі

–Характар справы і суб'ект – два асноўных элементы, грунтуючыся на якіх вызначаецца прыналежнасць справы да федэральнай юрысдыкцыі. – Справы, маючыя дачыненне да амбасадараў, Звязу, асобнага штата. – Каму яны падсудныя. – Справы, узнікаючыя на падставе федэральных законаў. – Чаму яны ўваходзяць у кампетэнцыю федэральных судоў. –Справы пра невыкананне дамоваў падлягаюць федэральнай юрысдыкцыі. – Наступствы гэтага.

Знайшоўшы спосаб вызначыць сферу кампетэнцыі федэральных судоў, амерыканскія заканадаўцы пералічылі ўсе справы, на якія яна павінна была пашырацца.

Было вырашана, што некаторыя пазыўнікі, незалежна ад сутнасьці спрэчкі, павінны паўставаць толькі перад федэральнымі судамі.

Было таксама ўсталявана, што асобныя справы, незалежна ад узроўню канфліктуючых бакоў, павінны вырашацца выключна федэральнымі судамі.

Такім чынам, суб'ект і характар справы сталі тымі двума элементамі, у адпаведнасьці з якімі і вызначалася прыналежнасць гэтай справы да кампетэнцыі федэральных судоў.

Амбасадары ўяўляюць у сваёй асобе сяброўскія Злучаным Штатам краіны, таму ўсё, што злучана з амбасадарамі, у пэўнай ступені закранае зацікаўленасьці Звязу. Калі амбасадар выступае бокам у нейкім працэсе, гэты працэс, натуральна пачынае закранаць зацікаўленасьці дабрабыту ўсёй нацыі, і, такім чынам, рашэнне у рамках такіх працэсаў можа прымімаць толькі федэральны суд.

Сам Звяз таксама можа выступаць бокам у справе: у гэтым выпадку было б супярэчачым цьвярозаму розуму, а таксама звычаям усіх краін перадаваць падобныя справы суду, уяўляючаму іншую вярхоўную ўладу. Разглядаць такія справы павінна была выключна федэральная юстыцыя.

Паміж дзвума прыватнымі асобамі, жывучымі ў двух розных штатах, узнікае спрэчка – у гэтым выпадку было б немагчыма перадаваць іхную справу на разгляданне суда аднаго із гэтых штатаў без з'яўлення дадатковых складанасьцей. Надзейней было б абраць такі суд, які не абуджаў бы падазрэнняў ні ў адным із двух бакоў, а такім, бясспрэчна, можа быць толькі суд усёй федэрацыі.

Калі ж спрэчку вядуць два бакі, прадстаўляючыя штаты, а не прыватных асоб, то да ўжо павядомленага вышэй довадУ пра справядлівасць вырашэння можна

дадаць яшчэ і довад палітычнага характару, маючы першараднае значэнне. У дадзеным выпадку узровень канфліктуючых бакоў надае агульнанацыянальнае значэнне ўсяму працэсу: таму што самая меленькая спрэчка, якая можа паўстаць паміж двума штатамі, з'яўляецца важнай з боку гледжання захавання спакою ўсяго Звязу ў цэлым[155].

Нярэдка сама катэгорыя справы паказвае на тое, да кампетэнцыі якога суда гэтая справа належыць. Так, напрыклад, усе праблемы, злучаныя з марскім гандлем, адносяцца да юрысдыкцыі федэральных судоў[156].

Нагоду гэтага паказаць надзвычай лёгка: амаль усе гэтыя пытанні закранаюць вобласць міжнароднага права. Такім чынам, яны закранаюць зацікаўленасьці ўсяго Звязу ў яго стасунках з замежнікамі. Акрамя таго, раз мора немагчыма вызначана аднесьці да кампетэнцыі той ці іншай судовай акругі, то, такім чынам, па справах, маючых дачыненне да яго, рашэнне могуць браць толькі агульнанацыянальныя суды.

Канстытуцыя аб'яднала ў адным раздзеле практычна ўсе справы, якія згодна са сваім характарам адносяцца да кампетэнцыі федэральных судоў.

Правіла, якое яна ўсталявала ў дадзеным дачыненні, вельмі простае, аднак яно адлюстроўвае цэлую сістэму ідэй і паглядаў, адначасова ахопліваючых шмат фактычных ведаў.

Федэральныя суды, абвяшчае правіла, павінны разглядаць усе справы, якія ўзнікаюць на падставе законаў Злучаных Штатаў.

А вось два прыклады, выдатна тлумачачыя задуму заканадаўцаў.

Канстытуцыя забараняе штатам выдаваць законы пра абарачэнне грошай. Тым часам, нягледзячы на існаванне такой забароны, адзін са штатаў выдаў падобны закон. Зацікаўленыя асобы адмовіліся яму падначальвацца, заявіўшы, што ён супярэчыць агульнанацыянальнай канстытуцыі. У гэтым выпадку патрэбна звяртацца ў федэральны суд, таму што адмова падначальвацца матывавалася спасылкай на закон Злучаных Штатаў.

Ці, скажам, кангрэс прызначае ўвозную пошліну на тавар. Узнікаюць цяжкасьці пры спагнанні гэтай пошліны. І ў гэтым выпадку патрэбна звяртацца ў федэральны суд, таму што нагода ўзнікнення дадзенай справы ляжыць у тлумачэнні аднаго із законаў Злучаных Штатаў.

Гэтае правіла цалкам пагадняецца з асноваўтвараючымі нормамі, усталяванымі федэральнай канстытуцыяй.

Звяз у тым выглядзе, у якім ён быў сфармаваны ў 1789 годзе, у рэчаіснасьці мае толькі вельмі абмежаваную вярхоўную уладу, аднак, як гэта і задумвалася, ён уяўляе адзіную, цэласную нацыю[157]. У гэтых межах Звяз суверэнны. Як толькі

---

[155] У канстытуцыі таксама згадваецца пра тое, што спрэчкі, могучыя ўзнікнуць паміж штатам і жыхарамі іншага штата, адносяцца да кампетэнцыі федэральных судоў. У сувязі з гэтым хутка паўстала пытанне пра тое, ці меліся на ўвазе канстытуцыяй усе справы, якія могуць узнікнуць паміж штатам і жыхарамі іншага штата, ці мае права выступаць у ролі пазыўніка як той так і другі бок. Вярхоўны суд выказаўся з гэтай нагоды сцвярджальна, аднак дадзенае рашэнне занепакоіла штаты, якія асьцерагаліся, што яны насуперак іхнаму жаданню будуць з кожнай нагоды паўставаць перад федэральным судом. Таму ў канстытуцыі была зроблена папраўка, згодна з якой судовая ўлада Звязу не пашыраецца на тыя справы, якія ўзбуджаліся супраць нейкага штата жыхарамі іншага. Гл.: Сторы. Каментары: с. 624.

[156] Напрыклад, усе выпадкі пірацтва.

[157] Праўда, у гэтае цьверджанне былі занесены некаторыя абмежаванні, а менавіта: асобныя штаты прадстаўлены ў сенаце ў якасьці незалежных дзяржаў, і, акрамя таго, яны набываюць права паасобнага галасавання ў палаце прадстаўнікоў у выпадку абрання прэзідэнта. Аднак гэта выключэнні. Пераважным усё ж застаецца процілеглы прынцып.

дадзенае цьверджанне было ўсталявана і прынята ў якасьці падмурка, усё астатняе спрашчаецца, таму што калі вы прызнаеце той факт, што Злучаныя Штаты ў межах, усталяваных канстытуцыяй, выяўляюць зацікаўленасьці адзінай нацыі, то ім неабходна надаць усе тыя правы, якімі карыстаюцца і іншыя народы.

З моманту ж узнікнення чалавечага грамадства прынята лічыць, што кожны народ мае права разглядаць у сваіх судах усе пытанні, маючыя дачыненне да выканання яго ўласных законаў. Але, скажа нехта, Звяз знаходзіцца ў незвычайным становішчы, таму што ён уяўляе сабой адзіную нацыю толькі ў дачыненні да вызначаных прадметаў праўнага рэгулявання, тады як ва ўсіх астатніх выпадках ён нічога сабой не ўяўляе. Што ж із гэтага вынікае? А тое, што, прынамсі, у рамках заканадаўства, маючага дачыненне да гэтага прадмета, Звяз валодае ўсёй паўнатой вярхоўнай улады. Рэчаісная ж цяжкасць складаецца ў тым, каб вызначыць, якія ж гэта пытанні. Вырашыўшы дадзенае пытанне (а мы бачылі вышэй, разважаючы пра сферы кампетэнцыі, якім чынам яно было вырашана), мы, уласна кажучы, здымаем яго з парадку дня, таму што, калі ўжо ўсталявана, што тая ці іншая справа мае дачыненне да федэральнай юрысдыкцыі, то бок уключна ў сферу паўнамоцтваў вярхоўнай улады, якая, згодна з канстытуцыяй, пакінута за Звязам, з гэтага натуральным чынам вынікае, што рашэнне па дадзенаму пытанню можа выносіць толькі федэральны суд.

Такім чынам, кожны раз, калі парушаюцца законы Злучаных Штатаў ці калі да іх звяртаюцца ў парадку абароны, справа падлягае разгляданню ў федэральных судовых установых.

Як вынік, юрысдыкцыя федэральных судоў то пашыраецца, то звужаецца ў залежнасьці ад таго, пашыраюцца ці звужаюцца паўнамоцтвы вярхоўнай улады самага Звязу.

Мы бачылі, што галоўным заданнем заканадаўцаў у 1789 годзе было тое, каб падзяліць паўнамоцтвы вярхоўнай улады на дзьве розныя часткі. У сферу кампетэнцыі федэрацыі было перададзена кіраванне ўсімі справамі, маючымі агульныя для ўсяго Звязу зацікаўленасьці; да сферы кампетэнцыі асобных тэрыторый Звязу былі аднесены ўсе пытанні, адлюстроўваючыя іхныя спецыфічныя зацікаўленасьці.

Заканадаўцы перадусім імкнуліся надаць федэральнаму ўраду ўладу дастатковую для таго, каб ён быў здольным у межах сваёй сферы абараняць сябе ад незаконнага ўмяшання з боку асобных штатаў. Што ж да апошніх, то ў якасьці агульнага прынцыпу было прызнана, што ў справах, маючых дачыненне да іхнай кампетэнцыі яны застаюцца вольнымі. Цэнтральны ўрад не меў права ні кіраваць імі, ні нават кантраляваць іхную дзейнасць.

У главе пра падзел улады я ўжо згадваў пра тое, што гэты прынцып выконваўся далёка не заўсёды. Існуюць такія законы, якія не могуць быць прыняты нейкім штатам у асобнасьці, нават калі на першы пагляд яны маюць дачыненне толькі да яго ўласных зацікаўленасьцей. Калі той ці іншы штат Звязу выдае падобны закон, грамадзяне, зацікаўленасьці якіх парушаюцца ў выніку яго ўжывання, маюць права апеляваць у федэральныя суды. Такім чынам, юрысдыкцыя федэральных судоў пашыраецца не толькі на ўсе справы выцякаючыя із хаўруснага заканадаўства, але таксама і на тыя, у падставе якіх ляжаць законы асобных штатаў, супярэчачыя канстытуцыі.

Штатам забаронена прынімаць законы ў крымінальнай сферы, маючыя зваротнае дзеянне; чалавек, асуджаны на падставе падобнага закона, мае права падаць апеляцыю у федэральны суд.

Канстытуцыя таксама забараняе штатам выдаваць законы, якія могуць ліквідаваць ці парушыць правы, набытыя ў выніку розных дамоўленых абавязацельстваў (impairing the obligations of contracts)[158].

Як толькі нейкая прыватная асоба палічыць, што законам яго штата дадзенае права парушаецца, яна мае права адмовіцца падпарадкоўвацца яму і апеляваць да федэральнай юстыцыі[159].

Дадзенае ўсталяванне, на мой пагляд, у большай ступені падрывае вярхоўную ўладу асобных штатаў, чым усе іншыя правілы.

Правы дадзеныя федэральнаму ўраду для яго не выклікаючых сумневаў дзеянняў у агульнанацыянальных зацікаўленасьцях, з’яўляюцца выразна вызначанымі і зразумелымі. Што ж да правоў, якія надаюцца яму ўскосным чынам тым артыкулам, пра які толькі што ішла гаворка, то яны з’яўляюцца не такімі зразумелымі, а сфера іхнага ўжывання вельмі невыразная. І сапраўды, існуе шмат палітычных законаў, закранаючых дамоўленыя абавязацельствы і якія, такім чынам, могуць паслужыць дастатковай нагодай да захопу дадатковай улады цэнтральным урадам.

## Судаводства ў федэральных судах

–Натуральная слабасць судовай улады ў дзяржавах з федэрацыйным уладкаваннем. –Заканадаўцы павінны імкнуцца да таго, каб справы ў федэральных судах узбуджаліся па магчымасьці супраць прыватных асоб, а не супраць штатаў. –Як амерыканцы дамагліся гэтага. –Разгляданне спраў простых грамадзян непасрэдна федэральнымі судамі. –Ускосны ціск на штаты, парушаючыя законы Звязу. –Пастановы федэральных судоў не скасоўваюць законы штатаў, але паслабляюць іх дзеянне.

Я паведаміў правы федэральных судоў; аднак не менш важна ведаць, якім чынам гэтыя правы ўжываюцца на практыцы.

[158] «Цалкам зразумела, – выказваецца спадар Сторы на с. 503, – што кожны закон, пашыраючы, абмяжоўваючы ці пераманяючы так ці інакш намеры бакоў, выказаныя ва ўмовах дамовы, у выніку парушае (impairs) яго». Той жа аўтар далей дае грунтоўнае і вельмі доўгае вызначэнне таго, што маецца на ўвазе пад дамовай у федэральнай юрыспрудэнцыі. Канцэсія, выдадзеная штатам прыватнай асобе і прынятая апошняй асобай, з’яўляецца дамоўленым абавязаннем, якое не можа быць скасавана ў выніку прыняцця нейкага новага закона. Хартыя, дадзеная штатам той ці іншай кампаніі, таксама з’яўляецца дамоўленым абавязаннем і робіцца законам як для атрымліваючага, так і для самога штата. Такім чынам, артыкул канстытуцыі, пра які мы вядзём размову, забяспечвае дзейнасць значнай часткі набытых правоў, але ўсё ж не ўсіх. Я цалкам законна магу валодаць нейкай маёмасьцю, нават калі яна перайшла ў мае рукі не на падставе дамовы. Валоданне гэтай маёмасцю з’яўляецца для мяне набытым правам, аднак дадзенае права не ахоўваецца федэральнай канстытуцыяй.

[159] Вось выдатны прыклад, які прыводзіць на с. 508 спадар Сторы. Дартмуцкі коледж у Нью-Гэмпшыры быў створаны на падставе хартыі, падараванай шэрагу асоб яшчэ да Амерыканскай рэвалюцыі. У адпаведнасьці з дадзенай хартыяй гэтыя людзі стварылі афіцыйную ўстанову кіравання коледжам ці, як кажуць амерыканцы, карпарацыю. Заканадаўчы сход Нью-Гэмпшыра вырашыў перамяніць асобныя артыкулы першапачатковай хартыі і перадаў новым адміністратарам коледжа ўсе правы, прывілеі і палёгкі, выцякаючыя із новай хартыі. Ранейшыя адміністратары запрацівіліся гэтаму і звярнуліся ў федэральны суд, які вырашыў справу на іхную карысць на той падставе, што ранейшая хартыя ўяўляла сабой законнае пагадненне паміж штатам і канцэсіянерамі, і, такім чынам, новы закон не меў права перамяняць яе асноўныя артыкулы, не парушаючы тым самым правы, набытыя згодна з дамовай і, такім чынам, не парушаючы 1-ы артыкул раздзелу X Канстытуцыі Злучаных Штатаў.

Непераадольваемая магутнасць правасуддзя ў краінах з непадзеленай вярхоўнай уладай палягае ў тым, што суды тут прадстаўляюць усю нацыю, якая пачынае змаганне з прыватнай асобай, падпадаючай судоваму перасьледу. Да разумення права дадаецца разуменне моцы, якая служыць апірышчам дадзенаму праву.

Аднак у тых дзяржавах, дзе вярхоўная ўлада падзелена, не заўсёды атрымліваецца менавіта так. Там перад правасуддзем часьцей усяго паўстае не прыватная асоба, а некаторая частка нацыі. З нагоды гэтага маральная і матэрыяльная моц правасуддзя робіцца менш вялікай.

У федэрацыйных дзяржавах, такім чынам, судовая ўлада больш слабая, а падсудны – больш мацны.

У федэрацыях заканадавец увесь час накіраваны на тое, каб надаць судам такую ж важную ролю, якую яны маюць у народаў, не ўсталяваўшых ў сябе падзел вярхоўнай улады, – то бок, іншымі словамі, сталыя намаганні заканадаўцаў павінны засяроджвацца на тым, каб федэральная судовая ўлада прадстаўляла ў сваёй асобе нацыю, а падсудны – толькі прыватную зацікаўленасць.

Кожнаму ўраду, якой бы ні была яго прырода, патрэбна мець магчымасць уплываць на людзей, якімі ён кіруе, з тым каб вымушаць іх аддаваць яму належачае; ён вымушаны дзейнічаць супраць іх, каб абараніцца ад іхных нападаў.

Што ж да прамога ўплыву ўрада на грамадзянаў, каб вымусіць іх падначальвацца законам, то Канстытуцыя Злучаных Штатаў вызначыла (і ў гэтым выявілася яе дасканаласць), што федэральныя суды, дзейнічаючыя ад імя гэтых законаў, павінны заўсёды мець справу толькі з прыватнымі асобамі. І сапраўды, раз было абвешчана, што федэрацыя ў межах акрэсленых канстытуцыяй уяўляе адзіны народ, то ўрад, створаны на падставе дадзенай канстытуцыі і дзейнічаючы ў межах акрэсленых ёю, быў надзелены ўсімі правамі агульнанацыянальнага ўрада, галоўным сярод якіх з'яўлялася давядзенне ўсіх яго наказаў да простых грамадзянаў, пазбягаючы якіх-небудзь пасярэднікаў. Так, напрыклад, калі Звяз аддаваў дырэктыву пра спаганянне падаткаў, гэта павінна было азначаць, што ён звяртаецца цалкам не да штатаў з заклікамі пра пачатак працэдуры збору гэтых падаткаў, але да кожнага амерыканскага грамадзяніна, каб ён плаціў іх у адпаведнасьці з вызначанымі яму памерамі падаткаабкладання. У сваю чаргу федэральны суд, у чые абавязкі ўваходзіла забеспячэнне выканання дадзенага закона, выносіў абвінаваўчы прысуд не непагаджаючамуся штату, а непаслухмяным падаткаплацельшчыкам. Федэральнае правасуддзе, як і суды іншых краін, непасрэдна стасуецца толькі з прыватнымі асобамі.

Заўважце, што ў дадзеным выпадку Звяз сам абірае свайго суперніка, а абірае ён таго, хто слабей, і, натуральна, гэты супернік выяўляецца пераможаным.

Аднак цяжкасьці ўзрастаюць, калі Звяз замест таго, каб нападаць, бывае вымушаны абараняцца. Канстытуцыя прызнае за штатамі права выдаваць законы. Гэтыя законы могуць парушаць права Звязу. Тады Звяз, па неабходнасьці, апынаецца ў супрацьстаянні з вярхоўнай уладай таго штата, які выдаў гэты закон, і яму із разнастайных спосабаў уплыву застаецца толькі выбраць той, які выявіцца найменш небяспечным. Гэты спосаб і закладзены спрадвечна ў падставу тых агульных прынцыпаў, якія я ўжо пералічыў[160].

Можна выказаць здагадку ў такім разе, што Звяз мог бы ўзбудзіць у федэральным судзе справу супраць штата і суд прызнаў бы дадзены закон

[160] Гл. главу «Судовая ўлада ў Злучаных Штатах»

несапраўдным; гэтая працэдура адпавядала б нармальнаму ходу рэчаў. Аднак пры гэтым федэральнае правасуддзе сытукнулася б тварам да твару са штатам, чаго жадалі па-магчымасьці пазбегнуць.

Амерыканцы разважылі, што падчас выканання новага закона амаль напэўна створыцца становішча, пры якім гэты закон абмяжуе нечыя прыватныя зацікаўленасьці.

Вось аўтары федэральнай канстытуцыі і ўзялі гэтую прыватную зацікаўленасць за грунт, каб супрацівіцца тым заканадаўчым акцыям, якія могуць супярэчыць зацікаўленасьцям Звязу. Менавіта гэтай прыватнай зацікаўленасьці яны і выказваюць заступніцтва.

Так, напрыклад, нейкі штат прадае сваю зямлю прыватнай кампаніі. Праз год новы закон распараджаецца гэтай жа зямлёй цалкам інакш і тым самым парушае той артыкул канстытуцыі, які забараняе перамяняць правы, набытыя дзякуючы дамоўным абавязкам. Калі ж асоба, набыўшая землю на падставе новага закона, спрабуе завалодаць ёю, то ўладальнік, чые правы грунтуюцца на ранейшым законе, падае яму пазву ў федэральны суд і дамагаецца прызнання яго права на валоданне не маючым моцы[161]. Такім чынам, у гэтым выпадку федэральнае правасуддзе фактычна сутыкаецца з вярхоўнай уладай штата, аднак яна сутыкаецца з ёю толькі ўскосна, ды да таго ж у дачыненні да прыватнага выпадку. Такім чынам, федэральная судовая ўлада наносіць удар не па закону як такому, а па выніках яго ўжывання; яна не скасоўвае яго, хаця і паслабляе яго моц.

І нарэшце, застаецца выказаць апошнюю гіпотэзу.

Кожны штат уяўляе сабой нейкую карпарацыю, якой уласціва асобнае існаванне і асобныя грамадзянскія правы – такім чынам, гэты штат можа выступаць як пазыўнікам, так і адказнікам у судзе. Напрыклад, адзін штат можа перасьледаваць у судовым парадку іншы штат.

У гэтым выпадку з боку гледжання Звязу гаворка ідзе ужо не пра апратэставанне таго ці іншага мясцовага закона, а пра судовую справу, у якой адным із бакоў з'яўляецца штат. Гэта такая ж судовая справа, як і кожная іншая; адрозненне складаецца толькі ва ўзроўні канфліктуючых бакоў. Тут і крыецца небяспека, згаданая мной напачатку дадзенай главы; праўда, на гэты раз яна непазбежная, таму што закладзена ў самой сутнасьці федэральных канстытуцый, вынікам якіх заўсёды будзе ўзнікненне ў рамках дзяржавы асобных яго сябраў, якія апынуцца такімі магутнымі, што правасуддзе зможа дзейнічаць супраць іх толькі з вельмі вялікімі намаганнямі.

## Важнае месца, займаемае вярхоўным судом сярод вышэйшых дзяржаўных установаў

–Ніводзін народ не ствараў такой магутнай судовай улады, як амерыканцы. –Сфера кампетэнцыі амерыканскага правасуддзя. –Яго палітычны ўплыў. –Спакой і сама-існаванне Звязу залежаць ад мудрасьці сямі федэральных суддзяў.

Калі, падрабязна разгледзеўшы уладкаванне Вярхоўнага суда, пераходзіш да вывучэння ўсёй сукупнасьці прэрагатыў, якія ён мае, то без цяжкасьцей выяўляеш, што ніколі яшчэ ні ў аднаго народа не было такой магутнай судовай улады.

[161] Гл.: Кент. Каментары: т. I, с. 387.

Вярхоўны суд, як адпаведна з прыродай сваіх правоў, так і ў адпаведнасьці з катэгорыяй падсудных яму спраў займае больш важнае месца, чым які б то ні было іншы вядомы суд.

Ва ўсіх цывілізаваных народаў Яўропы ўрад заўсёды выяўляў вялікае нежаданне перадаваць на рашэнне установ правасуддзя справы, меўшыя дачыненне да яго дзейнасьці. Гэта нежаданне, натуральна, робіцца тым больш мацным, чым больш абсалютнай уладай валодае ўрад. І, наадварот, па меры пашырэння волі нязменна пашыраецца і сфера кампетэнцыі судоў; разам з тым ніводная із еўрапейскіх краін і не думала пра тое, што кожная судовая справа, незалежна ад яе прыроды, можа перадавацца на разгляд суддзям, чые дзеянні заснаваны на нормах агульнага права.

У Амерыцы гэтую тэорыю ўжылі на практыцы. Вярхоўны суд Злучаных Штатаў з'яўляецца адзінай у сваім родзе агульнанацыянальнай судовай установай.

На яго абавязку знаходзіцца тлумачэнне законаў і тэкстаў дамоў; у сферу яго выключнай кампетэнцыі ўваходзіць разгляданне пытанняў маючых дачыненне да марскога гандлю, і ў цэлым усіх тых праблем, якія адносяцца да вобласьці міжнароднага права. Можна нават сцвярджаць, што, хаця згодна са сваёй арганізацыяй Вярхоўны суд Злучаных Штатаў – гэта своеасаблівая судовая ўстанова, але амаль усе яго паўнамоцтвы носяць палітычны характар. Яго адзінае заданне складаецца ў тым, каб прымушаць да выканання законаў Звязу, тады як Звяз рэгулюе толькі дачыненні ўрада з грамадзянамі, а таксама ўсёй краіны – з замежнікамі; дачыненні грамадзянаў паміж сабой амаль заўсёды адносяцца да кампетэнцыі вярхоўнай улады штатаў.

Да дадзенай нагоды, дзякуючы якой Вярхоўны суд у жыцці амерыканскага грамадства мае надзвычай важнае значэнне, варта дадаць яшчэ адну, значна больш істотную. Судам еўрапейскіх краін падсудны толькі справы прыватных асоб; што ж да Вярхоўнага суда Злучаных Штатаў, то можна сказаць, што ён мае ўладу заклікаць да адказу нават незалежныя дзяржавы. Калі судовы выканавец, падымаючыся па прыступках кафедры, прамаўляе ўсяго некалькі слоў: «Штат Нью-Ёрк супраць штата Агаё», то кожны прысутнічаючы ўсведамляе, што знаходзіцца ў памяшканні далёка не звычайнага суда. А калі задумваешся над тым, што адзін із спрачаючыхся бакоў уяўляе зацікаўленасьці мільёна чалавек, а другі – двух мільёнаў, то здзіўляешся той адказнасьці, якая ўскладзена на плечы сямі суддзяў, чый прысуд здольны абрадаваць ці засмуціць такую вялікую колькасць іхных суграмадзянаў.

Ад сямі федэральных суддзяў увесь час залежаць спакой, росквіт і само існаванне Звязу. Без іх канстытуцыя ператварылася б у мёртвую літару; менавіта да іх звяртаецца выканаўчая ўлада ў надзеі знайсьці абарону ад ціску заканадаўчых установ; да іх жа звяртаецца і заканадаўчая ўлада, калі спрабуе абараніць сябе ад тых ці іншых дзеянняў улады выканаўчай; звяртаецца да іх і Звяз – каб прымусіць асобныя штаты падпарадкоўвацца яму; і асобныя штаты – каб адхіліць залішнія дамаганні Звязу; і грамадства, пачаўшае змаганне з прыватнымі зацікаўленасьцямі; і кансерватыўныя сілы, змагаючыяся супраць дэмакратычнай дэстабілізацыі. Улада гэтых сямі суддзяў велізная, аднак яна знаходзіцца ў сталай залежнасьці ад грамадзкай думкі. Суддзі з'яўляюцца ўсемагутнымі да таго часу, пакуль народ готавы падпарадкоўвацца законам, але яны робяцца нямоглымі, як толькі гэтае падпарадкаванне спыняецца. Тым часам, уплыў грамадзкай думкі такі вялікі, што яго надзвычай складана ўлічыць на практыцы, таму што немагчыма з

дакладнасьцю паказаць на яго межы. Нярэдка бывае так жа небяспечна трымаць сябе ў вызначаных межах, наколькі і выходзіць за іх.

Такім чынам, федэральныя суддзі павінны быць не толькі прыстойнымі грамадзянамі, людзьмі асьвечанымі і сумленнымі – гэтыя якасьці неабходны кожнай службовай асобе, – яны павінны быць таксама і дзяржаўнымі дзеячамі, абавязанымі разумець дух свайго часу; змагацца з перашкодамі, якія можна пераадолець, і ўхіляцца ад імклівай плыні ў тых выпадках, калі струмень пагражае, як знесьці вярхоўную ўладу Звязу, так і парушыць належнае падпарадкаванне яго законам.

Прэзідэнт можа памыліцца і пры гэтым дзяржава ніколькі не зведае непрыемнасьцей, таму што прэзідэнт валодае толькі абмежаванай уладай. Кангрэс у стане здзейсніць памылку, але Звяз ад гэтага не загіне, таму што над кангрэсам існуе і выбарчы корпус, які ў стане перамяніць атмасферу ў кангрэсе, памяняўшы яго сябраў.

Калі ж Вярхоўны суд калі-небудзь выявіцца сфармаваным із людзей неасьцярожных або прадажных, то федэрацыі патрэбна будзе асьцерагацца або анархіі, або грамадзянскай вайны.

Аднак не варта памыляцца: рэчаісная небяспека крыецца цалкам не ў арганізацыі суда, а ў самай прыродзе федэрацыйных дзяржаваў. Мы бачылі, што нідзе не ўзнікае большай патрэбы ўсталяваць магутную судовую ўладу, як у краінах з федэрацыйным уладкаваннем, таму што нідзе прыватныя асобы, гатовыя ўступіць у змаганне з грамадствам, не бываюць такімі моцнымі і не распараджаюцца такімі значнымі сродкамі для супраціўлення матэрыяльнай моцы ўрада.

Тым часам з павелічэннем патрэбы ў моцнай уладзе ёй патрэбна надаваць усё большы прасторы і незалежнасьці. А чым больш магутнай і незалежнай з’яўляецца ўлада, тым больш небяспечным з’яўляецца злоўжыванне ёю. Такім чынам, зло закладзена наогул не ў арганізацыі дзяржаўнай улады, а ва ўладкаванні самай дзяржавы, абумаўліваючым функцыянаванне гэтай улады.

## У чым складаецца перавага федэральнай канстытуцыі над канстытуцыямі штатаў

–Як магчыма параўнаць канстытуцыю Звязу з канстытуцыямі штатаў. –Федэральная канстытуцыя абавязана сваёй перавагай перадусім мудрасьці заканадаўцаў. –Заканадаўчая ўлада Звязу менш залежыць ад народа, чым заканадаўчая ўлада штатаў. –Выканаўчая ўлада ў сваёй сферы больш вольная. –Судовая ўлада слабей падначалена волі большасьці. –Практычныя наступствы такога становішча. –Федэральныя заканадаўцы паменшылі небяспекі, уласцівыя дэмакратычным формам кіравання, а заканадаўцы штатаў узмацнілі іх.

Федэральная канстытуцыя істотна адрозніваецца ад канстытуцый асобных штатаў той мэтай, якую яна ставіць перад сабой, аднак сродкі дасягнення гэтай мэты цалкам падобныя з тымі сродкамі, якія агаданы канстытуцыямі штатаў для дасягнення стаячых перад імі заданняў. Аб’екты кіравання розныя, але формы кіравання аднолькавыя. Менавіта ў гэтай пэўнай вобласьці было б карысным параўнаць іх паміж сабой.

Я лічу, што федэральная канстытуцыя з’яўляецца больш дасканалай чым канстытуцыі штатаў, што абумоўлена цэлым шэрагам нагод.

Сучасная канстытуцыя Звязу была распрацавана ўжо пасьля таго, як была прынята большасць канстытуцый штатаў і, такім чынам, пры яе стварэнні выкарысталі ўжо напрацаваны у гэтым пытанні досьвед.

І ўсё ж, як можна пераканацца, гэта ўсяго толькі другарадная нагода, асабліва калі прыняць да ўвагі той факт, што пасьля выпрацавання федэральнай канстытуцыі да Звязу далучылася яшчэ адзінаццаць новых штатаў і што гэтыя штаты ў сваіх канстытуцыях часьцей усяго ўзмацнялі, а не памяншалі тыя недахопы, якія былі ўласцівы прынятым раней канстытуцыям.

Галоўная нагода перавагі федэральнай канстытуцыі складаецца ў вартасьцях стварыўшых яе заканадаўцаў.

Пад час эпохі калі яна распрацоўвалася, знішчэнне канфедэрацыі здавалася непазбежным, і гэта было для ўсіх відавочным. Знаходзячыся ў становішчы не маючым выйсьця, народ выбраў, магчыма, не тых людзей, якім ён больш сімпатызаваў, але тых, якія выклікалі ў яго больш павагі.

Я ўжо пазначаў вышэй, што практычна ўсе федэральныя заканадаўцы вызначаліся высокай адукаванасьцю і яшчэ большым патрыятызмам.

Усе яны занялі бачныя месцы пад час перыяду агульнанацыянальнага крызісу, калі дух волі павялічваўся ў сталым змаганні з моцнай і імкнуўшайся да непадзельнага панавання ўладай урада. Змаганне было закончана і хаця людзі, ахопленыя жарсьцямі, усё яшчэ адпаведна са звычкай ваявалі з ужо даўно не існуючымі небяспекамі, яны ўсё ж здолелі спыніцца і кінуць на сваю бацькаўшчыну больш спакайны і праніклівы позірк; гэтыя людзі пабачылі, што рэвалюцыя цалкам перамагла і што з гэтага часу бедствы, пагражаўшыя народу, маглі аднавіцца толькі ў выніку злоўжывання воляй. Яны мелі мужнасць выказаць усё, пра што думалі, таму што ў глыбіні сваіх сэрцаў яны адчувалі шчырую і гарачую павагу да гэтай волі; яны адважыліся сказаць пра яе абмежаванне таму, што ім менш усяго хацелася, каб яна была знішчана[162].

[162] Пад час гэтай эпохі знакаміты Аляксандр Гамільтон, адзін із найбольш уплывовых складальнікаў канстытуцыі, не пабаяўся апублікаваць у 71-м нумары «Федэраліста» наступнае: «Я ведаю, што існуюць людзі, якім выканаўчая ўлада можа спадабацца толькі ў тым выпадку, калі яна будзе па-нявольніцку патураць жаданням народа ці заканадаўчых устаноў; але мне здаецца, што гэтыя людзі маюць вельмі прымітыўнае ўяўленне пра мэту кожнага ўрада, а таксама пра сапраўдныя сродкі дасягнення ўсеагульнага дабрабыту. Хай думкі народа, калі яны з'яўляюцца прадуманымі і саспеўшымі, вызначаюць паводзіны тых, каму народ даручае вядзенне сваіх спраў, – гэта выцякае із самога факта прыняцця рэспубліканскай канстытуцыі; аднак рэспубліканскія прынцыпы цалкам не патрабуюць падначалення якому б то ні было подыху ветрыка народных жарсьцяў ці паспешнага падпарадкавання кожнаму хвіліннаму жаданню большасьці, якое можа з'явіцца пад уплывам падступных дзеянняў асоб, патураючых забабонам натоўпу з тым, каб потым здрадзіць яму. Гэта правільна, што народ звычайна жадае дамагчыся грамадзкай выгоды. Аднак у сваіх памкненнях ён часта памыляецца. Калі б яго пачалі пераконваць у тым, што ён заўсёды цьвяроза ацэньвае тыя сродкі, якія неабходны для квітнення нацыяй, то, кіруючыся цьвярозым розумам, ён з пагардай адпрэчыў бы падобную ліслівасць таму, што народ грунтуючыся на ўласным досьведзе ведае, што яму часам здаралася і памыляцца. А вось чаму варта здзіўляцца, дык гэта таму, што ён не памыляецца яшчэ часьцей, безперапынна сутыкаючыся з хітрасьцямі лайдакоў і падхалімаў, натыкаючыся на пасткі, якія яму ўвесь час ставяць шматлікія прагныя і не маючыя грошай людзі; падпадаючы пад штодзённы падман тых, хто незаслужана заваяваў яго давер, ці ж тых, хто імкнецца хутчэй займець гэты давер, не будучы ў стане заслужыць яго. У тым выпадку, калі памкненні народа супярэчаць яго сапраўдным зацікаўленасьцям, абавязкам усіх тых, каго народ паставіў на варце сваіх зацікаўленасьцей, з'ўляецца змаганне з памылкамі, ахвярай якіх ён часова стаў, з тым каб даць яму час апрытомець і спакойна ацаніць утварыўшаяся становішча. І ўжо неаднаразова здаралася так, што народ, выратаваны такім чынам ад згубных наступстваў яго ж уласных памылак, узводзіў потам у якасьці падзякі помнікі тым людзям, у якіх было дастаткова шляхетнасьці і мужнасьці, каб наклікаць незадавальненне свайго народа, працягваючы служыць яго сапраўдным зацікаўленасьцям»

Большасць канстытуцый штатаў усталёўвае тэрмін дзеяння паўнамоцтваў сябраў палаты прадстаўнікоў прамежкам роўным аднаму году і двухгадовы тэрмін – для сенатараў. Як вынік, сябры заканадаўчага корпуса няспынна і самым цесным чынам злучаны з праяўленнем самых найменшых жаданняў з боку сваіх выбарцаў.

Заканадаўцы Звязу палічылі, што такая поўная залежнасць заканадаўчай улады ад народа наносіць шкоду найбольш важным дасягненням існуючай сістэмы прадстаўнічых установаў, таму што ў гэтым выпадку народ ператвараецца не проста ў крыніцу самай улады, але і ва ўрад.

У выніку яны павялічылі тэрмін дзеяння паўнамоцтваў абіраемых установаў, каб даць дэпутатам вялікую магчымасць для праяўлення ўласных незалежных перакананняў.

Федэральная канстытуцыя, як і канстытуцыі розных штатаў, падзяліла заканадаўчы корпус на дзьве часткі.

Аднак у штатах гэтыя два падраздзяленні заканадаўчай улады складаюцца із адных і тых жа элементаў, а іхныя сябры абіраюцца адным і тым жа спосабам. У выніку жарсьці і жаданні большасьці з аднолькавай лёгкасьцю запаўняюць як адну, так і ў другую палату і хутка знаходзяць у іх прыладу для свайго выяўлення, што надае залішне бурны і паспешлівы характар працэсу выпрацавання законаў.

Паводле федэральнай канстытуцыі, абедзьве палаты кангрэса таксама фармуюцца шляхам народнага галасавання, аднак умовы абрання і парадак абрання гэтых палат розныя. Гэта зроблена для таго, каб, як гэта існуе ў некаторых дзяржавах, адна із палат, хаця і не прадстаўляючая нейкіх адрозных ад другой зацікаўленасьцей, прынамсі, выявіла б самую высокую мудрасць пры арганізацыі сваёй дзейнасьці.

Сенатарам можа стаць чалавек, дасягнуўшы сталага ўзросту, а абірае сенатараў нешматлікая асамблея, якая сама па сабе з’яўляецца абіраемай установай.

Дэмакратычныя дзяржавы маюць натуральную схільнасць да канцэнтрацыі ўсёй грамадзкай улады ў заканадаўчых установах, а дзякую таму што заканадаўчая ўлада непасрэдна выходзіць ад народа, то менавіта яна і з’яўляецца самым непасрэдным выразнікам яго ўсемагутнасьці.

З гэтым злучана і ўласьцівае заканадаўчым установам імкненне засяродзіць у сваіх руках найвялікшую ўладу.

Гэта, з аднаго боку, вельмі згубна ўплывае на іхную дзейнасць, а з другога – спрыяе дэспатычным схільнасьцям большасьці.

Заканадаўцы асобных штатаў нярэдка цалкам аддаваліся пад уладу гэтых інстынктаў, уласьцівых дэмакратычным дзяржавам; што ж да заканадаўцаў Звязу, то яны, наадварот, заўсёды мужна змагаліся з імі.

У штатах выканаўчая ўлада перададзена службовай асобе, якая, здавалася б, знаходзіцца на тым жа узроўні, што і заканадаўчы сход, аднак хто, як не губернатар, выяўляецца ў рэчаіснасьці проста сляпой і пасіўнай прыладай яго волі. Адкуль ён можа запазычыць сваю магутнасць? У працягласьці тэрміну свайго знаходжання на пасадзе? Але яго звычайна абіраюць на адзін год. У сваіх паўнамоцтвах? Але можна сказаць, што ён іх цалкам пазбаўлены. Заканадаўчы сход здольны звесьці яго дзейнасць да нуля, ускладаючы абавязкі па ажыццяўленню законаў у жыццё на адмысловыя камісіі, ствараемыя ў яго ўласным асяроддзі. Калі б заканадаўчая ўлада пажадае, то яна ў стане ў пэўным сэнсе знішчыць губернатара, перастаўшы, напрыклад, выплочваць яму пенсіён.

Федэральная канстытуцыя засяродзіла ўсе правы выканаўчай улады, роўна як і ўсе яе абавязкі, у руках аднаго чалавека. Яна ўсталявала чатырохгадовы тэрмін дзеяння прэзідэнцкіх паўнамоцтваў, забяспечыла яму пенсіён, выплочваемы на працягу усяго перыяду яго знаходжання ва ўладзе, аддала пад яго кіраванне залежачых ад яго ўрадаўцаў і ўзброіла яго правам адтэрміноўваючага вета. Адным словам старанна вызначыўшы сферу кампетэнцыі выканаўчай улады, яна паспрабавала, наколькі гэта, магчыма, забяспечыць прэзідэнту ў гэтай сферы моцную і незалежную пазіцыю.

У адпаведнасьці з канстытуцыямі штатаў судовая ўлада апынулася менш залежнай ад заканадаўчай улады. І ўсё ж, ва ўсіх штатах менавіта заканадаўчы сход прызначае суддзям пенсіён, што непазбежна падначальвае іх яго непасрэднаму ўплыву. У некаторых штатах суддзі прызначаюцца на вызначаны тэрмін, што таксама пазбаўляе іх значнай часткі іхнай улады і волі дзеяння.

У іншых штатах заканадаўчая і судовая ўлада цалкам перапляліся: напрыклад, сенат Нью-Ёрка для разбору некаторых катэгорый спраў сам ператвараецца ў вярхоўны суд штата.

Федэральная канстытуцыя, наадварот, паклапацілася пра тое, каб аддзяліць судовую ўладу ад усіх іншых. Акрамя таго, яна забяспечыла незалежнасць суддзяў тым, што абвясьціла нязменнасць памераў іхнага пенсіёну і немагчымасць пазбаўлення іх пасады.

Практычныя наступствы гэтых розных падыходаў лёгка заўважыць. Для кожнага ўважлівага назіральніка робіцца відавочным, што справы Звязу вядуцца нашмат лепш, чым справы кожнага са штатаў.

Федэральны ўрад больш справядлівы і пасьлядоўны ў сваёй дзейнасьці, чым урады штатаў. У яго пазіцыі больш мудрасьці; у яго праектах больш разважлівасьці і разумных камбінацый, заснаваных на ведах; у ажыццяўленні якіх бы то ні было пачынанняў ён выяўляе больш майстэрства, паслядоўнасьці і цьвёрдасьці.

Каб падвесьці вынік усяму, выкладзенаму ў дадзенай частцы, дастаткова сказаць толькі некалькі слоў.

Існаванню дэмакратыі пагражаюць дзьве асноўныя небяспекі. Першая складаецца ў поўным падначаленні заканадаўчай улады волевыяўленню масы выбарцаў. Другая складаецца ў канцэнтрацыі ў заканадаўчых установах усіх іншых відаў урадавай улады.

Заканадаўцы штатаў спрыялі ўзрастанню гэтых небяспек. Заканадаўцы ж Звязу зрабілі ўсё, што было магчымым для іх, каб яны сталі менш пагрозлівымі.

## Адрозненні канстытуцыі Злучаных Штатаў Амерыкі ад усіх іншых федэральных канстытуцый

–На першы пагляд амерыканская федэрацыя падобна на ўсе іншыя федэрацыі. –Тым часам яна адрозніваецца ад усіх іншых. –Нагоды гэтага. –У чым складаюцца адрозненні амерыканскай федэрацыі ад усіх астатніх. –Амерыканскі ўрад немагчыма лічыць федэральным у чыстым выглядзе, ён хутчэй з’яўляецца агульнанацыянальным урадам з абмежаванымі паўнамоцтвамі.

Злучаныя Штаты Амерыкі не былі першым і адзіным напрыклад дзяржаўнага федэрацыйнага ўладкавання. Нават не закранаючы старажытныя часы, можна прывесьці некалькі прыкладаў абмяжоўваючыся сучаснай Яўропай. Швейцарыя, Германская імперыя, рэспубліка Нідэрланды або былі, або працягваюць заставацца федэрацыямі.

Вывучаючы канстытуцыі гэтых вельмі непадобных паміж сабой краін, можна не без здзіўлення пазначыць, што ўлада, якой яны надзяляюць федэральны ўрад, шмат у чым нагадвае тую, якую амерыканская канстытуцыя надае ўраду Злучаных Штатаў. Як і амерыканская канстытуцыя, яны перадаюць цэнтральнай уладзе права заключаць мір і аб’вяшчаць вайну, права набіраць войска і спаганяць падаткі із насельніцтва, клапаціцца пра задавальненне грамадзкіх патрэб і рэгуляваць агульнанацыянальныя зацікаўленасьці.

Тым часам ва ўсіх гэтых такіх розных народаў федэральны ўрад амаль заўсёды вызначаецца слабасьцю і неэфектыўнасьцю, тады як урад амерыканскага Звязу вядзе свае справы лёгка і энергічна.

Першы амерыканскі Звяз не здолеў працягваць сваё існаванне менавіта з нагоды выключнай слабасьці свайго ўрада і, ўсё ж, гэты слабы ўрад меў такія ж шырокія правы, як і сучасны федэральны ўрад. Можна нават сказаць, што ў некаторых дачыненнях яго правы былі нават больш значнымі.

Аднак зараз дзейнічаючая Канстытуцыя Злучаных Штатаў утрымлівае некалькі новых прынцыпаў, маючых вельмі важнае значэнне, хаця спачатку яны цалкам не кідаюцца ў вочы.

І сапраўды, гэтая канстытуцыя, якую на першы погляд лёгка пераблытаць з кожнай із папярэдніх федэральных канстытуцый, заснавана на цалкам новай тэорыі, якую можна лічыць вялікім адкрыццём у вобласьці палітычных навук нашага часу.

Ва ўсіх федэрацыях, існаваўшых да стварэння ў 1789 годзе амерыканскага Звязу, народы, аб’ядноўваўшыяся для дасягнення агульных мэт, пагаджаліся падпарадкоўвацца дырэктывам федэральнага ўрада, аднак у той жа час яны працягвалі захоўваць у межах уласнай тэрыторыі права выдаваць указы і наглядаць за выкананнем законаў маючых значэнн для ўсяго звязу.

Амерыканскія штаты, утварыўшыя Звяз у 1789 годзе, не толькі далі сваю згоду на тое, каб федэральны ўрад выдаваў для іх законы, але і на тое, каб ён сам даводзіў гэтыя законы да выканання.

Ва ўсіх федэрацыях, папярэднічаўшых сучаснаму амерыканскаму Звязу, федэральны ўрад звяртаўся да ўрадаў уключаных у іх дзяржаў для таго, каб атрымаць ад іх сродкі на сваё ўтрыманне. У тых выпадках, калі тое ці іншае пачынанне, прадпісванае федэральным урадам да выканання, не падабалася нейкаму із гэтых урадаў, ён заўсёды мог ухіліцца ад патрэбы падпарадкоўвацца. Калі ўрад быў моцным, ён заклікаў да зброі сваіх грамадзянаў; калі ён быў слабым, то не зважаючы на выпадкі непадпарадкавання законам федэрацыі, стаўшымі ўжо яго ўласнымі, спасылаўся на сваю немач і працягваў існаваць як бы па інэрцыі.

І заўсёды адбывалася адно із двух: або самы дужы із аб’яднаўшыхся народаў браў у свае рукі ўладу належачую федэральнаму ўраду, і ад яго імя кіраваў другімі[163], або федэральны ўрад выяўляўся пакінутым і мог разлічваць толькі на свае ўласныя магутнасьці, і тады ў федэрацыі пачынала панаваць анархія, і сам звяз рабіўся абсалютна недзеяздольным[164]. У Амерыцы Звяз кіруе не штатамі, а

---

[163] Так было ў грэкаў пры Піліпу, калі гэты цар падначаліў свайму ўплыву Амфіктыёнію. Так было і ў рэспубліцы Нідэрланды, дзе заўсёды кіравала правінцыя Галандыя. Тое ж у нашы дні адбываецца і ў Германскім звязе, у межах якога Аўстрыя і Прусія з’яўляюцца выканаўцамі рашэнняў абіраемай рады, ад яе імя пануючы над усёй канфедэрацыяй.

[164] У Швейцарскім звязе так было заўсёды. Швейцарыя ўжо некалькі стагоддзяў назад спыніла б сваё існаванне, калі б не раздзіраючыя яе суседзей супярэчнасьці ў стаўленні да яе.

простымі грамадзянамі. Калі федэральны ўрад мае намер сабраць падаткі, ён звяртаецца не да ўрада Масачусетса, а да кожнага жыхара гэтага штата. Ранейшыя федэральныя ўрады мелі справу з цэлымі народамі, тады як амерыканскі Звяз – з прыватнымі асобамі. Магутнасць, якой ён валодае, не ўзята ў пазыку, але з'яўляецца ўласьцівай яму самому. Ён мае сваіх уласных уладцаў, свае суды, сваіх судовых урадаўцаў і сваё войска.

Безумоўна, нацыянальны дух, агульнасць пачуццяў, правінцыйныя забабоны кожнага штата прыводзяць да вызначанага звужэння сферы ўплыву федэральнага ўрада падобнага ўладкавання, а таксама да ўзнікнення адмысловых агменяў супраціву яго волі; маючы толькі абмежаваныя паўнамоцтвы вярхоўнай улады, такі ўрад не ў стане быць такім жа магутным, як той, які валодае гэтай уладай у поўным аб'ёме; аднак менавіта ў гэтым і складаецца недахоп, уласцівы федэрацыйнай сістэме кіравання.

У Амерыцы кожны штат мае значна менш магчымасьцей і нагод выказаць супраціў цэнтру. Ну а калі ўсё ж падобная думка і ўзнікне ў штаце, то ён зможа ажыццявіць яе, толькі адкрыта адмаўляючыся падначальвацца законам Звязу, парушаючы звыклае функцыянаванне судовай улады, падымаючы сьцяг бунту, – словам, ён павінен прыняць самыя крайнія захады, на што людзі звычайна доўгі час не адважваюцца.

У ранейшых федэрацыях улада, нададзеная звязу, падштурхоўвала яго да войн, а цалкам не рабілася крыніцай яго магутнасьці і значнасьці, таму што гэтая ўлада памнажала яго патрабаванні, не даючы дадатковых сродкаў для таго, каб прымусіць сабе падпарадкоўвацца. Вось чаму амаль заўсёды здаралася так, што чым больш умацоўвалася фармальная ўлада федэральных урадаў, тым слабей яны рабіліся на самай справе.

У амерыканскім Звязе справа ідзе цалкам інакш. Як і большасць звычайных урадаў, федэральны ўрад можа рабіць усё, на што ён мае права.

У свядомасьці чалавека лягчэй узнікаюць выявы прадметаў, чым словы, якія пазначаюць абстрактныя разуменні, таму людзі часта ўжываюць шмат недарэчных слоў і непрыдатных выказванняў.

Некаторыя нацыі ўтвараюць сталыя звязы і засноўваюць вярхоўную ўладу, якая, хаця і не пашыраецца на простых грамадзянаў у той жа меры, што і ўлада нацыянальнага ўрада, і ўсё ж уплывае на кожны із народаў, увайшоўшых ў федэрацыю.

Менавіта гэты ўрад, такі адрозны ад усіх іншых, і мае назву федэральнага.

Потым выяўляецца яшчэ адна форма грамадзкага ўладкавання, пры якой некалькі народаў сапраўды зліваюцца ў адну нацыю для забеспячэння агульных для іх зацікаўленасьцей, што ж да ўсіх іншых пытанняў, то яны застаюцца асобнымі народамі, утвараючымі федэрацыю.

У гэтым выпадку цэнтральная ўлада ўплывае на грамадзянаў без якога б то ні было пасярэдніка, сама кіруе імі і судзіць іх, як гэта робіць агульнанацыянальны ўрад, аднак усё гэта адбываецца ў строга абмежаванай сферы. Бясспрэчна, гэта ўжо не федэральны ўрад, а агульнанацыянальны з няпоўнымі функцыямі. Такім чынам, была знойдзена новая форма ўрада, які немагчыма лічыць ні ўласна агульнанацыянальным, ні федэральным у прамым сэнсе гэтага слова; аднак на гэтай форме кіравання і было вырашана спыніцца ў Амерыцы, хаця для пазначэння гэтай новай з'явы да гэтага часу яшчэ не знайшлі адпавядаючага тэрміна.

Усе старыя звязы менавіта з нагоды таго, што ім не была знаёма падобная форма федэрацыйнага ўладкавання, прыйшлі, нарэшце, або да грамадзянскай вайны, або да падначалення, або ж да поўнага застою. Усе народы, якія ўваходзілі ў іхны склад, былі ці недастаткова асьвечанымі для таго, каб знайсьці сродак ад пагражаўшай ім хваробы, ці ж ім не хапала мужнасьці, каб выкарыстаць знойдзены сродак на практыцы.

Першы амерыканскі Звяз паўтарыў усе гэтыя памылкі.

Аднак у Амерыцы федэрацыйныя штаты, перш чым дамагчыся незалежнасьці, на працягу доўгага часу ўваходзілі ў склад адной цэласнай імперыі, і ў іх канчаткова яшчэ не склалася звычка цалкам кіраваць самі сабой, а нацыянальныя забабоны яшчэ не змаглі пусьціць там глыбокія карані; ва ўсіх гэтых штатах у параўнанні з астатнім сьветам было больш адукаваных людзей, таму тыя жарсьці, якія звычайна бунтуюць людзей, вымушаючы іх супрацівіцца пашырэнню федэральнай улады, адчуваліся ў гэтых штатах значна слабей, ды і вялікія палітычныя дзеячы краіны змагаліся з падобнымі жарсьцямі. Адчуўшы хваробу, амерыканцы неадкладна і рашуча адшукалі сродак для яе лячэння: яны пераіначылі законы і выратавалі сваю краіну.

## Перавагі федэрацыйнай сістэмы цалкам і яе асобнае значэнне для Амерыкі

–Пачуццё шчасьці і волі, адчуваемае маленькімі нацыямі. –Магутнасць вялікіх нацый. –Вялікія дзяржавы стымулююць развіццё цывілізацыі. –Магутнасць краіны нярэдка з'яўляецца галоўнай перадумовай яе росквіту. –Заданне федэрацыйнай сістэмы дзяржаўнага ўладкавання складаецца ў злучэнні тых пераваг, якімі валодаюць народы, жывучыя як на вялікіх, так і на малых тэрыторыях. –Перавагі дадзенай сістэмы для Злучаных Штатаў. –Законы існуюць для насельніцтва, а не насельніцтва для законаў. –Прадпрымальнасць, прагрэс, схільнасць да волі і ўменне ёю карыстацца, уласцівы амерыканцам. –Грамадзкая свядомасць Звязу ёсць не што іншае, як адлюстраванне ў сціснутым выглядзе правінцыйнага патрыятызму. –Прадметы і ідэі вольна пашыраюцца ў межах тэрыторыі Злучаных Штатаў. –Звяз вольны і шчаслівы, нібы маленькая краіна, і разам з тым яго паважаюць, як краіну вялікую.

У маленькіх краінах грамадства ставіцца з вялікай увагай да кожнай дробязі, людзі імкнуцца палепшыць літаральна ўсё; а дзякуючы таму што памкненням народа істотна перашкаджае яго слабасць, то ўсе намаганні і сродкі практычна цалкам накіроўваюцца на паляпшэнне дабрабыту краіны, а не марнуюцца дарэмна ў пагоні за славай. Больш таго, таму што магчымасьці кожнага ў гэтых дзяржавах абмежаваны, то абмежаваны ў роўнай ступені і самі жаданні. Сьціплыя багацці робяць усіх прыблізна роўнымі; норавы там простыя і міралюбныя. Бяручы ўсё гэта да ўвагі і ўлічваючы розны ўзровень маральнасьці і асвечанасьці насельніцтва, можна сказаць, што ў маленькіх краінах народ жыве больш забяспечана і спакайна, чым у вялікіх.

Калі ж у маленькай краіне ўсталёўваецца тыранія, то нязручнасць дадзенага становішча тут адчуваецца больш, чым дзе б там ні было ў іншым месцы, таму што, дзейнічаючы на меншай прасторы: яна пашырае свой уплыў сапраўды на ўсе бакі жыцця грамадства. Яна займаецца бясконцай шматлікасьцю малых спраў, не будучы ў стане ўзяцца за якое-небудзь важнае пачынанне і робячыся адначасова неўтаймаванай і прыдзірлівай. Пакінуўшы сьвет палітыкі, які, уласна кажучы, з'яўляецца тым сапраўдным асяроддзем, у якім яна павінна дзейнічаць, яна

глыбока пранікае ў прыватнае жыццё. Кантралюючы дзеянні людзей, яна імкнецца распараджацца і іхнымі густамі; кіруючы дзяржавай, яна выказвае жаданне кіраваць і сем'ямі.

Аднак так здараецца вельмі рэдка; воля сапраўды складае натуральную ўмову існавання маленькіх нацый. Удзел ва ўрадзе гэтых краін уяўляе сабой занадта слабую прынаду для славалюбівых памкненняў, сродкі прыватных асоб тут занадта абмежаваны для таго, каб вярхоўная ўлада магла лёгка патрапіць у рукі аднаго чалавека. Калі ж такое ўсё ж адбываецца, то грамадзянам гэтай краіны няцяжка аб'яднацца і агульнымі намаганнямі знішчыць як самаго тырана, так і тыранію.

Такім чынам, маленькія краіны ва ўсе часы былі зыбкай палітычнай волі. І той факт, што большасць із іх, робячыся буйнейшымі, губляла гэтую волю, кажа пра тое, што ўладанне воляй больш залежыць ад малога памеру краіны, чым ад характару насяляючага яе народу.

У сусветнай гісторыі няма прыкладу вялікай дзяржавы, якая б на працягу доўгага часу заставалася б рэспублікай[165], гэта дае нагоду сцвярджаць, што падобнае і цалкам немагчыма. Што да мяне, то я лічу, што чалавек дзейнічае вельмі неразважліва, спрабуючы абмежаваць магчымае нейкімі рамкамі і рабіць высновы пра будучыню, не бяручы разам з тым да ўвагі тую рэчаіснасць, з якой ён сустракаецца штодня; гэта мае наступствам тое, што ён няспынна апынаецца захопленым знянацку нават у тых справах, у якіх дасьведчаны найлепш усяго. З упэўненасьцю можна сказаць толькі тое, што буйная рэспубліка абавязкова будзе выпрабоўваць значна большыя небяспекі, чым маленькая.

Усе згубныя для рэспублік запалы павялічваюцца сумерна велічыні іхных тэрыторый, тым часам як учыннасьці, служачыя ім падмуркам, цалкам не павялічваюцца ў той жа прагрэсіі.

Славалюбівыя памкненні прыватных асоб нарастаюць разам з умацаваннем магутнасьці дзяржавы; магутнасць партый павялічваецца ў залежнасьці ад важнасьці тых мэт, якія яны ставяць перад сабой; аднак павага да бацькаўшчыны, якая павінна выказваць супраціў усім гэтым разбураючым жарсьцям, не робіцца больш моцнай у вялікай рэспубліцы ў параўнанні з малой. Лёгка давесьці, што ў вялікай рэспубліцы гэтае пачуццё менш глыбокае і менш моцнае. Вялізныя багацці і крайняя галеча, сталічныя гарады, паданне нораваў, узрастанне індывідуалізму, раскіданне зацікаўленасьцей – такімі з'яўляюцца небяспекі, штодня спараджаемыя вялікай дзяржавай. Шмат якія із гэтых фактараў не прычыняюць ніякай шкоды існаванню манархіі, наадварот, некаторыя з іх могуць нават спрыяць яе даўгалеццю. Дарэчы кажучы, у манархіях магутнасць ўрада заключана ў ім самім, яна выкарыстоўвае народ і ў той жа час не залежыць ад яго; чым больш шматлікі народ, тым мацней манарх. Рэспубліканскі ж урад можа супрацьстаяць гэтым небяспекам толькі пры падтрымцы большасьці насельніцтва. Тым часам гэтае апірышча ўрада ніколькі не большае, кажучы адносна, у вялікай рэспубліцы ў параўнанні з маленькай. Такім чынам, тым часам як сродкі ўплыву бесперастанна павялічваюцца ў колькасьці і ў магутнасьці, адваротная магутнасць застаецца нязменнай. Можна нават сказаць, што яна скарачаецца, таму што па меры ўзростання колькасьці насельніцтва і дыферэнцыяцыі складу думак і зацікаўленасьцей фарміраванне трывалай большасьці робіцца адпаведна ўсё больш і больш складаным.

---

[165] Я не маю тут на ўвазе канфедэрацыю маленькіх рэспублік, а вялікую моцную рэспубліку як такую.

Дарэчы кажучы, заўважана, што чалавечыя жарсьці набываюць тым большую магутнасць не толькі ў залежнасьці ад велічы мэты, да якой імкнуцца людзі, але і з нагоды таго, што падобныя памкненні з'яўляюцца аднамасова ў шматлікіх людзей.

Кожны чалавек адчувае значна больш моцнае душэўнае хваляванне, апынуўшыся пасярод узбуджанага натоўпу, падзяляючага яго пачуцці, чым знаходзячыся ў адзіноце. У вялікай рэспубліцы палітычныя жарсьці робяцца неператадольнымі не толькі таму, што мэта, да якой імкнуцца людзі, велізная адпаведна са сваім значэннем, але яшчэ і таму, што мільёны грамадзянаў аднамасова захоплены адным і тым жа пачуццём.

Такім чынам, у цэлым можна сказаць, што нішто так не перашкаджае дабрабыту і волі людзей, як вялізныя імперыі.

Разам з тым вялікія дзяржавы маюць і свае адмысловыя перавагамі, якія немагчыма не прызнаваць.

У гэтых дзяржавах імкненне да ўлады ў звычайных людзей выяўлена больш мацна, чым у іншых месцах, ды і схільнасць да славы тут выяўляецца больш заўважальна ў тых душах, для якіх апладысменты шматлікага народа з'яўляюцца дастатковай узнагародай за іхныя справы і ў нейкім сэнсе падымаюць іх ва ўласных вачах. Тая акалічнасць, што думка тут больш хутка-дзейсная і магутная, ідэі пашыраюцца больш вальна, сталічныя гарады ўяўляюць сабой вялізныя інтэлектуальныя цэнтры, у якія сходзяцца, зіхацячы, усе прамені чалавечага розуму, тлумачыць нам, чаму ў буйных краінах у параўнанні з маленькімі развіццё асьветы і агульны прагрэс цывілізацыі ідзе больш хуткімі тэмпамі. Варта таксама дадаць, што важныя адкрыцці нярэдка патрабуюць такога ўзроўню развіцця нацыянальных намаганняў, які ўрад маленькага народа забяспечыць не ў стане; у буйных нацый урад генеруе больш агульных ідэй, больш рашуча вызваляецца ад ранейшай руціны і мясцовага эгаізму. Яго праекты больш таленавітыя, а дзеянні больш адважныя.

Дабрабыт малых краін бывае больш поўным і ўсеахопліваючым да таго часу, пакуль яны жывуць мірна; калі ж пачынаецца вайна, яна прыносіць ім значна большую шкоду, чым вялікай дзяржаве, аддаленасць меж якой дае часам магчымасць масам людзей заставацца на працягу стагоддзяў па-за непасрэднай небяспекай, і таму для іх вайна мае наступствам выпрабаванні, але не разбурэнні.

Дарэчы кажучы, пры разгляданні гэтага пытання, як і шмат якіх іншых, патрэбна ўлічваць адно меркаванне, пераважаючае над усімі астатнімі, а менавіта меркаванне пра патрэбу той ці іншай з'явы ў грамадстве.

Калі б на сьвеце існавалі толькі маленькія краіны, а вялікіх не было б і ў згадках, то чалавецтва, без якога б то ні было б сумневу, стала б больш вальным і шчаслівым. Аднак існаванне вялікіх дзяржаў непазбежна.

Гэтая акалічнасць мае наступствам тое, што ў сьвеце для забеспячэння нацыянальнага дабрабыту з'яўляецца такі новы элемент, як магутнасць. Што із таго, што народ жыве ў вольнай і шчаслівай дзяржаве, калі яму штодня пагражае спусташэнне ці заваёва? Якое значэнне мае тое, што на яго тэрыторыі квітнеюць прамысловасць і гандаль, калі іншая дзяржава пануе на моры і ўсталёўвае свае законы на ўсіх рынках? Маленькія краіны нярэдка бедныя не таму, што яны маленькія, а таму, што яны слабыя. Такім чынам, магутнасць часьцяком ператвараецца ў адну із найпершых умоў шчасьця і нават самога існавання краіны. Адсюль вынікае, што калі не існуе нейкіх прыватных акалічнасьцей, то маленькія

народы рана ці позна непазбежна апынаюцца далучанымі да вялікіх, або гвалтоўных шляхам, або адпаведна з уласным жаданнем. Я не ведаю больш вартага жалю стану народа, чым той, калі ён не ў стане абараніць сябе, ні існаваць самастойна.

Менавіта для таго, каб злучыць разам тыя перавагі, якімі валодаюць як вялікія, так і маленькія краіны, і была створана федэрацыйная сістэма.

Дастаткова бегла зірнуць на Злучаныя Штаты Амерыкі, каб заўважыць усе тыя выгоды, якія яны атрымалі, усталяваўшы ў сябе гэтую сістэму.

У буйных краінах з цэнтралізаванай уладай заканадавец вымушаны надаваць законам аднастайны характар, не ўлічваючы разнастайнасьці мясцовых умоваў і звычаяў: не будучы дасьведчаным у прыватнасьцях, ён можа грунтавацца толькі на самых агульных правілах. У гэтых абставінах людзям даводзіцца па неабходнасьці прыстасоўвацца да законаў, таму што самі законы цалкам не ўлічваюць патрэб і звычаяў людзей, што вы’яўляецца важнай нагодай хваляванняў і разнастайных непрыемнасьцей.

Падобных неадпаведнасьцей не існуе ў краінах з федэрацыйным уладкаваннем: кангрэс прымае асноўныя законы рэгулюючыя жыццё грамадства, а мясцовыя заканадаўцы займаюцца ім у дэталях.

Цяжка сабе нават уявіць, у якой меры такі падзел паўнамоцтваў вярхоўнай улады спрыяе дабрабыту штата, уваходзячаму ў склад Звязу. У гэтых маленькіх грамадствах, ў якіх няма патрэбы ні клапаціцца пра сваю абарону, ні імкнуцца да павелічэння сваёй тэрыторыі, уся магутнасць дзяржаўнай улады і ўся энергія людзей накіравана на паляпшэнне іхнага ўнутранага становішча. Цэнтральны ўрад кожнага штата, знаходзячыся ў непасрэднай блізкасьці ад сваіх грамадзянаў, штодня атрымлівае паведамленні пра тыя патрэбы, якія ўзнікаюць у грамадстве; у выніку кожны год прапануюцца новыя планы, якія абмяркоўваюцца на сходах злучын ці на паседжаннях заканадаўчых устаноў штатаў і публікуюцца ў прэсе, выклікаючы ўсеагульную цікавасць грамадзянаў і стымулюючы іхную дзейнасць і стараннасць. Гэта імкненне да ўдасканалення ўвесь час прысутнічае ў жыцці амерыканскіх рэспублік, не парушаючы, аднак, іхнага спакою; славалюбівая пагоня за ўладай саступае тут месца імкненню да дабрабыту; гэта больш штодзённае, але адначасова і менш небяспечнае пачуццё. У Амерыцы паўсюдна пашырана перакананне ў тым, што існаванне і трываласць рэспубліканскіх формаў кіравання ў Новым Сьвеце залежаць ад існавання і трываласьці федэрацыйнай сістэмы. Значная частка тых бед, якія перажываюць дзяржавы Паўднёвай Амерыкі, прыпісваюць таму, што там, замест таго каб падзяліць паўнамоцтвы вярхоўнай улады, пажадалі ўтварыць вялікія рэспублікі.

Без сумневаў, што ў Злучаных Штатах схільнасць і звычка да рэспубліканскага ўладкавання кіравання ўзніклі ў злучынах, а таксама ў выніку дзейнасьці правінцыйных асамблей, і жыццё дае таму прыклады. Для такога невялікага штата, як Канэктыкут, дзе важнай палітычнай імпрэзай лічыцца адкрыццё канала ці правядзенне дарогі; дзе ўрад не мае патрэбы ні ва ўтрыманні войска, ні ў вядзенні войн; дзе ўдзел ва ўрадзе не прыносіць людзям ні вялікага багацця, ні вялікай славы, – немагчыма прыдумаць нічога больш натуральнага і больш адпавядаючага рэчаіснасьці, чым рэспубліканская форма кіравання. І менавіта гэты рэспубліканскі дух, менавіта гэтыя норавы і звычаі вольнага народа, узнікшы і развіўшыся ў прыватных штатах, пасьля лёгка пашыраюцца па ўсёй краіне. Грамадзкая свядомасць Звязу з’яўляецца не чым іншым, як адлюстраваннем

ў сьціснутым выглядзе правінцыйнага патрыятызму. Прыхільнасць кожнага грамадзяніна Злучаных Штатаў да жыцця сваёй маленькай рэспублікі ператвараецца ў павагу да агульнай для ўсіх бацькаўшчыны. Абароняючы Звяз, ён абараняе і павялічваючыся дабрабыт свайго штата, права займацца рашэнням мясцовых праблем, а таксама надзею на ажыцьцяўленне планаў па паляпшэнню жыцця, што ў сваю чаргу паслужыць і яго ўласнаму дастатку, – іншымі словамі, усё тое, што звычайна хвалюе людзей больш, чым агульнанацыянальныя зацікаўленасьці і слава нацыі.

З другога боку, калі жыхары краіны згодна са сваім духам і норавах больш чым іншыя схільны дамагацца росквіту вялікай рэспублікі, то сістэма федэрацыйнага ўладкавання значна спрашчае іхнае заданне. У федэрацыі амерыканскіх штатаў няма тых праблем, якія звычайна ўласьцівы вялікім сукупнасьцям людзей. Звяз па сваёй тэрыторыі з’яўляецца вялікай рэспублікай; аднак яго можна было б у некаторым сэнсе параўнаць з маленькай рэспублікай таму, што ў веданні яго ўрада засяроджана вельмі нязначная колькасць пытанняў. Яго дзеянні важныя, але рэдка маюць месца. А дзякуючы таму што Звяз валодае абмежаванай і няпоўнай вярхоўнай уладай, то карыстанне ім гэтай уладай цалкам не пагражае волі і не спараджае несуцішаемых памкненняў да ўсемагутнасьці і сенсацый, такіх згубных для вялікіх рэспублік. Дзякую таму што ў Злучаных Штатах няма агульнага цэнтра, у якім усё непазбежна павінна збірацца разам, то тут не ўзнікае ні вялізных сталічных гарадоў, ні велізных багаццяў, ні глыбокай галечы, ні раптоўных рэвалюцый. Палітычныя жарсьці, замест таго каб, падобна пажару, імгненна пашырацца па ўсёй тэрыторыі краіны, перагараюць у замкнёным асяроддзі зацікаўленасьцей і жарсьцяў кожнага штата.

Разам з тым у межах Звяза прадметы і ідэі цыркулююць цалкам вольна, як у асяроддзі адзінага народа. Нішто не перашкаджае тут духу прадпрымальніцтва. Федэральны ўрад увесь час прыцягвае да сябе ўсіх таленавітых і дасьведчаных людзей. Усярэдзіне Звязу пануе трывалы мір, як у краіне, падначаленай адзінай уладзе. Акрамя таго, Звяз стаіць у шэрагу самых магутных дзяржаў зямнога шара; яго ўзбярэжжа даўжынёй роўнай восем соцень лье адкрыта для вонкавага гандлю, і, трымаючы ў сваіх руках ключы ад цэлага сьвету, ён вымушае паважаць свой сцяг на самых аддаленых марскіх ускраінах.

Звяз вольны і шчаслівы, як маленькая краіна, але варты ўхвалы і моцны, як вялікая.

## Нагоды, згодна з якімі сістэма федэрацыйнага ўладкавання не можа быць уведзена ва ўсіх народаў, а таксама нагоды, заахвоціўшыя англа-амерыканцаў прыняць гэтую сістэму

–Кожная федэрацыйная сістэма мае недахопы, якія заканадавец не ў стане пераадолець. –Складанасць якой бы то ні было федэратыўнай сістэмы. –Яна патрабуе ад грамадзянаў штодзённага намагання іхных разумовых здольнасьцей. –Практычныя навыкі амерыканцаў у справах дзяржаўнага кіравання. –Адносная слабасць урада Звязу – яшчэ адна загана, уласьцівая федэрацыйнай сістэме. –Амерыканцы паслабілі адмоўныя наступствы гэтай заганы, але не змаглі канчаткова ліквідаваць іх. – Вярхоўная ўлада асобных штатаў на першы погляд слабейшая, чым вярхоўная ўлада Звязу, у рэчаіснасьці ж яна мацнейшая. –Чаму. –У народаў, уваходзячых у федэрацыю, павінны існаваць яшчэ і натуральныя нагоды іхнага аб’яднання ў Звяз. –Якімі з’яўляюцца гэтыя нагоды ў англа-амерыканцаў. –Штаты Мэн і Джорджыя, аддаленыя адзін ад аднаго на 400 лье, злучаны паміж сабой больш натуральнымі повязямі, чым Нармандыя і Брэтань. –Вайна –

найвялікшая пагроза для федэрацый. –Гэта даводзіць прыклад саміх Злучаных Штатаў. –У амерыканскага Звязу няма падставаў асьцерагацца вялікай вайны. –Чаму. –Небяспекі, якія пагражалі б народам Яўропы ў тым выпадку, калі б яны ўвялі ў сябе сістэму федэрацыйнага ўладкавання накшталт амерыканскай.

Часам, прыклаўшы немалыя намаганні, заканадаўцу атрымліваецца зрабіць ускосны ўплыў на лёсы краіны, і тады людзі славяць яго геній. Тым часам часта бывае, што геаграфічнае становішча дзяржавы, непадуладнае яму, грамадзкае ўладкаванне, склаўшаяся без яго ўдзелу, норавы і перакананні, крыніца якіх яму невядома, паходжанне краіны, з якім ён не знаёмы, – усё гэта выклікае ў грамадстве такія нястрымліваемыя зрухі, супраць якіх ён дарэмна змагаецца і якія ў сваю чаргу захапляюць яго за сабой.

Заканадавец падобен на чалавека, плывучага ў адкрытым моры. Ён у стане кіраваць сваім караблём, аднак ён не ў стане ні перамяніць яго форму, ні выклікаць вецер, ні перашкодзіць акіяну бушаваць пад кілем карабля.

Я паказаў тыя выгоды, якія амерыканцы атрымліваюць ад існавання ў іх федэратыўнай сістэмы. Мне застаецца толькі патлумачыць, што дазволіла ім наладзіць гэтую сістэму на практыцы: справа ў тым, што далёка не кожны народ здольны скарыстацца яе дабротамі.

У самой федэратыўнай сістэме існуюць недахопы выпадковага характару, злучаныя з законамі, якія могуць быць выпраўлены заканадаўцамі. Аднак сустракаюцца іншыя, якія, будучы непарыўна злучаны з гэтай сістэмай, не могуць быць ліквідаваны народам, наладжваючым яе ў сябе. Такім чынам, гэтаму народу патрэбна знайсьці ў сабе магчымасьці пераносіць недасканаласьці, уласьцівыя яго ўраду.

Сярод заганаў, уласьцівых якой бы то ні было федэратыўнай сістэме, самым відавочным з’яўляецца складанасць выкарыстоўваемых у яе рамках сродкаў. Пры такой сістэме непазбежна ўзнікаюць дзьве вярхоўныя ўлады. Заканадавец можа дамагчыся таго, каб гэтыя ўлады былі па магчымасьці раўнапраўнымі, каб іх дзеянні былі простымі, а сфера іхнай кампетэнцыі дакладна вызначанай. Разам з тым ён не ў стане ні аб’яднаць іх разам, ні перашкодзіць іхнаму судатыканню ў вызначаных кропках.

Такім чынам, федэратыўная сістэма ва ўсякім разе грунтуецца на вельмі складанай тэорыі, ужыванне якой на практыцы патрабуе штодзённага асэнсаванага ўдзелу ў гэтым грамадзянаў.

Звычайна свядомасьцю людзей завалодваюць толькі самыя даступныя ідэі. Ілжывая, але зразумела і дакладна сфармуляваная ідэя заўсёды шырэй авалодвае розумамі, чым ідэя правільная, але складаная. Із гэтага вынікае, што партыі, уяўляючыя сабой нешта накшталт маленькіх нацый усярэдзіне вялікай, заўсёды імкнуцца хутчэй зрабіць сваім дэвізам ці знакам або нейкае імя, або прынцып, якія часта далёка не цалкам адлюстроўваюць тую мэту, якую гэтыя партыі перасьледуюць, тыя сродкі, якімі яны карыстаюцца і без якіх яны не змаглі б ні існаваць, ні дзейнічаць. Урады, грунтуючыся на адной-адзінай ідэі ці на адным, лёгка вызначаемым пачуцці, магмыма і не самым лепшым, аднак, без сумневаў, самыя дужэя і самыя даўгачасовыя.

Разглядаючы Канстытуцыю Злучаных Штатаў, найбольш дасканалую із усіх вядомых чалавецтву федэратыўных канстытуцый, наадварот, робіцца боязна ад таго вялізнага аб’ёму разнастайных ведаў і той праніклівасьці, якімі лічыцца павінны валодаць грамадзяне гэтых краін. Кіраванне Звязам практычна цалкам

пабудавана на фантазіі заканадаўцаў. Звяз як ідэальная краіна, строга кажучы, існуе толькі ў розумах людзей, пры гэтым толькі розум можа на справе спасьцігнуць яго рэчаісныя памеры і межы яго магчымасьцяў.

Нават калі агульная тэорыя выглядае цалкам зразумелай, усё адно застаюцца цяжкасьці яе ўжывання на практыцы. І гэтыя цяжкасьці незлічоныя, таму што вярхоўная ўлада Звязу так зліваецца з вярхоўнай уладай штатаў, што на першы погляд немагчыма вызначыць мяжу паміж імі. У падобнай структуры кіравання ўсё ўмоўна і штучна і яна можа быць карыснай толькі таму народу, які прызвычаіўся доўгі час кіраваць сваімі справамі самастойна і ў асяроддзі якога палітычныя навукі з'яўляюцца даступнымі нават для самых нізкіх пластоў грамадства. Мяне ні ў чым так не ўражвалі цьвярозы розум і практычная кемлівасць амерыканцаў, як у іхным уменні пазбягаць шматлікіх цяжкасьцей народжальных іхнай федэральнай канстытуцыяй. Я не сустракаў у Амерыцы чалавека із народа, які б са здзіўляючай лёгкасьцю не адрозніў бы тых абавязкаў, якія выцякаюць із законаў кангрэса, ад тых, што заснаваны на законах яго ўласнага штата, і які б не здолеў, аддзяліўшы пытанні ўваходзячыя ў сферу кампетэнцыі Звязу, ад тых, якія падлягаюць вырашэнню мясцовымі заканадаўчымі ўстановымі, паказаць тую мяжу, дзе пачынаецца падсуднасць федэральным судам і заканчаецца падсуднасць судам яго штата.

Канстытуцыя Злучаных Штатаў падобна на тыя выдатныя тварэнні чалавецтва, якія адорваюць славай і багаццем сваіх вынаходнікаў, застаючыся між тым бясплоднымі ў чужых руках.

У наш час доказам гэтага можа служыць Мексіка.

Жыхары Мексікі, жадаючы наладзіць у сябе федэратыўную форму кіравання, узялі ў якасьці мадэлі федэратыўнае ўладкаванне сваіх англа-амерыканскіх суседзяў, практычна цалкам пераняўшы яго[166]. Аднак перанёсшы да сябе літару закона, яны не здолелі адначасова перанесьці і той дух, які ажыўляў яе. У выніку мы бачым, як яны няспынна блютаюцца ў механізме свайго падвойнага кіравання. Вярхоўная ўлада штатаў і вярхоўная ўлада Звязу, выходзячы за тыя межы, якія акрэсліла ім канстытуцыя, штодня пранікаюць у сферу дзейнасьці то адной, то другой. Да гэтага часу Мексіка ўвесь час пераходзіць ад анархіі да вайсковага дэспатызму і ад вайсковага дэспатызму да анархіі.

Другой і найбольш згубнай із усіх заган, якую я лічу ўласьцівай самой федэратыўнай сістэме дзяржаўнага кіравання, з'яўляецца адносная слабасць урада Звязу.

Прынцып на якім будуюцца ўсе федэрацыі, складаецца ў падзеле паўнамоцтваў вярхоўнай улады. Заканадаўцы ў стане дамагчыся таго, каб гэты падзел быў як мага менш заўважаемы ці нават нейкі час не адчуваемы наогул, але знішчыць яго цалкам яны не ў стане. Аднак раздробленая вярхоўная ўлада заўсёды будзе больш слабой, чым цэласная.

Пры разгляданні Канстытуцыі Злучаных Штатаў пераконваешся, з якім мастацтвам амерыканцы, абмежаваўшы ўладу федэральнага ўрада, усё ж здолелі надаць яму выгляд і нават, да вядомай ступені, магутнасць, уласьцівую агульнанацыянальнаму ўраду.

Зрабіўшы, такім чынам, заканадаўцы Звязу памякчылі наступствы недахопаў ўласьцівых ўсім федэрацыям, але яны былі не ў стане канчаткова ліквідаваць іх.

---

[166] Гл. мексіканскую канстытуцыю 1824 года.

Было адзначана, што амерыканскі ўрад цалкам не звяртаецца да штатаў, але даводзіць свае дырэктывы непасрэдна да грамадзянаў, падначальваючы кожнага із іх у асобнасьці сваёй калектыўнай волі.

Але калі раптам федэральны закон рэзка парушыць зацікаўленасьці нейкага штата, ці можна ў гэтым выпадку асьцерагацца, што кожны грамадзянін гэтага штата прыме рашэнне падтрымаць таго, хто адмовіцца выконваць закон? У такім жа выпадку закранутымі Звязам адначасова і ў аднолькавай ступені выявяцца ўсе жыхары штата, таму федэральны ўрад дарэмна будзе спрабаваць перамагчы кожнага із іх паасобку: яны інстынктыўна адчуюць патрэбу аб'яднацца, каб паспяхова абараніць свае зацікаўленасьці, і знойдуць гатовае апірышча ў той вярхоўнай уладзе, якая дадзена іхнаму штату. Прыдумка знікне, каб саступіць месца рэчаіснасьці і тады можна будзе пабачыць, як арганізаваная ўлада часткі тэрыторыі краіны пачне змаганне з цэнтральнай уладай.

Тое ж самае можна сказаць і пра федэральнае правасуддзе. Калі падчас разглядання справы нейкай прыватнай асобы федэральны суд парушыць адзін із важных законаў штата, гэта непазбежна пацягне калі не адкрытае, то, прынамсі, цалкам рэальнае змаганне паміж штатам, абражаным у асобе свайго грамадзяніна, і Звязам, прадстаўленым сваім судом[167].

Патрэбна быць цалкам неспрактыкаваным у побытавых справах, каб лічыць, што з дапамогай прыдумак заканадаўцаў можна будзе заўсёды перашкодзіць людзям пабачыць і выкарыстаць той сродак рэалізацыі іхных памкненняў, які ім быў некалі дадзены.

Такім чынам, амерыканскія заканадаўцы дамагліся таго, каб сутыкненні паміж дзвума ўладамі сталі найменш верагоднымі, у той жа час, не знішчыўшы цалкам заахвочваючыя падставы гэтых сутыкненняў.

Больш таго, можна сказаць, што яны не здолелі забяспечыць федэральнаму ўраду перавагу ў выпадку такога сутыкнення.

Яны перадалі пад кіраванне Звязу грошы і жаўнераў, тады як штаты захавалі ў сваім арсенале павагу і зацікаўленасць народа.

Вярхоўная ўлада Звязу з'яўляецца нечым абстрактным, яна злучана з навакольным сьветам вельмі слабымі сувязямі. Вярхоўная ж улада штатаў ахоплівае ўсё, яе лёгка зразумець, а яе дзейнасць адчуваецца ўвесь час. Першая із іх – нешта новае, другая ж нарадзілася адначасова з самім народам.

Вярхоўная ўлада Звязу – гэты твор мастацтва. Вярхоўная ўлада штатаў – цалкам натуральная з'ява, існуючая сама па сабе, без намаганняў, як, скажам, аўтарытэт бацькі сямейства.

Вярхоўная ўлада Звязу мае дачыненне да людзей толькі ў сувязі з найбольш важнымі агульнанацыянальнымі зацікаўленасьцямі; яна ўвасабляе для іх велізарную, але далёкую бацькаўшчыну, выклікаючую невыразныя і няпэўныя пачуцці. Вярхоўная ўлада штата, наадварот, даходзіць да кожнага із грамадзянаў і ў

[167] Напрыклад: канстытуцыя дазволіла Звязу перадаваць трэццім асобам права прадаваць незанятыя землі ад свайго імя і на сваю карысць. Я магу выказаць здагадку, што Агаё запатрабуе аналагічнае права ў дачыненні да земляў, якія знаходзяцца на яго тэрыторыі, на той падставе, што ў канстытуцыі гаворыцца толькі пра тыя землі, якія пакуль яшчэ юрыдычна непадуладны ніводнаму са штатаў і якія, як вынік, Звяз імкнецца прадаць сам. Пачнецца судовая справа, бакамі якой выявяцца пакупнікі, набыўшыя права ўласнасьці ад Звязу, і пакупнікі, набыўшыя гэтае права ў штата, а не Звяз і дадзены штат. Аднак калі суд Злучаных Штатаў вырашыць, што валодаць зямлёй будзе федэральны ўласнік, а суд штата Агаё будзе працягваць падтрымліваць права на ўласнасць свайго пакупніка, то што ў гэтым выпадку адбудзецца з фантазіямі заканадаўцаў?

пэўнай ступені бярэ ўдзел ва ўсіх дробязях яго жыцця. Менавіта гэтая ўлада ахоўвае ўласнасць гэтага грамадзяніна, яго волю і яго жыццё, менавіта ёй ён абавязаны сваім дабрабытам і сваімі нягодамі. Яе падмуркам з'яўляюцца ўспаміны людзей, іхныя звычкі, мясцовыя забабоны, правінцыйны і сямейны індывідуалізм – словам, усё тое, што і ператварае прыхільнасць да сваёй бацькаўшчыны ў такое магутнае пачуццё ў сэрцы чалавека. Як пасьля гэтага сумнявацца ў перавагах гэтай улады?

Раз заканадаўцы не ў стане перашкодзіць небяспечным сутыкненням паміж дзвума вярхоўнымі ўладамі, якія сфармаваліся ў рамках федэратыўнай сістэмы, то ім, такім чынам, патрэбна да захадаў прадухіляючых узброеныя выступленні народаў, аб'яднаных у федэрацыю, дадаць адмысловыя намаганні, якія маглі б забяспечыць мірнае жыццё гэтых народаў.

Із гэтага вынікае, што дамоўленасць пра федэральнае ўладкаванне выяўляецца недаўгавечнай, калі ў народаў, на якія яна пашыраецца, няма вызначаных стымулаў для аб'яднання, спрыяючых паляпшэнню іхнага злучыннага жыцця і палягчэнню заданняў, стаячых перад урадам.

Такім чынам, стабільнасць дзяржавы пры федэратыўным уладкаванні немагчыма забяспечыць толькі шляхам выкарыстання прыватных законаў – для гэтага выяўляюцца патрэбнымі таксама і спрыяючыя акалічнасьці.

Усе народы, якія калі-небудзь аб'ядноўваліся ў федэрацыі, мелі шэраг агульных зацікаўленасьцей, служыўшых як бы разумнай падставай іхнай асацыяцыі.

Аднак акрамя матэрыяльных зацікаўленасьцей чалавеку ўласцівы думкі і пачуцці. Для таго каб федэрацыя існавала працяглы час, аднолькава патрэбна роўнасць як ва ўзроўнях развіцця розных складаючых яе народаў, так і роўнасць іхных патрэб. Паміж узроўнем развіцця кантона Во і кантона Уры існуе такая ж розніца, як паміж XIX і XV стагоддзямі, хаця, па праўдзе сказаць, дзяржаўнае ўладкаванне Швейцарыі ніколі не была па-сапраўднаму федэратыўным. Звяз паміж яе рознымі кантонамі існуе толькі на мапе і гэта стала б асабліва заўважальным, калі б цэнтральны ўрад вырашыўся ўжыць адны і тыя ж законы на ўсёй тэрыторыі краіны.

У Злучаных Штатах існуе адна акалічнасць, якая значна палягчае дзейнасць федэральнага ўрада. Розныя штаты не толькі маюць дастаткова падобныя зацікаўленасьці, агульнае паходжанне і агульную мову, але таксама стаяць на адной ступені развіцця грамадства, што амаль заўсёды робіць пагадненне паміж імі дастаткова лёгкай справай. Я не ўпэўнены ў тым, што ў Яўропе можна сустрэць невялікую нацыю, якая вызначалася б такой жа аднастайнасьцю ва ўсіх дачыненнях, якая характэрна для амерыканскага народа, займаючага тэрыторыю, роўную палове ўсяго Еўрапейскага кантынента.

Адлегласць ад штата Мэн да штата Джорджыя складае прыблізна чатырыста лье. Аднак ва ўзроўні развіцця культуры Мэна і Джорджыі значна менш адрозненняў, чым паміж Нармандыяй і Брэтанню. Такім чынам, Мэн і Джорджыя, размешчаныя ў двух супрацьлеглых кутках вялізарнай краіны, валодаюць больш рэальнымі магчымасцямі ўтварыць федэрацыю, чым Нармандыя і Брэтань, аддзеленыя адна ад аднаго вузкім раўчуком.

Заданне амерыканскіх заканадаўцаў палягчалася не толькі тым, што яны зыходзілі із адпаведных нораваў і звычак народа, ім дапамаглі яшчэ і іншыя акалічнасьці, злучаныя з геаграфічным становішчам Злучаных Штатаў. Менавіта

гэтыя акалічнасьці і паслужылі галоўнай падставай заснавання і захавання федэратыўнай сістэмы.

Із усіх перыядаў у жыцці народа самым важным, безумоўна, з’яўляецца вайна. У вайне народ выступае супраць чужога народа як адзіная істота: ён змагаецца за сваё існаванне.

Да таго часу пакуль гаворка ідзе пра падтрыманне міру ў краіне і пра павелічэнне народнага дабрабыту, цалкам дастаткова майстэрства ўрада, разважлівасьці кіруемых ім грамадзянаў і натуральнай прыхільнасьці людзей да сваёй бацькаўшчыны, звычайна ўласцівай чалавеку. Калі ж пачынаецца вялікая вайна, яна патрабуе ад насельніцтва шматлікіх і цяжкіх ахвяр. Паверыць жа ў тое, што шмат людзей будуць гатовы самаахвотна падначаліцца падобным патрабаванням грамадства, можа толькі той, хто дрэнна ведае чалавечую прыроду.

Із гэтага вынікае, што ўсе народы, якія бралі ўдзел у буйных войнах, былі вымушаны, самі таго не жадаючы, узмацняць свой урад. Працяглая вайна амаль заўсёды ставіць краіны перад сумнай альтэрнатывай: у выпадку паразы ім пагражае зьнішчэнне, а ў выпадку перамогі – дэспатызм.

Такім чынам, звычайна менавіта падчас вайны слабасць урада выяўляецца ў найбольш відавочнай і найбольш небяспечнай форме; а я ўжо паведамляў пра тое, што недахопам усіх федэральных урадаў з’яўляецца іхная надзвычайная слабасць.

Пры федэратыўным дзяржаўным уладкаванні не толькі не існуе ніякай адміністрацыйнай цэнтралізацыі ці чагосьці падобнага на яе, але і сама цэнтралізацыя ўрадавай дзейнасьці далёка не поўная, што заўсёды выяўляецца важнай падставай слабасьці краіны ў тых выпадках, калі ўзнікае патрэба абараняцца ад дзяржавы, дзе ўлада ўрада цалкам цэнтралізавана.

У Канстытуцыі Злучаных Штатаў, якая ў параўнанні з іншымі канстытуцыямі надзяляе цэнтральны ўрад больш рэчаіснай уладай, гэты недахоп ўсё адно заўважальна адчуваецца.

Чытачу будзе дастаткова аднаго прыкладу, каб скласьці сваё меркаванне.

Канстытуцыя надае кангрэсу права забіраць міліцыю розных штатаў на вайсковую службу для заспакаення мяцяжоў ці адбівання ўварваўшагася непрыяцеля; у іншым артыкуле гаворыцца, што ў гэтым выпадку прэзідэнт Злучаных Штатаў робіцца галоўнакамандуючым гэтымі падраздзяленнямі на тэрыторыі ўсяго Звязу.

Так, падчас вайны 1812 года прэзідэнт аддаў загад міліцыі паўночных штатаў падысьці бліжэй да мяжы; аднак Канэктыкут і Масачусетс, чые зацікаўленасьці гэтая вайна закранала асабліва заўважальна, адмовіліся пасылаць туды сваіх людзей.

Канстытуцыя, было адказана, дазваляе федэральнаму ўраду карыстацца міліцыяй штатаў толькі ў выпадку мецяжоў ці ўварвання непрыяцеля, тады як у наш час не заўважаецца ні таго, ні другога. Было дададзена, што тая ж самая канстытуцыя, даючая Звязу права забіраць ратнікаў штатаў на вайсковую службу, захоўвае за гэтымі штатамі права прызначаць усіх афіцэраў. Із гэтага, згодна з думкай, склаўшайся ў дадзеных штатах, вынікала, што нават падчас вайны ніводзін із афіцэраў Звязу, за выключэннем самога прэзідэнта, не набываў права кіраваць міліцыяй. А ў дадзеным выпадку гаворка ішла пра службу ў войску, якім кіраваў не прэзідэнт.

Гэтыя недарэчныя і разбураючыя погляды атрымалі падтрымку не толькі губернатараў і заканадаўчых сходаў, але і судовых інстанцый гэтых двух штатаў, і

федэральны ўрад быў вымушаны шукаць патрэбныя вайсковыя падраздзяленні ў іншых местах[168]

Як жа адбылося, што амерыканскі Звяз, ахоўваемы законамі, дасканаласць якіх вельмі адносная, так і не распаўся падчас вялікай вайны? А справа тут у тым, што Злучаныя Штаты могуць наогул не асьцерагацца вялікай вайны.

Размешчаны ў цэнтры велізнага кантынента, дзе перад чалавекам адчыняецца бязмежнае поле дзейнасьці, Звяз апынуўся практычна так жа ізаляваным ад астатняга сьвету, як калі б ён з усіх бакоў быў аточаны акіянам.

Насельніцтва Канады налічвае мільён чалавек і складаецца із двух варожых адна адной нацый. Суровыя кліматычныя ўмовы прыводзяць да таго, што яе тэрыторыя выкарыстоўваецца не цалкам і партовыя гарады зачынены на працягу шасьці месяцаў на працягу года.

На ўсёй прасторы ад Канады да Мексіканскага заліва яшчэ сустракаюцца асобныя, напалову зьнішчаныя дзікія плямёны, з якімі вядуць змаганне шэсць тысяч жаўнераў.

На поўдні Звяз мяжуе з Мексікай – магчыма, тут некалі і могуць паўстаць буйныя войны. Аднак яшчэ на працягу доўгага часу Мексіка з яе нізкім узроўнем развіцця, прадажнымі норавамі і галечай наўрад ці здолее заняць значнае месца ў шэрагу іншых дзяржаваў сьвету. Што ж да еўрапейскіх дзяржаваў, то іх аддаленасць цалкам робіць іх мала небяспечнымі для Звязу[169].

**Такім чынам, вялікім поспехам для Злучаных Штатаў было не тое, што яны выпрацавалі такую федэральную канстытуцыю, дзякуючы якой яны ў стане вытрымаць вялікую вайну, а ў тым, што іхнае месцазнаходжанне дазваляе ім не асьцерагацца якой бы то ні было пагрозы звонку.**

---

[168] Кент. Каментары: т. I, с. 244. Заўважце, што прыведзены мной прыклад, дапасуецца да таго часу, калі зараз дзейнічаючая канстытуцыя была ўжо прынята. Калі б я меў жаданне вярнуцца да перыяду першай канфедэрацыі, я здолеў бы прывесьці яшчэ больш пераканаўчых фактаў. У той час краіна была ахоплена каласальным запалам; рэвалюцыю прадстаўляў надзвычай вядомы і папулярны ў народзе чалавек, але разам з тым кангрэс той эпохі, па праўдзе сказаць, абсалютна нічага не вырашаў. Яму ўвесь час нехапала людзей і грошай, самыя прадуманыя планы заканчваліся правалам пры спробе іхнага выканання, а сам Звяз, знаходзіўшыся на мяжы зьнікнення, быў выратаваны хутчэй дзякуючы слабасьці яго супернікаў, чым дзякуючы сваёй уласнай магутнасьці.

[169] Гэта праўда, што еўрапейскія дзяржавы ў стане весьці супраць Злучаных Штатаў буйнамаштабныя марскія войны, аднак вайна на моры заўсёды не такая цяжкая і небяспечная, як сухапутная. Марская вайна патрабуе толькі аднаго роду намаганняў. Гандлёвая нацыя, гатовая перадаць ураду патрэбную суму, абавязкова мае флот. Да таго ж растрату грошай ад народа схаваць значна прасьцей, чым чалавечыя страты і масавую мабілізацыю. І, акрамя таго, паразы на моры рэдка пагражаюць існаванню ці незалежнасьці народа, флот якога прайграў бітву.

Што ж да сухапутных войнаў, то, па ўсёй бачнасьці, народы Яўропы не здольны весьці іх больш менш эфектыўна супраць Звязу амерыканскіх штатаў.

Вельмі цяжка, перакінуўшы ў Амерыку, падтрымліваць баяздольнасць больш за 25 тысяч жаўнераў, што прыкладна адпавядае колькасьці ўзброенага войска краіны з насельніцтвам роўным 2 мільёны чалавек.

Ваюючы на такіх умовах супраць Злучаных Штатаў, самая вялікая еўрапейская дзяржава апынецца ў становішчы нацыі, маючай 2 мільёны насельніцтва і вайска супраць народа роўнага 12 мільёнаў чалавек. Дадайце тую акалічнасць, што амерыканцы ў гэтым выпадку будуць мець пад рукой усе свае рэсурсы, тады як, еўрапейцы выявяцца адрэзанымі ад сваіх рэсурсаў адлегласьцю роўнай 1500 лье, а таксама і тое, што вялізная тэрыторыя Злучаных Штатаў ужо сама па сабе робіць немагчымай іхную заваёву.

Ніхто не здольны больш мяне ацаніць усе перавагі сістэмы федэратыўнага ўладкавання дзяржавы. Я бачу ў ёй самы дакладны заклад росквіту і волі чалавецтва. Я зайздрошчу лёсу тых краін, якія здолелі наладзіць у сябе гэтую сістэму. Але, у той жа час я адмаўляюся верыць у тое, што жывучыя ў федэрацыі народы здолелі б працяглы час весьці змаганне, пры ўмове роўнасьці магутнасьцей з абодвух бакоў, супраць дзяржавы, урадавая ўлада якой цэнтралізавана.

Народ, які рызыкнуў бы падзяліць сваю вярхоўную ўладу перад тварам вялікіх вайсковых манархій Яўропы, на мой погляд, адным гэтым адмовіўся б ад сваёй магутнасьці і, цалкам верагодна, ад уласнага існавання і свайго імя.

А вось Новы Сьвет размешчаны так удала, што ў чалавека тут няма іншых ворагаў, акрамя яго самога! Для таго каб дамагчыся шчасьці і волі, яму дастаткова толькі пажадаць гэтага.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

У папярэдняй частцы кнігі я апісаў існуючыя інстытуты, зрабіў агляд існуючых законаў, апісаў сучасныя грамадзка-палітычныя структуры Злучаных Штатаў Амерыкі.

Але над усім гэтым – і над інстытутамі, і над грамадзка-палітычнымі структурамі – існуе вярхоўная ўлада, гэта – улада народа, якая іх разбурае ці замяняе згодна са сваімі меркаваннямі.

Далей я маю намер паказаць, як гэтая ўлада, пануючая над законамі, ажыццяўляецца; якія жарсьці і інстынкты рухаюць ёю; якія таемныя спружыны падахвочваюць яе да дзеянняў, памяншаюць ці накіроўваюць яе непераадольнае развіццё; якія наступствы ўсёмагутнасьці такой формы ўлады і якая ёй прыгатавана будучыня.

## Глава I

### На чым заснавана цьверджанне, што ў Злучаных Штатах краінай кіруе народ

У Амерыцы народ сам абірае тых, хто стварае законы, і тых, хто іх выконвае; ён жа абірае суд прысяжных, які карае парушальнікаў закона. Усе дзяржаўныя інстытуты не толькі ствараюцца, але і функцыяніруюць на дэмакратычных прынцыпах. Так, народ прамым галасаваннем абірае сваіх прадстаўнікоў ва ўстановы ўлады і робіць гэта, звычайна, штогадова, каб яго выбраннікі знаходзіліся ў большай залежнасьці ад народа. Усё гэта падмацоўвае тое цьверджанне, што менавіта народ кіруе краінай. І хаця дзяржаўнае кіраванне мае прадстаўнічую форму, няма сумневаў, што ў штодзённым кіраванні грамадствам бесперашкодна выяўляюцца думкі, забабоны, зацікаўленасьці і нават запалы народа.

У Злучаных Штатах, як у кожнай краіне, дзе існуе народаўладдзе, краінай ад імя народа кіруе большасць.

Гэтая большасць складаецца галоўным чынам із прыстойных грамадзянаў, якія або згодна са сваёй прыродай, або дзякуючы магутнасьці сваіх зацікаўленасьцей шчыра жадаюць дабра краіне. Менавіта яны ўвесь час прыцягваюць да сябе ўвагу існуючых у краіне партый, якія імкнуцца ці далучыць іх да сваіх шэрагаў, ці ж абаперціся на іх.

# Глава II

## Пра партыі ў Злучаных Штатах

–Адрозненні паміж партыямі. –Партыі, падобны на супернічаючыя нацыі. –Партыі як палітычныя арганізацыі. –Адрозненне паміж партыямі вялікімі і малымі. –Пад час якіх гістарычных перыядаў з'яўляюцца партыі. –Іхныя характэрныя рысы. –У Амерыцы існавалі вялікія партыі. –У наш час іх няма. –Федэралісты. –Рэспубліканцы. –Параза федэралістаў. –Цяжкасьці стварэння партый у Злучаных Штатах. –Як яны пераадольваюцца. –Адным партыям уласцівы арыстакратызм, для іншых характэрны дэмакратычныя рысы. –Змаганне генерала Джэксана супраць Банка.

Перадусім, я лічу патрэбным вызначыць асноўнае адрозненне паміж партыямі.

Існуюць краіны, займаючыя такую шырокую тэрыторыю, што іх народанасельніцтва, хаця і знаходзіцца пад адзіным суверэнітэтам, не з'яўляецца адзіным адпаведна са сваімі зацікаўленасьцямі, адсюль і сталыя непагадненні паміж яе асобнымі згуртаваннямі. Гэтыя згуртаванні насельніцтва яшчэ не ўтвараюць партый у прамым сэнсе гэтага слова, гэта хутчэй розныя народы. І калі выбухае грамадзянская вайна, то гэта канфлікт паміж супернічаючымі народамі, а не змаганне паміж палітычнымі згуртаваннямі.

Калі ж грамадзян краіны раз'ядноўваюць розныя погляды на праблемы, якія цікавяць у роўнай ступені ўсе рэгіёны краіны, такія, як, напрыклад, агульныя прынцыпы дзяржаўнага кіравання, тады і нараджаюцца згуртаванні, якія я называю ўласна партыямі.

Партыі – гэта зло, уласьцівае дэмакратычнаму кіраванню, аднак іхны характар пад час розных перыядаў неаднолькавы, і ў падмурку іхнай дзейнасьці ляжаць розныя падахвочванні.

Бываюць часы, калі народы перажываюць такія глыбокія ўзрушэнні, што прыходзяць да думкі пра патрэбу карэнных пераўтварэнняў палітычнага ўладкавання грамадства. Бываюць і такія перыяды, калі незадаволенасць існуючымі парадкамі ахоплівае ўсе пласты насельніцтва і грамадзкае ўладкаванне рушыцца. Менавіта тады адбываюцца вялікія рэвалюцыі і ўзнікаюць вялікія партыі.

Перыяды разрухі і галечы замяняюцца часамі раўнавагі на працягу якіх грамадства жыве адносна спакойна. Але, па праўдзе кажучы, гэта толькі ўяўны спакой; ход часу не спыняецца ні для цэлых народаў, ні для прыватных людзей; і тыя і іншыя непазбежна рухаюцца ў невядомую ім будучыню. І калі нам здаецца, што яны стаяць на месцы, то толькі таму, што мы не заўважаем іхнага руху. Тым, хто бяжыць, ідучыя крокам здаюцца нерухомымі.

Так ці інакш, бываюць эпохі, калі змены ў палітычнай структуры і грамадзкім уладкаванні адбываюцца так павольна і непрыкметна, што здаецца, быццам бы грамадства дасягнула мяжы ў сваім развіцці; пад час такіх перыядаў

людзі не зазіраюць далёка ў будучыню, ім уяўляецца, што асновы грамадства непарушныя.

Настае час інтрыг і малых партый.

Партыі, якія я называю вялікімі, характэрузуюць прыхільнасць прынцыпам у большай ступені, чым заклапочанасць пра тое, да чаго здольна прывесьці прытрымліванне гэтым прынцыпам; тэорыя, абагульненні цікавяць іх больш, чым практыка, прыватныя выпадкі; іх хвалююць глабальныя ідэі, а не пэўныя людзі. У параўнанні з іншымі партыямі вялікія партыі, звычайна, дэманструюць высакароднейшыя памкненні, больш цьвёрдыя перакананні, іх дзеянні больш адкрытыя і рашучыя. У дзейнасьці гэтых партый прыватныя зацікаўленасьці, заўсёды маючыя вельмі важную ролю ў палітычным змаганні, спрактыкавана маскіруюцца пад грамадзкія, здараецца нават, што тыя, хто дзейнічае на карысць гэтых прыватных зацікаўленасьцей, самі не ўсведамляюць гэтага.

У малых партый, наадварот, звычайна не бывае палітычных перакананняў. Імі не рухаюць вялікія мэты і іхнай адметнай рысай з’яўляецца эгаізм, што адкрыта выяўляецца ў кожным іх дзеянні. За іх палымянымі прамовамі хаваецца разлік; яны рэзка выказваюцца, але дзейнічаюць нясмела і няўпэўнена. Як мэта, якую яны ставяць перад сабой, так і сродкі, якімі яны карыстаюцца для яе ажыццяўлення, з’яўляюцца нікчэмнымі. У выніку, калі на змену бурнай рэвалюцыі прыходзіць перыяд заспакаення, ствараецца ўражанне, быццам бы вялікія людзі раптам знікаюць, а чалавечыя душы замыкаюцца ў сабе.

Вялікія партыі ўзрушаюць грамадства, малыя яго бунтуюць; першыя раздзіраюць яго на часткі, другія яго разбэшчваюць; вялікія партыі, узрушаючы грамадства, тым самым нярэдка яго ратуюць, а малыя без бачнай карысьці сеюць закалоты.

У свой час у Амерыцы існавалі вялікія партыі; сёння іх ужо няма: гэтая краіна стала больш шчаслівай, але не стала больш маральнай.

Калі скончылася Вайна за незалежнасць і з’явілася патрэба ў новай форме кіравання, думкі амерыканцаў разышліся, сфармаваліся два накірункі поглядаў. Гэтыя накірункі поглядаў такія ж старажытныя, як і сам сьвет, іх можна выявіць у розных формах і пад рознымі назвамі ў кожным вольным грамадстве. Адна частка нацыі жадае абмежаваць уладу народа, другая – бязмежна пашыраць яе.

Змаганне паміж гэтымі двума плынямі ніколі не даходзіла ў Амерыцы да разлютаванасьці, як гэта здаралася ў іншых краінах. Тут погляды і тых і другіх на асноўныя пытанні супадалі. Для перамогі аднаго із іх не было патрэбы ні разбураць старое ўпарадкаванне, ні перамяняць грамадзкае уладкаванне. Імкненне дамагчыся перамогі сваіх прынцыпаў не ставіла пад пагрозу жыццё шматлікіх людзей. А самі прынцыпы мелі дачыненне да найбольш важных духоўных зацікаўленасьцей, яны сведчылі пра прыхільнасць тых, хто іх абараняў да роўнасьці і незалежнасьці. Менавіта таму вакол іх разгарэлася жарснае змаганне.

Партыя, выступаўшая за абмежаванне ўлады народа, імкнулася замацаваць цьверджанні свайго вучэння ў канстытуцыі Звязу. Яна атрымала назву федэральнай партыі.

Другая партыя, выяўляўшая асобную схільнасць да волі, атрымала назву рэспубліканскай.

У Амерыцы само паветра поўніцца духам дэмакратыі. Таму федэралісты тут заўсёды ў меншасьці; аднак, амаль усе вялікія людзі, вызначыўшыяся падчас Вайны за незалежнасць, апынуліся ў шэрагах федэралістаў, а іхны маральны ўплыў

на грамадства быў моцным. Гэтаму таксама спрыялі і ўзнікшыя абставіны. Крушэнне першай канфедэрацыі надало жаху перад анархіяй і федэралісты скарысталіся гэтым кароткачасовым настроем, ахапіўшым масы. На працягу дзесяці ці дванаццаці гадоў яны знаходзіліся ва ўладзе і здолелі ажыццявіць на практыцы калі не ўсё, то частку сваіх прынцыпаў – справа ў тым, што процілеглая ім партыя што ні дзень рабілася больш мацнай, і федэралісты не адважыліся выступаць супраць яе. У 1801 годзе рэспубліканцы, нарэшце, узялі ўладу ў свае рукі. Прэзідэнтам быў абраны Томас Джэферсан. Імя гэтага вельмі таленавітага чалавека было вядома, ён меў вялікую папулярнасць, і гэта замацавала пазіцыі рэспубліканцаў.

Федэралісты ж трымаліся не толькі за кошт штучных і кароткачасовых сродкаў – да ўлады іх прывялі мужнасць і здольнасьці іхных кіраўнікоў, а таксама шчаслівы збег абставін. Калі рэспубліканцы ў сваю чаргу прыйшлі да ўлады, на процілеглую партыю нібы та абрынулася стыхійнае бедства. Пераважаючая большасць выказалася супраць яе і яна нечакана апынулася ў такой меншасьці, што астатнія яе прыхільнікі прыйшлі ў роспач, страціўшы веру ва ўласныя здольнасьці. Пачынаючы з гэтай пары партыя рэспубліканцаў, ці дэмакратаў, ішла ад поспеху да поспеху і, нарэшце, перацягнула на свой бок усё амерыканскае грамадства.

Федэралісты, зразумеўшы, што яны пераможаны, што іх не падтрымліваюць, што нацыя адвярнулася ад іх, падзяліліся: адны далучыліся да пераможцаў, іншыя склалі свой сьцяг і перамянілі назву. Прайшло ўжо шмат гадоў з тых часоў, як яны перасталі існаваць як партыя.

Прыход у свой час федэралістаў да ўлады з’яўляецца, на мой погляд, адной із самых шчаслівых акалічнасьцей, злучаных з нараджэннем вялікіх амерыканскіх штатаў. Федэралісты супраціўіліся вымогам свайго стагоддзя, тэндэнцыям развіцця сваёй краіны. Іхныя тэорыі, будзь яны вельмі добрымі ці заганнымі, не маглі цалкам ажыццявіцца ў тым грамадстве, якім яны мелі намер кіраваць; тое, што адбылося пры Джэферсане, рана ці позна павінна было здарыцца. Пры гэтым урад федэралістаў дазволіў новай рэспубліцы зацьвердзіцца, а потым бесперашкодна падтрымаць хуткае развіццё тых вучэнняў, якія яны абаранялі. Вялікая частка іхных прынцыпаў, урэшце, была прынята і стала адзнакай іхных супернікаў, а федэральная канстытуцыя, якая існуе і да гэтага часу, з’яўляецца вечным помнікам іх патрыятызму і мужнасьці.

Такім чынам, у наш час у Злучаных Штатах Амерыкі няма буйных палітычных партый. Там ёсць шмат партый, якія пагражаюць адзінству Звязу, але няма такіх партый, якія б выступалі супраць сучаснай формы дзяржаўнага кіравання ці перашкаджалі б пастулальнаму развіццю грамадства. Тыя партыі, якія пагражаюць адзінству Звяза, грунтуюцца не на прынцыпах, а на матэрыяльных зацікаўленасьцях. Менавіта гэтыя зацікаўленасьці на тэрыторыі такой шырокай імперыі, як Штаты, і ляжаць у падмурку ўтварэння супернічаючых нацый, а не партый. У апошні час сведчаннем таму былі паводзіны Поўначы, падтрымаўшай шэраг забарон у гандлі, а Поўдзень, наадварот, узяў пад абарону волю гандлю, і ўсё гэта адбылося толькі таму, што Поўнач з’яўляецца галоўным чынам фабрычным раёнам, а Поўдзень – земляробскім, сістэма ж абмежаванняў заўсёды дзейнічае на карысць аднаго і на шкоду другому.

Буйныя партыі адсутнічаюць у Злучаных Штатах, затое там у багацці малыя партыі, і грамадзкая думка падзяляецца на бясконцую колькасць згуртаванняў, аб’ядноўваючыхся вакол пытанняў маючых дачыненне да дробязяў. Немагчыма

ўявіць, з якой цяжкасьцю ствараюцца партыі; і ў наш час гэта вельмі нялёгкая справа. У Злучаных Штатах адсутнічае нянавісць на рэлігійнай глебе, таму што рэлігія паўсюдна паважаецца і ніводная рэлігійная секта не лічыцца прывілеяванай; няма класавай нянавісьці, таму што народ вышэй усяго і ніхто не адважыцца змагацца з ім; няма, нарэшце, бедных пластоў насельніцтва, якія б эксплуатаваліся, таму што матэрыяльны узровень краіны такі, што яна ў стане даць усім месца ў сваім прамысловым комплексе і поўную волю працаваць адпаведна са сваімі здольнасьцямі і рабіць кар’еру. А дастаткова ж даць чалавеку такую волю і ён створыць дзіва. Такім чынам, патрэбны вельмі моцныя амбіцыі, накіраваныя на стварэнне новых палітычных партый, каб завалодаць уладай. Цяжка ж пазбавіць пасады таго, у чыіх руках яна знаходзіцца, з дапамогай адзінага доваду, што вы жадаеце заняць яго месца. Такім чынам, палітычныя дзеячы павінны ўжыць усе сваз здольнасьці дзеля арганізацыі партый: палітычны дзеяч у Злучаных Штатах, перадусім, імкнецца вызначыць сваю зацікаўленасць, вывучыць аналагічныя зацікаўленасьці, якія маглі б скласьці разам з яго зацікаваўленасьцю адзінае цэлае; далей ён імкнецца выявіць, ці не існуе выпадкова ў сьвеце вучэння ці навуковага прынцыпа, які можна было б удала выкарыстаць для новай арганізацыі, паставіўшы ў назву, даваўшую б ёй права на вольнае існаванне і пашырэнне сваіх ідэй, – нешта накшталт каралеўскай пячаткі, якую нашы бацькі памяшчалі на першай старонцы сваіх твораў, хаця яна не мела да іх ніякага дачынення.

Пасьля гэтага на палітычнай арэне з’яўляецца новая магутнасць.

Для замежніка ўсе гэтыя хатнія сваркі амерыканцаў здаюцца на першы погляд незразумелымі і дзіцячымі, і не ведаеш, ці шкадаваць гэты народ, які сур’ёзна займаецца падобнымі цацкамі, ці зайздросціць яму, лічачы яго шчаслівым, таму што ён у стане гэтым займацца.

Аднак, як толькі вывучыш таемныя рухаючыя магутнасьц, кіруючыя ў Амерыцы мяцежнымі згуртаваннямі, адразу пачынаеш разумець, што вялікая частка із іх злучана больш-менш цесна з адной із двух вялікіх партый, падзяляючых людзей з таго часу, як існуюць вольныя грамадствы. Па меры паглыблення ў патаемную сутнасць гэтых партый заўважаеш, што дзейнасць адных накіравана на тое, каб абмежаваць выкарыстанне грамадзкай магутнасьці, дзейнасць жа іншых – на тое, каб пашырыць гэтае выкарыстанне.

Я цалкам не маю намеру сцвярджаць, што амерыканскія партыі мелі сваёй відавочнай ці нават таемнай мэтай высунуць на першы план арыстакратыю ці дэмакратыю ў краіне; я сцвярджаю, што арыстакратычныя ці дэмакратычныя жарсьці лёгка выяўляюцца ў падмурку кожнай партыі; і хаця гэта не кідаецца ў вочы, менавіта гэта і з’яўляецца слабым месцам кожнай партыі.

Прывяду адзін прыклад із нядаўніх падзей: прэзідэнт выказвае свае прэтэнзіі да Банка Злучаных Штатаў; у краіне пачынаюцца хваляванні, і яе насельніцтва падзяляецца на дзьве часткі: заможныя станы ў асноўным становяцца на бок Банка, народ жа падтрымлівае прэзідэнта. Вы лічыце, што народ у стане вызначыць матывы сваіх паводзін у такой заблытанай сітуацыі, калі справа мае дачыненне да такога складанага пытання, што і дасьведчаныя спецыялісты вагаюцца ў сваім рашэнні? Цалкам не. Справа ў тым, што Банк – гэта велізная незалежная ўстанова; народ жа, скасоўваючы ці ствараючы тую ці іншую ўладу, нічога не здольны зрабіць з гэтым Банкам, а гэта яго раздражняе. Сярод усеагульнага руху ў грамадстве гэтая нерухомая кропка кідаецца яму ў вочы, і ён жадае паглядзець, ці не здолее ён і яе перасунуць з месца, так жа як і ўсё астатняе.

## Што засталося ад арыстакратычнай партыі ў Злучаных Штатах

–Таемная апазіцыя заможных пластоў насельніцтва дэмакратыі. –Іхная засяроджанасць на асабістым жыцці. –Інтэр'еры іхных сядзіб выяўляюць іхны густ накіраваны выключна на вытанчаныя задавальненні і раскошу. –Іх паказная сціпласць. –Іх напускная спагадлівасць у стаўленні да народа.

Калі меркаванне грамадзянаў краіны перастае быць адзіным, парушаецца раўнавага паміж партыямі, і ў адной із іх з'яўляецца неаспрэчная перавага. Гэтая партыя разбурае ўсе перашкоды, вымотвае свайго суперніка і ставіць усё грамадства цалкам сабе на службу. Пераможаныя, у роспачы ад такога поспеху свайго суперніка, спыняюць сваю дзейнасць. Паўсюдна ўсталёўваецца спакой і цішыня. Здаецца, што ўся нацыя згуртавалася. Партыя-пераможац робіць наступную заяву: «Я аднавіла мір у краіне, за гэта мяне павінны шанаваць адпаведна заслугам».

Але за гэтым бачным пагадненнем хаваюцца глыбокія нязгоды і сапраўдны супраціў.

Вось так і здарылася ў Амерыцы: калі дэмакратычная партыя дамаглася перавагі, грамадства стала сведкам таго, як яна завалодала выключным правам кіраваць дзяржаўнымі справамі. Пачынаючы з таго часу яна бесперапынна фармуе норавы і выдае законы, грунтуючыся на сваіх жаданнях. І сёння можна сказаць, што ў Злучаных Штатах станы заможных людзей амаль цалкам знаходзяцца па-за палітычнымі справамі, і багацце не толькі не дае права на ўладу, але вы'яўляецца рэчаіснай нагодай няласкі і перашкодай на шляху да ўлады.

Тыя, хто заможны, такім чынам, аддаюць перавагу пакінуць поле змагання і не весьці яго, часта няроўнае, супраць найбяднейшых са сваіх суграмадзянаў. Не маючы магчымасьці заняць у грамадзкім жыцці такое ж становішча, якое яны займаюць у прыватным жыцці, яны пакідаюць першае, каб засяродзіцца на другім. І ў сярэдзіне дзяржавы ўтвараецца як бы асобннае грамадства з уласьцівымі яму густамі, схільнасьцямі, схільнасьцю да асобных забаваў.

Заможны чалавек ставіцца да такога ўпарадкавання як да нечага невыправімага; ён нават усімі сродкамі імкнецца не паказваць, што гэта яго засмучае; у публічных прамовах ён расхвальвае дабрыню рэспубліканскага ўрада і перавагі дэмакратычных формаў кіравання. Таму што пасьля нянавісьці да ворагаў, што можа быць больш натуральным для чалавека, чым ліслівасць у іхны адрас?

Бачыце вы гэтага шыкоўнага грамадзяніна? Ці не праўда, ён падобны на жыда сярэдніх гадоў, непакоючагася, як бы не праведалі пра яго багацце? Апрануты ён проста, хада яго сціплая; у сябе ў сядзібе паміж чатырох сьцен яму падабаецца раскоша; у гэтую сьвятая сьвятых ён дапускае толькі некалькіх абраных гасьцей, сваю раўню, якіх ён запрашае па асобку. У Яўропе вы не сустрэнеце ніводнага чалавека шляхетнага паходжання, які быў бы так моцна прывязаны да сваіх задавальненняў, так бы імкнуўся да найменшай выгоды, якія забяспечваюць нейкае прывілеяванае становішча. Але вось ён выходзіць із сядзібы, каб накіравацца на працу ў нейкую запыленую канторку, занімаемую ім у цэнтры горада, у яго дзелавой частцы, дзе кожны можа загаварыць з ім, звярнуцца да яго. Дарогай ён сустракае свайго шаўца, яны спыняюцца: абодва пачынаюць развважаць. Пра што ж яны могуць размаўляць? Гэтыя два грамадзяніны развважаюць пра дзяржаўныя справы, і, перш чым развітацца, яны паціскаюць адзін аднаму руку.

У глыбіні ж гэтага запалу, як бы паказваючага пагадненне і ў розных формах дагодлівасьці, дэманструемай ў стасунках з тымі, хто блізкі да кіруючай партыі,

лёгка заўважыць глыбокую агіду, якую заможныя людзі адчуваюць да дэмакратычных інстытутаў сваёй краіны. Народаўладдзе – гэта тая ўлада, якую яны баяцца і якой пагарджаюць. Калі аднойчы дрэннае дэмакратычнае кіраванне скончыцца палітычным крызісам, калі ў Злучаных Штатах усталюецца манархія як дзейная магутнасць, уладарная магутнасць, тут жа стане відавочнай правільнасць маіх выказванняў.

Існуюць дзьве магутнасьці, якія выкарыстоўваюцца партыямі, каб атрымаць поспех у сваёй дзейнасьці, – гэта газеты і асацыяцыі.

# Глава III

## Пра волю друку ў Злучаных Штатах

–Цяжкасьці, аб’яднаныя з абмежаваннем волі друку. –Адмысловыя нагоды, вымушаючыя некаторыя народы настойваць на гэтай волі. –Воля друку – гэта натуральны вынік, выцякаючы із суверэнітэту народа, як яго разумеюць у Амерыцы. –Нястрыманасць выказванняў прэсы ў Злучаных Штатах. –Перыядычны друк валодае вызначаным нюхам; прыклад Злучаных Штатаў гэта даводзіць. –Думка амерыканцаў з нагоды юрыдычных пераследаў прэсы за дапушчальныя ёю парушэнні права. –Чаму ў Злучаных Штатах прэса менш магутная, чым у Францыі.

Воля друку ўплывае не толькі на грамадзкую думку, але і на меркаванне кожнага чалавека. Яна спрыяе не толькі перамене законаў, але і перамяняе норавы. У другой частцы гэтай кнігі я паспрабую паказаць ступень уплыву волі друку на амерыканскае грамадства, вызначыць той накірунак, які друк надаў ідэям, атрымаўшым пашырэнне ў Амерыцы, складу думак і пачуццям, стаўшым характэрнымі для амерыканцаў. Тутака ж я хачу толькі паказаць, якім чынам воля друку ўплывае на палітычную сферу.

Прызнаюся, я не адчуваю да волі друку той поўнай павагі, павагі з першага позірку, якую адчуваеш да рэчаў, выдатным адпаведна са сваёй прыродай і па-за залежнасьцю ад чаго б там ні было. Я паважаю яго значна больш за тое, што ён перашкаджае злу ажыццяўляцца, чым за тыя даброты, якія ён прыносіць.

Калі б хто-небудзь паказаў мне прамежкавую пазіцыю паміж поўнай незалежнасьцю думкі і поўным яе падначаленнем, дзе я мог бы спадзявацца затрымацца, я б, магчыма, там размясьціўся; але хто знойдзе гэтую прамежкавую пазіцыю? Вы грунтуюцеся на распушчанасьці друку і далей ідзеце вызначаным парадкам. Што вы робіце? Перадусім, вы напускаеце на пісьменнікаў суд прысяжных, але суд прысяжных іх апраўдвае, і тое, што было думкай толькі аднаго чалавека, робіцца думкай усёй краіны. Тое, што вы зрабілі, – гэта занадта шмат, але і занадта мала; патрэбна ісьці далей. Тады вы аддаеце аўтараў у рукі судзейскіх урадаўцаў; але суддзі, перш чым засудзіць, павінны выслухаць; і тое, у чым было жахліва прызнацца ў кнізе, безпакарана абвяшчаецца ў абараняючай прамове; тое, пра што невыразна паведамлялася ў адным напісаным тэксце, зараз паўтараецца ў тысячы іншых. Моўнае выказванне – гэта вонкавая форма і, дазволю сабе сказаць, цела думкі, але не сама думка. Вашы трыбуналы арыштоўваюць цела, але душа выслізгвае ад іх, непрыкметна выслізгвае з іхных рук. Такім чынам, вы зрабілі занадта шмат, але і занадта мала; патрэбна ісьці далей. Нарэшце, вы аддаеце пісьменнікаў у рукі цэнзараў. Выдатна! Мы пасоўваемся наперад. А палітычная трыбуна, яна хіба не вольная? Такім чынам вы, выяўляецца, яшчэ нічога не дамагліся; не, я памыліўся, вы памножылі зло. Магчыма, вы выпадкова палічылі

думку за адну із тых матэрыяльных магутнасьцей, моц уплыву якіх павялічваецца з павелічэннем колькасьці іхных носьбітаў? Вы што, будзеце лічыць пісьменнікаў, як жаўнераў у войскі? У процілегласць матэрыяльнай сіле магутнасць думкі часта павялічваецца і дзякуючы малой колькасьці тых, хто яе выяўляе. Слова ўплывовага чалавека, вымаўленае цьвёрда, пад час разгару жарсьцяў, перад замоўкшым сходам, уплывае на грамадства больш моцна, чым невыразныя выкрыкі тысячы прамоўцаў; і варта толькі вольна пагаварыць пра нешта ў адным грамадзкім месцы – вынік такі, як калі б вы гучна выказаліся пра гэта ў кожнай вёсцы. Такім чынам, вам патрэбна знішчыць волю выказвацца, роўна, як і волю пісаць. Гэтым разам вы блізка да мэты: усе маўчаць. Але чаго вы дамагліся? Вы пачалі са злоўжывання воляй – і апынуліся каля ног дэспата.

Вы прайшлі шлях ад вышэйшай незалежнасьці да самага поўнага заняволення, не сустрэўшы на гэтым доўгім шляху ніводнай кропкі, дзе вы маглі б спыніцца.

Існуюць народы, у якіх незалежна ад агульных цьверджанняў, выкладзеных мной вышэй, маюцца свае адмысловыя нагоды, тлумачачыя іхную схільнасць да волі друку.

Існуць нацыі, якія лічацца вольнымі, а тым часам кожны прадстаўнік улады ў іх можа беспакарана парушыць закон, і канстытуцыя краіны пры гэтым не дае права пацярпелым звяртацца са скаргай у суд. У гэтых народаў незалежнасць прэсы разглядаецца не як адна із гарантый, а як адзіная гарантыя, застаючаяся ім із усяго арсенала волі і бяспекі грамадзянаў.

Такім чынам, калі б кіраўнікі тых дзяржаў, дзе жывуць гэтыя нацыі, загаварылі пра знішчэнне незалежнасьці друку, народ мог бы ім адказаць: «Дазвольце нам патрабаваць для вас пакарання за вашы злачынствы праз суд, і тады, магчыма, мы пагадзімся не крыстацца для гэтай жа мэты судом грамадзкасьці».

У краіне, дзе адкрыта прызнаецца суверэнітэт народа, цэнзура з’яўляецца не толькі небяспечнай, яна абсурдная.

Калі кожнаму надаецца права кіраваць грамадствам, патрэбна, такім чынам, і прызнаваць за ім здольнасць рабіць правільны выбар із шэрагу розных думак, хвалюючых яго суайчыннікаў, і даваць праўдзівую ацэнку адбываючымся падзеям, веданне якіх можа паслужыць падмуркам яго дзейнасьці.

Суверэннасць народа і воля друку цалкам адпавядаюць адно другому; цэнзура і ўсеагульнае галасаванне, наадварот, супярэчаць адзін аднаму і не могуць доўга суіснаваць у палітычных інстытутах аднаго народа. Сярод дванаццаці мільёнаў чалавек, пражываючых на тэрыторыі Злучаных Штатаў, не знойдзецца ніводнага, хто б адважыўся прапанаваць абмежаваць волю друку.

У першай жа газеце, якая патрапіла мне на вочы, калі я прыехаў у Амерыку, быў надрукаваны наступны артыкул, дакладны пераклад якога я тут даю:

«Ва ўсёй гэтай справе прамова, вымаўленая Джэксанам (прэзідэнтам), была прамовай не маючага сэрца дэспата, маючага на мэце выключна тое, каб захаваць сваю ўладу. Амбіцыі – гэта яго злачынства, і гэта ж будзе яго пакараннем. Яго пакліканне – інтрыгі, і інтрыгі ж пераблытаюць усе яго планы і вырвуць уладу із рук. Ён кіруе з дапамогай карупцыі і яго злачынныя махінацыі павернуцца для яго сорамам і ганьбай. Ён выявіў сябе на палітычнай арэне як гулец без гонару і тармазоў. Ён атрымаў поспех, але гадзіна справядлівасьці набліжаецца; хутка яму давядзецца вярнуць усё што ён захапіў, далёка закінуць сваю фальшывую костку для гуляння і пайсьці ў адстаўку, дзе ён будзе

мець магчымасць ўволю праклінаць сваю ўтрапёнасць; таму што яго сэрца ніколі не ведала такой учыннасьці, як пакаянне» («Венсенс газет»).

У Францыі большасць людзей лічаць, што неўтаймаванасць прэсы ў нашым грамадстве залежыць ад сацыяльнай нестабільнасьці, ад нашых палітычных жарсьцяў і паходзячага адсюль усеагульнага неспакою. Такім чынам, яны няспынна чакаюць таго часу, калі жыццё ў грамадстве зноў знойдзе раўнавагу і тады прэса супакоіцца. Што ж да мяне, то я ахвотна дапасаваў бы на кошт паказаных вышэй нагод той вельмі моцны ўплыў, які прэса выказвае на нас; але я не лічу, што гэтыя нагоды так моцна ўплываюць на яе выказванні. Мне здаецца, што ў перыядычнага друку існуюць свае адмысловыя рысы і прыхільнасьці, не залежачыя ад умоваў, у якіх ён існуе. Тое, што адбываецца ў Амерыцы, мяне ў гэтым пераконвае канчаткова.

У наш час Амерыка з’яўляецца той краінай зямнога шара, у якой існуе найменшая колькасць рэвалюцыйных парасткаў. А тым часам у тамтэйшай прэсы тыя ж разбуральныя схільнасьці, што і ў французскай, і тыя ж неўтаймаваныя выказванні пры адсутнасьці аналагічных нагод для гневу. У Амерыцы, як і ў Францыі, прэса з’яўляецца той незвычайнай магутнасьцю, дзе дзіўным чынам перамяшана добрае і дрэннае, без якой воля не здолела б выжыць і дзякуючы якой парадак ледзь-ледзь трымаецца.

Абавязкова патрэбна сказаць, што ў Злучаных Штатах у прэсы значна менш улады, чым у нашым грамадстве. Аднак менавіта ў гэтай краіне вельмі рэдкімі з’яўляюцца судовыя пераследы прэсы. Нагода таму простая: амерыканцы, прыняўшы ў сваім грамадстве прынцып народаўладдзя, зрабілі гэтае народаўладдзе сапраўдным. Ім і ў галаву не прыходзіла ствараць із элементаў, якія штодня перамяняюцца, канстытуцыю, якая дзейнічае вечна. Крытыкаваць існуючыя сёння законы, такім чынам, не з’яўляецца злачынствам, абы не рабілася спроб пазбавіцца ад іх з дапамогай гвалту.

Дарэчы, амерыканцы лічаць, што суды не ў стане ўтаймаваць прэсу і што гнуткасць чалавечых выказванняў дазваляе ім кожны раз выкручваецца пры юрыдычным аналізе, падобныя парушэнні права як бы знікаюць раней, чым працягнутая рука правасуддзя паспрабуе іх схапіць. Каб эфектыўна ўплываць на прэсу, лічаць амерыканцы, патрэбна знайсьці такі суд, які быў бы не толькі аддданы існуючаму кіраванню, але і здолеў бы стаць над грамадзкай думкай, пашыранай навокал. Суд, які судзіў бы не дапускаючы галоснасьці, абвяшчаў бы свае прысуды, нічым не абгрунтоўваючы іх, і караў бы намеры яшчэ больш строга, чым рэзкія словы. Той, хто здолеў бы стварыць і падтрымаць падобны трыбунал, дарэмна страціў бы час, пераследуючы волю друку, таму што тады ён стаў бы абсалютным гаспадаром самога грамадства і мог бы цалкам пазбавіцца ад пісьменнікаў, а заадно і ад таго, што яны напісалі. Што да прэсы, рэчаісна для яе не існуе сярэдзіны паміж рабствам і воляй. Каб атрымаць неацэньваемыя даброты, якія забяспечвае воля для друку, патрэбна быць здольным прынімаць і тое зло, якое нараджаецца разам з ёй. Спрабаваць дасягнуць аднаго і пазбегчы другога – азначае падпадаць пад адну із тых ілюзій, якімі сябе звычайна заспакойваюць вялікія нацыі, калі, стаміўшыся ад барацьбы і выдаткаваўшы усю сваю моц, яны шукаюць сродкі з дапамогі якіх можна прымусіць існаваць адначасова, на адной і той жа глебе, варагуючыя меркаванні і прынцыпы.

Амерыканскія газеты не маюць вялікага ўплыву; гэта тлумачыцца шматлікімі нагодамі, асноўнымі із якіх з’яўляюцца наступныя.

Воля пісаць, так жа як і іншыя волі, з’яўляецца тым больш небяспечнай, чым пазьней яна з’явілася; народ, упершыню бяручы ўдзел у абмеркаванні дзяржаўных спраў, лічыць сябе першым трыбунам. Для англа-амерыканцаў падобная воля такая ж старажытная, як самі асады. Прэса, дарэчы, умеючы добра падаграваць чалавечыя жарсьці, не ў стане, аднак, самастойна іх спараджаць. Такім чынам, у Амерыцы палітычнае жыццё праходзіць актыўна, формы яго разнастайныя, яно нават бывае буяным, але рэдка ў яго падмурку ляжаць глыбокія жарсьці; таму што рэдка жарсьці выплываюць на паверхню, калі не закранаюцца матэрыяльныя зацікаўленасьці, а Злучаныя Штаты з гэтага боку гледжання краіна квітнеючая. Каб ацаніць розніцу, існуючую ў гэтым дачыненні паміж англа-амерыканцамі і намі, мне дастаткова толькі прагледзець амерыканскія і французскія газеты. У Францыі камерцыйныя аб’явы займаюць абмежаванае месца ў газетах; нават навін не вельмі шмат; самая насычаная частка газеты – тая, што асьвятляе палітычныя спрэчкі. У Амерыцы тры чвэрці вялізнай газеты, разгорнутай перад вашымі вачамі, запоўнены абвесткамі, у астатняй частцы размешчаны часьцей усяго палітычныя навіны ці нейкія жартаўнічыя гісторыі; і толькі дзе-нідзе, у нейкім куточку, заўважаеш артыкул, прысьвечаны адной із такіх гарачых дыскусій, якія ў нашым грамадстве і складаюць штодзённую порцыю для чытачоў.

Якая б то ні было ўлада ўзмацняецца па меры цэнтралізацыі – гэта агульны, натуральны закон, які робіцца відавочным для дасьледніка пры вывучэнні дадзенага пытання і які дэспаты нават малога маштабу спасьцігаюць інстынктыўна.

У Францыі прэса аб’ядноўвае два розных віды цэнтралізацыі.

Амаль уся ўлада прэсы засяроджана ў адным месцы і, можна сказаць, у адных руках, таму што установы прэсы нешматлікія.

Такім чынам, заняўшы трывалае месца ў асяроддзі скептычна настроенай нацыі, прэса павінна была набыць амаль неабмежаваную ўладу. Гэта вораг, з якім урад можа заключаць перамір’і больш-менш працяглыя, але каля якога яму цяжка трымацца працяглы час.

Ні адзін, ні другі від цэнтралізацыі, пра якія я згадаў, у Амерыцы не існуюць.

У Злучаных Штатах няма сталіцы: сьвятло, у сэнсе ўлада, размеркавана па прасторы ўсёй вялізнай краіны; прамені чалавечага розуму замест таго, каб выходзіць із адзінага цэнтра, адусюль сыходзяцца туды і там перакрыжоўваюцца; амерыканцы ніводнае месца ў сваёй краіне не зрабілі цэнтрам усеагульнага кіравання чалавечай думкай, так жа як не існуе там і адзіны кіруючы дзелавы цэнтр.

Гэта абумоўлена мясцовымі ўмовамі, цалкам не залежачымі ад людзей; што да законаў, то яны дыктуюць наступнае.

У Злучаных Штатах няма патэнтаў для друкароў, марак ці рэгістрацыі для газет; нарэшце, адсутнічае правіла даручальніцтва.

Із усяго гэтага вынікае, што выдаванне газеты з’яўляецца там справай простай і лёгкай: дастаткова невялікай колькасьці падпісчыкаў, каб газетчык змог перакрыць свае выдаткі; з нагоды гэтага колькасць перыядычных ці серыйных выданняў у Злучаных Штатах перавышае ўсе чаканні. Найбольш асьвечаныя амерыканцы тлумачаць малую ўладу прэсы неверагодным раздрабненнем яе намаганняў; у Злучаных Штатах гэта стала аксіёмай палітычнай навукі: адзіны сродак нейтралізаваць уплыў газет – гэта павялічыць іхную колькасць. Я не магу сабе ўявіць, чаму такая відавочная праўда да гэтага часу яшчэ не прышчапілася ў нас. Тое, што тыя, хто мае намер вырабіць рэвалюцыю з дапамогай друку, імкнуцца

засяродзіць яго ў некалькіх магутных установах друку, – гэта я разумею без цяжкасьцей, але тое што афіцыйныя прыхільнікі існуючага рэжыму і тыя, хто падтрымлівае існуючыя законы, мяркуюць, што ўплыў прэсы можна памякчыць шляхам яе канцэнтрацыі – вось гэтага я абсалютна не магу зразумець. Урады Яўропы, мне здаецца, паводзяць сябе ў дачыненні да прэсы так, як некалі паводзілі сябе рыцары ў дачыненні да сваіх супернікаў: на сваім уласным досьведзе яны пераканаліся, што цэнтралізацыя прэсы – гэта магутная зброя, і яны жадаюць гэтай зброяй падзяліцца са сваім ворагам, безумоўна для таго, каб пры змаганні з ім набыць яшчэ больш гонару.

У Злучаных Штатах практычна няма мястэчка, нават вельмі маленькага, дзе не выдавалі б сваю газету. Няцяжка зразумець, што немагчыма дамагчыся ні дысцыпліны, ні адзінства дзеянняў сярод такой колькасьці змагароў, таму, натуральна, кожны падымае свой сьцяг. Гэта не азначае, што ўсе палітычныя газеты Звязу падзяляюцца на тыя, якія за адміністрацыю, і тыя, якія супраць яе; але, баронячы яе ці нападаючы на яе, яны выкарыстоўваюць сотні самых разнастайных сродкаў. У гэтай краіне газеты не здольны, такім чынам, падняць такі моцны струмень грамадзкай думкі, які ці прарывае нават самую магутную плаціну, ці пераліваецца праз яе. Гэтае раздрабненне магутнасьці ў друку мае і іншыя наступствы, не менш сур’ёзныя: выданне газеты, будучы справай лёгкай, дазваляе кожнаму заняцца ёю; з іншага боку, дзякуючы канкурэнцыі адна газета не можа разлічваць на вялікія прыбыткі. З гэтай нагоды буйныя прамысловыя магутнасьці не накіроўваюць сваіх сродкаў у такі род прадпрымальніцтва. Дарэчы, калі б газеты былі крыніцай багацця, для кіравання імі магло б не хапіць таленавітых журналістаў, таму што газет гэтых незлічоная колькасць. Журналісты ў Злучаных Штатах маюць, звычайна, невысокае становішча, прафесійную падрыхтоўку яны атрымліваюць як бы спехам і склад іхнага мышлення нярэдка трывіяльны. Такім чынам, у кожнай сферы кіруе большасць; яна ўсталёўвае вызначаныя нормы паводзін, да якіх потым кожны прыстасоўваецца; сукупнасць гэтых агульных правіл мае назву духа, стыля; дух адвакатуры і дух суда адрозніваюцца адзін ад аднаго. У Францыі журналісцкі дух, стыль, выяўляецца ў манеры весьці размову напорыста, але ў прыстойных выказваннях, часта красамоўна, – пра вялікія дзяржаўныя справы і калі не заўсёды атрымваецца менавіта так, то гэта таму, што няма правіл без выключэнняў. У Амерыцы журналісцкім стылем з’яўляецца – груба, не маючы сораму, не падбіраючы выказванняў, накінуцца на сваю ахвяру, пакінуўшы збоку якія б то ні было прынцыпы, ціснуць на слабае месца, ставячы перад сабой адзіную мэту – падлавіць чалавека, а далей пераследаваць яго ў асабістым жыцці, агаляючы яго слабасьці і заганы.

Патрэбна пашкадаваць пра існаванне падобных злоўжыванняў; пазьней у мяне будзе выпадак разгледзець, які ўплыў робяць газеты на фарміраванне густаў і маральнасць амерыканскага народа; але, паўтараю, у дадзены момант я разглядаю толькі палітычную сферу. Немагчыма не прызнаць, што палітычны ўплыў волі друку мае немалое значэнне непасрэдна для падтрымання грамадзкага парадку. З гэтай нагоды тыя, хто ўжо займае высокае становішча ў вачах сваіх суайчыннікаў, не адважваюцца пісаць у газеты і, такім чынам, ігнаруюць самую жахлівую зброю, якой яны маглі б скарыстацца маючы на мэце разварушыць на карыснасць сабе

народныя жарсьці[170]. Дзякуючы гэтаму ж асабістыя погляды журналіста не маюць ніякага значэння для чытачоў. Чытачы газеты імкнуцца да аднаго – ведаць факты; такім чынам, толькі перамяняючы афарбоўку гэтых фактаў ці пераіначваючы іх, журналіст у стане прыцягнуць увагу да сваёй думкі.

Хаця прэса ў Амерыцы карыстаецца галоўным чынам менавіта такімі сродкамі, яна валодае ўсё ж вялізным уплывам. Пад яе ўплывам ажыўляецца палітычнае жыццё ва ўсіх кутках гэтай шырокай тэрыторыі. Менавіта прэса сваім пільным вокам высочвае, а потым выцягвае на сьвет божы таемныя рухавікі палітыкі і вымушае грамадзкіх дзеячоў па чарзе станавіцца перад судом грамадзкасьці. Менавіта яна аб’ядноўвае зацікаўленасьці вакол некаторых дактрын і фармулюе крэда партый; менавіта дзякуючы прэсе партыі вядуць дыялог паміж сабой, не сустракаючыся пры гэтым; прыходзяць да пагадненняў, не ўступаючы ў кантакт. Калі ж здараецца так, што вялікая колькасць друкаваных выданняў пачынае дзейнічаць у адным накірунку, іхны ўплыў на доўгі час робіцца пераважаючым, і грамадзкая думка, апрацоўваемая ўвесь час з аднаго боку, нарэшце, паддаецца іхнаму ўплыву.

У Злучаных Штатах кожная асобна ўзятая газета не мае вялікай улады, але перыядычны друк, як такі, да гэтага часу з’яўляецца першай пасьля народа магутнасьцю[171].

Пра тое, што погляды, якія зацьверджваюцца ў Злучаных Штатах, дзе пануе воля друку, звычайна, больш грунтоўныя, чым погляды, фарміруемыя недзе ў іншай краіне, пры строгай цэнзуры.

У Злучаных Штатах дэмакратычны рэжым прыводзіць да кіравання справамі ўсё новых і новых людзей; з нагоды гэтага справы здзяйсняемыя ўрадам, не заўсёды пасьлядоўныя і ўпарадкаваныя. Але галоўныя прынцыпы паводзін урада ў цэлым больш стабільны, чым у большасьці іншых краін, а асноўныя погляды, вызначаючыя існаванне грамадства, больш устойлівыя. Калі нейкая ідэя завалодвае розумамі амерыканцаў, будзь яна справядлівай ці неразважлівай, няма нічога больш цяжкага, чым пераканаць іх.

Тое ж самае можна было назіраць і ў Ангельшчыне, еўрапейскай краіне, дзе на працягу стагоддзя самая крайняя вольнасць думкі ўжывалася з самымі цяжкапераадольваемымі забабонамі.

Я тлумачу гэтую з’яву той жа нагодай, якая на першы погляд павінна перашкаджаць гэтаму, – то бок воляй друку. Народы, жывучыя ў краінах, дзе прысутнічае воля друку, прытрымліваюцца сваіх поглядаў як із пачуцця гонару, так і дзякуючы перакананням. Яны іх шануюць, таму што лічаць іх слушнымі, а яшчэ таму, што абралі іх самастойна і яны трымаюцца за іх не толькі як за нешта слушнае, але як за нешта належачае менавіта ім.

Існуе і яшчэ шмат довадаў.

Адзін вялікі чалавек сказаў, што на абодвух канцах ведання знаходзіцца няведанне. Магчыма, больш правільна было б сказаць, што глыбокія перакананні знаходзяцца толькі па краях, а пасярэдзіне – сумневы. Чалавечы розум можна разглядаць у трох розных станах, часта ідучых адзін за другім.

---

[170] Только ў рэдкіх выпадках яны звяртаюцца да дапамогі газет, калі жадаюць звярнуцца да народа і выказвацца ад свайго ўласнага імя: гэта здараецца, напрыклад, калі пра іх пашыраюць паклёпніцкія абвінавачванні і яны маюць намер аднавіць праўду.

[171] (*171. Глядзіце заўвагу на прыканцы першай кнігі)

Спачатку чалавек цьвёрда верыць таму што ён успрымае, не паглыбляючыся ў сутнасць. Потым, калі з’яўляюцца пярэчанні і супярэчнасьці, ён сумняваецца. Часта ў яго атрымліваецца вырашыць усе свае сумневы і толькі тады ён зноў пачынае верыць. Гэтым разам ён завалодвае праўдай не наўздагад і не ў пацёмках; ён бачыць яе перад сабой і ідзе непасрэдна на яе сьвет[172].

Калі воля друку ўздзейнічае на людзей, якія знаходзяцца на першай стадыі, яна яшчэ працяглы час падтрымлівае ў іх звычку цьвёрда верыць не разважаючы; адзінае, што яна робіць, дык гэта перамяняе прадмет іхнай неабдуманай даверлівасьці. На ўсім інтэлектуальным гарызонце чалавечы розум можа, такім чынам, бачыць толькі адну кропку пад час вызначанага адрэзку часу, але гэта кропка няспынна перасоўваецца. Гэта час раптоўных рэвалюцыйных перамен. Няшчаснымі з’яўляюцца тыя пакаленні, якія першымі дапусьцяць волю друку!

Аднак неўзабаве настае час, калі кола новых ідэй памаленьку засвоена. Прыходзіць досьвед, і чалавек апускаецца ў сумневы, яго ахоплівае недавер да ўсяго.

Можна выказаць здагадку, што большасць людзей застаецца ў адным із першых двух станаў: яны будуць верыць, самі не ведаючы чаму, або не будуць дакладна ведаць, у што ім патрэбна верыць.

Што ж да трэццяга стану, калі ў чалавека з’яўляюцца перакананні як вынік разважанняў, дамініруючых перакананняў, народжаных із ведання і замацоўваўшыхся, нават нягледзячы на трывогі злучаныя з сумневамі, то гэтага стану дасягае, коштам некаторых намаганняў, толькі невялікая колькасць людзей.

Было заўважана, што пад час тых перыядаў, калі людзі дбайна ставіліся да рэлігіі, яны не раз перамянялі веру, тады як пад час перыядаў сумневаў кожны зацята прытрымліваўся сваёй веры. Тое ж самае адбываецца і ў палітыцы, калі пануе воля друку. Будзем лічыць, што ўсе сацыяльныя тэорыі адна за другой аспрэчаны і скасаваны; аднак тыя, хто спыніўся на адной з іх, працягваюць прытрымлівацца яе не столькі з нагоды перакананасьці, што гэтая тэорыя добрая, колькі дзякуючы адсутнасьці ўпэўненасьці ў тым, што існуе лепшая.

Пад час гэтых перыядаў не забіваюць з лёгкасьцю адзін аднаго за перакананні, але і не перамяняюць іх, і разам з тым у гэты час сустракаецца менш ахвяр і адрачэнцаў.

Дадайце да гэтага яшчэ больш значны довад: калі ў перакананні пракрадаюцца сумневы, людзі, нарэшце, чапляюцца толькі за інстынкты і за матэрыяльныя даброты, таму што яны з’яўляюцца значна больш бачнымі, больш адчувальнымі і згодна са сваёй прыродай больш сталымі, чым перакананні.

Адказаць на пытанне, хто кіруе лепш – дэмакратыя ці арыстакратыя, вельмі цяжка. Відавочна толькі, што дэмакратыя ўціскае аднаго, а арыстакратыя прыгнятае другога.

Сама сабой усталёўваецца праўда, з нагоды якой бессэнсоўна спрачацца: вы заможныя, а я бедны.

# Глава IV

## Пра палітычныя аб’яднанні ў Злучаных Штатах

[172] Я, праўда, не ведаю, ці ўзвышае гэтае перакананне, з’яляючаяся вынікам разважанняў і стаўшае дамініруючым, чалавека да той ступені палкасьці і адданасьці, якая інспірыруецца дагматычнай верай.

–Выкарыстанне англа-амерыканцамі права ствараць аб’яднанні. –Тры віды палітычных аб’яднанняў. –Як амерыканцы ажыццяўляюць на практыцы сістэму прадстаўніцтва ў аб’яднаннях. –Чым гэта можа пагражаць дзяржаве. –Вялікі канвент 1831 года прысьвечаны тарыфам. –Заканадаўчы характар яго рашэнняў. –Чаму неабмежаванае карыстанне правам ствараць аб’яднанні ў Злучаных Штатах Амерыкі не з’яўляецца такім небяспечным, як у якой бы то ні было іншай краіне. –Чаму ў Злучаных Штатах гэта патрэбна лічыць неабходным. –Карыснасць аб’яднанняў для дэмакратычных нацый.

Амерыка здолела здабыць із права ствараць аб’яднанні максімальную выгоду. Там гэтае права як і самі аб’яднанні былі выкарыстаны як магутны і дзейны сродак пры дасягнення самых розных мэт.

Незалежна ад сталых аб’яднанняў, узнікшых у адпаведнасьці з законам і маючых назву камуна, гарад, акруга, існуе незлічоная колькасць іншых, якія сваім нарджэннем і развіццём абавязаны толькі волі індывідаў.

З першага дня свайго нараджэння жыхар Злучаных Штатаў Амерыкі ўсьведамляе, што ў змаганні са злом і ў пераадоленні жыццёвых цяжкасьцей патрэбна спадзявацца на сябе; да ўлады ён ставіцца недаверліва і з турботай, звяртаючыся да яе дапамогі толькі ў тым выпадку, калі цалкам немагчыма без яе абыйсьціся. Гэта можна назіраць ужо ў школе, дзе дзеці падначальваюцца, уключаючы гульні, тым правілам, якія яны самі ўсталёўваюць, і караюць сваіх аднакласнікаў за парушэнні, імі ж самімі прызначанымі. Тое ж самае мы сустракаем ва ўсіх сферах сацыяльнага жыцця. Уявім, загрувасьцілі вуліцу, праход абцяжараны, рух перапынены; людзі, жывучыя на гэтай вуліцы, адразу арганізуюць дарадчы камітэт; гэтае імправізаванае аб’яднанне робіцца выканаўчай уладай і знішчае зло, перш чым некаму прыйдзе ў галаву думка, што, акрамя гэтай выканаўчай улады, ажыццёўленай згуртаваннем зацікаўленых асоб, існуе іншая ўлада. Калі гаворка пойдзе пра святкаванне, людзі аб’ядноўваюцца, каб злучынымі намаганнямі надаць сьвяту большы бляск, зрабіць сьвяты больш рэгулярнымі. Нарэшце, з’яўляюцца аб’яднанні для змагання з так званым духоўным ворагам: напрыклад, супольна змагаюцца з кожнай нястрыманасьцю. У Злучаных Штатах аб’ядноўваюцца з мэтай захавання грамадзкай бяспекі, для ведання гандлю і развіцця прамысловасьці, там існуюць аб’яднанні, стаячыя на варце маралі, а таксама рэлігійныя. Усяго здольна дасягнуць чалавечая воля, у выпадку свайго вольнага праяўлення сябе прыводзячая ў дзеянне калектыўную магутнасць людзей.

Ніжэй у мяне будзе выпадак паведаміць пра тое, якім з’яўляецца ўплыў аб’яднанняў на грамадзянскае жыццё насельніцтва. Зараз жа я павінен засяродзіцца на палітычнай сферы.

Як толькі дзяржава прызнае за грамадзянамі права на аб’яднанне, яны могуць ім карыстацца па-рознаму.

Аб’яднанне ўзнікае тады, калі некаторая колькасць індывідаў публічна заяўляе пра сваю прыхільнасць да той ці іншай дактрыны, прызнаючы яе тым самым у якасьці асноўнай і бяручы на сябе абавязак абараняць яе. Права на аб’яднанне, такім чынам, амаль аб’ядноўваецца з воляй друкаванага слова, аднак аб’яднанне валодае большай магутнасьцю, чым прэса. Тая ці іншая думка, пададзеная ад асобы аб’яднання, павінна быць зразумелай і дакладна вызначанай. Аб’яднанне вядзе злічэнне сваіх прыхільнікаў і прыцягвае ўсё новых да сваёй справы. Яны вучацца пазнаваць адзін аднаго і іхная адданасць справе ўзрастае з павелічэннем іхнай колькасьці. Аб’яднанне збірае разам намаганні розных розумаў і энергічна накіроўвае іх да адзінай мэты, выразна паказанай ім самім.

Другі момант у выкарыстанні права на аб’яднанні складаецца ў магчымасьці збірацца разам, наладжваць сходы. Калі палітычнае аб’яднанне здольна наладзіць свае агмені дзеяння ў шэрагу важных кропак краіны, яно тым самым пашырае поле сваёй дзейнасьці і пашырае свой уплыў. На гэтых сходах людзі сустракаюцца, іхныя здольнасьці да актыўнай дзейнасьці аб’ядноўваюцца, яны гучна і палка выказваюць сваю думку, усё гэта недаступна для думкі, выяўленай пісьмова.

І нарэшце, апошняе, што вынікае із карыстання правам палітычнай асацыяцыі: сябры аднаго аб’яднання пры патрэбе робяцца згуртаваннем выбарцаў і абіраюць са сваіх шэрагаў прадстаўнікоў у цэнтральную палітычную арганізацыю. Гэта, уласна кажучы, і ёсць сістэма прадстаўніцтва ў сярэдзіне адной партыі.

Такім чынам, спачатку людзей аб’ядноўваюць агульныя погляды, агульны светапогляд, паміж імі ўзнікаюць чыста духоўныя сувязі. Потым, на другім этапе, гэтыя ж людзі ўтвараюць невялікія згуртаванні, уяўляючыя сабой фракцыю партыі. І нарэшце, на трэццім этапе яны як бы ўтвараюць асобную нацыю ў асяроддзі ўсёй нацыі, сваё кіраванне ў асяроддзі дзяржаўнага кіравання. Іхныя дэлегаты, падобна дэлегатам ад большасьці, уяўляюць із сябе калектыўную магутнасць сваіх прыхільнікаў, і так жа, як і дэлегаты ад большасьці, яны лічаць сябе прадстаўнікамі нацыі, што надае ім вялікую маральную моц. Праўда, у адрозненні ад іх, яны не маюць права ствараць законы, але яны маюць права крытыкаваць тыя, якія дзейнічаюць і распрацоўваць законы загадзя, якімі яны, на іхную думку, павінны быць.

Я ўяўляю сабе народ, які цалкам не прызвычаіўся карыстацца воляй ці які ахоплены глыбокімі палітычнымі жарсьцямі. Каля большасьці, якая ўсталёўвае законы, я стаўлю меншасць, якая толькі абмяркоўвае іх і не бярэ ўдзел у прыняцці пастаноў па гэтых законах, і адзіная думка нараджаецца ў мяне: такое грамадзкае ўпарадкаванне схільна да вялікіх выпадковасьцей.

Паміж давядзеннем таго, што адзін закон лепш за іншы, і магчымасьцю замяніць горшы закон лепшым, без сумневаў, адлегласць немалая. Але там, дзе розум асвечаных людзей яшчэ бачыць вялікую дыстанцыю, уяўленне натоўпу яе ўжо цалкам не заўважае. І здараюцца часы, калі нацыя амаль пароўну размяркоўваецца паміж двума партыямі, кожная з якіх прэтэндуе на тое, што менавіта яна прадстаўляе большасць нацыі. Тады, калі каля кіруючай партыі зацьверджваецца іншая, маральны аўтарытэт якой амаль такі ж, ці магчыма ўявіць, каб гэтая апошняя працяглы час брала ўдзел толькі ў абмеркаванні законаў, не звяртаючыся да дзеянняў?

Ці спыніць яе такое метафізічнае разважанне, паводле якога мэтай аб’яднанняў з’яўляецца накіраванне грамадзкай думкі, а не прымушэнне яго; выказванне прапаноў у адрас выпрацоўваемага закон, а не стварэнне самога закона?

Чым глыбей я паглыбляюся ў праблему незалежнасьці прэсы ў яе асноўных праявах, тым больш пераконваюся, што ў сучасных народаў незалежнасць прэсы – гэта нешта фундаментальнае, і я б сказаў, асноўны складнік волі як такой. Народ, жадаючы застацца вольным, мае права патрабаваць чаго б гэта ні каштавала, каб гэтая воля паважалася. Аднак неабмежаваную волю асацыяцый не варта змешваць з воляй друку: першая адначасова і менш патрэбная і больш небяспечная, чым другая. Нацыя можа абмежаваць яе, не губляючы над сабой кантроль; часам яна павінна так зрабіць, каб выжыць.

У Амерыцы воля ствараць палітычныя арганізацыі неабмежавана.

Прыклад, які я прывяду, лепш, чым усё, што я мог бы паведаміць, пакажа, да якой ступені памяркоўна там да гэтага ставяцца.

Усе памятаюць, наколькі пытанне тарыфу і волі гандлю ўсхвалявала розумы ў Амерыцы. Тарыф не толькі спрыяў узнікненню новых грамадзкіх плыняў ці выказваў на іх нейкі іншы ўплыў, ён непасрэдна закранаў магутныя матэрыяльныя зацікаўленасьці. Поўнач часткова менавіта яму прыпісвала заслугу ў сваім росквіце, Поўдзень злучаў менавіта з ім усе свае цяжкасьці. Можна сказаць, што працяглы час тарыф быў адзіным узбуджальнікам палітычных жарсьцяў, хваляваўшых Звяз.

У 1831 годзе, калі напал жарсьцяў дасягнуў сваёй вышэйшай кропкі. Нейкаму невядомаму грамадзяніну із Масачусетса прыйшла ў галаву думка прапанаваць, з дапамогай газет, усім ворагам тарыфу выправіць дэпутатаў у Філадэльфію, каб разам вывучыць усе сродкі, здольныя вярнуць гандлю волю. Гэтая прапанова за некалькі дзён дзякуючы ўжо існаваўшым друкарням прайшла шлях ад Мэна да Новага Арлеана. Ворагі тарыфу паставіліся да яе горача. Яны з’ехаліся з усіх канцоў, вылучылі дэпутатаў. Большасць із іх былі людзьмі вядомымі, а некаторыя нават і знакамітымі. Паўднёвая Караліна, якая пазьней не раз бралася за зброю, абараняючы гэтую ж самую справу, выправіла шэсцьдзесят тры дэлегаты. 1 кастрычніка 1831 года асамблея, якая згодна з амерыканскай традыцыяй звалася канвент, сабралася ў Філадэльфіі; на ёй прысутнічала больш двух соцень сябраў. Абмеркаванні вяліся адкрыта і з першага дня мелі дачыненне да пытанняў заканадаўства; разглядаліся пытанні пра памеры ўлады кангрэса, пра тэарэтычныя падствы волі гандлю і, нарэшце, розныя захады маючыя дачыненне да тарыфаў. Асамблея працавала дзесяць дзён, яе ўдзельнікі склалі зварот да амерыканскага народа і раз’ехаліся. У гэтым звароце гаварылася пра тое, што: 1) кангрэс не меў права ўсталёўваць тарыф, а існуючы тарыф неканстытуцыйны; 2) адсутнасць вольнага гандлю не можа адпавядаць зацікаўленасьцям якога б там ні было народа, і асабліва амерыканскага.

Патрэбна прызнаць, што неабмежаваная воля ў стварэнні палітычных арганізацый да гэтага часу не прывяла ў Амерыцы да злавесных вынікаў, як гэтага, магчыма, чакалі за яе межамі. Права вольнага аб’яднання ў разнастайныя арганізацыі прыйшло ў Амерыку із Ангельшчыны і, такім чынам, у Злучаных Штатах існавала заўсёды. Карыстанне гэтым правам сёння стала звычкай, гэта знаходзіць адлюстраванне і ў норавах амерыканцаў.

У наш час воля ствараць палітычныя аб’яднанні стала патрэбнай гарантыяй у змаганні з тыраніяй і ў супрацьстаянні большасьці. У Злучаных Штатах, калі нейкая партыя робіцца кіруючай, уся ўлада пераходзіць у яе рукі; яе самыя заўзятыя прыхільнікі займаюць усе адказныя пасады, пад іхным кіраваннем выяўляюцца і ўсе адміністрацыйныя структуры. Бачныя дзеячы іншай партыі, застаўшайся за парогам улады, павінны мець права аб’яднаць свае магутнасьці; і гэтая меншасць павінна мець магчымасць супрацьставіць уладзе, якая іх пачне прыцiскаць, магутнасць маральнага ўплыву на масы. Вядома, гэта небяспечна, аднак існуе яшчэ большая небяспека.

Усемагутнасць большасьці мне ўяўляецца такой пагрозай для амерыканскіх рэспублік, што кожны сродак, выкарыстоўваемы для абмежавання яе ўсёўладдзя, я разглядаю як выгоду.

А зараз я маю намер падзяліцца думкай, нагадваючай маё выказванне пра грамадзянскія вольнасьці: палітычныя аб’яднанні, здольныя абмежаваць дэспатызм

партый ці самаволю кіраўніка асабліва неабходны ў краінах з дэмакратычным рэжымам. Там жа, дзе ва ўладзе знаходзіцца арыстакратыя, іншыя станы ўтвараюць натуральныя аб’яднанні, з’яўляючыяся бар’ерам для злоўжывання ўладай. У тых краінах, дзе адсутнічаюць падобныя станавыя аб’яднанні, людзі самі павінны ствараць нешта замяняючае іх і рабіць гэта хутка. Я ж, папраўдзе, не бачу іншага сродку, які мог бы служыць перашкодай для тыраніі. І вялікі ж народ можа патрапіць пад бяскарны прыгнёт купкі мяцежнікаў ці аднаасобна кіруючага тырана.

Сход вялікага палітычнага канвента (ёсць і іншыя канвенты), які можа быць выкліканы патрэбай, нават у Амерыцы з’яўляецца падзеяй вельмі важнай і тыя хто жадае дабра гэтай краіне, ставяцца да яго з вызначанай доляй жаху.

Гэта падмацоўваецца канвентам 1831 года, на якім усе намаганні бачных дзеячоў, браўшым у ім удзел, звяліся да таго, каб звузіць абмяркоўваемыя праблемы і памякчыць форму іхнага абмеркавання. Можна выказаць здагадку, што канвент 1831 года зрабіў вялікі ўплыў на незадаволеных і падрыхтаваў іх да адкрытага выступлення ў 1832 годзе супраць гандлёвых законаў Звязу.

Немагчыма не прызнаць, што із усіх магчымых вольнасьцей народ менш усяго можа дазволіць сабе неабмежаваную волю асацыяцый у сферы палітыкі. Калі яна не мае наступствам анархію, то ўвесь час набліжае, так бы мовіць, да краю гэтай бездані. У гэтай такой небяспечнай вольнасьці закладзены і дадатныя гарантыі: у краінах, дзе існуе воля стварэння асацыяцый, адсутнічаюць таемныя згуртаванні. У Амерыцы, напрыклад, існуюць мяцежнікі, але адсутнічаюць змоўшчыкі.

*Як разумеецца права на аб’яднанні ў Яўропе і ў Злучаных Штатах Амерыкі; як карыстаюцца гэтым правам там і тут.*

Самай натуральнай для чалавека з’яўляецца вольнасць дзейнічаць самастойна, у адзіноце. Наступным натуральным крокам чалавека з’яўляецца аб’яднанне сваіх намаганняў з намаганнямі сабе падобных дзеля сумеснай дзейнасьці. Права на асацыяцыі я разглядаю як неад’емнае права чалавечага грамадства, такое ж натуральнае, як індывідуальная воля. Той заканадаўчай уладзе, якая пажадала б знішчыць гэтае права, давялося б стаць супраць усяго грамадства. Тым часам у адных народаў вольнасць аб’яднання ў нейкія грамадствы дабрадзейная, яна спрыяе іх росквіту, тады як іншыя народы, марнатравячы ёю, пераіначаючы яе, ператвараюць яе із жыццядзейнай магутнасьці ў магутнасць разбуральную. Мне здаецца, што параўнанне шляхоў развіцця згуртаванняў у тых краінах, дзе вольнасць іхнага стварэння разумеецца слушна, і ў іншых краінах, дзе яна даходзіць да ўсёдазволенасьці, было б карысным як для ўрадаў, так і для партый.

Большасць еўрапейцаў да гэтага часу бачаць у палітычных згуртаваннях зброю змагання, спехам прыгатаваную, каб хутчэй выпрабаваць яе на поле бітвы. Прыхільнікі той ці іншай ідэі аб’ядноўваюцца як бы з мэтай абменьвацца думкамі, але асноўная думка, якая цікавіць іх, – як перайсьці да дзеянняў. Згуртаванне – гэта войска. Сябры аб’яднання збіраюцца разам, каб абмеркаваць нейкія пытанні, выявіць аднадумцаў і, натхніўшыся, выступіць супраць ворага. З боку гледжання сябраў згуртавання, легальныя сродкі адносяцца да сродкаў барацьбы, але не з’яўляюцца адзінымі сродкам, з дапамогай якіх можна дамагчыся поспеху.

Зусім інакш трактуецца права на згуртаванні ў Злучаных Штатах. У Амерыцы сябры згуртавання, складаючага меншасць, перадусім, маюць жаданне ведаць, колькі іх, таму што іхнай першай мэтай з’яўляецца – паслабіць маральны ўплыў большасьці. Другая мэта, якую яны ставяць перад сабой, – гэта выявіць усе магчымасьці, якія могуць быць выкарыстаны, каб зрабіць ціск на большасць, таму што іхная канчатковая мэта, на ажыццяўленне якой яны цьвёрда спадзяюцца, – перацягнуць на свой бок большасць і такім чынам захапіць уладу.

Такім чынам, у Злучаных Штатах палітычныя згуртаванні згодна са сваёй сутнасьцю мірныя і карыстаюцца ў сваім змаганні законнымі сродкамі. І калі яны заяўляюць, што жадаюць дамагчыся поспеху толькі законным шляхам, яны, па-сутнасьці, кажуць праўду.

Адрозненне, існуючае паміж палітычнымі згуртаваннямі ў Амерыцы і ў нас, тлумачыцца шэрагам нагод.

У Яўропе існуюць партыі, якія згодна са сваімі ідэямі і мэтамі выяўляюцца такімі далёкімі ад партый прадстаўляючых большасць, што яны не могуць разлічваць на іхную падтрымку. Але гэтыя партыі лічаць сябе дастаткова моцнымі, каб змагацца з большасьцю. Калі адна із такіх партый стварае палітычнае згуртаванне, яна ставіць сабе на мэце не пераконваць, а перамагаць. У Амерыцы існуюць людзі, абсалютна нязгодныя з кіруючай большасьцю, але яны не перашкаджаюць ёй кіраваць: усе астатнія маюць жаданне далучыцца да гэтай большасьці.

Такім чынам, рэалізацыя права на згуртаванні робіцца небяспечнай у выпадку, калі буйныя партыі краіны ўжо не ўяўляюць большасьці. У такой краіне, як Злучаныя Штаты Амерыкі, дзе адрозненні ў перакананнях і светапоглядах асноўнай масы людзей не істотныя, права на згуртаванні можа заставацца, так бы мовіць, неабмежаваным.

Нагода, тлумачая, чаму мы да гэтага часу бачым у вольнасьці стварэння згуртаванняў толькі права на аб’яўшчэння вайны ўраду, складаецца ў адсутнасьці ў нас досьведу карыстання вольнасьцю як такой. Першая думка, якая нараджаецца ў людзей, стварыўшых нейкую партыю, дарэчы, так жа як і ў асобнага чалавека, калі прыходзіць адчуванне сваёй моцы, – гэта думка пра гвалт; упэўненасць у сабе, перакананасць прыходзяць пазьней, яны нараджаюцца із досьведу.

Ангельцы, хаця і вельмі моцна адрозніваюцца паміж сабой, рэдка злоўжываюць вольнасьцю стварэння згуртаванняў, таму што ў іх большы досьвед карыстання гэтым правам.

У нашым жа характары, да ўсяго іншага, існуе такі баявы дух, што мы лічым для сябе ганарам памерці са зброяй у руках, бяручы ўдзел у якім заўгодна неразважлівым здзяйсненні, аж да такога, які здольны разбурыць падмуркі дзяржаўнай улады.

Аднак, самай важнай нагодай, ляжачай у падмурку адрознення паміж амерыканскімі палітычнымі згуртаваннямі і нашымі, нагодай, стрымліваючай гвалтоўныя дзеянні палітычных згуртаванняў у Злучаных Штатах, я лічу наяўнасць там усеагульнага выбарчага права. Калі ў краіне прынята ўсеагульнае выбарчае права, зразумела, на чыім баку большасць, таму што ніхто не можа ўсумніцца ў тым, што большасць, якая заняла месца ў дзяржаўным кіраванні, з’явілася там у выніку выбараў; з боку ж гледжання цьвярозага розуму ніводная партыя не можа прадстаўляць тых, хто не браў удзел у галасаванні. Такім чынам, кожнае палітычнае згуртаванне ведае, што яно не ўяўляе большасьці, ведаюць пра гэта і

ўсе грамадзяне краіны. Гэта выцякае із самога факта існавання гэтых згуртаванняў, таму што, калі б было інакш, яны б самі замянялі законы, замест таго каб патрабаваць ад урада іхнай рэформы.

Дзякуючы гэтай нагодзе маральная магутнасць ўрада вельмі ўзрастае, і адпаведна паслабляюцца магчымасьці палітычных згуртаванняў. Возьмем Яўропу: тут практычна няма ніводнай палітычнай партыі, якая не лічыла б сябе выразнікам зацікаўленасьцей большасьці. Гэтыя дамаганні і, можна нават сказаць, гэта ўпэўненасць вельмі моцна спрыяе ўмацаванню іхнага становішча ў краіне і служыць выдатным апраўданнем пачынаемых імі дзеянняў. Хіба не з’яўляецца выбачальным ўжыванне гвалту дзеля ўрачыстасьці справы, злучанай са змаганнем за парушаныя правы?

Такім чынам, чалавечыя законы з’яўляюцца такімі складанымі, што пад час некаторых перыядаў вышэйшая вольнасць нейтралізуе злоўжыванні вольнасьцю наогул і вышэйшая дэмакратыя папярэджвае небяспекі, злучаныя з дэмакратыяй наогул.

У Яўропе палітычныя згуртаванні лічаць сябе заканадаўчымі і выканаўчымі установамі народа, які сам па сабе выступіць не ў стане; грунтуючыся на гэтай ідэі, яны дзейнічаюць і кіруюць. У Амерыцы ж такія згуртаванні ў вачах яе грамадзянаў прадстаўляюць меншасць народа, а таму яны карыстаюцца прамовамі і складаннем петыцый.

У Яўропе сродкі, якімі карыстаюцца палітычныя згуртаванні, адпавядаюць той мэце, якую яны ставяць перад сабой.

Асноўная мэта гэтых згуртаванняў – дзейнічаць, а не разважаць, змагацца, а не пераконваць. Натуральна, у выніку яны прыйшлі да такога тыпу згуртаванняў, якія ніяк не падобны на грамадзкія: норма паводзін яе сябраў і выкарыстоўваемая лексіка запазычаны ў вайскоўцаў, пабудаваны яны грунтуючыся на прынцыпе цэнтралізму, кіраванне ўсімі іхнымі магутнасьцямі знаходзіцца на верхняй прыступцы і ўлада засяроджана ў руках невялікай купкі людзей.

Сябры гэтых згуртаванняў рэагуюць на кожны загад, як жаўнеры на вайне; яны прызнаюць догму пасіўнага падпарадкавання, больш дакладна кажучы, аб’яднаўшыся, яны як бы разам адмовіліся як ад свайго ўласнага меркавання, так і ад сваёй уласнай волі. У шэрагах гэтых згуртаванняў нярэдка пануе тыранія, яшчэ больш невыносная, чым тыранія ўрада, з якім яны змагаюцца.

Гэта адмоўна адбіваецца на іхнай маральнай магутнасьці. Іхнае змаганне губляе свой сьвяты характар, які злучаюць з ім прыгнечаныя, змагаючыся з прыгнятальнікамі. Дзякуючы таму што той, хто дае згоду цалкам падпарадкоўвацца ў нейкіх выпадках камусьці із шэрагу сабе падобных, таму хто пазбавіць яго ўласнай волі, падначаліць яго сабе, і не толькі яго, але і яго думкі, – як такі чалавек здольны пераканаць, што ён жадае быць вольным?

Што да амерыканцаў, яны таксама стварылі ў асяроддзі сваіх палітычных згуртаванняў сістэму кіравання, але гэта, калі можна так выказацца, грамадзянскае кіраванне. Асабістая воля там не душыцца, роўна як і ва ўсім грамадстве, дзе людзі, жывучыя ў адзін і той жа час, ідуць да адной мэты, але не абавязаны ўсе абіраць адзін і той жа шлях. У амерыканскіх палітычных згуртаваннях ніхто не прыносіць у ахвяру сваю волю і розум, наадварот, воля і розум кожнага спрыяюць дасягненню поспеху ў агульнай справе.

# Глава V

## Пра дэмакратычны ўрад у Амерыцы

Я аддаю сабе справаздачу ў тым, што закранаю небяспечную вобласць. Кожнае слова гэтай часткі так ці інакш закране шматлікія партыі існуючыя ў маёй краіне. І ўсё ж я выкажу ўсё, што думаю.

У Яўропе вельмі цяжка вызначыць сапраўдны характар пастаянных рухаючых магутнасьцей дэмакратыі, таму што ў Яўропе змаганне ідзе паміж двума процілеглымі прынцыпамі і не ведаеш дакладна, што ж у гэтым змаганні адпавядае самім прынцыпам, а што з’яўляецца не чым іншым, як запалам, народжаным гэтым змаганнем.

У Амерыцы ж цалкам інакш. Там без перашкод кіруе народ; ён не баіцца небяспек, не помсціць за лаянку, чуючуюся ў яго адрас.

У гэтай краіне ў дэмакратыі свае ўласныя рысы. Яна выяўляе сябе натуральным чынам, развіццё яе вольнае. Судзіць пра яе патрэбна з улікам усяго гэтага. І для каго ж, як не для нас, вывучэнне гэтай дэмакратыі і цікава, і карысна? Мы ж неадольна рухаемся наперад, штодня; ідзём у цемры, магчыма, да дэспатызму, магчыма, да рэспублікі, але бяспрэчна да дзяржавы дэмакратычнай згодна са сваім грамадзкім уладкаваннем.

## Пра ўсеагульнае выбарчае права

Я ўжо выказваўся пра тое, што ўсе штаты Звязу прынялі ўсеагульнае выбарчае права. З ім пагадзілася насельніцтва, знаходзячаяся на розных сацыяльных прыступках. У мяне была магчымасць назіраць вынікі яго ўздзеяння ў самых розных месцах, там, дзе адрозненні ў мове, спавяданні рэлігіі і адрозненні ў норавах рабілі людзей амаль чужымі адзін аднаму.

У Новай Ангельшчыне было так жа, як у Луізіяне; у Канадзе так жа, як у Джорджыі. І я заўважыў, што ў Амерыцы ўсеагульнае выбарчае права цалкам не з’яўляецца крыніцай усяго найлепшага і ўсіх нястач, як таго чакаюць у Яўропе, і што наступствы рэалізацыі гэтага права ў агульным выяўляюцца іншымі, не такімі як лічылася.

## Пра рашэнні народа і асаблівасьці амерыканскай дэмакратыі, адлюстроўваючыяся ў гэтых рашэннях

–У Злучаных Штатах рэдка заклікаюць самых выдатных людзей краіны ўзначаліць кіраўніцтва дзяржаўнымі справамі. –Пра падставы гэтай з’явы. –Зайздрасць, наладжваючая ў Францыі ніжэйшыя станы супраць вышэйшых, з’яўляецца не французскім нацыянальным пачуццём, а дэмакратычным. –Чаму ў Амерыцы выбітныя людзі часьцяком самі адмаўляюцца ад палітычнай кар’еры.

У Яўропе шмат хто верацьці кажуць, што вераць, што адной із галоўных пераваг усеагульнага выбарчага права з’яўляецца магчымасць прыцягнуць да кіравання дзяржавай людзей, годных даверу народа. Яны лічаць, што народ не здолее кіраваць самастойна, але ён заўсёды шчыра жадае даброт сваёй краіне, і таму яго прыродны нюх яму пакажа на тых, хто апантаны тым жа жаданнем і хто больш здольны ўтрымаць уладу ў сваіх руках.

Што да мяне, то я павінен сказаць, што пабачанае мной у Амерыцы дазваляе мне лічыць, што справа ідзе цалкам не так. Яшчэ напачатку свайго знаходжання ў Амерыцы я зрабіў уразіўшае мяне адкрыццё: як шмат годных людзей сярод тых, кім кіруюць, і як мала іх сярод тых, хто кіруе. Для сучаснай Амерыкі рэдкае знаходжанне на дзяржаўных пасадах выбітных людзей – звычайная з'ява. І патрэбна прызнаць, што гэта пачало назірацца па меры развіцця дэмакратыі. Цалкам відавочна, што за апошнюю палову стагоддзя амерыканскія дзяржаўныя дзеячы значна падрабнелі.

Можна паказаць на шэраг нагод, тлумачачых гэтую з'яву.

Немагчыма, як ні спрабуй, падняць узровень асьветы народа вышэй вызначанай рысы. Колькі ні рабі больш даступнымі веды назапашаныя чалавецтвам, колькі ні паляпшай метады навучання навукам і ні палягчай зразумеласць гэтых навук – усё марна, таму што ніколі не будзе так, каб людзі павялічвалі сваю адукацыю і развівалі свой інтэлект не выдаткуючы на гэта час.

Ад таго, як складаецца жыццё ніжэйшых станаў, колькі вольнага часу ім пакідае іхная праца, непазбежна залежыць дасягненне імі свайго узроўню інтэлектуальнага развіцця. У адных краінах гэты узровень вышэй, у іншых ніжэй. Мяжы інтэлектуальнага развіцця ніжэйшых пластоў грамадства можа не быць у тым выпадку, калі іх перастануць турбаваць матэрыяльныя заклапочанасьці, клопаты пра забеспячэнне жыцця. Але тады яны перастаюць быць ніжэйшымі станамі. Як цяжка ўявіць сабе грамадства, у якім усе людзі вельмі асьвечаныя, так цяжка ўявіць сабе і дзяржаву, дзе ўсе грамадзяне заможныя; вось дзьве ўзаемазлучаныя цяжкасьці. Я ахвотна пагаджуся з тым, што шырокія масы грамадзянаў вельмі шчыра жадаюць даброт сваёй краіне; я нават пайду далей і скажу, што ніжэйшыя станы грамадства, як мне здаецца, увогуле, дамешваюць да гэтага жадання менш асабістай зацікаўленасьці, чым вышэйшыя станы; але чаго ім больш-менш увесь час нехапае, дык гэта ўменне выбраць сродкі пры шчырым жаданні дамагчыся мэты. Як доўга патрэбна вывучаць чалавека, колькімі рознымі патрэбнымі разуменнямі патрэбна авалодаць, каб скласьці сабе дакладнае ўяўленне пра характар толькі аднаго чалавека! Вялікія розумы тут губляюцца, а натоўп здольны з гэтым справіцца?! У яго ніколі не знаходзіцца ні часу, ні магчымасьцей, каб заняцца такой працай. Яму заўсёды патрэбна, каб рашэнне прынімалася хутка, а пастаўленая мэта была б вельмі вызначанай. Вось чаму разнастайныя шарлатаны добра ведаюць сакрэт, як спадабацца народнай масе, тады як сапраўдныя сябры часьцей усяго не маюць у яе поспеху.

Дарэчы, дэмакратыі заўсёды нехапае здольнасьцей абраць годных людзей, ёй не хапае жадання і схільнасьці да гэтага.

Патрэбна прызнацца, што дэмакратычныя інстытуты спрыяюць развіццю ў высокай ступені пачуцця зайздрасьці ў сэрца чалавека. І гэта не таму, што яны прапануюць кожнаму роўныя магчымасьці, а таму, што гэтых магчымасьцей не дастае тым, хто імі карыстаецца. Дэмакратычныя інстытуты абуджаюць жарснае жаданне роўнасьці, патураюць гэтаму жаданню, ніколі не маючы магчымасьці яго цалкам задаволіць. Гэтая поўная роўнасць штодня выслізгвае із рук народа ў той момант, калі народу здаецца, што ён ужо ўхапіў яе, і збягае, ці, як выказваецца Паскаль, ператвараецца ў стан бясконцага збягання. Народ жа прыходзіць у стан узрушанасьці, імкнучыся знайсьці гэтую даброту, асабліва каштоўную для яго таму, што ён амаль ведае, што гэта такое, таму, што яна як быццам бы побач, пад рукамі і ў той жа час яна даволі далёка, так што яе немагчыма паспрабаваць.

Надзея на поспех яго хвалюе, няўпэўненасць у яго дасягненні раздражняе; ён узбуджаецца, стамляецца, злуецца. Усё, што вышэй яго разумення, яму здаецца перашкодай для ажыццяўлення яго жаданняў, а кожная перавага коле яму вока.

Шмат хто лічыць, што закладзенае ў асяроддзі ніжэйшых станаў імкненне адхіліць наколькі магчыма прадстаўнікоў вышэйшых станаў ад кіравання дзяржаўнымі справамі – з'ява чыста французская. Гэта памылковая думка. Уласцівасць, пра якую я разважаю, не французскага паходжання, яна – дэмакратычная. Абставінам, злучаным з палітыкай, атрымалася надаць гэтай уласцівасьці асабліва горкі прысмак, але не яны спарадзілі яе.

У Злучаных Штатах народныя масы не адчуваюць ніякай нянавісьці да вышэйшых станаў грамадства, але і асаблівай прыхільнасьці да іх яны таксама не адчуваюць і старанна працівяцца пранікненню іх у кіруючыя ўстановы; не баязнь адчуваюць яны перад таленавітымі людзьмі, а яны іх дрэнна пераносяць. Увогуле, патрэбна пазначыць, што ўсё, што выяўляецца паспяховым без непасрэднага ўдзелу ў гэтым народа, з цяжкасьцю знаходзіць яго падтрымку.

Прырода дэмакратыі з'яўляецца такой, што яна вымушае народныя масы не падпускаць выбітных людзей да ўлады, а гэтыя апошнія, кіруемыя не менш моцным прыродным пачуццём, бягуць ад палітычнай кар'еры, дзе цяжка заставацца самім сабой і ісьці па жыццю не апаганіўшыся. Менавіта гэтая думка так шчыра была выказана суддзёй Кентам. Гэты вядомы чалавек, выказаўшы ўхвалу таму пункту канстытуцыі, згодна з якім выканаўчай уладзе адводзіцца і роля суддзяў, пазначыў: «Можна выказаць здагадку, што людзі, найбольш годныя заняць службовыя пасады, валодаюць занадта стрыманымі манерамі і кіруюцца занадта строгімі прынцыпамі, каб мець калі-небудзь магчымасць сабраць большасць галасоў на выбарах, якія будуць праводзіцца на падставе ўсеагульнага выбарчага права» (Кент, Каментары: т. I, с. 272). Вось што бесперашкодна друкавалі ў Амерыцы ў 1830 годзе.

Для мяне цалкам зразумела, што тыя, хто разглядае ўсеагульнае выбарчае права як гарантыю добрага выбару, моцна памыляюцца. Ва ўсеагульнага выбарчага права існуюць іншыя перавагі, але толькі не гэтая.

## Пра нагоды здольныя ў нейкай ступені памякчыць тыя рысы дэмакратыі, пра якія я паведамляў вышэй

–Пра тое, як паводзіць сябе народ і наогул людзі, калі ім пагражае небяспека. –Чым тлумачыцца, што пяцьдзясят гадоў назад у Амерыцы дзяржаўнымі справамі кіравалі столькі выбітных людзей. –Які ўплыў робяць на абранне народам сваіх прадстаўнікоў асьвета і норавы. –Прыклад Новай Ангельшчыны. –Паўднёва-заходнія штаты. –Як некаторыя законы ўплываюць на выбіранне народам сваіх прадстаўнікоў. – Двухпрыступкавыя выбары. – Як ад гэтага залежыць склад сената.

Калі краіне пагражае сур'ёзная небяспека, народ, пра што часта сведчыць гісторыя, з радасьцю абірае на вярхоўныя пасады тых грамадзянаў, якія найбольш здольныя яго выратаваць.

Вядома, што чалавек перад тварам небяспекі рэдка застаецца самім сабой: ён або духоўна ўзвышаецца, або апускаецца. Тое ж самае адбываецца і з цэлым народам. Найвялікшыя выпрабаванні, падсьцерагаючыя краіны, замест таго каб узвысіць дух народа, руйнуюць яго; яны ўзбуджаюць яго жарсьці, але не накіроўваюць іх у патрэбнае рэчышча, трывожаць розум, але не прасвятляюць. Жыды забіваюць адзін аднаго пасярод парэшткаў разбураючагася Храма. Аднак

часьцей можна бачыць, як сама непазбежнасць небяспекі нараджае незвычайныя ўчыннасьці як у цэлых народаў, так і ў прыватных людзей. І вялікія характары выяўляюцца тады больш рэльефна, нібы манументы, якія хавала ноч і якія нечакана асьвяціў пажар. Дух народа не грэбуе самааднаўленнем і народ, узрушаны ўласнымі бедамі, на час забываецца пра свае жарсьці, народжаныя пачуццём зайздрасьці. У такія часы нярэдка можна бачыць, як у выніку выбарчай кампаніі з’яўляюцца знакамітыя імёны. Вышэй я ўжо выказваўся, што ў Амерыцы дзяржаўныя мужы нашага часу здаюцца ў параўнанні са сваім узроўнем значна больш нізкімі за тых, якія стаялі на чале дзяржавы пяцьдзясят гадоў назад. Гэта залежыць не столькі ад законаў, колькі ад акалічнасьцей. Калі Амерыка змагалася за самую справядлівую справу ў сьвеце, за тое, каб ніводзін народ не быў заняволены іншым, калі гаворка ішла пра тое, каб падтрымаць з’яўленне новай нацыі, тады душы ўсіх людзей расчыняліся каб іхныя ўзнёслыя намаганні былі на узроўні гэтай ганаровай мэты. У гэтым усеагульным парыве выбітныя людзі былі наперадзе народа, і ён уласнымі рукамі паставіў іх на чале сябе. Але падобныя падзеі адбываюцца рэдка, і высновы патрэбна рабіць, грунтуючыся на звычайнай плыні жыцця.

Калі нейкім выпадковым падзеям часам атрымліваецца пераадолець дэмакратычныя жарсьці, то асьвета і норавы выказваюць на прыхільнікаў дэмакратыі не толькі не менш моцны, але яшчэ і больш устойлівы ўплыў. Гэта добра бачна на прыкладзе Злучаных Штатаў.

У Новай Ангельшчыне, дзе асьвета і воля з’яўляюцца дочкамі маралі і рэлігіі, дзе грамадзкае ўладкаванне сфармавалася даўным-даўно і таму ў яго ўжо існуюць свае традыцыі і правілы, народ, не аддаючы перавагу тым перавагам, якія надаюць людзям заможнасць і нараджэнне, прызвычаіўся паважаць перавагу інтэлектуальную і маральную і ахвотна падначальвацца ім: вось чаму менавіта ў Новай Ангельшчыне дэмакратыя дазволіла выбраць лепшых людзей, што не заўсёды атрымоўвалася зрабіць у іншых месцах.

Цалкам іншае мы назіраем па меры пасоўвання да поўдня краіны. У тых штатах, дзе сацыяльныя сувязі выяўляюцца менш старажытнымі і менш моцнымі, дзе адукацыя не так пашырана і дзе маральныя, рэлігійныя прынцыпы і прынцыпы волі не вельмі арганічна спалучаюцца, усё радзей і радзей сустракаюцца сярод урадаўцаў людзі, нададзеныя талентам і ўчыннасьцямі.

Калі трапляеш у новыя штаты на Паўднёвым захадзе краіны, туды, дзе сацыяльная структура, толькі ўчора сфармаваная, прадстаўлена пакуль толькі згуртаваннем авантурыстаў і спекулянтаў, адчуваеш нейкую разгубленасць пры выглядзе таго, у чыіх руках знаходзіцца ўлада, і пытаеш сябе, якая ж магутнасць, не залежачая ад законаў і людзей, можа прывесьці ў такіх умовах дзяржаву да ўзрастання, а грамадства да росквіту.

Варта прызнаць, што існуюць законы, хаця і дэмакратычныя адпаведна з прыродай, аднак дазваляючыя ў нейкай ступені памякчыць небяспечныя ўласцівасьці дэмакратыі.

Калі вы заходзіце ў залу паседжанняў палаты прадстаўнікоў у Вашынгтоне, вас уражвае вульгарнае відовішча гэтага вялізнага сходу. Ваша вока дарэмна спрабуе знайсьці сярод вялікай колькасьці асоб хаця б адну знаёмую. Амаль усе сябры асамблеі – нейкія невядомыя асобы, іхныя імёны не выклікаюць у вашай памяці ніякай выявы. Большай часткай гэта вясковыя адвакаты, камерсанты і

прадстаўнікі ніжэйшых станаў. У краіне, дзе адукацыя пашырана амаль паўсюдна, кажуць, што прадстаўнікі народа не ўмеюць правільна пісаць.

Побач знаходзіцца зала паседжанняў сената. У маленькім памяшканні сабралася вялікая частка знакамітых людзей Амерыкі. Там не пабачыш ніводнага чалавека, чыё знакамітае імя не было б свежым у вашай памяці. Гэта – славутыя адвакаты, выбітныя генералы, таленавітыя суддзі ці вядомыя дзяржаўныя дзеячы. Усе прамовы, якія вы пачуеце на гэтай асамблеі, зрабілі б гонар самым выбітным парламенцкім паседжанням у Яўропе.

Адкуль гэты дзіўны кантраст? Чаму эліта нацыі знаходзіцца ў гэтай зале, а не ў іншай? Чаму на першым паседжанні прысутнічае столькі пасрэдных людзей, тады як сумежнае памяшканне, падобна, валодае манаполіяй на таленты і веды? А між іншым дэпутаты як палаты прадстаўнікоў так і сената паходзяць із народа і тыя і іншыя былі абраны шляхам усеагульнага галасавання і ніхто ў Амерыцы да гэтага часу не сказаў, што сенат нібы-та варожа ставіцца да народных зацікаўленасьцей. Адкуль жа гэтае кідаючаяся ў вочы адрозненне? Я бачу гэтаму толькі адно тлумачэнне: абіранне ў палату прадстаўнікоў – прамое, тады як абіранне ў сенат – двухпрыступкавае. Усе грамадзяне кожнага штата ўсеагульным галасаваннем абіраюць заканадаўчыя установы штата. Адпаведна з федэральнай канстытуцыяй гэтыя заканадаўчыя установы ўяўляюць сабой выбарчы корпус і ўжо із асяроддзя яго дэпутатаў абіраюцца сябры сената. Сенатары, такім чынам, хаця і не непасрэдна, абіраюцца ўсеагульным галасаваннем, таму што выбарчы корпус із сябраў якога яны абіраюцца, не з’яўляецца адпаведна са сваім складам арыстакратычным ці прывілеяваным. Тыя, хто трапляе ў яго склад, не карыстаюцца асобным выбарчым правам, абумоўленым паходжаннем; іхнае абранне залежыць галоўным чынам ад удзелу ў галасаванні ўсіх грамадзянаў; выбары адбываюцца, звычайна, штогадова і выбаршчыкі заўсёды маюць магчымасць, выкарыстаўшы сістэму выбараў, абнавіць склад сената. Народнай волі дастаткова прайсьці праз гэты абіраемы сход, каб перамяніцца і выйсьці адтуль ужо ўбраным у новую форму, больш высакародную і выдатную. Людзі, абраныя такім шляхам, заўсёды дакладна прадстаўляюць большасць народа, які кіруе; аднак яны з’яўляюцца выразнікамі толькі высокіх ідэй, маючых пашырэнне ў народзе, і адлюстроўваюць яго шляхетныя рысы, а ніяк не дробныя захапленні, часта бунтуючыя яго, і не заганы, ганьбуючыя яго.

Няцяжка ўявіць сабе, што ў будучыні наступіць момант, калі амерыканскія рэспублікі будуць вымушаны пашырыць двухпрыступкавую сістэму галасавання на ўсе абіраемыя ўстановы перад небяспекай безсэнсоўна разбіцца аб падвадныя камяні дэмакратыі.

Я ж, прызнаюся, бачу ў двухпрыступкавай сістэме выбараў адзіны сродак зрабіць палітычную волю даступнай для ўсіх станаў народа. Мне здаецца, што ў роўнай ступені памыляюцца як тыя, хто спадзяецца зрабіць із гэтага сродку зброю, належачую выключна адной партыі, так і тыя, хто асьцерагаецца гэтага.

## Пра ўплыў амерыканскай дэмакратыі на выбарчыя законы

–Калі выбары ў краіне бываюць рэдка, дзяржава можа зведаць сур’ёзным крызісы. –Калі ж яны частыя, яна знаходзіцца ўвесь час у стане ліхаманкавай узрушанасьці. –Із гэтых двух небяспек амерыканцы выбралі другую. –Непастаянства закона. –Думка Гамільтона, Мэдысона і Джэферсона з нагоды гэтага пытання.

Калі выбарчыя кампаніі ў краіне прызначаюцца рэдка, дзяржава кожны раз рызыкуе зведаць вялікія ўзрушэнні.

Усе партыі прыкладаюць магутныя намаганні, каб завалодаць фартунай, якая так рэдка даецца ім у рукі. Боль, якую выпрабоўваюць праваліўшыяся кандыдаты, няма чым загаіць, і патрэбна асьцерагацца з іхнага боку дзеянняў, сілкуемых амбіцыямі, пераходзячымі ў роспач. Калі ж, наадварот, вядома, што хутка зноў будзе існаваць магчымасць пачаць раўнапраўнае змаганне, пераможаныя паводзяць сябе цярпліва.

Калі ж выбары прызначаюцца часта, гэта падтрымлівае ў грамадстве ліхаманкавую ўзрушанасць і няўстойлівасць у грамадзкіх справах.

Такім чынам, з аднаго боку, дзяржава можа зведваць цяжкасьці, з другога – ёй можа пагражаць рэвалюцыя. Першая сістэма перашкаджае дзяржаве выявіць добрыя пачаткі, а другая пагражае самаму існаванню дзяржавы.

Амерыканцы аддалі перавагу першаму злу перад другім. І ў гэтым выпадку яны грунтаваліся на прыродным інстынкце, а не на розуме, схільнасць да перамен дэмакратыя давяла да запалу. Вынікам гэтага з'явілася тая адмысловая няўстойлівасць, якую мы сустракаем у заканадаўстве.

Шмат хто із амерыканцаў глядзяць на нестабільнасць дзяржаўных законаў як на непазбежныя недахопы існуючай сістэмы, якая, па сутнасьці, з'яўляецца карыснай для грамадства. І ніхто ў Злучаных Штатах, як мне здаецца, не будзе адмаўляць існаванне гэтай нестабільнасьці і лічыць яе вялікім злом.

Гамільтон, прызнаўшы карыснай тую ўладу, якая магла б перашкодзіць прыняццю дрэнных законаў ці прынамсі затрымаць іхнае правядзенне ў жыццё, дадае: «Магчыма, мне запярэчаць, сказаўшы, што тая ўлада, якая здолее папярэдзіць з'яўленне дрэнных законаў, у стане перашкодзіць і з'яўленню добрых законаў. Гэта пярэчанне не задаволіла б тых, хто здольны вывучыць усе нашы бедствы, паходзячыя ад непастаяннасьці і зменлівасьці закона. Нестабільнасць законаў – гэта самы вялікі недахоп, у якім можна было б папракнуць нашы ўстановы ўлады». («Самыя сур'ёзныя недахопы ў характары і стане нашага кіравання», «Федэраліст», № 73).

«Лёгкасць, з якой пераманяюцца законы, – выказваецца Мэдысон, – і перавышэнне заканадаўчай улады мне ўяўляюцца самымі небяспечнымі хваробамі, да якіх можа выявіць схільнасць наш урад» («Федэраліст», № 62).

Сам Джэферсон, самы дэмакратычны із усіх дэмакратаў, выйшаўшых із улоння амерыканскай дэмакратыі, звярнуў увагу на тыя ж небяспекі.

«Нестабільнасць нашых законаў – гэта сапраўды вельмі сур'ёзная нязручнасць, – сказаў ён. – Я лічу, што мы павінны былі б прыняць адпаведныя захады і прыняць рашэнне, што паміж прадстаўленнем закона і канчатковым галасаваннем па гэтаму закону павінен прайсьці год. Потым яго патрэбна абмеркаваць, а далей прагаласаваць за яго ўхваленне, пасьля чаго ў ім ужо немагчыма будзе пераманіць ніводнага слова, а калі абставіны запатрабуюць больш хуткага рашэння, то прапанова не зможа быць прынята непасрэднай большасьцю, а толькі дзвума трацінамі галасоў як у адной так і ў другой палаце»[173].

## Дзяржаўныя ўрадаўцы пры амерыканскай дэмакратыі

–Амерыканскія дзяржаўныя ўрадаўцы нічым не адрозніваюцца ад іншых грамадзянаў краіны. –Яны не носяць адмысловага адзення. –Усе дзяржаўныя ўрадаўцы атрымліваюць

[173] Ліст Мэдысану ад 20 снежня 1787 года.

заробкі. – Вынікаючыя із гэтага палітычныя наступствы. –У Амерыцы не існуе кар’еры, злучанай з дзяржаўнай дзейнасьцю як такой. –Што із гэтага вынікае.

У Злучаных Штатах дзяржаўныя ўрадаўцы нічым не вылучаюцца сярод іншых грамадзянаў краіны; у іх няма ні палацаў, ні аховы, ні адмысловага адзення. Такую прастату тых, хто злучаны з кіраваннем дзяржавай, немагчыма патлумачыць толькі асобным амерыканскім складам думак, яна знаходзіцца ў непасрэднай залежнасьці ад тых прынцыпаў, якія ляжаць у падмурку грамадзкага ўладкавання гэтай краіны.

У вачах дэмакратыі ўрад – гэта не выгода, гэта – непазбежнае зло. Дзяржаўным урадаўцам патрэбна надаць некаторую ўладу, без гэтай улады якая ж у іх карысць? Аднак не існуе ніякай патрэбы ў вонкавых прыкметах улады, справе гэта не дапамагае. Наадварот, кідаючыяся ў вочы адзнакі ўлады раздражняюць людзей.

Самі службовыя асобы дзяржаўнага кіравання выдатна адчуваюць, што права ўзвысіцца над іншымі з дапамогай атрыманай улады яны дамагліся, толькі пераняўшы манеры гэтых іншых і такім чынам параўнаўшыся з імі.

Не магу сабе ўявіць нікога, хто б дзейнічаў так спакойна, быў бы такім для ўсіх дасягаемым, такім уважлівым да прашэнняў і так пачціва адказваючым на вашы пытанні, як амерыканскія дзяржаўныя ўрадаўцы.

Мне вельмі падабаюцца такія натуральныя паводзіны дэмакратычнага ўрада. У яго ўнутранай моцы, крыніца якой не пасада ўрадаўцы, а функцыя, якую ён выконвае ў дзяржаве, не вонкавыя прыкметы яго прыналежнасьці да ўлады, а сам чалавек, я бачу сапраўдную мужнасць, сталасць, і гэта мяне захапляе.

Што ж да ўплыву, які можа мець адзенне дзяржаўнага службоўцы, яго строй, то я лічу, што значнасць гэтых вонкавых атрыбутаў пад час такога стагоддзя, як наша, моцна перабольшана. У Амерыцы я не раз быў сведкам таго, як у дачыненні да дзяржаўнага службоўцы выяўлялася столькі ўвагі і павагі, колькі заслугоўвала яго дзейнасць і яго асабістыя якасьці.

Акрамя гэтага, я вельмі сумняваюся, каб адмысловае адзенне магло спрыяць самапавазе гэтых людзей ці павазе іх адзін да аднаго, калі яны да таго не размешчаны, таму што немагчыма паверыць, што гэтыя людзі ставяцца з большай павагай да свайго адзення, чым да сябе самога.

Калі мне даводзіцца бачыць у нас некаторых ахоўнікаў закона, груба размаўляючых з бакамі ўдзельнічаючымі ў судовым працэсе, або практыкуючыхся ў дасьціпнасьці ў іхны адрас, паціскаючых плячамі ў адказ на захады здзяйсняемыя абаронай і спагадліва ўсміхаючыхся пры пераліку абвінавачванняў, у мяне ўзнікае жаданне, каб з іх знялі прызначаны ім адпаведна з пасадай строй, каб паглядзець, ці не згадаюць яны, апынуўшыся апранутымі як простыя грамадзяне, пра прыродныя вартасьці роду чалавечага.

Ніводная дзяржаўная служба ў Злучаных Штатах не мае адмысловай формы, але ўсе дзяржаўныя службоўцы атрымліваюць утрыманне.

І гэта з’яўляецца вынікам дэмакратычных прынцыпаў у яшчэ большай ступені, чым тое, пра што ішла гаворка вышэй. Дэмакратычны рэжым можа атачыць пышнасьцю сваіх прадстаўнікоў улады, ахоўнікаў закона, апрануць іх у шоўк і золата, не турбуючыся непасрэдна на крыніцы іхнага існавання. Падобныя прывілеі праходзячыя, яны злучаны з месцам, а не з чалавекам. А вось усталяваць дармовыя, неаплочваемыя пасады – гэта ўжо азначае спрыяць з’яўленню стана заможных і незалежных дзяржаўных службоўцаў, гэта азначае стварыць ядро

арыстакратыі. Калі народ яшчэ захоўвае права выбару, ажыццяўленне гэтага права неадменна абмежавана.

Калі мы бачым, што нейкая дэмакратычная рэспубліка абвяшчае пра неаплочваемасць тых дзяржаўных пасад, за якія раней належала плата, можна з упэўненасьцю сказаць, што яна рухаецца ў накірунку да манархіі. А калі манархія пачынае аплочваць пасады, раней неаплочваемыя, гэта дакладны знак таго, што манархія рухаецца да дэспатычнага рэжыму ці да рэспублікі.

Скасаванне ўзнагароды за пасады, раней аплочваемыя, на мой погляд, ужо само па сабе ўяўляе сапраўдную рэвалюцыю.

Поўную адсутнасць неаплочваемых дзяржаўных пасад у Амерыцы я разглядаю як адну із найбольш выдавочных прыкмет поўнай улады дэмакратыі. Паслугі здзяйсняемыя на карысць грамадства, якімі б яны ні былі, аплочваюцца, такім чынам – кожны мае не толькі права, але і магчымасць іх выконваць.

Калі ў дэмакратычнай дзяржаве ўсе грамадзяне маюць права дамагацца пасады, месца для служэння грамадству, гэта не азначае, што ўсе будуць да таго імкнуцца. І не званне вылучаемага кандыдата, а колькасць і якасць вылучаемых кандыдатур часта абмяжоўвае выбар выбарцаў.

У тых народаў, у якіх прынцып абіраемасьці пашыраецца на ўсё, не існуе палітычнай кар’еры ў чыстым выглядзе. Людзі трапляюць на дзяржаўныя пасады ў нейкім сэнсе выпадкова, і ў іх няма ніякай упэўненасьці ў тым, што яны там затрымаюцца. Асабліва калі выбары праходзяць штогадова. А адсюль вынікае, калі ў краіне спакойна дзяржаўныя пасады выглядаюць малапрывабнымі для славалюбівых людзей. У Злучаных Штатах на звілісты шлях палітычнай кар’еры накіроўваюцца людзі ўмераных поглядаў і жаданняў. Людзі вялікага таленту і моцных жарсьцяў, звычайна, пазбягаюць грамадзкіх пасад каб накіраваць свае здольнасьці на дасягненне багацця. Часта бывае так: калі чалавек адчувае сябе няздольным да паспяховага вядзення сваёй уласнай справы, ён адважваецца вырашаць лёсы дзяржавы.

Гэтыя нагоды, а таксама дрэнны выбар, зроблены дэмакратыяй, тлумачаць той факт, што на дзяржаўных пасадах часта сядзяць людзі пасрэдныя, абывацелі. Не ведаю, ці абіраў бы амерыканскі народ на дзяржаўныя пасады людзей із самых вышэйшых пластоў грамадства, тых, што сталі б дамагацца яго сімпатый; відавочна адно – яны гэтага не дамагаюцца.

## Пра правы ахоўнікаў закона[174] пры паўналаддзі дэмакратыі ў Амерыцы

–Чаму ахоўнікі закона валодаюць большай уладай пры абсалютнай манархіі і ў дэмакратычных рэспубліках, чым пры абмежаванай манархіі. –Улада ахоўнікаў закона ў Новай Ангельшчыне.

Існуе два тыпы дзяржаўнага ўладкавання, пры якім у дзейнасьці ахоўнікаў закона выяўляецца шмат самаволі: пры аднаасобным кіраванні, абсалютнай манархіі, і пры ўсеўладдзі дэмакратыі.

Гэта адбываецца з нагоды некаторага падабенства паміж гэтымі рэжымамі.

У дэспатычных дзяржавах лёс прыватнай асобы не гарантаваны, няхай гэта будзе дзяржаўны ўрадавец ці нейкая іншая асоба. Манарх, у руках якога

[174] Я карыстаюся словаспалучэннем «ахоўнік закона» ў самым агульным, шырокім сэнсе слова: ім я пазначаю ўсіх тых, у чые абавязкі ўваходзіць сачыць за выкананнем законаў.

знаходзяцца жыццё, дабрабыт, а нярэдка і гонар людзей, якіх ён трымае ў сябе на службе, лічыць што яму няма чаго іх баяцца. А таму ён ім надае вялікую волю дзеянняў, будучы ўпэўненым у тым, што яны ніколі не скарыстаюцца гэтым супраць яго.

У дэспатычных дзяржавах манарх так захоплены сваёй уладай, што асьцерагаецца, як бы яго ж уласныя правілы не абмяжавалі гэтую ўладу. І ён аддае перавагу таму каб бачыць, што яго падначаленыя дзейнічаюць у некаторым сэнсе, як ім будзе пажадана; гэта дае яму ўпэўненасць у тым, што ён ніколі не сустрэне ў іхных асобах супраціўлення сваім жаданням.

У дэмакратычных дзяржавах большасць, маючая магчымасць штогадова забіраць уладу ў тых, каму яна яе даручыла, таксама не баіцца, што гэта можа быць выкарыстана супраць яе самой. Маючы права ў кожны момант заявіць пра сваю волю ўраду, яна, тым не менш, лічыць для сябе за лепшае пакінуць урадаўцаў самім сабе і не абмяжоўваць іхную дзейнасць цьвёрдымі правіламі, таму што абмяжоўваючы яе, яна ў вызначанай ступені абмяжоўвае і сябе.

Больш уважлівае вывучэнне гэтых двух рэжымаў прыводзіць нават да такога адкрыцця: пры поўнаўладдзі дэмакратыі самаволя ахоўнікаў закона з’яўляецца яшчэ большай, чым у дэспатычных дзяржавах.

У гэтых дзяржавах манарх у нейкі момант мае магчымасць пакараць усіх здзейсніўшых парушэнне закона, калі ён гэта выявіць; праўда, яму не давядзецца павіншаваць сябе з тым, што ён выявіў усе злачынствы, падлягаючыя пакаранню. У дэмакратычных дзяржавах, наадварот, кіраўнік дзяржавы і ўсемагутны, і як бы ўсюды прысутнічае адначасова. Таму мы бачым, што амерыканскія дзяржаўныя дзеячы значна больш вольна дзейнічаюць у межах акрэсленых законам, чым дзяржаўныя дзеячы ў Яўропе. Нярэдка ім толькі пазначаецца мэта, да якой яны павінны рухацца, права выбару сродкаў застаецца за імі.

У Новай Ангельшчыне, напрыклад, выбраным асобам ад кожнай злучыны надаецца права складаць спісы прысяжных засядальнікаў і адзіным патрабаванне, надаваемым ім, з’яўляецца наступным: яны павінны выбраць прысяжных із ліку грамадзянаў маючых права голасу і маючых добрую рэпутацыю[175].

У Францыі мы б палічылі, што жыццё і воля чалавека знаходзяцца ў небяспецы, калі мы даручым нейкаму дзяржаўнаму службоўцу, якім бы ён ні быў, рэалізоўваць такое небяспечнае права.

А ў Новай Ангельшчыне тыя ж ахоўнікі закона маюць магчымасць вывешваць у кабарэ спісы п’яніц і забараняць прадаваць ім віно, а ў выпадку парушэння прызначаць асобам, прадаўшым віно, штрафы[176].

Падобнае публічнае асуджэнне абурыла б народ у краіне самай што ні на ёсць абсалютнай манархіі; тутака ж народ без цяжкасьцей гэтаму падначальваецца.

Ні пры адным рэжыме закон не надае такой волі беззаконню, як пры паўнаўладнай дэмакратыі, таму што ў дэмакратычных рэспубліках беззаконне,

---

[175] Гл. Закон ад 27 лютага 1813 года. – Агульны збор законаў штата Масачусетс, т. II, с. 331. Варта дадаць, што далей адпаведна з працэдурай цягнулі жэрабя, грунтуючыся на спісе кандыдатур прысяжных. Так з дапамогай жэрабя вызначалі іхны склад.

[176] Закон ад 28 лютага 1787 года. – Гл. Агульны збор законаў штата Масачусетс, т. I, с. 302: «Выбраныя асобы ад кожнай злучыны вывешваюць у кожнай краме, у кожным кабарэ, заездным двары спісы людзей, вядомых як п’яніцы, гульцы, марнуючыя як свой час, так і сваю маёмасць у гэтых установах, і папярэджваюць усіх раздробных гандляроў і гаспадароў пазначаных устаноў, што, калі яны будуць падаваць ці прадаваць выпіўку гэтым асобам або дазваляць ім гуляць і распіваць спіртныя напоі ў сваіх установах, ім будзе прызначаны штраф».

здаецца, не выклікае адчування баязні. Можна нават сказаць, што вартавы закона там робіцца больш вальным, па меры таго як выбарчае права ўсё часьцей дае магчымасць патрапіць на гэтыя пасады прадстаўнікам самых ніжэйшых пластоў грамадства, а тэрмін знаходжання на пасадзе робіцца ўсё больш абмежаваным.

Адсюль вынікае, што дэмакратычнай рэспублiцы перарасьці ў манархічную дзяржаву надзвычай цяжка. Вартавы закона, перастаючы быць абіраемым, захоўвае звычайна ўсе правы і звычкі абіраемай асобы. Такім чынам, утвараецца дэспатычны рэжым.

Толькі пры абмежаванай манархіі закон з аднаго боку, акрэслівае кола дзейнасьці дзяржаўных службоўцаў, а з другога – бярэ на сябе заклапочанасць кіраваць кожным іхным крокам у гэтых межах.

Нагоду гэтага лёгка патлумачыць.

У абмежаваных манархіях улада падзелена паміж народам і манархам. І той і другі зацікаўлены ў тым, каб становішча вартавых закона было стабільным.

Манарх не жадае даручаць лёс сваіх урадаўцаў народу праз баязнь, што тыя нанясуць шкоду яго ўладдзе, народ жа са свайго боку непакоіцца, што калі вартаўнікі закона будуць у абсалютнай залежнасьці ад манарха, то яны пачнуць абмяжоўваць волю; такім чынам, вартавых законаў не ставяць у поўную залежнасць ні ад аднаго, ні ад іншага.

Адна і тая ж падстава прыводзіць манарха і народ да думкі пра незалежнасць дзяржаўных урадаўцаў і да пашукаў гарантый, забяспечваючых немагчымасць злоўжывання гэтай незалежнасьцю – каб яна не павярнулася супраць улады манарха ці супраць волі народа. Абодва бакі прыходзяць да пагаднення, што патрэбна загадзя вызначыць кола дзейнасьці і лінію паводзін дзяржаўных службоўцаў і ў адпаведнасьці з зацікаўленасьцямі абодвух бакоў выпрацоўваюцца правілы, ад якіх урадаўцы не павінны адыходзіць.

## Адміністрацыйная нестабільнасць у Злучаных Штатах

–У Амерыцы нярэдка грамадзкія акцыі пакідаюць значна меншы сьлед, чым дзейнасць нейкай сям'і. – Газеты – адзіныя помнікі гісторыі. –Якім чынам крайняя адміністрацыйная нестабільнасць шкодзіць дзяржаўнаму кіраванню.

Дзяржаўныя ўрадаўцы нядоўга знаходзяцца на пасадзе; пакінуўшы свае пасады, яны губляюцца ў натоўпе сабе падобных, які і сам увесь час перамяняецца. З нагоды гэтага ў Амерыцы грамадзкія акцыі часта пакідаюць меншы сьлед, чым дзейнасць звычайнай сям'і. Дзяржаўнае кіраванне ў гэтай краіне ажыццяўляецца адпаведна з традыцыяй вусна, што азначае не пішацца, а калі часам і пішацца, то тут жа і знікае, падобна лістам Сівілы ад ветру разлятаючыхся ў розныя бакі.

Адзінымі гістарычнымі помнікамі ў Злучаных Штатах з'яўляюцца газеты. Калі раптам знікае адзін нумар, ланцуг часу як бы перапыняецца: сёняшняе і мінулае не злучаюцца. Я не сумняваюся, што праз пяцьдзясят гадоў сабраць праўдзівыя дакументы паведамляючыя пра падрабязнасьці грамадзкага жыцця амерыканцаў у наш час, будзе не лягчэй чым знайсьці дакументы пра дзяржаўнае кіраванне ў Францыі пад час сярэднявечча. А калі ўявіць сабе, што на Злучаныя Штаты раптам напалі варвары і захапілі іх, то, каб нешта даведацца пра народ насяляючы зараз Злучаныя Штаты, давядзецца звяртацца да гісторыі іншых нацый.

Нестабільнасць у дзяржаўным кіраванні робіцца звыклай; я мог бы амаль з упэўненасьцю сказаць, што сёння тут кожны, на прыканцы, прыняў гэтую нестабільнасць як належнае. Ніхто не заклапочваецца з нагоды таго, што рабілася

да яго пад час кіравання яго папярэдніка. Ніхто не пераймае нічыіх метадаў кіравання, не складае зборнікаў правіл, не збірае дакументы нават і тады, калі зрабіць гэта не ўяўляе вялікіх цяжкасьцей. Нават калі выпадкова яны апынаюцца ў наяўнасьці, ім не надаюць ніякага значэння, не бачачы ў гэтым каштоўнасьці. У маіх паперах знаходзяцца сапраўдныя дакументы, якія мне былі дадзены ў дзяржаўных установах у якасьці адказу на некаторыя із маіх пытанняў. Ствараецца ўражанне, што амерыканскае грамадства жыве адным днём, як войска ў вайсковым паходзе. А тым часам мастацтва дзяржаўнага кіравання – гэта, без сумневаў, цэлая навука. І як усе навукі, каб паспяхова развівацца, яна мае патрэбу ў абагульненні вынаходніцстваў розных пакаленняў. Адзін чалавек за кароткі перыяд свайго жыцця звяртае ўвагу на нейкую з’яву, у іншага нараджаецца ідэя; гэты адкрыў нейкі спосаб, а той склаў формулу. Чалавецтва, ідучы па жыцці, збірае розныя вынікі індывідуальнага досьведу, такім шляхам ствараюцца навукі. Тое, што амерыканскія дзяржаўныя дзеячы нічога не пераймаюць адзін у аднаго, дадае складанасьці да кіравання грамадствам. У выніку іхная дзейнасць засноўваецца на тых ведах, якія яны чэрпаюць у самым грамадстве, а ў рэчаіснасьці яны павінны валодаць уласнымі ведамі і імі кіравацца. Такім чынам, дэмакратыя, даведзеная да крайняй мяжы свайго развіцця, шкодзіць паспяховаму развіццю мастацтва кіравання дзяржавай. Грунтуючыся на гэтым, можна сказаць, што дэмакратыя больш дапасуе таму народу, адміністрацыйная адукацыя якога ўжо завершана, а не народу, які з’яўляецца навічком у дзяржаўных справах.

Дарэчы, гэта мае дачыненне не толькі да навукі кіравання. Дэмакратычны ўрад, дзейнасць якога засноўваецца на такой прастой і такой натуральнай ідэі, заўсёды лічыць, што грамадства, якім ён будзе кіраваць, павінна быць высокараспрацаваным, цывілізаваным, у якім як узровень адукацыі, так і ўзровень навук высокі[177].

Пры першым поглядзе на гэтую праблему складаецца ўражанне, што дэмакратычнае кіраванне павінна было з’явіцца з першымі крокамі развіцця чалавечага грамадства на зямлі; больш пільны погляд выкрывае, што яно павінна з’явіцца апошнім, то бок пры дасягненні грамадствам высокага узроўню развіцця.

## Дзяржаўныя падаткі пры дэмакратычным кіраванні ў Амерыцы

У кожным грамадстве людзі падзяляюцца на станы. –Як уплывае кожны із гэтых станаў на фінансавае кіраванне ў дзяржаве. –Чаму пры народным кіраванні дзяржаўныя выдаткі маюць тэндэнцыю да ўзрастання. –Што робіць выдаткі дэмакратыі не такімі небяспечнымі ў Амерыцы. –Выкарыстанне дзяржаўных прыбыткаў дэмакратычным урадам.

Дэмакратычны ўрад – ці з’яўляецца ён эканомным? Але мы спачатку павінны вырашыць, з якім іншым урадам мы збіраемся яго параўноўваць.

Няцяжка было б адказаць на пастаўленае пытанне, калі б мы пажадалі правесьці паралель паміж дэмакратычнай рэспублікай і абсалютнай манархіяй. У гэтым выпадку мы б выявілі, што грамадзкія, то бок дзяржаўныя, выдаткі у першым выпадку непараўнальна больш высокія, чым у другім. Але, тое ж самае можна сказаць пра ўсе вольныя дзяржавы ў параўнанні з тымі, якія такімі не з’яўляюцца. Цалкам відавочна, што дэспатызм даводзіць людзей да галечы не даючы ім вырабляць, не кажучы ўжо пра тое, што ён забірае ў іх вынікі

[177] Залішне нагадваць, што тут я маю на ўвазе дэмакратычны ўрад у дачыненні да якога-небудзь народа, а не да маленькага племені.

вытворчасьці; з павагай ставячыся да дасягнутага багацця, ён спусташае саму крыніцу багацця. Вольнасць жа, наадварот, стварае ў тысячу разоў больш даброт, чым разбурае. І ў вольных нацый народныя сродкі павялічваюцца значна хутчэй, чым падаткі.

Для мяне важна параўнаць паміж сабой вольныя народы і, здзейсніўшы гэтае параўнанне, вызначыць, які ўплыў выяўляе дэмакратыя на дзяржаўныя фінансы.

Грамадства, як і кожнае арганізаванае згуртаванне людзей, у сваім станаўленні кіруецца пэўнымі правіламі, адыходзіць ад якіх яно не мае магчымасьці. Гэтыя правілы складаюцца із некалькіх элементаў, якія з’яўляюцца непарушаемымі ва ўсе часы і ва ўсіх кропках зямлі.

Заўсёды будзе лёгка ідэальна падзяліць кожнае грамадства на тры станы.

Першы – гэта стан заможных. Другі складаецца із усіх тых, хто, хаця і не з’яўляецца заможным, але жыве ў поўным дастатку. Трэцці стан складаецца із тых, хто валодае невялікай уласнасьцю ці цалкам яе не мае і жыве галоўным чынам за кошт той працы, якую яму даюць два першыя станы.

Колькасць індывідаў складаючых гэтыя тры грамадзкія катэгорыі, можа быць большай ці меншай у залежнасьці ад сацыяльнага ўладкавання, але вы нічога не здольны зрабіць, каб самі гэтыя катэгорыі перасталі існаваць.

Канчаткова ж, кожны із гэтых станаў дадасць да кіравання фінансамі дзяржавы нешта сваё, уласьцівае толькі яму.

Уявіце сабе, што толькі першы стан – стан заможных – будзе займацца складаннем законаў: хутчэй усяго, ён будзе мала клапаціцца пра эканомію дзяржаўных сродкаў, таму што падатакі, якія сплачваюць прадстаўнікі заможнага стану, забіраюць толькі лішак і таму яны малаадчувальныя для прадстаўнікоў гэтага стану.

Зараз будзем лічыць, што складаннем законаў займаюцца толькі сярэднія станы. Можна разлічваць на тое, што яны не будуць схільнымі марнатравіць падаткі, таму што няма нічога больш спусташальнага чым вялікія зборы, якімі абкладаецца не вялікая маёмасць.

Урад створаны сярэднімі станамі, як мне здаецца, павінен быць сярод іншых вольных урадаў, не скажу што самым адукаваным, дасьведчаным, ні тым больш самым шчодрым, але самым эканомным. Нарэшце, будзем лічыць, што складанне законаў даручана цалкам трэццяму стану. І адпаведна з маёй думкай, шмат што сведчыць за тое, што падаткі павялічацца, замест таго каб паменшыцца. І таму я бачу дзьве нагоды.

Перадусім вялікая частка тых, хто прымае законы, не мае такой уласнасьці, якая абкладаецца падаткамі і таму ім здаецца, што ўсе грошы, ідучыя на грамадства, прыносяць ім выгаду, а ні ў якім разе не шкоду. І тыя, якія маюць невялікую ўласнасць, спрытна знаходзяць спосаб прызначыць такія падаткі, якімі б абкладаліся толькі заможныя і якія прыносілі б выгаду толькі бедным. Гэта тое, што ніколі не здолелі б зрабіць заможныя, будзь яны ва ўладзе.

У краінах, дзе выключна немаёмасным[178] было б нададзена права прымаць законы, немагчыма чакаць вялікай эканоміі ў дзяржаўных выдатках: гэтыя выдаткі заўсёды будуць значнымі або таму, што падаткі не закрануць тых, хто за іх галасуе, або таму што людзі, ухваляючыя законы, будуць недасягальнымі. Інакш кажучы,

[178] Зразумела, што слова «немаёмасны» мае тут адносны, а не абсалютны сэнс. Немаёмасныя ў Амерыцы ў параўнанні з такімі ў Яўропе часьцей былі б прылічаны да заможных. Аднак іх можна назваць немаёмаснымі, калі правесьці параўнанне з іхнымі суграмадзянамі, з тымі, хто яшчэ больш заможны.]

дэмакратычны ўрад – гэты адзіны ўрад, дзе той, хто прымае законы пра падаткі, м магчымасць пазбегнуць іхнага выплочвання.

Мне запярэчаць, і дарэмна, што засцерагаць багацце заможных – гэта адпавядае зацікаўленасьцям народа і што ў адваротным выпадку ў краіне неадкладна будуць адчувацца фінансавыя цяжкасьці. Хіба не адпавядае зацікаўленасьцям каралёў зрабіць сваіх падданых шчаслівымі і ці не адпавядае зацікаўленасьцям шляхты, спрыяючы гэтаму, дазволіць доступ у свае шэрагі? Калі б зацікаўленасць, маючая дачыненне да далёкай будучыні, была ў стане пераадолець жарсьці і патрэбы бягучага дня, на сьвеце ніколі не было б ні манархаў-тыранаў, ні вышэйшай арыстакратыі.

Мне зноў запярэчаць, кажучы: а хто, уласна кажучы, палічыў магчымым даручаць складанне законаў немаёмасным, без удзелу іншых? Хто? Тыя, хто ўсталяваў закон пра ўсеагульнае выбарчае права. А хто ўхваляе законы: большасць ці меншасць? Вядома, большасць. І калі я сведчу, што бедныя заўсёды складаюць большасць у краіне, то хіба я не маю рацыі, сцвярджаючы, што ў краінах, дзе ім дазволена галасаваць, менавіта яны і ўхваляюць законы?

Такім чынам, вядома, што да сённяшняга дня большасць нацыі складаюць тыя, у каго няма ўласнасьці, ці тыя, у каго ўласнасць такая невялікая, што яны не маюць магчымасьці жыць у дастатку не працуючы. Усеагульнае выбарчае права, такім чынам, на самай справе дае грамадству ўрад для маламаёмасных.

Нават у некаторых дэмакратычных рэспубліках старажытнасьці мы знаходзім сведчанні дрэннага ўплыву народнай улады на дзяржаўныя фінансы, калі дзяржаўны скарб спусташаўся таму, што сродкі з яго марнаваліся на дапамогу немаёмным грамадзянам ці на ўладкаванне гледзішчаў з гульнямі і спектаклямі для народа.

Праўда, варта сказаць, што пад час старажытнасьці была практычна невядомай сістэма прадстаўніцтва ў дзяржаўным кіраванні. А ў наш час народныя жарсьці не так відавочна выяўляюць сябе ў дзяржаўных справах; можна разлічваць, што з цягам часу абіраемая асоба, урэшце, будзе адпавядаць сваім выбарцам і пачне падзяляць іхныя густы і абараняць іхныя зацікаўленасьці.

Выдаткі дэмакратыі, дарэчы, выклікаюць менш баязні па меры таго, як народ робіцца ўласнікам, таму што тады народ, з аднаго боку, мае меншую патрэбу ў грашах заможных пластоў, а з другога – ён сустракаецца з вялікімі цяжкасьцямі пры прыняцці такога закона пра падаткі, які б яго менш уціскаў. З гэтага боку гледжання ўсеагульнае выбарчае права менш небяспечнае для Францыі, чым для Ангельшчыны, дзе ўласнасць, абкладаемая падаткам, засяроджана ў руках некалькіх сем'яў. Амерыка ж, дзе пераважаючая большасць грамадзянаў з'яўляюцца ўладальнікамі ўласнасьці, знаходзіцца ў больш спрыяльных умовах у параўнанні з Францыяй.

Існуюць і іншыя нагоды, могучыя спрыяць павелічэнню дзяржаўных выдаткаў пры дэмакратычным рэжыме.

Калі вярхоўная ўлада ў краіне знаходзіцца ў руках арыстакратыі, людзі, непасрэдна займаючыяся дзяржаўнымі справамі дзякуючы свайму паходжанню, не адчуваюць ні ў чым патрэбы і, задаволеныя сваім лёсам, яны імкнуцца галоўным чынам зрабіць краіну магутнай і набыць ёй славу. Пастаўленыя над цёмным натоўпам суграмадзянаў яны не заўсёды выразна разумеюць, якім чынам усеагульны дабрабыт павінен спрыяць іхнай уласнай велічы. Справа цалкам не ў тым, што яны бязлітасныя і абыякава пазіраюць на пакуты народа, проста яны не ў

стане адчуць бядотнасць яго становішча так, як калі б яны выпрабоўвалі гэта самі. Абы здавалася, што народ задаволены сваім лёсам і яны будуць пачуваць сябе здаволенымі і перакананымі ў тым, што нічога іншага і не патрабуецца ад дзяржаўнага кіравання. Арыстакратыя больш думае пра падтрыманне і захаванне існуючага, чым пра яго ўдасканаленне і паляпшэнне.

Калі ж, наадварот, дзяржаўная ўлада знаходзіцца ў руках народа, яе вышэйшыя ўстановы імкнуцца паўсюдна ўнесьці ўдасканаленні, інакш яму ніякавата.

Дух удасканалення пашыраецца на тысячы розных рэчаў; ён ахоплівае незлічоныя дробязі, робіцца неабмежаваным, асабліва калі гаворка ідзе пра такія ўдасканаленні, якія будуць мець сваім наступствам грошы. Справа ж у тым, што патрэбна паляпшаць умовы жыцця беднякоў, якія самі сабе дапамагчы не ў стане.

Акрамя таго, дэмакратычныя грамадствы заўсёды знаходзяцца ў нейкім руху не маючым вызначанай мэты, іх нібы-та ўвесь час ліхаманіць; у выніку ўсё гэта мае наступствам нейкія новыя пачынанні, а яны амаль заўсёды патрабуюць вялікіх выдаткаў.

Пры манархіі і пры арыстакратычным кіраванні кар’ерысты заахвочваюць натуральную схільнасць манарха да славы і пашырэння ўлады і такім чынам часта падштурхоўваюць яго да вялікіх выдаткаў.

Пры дэмакратычным кіраванні вышэйшае дзяржаўнае кіраўніцтва немаёмаснае. Яго прыхільнасьці можна дамагчыся толькі шляхам павелічэння яго дабрабыту, а дасягнуць гэтага, як вядома, заўсёды можна толькі з дапамогай грошай.

Больш таго, калі народ сам пачынае разважаць пра сваё становішча ў яго нараджаецца мільён патрэбаў, пра якія ён раней і не думаў і задаволіць якія можна толькі карыстаючыся дзяржаўнымі рэсурсамі. Із усяго гэтага вынікае, што звычайна дзяржаўныя выдаткі павялічваюцца з развіццём цывілізацыі, а падаткі павялічваюцца па меры пашырэння асьветы.

І нарэшце, існуе яшчэ адна апошняя нагода, дзякую якой дэмакратычны ўрад нярэдка каштуе даражэй, чым які б то ні было іншы. Часам і дэмакратычны ўрад пачынае выказваць схільнасць да эканоміі ў сваіх выдатках, аднак ён не ў стане гэта зрабіць, таму што не валодае мастацтвам эканоміі.

Дзякуючы таму што дэмакратыя часта перамяняе свае намеры і яшчэ часьцей перамяняе сваіх выканаўцаў гэтых намераў, здараецца, што задуманыя справы вядуцца дрэнна, а то і цалкам застаюцца незавершанымі. У першым выпадку дзяржава залучаецца ў выдаткі, непрапарцыйныя велічыні пастаўленай мэты, у другім – яна робіць непрадукцыйныя выдаткі.

## Якім чынам дэмакратычны ўрад амерыкі прызначае пенсіён дзяржаўным урадаўцам

–У дэмакратычных краінах тыя, хто ўсталёўвае высокі пенсіён, самі не могуць скарыстацца ім. –Тэндэнцыя да падвышэння пенсіёну другарадным дзяржаўным службоўцам і памяншэння яго самым высокім дзяржаўным урадаўцам. –Чаму так адбываецца. –Параўнальная табліца пенсіёнаў, атрымліваемых дзяржаўнымі службоўцамі ў Злучаных Штатах і ў Францыі.

Існуе сур’ёзная нагода вымушаючая дэмакратычныя ўрады, звычайна, эканоміць на дзяржаўных службоўцах.

У дэмакратычных краінах тыя, хто зацьвярджае ўзровень заробкаў, вельмі шматлікія, і таму ў іх мала шанцаў калі б там ні было самім яе атрымліваць.

Пры арыстакратычным кіраванні, наадварот, тыя, хто зацьвярджае высокія заробкі, заўсёды спадзяюцца скарыстацца вынікамі гэтага. Справа ў тым, што такім чынам яны ствараюць сабе капіталы ці, прынамсі, рыхтуюць крыніцы прыбыткаў для сваіх дзяцей.

Дарэчы, патрэбна прызнаць, што дэмакратычны ўрад так скупа паводзіць сябе толькі ў дачыненні да вышэйшых дзяржаўных дзеячаў.

У Амерыцы, напрыклад, другарадныя службоўцы маюць значна больш высокія заробкі, чым дзяржаўныя ўрадаўцы высокага рангу.

Адна і тая ж нагода спарадзіла процілеглыя вынікі. У абодвух выпадках народ усталёўвае заробкі дзяржаўным службоўцам, пры гэтым ён мае на ўвазе свае ўласныя патрэбы, параўноўвае і гэта параўнанне прыводзіць яго да вызначанага рашэння. Дзякуючы таму што сам народ жыве ў поўным дастатку, то ён лічыць цалкам натуральным, каб і тыя, чыімі паслугамі ён карыстаецца, таксама жылі б у дастатку[179]. Калі ж чарга даходзіць да прызначэння пенсіёну вышэйшым дзяржаўным урадаўцам, то тут ён як бы губляецца, яго звычайны падыход не спрацоўвае, і ён дзейнічае наўздагад.

Бедны не задумваецца над тым, якія патрэбы могуць быць у вышэйшых станаў грамадства. Тое, што для заможнага ўсяго толькі сьціплая сума, немаёмаснаму, цалкам задавальняючамуся неабходным, яна здаецца вялізнай; і ён лічыць, што кіраўнік штата, маючы свае дзьве тысячы экю, павінен адчуваць сябе шчаслівым і нават выклікаць зайздрасць[180].

Ну а калі вы пачнеце яму тлумачыць, што афіцыйны прадстаўнік такой вялікай нацыі павінен быць аточаны некаторай раскошай у вачах замежнікаў, ён вас зразумее, але толькі ў момант тлумачэння. Вярнуўшыся ж у думках да свайго простага жылля і сьціплых вынікаў сваёй працы, ён адразу памяркуе, што б ён сам здолеў бы зрабіць, май ён такія грошы, якія вы лічыце недастатковымі, і імгненна ўразіцца і нават напалохаецца, толькі ўявіўшы сабе гэтыя багацці.

Дадайце да гэтага, што другарадны дзяржаўны ўрадавец з’яўляецца блізкім да народа, ён амаль на яго узроўні, тады як вышэйшыя дзяржаўныя дзеячы – высока, яны над ім. І калі першы яшчэ можа выклікаць у яго сімпатыю, то ўжо іншыя, высокага рангу, пачынаюць выклікаць у яго зайздрасць.

Гэта вельмі добра бачна на прыкладзе Злучаных Штатаў, дзе па меры падвышэння рангу дзяржаўнага ўрадаўца яго пенсіён у адносным сэнсе памяншаецца[181].

---

[179] Забяспечанасць другарадных дзяржаўных урадаўцаў у Злучаных Штатах абумоўлена яшчэ і іншай нагодай, не ўпісваючайся ў асноўныя рысы дэмакратыі: кожная прыватная кар’ера высока аплочваецца; дзяржава не знойдзе для сваіх службаў другарадных урадаўцаў, калі не пагадзіцца ім добра плаціць. Яна апынецца ў становішчы камерцыйнага прадпрыемства, вымушанага, незалежна ад сваіх эканамічных схільнасьцей, прытрымлівацца абцяжарваючай канкурэнцыі.

[180] Напрыклад, урадавец штата Агаё, налічваючага мільён жыхароў, атрымлівае 1200 даляраў, ці 6504 франкі.

[181] Каб уявіць сабе гэта навочна дастаткова прааналізаваць грашовае ўтрыманне некаторых службовых асоб федэральнага ўрада. Я палічыў таксама патрэбным паказаць табліцу аплаты працы ўрадаўцаў, выконваючых аналагічныя функцыі ў Францыі, каб чытач, правёўшы параўнанне, мог атрымаць праўдзівае ўяўленне пра гэта.

Злучаныя штаты

Міністэрства фінансаў (фінансавы дэпартамент) тэхнічны службовец (кур’ер) 3 734 фр.

Службовец з самым малым заробкам 5 420

Службовец з самым вялікім заробкам 8 672

Пры кіраванні арыстакратыі ўсе якраз наадварот: буйныя ўрадаўцы атрымліваюць вельмі вялікія пенсіёны, тады як у дробных часам ледзь хапае на што жыць. Усё гэта лёгка патлумачыць нагодамі, аналагічнымі тым, якія пазначаліся вышэй.

Калі дэмакратыя не ў стане спасьцігнуць задавальненняў заможнага чалавека ці зайздросьціць ім, то і арыстакратыя ў сваю чаргу не разумее патрэб немаёмаснага чалавека ці, больш дакладна, не ведае пра іх. Бедны чалавек у літаральным сэнсе слова не падобны на заможнага чалавека, гэта як бы істота іншага парадку. Арыстакратыя не вельмі заклапочана лёсам сваіх падначаленых із ніжэйшых пластоў грамадства. Яна павялічвае ім пенсіён толькі ў выпадку адмовы абслугоўваць яе за вельмі нізкую плату.

Дэмакратычнаму ўраду прыпісваюцца вялікія эканамічныя здольнасьці, якіх у яго няма. А адбываецца гэта дзякуючы тэндэнцыі злучанай з дэмакратычным кіраваннем: эканоміць на ўтрыманні вышэйшых дзяржаўных дзеячоў.

Сапраўды, дэмакратыя прызначае тым, хто кіруе дзяржавай, такі пенсіён, на які ледзь можна сумленна жыць і разам з тым выдаткуюцца вялізныя сумы на задавальненне патрэб народа і на наладжванне народных гулянняў[182]. Гэта – самае лепшае выкарыстанне паступленняў ад падаткаў, але не эканомія.

Наогул кажучы, дэмакратычнае кіраванне мала дае кіруючым і шмат тым, кім кіруюць. Цалкам процілеглае становішча мы назіраем пры арыстакратах, калі дзяржаўныя грошы даюць найбольшую карысць галоўным чынам таму стану, які кіруе.

## Цяжкасьці, злучаныя з вызначэннем падставаў, заахвочваючых амерыканскі ўрад да эканоміі

Сур'ёзныя памылкі чакаюць таго, хто спрабуе, засноўваючыся на фактах, вызначыць рэчаісны ўплыў, здзяйсняемы законамі на лёс чалавецтва, таму што няма нічога больш цяжкага, чым ацаніць факт.

---

Генеральны сакратар (кіраўнік) 10 840
Міністр (дзяржаўны сакратар) 32 520
Кіраўнік урада (прэзідэнт) 135 000

Францыя, Міністэрства фінансаў

Тэхнічны службовец пры міністру 1 500 фр.
Службовец з самым малым заробкам ад 1 000 да 1800
Службовец з самым вялікім заробкам ад 3 200 да 3600
Генеральны сакратар 20 000
Міністр 80 000
Кіраўнік урада (кароль) 12 000000.
Магчыма, я не маю рацыі, бяручы для параўнання Францыю. У Францыі дэмакратычныя настроі з кожным днём усё больш пракрадаюцца ва ўрад, у сувязі з чым ужо заўважаецца з'явіўшаяся ў парламенце тэндэнцыя павялічваць утрыманне малааплочваемым і асабліва – памяншаць высокааплочваемым. Так, міністр фінансаў, які ў 1834 годзе атрымаў 80 000 франкаў, у часы Імперыі атрымліваў 160 000; генеральныя дырэктары, кіраўнікі фінансамі, атрымаўшыя 20 000, атрымлівалі ў той час 50 000

[182] Звярніце ўвагу, колькі ў амерыканскім бюджэце адводзіцца на ўтрыманне немаёмасных і на дармавую адукацыю. У 1831 годзе ў Штаце Нью-Ёрк на ўтрыманне немаёмасных было выдаткавана 1 290 000 франкаў. А сума, выдаткоўваемая на народную адукацыю, даходзіць сама меней да 5 420 000 франкаў (Уільямс. Штогадовы даведнік па Нью-Ёрку, 1832, с. 205, 243). Штат Нью-Ёрк налічваў у 1830 годзе ўсяго 1 900 000 жыхароў, гэта менш паловы ў параўнанні з колькасцю жыхароў Паўночнага дэпартамента.

Адзін народ ад прыроды легкадумны і схільны да захаплення, іншы – схільны да разважанняў і ашчадны. Гэта залежыць ад фізічнай канстытуцыі людзей ці ад іншых нагод, ідучых у далёкае мінулае, якія мне невядомы.

Існуюць народы якім падабаюцца пастановы, відовішчы, шум, весялосць, яны не будуць шкадаваць пра мільён выкінуты на вецер.

Але існуюць іншыя народы, аддаючыя перавагу забаўкам ў адасобленым месцы, яны саромеюцца адкрытай радасьці.

У некаторых краінах вельмі шануюць хараство будынкаў. А ў іншых не бачаць ніякай каштоўнасьці ў прадметах мастацтва, пагарджаючы ўсім, што не дае ніякага прыбытку. Нарэшце, у адных краінах аддаюць перавагу добраму імені, вядомасьці, у іншых жа, перадусім, шануюцца грошы.

Незалежна ад законаў усе гэтыя нагоды вельмі моцна ўздзейнічаюць на кіраванне дзяржаўнымі фінансамі.

Калі амерыканскім уладам ніколі не даводзілася выдаткаваць грошы народа на народныя сьвяты, то гэта не столькі таму, што ў гэтай краіне народ зацьверджвае падаткі, колькі таму, што народ тут не вельмі схільны да весялосьці.

Калі амерыканцы адмаўляюцца ад упрыгожванняў у архітэктуры сваіх будынкаў і паважаюць толькі разлік і матэрыяльныя перавагі, то гэта не столькі таму, што яны ўяўляюць дэмакратычную нацыю, колькі таму, што гэта народ-камерсант.

Звычаі, склаўшыяся ў прыватным жыцці, знаходзяць сваё адлюстраванне ў жыцці грамадзкім. І таму ў амерыканскім грамадстве патрэбна адрозніваць эканомію, залежачую ад дзяржаўных установаў і эканомію, заснаваную на звычках і норавах.

## Ці можна параўноўваць дзяржаўныя выдаткі ў Злучаных Штатах Амерыкі і ў Францыі

–Каб ацаніць памеры дзяржаўных выдаткаў, патрэбна ўсталяваць, якімі з'яўляюцца нацыянальнае багацце і падаткі ў краіне. –Багацце і выдаткі Францыі дакладна невядомы. –Нагоды, перашкаджаючыя даведацца, якімі з'яўляюцца багацце і выдаткі Звязу. –Дасьледаванні, распачатыя аўтарам, каб вылічыць агульную суму падаткаў у Пенсільваніі. –Агульныя прыкметы, дазваляючыя вызначыць памеры выдаткаў таго ці іншага народа. –Якім з'яўляецца вынік гэтага дасьледавання для Звязу.

У апошні час у нас вялікая ўвага надаецца параўнанню дзяржаўных выдаткаў у Злучаных Штатах і ў Францыі. Усе распачатыя працы ў гэтым накірунку вынікаў не далі і я лічу, што не варта марнаваць шмат слоў на тое, каб давесьці, што так і павінна было быць.

Каб мець магчымасць ацаніць памеры дзяржаўных выдаткаў нейкага народа, патрэбна высветліць два моманты: перадусім ведаць, якімі з'яўляюцца багацці гэтага народа, а потым – якую частку гэтых багаццяў ён вылучае на дзяржаўныя выдаткі. Той, хто вызначыў бы агульную суму падаткаў, не высветліўшы, якая колькасць сродкаў павінна іх пакрываць, выканаў бы не маючую карысьці працу, таму што цікава ведаць не велічыню выдаткаў саму па сабе, а дачыненне выдаткаў да прыбыткаў.

Адзін і той жа падатак па-рознаму пераносіцца заможным і немаёмасным падаткаплацельшчыкам: ён можа сур'ёзна не закранаць фінансавыя зацікаўленасьці заможнага, а немаёмаснага ў стане давесьці да галечы.

Нацыянальнае багацце складаецца із некалькіх кампанентаў: першы – гэта зямля і яе скарбы, другі – гэта ўсе даброты, створаныя народам. Вельмі складана вызначыць прыродную плошчу ці набытую каштоўнасць урадлівых земель належачых той ці іншай нацыі. Яшчэ больш складана падлічыць тыя даброты, тыя скарбы, якія створаны самой нацыяй. Яны такія разнастайныя і колькасць іх такая значная, што якія б то ні было спробы правесьці дасьледаванне і паспрабаваць вылічыць каштоўнасць назапашаных багаццяў, звычайна, ні да чаго не прыводзяць. Таму мы бачым, што нават тыя еўрапейскія нацыі, якія прайшлі працяглы шлях цывілізацыі і на чале якіх стаіць цэнтралізаваны ўрад, да гэтага часу не здалелі дакладна падлічыць свае нацыянальныя багацці.

А ў Амерыцы нават такая ідэя не ўзнікала. І ці магло быць інакш у гэтай новай краіне? Ці здолела б яна дамагчыся поспеху ў гэтым накірунку ў становішчы, калі грамадства яшчэ не стабілізавалася, не вызначылася, а ўрад у адрозненні ад нашага, не мае вялікай колькасьці падначаленых, якімі ён мог бы кіраваць і чыю дзейнасць меў бы магчымасць каардынаваць; калі, нарэшце, у гэтай краіне адсутнічае статыстыка, таму што тут вы не сустрэнеце чалавека, які быў бы здольны сабраць дакументы і меў бы час іх прагледзець?

Такім чынам, няма магчымасьці атрымаць патрэбныя дадзеныя для правядзення патрэбных падлікаў. Мы не ў стане параўнаць набытак Францыі і Звязу, таму што багацце Францыі яшчэ не вядома, а ў Звязе яшчэ не выпрацаваны спосабы іхнага вылічэння.

Аднак я гатовы на дадзеным этапе адкінуць патрэбны складнік параўнання, то бок я адмаўляюся ад інфармацыі, маючай дачыненне да адносін падаткаў да прыбыткаў, і абмяжуюся ўсталяваннем велічыні саміх падаткаў. Чытач павінен будзе прызнаць, што, скарацісўшы кола маіх пошукаў, я не палегчыў свайго задання. Я ўпэўнены, што французскі ўрад, задзейнічаўшы ўсіх сваіх службоўцаў, не здолее вызначыць дакладную суму ўсіх прамых і ўскосных падаткаў, ляжачых цяжарам на французскіх грамадзянах. Прыватная асоба не ў стане зрабіць такую працу, а французскі ўрад, які ўзяўся за яе, не давёў яе да канца, больш дакладна, не апублікаваў яе вынікаў. Мы ведаем, якімі з'яўляюцца выдаткі цэнтральнага ўрада, нам вядома сума выдаткаў па дэпартаментах; мы не ведаем, што адбываецца ў камунах, ніхто, такім чынам, сёння не ў стане сказаць, якой сумы дасягаюць у Францыі дзяржаўныя выдаткі.

Зараз паглядзім на Амерыку. Прадбачу, што цяжкасьцей тут яшчэ больш і іх яшчэ цяжэй пераадолець. Звяз у стане даць мне дакладную інфармацыю пра агульную суму сваіх выдаткаў; я маю магчымасць атрымаць інфармацыю пра бюджэты кожнага із дваццаці чатырох штатаў Звязу, але хто дасць мне звесткі пра тое, якімі з'яўляюцца выдаткі грамадзянаў па кіраванню кожнай акругай і кожнай злучынай[183]?

[183] У амерыканцаў, як вядома, існуе чатыры віды бюджэту: у Звяза свой бюджэт; штаты, акругі і злучыны таксама маюць свае бюджэты. Знаходзячыся ў Амерыцы, я зрабіў вялікую працу, каб даведацца, якой з'яўляецца агульная сума дзяржаўных выдаткаў у злучынах і акругах асноўных штатаў Звязу. Я лёгка атрымаў звесткі пра бюджэты самых буйных злучын, але я не здолеў даведацца, якім з'яўляецца бюджэт маленькіх злучын. Гэта не дазволіла мне скласьці дакладнае ўяўленне пра выдаткі ўсіх злучын, разам узятых. Што да выдаткаў у акругах, то ў мяне ёсць дакументы, праўда няпоўныя, якія, магчыма, задаволяць цікавасць чытачоў па гэтаму пытанню. Іх існаванню ў мяне я абавязаны добраму стаўленню да мяне спадара Рычардса, былога мэра Філадэльфіі. Гэта бюджэты трынаццаці акруг Пенсільваніі на 1830 год: Лібанона, Цэнтра, Франкліна, Лафаета, Мантгомеры, Люцэрна, Дафіна, Батлера, Алегана, Калумбіі, Нартумберленда, Нартхэмптана, Філадэльфіі. У 1830 годзе колькасць іхных жыхароў даходзіла да 495 207 чалавек. Калі

Федэральная ўлада не распасьціраецца так далёка, каб абавязаць правінцыйныя ўлады даць нам звесткі ў гэтай вобласьці. А ці пажадае мясцовая адміністрацыя сама па сабе паспрыяць нам, ды яшчэ адначасова ва ўсіх акругах і злучынах? Я сумняваюся, што яны будуць у стане задаволіць наш запыт. Не кажучы ўжо пра тое, што ў самой задуме закладзены цяжкасьці, палітычныя згуртаванні краіны таксама запрацівяццца таму, каб намаганні мясцовых улад завяршыліся поспехам. Службовыя асобы ў злучынах і акругах не прызначаюцца цэнтральным урадам, а таму не залежаць ад яго. Можна выказаць здагадку, што, калі б вышэйшае дзяржаўнае кіраўніцтва пажадала атрымаць тыя ж звесткі, якія неабходны і нам, яно б сытыкнулася з вялікімі перашкодамі, нагода якіх крыецца ў нядбайнасьці выканання сваіх абавязкаў падначаленымі, чыімі паслугамі яно вымушана было б карыстацца[184].

Не мае карысьці, дарэчы, імкнуцца вызначыць, што маглі б зрабіць амерыканцы ў дадзенай вобласьці, таму што цалкам відавочна, што да сёняшняга дня яны нічога не зрабілі. І сёння як у Амерыцы, так і ў Яўропе не знойдзецца ніводнага чалавека, які б адказаў на пытанне, колькі ж штогадова сплочвае кожны грамадзянін Звязу, каб пакрыць дзяржаўныя выдаткі[185].

---

зірнуць на мапу Пенсільваніі, то можна пабачыць, што гэтыя трынаццаць акруг раскіданы па ўсёй тэрыторыі і адчувальныя да ўсяго, што можа ўплываць на стан краіны і да такой ступені, што немагчыма сказаць, менавіта дзякуючы чаму не атрымліваецца атрымаць дакладнага ўяўлення пра фінансавы стан акруг Пенсільваніі. Такім чынам, гэтыя самыя акругі выдаткавалі за 1830 год 1 800 221 франкаў, ці 3 франкі 64 сантымы на аднаго жыхара. Я падлічыў, што кожны із гэтых жыхароў на працягу 1830 года аддаў на патрэбы федэральнага звязу 12 франкаў 70 сантымаў і 3 франкі 80 сантымаў – на патрэбы Пенсільваніі, із чаго вынікае, што за 1830 год кожны із гэтых грамадзян аддаў грамадству, каб пакрыць дзяржаўныя выдаткі (за выключэннем злучынных выдаткаў), 20 франкаў 14 сантымаў. Гэты вынік вельмі няпоўны, як мы бачым, таму што ён ахаплівае толькі адзін год і толькі частку дзяржаўных падаткаў, але яго можна лічыць адпавядаючым рэчаіснасьці.

[184] Тыя, хто меў жаданне правесьці паралель паміж дзяржаўнымі выдаткамі амерыканцаў і французаў, адразу адчулі, што немагчыма параўноўваць агульную суму дзяржаўных выдаткаў Звязу; яны паспрабавалі параўнаць асобныя часткі гэтых выдаткаў. Лёгка давесьці, што гэты другі спосаб дзеянняў не менш памылковы, чым першы.

З чым, напрыклад, я буду параўноўваць нацыянальны бюджэт Францыі? З бюджэтам Звязу? Але Звяз кантралюе значна меншую колькасць пытанняў, чым французскі ўрад, і яго выдаткі павінны быць, натуральна, нашмат меншымі. Параўноўваць бюджэты нашых дэпартаментаў з бюджэтамі асобных штатаў, із якіх складаецца Звяз? Але, звычайна, адміністрацыя ў штатах кантралюе больш важныя і больш шматлікія пытанні ў параўнанні з адміністрацыяй французскіх дэпартаментаў; іхныя выдаткі, такім чынам, больш значныя. Калі разглядаць бюджэты акруг, то ў фінансавай сістэме Францыі мы не знойдзем нічога падобнага. Можа, дадаць гэтыя сродкі да бюджэту дзяржавы ці камун? Злучынныя выдаткі існуюць у абодвух краінах, але яны не заўсёды аналагічныя. У Амерыцы злучына кантралюе вельмі шматлікія із тых пытанняў, якія камуна ў Францыі перадае дэпартаменту ці дзяржаве. Што ж усё ж такі патрэбна разумець пад злучыннымі выдаткамі ў Амерыцы? У кожным штаце злучына арганізавана па-свойму. Што ўзяць у якасьці прыкладу – тое, што адбываецца ў Новай Ангельшчыне ці ў Джорджыі, у Пенсільваніі ці ў штаце Ілінойс?

Няцяжка пазначыць нейкае падабенства паміж некаторымі бюджэтамі двух краін; аднак дзякуючы таму што іхныя складовыя часткі заўсёды так ці інакш адрозніваюцца паміж сабой, то ніхто не ў стане правесьці паміж імі сур'ёзнае параўнанне.

[185] Будзем лічыць, стане вядома дакладная сума, якую кожны грамадзянін Францыі ці Амерыкі аддае ў дзяржаўны скарб – гэта будзе толькі часткай праўды. Урады патрабуюць ад падаткаплацельшчыкаў не толькі грошай, але і іхных асабістых намаганняў, якія таксама можна ацаніць у грошах. Дзяржава наймае войска; акрамя таго, што на жаўнера ідуць у выглядзе заробкаў грошы, якія збірае народ, жаўнер яшчэ аддае свой асабісты час, ацаніць які можна ў залежнасьці ад таго, як ён выкарыстаў бы яго, будзь ён не ў войску. Тое ж самае патрэбна сказаць і пра апалчэнне. Той, хто знаходзіцца ў апалчэнні, выдаткуе дзеля абароны дзяржавы свой каштоўны час, на самай справе аддаючы дзяржаве тое, чаго сам набыць не можа. Я прывёў гэтыя прыклады і мог бы прывесьці шмат іншых. Урады Францыі і Амерыкі спаганяюць із

На заканчэнні пазначу, што параўноўваць дзяржаўныя выдаткі амерыканцаў з выдаткамі французаў так жа цяжка, як параўноўваць багацце Звязу і багацце Францыі. Да гэтага дададзім, што нават спрабаваць рабіць гэта небяспечна. Калі падмуркам статыстыкі не з'яўляюцца дакладныя і строгія разлікі, яна не накіроўвае ваша дасьледаванне, а ўводзіць вас у памылку. Ваш мозг лёгка трапляецца на вуду чыста вонкавай дакладнасьці, якую статыстыка захоўвае нават у адступленнях і не вагаючыся аддае сябе пад уладу памылак, убраных у слушныя матэматычныя формы.

Пакінем лічбы ўбаку і паспрабуем вырашыць заданне інакш.

Ці вырабляе краіна ўражанне квітнеючай дзяржавы пасьля выплаты падаткаў дзяржаве, ці застаецца ў немаёмаснага дастаткова сродкаў для жыцця і ці захоўвае заможны тыя лішкі, якія і робяць яго заможным; і той і другі ці вырабляюць уражанне людзей, задаволеных лёсам; ці імкнуцца яны ўвесь час паляпшаць сваё жыццё, адначасова клапоцячыся пра тое, каб прамысловасць не ведала недахопу ў капіталаўкладаннях для свайго развіцця і каб было куды ўкладаць капіталы, – адказы на гэтыя пытанні і з'яўляюцца тымі характарыстыкамі, да якіх пры адсутнасьці патрэбных дакументаў можна звярнуцца, каб даведацца, у якіх суадносінах знаходзяцца дзяржаўныя выдаткі сплачваемыя народам, са сродкамі, якімі народ валодае.

Дасьледчык, які вывучыць гэтыя сведчанні, без сумневаў, зробіць выснову, што жыхар Злучаных Штатаў аддае дзяржаве значна меншую частку свайго прыбытку, чым француз.

А хіба можа быць інакш?

Доўг, які яшчэ не выплаціла Францыя, – гэта вынік двух вайсковых уварванняў. Звязу ж няма чаго асьцерагацца. Становішча Францыі абавязвае яе ўвесь час мець пад ружжом даволі шматлікае войска. Ізаляванае становішча Звязу дазваляе яму мець не больш чым 6 тысяч жаўнераў. У Францыі каля 300 караблёў, а ў амерыканцаў іх усяго 52[186]. Дык як жа можа быць каб жыхар Звязу і жыхар Францыі плацілі сваёй дзяржаве аднолькава?

І не варта праводзіць паралелі паміж фінансамі гэтых двух такіх розных краін.

Толькі вывучыўшы ўсё, што адбываецца ў Звязе, а не параўноўваючы Звяз з Францыяй, мы здолеем вынесьці меркаванне, ці сапраўды амерыканская дэмакратыя здольна эканомна выдаткаваць сродкі.

---

насельніцтва падаткі, якія кладуцца цяжарам на плечы грамадзянаў. Але хто пры гэтым у стане дакладна вызначыць агульную суму падаткаў у абодвух краінах? Яшчэ адна іншая цяжкасць спыняе, калі з'яўляецца жаданне параўнаць дзяржаўныя выдаткі Звязу і Францыі. У Францыі дзяржава бярэ на сябе шэраг абавязкаў, якія ў Амерыцы ёю не бяруцца да ўвагі і наадварот. Французскі ўрад плоціць сьвятарству, амерыканскі ўрад гэтыя турботы пакідае вернікам. У Амерыцы дзяржава бярэ на сябе турботу пра немаёмасных, у Францыі гэтым займаюцца дабрачынныя згуртаванні. Францыя дае сваім дзяржаўным урадаўцам сталае ўтрыманне, Амерыка дазваляе ім рабіць некаторыя зборы. У Францыі толькі невялікая колькасць дарог абкладаецца мясцовым падаткам, у Злучаных Штатах амаль на ўсіх дарогах патрабуюць плату. Французскія дарогі адкрыты для вандроўнікаў, якія задарма раз'язджаюць па іх, у Злучаных Штатах шмат якія дарогі перакрыты. Усе гэтыя адрозненні, маючыя дачыненне да спосабу ўдзелу падаткаплацельшчыкаў у пакрыцці дзяржаўных выдаткаў, вельмі абцяжарваюць параўнанне паміж гэтымі дзвума краінамі. Існуюць выдаткі, якія з боку гледжання грамадзянаў рабіць было б не патрэбна ці іх патрэбна было б паменшыць і так бы яно і было, калі б дзяржава сапраўды дзейнічала дзеля даброт грамадзянаў.

[186] Гл. дэталёва распрацаваныя бюджэты міністэрства марскога флоту Францыі, а аналагічныя звесткі па Амерыцы можна знайсьці ў «Нацыянальным календары» за 1833 год, с. 228.

Я прыглядаюся да кожнай із гэтых так непадобных паміж сабой рэспублік, складаючых Звяз і раблю для сябе адкрыццё; выяўляецца з аднаго боку, што іхныя ўрады часьцяком непастаянныя ў сваіх задумах, з другога – з боку ўрада адсутнічае рэгулярны кантроль за выкананнем яго ўказанняў падначаленымі. Із усяго гэтага, натуральна, я раблю выснову, што такі ўрад часта выдаткуе грошы сваіх падаткаплацельшчыкаў без карысьці ці выдаткуе ў пачынанні сродкаў больш, чым патрэбна.

Я бачу, што, верны свайму народнаму паходжанню, урад робіць каласальныя намаганні, каб задаволіць патрабаванні ніжэйшых станаў грамадства, расчыніўшым ім шлях да ўлады, павялічыць узровень іхнага дабрабыту і адукацыі. Ён падтрымлівае немаёмасных, штогадова выдаткуе мільёны на школы, прызначае разнастайную грашовую дапамогу, шчодра аплочвае працу нават самых дробных службоўцам. Падобны спосаб кіравання асабіста мне здаецца як карысным, так і разумным, але немагчыма не прызнаць, што ён спусташальны.

Я ўяўляю сабе немаёмаснага чалавека, кіруючага дзяржаўнымі справамі і фінансамі, і мне цяжка паверыць, каб распараджаючыся дзяржаўнымі выдаткамі, ён не прывёў дзяржаву да новых.

Такім чынам, не звяртаючы ўвагі на лічбы, якія могуць не цалкам адпавядаць рэчаіснасьці і не робячы рызыкоўных параўнанняў, я, тым не менш, магу зрабіць выснову: дэмакратычны ўрад Амерыкі немагчыма назваць танным, як гэта калі-нікалі робіцца. Больш таго, я лічу, што сур’ёзныя цяжкасьці аднойчы лягуць на плечы народаў Злучаных Штатаў, падаткі там дасягнуць таго ж узроўню, што і ў еўрапейскіх краінах з манархічным рэжымам ці з арыстакратычным кіраваннем.

## Пра карупцыю і заганы ўрадаўцаў пры дэмакратыі. Як гэта ўплывае на ўзровень маральнасьці ў грамадстве

–Пры арыстакратычным кіраванні здараюцца кіраўнікі, выяўляючыя схільнасць да карупцыі. –Пры дэмакратычным кіраванні ўрадаўцы самі нярэдка апынаюцца карумпаванымі. –У першым выпадку заганы непасрэдна ўплываюць на маральнасць народа. –У другім выпадку яны робяць на народ апасрэдаваны ўплыў, што яшчэ больш небяспечна.

Арыстакраты і дэмакраты абвінавачваюць адзін аднаго ў падахвочанні і развіцці карупцыі; патрэбна падкрэсліць тут тое адрозненне, якое існуе паміж першымі і другімі.

У арыстакратычных урадах дзяржаўнымі справамі кіруюць людзі заможныя, якіх на дзяржаўныя пасады прыводзіць толькі імкненне да ўлады. У дэмакратычных урадах дзяржаўныя дзеячы – гэта немаёмасныя людзі, і ім яшчэ толькі патрэбна набыць сабе маёмасць.

Із гэтага вынікае, што ў арыстакратычных дзяржавах кіраўнікі практычна недаступныя для карупцыі і вельмі ўмерана ставяцца да грошай; цалкам адваротнае назіраецца ў дэмакратычных краінах.

Дзякуючы таму, што ў краінах з арыстакратычным кіраваннем жадаючыя заняць дзяржаўныя пасады валодаюць вялікім багаццем, а колькасць тых, хто можа ім у гэтым спрыяць, невялікая, улада там як бы прадаецца з аўкцыёну. У дэмакратычных жа краінах усё інакш: тыя, хто імкнецца да ўлады, звычайна, незаможныя, а колькасць тых, хто можа спрыяць гэтаму, дастаткова вялікая. Магчыма, у гэтых краінах і не менш прадажных людзей, але вельмі мала

знаходзіцца пакупнікоў, да таго ж патрэбна адначасова купіць занадта шмат каго, каб дамагчыся запланаванай мэты.

Сярод тых, хто знаходзіўся пры ўладзе ў Францыі на працягу апошніх сарака гадоў, шмат хто абвінавачваўся ў тым, што яны нажылі сабе багацце за кошт дзяржавы і яе хаўруснікаў; дзяржаўных дзеячоў старой манархіі рэдка абвінавачвалі ў гэтым. Але ў Францыі невядомы выпадкі, калі б голас выбаршчыка купляўся непасрэдна за грошы, тады як у Ангельшчыне гэта ўсім вядома і робіцца адкрыта.

Мне не даводзілася чуць у Злучаных Штатах, каб нехта выкарыстаў сваю маёмасць на подкупленне тых, кім кіруюць, але я нярэдка быў сведкам таго, як ставілася пад сумнеў сумленнасць дзяржаўных урадаўцаў. Яшчэ часьцей я чуў, што іхныя поспехі прыпісваліся нізкім інтрыгам ці злачынным махінацыям.

Такім чынам, калі дзяржаўныя дзеячы арыстакратычнага ўрада часам гатовы падкупіць іншых, то кіраўнікі дэмакратычнага ўрада самі выяўляюцца падкупленымі. У першым выпадку наносіцца непасрэдны ўдар маральнасьці грамадства; у другім выпадку ўплыў на грамадзкую свядомасць робіцца ўскосна і гэта яшчэ больш небяспечна.

У дэмакратычных краінах кіраўнікі дзяржавы, амаль увесь час знаходзячыся пад падазрэннем, забяспечваюць у вызначаным сэнсе дзяржаўную падтрымку тым злачынствам, у якіх іх абвінавачваюць. Тым самым яны ўяўляюць небяспечны прыклад для ўчыннасьці, якая яшчэ працягвае змагацца з заганай, а хаваючайся загане дазваляюць правесьці выгадныя для сябе параўнанні.

Дарэмна будуць мяне пераконваць, што непрыстойныя жарсьці існуюць у якім бы то ні было асяроддзі, што яны падбіраюцца нярэдка да тых, хто сядзіць на пасадзе па праву нараджэння, і што, нарэшце, нявартых людзей можна сустрэць як на чале арыстакратычнай дзяржавы, так і ў дэмакратычным урадзе.

Гэта не можа служыць тлумачэннем для мяне: вядома, што ў карупцыі тых, хто прыйшоў да ўлады выпадкова, ёсць нешта грубае і вульгарнае і гэта заражае натоўп; наадварот, у грамадстве шляхетных вяльможаў наяўнасць некаторага духу арыстакратычнай вытанчанасьці, духу велічы выклікае агіду да карупцыі, што перашкаджае яе пашырэнню.

Народ ніколі не спасьцігне таямніц прыдворнага жыцця; наўрад ці ён выявіць ганебнасць, хаваючуяся пад элегантнасьцю паводзін, вытанчанасьцю густу і вытанчанасьцю моўных выказванняў. Але вось абкрадваць грамадзкі скарб ці прадаваць за грошы дзяржаўныя паслугі – апошні нягоднік разбіраецца ў гэтым і можа быць задаволены, што і ён мае дачыненне да гэтага.

Дарэчы, я лічу, што небяспечна не столькі амаральнасць людзей, якія знаходзяцца ва ўладзе, колькі амаральнасць, вядучая да ўлады. У дэмакратычных краінах простыя грамадзяне бачаць, як выйшаўшы із яго асяроддзя чалавек на працягу кароткага тэрміна знаходзячыся пры ўладзе робіцца заможным; гэта выклікае здзіўленне і абуджае іхную зайздрасць; яны пачынаюць дашуквацца, якім чынам той, які яшчэ ўчора быў раўны з імі, сёння надзелены правам кіраваць імі. Прыпісаць такую перамену яго здольнасьцям ці ўчыннасьцям – вельмі нязручна, таму што гэта азначала б прызнаць, што ты сам менш здольны і менш учынны. Тады асноўнай падставай яго поспеху лічацца яго заганы і часта гэта бывае праўдай. Вось так узнікае агіднае зліванне разуменняў улады і нявартасьці, яго поспеху і ганебнасьці, карыснасьці і безсумленнасьці.

# На якія высілкі здольна дэмакратыя

–Звязу толькі аднойчы давялося абараняць сябе. –Запал напачатку войны. –Астужэнне пад канец вайны. –Чаму ў Амерыцы немагчыма правесьці прызыў на вайсковую службу ці правесьці ўлік ваеннаабавязаных маракоў. –Чаму дэмакратычная краіна менш, чым якая б там ні была іншая, здольная на сур'ёзныя працяглыя намаганні.

Папярэджваю чытача, што я павяду гаворку пра ўрад, які адлюстроўвае рэчаісную волю народа, а не пра ўрад, які толькі кіруе ад імя народа.

Не існуе ўлады больш цьвёрдай, чым улада тыранічная, кіруючая ад імя народа; таму што, будучы нададзенай маральнай магутнасьцю, абапіраючуяся на волю большасьці, яна дзейнічае з рашучасьцю, хуткасьцю і зацятасьцю, уласьцівымі аднаму чалавеку.

Цяжка сказаць, на якія дзеянні здольны дэмакратычны ўрад пад час перыяду нацыянальнага крызісу. Да сучаснасьці ж яшчэ не існавала ніводнай вялікай дэмакратычнай рэспублікі. Назваць рэспублікай алігархію, кіраваўшую Францыяй у 1793 годзе, – азначае абразіць рэспубліку як такую. Гэта новая з'ява, і прадстаўляюць яе Злучаныя Штаты.

Такім чынам, Звяз быў створаны палову стагоддзя таму назад. Яго існаванне толькі аднойчы было пастаўлена пад пагрозу знікнення, гэта было падчас Вайны за незалежнасць. Напачатку той доўгай вайны амерыканскі народ паказваў прыклады незвычайна захопленага служэння радзіме[187]. Але пакуль яна працягвалася, выяўляўся і звыклы эгаізм: грошы перасталі паступаць у скарб; мужчыны не з'яўляліся на службу ў войска; народ працягваў імкнуцца да незалежнасьці, але адступаў перад тымі сродкамі з дапамогай якіх яе патрэбна было дамагацца. «Мы павялічылі колькасць падаткаў, мы знайшлі новыя спосабы іхнага павелічэння, усё марна, – паведамляе Гамільтон у «Федэралісце» (№ 12), – чаканні народа не апраўдаліся, і дзяржаўны скарб па-ранейшаму пусты. Дэмакратычныя формы кіравання, уласьцівыя дэмакратычнай прыродзе нашага ўрада, у спалучэнні са слабым грашовым абарачэннем з нагоды немачы нашага гандлюператварылі ў не маючыя карысьці ўсе намаганні, распачатыя з мэтай сабраць значныя сумы. Заканадаўчыя ўстановы рознага узроўню, нарэшце, зразумелі ўсю бязглуздасць падобных спроб».

З тых часоў Злучаныя Штаты не вялі ніводнай сур'ёзнай вайны.

Каб зразумець, на якія ахвяры здольны дэмакратычныя краіны, патрэбна дачакацца моманту, калі амерыканскі народ будзе вымушаны аддаць у рукі свайго ўрада палову свайго прыбытку, як у Ангельшчыне, ці будзе павінен кінуць на поле бітвы дваццатую частку насельніцтва сваёй краіны, як гэта было ў Францыі.

У Амерыцы не існуе ваярскай павіннасьці, у войска жаўнераў наймаюць за грошы. Абавязковая служба ў войску так супярэчыць ідэям і з'яўляецца такой чужой звычкам амерыканскага народа, што я сумняваюся, што ў гэтай краіне калі-небудзь адважацца правесьці такі закон. Існаванне ў Францыі абавязковага заклікання на вайсковую службу – гэта адна із самых цяжкіх павіннасьцей. Але без гэтага як бы яна здолела весьці працяглую вайну на кантыненце?

У амерыканцаў няма прымусовага вербавання матросаў, як у ангельцаў. У іх няма таксама нічога падобнага на наш улік ваеннаабавязаных маракоў. У

[187] Адным із самых яскравых прыкладаў, на мой погляд, было прыняцце амерыканцамі рашэння адразу адмовіцца ад ужывання гарбаты. Тых, хто ведае, што чалавек, звычайна, значна больш трымаецца за свае звычкі, чым за жыццё, без сумневаў, уразіць гэтая вялікая і незразумелая ахвяра, прынесеная цэлым народам.

дзяржаўны марскі флот, як і ў гандлёвы, маракоў набіраюць на падставе самахвотна заключаемай з імі дамовы.

Цяжка сабе ўявіць, як можа народ весьці сур'ёзную вайну на моры, не выкарыстоўваючы ніводнага із вышэйпералічаных захадаў. Таму для Звяза, які ўжо здабываў перамогі на моры ніколі не маючы пры гэтым вялікага флоту, вельмі дорага каштавала ўтрымліваць каманды яго нешматлікіх караблёў.

Мне даводзілася чуць ад амерыканскіх дзяржаўных дзеячоў, што Звязу будзе цяжка падтрымліваць свой флот на належным узроўні, калі ён не будзе выкарыстоўваць або прымусовага вербавання матросаў, або ўліку ваеннаабавязаных маракоў; аднак уся цяжкасць складаецца ў тым, каб народ, які кіруе, пагадзіўся адобрыць тое ці іншае.

Не выклікае сумневаў, пад час моманту небяспекі вольныя народы, звычайна, праяўляюць актыўнасць невымерна больш вялікую ў параўнанні з нявольнымі народамі, але я схільны лічыць, што гэта галоўным чынам мае дачыненне да вольных народаў тых краін, дзе ва ўладзе знаходзіцца арыстакратыя. Дэмакратыя ж, як мне здаецца, больш здольна кіраваць мірным грамадствам ці ў выпадку патрэбы вырабляць раптоўны і моцны ўдар, чым працяглы час вытрымліваць моцныя буры палітычнага жыцця народаў. Тлумачыцца гэта проста: запал вымушае людзей ісьці на небяспекі і пазбаўленні, але працяглы час знаходзіцца ў стане запалу яны могуць толькі прыняўшы ўсё розумам, усё абдумаўшы. У тым, што мае назву інстынктыўная адвага, больш разліку, чым можна сабе ўявіць; і хаця першыя крокі, звычайна, робяцца толькі пад уплывам пачуццяў, наступны рух выпрабляецца ўжо з нагоды вызначанага выніку. У ахвяру прыносіцца частка таго, што ўяўляе каштоўнасць, каб выратаваць усё астатняе.

Дэмакратыі часта не хапае выразнага бачання будучыні, заснаванай на ведах і досьведзе. Народ больш абмяжоўваецца пачуццямі, чым розумам. І калі яго сённяшнія беды з'яўляюцца вялікімі, ёсць небяспека, што ён не будзе думаць пра беды яшчэ большыя, якія могуць здарыцца пры неспрыяльных акалічнасьцях.

Існуе і яшчэ адна нагода няздольнасьці дэмакратычнага ўраду, у адрозненні ад арыстакратычнага, на працяглых намаганняў.

Народ не толькі бачыць менш выразна, чым вышэйшыя станы, на што можна спадзявацца ці чаго варта асьцерагацца ў будучым, але ён да таго ж не так як яны перажывае беды сёняшняга дня. Дваранін, рызыкуючы, гатовы як уславіцца, так і загінуць. Аддаючы дзяржаве вялікую частку прыбытку, ён тут жа пазбаўляе сябе нейкіх задавальненняў, злучаных з наяўнасьцю багацця. Беднаму сьмерць славы не прынясе, а падатак, які заможнага прыцiскае, немаёмаснага часта пазбаўляе крыніц для існавання.

Гэты слабы бок дэмакратычных рэспублік, асабліва заўважаемы пад час перыядаў крызісаў, магчыма, уяўляе сабой самую вялікую перашкоду на шляху ўзнікнення падобнай рэспублікі ў Яўропе. Справа ў тым, што для нармальнага існавання дэмакратычнай рэспублікі ў адной із еўрапейскіх краін патрэбна, каб яна была ўсталявана адначасова і ва ўсіх іншых.

Я лічу, што дэмакратычны ўрад умацуе на працягу часу рэчаісную моц грамадства, але ён не здольны аб'яднаць адначасова ў адным месцы столькі моцы, колькі можа аб'яднаць арыстакратычны ўрад ці абсалютная манархія. Калі нейкай дэмакратычнай краінай на працягу ўсяго стагоддзя будзе кіраваць рэспубліканскі ўрад, можна паверыць, што да канца стагоддзя яна стане больш заможнай, насельніцтва яе павялічыцца, краіна стане больш квітнеючай, чым атачаючыя яе

дзяржавы з дэспатычным рэжымам; але на працягу гэтых ста гадоў яна неаднаразова зведае рызыку быць заваяванай імі.

## Пра тое, як улада амерыканскай дэмакратыі ўплывае на саму сябе

–Амерыканскі народ толькі паступова прынімае новае і часам адмаўляецца ад таго, што служыць яго выгодзе. –Здольнасць амерыканцаў здзяйсняць выправімыя памылкі.

Цяжкасьці, з якімі сустракаецца дэмакратычны ўрад, імкнучыся пераадолець жарсьці бунтуючыя масы і прымусіць народ, замест таго каб засяроджвацца на патрэбнах бліжэйшага дня, зазірнуць у будучыню, адбіваюцца на ўсім.

Народ, аточаны лісліўцамі, з цяжкасьцямі спраўляецца сам з сабой. Кожны раз пры неабходнасьці пайсьці на некаторыя пазбаўленні ці абмежаванні ён пачынае з адмовы, нават у тых выпадках, калі розумам ён здольны ўхваліць мэту, дзеля якой гэта робіцца. Справядліва адзначаюць падпарадкаванне, выказваемае амерыканцамі закону. Варта дадаць, што законы ў Амерыцы зацьверджваюцца народам і для народа. У Злучаных Штатах, такім чынам, закон адпавядае зацікаўленасьцям усіх тых, хто ў нейкай іншай краіне зацікаўлены ў яго парушэнні. Дазволена думаць што, калі закон цяжкі і большасць насельніцтва не адчувае яго патрэбы ў дадзены момант, яго або не прымуць, або яму не будуць падпарадкоўвацца.

У Злучаных Штатах няма законаў пра злоснае банкруцтва. Магчыма таму што няма банкруцстваў? Наадварот, таму, што іх шмат. Баязнь быць праследуемым у якасьці банкрута ў розумах большасьці перавышае баязнь быць спустошаным банкрутамі. І ў грамадзкай свядомасьці зацьвярджаецца нейкае пачуццё злачынна памяркоўнага стаўлення ў дачыненні да парушэнняў, якія кожны ў асобнасьці асуджае.

У новых Паўднёва-Заходніх штатах насельніцтва звычайна само чыніць суд і забойствы там здараюцца безперапынна. Нагодай таму вельмі жорсткія норавы мясцовага насельніцтва, а таксама, амаль поўная адсутнасць асьветы ў гэтых пустэльных месцах. Таму і не адчуваюць яны патрэбы ў магутнасьці закона: судовым працэсам яны аддаюць перавагу дуэлі.

Аднойчы ў Філадэльфіі мне паведамілі, што амаль усе злачынствы ў Амерыцы здзяйсняюцца дзякуючы злоўжыванню моцнымі напоямі, якія просты люд спажывае колькі пажадае, таму што іх яму прадаюць за нікчэмныя грошы. «Чаму ж, – запытаў я, – вы не прызначыце падатак на гарэлку?» «Нашы заканадаўцы не раз пра гэта думалі, – пачуў я ў адказ, – але гэта вельмі цяжкая справа. Ёсць небяспека, што пачнецца бунт; да таго ж тыя дэпутаты, якія прагаласавалі б за падобны закон, без сумневаў, не былі б пераабраны». «Дык гэта азначае, – працягваў я, – што ў вас большасць складаюць п’яніцы і цьвярозасць не мае пашырэння».

Калі звяртаеш на гэта ўвагу дзяржаўных дзеячоў, яны абмяжоўваюцца адказам: пакіньце гэта на ўздзеянне часу, усьведамленне зла пераканае народ і пакажа яму яго зацікаўленасьці. Часта так і бывае: калі ў дэмакратыі больш шанцаў памыліцца чым у караля ці дваранскага стану, у яе таксама больш шанцаў апынуцца маючай рацыю, калі яе раптам асьвеціць. Справа ў тым, што ў самой дэмакратычнай сістэме звычайна адсутнічаюць зацікаўленасьці, супярэчачыя зацікаўленасьцям большасьці і супярэчныя цьвярозаму розуму. Аднак толькі жыццёвы досьвед здольны падмацаваць правасць дэмакратыі і шмат якія народы загінуць, так і не дачакаўшыся вынікаў некалі зробленых імі памылак.

Самай вялікай перавай амерыканцаў з’яўляецца не толькі тое, што яны з’яўляюцца больш асьвечанымі, чым іншыя народы, але яшчэ і іхная здольнась рабіць выпраўляемыя памылкі.

Дададзім да гэтага, што для лепшага выкарыстання досьведу мінулага дэмакратыя павінна дасягнуць вызначанага ўзроўню цывілізаванасьці і асьветы.

Вядомы народы, чые пачатковыя веды былі такімі заганнымі, а характар уяўляў сабой такую дзіўную сумесь жарсьцяў, невуцтва і ілжывых разуменняў пра ўсё, што яны не здолелі б самі вызначыць нагоду сваіх бедстваў; гэтыя народы гінуць ад бед, прыроду якіх не разумеюць.

Я аб’ездзіў шырокія прасторы некалі населеныя вялікімі індэйскімі плямёнамі, якіх сёння няма, я жыў сярод індэйцаў, гэтыя плямёны былі ўжо скалечанымі і з кожным днём памяншалася іхная колькасць і знікала іхная былая гучная слава; я сам чуў прадказанні гэтых індэйцаў пра тое, які лёс чакае ў выніку іхную расу. Тым часам у Яўропе не знойдзецца чалавека, які б не разумеў, што патрэбна зрабіць, каб захаваць гэтыя няшчасныя народы, зберагаючы іх ад немінучага вынішчэння. Самі ж яны не бачаць ніякага выйсьця; яны адчуваюць, што хмары з кожным годам усё больш згушчаюцца над імі і яны загінуць усе да адзінага, адкінуўшы прапанаваны сродак выратавання. Давялося б ужыць гвалт, каб вымусіць іх жыць.

У некага можа выклікаць здзіўленне той факт, што вось ужо чвэрць стагоддзя новыя нацыі Паўднёвай Амерыкі жывуць у стане пастаянных узрушэнняў, там няспынна адна рэвалюцыя замяняе другую і штодня можна чакаць, што яны вернуцца да таго, што мае назву прыродны стан. Але хто не пагадзіцца з тым, што ў наш час рэвалюцыі з’яўляюцца абсалютна натуральнымі для гішпанцаў Паўднёвай Амерыкі? У гэтай краіне грамадства боўтаецца на дне бездані, з якой яно не ў стане выкараскацца з дапамогай уласных намаганняў.

Ствараецца ўражанне, што народ, насяляючы гэтае прыгожае паўшар’е, упарта імкнецца выдраць сабе вантробы і нішто не ў стане яго ад гэтага адцягнуць. Знясілеўшы, ён дае сабе кароткі адпачынак, а пасьля адпачынку ім тут жа завалодвае новая апантанасць. Прыглedзеўшыся да яго жыцця, то беднага, то злачыннага, я зведаў спакусу паверыць, што для гэтага народа дэспатызм быў бы лепшым уладкаваннем.

Аднак гэтыя два словы ніколі не змогуць стаяць побач у маёй галаве.

## Пра тое, як амерыканская дэмакратыя праводзіць вонкавую палітыку

–Накірунак вонкавай палітыкі Злучаных Штатаў вызначаны Вашынгтонам і Джэферсонам. –Пры правядзенні вонкавай палітыкі выяўляюцца амаль усе недахопы ўласьцівыя дэмакратыі, а яе вартасьці мала адчуваюцца ў гэтай сферы.

Мы ўжо ведаем, што, згодна з федэральнай канстытуцыяй, зацікаўленасьці нацыі, злучаныя з вонкавай палітыкай краіны, знаходзяцца ў руках прэзідэнта і сената[188]; з гэтай нагоды агульная палітыка Звязу выслізгае ў некаторай ступені із-пад прамога і штодзённага ўплыву народа. І, такім чынам, немагчыма катэгарычна

[188] Прэзідэнт, сказана ў канстытуцыі, ст. 11, ч. 2, § 2, будзе заключаць пагадненні з улікам думкі сената і з яго згоды. Чытач не павінен забывацца, што сенатар атрымлівае мандат на шэсць гадоў і што, будучы абраны прадстаўнікамі заканадаўчай улады ад кожнага штата, ён трапляе ў сенат у выніку двухпрыступкавай сістэмы выбараў.

сцвярджаць, што ў Амерыцы менавіта дэмакратыя праводзіць вонкавую палітыку дзяржавы.

Вядомы два чалавекі, якія надалі палітыцы амерыканцаў вызначаны накірунак, якога краіна прытрымліваецца і сёння; першы – Вашынгтон, другі – Джэферсон.

У выдатным лісьце, адрасаваным суайчыннікам і ўяўляючым сабой як бы палітычны тэстамент гэтага вялікага чалавека, Вашынгтон пісаў:

«*Завязваць гандлёвыя стасункі з замежнымі народамі і ўсталяваць як мага менш палітычных сувязей паміж імі і намі – такім павінна быць правіла нашай палітыкі. Мы з дакладнасьцю павінны выконваць ужо заключаныя дамовы, але, ні ў якім разе не заключаць новых.*

*У Яўропы існуюць свае зацікаўленасьці, якія ніяк не адпавядаюць нашым ці адпавядаюць ім вельмі ўскосна; яна часта бывае вымушанай браць удзел у канфліктах, якія не маюць, натуральна, ніякага дачынення да нас; прывязваць сябе штучнымі ніткамі да нестабільнасьці еўрапейскай палітыкі, далучацца да разнастайных сфармаўшыхся на яе тэрыторыі сяброўскіх і варожых звязаў і браць удзел у войнах, узнікаючых паміж імі, азначала б дзейнічаць неасьцярожна.*

*Ізаляванасць і аддаленасць ад Яўропы падахвочваюць нас прытрымлівацца іншага шляху і дазваляюць пайсьці па гэтаму шляху. Калі мы будзем працягваць заставацца адзіным народам з моцным урадам на чале, то недалёкім з’яўляецца той час, калі нам не будзе чаго і не будзе каго баяцца. Тады мы будзем мець магчымасць паводзіць сябе так, каб вымусіць шанаваць свой нейтралітэт; ваюючыя краіны, адчуваючы, што не маюць магчымасьці на нас нажыцца, пабаяцца без падставаў правакаваць нас; і мы апынемся ў такім становішчы, у якім будзем у стане выбіраць мір ці вайну, кіруючыся толькі ўласнымі зацікаўленасьцямі і справядлівасьцю.*

*Чаму мы павінны адмаўляцца ад тых пераваг, якія ў стане здабыць із такой спрыяльнай сітуацыі? Чаму мы павінны замест таго, каб клапаціцца пра ўласную тэрыторыю, зацьверджваць сябе на чужой? Чаму, нарэшце, злучаючы свой лёс з лёсам нейкай часткі Яўропы, мы павінны рызыкаваць сваім мірам і росквітам дзеля ўладалюбства, суперніцтва, зацікаўленасьцей ці капрызаў народаў, насяляючых яе?*

*Сутнасць сапраўднай палітыкі для нас складаецца ў тым, каб не ладзіць пастаянных хаўрусаў ні з адной із замежных дзяржаў, ва ўсякім разе так, наколькі мы вольныя гэтага не рабіць, таму што я далёкі ад таго, каб жадаць невыканання ўжо маючыхся абавязкаў. Сумленнасць – лепшая палітыка; што да мяне, гэтае правіла ў роўнай ступені дапасуецца як да міждзяржаўных дачыненняў, так і да паводзін індывідаў. Такім чынам, я лічу, што патрэбна ў поўным аб’ёме выконваць тыя абавязацельствы, якія мы ўжо прынялі, а браць на сябе новыя – шкодна і неасьцярожна. Нам патрэбна паводзіць сябе так, каб нас паважалі і часовых хаўрусаў нам цалкам дастаткова, каб супрацьстаяць якой бы то ні было небяспецы*».

Яшчэ да гэтага ліста Вашынгтон выказаў выдатную і справядлівую думку: «*Народ, які аддае сябе пад ўладу звыклых пачуццяў павагі ці нянавісьці ў дачыненні да іншых народаў, робіцца ў нейкай ступені рабом. Рабом сваёй нянавісьці ці сваёй павагі*».

У сваёй палітычнай дзейнасьці Вашынгтон заўсёды кіраваўся выказанымі ім думкамі. Ён здолеў захаваць мір у сваёй краіне ў той час, калі зямны шар быў напоўнены вайной, і ён навукова абгрунтаваў тэзу, адпаведна з якой амерыканцы зацікаўлены ніколі не браць удзел ва ўнутраных звадах Яўропы.

Джэферсон пайшоў далей і ўвёў у палітыку Звязу яшчэ адно правіла, абвяшчаўшае: «*Амерыканцы ніколі не павінны прасіць у чужых нацый пераважных правоў для сябе, каб не быць абавязанымі надаваць аналагічныя правы іншым*».

Гэтыя два прынцыпы, відавочная справядлівасць якіх вельмі лёгка зрабіла іх здабыткам мас, вельмі спрасьцілі вонкавую палітыку Злучаных Штатаў.

Дзякуючы таму што Звяз не бярэ ўдзел у справах Яўропы, то ў яго і няма спрэчных знешнепалітычных зацікаўленасьцей; моцных суседзей у Амерыцы ў яго таксама яшчэ няма. Знаходзячыся як дзякуючы умовам свайго становішча, так і дзякуючы магутнасьці ўласнай волі па-за жарсьцямі Старога Сьвету, Звяз мае магчымасць або акунуцца ў іх, або засьцерагчы сябе ад іх. Што ж да жарсьцяў, якія могуць разгуляцца ў Новым Свеце, то будучае іх пакуль хавае.

Такім чынам, Звяз вольны ад старых абавязкаў: ён карыстаецца досьведам краін Яўропы, не будучы абавязаным у адрозненні ад іх здабываць урокі із мінулага і выкарыстоўваць іх у сучаснасьці; як і іх, яго ніхто не прымушае прыняць вялізную спадчыну бацькоў – сумесь славы і галечы, сяброўства і нянавісьці, злучаных з нацыянальнымі зацікаўленасьцямі. Вонкавая палітыка Злучаных Штатаў у вышэйшай ступені чакаючая; яе заданнем з’яўляецца тое, каб хутчэй устрымлівацца ад якой бы там ні было дзейнасьці, чым дзейнічаць.

У дадзены момант цяжка сказаць, наколькі ўмела амерыканская дэмакратыя будзе праводзіць сваю вонкавую палітыку. З гэтай нагоды як супернікам, так і сябрам амерыканскай дэмакратыі варта ўстрымлівацца ад выказвання свайго меркавання.

Мне ж нішто не перашкаджае выказаць сваю думку: менавіта ў вобласьці дзяржаўнай вонкавай палітыкі дэмакратычныя ўрады мне ўяўляюцца рашуча больш слабымі ў параўнанні з іншымі. Досьвед, норавы і адукацыя, на прыканцы, заўсёды распрацоўваюць у дэмакратычнай краіне так званы практычны, прыдатны на кожны дзень розум і ўменне разбірацца ў побытавых падзеях, яшчэ маючае назву цьвярозы розум. Яго цалкам дастаткова для звычайнага жыцця грамадства, таму што карысць, якую прыносіць асьвечанаму народу дэмакратычная вольнасць, пераважвае тыя няшчасьці, да якіх прыводзяць памылкі дэмакратычнага кіравання. Але ў стасунках з іншымі народамі справа выглядае інакш.

Ніводная ўласцівая дэмакратыі якасць не можа быць карыснай для вонкавай палітыкі. Наадварот, яна патрабуе якасьцей, якіх дэмакратыя не мае. Дэмакратыя спрыяе павелічэнню ўнутраных рэсурсаў дзяржавы, спрыяе пашырэнню дастатку і развіццю грамадзкай свядомасьці, замацоўвае павагу да закона ў асяроддзі розных станаў. Але ўсё гэта мае толькі ўскоснае дачыненне да таго месца, якое адзін народ займае сярод іншых народаў. А дэмакратыі вельмі цяжка пагадняць усе дэталі буйной справы, спыняцца на нейкай задуме і зацята праводзіць яе ў жыццё, нягледзячы на перашкоды. Яна не здольна таемна гатаваць нейкія захады і цярпліва чакаць вынікаў. Усё гэта значна лепш атрымліваецца ва ўмовах кіравання аднаго чалавека ці арыстакратычнага кіравання. У той жа час менавіта ўсё гэта патрэбна для таго, каб з цягам часу адзін народ узвысіўся над іншым, падобна таму, як адзін чалавек узвышаецца над іншымі людзьмі.

Разглядаючы недахопы, уласьцівыя арыстакратычнаму кіраванню, вы выявіце, што яны не робяць амаль ніякага ўплыву на вонкавую палітыку дзяржавы. Асноўная загана арыстакратыі палягае ў тым, што яна працуе толькі на саму сябе і грэбуе народнымі масамі. Што ж да вонкавай палітыкі, то ў ёй зацікаўленасьці арыстакратыі і народа звычайна супадаюць.

Схільнасць дэмакратыі кіравацца ў палітыцы хутчэй пачуццямі, чым розумам і ахвяраваць абдуманымі задумамі дзеля хутка знікаючых запалаў асабліва яскрава выявілася ў Амерыцы падчас Французскай рэвалюцыі. Тады, як і сёння, амерыканцам не патрэбна было мець шмат розуму, каб зразумець, што пачынаць

вайну не адпавядае іхным зацікаўленасьцям, хаця яна і магла заліць крывёй Яўропу, не прычыніўшы шкоды Злучаным Штатам.

Аднак сімпатыі амерыканскага народа да Францыі былі такімі гарачымі, што вайна не была абвешчана Ангельшчыне толькі дзякуючы нязломнаму характару Вашынгтона і яго вялізнай папулярнасьці. Акрамя таго, змаганне гэтага вялікага ўладальніка суровага розуму супраць шляхетных, але неразважлівых жарсьцей сваіх суграмадзянаў ледзь не пазбавіла яго адзінай узнагароды, да якой ён заўсёды імкнуўся, – удзячнасьці сваёй краіны. Тады большасць выказалася супраць праводзімай ім палітыкі, зараз жа ўвесь народ ухваляе яе[189].

Канстытуцыя і грамадзкае становішча дазволілі Вашынгтону правесьці рашэнні, маючыя дачыненне да вонкавай палітыкі дзяржавы, інакш народ зрабіў бы тады менавіта тое, што сёння ён асуджае.

На чале ўсіх народаў, здзейсніўшых моцны ўплыў па сьвет, тых, якія стваралі, распрацоўвалі і ўвасаблялі вялікія задумы, пачынаючы ад рымлян і заканчваючы ангельцамі стаялі арыстакраты. І гэта не здзіўляе.

Погляды арыстакратаў вызначаюцца здзіўляючай трываласьцю. Жарсьці ці невуцтва могуць пахіснуць перакананні народнай масы. Можна падмануць манарха і вымусіць яго ўсумніцца ў слушнасьці яго задум. Акрамя таго, манарх сьмяротны. Што ж да арыстакратычнага стану, ён, з аднаго боку, занадта шматлікі, каб быць падманутым, а з другога – занадта малалікі, каб саступіць неразважлівым жарсьцям. Арыстакратыя – адукаваная, паслядоўная ў дзеяннях і несьмяротная.

# Глава VI

## Рэчаісныя перавагі дэмакратычнай формы кіравання для амерыканскага грамадства

Напачатку дадзенай главы я лічу патрэбным нагадаць чытачу тое, пра што я ўжо неаднаразова выказваўся ў гэтай кнізе.

Палітычнае ўладкаванне Злучаных Штатаў уяўляе сабой дэмакратычную форму кіравання; аднак, на маю думку, амерыканскія ўстановы не з’яўляюцца ні лепшымі, ні адзіна магчымымі для народа, які жыве ў дэмакратычным грамадстве.

Знаёмячы чытача з перавагамі амерыканскай дэмакратыі, я далёкі ад думкі пра тое, што падобныя перавагі могуць паўстаць толькі ў выніку ўздзення нейкіх адных пэўных законаў.

---

[189] Гл. пяты том кнігі Маршала «Жыццё Вашынгтона». «У такім урадзе, як урад Злучаных Штатаў, – выказваецца ён на с. 314, – першая службовая асоба, нягледзячы на ўсю сваю цьвёрдасць, не ў стане доўга супрацьстаяць напору грамадзкай думкі. У той час грамадзкая думка схілялася да вайны. І сапраўды, на праходзіўшай тады сесіі кангрэса неаднаразова пазначалася, што Вашынгтон страціў большасць у палаце прадстаўнікоў». Да гэтага варта дадаць, што выказваемая крытыка ў яго адрас вызначалася крайняй рэзкасьцю. На адным палітычным сходзе яго не пабаяліся нават у завэлюяванай форме параўнаць са здраднікам Арнольдам (с. 265). «Прадстаўнікі апазіцыі, – паведамляе Маршал (с. 355), – заявілі, што прыхільнікі адміністрацыі ўяўляюць сабой арыстакратычную групоўку, знаходзячуюся на службе ў Ангельшчыны. Дзякуючы таму што яна мае намер усталяваць у краіне манархію, яна варожа ставіцца да Францыі. Гэтая групоўка, сябры якой утвараюць нешта накшталт дваранства, валодаючага замест тытулаў акцыямі Банка, настолькі палохаецца якога б то ні было захаду, які зможа адбіцца на стане капіталаў, што яна нават абыякава ставіцца да абраз, тады як гонар і зацікаўленасьці нацыі патрабуюць, каб на іх быў дадзены годны адказ».

# Агульная накіраванасць законаў дэмакратычнай улады ў Амерыцы і ўласцівасьці тых, хто праводзіць іх у жыццё

–Заганы дэмакратыі кідаюцца ў вочы. –Яе перавагі робяцца заўважальнымі толькі з цягам часу. –Амерыканская дэмакратыя не заўсёды дзейнічае ўдала, але агульная накіраванасць яе законаў карысная для грамадства. –Дзяржаўныя службоўцы ў амерыканскім дэмакратычным грамадстве не маюць зацікаўленасьцей, якія стабільна адрозніваюцца ад зацікаўленасьцей большасьці. –Да чаго гэта прыводзіць.

Заганы і слабасьці дэмакратычнай формы кіравання ляжаць на паверхні, для доказу гэтага можна прывесьці відавочныя факты. У той жа час станоўчыя бакі такой формы кіравання выяўляюцца непрыкметна, можна нават сказаць, падспудна. Яе недахопы ўражваюць з першага позірку, а вартасьці робяцца заўважальнымі толькі з цягам часу.

Амерыканскія законы нярэдка бываюць нядбайна сфармуляваны і няпоўнымі. Здараецца, што яны не ўлічваюць існуючых правоў ці заахвочваюць тыя, якія могуць уяўляць небяспеку. Калі яны добрыя самі па сабе, іхным вялікім недахопам з'яўляецца іхная частая перамена. Усё гэта бачна няўзброеным вокам.

Чаму ж у такім разе амерыканскія рэспублікі жывуць і квітнеюць?

Кажучы пра законы, патрэбна старанна адрозніваць, з аднаго боку, мэту, якую яны пераследуюць, а з другога – сродкі дасягнення гэтай мэты, што азначае іхную абсалютную і адносную якаснасць.

Будзем лічыць, што заканадавец імкнецца абараніць зацікаўленасьці невялікай колькасьці людзей коштам зацікаўленасьцей большасьці. Ён складае артыкулы закона так, каб дасягнуць патрэбнага выніку на працягу максімальна кароткага тэрміна і з самымі меншымі намаганнямі. Закон атрымліваецца добрым, але мэта – дрэнная. Пры гэтым, чым лепш яе атрымаецца ўвасобіць у жыццё, тым больш вялікую небяспеку яна будзе ўяўляць.

Дэмакратычныя законы звычайна імкнуцца забяспечыць даброты большасьці. Яны ж выходзяць ад большасьці грамадзянаў, якія могуць памыляцца, але не могуць адлюстроўваць зацікаўленасьці, процілеглыя сваім уласным.

Арыстакратычныя законы, наадварот, імкнуцца да засяроджвання ўлады і багацця ў руках невялікай купкі людзей, таму што арыстакратыя адпаведна са сваёй прыродай заўсёды з'яўляецца меншасьцю.

У вогуле можна сказаць, што дэмакратычная заканатворчасць нясе больш выгоды чалавецтву, чым арыстакратычная.

Аднак гэта яе адзіная перавага.

Арыстакратыя значна больш умела карыстаецца заканадаўствам, чым дэмакратыя. Яна добра валодае сабой, ёй незнаёмы мімалётныя захапленні, яна старанна выношвае свае задумы і ўмее дачакацца спрыяльнага моманту дзеля іхнага ўвасаблення. Яна дзейнічае з веданнем справы і ўмее ў вызначаны момант па-майстэрску накіраваць сукупную магутнасць сваіх законаў да адзінай мэты.

Пра дэмакратыю гэтага сказаць немагчыма: яе законы амаль заўсёды недасканалыя ці несвоечасовыя.

Такім чынам, сродкі, выкарыстоўваемыя дэмакратыяй, менш дасканалыя, чым тыя, якія выкарыстоўвае арыстакратыя, і яна часта супраць сваёй волі дзейнічае сабе на шкоду, але яе мэты шляхетныя.

Уявіце сабе грамадства, прырода і структура якога такія, што дазваляюць яму пераносіць часовае уздзеянне няўдалых законаў, грамадства, якое мае магчымасць без небяспекі для сябе чакаць станоўчых вынікаў агульнай

накіраванасьці законаў і вы пагадзіцеся, што росквіту такога грамадства ў самай вялікай ступені спрыяе дэмакратычная форма кіравання, нягледзячы на ўсе яе заганы.

Менавіта такая рэчаіснасць існуе ў Злучаных Штатах. Я паўтару тут тое, што ўжо выказваў вышэй: вялізнай перавагай амерыканцаў з’яўляецца тое, што яны могуць сабе дазволіць рабіць памылкі, якія магчыма выправіць.

Амаль тое ж самае можна сказаць і пра дзяржаўных службоўцаў.

Лёгка заўважыць, што амерыканская дэмакратыя часта памыляецца ў выбары людзей, якім яна давярае ўладу. Аднак вельмі не лёгка адказаць на пытанне, чаму кіруемая гэтымі людзьмі дзяржава квітнее.

Варта пазначыць, што, хаця кіраўнікі дэмакратычнай дзяржавы не заўсёды дастатковa сумленныя і разумныя, яе грамадзяне адукаваныя і сьвядомыя.

Народы дэмакратычных дзяржаў, увесь час заняты сваімі справамі і раўніва аберагаюць свае правы, не дазваляючы сваім прадстаўнікам адхіляцца ад вызначанай агульнай лініі, якая дыктуецца іхнымі зацікаўленасьцямі.

Не патрэбна таксама забывацца пра тое, што ў дэмакратычных дзяржавах урадаўцы, выконваючыя свае абавязкі горш, чым урадаўцы іншых дзяржаў, застаюцца пры ўладзе не вельмі доўга.

Але існуе і яшчэ адна нагода, больш агульнага характару і глыбейшая.

Вядома, народная выгода патрабуе ад уладаўцаў учыннасьцей і талентаў. Але яшчэ ў большай ступені яна патрабуе агульнасьці зацікаўленасьцей грамадзянаў і кіраўнікоў. У адваротным выпадку ўчыннасьці могуць ператварыцца ў не маючыя карысьці годнасьці, а таленты – небяспечнымі.

Важна, каб кіраўнікі і масы грамадзян не былі падзелены процілеглымі ці рознымі зацікаўленасьцямі. Але гэта цалкам не азначае, што зацікаўленасьці ўсіх павінны цалкам супадаць. Такога не бывае ніколі.

Яшчэ не знойдзена палітычнае ўладкаванне, якое б у аднолькавай ступені спрыяла развіццю і росквіту ўсіх станаў, складаючых грамадства. Станы ўяўляюць сабой нешта накшталт асобных нацый у сярэдзіне аднаго народа, і досьвед паказвае, што аддаваць якой-небудзь із іх у рукі іншы так жа небяспечна, як дазваляць аднаму народу распараджацца лёсам іншага. Калі ва ўладзе стаяць адны заможныя, зацікаўленасьці немаёмасных заўсёды ў небяспецы. Калі немаёмасныя дыктуюць сваю волю, пад удар ставяцца зацікаўленасьці заможных. У чым жа складаюцца перавагі дэмакратыі? Рэчаісна яны складаюцца не ў тым, што дэмакратыя, як кажуць некаторыя, гарантуе росквіт усім, а ў тым, што яна спрыяе дабрабыту большасьці.

Людзі, якія ў Злучаных Штатах кіруюць справамі грамадства, часта не валодаюць такімі ж талентамі і маральнымі якасьцямі, як тыя, каго да ўлады прыводзіць арыстакратыя. Але іх зацікаўленасьці перамешваюцца і зліваюцца з зацікаўленасьцямі большай часткі іхных суграмадзянаў. Яны могуць здзяйсняць несумленныя ўчынкі ці рабіць сур’ёзныя памылкі, але яны ніколі не будуць сістэматычна праводзіць палітыку варожую большасьці, іх кіраванне ніколі не будзе вызначацца небяспечнай няцярпімасьцю.

У дэмакратычным грамадстве дрэнная праца ўрадаўца – гэта ўсяго толькі асобны факт, робячы ўплыў толькі падчас выканання ім сваіх абавязкаў. Карупцыя і некампетэнтнасць не з’яўляюцца тымі агульнымі зацікаўленасьцямі, якія маглі б надоўга аб’яднаць людзей.

Прадажны і няздольны ўрадавец не будзе дзейнічаць разам з іншым урадаўцам толькі таму, што той таксама тупы і прадажны. Яны не будуць супольна працаваць дзеля квітнення карупцыі і некампетэнтнасьці. Імкненне да ўлады і махінацыі аднаго могуць мець наступствам выкрыванне іншага. У дэмакратычных дзяржавах заганы ўрадаўцаў звычайна індывідуальныя.

У дзяржаве кіруемай арыстакратыяй, грамадзкім дзеячам уласцівы станавыя зацікаўленасьці. Часам, праўда, яны могуць збліжацца з зацікаўленасьцямі большасьці, але часьцей адрозніваюцца ад іх. Із іх вырастаюць працяглыя сувязі, згуртоўваючыя ўсіх грамадзкіх дзеячоў, падахвочваючыя іх аб'ядноўваць і ўзгадняць дзеянні, мэтай якіх не заўсёды з'яўляюцца дабрыты большасьці. Пры гэтым уладаўцы злучаны не толькі адзін з адным, але і з немалой колькасьцю грамадзянаў, тых прадстаўнікоў арыстакратычнага стану, якія не займаюць ніякіх дзяржаўных пасад.

Такім чынам, урадавец у арыстакратычнай дзяржаве ўвесь час адчувае падтрымку, як з боку грамадства, так і з боку ўрада.

Мала таго, што ў арыстакратычнай дзяржаве ўрадаўцы маюць агульныя зацікаўленасьці і мэты з вызначанай часткай сваіх сучаснікаў, ім таксама з'яўляюцца блізкімі зацікаўленасьці будучых пакаленняў, якім яны, можна сказаць, служаць. Яны працуюць не толькі для сучаснасьці, але і для будучыні. Усё вядзе гэтых урадаўцаў да адзінай мэты: і жарсьці грамадзянаў, і іхныя ўласныя жарсьці, і нават зацікаўленасьці нашчадкаў.

Ці магчыма супрацьстаяць такому напору? Таму нярэдка ў арыстакратычных грамадствах станавыя зацікаўленасьці занявольваюць нават сумленных людзей, і яны, самі таго не заўважаючы, паступова пераінaчваюць грамадства, арыентуючыся толькі на свае зацікаўленасьці, а таксама робяць усё для таго, каб забяспечыць надзейную будучыню сваім нашчадкам.

Не ведаю, ці існуе на сьвеце іншая такая ж ліберальная арыстакратыя, як ангельская, якая ўвесь час давала б столькі годных і асьвечаных людзей для кіравання краінай.

Аднак немагчыма не прызнаць, што ангельскія законы часта ахвяруюць выгодай немаёмаснага дзеля выгоды заможнага і правамі большасьці дзеля прывілеяў некаторых. Вось чаму сёняшняя Ангельшчына – гэта краіна крайнасьцей, у якой бед не менш, чым магутнасьці і славы.

У Злучаных Штатах, дзе дзяржаўныя службоўцы не абараняюць класавых зацікаўленасьцей, безперапынны працэс кіравання ў цэлым мае карысць, хаця ўрадаўцы нярэдка бываюць некампетэнтнымі і нават заслугоўваюць пагарды.

Можна зрабіць выснову пра тое, што дэмакратычныя ўстановы ўтойваюць у сабе магутнасьці, дзякуючы якім асобныя людзі, нягледзячы на свае заганы і памылкі, спрыяюць агульнаму росквіту, тады як у арыстакратычных установах існуе нешта такое, дзякуючы чаму дзейнасць таленавітых і ўчынных людзей мае наступствам пакуты іхных суграмадзянаў. Так, здараецца, што ў арыстакратычных дзяржавах грамадзкія дзеячы робяць зло, не жадаючы гэтага, а ў дэмакратычных – дабро, не заўважаючы гэтага.

## Грамадзкія настроі ў Злучаных Штатах

–Прыроджаная павага да радзімы. –Разумовы патрыятызм. –Адрозненне паміж імі. –Калі першая знікае, народам варта рабіць усё каб набыць другі. –Якія намаганні прыклалі для гэтага амерыканцы. –Цесная сувязь зацікаўленасьцей краіны і прыватных грамадзянаў.

Існуе павага да радзімы, якую замацоўваюць неўсведамляемыя, бескарыслівыя і летуценныя пачуцці, павага, якая напаўняе душу чалавека прыхільнасьцю да месца яго нараджэння. Да такой інстынктыўнай павагі дамешваецца яшчэ прыхільнасць да старажытных звычаяў, павага да продкаў, памяць пра мінулае, і людзі паважаюць сваю краіну так жа, як бацькоўскую сядзібу. Ім падабаецца пануючы ў ёй спакой, набытыя там мірныя звычкі, успаміны, якія яна ім навявае. Ім нават бывае соладка жыць там у няволі. Такая павага да радзімы нярэдка падаграваецца яшчэ і рэлігійнымі пачуццямі і тады яна робіцца здольнай вырабляць дзівы. Дарэчы, яна сама падобна на рэлігію: выпрабоўваючы яе чалавек не разважае, ён верыць, адчувае і дзейнічае. Вядомы народы, якія, можна сказаць, персаніфікавалі сваю радзіму, атаясамляючы яе з валадаром. Яны пераносілі на яго частку сваіх патрыятычных пачуццяў, ганарыліся яго перамогамі і яго ўсемагутнасьцю. Да Французскай рэвалюцыі быў час, калі французы з нейкай радасьцю прымалі бязмежную самаволю манарха і ганарліва казалі: «У нас самы магутны кароль на зямлі».

Як і кожнае не ўсведамляемае пачуццё, такая павага да радзімы ў стане хутчэй падштурхнуць на вялікія, але кароткачасовыя спрвы, чым на сталыя намаганні. Яна ратуе дзяржаву пад час хвіліны небяспекі і можа пакінуць яе на самаволю лёсу ў мірны час.

Гэтая інстынктыўная павага да радзімы пануе тады, калі норавы простыя, а вера моцная, калі непадзельна пануе даўняе грамадзкае ўпарадкаванне, справядлівасць якога ніхто не аспрэчвае.

Існуе і іншая павага да радзімы, больш рацыянальная. Яна, магчыма, менш вялікадушная і палкая, але больш плённая і ўстойлівая. Гэтая павага ўзнікае ў выніку асьветы, павялічваецца з дапамогай законаў, узрастае па меры карыстання правамі і, нарэшце, зліваецца з асабістымі зацікаўленасьцямі чалавека. Людзі пачынаюць бачыць сувязь паміж дабрабытам краіны і іхным уласным дабрабытам, усведамляюць, што закон дазваляе ім яго ствараць. У іх абуджаецца зацікаўленасць да росквіту краіны спачатку як да чагосьці маючага карысць для іх, а потым як да ўласнага тварэння.

Аднак у жыцці народаў часам настаюць перыяды, калі старажытныя норавы і звычаі разбураны, вера пахіснута, павага да мінулага забытая і ў той жа час асьвета яшчэ не атрымала пашырэння, а палітычныя правы яшчэ абмежаваны і ненадзейныя. Пад час такіх момантаў радзіма ўяўляецца людзям як нешта невыразнае і няслушнае. Яны не злучаюць уяўленне пра яе ні з тэрыторыяй, якая ператвараецца ў іхных вачах у бяздушную зямлю, ні са звычаямі продкаў, на якія яны ўжо прызвычаіліся глядзець як на ярмо, ні з рэлігіяй, у якой яны сумняваюцца, ні з законамі, да стварэння якіх іх не падпускаюць, ні з заканадаўцамі, якіх яны баяцца і якімі пагарджаюць. Страціўшы як выяву радзімы, так і ўсё тое што яе ўвасабляла, яны замыкаюцца ў вузкім і невуцкім эгаізме. Пад час такіх момантаў людзі пазбаўлены забабонаў, але яны не прызнаюць і ўладу розуму. У іх няма ні інстынктыўнага патрыятызму, уласьцівага манархіі, ні разумовага, уласьцівага рэспубліцы, яны спыніліся пасярэдзіне паміж тым і другім і жывуць у стане закалот і бездапаможнасьці.

Што рабіць у такіх выпадках? Патрэбна б вярнуцца назад. Але так жа як людзі не ў стане вярнуцца да нявінных радасьцей юнацтва, так і народы не могуць зноў знайсьці згубленыя пачуцці сваёй маладосьці. Нават калі яны шкадуюць пра іх, яны не ў стане іх адрадзіць. Дзякуючы таму што бескарыслівая павага да

радзімы незвяртальна сыходзіць, патрэбна ісьці наперад і рабіць усё для таго, каб аб’яднаць ва ўяўленнях народа асабістыя зацікаўленасьці і зацікаўленасьці краіны.

Я цалкам не маю намеру сцвярджаць, што для таго, каб дамагчыся гэтай мэты, патрэбна адразу даць усім грамадзянам палітычныя правы. І ўсё ж, у нас існуе толькі адзін магутны сродак, здольны зацікавіць людзей лёсам сваёй краіны: патрэбна прыцягнуць іх да кіравання ёю. У нашы дні грамадзянскія пачуцці неадлучны ад палітычных правоў і ў будучыні колькасць сапраўдных грамадзянаў будзе залежаць ад пашырэння ці звужэння надаваемых ім палітычных правоў.

Людзі, якія зараз жывуць у Злучаных Штатах, прыбылі туды нядаўна, яны не прынеслі з сабой ні ранейшых звычаяў, ні ўспамінаў, яны сустракаюць там адзін аднаго ўпершыню і дрэнна ведаюць адзін аднаго. Чаму ж кожны із іх цікавіцца справамі злучыны, акругі і ўсёй дзяржавы, як сваімі ўласнымі? Толькі таму, што кожны із іх па-свойму бярэ актыўны ўдзел у кіраванні грамадствам.

У Злучаных Штатах простыя людзі разумеюць адну нескладаную, але ў той жа час дрэнна ўсведамляемую народамі праўду: шчасьце кожнага залежыць ад агульнага росквіту. Больш таго, яны прызвычаіліся глядзець на гэты росквіт як на справу сваіх рук, яны не адлучаюць дабрабыт грамадства ад уласнага дабрабыту і працуюць на выгоду дзяржавы не толькі із пачуцця абавязку ці гонару, але, можна сказаць, грунтуючыся на запале да нажывы.

Няма патрэбы вывучаць амерыканскія ўстановы і гісторыю для таго, каб пераканацца ў правільнасьці вышэйсказанага, – пра гэта дастаткова красамоўна сведчаць норавы. Дзякуючы таму што амерыканцы маюць дачыненне да ўсяго, што адбываецца ў іхнай краіне, яны горача абараняюць усё, што ў ёй крытыкуюць. Вядома ж, закранаюць не толькі іхную краіну, але і іх саміх. Таму ў сваім нацыянальным гонары яны звяртаюцца да розных хітрыкаў і даходзяць нават да дзяцячасьці, уласцівай індывідуальнай ганарыстасьці.

Няма нічога больш непрыемнага ў штодзённым жыцці, чым гэты невыносны амерыканскі патрыятызм. Замежнік гатовы ўхваліць шмат што ў Амерыцы, але ён мае жаданне мець таксама магчымасць нешта пакрытыкаваць, а яму ў гэтым катэгарычна адмаўляюць.

Такім чынам, Амерыка – гэта вольная краіна, але, каб нікога не пакрыўдзіць, замежнік павінен асьцерагацца вольна выказваць свае думкі як пра прыватных асоб, так і пра дзяржаву, і пра падданых, і пра ўрадаўцаў, і пра грамадзкія справы, і пра прыватныя прадпрыемствы. Словам, ён не мае магчымасьці выказвацца вольна ні пра што, не лічачы, магчыма, клімату і ўласьцівасьцей глебы. Але і ў гэтым апошнім выпадку знойдуцца амерыканцы, якія будуць абараняць і тое і другое так, нібы-та яны стварылі іх уласнымі рукамі.

У нашы дні патрэбна набрацца мужнасьці і зрабіць выбар паміж усеагульным патрыятызмам і кіраваннем меншасьці. Аб’яднаць жа сацыяльную магутнасць і актыўнасць першага са спакоем, які парой прыносіць другое, немагчыма.

## Пра разуменне правоў у Злучаных Штатах

–Вялікія народы не могуць існаваць без разумення пра правы. –Як народ спасьцігае ідэю права. –Павага да правоў у Злучаных Штатах. –Адкуль яна з’явілася.

Самым выдатным разуменнем пасьля агульнага разумення пра ўчыннасць з’яўляецца разуменне пра правы. Больш дакладна кажучы, абодва гэтыя разуменні

датыкаюцца: правы – гэта не што іншае, як учыннасьці, перанесеныя ў палітычнае жыццё.

Менавіта разуменне пра правы дазволіла людзям вызначыць, што існуюць усёдазволенасць і самаволя. Яно дапамагае ім быць незалежнымі без фанабэрыстасьці і падначальвацца, не страчваючы годнасьці. Падначальваючыся гвалту, чалавек прыніжаецца і зневажаецца. Калі ж ён падначальваецца праву распараджацца, якое ён прызнае за сабе падобным, ён у нейкім сэнсе нават узвышаецца над тым, хто ім кіруе. Не можа існаваць як вялікіх людзей, не нададзеных учыннасьцямі, так і вялікіх народаў, не паважаючых правоў. Пры адсутнасьці правоў наўрад ці можна разважаць пра існаванне грамадства. Хіба можна назваць грамадствам згуртаванне разумных істот, калі іхнае адзінства заснавана толькі на гвалце?

Як дапамагчы сучасным людзям засвоіць ідэю правоў, як, калі можна так выказацца, давесьці яе да іхнай свядомасьці? Існуе толькі адзін спосаб: патрэбна ўсім ім даць магчымасць спакойна карыстацца некаторымі правамі. Гэта можна добра праілюстраваць, прывёўшы ў якасьці прыклада паводзіны дзяцей, якія адрозніваюцца ад сталых людзей толькі адсутнасьцю моцы і досьведу. Калі дзіцёнак пачынае перамяшчацца сярод рэчаў навакольнага сьвету, ён інстынктыўна імкнецца завалодаць усім, што яму трапляе пад руку. Ён не мае ніякага разумення пра чужую ўласнасць, не ведае нават, што такая існуе, але, па меры таго як ён пазнае кошт рэчаў і выяўляе, што і яго таксама нехта можа пазбавіць іх, ён робіцца больш абачлівым і, на прыканцы, пачынае ставіцца да сваіх блізкіх так, як ён жадаў бы, каб ставіліся да яго.

Тое, што адбываецца з дзіцём і яго цацкамі, пазьней адбываецца са сталым чалавекам і яго маёмасьцю. Чаму ў Амерыцы, такой дэмакратычнай краіне, ніхто не выступае супраць уласнасьці, як гэта часта здараецца ў Яўропе? Ці патрэбна гэта тлумачыць? У Амерыцы ж няма пралетараў і дзякуючы таму што кожнаму ёсць што абараняць, усемў прынцыпе прызнаюць права ўласнасці.

Тое ж самае адбываецца і ў палітычным жыцці. У Амерыцы простыя людзі ўсьведамляюць высокае разуменне палітычных правоў, таму што яны іх маюць. Яны не квапяцца на правы іншых, таму што не жадаюць, каб парушалі іхныя правы. У Яўропе простыя людзі не жадаюць прызнаваць нават вярхоўную ўладу, а ў Амерыцы пакорліва падначальваюцца ўладзе самага дробнага ўрадаўца.

І гэта бачна на прыкладзе ўсіх, нават самых нязначных праяваў народнага жыцця. У Францыі амаль няма забаваў, прызначаных выключна для вышэйшых станаў грамадства. Паўсюдна, дзе бываюць заможныя, дапускаюць і немаёмасных. Таму яны паводзяць сябе годна і з павагай ставяцца да ўсяго, што служыць агульным забавам. У Ангельшчыне ж, дзе забавы, так жа як і ўлада, з'яўляюцца прывілеем і манаполіяй заможных, можна пачуць скаргі на тое, што немаёмасныя, калі ім атрымліваецца пракрасьціся ў месцы, прызначаныя для забаваў заможных, з задавальненнем учыняюць там не маючы сэнсу пагром. Што ж у гэтым дзіўнага? Грамадства паклапацілася пра тое, каб ім не было чаго губляць.

Дэмакратыя даводзіць разуменні палітычных правоў да свядомасьці кожнага грамадзяніна, так жа як наяўнасць маёмасьці робіць даступным усім людзям разуменне уласнасьці. У гэтым складаецца, на маю думку, адна із яе галоўных вартасьцей.

Вядома, вельмі цяжка навучыць усіх карыстацца палітычнымі правамі, але дасягненне гэтай мэты прыносіць дзіўныя вынікі.

Варта яшчэ дадаць, што наша стагоддзе ўяўляецца самым прыдатным для таго, каб паспрабаваць зрабіць гэта.

Рэлігія губляе магутнасць, і дзякуючы гэтаму знікае разуменне боскасьці правоў. Норавы псуюцца, і дзякуючы гэтаму паслабляецца маральнае разуменне правоў.

Паўсюдна забабоны прыходзяць на месца разважанняў, а пачуцці – на месца разлікаў. І калі пасярод гэтага ўсеагульнага развалу не атрымаецца звязаць разуменне праў з адзіным, што яшчэ не разбурана ў чалавечай душы, а менавіта з асабістай зацікаўленасьцю, то для кіравання сьветам не застанецца нічога, акрамя гвалту.

Калі мяне пераконваюць, што законы недастаткова суровыя, а падданыя апантаныя, што жарсьці гарачыя, а ўчыннасць нямоглая і таму немагчыма і думаць пра пашырэнне дэмакратычных правоў, я адказваю, што пра гэта патрэбна думаць менавіта бяручы да ўвагі ўсе гэтыя нагоды. Сапраўды, урады зацікаўлены ў гэтым больш, чым грамадства. Урады ж гінуць, а грамадства несьмяротнае. Дарэчы, у дадзеным выпадку прыклад Злучаных Штатаў не паказальны.

У Амерыцы народ атрымаў палітычныя правы ў такі час, калі яму яшчэ было цяжка выкарыстаць іх у зло, таму што грамадзяне былі малалікімі, а норавы простыя. Па меры павелічэння насельніцтва краіны амерыканцы не пашыралі, калі можна так выказацца, паўнамоцтвы дэмакратыі, а хутчэй пашыралі сферы яе ўжывання.

Няма сумневаў у тым, што момант, калі народ, да гэтага не меўшы палітычных правоў, атрымлівае іх, – гэта крызіс, крызіс часта патрэбны, але заўсёды небяспечны.

Дзіцё, не разумеючы каштоўнасьці жыцця, можа забіць. Да таго часу пакуль ён не ведае, што і сам можа стаць ахвярай крадзяжу, ён можа завалодаць чужой уласнасьцю. Простыя людзі, упершыню атрымаўшыя палітычныя правы, апынаюцца ў дачыненні да іх у такім жа становішчы, у якім знаходзіцца дзіцёнак да атачаючага яго сьвету. Да іх можна дапасаваць гэтае знакамітае выказванне: Homo puer robustus[190].

Гэта бачна і ў Амерыцы. У штатах, дзе грамадзяне даўно карыстаюцца правамі, яны выкарыстоўваюць іх самым лепшым чынам.

Можна без перабольшання сказаць: мастацтва жыць вольным здольна рабіць дзівы, але ў той жа час няма нічога больш цяжкага, чым вучыцца жыць вольным. З дэспатызмам усё інакш. Ён нярэдка ўяўляецца сродкам ад усіх перанесеных пакут, падпоркай законных правоў, падтрымкай прыгнечаных, падмуркам парадку. Народы забываюцца ў становішчы часовага дабрабыту, якое ён спараджае, а абуджаюцца яны ўжо ў стане вартым жалю. Воля, наадварот, звычайна нараджаецца ў бурах і з цяжкасьцю замацоўваецца сярод грамадзянскіх нязгод. Яе вартасьці можна спазнаць толькі тады, калі яна дасягае сталага веку.

## Павага закона ў Злучаных Штатах

–Паважлівае стаўленне амерыканцаў да закона. –Яны адчуваюць да яго бацькоўскія пачуцці. –Умацаванне закона з'яўляецца асабістай зацікаўленасьцю кожнага.

Не заўсёды магчыма прама ці ўскосна прыцягнуць увесь народ да стварэння закона. Але немагчыма адмаўляць, што ў тых выпадках, калі гэта атрымліваецца,

[190] Чалавек моцны, але неспрактыкаваны (лат).

аўтарытэт закона значна павялічваецца. Народнае паходжанне законаў, якое часта шкодзіць іх якаснасьці і мудрасьці, дзіўным чынам спрыяе ўзрастанню іхнай магутнасьці.

У волі, выказанай цэлым народам, заключаецца каласальная магутнасць. Калі яна выяўляецца ва ўсёй сваёй магутнасьці, яна душыць уяўленне тых, хто пажадаў бы супрацiўляцца ёй.

Гэта добра вядома ўсім партыям.

Таму яны і аспрэчваюць наяўнасць большасьці, дзе толькі могуць. Калі, згодна з іхнай думкай, яе не складаюць тыя, хто галасаваў, яны сцвярджаюць, што яе складаюць не браўшыя ўдзел у галасаванні; калі і там яе няма, яны знаходзяць яе сярод тых, хто пазбаўлены права голасу.

У Злучаных Штатах усе грамадзяне, акрамя рабоў, слуг і беднякоў, жывучых за кошт злучыны, маюць права галаса і, такім чынам, усе ўскосна бяруць удзел у заканадаўчай дзейнасьці. Той, хто выступае супраць закона, вымушаны адкрыта рабіць адно із двух: або імкнуцца перамяніць перакананні народа, або не звяртаць увагу на яго волю.

Да гэтага патрэбна дадаць яшчэ адзін доказ, больш пэўны і важкі: у Злучаных Штатах кожны ў нейкім сэнсе асабіста зацікаўлены ў тым, каб усе выконвалі законы. Той жа, хто сёння не ўваходзіць у большасць, можа стаць ёй заўтра. І тады ён будзе патрабаваць такой жа павагі да сваёй волі, якую сёння ён выяўляе да волі заканадаўцаў. Якім бы няўдалым ні быў бы закон, грамадзяне Злучаных Штатаў выконваюць яго без прымусу і ставяцца да яго не толькі як да выніку працы большасьці, але і як да ўласнай справы. Яны глядзяць на яго як на пагадненне у якім яны бяруць удзел.

У Амерыцы няма шматлікага і неспакойнага пласта людзей, глядзячых на закон з баязьню і падазрэннем, як на свайго натуральнага ворага. Наадварот, немагчыма не заўважыць, што ўсе станы цалкам давяраюць законам грунтуючыся на якіх жыве краіна, і адчуваюць да іх нешта накшталт бацькаўскай павагі.

Сказаўшы «ўсе станы», я дапусьціў недакладнасць. Дзякуючы таму што піраміда еўрапейскіх палітычных магутнасьцей існуе ў Амерыцы ў перавернутым выглядзе, заможныя займаюць там такое ж становішча, якое ў Яўропе займаюць немаёмасныя. Менавіта заможныя нярэдка з недаверам ставяцца да закону. Я ўжо выказваўся пра тое, што рэчаіснай перавагай дэмакратычнага кіравання з'яўляецца не тое, як гэта часам сцвярджаюць, каб забяспечыць усеагульныя зацікаўленасьці, а толькі ў тым, каб засьцерагаць зацікаўленасьці большасьці. У Злучаных Штатах, дзе кіруюць немаёмасныя, заможным даводзіцца ўвесь час асьцерагацца, як бы тыя не выкарысталі супраць іх сваю ўладу.

Такі настрой заможных можа ператварыцца ў глухую незадаволенасць, але ён не ў стане спарадзіць буйных узрушэнняў у грамадстве. Тая ж нагода, дзякуючы якой заможныя не давяраюць законам, перашкаджае ім занядбаць іх выкананнем. Заможныя адхілены ад заканатворчай дзейнасьці менавіта таму, што яны заможныя, дзякуючы той жа нагодзе яны не адважваюцца парушаць закон. У цывілізаваных краінах звычайна паўстаюць толькі тыя, каму няма чаго губляць. Такім чынам, хаця законы дэмакратычнага грамадства не заўсёды заслугоўваюць павагі, іх заўсёды выконваюць. Тыя ж, хто часьцей усяго парушае закон, не могуць не падначальвацца законам, створаным імі самімі і прыносячымі ім карысць, а тыя, хто мог бы быць зацікаўлены ў іхным парушэнні, згодна са сваім характарам і становішчам у грамадстве схіляюцца да таго каб выконваць якую б то ні было

волю заканадаўцы. Акрамя таго, амерыканцы паважаюць законы не толькі таму, што яны іх самі ствараюць, але яшчэ і таму, што яны маюць магчымасць іх перамяняць у выпадку, калі законы наносяць ім шкоду. Яны падначальваюцца законам як усьвядомлена патрэбнаму злу, але таксама як і часоваму злу.

## Актыуная дзейнасць палітычных улад усіх роуняу у злучаных штатах. Яе уплыу на грамадства

–Лягчэй зразумець волю і роўнасць, уласцівыя Злучаным Штатам, чым бурлячую там палітычную дзейнасць. –Гэтая дзейнасць ахаплівае ўсю краіну; сталая і энергічная праца легіслатур з’яўляецца толькі яе часткай. –Амерыканцам не дастаткова займацца толькі сваімі ўласнымі справамі. –Палітычная актыўнасць уплывае на грамадзкае жыццё. –Гэты факт збольшага тлумачыць поспехі развіцця прамысловасьці ў Злучаных Штатах. –Ускосныя перавагі, здабываемыя грамадствам із дэмакратычнай формы кіравання.

Калі із вольнай краіны прыязджаеш у краіну пазбаўленую волі, то бачыш незвычайную выяву: у першай краіне ўсё дзейнічае і рухаецца, у другой – усё спакойна і нерухома. У першай толькі і чуеш пра паляпшэнні і прагрэс; назіраючы другую, можна падумаць, што грамадства ўжо дасягнула ўсяго найлепшага і зараз мае жаданне толькі цешыцца ўсім і адпачываць. Аднак краіна, якая актыўна працуе, каб стаць шчаслівай, звычайна бывае больш заможнай і квітнеючай, чым тая, якая задаволена сваім лёсам. Знаёмячыся з імі абодвума, нялёгка зразумець, чаму ў першай бесперастанна з’яўляюцца ўсе новыя патрэбы, а другая, здавалася б, не мае амаль ніякіх жаданняў.

Гэтая з’ява можа быць адзначана ў вольных краінах, захаваўшых манархію, ці ў тых, дзе кіруе арыстакратыя, але асабліва выразна яна выяўляе сябе ў дэмакратычных рэспубліках. У іх удасканаленнем грамадства займаецца не нейкая частка народа, а ўвесь народ, які клапоціцца пра патрэбы і выгоду ўсіх станаў, а не нейкага аднаго.

Нескладана ўявіць вялізную вольнасць і поўную роўнасць, якімі карыстаюцца амерыканцы, але немагчыма зразумець, што такое амерыканская палітычная дзейнасць, не пабачыўшы гэтага ўласнымі вачамі.

Ступіўшы на амерыканскую зямлю, вы адразу апынаецеся пасярод нейкай мітусні: з усіх бакоў чуюцца невыразныя воклічы, вы чуеце адразу шмат галасоў, кожны із якіх выказваецца пра нейкую грамадзкую праблему. Усё рухаецца вакол вас: тут жыхары квартала сабраліся для таго, каб вырашыць ці патрэбна будаваць царкву, там ідуць выбары прадстаўніка ва ўстановы ўлады, далей дэпутаты нейкай акругі спяшаюцца ў горад для таго, каб прыняць рашэнне з нагоды некаторых паляпшэнняў мясцовага значэння, недзе яшчэ земляробы пакідаюць сваю працу і ідуць абмяркоўваць план будавання дарагі ці школы. Зруртаванне грамадзянаў збіраецца з адзінай мэтай: заявіць пра сваю нязгоду з дзейнасьцю ўрада, тым часам як другое згуртаванне, сабраўшыся, абвяшчае ўсіх службовых асоб бацькамі айчыны. А вось і яшчэ адна, якая лічыць, што галоўнай крыніцай усіх дзяржаўных бед з’яўляецца п’янства, і ўрачыста абавязваецца даваць прыклад цьвярозасьці[191].

Сталая і актыўная дзейнасць амерыканскіх легістратур, адзіная, пра якую вядома за мяжой, з’яўляецца толькі часткай і працягам агульнай дзейнасьці,

---

[191] Таварыствы цьвярозасьці – гэта згуртаванні, сябры якіх абавязваюцца ўстрымлівацца ад ужывання моцных напояў. Падчас майго знаходжання ў Злучаных Штатах таварыствы цьвярозасьці налічвалі ўжо 270 тысяч сябраў. Дзякуючы іхнаму ўплывам у адным толькі штаце Пенсільванія спажыванне моцных напояў паменшылася на 500 тысяч галонаў за год.

нараджаючайся ў глыбіні народных мас і памаленьку ахопліваючай усе станы грамадзянаў. Усе рупліва працуюць дзеля выгоды сваёй краіны.

У жыцці грамадзянаў Злучаных Штатаў палітычная дзейнасць займае вялізнае месца. Браць удзел у кіраванні грамадствам і выказвацца пра яго – вось самы галоўны занятак і самае вялікае задавальненне для амерыканца. Гэта выяўляецца ў яго самых нязначны звычках. Нават жанчыны часта выпраўляюцца на публічныя сходы і адпачываюць ад хатняй мітусні слухаючы палітычныя прамовы. Клубы замяняюць ім да некаторай ступені відовішчы. Амерыканцы не размаўляюць, а спрачаюцца, не выказваюцца, а разважаюць. Яны звяртаюцца да аднаго чалавека, як да цэлага сходу, і, разгарачыўшыся, могуць сказаць «Спадары», размаўляючы з адным суразмоўцам.

Жыхары некаторых краін адчуваюць нешта накшталт агіды да палітычных правоў, якія даюцца ім законам. Для іх займацца агульнымі справамі раўназначна марнаванню часу, яны аддаюць перавагу сядзець за равамі і загародамі, замкнуўшыся ў сваім вузкім эгаізме.

Што ж да амерыканцаў, то, калі б яны былі вымушаны займацца толькі сваімі ўласнымі справамі, іх жыццё напалову страціла б сэнс, здавалася б ім пустым і яны адчувалі б сябе вельмі нешчасьлівымі[192].

Я перакананы, што калі ў Амерыцы калі-небудзь усталюецца дэспатычная ўлада, то ёй будзе значна цяжэй пераадолець звычкі, народжаныя вольнасьцю, чым зламаць павагу да яе.

Узнікаючая пры дэмакратычнай форме кіравання бесперапынная дзейнасць у палітычнай сферы пераходзіць потым і ў грамадзянскае жыццё. Магчыма, што, урэшце, менавіта ў гэтым і складаецца асноўная перавага дэмакратыі. Яе галоўная каштоўнасць не ў тым, што яна робіць сама, а ў тым, што робіцца дзякуючы ёй.

Вядома, народ нярэдка вельмі дрэнна вядзе дзяржаўныя справы, але па меры таго, як ён займаецца імі, кола яго ідэй пашыраецца і ён вызваляецца ад уласцівай яму закасьцянеласьці. У чалавека із народа, закліканага кіраваць грамадствам, расьце самапавага. Ён надзелены ўладай і лепшыя розумы прыходзяць яму на дапамогу. Адны звяртаюцца да яго за падтрымкай, іншыя шукаюць розныя спосабы, каб ашукаць яго, і ўсё гэта яго адукуе. У вобласьці палітыкі ён праводзіць у жыццё тое, што задумана іншымі, і гэтая праца выхоўвае ў ім густ да прадпрымальніцтва. Кожны дзень ён чуе парады з нагоды ўдасканалення грамадзкай уласнасьці і гэта нараджае ў ім жаданне ўдасканальваць і свой уласны набытак. Пэўна што ён не больш учынны і шчаслівы чым яго продкі, але ён больш асьвечаны і актыўны. Дэмакратычныя ўстановы, а таксама прыродныя ўмовы краіны, без сумневаў, з'яўляюцца хаця і не непасрэднай, як сцвярджаюць шмат хто, але ўскоснай нагодай дзіўнага развіцця прамысловасьці, што назіраецца ў Злучаных Штатах. Немагчыма сказаць, што яно адбываецца дзякуючы законам, але яго стваральнікам з'яўляецца народ, развіўшыся ў выніку заканатворчай дзейнасьці.

Супернікі дэмакратыі сцвярджаюць, што адзін чалавек лепш спраўляецца з дзяржаўным кіраваннем, чым увесь народ і я згодзен з імі. Пры ўмове, што культурны узровень кіраўніка і народа роўны, адзін чалавек кіруе дзяржавай больш пасьлядоўна, чым увесь народ, ён больш настойлівы, лепш бачыць цэлае і больш

---

[192] Нешта падобнае адбылося ў Рыме ў часы першых цэзараў. Мантэск'ё заўважае недзе, якая бязмерная роспач ахапіла некаторых рымскіх грамадзянаў, калі пасьля бурнага палітычнага змагання ім давялося нечакана перайсьці да пастаяннага прыватнага жыцця.

старанны ў дэталях, з вялікім веданнем справы падбірае сабе памагатых. Тыя, хто гэта адмаўляе, або ніколі не бачылі дэмакратычнай рэспублікі, або робяць высновы грунтуючыся на абмежаванай колькасьці прыкладаў. Дэмакратыя, нават калі дзякуючы мясцовым умовам і настроям народа яна мае магчымасць існаваць доўга, не адрозніваецца мернасьцю і метадычным упарадкаваннем у кіраванні – гэта бясспрэчна. Дэмакратычная вольнасць не такая дасканалая ва ўсіх сваіх пачынаннях, як разумны дыктатар. Часта яна кідае свае пачынанні перш, чым яны пачынаюць прыносіць вынікі, нярэдка пачынае небяспечныя справы. Аднак з часам яна прыносіць больш карысьці, чым дэспатызм. Кожная рэч у асобнасьці атрымліваецца ў яе горш, але ў цэлым яна робіць значна больш. У дэмакратычнай рэспубліцы вялікія справы робяцца не дзяржаўнай адміністрацыяй, а без яе і акрамя яе. Дэмакратыя – гэта не самая майстэрская форма кіравання, але толькі яна часам можа мецfolk наступствам бурны рух у грамадстве, надаць яму энергію і велізную магутнасць, невядомыя пры іншых формах кіравання. І гэтыя рухі, энергія і моц пры хаця б некалькі спрыяльных акалічнасьцях здольны рабіць дзівы. Гэта і ёсць сапраўдныя перавагі дэмакратыі.

Пад час нашага стагоддзя, калі будучыня хрысьціянскага сьвету такая нявызначаная, адны спяшаюцца пазмагацца з дэмакратыяй, пакуль яна яшчэ не набрала моцы, іншыя ўжо ўшаноўваюць яе як з’яўляючуюся на сьвет новую боскасць. Але і тыя і іншыя дрэнна ведаюць аб’ект сваёй нянавісьці ці глыбокай пашаны і ваююць без ведання справы, наносячы ўдары наўздагад.

Спачатку патрэбна дамовіцца: чаго мы чакаем ад грамадства і яго кіравання?

Ці жадаем мы ўзвысіць дух чалавека, дапамагчы яму з падзякай паглядзець на атачаючы яго сьвет? Ці жадаем мы надаць людзям пагарду да матэрыяльных даброт? Ці жадаем мы выклікаць да жыцця і культываваць глыбокія перакананні і беззапаветную адданасць?

Ці ставім мы сваёй мэтай паляпшэнне нораваў, выхаванне людзей і развіццё мастацтваў? Ці імкнёмся мы да паэзіі, шуму, славы?

Ці жадаем мы, каб наш народ быў здольны зрабіць моцны ўплыў на ўсе астатнія народы? Ці рыхтуем мы яго да вялікіх спраў, ці падрыхтоўваем мы яму, незалежна ад вынікаў яго намаганняў, асобную ролю ў гісторыі?

Калі, згодна з нашай думкай, галоўная мэта аб’яднаўшыхся ў грамадства людзей складаецца ў гэтым, то дэмакратычная форма кіравання нам не падыходзіць, яна не прывядзе нас да мэты.

Але калі мы лічым, што інтэлектуальную і маральную дзейнасць чалавека варта накіраваць на задавальненне патрэб матэрыяльнага жыцця і на стварэнне дабрабыту, калі нам здаецца, што розум прыносіць людзям больш карысьці, чым геніяльнасць, калі мы імкнёмся выхаваць не гераічныя ўчынкасьці, а мірныя звычкі, калі заганам мы аддаём перавагу перад злачынствамі і пагаджаемся ахвяраваць вялікімі справамі дзеля памяншэння колькасьці злачынстваў, калі мы жадаем жыць не ў бліскучым, а ў квітнеючым грамадстве і, нарэшце, калі, адпаведна з нашай думкай, асноўнай мэтай кіравання павінны быць не магутнасць і слава народу ў цэлым, а дабрабыт і шчасьце кожнага яго прадстаўніка, тады мы павінны зраўнаць права ўсіх людзей і ўсталяваць дэмакратыю.

Калі ж час для выбару прапушчаны і магутнасьці, якім чалавек не можа супрацьстаяць, нястрымана вабяць нас, насуперак нашаму жаданню, да адной із гэтых форм кіравання, мы павінны, прынамсі, паспрабаваць здабыць із яе

найвялікшую карысць. Ведаючы яе добрыя і благія бакі, мы можам паспрабаваць памякчыць другія і распрацаваць першыя.

# Глава VII

## Пра ўсеўладдзе большасьці ў Злучаных Штатах і пра яго наступствы

–Натуральная магутнасць большасьці ў дэмакратычных дзяржавах. –Штучнае павелічэнне гэтай магутнасьці ў большай частцы амерыканскіх канстытуцый. –Як гэта робіцца. –Патрабванні, выказваемыя выбарцамі свайму дэпутату. –Маральная ўлада большасьці. –Уяўленне пра яго бязгрэшнасць. –Павага да яе правоў. Іхная непахіснасць у Злучаных Штатах.

Падставай дэмакратычных формаў кіравання з’яўляецца непадзельная ўлада большасьці, таму што акрамя яе ў дэмакратычных дзяржавах не існуе нічога сталага.

У большай частцы амерыканскіх канстытуцый назіраецца імкненне павялічыць натуральную магутнасць большасьці[193].

Із усіх відаў палітычнай улады заканадаўчая ўлада найлепш паддаецца волі большасьці. Грунтуючыся на волі амерыканцаў яе прадстаўнікі абіраюцца непасрэдна народам і на вельмі кароткі тэрмін. Гэта вымушае іх выяўляць не толькі асноватворчыя погляды сваіх выбарцаў, але таксама іх хуткапраходзячыя жарсьці.

Сябрамі абодвух палат могуць стаць прадстаўнікі адных і тых жа станаў, працэдура іх абрання аднолькавая. У сувязі з гэтым увесь заканадаўчы корпус схільны да такіх жа хуткіх і непазбежных парамен, як і адна асобна ўзятая заканадаўчая асамблея.

Надаўшы заканадаўчай уладзе такую структуру, амерыканцы аддалі ў яе рукі амаль усе функцыі кіравання.

Закон умацаваў тыя накірункі ўлады, якія былі моцныя самі па сабе, і паслабіў тыя, якія былі слабымі. Прадстаўнікам выканаўчай улады ён не забяспечыў ні стабільнасьці, ні незалежнасьці, ён цалкам падначальваў іх капрызам заканадаўцаў і такім чынам пазбавіў той нязначнай магутнасьці, якую яны маглі б мець у дэмакратычнай дзяржаве.

У шмат якіх штатах фарміраванне судовай улады таксама аддавалася на волю большасьці, таму што яна абіралася і ва ўсіх штатах судовая ўлада ў нейкім сэнсе залежала ад заканадаўчай: народныя прадстаўнікі мелі права штогадова прызначаць заробкі суддзям.

Звычаі ішлі яшчэ далей, чым законы.

У Злучаных Штатах усё больш і больш пашыраецца звычай, які, урэшце, можа звесьці на ніштo магчымасьці прадстаўнічай формы кіравання. Вельмі часта выбарцы, абіраючы дэпутата, плануюць яго спіс дзеянняў і даюць некаторыя пэўныя даручэнні, якія ён абавязаны выканаць. Гэта ўжо вельмі падобна на дэбаты большасьці на пляцы, толькі шуму менш.

---

[193] Аналізуючы федэральную канстытуцыю, мы бачылі, што хаўрусныя заканадаўцы паспрабавалі дасягнуць процілеглага эфекту. У выніку ў сферы сваіх паўнамоцтваў федэральны ўрад больш незалежны, чым урады штатаў. Але ён займаецца толькі знешнімі справамі, што ж да кіравання ўнутраным жыццём грамадства, то яго рэчаісна ажыццяўляюць урады штатаў.

Існуе таксама шмат іншых нагод дзякуючы якім улада большасьці ў Амерыцы не проста вялікая, а непераадольная.

Маральная ўлада большасьці збольшага заснавана на ўяўленні пра тое, што сход, складаючыся із вялікай колькасьці людзей, валодае большымі ведамі і мудрасьцю, чым адзін чалавек; на даверы да колькасьці заканадаўцаў, а не да іхнай якасьці.

Гэта – тэорыя роўнасьці, пашыраная на разумовыя здольнасьці чалавека; вучэнне, знішчаючае чалавечы гонар у яго апошнім сховішчы. Таму меншасьці нялёгка прыняць яе і яна прызвычваецца да яе толькі з цягам часу. Як і ўсякая ўлада, а магчыма больш чым нейкая іншая, улада большасьці ўспрымаецца як законная толькі пасьля працяглага існавання. Спачатку яна дамагаецца падначалення прымусам. Людзі пачынаюць яе шанаваць толькі пасьля таго, як яны доўга жылі адпаведна з яе законамі.

Думка пра тое, што большасць мае права кіраваць грамадствам дзякуючы сваёй мудрасьці была прынесена ў Злучаныя Штаты першымі жыхарамі гэтай краіны. Адной гэтай ідэі дастаткова для таго, каб народ стаў вольным. У Злучаных Штатах яна пракралася ў народныя норавы і выяўляецца ў драбязных звычаях.

Пад час старой манархіі французы былі перакананы ў тым, што кароль не можа зрабіць памылку і калі яму здаралася здзейсніць нейкае зло, то вінаватымі былі, на іхнюю думку, яго дарадцы. Гэта вельмі палягчала ім падпарадкаванне. З’яўлялася магчымасць аднachасова і крытыкаваць закон, і паважаць і шанаваць заканадаўцу. Менавіта так амерыканцы ставяцца да большасьці.

Маральная магутнасць большасьці засноўваецца таксама на прынцыпе абвяшчаючым што зацікаўленасьці большасьці павінны пераважаць над зацікаўленасьцямі невялікіх згуртаванняў людзей. Аднак цалкам відавочна, што выкананне гэтага права большасьці натуральным чынам павялічваецца ці памяншаецца ў залежнасьці ад адзінства ці раздробненасьці народа. Калі нацыю раздзіраюць непрымірымыя зацікаўленасьці, то пра выключнае права большасьці часта забываюцца, таму што падначальвацца яго волі занадта пакутліва.

Калі б у Амерыцы існаваў стан, які заканадаўцы імкнуліся б пазбавіць нейкіх выключных, існаваўшых стагоддзямі пераваг, з тым каб паставіць яго ў такое ж становішча, якое займае большасць грамадзянаў, то, магчыма, было б цалкам не проста прымусіць гэтую меншасць падначальвацца законам.

Але ў Злучаных Штатах усё роўныя паміж сабой і ў жыхароў яшчэ няма натуральнага і сталага адрознення ў зацікаўленасьцях.

Нярэдка згодна са сваім сацыяльным становішчам меншасць не ў стане і спадзявацца апынуцца калі-небудзь у большасьці. Для гэтага ёй патрэбна было б проста спыніць змаганне, якое яна вядзе супраць большасьці. Арыстакратыя, напрыклад, не можа стаць большасьцю і захаваць пры гэтым свае выключныя прывілеі. Калі ж яна ад іх адмовіцца, яна не будзе больш арыстакратыяй.

Аднак у Злучаных Штатах палітычнае змаганне не можа быць ні ўсеагульным, ні вельмі глыбокім, і ўсе згуртаванні насельніцтва гатовы прызнаваць правы большасьці, таму што кожнае з іх спадзяецца калі-небудзь скарыстацца імі ў сваіх зацікаўленасьцях.

Такім чынам, большасць у Злучаных Штатах аказвае вялізны ўплыў як на справы, так і на думкі. Калі яна выступае за нешта, можна сказаць, што ніякая магутнасць не ў стане не толькі спыніць яе, але і запаволіць яе рух і даць ёй магчымасць пачуць тых, каго яна на шляху знішчае.

Такі стан рэчаў можа мець у будучым згубныя і небяспечныя наступствы.

## Усемагутнасць большасьці ў Амерыцы ўзмацняе непаслядоўнасць у заканадаўстве і кіраванні, уласьцівыя ўсім дэмакратычным дзяржавам

–Амерыканцы, штогадова абіраючы новых заканадаўцаў, валодаючых амаль неабмежаванай уладай, абвастраюць заканадаўчую нестабільнасць уласьцівую дэмакратыі. –Тое ж адбываецца ў адміністрацыйнай дзейнасьці. –У Амерыцы ўдасканаленню грамадзкага ўладкавання надаецца значна больш увагі, чым у Яўропе, але робіцца гэта менш паслядоўна.

Я ўжо выказваўся пра недахопы дэмакратычнай формы кіравання. Варта пазначыць, што ўсё яны павялічваюцца па меры ўзмацнення ўлады большасьці.

Пачнём з самага заўважальнага із іх.

Непаслядоўнасць заканадаўчай дзейнасьці – гэта зло ўласцівае дэмакратычнаму кіраванню, таму што для яго з’яўляецца натуральным частая перамена людзей надзеленых уладай. Гэты недахоп можа мець большыя ці меншыя наступствы ў залежнасьці ад таго, наколькі велікай з’яўляецца ўлада заканадаўцаў і якія сродкі яе ажыццяўлення.

У Амерыцы дзяржаўныя установы займаючыяся заканадаўствам, валодаюць самай вялікай уладай. Яны фармуюцца із прадстаўнікоў абіраемых на адзін год, якія могуць хутка і не сустракаючы ніякага супраціву праводзіць у жыццё ўсе свае рашэнні. Такім чынам, структура заканадаўчай улады такая, што яна ў найвялікшай ступені спрыяе развіццю ўласьцівай дэмакратыі нестабільнасьці і можа чыніць сваю зменлівую дэмакратычную волю ў самых важных дзяржаўных справах.

Таму ў сучаснай Амерыцы законы жывуць нядоўга. За трыццаць гадоў свайго існавання амерыканскія канстытуцыі зведалі не адну перамену. Няма ніводнага штата, які б не ўнёс перамен у свой асноўны закон на працягу гэтага перыяду[194].

Што да саміх законаў, то дастаткова толькі зазірнуць у архівы розных штатаў Звязу, каб пераканацца, што заканадаўчая дзейнасць у Амерыцы не спыняецца ні на імгненне. Справа не ў тым, што амерыканская дэмакратыя менш стабільная, чым нейкая іншая. Проста пры распрацоўцы законаў яна мае магчымасць саступаць сваёй прыроднай прыхільнасьці да зменлівасьці. Усемагутнасць большасьці, а таксама неадкладнае і безумоўнае выкананне яе рашэнняў у Злучаных Штатах вядзе не толькі да частых перамен законаў, яно ўплывае таксама на ўжыванне законаў і на дзейнасць дзяржаўнай адміністрацыі.

Дзякую таму што большасць – гэта адзіная магутнасць, якой патрэбна дагаджаць, усе горача спрыяюць яе пачынанням. Але як толькі яна пераносіць сваю ўвагу на нешта новае, старое губляе якую б то ні было падтрымку. Што ж да вольных еўрапейскіх дзяржаваў, дзе выканаўчая ўлада незалежная і трывалая, рашэнні заканадаўчых установаў улады выконваюцца і тады, калі яны пераносяць сваю ўвагу на іншыя справы.

---

[194] Заканадаўчыя акты аднаго толькі штата Масачусетс, прынятыя пачынаючы ад 1780 года да нашых дзён, займаюць тры тоўстыя тамы. Да таго ж зборнік, які я маю на ўвазе, быў перагледжаны ў 1823 годзе і адтуль былі выкінуты шмат састарэлых законаў. Хаця штат Масачусетс, у якім жыве не больш людзей, чым у якім заўгодна із нашых дэпартаментаў, можа лічыцца найбольш стабільным, паслядоўным і мудрым у вядзенні сваіх спраў.

Амерыканцы больш руплівыя і актыўныя, чым іншыя народы, ва ўдасканаленні грамадзкіх інстытутаў.

Еўрапейскае грамадства марнуе на гэта значна менш намаганняў, але дзейнічае больш пасьлядоўна.

Некалькі гадоў таму назад зруртаванне рэлігійных дзеячоў занялося паляпшэннем стану турмаў. Іхныя прамовы ўсхвалявалі людзей і перавыхаванне злачынцаў стала агульнанароднай справай.

З'явіліся новыя турмы. Упершыню ў дачыненні да людзей, пераступіўшых закон, нароўні з ідэяй адплаты з'явілася ідэя выпраўлення. Аднак гэтая шчаслівая перамена, так горача падтрыманая шырокімі масамі і стаўшая дзякуючы іхным намаганням незваротнай, не магла быць здзейсненай за кароткі тэрмін.

Адпаведна з воляй большасьці пачало з'яваўляцца ўсё больш новых турмаў, але існавалі яшчэ і старыя, у якіх утрымвалася шмат злачынцаў. Тым часам як у першых умовы жыцця заняволеных увесь час паляпшаліся, а магчымасьці выпраўлення павялічваліся, другія рабіліся ўсё больш згубнымі для цела і духу. Патлумачыць гэта нескладана: большасць, занятая думкай пра стварэнне новых турмаў, забылася пра тыя, якія ўжо існавалі. Дзякуючы таму што імі перастала цікавіцца большасць, яны цалкам страцілі чыю б то ні было ўвагу да сябе. Гэта мела наступствам паслабленне нагляду. Станоўчая для падобных установ дысцыпліна спачатку паслабела, а потым і цалкам разбурылася. У выніку нароўні з турмамі, на якіх яскрава адлюстроўваліся мяккасць і асвечанасць нашага часу, можна было сустрэць каменны мяшок, нагадваючы пра сярэднявечнае варварства.

## Самаволя большасьці

–У чым складаецца сэнс вярхоўнай улады народа. –Чаму немагчыма сфармаваць змяшаны ўрад. –У падмурку вярхоўнай улады павінны ляжаць вызначаныя прынцыпы. –Патрэбнасць захадаў, абмяжоўваючых вярхоўную ўладу. –У Злучаных Штатах такія захады не робяцца. –Наступствы гэтага.

Думку пра тое, што ў вобласьці кіравання грамадствам большасць народа мае неабмежаваныя правы, здаецца мне блюзнерскай і агіднай. У той жа час я лічу, што крыніцай якой бы то ні было ўлады павінна быць воля большасьці. Ці азначае гэта, што я супярэчу сам сабе?

Існуе агульны закон, створаны ці прынамсі прызнаны не толькі большасьцю таго ці іншага народа, але большасьцю ўсяго чалавецтва. Такім законам з'яўляецца справядлівасць.

Справядлівасць абмяжоўвае правы якога б то ні было народа.

Дзяржава ўяўляе із сябе нешта накшталт згуртавання народных абраннікаў, абавязаных прадстаўляць зацікаўленасьці ўсяго грамадства і ажыццяўляць асноўны яго закон – справядлівасць. Ці павінны людзі, прадстаўляючыя грамадства, быць больш магутнымі, чым само грамадства, законы якога яны ажыццяўляюць?

Такім чынам, адмаўляючыся падпарадкоўвацца несправядліваму закону, я цалкам не адмаўляю права большасьці кіраваць грамадствам, проста ў гэтым выпадку я прызнаю вяршэнства агульналюдзкіх законаў над законамі нейкага асобнага народа.

Некаторыя людзі не пасаромеліся заявіць, што ніякі народ не здольны пайсьці супраць законаў справядлівасьці і розуму ў справах, маючых дачыненне толькі да яго самога. Таму, маўляў, можна, нічога не асьцерагаючыся, аддаць усю ўладу ў рукі прадстаўляючай яго большасьці. Але гэта – рабскія разважанні.

Што такое большасць, узятая ў цэлым? Хіба яна не падобна на індывіда, маючага перакананні і зацікаўленасьці, процілеглыя перакананням і зацікаўленасьцям іншага індывіда, названага меншасьцю? Аднак, калі мы будзем лічыць, што адзін чалавек, надзелены ўсёй паўнатой улады, можа злоўжываць ёю ў дачыненні да сваіх супернікаў, чаму мы не жадаем пагадзіцца, што тое ж самае можа зрабіць і большасць? Хіба аб'яднанне людзей у гурты перамяняе іхны характар? Хіба людзі, набываючы больш улады робяцца больш церпялівымі ў пераадоленні перашкод?[195] Што да мяне, то я не магу ў гэта паверыць і рашуча пратэстую супраць усёдазволенасьці як для аднаго чалавека, так і для згуртавання.

Немагчыма, на маю думку, пабудаваць кіраванне на падставе некалькіх прынцыпаў, сапраўды супярэчачых адзін другому.

Так званае змешанае кіраванне заўсёды здавалася мне хімерай. Сапраўды, змешанага кіравання (у тым сэнсе, у якім звычайна ўжываюць гэтыя словы) не існуе, таму што ў кожным грамадстве, урэшце, нейкі адзін прынцып дзеянняў падначальвае сабе ўсе астатнія.

У якасьці прыкладу такой формы кіравання асабліва часта прыводзілі Ангельшчыну мінулага стагоддзя, але яна была пераважна арыстакратычнай дзяржавай, хаця і валодала заўважаемымі дэмакратычнымі рысамі. Законы і норавы былі там такімі, што, урэшце, арыстакратыя непазбежна валадарыла і аднаасобна кіравала дзяржаўнымі справамі.

Нагода гэтай памылкі складаецца ў наступным: сталае змаганне зацікаўленасьцяў арыстакратыі і народа так прыцягвала да сябе ўвагу назіральнікаў, што яны не заўважалі яе вынікаў, а яны-та і мелі асноўнае значэнне. Калі ў грамадстве, сапраўды, усталёўваецца змешанае кіраванне, то бок заснаванае на процілеглых прынцыпах, то яно або распадаецца, або ў ім адбываюцца рэвалюцыі.

Усё гэта схіляе мяне да думкі пра тое, што вярхоўная ўлада ў грамадстве заўсёды павінна грунтавацца на нейкім вызначаным прынцыпе, аднак калі пры гэтым яна не сустракае на сваім шляху ніякіх перашкод, якія маглі б стрымаць яе дзеянні і даць ёй магчымасць самой суцішыць свае парывы, то вольнасць зведвае сур'ёзную небяспеку.

Усёўладдзе само па сабе з'яўляецца благім і небяспечным. Ад яго не забяспечаны ніводзін чалавек. Яно не ўяўляе небяспекі толькі Богу, таму што яго мудрасць і справядлівасць не саступаюць яго ўсемагутнасьці. На зямлі няма такой улады, якой бы паважаемай яна ні была і якім бы сьвятым правам ні валодала, якой можна было б дазволіць дзейнічаць без якога б то ні было кантролю ці загадваць, не сустракаючы ніякага супраціўлення. І калі я бачу, што каму-небудзь, няхай гэта будзе народ ці манарх, дэмакратыя ці арыстакратыя, манархія ці рэспубліка, надаецца права і магчымасць рабіць усё, што яму пажадаецца, я кажу: так зараджаецца тыранія – і імкнуся з'ехаць жыць туды, дзе валадараць іншыя законы.

Дэмакратычная форма кіравання ў тым выглядзе, у якім яна існуе ў Злучаных Штатах, заслугоўвае самага сур'ёзнай крытыкі не за сваю слабасць, як лічаць шмат хто ў Яўропе, а, наадварот, за сваю непераадольную магутнасць. Што

---

[195] Ніхто не стане сцвярджаць, што нейкі народ не мае магчымасьці выкарыстаць гвалт у дачыненні да іншага народа. Але ж асобныя часткі народа ўяўляюць сабой не што іншае, як невялікія нацыі, уваходзячыя ў склад вялікай. Дачыненні паміж імі – гэта дачыненні розных народаў. Калі мы прызнаём, што адзін народ можа чыніць самаволю ў дачыненні да іншага, то як магчыма адмаўляць, што адна частка народа можа рабіць тое ж самае ў дачыненні да іншай яго часткі?

мне больш за ўсё не падабаецца ў Амерыцы, дык гэта цалкам не крайняя ступень пануючай там вольнасьці, а адсутнасць гарантый супраць самаволі.

Да каго, сапраўды, можа звярнуцца ў Злучаных Штатах чалавек ці згуртаванне людзей, якія сталі ахвярай несправядлівасьці? Да грамадзкай думкі? Але яна адлюстроўвае перакананні большасьці. Да заканадаўчага корпуса? Але ён уяўляе большасць і слепа ёй падпарадкоўваецца. Да выканаўчай улады? Але яна прызначаецца большасьцю і з'яўляецца пасіўнай прыладай у яе руках. Да магутнасьці парадку? Але магутнасць парадку – гэта не што іншае, як узброеная большасць. Да суда прысяжных? Але суд прысяжных – гэта большасць, валодаючая правам выносіць прысуды. Нават суддзі ў некаторых штатах абіраюцца большасьцю. Такім чынам, як бы несправядліва ці неразумна да вас бы ні паставіліся, у вас ёсць толькі адна магчымасць – падначаліца[196].

Але ж можа існаваць і такі заканадаўчы корпус, які прадстаўляючы большасць, не будзе рабом яе жарсьцяў, такая выканаўчая ўлада, якая мела б сваю ўласную моц і, нарэшце, судовую ўладу, незалежную ад двух першых. І тады кіраванне будзе таксама дэмакратычным, але не будзе амаль ніякай магчымасьці для ўзнікнення самаволі.

Я не маю намеру сцвярджаць, што ў сучаснай Амерыцы самаволя – гэта часта сустракаемая з'ява, але нішто не засьцерагае амерыканцаў супраць яе, а што да мяккасьці кіравання, то ёю яны абавязаны перадусім не законам, а абставінам і норавам.

## Усемагутнасць большасьці мае наступствам самаволю ў дзейнасьці амерыканскіх дзяржаўных службоўцаў

–Амерыканскі закон вызначае межы дзейнасьці дзяржаўных службоўцаў, але пасярэдзіне іх пакідае ім волю. –Улада дзяржаўных службоўцаў.

Патрэбна выразна адрозніваць самаволю і тыранію. Тыранія можа ажыццяўляцца праз закон, і тады гэта не самаволя. Самаволя можа ажыццяўляцца ў зацікаўленасьцях грамадзянаў, і тады яе немагчыма прыраўнаць да тыраніі.

---

[196] Падчас вайны 1812 года ў Балтыморы адбыўся выпадак, які яскрава паказаў, да якіх крайнасьцей можа дайсьці дэспатызм большасьці. У гэты час вайна была вельмі папулярнай у Балтыморы, але адна газета выказалася супраць яе і гэтым выклікала абурэнне жыхароў. Сабраўся натоўп, знішчыў друкавальныя станкі, напаў на рэдакцыю. Улады мелі намер выклікаць міліцыю, але яна адмовілася з'явіцца. Каб выратаваць няшчасных журналістаў, якім пагражала лютасць натоўпу, было вырашана правесьці іх у турму, як злачынцаў. Але і гэта засьцярога іх не выратавала: ноччу натоўп сабраўся зноў і, таму што і гэтым разам сабраць міліцыю не атрымалася, турма была ўзята прыступам, адзін із журналістаў быў забіты на месцы, астатнія пабіты да сьмерці. Вінаватыя паўсталі перад судом прысяжных, але былі апраўданы. Аднойчы я запытаў жыхара Пенсільваніі: «Патлумачце мне, калі ласка, чаму ў штаце, заснаваным квакерамі і вядомым сваёй памяркоўнасьцю, вольным неграм не дазваляюць карыстацца правамі грамадзяніна. Яны ж сплочваюць падаткі, хіба не было б справядліва, каб яны галасавалі?» «Не абражайце нас думкай пра тое, што нашы заканадаўцы маглі быць такімі нецярпімымі і зрабіць такую грубую несправядлівасць», – адказаў ён. «Гэта азначае, што негры ў вас маюць права галаса?» – «Без сумневаў». – «Тады чаму ж сярод выбарцаў у заканадаўчай асамблеі іх цалкам няма?» «Закон тут ні пры чым, – адказаў мне амерыканец. – Негры сапраўды маюць права браць удзел у выбарах, але яны па сваёй волі ўстрымліваюцца ад гэтага». – «Ці не вельмі яны сціплыя?» – «О! Справа не ў тым, што яны не жадаюць браць удзел у выбарах, проста яны асьцерагаюцца, што ім прыйдзецца дрэнна, калі яны паспрабуюць гэта зрабіць. У нас часам, калі большасць не падтрымлівае закон, ён нямоглы. Што ж да неграў, то ў дачыненні да іх большасць насельніцтва адчувае самыя глыбокія забабоны, і ўлады не ў стане гарантаваць ім правы, дадзеныя законам». – «Ах, вось як! Мала таго, што большасць валодае пераважным правам ствараць законы, яна яшчэ жадае мець права парушаць іх?»

Тыранія часта выяўляецца ў самаволі, але пры патрэбе можа абыходзіцца і без яе.

Усемагутнасць большасьці ў Злучаных Штатах прыводзіць як да дэспатызму заканадаўцаў, так і да самаволі дзяржаўных службоўцаў. Толькі большасьці належыць у гэтай краіне права ствараць законы і кантраляваць іх выкананне, толькі пад яе ўладай знаходзяцца як урадаўцы, так і грамадзяне. Таму яна глядзіць на дзяржаўных службоўцаў як на пасіўных выканаўцаў сваёй волі, цалкам разлічвае на ажыццяўленне імі сваіх задум і не лічыць патрэбным загадзя вызначаць кола іхных правоў і абавязкаў. У яе стаўленні да іх існуе нешта ад стаўлення гаспадара да сваіх служак: яны ж увесь час дзейнічаюць пад яго наглядам і ён у кожны момант мае магчымасць браць удзел у іхнай дзейнасьці і выпраўляць яе.

Звычайна, згодна з законам, амерыканскія дзяржаўныя службоўцы маюць значна больш шырокае кола абавязкаў, чым еўрапейскія. Часам нават кіруючая большасць дазваляе ім выходзіць за яго межы. Дзякуючы таму што перакананні большасьці падтрымліваюць і ахоўваюць іх, яны часам адважваюцца рабіць такія рэчы, якія здзіўляюць нават еўрапейцаў, прызвычаіўшыхся да самаволі. Такім чынам, у вольным грамадстве ствараюцца звычаі, якія з часам у стане яго загубіць.

## Пра тое, як большасць у Злучаных Штатах пануе над думкай

–Калі большасць у Злучаных Штатах прыходзіць да адзінай думкі па якому-небудзь пытанню, усе спрэчкі спыняюцца. –Чаму гэта адбываецца. –Маральны ўплыў большасьці на мысленне. –У дэмакратычных рэспубліках дэспатызм ператвараецца ў духоўную магутнасць.

Аналіз духоўнага жыцця Злучаных Штатаў асабліва яскрава паказвае, наколькі ўплыў большасьці перасягае які б то ні было іншы ўплыў із тых, якія нам вядомы ў Яўропе.

Мысленне валодае нябачнай і неадчуваемай магутнасьцю, здольнай супрацьстаяць якой заўгодна тыраніі. У нашы дні манархі, маючыя самую неабмежаваную уладу, не могуць перашкодзіць пашырэнню ў сваіх дзяржавах і нават пры сваіх дварах некаторых варожых ім ідэй. У Амерыцы ж справа ідзе інакш: да таго часу, пакуль большасць не мае адзінай думкі па нейкаму пытанню, яно абмяркоўваецца. Але як толькі яна выказвае канчатковую думку, усе замаўкаюць і ствараецца ўражанне, што ўсе, як прыхільнікі так і супернікі, згодны з ім. Гэта лёгка патлумачыць: не існуе манарха, які валодае дастатковай уладай для таго, каб аб'яднаць усе магутнасьці грамадства і прыціснуць які б то ні было супраціў, тады як большасць, карыстаючаяся правам ствараць законы і прыводзіць іх у выкананне, лёгка можа гэта зрабіць.

Акрамя таго, манарх валодае толькі матэрыяльнай магутнасьцю: ён можа не дапусьціць нейкіх пэўных дзеянняў, але не мае ўплыву на волю людзей. Што да большасьці, то яна мае як матэрыяльную, так і маральную магутнасць, яна не толькі спыняе нейкія дзеянні, але, уплываючы на волю, можа пазбавіць жадання дзейнічаць.

Я не ведаю ніводнай краіны, дзе ў цэлым вольнасць духу і вольнасць слова былі б так абмежаваны, як у Амерыцы.

Няма такой рэлігійнай ці палітычнай дактрыны, якую немагчыма было б вольна вызнаваць у канстытуцыйных дзяржавах Яўропы і якая адтуль не пашырылась бы ў іншыя дзяржавы. Гэта адбываецца таму, што ні ў адной

еўрапейскай краіне няма такой палітычнай магутнасьці, якая панавала б непадзельна.

Таму чалавек, які мае жаданне там паведаміць праўду, заўсёды знойдзе апірышча і абарону ў выпадку, калі яго незалежная пазіцыя прывядзе да небяспечных для яго наступстваў. Калі ён мае няшчасьце жыць у краіне, дзе кіруе абсалютны манарх, то на яго бок часта станавіцца народ, калі ж ён жыве ў канстытуцыйнай краіне, то пры патрэбе ён можа шукаць абарону ў каралеўскай улады. У дэмакратычных краінах на яго абарону можа выступіць арыстакратычная частка грамадства, а ў іншых – дэмакратычная. Але ў такой краіне, як Злучаныя Штаты, дзе жыццё грамадства арганізавана на дэмакратычных прынцыпах, існуе толькі адна ўмова магутнасьці і поспеху, толькі адна ўлада і ўсё падначалена ёй.

У Амерыцы межы разумовай дзейнасьці, вызначаныя большасьцю, надзвычай шырокія. У іхных межах пісьменнік вольны ў сваёй творчасьці, але гора яму, калі ён адважыцца іх пераступіць. Вядома, яму не пагражае аўтадафэ, але ён сустракаецца з агідай ва ўсіх яе выглядах і са штодзённымі пераследамі. Палітычная кар’ера для яго зачынена, ён жа абразіў адзіную магутнасць здольную адкрыць да яе доступ. Яму адмаўляюць ва ўсім, нават у славе. Да таго як ён абвясьціў свае перакананні, ён лічыў, што ў яго існуюць прыхільнікі. Зараз жа, калі ён выставіў свае перакананні на ўсеагульны суд, яму здаецца, што прыхільнікаў у яго няма, таму што тыя, хто яго асуджае, выказваюцца гучна, а тыя, хто падзяляе яго думкі, але не валодае яго мужнасьцю, маўчаць і аддаляюцца ад яго. Нарэшце, пад градам udaраў ён саступае, здаецца і замыкаецца ў маўчанні, як калі б яго катавалі пакуты сумлення за тое што ён сказаў праўду.

У мінулым тыранія карысталася грубымі прыладамі, такім, як ланцугі і каты; сучасная цывілізацыя ўдасканаліла нават дэспатызм, хаця здавалася, што ён ужо не здольны ні да якога б то ні было развіцця.

Валадары мінулага ператварылі жорсткасць у матэрыяльную магутнасць, а дэмакратычныя рэспублікі нашых дзён зрабілі із яе такую ж духоўную магутнасць, як чалавечая воля, якую яна імкнецца зламаць. Пры абсалютнай уладзе аднаго чалавека дэспатызм, жадаючы зламаць душу, жорстка катаваў цела, але душа выслізгвала ад гэтых пакут і паднімалась над целам. Тыранія дэмакратычных рэспублік дзейнічае цалкам інакш. Яе не цікавіць цела, яна ўздзейнічае непасрэдна на душу. Валадар не кажа больш: «Ты будзеш думаць, як я, ці памрэш». Ён кажа: «Ты можаш не падзяляць маіх думак, ты захаваеш сваё жыццё і маёмасць, але з гэтага часу ты – чужак сярод нас. За табой застануцца грамадзянскія правы, але яны не будуць мець для цябе карысьці. Калі ты пажадаеш быць абраным сваімі суграмадзянамі, яны табе ў гэтым адмовяць; калі ты будзеш дамагацца іхнай павагі, яны зробяць выгляд, што ты яе не заслугоўваеш. Ты застанешся сярод людзей, але страціш права мець стасункі з імі. І калі ты пажадаеш зблізіцца з сабе падобнымі, яны будуць пазбягаць цябе як нячыстай істоты. Нават тыя, хто верыць у тваю невінаватасць, нават яны адвернуцца ад цябе, таму што ў адваротным выпадку іх спасьцігне такая ж доля. Ідзі з мірам, я пакідаю табе жыццё, але яно будзе больш пакутлівым, чым сама сьмерць».

Абсалютныя манархіі зняславілі дэспатызм. Будзем жа асьцярожнымі: дэмакратычныя рэспублікі могуць яго рэабілітаваць і, зрабіўшы яго асабліва цяжкім для нешматлікіх, пазбавіць яго ў вачах большасьці зневажаючых і гнюсных уласцівасьцей.

У самых ганарлівых народаў старога сьвету публікаваліся кнігі, апісваючыя заганы і смешныя бакі сучаснікаў. Лабруйер пісаў сваю главу пра вяльмож, жывучы ў палацы Людовіка XIV, Мальер крытыкаваў двор і ладзіў свае п’есы перад прыдворнымі. Але магутнасць, пануючая ў Злучаных Штатах, цалкам не жадае, каб яе выстаўлялі на сьмех. Яе абражае самы мяккі папрок, палохае праўда з самым найменшым адценнем калючасьці. Усё павінна ўхваляцца, пачынаючы ад формаў мовы і заканчаючы самымі ўстойлівымі ўчыннасьцямі. Ніводзін пісьменнік, якой бы вялікай ні была яго слава, не вольны ад абавязку курыць фіміям сваім суграмадзянам. Такім чынам, большасць жыве ў самалюбаванні, і толькі замежнікі ці ўласны досьвед у стане прымусіць амерыканцаў пачуць некаторыя праўды.

Менавіта таму ў Амерыцы да гэтага часу няма вялікіх пісьменнікаў. Геніяльным літаратарам патрэбна воля духу, а ў Амерыцы яна не існуе.

Інквізіцыі ніколі не атрымалася цалкам спыніць у Гішпаніі пашырэнне кніг, супярэчачых рэлігіі, спавядаемай большасьцю народа. Уладзе большасьці ў Злучаных Штатах атрымалася дасягнуць большага: яна пазбавіла людзей самой думкі пра магчымасць іх надрукаваць. У Амерыцы можна сустрэць няверуючых, але нявера пазбаўлена магчымасьці быць выяўленай славамі.

Існуюць урады, якія, імкнучыся захаваць добрыя норавы, прыцягваюць да суда аўтараў непрыстойных кніг. У Злучаных Штатах за такія кнігі нікога не прыцягваюць да суда, проста ні ў каго не ўзнікае жадання іх пісаць. Справа, вядома, не ў тым, што ва ўсіх грамадзянаў бездакорныя норавы, аднак імі вызначаецца большасць.

У дадзеным выпадку ўлада большасьці, безумоўна, дае карысць грамадству, і, распавядаючы пра гэта, я маю немер толькі паказаць яе магутнасць. Гэтая непераадольваемая ўлада выяўляецца ва ўсім, а рабімая ёю карыснасць уяўляе сабой не што іншае, як асобны выпадак.

## Як непадзельная ўлада большасьці адбіваецца на амерыканскім нацыянальным характары. Пра прыдворны дух у Злучаных Штатах

–У наш час наступствы непадзельнай улады большасьці больш адбіваюцца на норавах, чым на кіраванні грамадствам. –Яна перашкаджае з’яўленню вялікіх людзей. –У дэмакратычных рэспубліках, арганізаваных накшталт Злучаных Штатаў, прыдворны дух пашыраецца сярод значнага ліку грамадзянаў. –Доказы існавання прыдворнага духу ў Злучаных Штатах. –Чаму патрыятычныя пачуцці выяўляюцца больш глыбокімі ў народзе, чым у людзях, кіруючых краінай ад яго імя.

Тыранічная ўлада большасьці пакуль яшчэ слаба адбіваецца на палітычным жыцці грамадства, але яе прыкрыя наступствы заўважаюцца ў амерыканскім нацыянальным характары. Лічу, што нязначная колькасць вялікіх дзеячоў на палітычных падмостках сучасных Злучаных Штатаў тлумачыцца, перадусім, увесь час павяліваючымся дэспатызмам большасьці.

Калі ў Амерыцы грымнула рэвалюцыя, там з’явілася шмат вялікіх палітыкаў. У той час грамадзкая думка накіроўвала волю людзей, але не душыла яе. Уславўленыя людзі той эпохі, вольна далучаліся да той ці іншай духоўнай плыні, валодалі ўласнай веліччу і гэтая веліч не было імі запазычана ў народа, наадварот, праз іх яна пашырылася на народ.

У дзяржавах з абсалютнай манархіяй вяльможы, атачаючыя пасад, патураюць жарсьцям свайго валадара і ахвотна саступаюць яго капрызам. Але

народныя масы не рабалепнічаюць. Яны падначальваюцца абсалютнай уладзе дзякуючы слабасьці, звычцы ці невуцтву, а часам із павагі да каралеўства ці караля. У гісторыі існавалі народы, якія зведвалі задавальненне і гонар, падначальваючы сваю волю волі манарха і, такім чынам, дадавалі да падначалення адмысловую духоўную незалежнасць. Такія народы перажываюць няшчасьці, але яны не схільны да раскладання. Рабіць жа нешта, не ўхваляючы гэтага, далёка не тое ж самае, што прытворна ўхваляць тое, што робіш. Першае сведчыць пра слабасць чалавека, а другое – пра лакейскія звычкі.

У вольных краінах, дзе кожны так ці інакш можа выказаць сваю думку пра дзяржаўныя справы, у дэмакратычных рэспубліках, дзе грамадзкае жыццё ўвесь час перасякаецца з прыватным, дзе народ, вярхоўны валадар, надае ўсім абажанне, дзе для таго, каб быць пачутым, дастаткова проста загаварыць, знаходзіцца нямала людзей спекулюючых на слабасьцях народа і імкнучыхся нажыцца за кошт яго жарсьцяў. У абсалютных манархіях такіх людзей значна менш. Справа не ў тым, што ў дэмакратычных краінах людзі горшыя адпаведна са сваёй прыродай, чым у іншых месцах, але яны зведваюць больш моцнае і адначасова больш масавае спакушэнне і гэта прыводзіць да агульнага паніжэння душэўных якасьцей.

У дэмакратычных рэспубліках прыдворны дух набывае шырокае пашырэнне, ён пракрадаецца ва ўсе станы грамадства. Гэта галоўнае, у чым іх можна папракнуць.

Асабліва яскрава гэта бачна ў дэмакратычных дзяржавах, маючых такую ж структуру, як амерыканскія рэспублікі, дзе большасць пануе так непадзельна і непераадольна, што для таго, каб адхіліцца ад запланаванага ёй шляху, патрэбна ў нейкім сэнсе адмовіцца ад правоў грамадзяніна і чалавека.

Сярод шматлікасьці людзей, якія ў Злучаных Штатах займаюцца палітычнай дзейнасьцю, вельмі нешматлікія вызначаюцца мужнай шчырасьцю і незалежнасьцю мышлення, так уласцівых амерыканцам мінуўшых часоў і ўяўляючую паўсюдна асноўную рысу людзей з моцным характарам. На першы погляд, можа здацца, што ў інтэлектуальным выхаванні амерыканцаў няма ніякіх адрозненняў, да такой ступені аднолькава яны думаюць. Праўда, часам замежнік можа сустрэць у Амерыцы людзей, перакананні якіх не супадаюць у дакладнасьці з агульнапашыранымі. Яны, здараецца, аплакваюць заганы законаў, недахопы дэмакратыі, уласьцівы ёй нізкі узровень асьветы. Яны нават нярэдка заўважаюць недахопы, выказваючыя адмоўны ўплыў на нацыянальны характар і паказваюць на сродкі іхнага выпраўлення. Але ніхто, акрамя замежнікаў, іх не слухае, а замежнікі, якім яны давяраюць свае таемныя думкі, нідзе не затрымліваюцца надоўга. Яны ахвотна размаўляюць пра гэтыя рэчы з замежнікамі, для якіх усё гэта не мае вялікага значэння, але сярод сваіх суайчыннікаў яны выказваюць цалкам іншыя прамовы.

Калі амерыканцы калі-небудзь прачытаюць гэтыя радкі, то я ўпэўнены, што спачатку яны ўсе пагоднена засудзяць мяне, а потым шмат хто із іх у глыбіні душы мяне прабачыць.

Я чуў, як амерыканцы выказваюцца пра сваю радзіму і сустракаўся з праўдзіва патрыятычнымі пачуццямі ў асяроддзі амерыканскага народа. Аднак я не выявіў іх у тых, хто імі кіруе. Гэта лёгка зразумець, калі звярнуцца да аналогіі: дэспатызм значна больш мацна разбэшчвае падначаленых, чым валадароў. У абсалютных манархіях кароль нярэдка валодае вялікімі ўчыннасьцямі, але прыдворныя заўсёды вызначаюцца нізкасьцю.

Вядома, у Амерыцы прыдворныя не выказваюцца: «сір» і «ваша вялікасць» – вось якое каласальнае адрозненне. Але яны без канца выказваюцца пра прыродную асвечанасць свайго валадара. Яны не спаборнічаюць у спробах вызначыць самую выключную ўчыннасць свайго валадара, а проста запэўніваюць, што ён, незалежна ад сваёй волі і не прыкладваючы да гэтага ніякіх намаганняў, валодае ўсімі ўчыннасьцямі. Яны не аддаюць яму сваіх жонак і дачок для таго, каб ён зрабіў ласку ўзвысіць іх да рангу сваіх каханак, але яны прыносяць яму ў ахвяру свае перакананні і прадаюцца самі.

Амерыканскім маралістам і філосафам няма патрэбы хаваць свае думкі пад покрывам алегорыі, але кожны раз, калі яны адважваюцца выказаць нейкую непрыемную праўду, яны спачатку заяўляюць: «Мы ведаем, што мы размаўляем з народам, духоўныя якасьці якога настолькі вышэй чалавечых слабасьцей, што ён ніколі не можа страціць самавалоданне. Мы б нават не выказвалі падобныя рэчы, калі б не ведалі, што звяртаемся да людзей, якія дзякуючы сваім учыннасьцям і асвечанасьці займаюць выключнае месца сярод усіх народаў, годных жыць вольнымі».

Ці маглі лісліўцы Людовіка XIV прыдумаць нешта больш дасканалае?

На маю думку, заўсёды і ў кожнай форме кіравання ганебнасць і магутнасць, лісьлівасць і ўлада будуць знаходзіцца па суседству і існуе толькі адзін спосаб не дапусьціць разбэшчвання людзей: ніхто не павінен валодаць усёй паўнатой улады ў грамадстве і тады ніхто не будзе дастаткова моцным для таго, каб іх зневажаць.

## Усемагутнасць большасьці утойвае у сабе самую вялікую небяспеку для амерыканскіх рэспублік

–Дэмакратычным рэспублікам згуба пагражае не ад немачы, а ад злоўжывання магутнасьцю. –Урады амерыканскіх рэспублік больш цэнтралізаваныя і больш рашучыя ў сваіх дзеяннях, чым урады еўрапейскіх манархічных дзяржаваў. –Якую небяспеку гэта можа ўяўляць. –Думкі Мэдысона і Джэферсона з гэтай нагоды.

Звычайна нагодай пагібелі нейкага ўрада бывае немач ці тыранія. У першым выпадку ён губляе ўладу, у другім – яе ў яго забіраюць.

Дзякуючы таму што дэмакратычныя дзяржавы нярэдка заканчваюць анархіяй, шмат хто із людзей прыйшлі да высновы, што іхныя ўрады слабыя і бездапаможныя. Сапраўды, калі ў дэмакратычных дзяржавах пачынаецца змаганне паміж партыямі, уплыў урада на грамадства памяншаецца. Аднак немагчыма сказаць, што дэмакратычная ўлада ад прыроды пазбаўлена магутнасьці і магчымасьцей, наадварот, яна амаль заўсёды гіне ад злоўжывання магутнасьцю і няўдалага выкарыстання магчымасьцей. Анархію амаль заўсёды выклікае яе тыранія ці яе нямайстэрства, а не яе немач.

Не трэба блытаць устойлівасць і магутнасць, веліч чаго-небудзь і даўгавечнасць. У дэмакратычных рэспубліках улада, кіруючая[197] грамадствам, непастаянная, таму што яна часта пераходзіць із рук у рукі, часта перамяняюцца яе мэты. Аднак паўсюдна, дзе яна існуе, яна валодае амаль непераадольваемай магутнасьцю.

[197] Улада можа быць прадстаўлена асамблеяй, тады яна моцная, але непаслядоўная; яна можа быць засяроджана ў руках аднаго чалавека, у гэтым выпадку яна менш моцная, але больш пастаянная.

Урады амерыканскіх рэспублік уяўляюцца мне не менш цэнтралізаванымі і больш рашучымі, чым урады еўрапейскіх абсалютных манархій. Таму я не лічу, што іх здолее загубіць немач[198].

Калі калі-небудзь Амерыка страціць волю, то вінаваціць за гэта патрэбна будзе ўсёўладдзе большасьці. Гэта можа адбыцца ў тым выпадку, калі большасць давядзе меншасць да роспачы і падштурхне яе да ўжывання гвалту. Тады можа наступіць анархія, але наступіць яна як наступства дэспатызму.

Такія ж думкі выказваў-прэзідэнт Джэймс Мэдысон (гл. «Федэраліст», № 51).

«*У рэспубліках*, – казаў ён, – *вельмі важна не толькі абараняць грамадства ад прыгнёту кіраўнікоў, але таксама засьцерагаць адну частку грамадства ад несправядлівасьці іншай яго часткі. Справядлівасць – вось мэта, да якой павінен імкнуцца кожны ўрад, менавіта яе ставяць перад сабой людзі, аб’ядноўваючыся. Народы заўсёды рабілі і будуць рабіць усё для дасягнення гэтай мэты да таго часу, пакуль у іх гэта не атрымаецца ці пакуль яны не страцяць волю.*

*Пра грамадства, у якім адна частка, больш магутная, магла б лёгка аб’яднацца і задушыць больш слабую частку, можна сказаць, што ў ім квітнее анархія. Яго можна было б параўнаць са станам рэчаў у прыродзе, калі слабы безабаронны супраць моцнага. Аднак нечаканасьці лёсу, спадарожнічаючыя прыроднаму стану рэчаў, схіляюць моцных да падначалення ўраду, які аднолькава клапоціцца і пра іх, і пра слабых. Дзякуючы тым жа нагодам моцная частка грамадства, маючага анархічнае кіраванне, з цягам часу будзе імкнуцца да такога ўраду, які ў аднолькавай ступені будзе ахоўваць зацікаўленасьці ўсіх яго частак. Калі б штат Род-Айланд выйшаў са складу федэрацыі і меў народны ўрад, які б ажыццяўляў сваю вярхоўную ўладу на такой нязначнай тэрыторыі, то, без сумневаў, тыранія большасьці прывяла б да поўнага знікнення правоў. Справа скончылася б тым, што людзі запатрабавалі б усталявання ўлады, цалкам незалежнай ад народа. Да такой улады заклікалі б нават тыя групоўкі, якія і спарадзілі бяспраўе*».

Джэферсон выказваўся: «*Выканаўчая ўлада ў нашым дзяржаўным уладкаванні – гэта не адзіная і нават не галоўная мая заклапочанасць. Зараз і яшчэ на працягу шматлікіх гадоў самую вялікую небяспеку будзе ўяўляць тыранія заканадаўцаў. Выканаўчая ўлада таксама можа стаць тыранічнай, але гэта здарыцца пазьней*»[199].

Выказваючыся пра гэта, я заўсёды цытую Джэферсона, а не каго-небудзь іншага, таму што лічу яго самым буйным змагаром за дэмакратыю.

# Глава VIII

## Што стрымлівае тыранію большасьці ў Злучаных Штатах

### Адсутнасць адміністрацыйнай цэнтралізацыі

–Большасць не можа ўсё рабіць сама. –Яе суверэнную волю ў злучынах і акругах выконваюць службовыя асобы.

Раней я пазначыў два віды цэнтралізацыі: урадавую і адміністрацыйную.

У Амерыцы існуе толькі першая, другая не ўласціва для гэтай краіны.

Калі б амерыканская дзяржаўная ўлада мела ў сваім веданні абодва віды кіравання і да свайго права ўсім кіраваць дадала б здольнасць і звычку ўсё выконваць самастойна; калі б, усталяваўшы агульныя прынцыпы кіравання, яна

[198] Спадзяюся што непатрэбна папярэджваць чытача пра тое, што тут, як і ў астатняй частцы главы, я маю на ўвазе не федэральны ўрад, а ўрады штатаў, дзе большасць пануе непадзельна.
[199] Ліст Джэферсона Мэдысону, 15 сакавіка 1789 года.

пачала ўнікаць у дэталі яго ажыццяўлення і, вызначыўшы галоўныя патрэбы краіны, дайшла б да абмежавання індывідуальных зацікаўленасьцей, тады вольнасць была б хутка прагнана з Новага Сьвету.

Але ў Злучаных Штатах большасць, у якой часта бываюць густы і схільнасьці дэспата, пакуль не валодае самымі дасканалымі сродкамі тыраніі.

Амерыканскі ўрад заўсёды займаўся толькі невялікай колькасьцю тых унутраных праблем сваіх рэспублік, значнасць якіх прыцягвала яго ўвагу. Ён ніколі не спрабаваў браць удзел у другарадных справах сваіх штатаў. У яго нават і намеру такога не было. Большасць, стаўшы амаль абсалютнай, не павялічыла функцый цэнтральнай улады, яна толькі зрабіла яе ўсемагутнай у межах адведзенай ёй сферы дзейнасьці. Дэспатызм можа быць вельмі цяжкім, але ён не ў стане пашырыцца на ўсіх.

Як бы ні захаплялі большасць у дзяржаве ўласныя жарсьці, з якім бы запалам яна ні кідалася на рэалізацыю сваіх уласных праектаў, яна не ў стане дамагчыся таго, каб усюды адначасова і аднолькавым чынам усе жыхары краіны падначаліліся яе жаданням. Выдаючы загады, цэнтральны ўрад, адлюстроўваючы яе волю, вымушаны спадзявацца на выканаўцаў, якія часта ад яго не залежаць і дзейнасць якіх ён не ў стане ўвесь час накіроўваць. Муніцыпалітэты і адміністрацыя акруг, як падводныя камяні, стрымліваюць і рассякаюць хвалю народнай волі. Калі закон мае ўціскаючыя ўласьцівасьці, вольнасць знаходзіць выйсьце ў самым выкананні закона і большасць не здолее паглыбіцца ў дэталі і, адважуся сказаць, у глупствы адміністрацыйнай тыраніі. Ён і не ўяўляе сабе, што ў стане гэта зрабіць, таму што ў яго няма цэласнага ўяўлення пра памеры сваёй улады. Яму вядомы толькі яго прыродныя магутнасьці і немаведама, да якой ступені ўменне можа распрацаваць іх.

Наступная думка заслугоўвае ўвагі: калі калі-небудзь дэмакратычная рэспубліка, падобная Злучаным Штатам, з’явіцца ў краіне, дзе абсалютная ўлада ўжо ўсталявала, узаконіла і зрабіла звыклай адміністрацыйную цэнтралізацыю, скажу шчыра, што ў такой рэспубліцы дэспатызм будзе значна больш невыносны, чым у якой бы то ні было абсалютнай манархіі Яўропы. Толькі ў Азіі можна знайсьці нешта падобнае.

## Пра законнасць у Злучаных Штатах і як яна служыць процівагай дэмакратыі

–Пра тое, як карысна даследаваць уласцівасьці законнасьці. –Легісты закліканы мець сур’ёзную ролю ў нараджаючымся грамадстве. –Дзейнасць легістаў распрацоўвае ў іх арыстакратычны склад думак. –Выпадковасьці, уплываючыя на іхны склад думак. –З якой лёгкасьцю арыстакратыя аб’ядноўваецца з легістамі. –Якую карысць дэспат мог бы здабыць із дзейнасьці легістаў. –Чым тлумачыцца, што легісты ўтвараюць той адзіны арыстакратычны пласт у грамадстве, які здольны аб’ядноўвацца з дэмакратычнымі пластамі. –Выключныя нагоды, дзякуючы якім думкі ангельскіх і амерыканскіх легістаў апранаюцца ў арыстакратычную форму выяўлення, –Адвакаты і суддзі складаюць амерыканскую арыстакратыю. –Які ўплыў маюць легісты на амерыканскае грамадства. –Як дух законнасьці пракрадаецца ў легіслатуры, адміністрацыю і ўрэшце надае народу некаторыя рысы, уласьцівыя адміністрацыйнай уладзе.

Калі пазнаёмішся з амерыканскім грамадствам, вывучыш яго законы, то бачыш, што ўлада, дадзеная тут заканазнаўцам, іхны ўплыў на ўрад служаць сёння самай магутнай перашкодай парушэнням дэмакратыі. Гэта, на мой погляд,

з’яўляецца вынікам нейкай агульнай падставы, якую карысна разгледзець, таму што яна можа зноў з’явіцца ў нейкім іншым месцы.

На працягу апошніх пяцісот гадоў служкі закона мелі дачыненне да ўсіх сацыяльна-палітычных рухаў у Яўропе. То яны служылі прыладай для палітычных магутнасьцей, то палітычныя магутнасьці рабіліся прыладай у іхных руках. Пад час сярэдневечча легісты самым непасрэдным чынам спрыялі пашырэнню ўлады каралёў. У наступныя часы яны прыклалі ўсе намаганні, каб абмежаваць гэтую ўладу. У Ангельшчыне яны цесна аб’ядналіся з арыстакратыяй; у Францыі яны выявілі сябе як яе лютыя ворагі. Узнікае пытанне: ці не дзейнічаюць служкі закона, падпарадкоўваючыся раптоўным і часовым падахвочванням, ці яны ўсё ж, узгадняючыся з акалічнасьцямі, кіруюцца ўласьцівай ім інтуіцыяй, якая кожны раз і накіроўвае іхную дзейнасць? Я маю жаданне патлумачыць гэтую думку, таму што магчыма, легісты заклiканы згуляць першую ролю ў нараджаючымся палітычным грамадстве.

Людзі, адмыслова вывучаўшыя заканадаўства, набылі дзякуючы гэтым працам звычку да парадку, некаторы густ да фармальнасьцей, схільнасць да дакладнага, паслядоўнага выкладання думак. Гэта, натуральна, робіць іх супернікамі рэвалюцыйнага духу і неабдуманых жарсьцяў, уласьцівых дэмакратыі.

Адмысловыя веды легістаў, атрыманыя імі пры вывучэнні заканадаўства, забяспечваюць ім адасобленае становішча ў грамадстве; у асяроддзі адукаваных людзей яны складаюць прывілеяваны стан. Падмацаванні сваёй перавагі яны знаходзяць штодня ў сваёй прафесіі: яны спецыялісты ў вельмі патрэбнай вобласьці, у якой разбіраюцца не шмат хто; яны выступаюць у якасьці арбітраў пры вырашэнні канфліктаў паміж грамадзянамі і звычка накіроўваць да вызначанай мэты сляпыя жарсьці выступаючых на судовым працэсе бакоў выпрацоўвае ў іх пагардлівае стаўленне да натоўпу. Да гэтага дадайце, што яны натуральным чынам складаюць адасоблены стан. Усё гэта не азначае, што паміж імі існуе поўнае пагадненне і што разам яны рухаюцца да адзінай мэты. Але сумеснае навучанне і адзінства метадаў у працы робяць іх аднадумцамі, а агульная зацікаўленасць можа аб’яднаць і іхную волю.

У глыбіні душы заканазнаўцы ўтойваюць некаторыя арыстакратычныя густы і звычкі. Як і арыстакраты, яны валодаюць неўсведамляемай схільнасцю да парадку, паважаюць фармальнасьці; як і арыстакратыя, яны адчуваюць крайнюю агіду да дзеянняў натоўпу і таемна пагарджаюць народным урадам.

Я наогул не маю немеру сказаць, што гэтыя прыродныя схільнасьці служак закона такія моцныя, што маглі б іх трывала аб’яднаць. У заканазнаўцаў, як і цалкам у людзей, на першым месцы свае ўласныя, і асабліва штодзённыя, зацікаўленасьці.

У некаторых краінах служкі закона не ў стане дамагчыся на палітычнай ніве такога ж поспеху як у звычайным жыцці; можна быць упэўненым, што ў такім грамадстве яны ператворацца ў актыўных прапаведнікамі рэвалюцыі. Аднак патрэбна прыгледзецца, дзе крыецца нагода падштурхоўваючая іх да разбурэнняў ці да перамен, – ва ўстойлівай схільнасьці да гэтага ці ж тут мы ўсё ж маем справу з выпадковасьцю. Заканазнаўцы сапраўды дадалі значныя намаганні да знішчэння французскай манархіі ў 1789 годзе. Застаецца зразумець, чаму яны гэта зрабілі: ці таму, што вывучалі законы, ці таму, што не мелі магчымасьці браць удзел у іхным стварэнні?

Пяць соцень гадоў назад ангельская арыстакратыя стаяла на чале народа і выказвалася ад яго імя; сёння яна падтрымлівае пасад і выступае на баку каралеўскай улады. Тым часам арыстакратыя па-ранейшаму валодае ўласьцівымі ёй адной схільнасьцямі.

Патрэбна асьцерагацца пераносіць на ўвесь стан якасьці яго прыватных прадстаўнікоў.

Ва ўсіх вольных краінах, якой бы ні была форма іх кіравання, заканазнаўцы заўсёды ў першых шэрагах існуючых партый. Тое ж самае можна сказаць і пра арыстакратыю. На чале амаль усіх дэмакратычных рухаў, пад час таго ці іншага перыяду хваляваўшага сьвет, стаялі дваране.

Ніводзін элітны стан ніколі не будзе здольным задаволіць усіх сваіх славашануючых памкненняў; у яго асяроддзі заўсёды больш талентаў і жарсьцяў, чым магчымасьцей іхнага ўжывання. І там заўсёды можна сустрэць значную колькасць людзей, якія не здолелі хутка зрабіць кар’еру карыстаючыся прывілеямі стану і тады яны абіраюць іншы шлях каб вылучыцца: яны пачынаюць рэзка выступаць супраць прывілей гэтага стану.

Я не сцвярджаю, што наступіць час, калі ўсе заканазнаўцы выявяць сябе сябрамі ўсталяваўшагася ўпарадкавання і ворагамі якіх бы то ні было перамен, так жа як я не буду сцвярджаць, што заўсёды, ва ўсе часы большасць легістаў паводзіць сябе менавіта так.

У краіне, дзе ў іх атрымліваецца бесперашкодна заняць тое высокае становішча, якое належыць ім па праву, яны стануць у вышэйшай ступені кансерватыўнымі і антыдэмакратычнымі.

Як толькі арыстакратыя зачыніць законаведам доступ у свой стан, яны тут жа пяройдуць у стан яе ворагаў, тым больш небяспечных, што, быдучы менш заможнымі, чым арыстакратыя і не ўваходзячы ва ўрад, яны не залежаць ад яе ў сваёй працы, а адпаведна з узроўнем адукаванасьці лічаць сябе роўнымі ёй.

У тых жа выпадках, калі арыстакратычны стан выяўляе гатоўнасць падзяліцца часткай сваіх прывілеяў са служкамі закона, абодва станы лёгка аб’ядноўваюцца і выяўляюцца, калі можна так выказацца, асобамі адной сям’і.

Я таксама схільны думаць, што якому заўгодна манарху было б не вельмі складана зрабіць са служак закона самых надзейных змагароў за сваю ўладу.

Паміж жа праваедамі і выканаўчай уладай непараўнальна больш натуральнай блізкасьці, чым паміж імі і народам, хаця прававедам здаралася браць удзел у скіданні ўлады. Таксама больш натуральнай блізкасьці паміж арыстакратамі і каралём, чым паміж арыстакратамі і народам, хаця вядомы неаднаразовыя выпадкі аб’яднання вышэйшых станаў грамадства з народам для змагання супраць улады караля.

Прававеды перад усім аддаюць перавагу парадку, а самая надзейная гарантыя парадку – гэта ўлада. Не патрэбна забывацца і пра тое, што, хаця яны і шануюць вольнасць, законнасць яны ставяць вышэй яе, тыранія выклікае ў іх меншы жах, чым адсутнасць законаў і ў выпадках калі ініцыятарам абмежавання вольнасьці выступае заканадаўчая ўлада, іх гэта цалкам задавольняе.

Лічу, што той манарх, які перад тварам націскаючай дэмакратыі вырашыў бы паслабіць судовую ўладу ў сваіх уладаннях і паменшыць палітычны ўплыў прававедаў, здзейсніў бы вялікую памылку. Ён выпусьціў бы са сваіх рук падмурак сваёй улады, каб утрымаць яе падабенства.

Я не сумняваюся таксама ў тым, што самым карысным для яго было б уключыць прававедаў у склад урада. Дэспатызму, абапіраючамуся на магутнасць, яны, магчыма, здолеюць надаць рысы справядлівасьці і закона.

Дэмакратычны ўрад прыхільна ставіцца да палітычнай магутнасьці легістаў. Як толькі багацей, арыстакрат і манарх будуць прагнаны із урада, прававеды з поўным правам зоймуць іхныя месцы, таму што гэта адзіна асьвечаныя і здольныя людзі, якіх народ можа абраць акрамя сваіх прадстаўнікоў.

Калі разважаць пра густы і схільнасьці, то служкам закона, натуральна, больш блізкімі з'яўляюццая арыстакраты і манарх, але заклапочанасць пра выгоды так жа натуральна схіляе іх да народа.

Такім чынам, легісты прыхільна ставяцца да дэмакратычнага ўрада, не падзяляючы яго схільнасці і не пераймаючы яго слабасьці, што ўдвая спрыяе ўмацаванню іхнай магутнасьці дзякуючы дэмакратыі і над дэмакратыяй.

У краінах з дэмакратычным кіраваннем народ не мае недаверу да легістаў, таму што ведае, што ім выгадна служыць справе дэмакратыі; ён іх выслухоўвае без гневу, таму што не падазрае іх у падспутстве. І сапраўды, служкі закона цалкам не маюць намеру скасаваць дэмакратычны ўрад, яны толькі імкнуцца накіраваць яго дзейнасць па таму рэчышчу, якое яму не ўласьціва і тымі сродкамі, якія яму чужыя. Прававеды аб'яднаны з народам сваім паходжаннем і сваімі зацікаўленасьцямі, а з арыстакратыяй іх злучаюць звычкі і густы; яны – натуральнае злучаючае звяно паміж тымі і іншымі, нітка аб'ядноўваючая іх.

Стан служак закону – адзіны арыстакратычны стан, які без вялікіх намаганняў у стане далучыцца да дэмакратыі і аб'яднацца з ёю паспяхова і надоўга. Мне вядома, якія недахопы ўласцівы арыстакратыі, аднак я сумняваюся, што дэмакратыя здольна доўга кіраваць грамадствам і я не магу паверыць, што ў наш час рэспубліка ў стане спадзявацца захаваць сябе, калі ўплыў, здзяйсняемы прававедамі, не будзе ўзрастаць сумерна з умацаваннем улады народа.

Арыстакратычныя рысы стану прававедаў значна мацней выяўляюцца ў Злучаных Штатах і Ангельшчыне, чым у нейкай іншай краіне. Гэта залежыць не толькі ад эрудыцыі ангельскіх і амерыканскіх легістаў, але і ад самога заканадаўства і ад таго месца, якое займаюць тлумачальнікі законаў у сваіх краінах.

Як у Ангельшчыне, так і ў Амерыцы захоўваецца заканадаўства, грунтуючаяся на прэтэндэнтах; як у той, так і ў іншай краіне прававеды знаходзяць свае меркаванні ў дакументах, складзеных у адпаведнасьці з законамі бацькаў і прымаюць рашэнні спасылаючыся на гэтыя ж дакументы.

У гэтым утрымліваецца крыніца яшчэ і іншага ўплыву на склад думак прававедаў і, такім чынам, на развіццё грамадства.

Ангельскі ці амерыканскі служка закона дашукваецца, што ж было здзейснена, а французскі прававаед імкнецца вызначыць, якімі былі намеры; для аднаго мэта – арышты, для іншага – матывы злачынства.

Калі вы слухаеце ангельскага ці амерыканскага прававеда, вас здзіўляе, што ён вельмі часта спасылаецца на думкі іншых і рэдка выказвае свае ўласныя; прама процілеглае вы пачуеце ад французскага прававеда.

Калі французскі адвакат згаджаецца весьці нават самую маленькую справу, ён пачынае з пабудовы сваёй уласнай сістэмы ідэй, аспрэчвае нават асноўныя прынцыпы закона і так вядзе абарону да пастаўленай мэты, што суд, урэшце, выносіць рашэнне перанесьці на туаз межавы слуп на тэрыторыі аспрэчваемай спадчыны.

Адрачэнне ад уласнай думкі, уласьцівае ангельскім і амерыканскім прававедам, у якасьці дагаджэння думцы бацькаў, з’яўляецца своеасаблівай рабскай залежнасьцю ў якой утрымліваюцца ўласныя думкі, надаюць іхнай свядомасьці звыклую няўпэўненасць і нараджаюць у іх нязменныя схільнасьці. Усе гэтыя якасьці мы знаходзім у прававедаў Ангельшчыны і Амерыкі выяўленымі ў большай ступені, чым у іхных калег у Францыі.

Законы, існуючыя сёння ў Францыі, часта з’яўляюцца цяжкімі для разумення, але кожны можа іх прачытаць, і, наадварот, няма нічога менш зразумелага і менш даступнага для простага чалавека, чым заканадаўства, заснаванае на прэцэндэнтах. Патрэба ў служках закона ў Ангельшчыне і ў Злучаных Штатах, высокая думка пра іхную адукаванасць усё больш аддаляюць іх ад народа і, урэшце, яны ўтвараюць асобны стан. У Францыі прававед – гэта навуковец. Служка закона ў Ангельшчыне ці ў Амерыцы ў нейкай ступені нагадвае жрацоў Ягіпта, як і яны, ён з’яўляецца адзіным тлумачальнікам таемнай навукі.

Становішча, займаемае служкамі закона ў Ангельшчыне і ў Амерыцы, аказвае істотны ўплыў на іхныя звычкі і думкі. Ангельская арыстакратыя, якая клапатліва прыцягвала ў свае шэрагі ўсіх, у каго існавала хаця б некаторае прыродай дадзенае падабенства з ёй, нямала зрабіла для прававедаў, каб павялічыць іхную значнасць і іхную ўладу. У ангельскім грамадстве легісты не далучаюцца да вышэйшых станаў, але яны цалкам задаволены сваім грамадзкім становішчам. Яны як бы ўтвараюць малодшае адгалінаванне ангельскай арыстакратыі і яны паважаюць і шануюць старэйшае, не маючы іх прывілееў. Ангельскія легісты дамешваюць да той карысьці, якую яны здабываюць, будучы дзякуючы сваёй прафесіі блізкімі да арыстакратыі, арыстакратычныя ідэі і густы таго грамадства, у якім яны жывуць.

Таму ў Ангельшчыне асабліва часта можна сустрэць той закончаны тып прававеда, які я спрабую намаляваць: ён шануе законы, але не столькі таму, што яны добрыя, колькі таму, што яны старыя; і калі ён адважваецца іх крыху перамяніць, каб прывесьці ў адпаведнасць з тымі пераменамі, якія з часам адбываюцца ў грамадстве, то выкарыстоўвае розныя хітрыкі, каб пераканаць сябе ў тым, што яго дадаванні да спадчыны бацькаў спрыяюць развіццю іхнай думкі і абагачаюць іхныя напрацоўкі. Не спадзявайцеся вымусіць яго прызнаць, што ён унёс нешта новае ў гэтыя напрацоўкі, ён дойдзе да абсурду, перш чым прызнае сябе вінаватым у такім вялікім злачынстве. Менавіта ў Ангельшчыне нарадзіўся гэты дух законнасьці, абыякавы да сутнасьці справы, які ў цэнтр увагі ставіць толькі літару закона; рашэнні, дыктуемыя ім, хутчэй будуць пазбаўленымі цьвярозага розуму і нязменнымі, чым не адпавядаючымі літары закона.

Ангельскае заканадаўства нагадвае старое дрэва, на якім дзякуючы намаганням прававедаў з’явіліся самыя розныя парасткі. Гэта, аднак, пакідала надзею, што хаця б яны будуць даваць розныя плады, іхная лістота, перамяшаўшыся, прытуліцца да шаноўнага старога ствала.

У Амерыцы няма ні арыстакратаў, ні інтэлектуалаў, і народ не давярае заможным. Такім чынам, прававеды тут утвараюць вышэйшы палітычны стан і самую інтэлектуальную частку грамадства. Такім чынам, якія б то ні было новыя пачынанні мелі б наступствам для іх толькі цяжкасьці, вось адкуль іхны кансерватызм дапаўняючы прафесійную схільнасць да парадку.

Калі б мяне запыталі, якое месца ў амерыканскім грамадстве займае арыстакратыя, я б не вагаючыся адказаў: толькі не сярод заможных пластоў

насельніцтва, якія нічым не аб’яднаны. Месца амерыканскай арыстакратыі ў асяроддзі адвакатаў і суддзяў.

Чым больш разважаеш пра Злучаныя Штаты, тым больш пераконваешся ў тым, што стан прававедаў служыць у гэтай краіне самай магутнай і, можна нават сказаць, адзінай процівагай дэмакратыі.

І менавіта ў Злучаных Штатах разумееш, наколькі законнасць сваімі вартасьцямі і нават сваімі недахопамі здольна нейтралізаваць заганы, уласцівыя народнаму кіраванню.

Варта амерыканскаму народу паддацца жарсьцям ці захапіцца нейкімі ідэямі, прававеды непрыкметна даюць яму адчуць, што неабходна або суцішыць свой запал, або цалкам адмовіцца ад сваіх дзеянняў. Іхныя арыстакратычныя схільнасьці таемна супрацьстаяць народнаму дэмакратычнаму характару, а іхная перабольшаная павага да даўніны супярэчыць яго схільнасьці да новага, вузкасць іхных поглядаў не адпавядае шырокасьці яго задумаў, а іхная прыхільнасць да фармальнасьцей не спалучаецца з яго грэблівым стаўленнем да ўсталяванага парадку, і, нарэшце, іхная звычка дзейнічаць няспешна супярэчыць яго палкасьці.

Для ўплыву на дэмакратыю ў стана прававедаў існуе вельмі эфектыўная установа – суды.

Суддзя – гэта служка закона, павага якога да стабільнасьці падмацоўваецца не толькі схільнасьцю да парадку і правілаў, засвоеных пры вывучэнні законаў, але перадусім сваім становішчам: у Злучаных Штатах суддзі абіраюцца пажыццёва. Веданне законаў ужо забяспечыла яму больш высокае становішча ў параўнанні з іншымі; палітычны ўплыў ставіць яго ў асаблівае становішча, дзякуючы якому ў яго з’яўляюцца рысы, уласьцівыя прывілеяваным станам.

Амерыканскі суддзя мае права прызнаць закон неканстытуцыйным, таму ён увесь час бярэ ўдзел у палітычным жыцці краіны[200]. Ён не ў стане прымусіць народ прыняць той ці іншы закон, але ён можа прымусіць яго падпарадкоўвацца прынятаму закону і не супярэчыць самому сабе.

Мне вядома, што ў Злучаных Штатах існуе таемная тэндэнцыя да памяншэння ўлады суддзяў; паводле канстытуцыі большасьці штатаў, урад згодна з патрабаваннем абодвух палат можа пазбавіць суддзяў іхнай пасады. Згодна з некаторымі канстытуцыямі суддзі абіраюцца на кароткі тэрмін. Адважуся прадказаць, што падобныя пачынанні рана ці позна прывядуць да згубных наступстваў, калі аднойчы зробіцца відавочным, што замах на незалежнасць суддзяў – гэта не толькі ўдар па юрыдычнай уладзе, але па самой дэмакратычнай рэспубліцы.

Дарэчы, не варта лічыць, што ў Злучаных Штатах дух законнасьці засяроджаны выключна ў судах, ён пашыраецца далёка за іхныя межы.

Прававеды, складаючыя адзіны стан адукаваных людзей, якім народ давярае, займаюць, натуральна, вялікую частку дзяржаўных пасад. Яны працуюць у легіслатурах, узначальваюць адміністрацыйныя ўстановы; яны робяць вялізны ўплыў на фарміраванне законаў і іх выкананне. Прававеды, дарэчы, вымушаны саступаць напору грамадзкай думкі, але няцяжка прадказаць, як бы яны рабілі, калі б былі вольнымі. Амерыканцы, якія прынеслі столькі новага ў свае палітычныя законы, у грамадзянскія прынеслі вельмі нязначныя перамены, ды і тыя з цяжкасьцямі, хаця менавіта грамадзянскія законы знаходзяцца ў вострай супярэчнасьці з грамадзкім уладкаваннем краіны. Гэта адбываецца таму, што па

---

[200] Гл. у першай частцы кнігі главу пра судовую ўладу.

частцы грамадзянскага права большасць увесь час вымушана спадзявацца на прававедаў, а амерыканскія служкі закона супрацівяцца новым пачынанням.

Французу дзіўна чуць скаргі амерыканцаў на нягнуткасць і прадузятасьці прававедаў іхнай краіны, якія даюць нагоды нагадваць пра сябе кожны раз, калі справа мае дачыненне да чагосьці ужо замацаваўшагася.

Уплыў, вырабляемы духам законнасьці, пашыраецца тут далей пазначаных мной межаў.

У Злучаных Штатах практычна няма такога палітычнага пытання, якое б рана ці позна не ператварылася ў судовае пытанне. Вось адкуль у палітычных партый з'яўляецца патрэба ў сваёй штодзённай палеміцы карыстацца як ідэямі, так і мовай, запазычанымі ў прававедаў. Большасць дзяржаўных дзеячоў – гэта працуючыя ці былыя прававеды, у сваю працу яны прыносяць уласьцівыя ім звычаі і склад думак. Існаванне суда прысяжных далучае да гэтага ўсе станы. Юрыдычная тэрміналогія, робячыся звыклай, пашыраецца ў размоўнай гаворцы. Дух законнасьці, нарадзіўшыся ў навучальных установах і судах, паступова выходзіць за гэтыя межы, пракрадаецца ва ўсе пласты грамадства, да самых ніжэйшых, і ў выніку ўвесь народ цалкам засвойвае звычкі і густы суддзяў.

У Злучаных Штатах прававеды не ўяўляюць сабой магутнасць, надаючую баязнь, іх ледзь заўважаюць, у іх няма ўласнага сьцяга, яны лёгка прыстасоўваюцца да патрабаванняў часу, не супрацівячыся, падначальваюцца ўсім пераменам сацыяльнай структуры краіны. А тым часам яны пракрадаюцца ва ўсе пласты грамадства, ахопліваюць яго цалкам, працуюць із сярэдзіны, уплываюць на яго не звяртаючы ўвагі на яго жаданні. І ўсё заканчваецца тым, што яны лепяць гэтае грамадства ў адпаведнасьці са сваімі намерамі.

## Суд прысяжных у Злучаных Штатах як палітычная ўстанова

–Суд прысяжных – адна із праяваў народаўладдзя і яго патрэбна разглядаць у шэрагу з усімі законамі, вынікаючых із народаўладдзя, –Як абіраецца суд прысяжных у Злучаных Штатах. –Уплыў, рабімы судом прысяжных на фарміраванне нацыянальнага характару. –Яго выхаваўчае значэнне для народа. –Якім чынам суд прысяжных спрыяе ўмацаванню ўплыву суддзяў і пашырэнню духу законнасьці.

У сваім апавяданні я натуральным чынам дайшоў да амерыканскага судаводзтва і, каб завяршыць гэтую тэму, хачу адмыслова спыніцца на судзе прысяжных.

У судзе прысяжных патрэбна адрозніваць юрыдычную ўстанову і палітычную ўстанову.

Калі ставіць пытанне пра тое, да якой ступені суд прысяжных, асабліва ў дачыненні да грамадзянскіх спраў, дапамагае здзяйсняць правасуддзе, то, прызнаюся, адказ на яго, сцвярджаючы толькі яго карыснасць, выявіцца спрэчным.

Суд прысяжных быў заснаваны ў маларазвітым грамадстве, дзе яму даручаліся толькі нескладаныя пытанні, маючыя дачыненне да голых фактаў; прывесьці яго ў адпаведнасць з патрабаваннямі высокараспрацаванага грамадства – заданне нялёгкае, таму што грамадства вырасла інтэлектуальна і духоўна і стасункі паміж людзьмі значна ўскладніліся[201].

[201] Было б карысным і цікавым разгледзець суд прысяжных як судовую ўстанову, ацаніць вынікі яго ўвядзення ў Злучаных Штатах, уважліва дасьледаваць, якім чынам амерыканцы здабывалі із яго карысць. Вынікі стараннага вывучэння толькі аднаго гэтага пытання маглі б скласьці змест цэлай кнігі, вельмі цікавай для французаў. У ёй можна было б знайсьці адказ на пытанне, якія із амерыканскіх установаў, маючых

У дадзеным раздзеле я стаўлю сабе галоўнай мэтай разгляданне суда прысяжных з палітычнага боку гледжання, кожны іншы шлях завёў бы мяне далёка ад абранай тэмы. Што ж да суда прысяжных як судовай установы, то пра гэта я скажу толькі некалькі слоў. Калі ангельцы заснавалі суд прысяжных, яны ўяўлялі сабой напалову варварскі народ. З тых часоў яны сталі адной із самых асьвечаных нацый сьвету і іхная прыхільнасць да суда прысяжных павялічвалася па меры развіцця ў іх асьветы. Яны выйшлі за межы сваёй тэрыторыі, пашырыліся па ўсяму сьвету. Яны ўтварылі асады, незалежныя дзяржавы. Асноўная частка нацыі захавала манархію. Частка із тых, хто пакінуў краіну, стварылі магутныя рэспублікі. І паўсюдна ангельцы заставаліся адданымі суду прысяжных[202]. Паўсюдна яны або ўсталёўвалі яго, або спяшаліся аднавіць. Такой з’яўляецца судовая ўстанова, якая заслугоўваючы ўхваленне вялікага народа на працягу стагоддзяў, нязменна адраджаемая пад час усіх перыядаў развіцця цывілізацыі, ва ўсіх краінах, пры ўсіх кіраваннях, не можа быць чужой духу справядлівасьці[203].

Аднак пакінем гэтую тэму, таму што разгляданне суда прысяжных толькі як судовай установы вельмі звузіла б яго значэнне. Маючы вялізны ўплыў на ход судовага працэсу, ён яшчэ большы ўплыў выказвае на лёс самога грамадства. Такім чынам, суд прысяжных – гэта, перадусім, палітычны інстытут. І каб ацаніць яго, патрэбна стаць менавіта на гэты бок гледжання.

Пад судом прысяжных я маю на ўвазе гурт грамадзян, абраных наўздагад і часова надзеленых правам судзіць.

---

дачыненне да суда прысяжных, маглі б быць уведзены ў Францыі і ў якой паслядоўнасьці. Із усіх амерыканскіх штатаў Луізіяна дае найбольш яскравы матэрыял маючы дачыненне да дадзенай тэмы. У Луізіяне жыве перамяшанае насельніцтва: французы і ангельцы. Як абодва гэтыя народы перамешваюцца паміж сабой, так і два дейнічаючых у штаце заканадаўствы паступова перамешваюцца адно з другім. Самым карысным даведкавым выданнем можа служыць збор законаў штата Луізіяна ў двух тамах, маючы назву «Дыгесты законаў Луізіяны»; і яшчэ больш каштоўным можна лічыць курс па грамадзянскаму судаводству, напісаны на двух мовах, «Трактат пра правілы грамадзянскіх актаў», надрукаваны ў 1830 годзе ў Новым Арлеане ў выдавецтве Бісана. Гэтая праца ўяўляе асаблівую цікавасць для французаў, яна ўтрымлівае тлумачэнне ангельскай юрыдычнай тэрміналогіі. Мова, на якой выкладаюцца законы, – гэта спецыфічная мова, а ў ангельцаў асаблівa.

[202] Усе ангельскія і амерыканскія прававеды пагадняюцца ў сваёй высокай ацэнцы суда прысяжных. Спадар Сгоры: суддзя Вярхоўнага суда Злучаных Штатаў, у сваёй кнізе «Трактат пра федэральную канстытуцыю» таксама выказваецца пра перавагі суда прысяжных пры ўжыванні да грамадзянскіх спраў: «З’яўляецца цяжка аценімым значэнне суда прысяжных для вырашэння грамадзянскіх спраў, не меншым яно з’яўляецца і для вырашэння крымінальных спраў, але ўсе прызнаюць, што асноўнае прызначэнне суда прысяжных – гэта абарона палітычных і грамадзянскіх вольнасьцей» (кн. III, гл. XXVIII).

[203] Калі выказвацца пра карыснасць суда прысяжных як судовай установы, можна прівесьці шмат іншых аргументаў, і сярод іх наступныя. Уводзячы прысяжных у лік засядальнікаў суда, можна без шкоды паменшыць колькасць суддзяў, а гэта будзе мець сваю выгоду. Калі суддзяў вельмі шмат, штодзённы сыход із ліку жывых каго-небудзь із іх адчыняе вакансію для жывучых. Славалюбства суддзяў, натуральна, увесь час падвышана, гэта ставіць іх у залежнасць ад большасьці ці ад таго, хто прызначае суддзяў на вакантныя месцы: атрымліваецца так, што кар’ера ў судовых установых будуецца грунтуючыся на тым жа прынцыпе, што і атрыманне званняў у войску. Такое становішча спраў супярэчыць нармальнай дзейнасьці судовых устаноў і намерам заканадаўчай улады. Хай суддзі абіраюцца пажыццёва, каб быць незалежнымі ў сваёй дзейнасьці; але якой малазначачай робіцца гэтая іхная незалежнасць, калі яны самі самахвотна робяцца яе ахвярай. Калі суддзі з’яўляюцца шматлікімі, сярод іх сустракаецца нямала некампетэнтных. Сапраўдны суддзя павінен быць выдатным чалавекам. Для дасягнення той мэты, якую ставіць перад сабой правасуддзе, няма нічога горшага за напалову пісьменных суддзяў. З майго боку гледжання, лепш даручыць лёс судовага працэсу неспецыялістам-прысяжным на чале з разумным, дасьведчаным суддзёй, чым аддаць яго ў рукі суддзяў, большасць із якіх дрэнна ведае юрыспрудэнцыю і законы.

Суд прысяжных, выкарыстоўваемы для змагання супраць злачынстваў, уяўляе сабой ўстанову ў вышэйшай ступені спрыяючую ўмацаванню рэспубліканскай формы кіравання, і вось чаму.

Адпаведна са сваім складам суд прысяжных можа быць арыстакратычным ці дэмакратычным у залежнасьці ад таго, да якога стану належаць прысяжныя. Але таму што пры існаванні такога суда рэчаіснае кіраўніцтва грамадствам знаходзіцца ў руках грамадзянаў ці нейкай часткі грамадзянаў, а не ў руках урадаўцаў, ён, безумоўна, з'яўляецца рэспубліканскай установай.

Гвалтам можна дамагчыся толькі часовых поспехаў, на змену яму хутка прыходзіць разуменне права. Урад, які здольны перамагаць ворагаў толькі гвалтам, не можа існаваць доўга. Палітычныя законы канчаткова замацоўваюцца дзякуючы крымінальнаму заканадаўству. Калі ж крымінальнае заканадаўства не служыць умацаванню палітычнага ўладкавання грамадства, гэта апошняе рана ці позна разбураецца. Таму сапраўдным гаспадаром у грамадстве з'яўляецца той, хто чыніць суд над злачынцамі. А пры існаванні суда прысяжных суддзёй робіцца сам народ ці, прынамсі, нейкі адзін стан грамадзянаў. Такім чынам, дзякуючы суду прысяжных, рэчаіснае кіраванне грамадствам апынаецца ў руках народа ці дадзенага стана[204].

У Ангельшчыне прысяжнымі могуць быць толькі арыстакраты, таму што арыстакратыя і стварае законы, і назірае за іхным ужываннем, і судзіць за парушэнні законаў[205]. Гэта стройная сістэма, Ангельшчына ж – арыстакратычная рэспубліка. У Злучаных Штатах усё тое ж самае пашыраецца на ўвесь народ. Кожны амерыканскі грамадзянін можа абіраць, быць абраным і можа быць прысяжным[206]. Суд прысяжных у тым выглядзе, у якім ён існуе ў Амерыцы, уяўляе сабой такі ж прамы і крайні вынік прынцыпу народаўладдзя, як і ўсеагульнае выбарчае права. І тое і іншае з аднолькавай магутнасьцю служыць усеўладдзю большасьці.

Усе валадары, якія жадалі поўнай незалежнасьці сваёй магутнасьці, імкнуўшыяся накіроўваць развіццё грамадства адпаведна са сваёй воляй і грэбаваўшыя яго патрабаваннямі, касавалі ці абмяжоўвалі суд прысяжных. Цюдоры кідалі нязгодлівых прысяжных у турму, а Напалеон даручаў іх падбор сваім людзям.

Хоця большая частка вышэйпавядомленага здаецца відавочнай, не ўсе разумеюць важнасць суда прысяжных. Больш таго, шмат хто ў нас маюць пра яго толькі цьмянае ўяўленне. Напрыклад, калі абмяркоўваюць, хто павінен уваходзіць у склад прысяжных, абмяжоўваюцца спрэчкамі пра асьвечанасць і здольнасьці прысяжных, як быццам бы гаворка ідзе пра чыста судовую ўстанову. У рэчаіснасьці ж пры такім падыходзе выпускаюць із-пад увагі галоўнае: суд прысяжных уяўляе сабой, перадусім, палітычную ўстанову, яго патрэбна разглядаць як адну із форм суверэннай улады народа. Яго патрэбна або цалкам

---

[204] Аднак патрэбна зрабіць адну важную заўвагу. Усталяванне суда прысяжных сапраўды дае народу пераважнае права кантролю за дзейнасьцю грамадзянаў, але ён не дае яму магчымасьці ўжываць гэты кантроль пагалоўна і тыранічна. Калі абсалютны манарх дае загад сваім служкам судзіць злачынцу, лёс абабвінавачваемага, можна сказаць, вызначаны. Што ж да суда прысяжных, то дзякуючы свайму складу і незалежнасьці ён захоўвае шанец для апраўдання невінаватага нават у тым выпадку, калі народ жадае, каб ён быў асуджаны.

[205] (*205 заўвага аўтара на праканцы кнігі)

[206] (*206 заўвага аўтара на праканцы кнігі)

адкінуць, калі знішчаецца народаўладдзе, або прывесьці ў адпаведнасць з іншымі законамі, усталёўваючымі гэтае народаўладдзе.

Суд прысяжных аб'ядноўвае прадстаўнікоў народа, якім даручана забяспечыць вырананне законаў, так жа як парламент аб'ядноўвае тых, хто стварае законы. Для таго каб кіраванне грамадствам было ўстойлівым і аднастайным, патрэбна, каб перамены ў спісах выбарцаў вабілі за сабой перамены ў спісах прысяжных. Менавіта гэта павінна быць галоўным клопатам заканадаўцаў, усё астатняе – другарадна.

Я глыбока перакананы, што суд прысяжных – гэта, перадусім, палітычная ўстанова, і таму, калі яго дзейнасць пашыраецца на грамадзянскія справы, я схільны разглядаць яго з таго ж боку гледжання.

Да той пары пакуль законы не грунтуюцца на норавах, яны ненадзейныя, таму што норавы – гэта адзіная даўгавечная і моцная магутнасць, якой валодае нейкі пэўны народ.

Калі суд прысяжных судзіць толькі крымінальных злачынцаў, народ бачыць яго дзейнасць толькі зрэдку і ў асобных выпадках. Ён прызвычваецца абыходзіцца без яго ў штодзённым жыцці і разглядае яго як адзін са сродкаў дасягнення справядлівасьці, але цалкам не адзіны[207].

Калі ж суд прысяжных разглядае і грамадзянскія справы, то ўсе сустракаюцца з яго дзейнасьцю што ні крок, ён закранае зацікаўленасьці кожнага і кожны імкнецца яму дапамагчы. У выніку ён робіцца звычайнай з'явай у штодзённым жыцці, чалавечая свядомасць прызвычваецца да формы яго дзейнасьці і можна сказаць, што ён пачынае ўвасабляць ідэю справядлівасьці.

Да таго часу пакуль дзейнасць суда прысяжных абмежавана крымінальнымі справамі, ён не можа быць у небяспецы, але як толькі яна пашыраецца на грамадзянскія справы, яго не падоляюць ні час, ні намаганні людзей. Калі б было так жа лёгка выгнаць суд прысяжных са звычаяў ангельцаў, як із законаў, ён быў бы цалкам скасаваны пры Цюдорах. Такім чынам, грамадзянскія вольнасьці ў Ангельшчыне захаваліся галоўным чынам дзякуючы існаванню суда прысяжных па грамадзянскіх справах.

Якой б ні была сфера дзейнасьці суда прысяжных, ён абавязкова робіць вялікі ўплыў на нацыянальны характар, які заўважаема павялічваецца па меры таго, як дзейнасць суда ўсё больш пашыраецца на грамадзянскія справы.

Суд прысяжных, і асабліва суд прысяжных па грамадзянскіх справах, збольшага надае ўсім грамадзянам склад думак, уласьцівы складу думак суддзяў, менавіта ж гэта як найлепш падрыхтоўвае людзей да вольнага жыцця.

Ён пашырае ва ўсіх станах грамадства павагу да рашэння судоў і разуменне права. Без гэтых двух рэчаў павага да незалежнасьці ператвараецца ў запал да разбурэнняў.

Ён на практыцы паказвае ўсім людзям, што такое справядлівасць. Бяручы ўдзел у судзе па справе свайго суседа, кожны памятае пра тое, што і яму ў сваю чаргу, магчыма, давядзецца мець справу з судом. І гэта сапраўды так, асабліва калі гаворка ідзе пра суд прысяжных па грамадзянскіх справах. Мала ж хто асьцерагаецца, што яго калі-небудзь абвінавацяць у крымінальным злачынстве, але кожнаму можа здарыцца браць удзел у судовым працэсе.

---

[207] Такое стаўленне робіцца яшчэ больш пашыраным, калі суд прысяжных разглядае толькі некаторыя крымінальныя справы.

Суд прысяжных вучыць кожнага чалавека адказваць за свае дзеянні, а без гэтай мужнай пазіцыі немагчыма выхаваць палітычную прыстойнасць.

Ён дае кожнаму грамадзяніну нешта накшталт судовай улады, надае ўсім, што ў іх існуе вызначаны абавязак у дачыненні да грамадства, што яны бяруць удзел у кіраванні ім. Прымушаючы людзей браць удзел не толькі ў сваіх уласных справах, ён супрацьдзейнічае індывідуальнаму эгаізму, згубнаму для грамадства.

Суд прысяжных дзіўна развівае незалежнасць меркаванняў і павялічвае прыродныя веды народа. Менавіта ў гэтым і складаецца, на маю думку, яго самы станоўчы ўплыў. Яго можна разглядаць як дармавую і заўсёды адкрытую школу, у якой кожны прысяжны вучыцца карыстацца сваімі правамі і штодня мае стасункі з самымі адукаванымі і асьвечанымі прадстаўнікамі вышэйшых станаў. Там ён на практыцы спасьцігае законы, якія робяцца даступнымі яго разуменню дзякуючы намаганням адвакатаў, думкам суддзі і нават жарсьцям бакоў. Думаю, што практычны і палітычна цьвярозы розум амерыканцаў тлумачыцца галоўным чынам тым, што ў іх ужо на працягу працяглага часу грамадзянскія справы разбіраюцца судом прысяжных.

Не ведаю, ці прыносіць карысць суд прысяжных судзячымся, але перакананы, што ён вельмі карысны для тых, хто іх судзіць. Гэта адзін із самых эфектыўных сродкаў выхавання народа, якімі размяшчае грамадства.

Усё вышэйпавядомленае можна дапасаваць да ўсіх народаў, але існуюць рэчы, якія маюць дачыненне толькі да амерыканцаў і цалкам дэмакратычных грамадстваў.

Я ўжо выказваўся пра тое, што ў дэмакратычных краінах прававеды, а таксама судзейскія ўрадаўцы ўяўляюць сабой адзіны арыстакратычны стан, здольны суцішаць народныя памкненні. Гэтая арыстакратыя не валодае ніякай матэрыяльнай магутнасьцю і здольна ўздзейнічаць толькі на розумы людзей. Яе асноўныя магчымасьці засяроджаны менавіта ў судзе прысяжных.

У крымінальных працэсах, калі грамадства пачынае змаганне з адным чалавекам, прысяжныя схільны глядзець на суддзю як на пасіўную прыладу ўлады і могуць не давяраць яго думцы. Акрамя таго, у крымінальных працэсах заўсёды разглядаюцца простыя факты, ацэнка якіх не патрабуе нічога, акрамя цьвярозага розуму. У гэтай вобласьці як суддзя так і прысяжныя роўныя.

У грамадзянскіх працэсах справа ідзе цалкам інакш. У іх суддзя выступае як безстаронні пасярэднік паміж зацікаўленасьцямі спрачаючыхся. Прысяжныя давяраюць яму і з павагай выслухваюць яго думку, таму што ён валодае ў падобных справах ведамі і досьведам, якіх яны пазбаўлены. Менавіта ён нагадвае ім пра розныя аргументы, якія пераблыталіся ў іхнай памяці, паказвае ім шлях у працэдурных лабірынтах, выразна акрэслівае факты і падказвае адказы на праўныя пытанні. Яго ўплыў амаль не мае меж.

Патрэбна, нарэшце, сказаць, чаму мяне не пераконваюць аргументы на карысць няздольнасьці прысяжных судзіць грамадзянскія справы.

У грамадзянскіх працэсах, ва ўсякім разе, тады, калі гаворка не ідзе пра нейкі ўчынак, суд прысяжных паказвае сабой толькі бачнасць судовай установы.

Прысяжныя толькі абвяшчаюць прысуд, які на справе выносіцца суддзёй. Прысяжныя асвячаюць яго аўтарытэтам грамадства, якое яны прадстаўляюць, а суддзя выносіць яго, пагадняючы з розумам і законамі[208].

[208] (*208 заўвага аўтара на праканцы кнігі)

У Ангельшчыне і Амерыцы суддзі робяць на ход крымінальных працэсаў такі ўплыў, пра які французскія суддзі не ў стане і падумаць. Нагода гэтага адрознення цалкам зразумелая: ангельскія і амерыканскія суддзі дамагаюцца аўтарытэта, вядучы грамадзянскія працэсы; ім не патрэбна яго заваёўваць, яны проста карыстаюцца ім у іншай сферы дзейнасьці.

У некаторых выпадках, звычайна, самых важных, амерыканскі суддзя мае права выносіць прысуд аднаасобна[209]. Тады ён трапляе ў тое ж становішча, у якім заўсёды знаходзіцца французскі суддзя. Аднак ён валодае значна больш высокай маральнай магутнасьцю: усе ж памятаюць пра яго ролю ў судзе прысяжных і яго рашэнне набывае амаль такі ж аўтарытэт, як і рашэнне грамадства, выказваемае прысяжнымі.

Уплыў суддзяў пашыраецца далёка за межы судоў. У мірных забаўках прыватнага жыцця, у палітычнай дзейнасьці, у грамадзкіх месцах і заканадаўчых асамблеях амерыканцы прызвычаіліся глядзець на суддзяў як на людзей, перавышаючых іх адпаведна з інтылектам. Іхны аўтарытэт, выяўляемы спачатку ў судзе, пачынае потым уплываць на розумы і нават душы тых, хто разам з імі браў удзел у працэсах.

Суд прысяжных, які, здавалася б, абмяжоўвае правы судзейскіх урадаўцаў, на самай справе з’яўляецца падмуркам іхнага панавання. Самую вялікую магутнасць суддзі маюць у тых краінах, дзе частка іхных правоў належыць народу.

Менавіта дзякуючы суду прысяжных у амерыканскага судовага ведамства атрымліваецца пашырыць тое, што я называю духам законнасьці, на самыя шырокія пласты грамадства.

Такім чынам, суд прысяжных, будучы найбольш правільным сродкам ажыццяўлення ўлады народа, у той жа час як найлепш вучыць народ карыстацца сваёй уладай.

# Глава IX

## Пра асноўныя нагоды, спрыяючыя існаванню дэмакратычнай рэспублікі ў Злучаных Штатах

У Злучаных Штатах дэмакратычная рэспубліка працягвае існаваць. Патлумачыць падставы гэтай з’явы – вось асноўная мэта гэтай кнігі.

Сярод падставаў існуюць такія, якія я мімаволі і мімаходзь паказаў падчас апавядання. Існуюць і іншыя, якія я не меў магчымасьці прааналізаваць. Тыя ж, якім я надаў шмат увагі, могуць застацца незаўважанымі дзякуючы шматлікасьці падрабязнасьцей.

Таму, перш чым рухацца далей і разважаць пра будучыню, я лічу патрэбным коратка сказаць пра ўсе тыя нагоды, якія могуць служыць тлумачэннем існуючага становішча.

Гэта будзе кароткі агляд, таму што я паспрабую толькі нагадаць чытачу ў агульным выглядзе пра тое, пра што яму ўжо вядома. Што да фактаў, пра якія я яшчэ не згадваў, то я спынюся толькі на самых асноўных.

Усе нагоды, спрыяючыя падтрыманню дэмакратычнай рэспублікі ў Злучаных Штатах, можна звесьці да трох:

---

209 Федэральныя суддзі амаль заўсёды аднаасобна вырашаюць пытанні маючыя непасрэднае дачыненне да кіравання краінай.

першыя – асобнае становішча, у якое амерыканцы патрапілі дзякуючы волі выпадку і лёсу;

другія – законы;

трэццік – звычаі і норавы.

## Роля выпадку і боскага памышлення ў падтрыманні дэмакратычнай рэспублікі ў Злучаных Штатах

–У Звяза няма суседзяў. –У ім няма вялікіх сталіц. –Поспеху амерыканцаў спрыяюць шчаслівыя акалічнасьці, спадарожнічаўшыя іх паходжанню. –Амерыка - пустэльная краіна. –Гэтая акалічнасць з’яўляецца магутным фактарам падтрымання дэмакратычнай рэспублікі. –Якім чынам у Амерыцы засяляюцца пустуючыя месцы. –Жарснае імкненне англа-амерыканцаў да засваення незаселеных прастораў Новага Сьвету. –Уплыў матэрыяльнага дабрабыту на палітычныя перакананні амерыканцаў.

Шмат акалічнасьцей, не залежачых ад волі чалавека, палягчаюць існаванне дэмакратычнай рэспублікі ў Злучаных Штатах. Адны із іх з’яўляюцца вядомымі, з іншымі можна лёгка азнаёміцца. Я абмяжуюся толькі апісаннем асноўных.

У амерыканцаў няма суседзяў, таму ім не пагражаюць вялікія войны, фінансавыя крызісы, спусташэнні і заваёвы. Ім няма патрэбы прызначаць вялікія падаткі, утрымліваць шматлікае войска, мець буйных вайскаводаў. Ім амаль не пагражае і іншае бедства, больш небяспечнае для рэспублік, чым усе вышэйпералічаныя разам узятыя – вайсковая слава.

Немагчыма адмаўляць той вялізны ўплыў, які робіць вайсковая слава на народны дух. Генерал Джэксан, якога амерыканцы двойчы абіралі кіраўніком дзяржавы, валодае неўтаймаваным характарам і сярэднімі здольнасьцямі. На працягу усёй сваёй кар’еры ён ніколі не дэманстраваў якасьці, патрэбныя для кіравання вольным народам. Большасць асьвечаных станаў Звязу заўсёды выступалі супраць яго. Што ж дазволіла яму заняць пасаду прэзідэнта і да гэтага часу заставацца на ёй? Толькі ўспаміны пра перамогу, здабытую ім дваццаць гадоў таму назад пад сьценамі Новага Арлеана. Але ж перамога пад Новым Арлеанам – гэта пасрэдная вайсковая падзея, якая не засталася б надоўга ў памяці народа, якому даводзіцца шмат ваяваць. Народ, які здольны падпасьці пад чары падобнай вайсковай славы, без сумневаў, самы халодны, самы ашчадны, найменш ваяўнічы і, калі можна так выказацца, самы празаічны народ у сьвеце.

У Амерыцы няма ніводнай вялікай сталіцы[210], якая б пашырыла свой прамы ці ўскосны ўплыў на ўсю тэрыторыю краіны. У гэтым я бачу адну із асноўных

[210] У Амерыцы пакуль няма буйных сталіц, але там ужо існуюць вельмі вялікія гарады. У Філадэльфіі ў 1830 годзе жыло 161 тысяча чалавек, а ў Нью-Ёрку – 202 тысячы. Ніжэйшыя пласты насельніцтва, жывучыя ў гэтых вялікіх гарадах, уяўляюць яшчэ большую небяспеку, чым еўрапейскі чарналюд. Іх складаюць, перадусім, вольныя негры, якія дзякуючы магутнасьці законаў і грамадзкай думкі вырачаны з пакалення ў пакаленне жыць у зневажанні і галечы. Там можна сустрэць нямала еўрапейцаў, якіх няшчасьці ці шалапуцтва штодня гоняць на берагі Новага Сьвету. Гэтыя людзі прыносяць у Злучаныя Штаты нашы самыя агідныя заганы, не маючы ў той жа час ніякіх зацікаўленасьцей, здольных іх памякчыць. Яны жывуць у гэтай краіне, не быдучы яе грамадзянамі і гатовы здабываць выгаду із усіх жарсьцяў, якія яе скалынаюць. Менавіта таму ў апошні час у Філадэльфіі і Нью-Ёрку выбухалі сур’ёзныя хваляванні. У астатняй частцы краіны падобных хваляванняў не бывае і яны яе цалкам не цікавяць. Справа ў тым, што жыхары гарадоў да цяперашняга часу не мелі ніякай улады над негарадзкім насельніцтвам і не рабілі на яго ніякага ўплыву. Памеры некаторых амерыканскіх гарадоў, а таксама натура іхных жыхароў могуць уяўляць сапраўдную небяспеку для будучыні дэмакратычных рэспублік Новага Сьвету. Я бяру на сябе адвагу прадказаць, што менавіта яны могуць быць нагодай іхнай згубы, калі толькі ўрады рэспублік не здолеюць задушыць гэтыя эксцэсы шляхам стварэння войска падначаленага волі нацыянальнай большасьці, але не залежачай ад насельніцтва гарадоў.

нагод існавання рэспубліканскага кіравання ў Злучаных Штатах. У гарадах людзі непазбежна аб'ядноўваюцца, яны маюць магчымасць усе адначасова прыходзіць ва ўзрушаны стан і прымаць нечаканыя, прадыктаваныя жарсцямі рашэнні. Там народ робіць вялізны ўплыў на прызначаных ім урадаўцаў, нярэдка ён чыніць сваю волю сам, без пасярэднікаў.

Пры падначаленні правінцый сталіцы лёс усёй краіны трапляе пад непасрэдны ўплыў адной часткі насельніцтва, што, вядома, несправядліва. Ён трапляе ў рукі народа дзейнічаючага самастойна, а гэта ўяўляе вялікую небяспеку. Панаванне сталіцы наносіць сур'ёзную шкоду прадстаўнічай сістэме і спараджае ў сучасных рэспубліках загану, уласцівую старажытным рэспублікам: усе яны загінулі праз тое, што не мелі прадстаўнічай сістэмы.

Няцяжка было б пералічыць шмат іншых, другарадных нагод, спрыяючых усталяванню і забеспечваючых існаванне дэмакратычнай рэспублікі ў Злучаных Штатах. Але сярод шматлікіх шчаслівых акалічнасьцей я бачу дзьве асноўныя і неадкладна на іх пакажу.

Я ўжо паведамляў раней, што першай, самай важнай нагодай, якой можна патлумачыць сучасны росквіт Злучаных Штатаў, з'яўляецца паходжанне амерыканцаў, тое, што я назваў іх пачаткам. На світанні існавання амерыканцам пашанцавала: некалі іхныя бацькі ўсталявалі на зямлі, дзе яны зараз жывуць, роўнасць умоў і здольнасьцей, што паслужыла натуральным падмуркам для ўзнікнення дэмакратычнай рэспублікі. І гэта яшчэ не ўсё. Акрамя рэспубліканскага грамадзкага ўладкавання, яны пакінулі сваім нашчадкам звычкі, ідэі і норавы, патрэбныя для росквіту рэспублікі. Калі думаеш пра наступствы гэтага выточнага факта, то, здаецца, што лёс Амерыкі быў перадвызначаны тымі першымі ступіўшымі на яе бераг пурытанінамі, так жа як лёс чалавецтва быў прадвызначаны першым чалавекам.

Вельмі важнай акалічнасьцю, спрыяўшай усталяванню і захаванню дэмакратычнай рэспублікі ў Злучаных Штатах, з'яўляюцца памеры тэрыторыі, на якой жывуць амерыканцы. Ад бацькоў яны ўспадкавалі павагу да роўнасьці і вольнасьці, але толькі Бог, падараваўшы ім неабсяжны кантынент, даў ім магчымасць доўга жыць роўнымі і вольнымі.

Усеагульны дабрабыт забяспечвае стабільнасць якой заўгодна формы кіравання, але ён набывае асабліва важнае значэнне для дэмакратыі, падмуркам якой з'яўляецца настрой большасьці і галоўным чынам настрой тых, хто адчувае патрэбу. Пры народным кіраванні дзяржава можа жыць без узрушэнняў толькі ў тым выпадку калі народ шчасьлівы, таму што галеча дзейнічае на яго так жа, як славалюбства дзейнічае на манархаў. Ніводная ж краіна сьвету, ніколі на працягу гістарычнага часу не мела столькі матэрыяльных і не залежачых ад закона перадумоваў дабрабыту, колькі мае Амерыка.

Росквіт Злучаных Штатаў тлумачыцца не толькі дэмакратычнасьцю іхнага заканадаўства, сама прырода працуе там на народ.

Чалавечая памяць не захавала нічога падобнага на тое, што адбываецца на нашых вачах у Паўночнай Амерыцы.

Услаўленыя грамадствы старажытнасьці развіваліся ў асяроддзі варожых народаў, якія патрэбна было перамагчы для таго, каб захапіць іхную тэрыторыю. Нават сучасныя народы, выявіўшы ў Паўднёвай Амерыцы шырокія тэрыторыі, сутыкнуліся там з насельніцтвам, якое хаця і саступала ім па ўзроўню развіцця, але ўжо валодала зямлёй і апрацоўвала яе. Для стварэння сваіх новых дзяржаваў ім

давялося знішчыць ці заняволіць гэтае насельніцтва і іхныя перамогі прынесьлі ганьбу цывілізаваным народам.

Што да Паўночнай Амерыкі, то ў ёй жылі качавыя плямёны, яшчэ не думаўшыя пра распрацоўку прыродных багаццяў. Паўночная Амерыка была яшчэ ў літаральным сэнсе пустэльным кантынентам, незаселенай зямлёй, чакаючай сваіх жыхароў.

Усё незвычайна ў амерыканцаў: і іхнае грамадзкае ўладкаванне і іхныя законы. Але самым незвычайнае із усяго, што яны маюць з’яўляецца зямля на якой яны жывуць.

Калі Стваральнік даў зямлю людзям, яна была маладой і заможнай, але людзі былі слабымі і неадукаванымі. Калі ж яны навучыліся здабываць карысць із утойваючыхся ў ёй скарбаў, яны ўжо засялілі яе ўсю і ім давялося ваяваць за права валодаць сваёй тэрыторыяй і вольна жыць на ёй.

Менавіта ў гэты час была адкрыта Амерыка, як быццам бы Бог трымаў яе празапас і яна толькі што з’явілася із вод патопу. У ёй, як пад час першых дзён тварэння, цякуць паўнаводныя рэкі, распасьціраюцца бязмежныя і незаселеныя лясы і балоты, да яе бязмежных палёткаў ніколі не дакранаўся плуг аратага. І яна дастаецца не самотнаму, невуцкаму і прымітыўнаму чалавеку першабытных стагоддзяў, а чалавеку ўжо пазнаўшаму галоўныя таямніцы прыроды, аб’яднанаму са сваімі блізкімі, валодаючымі пяцідзесяцістагоддзевым досьведам.

У наш час трынаццаць мільёнаў цывілізаваных еўрапейцаў не спяшаючыся засяляюць урадлівыя пустэльныя землі; ні ўсіх багаццяў, ні праўдзівых памераў якіх яны яшчэ не ведаюць. Тры ці чатыры тысячы жаўнераў змагаюцца з качавымі плямёнамі індэйцаў. За імі ідуць лесасекі, пракладаючыя ў лясах шляхі, адганяючыя дзікіх жывёл, даследуючыя плыні рэк і такім чынам падрыхтоўваючыя трыумфальнае шэсьце цывілізацыі праз лясную глухмень.

У гэтай кнізе я ўжо неаднаразова згадваў пра матэрыяльны дабрабыт амерыканцаў як пра адну із нагод поспеху амерыканскіх законаў. Пра гэта шмат хто выказваўся і да мяне. Гэта адзіная нагода, якая кідалася ў вочы еўрапейцам і стала ў нас усеагульна вядомай. Дзякуючы таму што пра яе часта пісалі і яна з’яўляецца цалкам зразумелай, я не буду на ёй спыняцца і затрымаю ўвагу чытача на некаторых новых фактах.

Звычайна лічыцца, што пустэльныя землі Амерыкі засяляюцца еўрапейскімі эмігрантамі, штогадова прыязджаючымі ў Новы Сьвет, тады як амерыканскае насельніцтва жыве і памнажаецца на тэрыторыі, якую насялялі іхныя бацькі. Гэта глыбокая памылка. Еўрапейцы, прыбываючыя ў Злучаныя Штаты, звычайна не маюць ні сяброў, ні грошай. Для таго каб жыць, яны вымушаны прадаваць сваю працу і дзякуючы гэтаму яны часьцей усяго застаюцца ў вялікай індустрыяльнай зоне размешчанай уздоўж акіянскага ўзбярэжжа. Немагчыма акультурыць пустэльныя землі не маючы ні грошай ні крэдытаў; перш чым выправіцца ў лясы, патрэбна прызвычаіцца да новага суровага клімату. Таму гаспадарамі вялікіх зямельных багаццяў у аддаленых мясцовасьцях робяцца амерыканцы штодня ад’язджаючыя туды із месцаў дзе яны нарадзіліся. Так, еўрапейцы пакідаюць свае халупы і едуць жыць на амерыканскае ўзбярэжжа Атлантычнага акіяна, а амеріканцы, народжаныя на гэтым узбярэжжы, у сваю чаргу перасяляюцца ў глыб Цэнтральнай Амерыкі. Гэты падвойны струмень эмігрантаў ніколі не спыняецца. Адны ад’язджаюць із цэнтра Яўропы і перасякаюць вялікі акіян, іншыя рухаюцца праз пустэльныя землі Новага Сьвету. Мільёны людзей адначасова перасяляюцца ў

адным накірунку. Яны размаўляюць на розных мовах, у іх розныя рэлігіі і норавы, але іх аб'ядноўвае мэта. Іх запэўнілі, што багацце можна знайсьці недзе на Захадзе і яны спяшаюцца за ім.

Нішто не можа параўнацца з гэтым пастаянным перасяленнем людзей, акрамя, магчыма, таго, што суправаджала знішчэнне Рымскай імперыі. У тыя часы масы людзей таксама перамяшчаліся ў адным накірунку і паміж імі адбываліся бурныя сутыкненні. Але задума Усемагутнага тады была іншай. Кожны нанова прыходзячы прыносіў сьмерць і разбурэнні, сёння ж кожны нясе парасткі росквіту і жыцця.

Аддаленыя наступствы міграцыі амерыканцаў на Захад яшчэ хаваюцца за заслонай будучыні, але непасрэдныя вынікі ў наяўнасьці: таму што частка карэнных жыхароў выязджае са штатаў, дзе яны нарадзіліся, насельніцтва гэтых штатаў павялічваецца павольна, нягледзячы на іхнае працяглае існаванне. Так, штат Канэктыкут налічвае толькі пяцьдзясят дзевяць жыхароў на квадратную мілю, а яго насельніцтва за дваццаць пяць гадоў павялічылася толькі на адну чвэрць. У Ангельшчыне за той жа перыяд яно павялічылася на адну траціну. Эмігрант із Яўропы трапляе, такім чынам, у напалову заселеную краіну, дзе прамысловасць мае патрэбу ў працоўных руках. Ён ператвараецца ў жывучага ў дастатку працоўнага. Яго сын выпраўляецца шукаць шчасьця ў пустэльных землях і ператвараецца ў заможнага ўласніка. Першы збірае капітал, а другі пускае яго ў абарачэнне, але ў галечы не жыве ні той, хто эміграваў у Амерыку, ні той, хто там нарадзіўся.

У Злучаных Штатах закон усімі магчымасьцямі спрыяе драбненню ўласнасьці, але існуе рэч больш магутная, чым закон, перашкаджаючая яе празмернаму дробленню[211]. Гэта лёгка заўважыць у штатах, у якіх насельніцтва пачынае заўважальна павялічвацца. Масачусетс – самы шчыльна населены штат Звязу, у ім налічваецца восемдзесят жыхароў на квадратную мілю. Гэта значна менш чым у Францыі, дзе на той жа прасторы жыве сто шэсцьдзесят два чалавекі.

Аднак у Масачусетсе невялікія зямельныя ўладанні раздрабняюцца ўжо рэдка. Звычайна зямля застаецца ў старэйшага ў сям'і, а малодшыя выпраўляюцца шукаць шчасьця на новыя, незаселеныя месцы.

Закон скасаваў права першанараджэння, але яго аднавіў Усявышні. Аднак ніхто пра гэта не шкадуе, таму што зараз ён не абражае пачуцця справядлівасьці.

Грунтуючыся толькі на адным гэтым факце можна скласьці ўяўленне пра тое, якая велізарная колькасць людзей перасяляецца разам з сем'ямі із Новай Ангельшчыны ў пустэльныя месцы. Нас пераконвалі, што ў 1830 годзе ў кангрэсе было трыццаць шэсць прадстаўнікоў, нарадзіўшыхся ў невялікім штаце Канэктыкут. Такім чынам, ад насельнікаў гэтага штата, складаючага сорак трэцюю частку агульнага насельніцтва Злучаных Штатаў, была абрана восьмая частка прадстаўнікоў усёй краіны.

Аднак сам штат Канэктыкут выпраўляе толькі пяць дэпутатаў у кангрэс, астатнія ж – трыццаць адзін дэпутат – абіраюцца ад новых, заходніх штатаў. Калі б гэтыя людзі жылі ў Канектыкуце, яны б, хутчэй усяго, былі б не заможнымі ўласнікамі, а дробнымі земляробамі і жылі б у невядомасьці. Палітычная кар'ера ніколі не расчынілася б перад імі і замест таго каб стаць карыснымі заканадаўцамі, яны былі б небяспечнымі грамадзянамі.

---

[211] У Новай Ангельшчыне зямля падзелена на вельмі маленькія пляцоўкі, але далейшага іхнага падзелу не адбываецца.

Гэтыя факты заўважаем не толькі мы, яны не выслізгваюць із пад увагі і амерыканцаў.

«*Няма сумневаў ў тым*, – піша суддзя Кент у сваіх «Каментарах да амерыканскага права» (т. IV, с. 380), – *што раздрабненне надзелаў, даведзенае да крайнасьці, магло б мець наступствам вельмі сумныя вынікі калі б, напрыклад, сям'я валодаючая адной пляцоўкай, не мела б магчымасьці карміцца ад яе. Але ў Злучаных Штатах гэтага ніколі не было і яшчэ шмат пакаленняў амерыканцаў не сытукнуцца з такой праблемай. Памеры нашай тэрыторыі, дастатак распасьціраючыхся перад намі земляў і пастаяннае перасяленне людзей ад берага Атлантычнага акіяна ў глыб краіны дапамагаюць і яшчэ доўга будуць дапамагаць спыненню раздрабнення перадаючыхся па спадчыне земляў*».

Цяжка апісаць тую прагнасць з якой амерыканцы кідаюцца на вялізную здабычу, падараваную ім лёсам. Пераследуючы яе, яны адважна ідуць на стрэлы індэйцаў, пераносяць хваробы падпілноўваючыя іх у пустэльні, не баяцца лясной немані, не прыходзяць у замяшанне пры сустрэчы з лютымі жывёламі. Запал гонячы іх наперад, больш моцны чым прага да жыцця. Перад імі распасьціраецца амаль бязмежны кантынент, а яны спяшаюцца так, нібы-та баяцца прыйсьці занадта позна і не знайсьці сабе месцы. Я паведамляю пра перасяленне са старых штатаў, але людзі перасяляюцца і із новых. Штату Агаё няма яшчэ і пяцідзесяці гадоў, асноўная частка яго жыхароў нарадзілася за яго межамі, яго сталіца яшчэ не налічвае і трыццаці гадоў і на яго тэрыторыі існуюць бязмежныя пустэльныя прасторы. Аднак насельніцтва Агаё зноў перасяляецца на Захад: большасць тых, хто прыходзіць ва ўрадлівыя прэрыі Ілінойса, – жыхары Агаё. Гэтыя людзі пакінулі сваю першую радзіму каб жыць добра, зараз яны з'язджаюць і з другой, каб жыць яшчэ лепш. Яны амаль паўсюдна знаходзяць багацце, але не шчасьце. Іх імкненне да дабрабыту ператварылася ў гарачы і неспакойны запал, павялічваючыся па меры яго задавальнення. Некалі яны парвалі сувязі, прымацоўваўшыя іх да роднай зямлі і з тых часоў у іх не узнікла новых сувязяў. Перасяленне ператварылася для іх у патрэбу, яны бачаць у ім нешта накшталт азартнай гульні, у якой яны аднолькава шануюць як пражыванні так і выйгрыш.

Часам людзі перамяняюць месца жыхарства так хутка, што мясцовасць, у якой яны пабывалі, вяртаецца да некранутага стану. Лясы толькі разступаюцца перад імі і зноў стульваюцца, калі яны праходзяць. Падарожнічаючы па новых заходніх штатах, нярэдка сустракаеш у лесе пакінутае жыллё. У самых глухіх мясьцінах можна знайсьці халупу і са здзіўленнем заўважыць сляды карчавання, сведчачыя адначасова пра магутнасць і мітуслівасць чалавека. Пакінутыя палеткі і парэшткі нядоўга паслужыўшага жылля неадкладна зарастаюць лесам, сышоўшыя жывёлы вяртаюцца, прырода весела і хутка хавае за маладымі парасткамі і кветкамі сляды мімалётнага знаходжання чалавека, а потым і знішчае іх.

Аднойчы, падарожнічаючы па адной із пустэльных акруг, яшчэ існуючых у штаце Ньо-Ёрк, я пад'ехаў да возера, берагі якога густа зараслі лесам, як у спрадвечныя часы. Пасярод возера я пабачыў маленькую выспу. Яна была пакрыта шапкай лесу, нават берагоў не было бачна. На берагах возера не было ні душы, а на небасхіле над верхавінамі дрэў да неба падымаўся дымок. Здавалася, што ён звісае зверху, а не ідзе знізу.

На пяску ляжала індэйская пірога і я скарыстаўся ёю для таго, каб пераправіцца на выспу, прыцягнуўшую маю ўвагу. Хутка я быў там. Выспа выявілася адным із тых чароўных некранутых куткоў, пры выглядзе якіх цывілізаваны чалавек пачынае шкадаваць пра дзікае жыццё. Буяючая расліннасць

сведчыла пра казачную ўрадлівасць глебы. Там, як і заўсёды ў паўночнаамерыканскай глухмені, панавала глыбокая цішыня, якую парушала толькі аднастайнае буркатанне дзікіх галубоў ды грукат дзятла па дрэве. Мне і ў галаву не магла прыйсці думка, што тут нехта ўжо пабываў, такой некранутай здавалася прырода; але, дайшоўшы да сярэдзіны выспы, я раптам пабачыў нешта падобнае на сляды знаходжання чалавека. Тады я ўважліва агледзеў усё навакол і хутка ў мяне не засталося сумневаў, што тут ужо жыў еўрапеец. Але як перамянілася тое, што было вынікам яго намаганняў! Дрэвы, якія ён ссек, каб пабудаваць сабе халупу, далі новыя парасткі, частакол ператварыўся ў жывую загарадзь, а халупа – у куст. Пасярод гэтай раслiннасьці ў кучы попелу ляжалі камяні, пачарнеўшыя ад дыму. Некалі гэта быў агмень, комін разбурыўся і заваліў яго. Некаторы час я моўчкі цешыўся магутнасьцю прыроды і слабасьцю чалавека, а сыходзячы із гэтага чароўнага месца, я з сумам паўтараў: «Вось як! І тут ужо парэшткі!»

У Яўропе мы прызвычаіліся глядзець на неспакойны розум, празмернае імкненне да багацця і крайнюю цягу да незалежнасьці як на вялікую небяспеку для грамадства. Менавіта ўсё гэта гарантуе амерыканскім рэспублікам вялікае і мірнае будучае. Калі б не ўсе гэтыя несуцешныя жарсьці, насельніцтва сабралася б у некаторых мясцовасьцях і неўзабаве, так жа як і мы, пачало б адчуваць патрэбы, задаволіць якія яму было б цяжка. Новы Сьвет – гэта шчасьлівы край, заганы людзей там з’яўляюцца амаль такімі ж карыснымі для грамадства, як і ўчыннасьці!

Гэта робіць вялізны ўплыў на тое, якія высновы робяць пра ўчынкі людзей у розных паўшар’ях. Амерыканцы часта лічаць годным ухвалы заняткам тое, што мы лічым смагай нажывы і бачаць некаторую душэўную баязлівасць у тым, што мы разглядаем як умеранасць жаданняў. У Францыі на простыя густы, спакойныя норавы, сямейны дух і прыхільнасць да месца свайго нараджэння глядзяць як на падставу непахіснасьці і шчасьця дзяржавы. У Амерыцы падобныя ўчыннасьці маглі б толькі пашкодзіць грамадству. Канадзкія французы, застаўшыяся адданымі старым норавам, ужо адчуваюць цяжкасьці і хутка гэты маленькі, нядаўна з’явіўшыся народ сутыкнецца з тымі ж бедамі, якія перажываюць народы Старога Сьвету. У Канадзе самыя асьвечаныя, самыя патрыятычныя і гуманныя людзі не шкадуюць намаганняў для таго, каб прымусіць народ адмовіцца ад простага шчасьця, якое яго ўсё яшчэ задавальняе. Жывучы сярод нас, яны, магчыма, ухвалялі б даброты сумленнай пасярэднасьці, а там яны славяць багацце. Калі ў іншых месцах думаюць пра тое, як заспакоіць чалавечыя жарсьці, то яны, наадварот, клапоцяцца пра тое, каб іх распаліць. Перамяніць чыстыя і спакойныя задавальненні, даступныя на радзіме нават бедняку і з’ехаць у чужыя краі ў пагоні за скупымі радасьцямі, якія дае дабрабыт; кінуць бацькаўскую сядзібу і месцы, дзе спачывае пыл продкаў; развітацца як з жывымі так і з памёршымі і ехаць шукаць шчасьце – вось што ў іхныз вачах заслугоўвае самай вялікай ухвалы.

Людзі зараз знаходзяць у Амерыцы так шмат багаццяў, што ў іх не хапае магчымасьцей, каб іх здабыць.

Таму ніякія веды не могуць быць непатрэбнымі. Акрамя таго, веды служаць там не толькі тым, хто імі валодае, але і даюць карысць тым, хто іх не мае. Узнікаючыя зноў патрэбы не ўяўляюць небяспекі, іх жа няцяжка задаволіць, можна не асьцерагагацца і занадта бурных жарсьцей, таму што яны лёгка знаходзяць станоўчае выйсьце, няма ніякай патрэбы ў самых нязначных абмежаваннях вольнасьці, людзі амаль ніколі не схільны марнатравіць ёю.

Амерыканскія рэспублікі можна параўнаць з кампаніямі негацыянтаў, створанымі для сумеснага засваення пустэльных земляў Новага Сьвету і паспяхова вядучымі гандаль.

Амерыканцаў больш за ўсё хвалююць не палітычныя, а камерцыйныя справы, ці, больш дакладна, яны пераносяць на палітыку звычаі набытыя ў камерцыі. Яны шануюць парадак патрэбны для поспеху ў справах, глыбока шануюць умераныя норавы, ляжачыя ў падмурку трывалай сям'і. Яны аддаюць перавагу цьвярозаму розуму – стваральніку вялікіх набыткаў, геніяльнасьці, якая іх нярэдка пускае на вецер. Ідэі агульнага характару палохаюць іхны розум, які прызвычаіўся да пэўных разлікаў, а практыцы яны аддаюць перавагу ў параўнанні з тэорыяй.

Каб зразумець, які ўплыў робіць матэрыяльны дабрабыт на палітычную дзейнасць і нават на перакананні, якія, здавалася б, падначалены толькі розуму, патрэбна паехаць у Амерыку. Асабліва добра гэта заўважаецца на прыкладзе людзей, якія нядаўна абсталяваліся ў Злучаных Штатах. Большасць эмігрантаў із Яўропы прыязджаюць у Новы Сьвет гнаныя неўтаймаваным імкненнем да незалежнасьці і перамен, ўзнікаючых праз нашы нягоды. Мне даводзілася сустракаць у Злучаных Штатах еўрапейцаў, вымушаных у свой час збегчы са сваіх краін праз палітычныя перакананні. Я са здзіўленнем слухаў іх усіх, але адзін з іх мяне асабліва ўразіў. Аднойчы я праязджаў па адной із аддаленых акруг Пенсільваніі і з наступленнем ночы папрасіўся на ноч у сядзібу заможнага плантатара, француза. Ён пасадзіў мяне каля каміна і ў нас пачалася размова, як гэта бывае паміж суайчыннікамі, якія сустракаюцца ў лясной глухмені, удалечыні ад сваёй роднай краіны. Мне было вядома, што сарок гадоў таму назад мой гаспадар быў заўзятым прыхільнікам роўнасьці і палкім дэмагогам. Яго імя засталося ў гісторыі.

Я быў вельмі здзіўлены, калі ён, як эканаміст, каб не сказаць, як уласнік, загаварыў пра права на ўласнасць, пра патрэбу іерархіі паміж людзьмі, якую яна ўсталёўвае, пра падпарадкаванне існуючаму закону, пра ўплыў на рэспубліку добрых нораваў, пра карысць, якую прыносіць парадку і вольнасьці рэлігія. Для падмацаввння адной са сваіх палітычных ідэй ён нават, як бы мімаходзь, спаслаўся на веру ў Ісуса Хрыста.

Слухаючы яго, я разважаў пра недасканаласць чалавечага розуму. Праўдай з'яўляецца нешта ці хлуснёй, як зразумець гэта, калі ні навука, ні досьвед не даюць вызначанага адказу? Але вось з'яўляецца новы факт, і ён рассейвае ўсе сумневы. Чалавек быў немаёмасным, а потым стаў заможным. Калі б дабрабыт, вызначаючы яго паводзіны, не ўплываў на яго меркаванні! Але не, з набыццём багацця яго перакананні перажываюць глыбокія перамены. У сваім поспеху ён бачыць той вызначаючы довад, якога яму не хапала да гэтага часу.

На карэнных амерыканцаў дабрабыт вырабляе яшчэ больш значны ўплыў, чым на нанова прыязджаючых. Амерыканцы заўсёды бачылі, што парадак і росквіт цесна злучаны і заўсёды ідуць побач. Яны і ўявіць сабе не могуць, што тое і другое могуць існаваць паасобку. Ім не патрэбна забывацца на тое, чаму іх вучылі раней, і перавучвацца, як еўрапейцам.

## Пра тое, як законы ўплываюць на падтрыманне дэмакратычнай рэспублікі ў Злучаных Штатах

–Тры асноўныя нагоды, спрыяючыя існаванню дэмакратычнай рэспублікі. –Федэральная структура. –Злучынныя ўстановы. –Судовая ўлада.

Асноўнай мэтай гэтай кнігі было азнаямленне чытача з законамі Злучаных Штатаў. Калі яна дасягнута, то чытач ужо сам можа зрабіць выснову пра тое, якія законы сапраўды служаць умацаванню дэмакратычнай рэспублікі, а якія ўяўляюць для яе небяспеку. Калі ж мне яшчэ не атрымалася дасягнуць сваёй мэты, то немагчыма разлічваць, што гэта атрымаецца зрабіць у адной частцы.

Таму я не маю намеру вяртацца да таго, пра што я ўжо паведаміў, а зраблю толькі кароткі агляд, які зойме некалькі радкоў.

Тры асноўныя нагоды спрыяюць, як уяўляецца, падтрыманню дэмакратычнай рэспублікі ў Новым Сьвеце.

Па-першае, гэта федэральная структура, абраная амерыканцамі. Дзякуючы ёй, Звяз валодае магутнасьцю вялікай рэспублікі і даўгавечнасьцю малой.

Па-другое, гэта існаванне злучынных установаў, якія, з аднаго боку, памяншаюць дэспатызм большасьці, а з другога – прышчапляюць народу густ да вольнасьці і вучаць яго жыць ва ўмовах вольнасьці.

Па-трэццяе, гэта судовая ўлада. Я ўжо паказаў, якую ролю маюць суды ў выпраўленні памылак дэмакратыі і як у іх атрымліваецца прыпыняць і накіроўваць парывы большасьці, хаця яны і не здольны іх папярэдзіць.

## Пра тое, як норавы ўплываюць на падтрыманне дэмакратычнай рэспублікі ў Злучаных Штатах

Я ўжо выказваў вышэй, што лічу норавы адной із асноўных нагод, якімі можна патлумачыць існаванне дэмакратычнай рэспублікі ў Злучаных Штатах.

Пад словам «норавы» я маю на ўвазе тое ж, што старажытныя называлі словам mores. Я ўжываю гэтае слова не толькі для пазначэння нораваў у вузкім сэнсе, якія можна было б назваць звычкамі душы, але і для пазначэнні розных разуменняў, існуючых у распараджэнні чалавека, розных перакананняў, пашыраных сярод людзей, сукупнасьці ідэй, вызначаючых звычкі розуму.

Я маю на ўвазе пад гэтым словам маральнае і інтэлектуальнае аблічча народа. Я не стаўлю сабе на мэце апісаць амерыканскія норавы, але хачу вылучыць тыя із іх, якія спрыяюць умацаванню амерыканскіх палітычных установаў.

## Пра рэлігію як палітычны інстытут. Яе значная роля ва ўмацаванні дэмакратычнай рэспублікі ў Злучаных Штатах

–Жыхары Паўночнай Амерыкі вызнаюць дэмакратычнае і рэспубліканскае хрысьціянства. –Першыя каталікі ў Злучаных Штатах. –Чаму ў нашы дні каталікі ўяўляюць сабой пласт насельніцтва, найбольш адданы дэмакратыі і рэспубліцы.

Кожная рэлігія злучана з вызначанымі палітычнымі перакананнямі дзякуючы свайму падабенству з імі.

Калі дух чалавека развіваецца вольна, ён імкнецца прывесьці ў адпаведнасць палітычнае грамадства і рэлігійныя інстытуты, імкнецца, калі мне будзе дазволена так выказацца, прывесьці да гармоніі зямное жыццё і нябеснае.

Асноўная частка ангельскай Амерыкі была заселена людзьмі якія, выйшаўшы із-пад улады папы, ні за кім не прызналі права на рэлігійнае вяршынство. Таму яны прынеслі ў Новы Сьвет хрысьціянства, якое найбольш

дакладна можна вызначыць як дэмакратычнае і рэспубліканскае. Адпачатку і да нашага часу палітыка і рэлігія жылі ў згодзе.

Каля пяцідзесяці гадоў таму назад із Ірландыі ў Злучаныя Штаты пачалі перасяляцца каталікі. У сваю чаргу і некаторыя амерыканцы перайшлі ў каталіцтва. Сёння ў Звязе жыве больш мільёна хрысьціянаў, вызнаючых запаветы каталіцкай царквы.

Амерыканскія каталікі вельмі строгія ў выпраўленні свайго культу, яны вераць горача і апантана. У той жа час гэта самы адданы рэспубліцы і дэмакратыі пласт насельніцтва ў Злучаных Штатах. Спачатку гэты факт можа здацца дзіўным, але, паразважаўшы, лёгка зразумець яго таемныя нагоды.

Тыя, хто лічыць, што каталіцтва па сваёй прыродзе варожае дэмакратыі, памыляюцца. Наадварот, сярод розных хрысьціянскіх вучэнняў каталіцтва з'яўляецца ў большай ступені, чым іншыя, спрыяльным для ўзнікнення роўнасьці паміж людзьмі. У каталікоў рэлігійнае грамадства складаецца із двух элементаў: святар і народ. Святар узвышаецца над усімі вернікамі; усе, хто стаіць ніжэй яго, роўныя паміж сабой.

Каталіцкія догмы аднолькавыя для людзей featured рознага разумовага развіцця, вера адукаваных людзей і невуцкіх, таленавітых і сярэдніх павінна быць цалкам аднолькавай. Каталіцтва абавязвае і немаёмасных і заможных выконваць адны і тыя ж звычаі, аднолькава сурова ставіцца да моцных і слабых, яно не заключае пагадненняў ні з адным са сьмяротных і ставіцца да ўсіх людзей з адной меркай. Яму падабаецца перамешваць каля ахвярніка ўсе станы грамадства так жа, як яны перамяшаны перад Панам Богам.

Каталіцтва, прывучаючы вернікаў да паслухмянасьці, падрыхтоўвае іх да роўнасьці. Пратэстанцтва ж, наадварот, звычайна накіроўвае людзей не да роўнасьці, а да незалежнасьці.

Каталіцтва можна параўнаць з абсалютнай манархіяй. Калі выключыць валадара, роўнасць умоваў для грамадзянаў у ёй больш глыбокая, чым у рэспубліцы.

Нярэдка бывала, што каталіцкія сьвятары выходзілі за рамкі чыста рэлігійнай дзейнасьці і рабіліся грамадзкай магутнасьцю, займаючы вызначанае месца ў сацыяльнай іерархіі. У такіх выпадках яны часам выкарыстоўвалі свой рэлігійны ўплыў для таго, каб замацаваць палітычнае ўладкаванне, часткай якога яны былі. Тады каталікі рабіліся прыхільнікамі арыстакратыі із рэлігійных пачуццяў.

Але як толькі святароў адхіляюць ад кіравання ці яны самі ад яго адыходзяцць, як напрыклад, у Злучаных Штатах, каталікі апынаюцца найбольш падрыхтаванымі сваёй верай да таго, каб перанесьці ідэю роўнасьці на палітычнае жыццё.

Хаця немагчыма сказаць, што каталіцкая вера з непераадольнай магутнасьцю вабіць сваіх прыхільнікаў у Злучаных Штатах да дэмакратычных і рэспубліканскіх перакананняў, яна, прынамсі, не наладжвае вернікаў супраць гэтых перакананняў. Прыняць жа іх яны вымушаны дзякуючы становішчу ў грамадстве і сваёй малалікасьці.

Большасць каталікоў немаёмасныя, таму яны могуць браць удзел у кіраванні грамадствам толькі ў тым выпадку, калі такая магчымасць дадзена ўсім грамадзянам. Каталікі складаюць меншасць, такім чынам, для таго, каб яны маглі карыстацца сваімі правамі, патрэбна павага да правоў усіх грамадзян. Дзякуючы гэтым нагодам яны мімаволі робяцца прыхільнікамі палітычных тэорый, ад якіх

яны, магчыма, не былі б у захапленні, калі б былі заможнымі і складалі большасць. Каталіцкае святарства Злучаных Штатаў ніколі не спрабавала змагацца супраць палітычных настрояў сваёй паствы. Наадварот, яно заўсёды імкнулася апраўдаць іх. Для амерыканскіх каталіцкіх святароў духоўны сьвет складаецца із двух частак. Адну складаюць рэлігійныя догмы, якім яны падначальваюцца без разважанняў, а другую – палітычнае жыццё, у якім, на іхную думку, Бог дае людзям волю творчасьці. Таму каталікі ў Злучаных Штатах паўстаюць у выглядзе як паслухмянага свайму пастыру вернікі, і як незалежныя грамадзяне.

Такім чынам, можна сказаць, што ў Злучаных Штатах ніводнае рэлігійнае вучэнне не займае варожай пазіцыі ў дачыненні да дэмакратычных і рэспубліканскіх установ. Святарства ўсіх цэркваў прытрымліваецца з гэтай нагоды адной думкі, перакананні не супярэчаць законам, у розумах пануе згода.

Калі я знаходзіўся ў адным із буйных гарадоў Звязу, мяне запрасілі на палітычны сход. Яго мэтай было наладжванне дапамогі Польшчы, збор і дастаўленне зброі і грошай у гэтую краіну.

У вялікай зале, адмыслова для гэтага падрыхтаванай, сабралася дзьве-тры тысячы чалавек. Напачатку сходу да краю ўзвышэння, прызначанага для прамоўцаў, падышоў сьвятар у сутане. Калі прысутныя падняліся і агалілі галовы, ён загаварыў у поўнай цішыні:

«*Усемагутны Божа! Апякун войскаў! Ты, які падтрымліваў дух і накіроўваў руку нашых бацькаў, калі яны абаранялі сьвятыя правы нацыянальнай незалежнасьці, ты, які прывёў іх да перамогі над гнюсным прыгнётам і дараваў нашаму народу жыватворны мір і вольнасць. Пане! Павярні свой міласьцівы позірк на другі канец зямлі, пашкадуй гераічны народ, які сёння, як некалі мы, змагаецца за свае нацыянальныя правы. Пане, ты, сатварыўшы людзей адпаведна з адной выявай і падабнымі, не дапусьці, каб прыгнятальнікі сапсавалі справу рук тваіх і працягвалі няроўнасць на зямлі. Усемагутны Божа! Паклапаціся пра лёс палякаў, зрабі іх годнымі волі, хай іхныя рады будуць поўныя тваёй мудрасьцю, а іхныя рукі – тваёй магутнасьці, зрынь у жах іхных ворагаў, падзялі дзяржавы, жадаючыя іхнай згубы, не дай зноў адбыцца несправядлівасьці, сведкам якой сьвет быў пяцьдзясят гадоў таму назад, Пане! Ты, які трымаеш у сваіх руках сэрцы людзей і народаў, заклікай хаўруснікаў на абарону сьвятой і правай справы, зрабі так, каб французскі народ скінуў із сябе здранцьвенне ў якім яго трымаюць уладцы, і зноў пайшоў на змаганне за волю ў сьвеце.*

*Пане, не адхіляй ад нас твар свой. Ды будзем мы заўсёды самым рэлігійным і самым вольным народам.*

*Божа ўсемагутны, пачуй наша маленне, выратуй палякаў, молім цябе ў імя твайго ўмілаванага сына Пана Бога нашага Ісуса Хрыста, які памёр на крыжы, каб выратаваць род чалавечы. Амэн*».

Усе сабраўшыяся хорам паўтарылі: «Амэн».

## Ускосны ўплыў рэлігійных вераванняў на палітычнае жыццё ў Злучаных Штатах

–Хрысьціянская мараль уласцівая ўсім сектам. –Уплыў рэлігіі на норавы амерыканцаў. –Павага да адружальных повязяў. –Абмежаванні, якія рэлігія накладае на ўяўленні амерыканцаў, памяншаючы іхны запал да абнаўлення. –Думка амерыканцаў пра станоўчы ўплыў рэлігіі на палітыку. –Іхнае імкненне пашырыць і ўмацаваць яе ўплыў.

Я паказаў, якім чынам рэлігія ў Злучаных Штатах непасрэдна ўплывае на палітыку. Яе ўскосны ўплыў уяўляецца мне значна больш магутным, таму што яна

найлепш навучае амерыканцаў у мастацтве жыць вольнымі менавіта тады, калі цалкам не выказваецца пра вольнасць.

У Злучаных Штатах існуе шмат сектаў. Усе яны адрозніваюцца формамі ўшанавання Стваральніка, але маюць адзіную думку з нагоды абавязкаў людзей у дачыненні адзін да аднаго. Кожная секта па-свойму ўшаноўвае Бога, але ўсе яны навучаюць адной і той жа маралі ад імя Бога. Самым каштоўным для чалавека як асобы з'яўляецца праўдзівасць яго рэлігіі. Аднак пра грамадства гэтага сказаць немагчыма. Яно не баіцца замагільнага жыцця і нічога ад яго не чакае; самае важнае для яго – гэта не столькі праўдзівасць рэлігіі, якую вызнаюць усе грамадзяне, колькі сам факт спавядання нейкай рэлігіі. Акрамя таго, усе секты ў Злучаных Штатах з'яўляюцца адгалінаваннямі хрысьціянскай рэлігіі, а хрысьціянская мараль паўсюдна адзіная.

Можна выказаць здагадку, што некаторыя амерыканцы вераць у Бога больш дзякуючы звычцы, чым дзякуючы перакананням. У Злучаных жа Штатах кіраўнік дзяржавы – вернік і, такім чынам, вера, нават калі яна крывадушная, з'яўляецца абавязковай для ўсіх. Аднак Амерыка застаецца той часткай сьвету, дзе хрысьціянская рэлігія ў найвышэйшай ступені захавала сапраўдную ўладу над душамі людзей. І гэтая краіна, дзе рэлігія вырабляе ў нашы дні самы высокі ўплыў, з'яўляецца ў той жа час самай асьвечанай і вольнай. Немагчыма больш пераканаўча давесьці, наколькі рэлігія з'яўляецца карыснай і натуральнай для чалавека.

Я выказваўся, што амерыканскія сьвятары ў цэлым выступаюць за грамадзянскую вольнасць, уключаючы нават тых, хто не прызнае волі сумлення. У той жа час яны не падтрымліваюць ніводную із палітычных сістэм. Яны імкнуцца трымацца збоку ад партыйных спраў і не бяруць удзел у змаганні партый. Таму немагчыма сказаць, што ў Злучаных Штатах рэлігія ўплывае на заканадаўчую дзейнасць ці на фармаванне тых ці іншых палітычных перакананняў. Яна кіруе выхаваннем нораваў, займаецца справамі сям'і і такім чынам робіць уплыў на дзяржаву.

Няма ніякіх сумневаў у тым, што пануючая ў Злучаных Штатах строгасць нораваў тлумачыцца перадусім рэлігійнымі вераваннямі. Нярэдка рэлігія ў гэтай краіне не ў стане засьцерагчы мужчыну ад незлічонай шматлікасьці спакус, з якімі яго саштурхае лёс, яна не здольна суцішыць яго ўвесь час падганяемы запал да абагачэння. Але яна непадзельна пануе над душой жанчыны, а менавіта ж жанчына стварае норавы. Амерыка – гэта, бясспрэчна, тая краіна, у якой глыбока шануюцца адружальныя сувязі і ў якой склалася найбольш узнёслае і найбольш слушнае ўяўленне пра сямейнае шчасьце.

У еўрапейскіх краінах амаль усе грамадзкія хваляванні зараджаюцца каля хатняга агменю, непадалёку ад адружальнага ложка. Менавіта тут у людзей узнікае пагарда да натуральных прыхільнасьцей і нявінных задавальненняў, схільнасць да бязладзіцы, душэўная неўраўнаважанасць, нясталасць жаданняў. Дзякуючы бурнасьці жарсьцяў, якія часта ўзрушаюць яго ўласнае жыллё, еўрапеец толькі з цяжкасьцю падначальваецца суверэнным уладам дзяржавы. Амерыканец жа, вяртаючыся із неспакойнага палітычнага сьвету ва ўлонне сям'і, знаходзіць там парадак і заспакаенне. Дома ён адчувае простыя і натуральныя задавальненні, цешыцца нявіннымі і спакойнымі радасьцямі. Дзякуючы таму што шчасьце яму прыносіць размеранае жыццё, ён лёгка прызвычаіўся да ўмераных поглядаў і густаў.

Тым часам як еўрапеец імкнецца забыцца пра свае хатнія засмучэнні, прыносячы закалоты ў грамадства, амерыканец навучаецца ў сваім хатнім жыцці павазе да парадку і потым пераносіць яе на дзяржаўныя справы.

У Злучаных Штатах рэлігія не толькі кіруе норавамі, але і пашырае сваю ўладу на мышленне.

Сярод амерыканцаў ангельскага паходжання адны вызнаюць хрысьціянскую рэлігію таму, што вераць у яе, іншыя – таму, што баяцца праславіцца няверніками. Так ці інакш – і з гэтым згодны ўсе, – хрысьціянская рэлігія не сустракае тут ніякіх перашкод. Вынікам гэтага з’яўляецца, як я ўжо выказваўся вышэй, наяўнасць вызначаных, раз і назаўсёды ўсталяваных законаў маральнага жыцця, тады як у палітычным жыцці пераважаюць дыскусіі і эксперыменты. Гэта мае наступствам тое, што поле разумовай дзейнасьці заўсёды абмежавана: якімі б адважнымі ні былі думкі чалавека, яны час ад часу сустракаюцца з непераадольнымі перашкодамі. Той, хто мае жаданне перамяніць грамадства, вымушаны лічыцца з усталяваўшыміся аксіёмамі і надаваць сваім самым дзёрзкім задумам вызначаную форму, што суцішае і тушыць яго парывы.

Таму ў амерыканцаў нават самае жывое ўяўленне вызначаецца асцярожнасьцю і няўпэўненасьцю, яму не даюць волі і не адводзяць важнага месца ў жыцці. Гэтая звычка да стрыманасьці назіраецца і ў палітычным жыцці грамадства. Яна ў значнай ступені спрыяе спакою народа і працягламу існаванню створаных ім інстытутаў. Прырода і акалічнасьці зрабілі жыхароў Злучаных Штатаў мужнымі людзьмі. У гэтым лёгка пераканацца, назіраючы за тым, якім чынам яны дамагаюцца поспехаў. Калі б духоўная дзейнасць амерыканцаў не была нічым абмежавана, сярод іх, вядома, знайшліся б самыя адважныя ў сьвеце наватары і рэфарматары, якія ніколі б не паступаліся сваім імкненнем будаваць жыццё грамадства толькі адпаведна з законамі логікі. Аднак у Амерыцы рэвалюцыянеры вымушаны з падкрэсленай павагай ставіцца да законаў хрысьціянскай маралі і справядлівасьці. І калі гэтыя законы супярэчаць іхным задумам, то ім вельмі цяжка пераступіць праз іх; і нават калі б ім атрымалася пагадніць свае сумневы, яны не здолелі б пераадолець ваганні сваіх прыхільнікаў. Да гэтага часу ніхто ў Злучаных Штатах не адважыўся выказаць думку пра тое, што ўсё дазволена для выгоды грамадства. Гэта блюзнерская ідэя нарадзілася пад час стагоддзя вольнасьці, відаць, для таго, каб апраўдаць усіх будучых тыранаў.

Такім чынам, калі закон дазваляе амерыканскаму народу рабіць усё, што яму пажадаецца, то рэлігія ставіць заслон перад шмат якімі яго задумамі і справамі.

Таму рэлігію, якая ў Злучаных Штатах ніколі непасрэдна не бярэ ўдзел у кіраванні грамадствам, патрэбна лічыць першым палітычным інстытутам гэтай краіны. Хаця яна і не павялічвае імкненне людзей да вольнасьці, яна значна палягчае жыццё вольнага грамадства.

Менавіта так жыхары Злучаных Штатаў і глядзяць на рэлігійныя вераванні. Я не магу сказаць, што ўсе амерыканцы сапраўды вераць. Нікому не дадзена чытаць у сэрцах людзей. Але я перакананы, што, згодна з іхнай думкай, рэлігія патрэбна для ўмацавання рэспубліканскіх інстытутаў. І гэтая думка належыць не нейкаму аднаму стану ці партыі, а ўсёй нацыі, яе прытрымліваюцца ўсе пласты насельніцтва.

Калі нейкі амерыканскі палітычны дзеяч крытыкуе нейкую рэлігійную плынь, то яго, здараецца, падтрымліваюць нават прыхільнікі крытыкуемай плыні;

але калі ён настроіцца супраць рэлігіі як такой, то ад яго адвернуцца ўсе, і ён застанецца ў адзіноце.

Падчас майго знаходжання ў Злучаных Штатах на паседжанні суда прысяжных у акрузе Чэстар (штат Нью-Ёрк) адзін сведка заявіў, што ён не верыць у Бога і ў неўміручасць душы. Суддзя адмовіўся прывесьці яго да прысягі з нагоды таго, што, як ён сказаў, сведка ўжо пахіснуў якую б то ні было веру ў сваё слова[212]. Газеты паведамілі пра гэты факт без каментараў.

У розуме амерыканца хрысьціянства і вольнасць пераплятаюцца так цесна, што ён амаль не можа ўявіць сабе адно без другога; для яго гэта сувязь не з'яўляецца чымсьці пазбаўленым зместу, прыйшоўшым у сучаснасць із мінулага, чымсьці, што, здавалася б не жыве, а гібее ў глыбіні душы.

Мне даводзілася сустракаць амерыканцаў, якія аб'ядноўвалі свае намаганні і сродкі для таго, каб выправіць у новыя заходнія штаты сьвятароў з мэтай адкрыць там школы і пабудаваць цэрквы. Яны асьцерагаюцца, што рэлігія можа згубіцца ў лясах і тады народ, якога робіцца там усё больш, не зможа быць такім жа вольным, як той, ад якога ён адгалінаваўся. Я сустракаў заможных жыхароў Новай Ангельшчыны, якія пакінулі свой родны край і паехалі на берагі Місуры ці ў прэрыі Ілінойса, каб пасеяць там насенне хрысьціянства і вольнасьці. Такім чынам, у Злучаных Штатах рэлігійнае стараннімства заўсёды падаграецца полымем патрыятызму. Можна падумаць, што гэтыя людзі робяць так толькі дзеля выратавання душы, але гэта памылка. Вечнае жыццё – толькі адно із іхных імкненняў. Пагутарыўшы з гэтымі місіянерамі хрысьціянскай цывілізацыі, вы будзеце здзіўлены тым, наколькі часта яны згадваюць пра даброты гэтага сьвету, вы выявіце палітычных дзеячоў там, дзе меркавалі сустрэць рэлігійных. «Усе амерыканскія штаты залежаць адзін ад другога, – скажуць яны вам – і калі б у заходніх штатах паўстала анархія ці дэспатычны рэжым, то рэспубліканскія ўстановы, квітнеючыя на берагах Атлантычнага акіяна, таксама зведалі б вялікую небяспеку. Таму мы зацікаўлены ў тым, каб рэлігія была моцнай у новых штатах. У гэтым выпадку яны дазволяць нам жыць вольнымі».

Так разважаюць амерыканцы. Але цалкам зразумела, што яны памыляюцца, таму што мне кожны дзень з вучоным выглядам даводзяць, што ў Амерыцы ўсё добра, акрамя менавіта рэлігійнага духу, які так мяне захапляе. Мяне пераконваюць, што вольнасьці і шчасьцю роду чалавечага па той бок акіяна нехапае толькі веры ў ідэю Спінозы пра вечнасць сьвету, а таксама ў гіпотэзу Кабаніса пра тое, што думка зараджаецца ў мазках. Па праўдзе кажучы, мне няма чаго на гэта адказаць, акрамя таго што тыя, хто выказвае гэтыя гаворкі, не бывалі ў Амерыцы і не бачылі ні рэлігійных, ні вольных народаў. Я б меў жаданне паразмаўляць з імі пасьля таго, як яны там пабываюць.

У Францыі ёсць людзі, якія разглядаюць рэспубліканскія інстытуты як часовыя сродкі, служачыя ўвасабленню іхных вялікіх задум. Яны ўсведамляюць, наколькі вялікая адлегласць існуе паміж іхнымі заганамі і галечай з аднаго боку і магутнасцю і багаццем – з іншага і маюць жаданне запоўніць гэтую прорву. Гэтыя

[212] Вось як «Нью-Ёрк спектэйтар» ад 23 жніўня 1831 года пісаў пра гэта: «Падчас судовага паседжання з нагоды грамадзянскай пазвы ў акрузе Чэстар (штат Нью-Ёрк) праз некалькі дзён быў адхілены сведка, заявіўшы пра сваю няверу ў Бога. Суддзя, быўшы старшынёй на гэтым працэсе, заявіў, што да гэтага часу ён і не падазраваў, што чалавек можа не верыць у існаванне Бога, што менавіта на гэтай веры заснавана перакананасць у сапраўднасьці ўсіх даваемых сведчанняў на судовых працэсах і што ён не ведае ніводнага выпадку ў нейкай із хрысьціянскіх краін, дзе б не веруючаму ў Бога сведку было дазволена даваць сведчанні».

людзі знаходзяцца ў такіх жа дачыненнях з воляй, у якіх сярэднявечныя апалчэнні знаходзіліся з каралём; яны пераследуюць, перадусім, свае ўласныя зацікаўленасьці, хаця і змагаюцца пад знакам вольнасьці. Рэспубліка, мяркуюць яны, будзе існаваць доўга, і яны паспеюць вызваліцца ад існуючых у іх пакуль недахопаў. Я пішу не для іх. Але ёсць і іншыя, якія ў рэспубліцы бачаць устойлівае і спакойнае грамадства, тую непазбежную мэту, да якой ідэі і норавы штодня набліжаюць сучаснае грамадства. Гэтыя людзі шчыра жадаюць падрыхтаваць чалавека да вольнага жыцця. І, нападаючы на рэлігійныя вераванні, яны задавальняюць свае жарсьці, а цалкам не свае зацікаўленасьці. Не воля, а дэспатызм можа існаваць без веры. Рэспубліка, за якую яны выступаюць, значна больш мае патрэбу ў веры, чым манархія, з якой яны змагаюцца, а дэмакратычная рэспубліка – больш, чым нейкая іншая. Хіба можа грамадства пазбегнуць гібелі, калі пры паслабленні палітычных сувязяў маральныя сувязі не будуць умацоўвацца? І як магчыма кіраваць вольным народам, калі ён не слухаецца Бога?

## Пра асноўныя падставы магутнасьці рэлігіі ў Амерыцы

–Намаганні прыкладзеныя амерыканцамі, каб адлучыць царкву ад дзяржавы. –Гэта запісана ў законах, гэтаму спрыяе грамадзкая думка і намаганні саміх святароў. –Менавіта гэтым і тлумачыцца той моцны ўплыў; які рэлігія робіць на душы амерыканцаў. –Чаму менавіта гэтым. –Якім з'яўляецца ў нашы дні натуральнае стаўленне чалавека да рэлігіі. – Якія асноўныя і другарадныя нагоды перашкаджаюць у некаторых краінах таму, каб людзі ставіліся да рэлігіі натуральна.

Філосафы XVIII стагоддзя вельмі проста тлумачылі паслабленне рэлігійных вераванняў. Рэлігійная стараннасць, казалі яны, непазбежна згасае па меры таго, як расквітаюць вольнасць і веды. Прыкра, што факты не пацмацоўваюць гэтую тэорыю.

У Яўропе існуюць народы, няверра якіх можна параўнаць толькі з іхнай забітасьцю і невуцтвам. У Амерыцы ж адзін із самых вольных і асьвечаных народаў рупліва выконвае ўсе рэлігійныя звычаі.

Пасьля прыезду ў Злучаныя Штаты я больш за ўсё быў здзіўлены рэлігійнасьцю гэтай краіны. Чым даўжэй я там жыў, тым больш разумеў, які глыбокі ўплыў робіць гэтая новая для мяне акалічнасць на палітыку.

Я ведаў, што ў нас рэлігійнасць і вальналюбства заўсёды аддаляюцца адзін ад аднаго. Тутака ж я пабачыў іхную цесную сувязь: у гэтай краіне яны пануюць разам.

З кожным днём у мяне ўзмацнялася жаданне зразумець нагоду гэтай з'явы.

Для гэтага я размаўляў з прыхільнікамі ўсіх рэлігійных злучын; асабліва я імкнуўся да камунікавання са святарамі, захавальнікамі святыняў розных вераванняў, асабіста зацікаўленых у іхным працяглым існаванні. Дзякуючы рэлігіі, якую я вызнаю, мне асабліва блізкім было каталіцкае святарства і я хутка пасябраваў з некаторымі яго прадстаўнікамі. З кожным з іх я размаўляў пра тое, што мяне здзіўляла, і дзяляўся сваімі сумневамі. Я выявіў, што ўсе гэтыя людзі, разыходзячыся толькі ў прыватнасьцях, тлумачылі мірны ўплыў рэлігіі ў сваёй краіне, перадусім тым, што царква цалкам адлучана ад дзяржавы. Магу сцвярджаць, не асьцерагаючыся памыліцца, што падчас свайго знаходжання ў Амерыцы я не сустрэў ніводнага чалавека, няхай гэта будзе святар ці парафіянін, які не падзяляў бы гэтую думку.

Гэта прымусіла мяне надаць большую ўвагу, чым я надаваў раней, таму месцу, якое займаюць амерыканскія святары ў палітычным жыцці грамадства. Я са здзіўленнем даведаўся, што яны не займаюць ніякіх дзяржаўных пасад[213]. Я не сустракаў ніводнага святара, які займаў бы адміністрацыйную пасаду і выявіў, што яны нават не абіраюцца ў прадстаўнічыя установы.

У шмат якіх штатах палітычная кар'ера ім забаронена законам[214], ва ўсіх астатніх ёй перашкаджае грамадзкая думка.

Калі, нарэшце, я ўзяўся за вывучэнне настрою думак самога святарства, я зразумеў, што большасць із іх па сваёй волі трымаюцца збоку ад улады і лічаць такую аддаленасць справай свайго прафесійнага гонару.

Я чуў, як яны аддаюць анафеме ўладалюбства і нядобрасумленнасць, за якімі б палітычнымі перакананнямі яны ні хаваліся. Але із гэтых прамоваў я даведаўся таксама, што Бог не судзіць чалавека за яго перакананні, калі яны шчырыя, а памылкі з нагоды формы кіравання не больш грэшныя, чым памылкі пры будаванні сядзібы ці аранні зямлі.

Я бачыў, як старанна яны адгароджваюцца ад усіх партый, як глыбока яны зацікаўлены ў адсутнасьці якіх бы то ні было стасункаў з імі.

Гэтыя факты канчаткова пераканалі мяне ў тым, што мне паведамлялі праўду. Тады ў мяне ўзнікла жаданне вывучыць падставы гэтай з'явы і я задаўся пытаннем, якім чынам памяншэнне бачнай магутнасьці рэлігіі магло мець наступствам павелічэнне яе рэчаіснай магутнасьці. І я прыйшоў да высновы, што адказ на гэтае пытанне існуе.

Ніколі ўяўленне чалавека не магло замкнуцца ў абмежаваных рамках яго шасьцідзесяцігадовага жыцця, ніколі яго душы не магло хапіць недасканалых радасьцей гэтага сьвету. Сярод усіх жывых істот толькі чалавек адчувае натуральную агіду да жыцця і ў той жа час жарсна жадае жыць, ён як пагарджае жыццём, так і баіцца нябыту. Пад уплывам гэтых розных пачуццяў яго душа імкнецца да сузірання іншага сьвету і шлях у гэты свет яму паказвае рэлігія. Такім чынам, рэлігія ўяўляе сабой асобную форму надзеі, яна так жа ўласціва чалавеку, як і звычайная надзея. І калі людзі і аддаляюцца ад веры, то толькі дзякуючы памылкам розуму і з нагоды маральнага гвалту над сваёй прыродай. Іхная схільнасць да рэлігіі непераадольная. Нявера – гэты выключэнне із правіла, натуральным станам чалавецтва з'яўляецца вера.

Калі разглядаць рэлігію толькі як адно са стварэнняў чалавечага духу, то можна сказаць, што ўсе рэлігіі чэрпаюць частку сваёй магутнасьці ў самым чалавеку. І так будзе заўсёды, такой з'яўляецца ўласьцівасць чалавечай прыроды.

Я ведаю, што бываюць эпохі, калі да гэтага характэрнага для рэлігіі ўплыву дадаецца штучны ўплыў законаў і матэрыяльная падтрымка ўлады, кіруючай грамадствам. У гісторыі бывалі часы, калі ў выніку цеснай сувязі рэлігіі і ўрада людзі знаходзіліся пад прыгнётам баязні і рэлігіі адначасова. Аднак можна сказаць, не асьцерагаючыся памыліцца, што рэлігія, заключаўшая падобны хаўрус,

---

[213] Не лічачы тых пасад, якія шмат хто із іх займаюць у школах, таму што вялікая частка адукацыі ажыццяўляецца святарствам.

[214] Гл. канстытуцыю Нью-Ёрка, ст. 7, § 4.Тое ж Паўночнай Караліны, ст. 31. Тое ж Віргініі. Тое ж Паўднёвай Караліны, ст. 1, § 23. ... Тое ж Кентукі, ст. 2, § 26. Тое ж Тэнэсі, ст. 8, § 1. Тое ж Луізіяны, ст. 2, § 22. Артыкул канстытуцыі штата Нью-Ёрк абвяшчае: «Дзякуючы таму што пакліканнем святароў з'яўляецца служэнне Богу і клопаты пра навучанне душы, іх не патрэбна адрываць ад выканання гэтых важных абавязкаў; у сувязі з гэтым ніводзін пастар ці святар, да якой бы секты ён ні належаў, не мажа быць прызначаны ні на якую дзяржаўную, грамадзкую ці вайсковую пасаду».

дзейнічае так жа, як некаторыя людзі: яна ахвяруе будучым дзеля сучаснасьці і, хаця і набывае неўласьцівую ёй магутнасць, губляе ў той жа час уласьцівую ёй магутнасць.

Калі панаванне рэлігіі грунтуецца толькі на пажаданае душы кожнага чалавека імкненне да неўміручасьці, яе ўплыў можа быць усеагульным. Калі ж рэлігія аб'ядноўваецца з урадам, то ў яе непазбежна ўзнікаюць вучэнні, якія з'яўляюцца праўдзівымі толькі для некаторых народаў. Так, заключаючы хаўрус з палітычнай уладай, рэлігія павялічвае свой уплыў на некаторых, але губляе надзею панаваць над усімі.

Да таго часу пакуль рэлігія абапіраецца на пачуцці, могучыя служыць суцяшэннем у якім заўгодна смутку, яна здольна прыцягнуць да сябе душы людзей. Калі ж яна бярэ ўдзел у пакутлівым змаганні жарсьцяў нашага сьвету, ёй часам даводзіцца абараняць хаўруснікаў кіруючыся выгодай, а не павагай; яна вымушана разглядаць у якасьці ворагаў і адштурхоўваць людзей, часьцяком яшчэ схільных да яе, хаця і пачаўшых барацьбу з яе хаўруснікамі. Карыстаючыся матэрыяльнай магутнасьцю валадароў, рэлігія непазбежна пачынае выклікаць такую ж нянавісць, як і самі гэтыя валадары.

Гарантыяй даўгавечнасьці, здавалася б, глыбока ўкараніўшыхся палітычных магутнасьцей з'яўляюцца толькі светапогляды аднаго пакалення, зацікаўленасьці аднаго стагоддзя, часта – жыццё аднаго чалавека. Які-небудзь закон можа перамяніць грамадзкае ўладкаванне, якое уяўлялася абсалютна непарушным і трывалым, і следам за гэтым можа перамяніцца ўсё.

Кожная ўлада, існуючая ў грамадстве, з'ўляецца ў той ці іншай ступені мінучай, як і наша жыццё на зямлі. Улады хутка перамяняюць адна другую, як розныя заклапочанасьці штодзённага жыцця. Ніколі не існавала ўрада, які б абапіраўся на пастаянныя схільнасьці чалавечага сэрца ці на вечныя зацікаўленасьці.

Да таго час пакуль рэлігія чэрпае сваю магутнасць ў пачуццях, інстынктах і жарсьцях, якія адраджаюцца без перамен ва ўсе гістарычныя эпохі, яна можа не баяцца часу ці прынамсі яе можа перамагчы толькі новая рэлігія. Але калі рэлігія імкнецца знайсьці падмурак ў зацікаўленасьцях гэтага сьвету, яна робіцца амаль такой жа ўразлівай, як і ўсе зямныя магутнасьці. Будучы адна, яна можа спадзявацца на неўміручасць. Калі ж яна злучана з недаўгавечнай уладай, яна падзяляе яе лёс і часьцяком гіне разам з праходзячымі жарсьцямі, на якія яна ўсклала спадзяванні.

Такім чынам, хаўрус з палітычнымі магутнасьцямі з'яўляецца занадта цяжкім для рэлігіі. Яна не мае патрэбы ў іхнай дапамозе, каб выжыць, а яе служэнне ім можа мець наступствам яе згубу.

Небяспека, пра якую я кажу, існуе ва ўсе часы, але не заўсёды яе лёгка распазнаць.

Пад час адных эпох урады здаюцца вечнымі, пад час іншых, наадварот, ствараецца ўражанне, што жыццё грамадства з'яўляецца менш доўгім, чым жыццё чалавека.

Пры адных канстытуцыях грамадзяне як бы знаходзяцца ў летаргічным сне, пры іншых іх ахапляе ліхаманкавая ўзрушанасць.

Калі ўрады здаюцца моцнымі, а законы – сталымі, людзі амаль не заўважаюць, якую небяспеку ўяўляе для рэлігіі хаўрус з уладай.

Калі ўрады слабыя, а законы – пераменлівыя, гэтую небяспеку заўважаюць усе, але ў падобных выпадках яе часта ўжо немагчыма пазбегнуць. Таму патрэбна ўмець распазнаваць яе загадзя.

Па меры таго як народы прасякаюцца дэмакратычнымі ідэямі і схіляюцца да рэспубліканскага ўладкавання грамадства, хаўрус рэлігіі і ўлады робіцца ўсё больш небяспечным: настаюць жа часы, калі магутнасць будзе то ў адных руках, то ў іншых, палітычныя тэорыі пачнуць замяняць адна другую, людзі, законы і нават канстытуцыі будуць знікаць ці перамяняцца штодня. І ўсё гэта будзе адбывацца не на працягу нейкага перыяда, а пастаянна. Хваляванні і нестабільнасць закладзены ў прыродзе дэмакратычных рэспублік, так жа як здранцьвенне і стан спання з’яўляюцца ўласцівымі для абсалютных манархій.

Амерыканцы перамяняюць кіраўніка дзяржавы кожныя чатыры гады, кожныя два года яны абіраюць новых заканадаўцаў і кожны год перамяняюць мясцовыя ўлады. Палітычнае жыццё ў Амерыцы ўвесь час зведвае ўплыў рэфарматараў. І калі б амерыканцы не паклапаціліся пра аддзяленне рэлігіі ад палітыкі, якое месца яна здолела б заняць сярод увесь час перамяняючыхся думак людзей? У што змаганне партый ператварыла б тую павагу, якая павінна аддавацца рэлігіі? Што стала б з яе неўміручасцю, калі б усё вакол яе гінула?

Амерыканскія святары першымі ўсьвядомілі гэтую праўду і ўзгадняюць з ёй свае паводзіны. Яны зразумелі, што для дасягнення палітычнага ўплыву патрэбна адмовіцца ад уплыву рэлігіі, і яны аддалі перавагу страціць падтрымку ўлады, чым выпрабоўваць на сабе ўласьцівыя ёй перамены.

У Амерыцы рэлігія, магчыма, не дасягае той магутнасьці, якую яна мела ў некаторыя часы і ў некаторых народаў, але яе ўплыў больш трывалы. Яна абапіраецца толькі на свае ўласныя магчымасьці, якіх яе ніхто не можа пазбавіць, яна дзейнічае толькі ў адной вызначанай вобласьці, але займае яе ўсю і пануе ў ёй, не прыкладаючы асаблівых намаганняў.

Я чую галасы, якія раздаюцца па ўсёй Яўропе: усе аплакваюць няверу і жадаюць ведаць, якім чынам вярнуць рэлігіі хаця б частку яе былой магутнасьці.

Мне думаецца, што спачатку патрэбна ўважліва вывучыць пытанне пра тое, якім у нашы дні з’яўляецца натуральны стан чалавека ў вобласьці рэлігіі. Ведаючы, на што мы можам спадзявацца і чаго нам варта асьцерагацца, мы б выразна пабачылі тую мэту, да якой павінны імкнуцца.

Ёсць дзьве пагрозы існаванню рэлігіі: гэта расколы і абыякавасць.

Пад час стагоддзяў гарачай набожнасьці людзям здараецца адмаўляцца ад сваёй рэлігіі. Але яны скідаюць з сябе ярмо адной рэлігіі толькі для таго, каб падначаліцца ўладзе іншай. Перамяняецца аб’ект ушанавання, але само ўшанаванне не знікае. У такіх выпадках усе сэрцы адчуваюць да ранейшай рэлігіі або гарачую павагу, або непрымірымую нянавісць. Адны з гневам адварочваюцца ад яе, іншыя з новай ахвотай схіляюцца да яе; узнікаюць розныя вераванні, але цалкам не нявера.

Аднак справа ідзе цалкам інакш, калі рэлігійныя вераванні непрыкметна падточваюцца навукамі, якія я назаву адмаўляючымі. Кажучы пра памылковасць нейкай рэлігіі, яны не прапаноўваюць ніякай іншай у якасьці праўдзівай. У гэтых выпадках чалавечы дух перажывае вельмі глыбокія перамены, якія не суправаджаюцца выбухамі жарсьцяў і ў якіх чалавек не аддае сабе справаздачы. З’яўляюцца людзі, якія як бы ў стане страты памяці пакідаюць тое, што давала ім самыя дарагія надзеі. Захопленыя незаўважаемым рухам, яны не знаходзяць у сабе

мужнасьці змагацца супраць яго і, са шкадаваннем саступаючы яму, адыходзяць ад веры, якую паважаюць і становяцца на шлях сумневаў, вядучых іх да роспачы.

Пад час стагоддзяў, якія я апісваю, веру пакідаюць не дзякуючы нянавісьці, а дзякуючы абыякавасьці, яе не адкідаюць, а забываюцца. Не лічачы рэлігію праўдзівай, няверник па-ранейшаму знаходзіць яе карыснай. Ён разглядае рэлігійныя вераванні з боку гледжання іхнага ўплыву на чалавека і прызнае, што яны ўплываюць на норавы і законы. Ён разумее, што рэлігія спрыяе пагадненню ў стасунках людзей, што яна спакваля падрыхтоўвае чалавека да сьмерці. Усё гэта вымушае яго шкадаваць пра згубленую веру. Будучы пазбаўлены даброты, каштоўнасць якой ён добра ўсьведамляе, ён асьцерагаецца забіраць яе ў тых, хто ёй яшчэ валодае.

Што ж да верніка, то ён цалкам не асьцерагаецца адкрыта вызнаваць сваю веру. У тых, хто не падзяляе яго рэлігійныя пачуцці, ён бачыць хутчэй няшчасных, чым супернікаў. Ён ведае, што яму не патрэбна пераймаць іхны прыклад, каб заваяваць іхную павагу, і таму ён ні з кім не ваюе. Грамадства, у якім ён жыве, не ўяўляецца яму арэнай, дзе рэлігія ўвесь час павінна весьці змаганне супраць шматлікіх бязлітасных ворагаў, а сваіх сучаснікаў ён паважае, хаця і асуджае іхныя слабасьці і смуткуе пра іхныя памылкі.

Дзякуючы таму што тыя хто не верыць, не выказваюцца пра гэта голасна, а тыя, хто верыць, не хаваюць гэтага, грамадзкая думка схіляецца на карысць рэлігіі: яе паважаюць, падтрымліваюць і славяць. Каб выявіць, у якой ступені вера пахіснута, патрэбна глыбока пракрасьціся ў чалавечыя душы.

У падобных абставінах шмат хто із людзей, рэлігійныя пачуцці якіх ніколі не астываюць, не бачаць нічога такога, што магло б адвесьці іх ад агульнапашыраных вераванняў. Інстынктыўнае адчуванне іншага жыцця вядзе іх без перашкод да ахвярнікаў і іхныя душы знаходзяцца пад шатамі рэлігійных запаветаў і суцяшэнняў.

Чаму ж апісаная выява не можа быць дастасаванай да нашага грамадства?

Сярод нас існуюць людзі, якія парвалі з хрысьціянскай рэлігіяй, але не перайшлі ні ў якую іншую. Існуюць і іншыя, ахопленыя сумневамі і ўжо робячыя выгляд, што яны ні ў што не вераць. Акрамя таго, сустракаюцца вернікі, якія не адважваюцца адкрыта выказвацца пра сваю веру. А сярод гэтых абыякавых паслядоўнікаў і палкіх супернікаў існуюць, праўда няшмат, глыбока рэлігійныя людзі, гатовыя дзеля сваёй веры пераадолець усе перашкоды. Гэтыя людзі здзейснілі роспачнае намаганне, каб перамагчы чалавечую слабасць і ўзвысіцца над агульнапашыранымі думкамі. Аднак гэтае намаганне заводзіць іх занадта далёка, яны не ўмеюць своечасова спыніцца. Яны бачылі, што на іхнай радзіме вольнасць была, перадусім, выкарыстана людзьмі для нападу на рэлігію. Таму яны баяцца сваіх сучаснікаў і з жахам адварочваюцца ад вольнасьці, да якой тыя імкнуцца. Дзякую таму што нявера ўяўляецца ім чымсьці новым, яны адчуваюць нянавісць да ўсяго новага. Усё гэта азначае, што яны варагуюць са сваім стагоддзем і са сваёй краінай і ў кожным із існуючых светапоглядаў неадменна бачаць небяспеку для веры.

Ці такім павінна быць натуральнае стаўленне чалавека да рэлігіі ў нашы дні?

Такім чынам, у нашым грамадстве існуе нейкая дадатковая асобная нагода, перашкаджаючая душы чалавека кіравацца сваёй схільнасьцю і падахвочвае яе выходзіць за межы, у якіх ёй патрэбна заставацца адпаведна са сваёй прыродай.

Я глыбока перакананы, што такой асобнай дадатковай нагодай з’яўляецца цесны хаўрус палітыкі і рэлігіі.

Еўрапейскія атэісты разглядаюць вернікаў хутчэй як палітычных ворагаў, чым як рэлігійных супернікаў. Рэлігія з’яўляецца ненавіснай для іх у значна большай ступені як светапогляд партыі, чым як непраўдзівае веравызнанне. Святара яны адкідаюць хутчэй не як прадстаўніка Бога, а як прыхільніка ўлады.

Хрысьціянства ў Яўропе дазволіла зацягнуць сябе ў цесны хаўрус з зямнымі валадарамі. Сёння, калі іхная ўлада знікае, хрысьціянства выяўляецца як бы пахаваным пад іхнымі аскепкамі. Гэта жывы арганізм, які выявіўся злучаным з памёршымі, але варта толькі разарваць путы, стрымліваючыя яго і ён ажыве.

Я не ведаю, што патрэбна было б зрабіць для таго, каб надаць еўрапейскаму хрысьціянству новую магутнасць. Гэта вядома толькі Богу. Але людзі ў стане, прынамсі, дазволіць рэлігіі скарыстаць усе тыя магчымасьці, якія ў яе яшчэ захаваліся.

## Як асьвета, звычаі і практычны досьвед амерыканцаў спрыяюць росквіту дэмакратычных інстытутаў

–Што ўяўляе сабой асьвета амерыканскага народа. –У Злучаных Штатах культура менш глыбокая, чым у Яўропе. –Аднак ніхто не знаходзіцца ў стане невуцтва. –Чым гэта тлумачыцца. –У Заходніх маланаселеных штатах ідэі пашыраюцца з дзіўнай хуткасьцю. –Амерыканцы здабываюць больш карысьці із практычнага досьведу, чым із кніжных ведаў.

У гэтай кнізе я ўжо шмат разоў казаў чытачу пра тое, наколькі традыцыі амерыканцаў і іхная адукаванасць з’яўляюцца важнымі для захавання іхных палітычных інстытутаў. Таму мне застаецца дадаць толькі няшмат.

Да гэтага часу у Амерыцы вельмі мала знакамітых пісьменнікаў, там няма вялікіх гісторыкаў, паэтаў. Амерыканцы глядзяць на літаратуру ва ўласным сэнсе гэтага слова з некаторым грэбаваннем. У нейкім глухім еўрапейскім гарадку кожны год выдаецца больш літаратурных твораў, чым ва ўсіх дваццаці чатырох штатах, разам узятых.

Амерыканскаму розуму выяўляюцца чужымі агульныя ідэі, ён цалкам не імкнецца да тэарэтычных абагульненняў. Гэтаму спрыяюць амерыканская палітыка і прамысловасць. У Злучаных Штатах увесь час ствараюцца новыя законы, але яшчэ не знайшлося вялікага навукоўцы, які б вывучыў іх асноўныя прынцыпы.

У амерыканцаў існуюць юрысконсульты і каментатары, але ў іх няма публіцыстаў. У палітыцы яны даюць сьвету хутчэй прыклады, чым урокі.

Тое ж самае можна сказаць пра рамёствы і прамысловасць.

У Амерыцы ўмела выкарыстоўваюць еўрапейскія вынаходніцтвы, удасканальваюць іх і выдатна прыстасоўваюць да мясцовых умоваў. Амерыканцы вынаходлівыя, але яны не займаюцца прамысловасьцю з тэарэтычнага боку гледжання. У гэтай краіне існуюць добрыя працаўнікі, але мала стваральнікаў. Фултану давялося на працягу доўгіх гадоў аддаваць свой талент іншым народам, перш чым ён здолеў знайсці яму ўжыванне ў сваёй краіне.

Таму, хто жадае зразумець, у якім стане знаходзіцца асьвета англа-амерыканцаў, патрэбна разгледзець гэтае пытанне з двух бакоў. Калі ён будзе цікавіцца толькі навукоўцамі, то будзе здзіўлены іхнай малалікасьцю; калі ж ён пачне шукаць невуцкіх людзей, то амерыканскі народ пабачыцца яму самым адукаваным на зямлі. Усё насельніцтва знаходзіцца паміж гэтымі двума крайнасьцямі, пра што я ўжо выказваўся вышэй.

У Новай Ангельшчыне кожны грамадзянін авалодвае зародкамі чалавечых ведаў, акрамя таго, яго навучаюць дактрыне і довадам яго рэлігіі, знаёмяць з гісторыяй яго радзімы і з асноўнымі цьверджаннямі канстытуцыі, грунтуючыся на якой ён жыве. У Канектыкуце і ў Масачусетсе рэдка можна сустрэць чалавека, які не ведаў бы, хай і не вельмі глыбока, усіх гэтых пытанняў. Чалавек жа, які з імі цалкам незнаёмы, у нейкім сэнсе фенамен.

Параўноўваючы грэцкія і рымскія рэспублікі з амерыканскімі, я бачу ў першых рукапісныя бібліятэкі і неадукаваныя народы, а ў другіх – тысячы газет, разыходзячыхся па ўсёй краіне і асьвечаны народ. І калі я думаю пра ўсе тыя намаганні, якія робяцца і сёння для таго, каб рабіць высновы пра адных, грунтуючыся на тым, што вядома пра другіх, і паспрабаваць прадказаць тое, што адбудзецца ў нашы дні, грунтуючыся на тым, што мела месца дзьве тысячы гадоў назад, у мяне ўзнікае жаданне спаліць усе мае кнігі і выкарыстўваць да такога новага грамадзкага стану толькі новыя ідэі.

Дарэчы, не варта думаць, што ўсё тое, што я кажу пра Новую Ангельшчыну, у аднолькавай ступені пашыраецца на ўвесь Звяз. Чым далей на Захад ці на Поўдзень, тым ніжэй узровень адукацыі. У штатах, суседніх з Мексіканскім залівам, сустракаюцца, як і ў нас, людзі, якім чужыя веды, але ў Злучаных Штатах не знойдзецца ніводнай акругі, дзе панавала б невуцтва. Нагода гэтага простая: еўрапейскія народы пачалі свой шлях у змроку і варварстве і рухаліся да культуры і асьветы. Іхныя поспехі былі няроўнымі: адны рухаліся хутчэй, іншыя – больш павольна, некаторыя спыніліся і да гэтага часу знаходзяцца ў стане спання.

У Злучаных Штатах усё было інакш. Англа-амерыканцы прыбылі на зямлю, на якой жывуць іхныя нашчадкі, ужо культурнымі людзьмі. У іх не было патрэбы вучыцца, дастаткова было не забывацца. І сыны гэтых самых амерыканцаў кожны год вязуць у пустэльныя месцы разам са сваім жыллём ужо набытыя веды і павагу да спазнання. Дзякуючы атрыманаму імі выхаванню яны ўсьведамляюць карыснасць асьветы і здольны перадаць назапашаныя веды сваім дзецям. У Злучаных Штатах грамадства не пераживала дзіцячай пары, яно адразу дасягнула сталасьці.

Амерыканцы ніколі не ўжываюць слова «селянін». Гэта злучана з тым, што ў іх няма разумення, якое пазначае гэта слова. У іх не захаваліся ні спрадвечнай цемры вёскі, ні яе прастаты, ні асноўных яе прыкмет і яны не ведаюць ні ўчыннасьцей, ні заган, ні грубых нораваў, ні наіўнага хараства нараджаючайся культуры.

На далёкіх ускраінах федэральных штатаў, удалечыні ад грамадства, у глухмені жыве племя мужных першапраходнікаў. Збягаючы ад беднаты, пагражаўшай ім у бацькоўскай сядзібе, яны адважна выпраўляюцца ў ненаселеныя часткі Амерыкі для таго, каб знайсьці там сабе новую радзіму. Прыбыўшы на месца, дзе ён збіраецца пасяліцца, піянер адразу ссякае некалькі дрэваў і будуе халупу пад прыкрыццём галін. Няма нічога больш убогага, чым гэтае самотнае жыллё. Падарожнік, набліжаючыся да такога жылля вечарам, яшчэ здалёк заўважае праз сьцены святло полымя агменю, а ноччу, калі падымаецца вецер, ён чуе шум лісьцянога даху. Як не падумаць, што ў гэтай вартай жалю халупе месьціцца грубіянства і невуцтва? Аднак не варта судзіць пра піянераў грунтуючыся на іхным жыллі. Іх атачае дзікая і некранутая прырода, але самі яны нясуць у сабе вынік васямнаццаці стагоддзевага досьведу і намаганняў. Яны носяць гарадзкое адзенне, размаўляюць на гарадзкой мове, знаёмы з мінулым, цікавяцца будучыняй,

разважаюць пра сучаснасць. Гэта культурныя людзі, вымушаныя на працягу нейкага часу жыць у лясах і яны паглыбляюцца ў лясныя нетры Новага Сьвету, нясучы з сабой Біблію, сякеру і газеты.

Цяжка сабе ўявіць, з якой неймавернай шпаркасьцю ў гэтых пустэльных месцах пашыраюцца ідэі[215].

Не думаю, што ў самых асьвечаных і самых населеных кантонах Францыі можна назіраць такое ж кіпучае інтэлектуальнае жыццё[216].

Не падлягае сумневу, што ў Злучаных Штатах навучанне народа значна спрыяе захаванню дэмакратычнай рэспублікі. І я лічу, што так будзе паўсюдна, дзе асьвета, напаўняючая розум ведамі, не будзе адарвана ад выхавання, фарміруючага норавы. У той жа час я не схільны перабольшваць значэнне гэтага станоўчага факта і, так жа як шмат хто із еўрапейцаў, я далёкі ад думкі, што дастаткова толькі навучыць людзей чытаць і пісаць, як яны адразу ж стануць грамадзянамі.

Асноўнай крыніцай сапраўдных ведаў з’яўляецца досьвед і калі б амерыканцы памаленьку не прызвычаіліся самі кіраваць сваімі справамі, то кніжныя веды, якімі яны валодаюць, не дапамаглі б ім зараз атрымаць поспех у гэтым. Я доўга жыў сярод амерыканцаў і заўсёды з захапленнем ставіўся да іхнага досьведу і цьвярозага розуму.

Не патрэбна размаўляць з амерыканцам пра Яўропу, у такой размове ў яго звычайна выяўляецца староннасць і не вельмі разумная ганарлівасць. У гэтым дачыненні ён задавольваецца агульнымі і няпэўнымі ідэямі, на якіх будуюцца развагі невукаў ва ўсіх краінах. Але пагаворыце з ім пра яго ўласную краіну, і вы пабачыце, як адразу знікне воблака, засланяўшае яго розум: яго прамовы стануць такім ж выразнымі, зразумелымі і дакладнымі, як і яго думкі. Ён паведаміць вам пра свае правы і пра сродкі, да якіх ён павінен звяртацца, каб імі карыстацца, патлумачыць, што вызначае палітычнае жыццё ў яго краіне. Вы пабачыце, што ён ведае правілы кіравання і дзеянне законаў. Усе гэтыя практычныя веды і выразныя разуменні запазычаны жыхаром Злучаных Штатаў не із кніг. Яго школьная адукацыя, магчыма, падрыхтавала яго да іхнага ўспрымання, але не яна яму іх дала.

Амерыканцы вывучаюць законы бяручы ўдзел у заканадаўчай дзейнасьці, яны знаёмяцца з формамі кіравання бяручы ўдзел у працы устаноў улады. Вялікая справа грамадзкага жыцця ажыццяўляецца штодня на іхных вачах і, можна сказаць, што яно робіцца іхнымі рукамі.

У Злучаных Штатах усё выхаванне людзей мае палітычную накіраванасць, у Яўропе ж яго асноўнай мэтай з’яўляецца падрыхтоўка да прыватнага жыцця. Удзел

---

[215] Я часткова аб’ехаў мяжу Злучаных Штатаў на адкрытай павозцы, якую завуць паштовай. Мы хутка ехалі днём і ноччу па ледзь различаемай дарозе сярод бясконцых зялёных лясоў. Калі рабілася цалкам цёмна, мой правадыр запальваў галінкі лістоўніцы і мы працягвалі шлях пры іхным асьвятленні. Час ад часу мы праязджалі каля халуп, стаяўшых у ляску, гэта былі паштовыя станцыі. Паштар кідаў да дзьвярэй гэтых хацінак вялізныя скруткі лістоў, і мы ехалі далей галопам. Жыхары акругі самі павінны былі прыходзіць за сваімі лістамі.

[216] У 1832 годзе кожны жыхар Мічыгана выдаткаваў на паштовыя адпраўленні 1 франк 22 сантыма, а кожны жыхар Фларыды 1 франк 5 сантымаў (гл.: Нацыянальны каляндар, 1833, с. 244). У тым жа годзе кожны жыхар Паўночнага дэпартаменту Францыі выдаткааў за тое ж самае дзяржаве 1 франк 4 сантымы (гл.: Генеральная справаздача кіравання фінансаў, 1833, с. 623). Але патрэбна ўлічваць, што ў Мічыгане ў гэты час жыло толькі сем жыхароў на квадратны лье, а ў Фларыдзе – пяць, там была менш пашырана школьная адукацыя, і дзелавое жыццё было менш актыўным, чым у большасьці іншых штатаў Звязу. Паўночны ж дэпартамент Францыі, у якім налічваецца 3400 жыхароў на квадратны лье, уяўляе сабой адну із самых асьвечаных і прамыслова распрацаваных частак краіны.

грамадзянаў у справах краіны такі нязначны, што няма патрэбы клапаціцца пра гэта загадзя. Пры параўнанні гэтых двух грамадстваў можна пабачыць нават вонкавы бок гэтых адрозненняў.

Мы ў Яўропе часта прыносім думкі і звычкі прыватнага жыцця ў грамадзкае жыццё і, таму што нам рэдка здараецца пераходзіць ад сямейнага жыцця да кіравання дзяржавай, мы часта абмяркоўваем вялікія грамадзкія зацікаўленасьці так, як калі б мы размаўлялі з сябрамі.

Што ж да амерыканцаў, то яны, наадварот, амаль заўсёды пераносяць звычаі грамадзкага жыцця ў прыватнае жыццё. У іх у школьных гульнях можна сустрэць уяўленне пра прысяжных, а ў арганізацыі банкета – парламенцкія формы.

## Пра тое, што законы лепш, чым прыродныя ўмовы, служаць умацаванню дэмакратычнай рэспублікі ў Злучаных Штатах, а норавы з’яўляюцца яшчэ больш важныямі, чым законы

–Усё народы Амерыкі маюць дэмакратычнае грамадзкае ўладкаванне. –Аднак дэмакратычныя ўстановы квітнеюць толькі ў англа-амерыканцаў. –Паўднёваамерыканскія гішпанцы, якія жывуць у такіх жа спрыяльных прыродных умовах, як і англа-амерыканцы, не могуць прыстасавацца да жыцця ва ўмовах дэмакратычнай рэспублікі. –Мексіка, запазычыўшая канстытуцыю Злучаных Штатаў, гэта таксама не здолела зрабіць. –Англа-амерыканцам з Захаду дэмакратычнае грамадзкае ўладкаванне менш дапасуе, чым іхным суграмадзянам з Усходу. –Нагоды гэтых адрозненняў.

Я ўжо паведамляў пра тое, што існаванне дэмакратычных установ у Злучаных Штатах тлумачыцца акалічнасьцямі, законамі і норавамі[217].

Большасць еўрапейцаў ведаюць толькі пра першую із гэтых трох нагод і прыпісваюць ёй рашаючае значэнне, што не адпавядае рэчаіснасьці.

Сапраўды, англа-амерыканцы прынеслі ў Новы Сьвет сацыяльную роўнасць. Сярод іх ніколі не існавала ні прасталюдзінаў, ні дваранаў, ім былі чужымі забабоны злучаныя з нараджэннем ці з прафесіяй. Пры такім грамадзкім уладкаванні, заснаваным на роўнасьці, дэмакратыя паўстала, не сустрэўшы ніякіх перашкод.

Аднак падобныя ўмовы з’яўляюцца ўласьцівымі не толькі Злучаным Штатам. Амаль усе асады Амерыкі былі заснаваны раўнапраўнымі людзьмі ці людзьмі, якія сталі такімі, жывучы ў асадах. Ні ў адной частцы Новага Сьвету еўрапейцы не здолелі стварыць арыстакратыю.

У той жа час дэмакратыя квітнее толькі ў Злучаных Штатах.

Амерыканскаму Звязу няма патрэбы ваяваць з ворагамі, ён адзін пасярод пустэльных зямель, як выспа ў акіяне.

Але ж у гішпанцаў у Паўднёвай Амерыцы таксама няма ворагаў, але ўсё ж, у іх існуе войска. Праз адсутнасць замежных непрыяцеляў яны ваююць паміж сабой. І толькі дэмакратычная рэспубліка англа-амерыканцаў да гэтага часу не ведала вайны.

Тэрыторыя Звязу ўяўляе сабой бязмежнае поле дзейнасьці, яна дае неабсяжны прастор для прыкладання працы і майстэрства чалавека. Таму на месца славалюбства там прыходзіць імкненне да багацця, і дабрабыт прыглушае партыйныя жарсьці.

---

[217] Жадаю нагадаць чытачу агульны сэнс, які я ўкладаю ў слова «норавы»: пад гэтым словам я разумею сукупнасць разумовых і маральных схільнасьцей людзей, якія адлюстроўваюцца ў грамадзкім жыцці.

Але ў якой частцы сьвету можна знайсьці самыя ненаселеныя і самыя ўрадлівыя землі, самыя вялікія рэкі, некранутыя і невычэрпныя багацці, калі не ў Паўднёвай Амерыцы? І ўсё ж дэмакратыя там не прыжываецца. Калі б для шчасьця народам дастаткова было жыць у нейкім кутку зямлі і мець магчымасць бесперашкодна рассяляцца на незанятыя землі, паўднёваамерыканскія гішпанцы не маглі б паскардзіцца на свой лёс. І нават калі б яны не дасягнулі такога ж дастатку, як жыхары Злучаных Штатаў, то ўжо еўрапейскія народы павінны былі б ім зайздросьціць. Але ж на зямлі няма больш вартых жалю народаў, чым народы Паўднёвай Амерыкі.

Такім чынам, прыродныя ўмовы не прыводзяць да аднолькавых вынікаў у Паўднёвай і Паўночнай Амерыцы. Да гэтага варта дадаць, што ўсё, што яны спарадзілі ў Паўднёвай Амерыцы, далёка адстае ад таго, што ёсць у Яўропе, дзе прыродныя ўмовы прама процілеглыя. Такім чынам, прыродныя ўмовы не так моцна ўплываюць на лёсы народаў, як мяркуюць некаторыя.

Мне здаралася сустракаць у Новай Ангельшчыне людзей, гатовых кінуць радзіму, дзе яны маглі б жыць забяспечана, і ехаць шукаць шчасьця ў пустэльныя месцы. Я таксама бачыў, як французскае насельніцтва ў Канадзе павялічваецца на невялікай тэрыторыі (якая для яго занадта малая), хаця побач існуюць незаселеныя землі. І тым часам як эмігрант са Злучаных Штатаў купляў вялікую пляцоўку за грошы, заробленыя на працягу некалькіх дзён, канадзец плаціў за сваю зямлю так жа дорага, як калі б ён жыў у Францыі.

Так прырода, даючы еўрапейцам абшары Новага Сьвету, дае ім даброты, якія яны не заўсёды ўмела выкарыстоўваюць.

Я бачу ў іншых амерыканскіх народаў тыя ж умовы для росквіту, што і ў англа-амерыканцаў, за выключэннем іхных законаў і іхных нораваў, і гэтыя народы гібеюць. Такім чынам, законы і норавы англа-амерыканцаў з’яўляюцца галоўнай нагодай іхнай велічы, той падстававай нагодай, якую я шукаю.

Я не маю намеру сказаць, што амерыканскія законы бездакорныя, я не лічу, што яны прыдатныя для ўсіх дэмакратычных грамадстваў. Сярод іх існуюць такія, якія здаюцца мне небяспечнымі нават у Злучаных Штатах.

Аднак немагчыма аспрэчыць той факт, што амерыканскае заканадаўства, узятае ў цэлым, выдатна адлюстроўвае дух народа, якім яно паклікана кіраваць, і прыроду краіны.

Амерыканскія законы добрыя і менавіта гэтым у значнай ступені тлумачацца поспехі дэмакратычнага кіравання ў краіне, але я не лічу, што яны з’яўляюцца галоўнай нагодай гэтых поспехаў. Яны, на маю думку, робяць нават большы ўплыў на сацыяльны дабрабыт амерыканцаў, чым сама прырода, але яшчэ мацней, думаецца мне, на яго ўплываюць іхныя норавы.

Няма сумневаў, што федэральныя законы ўяўляюць сабой самую важную частку амерыканскага збору законаў.

Мексіка, жывучая ў такіх жа спрыяльных прыродных умовах, што і англа-амерыканскі Звяз, запазычыла яго законы, аднак яна не ў стане прыстасавацца да дэмакратычнага кіравання.

Гэта наводзіць на думку, што акрамя прыродных умоваў і законаў існуе нейкі фактар, забяспечваючы поспех дэмакратычнага кіравання ў Злучаных Штатах.

І гэтаму існуюць іншыя доказы. Амаль усе грамадзяне Звязу паходзяць ад аднаго народу. Яны размаўляюць на адной мове, аднолькава моляцца Богу, жывуць у аднолькавых умовах, падначальваюцца адным законам.

Чаму ж паміж імі ўзнікаюць такія заўважаемыя адрозненні?

Чаму на ўсходзе Звязу рэспубліканскае кіраванне моцнае, спарадкаванае і дзейнічае з веданнем сппраўы і няспешна? Што накладае на ўсе яго дзеянні адбітак мудрасьці і даўгавечнасьці?

І насупраць, чым патлумачыць, што на Захадзе ўлада, здавалася б, дзейнічае наўздагад?

Чаму ў справах там назіраецца нейкая бязладзіца, нецярпенне, можна нават сказаць, мітусня, якія не абяцаюць нічога добрага ў будучыні?

Зараз я параўноўваю англа-амерыканцаў не з іншымі народамі, а адну іхную частку з другой і імкнуся зразумець нагоду іхнай непадобнасьці. Тлумачэнні, грунтуючыяся на прыродных умовах і адрозненнях у законах, тут не падыходзяць. патрэбна знайсьці іншыя падставы і іх можна зўнайсьці толькі ў норавах.

Самы працяглы досьвед дэмакратычнага кіравання англа-амерыканцы назапасілі на ўсходзе. Менавіта там узніклі найбольш спрыяльныя для гэтага звычкі і ідэі. Паступова дэмакратыя насыціла там звычаі, светапогляды, традыцыі; яна выяўляецца ў якой бы то ні было сферы грамадзкага жыцця так жа, як у законах. Менавіта на ўсходзе навучанне грамаце і практычнае выхаванне народа дасягнулі найвялікшай дасканаласьці, менавіта там рэлігія стала неадлучнай ад вольнасьці. А што ўяўляюць сабой усе гэтыя звычкі, светапогляды, звычаі і вераванні, калі не тое, што я называю норавамі?

На Захадзе, наадварот, шма якія із гэтых спрыяльных фактараў яшчэ адсутнічаюць. Шмат хто із амерыканцаў заходніх штатаў нарадзіліся ў лясах і да культуры, якую ім перадаюць іхныя бацькі, дамешваюцца ўяўленні і звычаі дзікага жыцця. У іх больш моцна праяўляюцца бурныя жарсьці, слабей рэлігійная мараль, менш глыбокія перакананні. Людзі там не могуць кантраляваць адзін аднаго, таму што яны дрэнна адзін аднаго ведаюць. Такім чынам, у насельніцтва Захаду заўважаецца ў нейкай ступені неспрактыкаванасць і неўсталяваныя звычаі, уласцівыя нецывілізаваным народам. І хаця складовыя элементы, із якіх будуецца грамадства заходніх штатаў, не новыя, яны ўтвараюць там нечаканыя спалучэнні.

Такім чынам, передусім дзякуючы норавам, амерыканцы, жывучыя ў Злучаных Штатах, адзіныя із усіх амерыканцаў здольны пераносіць панаванне дэмакратыі. Менавіта дзякуючы норавам усе дэмакратычныя грамадствы, створаныя англа-амерыканцамі, у цэлым спарадкаваны і квітнеюць.

Такім чынам, еўрапейцы перабольшваюць уплыў геаграфічнага становішча краіны на даўгавечнасць дэмакратычных установаў. Яны надаюць занадта вялікае значэнне законам і недаацэньваюць норавы. Безумоўна, гэтыя тры асноўныя нагоды спрыяюць усталяванню і развіццю амерыканскай дэмакратыі, але калі б патрэбна было паказаць ролю кожнай із іх, я б сказаў, што геаграфічнае становішча менш важнае, чым законы, а законы менш істотныя, чым норавы.

Я перакананы, што самае ўдалае геаграфічнае становішча і самыя добрыя законы не ў стане забяспечыць існаванне канстытуцыі насуперак пануючым норавам, тым часам як дзякуючы норавам можна атрымаць карысць нават із самых неспрыяльных геаграфічных умоваў і самых кепскіх законаў. Норавы маюць асобнае значэнне – вось тая нязменная выснова, да якой увесь час прыводзяць даследаванні і досьвед. Гэтая выснова ўяўляецца мне найбольш важным вынікам

маіх назіранняў, усе мае разважанні прыводзяць да яе. Мне застаецца дадаць да павядомленага толькі некалькі слоў.

Калі ў гэтай кнізе мне не атрымалася перадаць чытачу маю перакананасць у важнасьці практычнага досьведу амерыканцаў, іхных звычак і светапогляду, адным словам – іхных нораваў для існавання амерыканскіх законаў, гэта азначае, я не дасягнуў галоўнай мэты, якую ставіў сабе падчас працы.

## Ці былі б здольнымі законы і норавы забяспечыць існаванне дэмакратычных інстытутаў не толькі ў Амерыцы, але і ў іншых краінах?

–Калі б англа-амерыканцы жылі ў Яўропе, ім давялося б перамяніць свае законы. – Патрэбна адрозніваць дэмакратычныя ўстановы і амерыканскія ўстановы. –Можна стварыць дэмакратычныя законы, лепшымі ці, прынамсі, адрознымі ад тых, адпаведна з якімі жыве амерыканскае грамадства. –Прыклад Амерыкі даводзіць толькі тое, што не патрэбна губляць надзею на ўсталяванне дэмакратыі шляхам прыняцця законаў і выхавання нораваў.

Я ўжо выказваўся пра тое, што законы як такія, а таксама норавы з’яўляюцца больш важнымі для існавання дэмакратычных установ у Злучаных Штатах, чым прырода краіны.

Але ці вынікае із гэтага, што гэтыя два фактары, перанесеныя на іншую глебу, захаваюць сваю магутнасць? Прыродныя ўмовы не ў стане замяніць сабой законы і норавы, але ці могуць гэтыя апошнія замяніць прыродныя ўмовы?

Лёгка заўважыць, што ў гэтым выпадку мы не можам прывесьці доказаў: у Новым Сьвеце жывуць не толькі англа-амерыканцы, але і іншыя народы. Дзякуючы таму што ўсе яны жывуць у аднолькавых прыродных умовах, я меў магчымасць параўнаць іх.

Але за межамі Амерыкі няма ніводнага народа, які, не маючы такіх жа спрыяльных прыродных умоваў, як англа-амерыканцы, стварыў бы такія ж законы і норавы. Такім чынам, у нас няма аб’екта для параўнання, можна толькі будаваць гіпотэзы.

Мне думаецца, што, перадусім, патрэбна старанна аддзяліць установы Злучаных Штатаў і дэмакратычныя ўстановы наогул.

Але можна выказаць здагадку пра магчымасць існавання ў нейкага народа дэмакратычнага грамадства арганізаванага інакш, чым амерыканскае.

Хіба немагчыма ўявіць сабе кіраванне, заснаванае на рэчаіснай волі большасьці, пераадолеўшай, аднак, уласцівы ёй інстынкт роўнасьці для дасягнення парадку і стабільнасьці дзяржавы і перадаўшага ўсю паўнату выканаўчай улады адной сям’і ці аднаму чалавеку? Хіба немагчыма ўявіць сабе дэмакратычнае грамадства, у якім народныя магутнасьці былі б больш цэнтралізаванымі, чым у Злучаных Штатах, а ўплыў народа на грамадзкія справы быў бы больш апасрэдаваным і мяккім, але ў якім, у той жа час, кожны грамадзянін, карыстаючыся вызначанымі правамі, па-свойму браў бы ўдзел у кіраванні?

Бачанае ў Амерыцы наводзіць мяне на думку, што ў іншых краінах маглі б існаваць падобныя дэмакратычныя ўстановы, калі б яны былі асьцярожна ўведзены ў грамадства і паступова, крок за крокам, зрасталіся б з традыцыямі і поглядамі народа.

Калі б законы Злучаных Штатаў былі адзіна магчымымі дэмакратычнымі законамі ці самымі дасканалымі ў сьвеце, я б мог пагадзіцца з высновай, што іхны

поспех даводзіць толькі поспех дэмакратычных законаў цалкам, нават у краіне з менш спрыяльнымі прыроднымі ўмовамі.

Але дзякуючы таму, што амерыканскія законы здаюцца мне ў шмат якіх дачыненнях няўдалымі, я лёгка магу ўявіць іншыя дэмакратычныя законы; прыродныя асаблівасьці краіны не служаць мне доказам таго, што дэмакратычныя ўстановы не могуць паспяхова функцыянаваць у краіне, дзе пры менш спрыяльных прыродных умовах законы больш удалыя.

Калі б амерыканцы адрозніваліся ад жыхароў іншых краін, калі б дзякуючы іхнаму грамадзкаму ўладкаванню ў іх узнікалі звычкі і перакананні, процілеглыя тым, якія ўзнікаюць у еўрапейцаў пры падобных грамадзкіх уладкаваннях, то грунтуючыся на вывучэнні жыцця амерыканскіх дэмакратычных грамадстваў немагчыма было б рабіць высновы пра жыццё іншых дэмакратычных грамадстваў.

Калі б у амерыканцаў былі тыя ж схільнасьці, што і ва ўсіх іншых народаў, жывучых у дэмакратычным грамадстве, а іхныя заканадаўцы паспадзяваліся б на прыродныя ўмовы краіны і на спрыяльныя акалічнасьці, каб трымаць гэтыя схільнасьці ў патрэбных межах, то і росквіт Злучаных Штатаў тлумачыўся б толькі вонкавымі нагодамі і не быў бы прыдатным служыць у якасьці прыкладу для народаў маючых  жаданне ісьці іхным шляхам, але не маючых тых жа спрыяльных умоваў.

Аднак ніводная із гэтых здагадак не падмацоўваецца фактамі.

Я сустракаў у Амерыцы тыя ж жарсьці, якія мы знаходзім у Яўропе. Адны із іх тлумачацца прыродай чалавечай душы, іншыя – дэмакратычным уладкаваннем грамадства.

Так, я сустракаў у амерыканцаў душэўную ўзрушанасць, уласьцівую людзям, жывучым у прыблізна роўных умовах і маючых аднолькавыя магчымасьці для ўзвышэння. Я бачыў там дэмакратычнае пачуццё зайздрасьці, выяўляючаяся там у самых розных формах. Я заўважыў, што амерыканскі народ часта праяўляе ў справах вялікую самаўпэўненасць і поўнае невуцтва і прыйшоў да высновы, што ў Амерыцы, як і ў нас, людзі з’яўляюцца такімі ж недасканалымі і схільнымі да тых жа пошасьцяў.

Але калі я ўважліва прыгледзеўся да грамадзкага ўладкавання, я адразу пабачыў, што амерыканцы прыклалі вялікія намаганні для таго, каб пераадолець гэтыя слабасьці чалавечай душы, выправіць натуральныя недахопы дэмакратыі і дамагліся ў гэтым поспеху.

Розныя законы мясцовага кіравання ўяўляюць сабой, як мне здалося, межы, пакідаючыя мала месца для неспакойнага славалюбства грамадзянаў і звяртаючыя дэмакратычныя жарсьці, якія былі б у стане разбурыць дзяржаву, на агульную карысць. На маю думку, амерыканскім заканадаўцам атрымалася паспяхова супрацьпаставіць ідэю права пачуццю зайздрасьці, нязменнасць рэлігійнай маралі пастаяннаму руху ў палітычным жыцці, практычны досьвед народа яго тэарэтычнаму невуцтву, звычку да практычнага жыцця неўтаймаванасьці жаданняў.

Мы бачым, што ў змаганні з небяспекамі, спараджаемымі іхнымі канстытуцыяй і палітычнымі законамі, амерыканцы вырашылі не спадзявацца на прыроду краіны. Яны, пакуль, адзіныя із усіх народаў жывучых у дэмакратычным грамадстве, знайшлі лекі ад хвароб, знясільваючых гэтыя народы. І хаця іхны досьвед быў першым, ён выявіўся ўдалым.

Норавы і законы, створаныя амерыканцамі, не з’яўляюцца адзіна магчымымі ў дэмакратычным грамадстве, але амерыканцы паказалі, што ўсталяванне дэмакратыі з дапамогай законаў і нораваў – не безнадзейная справа.

І калі іншыя народы запазычаць у амерыканцаў гэтую агульную плённую ідэю, не пераймаючы яе слепа ў яе пэўных увасабленнях, і паспрабуюць стаць годнымі таго грамадзкага ўладкавання, якое пасылае сёння людзям сам Усявышні, для таго каб пазбегнуць пагражаючага ім дэспатызму і анархіі, то няма ніякіх нагод лічыць, што іх чакае няшчасьце. Згуртаванне і ўсталяванне дэмакратыі ў хрысьціянскім сьвеце – гэта вялікая праблема нашага часу. Вядома, амерыканцы не вырашылі гэтую праблемы, аднак яны даюць карысныя ўрокі тым, хто жадае яе вырашыць.

## Значэнне вышэйпавядомленага для Яўропы

Лёгка зразумець з якой нагоды я пачаў апісаныя вышэй даследаванні Пытанне, якое я вывучаў, мае дачыненне не да адных Злучаных Штатаў, а да ўсяго сьвету, яно мае дачыненне не да аднаго народа, а да ўсяго чалавецтва.

Калі б народы, жывучыя ў дэмакратычным грамадстве, мелі магчымасць захаваць сваю вольнасць жывячы толькі ў пустэльных месцах, то ў чалавецтва не было б будучыні: людзі ж хутка рухаюцца да дэмакратыі, а пустэльныя месцы засяляюцца.

Калі б законы і норавы сапраўды не маглі забяспечыць існаванне дэмакратычных установаў, што заставалася б народам, акрамя дэспатызму аднаго чалавека?

Я ведаю, што ў нашы дні шмат хто із сумленных людзей не баяцца падобнай будучыні. Яны стаміліся ад вольнасьці і жадалі б адпачыць у далечыні ад злучаных з ёю ўзрушэнняў.

Але гэтыя людзі не разумеюць да чаго яны імкнуцца. Пагрузіўшыся ва ўспаміны, яны робяць высновы пра абсалютную ўладу грунтуючыся на яе мінулым, а не на тым, якой яна магла б стаць у сучаснасьці. Калі б у еўрапейскіх дэмакратычных краінах была адноўлена абсалютная ўлада, яна, без сумневаў, набыла б новыя формы і набыла рысы, незнаёмыя нашым продкам.

Былі часы, калі ў Яўропе закон і згода народа надзялялі каралёў амаль бязмежнай уладай. Аднак каралі амаль ніколі не мелі магчымасьці скарыстацца ёю.

Я не буду дасьледаваць прэрагатывы шляхты, уплыў каралеўскага двара, правы карпарацый і прывілеі правінцый, хаця усе яны памякчалі дзеянне ўлады і падтрымлівалі ў асяроддзі народа дух супрацьстаяння.

Акрамя гэтых палітычных інстытутаў, якія, з аднаго боку, абмяжоўвалі волю прыватных асоб, а з другога – падтрымлівалі ў душах павагу да яе і карысць якіх у гэтым дачыненні з’яўляецца відавочнай, існавалі светапогляды і норавы, узводзіўшыя перад каралеўскай уладай менш звыклыя, але не менш магутныя перашкоды.

Рэлігія, павага падданых, чуллівасць валадара, гонар, дух сям’і, погляды правінцый, звычаі і грамадзкая думка абмяжоўвалі ўладу каралёў і атачалі яе нябачнымі межамі.

У тыя часы грамадзкае ўладкаванне было дэспатычным, але норавы – вольнымі. Валадары мелі права, але не мелі ні магчымасьці, ні жадання рабіць усё, што пажадаецца.

Што ж засталося сёння ад тых бар’ераў, якія перашкаджалі ўзнікненню тыраніі ў мінулым?

Рэлігія страціла свой уплыў на душы і тым самым была знішчана самая відавочная рыса, падзяўшаяся дабро і зло. У сьвеце маралі ўсё выяўляецца сумнеўным і хісткім, як каралі так і народы дзейнічаюць у ім наўздагад, і ніхто не ведае натуральных меж дэспатызму і распушчанасьці.

Працяглыя рэвалюцыі назаўсёды пакончылі з павагай, якой былі аточаны валадары. Гэтыя апошнія, не адчуваючы да сябе грамадзкай павагі, могуць пачынаючы з гэтага часу без баязні аддавацца ап’яненню ўладай.

Каралі, карыстаючыяся павагай народа, з’яўляюцца велікадушнымі, таму што яны адчуваюць сваю магутнасць; яны шануюць павагу сваіх падданых таму, што яна ўмацоўвае іхны пасад. І тады паміж валадаром і падданымі ўсталёўваюцца цёплыя пачуцці, нагадваючыя тыя, якія існуюць у сям’і. Падданыя, хаця і наракаюць на валадара, усё ж засмучаюцца яго незадаволенасьцю, а валадар карае іх з непоўнай моцнасьцю, як бацька карае сваіх дзяцей.

Але калі аўтарытэт каралеўскай улады знік у віхуры рэвалюцый, калі каралі, перамяняючыяся на пасадзе адзін за другім, дэманструюць народу немач закона і ўрачыстасць грубага гвалту, людзі пачынаюць бачыць у асобе валадара не бацьку дзяржавы, а кіраўніка. Калі ён слабы, ім пагарджаюць, калі моцны – ненавідзяць. Яго самога напаўняюць гнеў і баязнь, ён адчувае сябе заваёўнікам ва ўласнай краіне і ставіцца да сваіх падданкамі як да пераможаных.

Калі правінцыі і гарады былі нечым накшталт асобных краін у межах адзінай бацькаўшчыны, яны мелі свае характэрныя асаблівасьці, падахвочваўшыя іх паўставаць супраць агульнага духу заняволення. Сёння ж часткі адной імперыі не маюць ні вольнасьцей, ні звычаяў, ні ўласных поглядаў; яны страцілі нават памяць пра сваё мінулае і свае назвы. Усе яны прызвычаіліся падначальвацца адным законам, і прыціскаць іх усіх разам так жа лёгка, як і адну із іх асобна ўзятую.

У тыя часы, калі шляхта валодала ўладай, а таксама працяглы час пасьля таго, як яна яе страціла, гонар арыстакрата надаваў незвычайную моц супраціву прыватных асоб.

У тыя часы былі людзі ў якіх, нягледзячы на іхную немач, захоўвалася ўзнёслае ўяўленне пра сваю індывідуальную каштоўнасць і яны адважваліся ў адзіноце супрацьстаяць ціску дзяржаўнай магутнасьці.

Але ў нашы дні, калі завяршаецца перамяшанне ўсіх станаў, калі індывід усё больш і больш раствараецца ў натоўпе і лёгка губляецца ў агульнай пасярэднасьці, калі гонар манарха амаль страціў сваё значэнне, а ўчыннасць не прыйшла яму на змену, нішто больш не ўзвышае чалавека. І хто можа сказаць, да якой мяжы дойдуць патрабаванні ўлады і саступкі, прадыктаваныя немаччу?

Пакуль быў жывы дух сям’і, чалавек, пачынаўшы змаганне з тыраніяй, ніколі не заставаўся ў адзіноце, яго атачалі дамачадцы, сябры, злучаныя са шматлікімі пакаленнямі яго сям’і, блізкія. І нават калі ён быў пазбаўлены гэтай падтрымкі, ён дзейнічаў, адчуваючы падтрымку продкаў і дзеля нашчадкаў. Але як можа захавацца дух сям’і ў часы, калі раздрабняюцца спадчынныя ўладанні і на працягу кароткіх тэрмінаў згасаюць буйныя рады?

Якую магутнасць могуць захаваць звычаі народа, аблічча якога цалкам перамянілася і працягвае перамяняцца, у якога якія б то ні было праявы тыраніі ўжо маюць прэцэдэнт, а якім заўгодна ўзнікаючым у думках злачынствам можна знайсьці прыклад у рэчаісным жыцці, у якога няма нічога такога старажытнага,

што было б боязна знішчыць і для якога няма нічога такога новага, чаго ён не адважыўся б ажыццявіць?

Якое супраціўленне ў стане зрабіць норавы, ужо дазволіўшыя столькі саступак? Што здольна сама грамадзкая думку, калі няма і дваццаці чалавек, аб'яднаных агульнымі повязямі, калі не знойдзеш ні чалавека, ні сям'і, ні згуртавання, ні стана, ні вольнай асацыяцыі, якія маглі б яе, гэтую думку, пашыраць ці прыводзіць у дзеянне?

Калі ўсе грамадзяне аднолькава слабыя, немаёмасныя і самотныя і кожны із іх у стане супрацьставіць арганізаванай моцы ўрада толькі сваю немач?

Аналогію таму, што магло б у гэтым выпадку адбыцца з намі, патрэбна шукаць цалкам не ў новай гісторыі. Варта, відаць, вывучаць помнікі антычнасьці і менавіта жахлівыя стагоддзі рымскай тыраніі з іхнымі разбэшчанымі норавамі, знішчанай памяццю, парушанымі звычаямі, няўстойлівымі светапоглядамі, з прагнанай із законаў і не знаходзячай сабе прыстанку вольнасьцю. Дзякуючы таму што ніштo не ахоўвала грамадзянаў і яны самі былі не ў стане сябе абараняць, чалавечая прырода была перакручана, і валадары хутчэй выпрабоўвалі церплівасць неба, чым сваіх падданых.

Тыя, хто разлічвае аднавіць манархію Генрыха IV ці Людовіка XIV, мне здаюцца сляпымі. Што да мяне, то калі я бачу той стан, якога ўжо дасягнулі шмат якія із еўрапейскіх народаў, а таксама тое, да якога ідуць усе астатнія, я прыходжу да думкі, што хутка ў іх не будзе іншага выбару, акрамя дэмакратычнай вольнасьці ці тыраніі цэзараў.

Хіба гэта не заслугоўвае разважанняў? Калі людзі сапраўды дасягнулі такой мяжы, за якой усе яны, або стануць вольнымі, або ператворацца ў рабоў, або набудуць роўныя правы, або будуць пазбаўлены ўсіх правоў, калі ў тых, хто кіруе грамадствам, ёсць толькі два шляхі: паступова ўзвысіць натоўп да свайго узроўню ці пазбавіць усіх грамадзянаў чалавечага аблічча, – хіба гэтага недастаткова для таго, каб пераадолець шматлікія сумневы, супакоіць сумленне шматлікіх людзей і падрыхтаваць усіх да патрэбы самаахвотна прынесьці вялікія ахвяры?

Хіба не патрэбна ў гэтым выпадку разглядаць паступовае развіццё дэмакратычных установаў і нораваў не як найлепшы, а як адзіны існуючы ў нас сродак для захавання вольнасьці? І нават не адчуваючы павагі да дэмакратычнага кіравання, хіба не прыйдзем мы да пераканання ў патрэбнасьці яго ўсталявання, таму што гэта з'яўляецца самым лепшым і самым сумленным рашэнне праблем сучаснага грамадства?

Нялёгка прыцягнуць народ да кіравання, яшчэ цяжэй дазволіць яму назапасіць досьвед і выхаваць у яго тыя пачуцці, якіх яму нехапае, каб рабіць гэта добра.

Слоў няма, жаданні дэмакратыі пераменлівыя, яе прадстаўнікі грубыя, законы недасканалыя. Аднак, калі насамрэч неўзабаве не будзе існаваць ніякай сярэдзіны паміж панаваннем дэмакратыі і ярмом аднаго чалавека, хіба не павінны мы ўсімі магчымасьцямі імкнуцца да першай, замест таго каб самаахвотна падначальвацца другому? І калі, урэшце, мы прыйдзем да поўнай роўнасьці, хіба не лепш быць зраўнанымі вольнасьцю, чым дэспатызмам?

Тыя, хто, прачытаўшы гэтую кнігу, прыйдуць да высновы, што я напісаў яе дзеля таго, каб прапанаваць усім народам, жывучым у дэмакратычным грамадстве, усталяваць у сябе такія ж законы і пашырыць такія ж норавы, як у амерыканцаў, глыбока памыляюцца. Гэта азначала б, што яны захапіліся формай і не зразумелі

самую сутнасць маёй думкі. Я ставіў сабе мэце на прыкладзе Амерыкі паказаць, што дзякуючы законам і асабліва норавам, народ, жывучы ў дэмакратычным грамадстве, можа захаваць вольнасць. Я далёкі ад думкі, што мы павінны ісьці за прыкладам амерыканскай дэмакратыі і капіяваць сродкі, якімі яна скарысталася для дасягнення сваёй мэты. Мне добра вядома, як моцна ўплывае на палітычнае ўладкаванне краіны яе прырода і гісторыя і я лічыў бы вялікім няшчасьцем для чалавецтва паўсюдную аднастайнасць формаў вольнасьці.

Але я лічу, што калі ў нас не атрымаецца паступова ўвесьці і ўмацаваць дэмакратычныя інстытуты і калі мы адмовімся ад думкі пра патрэбу прышчапіць усім грамадзянам ідэі і пачуцці, якія спачатку падрыхтуюць іх да вольнасьці, а потым дазволяць ёю карыстацца, то ніхто не будзе вольны – ні буржуазія, ні арыстакратыя, ні заможныя, ні немаёмасныя. Усе ў роўнай меры патрапяць пад прыгнёт тыраніі. І я прадбачу, што калі з часам мы не здолеем усталяваць мірную ўладу большасьці, то ўсе мы рана ці позна апынёмся пад неабмежаванай уладай аднаго чалавека.

# Глава X

## Некаторыя меркаванні з нагоды сучаснага стану і магчымай будучыні трох рас, насяляючых тэрыторыю Злучаных Штатаў

Асноўнае заданне, якое я сабе ставіў, выканана. Я паказаў, прынамсі, наколькі гэта было магчымым для мяне, што ўяўляюць сабой законы амерыканскай дэмакратыі, пазнаёміў чытача з амерыканскімі норавамі. Я мог бы на гэтым спыніцца, але чытачу, магчыма, здалося б, што я не цалкам апраўдаў яго чаканні.

Амерыка – краіна не толькі глыбокай і поўнай дэмакратыі і народы, насяляючыя яе, можна разглядаць са шмат якіх бакоў.

На старонках гэтай кнігі мне часта даводзілася, у сувязі з маёй тэмай, згадваць пра індэйцаў і неграў, але я ніводнага разу не меў магчымасьці спыніцца на гэтым пытанні і паказаць, якое месца займаюць гэтыя дзьве расы ў тым дэмакратычным грамадстве, якое я апісаў. Паведамляючы пра дух і законы, пакладзеныя ў падмурак амерыканскай федэрацыі, я толькі мімаходзь і вельмі няпоўна згадваў пра небяспекі пагражаючыя ёй. Я не мог падрабязна прааналізаваць верагоднасць яе працяглага існавання, якое залежыць не толькі ад законаў і нораваў. Кажучы пра аб'яднаныя рэспублікі, я ніводнага разу не рабіў прагнозаў з нагоды стабільнасьці рэспубліканскай формы кіравання ў Новым Сьвеце. Я часта згадваў пра камерцыйную дзейнасць, квітнеючую ў Амерыцы, але не меў магчымасьці разгледзець будучыню амерыканскага народа ў гэтым плане.

Усе гэтыя пытанні судатыкаюцца з маёй тэмай, але не ўваходзяць у яе, яны ўласьцівы амерыканскаму грамадству, але не дэмакратыі. Я ж меў жаданне, перадусім, даць апісанне менавіта дэмакратыі. Таму спачатку мне давялося абыйсьці іх, але, заканчваючы сваё даследаванне, я павінен да іх вярнуцца.

Тэрыторыя, якую займае ці на якую прэтэндуе ў наш час амерыканскі Звяз, распасьціраецца ад Атлантычнага акіяна да берагоў Паўднёвага мора. Яна займае ўвесь кантынент, ад усходу да захаду, на поўдні дасягае тропікаў, а на поўначы – сярэдзіны арктычных ільдоў.

Людзі, насяляючыя гэтую прастору, не з’яўляюцца, падобна еўрапейцам, прадстаўнікамі адной расы. З першых жа крокаў мы сустракаемся там з трыма цалкам рознымі, я б нават сказаў варожымі, расамі. Выхаванне, законы, паходжанне і нават вонкавае аблічча ўзвялі паміж імі амаль непераадольваемыя перашкоды. Дзякуючы волі лёсу яны жывуць побач, але не могуць зліцца разам, аб’яднацца, і кожная з іх ідзе сваім шляхам.

Сярод гэтых такіх розных людзей на першым месцы стаіць белы чалавек, еўрапеец, самы адукаваны, самы дужы, самы шчасьлівы. Гэта – чалавек у поўным сэнсе слова. Ніжэй яго стаяць негры і індэйцы.

Дзьве гэтыя гаротныя расы не маюць нічога агульнага ні ў паходжанні, ні ў вонкавых рысах, ні ў мове, ні ў норавах. Адзінае, што іх аб’ядноўвае, – гэта іхны гаротны стан. І тая і іншая займаюць падначаленае становішча ў сваёй краіне, абедзьве выпрабоўваюць на сабе прыгнёт тыраніі. І хаця іхныя няшчасьці неаднолькавыя, адказнасць за іх падае на адных і тых жа людзей.

Назіраючы за тым, што адбываецца ў сьвеце, можна прыйсьці да думкі, што еўрапеец займае ў дачыненні да людзей іншых рас такую ж пазіцыю, як сам чалавек у дачыненні да жывёл. Ён прымушае іх працаваць на сябе, а калі яму не атрымліваецца зламаць іхны супраціў, ён іх знішчае.

У выніку прыгнёту негры страцілі амаль усе рысы, уласьцівыя чалавеку! Негры ў Злучаных Штатах не захавалі нават успамінаў пра сваю айчыну, яны не разумеюць мовы сваіх бацькаў, адракліся ад іхнай веры, забыліся пра іхныя норавы. Але, нягледзячы на тое, што ўсе іхныя сувязі з Афрыкай разарваны, яны не маюць ніякага доступу да еўрапейскіх дасягненняў. Яны знаходзяцца паміж двума грамадствамі і не належаць больш ні да аднаго із двух народаў, адзін із якіх іх прадаў, а другі адкідае. Адзінай і смутнай выявай радзімы для іх ва ўсім сьвеце з’яўляецца сядзіба іхнага гаспадара.

У неграў няма сям’і: іхныя жонкі – гэта не што іншае, як жанчыны, часова падзяляючыя іхныя задавальненні, яны пазбаўлены, бацькоўскай улады над дзецьмі.

Ці патрэбна лічыць дабрадзействам Бога ці вышэйшай праявай яго гневу той стан душы, дзякуючы якому чалавек не адчувае самых жахлівых пакут і часьцяком нават набывае нейкае пераіначанае прыцягненне да нагоды сваіх бед? Негры, пагружаныя ў бездань нягод, не вельмі востра адчуваюць свой гаротны стан. Гвалт зрабіў іх рабамі, рабскі стан распрацаваў у іх рабскія думкі і ганарыстасць. У іх больш захаплення сваімі тыранамі, чым нянавісьці да іх, яны адчуваюць радасць і гонар, па-нявольнічы пераймаючы ў тых, хто іх прыціскае.

Іхны інтэлект паменшыўся да узроўня іхнай душы.

Нараджаючыся, негр адразу робіцца рабом. Мала таго, часта яго купляюць яшчэ ва ўлонні маці і, такім чынам, ён трапляе ў рабства да свайго нараджэння.

У яго няма ні патрэб, ні забаваў, ён пазбаўлены самастойнасьці. Засвойваючы першыя ў сваім жыцці разуменні, ён усведамляе, што з’яўляецца ўласнасьцю іншага чалавека, які зацікаўлены ў тым, каб ён жыў. Ён бачыць, што турботы за яго лёс належыць не яму, сама здольнасць думаць здаецца яму не маючым карысьці дарункам Усявышняга і ён спакойна карыстаецца ўсімі выгодамі свайго нізкага становішча.

Калі ён атрымлівае волю, то яна часта здаецца яму больш цяжкім грузам, чым рабства. Ён жа у сваім жыцці навучыўся падначальвацца ўсяму, акрамя розуму і калі розум робіцца яго адзіным дарадцай, ён выяўляецца няздольным пачуць яго

голас. Яго абложваюць тысячы новых патрэб, але ў яго няма ведаў і дастатковай энергіі для таго, каб іх задаволіць. Патрэбнасьці – гэта валадары, з якімі патрэбна ўмець змагацца, а ён навучыўся толькі слухацца і падпарадкоўвацца. Ён дайшоў да крайняй ступені падзення: рабства пазбавіла яго чалавечага аблічча і воля для яго мае згубныя наступствы.

Прыгнёт зрабіў не меншы ўплыў і на індэйскія народы, але прывёў да цалкам іншых вынікаў.

Да з'яўлення белых у Новым Сьвеце людзі, насяляўшыя Паўночную Амерыку, спакойна жылі ў лясах. Яны зведвалі звычайныя нечаканасьці дзікага жыцця і валодалі заганамі і ўчыннасьцямі нецывілізаваных народаў. Еўрапейцы прагналі індэйскія плямёны ў аддаленыя пустэльныя месцы і выраклі іх на качавое жыццё, поўнае невыносных пакут.

У дзікіх народаў у якасьці законаў выступаюць перакананні і норавы.

У выніку тыраніі еўрапейцаў у паўночнаамерыканскіх індэйцаў паслабела пачуццё радзімы, іхныя роды былі раскіданы, традыцыі забыліся, нітка ўспамінаў перапынілася, звычкі перамяніліся, звыш усякай меры павялічыліся патрэбы. Усё гэта прынесла ў іхнае жыццё бязладдзе, яны сталі менш цывілізаванымі, чым былі раней. У той жа час іхныя маральныя асновы і фізічны стан увесь час пагаршаліся і чым больш няшчаснымі яны рабіліся, тым больш дзічэлі. Аднак еўрапейцы не здолелі перамяніць характар індэйцаў. Яны здолелі знішчыць іх, але ў іх ніколі не атрымоўвалася цывілізаваць ці заняволіць іх.

Заняволенне неграў даходзіць да крайняй мяжы, вольнасць індэйцаў не мае мяжы, але як тое так і іншае мела наступствам аднолькава трагічны вынік.

Негр пазбаўлены нават права распараджацца ўласнай асобай, для яго самастойна распараджацца сваім жыццём – азначае здзейсніць крадзёж. Індэец жа мае неабмежаваную волю, як толькі робіцца здольным дзейнічаць самастойна. У сям'і паслухмянства яму было ледзь знаёма, ён ніколі не саступаў патрабаванням сабе падобных, ніхто не вучыў яго адрозніваць самаахвотнае падначаленне і ганебны прыгнёт, яму невядома нават само слова «закон». Для яго вольнасць – гэта адсутнасць амаль усіх грамадзкіх сувязяў.

Ён шануе гэтую дзікую вольнасць і аддае перавагу пагібелі перад стратай яе самай малой часьцінкі. На такога чалавека цывілізацыя не можа зрабіць ніякага ўплыву.

Негры ўсімі сродкамі спрабуюць далучыцца да грамадства белых, але дарэмна, яно іх адкідае. Яны прыстасоўваюцца да густаў сваіх прыгнятальнікаў, пераймаюць іхныя перакананні і спадзяюцца шляхам перайманне зліцца з імі. Пачынаючы з самага ранняга дзяцінства яны даведваюцца, што іхная раса ад прыроды ніжэй расы белых. Яны і самі з'яўляюцца не далёкімі ад гэтай думкі і таму саромеюцца сябе. Ва ўсіх сваіх рысах яны бачаць сляды рабства і, калі б яны маглі, яны б з радасьцю пагадзіліся б цалкам адрачыся ад сябе.

Індэйцы, наадварот, поўныя думак пра сваё, як яны лічаць, шляхетнае паходжанне. Яны жывуць і паміраюць сярод бачанняў, народжаных гонарам. Яны не проста не жадаюць прыстасоўвацца да нашых нораваў, але шануюць сваю дзікасць як адметны знак сваёй расы і адштурхоўваюць цывілізацыю не столькі із нянавісьці да яе, колькі баючыся стаць падобнымі на еўрапейцаў[218]. Яны не

[218] Паўночнаамерыканскія індэйцы захоўваюць свае перакананні і ўсе свае традыцыі аж да самых нязначных іхных асаблівасьцей з такой нязломнай цвёрдасьцю, прыкладаў якой у гісторыі няма. Вось ужо дзьве сотні гадоў, як качавыя плямёны Паўночнай Амерыкі штодня сутыкаюцца з белай расай, і можна

жадаюць прызнаваць дасканаласць нашых вынаходніцстваў, нашу тактыку, глыбіню нашых задумаў і супрацьпастаўляюць гэтаму багацці сваіх лясоў, мужнасць, не ведаючую дысцыпліны, вольныя парывы сваёй дзікай натуры. І гэтае няроўнае змаганне вядзе іх да пагібелі.

Негры хацелі б зліцца з еўрапейцамі, але не ў стане. Індэйцы маглі б дасягнуць у гэтым накірунку некаторых поспехаў, але яны пагарджаюць такой магчымасьцю. Першых ганебнасць выракае на рабства, другіх гонар выракае на згубу.

Аднойчы, калі я ездзіў па лесе які яшчэ існуе ў штаце Алабама, я сустрэў халупу піянера. У мяне не было жадання заходзіць у яго жыллё, але я спыніўся адпачыць каля крыніцы, якая працякала недалёка ў лесе. Пакуль я знаходзіўся ў гэтым месцы, туды прыйшла індыянка (мы знаходзіліся каля тэрыторыі племені крыкаў). Яна трымала за руку белую дзяўчынку гадоў пяці-шасьці, відаць, дачку піянера. За імі ішла негрыцянка. Індыянка была апранута з нейкай варварскай раскошай: у ноздрах і вушах у яе віселі металічныя колы, вольна спадаўшыя на плечы валасы былі пераплецены шклянымі каралямі. Я зразумеў, што яна не адружана, таму што на ёй былі каралі із ракавін, якія адпаведна са звычаем дзяўчыны кладуць на шлюбны ложак. На негрыцянцы было рванае еўрапейскае адзенне.

Яны селі на беразе ручая і маладая індыянка ўзяла дзяўчынку на рукі і лашчыла яе цалкам па-матчынаму. Негрыцянка таксама пускала ў ход шмат нявінных хітрыкаў, каб прыцягнуць увагу маленькай крэолкі. У кожным руху дзяўчынкі праглядала перавага, цалкам незвычайная, улічваючы яе слабасць і ўзрост. Можна было падумаць, што яна прынімае клопатлівасць сваіх спадарожніц з нейкай паблажлівасьцю.

Негрыцянка, прысеўшая перад сваёй гаспадыняй на кукішкі і лавіўшая кожнае яе жаданне, здавалася, адначасова адчувала да яе прыхільнасць маці і рабскую боязнь. А індыянка нават у парыве пяшчоты захоўвала вольны, ганарлівы і амаль суровы выгляд.

Я падышоў і моўчкі назіраў за гэтай выявай. Мая цікавасць, напэўна, не спадабалася індыянцы: яна рэзка паднялася, груба адштурхнула ад сябе дзіцёнка і, кінуўшы на мяне гнеўны погляд, выдалілася ў лес.

Мне часта даводзілася бачыць разам людзей трох рас насяляючых Паўночную Амерыку і грунтуючыся на шматлікасьці розных прыкмет я ўжо быў знаёмы з перавагай белых. Але ў толькі што апісанай мной выяве было нешта

---

сказаць, што яны не перанялі ў яе ніводнай ідэі, ніводнага звычаю. У той жа час еўрапейцы зрабілі вялікі ўплыў на індэйцаў. Яны зрабілі характар індэйцаў больш мітуслівым, але не прышчапілі ім ніводнай еўрапейскай рысы.

Знаходзячыся летам 1831 года за возерам Мічыган у мястэчку пад назвай Грын-Бей, дзе Злучаныя Штаты мяжуюць з тэрыторыяй паўночна-заходніх індэйцаў, я пазнаёміўся з адным амерыканскім афіцэрам, маёрам Х. Аднойчы пасьля таго, як мы доўга размаўлялі пра нязломнасць характару індэйцаў, ён паведаміў мне наступную гісторыю: «Некалі я быў знаёмы з адным маладым індэйцам які вучыўся ў коледжы ў Новай Англельшчыне. Ён вучыўся вельмі паспяхова і стаў цалкам падобным на цывілізаванага чалавека. Калі ў 1810 годзе пачалася вайна з англельцамі, я зноў сустрэўся з гэтым маладым чалавекам. Ён служыў у нашым войску, кіраваў ваярамі свайго племені. Амерыканцы пагадзіліся дапусьціць індэйцаў у свае шэрагі толькі пры ўмове, што яны адмовяцца ад свайго жудаснага звычаю скальпаваць палонных. Вечарам пасьля бітвы пры *** К. прыйшоў пасядзець каля вогнішча на нашым біваку. Я запытаў, як прайшоў для яго дзень, ён распавёў мне і, паступова ўзбудзіўшыся пры ўспамінах пра свае вычыны, урэшце, прыўзняў сваё адзенне і прамовіў: «Паглядзіце, толькі не выдавайце мяне!» І я пабачыў, дадаў маёр Х., у яго пад кашуляй скальп англельца, з якога яшчэ сачылася кроў».

асабліва чуллівае: тут прыгнечаных і прыгнятальнікаў аб’ядноўвалі повязі прыхільнасьці. Прырода імкнулася зблізіць іх і гэта яшчэ больш падкрэслівала тую вялізную дыстанцыю, якую стварылі паміж імі забабоны і законы.

## Сучасны стан і магчымая будучыня індэйскіх плямён, жывучых на тэрыторыі Звязу

–Паступовае знікненне карэнных народаў. –Як гэта адбываецца. –Бедствы, абумоўленыя вымушанымі міграцыямі індэйцаў. –У паўночнаамерыканскіх індэйцаў было толькі два спосабы пазбегнуць знішчэння: вайна ці цывілізацыя. –Яны больш не ў стане ваяваць. –Чаму яны не жадаюць успрыняць цывілізацыю, калі гэта магчыма, і не ў стане, калі такое жаданне ў іх узнікае. –Прыклад крыкаў і чырокаў. –Палітыка асобных штатаў у дачыненні да індэйцаў. –Палітыка федэральнага ўрада.

Усе індэйскія плямёны, якія некалі жылі на тэрыторыі Новай Ангельшчыны, – нарагансеты, магікане, пікоты, – існуюць толькі ва ўспамінах людзей. Ленапы, у якіх пяцьдзясят гадоў таму назад на берагах Дэлавэра пабываў Пэн, сёння зніклі. Я сустракаў апошніх іракезаў – яны прасілі падаянне. Усе народы, якія я пералічыў, раней насялялі зямлю аж да мора. Зараз, каб сустрэць індэйца, патрэбна праехаць больш за сто міль у глыб кантынента. Індэйцы не проста сышлі, іх больш не існуе[219]. І па меры таго, як сыходзяць ці выміраюць індэйцы, іхнае месца займае шматлікі і ўвесь час павялічваючыся народ. Ніколі яшчэ народы не перажывалі такога імклівага ўзрастання і не зведвалі такога хуткага знішчэння.

Знікненне індэйцаў адбываецца вельмі проста. Калі індэйцы жылі адны ў месцах, із якіх іх зараз праганяюць, іх патрэбы не вызначаліся шматстайнасьцю: яны самі выраблялі сабе зброю, не пілі нічога, акрамя рачной вады, а ў якасьці адзення ім служылі шкуры жывёл, мясам якіх яны сілкаваліся.

Еўрапейцы прынеслі паўночнаамерыканскім індзейцам агнястрэльную зброю, жалеза і спіртныя напоі, яны навучылі іх замест прымітыўнага адзення, якім індэйцы ў прастаце сваёй задавальняліся, насіць адзенне із нашай тканіны. Індэйцы набылі новыя густы, але не навучыліся іх задавальняць і ў іх узнікла патрэба ў пладах працы белых. У абмен на гэтыя рэчы, якія яны самі не ўмелі выраблять, індэйцам не было чаго прапанаваць, акрамя каштоўных мяхоў, якія яшчэ існавала магчымасць здабыць у лясах. Пачынаючы з гэтага моманту мэтай палявання індэйцаў стала не толькі задавальненне іхных уласных патрэб, але і легкадумных жарсьцяў еўрапейцаў. Індэйцы пачалі паляваць на лясных жывёл не толькі дзеля таго, каб забяспечыць сябе ежай, але і для таго, каб мець адзіны прадмет абмену, які яны маглі нам прапанаваць[220]. Тым часам як патрэбы індэйцаў павялічваліся, іхныя багацці ўвесь час памяншаліся.

---

[219] У трынаццаці спачатку існаваўшых штатах налічваецца толькі 6373 індэйцы. (Гл.: Заканадаўчыя дакументы, 20-ы кангрэс, № 117, с. 20.

[220] Кларк і Кас у сваёй справаздачы кангрэсу ад 4 лютага 1829 года, с. 23, пісалі: «Часы, калі індэйцы здабывалі патрэбную ім ежу і адзенне, не карыстаючыся плёнам працы цывілізаваных людзей, пайшлі ў мінулае. За Місісіпі, у краі, дзе яшчэ сустракаюцца вялізныя статкі бізонаў, жывуць індэйскія плямёны, перасоўваючыяся за імі. Гэтыя індэйцы яшчэ маюць магчымасць жыць згодна са звычаямі сваіх бацькаў, але бізонаў атрымліваецца здабываць усё менш і менш. Менш буйныя жывёлы, такія, як мядзведзь, лань, бабёр, мускусны пацук, гэта азначае тыя, якія галоўным чынам даюць індзейцам тое, што ім патрэбна для жыцця, можна зараз здабыць толькі з дапамогай стрэльбаў ці пастак (traps). Здабыванне сродкаў для забяспячэння сваіх сямей патрабуе надмерных высілкаў, асабліва ад паўночна-заходніх індэйцаў. Часта паляўнічы без поспеху перасьледуе дзічыну на працягу некалькіх дзён. У гэты час яго сям’я або харчуецца карой і карэннем, або гіне. Таму кожную зіму шмат хто памірае ад голаду». Індэйцы не жадаюць жыць як

Як толькі па суседству з тэрыторыяй населенай індэйцамі ўзнікае еўрапейскае селішча, жывёлы пачынаюць трывожыцца[221]. Тысячы індэйцаў, блукаўшыя па лясах, не палохалі іх, але калі ў нейкім месцы пачынае чуцца бесперапынны шум ствараемы працуючымі еўрапейцам, яны сыходзяць адтуль на захад. Інстынкт падказвае ім, што там яны знойдуць бязмежныя незаселеныя землі. «Статкі бізонаў сыходзяць усё далей і далей, – пішуць Кас і Кларк у справаздачы кангрэсу ад 4 лютага 1829 года. – Яшчэ некалькі гадоў таму назад яны падыходзілі да падножжа Алеганскіх гор, а праз некалькі гадоў іх, магчыма, цяжка будзе пабачыць на вялізных раўнінах, распасьціраючыхся ўздоўж Скалістых гор». Мяне запэўнівалі, што жывёлы адчуваюць набліжэнне белых за дзьве сотні міль. Такім чынам, ледзь ведаючы назву індэйскага племені, белы чалавек ужо шкодзіць яму; індэйцы ў сваю чаргу пачынаюць адчуваць вынікі яго ўзурпацыі задаўга да таго, як даведваюцца, хто яе здзяйсняе[222].

Вельмі хутка адважныя шукальнікі прыгод пачынаюць пракрадацца на індэйскія землі. Спачатку яны аддаляюцца ад крайняй мяжы тэрыторыі белых на пятнаццаць-дваццаць лье і будуюць жыллё цывілізаванага чалавека непасрэдна на тэрыторыі індэйцаў. Ім няцяжка гэта зрабіць, таму што мяжа тэрыторыі народа, занятага паляваннем, нявызначана. Акрамя таго, зямля належыць усяму народу, яна не з’яўляецца чыёй-небудзь уласнасьцю, ніхто не ахоўвае яе грунтуючыся на асабістых зацікаўленасьцях.

І тады некалькі сямей еўрапейцаў, жывучых вельмі далёка адна ад другой, канчаткова праганяюць дзікіх жывёл із усёй прасторы распасьціраючайся паміж іхным жыллём. Да гэтага індэйцы жылі ў багацці, а зараз ім робіцца цяжка забяспечыць сябе ўсім патрэбным і яшчэ цяжэй здабыць патрэбныя ім прадметы абмену. Прагнаць дзічыну індэйцаў – гэта раўназначна таму, каб зрабіць неўраджайнымі палі нашых земляробаў. Хутка яны пазбаўляюцца амаль усіх сродкаў да існавання. Тады гэтых няшчасных можна сустрэць у пустэльных лясах, дзе яны блукаюць, як галодныя ваўкі. Інстынктыўная павага да радзімы прывязвае іх да зямлі, на якой яны нарадзіліся[223], але на ёй іх чакае толькі галеча і сьмерць. Нарэшце, яны адважваюцца сысьці і перамяшчаюцца следам за статкамі ласёў, бізонаў і бaброў, арыентуючыся на дзікіх жывёл у выбары новай радзімы. Такім чынам, строга кажучы, не еўрапейцы праганяюць амерыканскіх індэйцаў з іхных

---

еўрапейцы. У той жа час яны не ў стане існаваць без еўрапейцаў і жыць цалкам так жа, як жылі іхныя бацькі. Пра гэта можна зрабіць выснову грунтуючыся на адным факце, вядомым мне таксама із афіцыйных крыніц. Людзі аднаго племені з берагоў возера Верхняе забілі еўрапейца. Амерыканскі ўрад наклаў забарону на гандаль з плямёнамі, да якога належалі вінаватыя, да таго часу пакуль яны не будуць выдадзены, і яны былі выдадзены.

[221] «Пяць гадоў таму назад, – піша Вольнэ ў сваёй кнізе «Выявы із жыцця Злучаных Штатаў», с. 370, – падарожнічаючы з Венсена ў Каскаскіас, па тэрыторыі, якая зараз уваходзіць у штат Ілінойс, а тады была цалкам дзікай (1797 год) і перасякаючы прэрыі, падарожнік абавязкова сустракаў статкі бізонаў, налічваючыя ад чатырохсот да пяцісот жывёл. Зараз іх больш няма, яны пайшлі за Місісіпі, таму што ім не давалі жыцця паляўнічыя і асабліва званочкі амерыканскіх кароў».

[222] У праўдзівасьці маіх слоў можна пераканацца, азнаёміўшыся з агульным апісаннем індэйскіх плямён, жывучых у межах, вылучаных Злучанымі Штатамі (Заканадаўчыя дакументы, 20-ы кангрэс, № 117, с. 90-105.) Із яго вынікае, што колькасць плямён, жывучых у цэнтры Амерыкі, хутка памяншаецца, хаця еўрапейцы жывуць яшчэ вельмі далёка ад іх.

[223] Індэйцам, пішуць Кларк і Кас у сваёй справаздачы кангрэсу, с. 15, як і нам, уласціва пачуццё прыхільнасьці да свайго краю. Акрамя таго, разам з думкай пра страту зямель, якія Вялікі дух падараваў іхным продкам, яны злучаюць некаторыя забабоны, робячыя вялікі ўплыў на плямёны, што яшчэ не саступілі ці саступілі толькі невялікую частку сваёй тэрыторыі еўрапейцам. «Мы не прадаём зямлю, дзе спачывае пыл нашых бацькаў» – такім з’яўляецца першы адказ, даваемы імі на прапанову пра куплю іхнай зямлі.

зямель, іх гоніць голад. Гэта ўдалае адрозненне, не заўважанае ранейшымі казуістамі, было ўсталявана сучаснымі мыслярамі.

Немагчыма ўявіць жудасныя пакуты, суправаджаючыя гэтыя вымушаныя перасяленні. Да таго моманту, калі індэйцы пачынаюць пакідаць родныя месцы, іхная колькасць ужо паменшылася, яны закатаваны. Зямля, дзе яны збіраюцца пасяліцца, занята іншымі плямёнамі, якія пазіраюць на зноў прыйшоўшых з трывогай і падазрэннем. Ззаду ў іх – голад, наперадзе – вайна і паўсюдна – беды. Для таго каб пазбегнуць змагання са столькімі ворагамі, яны падзяляюцца. Кожны із іх імкнецца знайсьці сродкі да існавання ў адзіноце і таемна ад іншых. Так у бязмежных глухіх лясах яны жывуць, падобна таму, як жывуць у цывілізаваным грамадстве выгнанцы. Ужо даўно саслабелыя грамадзкія сувязі разрываюцца. Яны ўжо страцілі радзіму, хутка знікне і сам народ, застануцца, магчыма, толькі асобныя сем’і. Забываецца агульнае паходжанне. Народ спыняе сваё існаванне. У лепшым выпадку ён працягвае жыць ва ўспамінах амерыканскіх археолагаў і з’яўляюцца вядомымі некалькім эрудытам у Яўропе.

Я не маю жадання, каб чытач падумаў, што я згушчаю фарбы. Я бачыў уласнымі вачамі шматлікія із тых бедстваў, якія апісваю, бачыў і такія, пра якія я не ў стане распавесьці.

На прыканцы 1831 года я знаходзіўся на левым беразе Місісіпі, у мястэчку называемым еўрапейцамі Мемфіс. У той час, калі я там быў, туды прыйшло вялікае зруртаванне шактаваў (французы ў Луізіяне завуць іх «шактасы»). Яны пакідалі свае месцы і мелі намер перабрацца на правы бераг Місісіпі, дзе разлічвалі знайсьці прыстанак, абяцаны ім амерыканскім урадам. Гэта было ў сярэдзіне зімы. У тым годзе стаялі незвычайныя халады, зямля была пакрыта зляжаўшымся снегам, па рацэ плылі вялізныя крыгі. Індэйцы ішлі з сем’ямі, з імі былі параненыя, хворыя, нованароджаныя дзеці і блізкія да сьмерці старыя. У іх не было ні намётаў, ні вазоў, толькі няшматлікая правізія і зброя. Я бачыў, як яны сядалі на карабель, каб пераправіцца праз вялізную раку і гэтая велічная выява ніколі не знікне з маёй памяці. У натоўпе індэйцаў не чулася ні плачу, ні скаргаў, яны маўчалі. Яны пакутавалі ўжо даўно і адчувалі, што ніяк не могуць палегчыць сваё становішча. Усе індэйцы ўжо падняліся на карабель, які павінен быў даставіць іх на другі бераг, а сабакі яшчэ заставаліся на беразе. Калі яны, нарэшце, зразумелі, што іхныя гаспадары ад’язджаюць назаўсёды, яны роспачна завылі, кінуліся ў ледзяную ваду Місісіпі і паплылі за караблём.

У нашы дні індэйцаў пазбаўляюць зямель распрацаваным і, калі можна так выказацца, цалкам законным спосабам.

Калі еўрапейскае насельніцтва пачынае падбірацца да яшчэ не распрацаваных імі зямель, занятых нейкім індэйскім народам, урад Злучаных Штатаў звычайна выпраўляе да яго высокую амбасаду. Белыя збіраюць індэйцаў на вялікай раўніне і, добра пачаставаўшы іх, кажуць: «Што вы робіце ў краіне сваіх бацькаў? Хутка вам давядзецца выкопваць іхныя косткі, каб прахарчавацца. І чым край, у якіх вы жывеце, лепшы за іншыя? Хіба лясы, балоты і прэрыі ёсць толькі там, дзе вы жывеце, і хіба вы не здольны жыць пад іншым сонцам? За гарамі, якія бачны на небасхіле, за возерам, якое з’яўляецца заходняй мяжой вашай тэрыторыі, ляжаць шырокія землі, дзе яшчэ ў багацці водзяцца дзікія жывёлы. Прадайце нам сваю змлю і ідзіце шчасьліва жыць у тыя месцы». Пасьля такіх прамоваў перад індэйцамі раскладаецца агнястрэльная зброя, ваўнянае адзенне, бочачкі са

спіртным, шкляныя каралі, медзяныя бранзалеты, завушніцы і люстэркі[224]. Калі пры выглядзе ўсіх гэтых багаццяў яны ўсё ж вагаюцца, ім намякаюць, што яны не могуць не даць згоды і што хутка нават урад будзе не ў стане гарантаваць іхнае права. Што рабіць? Напалову дзякуючы перакананням, напалову прымусова індэйцы сыходзяць. Яны перасяляюцца ў новыя пустэльныя месцы, але не пройдзе і дзесяці гадоў, як белыя нагоняць іх і там. Так амерыканцы па нізкаму кошту набываюць цэлыя правінцыі, якія не былі б у стане купіць заможныя еўрапейскія valадары[225].

Я апісаў самыя сур'ёзныя праблемы і хачу дадаць, што яны ўяўляюцца мне невырашальнымі. Лічу, што індэйская раса ў Паўночнай Амерыцы вырачана на знішчэнне і не магу пазбавіцца ад думкі, што к таму часу, калі еўрапейцы дойдуць да Ціхага акіяна, яна ўжо не будзе існаваць[226].

У паўночнаамерыканскіх індэйцаў было толькі два шляхі да выратавання: вайна ці цывілізацыя. Іншымі словамі, яны павінны былі або знішчыць еўрапейцаў, або стаць роўнымі ім.

[224] Гл. у Заканадаўчых дакументах кангрэса, дак. 17, апісанне таго, што адбываецца ў такіх выпадках. Гэтае цікавае апавяданне ўтрымліваецца ва ўжо цытаванай справаздачы Кларка і Люіса Каса кангрэсу ад 4 лютага 1829 года. Кас у наш час – вайсковы міністр федэральнага ўрада. «Калі індэйцы прыходзяць у тое месца, дзе павінна быць заключана дамова, – пішуць Кларк і Кас, – яны з'яўляюцца немаёмаснымі, у іх амаль няма адзення. Там яны бачаць і маюць магчымасць старанна вывучыць шмат каштоўных для іх рэчаў – амерыканскія гандляры не забываюцца паклапаціцца пра тое, каб яны былі туды прывезены. Жанчыны і дзеці, палаючы жаданнем задаволіць свае патрэбы, пачынаюць даймаць мужчын шматлікімі дакучлівымі прашэннямі і пускаюць у ход увесь свой уплыў для таго, каб зямля была прададзена. Звычайна індэйцы выяўляюць крайняе легкадумства. Задаволіць свае надзённыя патрэбы і сёняшнія жаданні – вось неадольнае жаданне нецывілізаванага чалавека. Ён дрэнна разумее, што азначае чакаць выгод у будучыні, лёгка забывае мінулае, не думае пра будучыню. Безнадзейна прасіць індэйцаў саступіць частку іхнай тэрыторыі, не будучы ў стане неадкладна задаволіць іхныя патрэбы. Пазнаёміўшыся без старонняга стаўлення са становішчам гэтых няшчасных, не станеш дзівіцца іхнаму гарачаму жаданню хаця б некалькі палегчыць свае пакуты».

[225] 19 траўня 1830 года Эд. Эверэт заявіў у палаце прадстаўнікоў, што на ўсход і захад ад Місісіпі амерыканцы ўжо набылі з дапамогай дамоваў 230 мільёнаў акраў. У 1808 годзе азажы прадалі 48 мільёнаў акраў за рэнту роўную тысячы даляраў. У 1818 годзе куапавы саступілі 20 мільёнаў акраў за 4 тысячы даляраў. Яны пакінулі сабе для палявання тэрыторыю роўную 1 мільёну акраў і атрымалі ўрачыстыя абяцанні, што на яе ніхто не будзе квапіцца. Але і яна хутка была захоплена. «Для таго каб завалодаць пустэльнымі землямі, якія індэйцы лічаць сваёй уласнасцю, – паведаміў у кангрэсе 24 лютага 1830 года спадар Бэл, чытар камітэта па справах індэйцаў, – мы ўзялі за правіла сплочваць індэйскім плямёнам кошт іхных паляўнічых угоддзяў (hunting-ground), пасьля таго як дзічына іх пакінула ці была вынішчана. Значна больш выгадна, гуманна і, вядома, справядліва дзейнічаць так, чым захопліваць тэрыторыі дзікуноў узброеным шляхам. Звычай купляць у індэйцаў права на ўласнасць з'яўляецца, такім чынам, новым спосабам набыцця, прыйшоўшым на змену гвалту дзякуючы гуманнасьці і выгадзе (humanity and expedience). І ён зробіць нас гаспадарамі зямель, якімі мы жадаем валодаць, таму што мы выведваем іх, а таксама згодна з правам цывілізаваных народаў сяліцца на тэрыторыі, занятай дзікімі плямёнамі. Да гэтага часу адпаведна са шмат якімі нагодамі ў вачах індэйцаў кошт зямлі, на якой яны жывуць, увесь час памяншаецца; дзякуючы тым жа нагодам яны ахвотна прадаюць яе нам. Таму звычай купляць у дзікуноў іхнае права на зямлю (right of occupancy) ніколі не было ў стане значна затрымаць развіццё Злучаных Штатаў» (Заканадаўчыя дакументы, 21-ы кангрэс, № 227, с. 6.)

[226] Як нам здалося, з гэтай думкай згодны амаль усе амерыканскія дзяржаўныя дзеячы. «Калі рабіць высновы пра будучыню грунтуючыся на тым, што адбывалася ў мінулым, – выказаўся Кас у кангрэсе, – то патрэбна чакаць паступовага памяншэння колькасьці індэйцаў, а потым і канчатковага знікнення гэтай расы. Для таго каб гэтага не здарылася, патрэбна было б ці спыніць пашырэнне нашай мяжы і даць магчымасць індэйцам жыць за іхнай мяжой, ці карэнным чынам перамяніць нашы дачыненні з імі; аднак разлічваць на гэта было б неразумна».

Пры заснаванні асад яны маглі б, аб'яднаўшыся, пазбавіцца ад невялікай купкі чужакоў, высадзіўшыхся на бераг іхнага кантынента[227]. Яны неаднаразова спрабавалі зрабіць гэта і нават былі блізкімі да поспеху. Сёння няроўнасць моцы занадта вялікая, каб яны маглі думаць пра нешта падобнае. Аднак сярод індэйцаў яшчэ з'яўляюцца геніяльныя людзі, якія прадбачачы лёс прыгатаваны для нецывілізаваных народаў, спрабуюць аб'яднаць усе плямёны пад сцягам агульнай нянавісьці да еўрапейцаў, але іхныя намаганні ні да чаго не вядуць. Плямёны, жывучыя па суседству з белымі, занадта саслабелыя, каб зрабіць ім сур'ёзны супраціў. Іншыя, ставячыся да будучыні з дзіцячай легкадумнасьцю, уласьцівай прыродзе нецывілізаваных людзей, чакаюць набліжэння небяспекі, для таго каб з ёй змагацца. Адны не ў стане, а іншыя не жадаюць дзейнічаць.

Лёгка прадбачыць, што індэйцы або ніколі не пажадаюць зрабіцца цывілізаванымі людзьмі, або пажадаюць і паспрабуюць гэта зрабіць, калі будзе ўжо позна.

Цывілізацыя ўзнікае ў выніку працяглага грамадзкага развіцця вядучагася ў адным месцы, вынікі якога розныя пакаленні перадаюць адзін аднаму. Самыя вялікія цяжкасьці на шляху да цывілізацыі сустракаюцца ў паляўнічых народаў. Пастуховыя плямёны вандруюць, але ў іхных перасоўваннях заўсёды існуе вызначаны парадак, яны ўвесь час вяртаюцца ў адны і тыя ж месцы. Паляўнічыя ж жывуць там, дзе знаходзяцца пераследуемыя імі жывёлы.

Неаднаразова распачыналіся спробы пашырыць адукацыю сярод індэйцаў, не пераменяючы іхныя качавыя звычаі. Гэтым займаліся езуіты ў Канадзе і пурытане ў Новай Ангельшчыне[228]. Ні тыя, ні іншыя не дамагліся ніякіх стабільных вынікаў. Цывілізацыя нараджалася ў халупе і памірала ў лясах. Сур'ёзнай памылкай гэтых людзей, спрабаваўшых даць закон індэйцам, было неразуменне таго, што, калі жадаеш зрабіць народ цывілізаваным, патрэбна, перадусім, дамагчыся, каб ён стаў аселым, а гэта магчыма, толькі ў тым выпадку калі ён зоймецца земляробствам. Такім чынам, патрэбна было спачатку ператварыць індэйцаў у рольнікаў.

Мала таго, што індэйцы не маюць гэтага падмурку, патрэбнага для цывілізацыі, пры яго стварэнні яны сутыкаюцца з вялізнымі цяжкасьцямі.

Людзі, вядучыя бяздзейнае і поўнае прыгод жыццё паляўнічых, адчуваюць амаль непераадольную агіду да сталай і аднастайнай працы, якой патрабуе земляробства. Гэта можна заўважыць нават у нашым грамадстве, але значна больш гэта выяўляецца ў народаў, для якіх звычка да палявання стала нацыянальным звычаем.

Акрамя гэтай асноўнай нагоды існуе яшчэ адна, не менш важная, дзейнічаючая толькі на індэйцаў. Я ўжо згадваў пра яе, але лічу сваім абавязкам да яе вярнуцца.

Паўночнаамерыканскія індэйцы глядзяць на працу не толькі як на зло, але і як на ганьбу і ў змаганне з цывілізацыяй з аднолькавай зацятасьцю ўступае не толькі лянота, але і гонар[229].

---

[227] Пар., акрамя усяго іншага, вайну, якую вампанаагі і іншыя плямёны, аб'яднаўшыся пад кіраўніцтвам Метакома, вялі супраць асаднікаў Новай Ангельшчыне ў 1675 годзе, а таксама вайну, якую давялося весьці ангельцам у Віргініі ў 1622 годзе.

[228] Гл. розных гісторыкаў із Новай Ангельшчыны, а таксама «Гісторыю Новай Францыі» Шарлевуа і «Павучальныя лісты».

[229] «Ва ўсіх плямёнах, – піша Вальнэ ў сваёй кнізе «Выявы із жыцця Злучаных Штатаў», с. 423, – яшчэ жыве пакаленне старых ваяроў, якія пры выглядзе сваіх суродзічаў, працуючых матыкай, не перастаюць крычаць

У самага вартага жалю індэйца, жывучага ў халупе із кары, захоўваецца высокае ўяўленне пра сваю індывідуальную каштоўнасць. Ён лічыць фізічную працу зневажаючым заняткам і параўноўвае земляроба з быком пракладаючым баразну. У кожнай нашай дзейнасьці ён бачыць рабскую працу. Справа не ў тым, што ён не да канца разумее, якой магутнасьцю валодаюць белыя, ці недаацэньвае веліч іхнага розуму. Аднак, хаця ён і захапляецца вынікамі нашай працы, ён пагарджае сродкі, з дапамогай якіх мы іх дасягаем. Ён адчувае ўплыў нашай магутнасьці, але сябе ставіць усё ж вышэй нас. Паляванне і вайна з'яўляюцца, на яго думку, адзінымі заняткамі, годнымі мужчыны[230]. Такім чынам, індэец, убога жывучы ў глыбіні лясоў, поўны тых жа думак і перакананняў, што і сярэднявечны рыцар, які жыў у сваім умацаваным замку. Калі б індэец быў заваёўнікам, паміж імі не было б ніякага адрознення. Так, згодна з дзіўным збегам абставін, старажытныя еўрапейскія забабоны сустракаюцца не на берагах Новага Сьвету, населеных еўрапейцамі, а ў яго лясах.

На працягу ўсёй маёй кнігі я неаднаразова спрабаваў паказаць, які дзіўны ўплыў робіць, на маю думку, грамадзкае ўладкаванне на законы і норавы людзей. Я дазволю сабе сказаць яшчэ некалькі слоў з гэтай нагоды.

Калі я бачу падабенства паміж палітычнымі ўстановамі нашых прабацькоў германцаў і качавых паўночнаамерыканскіх плямён, паміж звычаямі, апісанымі Тацытам і тымі, якія я часам назіраў уласнымі вачамі, я не магу не прыйсьці да высновы пра тое, што ў Старым і Новым Сьвеце аднолькавыя нагоды мелі наступствам аднолькавыя вынікі. І, нягледзячы на бачную разнастайнасць формаў жыцця і дзейнасьці чалавека, цалкам магчыма адшукаць абмежаваную колькасць асноваўтвараючых з'яваў, вызначаючых існаванне ўсіх астатніх. Таму я схільны бачыць ва ўсім тым, што мы называем германскімі ўстановамі, толькі звычаі варвараў, а ў тым, што мы называем феадальным мысленнем, – перакананні дзікуноў.

Хаця заганы і забабоны і перашкаджаюць паўночнаамерыканскім індэйцам рабіцца земляробамі і далучацца да цывілізаванага жыцця, бываюць выпадкі, калі ў іх няма іншага выйсьця.

Некаторыя шматлікія народы Поўдня, і сярод іх чэрокі і крыкі[231], апынуліся ў асяроддзі еўрапейцаў, якія пасьля высаджвання на ўзбярэжжа спускаліся па Агаё

---

пра разбурэнне старажытных нораваў, лічаць, што памяншэнне колькасьці індэйцаў тлумачыцца толькі гэтымі навінамі і патрэбна толькі вярнуцца да ранейшага ўладкавання жыцця, як да іх вернуцца былая слава і моц».

[230] У адным афіцыйным дакуменце існуе наступнае апісанне: «Да таго часу пакуль юнак не пабываў і сутычцы з ворагам і не можа пахваліцца нейкім адважным учынкам, ён не мае ніякай павагі. Да яго ставяцца прыблізна так жа, як да жанчыны. Падчас вялікіх вайсковых скокаў ваяры адзін за адным выходзяць дакрануцца да слупа, як яны гэта называюць, і распавядаюць пра свае вычыны. Іх слухаюць родныя, сябры і таварышы па зброі. Грунтуючыся на глыбокай цішыні, усталёўваючайся ў такія моманты, і шумных апладысментах, раздаючыхся пасьля апавядання можна зрабіць выснову пра тое, якое глыбокае ўражанне яны выпрацоўваюць. Маладыя людзі, якім няма чаго паведаміць на такіх зборышчах, адчуваюць сябе вельмі няшчаснымі і здараецца, што маладыя ваяры, натхнёныя падобнымі апавяданнямі, раптам пакідаюць месца скокаў і ў адзіночку выпраўляюцца на пошукі трафеяў, якія яны мелі б магчымасць паказаць, і прыгод, якія маглі б іх уславіць».

[231] У наш час гэтыя народы жывуць у штатах Джорджыя, Тэнэсі, Алабама і Місісіпі. Некалі на Поўдні існавала чатыры буйных народы: шактавы, шыказавы, крыкі і чэрокі. Іхныя парэштгкі існуюць і да нашых дзён. У 1830 годзе колькасць гэтых чатырох народаў складала яшчэ 75 тысяч чалавек. У наш час на тэрыторыі, занятай англа-амерыканскім Звязам, а таксама на той, правы на якую ён выказвае, налічваецца каля 300 тысяч індэйцаў. (Гл. Запіскі індэйскай камісіі горада Нью-Ёрка.) У пададзеных кангрэсу афіцыйных дакументах пазначаецца лічба 313130. Калі чытач мае жаданне даведацца пра назвы і колькасць усіх плямён, жывучых

ці падымаліся па Місісіпі і адначасова засялялі тэрыторыі, размешчаныя вакол месцаў жыцця гэтых народаў. Іх не выціскалі з адных месцаў на іншыя, а паступова звужалі іхную жыццёвую прастору да нязначных памераў. Так паляўнічыя спачатку атачаюць малады лес, а потым усе разам паглыбляюцца ў яго. Індэйцы былі пастаўлены перад выбарам: цывілізацыя ці знішчэнне. Яны былі вымушаны пачаць жыць сваёй працай, як белыя, хаця для іх гэта было ганьбай. Так яныператварыліся ў земляробаў і хаця не страцілі цалкам сваіх нораваў і звычаяў, але ахвяравалі нейкай іхнай часткай, таму што гэта было цалкам патрэбна, каб выжыць.

Чэрокі пайшлі яшчэ далей: яны стварылі пісьмовасць і ўсталявалі даволі ўстойлівую форму кіравання. Дзякуючы таму што ў Новым Сьвеце развіццё ідзе імкліва, яны, яшчэ не маючы ўсіх прадметаў адзення, ужо пачалі выдаваць газету[232].

Еўрапейскае ўладкаванне жыцця асабліва хутка пашыралася сярод індэйцаў там, дзе былі метысы[233]. Метыс, які, з аднаго боку, далучаецца да культуры свайго бацькі, а з другога – не губляе сувязі з дзікімі звычаямі народа сваёй маці, спрыяе натуральнаму пераходу ад дзікасьці да цывілізацыі. Паўсюдна, дзе было шмат метысаў, грамадзкае ўладкаванне і норавы тубыльцаў паступова перамяняліся[234].

Такім чынам, прыклад чырокаў даводзіць, што індэйцы здольны стаць цывілізаванымі людзьмі, але ніколькі не даводзіць, што яны ў стане з поспехам рэалізаваць гэтую здольнасць.

На шляху да цывілізаванага жыцця індэйцы непазбежна сустракаюцца з цяжкасьцямі ў падмурку якіх ляжыць адна нагода агульнага характару.

Уважлівае вывучэнне гісторыі паказвае, што неразвітыя народы звычайна дасягалі цывілізацыі паступова, сваімі ўласнымі намаганнямі.

Толькі народам-пераможцам здаралася ўспрымаць культуру пераможаных імі народаў.

Калі напалову дзікі народ пакарае народ асьвечаны, як гэта было пры заваяванні Рымскай імперыі паўночнымі народамі ці Кітая манголамі, то дзякуючы

---

на амерыканскай тэрыторыі, ён можа скарыстацца пазначанымі мной дакументамі (Заканадаўчыя дакументы, 20-ы кангрэс, № 117, с. 90-105).

[232] Я прывёз у Францыю некалькі асобнікаў гэтага незвычайнага выдання.

[233] У справаздачы камітэта па справах індэйцаў, 21-ы кангрэс, № 227, с. 23, пералічаны нагоды, згодна з якімі сярод чырокаў было шмат метысаў. Асноўная нагода гэтага ўзнікла ў часы Вайны за незалежнасць. Шмат хто із амерыканцаў са штата Джорджыя, ваяваўшыя на боку Ангельшчыны, пазьней былі вымушаны пайсьці да індэйцаў і абзавяліся там сем’ямі.

[234] На жаль, у Паўночнай Амерыцы метысаў было менш, чым у іншых месцах, і іхны уплыў быў неістотным. Гэтая частка Амерыканскага кантынента была заселена прадстаўнікамі двух вялікіх еўрапейскіх народаў: французскага і ангельскага. Французы не замарудзілі пачаць стасункі з індыянкамі, аднак, да вялікага няшчасьця, паміж іх характарам і характарам індэйцаў выявілася нетлумачымая блізкасць. Замест таго каб перадаць тубыльцам густ да цывілізаванага жыцця і яго звычаяў, яны нярэдка самі безаглядна пераходзілі да дзікага жыцця. У выніку яны зрабіліся самымі небяспечнымі жыхарамі пустэльні, а сяброўства з індэйцамі заваявалі, давёўшы да крайнасьці ўласьцівыя тубыльцам заганы і ўчыннасьці. У 1685 годзе губернатар Канады спадар дэ Сенанвіль пісаў Людовіку XIV: «Мы працяглы час лічылі, што неабходна зблізіцца з дзікунамі для таго, каб далучыць іх да французскай культуры. Аднак патрэбна прызнаць, што гэта было памылкай. Індэйцы, зблізіўшыяся з намі, ніколькі не падобны на французаў, а французы, меўшыя стасункі з імі, ператварыліся ў дзікуноў: яны выстаўляюць напаказ сваё індэйскае адзенне і дзікае ўладкаванне жыцця» (Шарлевуа, Гісторыя Новай Францыі, т. II. с. 345). Ангельцы, наадварот, зацята захоўвалі перакананні, звычаі і нават самыя нязначныя асабістасьці сваіх бацькаў. У амерыканскай пустэльні яны заставаліся такімі ж, якімі былі ў еўрапейскіх гарадах. Таму яны не жадалі мець нічога агульнага з тубыльцамі, якімі пагарджалі і ўсімі сродкамі перашкаджалі ўзнікненню перамяшаных сем’яў. Такім чынам, французы не рабілі на індэйцаў ніякага станоўчага ўплыву, а ангельцы заўсёды былі для іх чужымі.

сваёй магутнасьці пераможцаў, варвары становяцца на адзін узровень з цывілізаваным чалавекам і адчуваюць сябе роўнымі яму. Толькі пазьней яны робяцца яго супернікамі. Варвары валодаюць магутнасьцю, а цывілізаваныя народы – распрацаванай культурай[235]. Першыя захапляюцца навукамі і мастацтвамі пераможаных, другія зайздросцяць магутнасьці пераможцаў. На заканчэнні, варвары пускаюць культурных людзей у свае палацы, а тыя ў сваю чаргу пускаюць іх у свае школы. Але калі народ-пераможац размяшчае як матэрыяльнай магутнасьцю так і духоўнай перавагай, пераможаным рэдка атрымліваецца ступіць на шлях цывілізаванага развіцця: яны сыходзяць ці гінуць.

Так, увогуле, можна сказаць, што індэйцы вядуць узброенае змаганне за культуру, але не здольны яе заваяваць.

Калі б індэйскія плямёны, жывучыя зараз у цэнтры кантынента, здолелі знайсьці ў сабе неабходныя здольнасьці для таго, каб ступіць на шлях цывілізаванага развіцця, у іх, магчыма, гэта б яшчэ атрымалася. Апярэдзіўшы адпаведна са станам свайго развіцця атачаючыя іх дзікія народы, яны здолелі б пастушова назапасіць магутнасць і досьвед, і тады пры з'яваўленні на іхнай мяжы еўрапейцаў яны здолелі б калі не захаваць незалежнасць, то хаця б дамагчыся прызнання сваіх правоў на зямлю і зліцца з пераможцамі. Але, да свайго няшчасьця, індэйцы судатыкаюцца з самым развітым і, я б сказаў, самым прагным народам зямнога шара, знаходзячыся яшчэ ў напалову дзікім стане. Іхныя настаўнікі робяцца іхнымі гаспадарамі і прыносяць ім не толькі культуру, але і прыгнёт.

На лясных абшарах Паўночнай Амерыкі індэйцы жылі ўбога, але не адчувалі сваёй непаўнавартасьці. Калі ж у іх узнікае жаданне стаць сябрамі грамадства белых людзей, яны могуць заняць у ім толькі самую нізкую прыступку. Яны ж далучаюцца да грамадства, дзе пануюць веды і багацце, невуцкімі і немаёмаснымі. Пасьля неспакойнага жыцця, поўнага цяжкасьцей і небяспек, але таксама глыбокіх перажыванняў і велічы[236], ім даводзіцца прызвычаіцца да аднастайнага, змрочнага і

[235] Заўвага перакладчыка. На працягу апошніх 500-600 гадоў больш менш праўдзівай гісторыі падобных выпадкаў не было, з чым згодзен і аўтар. Ды і грунтуючыся на тэарэтычных разважаннях як можна лічыць, што менш адукаваны, больш дзікі і менш арганізаваны народ у стане перамагчы больш развіты, адукаваны і тэхнічна ўзброены. Яшчэ можна палічыць, што нейкі суседні народ, запазычыўшы дасягненні свайго суседа і распрацаваўшы іх, стаў такім жа адукаваным і тэхнічна ўзброеным, як і суседні і перамог яго. Але ў такім выпадку немагчыма сцвярджаць, што ён больш дзікі. З боку гледжання здаровага сэнсу мабыць больш разумна пагадзіцца з Марозавым, што старажытны Рым, Кітай, Індыя і г. д. некім прыдуманы ў свой дзеля падмацавання нейкіх сваіх палітычных мэтаў. Магутнасць жа якраз і з'яўляецца вынікам распрацаванай культуры, а не існуюць паасобку.

[236] У поўным выпадковасьцей жыцці паляўнічых народаў існуе нейкая непераадольваемая прывабная магутнасць, авалодваючая душой чалавека і клічучая яго за сабой насуперак яго розуму і досьведу. У гэтым можна пераканацца, прачытаўшы «Успаміны» Тэнера. Тэнер – еўрапеец, які ў шасьцігадовым узросьце быў выкрадзены індэйцамі і жыў з імі ў лясах на працягу трыццаці гадоў. Няма нічога больш жахлівага, чым пакуты, якія ён апісвае. Ён распавядае пра плямёны, не маючыя правадыроў, пра сем'і, не маючыя супляменнікаў, пра людзей жывучых у адзіноце, – словам, пра вартыя жалю парэшткі магутных плямён, якія без якой бы то ні было мэты блукаюць па пустэльных снежных абшарам Канады. Іх пераследуюць голад і холад, кожны дзень пагражаючы ім сьмерцю. Норавы і традыцыі страцілі над імі ранейшы ўплыў і ўладу, і яны ўсе больш дзічэюць. Тэнер дзяліў з імі ўсе іхныя выпрабаванні; ён ведаў пра сваё еўрапейскае паходжанне, ніхто не трымаў яго гвалтоўна ў далечыні ад белых. Наадварот, кожны год ён прыходзіў гандляваць з імі, бываў у іхных сядзібах, бачыў іхны дастатак. Ён ведаў, што калі калі-небудзь пажадае вярнуцца да цывілізаванага жыцця, то лёгка зможа гэта зрабіць. І, і ўсё ж, трыццаць гадоў ён пражыў у пустэльні. Вярнуўшыся, нарэшце, у цывілізаванае грамадства, ён прызнаваўся, што апісанае ім поўнае няшчасьцяў жыццё мае для яго не тлумачымае таемнае хараство. Ужо парваўшы з ім, ён увесь час да яго вяртаецца і з вялікім шкадаваннем развітваецца з яго нягодамі. Калі ж ён канчаткова пасяліўся сярод белых,

зневажаючага існаванню. Ганебнае становішча ў грамадстве і цяжкая праца дзеля кавалка хлеба – вось тое адзінае, што дае індэйцам цывілізацыя, якую ім так нахвальваюць.

Але нават і гэтага яны не заўсёды ў стане дамагчыся.

Калі індэйцы пачынаюць згодна з прыкладам еўрапейцаў апрацоўваць зямлю, яны адразу ж уступаюць у губячую іх канкурэнцыю. Беламу чалавеку вядомы сакрэты земляробства. Індэец жа прыступае да гэтага незнаёмага яму занятку, не валодаючы ніякім майстэрствам. Еўрапеец без цяжкасьцей вырошчвае вялікі ўраджай, тады як індэец выдаткуе вялізныя намаганні для таго, каб атрымаць хаця б нешта.

Еўрапеец жыве сярод людзей, патрэбы якіх яму з’яўляюцца вядомымі і блізкімі.

Індэец апынаецца адзін сярод варожага яму народа. Ён дрэнна ведае яго норавы, мову і законы і ў той жа час не здольны без яго абыйсьціся. Забяспечыць жа сабе дастатак ён можа, толькі абменьваючы вынікі сваёй працы на тавары белых, таму што яго супляменнікі не ў стане істотна яму дапамчы.

Такім чынам, калі індэец мае жаданне прадаць выраблены ім прадукты, ён не заўсёды ўмее знайсьці пакупніка, тады як земляроб еўрапейскага паходжання знаходзіць яго без цяжкасьцей. Індэец вырабляе прадукцыю коштам вялізных выдаткаў, еўрапеец жа прадае сваю па нізкаму кошту.

Такім чынам, пазбавіўшыся ад бед, падпільноўваючых нецывілізаваныя народы, індэец трапляе пад прыгнёт няшчасьцяў, знаёмых культурным народам. Яму так жа цяжка жыць сярод нашага багацця, як і ў сваіх лясах.

Акрамя таго, яго звычкі, злучаныя з качавым жыццём, яшчэ не зніклі, традыцыі не страцілі над ім сваю ўладу, а густ да палявання не загас. У яго разгубленым уяўленні ўзнікаюць усё больш яскравыя выявы дзікіх радасьцей, якія ён некалі адчуваў у лясах. Наадварот, выпрабаванні і небяспекі, з якімі ён там сутыкаўся, здаюцца яму ўсё менш жахлівымі і значнымі. Незалежнасць, якой ён валодаў, жывучы пасярод роўных сабе людзей, выгадна адрозніваецца ад яго прымусовага стану ў цывілізаваным грамадстве.

Разам з тым, глухмень, дзе ён так доўга жыў вольным, вельмі недалёка, ён можа дасягнуць яе за некалькі гадзін хады. А яго белыя суседзі прапануюць высокі, на яго думку, кошт за напалову апрацаванае поле, якое ледзь яго корміць. Магчыма, дзякуючы гэтым грашам, якія яму абяцаюць еўрапейцы, ён зможа спакойна і шчасліва жыць удалечыні ад іх. І ён кідае свой плуг, бярэ зброю і назаўсёды вяртаецца ў пустыню[237].

---

то шмат хто із яго дзяцей не пажадалі падзяліць яго спакойнае і заможнае жыццё. Я сам сустракаў Тэнера ва ўтоцы возера Верхняе. Мне здалося, што ён больш падобны на дзікуна, чым на цывілізаванага чалавека. Кніга Тэнера не адрозніваецца ні паслядоўнасьцю, ні густам, аднак аўтар мімаволі дае ў ёй яскравую выяву забабонаў, жарсьцяў, заган і асабліва цяжкасьцей тых людзей, сярод якіх ён жыў. Віконт Эрнэст дэ Бласвіль, аўтар выдатнай працы пра ангельскія асады, куды высылаюць крымінальных злачынцаў, пераклаў «Успаміны» Тэнера. Спадар дэ Бласвіль дапоўніў свой пераклад вельмі цікавымі нататкамі, дазваляючымі чытачу параўнаць факты апісаныя Тэнерам, з тымі, пра якія распавядаюць шмат хто із назіраўшых мінулае і сапраўднае. Той, хто мае жаданне пазнаёміцца з сучасным станам індэйскай расы і ўявіць сабе яе будучыню, павінен звярнуцца да працы спадара дэ Бласвіля.

[237] Разбураючы ўплыў высокаразвітых народаў на менш развітыя можна заўважыць і сярод еўрапейцаў. Каля стагоддзя таму назад французы заснавалі ў лясной глухмені, на рацэ Уобаш, горад Венсенн. Яны жылі там у дастатку да з’яўлення амерыканскіх эмігрантаў. Гэтыя апошнія ўступілі ў канкурэнцыю са старажыламі і адразу ж пачалі іх спусташаць; на заканчэнні, яны вельмі танна пакуплялі землі французаў. У той момант, калі спадар дэ Вальнэ, ад якога я атрымаў гэтыя сведчанні, праязджаў праз

Назіраючы за жыццём крыкаў і чырокаў, пра якіх я згадваў, можна пераканацца ў праўдзівасьці гэтага сумнага відовішча.

Хаця гэтыя індэйцы і не так шмат зрабілі, яны, безумоўна, выявілі не менш таленту, чым еўрапейскія народы ў самых сваіх велічных распачынаннях. Аднак народам, як і асобным людзям, каб вучыцца, недастаткова розуму і намаганняў, ім яшчэ патрэбен час.

Калі да падобных вынікаў прыводзяць некаторыя, параўнальна малапрыкметныя, адрозненні ва ўзроўні развіцця еўрапейскіх народаў, то лёгка сабе ўявіць, што павінна адбыцца пры сустрэчы самага развітага еўрапейскага народа з прымітыўнымі індэйскімі плямёнамі.

Пакуль гэтыя тубыльцы рабілі ўсё для таго, каб далучыцца да цывілізацыі, еўрапейцы працягвалі атачаць іх з усіх бакоў, усё больш і больш абмяжоўваючы іхную жыццёвую прастору. Зараз абедзьве расы, нарэшце, сустрэліся, яны стасуюцца. Вядома, зараз індэйцы стаяць значна вышэй, чым іхныя бацькі-дзікуны, але ім яшчэ вельмі далёка да іхных белых суседзяў. Еўрапейцы дзякуючы багаццю і ведам адразу ж апынуліся ў значна больш выгадным становішчы, чым індэйцы: яны завалодалі зямлёй. Белыя сяліліся сярод індэйцаў, захоплівалі зямлю ці куплялі яе за вельмі нязначныя грошы, даводзілі індэйцаў да галечы, уступаючы з імі ў канкурэнцыю, якую тыя, вядома, не былі здольнымі вытрымаць. Індэйцы апынуліся ў ізаляцыі ў сваёй уласнай краіне, ператварыліся ў невялікую асаду неспакойных замежнікаў сярод шматлікага і пераважаючага іх народа[238].

Вашынгтон пісаў у адным са сваіх лістоў кангрэсу: «Мы больш асьвечаныя і больш магутныя, чым індэйскія народы, і павінны лічыць справай свайго гонару добрае і нават велікадушнае стаўленне да іх».

Але такая шляхетная і ўчынная палітыка ніколі не праводзілася ў жыццё. Да прагнасьці асаднікаў дадаецца звычайна яшчэ і тыранія ўрада. Нягледзячы на тое што чэрокі і крыкі жывуць на сваіх спрадвечных землях, якімі яны валодалі яшчэ

---

Венсенн, там заставалася ўсяго каля ста французаў, пры гэтым вялікая частка мела намер з’ехаць у Луізіяну ці ў Канаду. Гэта былі сумленныя людзі, але ім не хапала ведаў і кемлівасьці; яны засвоілі некаторыя звычаі індэйцаў. Амерыканцы, магчыма, саступалі ім у маральным дачыненні, але былі значна вышэй інтэлектуальна: яны былі вынаходлівыя, адукаваныя, заможныя, умелі весці свае справы. Я сам пераканаўся ў тым, што ў Канадзе, дзе адрозненні паміж двума народамі не такія відавочныя, у гандлі і прамысловасьці пераважаюць не канадцы, а ангельцы. Я бачыў, як яны пракрадаюцца ва ўсе канцы краіны, пакідаючы французам усё менш і менш прасторы. У Луізіяне амаль уся гандлёвая і прамысловая дзейнасць таксама засяроджана ў руках амерыканцаў ангельскага паходжання. У правінцыі Тэхас адбываюцца яшчэ больш дзіўныя рэчы: як вядома, штат Тэхас уваходзіць у склад Мексікі, гэта тэрыторыя мяжуючая са Злучанымі Штатамі. Вось ужо некалькі гадоў амерыканцы ангельскага паходжання паасобку перасяляюцца ў гэтую, пакуль яшчэ пустэльную, правінцыю. Яны скупляюць землі і прамысловыя прадпрыемствы і хутка выціскаюць мясцовае насельніцтва. Можна прадбачыць, што калі Мексіка спешна не зробіць ніякіх захадаў, каб спыніць гэты рух, то хутка страціць Тэхас.

[238] Гл. у Заканадаўчых дакументах, 21-ага кангрэса, № 89, паведамленні пра розныя бясчынствы, здзяйсняемыя белымі на індэйскай тэрыторыі. То амерыканцы ангельскага паходжання засяляюць частку гэтай тэрыторыі і войску кангрэса даводзіцца іх высяляць, то яны зганяюць быдла, паляць сядзібы, знішчаюць пасевы індэйцаў ці здзяйсняюць над імі акты гвалту. Усе гэтыя дакументы даводзяць, што індэйцы штодня робяцца ахвярамі злоўжывання магутнасьцю. Звычайна Звяз накіроўвае да індэйцаў агента, якому надаецца ў абавязак прадстаўляць іх ва ўстановах улады. Сярод дакументаў, якія я памяшчаю, існуе справаздача агента племені чырокаў, які амаль заўсёды піша пра тубыльцаў са спагадай. «Уварванне белых на тэрыторыю чырокаў, – кажа ён, – будзе мець наступствам знішчэнне тых, хто яе насяляе і вядзе беднае і спакойнае існаванне» (с. 12). Далей мы знаходзім сведчанне пра тое, што штат Джорджыя праводзіць усталяванне межавых знакаў дзеля памяншэння тэрыторыі племені чырокаў. Федэральны агент заўважае, што, дзякуючы таму што ўсталяванне межавых знакаў была праведзена аднымі белымі, без прысутнасьці індэйцаў, мяжа не мае магутнасьці закона.

да прыходу еўрапейцаў, а таксама на тое, што амерыканцы не раз заключалі з імі дамовы як з замежнымі народамі, штаты, на тэрыторыі якіх яны апынуліся, не пажадалі прызнаць іхную незалежнасць. Яны задумалі падначаліць гэтых ледзь выйшаўшых із лясоў людзей сваім суддзям, звычаям і законам[239]. Няшчасныя індэйцы імкнуцца да цывілізаванага жыцця, каб вызваліцца ад галечы, але ўціскі штурхаюць іх назад да варварства. Шмат хто із іх кідаюць свае напалову апрацаваныя палеткі і вяртаюцца да дзікага ўладкавання жыцця.

Уважліва пазнаёміўшыся з драконаўскімі захадамі заканадаўцаў паўднёвых штатаў, з парадкам дзеянняў іхных урадаўцаў і рашэннямі судоў, лёгка пераканацца ў тым, што мэтай усіх гэтых пагодненых намаганняў з’яўляецца канчатковае выгнанне індэйцаў. У гэтай частцы Звязу амерыканцы з зайздрасьцю глядзяць на землі, якімі валодаюць індэйцы[240]. Яны адчуваюць, што індэйцы яшчэ ў значнай ступені захоўваюць звычкі нецывілізаванага ўладкавання жыцця, і маюць намер давесьці іх да роспачы і прымусіць сысьці, перш чым у іх трывала замацуецца звычка да аседлага, цывілізаванага жыцця.

Каб знайсьці абарону ад уціскаў асобных штатаў, крыкі і чэрокі звярнуліся да федэральнага ўрада, якому былі не абыякавымі іхныя беды. Ён шчыра жадаў выратаваць яшчэ існуючых індэйцаў, даўшы ім магчымасць вольна распараджацца той тэрыторыяй, валоданне якой ён сам ім гарантаваў[241]. Аднак яго намер выканаць гэтую задуму сустракаецца з бязлітасным супрацівам асобных штатаў. І, урэшце, каб не ставіць у небяспечнае становішча амерыканскі Звяз, федэральны ўрад пагаджаецца са знішчэннем некалькіх ужо напалову вынішчаных дзікіх плямён.

Аднак хаця ён і не здольны абараніць індэйцаў, ён жадаў бы палегчыць іхны лёс. Таму ён задумаў перасяліць іх за кошт дзяржаўнага скарба ў іншыя месцы.

Паміж 33 і 37 градусамі паўночнай шыраты распасьціраецца шырокая мясцовасць, маючая назву Арканзас, так жа як і самая вялікая рэчка, бягучая па ёй. З аднаго боку яна мяжуе з Мексікай, з другога мяжа праходзіць па берагу Місісіпі. Гэтая мясцовасць мае шмат ручаёў і рэчак, там мяккі клімат і ўрадлівая глеба. Насяляюць яе толькі некалькі індэйскіх качавых плямён. Урад Звязу мае намер перасяліць рэшткі індэйскага насельніцтва Поўдня краіны ў тую частку гэтай мясцовасьці, якая суседнічае з Мексікай, далей ад паселішчаў амерыканцаў.

На прыканцы 1831 года нас запэўнівалі, што на берагі Арканзаса пераселена дзесяць тысяч індэйцаў і перасяленне працягваецца. Але кангрэс яшчэ не здолеў пераканаць усіх індэйцаў, лёс якіх ён мае намер уладкаваць, у патрэбе перасялення. Адны з радасьцю пагаджаюцца з’ехаць далей ад тыраніі еўрапейцаў. Аднак найбольш асьвечаныя індэйцы адмаўляюцца пакідаць пасяваючы ўраджай і сваё

---

[239] У 1829 годзе штат Алабама падзяліў тэрыторыю племені крыкаў на акругі і аддаў суддзям-еўрапейцам права судзіць індэйцаў. У 1830 годзе штат Місісіпі пашырыў дзеянне сваіх законаў на індэйцаў шактаваў і чыхаса. Было заяўлена, што індэйцы, абвясьціўшыя сябе правадырамі, будуць прысуджаны да выплаты штрафу роўнага тысячы далярам і да гадавога турэмнага зняволення. Калі штат Місісіпі таксама падначаліў сваім законам шактаваў, жыўшых на яго тэрыторыі, яны сабраліся і іхны правадыр паведаміў ім пра патрабаванні белых. Ён прачытаў ім некаторыя законы, якім яны з гэтага часу павінны былі падначальвацца. Тубыльцы ў адзін голас заявілі, што яны аддаюць перавагу зноў пайсьці ў глухмень (Дакументы штата Місісіпі.)

[240] У Джорджыі, жыхароў якой так прыціскаюць індэйцы, шчыльнасць насельніцтва складае не больш за сем чалавек на квадратную мілю. У Францыі на такой жа прасторы жыве 162 чалавекі.

[241] У 1818 годзе адпаведна з загадам кангрэса ў Арканзасе пабывалі амерыканскія камісары разам з прадстаўнікамі крыкаў, чырокаў і чіхаса. На чале экспедыцыі былі спадары Кенерлі, Мак-Коў, Уош Гуд і Джон Бэл. Гл. розныя справаздачы камісараў і іхныя дзёнікі ў дакументах кангрэса, № 87, палата прадстаўнікоў.

новае жыллё. Яны лічаць што, калі працэс цывілізацыі будзе перапынены, яго немагчыма будзе аднавіць, і асьцерагаюцца, што яшчэ не замацаваўшыяся звычкі да аседлага жыцця будуць беззваротна згублены ў дзікай краіне, дзе земляробчаму народу патрэбна будзе ўсё пачынаць нанова. Ведаючы, што ў гэтай глухмені яны сустрэнуць варожыя плямёны, з якімі ім давядзецца ўступіць у змаганне, яны ў той жа час разумеюць, што ўжо страцілі энергію дзікуноў, але яшчэ не набылі магутнасьці цывілізаваных людзей. Акрамя таго, індэйцы добра ўсьведамляюць, што прапанаванае ім перасяленне – гэта не што іншае, як часовы захад. Хто зможа запэўніць іх у тым, што на новай тэрыторыі іх, нарэшце, пакінуць у спакоі? Злучаныя Штаты бяруць на сябе такі абавязак. Але хіба некалі ім не гарантавалі ў самых узнёслых выказваннях права на іхныя сучасныя тэрыторыі?[242] Праўда, у наш час амерыканскі ўрад не забірае ў іх зямлю, але ён і не перашкаджае ўварванню на яе белых. Пройдзе некалькі гадоў і тое ж самае белае насельніцтва, ціснучае на індэйцаў зараз, без сумневаў, нагоніць іх у арканзаскай глухмені. Яны зноў сутыкнуцца з тымі ж праблемамі, але магчымасьці іх вырашэння ўжо будуць вычарпаны. І таму што рана ці позна яны пазбавяцца сваіх земляў, ім застаецца толькі пакорліва пагадзіцца са сваім знішчэннем.

Федэральны ўрад праводзіць у дачыненні да індэйцаў менш карыслівую і менш цьвёрдую палітыку, чым урады штатаў, але ўсе яны паводзяць сябе недастаткова сумленна.

Штаты пашыраюць так званы станоўчы ўплыў сваіх законаў на індэйцаў у разліку на тое, што індэйцы аддадуць перавагу сыходу, каб не падначальвацца ім. Цэнтральны ўрад абяцае гэтым няшчасным сталае прыстанішча на Захадзе краіны, хаця і ведае, што ён не ў стане ім яго гарантаваць[243].

Такім чынам, самаволя штатаў вымушае індэйцаў да збягання, якое робіцца магчымым дзякуючы абяцанням і матэрыяльнай дапамозе цэнтральнага ўрада. захады распачынаюцца розныя, але маюць агульную мэту[244].

---

[242] У дамове, заключанай у 1790 годзе з крыкамі, існуе наступны артыкул: «Злучаныя Штаты ўрачыста гарантуюць народу крыкаў права на ўсе належачыя яму на тэрыторыі Звязу землі». У дамове, заключанай у ліпені 1791 года з чырокамі, ёсць наступны артыкул: «Злучаныя Штаты ўрачыста гарантуюць народу чырокаў права на ўсе землі, валоданне якімі ён не саступіў раней. Злучаныя Штаты заяўляюць, што ў выпадку калі нейкі грамадзянін Злучаных Штатаў ці нейкі чалавек, не з’яўляючыся індэйцам, паселіцца на тэрыторыі чырокаў, то яны пазбавяць гэтага грамадзяніна сваёй абароны і выдадуць яго народу чырокаў для таго, каб ён пакараў яго адпаведна са сваім меркаваннем». Арт. 8.)

[243] І ўсё ж яно ім гэта цвёрда абяцае. Гл. ліст прэзідэнта да крыкаў ад 23 сакавіка 1829 года (Запіскі індэйскай камісіі горада Нью-Ёрка, с. 5): «За вялікай ракой (Місісіпі) ваш Заступнік прыгатаваў для вас вялікую краіну. Там вашы белыя браты не будуць вас турбаваць, у іх не будзе ніякіх правоў на вашу зямлю; вы і вашы дзеці зможаце жыць там у міры і багацці да таго часу, пакуль расьце трава і цякуць ручаі. Гэтыя землі будуць належаць вам заўсёды». У лісьце ад 18 красавіка 1829 года, адрасаваным чырокам, сакратар вайсковага дэпартамента піша, што яны не павінны цешыць сябе надзеяй захаваць пад сваім валоданнем тэрыторыі, на якіх яны жывуць у наш час. Аднак ён запэўнівае іх, што землі за Місісіпі, калі яны пагадзяцца туды пайсьці, застануцца ў іхным валоданні (Там жа, с. 6). Але калі зараз у яго няма ўлады для таго, каб гарантаваць правы індэйцаў, то адкуль яна ў яго з’явіцца ў будучыні?

[244] Каб скласьці сабе выразнае ўяўленне пра палітыку асобных штатаў і федэральнага ўрада ў дачыненні да індэйцаў, патрэбна звярнуцца да наступных дакументаў: 1) законы асобных штатаў, маючыя дачыненне да індэйцаў (збор гэтых законаў можна знайсьці сярод заканадаўчых дакументаў, 21-ы кангрэс, № 319); 2) федэральныя законы па гэтаму ж пытанню, у прыватнасьці закон ад 30 сакавіка 1802 года (гэтыя законы прыведзены ў кнізе спадара Сторы «Законы Злучаных Штатаў»); 3) нарэшце, каб азнаёміцца з выявай сучасных дачыненняў Звязу з усімі індэйскімі плямёнамі, гл. справаздачу дзяржаўнага сакратара па вайсковых справах спадара Каса ад 29 лістапада 1823 года.

«*Адпаведна з воляй нашага нябеснага Бацькі, кіруючага сусьветам*, – пісалі чэрокі ў петыцыі конгрэсу[245] *– раса чырванаскурых людзей у Амерыцы стала малалікай; раса белых людзей стала шматлікай і ўсевядомай.*

*Калі вашы продкі прыплылі да нашых берагоў, чырвонаскурыя былі моцнымі і, нягледзячы на сваё невуцтва і дзікасць, яны сустрэлі іх дабром і дазволілі ім ступіць зацёкшымі нагамі на цьвёрдую зямлю. Нашы і вашы бацькі падалі адзін аднаму рукі ў знак сяброўства і жылі ў міры.*

*Чаго б ні прасілі белыя людзі для задавальнення сваіх патрэб, індэйцы ахвотна ўсё ім давалі. Тады індэйцы былі гаспадарамі, а белыя людзі – прашэльнікамі. Сёння становішча перамянілася: магутнасць чырвонаскурага чалавека ператварылася ў слабасць. Па меры таго як колькасць яго суседзяў павялічвалася, яго ўлада ўвесь час памяншалася. У наш час са стольскіх магутных плямён, насяляючых зямлю, якую вы называеце Злучанымі Штатамі, засталося толькі некалькі, пазбегшых агульнага знішчэння. Паўночныя плямёны, так вядомыя сярод нас сваёй магутнасьцю, ужо амаль зніклі. Такім быў лёс чырвонаскурых у Амерыцы.*

*Няўжо і мы, апошнія прадстаўнікі сваёй расы, не здолеем пазбегнуць знішчэння?*

*У спрадвечныя часы наш агульны нябесны Бацька даў нашым продкам зямлю, на якой мы жывём; яны перадалі яе нам па спадчыне. Мы паважна захоўвалі яе, таму што ў ёй спачываюць парэшткі нашых продкаў. Хіба мы калі-небудзь саступілі гэтую спадчыну ці страцілі яе? Дазвольце пакорліва запытаць у вас, што можа лепш падмацаваць права народа на яго краіну, чым факт спадкаемства і вечнага валодання. Мы ведаем, што сёння штат Джорджыя і прэзідэнт Злучаных Штатаў лічаць, што мы страцілі гэтае права. Але гэта цверджанне здаецца нам беспадстаўным. Калі мы яго страцілі? Хіба мы здзейснілі нейкае злачынства, якое магло б пазбавіць нас радзімы? Магчыма, наша правіна складаецца ў тым, што падчас Вайны за незалежнасць мы ваявалі пад сьцягам караля Вялікабрытаніі? Калі наша злачынства складаецца ў гэтым, то чаму ужо ў першай дамове, заключанай адразу пасьля вайны, вы не заявілі пра тое, што мы страцілі права ўласнасьці на сваю зямлю? Чаму вы не ўключылі ў гэтую дамову наступны артыкул: Злучаныя Штаты згодны заключыць мір з народам чырокаў, але заяўляюць, што ў якасьці пакарання за іхны ўдзел у вайне іх пачынаючы з гэтага часу будуць разглядаць толькі ў якасьці арандатараў, абавязаных вызваліць зямлю ў выпадку, калі суседнія штаты запатрабуюць гэтага? Пра гэта патрэбна было заявіць у той момант, але тады гэта нікому не прыйшло ў галаву, ды і нашы бацькі ніколі б не пагадзіліся заключыць дамову, якая мела б наступствам страту імі сваіх самых святых правоў і пазбавіць іх сваёй краіны».*

Так выказваюцца індэйцы і яны паведамляюць праўду. Іх здагадкі, як мне здаецца, непазбежна ажыццяўяцца.

З якога б боку мы ні разглядалі лёс паўночнаамерыканскіх абарыгенаў, мы паўсюдна сустрэнем невырашальныя праблемы: калі яны вядуць дзікі стан жыцця, белыя, перасоўваючыся наперад, гоняць іх усё далей; калі яны жадаюць далучыцца да цывілізацыі, стасункі з людзьмі больш высокага узроўню культуры маюць наступствам для іх прыгнёт і галечу. Ці вядуць яны качавое жыццё ў пустыні, ці пераходзяць да аседлага жыцця – усё адно іх чакае знішчэнне. Толькі еўрапейцы здольны прынесьці ім квітненне, але збліжэнне з еўрапейцамі разбэшчвае іх і адкідае да варварства. Пакуль яны жывуць у глухмені, яны не жадаюць перамяняць свае звычаі. Калі ж пад ціскам акалічнасьцей у іх з’яўляецца такое жаданне, то выяўляецца, што час упушчаны.

Гішпанцы цкуюць індэйцаў сабакамі, як дзікіх звяроў, яны бязлітасна і безсаромна рабуюць Новы Сьвет, нібы горад, узяты прыступам. Але ўсё разбурыць

[245] 19 лістапада 1829 года. Прыводзіцца літаральны пераклад урыўка.

немагчыма, у лютасьці ж таксама існуюць межы, і, на прыканцы, парэшткі індэйскага насельніцтва, пазбегшыя знішчэння, перамешваюцца з пераможцамі, далучаюцца да іхнай рэлігіі, засвойваюць іхныя норавы[246].

У Злучаных Штатах стаўленне амерыканцаў у дачыненні да тубыльцаў прасякнута самай глыбокай павагай да выканання формаў і законнасьці. Яны ні ў якім разе не бяруць удзел у справах індэйцаў, калі тыя вядуць дзікі лад жыцця, і ставяцца да іх як да незалежных народаў. Яны не дазваляюць сабе захопліваць іхныя землі, не заключыўшы належным чынам дамову пра іхнае набыццё. І калі здараецца так, што індэйцы не могуць больш жыць на сваёй тэрыторыі, яны працягваюць ім братэрскую руку дапамогі і асабіста выпраўляюць іх паміраць далей ад краіны іхных продкаў.

Гішпанцы, практыкаваўшыя не маючыя прыкладаў зверствы, пакрыўшыя сябе нязмываемай ганьбай, не здолелі ні вынішчыць індэйцаў, ні перашкодзіць ім стаць раўнапраўнымі грамадзянамі. Амерыканцы ў Злучаных Штатах здолелі зрабіць як тое, так і іншае з дзіўнай лёгкасьцю, спакойна, законным і чалавекалюбным шляхам. Яны не разлівалі кроў і не парушылі ў вачах сьвету ніводнага вялікага прынцыпу маралі[247]. Немагчыма ўявіць сабе больш поўнага выканання ўсіх патрабаванняў гуманнасьці пры вынішчэнні людзей.

## Месца чорнай расы ў Злучаных Штатах[248]; чым яе наяўнасць пагражае белым

–Чаму скасаванне рабства і знішчэнне яго наступстваў уяўляе больш цяжкасьцей у сучасным сьвеце, чым у старажытнасьці. –У Злучаных Штатах па меры знішчэння рабства павялічваецца прадузятасць белых у дачыненні да чарнаскурых. –Становішча неграў у паўночных і паўднёвых штатах. –Дзякуючы якой нагодзе амерыканцы імкнуцца да скасавання рабства. –Рабскае становішча, атупляючы раба, вядзе ў той жа час да дэградацыі гаспадара. –Адрозненні ў развіцці правага і левага берагоў Агаё. –Чым яны тлумачацца. –Людзі чорнай расы засяроджваюцца на Поўдні, дзе галоўным чынам захоўваецца рабства. – Чаму гэта адбываецца. –Факты, перашкаджаючыя скасаванню

---

[246] Дарэчы, у дадзенай выпадку не варта прыпісваць усе заслугі гішпанцам. Калі б індэйскія плямёны не вялі аседла ўладкаванага жыцця і не займаліся земляробствам яшчэ да прыходу еўрапейцаў, то і ў Паўднёвай Амерыцы яны былі б дакладна так жа знішчаны, як і ў Паўночнай.

[247] Гл. сярод іншых дакументаў справаздачу спадара Бэла камітэту па справах індэйцаў ад 24 лютага 1830 года, у якой вельмі лагічна абгрунтоўваецца (с. 5) і з вялікай вучонасьцю даводзіцца, што «the fundamental principle, that the Indians had no right by virtue of their ancient possession either of soil, or sovereignty, has never bein abandoned expressly or by implication». Што азначае «даўнасць валодання не дае індэйцам права ні на ўласнасць, ні на суверэнітэт – вось асноўны прынцып, ад якога мы не адыходзілі ні ў нашых заявах, ні ў нашых справах». Чытаючы гэты па-майстэрску складзены дакумент, здзіўляешся той лёгкасьці і натуральнасьці з якімі аўтар з першых жа радкоў адкідае аргументы, заснаваныя на натуральным праве і на цьвярозым розуме, называючы іх абстрактнымі і тэарэтычнымі прынцыпамі. Чым больш я думаю, тым больш пераконваюся ў тым, што адзінае адрозненне цывілізаванага і нецывілізаванага чалавека ў іхным стаўленні да справядлівасьці складаецца ў наступным: першы аспрэчвае само існаванне правоў, заснаваных на справядлівасьці, тады як другі проста парушае гэтыя правы.

[248] Перш чым абмяркоўваць гэтую тэму, я меў бы жаданне зрабіць адну папярэднюю заўвагу. Спадар Гюстаў дэ Бамон, мой спадарожнік, напісаў кнігу, пра якую я ўжо згадваў напачатку сваёй працы і якая хутка будзе надрукавана. Асноўнай мэтай спадара дэ Бамона было пазнаёміць французаў са становішчам неграў сярод белага насельніцтва Злучаных Штатаў. Ён глыбока вывучыў пытанне, якога я, дзякуючы іншай накіраванасьці майго даследавання, маю магчымасць толькі дакрануцца. У яго кнізе, у нататках да якой прыводзяцца вельмі каштоўныя і цалкам невядомыя раней заканадаўчыя і гістарычныя дакументы, утрымліваюцца апісанні, дзіўныя па магутнасьці ўздзеяння і праўдзівасьці. Той, хто жадае зразумець, да якой крайняй жорсткасьці могуць дайсьці людзі, ступіўшыя на шлях грэбавання законамі прыроды і людзкасьці, павінен прачытаць кнігу спадара дэ Бамона.

рабства ў паўднёвых штатах. –Будучыя небяспекі. –Трывога людзей. –Стварэнне асады чарнаскурых у Афрыцы. –Чаму на Поўдні амерыканцы, нягледзячы на сваю агіду да рабства, павялічваюць жорсткасць у дачыненні да ўтрымання рабоў.

Індэйцы жывуць і гінуць самі па сабе, тым часам як лёс неграў у некаторай ступені пераплятаецца з лёсам еўрапейцаў. Гэтыя дзьве расы злучаны адна з адной, але перамяшацца яны не могуць, ім аднолькава цяжка як цалкам падзяліцца, так і канчаткова аб’яднацца.

Наяўнасць чарнаскурых у Злучаных Штатах здольна спарадзіць там у будучым самыя жахлівыя бедствы. Да гэтай высновы немінуча прыводзяць кожныя пошукі нагод сучасных цяжкасьцей Звязу і небяспек, з якімі ён можа сутыкнуцца ў будучыні.

Звычайна, для ўзнікнення цяжка вырашаемых сацыяльных праблем патрабуюцца немалыя намаганні людзей. Аднак існуе адно грамадзкае зло, якое пракрадаецца ў грамадства непрыкметна. Спачатку яго ледзь можна адрозніць ад звычайнага злоўжывання ўладай; імя таго, хто паклаў яму пачатак, не захоўвалася ў гісторыі. Патрапіўшы ў глебу, нібы-та парастак нейкай праклятай Богам расьліны, гэтае зло пачынае сілкавацца сваімі ўласнымі сокамі, хутка расьце і развіваецца самым натуральным чынам разам з грамадствам, у якое яно пракралася. Імя гэтага зла – рабства.

Хрысьціянства пакончыла з рабствам, але ў XVI стагоддзі хрысьціяне ж і адрадзілі яго. Праўда, яны дапусьцілі існаванне яго ў сваёй грамадзкай сістэме толькі ў якасьці выключэння і паклапаціліся пра тое, каб рабамі маглі быць людзі толькі адной расы. Такім чынам, рана, нанесеная чалавецтву, не была шырокай, але гэта толькі пагоршыла цяжкасьці яе лячэння.

Патрэбна старанна адрозніваць дзьве рэчы: рабства як такое і яго наступствы.

Як у старажытным сьвеце, так і ў сучасным грамадстве рабства спараджае адны і тыя ж хваробы, якія, аднак, прыводзяць да розных наступстваў. У старажытным сьвеце гаспадар і раб належалі да адной расы, часта раб стаяў вышэй гаспадара адпаведна са сваім выхаваннем і ведамі[249]. Іх падзяляла толькі воля аднаго і няволя іншага. Атрымаўшы волю, рабы хутка змешваліся з гаспадарамі.

Такім чынам, старажытныя мелі даволі просты спосаб пазбаўлення як ад рабства, так і ад яго наступстваў – гэта было вызваленне раба; і як толькі яны выкарысталі гэты спосаб паўсюдна, яны дамагліся поспеху.

Вядома, немагчыма сцвярджаць, што ў старажытнасьці сляды рабства зніклі адразу пасьля яго скасавання.

Адпаведна з прыродай чалавеку ўласціва старонняе і грэблівае стаўленне да таго, хто яшчэ нядаўна стаяў ніжэй яго на грамадзкіх усходах; падобнае стаўленне захоўваецца на працягу доўгага часу пасьля таго, як людзі робяцца роўнымі і на змену сапраўднай няроўнасці, абумоўленай станам і законам, прыходзіць уяўная няроўнасць, нагодай якой з’яўляюцца норавы. Аднак у старажытным сьвеце гэта наступства рабства не магло быць працяглым: адпушчаныя на волю рабы былі так падобны на вольных людзей, што вельмі хутка іх немагчыма было адрозніць ад іх.

Самым цяжкім для старажытных было перамяніць закон. У сучасным жа грамадстве асноўная цяжкасць складаецца ў замене нораваў, азначаючая тое, што

[249] Вядома, што шмат хто із антычных пісьменнікаў былі рабамі, назавём, напрыклад, Эзопа і Тэрэнцыя. У рабства траплялі не толькі варвары, у выніку войн рабамі рабіліся вельмі культурныя людзі.

для нас сапраўдныя цяжкасьці пачынаюцца там, дзе ў старажытнасьці яны заканчваліся.

Гэта тлумачыцца тым, што ў розумах сучасных людзей нематэрыяльны і праходзячы факт рабства самым сумным чынам перамешваецца з фактам матэрыяльным і пастаянным, з адрозненнем двух рас. З аднаго боку, успаміны пра рабства ганьбяць расу, а з другога – яна сама з'яўляецца вечным напамінам пра рабства.

Ніводзін афрыканец не прыбыў у Амерыку па сваёй волі. Гэта азначае, што ўсе чарнаскурыя, жывучыя там у наш час, былі ці з'яўляюцца рабамі. Такім чынам, негры ўжо пры нараджэнні атрымліваюць ад сваіх продкаў вонкавыя прыкметы свайго нізкага становішча ў грамадстве. Закон можа скасаваць рабства, але адзін Бог здольны знішчыць яго сьляды.

У сучасным грамадстве раб адрозніваецца ад гаспадара не толькі сваёй няволяй, але і сваім паходжаннем. Негра можна вызваліць, але ад гэтага ён не перастане быць цалкам чужым для еўрапейца. І гэта яшчэ не ўсё: гэтага чалавека, народжанага на самай нізкай ступені грамадства і з'явіўшагася ў нас у абліччы раба, мы толькі з цяжкасьцю можам назваць чалавекам. Яго выгляд здаецца нам агідным, яго розум – абмежаваным, густы – нізкімі, мы амаль гатовы палічыць яго за прамежкавую істоту паміж чалавекам і жывёлай[250].

Пасьля скасавання рабства сучаснаму чалавеку застаецца яшчэ пакончыць з трыма незаўважальнымі і значна больш трывалымі, чым само рабства, забабонамі. Гаворка ідзе пра перавагу гаспадара над рабом, белага чалавека над усімі іншымі людзьмі, а таксама і іншыя расавыя забабоны.

Нам, маючым шчасьце нарадзіцца сярод падобных сабе людзей, адпаведна з законам валодаючымі роўнымі правамі, вельмі цяжка спасьцігнуць; якая велізная прорва аддзяляе амерыканскага негра ад еўрапейца. Але мы можам скласьці сабе некаторае ўяўленне пра гэта, звярнуўшыся да аналогіі.

Некалі і ў нас існавала няроўнасць заснаваная толькі на законе. Але ж такая няроўнасць абсалютна штучная! Няма нічога больш супярэчачага інстынктыўным адчуванням чалавека, чым сталыя, усталяваныя законам адрозненні паміж цалкам аднолькавымі людзьмі. Аднак гэтыя адрозненні існавалі на працягу стагоддзяў і да гэтага часу існуюць у шмат якіх месцах. Яны ўсюды пакінулі ў свядомасьці людзей сляды, дрэнна паддаючыяся ўплыву часу. Калі так цяжка пакончыць з няроўнасьцю ўсталяванай толькі законам, то як знішчыць няроўнасць, незнішчаемая падстава якой, здавалася б, створана самой прыродай?

Што да мяне, то, калі я бачу, з якой пакутай якія б то ні было арыстакратычныя станы перамешваюцца з народнымі масамі, да якіх крайніх захадаў яны звяртаюцца для таго, каб на працягу стагоддзяў захоўваць уяўныя межы, адзяляючыя іх ад народа, у мяне згасае якая б то ні было надзея на тое, што няроўнасць, заснаваная на відавочных і вечных прыкметах, калі-небудзь знікне.

Мне думаецца, што спадзявацца на тое, што еўрапейцы калі-небудзь перамяшаюцца з неграмі, – азначае паглыбляцца ў мары не маючыя магчымасьці ператварыцца ў рэчаіснасць. Нішто не дазваляе мне спадзявацца на гэта, сапраўдная рэчаіснасць сведчыць пра процілеглае.

[250] Для таго, каб белыя адмовіліся ад сваёй думкі пра былых рабоў як пра істот інтэлектуальна і маральна непаўнавартых, негры павінны перамяніцца, але яны не могуць перамяніцца да той пары, пакуль існуе гэтая думка.

Да гэтага часу паўсюдна, дзе моц была на боку белых, яны трымалі неграў у зневажанні і рабстве. Там, дзе верх бралі негры, яны знішчалі белых. Вось адзіная форма дачыненняў, калі-небудзь існаваўшая паміж двума расамі.

Адпаведна з маімі назіраннямі зараз у некаторых частках Злучаных Штатаў пачынаюць касавацца законы падзяляючыя дзьве расы. Аднак норавы застаюцца нязменнымі. Рабства адыходзіць, але забабоны, якія яно спарадзіла, захоўваюцца.

Хіба ў той частцы Звязу, дзе негры сталі вольнымі людзьмі, яны зблізіліся з белымі? Няма сумневаў, што кожны чалавек, які пабыў у Злучаных Штатах, заўважыць нешта процілеглае.

У мяне склалася ўражанне, што расавыя забабоны мацней выяўляюцца ў тых месцах, дзе рабства скасавана, чым у тых, дзе яно яшчэ існуе. Але самая вялікая няцярпімасць выяўляецца там, дзе рабства ніколі не існавала.

Праўда, у паўночных штатах закон дазваляе белым адружвацца з неграмі, але грамадзкая думка лічыць гэта ганебным, і было б цяжка прывесьці прыклад падобнага адружання.

Амаль ва ўсіх штатах, дзе рабства скасавана, негры атрымалі права галасу. Але негр можа прыйсьці на выбарчую пляцоўку толькі з рызыкай для жыцця. Негр можа паскардзіцца на ўціскі, але разбіраць яго скаргу будзе белы суддзя. Згодна з законам ён можа быць прысяжным, але забабоны перашкаджаюць ажыццяўленню гэтага закона. Дзеці неграў не могуць вучыцца ў адной школе з дзецьмі еўрапейцаў. У тэатрах ні за якія грошы ён не можа купіць сабе права сядзець побач са сваім былым гаспадаром. У лякарнях негры ляжаць у асобных памяшканнях. Чарнаскурым дазваляюць маліцца таму ж Богу, якому молята белыя, але не ў адным храме з імі. У іх існуюць свае святары і свае цэрквы. Хаця дзьверы раю для іх не зачынены, няроўнасць захоўваецца і на краю магілы. Неграў хаваюць збоку ад белых і нават сьмерць, даганяючая ў роўнай ступені ўсіх, не ўраўноўвае іх у правах з белымі.

Такім чынам, негры вольныя і абвешчаны роўнымі белым, але яны не карыстаюцца аднолькавымі з імі правамі, не ўдзельнічаюць у іхных задавальненнях, здзяйсненнях і пакутах, яны нават не могуць быць пахаваны каля белых. Ні пры жыцці, ні пасьля сьмерці чарнаскурыя не могуць зблізіцца з белымі.

На Поўдні, дзе ўсё яшчэ існуе рабства, белыя менш цураюцца чарнаскурых, ім здараецца разам працаваць ці забаўляцца, у іх існуюць вызначаныя формы камунікавання. Законы, маючыя дачыненне да неграў, там суровыя, але звычаі прасякнуты мяккасьцю і памяркоўнасьцю.

На Поўдні гаспадар не баіцца ўзвысіць раба, таму што ведае, што пры жаданні ён заўсёды можа паставіць яго на месца. На Поўначы ж выразнай мяжы, аддзяляючай прыніжаную расу ад белых, не існуе, і белыя дзякуючы апасенню пра магчымае змешванне з чарнаскурымі ўсімі магчымасьцямі імкнуцца трымацца далей ад іх.

У амерыканцаў, жывучых на Поўдні, прырода, час ад часу бяручы свае правы, аднаўляе роўнасць паміж белымі і чарнаскурымі. На Поўначы ганарыстасць заглушае нават самыя бурныя чалавечыя жарсьці. Амерыканец з Поўначы, можа, і пагадзіўся б уступіць у цялесную сувязь з негрыцянкай, калі б згодна з законам яна не магла спадзявацца на адружанне з ім. Але дзякуючы таму што яна мае права стаць яго жонкай, ён адчувае да яе агіду і пазбягае яе.

Такім чынам, ствараецца ўражанне, што ў Злучаных Штатах па меры вызвалення неграў растуць забабоны, выштурхоўваючыя іх із грамадства. Тым часам як няроўнасць скасоўваецца законам, яна ўкараняецца ў норавах.

Але калі маё апісанне дачыненняў двух рас, жывучых у Злучаных Штатах, адпавядае рэчаіснасьці, то чаму амерыканцы скасавалі рабства на Поўначы краіны? Чаму яно захоўваецца на Поўдні і дзякуючы якім нагодам там узмацняецца жорсткасць ва ўтрыманні рабоў?

Адказ просты. У скасаванні рабства ў Злучаных Штатах зацікаўлены не чарнаскурыя, а белыя.

Упершыню негры былі прывезены ў Віргінію ў 1621 годзе[251]. У Амерыцы так жа, як і паўсюдна у сьвеце, рабства ўзнікла на Поўдні. Адтуль яно паступова пашырылася па краіне. Аднак чым далей на Поўнач, тым меншай была колькасць рабоў[252].

У «Гістарычнай калекцыі Масачусетса», том IV, с. 193, ёсць цікавае дасьледаванне Белнепа пра рабства ў Новай Ангельшчыне. У ім паведамляецца, што неграў пачалі прывозіць туды пачынаючы з 1630 года, але адразу ж законы і норавы запрацівіліся рабству.

Гл. таксама ў гэтай жа крыніцы сведчанне пра тое, як грамадзкая думка, а потым і закон здолелі пакончыць з рабствам. У Новай Ангельшчыне, напрыклад, ніколі не было шмат неграў.

Узніклі асады і на заканчэнні стагоддзя ўсіх здзівіла адна незвычайная акалічнасць: у правінцыях, дзе рабоў не было, насельніцтва, заможнасць і дабрабыт раслі хутчэй, чым у тых, дзе яны былі. Але ж жыхары першых правінцый былі вымушаны самі апрацоўваць зямлю ці наймаць працаўнікоў, тады як жыхары другіх мелі ў сваім падначаленні дармовых працаўнікоў. Такім чынам, жыццё ў адных месцах патрабавала працы і выдаткаў, у іншых жа можна было жыць у бяздзейнасьці, да таго ж нічога не выдаткуючы. У выйгрышы, аднак, выявіліся першыя правінцыі.

Гэта здавалася нетлумачальным, тым больш што ўсе эмігранты належалі да адной, еўрапейскай, расы, мелі аднолькавыя звычаі і культуру, жылі адпаведна з аднолькавымі законамі, а адрозніваліся вельмі нязначна.

Ішоў час. Амерыканцы ад берагоў Атлантычнага акіяна з кожным днём пракрадаліся ўсё далей у заходнюю глухмень. Там яны знаходзілі новыя землі і новыя кліматычныя ўмовы, ім даводзілася пераадольваць розныя перашкоды. Перамешваліся народы: паўднёўцы траплялі на Поўнач, паўночнікі – на Поўдзень. І, нягледзячы на такую разнастайнасць умоваў, усюды паўтаралася адно і тое ж: асады, у якіх не існавала рабства, выяўляліся больш населенымі і заможнымі ў параўнанні з тымі, дзе яно існавала.

Паступова ўзнікла разуменне таго, што кабала не толькі жорсткая ў дачыненні да раба, але і згубная для гаспадара.

Канчаткова гэта было даведзена, калі амерыканцы пасяліліся на берагах Агаё. Рака, якую індэйцы звычайна называлі Агаё, ці Прыгожая Рака, нясе свае

[251] Гл. «Гісторыю Віргініі» Беверлі. Гл. таксама ва «Успамінах» Джэферсона цікавыя паведамленні пра прывоз неграў у Віргінію і пра першы заканадаўчы акт, забараняльным іхны прывоз, прыняты ў 1778 годзе.

[252] Хаця на Поўначы было менш рабоў, выгаднасць рабскай працы там так жа як і на Поўдні, ніколі не ставілася пад сумнеў. У 1740 годзе заканадаўчы сход штата Нью-Ёрк заявіў, што патрэбна заахвочваць прамы ўвоз рабоў і ў той жа час строга караць кантрабандыстаў, таму што яны могуць перашкодзіць дзейнасьці сумленных гандляроў (Кент. Каментары: т. II, с. 206).

воды па самай дзівоснай даліне, у якой калі-небудзь жыў чалавек. Па абодвух берагах Агаё цягнуцца ўзгоркі з невычарпальна ўрадлівай глебай; там умераны клімат і здаровае паветра. Уздоўж кожнага берага праходзіць мяжа шырокага штата: уздоўж звілістага левага цягнецца мяжа штата Кентукі; штат, размешчаны на правым беразе, носіць тую ж назву, што і рака. Гэтыя два штаты адрозніваюцца толькі ў адным: у Кентукі дазволена мець рабоў, а ў Агаё забаронена[253].

Такім чынам, вандраўнік, плывучы пасярэдзіне Агаё туды, дзе яна зліваецца з Місісіпі, знаходзіцца як бы паміж вольным грамадствам і рабаўласніцкім. І варта яму паглядзець навокал, як ён адразу разумее, якое із гэтых грамадзкіх уладкаванняў спрыяе росквіту чалавецтва.

Левы бераг ракі мала-населены, час ад часу там можна пабачыць гурты рабоў, безклапотна валакучыяся па напалову пустуючых палях; часта сустракаецца некрануты лес. Грамадства, здаецца, знаходзіцца ў стане спання, а чалавек аддаецца бяздзейнасьці, тым часам як прырода жыве бурным жыццём.

Што ж да правага берага, то з яго чуецца невыразны шум, сведчачы пра дзейнасць недзе не вельмі далёка прамысловых прадпрыемстваў, на палях бачны заможныя ўсходы. Земляробы жывуць у прыгожых сядзібах, што сведчыць пра іхны густ і стаpанне. Усё дыхае дастаткам, чалавек выглядае заможным і задаволеным: ён працуе[254].

Штат Кентукі быў заснаваны ў 1775 годзе, а штат Агаё дванаццаццю гадамі пазьней. Для Амерыкі дванаццаць гадоў – гэта больш, чым пяцьдзясят гадоў для Яўропы. У наш час у Агаё жыве на 250 тысяч чалавек больш, чым у Кентуккі[255].

Няцяжка зразумець, што рабаўладанне і вольнасць вядуць да розных наступстваў. Імі можна патлумачыць шмат якія адрозненні, існуючыя ў жыццядзейнасьці антычнага і сучаснага грамадства.

На левым беразе Агаё праца з’яўляецца доляй рабоў, на правым жа яе разглядаюць як сродак дасягнення дабрабыту і прагрэсу. На левым беразе праца пагарджаецца, на правым – ушаноўваецца. На левым беразе немагчыма знайсьці белых працаўнікоў, таму што белыя баяцца быць падобным на рабоў, працуюць толькі негры. На правым беразе не знойдзеш ніводнага лайдака, белыя бяруцца за якую заўгодна працу з уласцівай ім актыўнасьцю і кемлівасьцю.

Такім чынам, у Кентукі распрацоўка прыродных багаццяў даверана ленаватым і невуцкім людзям; тым часам як працавітыя і асьвечаныя аддаюцца гультайству ці параязджаюць у Агаё, дзе яны могуць знайсьці ўжыванне сваім здольнасьцям, не адчуваючы пры гэтым сораму.

Праўда ў Кентукі гаспадары нічога не плацяць рабам за працу, але рабская праца не прыносіць ім вялікіх прыбыткаў. Плоцячы грошы белым працаўнікам, яны б з лішкам акупілі свае выдаткі.

Вольнаму працаўніку патрэбна плаціць, але ён працуе хутчэй, чым раб, а хуткасьць выканання працы – гэта адзін із важных элементаў эканоміі. Белы прадае свае паслугі, але іх купляюць толькі ў выпадку іхнай патрэбы. Чарнаскуры не можа патрабаваць ніякай платы за сваю працу, але яго патрэбна ўвесь час карміць, пра

---

[253] У штаце Агаё не проста забаронена рабства, на яго тэрыторыю не дазволены заезд і вольным неграм, яны не маюць таксама права што-небудзь набываць там. Гл. заканадаўства штата Агаё.

[254] У штаце Агаё энэргічнасьцю вызначаюцца не толькі асобныя людзі, сам штат здзяйсняе вялікія пачынанні. Штат Агаё пабудаваў, напрыклад, паміж возерам Эры і Агаё канал, злучаючы даліну Місісіпі з паўночнай ракой. Дзякуючы гэтаму каналу еўрапейскія тавары, прыбываючыя ў Нью-Ёрк, можна дастаўляць па вадзе ў Новы Арлеан, то бок на адлегласць роўную больш чым пяцьсот лье ў глыб кантынента.

[255] Праўдзівыя лічбы згодна з попісам 1830 года: Кентукі – 688 844; Агаё – 937 669.

яго патрэбна, будзь ён хворы ці здаровы, клапаціцца на працягу ўсяго яго жыцця, як пад час маладых і сталых, найбольш прадукцыйных гадоў так і пад час гадоў яго дзяцінства і састарэласьці, не маючых карысьці для гаспадара. Такім чынам, як белы так і чарнаскуры працуюць не задарма: вольны працаўнік атрымлівае заробак; раба выхоўваюць, кормяць, апранаюць, за ім даглядаюць. На ўтрыманне раба гаспадар выдаткуе грошы паступова, невялікімі сумамі, непрыкметна. Працаўніку яго заробак выдаецца адразу, дзякуючы чаму ствараецца ўражанне, што абагачаецца толькі атрымліваючы. У рэчаіснасьці ж раб каштуе даражэй працаўніка, а яго праца з'яўляецца менш вытворчай[256].

Уплыў рабства выяўляецца і ў іншым: яно пакідае глыбокі сьлед у душах гаспадароў, надаючы вызначаную накіраванасць іхным думкам і схільнасьцям.

Прырода дала людзям, жывучым на абодвух берага Агаё, энергічны і прадпрымальны характар, але на кожным боку ракі людзі па-рознаму карыстаюцца сваімі якасьцямі.

На правым беразе галоўнай мэтай белых, жывучых за кошт вынікаў сваёй працы, стаў матэрыяльны дабрабыт. Родны край дае ім самы шырокі абшар для ўжывання здольнасьцей, іхная энергія заўсёды знаходзіць сабе мэту, а іхны запал да абагачэння выходзіць за межы звычайнай чалавечай карыслівасьці. Напоўненыя жаданнем абагаціцца, яны адважна накіроўваюцца на які б там ні было шлях, адчыняемы перад імі лёсам. І незалежна ад таго, робяцца яны маракамі, ці піянерамі, фабрыкантамі ці землеўладальнікамі, яны аднолькава выяўляюцца зацятымі ў працы і пераадоленні небяспек, уласцівых гэтым заняткам. Разнастайнасць іхных талентаў цудоўная, а іхная смага нажывы блізкая да гераічнасьці.

Амерыканцы, жывучыя на левым беразе Агаё, роўна пагарджаюць як працай, так і якой бы то ні было справай, для поспеху якой яна патрэбна. Яны жывуць у бяздзейнасьці і дастатку і засвойваюць густы нічога не робячых людзей. Грошы не маюць для іх вялікай каштоўнасьці, яны не столькі імкнуцца да багацця, колькі да весялосьці і задавальненняў і выдаткуюць на гэта энергію, якой іхныя суседзі знаходзяць іншае ўжыванне. Яны жарсна паважаюць паляванне і вайну, па-майстэрскі валодаюць зброяй, ім падабаюцца фізічныя практыкаванні, патрабуючыя вялікай моцы і спрытнасьці. Пачынаючы з юнацкіх гадоў яны прызвычаіліся рызыкаваць сваім жыццём у паядынках. Так рабства не проста перашкаджае белым абагачацца, яно пазбаўляе іх саміх імкнення да гэтага.

У выніку безперапыннага двухстагоддзевага ўплыву гэтых процілеглых нагод у ангельскіх асадах Паўночнай Амерыкі ўзніклі дзіўныя адрозненні ў справаводчых якасьцях паўднёўцаў і паўночнікаў. Сёння толькі на Поўначы ёсць караблі, прамысловыя прадпрыемствы, чыгункі і каналы.

---

[256] Акрамя гэтых нагод, дзякуючы якім праца вольных працаўнікоў з'яўляецца больш прадукцыйнай і эканамічнай паўсюдна, дзе ў іх не адчуваецца недахопу, патрэбна паказаць і яшчэ на адну, уласьцівую толькі Злучаным Штатам. У гэтай краіне толькі на берагах Місісіпі, пры яе зліванні з Мексіканскім залівам, навучыліся з поспехам вырошчваць цукровы трыснёг. У Луізіяне вырошчванне цукровага трыснягу прыносіць вялікія прыбыткі: нідзе ў іншым месцы праца земляроба не дае такога высокага прыбытку. А дзякуючы таму што паміж выдаткамі на вытворчасць і выраблены прадуктам заўсёды ўсталёўваецца некаторая ўзаемасувязь, у Луізіяне высокія кошты на рабоў. Да таго ж Луізіяна ўваходзіць у федэрацыю штатаў і таму туды дазваляецца завозіць рабоў з усіх кропак Звязу. У выніку высокія кошты на рабоў у Новым Арлеане прыводзяць да павелічэння коштаў на рабоў на ўсіх рынках краіны. Такім чынам, у тых месцах, дзе зямля не вельмі ўрадлівая, яе апрацоўка рабамі каштуе дорага, і ў канкурэнтным змаганні перамагаюць вольныя працаўнікі.

Гэтыя адрозненні можна заўважыць, не толькі параўноўваючы жыхароў Поўначы і Поўдня, але і жыхароў Поўдня паміж сабой. Амаль усе тыя, хто ў паўднёвых штатах Звязу займаецца прадпрымальніцкай дзейнасьцю, спрабуючы здабыць выгаду із рабскай працы, прыехалі сюды з Поўначы. Паўночнікі штодня прыбываюць у паўднёвыя штаты, таму што ў іх не такая моцная канкурэнцыя. Тут яны знаходзяць магчымасьці, якія засталіся незаўважанымі мясцовымі жыхарамі. Яны прыстасоўваюцца да рабаўладальніцкай сістэмы, хаця і не ўхваляюць яе, і ў іх атрымліваецца здабыць із яе большыя прыбыткі, чым яе стваральнікам і прыхільнікам.

Калі б я меў жаданне працягнуць гэтае параўнанне, я лёгка давёў бы, што амаль усе адрозненні ў характары жыхароў Поўдня і Поўначы Амерыкі паўсталі з нагоды існавання рабства. Але гэта адвяло б мяне ад маёй тэмы: зараз мяне цікавяць не наступствы заняволення людзей, я жадаю толькі зразумець, як яно ўплывае на матэрыяльны росквіт яго прыхільнікаў.

Старажытныя не мелі магчымасьці выразна зразумець уплыў рабства на вытворчасць матэрыяльных даброт. Кабала існавала ў той час ва ўсім цывілізаваным сьвеце, яе не ведалі толькі варвары.

Таму хрысьціянскае вучэнне ў змаганні з рабствам на першае месца ставіла правы раба. Зараз жа стала магчымым змагацца з рабствам таксама ў імя гаспадара. Гэтае змаганне з'яўляецца такім, у якім выгода і мараль не супярэчаць адзін аднаму.

Па меры таго як гэтыя праўды пашыраліся ў свядомасьці амерыканцаў, рабства паступова адыходзіла пад напорам ведаў і досьведу.

Рабства ўзнікла на Поўдні, потым пашырылася на Поўнач, але сёння яно знікае. З Поўначы на Поўдзень паступова пашыраецца вольнасць. Самым буйным паўночным штатам, дзе існуе рабства, з'яўляецца Пенсільванія, але яго падмуркі там ужо знішчаны.

Мэрыленд, размешчаны на поўдзень ад Пенсільваніі, з кожным днём набліжаецца да яго скасавання, а ў Віргініі, размешчанай на поўдзень ад Мэрыленда, ужо ідуць спрэчкі пра яго карыснасць і небяспекі[257].

Адной із нагод амаль усіх сур'ёзных перамен у чалавечых усталяваннях з'яўляецца парадак успадкавання маёмасьці.

Да таго часу пакуль на Поўдні ўласнасць перадавалася па спадчыне не ў роўных долях, на чале кожнай сям'і стаяў заможны чалавек, які не адчуваў ні патрэбы, ні схільнасьці да працы. Разам з ім у той жа бяздзейнасьці жылі, як расьліны-паразіты, сябры яго сям'і, пазбаўленыя згодна з законам долі ў агульнай спадчыне. Ва ўсіх сем'ях Поўдня назіралася тое, што яшчэ і зараз можна пабачыць у арыстакратычных сем'ях некаторых еўрапейскіх краін: малодшыя сямейнікі жывуць у падобным жа гультайстве, што і старэйшыя, хаця і не маюць такога ж багацця. У падмурку гэтага падабенства ляжаць абсалютна аналагічныя нагоды. На Поўдні Злучаных Штатаў усё белае насельніцтва ўяўляе сабой арыстакратычны стан, ўзначальваемы згуртаваннем прывілеяваных людзей, валодаючых сваім

[257] Існуе асобная нагода, спрыяючая паслабленню рабаўласніцкай сістэмы ў гэтых двух штатах. У мінулым багацце гэтай часткі тэрыторыі Звязу было заснавана на вырошчванні тытуню. Карыстанне рабамі было асабліва выгадным для апрацоўкі гэтай культуры. Аднак на працягу шматлікіх гадоў кошт на тытунь паменшыўся, а кошт на рабоў заставаўся ранейшым. Гэта мела наступствам перамену суадносін вытворчых выдаткаў і кошту выробленай прадукцыі. Таму зараз жыхары Мэрыленда і Віргініі ў большай ступені, чым трыццаць гадоў таму назад, схільны да таго каб адмовіцца ад рабоў пры апрацоўцы тытуню, ці развітацца як з гэтай культурай, так і з рабствам.

багаццем на працягу стагоддзяў і з пакалення ў пакаленне вядучых бяздзейнае жыццё. Гэтыя людзі былі правадырамі амерыканскай арыстакратыі, яны ўяўлялі зацікаўленасьці свайго стану, захоўвалі традыцыйныя забабоны белых, падтрымлівалі ўяўленні пра бяздзейнасць як пра справу гонару. Сярод гэтай арыстакратыі можна было сустрэць немаёмасных людзей, але не працуючых. Галеча лічылася больш ганаровай, чым праца. Дзякуючы гэтай нагодзе чарнаскурыя працаўнікі і рабы не мелі канкурэнтаў, і, што б ні казалі пра прадукцыйнасць іхнай працы, даводзілася карыстацца іхнымі паслугамі, таму што іншых працоўных рук не было.

Пасьля скасавання закона пра ўспадкаванне ўсе вялікія маёмасьці пачалі знікаць. Усе сем'і ў роўнай ступені наблізіліся да становішча, калі праца робіцца патрэбнай для існавання. Шмат якія сем'і зніклі цалкам; усе ўсьвядомілі, што наступіў час, калі кожны павінен клапаціцца пра сябе сам. Зараз яшчэ сустракаюцца заможныя людзі, але яны не складаюць адзінага стану, перадаючага свае традыцыі ад пакалення да пакалення. Яны не здолелі ўспрыняць, захаваць і пашырыць па ўсіх пластах насельніцтва агульны дух. У выніку забабоны, адпаведна з якімі працаваць лічылася ганебным, пачалі паўсюдна забывацца. З'явілася больш беднякоў, і яны без якога б то ні было сораму пачалі шукаць магчымасць зарабляць сабе на жыццё. Такім чынам, адным із непасрэдных вынікаў успадкавання ўласнасьці ў роўных долях было ўзнікненне стана вольных працаўнікоў. Як толькі вольныя працаўнікі пачалі канкураваць з рабамі, усе адчулі нізкую прадукцыйнасць рабскай працы. Такім чынам, былі пахіснуты самыя падмуркі рабства, то бок уяўленні пра выгаду, якую яна прыносіць гаспадару.

Па меры таго як рабства выціскаецца із паўночных штатаў у паўднёвыя, у тым жа накірунку рухаецца і чарнаскурае насельніцтва. Разам з рабствам негры вяртаюцца ў тропікі, адкуль іх некалі прывезлі.

Гэта можа здацца на першы погляд дзіўным, але хутка чытач зразумее, дзякуючы чаму гэта адбываецца.

Скасоўваючы рабства ў прынцыпе, амерыканцы цалкам не вызваляюць рабоў.

Для таго каб наступнае выкладанне было больш зразумелым, я прывяду прыклад, апісаўшы сітуацыю ў штаце Нью-Ёрк. У 1788 годзе ў гэтым штаце быў забаронены продаж рабоў. Гэта быў абыходны манеўр, які меў на мэце забараніць іхны прывоз. Пачынаючы з гэтага часу колькасць неграў павялічвалася там толькі за кошт натуральнага прыросту чарнаскурага насельніцтва. Праз восем гадоў была распачата больш рашучая мера: было абвешчана, што пачынаючы з 4 ліпеня 1799 года ўсе дзеці, якія нарадзіліся ад рабоў, стануць вольнымі. Пачынаючы з гэтага моманту зніклі ўсе магчымасьці павелічэння колькасьці рабоў і, хаця рабы яшчэ існавалі, можна сказаць, што рабства ўжо не было.

Як толькі нейкі паўночны штат заяўляе пра забарону на ўвоз рабоў, у яго спыняюць прывозіць з Поўдня чарнаскурых.

Калі ў нейкім паўночным штаце забараняецца гандаль неграмі і ўладальнік ужо не мае магчымасьці пазбыцца ад іх, яны робяцца для яго абузай. У гэтым выпадку гаспадар зацікаўлены ў продажы сваіх рабоў на Поўдзень.

Калі нейкі паўночны штат заяўляе, што дзеці рабоў будуць ад нараджэння вольнымі людзьмі, то рабы значна памяншаюцца ў коштах: іхных жа нашчадкаў ужо немагчыма будзе прадаць або купіць. І ў гэтым выпадку гаспадар зацікаўлены ў продажы сваіх рабоў на Поўдзень.

Такім чынам, адзін і той жа закон перашкаджае руху рабоў з Поўдня на Поўнач і спрые іхнаму руху з Поўначы на Поўдзень.

Але існуе і яшчэ адна нагода, больш значная, чым ужо згаданыя. Па меры таго як колькасць рабоў у нейкім штаце памяншаецца, там пачынае адчувацца патрэбнасць ў вольных працаўніках. А па меры таго як павялічваецца колькасць вольных наёмных працаўнікоў, рабы, праца якіх менш прадукцыйная, губляюць вартасць ці робяцца непатрэбнымі. Гэта яшчэ адзін выпадак, калі гаспадару вельмі выгадна прадаць іх на Поўдзень, дзе канкурэнцыі не існуе.

Такім чынам, скасаванне рабства не вядзе да вызвалення раба, у яго толькі пераменяецца гаспадар: з Поўначы ён трапляе на Поўдзень.

Што да вызваленых рабоў і неграў, нарадзіўшыхся пасьля скасавання рабства, то яны не едуць з Поўначы на Поўдзень, аднак у дачыненні да еўрапейцаў яны занімаюць месца, падобнае на месца тубыльцаў: яны неадукаваныя, пазбаўлены правоў і жывуць сярод насельніцтва, якое стаіць значна вышэй іх адпаведна з узроўнем дастатку і ведаў, увесь час сутыкаючыся з тыраніяй законаў[258] і няцярпімасьцю нораваў. У некаторых дачыненнях яны яшчэ больш няшчасныя, чым індэйцы: на іх цяжкім цяжарам ляжаць успаміны пра рабства, яны не могуць патрабаваць сабе ў валоданне нейкую тэрыторыю. Шмат хто не выносяць пакут і гінуць[259], іншыя збіраюцца ў гарадах, дзе яны выконваюць самую брудную працу і жывуць жабрацкім і неўладкаваным жыццём.

Пасля скасавання рабства белае насельніцтва павялічваецца ўдвая хутчэй, чым чорнае і калі б нават прырост колькасьці чарнаскурых заставаўся на тым жа узроўні, што і ў часы рабства, то ўсё адно хутка яны б згубіліся сярод чужога ім насельніцтва.

Тэрыторыі, дзе выкарыстоўваецца рабская праца, звычайна менш населены, чым тыя, на якіх працуюць вольныя людзі. Акрамя таго, Амерыка – гэта маладая краіна і таму да моманту скасавання рабства ў нейкім штаце ён бывае заселены толькі напалову. Як толькі рабскую працу ў ім забараняюць і пачынае адчувацца патрэба ў вольных працаўніках, у яго з усіх канцоў краіны накіроўваюцца натоўпы адважных авантурыстаў, прыязджаючых для таго, каб скарыстацца новымі магчымасьцямі, узнікаючымі перад прадпрымальнікамі. Яны захопліваюць зямлю, на кожнай пляцоўцы пасяляецца белая сям'я. Эмігранты із Яўропы таксама накіроўваюцца ў вольныя штаты. Што рабіць бедняку із Яўропы, прыехаўшаму ў Новы Сьвет ў пошуках дастатку і шчасьця, у месцах, дзе праца лічыцца ганьбай?

У выніку белае насельніцтва павялічваецца натуральным шляхам, а таксама папаўняецца за кошт вялікага прытоку эмігрантаў. Чорных жа эмігрантаў не існуе, і колькасць неграў памяншаецца. Хутка колькасныя суадносіны, існаваўшыя паміж двума расамі, пераменяюцца карэнным чынам. Неграў застаецца вельмі мала, яны ператвараюцца ў малалікае, немаёмаснае і няшчаснае племя, не маючае сваёй зямлі і губляючаяся пасярод шматлікага народа, валодаючага імі. Пра іхнае існаванне згадваюць толькі ў тых выпадках калі ў дачыненні да іх здзяйсняецца чарговая несправядлівасць ці жорсткасць.

---

[258] Штаты, дзе рабства скасавана, звычайна робяць усё для таго, каб жыццё вольных неграў на іхнай тэрыторыі стала невыносным. А дзякуючы таму што розныя штаты як бы спаборнічаюць у правядзенні такой палітыкі, неграў паўсюдна чакаюць перасьледы.

[259] У штатах, дзе скасавана рабства, узровень сьмяротнасьці белых і чорных моцна адрозніваецца: з 1820 па 1831 год у Філадэльфіі сярод белых паміраў 1 чалавек на 42, а сярод чорных – 1 на 21. Узровень сьмяротнасьці неграў-рабоў значна ніжэй (гл.: Эмерсан. Медычная статыстыка, с. 28).

У шмат якіх заходніх штатах ніколі не было неграў, ва ўсіх паўночных іхная колькасць хутка памяншаецца. Такім чынам, важнае пытанне пра ўзаемныя стасункі гэтых двух рас мае дачыненне да абмежаванай тэрыторыі. Гэта памяншае небяспеку праблемы, але не робіць задачу яе вырашэння больш лёгкай.

Чым далей на поўдзень размешчаны штат, тым цяжэй скасаваць у ім рабства з карысьцю для справы. Гэта тлумачыцца некалькімі матэрыяльнымі нагодамі, пра якія патрэбна паведаміць падрабязна.

Першая нагода – гэта клімат. Няма сумневаў ў тым, што чым бліжэй да тропікаў жывуць еўрапейцы, тым цяжэй ім працаваць. Шмат хто із амерыканцаў сцвярджаюць, што пад некаторымі шыротамі праца ўяўляе для іх сьмяротную небяспеку, тады як негры могуць там працаваць без якой бы то ні было рызыкі для жыцця[260]. Але я не лічу, што гэтыя цьверджанні, такія прыемныя для ленаватых жыхароў Поўдня, заснаваны на досьведзе. На поўдні ж Гішпаніі і Італіі клімат такі ж гарачы, як на поўдні Злучаных Штатаў[261]. Чаму ж у Амерыцы еўрапеец не ў стане займацца той жа працай, якой ён займаецца ў Яўропе? І калі ў Італіі і Гішпаніі пасьля скасавання рабства гаспадары не загінулі, то, магчыма, і ў Звязе ім нічога не пагражае? Я наогул не лічу, што праз прыродныя ўмовы еўрапейцы, жывучыя ў Джорджыі і ў Фларыдзе, не могуць апрацоўваць зямлю сваімі рукамі без рызыкі для жыцця. Аднак ў агульным зразумела, што там гэтая праца будзе больш знясільваючай і менш прадукцыйнай[262], чым у Новай Ангельшчыне. Дзякуючы таму што на Поўдні вольны працаўнік не нашмат больш каштоўны, чым раб, там менш мэтазгодна скасоўваць рабства.

На поўначы Звязу растуць тыя ж расьліны, што і ў Яўропе, на поўдні ж растуць своеасаблівыя культуры.

Вядома, што рабская праца выяўляецца неэфектыўнай пры вырошчванні зерневых культур. Той, хто вырошчвае пшаніцу ў краіне не знаёмай з рабствам, звычайна не трымае на службе шмат працаўнікоў. Праўда, падчас сяўбы і жніва ён наймае шмат памочнікаў, але яны застаюцца ў яго сядзібе нядоўга.

У рабаўладальніцкай дзяржаве земляроб вымушаны ўтрымліваць на працягу цэлага года вялікую колькасць працаўнікоў, патрэбу ў якіх ён адчувае толькі пад час кароткіх перыядаў сяўбы і жніва. У адрозненні ж ад вольных працаўнікоў рабы не могуць працаваць на сябе і чакаць дня, калі нехта пажадае купіць іхныя паслугі. Каб прымусіць іх працаваць, іх патрэбна купіць.

Такім чынам, не бяручы да ўвагі адмоўныя наступствы рабства агульнага характару, варта пазначыць, што ў краінах, дзе вырошчваюцца зерневыя, рабская праца менш выгадная, чым там, дзе вырошчваюцца іншыя культуры.

Наадварот, на плантацыях тытуню, бавоўны і цукровага трыснягу патрабуецца пастаянная праца. Тут можна выкарыстоўваць дзяцей і жанчын, што немагчыма пры вырошчванні пшаніцы. Із гэтага вынікае, што адпаведна з

---

[260] Гэта сапраўды так у тых месцах, дзе вырошчваюць рыс. Рысавыя палі шкодныя для здароўя ва ўсіх краінах, але асабліва небяспечнымі яны з'яўляюцца ў трапічных краінах з іхных пякучым сонцам. Еўрапейцам было б вельмі нялёгка апрацоўваць зямлю ў гэтай частцы Новага Сьвету, калі б яны неадменна мелі б жаданне вырошчваць рыс. Але хіба абавязкова вырошчваць менавіта рыс?

[261] Гэтыя штаты размешчаны бліжэй да экватара, чым Італія і Гішпанія, але на Амерыканскім кантыненце клімат значна халаднейшы, чым на Еўрапейскім.

[262] Гішпанцы некалі прывезлі ў адну із акруг Луізіяны, якая носіць назву Атакапас, некаторую колькасць сялян із Азорскіх выспаў. У якасьці эксперыменту яны не сталі ўводзіць там рабства. Гэтыя людзі і зараз апрацоўваюць зямлю без рабоў, але яны так абыякава ставяцца да сваёй працы, што ледзь у стане задаволіць свае патрэбы.

натуральнымі нагодамі рабства больш дапасуе тым краінам, дзе вырошчваюцца гэтыя расьліны.

Але тытунь, бавоўна і цукровы трыснёг растуць толькі на Поўдні і з’яўляюцца асноўнымі крыніцамі яго багацця. Скасаванне рабства паставіла б паўднёўцаў перад выбарам: або вырошчваць іншыя культуры і ўступіць у гэтым выпадку ў канкурэнцыю з больш актыўнымі і дасьведчанымі паўночнікамі, або вырошчваць тыя ж культуры, але без рабоў і ў гэтым выпадку вытрымліваць канкурэнцыю з іншымі паўднёвымі штатамі, карыстаючыміся рабскай працай.

Такім чынам, у адрозненні ад Поўначы на Поўдні існуюць своеасаблівыя падставы для захавання рабства.

Але існуе і яшчэ адна нагода, самая істотная. Вядома, нарэшце, можна скасаваць рабства і на Поўдні, але як там пазбавіцца ад чарнаскурых? На Поўначы скасаванне рабства і выгнанне былых рабоў адбываецца адначасова, але няма ніякай надзеі, што тое ж самае можна будзе зрабіць і на Поўдні.

Прыводзячы довады таго, што на Поўдні рабства больш адпавядае натуральным умовам і прыносіць большую выгоду, чым на Поўначы, я шмат разоў згадваў, што і колькасць рабоў там, відаць, значна вышэйшая, чым на Поўначы. Менавіта на Поўдзень былі прывезены першыя афрыканцы. Колькасць прывозімых сюды неграў заўсёды было большай. Чым далей на Поўдзень, тым мацней адчуваецца забабоннасць, згодна з якой павагі заслугоўвае толькі бяздзейнасць. У штатах, суседніх з тропікамі, не працуе ніводзін белы чалавек. Дзякуючы ўсім гэтым нагодам на Поўдні неграў больш, чым на Поўначы. І з кожным днём іхная колькасць павялічваецца, таму што па меры таго, як рабства скасоўваецца на адным канцы Звязу, негры збіраюцца на яго другі канец. Такім чынам, колькасць чарнаскурых на Поўдні павялічваецца не толькі за кошт натуральнага прыросту насельніцтва, але і дзякуючы вымушанай эміграцыі неграў з Поўначы. На Поўдні Звязу колькасць чарнаскурых павялічваецца згодна з тымі ж нагодамі, адпаведна з якімі так хутка павялічваецца колькасць белых на Поўначы.

У штаце Мэн на 300 белых прыпадае 1 негр, у Масачусетсе на 100 – 1, у штаце Нью-Ёрк на 100 – 2, у Пенсільваніі – 3, у Мэрылендзе – 34, у Віргініі – 42 і, нарэшце, у Паўднёвай Караліне – 55[263]45. Такімі былі суадносіны чорных і белых у 1830 годзе, але яны ўвесь час пераменяюцца. Штодня колькасць чарнаскурых на Поўначы памяншаецца, а на Поўдні павялічваецца.

Цалкам відавочна, што ў паўднёвых штатах Звязу немагчыма скасаваць рабства грунтуючыся на прыкладзе паўночных штатаў, не спарадзіўшы тым самым вялікіх праблем, цалкам не пагражаўшых Поўначы.

Мы бачылі, што ў паўночных штатах пераход ад рабства да вольнасьці адбываецца паступова. Дарослыя негры застаюцца рабамі, а іхныя дзеці робяцца вольнымі. Такім чынам, не ўсе негры адразу робяцца грамадзянамі. Тыя із іх, хто мог бы выкарыстаць сваю незалежнасць у зло, застаюцца ў кабале, на волю ж

[263] Вось што можна прачытаць у кнізе амерыканскага аўтара Кэры «Лісты пра каланіяльнае грамадства», выдадзенай у 1833 годзе: «У Паўднёвай Караліне вось ужо на працягу сарака гадоў чорнае насельніцтва павялічваецца хутчэй, чым белае. Разглядаючы ў цэлым насельніцтва пяці паўднёвых штатаў, у якіх упершыню ўзнікла рабства, то бок Мэрыленда, Віргініі, Паўночнай Караліны, Паўднёвай Караліны і Джорджыі, – паведамляе далей Кэры, – можна выявіць, што пачынаючы ад 1790 па 1830 год колькасць белых у гэтых штатах павялічылася на 80 адсоткаў, а колькасць чорных – на 112 адсоткаў». У 1830 годзе жыхары Злучаных Штатаў абодвух рас размяркоўваліся наступным чынам: у штатах, дзе рабства скасавана, белых было 6 565 434, а чорных – 120 520; у штатах, дзе рабства існуе, белых – 3 960 814, а чорных – 2 208 102 чалавекі.

адпускаюць тых, у каго яшчэ ёсць час навучыцца мастацтву жыць вольнымі да пачатку самастойнага жыцця.

На Поўдні такі спосаб выкарыстаць немагчыма. Заява пра тое, што, пачынаючы з нейкага часу, дзеці неграў стануць вольнымі людзьмі, прыносіць ідэю і прынцып вольнасьці ў саму сутнасць рабства. Тыя негры, якія згодна з законам застаюцца рабамі, бачачы сваіх дзяцей вольнымі, здзіўляюцца несправядлівасьці, здзесненай у дачыненні да іх і пачынаюць трывожыцца і абурацца. Рабства з гэтага часу губляе ў іхных вачах тую маральную магутнасць, якую яму надавалі час і звычай, яно зводзіцца толькі да відавочнага злоўжывання магутнасьцю. На Поўначы гэтая супярэчнасць не ўтойвала ў сабе ніякай небяспекі, таму што чорных там было мала, а белых – вельмі шмат. Але гора прыгнятальнікам, калі першы прамень такой вольнасьці дакранецца да двух мільёнаў чалавек адразу.

Вызваліўшы дзяцей сваіх рабоў, еўрапейскія жыхары Поўдня вельмі хутка былі б вымушаны пашырыць гэтае дабрадзейства на ўсю чорную расу.

На Поўначы, як я ўжо выказваўся, адразу пасьля скасавання рабства ці пачынаючы ад моманту, калі яно робіцца верагодным і блізкім, пачынаюцца два працэсы: рабоў вывозяць далей на Поўдзень, а на іхнае месца збіраюцца белыя із іншых паўночных штатаў і эмігранты із Яўропы. У самых паўднёвых штатах такія працэсы узнікнуць не могуць. З аднаго боку, колькасць рабоў там занадта вялікая, каб можна была спадзявацца справадзіць іх із краіны, а з другога – еўрапейцы і англа-амерыканцы з Поўначы асьцерагаюцца прыязджаць на жыхарства ў край, дзе праца ўсё яшчэ лічыцца ганебным заняткам. Да таго ж яны справядліва лічаць, што штатам, дзе колькасць неграў перавышае ці роўна колькасьці белых, пагражаюць вялікія ўзрушэнні і не спяшаюцца пашыраць на іх сваю прадпрымальніцкую дзейнасць.

Такім чынам, скасаванне рабства не дазволіла б паўднёўцам паступова прыстасаваць неграў да вольнасьці, як гэта зрабілі іхныя браты з Поўначы, яны не змаглі б паменшыць колькасць чарнаскурых і ім давялося б у адзіноце стрымліваць іхны напор. І праз некалькі гадоў там побач з белым насельніцтвам з’явілася б шматлікае, амаль роўнае яму па колькасьці, вольнае чарнаскурае насельніцтва.

Тады тыя парушэнні правоў неграў, якія сёння ляжаць у падмурку рабства, могуць спарадзіць на Поўдні вялізную небяспеку для белых. У наш час уся зямля знаходзіцца ў руках еўрапейцаў, толькі яны займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасьцю, багацце, адукацыя, зброя належыць толькі ім. Чарнаскурыя пазбаўлены ўсяго гэтага, але ім гэта і не патрэбна, яны ж – рабы. Але калі яны стануць вольнымі і павінны будуць самі клапаціцца пра сябе, без усяго гэтага іх чакае сьмерць. Такім чынам, усё тое, што складала магутнасць белых пры існаванні рабства, паварочваецца для іх буйнымі небяспекамі пасьля яго скасавання.

Пакуль негры застаюцца ў кабале, да іх можна ставіцца амаль так жа, як да быдла. Але калі яны атрымаюць волю, нішто не перашкодзіць ім здабыць дастатковую культуру для таго, каб зразумець ступень сваёй гаротнасьці і знайсьці выйсьце із яе. Акрамя таго, чалавеку ўласьціва дзіўнае пачуццё адноснай справядлівасьці, ідучай каранямі ў глыбіню яго душы. Людзі значна вастрэй успрымаюць несправядлівасьці, існуючыя ў асяроддзі аднаго стана, чым тыя, якія існуюць паміж станамі. Яны могуць мірыцца з рабствам, але пастаяннае зневажанне мільёнаў грамадзянаў, жывучых з пакалення ў пакаленне ў галечы, мае наступствам іхны пратэст. На Поўначы вольныя негры сустракаюцца з такімі

зневажаннямі і несправядлівасьцямі, але яны слабыя і нешматлікія. На Поўдні ж іх было б шмат і яны былі б моцнымі.

Калі выказаць здагадку, што калі-небудзь белыя і негры будуць жыць на адной зямлі як два розныя народы, то адразу робіцца відавочным, што для іх будуць магчымымі два шляхі: поўнае перамяшанне ці паўнае размежаванне.

Вышэй я ўжо выказваў сваю думку пра першы із іх[264]46. Я не веру ў тое, што паміж белай і чорнай расамі дзе-небудзь ўсталюецца роўнасць.

Больш таго, я лічу, што ў Злучаных Штатах сітуацыя будзе значна больш складанай, чым у нейкім іншым месцы. Здараецца, што адзін чалавек станавіцца вышэй рэлігійных, мясцовых ці расавых забабонаў. І калі гэты чалавек з'яўляецца каралём, ён у стане здзейсніць дзіўныя перамены ў грамадстве. Аднак цэлы народ не ў стане стаць вышэй самога сябе.

Магчыма, дэспат, які аднолькава ўціскаў бы як амерыканцаў так і іхных былых рабоў, здолеў бы дамагчыся іхнага перамяшання, але да таго часу, пакуль справамі Амерыкі кіруе дэмакратыя, ніхто не ў стане адважыцца на падобнае прадпрыемства. Наадварот, можна выказаць здагадку, што, чым большай вольнасьцю будуць валодаць белыя ў Злучаных Штатах, тым больш мацным будзе іхнае імкненне да размежавання з неграмі[265].

Я ўжо выказваўся вышэй, што трывалая сувязь паміж еўрапейцам і індэйцамі магла б быць забяспечана метысамі. Дакладна так жа праўдзівым злучаючым звяном паміж белым і неграм з'яўляецца мулат. Там, дзе існуе шмат мулатаў, аб'яднанне двух рас цалкам магчыма.

У Амерыцы існуюць месцы, у якіх еўрапейцы і негры так перамяшаліся, што цяжка сустрэць цалкам белага ці цалкам чорнага чалавека. У гэтым выпадку сапраўды можна гаварыць пра перамяшанне двух рас. Больш правільна сказаць, на іхным месцы з'яўляецца новая раса, валодаючая рысамі як той так і другой, але ў той жа час адрозная ад абодвух.

Із усіх еўрапейцаў ангельцы ў самай меншай ступені перамяшаліся з неграмі. На Поўдні Звязу мулатаў больш, чым на Поўначы, але ў цэлым іх значна менш, чым у якой бы то ні было із іншых еўрапейскіх асад. Наогул у Злучаных Штатах мулатаў вельмі мала і самі па сабе яны вельмі слабыя; у расавых канфліктах яны звычайна пераходзяць на бок белых. Так, у Яўропе лакеі вялікіх вяльмож пры стасунках з простым народам напускаюць на сябе выгляд людзей шляхетнага паходжання.

Да гонару сваім паходжаннем, уласьціваму ангельцам, у амерыканцаў яшчэ дадаецца высокае пачуццё ўласнай вартасьці, народжанае вольнасьцю і дэмакратыяй. Белы чалавек у Злучаных Штатах ганарыцца як сваёй расай, так і самім сабой.

Акрамя таго, раз ужо на Поўначы негры і белыя не перамяшаліся, то як гэта можа адбыцца на Поўдні? Немагчыма і на хвіліну выказаць здагадку, што паўднёўцам, якія ўвесь час жывуць у асяроддзі, з аднаго боку, адчуваючых сваю маральную і фізічную перавагу белых, а з другога – неграў, прыйдзе думка пра

[264] Гэтую думку, дарэчы, паддзяляюць людзі значна больш аўтарытэтныя чым я. Вось што можна прачытаць ва «Успамінах» Джэферсона: «Няма нічога, што было б напісана ў кнізе лёсаў выразней, чым вызваленне чарнаскурых. У той жа час, калі абедзьве расы будуць вольнымі, яны не здолеюць жыць у адной дзяржаве, таму што прырода, звычкі і перакананні ўзвялі паміж імі непераадольваемыя перашкоды (гл.: Кансей, «Вытрымкі із «Успамінаў» Джэферсона»).

[265] Калі б ангельцы на Антыльскіх выспах не залежалі ад сваёй былой радзімы, то яны, верагодна, не прынялі б закон пра вызваленне рабоў, які яна ім навязала.

зблiжэнне з гэтымi апошнiмi. Паўднёўцы адчуваюць два моцных пачуцці, дзякуючы якім яны заўсёды будуць трымацца на адлегласьцi ад неграў: яны баяцца стаць падобнымi на сваiх былых рабоў i быць нiжэй, чым iхныя белыя суседзi.

Калi б мне абавязкова патрэбна было зрабiць прагноз на будучыню, я б сказаў, што, хутчэй за ўсё, пасьля скасавання рабства на Поўднi пагардлiвае стаўленне белага насельнiцтва ў дачыненнi да неграў павялiчыцца. Мая думка заснавана на тым, што я бачыў на Поўначы. Там, як я ўжо казаў, па меры таго як знiкаюць заканадаўчыя адрозненнi памiж двума расамi, белыя прыкладаюць усё больш намаганняў для таго, каб трымацца на адлегласьцi ад чорных. Тое ж самае адбудзецца i на Поўднi. Баязнь белых жыхароў Поўначы перад небяспекай iхнага перамяшання з чарнаскурымi заснавана больш на ўяўленнi. На Поўднi ж такая небяспека цалкам рэчаiсная, i баязнь дзякуючы гэтаму можа толькi павялiчыцца.

Калi, з аднаго боку, прызнаць той не выклiкаючы сумневаў факт, што ў самых паўднёвых абласьцях краiны чарнаскурае насельнiцтва павялiчваецца, пры гэтым хутчэй, чым белае насельнiцтва; а з другога, – што чорныя i белыя нiколi не змогуць перамяшацца i карыстацца ў грамадстве аднолькавымi правамi, то варта зрабiць выснову пра тое, што рана цi позна чорныя i белыя ў паўднёвых штатах пачнуць змаганне памiж сабой.

Якiм будзе яго сыход?

Цалкам вiдавочна, што адказам на гэтае пытанне могуць служыць толькi невыразныя здагадкi. Коштам вялiкага напружання чалавек здольны акiнуць уяўным позiркам агульны накiрунак будучага развiцця, але на шляху гэтага развiцця ў свае правы ўступае выпадак, непадуладны нiякiм разумовым намаганням. У выяве будучынi выпадак уяўляе сабой цёмную пляму, якую не ў стане асьвяцiць праменi розуму. Зараз можна сказаць толькi наступнае: на Антыльскiх выспах, вiдаць, загiне белая раса, а на кантыненце – чорная.

На Антыльскiх жа выспах купка белых жыве ў асяроддзi вялiзнага чарнаскурага насельнiцтва, тады як на кантыненце негры зацiснуты памiж морам i шматлiкiм белым насельнiцтвам, кампактна жывучым на прасторах ад канадзкiх iльдоў да мяжы Вiргiнii, ад берагоў Мiсуры да ўзбярэжжа Атлантычнага акiяна. I калi белыя ў Паўночнай Амерыцы будуць дзейнiчаць заадно, то цяжка сабе ўявiць, каб негры здолелi пазбегнуць пагражаючага iм вынiшчэння. Яны загiнуць ад зброi i галечы. Але ў чорнага насельнiцтва, жывучага на беразе Мексiканскага залiва, iснуе магчымасць выратавацца, калi змаганне памiж двума расамi пачнецца пасьля распаду амерыканскай федэрацыi. Калi федэральныя сувязi будуць разарваны, то паўднёўцам не варта было б разлiчваць на працяглую падтрымку з боку iхных паўночных братоў. Паўночнiкам вядома, што яны ў небяспецы i калi розум i абавязак не вымусяць iх прыйсьцi на дапамогу паўднёўцам, то можна выказаць здагадку, што расавыя сiмпатыi тым больш не здолеюць гэтага зрабiць.

Дарэчы, калi б нi пачалося змаганне памiж расамi i калi нават белае насельнiцтва Поўдня будзе вымушана змагацца без чужой дапамогi, яно пачне змаганне, маючы вялiзныя перавагi ў ведах i сродках. Аднак чарнаскурыя здолеюць супрацьпаставiць iм колькасць i магутнасць роспачы, што вельмi важна ва ўзброеным змаганнi. Магчыма, белую расу на Поўднi чакае тое ж, што здарылася з гiшпанскiмi маўрамi? Пасьля некалькiх стагоддзяў валадарання яна паступова пойдуць ў тыя месцы, адкуль некалi прыйшлi яе продкi, пакiнуўшы неграў гаспадарамi ў краiне, якую, здавалася б, сам Усявышнi прызначыў для iх: яны лёгка пераносяць яе клiмат, у якiм iм лягчэй працаваць, чым белым.

Больш-менш аддаленая, але непазбежная небяспека змагання чорнага і белага насельніцтва на Поўдні Звязу ўвесь час бачыцца ўяўленню амерыканцаў як цяжкі сон. Жыхары Поўначы штодня згадваюць пра гэтую небяспеку, хаця непасрэдна ім нішто не пагражае. Яны прадбачаць няшчасьці і беспаспяхова шукаюць спосаб папярэдзіць іх.

У паўднёвых штатах пра гэта не згадваюць, там не абмяркоўваюць будучыню з замежнікамі, пазбягаюць падобных размоваў з сябрамі. Кожны ўтойвае свае думкі пры сабе. Аднак у маўчанні паўднёўцаў існуе нешта больш палохаючае, чым у шчырых баязнях паўночнікаў.

У якасьці выніку гэтай усеагульнай трывогі ўзнікла мала каму вядомае пачынанне, якое ў стане перамяніць лёс часткі чалавецтва.

Пад уздзеяннем баязні перад апісанай мной небяспекай зруртаванне амерыканскіх грамадзянаў утварыла таварыства, якое паставіла сабе на мэце вывозіць за свой рахунак на бераг Гвінеі неграў, маючых імкненне пазбегнуць прыгнятаючага іх дэспатызму[266].

А ў 1820 годзе гэтаму грамадству атрымалася заснаваць у Афрыцы на 7-м градусе паўночнай шыраты селішча, якое яно назвала Ліберыя. Згодна з апошнімі паведамленнямі, там ужо пасялілася 2500 неграў. Перасяліўшыся на сваю былую радзіму, чарнаскурыя стварылі там установы, падобныя амерыканскім. У Ліберыі існуе сістэма прадстаўніцтва, там маюцца негры-прысяжныя, негры-суддзі, негры-сьвятары, існуюць храмы і газеты. І з нагоды дзіўнай пераменлівасьці, уласцівай нашаму сьвету, белым забаронена жыць у гэтым пасяленні[267].

Вось ужо, сапраўды, нечаканы паварот лёсу! Два стагоддзі прайшло з тых часоў, як еўрапейцы ўпершыню забралі неграў із іхных сямей і павезлі іх на берагі Паўночнай Амерыкі. Сёння ж еўрапейцы зноў перасякаюць Атлантычны акіян, каб вярнуць нашчадкаў тых самых неграў у краіну, із якой яны некалі вывезлі іхных бацькаў. Варвары выпраўляліся ў кабалу за сьвятлом цывілізацыі; будучы ў рабстве, яны вучыліся майстэрству жыць вольнымі.

Да цяперашняга часу Афрыка была чужой навукам і мастацтвам белых. Магчыма, зараз еўрапейскія дасягненні пракрадуцца туды разам з вярнуўшыміся на радзіму афрыканцамі. Такім чынам, заснаванне Ліберыі нясе ў сабе выдатную і вялікую ідэю, але гэтая ідэя можа прынесьці значныя вынікі толькі ў Старым Сьвеце, у Новым жа яна не мае карысьці.

За дванаццаць гадоў Таварыства каланізацыі чорных перасяліла ў Афрыку 2500 неграў. За той жа час у Злучаных Штатах іх нарадзіўся каля 700 тысяч.

Нават калі б у асаду Ліберыя можна было штогадова перасяляць тысячы новых жыхароў, пры гэтым такіх, якім бы гэта пайшло на карысць; нават калі б за справу ўзяўся Звяз, а не грамадства і калі б ён выкарыстаў для вывазу неграў у Афрыку свае сродкі[268] і свае караблі, ён бы не здолеў бы ўраўнаважыць нават

---

[266] Гэтае таварыства атрымала назву Грамадства каланізацыі чорных. Гл. яго гадавыя справаздачы, у прыватнасьці пятнаццатую. Гл. таксама ўжо згданую брашуру пад назвай «Лісты пра каланіяльнае грамадства і верагодныя вынікі яго дзейнасьці» спадара Кэры. Філадэльфія, красавік 1833 года.

[267] Гэтае правіла было наказана самімі заснавальнікамі селішча. Яны асьцерагаліся, што ў Афрыцы адбудзецца тое ж, што адбываецца на ўскраінах Злучаных Штатаў: уступіўшы ў кантакт з больш асьвечанай расай, негры так жа, як індэйцы, будуць знішчаны перш, чым здолеюць стаць цывілізаванымі людзьмі.

[268] Падобнае пачынанне сутыкнулася б са шматлікімі іншымі цяжкасьцямі. Калі б Звяз дзеля вывазу неграў із Амерыкі ў Афрыку пачаў скупляць рабоў, то кошт на іх, павялічваючыся па меры памяншэння колькасьці рабоў, дасягнуў бы хутка астранамічных сум. У той жа час мала верагодна, каб паўночныя штаты пагадзіліся на падобны выдаткі, ад якіх яны б не атрымалі ніякай карысьці. Калі ж Звяз пажадаў бы забраць рабоў,

натуральны прырост чарнаскурага насельніцтва. Калі ж колькасць штогадова вывозімых неграў не будзе роўна колькасьці тых, якія нараджаюцца, ён не здолее нават прыпыніць развіццё гэтай штодня абвастраючайся хваробы свайго грамадства[269].

Негрыцянская раса ніколі не пакіне Амерыканскі кантынент, куды яна патрапіла згодна з воляй жарсьцяў і заганаў еўрапейцаў. Яна можа знікнуць з Новага Сьвету, толькі калі спыніць існаванне. Жыхары Злучаных Штатаў могуць аддаліць узрушэнні, надаючыя ім жах, але яны не здольны скасаваць іхную падставу.

Я павінен прызнацца, што, на маю думку, скасаванне рабства ў паўднёвых штатах не ў стане аддаліць сутыкненне двух рас.

Негры могуць працяглы час пакорліва пераносіць рабства. Але калі яны стануць вольнымі людзьмі, пазбаўленымі амаль усіх грамадзянскіх правоў, то хутка абурацца і, не будучы ў стане стаць роўнымі з белымі, стануць іхнымі ворагамі.

На Поўначы вызваленне рабоў прынесла відавочную карысць: і з рабствам было скончана, і вольныя негры не ўяўлялі ніякай небяспекі. Іх было занадта мала, і яны і падумаць не маглі пра свае правы. На Поўдні сітуацыя іншая.

На Поўначы рабаўладальнікі аб’ядноўвалі праблему рабства з развіццём гандлю і прамысловасьці, на Поўдні ж – гэта пытанне жыцця ці сьмерці. Таму параўноўваць праблему рабства на Поўначы і на Поўдні немагчыма.

Я цалкам не імкнуся, захавай мяне Божа, знайсьці прынцыповыя апраўданні трыманню неграў у няволі, як гэта робяць некаторыя амерыканскія аўтары. Я толькі маю жаданне сказаць, што тым, хто некалі дапусьціў яе існаванне, сёння не так лёгка яе скасаваць.

Павінен прызнацца, што разважаючы над лёс Поўдня, я бачу толькі два шляхі для жывучага там белага насельніцтва: або вызваліць неграў і перамяшацца з імі, або трымаць іх на адлегласьці і як мага даўжэй не скасоўваць рабства. Які б то ні было кампраміс, як мне здаецца, вельмі хутка будзе мець наступствам самую жахлівую грамадзянскую вайну і, магчыма, вынішчэнне адной із рас.

Жыхары Поўдня прытрымліваюцца такога ж погляду і гэтым тлумачацца іхныя паводзіны. Дзякуючы таму што яны не жадаюць перамешвацца з неграмі, яны не жадаюць вызваляць іх.

Гэта не азначае, што ўсе паўднёўцы лічаць, быццам бы рабства забяспечвае багацце рабаўладальнікаў. У гэтым дачыненні шмат хто із іх прытрымліваецца таго ж погляду, што і паўночнікі, і ахвотна пагаджаюцца з тым, што рабства – гэта зло. Аднак яны лічаць, што для таго, каб існавала магчымасць жыць, гэтае зло павінна быць захавана.

Па меры пашырэння асьветы на Поўдні шмат хто із жыхароў гэтай часткі краіны пачалі разумець, што рабства прыносіць шкоду рабаўладальніку. Але дзякуючы той жа асьвеце яны больш выразна, чым раней, бачаць амаль поўную немагчымасць яго скасавання. У выніку ўзнікае дзіўная супярэчнасць: чым больш

---

маючыхся на Поўдні, з дапамогай гвалту ці скупіць іх па нізкіх, усталяваных імі, коштах, ён сытукнуўся б з непераадольным супраціўленнем паўднёвых штатаў. Такім чынам, і той і іншы шлях не можа мець станоўчых вынікаў.

[269] У 1830 годзе ў Злучаных Штатах было 2 010 327 рабоў і 319 439 вольных неграў, у цэлым іхняя колькасць дасягала 2 329 766 чалавек – то бок негры ў гэты час складалі ненашмат больш чым пятую часткі ад усяго насельніцтва Злучаных Штатаў.

пярэчанняў выклікае карыснаць рабства, тым больш трывала яго існаванне замацоўваецца законам. Тым часам як на Поўначы падмуркі рабства паступова разбураюцца, на Поўдні яны замацоўваюцца ўсё больш суровымі законамі.

Сучасныя законы паўднёвых штатаў, маючыя дачыненне да рабоў, вызначаюцца нейкай нечуванай жорсткасьцю і самі па сабе сведчаць пра глыбокі крызіс у заканатворчай дзейнасьці. Дастаткова іх прачытаць, каб пераканацца ў тым, што абедзьве расы, жывучыя ў гэтай частцы краіны, знаходзяцца ў становішчы не маючым выйсьця.

Амерыканцы, жывучыя на Поўдні Звязу, наогул не ўзмацнілі жорсткасць утрымання рабоў, наадварот, умовы жыцця рабоў палепшыліся. Пад час старажытнасьці раба трымалі толькі кайданы і сьмерць, паўднёўцы ж знайшлі спосабы захавання сваёй улады, заснаваныя на розуме. Яны, калі можна так выказацца, адухавілі дэспатызм і гвалт. Старажытныя толькі імкнуліся перашкодзіць рабу вызваліцца ад сваіх кайданаў, а нашы сучаснікі паспрабавалі пазбавіць яго прагнасьці да вольнасьці. Пад час старажытнасьці было закавана цела раба, дух жа яго быў вольным, ён меў доступ да асьветы. У гэтым была логіка, у тыя ж часы існавала натуральная магчымасць спынення рабскага стану. На працягу дня раб мог стаць вольным і роўным свайму гаспадару.

Жыхары Поўдня не дапускаюць думкі пра тое, што калі-небудзь негры змогуць стаць роўнымі з імі. Таму яны пад пагрозай суровых пакаранняў забаранілі навучаць іх чытанню і пісанню. Яны не жадаюць падымаць неграў да свайго узроўню і ўтрымліваюць іх амаль так жа, як быдла.

Ва ўсе часы ўтойваўшаяся ў глыбіні рабства надзея на вызваленне памякчала яго жорсткасць.

Паўднёўцы зразумелі, наколькі небяспечна вызваляць рабоў, калі яны ніколі не здолеюць стаць роўнымі са сваімі былымі гаспадарамі. Вызваліць чалавека, пакінуўшы яго ў галечы і бяспраўі, ці існуе больш надзейны спосаб падрыхтаваць будучага правадыра паўстаўшых рабоў? Да таго ж ужо даўно было заўважана, што наяўнасць вольных неграў нараджала смутную турботу ў глыбіні душы тых, хто яшчэ заставаўся ў рабстве і абуджала ў іх невыразныя праблёскі думкі пра свае правы. На Поўдні гаспадары ў большасьці выпадкаў пазбаўлены магчымасьці вызваліць сваіх рабоў[270].

Я сустракаўся на Поўдні Звяза са старым чалавекам, які некалі быў у незаконнай сувязі з адной са сваіх негрыцянак. У іх было некалькі дзяцей і ўсе яны лічыліся рабамі свайго бацькі. Бацька шмат думаў над тым, каб адпісаць ім хаця б вольнасць, але прайшлі гады перш, чым ён здолеў пераадолець перашкоды, узведзеныя заканадаўцамі на шляху вызвалення рабоў. За гэты час ён састарэў і быў блізкі да сьмерці. І ён ужо ўяўляў сабе, як яго сыноў будуць перавозіць із аднаго рынку на другі рынак і як пасьля бацькаўскай улады яны патрапяць пад уладу чужога чалавека. Гэтыя жудасныя выявы прыводзілі ў стан ашалеласьці яго згасаючае ўяўленне. Пры выглядзе яго нуды і роспачы я зразумеў, як жорстка ўмее помсьціць прырода за тыя раны, якія ёй наносяць законы.

Такія пакуты, вядома, жудасныя, але хіба не з'яўляюцца яны лагічным і непазбежным вынікам самага існавання рабства ў сучасным сьвеце?

Еўрапейцы ператварылі ў рабоў людзей іншай расы, стаячай, на думку шмат каго із іх, на ніжэйшай ступені развіцця ў параўнанні з іншымі расамі. Думка пра магчымае перамяшанне з гэтай расай выклікае ў іх агіду. Яны лічылі, што рабства

[270] Вызваленне не забаронена, але яно патрабуе выканання фармальнасьцей, якія яго вельмі ўскладняюць.

будзе існаваць вечна, таму што паміж крайняй ступенню няроўнасьці ў якой жывуць рабы і поўнай роўнасьцю, натуральнай для вольных людзей, не мажа працягла існаваць ніякі прамежкавы стан. Еўрапейцы смутна адчулі гэтую праўду, але не ўсьвядомілі яе да канца. У дачыненні да неграў яны кіраваліся то выгадай, то ганарыстасьцю, то жалем. Спачатку яны парушылі ўсе чалавечыя правы неграў, а потым патлумачылі ім іхную каштоўнасць і непарушнасць. Яны дазволілі рабам доступ у сваё грамадства, але, калі тыя паспрабавалі ў яго зайсьці, іх пачалі гнаць і шальмаваць. Жадаючы захаваць рабства, яны або супраць сваёй волі, або несьвядома рухаліся да вольнасьці, але не адважваліся пры гэтым ні цалкам адкінуць справядлівасць, ні канчаткова яе аднавіць.

Калі нічога не паказвае на магчымасць наступлення таго часу, калі паўднёўцы перамяшаюцца з неграмі, то ці могуць яны, не падстаўляючы сябе пад сьмяротную небяспеку, дазволіць сваім рабыням знайсьці вольнасць? І калі для выратавання сваёй уласнай расы яны вымушаны трымаць іх у кайданах, то хіба не даравальна, што яны звяртаюцца для гэтага да самых дзейных сродкаў?

Тое, што адбываецца на Поўдні Звязу, жахліва, але ў той жа час гэта натуральны вынік рабства. Калі пераіначваецца прыроднае ўпарадкаванне рэчаў, калі чалавецтва стогне і дарэмна б’ецца ў сетках законаў, не патрэбна, на мой погляд, гнеўна таўраваць нашых сучаснікаў, рукамі якіх робяцца гэтыя беды. Усё абурэнне павінна быць накіравана супраць тых, хто адрадзіў у нашым сьвеце рабства пасьля больш чым тысячагадовага існавання роўнасьці. Дарэчы, якія б намаганні ні прыкладалі паўднёўцы для таго, каб захаваць рабства, у іх гэта не атрымліваецца. Мясцуючаеся ў адной кропцы зямнога шара, несправядлівае з боку гледжання хрысьціянства, згубнае, з боку гледжання эканамічнай палітыкі, рабства, захоўваемае ў асяроддзі дэмакратычнай вольнасьці і сучаснай асьветы, не можа існаваць доўга. Яно знікне ці пад ударамі рабоў ці адпаведна з воляй гаспадароў. Як у тым так і ў іншым выпадку патрэбна чакаць глыбокіх узрушэнняў.

Калі негры не будуць вызвалены, яны самі з дапамогай гвалту дамагуцца вольнасьці. Калі ж яна будзе ім падаравана, то яны не замарудзяць выкарыстаць яе ў зло.

## Якімі з’яўляюцца шанцы на даўгавечнасць амерыканскага звязу? Якія небяспекі яму пагражаюць?

–Рашаючае значэнне мае не Звяз, а штаты. –Федэрацыя будзе існаваць да таго часу, пакуль гэтага жадаюць утвараючыя яе штаты. –Нагоды, спрыяючыя захаванню Звяза. –Згуртаванне патрэбна для таго, каб супрацьстаяць замежнікам; дзякуючы яму ў Амерыкі няма замежнікаў. –Дзякуючы волі Усявышняга паміж штатамі няма прыродных перашкод. –У штатаў няма падзяляючых іх матэрыяльных зацікаўленасьцей. –Поўнач зацікаўлена ў квітненні і адзінстве Поўдня і Захаду, Поўдзень – Поўначы і Захаду, Захад – Поўначы і Поўдня, –Нематэрыяльныя зацікаўленасьці, аб’ядноўваючыя амерыканцаў. – Адзінства поглядаў. –Небяспекі, пагражаючыя федэрацыі, узнікаюць дзякуючы адрозненням у характары жывучых у ёй людзей і дзякуючы іхным жарсьцям. –Характар паўднёўцаў і паўночнікаў. –Адна із самых сур’ёзных пагроз заключаецца ў імклівым павелічэнні Звязу. –Перасяленні на Поўнач і Захад. –Засяроджванне моцы ў гэтых месцах. –Жарсьці, народжаныя рэзкімі ваганнямі матэрыяльнага становішча. –Калі Звяз будзе працягваць сваё існаванне, ці будзе яго ўрад умацоўвацца ці слабець? –Прыкметы паслаблення. –Internal improvements (унутраныя паляпшэнні). –Пустуючыя землі. –Індэйцы. –Справа пра Банк. –Справа пра тарыфы. –Генерал Джэксан.

Існаванне Звязу збольшага вызначаюць асаблівасьці ўласьцівыя кожнаму штату. Таму, перадусім, патрэбна разгледзець магчымую будучыню Звязу. Але яшчэ раней патрэбна зразумець адну праўду: калі сёняшняя федэрацыя распадзецца, штаты ні ў якім разе не вернуцца да самастойнасьці. Проста замест аднаго Звязу іх з'явіцца некалькі. Маім заданне не з'яўляецца дасьледаванне падмуркаў гэтых новых Звязаў. Я маю намер толькі паказаць, якія нагоды могуць прывесьці да распаду існуючай федэрацыі.

Для гэтага мне давядзецца дазволіць сабе некаторыя паўтарэнні. Я буду аналізаваць тэмы, якія я ўжо закранаў. Вядома, я рызыкую наклікаць на сябе папрокі чытачоў, але апраўданнем для мяне паслужыць важнасць прадмета вывучэння. Лепш паўтарыцца, чым быць незразуметым і лепш нанесьці шкоду рэпутацыі аўтара, чым глыбіні дасьледавання.

Ствараючы канстытуцыю 1789 года, заканадаўцы імкнуліся забяспечыць федэральнай уладзе незалежнасць і перавагу ў магутнасьці.

Аднак яны былі абмежаваны самімі ўмовамі стаяўшага перад імі задання. Ім жа было даручана не фармаванне ўрада адзінага народа, а распрацоўка ўмоваў аб'яднання некалькіх народаў і, якімі б ні былі іхны імкненні, яны не былі ў стане адкінуць пытанне пра падзел паўнамоцтваў розных установ улады.

Для таго каб зразумець, да чаго прывёў такі падзел, патрэбна коратка ахарактарызаваць розныя узроўні ўлады.

Існуюць дзяржаўныя справы, якія з'яўляюцца адпаведна са сваёй прыродай ўсенароднымі. Гэта азначае, што яны маюць дачыненне да народа, узятага ў поўным складзе і рашэнні па гэтых справах можа прымаць толькі чалавек ці сход, найбольш поўна прадстаўляючы ўвесь народ. Такімі з'яўляюцца пытанні вайны і дыпламатыя.

Існуюць іншыя справы, якія з'яўляюцца адпаведна са сваёй прыродай мясцовымі, то бок маючымі дачыненне толькі да той ці іншай мясцовасьці. Імі можна належным чынам кіраваць толькі на месцах. Да іх адносяца камунальны бюджэт.

Нарэшце, існуюць перамяшаныя справы. Іх можна назваць як усенароднымі, таму што яны маюць дачыненне да ўсіх людзей утвараючых народ, так і мясцовымі, таму што іхнае рашэнне не з'яўляецца заклапочанасьцю ўсяго народа. Возьмем, напрыклад, грамадзянскія і палітычныя правы. Яны ўласцівы для кожнага грамадзкага ўладкавання і пашыраюцца на ўсіх грамадзянаў. Аднак аднастайнасць гэтых правоў не заўсёды палягчае жыццё і спрые росквіту народа і, такім чынам, яны не павінны быць у веданні цэнтральнай улады.

Такім чынам, у кожным добра арганізаваным грамадстве, незалежна ад таго, якія прынцыпы пакладзены ў яго падмурак, заўсёды існуюць дзьве катэгорыі дзяржаўных справаў.

Паміж двума крайнімі кропкамі існуе незлічоная колькасць спраў агульнага, але не ўсенароднага характару, тых, якія я назваў перамяшанымі. Дзякуючы таму што такія справы не з'яўляюцца ні выключна ўсенароднымі, ні цалкам мясцовымі, яны могуць быць аддадзены ў веданне цэнтральнага ўрада ці мясцовай установы ўлады ў залежнасьці ад дамоўленасьці аб'ядноўваючыхся бакоў і пры гэтым згуртаванню не будзе нанесена ніякай шкоды.

Часьцей усяго людзі аб'ядноўваюцца для стварэння вярхоўнай улады і дзякуючы такому аб'яднанню ўзнікае народ. У гэтым выпадку, акрамя утворанага імі ўрада, у грамадстве існуюць моцныя асобы і ўплывовыя згуртаванні людзей,

аднак як тыя так і іншыя маюць толькі вельмі нязначную частку вярхоўнай улады. Таму не толькі чыста ўсенародныя, але і большая частка перамяшаных спраў павінны знаходзіцца ў веданні ўрада. У мясцовых установах улады застаецца толькі тая частка паўнамоцтваў, якая патрэбна для дабрабыту падначаленых ім тэрыторый.

Часам з нагоды падзей, папярэднічаўшых аб'яднанню вярхоўная ўлада ўтвараецца із ужо існуючых палітычных арганізмаў. Тады ў веданні мясцовых установў улады могуць выявіцца не толькі чыста мясцовыя справы, але ўсе ці частка перамяшаных. Народы, меўшыя да ўступлення ў федэрацыю ўласную вярхоўную ўладу і якія, нягледзячы на ўступленне, у значнай меры захоўваюць яе, саступаюць цэнтральнаму ўраду толькі паўнамоцтвы, патрэбныя для існавання Звязу.

Калі цэнтральнаму ўраду, акрамя прэрагатыў, уласцівых яму адпаведна з прыродай, належыць таксама права кіраваць перамяшанымі дзяржаўнымі справамі, то магутнасць на яго боку. Справа не толькі ў тым, што ён мае вялікія правы, але і ў тым, што ён у стане накласьці руку і на тыя правы, якія яму не належаць. Узнікае небяспека, што ён, на прыканцы, забярэ ў мясцовых установў улады натуральныя і патрэбныя ім паўнамоцтвы.

І наадварот, калі кіраванне перамяшанымі справамі знаходзіцца ў веданні мясцовых улад, у грамадстве выяўляецца процілеглая тэндэнцыя. У гэтым выпадку магутнасць на боку правінцый і небяспека палягае ў тым, што цэнтральны ўрад можа, у канчатковым выніку, страціць неабходныя паўнамоцтвы.

Так, у дзяржавах, утвораных адным народам, дзякуючы іхнай прыродзе развіваецца цэнтралізацыя, а федэрацыі рухаюцца да распаду.

Зараз застаецца толькі выкарыстаць гэтыя агульныя ідэі да амерыканскага Звязу.

Само сабой зразумела, што чыста мясцовыя справы гістарычна знаходзіліся ў веданні штатаў.

Акрамя таго штаты ўсталёўвалі грамадзянскія і палітычныя правы, рэгулявалі дачыненні паміж людзьмі, ажыццяўлялі правасуддзе. Усё гэта – паўнамоцтвы агульнага характару, але не такія, якія абавязкова павінны ўваходзіць у кампетэнцыю цэнтральнага ўрада.

Вядома, што ўраду Звязу было перададзена права распараджацца ад імя ўсяго народа ў тых выпадках, калі народ павінен выступаць як адзіны і непадзельны суб'ект. Ён прадстаўляе народ у стасунках з замежнікамі, ён кіруе агульным войскам ў змаганні з агульным ворагам. Адным словам, ён займаецца выключна ўсенароднымі справамі.

На першы погляд можа здацца, што на долю Звязу прыпадае больш уладных паўнамоцтваў, чым на долю штатаў. Аднак нават павярхоўнае вывучэнне гэтага пытання пераконвае, што ў рэчаіснасьці Звяз мае меншую ўладу, чым штаты.

Хаўрусны ўрад займаецца справамі шырокага маштабу, але яго дзейнасць рэдка бывае заўважаемай. Урад штата займаецца больш вызначанымі пытаннямі, але ён дзейнічае ўвесь час і ніколі не дае пра сябе забывацца.

Цэнтральны ўрад турбуецца пра агульныя зацікаўленасьці краіны, але ж гэтыя зацікаўленасьці не робяць непасрэднага ўплыву на асабісты дабрабыт грамадзянаў.

Наадварот, справы штата маюць прамое дачыненне да дабрабыту яго жыхароў.

Звяз забяспечвае незалежнасць і веліч нацыі, але гэта рэчы непасрэдна не закранаючыя зацікаўленасьцей прыватных асоб. Штат гарантуе волю кожнага грамадзяніна, вызначае яго правы, забяспечвае бяспеку ўласнасьці, жыцця, упэўненасць у будучыні.

Федэральны ўрад знаходзіцца далёка ад грамадзянаў, а ўрад штата – блізка, ён чуе ўсе звернутыя да яго галасы. У цэнтральным урадзе ідзе змаганне жарсьцяў паміж некалькімі выбітнымі асобамі, імкнучыміся кіраваць яго дзейнасьцю. Урад штата прыцягвае цікавасць людзей, валодаючых менш яскравымі талентамі. Яны злучаюць свае надзеі на дасягненне ўплывовага становішча толькі са сваім штатам. Але менавіта яны, знаходзячыся ў непасрэднай блізкасьці да народа, маюць над ім самую вялікую ўладу.

Такім чынам, урад штата надае амерыканцам больш надзеяў і баязні, чым цэнтральны ўрад. З нагоды натуральнай цягі чалавечай душы яны значна мацней прывязаны да штата, чым да Звязу.

У гэтым дачыненні звычкі і пачуцці знаходзяцца ў пагадненні з зацікаўленасьцямі.

Калі адзіная нацыя распадаецца на некалькі суверэнных народаў, якія потым утвараюць федэрацыю, то дзякуючы ціску ўспамінаў, звычаяў і традыцый цэнтральны ўрад доўга можа мець паўнамоцтвы, не абгрунтаваныя законам. Калі ж народы, складаючыя федэрацыю, ствараюць адзіную вярхоўную ўладу, тыя ж нагоды дзейнічаюць у адваротным накірунку. Калі б Францыя ператварылася ў федэратыўную рэспубліку накшталт Злучаных Штатаў, яе ўрад, без сумневаў, дзейнічаў бы спачатку больш энергічна, чым урад Звязу. А калі б гэты апошні стаў манархіяй, падобнай французскай, яго ўрад на працягу нейкага часу захоўваў бы сваю слабасць. Да таго часу, калі ў Амерыцы была створана дзяржаўнасць, штаты існавалі ўжо даўно. Усярэдзіне іх паміж злучынамі і асобнымі людзьмі ўзніклі вызначаныя дачыненні. У іхных жыхароў выпрацаваліся агульныя погляды на некаторыя пытанні, яны прызвычаіліся абсалютна самастойна займацца некаторымі асобліва важнымі справамі.

Звяз уяўляе сабой вялізнае ўтварэнне, дзякуючы сваім памерам ён не ў стане быць прадметам патрыятызму. Штат мае вызначаную форму і выразныя межы, з ім злучаны добра знаёмыя і дарагія яго жыхарам рэчы: звыклы краявід, уласнасць, сям’я, выявы мінулага, сёняшняя праца, мары пра будучыню. Дзякуючы таму што патрыятызм часьцей усяго з’яўляецца праекцыяй індывідуальнага эгаізму на навакольны сьвет, ён замыкаецца ў рамках штата, не пашыраючыся на Звяз.

Такім чынам, і зацікаўленасьці, і звычкі, і пачуцці спрыяюць засяроджванню сапраўднага палітычнага жыцця не ў Звязе, а ў штаце.

Пра адрозненне моцы абодвух урадаў можна зрабіць выснову грунтуючыся на тым, як кожны із іх дзейнічае ў межах сваіх паўнамоцтваў.

Звяртаючыся да асобнага чалавека ці згуртавання людзей, урад штата выказваецца зразумелымі выказваннямі і загадным тонам. Тое ж можна сказаць і пра федэральны ўрад, калі ён звяртаецца да прыватных асоб. Але калі ён мае справу са штатам, ён перастае загадваць і пачынае весьці перамовы. Ён абгрунтоўвае нагоды сваіх паводзін, прыводзіць аргументы, дае парады. У выпадку ўзнікнення сумневаў пра межы канстытуцыйных паўнамоцтваў кожнага із урадаў, урад штата адважна абараняе свае правы і неадкладна здзяйсняе энергічныя захады, каб іх абараніць. А ўрад Звязу тым часам разважае, заклікае народ да цьвярозага розуму, нагадвае яму пра яго зацікаўленасьці і яго славу, ён марудзіць і

пераконвае. Ён адважваецца дзейнічаць толькі ў самых крайніх выпадках. На першы погляд можа нават здацца, што менавіта ў руках правінцыйных урадаў і засяроджана ўлада над усёй дзяржавай, а кангрэс прадстаўляе толькі адзін штат.

Федэральны ўрад, нягледзячы на намаганні сваіх стваральнікаў, з'яўляецца слабым, і яму, больш чым нейкай іншай установе ўлады, патрабуецца самаахвотная падтрымка грамадзянаў.

Цалкам зразумела, што ён быў уладкаваны так, каб без цяжкасьцей увасабляць у жыццё волю штатаў да захавання Звязу. І ён мудра, энергічна і па-майстэрску выконвае гэтую сваю асноўную функцыю. Дзякуючы сваёй структуры ён звычайна мае справу толькі з прыватнымі асобамі і яму лёгка пераадолець які б то ні было супраціў агульнай волі. У той жа час федэральны ўрад ствараўся без разліку на тое, што ўсе штаты ці некаторыя із іх могуць выявіць жаданне выйсьці са Звязу.

Калі б вярхоўная ўлада штатаў і Звязу пачала змаганне, то Звяз, безумоўна, зведаў бы паразу. Дарэчы, вельмі сумнеўна, каб паміж імі магло пачацца сур'ёзнае змаганне. Кожны ж раз, калі штат выказвае зацяты супраціў федэральнаму ўраду, той саступае. Дзякуючы досьведу вядома, што, калі нейкі штат моцна жадаў і рашуча патрабаваў чаго-небудзь, ён заўсёды гэтага дамагаўся, а таксама калі ён катэгарычна адмаўляўся рабіць нешта, ніхто яму ў гэтым не перашкаджаў[271].

Але нават калі б хаўрусны ўрад валодаў бы дастатковай магутнасьцю, існуючыя ўмовы жыцця краіны абцяжарылі б яму яе выкананне[272].

Злучаныя Штаты займаюць вялізную тэрыторыю, яны падзелены вялікімі адлегласьцямі, іхнае насельніцтва раскідана па гэтай яшчэ напалову пустой краіне. І калі б Звяз пажадаў магутнасьцю зброі прымусіць сяброў федэрацыі да выканання абавязкаў, то ён апынуўся б у такім жа становішчы, у якім была Ангельшчына падчас Вайны за незалежнасць. Акрамя таго, нават моцнаму ўраду цяжка парушыць нейкія прынцыпы пасьля таго як ён аднойчы паклалаў іх у падмурак свайго дзяржаўнага права. Федэрацыя была заснавана з нагоды вольнага волевыяўлення штатаў, якія, аб'яднаўшыся, цалкам не пазбавіліся ад сваіх асаблівасьцей, іх насельніцтва не ператварылася ў адзіны народ. Калі б сёння адзін са штатаў пажадаў выйсьці са Звязу, было б нялёгка давесьці яму, што ён не мае на гэта права. І федэральны ўрад не мог бы лічыць сябе маючым права выкарыстаць прымус для таго, каб пераканаць яго.

Як сведчыць гісторыя федэрацый, федэральны ўрад лёгка можа зламаць супраціў суб'ектаў федэрацыі ў тым выпадку, калі адзін із іх ці некалькі вельмі зацікаўлены ў існаванні Звязу.

Я лічу, што некаторым са штатаў, аб'яднаўшыхся ў федэрацыю, Звяз прыносіць большую карысць, чым іншым, яны цалкам абавязаны сваім росквітам існаванню Звяза. Такія штаты, натуральна, служаць трывалым апірышчам цэнтральнаму ўраду ў яго імкненні трымаць у падпарадкаванні ўсе астатнія штаты. У гэтым выпадку цэнтральны ўрад здабывае магутнасць не ў сабе самым, ён знаходзіць яе, дзейнічаючы насуперак сваёй прыродзе. Аб'яднаўшыся ж, народы

---

[271] Пар. пазіцыю паўночных штатаў падчас вайны 1812 года. «Падчас гэтай вайны, – піша Джэферсон у лісьце да генерала Лафаета 17 сакавіка 1817 года, – чатыры ўсходніх штаты былі злучаны з астатняй часткай Звязу, як труп з жывым чалавекам». (Ліставанне Джэферсона, апублікаванае спадаром Кансейем.)

[272] Дзякуючы таму што ў Звязе пануе мір, у яго ўрада няма падставаў для таго, каб стварыць сталае войска. А без сталага войска ўрад не мае магчымасьці пры патрэбе, выкарыстаўшы спрыяльныя акалічнасьці, зламаць супраціўленне і хутка расправіцца з суверэннай уладай.

разлічваюць здабываць роўныя выгоды са свайго звязу, а мы бачым што моц федэральнага ўрада грунтуецца на іхнай няроўнасьці.

Я лічу таксама, што адзін са штатаў, уваходзячых у федэрацыю, можа набыць дастатковую вагу для таго, каб дыктаваць сваю волю цэнтральнаму ураду. Тады, лічачы што ўсе астатнія штаты знаходзяцца пад яго ўладай, ён пачынае абараняць толькі свой уласны суверэнітэт, прыкрываючыся суверэнітэтам Звяза. Ад імя федэральнага ўрада прымаюцца важныя рашэнні, але на справе гэты ўрад ужо не мае ніякай улады[273].

У абодвух выпадках улада, дзейнічаючая ад імя федэрацыі, узмацняецца па меры таго, як гэтая апошняя губляе свае натуральныя і асноўныя рысы.

Звяз, існуючы ў наш час у Амерыцы, карысы для ўсіх штатаў, але не з’яўляецца ўмовай існавання ніводнага із іх. Нават калі некалькі штатаў выйдуць із федэрацыі, яны не пашкодзяць іншым, хаця у цэлым іхнае становішча пагоршыцца. Дзякуючы таму што жыццё і дабрабыт штатаў толькі часткова залежаць ад існуючай у наш час федэрацыі, ніводзін штат не схільны ісьці на вялікія ахвяры дзеля яе захавання.

У той жа час няма ніводнага штата, які б із уладалюбівых падахвочванняў быў зацікаўлены ў захаванні зараз існуючай федэрацыі. Вядома, не ўсе штаты аднолькава ўплываюць на федэральныя ўстановы, але няма ніводнага, які б займаў сярод іх пераважаючае становішча і мог лічыць, што іншыя штаты стаяць ніжэй яго ці залежаць ад яго.

Няма ніякіх сумневаў у тым, што калі б нейкая частка Звязу сур’езна пажадала выйсьці із федэрацыі, то другая частка не толькі не змагла б ёй у гэтым перашкодзіць, але і не рабіла б гэтага. Сучасны Звяз будзе існаваць да таго часу, пакуль такой будзе воля ўсіх складаючы яго штатаў.

У сувязі з вышэйпавядомленым наша заданне спрашчаецца: мы павінны адказаць на пытанне пра тое, ці пажадаюць уваходзячыя ў федэрацыю штаты захаваць яе, а не пра тое, ці здолеюць яны із яе выйсьці.

Сярод шматлікіх нагод, дзякуючы якім Звяз з’яўляецца карысным для амерыканцаў, існуюць дзьве асноўныя, не абуджаючыя сумневаў ні ў каго.

Хаця на сваім кантыненце ў амерыканцаў няма суседзяў, іхнымі суседзямі з’яўляюцца ўсе тыя народы, з якімі яны вядуць гандаль. Нягледзячы на тое, што ў іх як быццам бы няма ворагаў, ім неабходна быць моцнымі, а магутнасць яны здабываюць у адзінстве.

У выпадку знікнення Звяза штаты не толькі сталі б больш слабымі ў параўнанні з іншымі народамі, але ўтварыліся б розныя народы на іхным уласным кантыненце. Ім давялося б ствараць пасярэдзіне штатаў мытні, дзяліць паміж сабой рэкі і ўсё гэта значна замарудзіла б асваенне вялізнай тэрыторыі, падараванай ім Богам.

Сёння ў іх няма патрэбы асьцерагацца ўварвання звонку, такім чынам, няма патрэбы ўтрымліваць войска, абкладаць насельніцства высокімі падаткамі. Калі ж Звяз распадзецца, гэтыя захады адразу ж стануць неабходнымі.

Такім чынам, амерыканцы глыбока зацікаўлены ў Звязе. Акрамя таго, можна сказаць, што ў наш час выхад са Звязу не прынёс бы ніякай матэрыяльнай выгады ніводнай із яго частак.

[273] Так, правінцыя Галандыя ў рэспубліцы Нідэрланды і імператар Германскай Канфедэрацыі не раз выступалі ад імя сваіх звязаў, выкарыстоўваючы моц канфедэрацыі ў сваіх уласных зацікаўленасьцях.

Калі вы пагледзіце на мапу Злучаных Штатаў, то пабачыце горы Алеганы, працягнуўшыяся з поўначнага-ўсходу на паўднёвы-захад на 400 лье. Можна падумаць, што сам Усявышні пажадаў стварыць паміж басейнам Місуры і ўзбярэжжам Атлантычнага акіяна натуральную перашкоду, якая б перашкаджала пастаянным стасункам людзей і ўяўляла б сабой натуральную мяжу жыццядзейнасьці розных народаў.

Але сярэдняя вышыня Алеган не перавышае 800 метраў[274]. Іхныя круглявыя вяршыні і перасякаючыя іх шырокія даліны лёгка даступныя. Больш таго, самыя буйныя рэкі, цякучыя ў Атлантычны акіян, такія, як Гудзон, Саскачаван, Патамак, бяруць свой пачатак за Алеганамі на адкрытым плато, мяжуючым з басейнам Місісіпі. Адсюль[275] яны пракладаюць сабе шлях праз горы, якія, здавалася б, павінны былі прымусіць іх павярнуць на захад, і ствараюць натуральныя шляхі для перамяшчэнная чалавека.

Такім чынам, розныя часткі краіны, у якой у нашы дні жывуць англа-амерыканцы, не падзелены ніякімі перашкодамі. Алеганы не толькі не аддзяляюць адзін народ ад другога, яны не з’яўляюцца нават межамі штатаў. Яны размешчаны ў штатах Нью-Ёрк, Пенсільванія і Віргінія, тэрыторыя якіх распасьціраецца на захад і на ўсход ад гэтых гор[276].

24 штаты Звязу і 3 вялікія акругі, якія яшчэ не з’яўляюцца штатамі, хаця яны ўжо заселены, займаюць тэрыторыю роўную 131 144 квадратных лье[277], што азначае – іхная плошча у пяць разоў перавышае плошчу Францыі. Тут ёсць розныя глебы і кліматычныя зоны, разнастайны расьлінны сьвет.

Менавіта дзякуючы таму, што англа-амерыканскія рэспублікі займаюць такую вялізную прастору, шмат хто сумняваецца ў даўгавечнасьці іхнага звязу. У сувязі з гэтым патрэбна размежаваць розныя з’явы. Часам у правінцыях вялікіх імперый узнікаюць процілеглыя зацікаўленасьці, дзякуючы якім яны, раней ці пазьней, пачынаюць змаганне. Але калі ў людзей, жывучыж на шырокай тэрыторыі, няма процілеглых зацікаўленасьцей, то самі памеры краіны спрыяюць іхнаму росквіту. Таму што адзіны ўрад значна палягчае абмен тавараў, спрыяе іхны збыт і павялічвае іхную каштоўнасць.

І хаця зацікаўленасьці жыхароў розных частак Звязу не аднолькавыя, паміж імі няма супярэчнасьцей.

Паўднёвыя штаты амаль выключна земляробчыя, у паўночных асабліва развіты прамысловасць і гандаль, на Захадзе аднолькава квітнеюць як прамысловасць так і земляробства. На Поўдні вырошчваюць тытунь, рыс, бавоўну і цукровы трыснёг, на Поўначы і Захадзе – кукурузу і пшаніцу. Крыніцы абагачэння розныя, але агульнай і спрыяльнай для ўсіх умовай абагачэння з’яўляецца Звяз.

Поўнач, вывозячая тавары вырабляемыя англа-амерыканцамі ва ўсе часткі сьвету, а тых забяспечваючая замежнымі таварамі, вядома, зацікаўлена ў захаванні федэрацыі ў яе сучасным выглядзе. Ёй гэта патрэбна для таго, каб колькасць амерыканскіх вытворцаў і спажыўцоў, якіх ён абслугоўвае, не памяншалася.

[274] Сярэдняя вышыня Алеган, згодна са сведчаннем Вальнэ (Выявы із жыцця Злучаных Штатаў, с. 33), ад 700 да 800 метраў, згодна са сведчаннем Дарбі – ад 5000 да 6000 футаў. Самая высокая кропка Вагезаў – 1400 метраў над узроўнем мора.

[275] Гл.: Дарбі. Агляд Злучаных Штатаў, с. 64, 79.

[276] Аллеганы не такія высокія і не такія цяжкапераадольваемыя, як Вагезы. У сувязі з гэтым усходнія схілы Алеганаў так жа натуральна злучаны з далінай Місісіпі, як Франш-Кантэ, верхняя Бургундыя і Эльзас з Францыяй.

[277] 1 002 600 квадратных міль. Гл. Дарбі. Агляд Злучаных Штатаў, с. 435.

Поўнач з’яўляецца самым натуральным пасярэднікам паміж паўднёвай і заходняй часткамі Звязу, з аднаго боку, і ўсім астатнім сьветам – з другога, і яна, безумоўна, жадае, каб Поўдзень і Захад былі часткамі адзінага цэлага і квітнелі. Пры гэтай умове яны будуць пастаўляць сыравіну для яе прамысловасьці і груз для яго караблёў.

У сваю чаргу Поўдзень і Захад яшчэ больш зацікаўлены ў існаванні Звязу і росквіце Поўначы. Значная частка тавараў, вырабляемых на Поўдні, з’яўляецца прадметам экспарту, таму як Поўдзень так і Захад маюць патрэбу ў пасярэдніцтве Поўначы. Для іх з’яўляецца натуральным жаданне бачыць Звяз моцнай марской дзяржавай, якая магла б эфектыўна абараняць іхныя зацікаўленасьці. І хаця ў іх саміх няма караблёў, яны вымушаны без якіх бы то ні было абмовак браць удзел у выдатках на будаванне флота. Таму што калі еўрапейскія караблі заблакуюць выйсьце із паўднёвых портаў ці каля дэльты Місісіпі, што стане з рысам Паўднёвай і Паўночнай Караліны, з тытунём Віргініі, з цукрам і бавоўнай вырошчваемых у даліне Місісіпі? Такім чынам, увесь федэральны бюджэт выдаткуецца на ахову матэрыяльных зацікаўленасьцей агульных для ўсіх сябраў федэрацыі.

Звяз Поўдня і Захаду з Поўначчу карысны ім не толькі з камерцыйнага боку гледжання, яны здабываюць із яго вялікую карысць і ў вобласьці палітыкі.

На Поўдні жыве вялізная колькасць рабоў. Яны ўяўляюць небяспечку ўжо зараз і могуць стаць яшчэ больш небяспечнымі ў будучыні.

Заходнія штаты размешчаны на тэрыторыі, па абодва бакі якой цягнуцца горы. Рэкі, працякаючыя праз гэтыя штаты, бяруць свой пачатак каля Скалістых гор ці Алеган, зліваюцца з Місісіпі, якая нясе сваю ваду ў Мексіканскі заліў. Дзякуючы свайму геаграфічнаму становішчу заходнія штаты цалкам адрэзаны ад еўрапейскай культуры і цывілізацыі.

У сувязі з гэтым паўднёўцы павінны быць зацікаўлены ў існаванні Звязу, каб не застацца сам-насам з чарнаскурымі, а жыхары Захаду – каб не апынуцца ў сваёй краіне ў ізаляцыі, без якіх бы то ні было сувязей з навакольным сьветам.

Поўнач у сваю чаргу не можа імкнуцца да распадзення Звязу, таму што яна жадае па-ранейшаму заставацца звяном, злучаючым гэтую вялікую краіну з усім астатнім сьветам.

Мы бачым, што матэрыяльныя зацікаўленасьці ўсіх частак Звязу цесна пераплецены.

Тое ж самае можна сказаць пра перакананні і пачуцці, то бок пра нематэрыяльныя зацікаўленасьці людзей.

Жыхары Злучаных Штатаў шмат выказваюцца пра сваю павагу да радзімы, але ў мяне іхны разумовы патрыятызм не выклікае даверу. Ён заснаваны на зацікаўленасьцях і можа знікнуць пры перамене іх. Я таксама не надаю вялікага значэння словам амерыканцаў, калі яны ўвесь час кажуць пра жаданне захаваць федэральную сістэму, створаную іхнымі бацькамі.

Масы грамадзянаў жывуць пад уладай аднаго ўрада не столькі дзякуючы ўсведамляемай волі да адзінства, колькі дзякуючы магутнасьці інстынктыўнага і ў нейкім сэнсе несьвядомага адзінства, народжанага блізкасьцю пачуццяў і перакананняў. Я ніколі не пагаджуся з думкай, што грамадства можа стварыцца толькі грунтуючыся на прызнанні ўлады аднаго валадара і падпарадкавання вызначаным законам. Грамадства ўзнікае, калі людзі маюць аднолькавыя погляды і думкі пра шмат якія рэчы, калі шмат якія падзеі выклікаюць у іх аднолькавыя ўражанні і наводзяць на падобныя думкі.

Калі аглядаць Злучаныя Штаты бяручы да ўвагі падобныя меркаванні, няцяжка заўважыць, што, нягледзячы на тое, што гэтая краіна падзелена на дваццаць чатыры незалежныя штаты, яе жыхары складаюць адзіны народ. Часам нават з'яўляецца думка, што існаванне грамадства ў англа-амерыканскім Звязе ўяўляе сабой больш значную рэчаіснасць, чым у некаторых еўрапейскіх краінах, нягледзячы на тое, што гэтыя апошнія жывуць падпарадкоўваючыся адзіным законах і падначальваючыся аднаму чалавеку.

На тэрыторыі Злучаных Штатаў існуе некалькі веравызнанняў, але ўсе амерыканцы адзіныя ў сваім стаўленні да рэлігіі.

У іх існуюць непагадненні з нагоды эфектыўных спосабаў кіравання і разнастайнасьці яго пэўных формаў, але пануе поўная згода з нагоды асноўных прынцыпаў кіравання грамадствам. Ад Мэна да Фларыды, ад Місуры да Атлантычнага акіяна ўсе лічаць, што падмуркам законнай улады з'яўляецца народ. У іх аднолькавыя погляды на вольнасць і роўнасць, яны аднолькава глядзяць на прэсу, права на згуртаванні, суд прысяжных і адказных прадстаўнікоў улады.

Тое ж пагадненне назіраецца і ў філасофскіх і маральных перакананнях, ляжачых у падмурку іхных паводзін у штодзённым жыцці.

Англа-амеріканцы[278] бачаць падмурак маралі ў грамадзкім розуме так жа, як падмурак законнасьці палітычнай улады ў яе ўсеагульным прызнанні грамадзянамі. Згодна з іхнай думкай, каб адрозніць дазволенае ад недазволенага і сапраўднае ад ілжывага, патрэбна спадзявацца на грамадзкую свядомасць. Большасць амерыканцаў лічаць, што правільнае разуменне асабістай зацікаўленасьці дастаткова для таго, каб весьці чалавека па правільнаму і сумленнаму шляху. Кожны чалавек мае прыроджаную здольнасць кіраваць сабой, і ніхто не мае права навязваць сабе падобным сваё разуменне шчасьця. Амерыканцы шчыра вераць у дасканаласць чалавека і лічаць, што пашырэнне ведаў непазбежна будзе мець наступствам станоўчыя вынікі, а невуцтва – самыя сумныя наступствы. Яны глядзяць на чалавечае грамадства як на развіваючыся арганізм, у якім не можа і не павінна быць нічога непарушнага. Тое, што здаецца ім добрым, магчыма будзе заменена ў будучыні на лепшае, але сёння яшчэ невядомае.

Справа не ў тым, што ўсе гэтыя ідэі слушныя, а ў тым, што яны агульнапрызнаныя ў Амерыцы.

Акрамя ідэй, аб'ядноўваючых англа-амерыканцаў, у іх яшчэ існуе пачуццё гонару, адрозніваючае іх ад усіх астатніх народаў.

На працягу пяцідзесяці гадоў жыхарам Злучаных Штатаў без канца паўтараюць, што яны з'яўляюцца адзіным рэлігійным, асьвечаным і вольным народам. Той факт, што да цяперашняга часу дэмакратычныя ўстановы з поспехам функцыянуюць у іх і знікаюць ва ўсіх іншых краінах сьвету, нараджае ў іх велізную ганарлівасць. Ім нават з'яўляецца блізкай думка пра тое, што яны з'яўляюцца вельмі своеасаблівымі людзьмі.

Такім чынам, пагроза існаванню амерыканскага Звязу заключаецца не ў шматстатнасьці перакананняў ці зацікаўленасьцей, а ў адрозненні характараў і жарсьцяў амерыканцаў. Не гледзячы на тое што амаль усе насельнікі вялізнай тэрыторыі Злучаных Штатаў з'яўляюцца выхаднікамі із адной краіны, з часам дзякуючы клімату і яшчэ ў большай ступені рабству ў характары ангельцаў з Поўдня з'явіліся рысы, моцна адрозніваючыя іх ад ангельцаў з Поўначы.

---

[278] Я лічу, няма патрэбы тлумачыць, што, выказваючыся пра англа-амерыканцаў, я маю на ўвазе большасць насельніцтва, за межамі якога заўсёды могуць існаваць людзі вызнаючыя іншыя перакананні.

У нас існуе думка, што дзякуючы існаванню рабства зацікаўленасьці адной часткі Звязу ўваходзяць у супярэчнасць з зацікаўленасьцямі другой яго часткі. Я рашуча не згодзен з гэтым. Рабства не стварае супярэчнасьцей паміж зацікаўленасьцямі Поўдня і Поўначы; аднак яно перамяніла характар паўднёўцаў, надало ім рысы, не ўласьцівыя паўночнікам.

Я ўжо згадваў пра тое, які ўплыў зрабіла рабства на развіццё гандлю на Поўдні Злучаных Штатаў. Не меншы ўплыў яно зрабіла і на норавы паўднёўцаў.

Раб ніколі не спрачаецца, ён падначальваецца ўсяму пакорліва. Часам, праўда, ён забівае свайго гаспадара, але ніколі яму не супярэчыць. На Поўдні нават самая бедныя сям'і мае рабоў. Пачынаючы з самага ранняга дзяцінства паўднёвец пачувае сябе кімсьці накшталт хатняга дыктатара. Робячы першыя крокі ў жыцці, ён усведамляе, што ён народжаны для таго, каб кіраваць і набывае звычку панаваць, не сустракаючы супраціву. Дзякуючы такому выхаванню паўднёўцы часта бываюць напышлівымі, нецярплівымі, раздражняючыміся, запальчывымі, нястрымнымі ў жаданнях. Яны жарсна жадаюць змагання, але хутка адчайваюцца, калі перамога патрабуе працяглых намаганняў.

Паўночнікі не аточаны з зыбкі рабамі. У іх няма нават і вольных слуг і часьцей усяго яны вымушаны клапаціцца пра сябе самі. Пачынаючы з юнацкіх гадоў яны, апынаючыся ў розных акалічнасьцях, прасякаюцца думкай пра сваю самастойнасць і вучацца дакладна ацэньваць натуральныя межы сваіх магчымасьцей. Яны цалкам не разлічваюць магутнасьцю зламаць тых, хто дзейнічае супраць іхнай волі. Ім вядома, што для таго, каб атрымаць падтрымку людзей, патрэбна заслужыць іхны давер. Таму яны цярплівыя, разважлівыя, памяркоўныя, марудлівыя ў дзеяннях і зацятыя ў дасягненні сваіх задумаў.

У паўднёвых штатах самыя надзённыя патрэбы чалавека ніколі не застаюцца незадаволенымі. Паўднёўцам няма патрэбы думаць пра матэрыяльны бок жыцця, за іх пра гэта думаюць іншыя. Клопаты пра штодзённае жыццё не турбуюць іхнае уяўленне, таму яно накіравана на больш узнёслыя, але менш вызначаныя рэчы. Яны шануюць веліч, раскошу, славу, шум, задавальненні і асабліва бяздзейнасць. Жыццё не патрабуе ад іх ніякіх намаганняў і, дзякуючы таму што праца не з'яўляецца для іх неабходнай, яны пагружаюцца ў здранцьвенне і не робяць нават таго, што магло б прынесьці ім карысць.

Жыхары Поўначы маюць аднолькавы дастатак, тут няма рабства, і паўночнікі паглынуты тымі самымі штодзённымі клопатамі, якімі так пагарджаюць белыя паўднёўцы. Паўночнікі з дзяцінства сутыкаюцца з галечай і прызвычваюцца шанаваць забяспечанае жыццё вышэй усіх разумовых і душэўных асалод. Дзякуючы засяроджанасьці на дробязях у іх слабее ўяўленне, яны не вельмі здольны да абстракнага мышлення, але думаюць практычна, выразна і дакладна. Дзякуючы таму што ўсе намаганні іхнага розуму накіраваны на адзіную мэту – дасягненне дабрабыту, яны нязменна яго дасягаюць. Яны выдатна ўмеюць выкарыстоўваць прыроду і людзей для вытворчасьці матэрыяльных даброт і віртуозна валодаюць мастацтвам стварэння ў грамадстве ўмоваў, спрыяючых росквіту кожнага яго сябра, а таксама выкарыстанню ўласцівага чалавеку эгаізму для ўсеагульнай карысьці.

Паўночнікі валодаюць не толькі досьведам, але і ведамі, аднак вучэнне для іх не задавальненне, яны бачаць у ім сродак дасягнення сваёй мэты і нястомна аваладваюць тымі яе абласьцямі, якія маюць практычнае ўжыванне.

Паўднёўцы непасрэдныя, дасьціпныя, адкрытыя, велікадушныя, інтэлектуальныя і бліскучыя.

Паўночнікі актыўныя, разважлівыя, адукаваныя і спрактыкаваныя.

Першыя валодаюць густамі, забабонамі, слабасьцямі і шляхетнасьцю, уласцівымі арыстакратам.

Другія – вартасьцямі і недахопамі, уласьцівымі сярэдняму стану.

Калі ў звяз аб'ядноўваюцца два чалавекі, маючыя агульныя зацікаўленасьці і збольшага агульныя перакананні, але розныя характары, узровень ведаў і культуры, то вельмі верагодна, што ім будзе цяжка жыць у згодзе. Тое ж можна сказаць і пра звяз нацый.

Рабства шкодзіць амерыканскай федэрацыі не шляхам непасрэднага ўціскання яе зацікаўленасьцей, а ўскосна, шляхам уплыву на норавы людзей.

У 1790 годзе федэратыўная дамова была падпісана трынаццаццю штатамі, сёння ў федэрацыі дваццаць чатыры штаты. Насельніцтва, налічваўшае ў 1790 годзе каля чатырох мільёнаў чалавек, за сарок гадоў павялічылася ў чатыры разы, і ў 1830 годзе ў федэрацыі было каля трынаццаці мільёнаў человек[279].

Падобныя перамены заўсёды ўтойваюць у сабе небяспеку.

Існуюць тры асноўныя ўмовы, забяспечваючыя даўгавечнасць звязу нацый ці індывідаў: – гэта мудрасць яго сябраў, іх індывідуальная слабасць і абмежаваная колькасць.

На засваенне Захаду ад берагоў Атлантычнага акіяна вырашаюцца людзі, не церпячыя ніякага прыгнёту, прагна імкнучыяся да абагачэння і нярэдка прагнаныя са сваіх родных штатаў. Яны не знаёмы адзін з адным. У заходняй глухмені яшчэ няма ні традыцый, ні сямейнага духу, ні добрых прыкладаў, якія маглі б іх стрымліваць. Яны не схільны падпарадкоўвацца законам, ды і норавы не робяць на іх вялікага ўплыву. Такім чынам, тыя, хто сёння засяляе даліну Місісіпі, стаяць у шмат якіх дачыненнях ніжэй, чым тыя, хто жыве на першапачатковай тэрыторыі Звязу. Аднак іхны голас ужо гучна раздаецца ва ўстановах кіравання Звязам, і такім чынам яны бяруць удзел у кіраванні агульнымі справамі, не ўмеючы кіраваць сабой[280].

Верагоднасць даўгавечнасьці звязу тым вышэй, чым больш слабым з'яўляецца кожны із яго сябраў, дзякуючы таму што ў гэтым выпадку закладам іхнай бяспекі з'яўляецца адзінства. У 1790 годзе самая населеная із амерыканскіх рэспублік налічвала пяцьсот тысяч жыхароў[281] і ўсе яны адчувалі, што яны занадта малалікія для таго, каб стаць незалежнымі народамі. У той час патрэба падначальвання федэральным уладам не выклікала ў іх пратэсту. Але калі насельніцтва нейкага федэральнага штата даходзіць да двух мільёнаў чалавек, як гэта назіраецца ў штаце Нью-Ёрк, а яго тэрыторыя робіцца роўнай чацьвёртай частцы тэрыторыі Францыі[282], ён пачынае адчуваць сваю магутнасць. І хаця ён па-ранейшаму жадае захаваць спрыяючы яго дабрабыту звяз, ён не разглядае яго як неабходную ўмову свайго існавання. Пагаджаючыся заставацца ў Звязе, ён у той жа час жадае мець у ім пераважаючую ролю.

---

[279] Згодна з попісам 1790 года – 3 929 328; 1830 года – 12 856 163.

[280] Бяспрэчна, гэта толькі непрацяглая небяспека. З цягам часу і на Захадзе выпрацуецца і ўмацуецца грамадзкае жыццё, як гэта ўжо адбылося на берагах Атлантычнага акіяна.

[281] У Пенсільваніі ў 1790 годзе жыло 431 373 чалавекі.

[282] Плошча штата Нью-Ёрк складае 6 213 квадратных лье (500 квадратных міль). Гл.: Дарбі. Агляд Злучаных Штатаў, с. 435.

Адно толькі павелічэнне колькасьці сябраў Звязу можа стаць магутным штуршком да яго разбурэння. Нават у людзей, прытрымліваючыхся аднолькавых поглядаў, не заўсёды супадае стаўленне да тых самых рэчаў. Гэта тым больш верагодна пры адрозненні ў перакананнях. Таму, па меры таго як павялічваецца колькасць амерыканскіх рэспублік, робіцца ўсё цяжэй дасягнуць пагаднення з нагоды агульных для ўсіх законаў.

Сёння зацікаўленасьці сябраў Звязу не ўступаюць у супярэчнасць, але хто можа сказаць, якія перамены адбудуцца пад час самай блізкай будучыні ў краіне, дзе кожны дзень узнікаюць новыя гарады, а кожнае пяцігоддзе – новыя народы?

З часу з'яўлення ангельскіх асад колькасць іхных жыхароў павялічваецца амаль удвая кожныя дваццаць два гады. Няма ніякіх нагод, якія маглі б спыніць гэтае павелічэнне на працягу бліжэйшай сотні гадоў. Да заканчэння гэтага стагоддзя на тэрыторыі, якую займаюць і на якую прэтэндуюць Злучаныя Штаты, будзе налічвацца сорак штатаў, у якіх будзе жыць больш за сто мільёнаў чалавек[283].

Нават калі палічыць, што ўсе гэтыя сто мільёнаў чалавек будуць мець агульныя зацікаўленасьці і аднолькава разумець выгоды захавання Звязу, той факт, што яны будуць падзелены на сорак розных і няроўных па магутнасьці народаў, ператварае магчымасць захавання федэральнай формы кіравання ў шчаслівую выпадковасць.

Вядома, можна нагадаць тут пра здольнасць чалавека да самаўдасканалення. Але для таго каб урад, ставячы сабе на мэце аб'яднаць сорак розных народаў, жывучых на тэрыторыі, роўнай палове Яўропы[284], прадухіліць іхнае суперніцтва, імкненне да ўлады, сутыкненні і накіроўваць іхную вольную вольнасць на выкананне агульных задум, магло быць даўгавечным, чалавечая прырода павінна зведаць вельмі глыбокія перамены.

Аднак самая вялікая небяспека, злучаная з павелічэннем Звязу, утойваецца ў сталым перамяшчэнні магутнасьцей, што ў ім назіраецца.

Ад берагоў возера Верхняе да Мексіканскага заліва па прамой лініі налічваецца каля чатырохсот французскіх лье. Уздоўж гэтай бясконцай лініі цягнецца мяжа Злучаных Штатаў. Часам яна адступае ад гэтай лініі ў глыб краіны, але часьцей усяго яна заходзіць далёка за яе і цягнецца па пустэльных месцах. Падлічана, што па ўсяму гэтаму шырокаму фронту белыя перасоўваюцца ў сярэднім на сем лье за год[285]. Час ад часу яны сустракаюць на сваім шляху нейкую нечаканую перашкоду: неўрадлівыя землі, возера ці індэйскае племя. Тады людзі, ідучыя па ўсяму фронту, спыняюцца і згуртоўваюцца на нейкай тэрыторыі, пасьля чаго рух аднаўляецца. У гэтым паступовым і бесперапынным перасоўванні

[283] Калі на працягу яшчэ аднаго стагоддзя насельніцтва Злучаных Штатаў будзе падвойвацца кожныя дваццаць два гады, як гэта ўжо адбывалася на працягу двух стагоддзяў, то ў 1852 годзе там будзе налічвацца дваццаць чатыры мільёна жыхароў, у 1874 – сорак восем мільёнаў і ў 1896 годзе – дзевяноста шэсць мільёнаў. Гэта можа здарыцца, нават у тым выпадку, калі землі на ўсходніх схілах Скалістых гор выявяцца непрыдатнымі для земляробства. На ўжо занятых землях цалкам можа жыць пазначаная колькасць людзей. Калі ў дваццаці чатырох штатах і на трох тэрыторыях, уваходзячых у наш час у Звяз, будзе жыць сто мільёнаў чалавек, то шчыльнасць насельніцтва краіны будзе складаць 762 чалавекі на квадратнае лье, то бок будзе значна ніжэй, чым шчыльнасць насельніцтва Францыі, складаючая 1006 чалавек на квадратнае лье, і Ангельшчыны – 1457 чалавек. Яна будзе нават ніжэй шчыльнасьці насельніцтва Швейцарыі, дзе, нягледзячы на азёры і горы, шчыльнасць насельніцтва складае 783 чалавекі на квадратнае лье. Гл.: Мальт-Брун, т. VI, с. 92.

[284] Плошча Злучаных Штатаў раўняецца 295 тысячам квадратных лье, плошча Яўропы, згодна з Мальт-Брунуам (т. VI, с. 4), – 500 тысяч.

[285] Гл.: Заканадаўчыя дакументы, 20-ы кангрэс, № 117, с. 105.

еўрапейцаў да Скалістых гор ёсць нешта ад цуда. Колькасць людзей, якія штодня выпраўляюцца ў шлях па волі Бога, увесь час павялічваецца.

Па меры пасоўвання гэтага фронту на новых землях будуюцца гарады, узнікаюць шырокія штаты. У 1790 годзе ў далінах Місісіпі жыло не больш за некалькі тысяч піянераў. Сёння там жыве столькі ж чалавек, колькі налічвалася ва ўсім Звязе ў 1790 годзе, то бок каля чатырох мільёнаў[286]. Горад Вашынгтон быў заснаваны ў 1800 годзе ў цэнтры амерыканскай федэрацыі, зараз ён знаходзіцца на адной із яе ўскраін. Для таго каб з'явіцца на паседжанні кангрэса, дэпутатам самых заходніх штатаў[287] патрэбна пераадолець адлегласць, роўную адлегласьці паміж Венай і Парыжам.

Усе штаты Звязу аднолькава імкнуцца да багацця, але яны не могуць павялічвацца і квітнець у аднолькавай ступені.

На поўначы Звязу асобныя адгор'і Алеган даходзяць да Атлантычнага акіяна і ўтвараюць вялікія рэйды і парты, у якія заўсёды могуць заходзіць самыя вялікія караблі. Але ад Патамака да ўтокі Місісіпі цягнуцца плоскія пясчаныя берагі. У гэтай частцы Звязу магчымасць выходжвання караблёў із рэк у акіян абцяжарана, а сустракаючыяся месцамі ў гэтых лагунах порты не глыбокія і менш зручныя для заходу гандлёвых караблёў, чым паўночныя.

Акрамя гэтай чыста прыроднай нязручнасьці, існуе і іншая, створаная законамі.

Тады як на Поўначы рабства скасавана, на Поўдні яно існуе і робіць, як я ўжо згадваў, згубны ўплыў на дабрабыт гаспадароў.

Поўнач вымушана быць больш актыўнай у гандлі[288]70 і прамысловасьці, чым Поўдзень, натуральна, павелічэнне насельніцтва і працэс абагачэння ідуць там больш хутка.

Штаты, суседнічаючыя з Атлантычным акіянам, ужо напалову заселены. Вялікая частка зямлі знаходзіцца ў чым-небудзь валоданні. Таму яны не могуць прымаць столькі эмігрантаў, колькі іх прымаюць заходнія штаты, што ўсё яшчэ ўяўляюць сабой бязмежнае поле дзейнасьці. Басейн Місісіпі значна больш урадлівы, чым узбярэжжа Атлантычнага акіяна. Дзякуючы гэтай нагодзе і шмат якім іншых асноўная частка еўрапейцаў едзе на Захад. Гэта можна дакладна давесьці, прывёўшы лічбы.

---

[286] 3672371, згодна з попісам 1830 года.

[287] Адлегласць ад Джэферсона, сталіцы штата Місуры, да Вашынгтона складае 1019 міль, ці 420 паштовых лье (Амерыканскі альманах, 1831, с. 48).

[288] Для таго каб скласьці сабе ўяўленне пра адрозненні развіцця гандлю на Поўдні і на Поўначы, дастаткова пазнаёміцца з наступнымі дадзенымі: у 1829 годзе водазмяшчэнне вялікіх і дробных гандлёвых караблёў, належачых Віргініі, дзвум Каралінам і Джорджыі (чатыром буйным паўднёвым штатам), складала толькі 5243 тоны. У тым жа годзе водазмяшчэнне караблёў аднаго штата Масачусетс складала 17 322 тоны. (Заканадаўчыя дакументы, 21-ы кангрэс, 2-я сесія, № 140, с. 244.) Такім чынам, адзін гэты штат меў утрая больш караблёў, чым чатыры названыя штаты. Варта заўважыць, што плошча штата Масачусетс складае 959 квадратных лье (7335 квадратных міль), а насельніцтва – 610 014 чалавек, тым часам як памянёныя чатыры штаты займаюць плошчу роўную 27 204 квадратных лье (210 000 міль), а іхнае насельніцтва складае 3 047 767 чалавек. Такім чынам, плошча Масачусетса складае трэцюю частку ад плошчы гэтых чатырох штатаў, і ён налічвае ў пяць разоў менш жыхароў. {Дарбі. Агляд Злучаных Штатаў.) Рабства ў шмат якіх дачыненнях шкодзіць развіццю гандлю на Поўдні: яно пазбаўляе белых прадпрымальнасьці, праз яго ж белыя не могуць знайсьці патрэбных для гандлёвага флота матросаў. Маракамі звычайна станавяцца выхадцы із ніжэйшых пластоў насельніцтва. А на Поўдні гэтымі пластамі з'яўляюцца рабы, якіх цяжка выкарыстаць на моры: па-першае, яны будуць горш спраўляцца са сваімі абавязкамі, чым белыя, а па-другое, заўсёды будзе баязнь, як бы яны не ўзбунтаваліся пасярод акіяна ці не збеглі, калі карабель прыстане да чужых берагоў.

Разглядаючы ўсю тэрыторыю Злучаных Штатаў, мы выяўляем, што за сарок гадоў іхнае насельніцтва амаль патроілася. Што ж да басейна Місісіпі, то за той жа час яго насельніцства[289] павялічылася ў трыццаць адзін раз[290].

Цэнтр асноўнай магутнасьці федэрацыі ўвесь час перасоўваецца. Сарок гадоў таму назад асноўная частка грамадзянаў Звязу жыла на беразе мора, недалёка ад таго месца, дзе зараз знаходзіцца горад Вашынгтон. Зараз ён размяшчаецца далей ад мора і больш на паўнач і няма сумневаў ў тым, што не пройдзе і дваццаці гадоў, як ён перамясьціцца за Аллеганы. Калі Звяз будзе існаваць, то басейн Місісіпі дзякуючы сваёй урадлівасьці і памерам абавязкова стане пастаянным цэнтрам асноўнай магутнасьці федэрацыі. Праз трыццаць ці сарок гадоў басейн Місісіпі зойме належачае яму месца. Няцяжка падлічыць, што суадносіны яго насельніцтва і насельніцтва штатаў, размешчаных на беразе Атлантычнага акіяна, будзе прыблізна складаць 40:11. Пройдзе яшчэ некалькі гадоў, і штаты, заснаваўшыя Звяз, канчаткова страцяць сваю кіруючую ролю; у федэральных установых будуць панаваць прадстаўнікі насельніцтва даліны Місісіпі.

Пастаяннае перасоўванне моцы і ўплыву на паўночны захад выяўляецца раз на дзесяць гадоў, калі пасьля ўсеагульнага попісу насельніцтва вызначаецца колькасць прадстаўнікоў, выпраўляемых кожным штатам у кангрэс[291].

У 1790 годзе Віргінія мела ў кангрэсе дзевятнаццаць прадстаўнікоў. Іхная колькасць павялічвалася, і ў 1813 годзе іх было ўжо трыццаць тры. Потым яна пачала памяншацца і ў 1833 годзе яна мела дваццаць аднаго прадстаўніка[292]. У той жа самы час у штаце Нью-Ёрк адбываўся працілеглы працэс: у 1790 годзе ён меў у кангрэсе дзесяць прадстаўнікоў, у 1813 – дваццаць сем, у 1823 – трыццаць чатыры, у 1833 – сарок. Агаё ў 1803 годзе меў толькі аднаго прадстаўніка, а ў 1833 – дзевятнаццаць.

Цяжка ўявіць сабе працяглы звяз двух народаў, адзін з якіх немаёмасны і слабы, а другі заможны і моцны, нават калі можна было б давесьці, што магутнасць і багацце другога не куплены коштам галечы і слабасьці першага. Яшчэ цяжэй захаваць Звяз пад час перыяду, калі адзін народ губляе магутнасць, а другі набірае.

---

[289] Дарбі. Агляд Злучаных Штатаў, с. 444.

[290] Кажучы пра басейн Місісіпі, я не далучаю да яго штаты Нью-Ёрк, Пенсільванію і Віргінію, хаця яны таксама знаходзяцца на яго тэрыторыі.

[291] У выніку попісу выяўляецца, што за дзесяць мінуўшых гадоў у адным штаце, напрыклад, у штаце Дэлавэр, насельніцтва павялічылася на 5 адзоткаў, а ў іншым – Мічыгане – на 250 адсоткаў. У Віргініі за гэты час насельніцтва павялічылася на 13 адсоткаў, а ў суседнім штаце Агаё – на 61 адсотак. Гл. зборную табліцу ў Нацыянальным календары, із якой бачна, наколькі неаднолькава развіваюцца розныя штаты.

[292] За апошні час насельніцтва Віргініі павялічылася на 13 адсоткаў. Патрэбна патлумачыць, якім чынам колькасць прадстаўнікоў нейкага штата можа паменшыцца ў той час, як яго насельніцтва не толькі не памяншаецца, а павялічваецца. Возьмем для прыкладу ўжо згаданую Віргінію. У 1823 годзе колькасць дэпутатаў ад Віргініі была сумернай агульнай колькасьці дэпутатаў ад Звязу. У 1833 годзе колькасць дэпутатаў ад Віргініі была таксама сумернай агульнай колькасьці дэпутатаў ад Звязу і, акрамя таго, яна была сумернай адсоткавым суадносінам яе насельніцтва, павялічыўшагася за гэтыя дзесяць гадоў. Адносіны новай колькасьці дэпутатаў ад Віргініі да ранейшай будуць, такім чынам, сумерныя, з аднаго боку, адносінам новай агульнай колькасьці дэпутатаў да ранейшай, а з другога – адносіньям адсоткавага павелічэння насельніцтва Віргініі і ўсяго Звязу. Такім чынам, для таго каб колькасць дэпутатаў ад Віргініі заставалася нязменнай, дастаткова, каб адносіны адсоткавага павелічэння насельніцтва гэтага штата і ўсяго Звязу былі адваротна прапарцыяльны адносінам новай агульнай колькасьці дэпутатаў да ранейшай. Калі ж адносіны павелічэння насельніцтва Віргініі да павелічэння насельніцтва ўсяго Звязу будзе ніжэй адносін новай агульнай колькасьці дэпутатаў Звязу да ранейшай колькасьці, то колькасць дэпутатаў ад Віргініі паменшыцца.

Хуткае і нераўнамернае развіццё некаторых штатаў уяўляе пагрозу незалежнасьці для астатніх. Калі б Нью-Ёрк, маючы два мільёны жыхароў і сарок прадстаўнікоў у кангрэсе, пажадаў там распараджацца, у яго гэта, магчыма, атрымалася б. І нават калі моцныя штаты ніколі не будуць імкнуцца да прыгнёту слабых, такая небяспека будзе існаваць заўсёды, магчымасць жа здзяйснення дзеяння з'яўляецца не менш небяспечнай, чым само дзеянне.

Слабыя рэдка вераць у справядлівасць і розум моцных. Штаты, развіваючыяся больш павольна, чым іншыя, з недаверам і зайздрасьцю пазіраюць на тых, да якіх схіляецца лёс. Гэта спараджае глыбокую незадаволенасць і невыразную трывогу ў адной частцы Звязу, тады як у іншай пануюць дабрабыт і ўпэўненасць. Менавіта гэтым, відаць, тлумачыцца варожая пазіцыя, занятая Поўднем.

Паўднёўцы, здавалася б, больш іншых павінны берагчы Звяз, таму што яны могуць зведаць страт больш чым усе астатнія ад яго разбурэння. Аднак толькі яны пагражаюць разарваць федэральныя сувязі. Грунтуючыся на якой жа паадставе? На гэта пытанне адказаць нескладана: Поўдзень даў федэрацыі чатырох прэзідэнтаў (Вашынгтона, Джэферсона, Мэдысона, Манро), але зараз федэральная ўлада ад яго выслізгае. З кожным годам памяншаецца колькасць яго прадстаўнікоў у кангрэсе і павялічваецца колькасць прадстаўнікоў паўночных і заходніх штатаў. Гэта раздражняе і турбуе гарачых і запальчывых паўднёўцаў, яны пачуваюць сябе зняважанымі, ці згадваюць мінулае і ўвесь час задаюць сабе пытанне, ці не з'яўляюцца яны ахвярамі прыгнёту. Толькі толькі паўднёвым штатам здасца, што нейкі закон, прыняты Звязам, не цалкам спрыяльны для іх, як яны заяўляюць, што ў дачыненні да іх злоўжываюць магутнасьцю. Яны горача пратэстуюць і, калі да іх не прыслухоўваюцца, абураюцца і пагражаюць выйсьці са Звязу, у якім яны маюць адны толькі абавязкі і які не прыносіць ім ніякіх выгод.

«Закон пра тарыфы, – выказваліся жыхары Караліны ў 1832 годзе, – спрыяе абагачэнню Поўначы і спусташэнню Поўдня. Чым, акрамя гэтага, можна патлумачыць, што багацце і магутнасць Поўначы, нягледзячы на яе суровы клімат і нерадзючую глебу, увесь час павялічваюцца, тым часам як Поўдзень, квітнеючы сад Амерыкі, занепадае?[293]

Калі б перамены, пра якія я вяду гаворку, адбываліся паступова, так, каб кожнае пакаленне жыло ў тым становішчы, у якім яно нарадзілася, небяспека не была б такой вялікай. Але ў развіцці амерыканскага грамадства існуе нешта імклівае, можна нават сказаць, рэвалюцыйнае. Здараецца, што людзі аднаго пакалення бачаць, як іхны штат, стаяўшы на чале Звязу, губляе свой уплыў у федэральных установах улады. Некаторыя амерыканскія рэспублікі ўзвышаюцца так жа хутка, як расьце чалавек; яны нараджаюцца, растуць і дасягаюць сталасьці за трыццаць гадоў.

Аднак не патрэбна думаць, што, губляючы магутнасць, штаты спусташаюцца і гібеюць, яны па-ранейшаму квітнеюць і растуць хутчэй, чым якое заўгодна еўрапейскае каралеўства[294]. Але ім здаецца, што яны бяднеюць, таму што працэс

---

[293] Гл. справаздачу камітэта гэтага штата Канвенту, у якім абвяшчалася скасаванне гэтага закона пра тарыфы ў Паўднёвай Караліне.

[294] Насельніцтва краіны з'яўляецца, безумоўна, асноўным яе багаццем. За той жа перыяд, пачынаючы ад 1820 да 1832 года, на працягу якога Віргінія пазбавілася двух дэпутатаў у кангрэсе, яе насельніцтва павялічылася на 13,7 адсоткаў. Насельніцтва абодвух Каралін за той жа час павялічылася на 15 адсоткаў, насельніцтва Джорджыі – на 51,5 адсоткаў. (Гл. Амерыканскі альманах, 1832, с. 162.) У Расіі ж, еўрапейскай

абагачэння ідзе ў іх больш павольна, чым у іхных суседзей. Дзякуючы таму, што яны нечакана для сябе сустракаюцца з узмацненнем сваіх суседзяў, у іх ствараецца ўражанне, што самі яны слабеюць[295]. Шкода, як мы бачым, наносіцца хутчэй пачуццям і жарсьцям, а не зацікаўленасьцям. Але хіба гэтага недастаткова, каб паставіць пад пагрозу існаванне федэрацыі? Калі б пачынаючы са стварэння сьвету народы і ўладцы імкнуліся толькі да таго, што ім сапраўды з’яўляецца карысным, людзі, напэўна што, не ведалі б, што такое вайна.

Самая галоўная небяспека, пагражаючая Злучаным Штатам, заключаецца менавіта ў іхным росквіце. Ён ап’яняе шмат каго із сябраў федэрацыі імклівым павелічэннем багацця і абуджае ў іншых, выдаткуючых яго, зайздрасць, недавер і прыкрасць.

Амерыканцы з радасьцю назіраюць за гэтым незвычайным працэсам, а ім патрэбна было б глядзець на яго з трывогай і баязню. Ва ўсякім разе жыхары Злучаных Штатаў стануць адным із самых вялікіх народаў сьвету, іхныя нашчадкі расселяцца па ўсёй Паўночнай Амерыцы, кантынент, на якім яны жывуць, належыць і будзе належаць ім. Што падштурхоўвае іх так паспешна асвойваць яго ў сучаснасьці? Багацце, магутнасць і слава непазбежна прыйдуць да іх у будучыні. Яны ж так імкнуцца завалодаць гэтым вялізным набыткам, быццам бы у іх няма ні секунды часу.

Я давёў, як мне здаецца, што існаванне федэрацыі цалкам залежыць ад імкнення ўсіх яе сябраў да адзінства. У сувязі з гэтым я прааналізаваў нагоды, якія маглі б прывесьці да выхаду са Звязу нейкага штата. Але падставы разбурэння Звязу могуць быць дваякімі: адзін із федэральных штатаў можа выявіць жаданне скасаваць дамову і, такім чынам, разам парваць сувязі, злучаючыя яго са Звязам. Асноўная частка зробленых мной заўваг мае дачыненне менавіта да такога выпадку. Акрамя гэтага, федэральны ўрад можа паступова страціць сваю магутнасць з нагоды агульнага імкнення аб’яднаных рэспублік да аднаўлення незалежнасьці. Цэнтральная ўлада, крок за крокам страчваючы свае прэрагатывы, даведзеная да немачы з маўклівай згоды штатаў, не будзе ў стане выконваць сваю ролю і такі Звяз таксама разбурыцца, уражаны нечым накшталт старэчага маразму.

Паступовае паслабленне федэральных сувязей, якое ў канчатковым выніку можа прывесьці да распаду Звязу, важна і само па сабе, таму што яшчэ да яго распаду гэта можа спарадзіць шмат іншых значных з’яваў. Так, слабы цэнтральны ўрад яшчэ існуючай федэрацыі ў стане абабраць народ, выклікаць анархію ў краіне, падарваць яе дабрабыт.

Таму пасьля аналізу нагод, здольных прывесьці да распаду амерыканскага Звязу, варта адказаць на адно пытанне, а менавіта: пашыраецца ці звужаецца сфера паўнамоцтваў цэнтральнага ўрада, ці набывае ён магутнасць ці губляе яе.

Цалкам відавочна, што амерыканцы пакутуюць ад адной сур’ёзную баязні. Бачачы, што ў большасьці краін сьвету ўлада звычайна засяроджана ў руках нешматлікіх людзей, яны з жахам думаюць, што гэта можа адбыцца і ў іх. Нават дзяржаўныя дзеячы баяцца ці робяць выгляд, што баяцца гэтага. Цэнтралізацыя не карыстаецца ў Амерыцы ніякай папулярнасьцю, і таму няма лепшага спосабу

---

краіне, дзе насельніцтва павялічваецца хутчэй усяго, за дзесяць гадоў колькасць жыхароў павялічваецца на 9,5 адсоткаў, у Францыі – на 7 адсоткаў, у Яўропе ў цэлым – на 4,7 адсоткі. (Гл.: Мальт-Брун, т. VI, с. 95.)

[295] Патрэбна, аднак, заўважыць, што адбыўшаяся пяцьдзясят гадоў таму назад зніжэнне кошту на тытунь моцна адбілася на дастатку паўднёвых земляробаў. Аднак гэта адбылося без сьвядомых дзеянняў паўночнікаў ці паўднёўцаў.

спадабацца большасьці, як выступаць супраць так званых перавышэнняў паўнамоцтваў цэнтральнай улады. Амерыканцы забываюцца пра тое, што ў краінах, дзе назіраецца пужаючая іх тэндэнцыя да цэнтралізацыі, насельніцтва ўяўляе сабой адзіны народ. Звяз жа – гэта згуртаванне розных народаў. Гэтага цалкам дастаткова, каб зразумець, што паміж імі немагчыма правесьці аналогію.

Баязні амерыканцаў уяўляюцца мне безпадстаўнымі. Няма ніякіх падставаў баяцца ўзмацнення цэнтральнай улады Звязу, таму што, на мой погляд, федэральны ўрад заўважальна слабее.

Каб гэта давесьці, прывяду не гістарычныя факты, а падзеі, меўшыя месца ў наш час, частку якіх я назіраў сам.

Уважлівае вывучэнне таго, што адбываецца ў Злучаных Штатах, паказвае, што там існуюць дзьве процілеглыя тэндэнцыі. Можна сказаць, што гэта дзьве процілеглых плыні, заключаныя ў адным рэчышчы.

За сарок пяць гадоў існавання Звязу шмат якія пагібельныя для яго забабоны зніклі. Патрыятычныя пачуцці амерыканцаў да сваіх штатаў зрабіліся больш умеранымі. Дзякуючы таму што штаты зараз лепш ведаюць адзін аднаго, пайшло ў мінулае адчуджэнне. Сёння пошта, гэты магутны сродак сувязі людзей, пракрадаецца ў самыя аддаленыя куткі краіны[296]. Паміж гарадамі, размешчанымі на ўзбярэжжы, рэгулярна курсіруюць параходы. Гандлёвыя караблі з нябачанай хуткасьцю рухаюцца ўгару і ўніз па плыні рэк краіны[297]. Гэтыя спрыяльныя ўмовы, створаныя прыродай і чалавекам, а таксама ўласьцівыя амерыканцам частыя перамены жаданняў, турбота розуму і імкненне да багацця ўвесь час гоняць іх у шлях. У выніку амерыканцы маюць стасункі з вялікай колькасьцю сваіх суайчыннікаў. Яны падарожнічаюць па ўсёй краіне і сустракаюцца з людзьмі, якія жывуць ва ўсіх яе канцах. Ні ў адной із правінцый Францыі жыхары не ведаюць адзін аднаго так жа добра, як 13 мільёнаў амерыканцаў, жывучых у Злучаных Штатах.

Амерыканцы не проста маюць стасункі адзін з адным, у іх узнікае шмат агульных рыс і адрозненні, злучаныя з геаграфічнымі ўмовамі, паходжаннем і грамадзкімі ўсталяваннямі, сціраюцца. Усё больш выразна пачынае выяўляцца агульны тып амерыканца. Штогадова тысячы паўночнікаў выпраўляюцца ва ўсе канцы Звязу. Яны нясуць з сабой свае вераванні, перакананні, норавы. Дзякуючы таму што яны больш адукаваныя, чым людзі, сярод якіх ім патрэбна жыць на новых месцах, яны хутка робяцца самымі актыўнымі дзелавымі людзьмі і прыносяць у жыццё грамадства выгадныя для сябе перамены. Так, дзякуючы сталаму перасяленню паўночнікаў на Поўдзень са шматлікіх правінцыйных характараў выпрацоўваецца агульны нацыянальны характар. Відаць, культура паўночнікаў стане тым падмуркам, з якога ў будучыні вырасьце агульная амерыканская культура.

Па меры развіцця прамысловасьці паміж штатамі ўмацоўваюцца гандлёвыя сувязі і адзінства, якое раней было абстратнай ідэяй, уваходзіць у штодзённае жыццё. З часам знікае шмат фантастычных жахаў, катаваўшыж ўяўленне

---

[296] У акрузе Мічыган, дзе налічваецца толькі 31 639 жыхароў, а пракладка дарог толькі пачынаецца, у 1832 годзе было 940 міль паштовых дарог. На тэрыторыі Арканзаса, амаль яшчэ цалкам неабжытага штата, пракладзена ўжо 1938 міль паштовых дарог. Гл. Справаздачу генеральнага паштмайстра ад 30 лістапада 1833 года. Адно толькі дастаўленне газет у Звязе штогадова прыносіць 254 796 даляраў прыбытку.

[297] За дзесяць гадоў, пачынаючы ад 1821 да 1831 года, толькі на рэках даліны Місісіпі было спушчана на ваду 271 параход. У 1829 годзе колькасць параходаў у Злучаных Штатах даходзіла да 256. Гл.: Заканадаўчыя дакументы, № 140, с. 274.

амерыканцаў у 1789 годзе. Федэральная ўлада нікога не прыцiскае, штаты па-ранейшаму захоўваюць сваю незалежнасць, іхнае згуртаванне не перарадзілася ў манархію. Далучыўшыся да Звязу, дробныя штаты не патрапілі ў залежнасць ад вялікіх. Насельніцтва, багацце і магутнасць федэрацыі ўвесь час павялічваюцца.

Я перакананы, што ў наш час у амерыканскага Звязу менш цяжкасьцей і больш прыхільнікаў, чым у 1789 годзе.

І ўсё ж стараннае вывучэнне саракапяцігадовай гісторыі Злучаных Штатаў паказвае, што магутнасць федэральнай улады памяншаецца.

Няцяжка паказаць падставы гэтай з’явы.

У момант прыняцця канстытуцыі 1789 года паўсюдна панавала анархія. Прыйшоўшы на змену хаосу Звяз у шмат каго абуджаў баязні і нянавісць, але меў і гарачых прыхільнікаў, усведамляўшых яго надзённую патрэбнасць. Хаця ў той час у цэнтральнай улады было больш супернікаў, чым зараз, ёй хутка атрымалася дасягнуць максімальнай магутнасьці. Так здараецца з урадамі, атрымліваючымі перамогу пасьля працяглага змагання, ўмацаваўшага іхную магутнасць. У той перыяд канстытуцыю тлумачылі хутчэй у бок пашырэння, а не звужэння паўнамоцтваў цэнтральнага урада і Звяз у шмат якіх дачыненнях паўставаў як адзіная краіна, унутраная і вонкавая палітыка якой накіроўваюцца адзіным урадам.

Стварыўшы такі Звяз, амерыканскі народ у нейкім сэнсе апярэдзіў сваё ўласнае развіццё.

Прыняцце канстытуцыі не знішчыла своеасаблівасьці штатаў. Кожная супольнасць таемна імкнецца да незалежнасьці. У Амерыцы, дзе кожная вёска ўяўляе сабой нешта накшталт рэспублікі, самастойна кіруючай сваімі справамі, гэта цяга выяўляецца вельмі выразна.

Такім чынам, прымірыўшыся з вяршэнством цэнтральнай улады, штаты зрабілі над сабой намаганне. Аднак кожнае намаганне, нават калі яно завяршылася поспехам, немінуча паслабляецца па меры паслаблення спарадзіўшай яго нагоды.

Разам з умацаваннем улады федэральнага ўрада Амерыка зноў заняла належачае ёй месца сярод іншых краін, аднавіўся мір на яе межах, адрадзіўся давер да дзяржавы. На змену закалотам прыйшоў цьвёрды парадак, які даў магчымасць духу прадпрымальніцтва натуральна і вольна развівацца.

Настаўшы дабрабыт пачаў засланяць спарадзіўшыя яго нагоды. Небяспека мінула і амерыканцы не мелі больш патрэбы ў той энергіі і патрыятызме, дзякуючы якім яе здолелі пазбегнуць. Калі іхныя жахі зніклі, яны натуральна і проста вярнуліся да сваіх ранейшых звычак і да свайго ранейшага складу думак. Дзякуючы таму што яны больш не бачылі патрэбы ў моцным урадзе, яны пачалі лічыць яго цяжкім. Дзякуючы Звязу краіна квітнела і ніхто не думваў пра тое, каб выходзіць із яго, але ніхто таксама не жадаў адчуваць на сабе ўздзеянне яго ўлады. Увогуле, усе жадалі жыць у адзінстве, але, калі справа даходзіла да канкрэтнага выпадку, кожны імкнуўся да незалежнасці. Федэрацыя атрымлівала ўсё больш шырокае прынцыповае прызнанне, але яе законы, паважаліся ўсё менш. Так, федэральны ўрад, забяспечыўшы парадак і спакой у краіне, пачаў губляць сваю магутнасць.

Як толькі ў краіне з’явіліся такія настроі, прадстаўнікі партый, існуючыя за кошт народных жарсьцяў, не замарудзілі выкарыстаць іх у сваіх зацікаўленасьцях.

Федэральны ўрад апынуўся ў вельмі складаным становішчы; яго ворагі карысталіся прыхільнасьцю народа і права кіраваць краінай атрымлівалі толькі тыя, хто абяцаў абмежаваць яго паўнамоцтвы.

Пачынаючы з гэтага часу ў змаганні з урадамі штатаў урад Звязу амаль заўсёды саступаў, а федэральная канстытуцыя тлумачылася на карысць штатаў, а не Звязу.

Згодна з канстытуцыяй у абавязкі федэральнага ўрада ўваходзіць турбота пра агульнанацыянальныя зацікаўленасьці. Спачатку лічылася, што менавіта федэральны ўрад павінен арганізоўваць і рознымі захадамі спрыяць ажыццяўленню вялікіх пачынанняў, здольных павялічыць дабрабыт усяго Звязу (internal improvements), такіх, напрыклад, як будаванне каналаў.

Аднак штаты былі напалоханы тым, што частка іхнай тэрыторыі можа выйсьці із-пад іхнай улады. Яны баяліся, што цэнтральная ўлада здолее ажыццяўляць на іхнай тэрыторыі небяспечны для іх кантроль і заваюе ўплыў, які, на іхную думку, павінен належаць толькі ўладам штата.

Дэмакратычная партыя, заўсёды выступаўшая супраць якога б то ні было ўзмацнення федэральнай улады, таксама сказала сваё слова: кангрэс быў абвінавачаны ва ўзурпацыі ўлады, а кіраўнік дзяржавы ў імкненні да асабістай улады. Урэшце, напалоханы гэтымі абвінавачваннямі, федэральны ўрад прызнаў сваю памылку і пагадзілася абмежавацца той сферай уплыву, якая яму надавалася.

Згодна з канстытуцыяй, выключнае права весьці справы з народамі іншых краін належыць Звязу. Звычайна пад гэтым разумеліся справы, якія Звяз вёў з індэйскімі плямёнамі, жывучымі на межах яго тэрыторыі. Да таго часу пакуль індэйцы пакідалі тыя землі, якія засялялі цывілізаваныя людзі, ніхто не аспрэчваў гэтага права федэральнага ўрада. Але як толькі адно із індэйскіх плямён вырашыла не пакідаць сваю тэрыторыю, атачаючыя яе штаты заявілі пра сваё права на валоданне гэтымі землямі, а таксама пра сваю ўладу над насяляючымі іх людзьмі. Цэнтральны ўрад неадкладна прызнаў і тое і другое. Так, пасьля таго, як ён ставіўся да індэйцаў як да незалежных народаў, ён ператварыў іх у падданых і аддаў на заканадаўчую самаволю штатаў[298].

Некаторыя са штатаў, утварыўшыхся на беразе Атлантычнага акіяна, не мелі мяжы на Захадзе і іхную тэрыторыю складалі вялізныя незаселеныя прасторы, дзе яшчэ не ступала нага еўрапейца. Іншыя, межы якіх былі дакладна акрэслены, з зайздрасьцю глядзелі на будучае багацце сваіх суседзяў. Гэтыя апошнія, жадаючы замірыцца і паскорыць заключэнне Звязу, пагадзіліся вызначыць сваю мяжу і передалі пад уладу федэрацыі ўсе землі, якія апынуліся па-за іхнай мяжой[299].

Пачынаючы з гэтага часу ўладальнікам усіх неаброленых зямель, размешчаных за межамі трынаццаці штатаў, першымі ўвайшоўшымі ў федэрацыю, зрабіўся федэральны ўрад. У яго абавязкі ўваходзіць дзяліць і прадаваць гэтыя землі. Здабытыя ад гэтага сродкі паступаюць выключна ў скарб Звязу. На іх федэральны ўрад выкупляе землі ў індэйцаў, пракладае дарогі ў новых акругах, робіць усё магчымае для хуткага наладжвання ў іх грамадзкага жыцця.

Аднак у гэтых пустуючых месцах, саступленых некалі федэрацыі, з цягам часу з'явіліся новыя штаты. Кангрэс працягваў прадаваць ад імя ўсёй дзяржавы неапрацаваныя землі, яшчэ існуючыя ў гэтых штатах. Але сёння яны заяўляюць, што, так як яны з'яўляюцца штатамі, яны павінны мець выключнае права

---

[298] Гл. у згадваемых заканадаўчых дакументах главу прысьвечаную індэйцам: ліст прэзідэнта Злучаных Штатаў індэйцам чэрокі, яго ліставанне з гэтай нагоды з іхнымі агентамі і яго лісты да кангрэса.

[299] Першы акт пра перадачу зямлі быў прыняты штатам Нью-Ёрк у 1780 годзе, потым у розны час такія акты прынялі Віргінія, Масачусетс, Канэктыкут, Паўднёвая Караліна, Паўночная Караліна, апошні такі акт у 1802 годзе прыняла Джорджыя.

выкарыстоўваць на свае патрэбы прыбыткі атрымліваемыя ад гэтых прадаж. І дзякуючы таму што іхныя патрабаванні рабіліся ўсё больш пагрозлівымі, кангрэс палічыў сваім абавязкам пазбавіць Звяз часткі прывілеяў і ў 1832 годзе ўхваліў закон, згодна з якім новыя заходнія штаты, не будучы ўласнікамі няаброблены зямель, знаходзячыхся на іхнай тэрыторыі, атрымлівалі ў сваё распараджэнне асноўную частку прыбыткаў, здабываемых ад іхнай прадажы[300].

Падарожнічаючы па Злучаных Штатах, немагчыма не ацаніць карысць, якую прыносіць краіне банк. Перавагі банкаўскай сістэмы з'яўляюцца шматстайнымі, але існуе адна, якая асабліва ўражвае еўрапейца: квіткі Банка Злучаных Штатаў прымаюцца ў далёкіх пустуючых краях па таму ж кошту, што і ў Філадэльфіі, дзе знаходзіцца яго цэнтральная ўстанова[301].

У той жа час Банк Злучаных Штатаў выклікае моцную непрыязь у краіне. Яго дырэктары выступілі супраць прэзідэнта і іх небеспадстаўна абвінавачваюць у злоўжыванні ўплывам з мэтай перашкодзіць абранню прэзідэнта. Прэзідэнт у сваю чаргу абрынуўся на прадстаўнікоў Банка з такім жарам, нібы-та гэта былі яго асабістыя ворагі. Ён быў такім зацятым ў сваёй помсьце таму, што адчуваў падтрымку ў таемных намерах большасьці народа.

Банк забяспечвае ў Звязе адзінства грашовага абарачэння, так жа як кангрэс забяспечвае адзінства заканадаўчай сістэмы. Таму тыя ж самыя магутнасьці, якія імкнуцца вызваліць штаты ад цэнтральнай улады, імкнуцца да знішчэння Банка.

У распараджэнні Банка Злучаных Штатаў заўсёды ёсць вялікая колькасць банкаўскіх квіткоў правінцыйных банкаў, у кожны момант ён можа запатрабаваць іх памяняць на звонкую манету. Яму самаму такая небяспека не пагражае: дзякуючы вялізнаму наяўнаму капіталу ён можа задаволіць якія заўгодна патрабаванні. Адчуваючы пагрозу свайму існаванню, правінцыйныя банкі вымушаны праяўляць асьцярожнасць і выпускаць толькі такую колькасць квіткоў, якая дакладна адпавядае іхнаму капіталу. Гэты станоўчы кантроль выклікае незадавальненне правінцыйных банкаў. Купленыя імі газеты і падтрымліваючы іх, грунтуючыся на карысьлівых зацікаўленасьцях, прэзідэнт люта нападаюць на Банк. Распальваюцца варожыя Банку мясцовыя жарсьці, абуджаюцца накіраваныя супраць яго сляпыя дэмакратычныя інстынкты народа. Сцвярджаюць, што нязменныя дырэктары Банка ўтвараюць арыстакратычны стан, робячы значны ўплыў на кіраванне краінай і рана ці позна немінуча прывядучы да пераіначвання прынцыпаў роўнасьці, ляжачых у падмурку амерыканскага грамадства.

Змаганне Банка са сваімі ворагамі – гэта толькі эпізод таго агульнага змагання, якое вядуць амерыканскія правінцыі супраць цэнтральнай улады, змагання незалежнасьці і дэмакратыі супраць субардынацыі і падначалення. Гэта цалкам не азначае, што на Банк Злучаных Штатаў нападаюць тыя ж людзі, якія крытыкуюць федэральны ўрад, але нападкі на Банк Злучаных Штатаў выкліканы тымі ж інстынктамі, штурхаючых людзей на змаганне з федэральным урадам. Вялікая колькасць супернікаў Банка сведчыць, на жаль, пра паслабленне федэральнага ўрада.

[300] Праўда, прэзідэнт адмовіўся ўхваліць гэты закон, але ў прынцыпе цалкам з ім пагадзіўся. (Гл. Ліст ад 8 снежня 1833 года.)

[301] Існючы ў наш час Банк Злучаных Штатаў быў створаны ў 1816 годзе з капіталам роўным 35 мільёнаў даляраў (185 мільёнаў франкаў). Тэрмін дзеяння яго хартыі заканчваецца ў 1836 годзе. Летась кангрэс прыняў закон пра падаўжэнне яго правоў, але прэзідэнт адмовіўся яго ўхваліць. Абодва бакі вядуць жорсткае змаганне, але няцяжка прадбачыць, што Банк хутка зведае паразу.

Аднак найбольш яскрава Звяз прадэманстраваў сваю слабасць у знакамітай справе пра тарыфы[302].

Падчас французскіх рэвалюцыйных войн, а таксама вайны 1812 года вольны таварапамен паміж Амерыкай і Францыяй быў парушаны. Гэта мела наступствам стварэнне мануфактур на Поўначы Звязу. Калі пасьля вайны еўрапейцы зноў пачалі пастаўляць тавары ў Новы Сьвет, амерыканцы палічылі патрэбным увесьці сістэму мытнага кантролю. Пры гэтым яны адначасова пераследавалі дзьве мэты: абараніць сваю нараджаючуяся прамысловасць і заплаціць даўгі, якія ім давялося зрабіць падчас вайны.

Паўднёвыя штаты, у якіх пераважае земляробства і якім не было патрэбы падахвочваць развіццё мануфактур, неадкладна выступілі супраць гэтага захаду.

Я выкладаю тут толькі факты, не закранаючы пытанне пра тое, ці былі падставы іхнай незадаволенасьці рэчаіснымі ці надуманымі.

У 1820 годзе Паўднёвая Караліна заявіла ў петыцыі кангрэсу, што закон пра тарыфы з’яўляецца неканстытуцыйным, абцяжарваючым і несправядлівым. Потым больш-менш рэзкія заявы з гэтай нагоды зрабілі Джорджыя, Віргінія, Паўночная Караліна, Алабама і Місісіпі.

Кангрэс жа не звярнуў увагі на гэты гоман, наадварот, у 1824 і 1828 гадах тарыфы былі яшчэ больш павялічаны і ўхвалены ў прынцыпе.

У адказ на гэта на Поўдні ўзнікла ці, хутчэй, была адноўлена тэорыя, атрымаўшая назву «ануляванне».

Як я ўжо паведамляў, мэтай аўтараў федэральнай канстытуцыі было стварэнне нацыянальнай дзяржавы, а не звязу дзяржаў. Усе артыкулы канстытуцыі ўяўляюць жыхароў Злучаных Штатаў як адзіны народ. Выразнікам народнай волі па ўсіх асноўных пытаннях, як і ва ўсіх краінах, жывучых пры канстытуцыйным уладкаванні, з’яўляецца большасць. Пасьля таго як яна выказала сваю волю, меншасць абавязана ёй падначаліцца.

Такой з’яўлляецца афіцыйная дактрына, адзіная, адпавядаючая тэксту канстытуцыі і задуме яе аўтараў.

Што да паўднёўцаў, прыхільнікаў тэорыі анулявання, то яны, наадварот, сцвярджаюць, што згуртаванне амерыканцаў не мела на мэце стварэнне адзінага народа, а толькі стварэнне звязу незалежных народаў. Такім чынам, кожны штат захоўвае поўны суверэнітэт, калі не на справе, то ў прынцыпе, і мае права тлумачыць законы, прынятыя кангрэсам, а таксама прыпыняць іх дзеянне на сваёй тэрыторыі ў выпадку, калі яны, на яго думку, супярэчаць канстытуцыі ці справядлівасьці.

Сэнс тэорыі анулявання можна коратка перадаць, паведаміўшы фразу, выказаную ў 1833 годзе ў сенаце Злучаных Штатаў спадаром Калхунам, прызнаным кіраўніком яе прыхільнікаў.

«Канстытуцыя, – сказаў ён, – гэта дамова суверэнных штатаў. Кожны раз, калі бакі, не маючыя агульнага пасярэдніка, складаюць дамову, за кожным із іх застаецца права самому рабіць высновы пра аб’ём сваіх абавязкаў».

Зразумела, што падобнае тлумачэнне канстытуцыі ў прынцыпе разбурае федэральныя сувязі і фактычна вядзе да анархіі, ад якой амерыканцы былі пазбаўлены дзякуючы канстытуцыі 1789 года.

[302] Для азнаямлення з падрабязнасьцямі гэтай справы гл.: Заканадаўчыя дакументы, 22-і кангрэс, 2-я сесія, № 30.

Калі Паўднёвая Караліна пабачыла, што кангрэс застаецца глухім да яе пратэстаў, яна заявіла, што дастасуе да федэральнага закона пра тарыфы тэорыю анулявання. Кангрэс стаяў на сваім, і нарэшце, грымнула бура.

У 1832 годзе насельніцтва Паўднёвай Кароліны[303] абрала канвент штата, якому мела быць выпрацаваць надзвычайныя захады. 24 лістапада таго ж года канвент апублікаваў закон, названы ім указам, абвяшчаўшы несапраўдным федэральны закон пра тарыфы і забараняўшы збор прызначаных у ім пошлін. Ён забараняў таксама браць да ўвагі звароты ў федэральны суд[304]. Указ пачынаў дзейнічаць толькі ў лютым наступнага года і было заяўлена, што, калі да гэтага тэрміну кангрэс пераменіць тарыфы, Паўднёвая Караліна, магчыма, пагадзіцца не прыводзіць у дзеянне сваю пагрозу. Пазьней было выяўлена, хаця і вельмі невыразна, пажаданне, каб гэтае пытанне было перададзенае на разгляд надзвычайнай асамблеі ўсіх федэральных штатаў.

А ў Паўднёвай Караліне ў гэты час ішло фармаванне ўзброеных частак і падрыхтоўка да вайны.

Што ж зрабіў кангрэс? Кангрэс, не жадаўшы пачуць маленні сваіх падданых, прыслухаўся да іхнага пратэсту, калі пабачыў, што яны рыхтуюцца да ўзброенай барацьбы[305]. Ён прыняў закон[306], згодна з якім тарыфныя стаўкі павінны былі паступова зніжацца на працягу дзесяці гадоў і нарэшце, дасягнуць узроўня, не перавышаючага патрэбы ўрада. Такім чынам, кангрэс цалкам перамяніў асноўны сэнс тарыфаў. Замест пошліны, спаганяемай дзеля абароны прамысловасьці, ён ператварыў яго ў чыста фіскальны захад[307]. Каб схаваць сваю паразу, урад Звязу скарыстаўся выкрутам, часта ўжываемым слабымі ўрадамі: саступіўшы на справе, ён заявіў пра сваю цьвёрдасць на словах. Адначасова са зменай закона пра тарыфы кангрэс прыняў закон, даваўшы прэзідэнту надзвычайнае права выкарыстоўваць прымус для пераадолення супраціву штатаў. Аднак у супраціўленні ўжо не было ніякай патрэбы.

У сваю чаргу Паўднёвая Караліна не пагадзілася пакінуць Звязу нават слабую бачнасць перамогі. Той жа канвент штата, які прызнаў несапраўдным закон пра тарыфы, сабраўшыся зноў, прыняў прапанаваную яму саступку. У той жа час

---

303 Канвент быў абраны большасьцю насельніцтва. У Паўднёвай Караліне існавала апазіцыйная Партыя Звязу, якую падтрымлівала моцная і актыўная меншасць. Гэты штат налічваў каля 47 тысяч выбарцаў, із іх 30 тысяч былі за ануляванне, а 17 тысяч – супраць.

304 Указу папярэднічала справаздача камітэта, якому было даручана падрыхтаваць тэкст указа. У справаздачы тлумачыцца сэнс і мэта прыняцця закона. На с. 34 у ім гаворыцца: «Калі правы, дадзеныя штатам канстытуцыяй, наўмысна парушаюцца, то яны маюць права і абавязаны зрабіць усё для таго, каб спыніць зло, не дапусьціць узурпацыі ўлады і абараніць ў адпаведных межах належачыя ім як незалежным і суверэнным дзяржавам правы і прывілеі. Калі б штаты не мелі падобнага права, яны не маглі б звацца суверэннымі. Паўднёвая Караліна заяўляе, што на сваёй тэрыторыі яна не прызнае над сабой нічый суд. Праўда, яна заключыла з іншымі, такімі ж суверэннымі, як і яна, штатамі ўрачыстую дамову пра звяз (a solemn contract of union), але яна патрабуе, каб ёй было пакінута права тлумачыць, як яна разумее гэтую дамову, і яна скарыстаецца гэтым правам. Дзякуючы таму што дамова парушана яе хаўруснікамі, а таксама створаным імі ўрадам, яна мае намер скарыстацца сваім неаспрэчваемым (unquestionable) правам самой вырашаць пра значнасць гэтага парушэння і пра тое, якія захады патрэбна зрабіць для аднаўлення справядлівасьці».

305 Кангрэс канчаткова вырашыўся на гэта пасьля дэманстратыўнага жэста моцнага штата, Віргінія, легіслатура якога прапанавала стаць пасярэднікам паміж Звязам і Паўднёвай Каралінай. Да гэтага моманту ад Паўднёвай Караліны, здавалася, усе адвярнуліся, нават тыя штаты, якія разам з ёй заяўлялі пратэст.

306 Закон ад 2 сакавіка 1833 года.

307 Гэты закон быў прапанаваны спадаром Клеем і прыняты за чатыры дні абедзьвума палатамі кангрэса пры пераважаючай большасьці галасоў.

ён заявіў, што па-ранейшаму глыбока прыхільны да тэорыі анулявання і ў якасьці доказу гэтага ён скасаваў закон, надаваўшы прэзідэнту надзвычайнае права выкарыстання моцы, хаця і быў упэўнены, што гэты закон не будзе ўжыты.

Усе гэтыя падзеі адбываліся пры прэзідэнце Джэксане. Немагчыма адмаўляць, што ў пытанні пра тарыфы ён па-майстэрску і цьвёрда абараняў правы Звязу. Аднак варта заўважыць, што адна із небяспек, пагражаючых сёння федэральнай уладзе, заключаецца ў паводзінах асоб, якія яго прадстаўляюць.

У Яўропе існуюць людзі, думка якіх пра ўплыў генерала Джэксана на развіццё яго краіны можа здацца тым, хто назіраў сітуацыю самастойна, даволі дзіўнай.

Кажуць, што генерал Джэксан перамагаў у бітвах, што гэта энергічны чалавек, схільны да выкарыстання моцы адпаведна з характарам і звычкамі, імкнучыся да ўлады і дэспатычны адпаведна з натурай. Усё гэта, магчыма, і так, але із правільных паведамленняў былі зроблены цалкам памылковыя высновы.

Лічыцца, што генерал Джэксан мае на мэце ўсталяваць у Злучаных Штатах дыктатуру, што ён будзе ўкараняць там вайсковы дух і пашыраць цэнтральную ўладу за кошт правоў штатаў. У Амерыцы часы падобных прадпрыемстваў і палітыкаў яшчэ не наступілі. Калі б генерал Джэксан пажадаў панаваць такім чынам, ён страціў бы свой палітычны прэстыж і паставіў бы пад пагрозу сваё жыццё. Аднак ён дастаткова асьцярожны і не спрабуе рабіць гэтага.

Сучасны прэзідэнт не толькі не мае намеру пашыраць паўнамоцтвы федэральнай улады, ён належыць да партыі, якая імкнецца абмежаваць гэтую ўладу ў адпаведнасьці са зразумелымі і дакладнымі артыкуламі канстытуцыі. Гэтая партыя не дапускае магчымасьці тлумачэння канстытуцыі на карысць урада Звязу. Генерал Джэксан цалкам не выступае за цэнтралізацыю, наадварот, ён з'яўляецца выразнікам той рэўнасьці, з якой штаты ставяцца да сваіх правоў. На пасаду прэзідэнта яго прывялі магутнасьці, імкнучыяся да паслаблення цэнтральнай улады і для поспеху сваёй прэзідэнцкай дзейнасьці ён вымушаны ўвесь час дагаджаць ім. Генерал Джэксан – раб большасьці, ён выконвае яе волю, патурае яе жаданням і напалову ўсведамляемым інстынктам. Больш таго, ён адгадвае ўсё гэта і робіць сваім сцягам.

Калі ўрад штата пачынае змаганне з цэнтральным урадам, прэзідэнт заўсёды, звычайна, першым ставіць пад сумнеў свае правы. У гэтым дачыненні ён кожны раз апераджае заканадаўчую ўладу. Калі ўзнікае патрэба выказацца з нагоды аб'ёму паўнамоцтваў федэральных устаноў, ён у нейкім сэнсе выступае супраць самаго сябе: паводзіць сябе стрымана, не выказвае сваю думку ці саступае. І справа цалкам не ў тым, што ён слабы ці наладжаны супраць Звязу. Калі большасць выступіла супраць дамаганняў паўднёвых штатаў, ён адразу ўзначаліў яе, выразна і энергічна сфармуляваў яе ідэі і першым заявіў пра патрэбу ўжывання гвалту. Карыстаючыся амерыканскай партыйнай фразеалогіяй, можна сказаць, што генерал Джэксан, маючы федэральныя густы, з'яўляецца рэспубліканцам па разліку.

Такім чынам, спачатку генерал Джэксан паддобрываецца перад большасьцю, але, дамогшыся яе схільнасьці, ён зноў знаходзіць сваю самастойнасць. Тады, знішчаючы на сваім шляху ўсе перашкоды, ён дамагаецца таго, да чаго імкнецца сама большасць, а таксама таго, да чаго яна больш-менш абыякавая. Ён карыстаецца падтрымкай, якой не меў ніводзін із яго папярэднікаў і з нябачанай да гэтага часу лёгкасьцю распраўляецца з усімі сваімі асабістымі ворагамі. На сваю адказнасць ён прымае такія рашэнні, якія да яго ніхто не адважыўся б прыняць.

Часам у яго стаўленні да прадстаўнічых устаноў адчуваецца амаль абразлівае грэбаванне: ён адмаўляецца зацьвярджаць законы, прынятыя кангрэсам, нярэдка не ганаруе адказам гэтую важную ўстанову ўлады. Гэта фаварыт, які нярэдка трэціруе свайго гаспадара. Улада генерала Джэксана ўвесь час павялічваецца, але, у той жа час, памяншаецца ўлада прэзідэнта. Пакуль на пасадзе прэзідэнта будзе заставацца генерал Джэксан, федэральны ўрад будзе моцным, але яго наступнік атрымае яго знясіленым.

Калі мае ўражанні праўдзівыя, федэральны ўрад Злучаных Штатаў з кожным днём губляе ўладу, ён паступова адыходзіць ад шмат якіх спраў, усё больш звужаючы поле сваёй дзейнасьці. Будучы слабым адпаведна са сваёй прыродай, ён не імкнецца нават выглядаць моцным. Акрамя таго, у штатах абвастраецца імкненне да незалежнасьці і павялічваецца адданасць свайму, правінцыйнаму ўраду.

Усе жадаюць каб Звяз існаваў, але гэтае існаванне павінна быць прывідным. Звяз павінен быць моцным толькі ў некаторых, вызначаных выпадках і слабым ва ўсіх астатніх. Лічыцца, што ў выпадку вайны ён здолее аб’яднаць магчымасьці і рэсурсы краіны, а ў мірны час яго ўлада амаль не павінна адчувацца. Аднак цяжка сабе ўявіць магчымасць такога чаргавання магутнасьці і слабасьці.

У наш час няма нічога, што б супрацьстаяла гэтым пануючым паўсюдна настроям, таму што іх выклікаюць увесь час дзейнічаючыя нагоды. Відаць, яны захаваюцца на працягу некаторага часу і можна выказаць здагадку, што ўрад Звязу будзе і далей губляць магутнасць, калі, вядома, не здарыцца нешта надзвычайнае.

У той жа час федэральная ўлада яшчэ здольная абараніць сябе і забяспечыць спакой у краіне, час яе натуральнага знікнення яшчэ не наступіў. Амерыканцы прызвычаіліся да Звязу і не жадаюць яго распадзення, яны занадта добра бачаць яго карыснасць. І няма сумневаў ў тым, што, як толькі яны зразумеюць, што слабасць федэральнага ўрада ставіць пад пагрозу існаванне Звязу, у іх паўстане жаданне ўмацаваць яго.

Із усіх федэральных урадаў, існаваўшых да гэтага часу, урад Злучаных Штатаў найлепш прыстасаваны для актыўных дзеянняў. Таму, калі толькі ён не будзе зведваць ускосных нападак, якія могуць мець наступствам пераіначванне засноўваючых яго законаў, іншымі словамі, калі яго падмурак не будзе падточаны, ён здолее зноў знайсьці магчымасьці пры нейкай перамене перакананняў у грамадстве, у выпадку вайны ці ўнутранага крызісу ў краіне.

Важна пазначыць наступнае: шмат хто ў Яўропе лічыць, што ў Злучаных Штатах існуюць настроі, спрыяючыя цэнтралізацыі ўлады ў руках прэзідэнта і кангрэса. На маю думку, настроі амерыканцаў прама процілеглыя. Федэральны ўрад з цягам часу не толькі не ўзмацняецца і не пагражае суверэнітэту штатаў, ён, наадварот, увесь час слабее. Небяспека пагражае толькі існаванню Звязу. Так справа выглядае на сёння. Да якіх вынікаў можа прывесьці падобны рух, што можа спыніць, затрымаць ці паскорыць яго? Гэта справа будучага, а я не прэтэндую на здольнасць прадказаць яго.

## Рэспубліканскія інстытуты ў Злучаных Штатах; якой з’яўляецца верагоднасць іхнага працяглага існавання?

–Звяз узнік дзякуючы выпадку. –У рэспубліканскіх інстытутаў больш надзейная будучыня. –У наш час рэспубліканскае ўладкаванне цалкам адпавядае характару

амерыканцаў. –Чаму. –Знішчэнне рэспублікі запатрабавала б замены ўсіх законаў і поўнай перамены нораваў. –Амерыканцам нялёгка стварыць арыстакратыю.

Распад Звяза, вайны паміж штатамі, уваходзячых сёння ў федэрацыю, узнікненне рэгулярных войскаў, дыктатуры, павелічэнне падаткаў – усё гэта з часам магло б паставіць пад пагрозу лёс рэспубліканскага дзяржаўнага ўладкавання.

Аднак неабходна правесьці размежаванне паміж будучыняй рэспублікі і Звязу.

Звяз утварыўся дзякуючы выпадку і будзе існаваць да таго часу, пакуль гэтаму будуць спрыяць акалічнасьці. Што да рэспублікі, то такое грамадзкае уладкаванне найлепш адпавядае прыродзе амерыканцаў. Манархія магла б прыйсьці яму на змену толькі пры ўмове працяглага ўздзеяння адных і тых жа разбураючых рэспубліку нагод.

Існаванне Звязу забяспечана, перадусім, заснаваўшымі яго законамі. Ён можа распасьціся з нагоды рэвалюцыі ці перамены грамадзкай думкі. Карані рэспублікі значна больш глыбокія.

Пад рэспубліканскай формай кіравання ў Злучаных Штатах разумеецца мернае і спакойнае развіццё грамадства. Гэтае грамадзкае ўладкавана ўяўляе сабой добра адрэгуляваны механізм, сапраўды створаны адпаведна з воляй асьвечанага народа. Гэтая форма кіравання імкнецца да замірэння супярэчнасьцей, прынімаемыя ёю рашэнні доўга абдумваюцца, марудна абмяркоўваюцца і мудра выконваюцца.

Амерыканскія рэспубліканцы з павагай ставяцца да нораваў і вераванняў, прызнаюць правы людзей. Згодна з іхнай думкай, чым больш вольны народ, тым больш цьвёрдымі павінны быць яго маральныя падмуркі, глыбей вера ў Бога, больш умеранымі погляды. У Злучаных Штатах рэспублікай называюць мірнае панаванне большасьці. Пасля таго як большасць усьвядоміла сваё існаванне і сваю магутнасць, усе ўрады атрымліваюць свае паўнамоцтвы ад яе. Але і сама большасць не ўсёмагутная. Над ёй узвышаюцца маральныя прынцыпы, такія, як людзкасць, справядлівасць, розум і прызнаныя грамадствам палітычныя правы людзей. Большасць прызнае гэтыя межы і калі ёй і здараецца выходзіць за іх, то гэта таму, што яна, як цалкам людзі, схільна паддавацца жарсьцям і чыніць зло, добра разумеючы, што такое добрае.

А мы ў Яўропе бачылі дзіўныя рэчы.

На думку некаторых еўрапейцаў, рэспубліка – гэта не панаванне большасьці, як лічылася да гэтага часу, а ўлада тых, хто бярэцца выказвацца ад яе імя. У такіх урадах кіруе не народ, а людзі, ведаючыя, у чым складаецца яго найвышэйшае шчасьце. Дзякуючы такому ўдаламу падзелу абавязкаў можна дзейнічаць ад імя народа не пытаючы ў яго думкі і патрабаваць яго ўдзячнасьці, топчучы яго нагамі. Толькі ж за рэспубліканскім кіраваннем патрэбна прызнаць права рабіць усё, што яму заманецца, і пагарджаць усім, што людзі прызвычаіліся шанаваць, пачынаючы з самых высокіх маральных прынцыпаў і заканчваючы пасрэднымі правіламі цьвярозага розуму.

Раней лічылася, што дэспатызм з’яўляецца агідным, якой б ні была яго форма. У нашы дні стала вядома, што можа існаваць дыктатура заснаваная на законе, а несправядлівасьці, калі толькі яны здзяйсняюцца ад імя народа, з’яўляюцца сьвятымі.

Уяўленні амерыканцаў пра рэспубліканскую форму кіравання значна палягчаюць яе ўжыванне і забяспечваюць даўгавечнасць. Хаця практычная дзейнасць рэспубліканскага кіравання не пазбаўлена недахопаў, яна грунтуецца на правільных ідэях, з якімі народ, урэшце, і пагадняе свае рашэнні.

Пры зараджэнні Злучаных Штатаў там было цяжка ўсталяваць цэнтралізаванае кіраванне, ды і зараз яго ўсталяванне сустрэла б немалыя цяжкасьці. Адзін чалавек не можа кіраваць усімі акалічнасьцямі жыцця людзей, раскіданых на такой вялізнай прасторы і падзеленых шматлікімі прыроднымі перашкодамі. Таму асноўную ролю там маюць установы ўлады штатаў і акруг.

Акрамя гэтай нагоды, вядомай усім еўрапейцам, жывучым у Новым Сьвеце, у Амерыцы існуюць і некаторыя іншыя, уласьцівыя толькі ёй.

Да часу ўзнікнення асад у Паўночнай Амерыцы мясцовае самакіраванне займала ўжо трывалае месца ў ангельскіх законах і норавах, і ангельскія эмігранты не толькі лічылі яго патрэбным, але і бачылі ў ім выгоду, каштоўнасць якой яны добра ведалі.

Мы бачылі таксама, якім чынам ствараліся асады. Правінцыі і нават акругі засяляліся незалежачымі адны ад другіх людзьмі, незнаёмымі адзін з адным ці аб’яднаўшыміся для дасягнення агульнай мэты.

Такім чынам, ангельцы, жыўшыя ў Злучаных Штатах, ад пачатку былі падзелены на шмат невялікіх грамадстваў, існаваўшых паасобна і не меўшых адзінага цэнтра. Кожнае з іх было вымушана самастойна вырашаць свае справы, Дзякуючы таму што не існавала ніякай цэнтральнай улады, абавязанай і здольнай клапаціцца пра іх.

Так, прырода краіны, працэс стварэння ангельскіх асад, звычаі першых эмігрантаў – словам, усё спрыяла небываламу развіццю самакіравання ў злучынах і правінцыях.

Усе ўстановы Злучаных Штатаў пабудаваны па выключна рэспубліканскім прынцыпе. Для таго каб грунтоўна разбурыць заканадаўчую базу рэспублікі, давялося б, напэўна, скасаваць адначасова ўсе законы.

Калі б нейкая партыя пажадала зараз ператварыць Злучаныя Штаты ў манархію, у яе ўзнікла б яшчэ больш цяжкасьцей, чым у партыі, намерыўшайся абвясьціць сучасную Францыю рэспублікай. Каралеўская ўлада не знайшла б у Злучаных Штатах ніякага загадзя падрыхтаванага заканадаўчага грунту і была б вымушана існаваць у асяроддзі рэспубліканскіх установаў.

Ды і прынцыпы манархічнага кіравання сустрэлі б супраціў з боку амерыканскіх нораваў.

У Злучаных Штатах прынцып народаўладдзя – гэта не нейкі вясячы ў паветры прынцып, не аб’яднаны са звычкамі і пераважаючым складам думак. Наадварот, яго можна лічыць апошнім звяном у ланцугу перакананняў, пашыраных па ўсёй Амерыцы. На думку амерыканцаў, дзякуючы Усявышняму надзяліўшага кожнага чалавека, якім бы ён ні быў, дастатковым розумам, кожны здольны сам весьці маючыя да яго дачыненне справы. Такім з’яўляецца вялікае правіла грамадзкага і палітычнага жыцця Злучаных Штатаў. Бацькі сямействаў ужываюць яго ў выхаванні дзяцей, гаспадары – у дачыненнях са слугамі, злучыны – да сваіх сяброў, акругі – да злучын, штаты – да акруг, Звяз – да штатаў. Ён пашыраецца на ўвесь народ і ператвараецца ў прынцып вяршэнства яго ўлады.

У Злучаных Штатах, як мы бачым, у падмурак рэспубліканскай формы кіраванні пакладзены той жа прынцып, якім людзі кіруюцца ў сваёй дзейнасьці.

Такім чынам, рэспубліка не толькі замацавана законамі, яна, калі можна так выказацца, прakрадаецца ў думкі, перакананні і самыя нязначныя звычкі. Для таго каб перамяніць законы, патрэбна спачатку цалкам перамяніць амерыканцаў. Нават вера шмат у каго із грамадзянаў Злучаных Штатаў нясе на сабе адбітак рэспубліканскіх прынцыпаў; падобна таму як у рэлігіі праўды іншага сьвету падпадаюць аналізу індывідуальнага розуму, у палітыцы пра зацікаўленасьці гэтага сьвету пададзена судзіць цьвярозаму розуму ўсяго народа і кожнаму чалавеку пададзена права вольна абіраць шлях выратавання сваёй душы, так жа як за кожным грамадзянінам прызнаецца права вольна абіраць форму кіравання.

Няма сумневаў ў тым, што толькі ў выніку доўгага ланцуга падобных падзей на змену ўсім гэтым законам, перакананням і норавам маглі б прыйсьці процілеглыя норавы, перакананні і законы.

Калі рэспубліканскім прынцыпам у Амерыцы і наканавана загінуць, то гэта можа адбыцца толькі ў выніку працяглых, часта перарываючыхся, але ўвесь час аднаўляючыхся грамадзкіх працэсаў. Пры гэтым рэспубліка будзе шматразова адраджацца і канчаткова знікне толькі ў выпадку, калі народ, жывучы зараз у Злучаных Штатах, карэнным чынам пераменіцца. Аднак няма ніякіх падстаў чакаць такой глыбокай перамены, нішто не прадвесьціць яе.

Што асабліва уражвае пры першым знаёмстве са Злучанымі Штатамі, дык гэта бурнае палітычнае жыццё. Бачачы паспаянную перамену законаў, назіральнік можа спачатку падумаць, што гэты народ сам не ведае, чаго ён жадае і ў хуткім часе ў яго замест існуючай формы кіравання ўзнікне цалкам новая. Гэтыя апасенні заўчасныя. Палітычным установам уласцівы два віды нестабільнасці, якія патрэбна адрозніваць. Адзін із іх, маючы дачыненне да другарадных законаў, можа доўга існаваць, не падрываючы падмуркаў грамадства. Другі, увесь час скалынаючы асновы канстытуцыі і разбураючы прынцыпы стварэння законаў, заўсёды вядзе да закалотаў і рэвалюцый. Такая нестабільнасць характэрна для грамадстваў, хвалюемых бурнымі працэсамі перамен. Вядома, што паміж гэтымі двума відамі заканадаўчай нестабільнасьці няма нейкіх вызначаных сувязей. Пад час розных эпох і ў розных месцах яны існавалі як разам, так і паасобку. У Злучаных Штатах мы бачым не другі, а першы від нестабільнасьці. Амерыканцы часта перамяняюць законы, але з павагай ставяцца да канстытуцыі.

У наш час рэспубліканскія прынцыпы ў Амерыцы пануюць так жа, як у Францыі пры Людовіку XIV панавалі прынцыпы манархіі. Мала сказаць, што французы той эпохі былі прыхільнікамі манархіі, яны проста не маглі сабе ўявіць, што можа існаваць нешта іншае і ставіліся да яе, як ставяцца да руху сонца ці перамен пор года. Тады не было ні абаронцаў, ні супернікаў каралеўскай улады.

Менавіта так у Амерыцы ўспрымаецца рэспубліка: без спрэчак, без пярэчанняў, без доказаў, з маўклівым пагадненнем, з нечым накшталт consensus universalis (Усеагульная згода (лат.)).

І ўсё ж частковая перамена адміністрацыйных формаў стварае пагрозу рэспубліканскаму кіраванню.

Пастаянныя перамены законаў перашкаджаюць выкананню задумаў людзей, і варта асьцерагацца, што яны ўрэшце могуць прыйсьці да высновы, што рэспубліка – гэта занадта неспакойнае грамадзкае ўладкаванне. Праз нязручнасьці, ствараемыя нестабільнасьцю другарадных законаў, пад сумнеў будуць пастаўлены фундаментальныя законы, што можа прывесьці да рэвалюцыі. Але гэта можа адбыцца толькі ў аддаленай будучыні.

Зараз можна сказаць толькі адно: калі рэспубліка будзе скасавана, амерыканцы пасьля кароткага манархічнага кіравання патрапяць пад уладу дэспатызму. Мантэск'ё сцвярджаў, што самую неабмежаваную ўладу атрымлівае валадар, узыходзячы на пасад адразу пасьля рэспублікі. Гэта адбываецца таму, што няпэўныя паўнамоцтвы, якімі без баязні надзяляліся выбарныя ўрадаўцы, пераходзяць у рукі спадчыннага валадара. Гэта правільна ва ўсіх выпадках, але асабліва яскрава выяўляецца ў выпадках з дэмакратычнымі рэспублікамі. У Злучаных Штатах урадаўцаў выбірае не нейкі вызначаны стан грамадзянаў, а большасць народа. Яны непасрэдна прадстаўляюць пачуцці вялікай колькасьці людзей, цалкам залежаць ад іхнай волі і не выклікаюць ні нянавісьці, ні баязьні. Ніхто не паклапаціўся пра тое, каб абмежаваць іхную ўладу ці поле дзейнасьці, таму яны маюць вялізную магчымасць прымаць рашэнні грунтуючыся на ўласным разуменні і волі. Усё гэта можа стварыць звычкі, якія пераўжывуць рэспубліку. Захаваўшы неабмежаваную ўладу, амерыканскі ўрадавец можа забыцца пра адказнасць і тады яго самаволя не будзе ведаць межаў.

У Яўропе існуюць людзі, якія чакаюць, што ў Амерыцы з'явіцца арыстакратыя і ўжо называюць час, калі яна завалодае ўладай.

Я ўжо выказваўся і паўтараю, што, на маю думку, сучаснае амерыканскае грамадства рухаецца па дэмакратычным шляху.

Вядома, цалкам магчыма, што амерыканцы некалі абмяжуюць палітычныя правы сваіх грамадзянаў ці цалкам скасуюць іх і перададуць уладу аднаму чалавеку. Але вельмі малаверагодна, каб яны даручылі ўсю паўнату ўлады нейкаму аднаму стану грамадзянаў ці, іншымі словамі, стварылі арыстакратыю.

Арыстакратычны стан складаецца із некаторай колькасьці грамадзянаў, якія, хаця і з'яўляюцца недалёкімі ад народа, але заўсёды стаяць вышэй яго. Ён блізкі, але яму немагчыма нанесьці ўдар, усе сутыкаюцца з ім, але ніхто не мае магчымасьці ў яго ўвайсьці.

Немагчыма ўявіць сабе нічога больш пярэчачага прыродзе і таемным рухам чалавечай душы, чым такое падначаленне. Адпаведна са сваёй воляй людзі ніколі не выберуць спарадкаванае арыстакратычнае кіраванне і аддадуць перавагу перад ім самаволі манарха.

Каб арыстакратыя магла існаваць, ёй патрэбна няроўнасць падняць да ўзроўню прынцыпа, загадзя ўзаконіць яе, распаўсюдзіць яе не толькі на грамадзкія, але і на сямейныя дачыненні. Але гэта супярэчыць натуральнаму пачуццю справядлівасьці і людзей да гэтага можна толькі прымусіць.

У гісторыі чалавечага грамадства няма ніводнага прыкладу, калі б народ без прымусу, уласнымі намаганнямі стварыў арыстакратыю. Усе сярэднявечныя арыстакратыі ўзніклі як вынік заваёваў. Заваёўнікі рабіліся арыстакратамі, а пераможаныя – прыгоннымі. Няроўнасць навязвалася з дапамогай гвалту, потым замацоўвалася і захоўвалася з дапамогай звычаю і, нарэшце, асвячалася законам як нешта само сабой разумеючаяся.

Некаторыя грамадствы ператвараліся ў арыстакратычныя як вынік падзей, папярэднічаўшых іхнаму ўзнікненню, але яны зноў і зноў вярталіся да дэмакратычнага ўладкавання. Такім быў лёс рымлянаў, і таксама прыйшоўшым ім на замену варвараў. Але каб цывілізаваны народ, жывучы ў дэмакратычным грамадстве, паступова падышоў да сацыяльнай няроўнасьці і стварыў непарушныя прывілеі і выключныя катэгорыі – такога сьвет яшчэ не ведаў.

І нішто не прадвесьціць, што амерыканцам першым накавана пайсьці па гэтаму шляху.

## Некаторыя меркаванні пра падставы гандлёвай магутнасьці Злучаных Штатаў

–Сама прырода падштурхоўвае амерыканцаў да бурнага развіцця мараходства. –Працягласць берагоў Злучаных Штатаў. –Глыбіня іхных партоў. –Памеры рэк. –Гандлёвая перавага амерыканцаў тлумачыцца хутчэй іхнымі інтэлектуальнымі і маральнымі якасцямі, чым геаграфічнымі ўмовамі краіны. –На чым заснавана гэтая выснова. –Будучыня камерцыйнай дзейнасьці амерыканцаў. –Распад Звяза не здолее перашкодзіць насяляючым яго народам працягваць развіццё мараходства. –Чым гэта патлумачыць. –Адпаведна з натуральнымі нагодамі амерыканцы лёгка могуць рабіць паслугі па перавозцы тавараў жыхарам Паўднёвай Амерыкі. –З цягам часу яны стануць гандлёвымі пасярэднікамі паміж шматлікімі краінамі сьвету, такімі ж, як ангельцы.

Ад бухты Фандзі да ракі Сабін у Мексіканскім заліве працягласць узбярэжжа Злучаных Штатаў складае каля дзевяці соцень лье.

Гэта адзіная і бесперапынная берагавая лінія, знаходзячаяся пад кантролем адной дзяржавы.

Няма ў сьвеце краіны, дзе б гандаль размяшчаў больш глыбокімі, шырокімі і надзейнымі партамі, чым у Амерыцы.

Жыхары Злучаных Штатаў – гэта вялікі і культурны народ, занесены лёсам у пустуючыя месцы, размешчаныя на адлегласьці тысячы двухсот лье ад асноўнага агменю цывілізацыі. Яны ўвесь час адчуваюць патрэбу ў сувязях з Яўропай. З цягам часу яны, вядома, будуць самі вырабляць большасць патрэбных ім рэчаў, але, і ўсё ж, Яўропа і Амерыка ніколі не змогуць жыць ізалявана адзін ад аднаго. Паміж жа іхнымі патрэбамі, ідэямі, звычкамі і норавамі існуюць глыбокія і натуральныя злучаючыя ніткі.

У Звязе вырошчваюцца патрэбныя нам культуры, якія ў нас вырошчваць немагчыма ці не вельмі танна. Амерыканцы спажываюць толькі невялікую колькасць гэтых прадуктаў, астатняе яны прадаюць нам.

Такім чынам, Яўропа для Амерыкі і Амерыка для Яўропы з’яўляюцца рынкамі збыту, і мараходства патрэбна амерыканцам для таго, каб прывозіць у Яўропу сыравіну, якой яны гандлююць і дастаўляць у Амерыку прамысловыя вырабы.

Амерыканцы непазбежна павінны былі зрабіць выбар. Яны маглі або зрабіць так, як робяць гішпанцы жывучыя ў Мексіцы, гэта азначае адмовіцца ад самастойнага вядзення гандлю і перадаць гэты выгадны занятак мараходам іншых краін, або стаць адной із самых буйных марскіх дзяржаваў сьвету.

Амерыканцы заўсёды паважалі мора. Незалежнасць, спыніўшая іхныя сувязі з Ангельшчынай, дала новы магутны штуршок развіццю іхнага таленту мараходаў. Пачынаючы з гэтага часу, колькасць караблёў Звязу павялічвалася амаль так жа хутка, як колькасць яго жыхароў.

Сёння дзевяць дзясятых еўрапейскіх тавараў дастаўляюць у Амерыку самі амерыканцы[308]. Яны ж дастаўляюць у Яўропу тры чвэрці экспартных тавараў із Новага Сьвету[309].

---

[308] Агульны аб’ём імпарту ў бюджэтным годзе, заканчыўшымся 30 верасня 1832 года, складаў 101 129 266 даляраў. Кошт імпартных тавараў, дастаўленых на замежных караблях, дасягаў толькі 10 731 039 даляраў, то бок прыблізна дзясятай часткі ад агульнага аб’ёму.

Караблі Злучаных Штатаў запаўняюць гаўрскі і ліверпульскі парты, тады як у нью-ёркскім не сустрэнеш шмат ангельскіх ці французскіх караблёў[310].

Так, амерыканскія камерсанты не толькі вытрымліваюць канкурэнцыю ў сваёй уласнай краіне, але і пераважаюць у іншых краінах. Гэтаму ёсць тлумачэнне: справа ў тым, што Злучаным Штатам мараплаўства абыходзіцца больш танна, чым усім астатнім краінам. Да таго часу пакуль амерыканскі гандлёвы флот будзе мець гэтую перавагу, ён не толькі захавае ўсе свае заваёвы, але і памножыць іх.

Нялёгка адказаць на пытанне, чаму ў амерыканцаў атрымліваецца выдаткаваць на мараплаўства менш, чым іншым народам. Першае тлумачэнне, да якога шмат хто схіляецца, палягае ў тым, што амерыканцы не ў прыклад іншым народам карыстаюцца нейкімі матэрыяльнымі перавагамі, падараванымі ім прыродай. Аднак гэта не так.

Выдаткі на караблебудаванне ў Амерыцы амаль не адрозніваюцца ад еўрапейскіх[311], іхныя караблі не лепш нашых, тэрмін іх службы звычайна карацей.

Амерыканскі матрос атрымлівае больш высокі заробак, чым еўрапейскі. Каб гэта давесьці, дастаткова нагадаць, што ў гандлёвым флоце Злучаных Штатаў служыць шмат еўрапейцаў.

За кошт чаго ўсё ж плаванні абыходзяцца ім танней, чым нам?

Немагчыма патлумачыць гэтую з’яву толькі спрыяльнымі прыроднымі ўмовамі, у яе падмурку ляжаць інтэлектуальныя і маральныя ўласцівасьці амерыканскага народа.

Наступнае параўнанне патлумачыць, што маецца на ўвазе.

Падчас рэвалюцыйных войн французы вынайшлі новую вайсковую тактыку, якая прыводзіла ў замяшанне самых дасьведчаных вайскаводаў і ледзь не разбурыла самыя старажытныя еўрапейскія манархіі. Упершыню ў гісторыі французскае войска абыходзілася без шматлікіх рэчаў, якія раней лічыліся цалкам патрэбнымі для вядзення вайны. Ад яе жаўнераў патрабавалася значна больш высілкаў, чым ад жаўнераў усіх развітых народаў. Яны павінны былі рабіць усё на бягу і, не задумваючыся, рызыкаваць сваім жыццём для таго, каб дамагчыся пастаўленай мэты.

Французаў было мала, яны былі больш беднымі чым іхныя ворагі, у іх было значна менш рэсурсаў. І, нягледзячы на ўсё гэта, яны ўвесь час перамагалі. Так было да таго часу, пакуль іхныя супернікі не пераймалі іхную тактыку.

Нешта падобнае амерыканцы ўжылі ў гандлі. Яны робяць для скарачэння выдаткаў тое, што французы рабілі для таго, каб перамагаць.

Еўрапейскія мараплаўцы вельмі асьцярожныя: яны выходзяць у мора толькі пад час добрага надвор’я, у выпадку нейкіх здарэнняў вяртаюцца ў порт, ноччу

[309] Агульны аб’ём экспарту за той жа год складаў 87 176 943 даляраў. Кошт тавараў, экспартаваных на замежных караблях, склаў 21 036 183 даляраў, то бок каля чвэрці ад агульнага аб’ёму. {Уільямэ. Даведнік, 1833, с. 398.)

[310] У 1829, 1830, 1831 гадах агульнае водазмяшчэнне караблёў, заходзіўшых у парты Звязу, было роўным 3307719 тон. Водазмяшчэнне замежных караблёў складала 544571 тон, то бок прыблізна 16 адсоткаў ад агульнай колькасьці. (Нацыянальны каляндар, 1833, с. 304.) У 1820,1826 і 1831 гадах водазмяшчэнне ангельскіх караблёў, заходзіўшых у лонданскі, ліверпульскі і халскі парты, складала 443800 тоны, а водазмяшчэнне замежных караблёў, заходзіўшых туды ў той жа час, – 159431 тон, то бок прыблізна 36 адсоткаўў ад агульнай колькасьці. (Спадарожнік альманаха, 1834, с. 169.) У 1832 годзе замежныя караблі, заходзіўшыя ў брытанскія парты, складалі 29 адсоткаўў ад агульнай колькасьці.

[311] Наогул, сыравіна ў Амерыцы каштуе больш танна, але працаўнікі там значна даражэйшыя.

прыбіраюць частку ветразяў, пры набліжэнні да сушы запавольваюць ход і паглядаюць на сонца.

Амерыканцы грэбуюць гэтымі засьцярогамі і адважна ідуць насустрач небяспекам. Яны выпраўляюцца ў шлях пад час буры, ноччу ідуць пад усімі ветразямі, як і пад час дня, пасьля шторму папраўляць карабель на хаду, а набліжаючыся да пункту прызначэння, ляцяць да берага на ўсіх ветразях, нібы ўжо бачаць порт.

Амерыканцы часта зведваюць крушэнні, але ніхто не перасякае мора так хутка, як яны, і дзякуючы гэтаму яны нясуць меншыя выдаткі.

Здзяйсняючы працяглае плаванне, еўрапейцы абавязкова робяць некалькі прыпынкаў. Яны губляюць каштоўны час на пошукі партоў для стаянак, на чаканне добрага надвор'я, каб працягваць шлях і вымушаны кожны дзень аплочваць стаянкі

Амерыканскія мараплаўцы, выходзячы із Бостана ў Кітай за чаем, прыбываюць у Кантон, праводзяць там два дні і зноў пускаюцца ў шлях. Менш, чым за два гады, яны здзяйсняюць кругасветнае падарожжа з адным-адзінюткім заходам у порт. На працягу васьмі- ці дзесяцімесяцовага пераходу яны п'юць салёную ваду і сілкуюцца саланінай, без канца ваюють з морам, хваробамі і нудой. Але пасьля вяртання дахаты яны могуць прадаць фунт чаю на су танней, чым ангельскія гандляры. Мэта дасягнута.

Для таго каб усё стала канчаткова зразумелым, патрэбна сказаць, што амерыканцы дадаюць да сваёй гандлёвай дзейнасьці незаўважаемы гераізм.

Еўрапейскім камерсантам заўсёды будзе цяжка вытрымліваць канкурэнцыю з амерыканскімі, дзейнічаючымі апісаным чынам не толькі дзякуючы разліку, але і галоўным чынам дзякуючы ўласцівасьцям сваёй натуры.

Жыхары Злучаных Штатаў адчуваюць усе тыя патрэбы і жаданні, існуючыя ў развітым культурным грамадстве. Але Амерыка не Яўропа, грамадства там яшчэ недастаткова спрактыкавана і не здольна задаволіць усе жаданні людзей. Таму ім нярэдка даводзіцца самім майстраваць тое, без чаго яны не могуць абыходзіцца дзякуючы свайму выхаванню і звычкам. Здараецца, што адзін чалавек арэ поле, будуе дамы, майструе інвентар, шые абутак і тчэ грубую тканіну, із якой робіць адзенне. Гэта зніжае якасць вырабляных прадметаў, але вельмі спрыяе развіццю чалавечых здольнасьцей. Далёка зайшоўшы ж падзел працы абядняе духоўны сьвет чалавека, робіць яго тварэнні бяздушнымі. У такой краіне, як Амерыка, дзе спецыялістаў вельмі мала, немагчыма патрабаваць працяглага навучання ад людзей, абраўшых нейкую прафесію. Таму амерыканцам няцяжка перамяніць прафесію і яны перамяняюць яе ў выпадку патрэбы. Можна сустрэць людзей, якія на працягу свайго жыцця былі адвакатамі, земляробамі, камерсантамі, прапаведнікамі, лекарамі. У кожным асобна ўзятым рамястве амерыканцы менш спрактыкаваны, чым еўрапейцы, але яны больш-менш знаёмы з усімі рамёствамі. Яны больш умеюць, у іх шырэй сфера прыкладання здольнасьцей. Амерыканцы ніколі не злучаюць сябе навечна ні з адной із прафесій, ім незнаёмы прафесійныя забабоны, яны не аддаюць перавагі нейкай адной дзейнасьці, ім з'яўляецца чужой цяга да ранейшых спосабаў працы і непрыманне новых. Словам, у іх саміх не ўзнікае ніякіх звычак, таму што яны ўсведамляюць, што іхная краіна не падобна ні на якую іншую і займае асобнае месца ў сьвеце.

Амерыканцы жывуць у краіне цудаў, усё вакол іх знаходзіцца ў пастаянным руху і яны ставяцца да гэтага як да прагрэса. Для іх абнаўленне азначае

ўдасканаленне. Яны не бачаць ніякіх прыродных межаў чалавечай дзейнасьці і ў іхным уяўленні не існуе толькі таго, чаго людзі яшчэ не спрабавалі зрабіць.

Дзякуючы пануючаму ў Злучаных Штатах усеагульнаму руху, дзякуючы частым пераменам лёсу і нечаканым перамяшчэнням грамадзкага і прыватнага багацця чалавек знаходзіцца ў стане ліхаманкавай узрушанасьці, дзякуючы якому ён заўсёды прыгатаваны да якой заўгодна дзейнасьці і якая ўзвышае яго над астатнім чалавецтвам. Для амерыканцаў жыццё – гэта партыя ў гульні, гэта рэвалюцыя, гэта дзень бітвы.

Уплыў гэтых нагод адначасова на ўсіх амерыканцаў накладае захопліваючы адбітак на іхны нацыянальны характар. Кожны амерыканец гарачы ў жаданнях, прадпрымальны, адважны і асабліва поўны наватарскага духу. Гэтыя ўласцівасьці выяўляюцца ва ўсіх яго справах: у палітычных законах, рэлігійных вучэннях, тэорыях кіравання грамадствам, прыватным прадпрымальніцтве. Яны ўласьцівыя яму паўсюдна, як у гарадах, так і ў лясных чашчобах. Менавіта дзякуючы гэтым якасьцям амерыканскія гандлёвыя маракі плаваюць хутчэй і з меншымі выдаткамі, чым камерсанты нейкай іншай краіны.

І да той пары, пакуль за імі будзе захоўвацца гэта інтэлектуальная, а, такім чынам, і практычная перавага, яны не толькі будуць самастойна задавальняць патрэбы вытворцаў і спажывачоў сваёй краіны, але будуць усё ў большай ступені служыць пасярэднікамі паміж іншымі краінамі, як гэта робяць ангельцы[312].

Гэта пачынае ажыццяўляцца ўжо зараз. Мы бачым, што мараплаўцы Злучаных Штатаў робяцца гандлёвымі пасярэднікамі паміж шмат якімі еўрапейскімі краінамі[313], яшчэ больш магчымасьцей для такой дзейнасьці ў іх будзе на Амерыканскім кантыненце.

Гішпанцы і партугальцы заснавалі ў Паўднёвай Амерыцы буйныя асады, якія з часамператварыліся ў імперыі. Сёння ў гэтых шырокіх краінах пануе дэспатызм ці ідуць спусташальныя грамадзянскія войны. Насельніцтва там не павялічваецца і тая невялікая колькасць людзей, якая там жыве, паглынута клопатамі пра абарону свайго жыцця і наўрад ці ў стане думаць пра паляпшэнне свайго лёсу.

Але гэта не можа працягвацца вечна. Пакінутая сама на сябе Яўропа здолела знайсьці ў сабе магчымасьці пераадолець сярэднявечны абскурантызм. Як і ў Яўропе, у Паўднёвай Амерыцы вызнаецца хрысьціянства, яе законы і звычаі блізкія да еўрапейскіх. Такім чынам, Паўднёвая Амерыка размяшчае зародкамі цывілізацыі, створанай шматлікімі пакаленнямі еўрапейскіх народаў. Акрамя таго, перад ёю прыклад развітых еўрапейскіх краін. Усё гэта спрыяе таму, каб яна выйшла із варварскага стану.

Гэта толькі пытанне часу. Рана ці позна ў Паўднёвай Амерыцы з’явяцца квітнеючыя і асьвечаныя народы.

Але ў той час, калі ў паўднёваамерыканскіх гішпанцаў і партугальцаў паўстануць патрэбы, уласцівыя культурным народам, у іх яшчэ не будзе магчымасьцей самастойна задавальняць іх. Ім, як малодшым сынам цывілізацыі, давядзецца выпрабаваць на сабе перавагу больш развітых братоў. Іхныя краіны не адразу стануць прамысловымі і гандлёвымі, яны яшчэ доўга будуць заставацца

[312] Не патрэбна думаць, што ангельскія караблі толькі дастаўляюць замежныя тавары ў Англію, а ангельскія – у іншыя краіны. У наш час ангельскі гандлёвы флот уяўляе сабой вялікае прадпрыемства па перавозцы грузаў, гатовае служыць вытворцам якой заўгодна краіны і ажыццяўляць стасункі паміж усімі народамі. Дзякуючы сваім мараплаўчым талентам амерыканцы, магчыма, створаць супернічаючае прадпрыемства.

[313] Ужо зараз перавозка тавараў па Міжземнаму мору ажыццяўляецца збольшага амерыканскімі караблямі.

Плімута, сабралі 400 фунтаў стэрлінгаў для стварэння ўласнага ўніверсітэта ў Кембрыджы.

Калі ад твораў, асьвятляючых агульную гісторыю ўсёй Новай Ангельшчыны, перайсьці да тых твораў, якія прысвечаны асобным штатам дадзенага рэгіёна, я б перадусім пазначыў кнігу пад назвай «Гісторыя асады Масачусетс, напісаная Хатчынсонам, губернатарам Масачусецкай правінцыі» – двухтамовік роўны $^{1}/_{8}$ долі ліста. Адзін асобнік гэтай кнігі існуе ў Каралеўскай бібліятэцы: другое выданне, выпушчана ў Лондане ў 1765 годзе.

У «Гісторыі» Хатчынсона, шмат разоў цытаваная мной у той главе, да якой мае дачыненне нататка, апісваюцца падзеі, пачынаючы ад 1628 і заканчаючы 1750 годам. Увесь твор прасякнуты духам праўдзівасьці, склад просты і натуральны. Гэтая «Гісторыя» змяшчае шмат дэталяў.

Лепшай гісторыяй Канэктыкута з’яўляецца кніга Бенджаміна Трамбула «Поўная грамадзкая і царкоўная гісторыя Канэктыкута, 1630-1764», два тамы якой роўныя $^{1}/_{8}$ долі ліста былі надрукаваны ў Нью-Хэйвене ў 1818 годзе. Я не думаю, што ў Каралеўскай бібліятэцы існуе хаця б адзін асобнік твора Трамбула.

Дадзеная гісторыя ўяўляе сабой зразумелае і нестаронняе апісанне ўсіх падзей, якія адбыліся ў Канэктыкуце за перыяд часу, паказаны ў загалоўку. Аўтар чэрпае матэрыялы із лепшых крыніц, і яго твор нясе на сабе пячатку праўдзівасьці. Усё, што ён піша пра ранні перыяд Канэктыкута, надзвычай цікава. Звярніце асаблівую ўвагу на выкладанне Канстытуцыі 1639 гады ў яго працы (т. I, гл. VI, с. 100), а таксама на «Крымінальныя законы Канэктыкута» (т. I, гл. VII, с. 123).

З поўным на тое правам аўтарытэтным лічыцца твор Джэрэмі Белнэпа «Гісторыя Нью-Гэмпшыра», два тамы роўныя $^{1}/_{8}$ долі ліста, надрукаваныя ў Бостане ў 1792 годзе. Асобна звярніце ўвагу ў працы Белнэпа на главу III першага тома, у якой аўтар прыводзіць надзвычай каштоўныя падрабязнасьці адносна палітычных і рэлігійных поглядаў пурытан, падставы іхнай эміграцыі і прынятых імі законаў. Тутака ж прыводзіцца цікавая цытата із павучання, прачытанага ў 1663 годзе: «Патрэбна, каб Новая Ангельшчына ўвесь час памятала, што яна была заснавана з рэлігійнай, а зусім не з камерцыйнай мэтай. Абавязак выконваць чысьціню веравучэння, набожнасьці і царкоўнага ўладкавання напісаны на яе чале. Таму гандлярам і ўсім тым, хто збірае манету за манетай, не патрэбна забывацца пра тое, што мэтай заснавання гэтых селішчаў была рэлігія, а не нажыва. І калі нехта сярод нас справам мірскім надае роўна такое ж значэнне ці нават трохі большае, чым рэлігіі, такі чалавек адпаведна са сваім духам не з’яваўляецца сапраўдным сынам Новай Ангельшчыны». У Белнэпа чытач знойдзе больш агульных ідэй і вялікую магутнасць думкі, чым у якога б то ні было із вядомых нам амерыканскіх гісторыкаў.

Не ведаю, ці ёсць гэтая кніга ў Каралеўскай бібліятэцы?

Із ліку тых цэнтральных штатаў Амерыкі, якія былі заснаваны ўжо адносна даўно і якія заслугоўваюць нашай увагі, перадусім вылучаюцца штаты Нью-Ёрк і Пенсільванія. Лепшая із існуючых у нас кніг па гісторыі штата Нью-Ёрк так і завецца «Гісторыя Нью-Ёрка». Яна была напісана Уільямам Смітам і выдадзена ў Лондане ў 1757 годзе. Існуе яна і ў французскім перакладзе, надрукаваным таксама ў Лондане ў 1767 годзе ў выглядзе аднатамовіка роўнага 1/12 долі ліста. Сміт уявіў нашай увазе карысныя падрабязнасьці пра войны паміж французамі і ангельцамі ў Амерыцы. Із амерыканскіх гісторыкаў ён быў лепш за ўсіх дасведчаны пра знакамітую канфедэрацыю іракезскіх плямён.

Што да Пенсільваніі, то лепшае, што я магу зрабіць, – гэта паказаць на працу Роберта Праўда, маючую загаловак «Гісторыя Пенсільваніі панаючы ад самога стварэння і засялення гэтай правінцыі пры першым яе кіраўніку і губернатару Уільяму Пене, пачынаючы ад 1681 года і аж да 1742». Гэта двухтамовая праца была выдадзена ў Філадэльфіі ў 1797 годзе.

Дадзеная публікацыя асобліва заслугоўвае чытацкай увагі: у ёй змешчана вялікая колькасць вельмі цікавых дакументаў, маючых дачыненне да Пена, да веравучэння квакераў ці адлюстроўваючых характары, норавы і звычаі першых насельнікаў Пенсільваніі. У Каралеўскай бібліятэцы, наколькі мне вядома, няма ніводнага асобніка гэтай кнігі.

Няма асаблівай патрэбы дадаваць, што ў ліку найбольш значных твораў пра Пенсільванію знаходзяцца працы самога Пена, а таксама Бенджаміна Франкліна, таму што дадзеныя творы вядомы вельмі шырокаму колу чытачоў.

Вялікая частка цытаваных кніг была прагледжана мной пад час перыяду знаходжання ў Амерыцы. Астатнія ж мне былі выдадзены Каралеўскай бібліятэкай, а таксама вельмі ласкава пададзены спадаром Уордэнам – ранейшым генеральным консулам Злучаных Штатаў у Парыжы, які сам быў аўтарам цудоўнай працы пра Амерыку. Таму мне пажадалася заключыць дадзеныя нататкі словамі, выяўляючымі маю глыбокую ўдзячнасць у адрас спадара Уордэна.

## *28

Ва «Успамінах» Джэферсана напісана наступнае: «Пад час ранняга каланіяльнага перыяду, калі ангельцы пачалі абсталёўвацца ў Віргініі і калі зямлю можна было набыць за самую дробязь ці наогул дарэмна, некаторыя абачлівыя асобы набылі вялізныя надзелы і, жадаючы падтрымаць матэрыяльны дабрабыт сямейства, адпісвалі свае набыткі сваім нашчадкам. Пераход гэтай зямельнай уласнасьці із пакалення ў пакаленне, пры тым, што гаспадарамі заўсёды заставаліся людзі, насіўшыя адно і тое ж прозвішча, мела наступствам вылучэнне із асяроддзя асаднікаў вызначанага кола сямействаў, якія дзякуючы закону здолелі захаваць свае багацці і ўтварылі, такім чынам, некаторае падабенства стана патрыцыяў, вызначаўшагася пышнасьцю і раскошай свайго ладу жыцця. Із гэтага стана, звычайна, кароль падбіраў сабе дзяржаўных дзеячаў асады».

У Злучаных Штатах асноўныя параграфы ангельскіх законаў пра ўспадкоўванне былі паўсюдна адкінуты.

«Асноўнае правіла, якому мы падначальваемся ў пытанні пра маёмаснае ўспадкаванне згодна з законам, – сцвярджае спадар Кент, – складаецца ў наступным: калі нейкі чалавек памірае, не пакінуўшы тэстаменту, яго маёмасць пераходзіць да яго спадкаемцаў па прамой лініі. Калі існуе адзіны спадкаемец, ён (ці яна) атрымлівае ўсю маёмасць цалкам. Калі ж нябожчык пакінуў некалькі спадкаемцаў, маючых роўныя правы, то ў гэтым выпадку маёмасць дзеліцца паміж імі на роўныя долі незалежна ад стаці спадкаемцы».

Гэтае правіла ўпершыню было ўведзена ў штаце Нью-Ёрк у пастанове ад 23 лютага 1786 года (гл.: Заканадаўчыя папраўкі і пастановы, т. III; Дадаткі, с. 48). З той пары яно было ўключана ў асноўны тэкст законаў і паправак дадзенага штата. Да цяперашняга часу дзеянне гэтай нормы пашырылася на тэрыторыю амаль усіх Злучаных Штатаў з тым адзіным выключэннем, якое паказвае сабой заканадаўства штата Вермонт, дзе спадкаемцу мужчынскай стаці даецца падвойная доля спадчыннай маёмасьці. Кент. Каментары, т. IV, с. 370.

У гэтай жа працы спадар Кент (т. IV, с. 1-22) дае гістарычны нарыс амерыканскага заканадаўства адносна пытання маяратнага ўспадкавання. Аўтар прыходзіць да высновы, што аж да Амерыканскай рэвалюцыі ў асадах у якасьці юрыдычнай нормы функцыянавалі ангельскія законы маяратнага ўспадкавання. Уласна кажучы, упершыню маярат быў скасаваны ў Віргініі ў 1776 годзе (рух за гэта скасаванне ўзначальваў Томас Джэферсан; гл. яго «Успаміны»); а ў 1786 – у штаце Нью-Ёрк. Потым скасаванне была абвешчана ў штатах Паўночная Караліна, Кентукі, Тэнэсі, Джорджыя і Місуры. У Вермонце, Індыяне, Ілінойсе, Паўднёвай Караліне і Луізіяне закон маярату ніколі не ўжываўся на практыцы. У тых штатах, заканадаўцы якіх лічылі, што ім патрэбна захаваць ангельскія нормы, замацоўваўшыя парадак успадкавання зямлі без права адчуджэння, яны мадыфікавалі іх

такім чынам, што нормы страцілі свае асноўныя арыстакратычныя рысы. «Галоўныя прынцыпы нашага грамадзкага ўладкавання і кіравання, – сцвярджае спадар Кент, – спрыяюць вольнай цыркуляцыі ўласнасьці».

Французскі чытач, вывучаючы раздзел амерыканскага заканадаўства, прысвечаны пытанням успадкавання, будзе вельмі здзіўлены, выявіўшы, што нашы законы ў гэтай вобласьці бясконца больш дэмакратычныя, чым іхныя.

Згодна з амерыканскімі законамі маёмасць бацькі дзеліцца на роўныя долі паміж спадкаемцамі толькі ў тым выпадку, калі яго воля невядома. «Таму што кожны чалавек у штаце Нью-Ёрк, – абвяшчае закон (Заканадаўчыя папраўкі і пастановы, т. III; Дадатак, с. 51), – мае поўную і нічым не абмежаваную волю, права і паўнамоцтвы перадаваць, распараджацца, дараваць ці адпісваць сваю маёмасць якой заўгодна асобе ці асобам, калі дадзеная асоба ці згуртаванне асоб не ўяўляюць ніякіх палітычных ці грамадзкіх арганізацый».

Згодна з французскімі законамі падзел маёмасьці на роўныя ці амаль роўныя долі абавязковы для адпісваючага.

Большасць амерыканскіх штатаў усё яшчэ дазваляюць маяратнае ўспадкоўванне зямлі, абмяжоўваючыся толькі стрымліваючымі яго захадамі.

Французскія законы ні ў якім разе маярат не дазваляюць.

Калі ў амерыканцаў грамадзкае ўладкаванне ўсё яшчэ больш дэмакратычнае, чым наша, то ў нас затое больш дэмакратычныя законы. Насуперак магчымым здагадкам гэта тлумачыцца без асаблівай цяжкасьці: у Францыі дэмакратыя ўсё яшчэ занята справай разбурэння; у Амерыцы яна ціха і мірна валадарыць на парэштках мінулага.

## *53

Кароткое выкладанне пытання пра выбарчы цэнз у Злучаных Штатах.

Усе штаты надаюць сваім грамадзянам задавальненне браць удзел у выбарах, пачынаючы з 21-гадовага ўзросту. Ва ўсіх штатах патрэбна паспаянна жыць на працягу вызначанага часу ў той акрузе, у якой выбаршчык галасуе. Дадзены тэрмін вагаецца ад трох месяцаў да двух гадоў.

Што да маёмаснага становішча, то ў штаце Масачусетс для таго, каб стаць выбаршчыкам, чалавеку патрэбна мець прыбытак роўны 3 фунтам стэрлінгаў на год ці ж капітал роўны 60 фунтам стэрлінгаў.

У штаце Род-Айлэнд для гэтага патрэбна валодаць зямельнай уласнасьцю коштам не менш 133 даляраў (704 франкаў).

У Канектыкуце патрэбна мець уласнасць, якая б прыносіла гадавы прыбытак роўны 17 далярам (каля 90 франкаў). Год службы ў міліцыі таксама дае выбарчае права.

У Нью-Джэрсі выбаршчык павінен мець уласнасць, ацэньваемую роўнай 50 фунтаў стэрлінгаў.

У Паўднёвай Караліне і ў Мэрылендзе выбаршчык павінен мець 50 акраў зямлі.

У штаце Тэнэсі дастаткова мець хаця б нейкую ўласнасць наогул.

У штатах Місісіпі, Агаё, Джорджыя, Віргінія, Пенсільванія, Дэлавэр і Нью-Ёрк для атрымання права голасу дастаткова плаціць хаця б нейкія падаткі; у большасьці гэтых штатаў служба ў міліцыі эквівалентна выплаце падаткаў.

У Мэне і Нью-Гэмпшыры дастаткова не значыцца ў сьпісах патрабуючых дапамогі.

І нарэшце, у штатах Місуры, Алабама, Ілінойс, Луізіяна, Індыяна, Кентукі і Вермонт для выбаршчыкаў не ўсталяваны ніякі маёмасны цэнз.

Лічу, што толькі ў Паўночнай Караліне да выбаршчыкаў патрабуюцца розныя патрабаванні: тыя, хто бярэ ўдзел у выбарах сенатараў, павінны мець зямельны надзел не менш 50 акраў. Для ўдзелу ў выбарах сябраў палаты прадстаўнікоў дастаткова плаціць нейкі падатак.

## *120

Цьверджанне, быццам бы цэнтралізацыя была наступствам Французскай рэвалюцыяй, не з'яўляецца праўдзівым. Французская рэвалюцыя ўдасканаліла цэнтралізацыйную сістэму, але не спарадзіла яе. Схільнасць да цэнтралізацыі і манія да цыркуляраў у Францыі пачынаецца ад тых старажытных часоў, калі ва ўрад былі дапушчаны легісты. Гэта вяртае нас у эпоху валадарання Піліпа Прыгожага. Пачынаючы з гэтага часу абедзьве гэтыя з'явы няспынна ўзмацняюцца. Менавіта пра гэта спадар дэ Малерб ад імя Судова-фінансавай палаты выказаў у 1773 годзе каралю Людовіку XVI: «Кожнае згуртаванне і кожная супольнасць грамадзянаў маюць права весьці свае ўласныя справы, права, якое мы не лічым адным са старыйшых у каралеўстве толькі таму, што яно значна старэй самога каралеўства: гэта – натуральнае права, абумоўленае прыродай чалавека як разумнай істоты. І ўсё ж, сір, Вашы падданыя былі пазбаўлены гэтага права, і мы не пабаімся сказаць, што ўрад у дадзеным дачыненні запаў у крайнасць, якую можна ахарактэрызаваць як дзяцінства.

Пачынаючы з той самай пары, як магутныя міністры ўзвялі ў палітычны прынц звычай не склікаць нацыянальны сход, прэцэдэнт за прэцэдэнтам прывёў да таго, што з меркаваннямі гараджанаў цалкам перасталі лічыцца, калі толькі яны не атрымалі ўхвалы кіраўніка гарадзкой адміністрацыі. У выніку, пажадай асобы гэтай гарадзкой супольнасьці распарадзіцца ўласнымі фінансавымі сродкамі, ім неабходна схіліць на свой бок намесніка інтэнданта і адпаведна кіравацца зацьверджаным ім планам, наймаць тых выканаўцаў, якіх ён падтрымлівае і аплочваць іхную працу ў адпаведнасьці з яго ўказаннямі. Калі ў камуны ўзнікае патрэба звярнуцца ў судовыя інстанцыі, яе прашэнне таксама павінна быць заьверджана інтэндантам. Такім чынам, справа папярэдне павінна быць разгледжана ў гэтай інстанцыі, перш чым яна патрапіць у судовыя ўстановы. І калі інтэндант не згодзен з думкай сваіх гараджанаў ці ж у тым выпадку, калі адказваючы мае некаторы ўплыў на апарат гарадзкога кіравання, жыхары горада выяўляюцца пазбаўленымі магчымасьці абараняць свае правы. Сір, такімі з'яўляюцца сродкі, з дапамогай якіх у Францыі імкнуліся задушыць саму памяць пра муніцыпальную незалежнасць, знішчыўшы, наколькі гэта магчыма, нават пачуццё павагі да вольнасьці ў гараджанаў. Такім чынам, можна сказаць, што ўся нацыя была прызнана недзеяздольнай і таму даручана заступніцтву апекуноў.

Што яшчэ можна дадаць да гэтага зараз, калі Французская рэвалюцыя ўжо здзейсніла свае так званыя заваёвы ў вобласьці цэнтралізацыі?

У 1789 годзе Джэферсан пісаў із Парыжа аднаму свайму сябру: «На сьвеце не было краіны, дзе б імкненне кіраваць усім і ўся пусьціла б такія глыбокія карані, як у Францыі, прынёсшы з сабой так шмат зла» (Ліст Мэдысону ад 28 жніўня 1789 года).

Праўда палягае ў тым, што ў Францыі на працягу ўжо некалькіх стагоддзяў цэнтральная ўлада рабіла ўсё, што пажадае, дзеля ўзмацнення адміністрацыйнай цэнтралізацыі, і нішто не было здольна яе ў гэтым абмежаваць, акрамя таго, што яе магчымасьці таксама былі не бязмежнымі.

Цэнтральная ўлада, створаная Французскай рэвалюцыяй, пайшла ў дадзеным дачыненні далей усіх сваіх папярэдніц таму, што яна была больш моцнай і адукаванай чым якая б то ні было із яе папярэдніц: Людовік XIV падначаліў усе бакі жыцця гарадзкой злучыны самаволі інтэнданта, а Напалеон – волі міністра. Прынцып заўсёды застаецца аднолькавым, пераменяюцца толькі захады і паўната іхнай рэалізацыі.

* 122

Падобная непахіснасць канстытуцыі ў Францыі з'яўляецца непазбежным вынікам нашых законаў[321].

[321] Гл.: «Запіскі, прызначаныя для гісторыі дзяржаўнага права Францыі, па пытанні пра падаткі», выдадзеныя ў Брусселі ў 1779 годзе, с.654.

І калі спачатку згадваць пра самы важны із законаў, а менавіта пра той закон, які рэгулюе парадак успадкавання пасада, то які палітычны прынцып можа быць больш непарушным, чым той, які заснаваны на прыродным законе ўспадкавання ад бацькі да сына? У 1814 годзе Людовік XVIII дамогся прызнання вечнага права на пасад для свайго сямейства. Тыя, хто вызначаў вынікі рэвалюцыі 1830 года, пайшлі сьледам за яго ж прыкладам: яны толькі падмацавалі нязменнасць дадзенага закона ўспадкавання пасада на карысць іншай дынастыі. І ў гэтым яны пераймалі канцлеру Мопу, які пад час стварэння новага парламента не прамінуў клапатліва абвясьціць у тым жа самым арданансе, што новыя дэпутаты будуць такімі ж неадзываемымі, як і іхныя папярэднікі.

Законы 1830 года, таксама як і законы, прынятыя ў 1814 годзе, не даюць ніякай магчымасьці перамяняць канстытуцыю. Такім чынам, цалкам зразумела, што звычайныя заканадаўчыя сродкі з'яўляюцца недастатковымі для дасягнення падобнай мэты.

На чым заснавана магутнасць каралеўскай улады? На канстытуцыі. А ўлада пэраў? На канстытуцыі. А ўлада дэпутатаў? На канстытуцыі. Тады якім чынам могуць кароль, пэры і дэпутаты, аб'яднаўшы свае намаганні, перамяніць нешта ў тым асноўным законе, які і з'ўляецца адзінай крыніцай іхнага права на ўладу? Без канстытуцыі яны – нішто. А раз так, то на што яны змогуць абаперціся, калі пажадаюць перамяніць гэтую канстытуцыю? Існуе толькі два варыянты: або іхныя намаганні, накіраваныя супраць хартыі, выявяцца немаючымі вынікаў і яна працягвае існаваць насуперак іхнай волі, даючы ім магчымасць па-ранейшаму кіраваць ад яе імя; або ў іх усё ж атрымаецца перамяніць хартыю, і тады закон, даўшы ім юрыдычнае існаванне, скасоўваецца, ператвараючы іх саміх у нішто. Знішчаючы хартыю, яны знішчылі саміх сябе.

У законах, зацьверджаных у 1830 годзе, гэта праглядаецца нават з большай выразнасьцю, чым у законах 1814 года. У 1814 годзе каралеўская ўлада яшчэ разглядалася як нешта, існуючае па-за канстытуцыяй і ўзвышаючаяся над ёю, тым часам як у 1830 годзе яна, згодна з яе ўласным цьверджаннем, ствараецца канстытуцыйным шляхам і без канстытуцыі ператвараецца ў нішто.

Такім чынам, частка нашай канстытуцыі з'яўляецца нязменлівай таму, што яна злучана з лёсам валадарачага сямейства, ды і ў цэлым канстытуцыя таксама неперамяняема, таму што не існуе ніякіх легальных спосабаў яе перамяніць.

Усё гэта цалкам немагчыма прыставаць да Ангельшчыны. Дзякуючы таму што тут няма пісьмова зафіксаванай канстытуцыі, хто можа заявіць, што Ангельшчына перамяняе свой асноўны закон!

Самыя паважаемыя із пісаўшых пра ангельскую канстытуцыю аўтары нібы спаборнічаюць адзін з адным, падкрэсліваючы гэтую ўсемагутнасць парламента.

Дэлолм піша (гл. X, с. 77): «Асноўным ангельскія юрысты лічаць прынцып, згодна з якім парламент надзелены магчымасьцю здзейсніць усё, што заўгодна, акрамя магчымасьці ператварыць жанчыну ў мужчыну, а мужчыну – у жанчыну».

Блэкстан тлумачыць яшчэ больш катэгарычна, хаця і не так выразна, як Дэлолм, гэту ж думку ў наступных словах: «Улада і юрысдыкцыя парламента, на думку сэра Эдварда Хоўка (4 Гіст., 36), такія шырокія і абсалютныя як над прыватнымі асобамі, так і ў дачыненні да пэўных пытанняў, што яны не могуць вызначацца якімі б там ні было абмежаваннямі... Пра гэтую ўстанову ўлады, – дадае ён, – можна з поўнай падставай сцвярджаць: Si antiquitatem spectes, est vetustissima; si dignitatem, est honoratissima; si jurisdictionem, est capacissima[322]. Ён карыстаецца суверэннымі і безкантрольнымі паўнамоцтвамі ствараць, зацьвярджаць, пашыраць, абмяжоўваць, скасоўваць, ануляваць, аднаўляць і тлумачыць які заўгодна закон ва ўсіх заканадаўчых сферах, няхай гэта будзе царкоўнае, свецкае, грамадзянскае, вайсковае, марское ці крымінальнае права. Менавіта парламент надзяляецца канстытуцыяй аб'яднанага каралеўства той дэспатычнай і

---

[322] З боку гледжання часу – вельмі старажытная; з боку гледжання прэстыжу – вельмі ганаровая; з боку гледжання юрысдыкцыі – вельмі дзейсная (лат).

абсалютнай уладай, якая пры якой бы то ні было форме кіравання павінна знаходзіцца ў нечыіх руках. Усе сацыяльныя беды і нягоды, усе мерапрыемствы і сродкі змагання з гэтымі нягодамі, калі яны выходзяць за рамкі законаў, перадаюцца на разгляданне гэтага надзвычайнага трыбунала. Ён можа рэгуляваць ці нават перамяняць закон пра спадкаемства пасаду, як гэта было зроблена пад час валадарання Генрыха VIII і Вільгельма III. Ён здольны перамяніць ужо прынятую краінай рэлігію, як гэта неаднаразова здаралася пад час кіравання Генрыха VIII і яго дзяцей. Ён можа перамяніць ці стварыць новую канстытуцыю каралеўства і нават законы, рэгулюючыя жыццядзейнасць самога парламента, як гэта было зроблена прыняццем акта пра аб’яднанне Англію з Шатландыяй, а таксама розных пастаноў адносна трох- і сямігадовых тэрмінаў абрання сяброў парламента. Адным словам, ён можа зрабіць усё, што толькі ў чалавечых магчымасьцях, і таму сёй-той не пасаромеўся назваць гэту ўладу, магчыма залішне адважна, уседазволенасьцю парламента».

## * 127

Канстытуцыі розных амерыканскіх штатаў лепш усяго пагадняюцца паміж сабой у вобласьці палітычнага ўладкавання.

Канстытуцыі ўсіх штатаў, у якіх гэта ўсталявана законам, надзяляюць менавіта палату прадстаўнікоў выключным правам абвінавачвання, акрамя канстытуцыі Паўночнай Караліны, згодна з якой гэтае права перададзена вялікаму журы прысяжных, вырашаючаму пытанне пра падсуднасць той ці іншай справы (ст. 23).

Канстытуцыі амаль усіх штатаў надзяляюць сенат ці замяняючую яго асамблею выключным правам выносіць рашэнні па асабліва важных палітычных справах.

Адзінымі мерамі пакарання, якія могуць быць вызначаны палітычным судом, з’яўляецца пазбаўленне ад дзяржаўнай пасады ці забарона займацца ў будучым дзяржаўнай дзейнасьцю. Толькі канстытуцыя штата Віргінія дазваляе палітычнаму суду прызначаць якія заўгодна пакаранні.

Палітычнымі злачынствамі, якія могуць падлягаць судоваму разбіранню згодна з федэральнай канстытуцыяй (разд. IV, ст. I), згодна з канстытуцыяй Індыяны (ст. 3, с. 23, 24), Нью-Ёрка (ст.5) і Дэлавэра (ст. 5) з’яваўляюцца дзяржаўная здрада, карупцыя і іншыя небяспечныя злачынствы ці правіны.

Згодна з канстытуцыяй Масачусетса (гл. I, разд. II), Паўночнай Караліны (ст. 23) і Віргініі (с. 252) такімі лічацца парушэнне нормаў паводзін і дрэннае кіраўніцтва.

Згодна з канстытуцыяй Нью-Гэмпшыра (с. 105) – карупцыя, махінацыі і дрэннае кіраўніцтва.

Згодна з канстытуцыяй Вермонта (гл. II, ст. 24) – дрэннае кіраўніцтва.

У Паўднёвай Караліне (ст. 5), Кентукі (ст. 5), Тэнэсі (ст. 4), Агаё (ст. 1, 23, 24), Луізіяне (ст. 5), Місісіпі (ст. 5), Алабаме (ст. 6), Пенсільваніі (ст.4) – службовыя правіны і парушэнні.

У канстытуцыях штатаў Ілінойс, Джорджыя, Мэн і Канэктыкут характар злачынстваў не ўдакладняецца.

## *171

Першая амерыканская газета выйшла ў красавіку 1704 года ў Бостане (гл.: Працы Гістарычнага таварыства Масачусетса, т. VI, с. 66).

Было б памылкай лічыць, што перыядычны друк у Амерыцы заўсёды карыстаўся поўнай воляй; некалькі разоў тут пачыналіся спробы ўсталяваць нешта падобнае практыцы папярэдняй цэнзуры і фінансавых санкцый.

У заканадаўчых справаздачах штата Масачусетс, у прыватнасьці, існуе дакумент, датаваны 14 студзенем 1722 года.

Камітэт, прызначаны Генеральнай асамблеяй (самай высокай заканадаўчай установай асады) для разбору акалічнасьцей справы, злучанай з газетай «Будні Новай

Ангельшчыны», палічыў, «што вышэйзгаданая газета выяўляе імкненне выставіць рэлігію на пасмешышча і выклікаць да яе пагарду; што да аўтараў сьвятых тэкстаў у газеце ставяцца непаважліва і бязбожна; што лад жыцця і паводзіны евангелічных сьвятароў трактуюцца ў ёй зламысна; што абражаецца ўрад Яго Вялікасьці і што вышэйзгаданая газета парушае замірэнне і спакой у гэтай асадзе. У выніку камітэт прапануе забараніць друкару і выдаўцу Джэймсу Франкліну друкаваць і выдаваць у будучыні вышэйзгаданую газету ці іншыя пісьмовыя творы без папярэдняга азнаямлення з імі сакратара асады. Міравыя суддзі акругі Сафолк павінны выпатрабаваць са спадара Франкліна заклад, які мог бы гарантаваць выкананне нормаў паводзін сёлета».

Прапанова камітэта была прынята асамблеяй і ператварылася ў закон, аднак яго эфект выявіўся роўным нулю. Газета пазбегла забароны таму, што пад яе калонкамі замест подпісу Джэймса Франкліна з’явілася імя Бенджаміна Франкліна і грамадзкая думка прызнала мэтазгоднасць падобнага выкруту.

## *205

Для набыцця выбарчага права ў ангельскіх графствах (тэрытарыяльны падзел адпавядаўшы дачыненням да зямельнай уласнасьці) аж да біля пра рэформу, прынятага ў 1832 годзе, патрэбна было мець ці арандаваць такую пляцоўку зямлі, каб яна давала 40 шылінгаў чыстага гадавога прыбытку. Гэты закон быў прыняты пры каралю Генрыху VI каля 1450 года. Падлічана, што 40 шылінгаў часоў Генрыха VI можна было прыраўнаць да 30 фунтаў стэрлінгаў у нашы дні. І ўсё ж, дадзеная сума, усталяваная ў XV стагоддзі, не перамянялася аж да 1832 года, што паказвае, наколькі больш дэмакратычнай на працягу часу рабілася ангельская канстытуцыя, нават застаючыся нязменнай (гл. кнігу Делолма, а таксама Блэкстана: кн. 1, гл. IV).

Ангельскія прысяжныя засядальнікі абіраюцца шэрыфам графства (Дэлолм, т.1, гл. ХП). Шэрыф графства ў цэлым – фігура значная; ён валодае як судовымі, так і адміністрацыйнымі паўнамоцтвамі; ён з’яўляецца прадстаўніком каралеўскай улады і штогадова прызначаецца асабіста каралём (Блэкстан, кніга I, гл. IX). Яго становішча ставіць яго вышэй падазрэнняў у староннасьці і сімпатыях да нейкага аднаго са спрачаючыхся бакоў; больш таго, калі ўзнікаюць сумневы ў яго безстароннасьці, ёсць магчымасць цалкам адвесьці названы ім склад прысяжных засядальнікаў і тады іншая службовая асоба абавязваецца падабраць новых прысяжных (Гл.: Блэкстан, кн. III, гл. XXIII).

Права быць прысяжным мае кожны чалавек, валодаючы зямельнай уласнасьцю, якая прыносіць сама меней 10 шылінгаў чыстага прыбытку на год (Блэкстан, кн. III, гл. XXIII). Патрэбна пазначыць, што гэтая ўмова была ўведзена пад час валадарання Вільгельма і Мэры, то бок каля 1700 года – пад час эпохі, калі грошы былі нашмат больш каштоўнымі, чым у нашы дні. Зразумела, што ангельцы падбіралі сваіх прысяжных засядальнікаў, улічваючы не іхную прыдатнасць, а толькі наяўнасць у іх зямельнай уласнасьці – падмурка, на якім грунтаваліся і ўсе іншыя іхныя палітычныя інстытуты.

Урэшце, да ўдзелу ў журы прысяжных засядальнікаў былі дапушчаны і арандатары, але ад іх патрабавалася вельмі доўгатэрміновая рэнта і чысты прыбытак не менш 20 шылінгаў, не лічачы арэнднай платы (Блэкстан, там жа).

## *206

«Федэральная канстытуцыя вызначыла функцыі і статус журы прысяжных засядальнікаў у судах Звязу аналагічна таму, як асобныя штаты ўсталявалі іх для сваіх судовых устаноў. Больш таго, Звяз не ўводзіў ніякіх уласных правіл, выкананне якіх было б патрэбна пры абранні сваіх складаў журы. Федэральныя суды карыстаюцца звычайным складам тых прысяжных засядальнікаў, спісы якіх кожны штат прыгатаваў для сваіх уласных патрэб. Такім чынам, з мэтай вывучыць тэорыю суда прысяжных у Амерыцы патрэбна вывучыць законы асобных штатаў. (Гл.: Сторы. Каментары да канстытуцыі, кн.

III, гл. XXXVIII, с. 654-659; Сарджэнт. Канстытуцыйнае права, с. 165, а таксама федэральныя законы 1789, 1800 і 1802 гадоў па дадзенаму пытанню).

З мэтай засвоіць прынцыпы, ляжачыя ў падмурку функцыянавання амерыканскага суда прысяжных, я капаўся ў законах штатаў, размешчаных далёка адзін ад аднаго. Вось асобныя агульныя ідэі, якія можна было скласьці падчас таго вывучэння.

У Амерыцы ўсе грамадзяне, маючыя права голасу, могуць быць прысяжнымі засядальнікамі. У штаце Нью-Ёрк, тым не менш, усталявана некаторае неістотнае адрозненне паміж гэтымі двума правамі, маючае ў вызначаным сэнсе значэнне, прама процілеглае нашым законам, а менавіта: можна сказаць, што ў штаце Нью-Ёрк колькасць выбарцаў значна перавышае колькасць прысяжных засядальнікаў. У цэлым цьверджанне пра тое, што ў Злучаных Штатах правам удзелу ў журы, як і правам абрання дэпутатаў, валодаюць усе грамадзяне з’яўляецца праўдзівым, аднак магчымасць ажыццявіць гэтыя правы даступна цалкам не ўсім.

Штогадова зруртаванне із гарадзкіх ці акруговых службовых асоб, у Новай Ангельшчыне маючае назву select-men, у штаце Нью-Ёрк – supervisors, у Агаё – trustees, у Луізіяне – шэрыфы царкоўных прыходаў, абірае ў кожнай акрузе вызначаную колькасць грамадзянаў, маючую права быць прысяжнымі засядальнікамі і якія, на іхны погляд, валодаюць патрэбнымі для гэтага якасьцямі. Гэтыя службовыя асобы, будучы ў сваю чаргу абіраемымі, не выклікаюць ніякіх падазрэнняў; іхныя паўнамоцтвы вельмі шырокія і вельмі незалежныя, як і ў цэлым улада якога б то ні было кіраўніцства рэспублікі, і кажуць, што яны часта карыстаюцца імі, асабліва ў Новай Ангельшчыне, для таго каб пазбаўляцца ад нявартых ці непрыдатных прысяжных засядальнікаў.

Імёны абраных такім чынам прысяжных перадаюцца ў акруговы суд і там із усяго спісу наўздагад падбіраецца склад журы прысяжных засядальнікаў для кожнага асобнага працэсу.

Да таго ж амерыканцы ўсімі магчымасьцямі паспрабавалі зрабіць прысяжных даступнымі для народа, а іхныя абавязкі як мага менш цяжкімі. Дзякуючы таму што колькасць прысяжных вельмі вялікая, кожнаму із іх прыпадае браць удзел у паседжаннях не часьцей аднаго разу на працягу трох гадоў. Паседжанні праводзяцца ў акруговых цэнтрах, пры гэтым іхныя акругі прыкладна роўныя нашым. Такім чынам, не прысяжны засядальнік павінен выпраўляцца ў далёкі шлях, каб засядаць у судзе, як гэта бывае ў Францыі, а самі судовыя разбіранні праводзяцца непадалёку ад яго сядзібы. І нарэшце, выдаткі засядальнікаў кампенсуюцца або са скарбу штата, або за кошт судзячыхся бакоў. Звычайна, яны атрымліваюць па даляру за дзень (5 франкаў 42 сантымы), не ўлічваючы кампенсацыю падарожных выдаткаў. У Амерыцы ўдзел у паседжаннях журы прысяжных усё яшчэ разглядаецца як абавязак, але абавязак не вельмі цяжкі, якому падначальваюцца без асаблівых супярэчнасьцей.

Гл.: Кароткі збор грамадзянскіх законаў Паўднёвай Караліны. Пад рэдакцыяй Брэварда, т. II, с. 338; Там жа, т. II, с. 454, 456; Там жа, т. I, с. 218.

Асноўныя законы Масачусетса, выпраўленыя і выдадзеныя адпаведна з пастановай заканадаўчага сходу, т. I, с. 331, 187.

Выпраўленае выданне законаў штата Нью-Ёрк, т. II, с. 720, 411, 717,643.

Заканадаўчыя акты штата Тэнэсі, т. I, с. 209.

Акты штата Агаё, с. 95, 210.

Кароткі збор заканадаўчых актаў штата Луізіяна, т. II, с. 55.

## *208

Уважліва разглядаючы склад і ролю журы прысяжных засядальнікаў у ангельскім грамадзянскім судзе, вы з лёгкасьцю выяўляеце, што прысяжныя там увесь час знаходзяцца пад кантролем суддзі.

Рашэнне прысяжных засядальнікаў па грамадзянскіх і крымінальных працэсах звычайна ўтрымлівае ў адным простым выказванні як канстатаванне фактычнага стану

справы, так і яе юрыдычную ацэнку. Напрыклад, нейкі Пітар заяўляе, што ён купіў сядзібу. Гэта – канстатаванне факта. Пазыўнік пярэчыць яму, заяўляючы, што прадаваўшы не меў права прадаць гэтую сядзібу. Журы абмяжоўваецца вынясеннем прысуду, згодна з якім сядзіба прызнаецца ўласнасьцю Пітара, вырашыўшы, такім чынам як фактычны, так і юрыдычны бакі пытання. Далучыўшы інстытут прысяжных засядальнікаў да працэсу судовага разбірання ў дачыненні да грамадзянскіх спраў, ангельцы цалкам не схільны прызнаваць іхныя рашэнні бязгрэшнымі. Такімі лічацца толькі іхныя рашэнні па крымінальных справах, прытым толькі тады, калі прысуд быў апраўдваючым.

Калі суддзя лічыць, што прысяжныя, выносячы рашэнне па грамадзянскай справе, няправільна выкарысталі закон, ён можа адпрэчыць дадзенае рашэнне і запатрабаваць, каб яны зноў абдумалі свой вердыкт.

Калі суддзя падтрымлівае іхны прысуд, ніяк яго не каментуючы, справа яшчэ не лічыцца канчаткова вырашанай: існуе некалькі спосабаў абскарджвання гэтага рашэння. Асноўны шлях – падача прашэння пра тое, каб суддзя ануляваў прысуд і склікаў новы склад журы прысяжных засядальнікаў. Патрэбна пазначыць, што падобныя прашэнні выконваюцца рэдка і не больш за адзін раз. І ўсё ж, я асабіста быў сведкам перагляду аднаго судовага рашэння. (Гл.: Блэкстан, кн. III, гл. XXIV; Там жа, кн. III, гл. XXV).

# КНІГА ДРУГАЯ

## Да чытача

Дэмакратычны характар грамадзка-палітычнага ўладкавання амерыканскай дзяржавы быў натуральным чынам выкліканы да жыцця вызначанымі палітычнымі і маральнымі законамі і ўяўленнямі.

Гэтае ж самае грамадзка-палітычнае ўладкаванне, акрамя таго, спарадзіла шмат пачуццяў і думак невядомых ранейшым арыстакратычным грамадствам Яўропы. Ранейшыя стасункі паміж людзьмі былі знішчаны ці пераіначаны і з’явіліся новыя. Аблічча цывілізаванага грамадства перамянілася не менш, чым сьвет вялікай палітыкі.

Першую із гэтых тэм я разгледзеў у працы пра амерыканскую дэмакратыю, надрукаваную мной пяць гадоў таму назад. Другая тэма з’яўляецца прадметам разглядання ў дадзенай кнізе. Абедзьве часткі дапаўняюць адна адну і ўяўляюць сабой адзінае цэлае.

Мне патрэбна неадкладна перасьцерагчы чытача супраць адной памылкі, праз якую я магу быць цалкам няправільна зразуметы.

Заўважыўшы, наколькі шмат розных праяваў я злучаю з роўнасьцю, чытач мог бы прыйсьці да высновы, што я разглядаю роўнасць у якасьці адзінай нагоды ўсяго таго, што адбываецца ў нашы дні. Падобны погляд быў бы для мяне занадта вузкім.

У наш час існуе шмат думак, пазіцый, інстынктыўных пачуццяў, з’яўленне якіх было выклікана акалічнасьцямі, чужымі ці нават варожымі ў дачыненні да роўнасьці. Так, узяўшы ў якасьці прыкладу Злучаныя Штаты, я мог бы з лёгкасьцю паказаць, якім чынам характар краіны, паходжанне яе насельніцтва, рэлігійныя

гледжанні заснавальнікаў, ступень іхнай асьвечанасьці, іхныя ранейшыя звычкі рабілі і да гэтага часу робяць, незалежна ад дэмакратыі, глыбокі ўплыў на іхны склад думак і пачуццяў. Іншыя нагоды, таксама, аднак, не маючыя нічога агульнага з роўнасьцю, дзейнічаюць у Яўропе, у значнай меры тлумачачы адбываючася.

Я прызнаю існаванне ўсіх гэтых фактараў і іхнае значэнне, аднак іхны разгляд не мае дачыненне да тэмы маёй кнігі. Я не адважваюся выяўляць падставы ўсіх нашых схільнасьцей і ўсіх нашых ідэй; я маю жаданне толькі паказаць, які ўплыў на іх быў зроблены роўнасьцю.

Можа здацца дзіўным – дзякуючы таму што я цьвёрда прытрымліваюся той думкі, што дэмакратычная рэвалюцыя, сведкамі якой мы ўсе з’яваўляемся, – факт неаспрэчваемы і што ваяваць супраць яе не мае сэнсу і неразумна, – што ў гэтай кнізе я, усё ж, часта звяртаюся да такіх суровых слоў у адрас дэмакратычных грамадстваў, народжаных гэтай рэвалюцыяй.

Мой адказ просты: не з’яваўляючыся ворагам дэмакратыі, я меў бы жаданне быць шчырым у стаўленні да яе.

Ад сваіх ворагаў людзі не атрымліваюць і каліва праўды, не адорваюць іх ёю і сябры; менавіта таму я і паведамляю праўду.

Я лічу, што шмат хто гатовы ўзяць на сябе абавязкі прадвеснікаў тых новых пераваг, якія абяцае людзям роўнасць, тады як толькі нешматлікія адважваюцца празорліва папярэдзіць іх пра тыя беды, якімі яна ім пагражае. У сувязі з гэтым асноўную ўвагу я надаў менавіта гэтай небяспецы, мяркуючы, што здолеў яе выразна разглядзець і не лічачы магчымым маладушна яе замоўчваць.

Я спадзяюся, што ў гэтай, другой частцы працы чытач зноў знойдзе тую непрадузятасць, якая была адзначана ў якасьці вартасьці першай кнігі. Жывучы ў атмасферы супярэчлівых, падзяляючых нас меркаванняў, я паспрабаваў ачысьціць сваё сэрца ад тых відавочных сімпатый ці неўсведамляемых антыпатый, якія выклікаюцца кожным із іх. Калі чытачы знойдуць у маёй кнізе хаця б адно выказванне разлічанае на тое каб пацешыць нейкую із буйных партый, скалынаўшых нашу краіну ў мінулым, ці нейкую із маналікіх мяцежных груповак, якія ў нашы дні парушаюць спакой у краіне, тады хай гэтыя чытачы выкрыюць мяне ў гэтым ва ўвесь голас.

Тэма, якую я паспрабаваў ахапіць, вельмі шырокая, таму што яна складаецца із вялікай часткі тых настрояў і ідэй, якія абумовілі новы стан рэчаў і новую сітуацыю ў сьвеце. Падобны прадмет відавочна перавышае мае магчымасьці і закрануўшы яго, я цалкам не задаволіўся дасягнутым.

Аднак, хаця я і не дасягнуў сваёй мэты, чытачы аддадуць мне належачае прынамсі за тое, што я задумаў сваю працу і ажыццяўляў яе адпаведна з духам, які набліжае мяне да поспеху.

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Уплыў дэмакратыі на інтэлектуальнае жыццё ў Злучаных Штатах

## Глава I.

Пра філасофскае мышленне амерыканцаў.

Я лічу, што ва ўсім цывілізаваным сьвеце няма краіны, дзе б філасофіі надавалі менш увагі, чым у Злучаных Штатах.

Амерыканцы не маюць сваёй уласнай філасофскай школы і вельмі мала цікавяцца тымі школамі, прадстаўнікі якіх супернічаюць адна з адной у Яўропе; яны наўрад ці ведаюць іхныя назвы і імёны.

Тым часам цалкам відавочна, што амаль усе жыхары Злучаных Штатаў маюць падобныя прынцыпы мышлення і кіруюць сваёй разумовай дзейнасьцю грунтуючыся на адных і тых жа правілах; то бок, не даўшы сабе працы ўсталяваць гэтыя правілы, яны валодаюць вызначаным, усімі прызнаным філасофскім метадам.

Адсутнасць схільнасьці да передвызначанага ўпарадкавання, уменне пазбягаць ярма звычак і залежнасьці ад прапісных праўд маючых дачыненне да праблем сямейнага жыцця, ад станавых забабонаў, а да вызначанай мяжы і ад забабонаў нацыянальных; стаўленне да традыцый толькі як да паведамленняў, а да рэчаісных фактаў няйнакш, як да карысных урокаў, дапамагаючых рабіць нешта іншым чынам і лепш; індывідуальная здольнасць шукаць у саміх сабе адзіны сэнс усяго існуючага; імкненне дамагацца вынікаў не скоўваючы сябе пераборлівасьцю ў сродках іхнага дасягнення і ўменне бачыць сутнасць з’яваў не зважаючы на формы, – такімі з’яўляюцца асноўныя рысы, характарызуючыя тое, што я называю філасофскім метадам амерыканцаў.

Калі ісьці далей і із гэтых розных рыс выбраць адну асноўную, пры гэтым такую, якая магла б абагульніць амаль усе астатнія асаблівасьці, я б сказаў, што разумовая дзейнасць кожнага амерыканца ў асноўным вызначаецца індывідуальнымі высілкамі яго розуму.

Такім чынам, Амерыка – гэта краіна, дзе менш усяго вывучаюць наказы Дэкарта, але найлепш імі кіруюцца. Гэта не павінна выклікаць здзіўлення.

Амерыканцы ніколі не чытаюць прац Дэкарта, таму што іхнае грамадзкае ўладкаванне не схіляе да заняткаў спекуляцыйнымі навукамі, але яны кіруюцца гэтымі правіламі таму, што той жа тып грамадзкага ўладкавання натуральным чынам падрыхтоўвае галовы людзей да іх успрымання.

Ва ўмовах пастаяннага руху, адбываючагася ў нетрах дэмакратычнага грамадства, повязі, злучаючы пакаленні адзін з адным, паслабляюцца ці рвуцца; кожны з лёгкасьцю забываецца ідэі, хваляваўшыя яго продкаў, ды і наогул не вельмі імі заклапочаны.

Людзі, жывучыя ў падобным грамадстве, не могуць чэрпаць свае перакананні із агульнай крыніцы думак таго стана, да якога яны належаць, таму што, можна сказаць, тут няма больш станаў, а тыя, якія яшчэ існуюць, з’яўляюцца такімі рухомымі адпаведна са сваім складам, што не ў стане як такія мець рэчаіснай улады над асобнымі сваімі прадстаўнікамі.

Што да ўплывы, які могуць зрабіць разумовыя здольнасьці аднаго чалавека на розум іншага, то ён, звычайна, вельмі абмежаваны ў краіне, дзе грамадзяне, стаўшыя больш-менш роўнымі, занадта цесна стасуюцца адзін з адным і, не назіраючы ў кім-небудзь із атачаючых неаспрэчных прыкмет велічы і перавагі, увесь час вяртаюцца да свайго ўласнага разуму як да найбольш відавочнай і блізкай крыніцы праўды. І справа не ў тым, што яны не давяраюць нейкаму пэўнаму чалавеку, а ў тым, што яны пазбаўлены схільнасьці верыць каму б там ні было на слова.

Кожны, такім чынам, наглуха замыкаецца ў самым сабе і з гэтай пазіцыі спрабуе судзіць пра сьвет.

Звычай шукаць абгрунтаванні сваіх меркаванняў толькі ўсярэдзіне сябе самога мае наступствам утварэнне ў амерыканцаў і іншых разумовых навыкаў.

Бачачы, што ім без якой бы то ні было дапамогі атрымліваецца вырашыць усе нескладаныя праблемы практычнага жыцця, яны з лёгкасьцю прыходзяць да меркавання, што ўсё на сьвеце можна патлумачыць і вывучыць.

З гэтай нагоды яны ахвотна адмаўляюць усё тое, чаго не могуць зразумець: адсюль іхны недавер да незвычайнага і амаль непераадольваемая агіда да звышнатуральнага.

Дзякуючы таму што яны прызвычаіліся давяраць толькі сваім уласным вачам, яны схільны вельмі выразна бачыць займаючы іх прадмет; пагэтаму яны ачышчаюць яго, наколькі гэта магчыма, ад яго абалонкі, адкідаюць усё тое, што перашкаджае да яго наблізіцца, і прыбіраюць усё тое, што хавае гэты прадмет ад позірку, каб разгледзець яго як мага бліжэй пры поўным святле дня. Падобны настрой думак хутка прыводзіць іх да грэбавання формамі, якія яны пачынаюць лічыць не маючымі карысьці і дакучлівымі заслонамі, хаваючымі ад іх праўду.

Такім чынам, амерыканцы, здабываюць свой філасофскі метад у саміх сабе, не маюць патрэбы ў тым, каб вынаходзіць яго ці пазычаць із кніг. У значнай меры тое ж самае я мог бы сказаць пра працэсы, праходзіўшыя ў Яўропе.

Гэты ж метад фармаваўся і знаходзіў папулярнасць у Яўропе паступова – па меры таго як сацыяльныя ўмовы існавання рабіліся ўсё больш роўнымі і адрозненні паміж людзьмі ўсё менш глыбокімі.

Разгледзім коратка храналогію падзей.

У XVI стагоддзі рэфарматары падначалілі меркаванню індывідуальнага розуму некаторыя із догмаў старой веры, але пры гэтым усе астатнія догмы яны працягвалі ахоўваць ад вольнага абмеркавання. У XVII стагоддзі Бэкан у прыродазнаўчых навуках і Дэкарт ва ўласна філасофіі скасавалі агульнапрынятыя формулы, знішчылі панаванне традыцый і разбурылі ўладу аўтарытэтаў.

Філосафы XVIII стагоддзя, зрабіўшы, нарэшце, гэты прынцып усеагульным, палічылі патрэбным, каб кожны чалавек самастойна аналізаваў змест усіх сваіх перакананняў.

Каму не зразумела, што Лютар, Дэкарт і Вальтэр выкарысталі адзін і той жа метад і што адрозненні паміж імі зводзіліся толькі да больш-менш шырокага тлумачэння магчымасьцей яго ўжывання?

Якім чынам атрымалася так, што рэфарматары абмежаваліся вузкім колам рэлігійных ідэй? Чаму Дэкарт, не жадаючы ўжываць свой метад пашыральна, хаця ён быў цалкам прыдатны для гэтага, заявіў, што самім для сябе людзям належыць разглядаць пытанні філасофскага, але не палітычнага зместу? Як атрымалася, што ў XVIII стагоддзі на падставе таго ж метаду былі адразу зроблены тыя агульныя высновы, якіх Дэкарт і яго папярэднікі або не бачылі, або адмаўляліся заўважаць? І дзякуючы чаму, нарэшце, метад, пра які мы гаворым, пад час гэтай эпохі раптам выходзіць із акадэмічных сьцен, каб пракрасьціся ў грамадзкую свядомасць і стаць агульнай нормай інтэлектуальнага жыцця? І чаму, зрабіўшыся папулярным у Францыі, ён быў адкрыта запазычаны ці ж негалосна ўспрыняты ўсімі народамі Яўропы?

Разглядаемы філасофскі метад мог нарадзіцца ў XVI стагоддзі, ён мог быць удакладнены і абагульнены ў XVII стагоддзі, але ён не мог стаць агульнапрынятым

ні пад час аднаго із гэтых двух стагоддзяў. Палітычныя законы, стан грамадства, разумовыя навыкі, спараджаемыя яго першаасновамі, супрацьстаялі гэтаму метаду.

Ён быў вынайдзены пад час эпохі, калі пачалося ўраўнаванне станаў і ўзаема прыпадабненне людзей. Атрымаць усеагульнае прызнанне ён здолеў толькі пад час тых стагоддзяў, калі ўмовы існавання людзей сталі больш-менш роўнымі, а самі людзі вельмі падобнымі адзін на аднаго.

Філасофія XVIII стагоддзя – гэта не проста французская, а дэмакратычная філасофія. Менавіта дадзеная акалічнасць тлумачыць лёгкасць, з якой яна была ўспрынята ўсёй Яўропай, аблічча якой з нагоды гэтага так непазнавальна перамянілася. Французы ўзрушылі сьвет не таму толькі, што адмовіліся ад сваіх старых вераванняў і перакананняў, ад старажытных падмуркаў; гэта адбылося таму, што яны першымі пачалі абагульняць, прыцягваючы да яго ўсеагульную ўвагу, філасофскі метад, з дапамогай якога можна было з лёгкасьцю нападаць на ўсё, што яшчэ захавалася ў жыцці ад мінуўшых эпох, і расчыняць дарогу ўсяму новаму.

Калі мяне запытаюць зараз, чаму ў нашы дні французы больш строга і настойліва прытрымліваюцца гэтага метада, чым амерыканцы, якія даўжэй за нас жывуць ва ўмовах такой жа поўнай вольнасьці, я адкажу, што гэта часткова было абумоўлена двума акалічнасьцямі, зразумець якія патрэбна перш усяго.

Менавіта рэлігія дала жыццё ангельскім асадам на амерыканскай зямлі: пра гэта патрэбна памятаць заўсёды. У Злучаных Штатах рэлігія напаўняе ўсе нацыянальныя звычаі, стаўшы неадлучнай часткай патрыятычных пачуццяў і менавіта гэта надае ёй незвычайную магутнасць.

Дадзеная акалічнасць узмацняецца і другім, не менш значным фактарам: у Амерыцы рэлігія, калі можна так выказацца, сама сабе вызначыла свае ўласныя межы; рэлігійнае жыццё там было такім незалежным ад палітычнага ўладкавання, што выявілася ў стане без цяжкасьцей перамяніць старыя законы, не расхістаўшы пры гэтым старажытных вераванняў.

Такім чынам хрысьціянства захавала значную ўладу над духоўным жыццём амерыканцаў і – гэта я хачу асабліва падкрэсліць – яно пануе там не ў якасьці адной із філасофскіх сістэм прынятай пасьля разважанняў, але ў якасьці рэлігіі ў якую вераць не разважаючы.

У Злучаных Штатах існуе незлічоная шматлікасць пратэстанцкіх сектаў, сама ж прыналежнасць краіны да хрысьціянскага сьвету – усталяваны і неаспрэчны факт, які ніхто не спрабуе ні аспрэчваць, ні абараняць.

Некрытычна прыняўшы асноўныя догмы хрысьціянскага веравучэння, амерыканцы былі вымушаны аналагічным чынам прызнаць вялікую шматлікасць маральных праўд, вынікаючых із гэтай вучэння ці непасрэдна з ім злучаных. Гэта вельмі абмяжоўвае сферу ўжывання індывідуальнага аналізу, пазбаўляючы чалавека права мець уласныя меркаванні па цэламу шэрагу надзвычай важных для яго пытанняў.

Другая памянёная мной акалічнасць складаецца ў наступным: грамадзкае ўладкаванне Амерыкі і яе канстытуцыя маюць дэмакратычны характар, але самі амерыканцы дэмакратычнай рэвалюцыі не ведалі. Яны прыбылі на гэту зямлю амаль такімі ж, якімі мы бачым іх зараз. Гэта вельмі істотны момант.

Не бывае такіх рэвалюцый, якія не парушылі б старых перакананняў і вераванняў, не паслабілі б уладу і не зацямнялі б агульныя ідэі. Такім чынам, кожная рэвалюцыя ў большай ці меншай ступені вымушае чалавека разлічваць

толькі на свае ўласныя магчымасьці і адчыняе перад уяўным позіркам кожнага амаль бяздонную пустэчу.

Калі ўмовы, патрэбныя для роўнасьці, ствараюцца падчас працяглага змагання паміж рознымі станамі, складаючымі старое грамадства, зайздрасць, нянавісць і пагарда да блізкага, пыха і празмерная саманадзейнасць урываюцца, так бы мовіць, у чалавечае сэрца і пануюць у ім некаторы час. Па-за залежнасьцю ад роўнасьці гэта ў значнай меры спрыяе раз’яднанню людзей, таму што яны перастаюць давяраць меркаванням адзін аднаго і шукаюць святло праўды толькі ў саміх сабе.

Пад час такіх перыядаў кожны спрабуе задавальняцца ўласнымі сродкамі і не шукаць грамадства іншых, адчувае гонар таму, што ўсе яго думкі і перакананні адмысловыя і што яны належаць толькі яму аднаму. Ніякія ідэі, акрамя меркаванняў голага разліку, не злучаюць тады людзей і можа здацца, што чалавечыя меркаванні, не пагадняючыяся адно з адным, уяўляюць сабой толькі свайго роду інтэлектуальны пыл, разносімы па ўсіх кутах і не здольны сабрацца ў адным месцы і набыць нейкую форму.

Такім чынам, незалежнасць духу, уласьцівая роўнасьці, ніколі не бывае такой бязмежнай і не ўяўляецца такой празмернай, як пад час таго перыяду, калі роўнасць толькі пачынае ўсталёўвацца з вялікімі пакутамі закладваючы свой уласны падмурак. Патрэбна, такім чынам, праяўляць асьцярожнасць і не змешваць тую інтэлектуальную вольнасць, якую здольна даць роўнасць, з анархіяй, спараджаемай рэвалюцыямі. Кожную із двух з’яваў патрэбна разгледаць асобна, каб мы, гледзячы ў будучыню, не адчувалі неапраўданых надзеяў і не выпрабоўвалі неабгрунтаваных жахаў.

Я перакананы, што людзі, жывучя ў новых грамадзкіх умовах, часта будуць карыстацца правам уласнага меркавання, але я цалкам не схільны верыць у тое, што яны часта будуць злоўжываць ім.

Маё перакананне грунтуецца на ўсеагульнай заканамернасьці, уласьцівай кожнай дэмакратычнай краіне, дзякуючы якой вольнасць індывідуальнай думкі, у канчатковым рахунку, павінна абмяжоўвацца вызначанымі – часам вельмі вузкімі – рамкамі.

Але пра гэта – у наступнай частцы.

# Глава II

## Пра асноўную крыніцу поглядаў і перакананняў, уласьцівых дэмакратычным народам

Колькасць дагматычных уяўленняў, уласьцівых людзям пад час розных гістарычных перыядаў, можа то павялічвацца, то памяншацца. Яны спараджаюцца рознымі нагодамі і могуць перамяняцца як па форме, так і па зместу; аднак людзі ніколі не змогуць быць цалкам вольнымі ад дагматычных уяўленняў, то бок ад думак, прынятых імі на веру, без папярэдняга высвятлення. Калі б кожны чалавек вырашыў самастойна скласьці сабе ўсе меркаванні і ў адзіноцы ісьці за праўдай па іх саміх пракладзенай дарозе, то ўяўляецца цалкам неверагодным, каб наколькі-небудзь значная колькасць людзей калі-небудзь здолела б аб’яднацца на падмурку якіх бы там ні было агульных поглядаў.

А наогул цалкам жа зразумела, што ніякае грамадства не здольна квітнець без падобных агульных поглядаў ці хаця б проста выжыць, таму што без ідэйнай агульнасьці немагчыма прадукцыйная супраца. Але калі самі людзі, не ведаючы калектыўных намаганняў, яшчэ могуць існаваць, то грамадзкі арганізм не ў стане. Такім чынам, для стварэння грамадства і тым больш для яго росквіту патрэбна, каб розумы ўсіх грамадзянаў былі ўвесь час і трывала аб'яднаны некалькімі асноўнымі ідэямі; але гэта немагчыма, калі кожны з іх не стане час ад часу запазычваць свае меркаванні із адной і той жа крыніцы і не пагадзіцца прызнаць сваімі вызначаную колькасць ужо прыгатаваных поглядаў.

Разважаючы зараз пра чалавека ўзятага ў асобнасьці, я лічу, што дагматычныя меркаванні яму неабходны не толькі для таго, каб ён мог дзейнічаць заадно з сабе падобнымі, але і для яго ўласнага жыцця.

Калі б чалавек быў вымушаны даводзіць самому сабе ўсе тыя праўды, якімі ён карыстаецца штодня, ён ніколі не прыйшоў бы да канчатковага рашэння; ён бы знясілеў, даводзячы папярэднія становішчы і не пасоўваючыся наперад. Дзякуючы таму што жыццё занадта кароткае для падобнага прадпрыемства, а здольнасьці нашага розуму занадта абмежаваныя, чалавеку не застаецца нічога іншага, як прызнаць праўдзівасць масы фактаў і думак, на самастойную праверку якіх у яго няма ні вольнага часу, ні магчымасьцей, – пры гэтым фактаў, адкрытых разумнымі людзьмі ці прынятых натоўпам. На гэтым падмурку ён будуе будынак са сваіх уласных думак. І робіць ён падобным чынам цалкам не згодна са сваёй воляй; рабіць так яго прымушае неадменны закон чалавечага існавання

Самыя вялікія філосафы на сьвеце вымушаны прымаць на веру мільён чужых цьверджанняў і прызнаваць значна больш праўд, чым яны здолелі б асабіста ўсталяваць.

Гэта не толькі патрэбна, але і пажадана. Чалавек, узнамерыўшыся асабіста ва ўсім разабрацца, не здолее надаць шмат увагі і часу кожнай із праблем; падобны занятак будзе мець наступствам у яго пастаянную ўзрушанасць, якая будзе перашкаджаць яму глыбока спасьцігаць кожную із праўд і прыходзіць да цвёрдых перакананняў з нагоды чаго б там ні было. Яго інтэлект адначасова будзе незалежным і слабым. Такім чынам, із вялікай колькасьці чалавечых меркаванняў і думак яму неабходна зрабіць уласны выбар і прыняць іх большай часткай без роздумаў, каб мець магчымасць лепш вывучыць тую нязначную колькасць пытанняў, якія былі пакінуты ім для вывучэння.

Праўдзіва, што кожны чалавек, бяручы на веру якое б то ні было меркаванне із чужых слоў, аддае свой розум у рабства, але гэтае рабства станоўчае, таму што яно вымушае шанаваць вольнасць і вучыць карыстацца ёю.

Таму аўтарытэты заўсёды, што б ні здарылася, павінны выконваць сваю ролю ў інтэлектуальным і маральным жыцці. Гэтая роля можа быць рознай, але яны неадменна павінны яе выконваць. Незалежнасць індывіда можа быць большай ці меншай – але яна не можа быць бязмежнай. Такім чынам, пытанне не ў тым, ці захоўваюцца пад час дэмакратыі інтэлектуальныя аўтарытэты, а ў тым, каб ведаць, дзе яны ўтрымліваюць свае пазіцыі і якой з'яўляецца іхнага агульная значнасць.

У папярэдняй главе я паказаў, у якой меры роўнасць умоваў выклікае ў людзях свайго роду інстынктыўны недавер да звышнатуральнага і фарміруе вельмі высокае, а часам і цалкам перабольшанае ўяўленне пра магчымасьці чалавечага розуму.

Такім чынам, людзі, жывучыя ў часы роўнасьці, з цяжкасьцю прымушаюць сябе надзяляць інтэлектуальным аўтарытэтам, якому яны згодны падначальвацца, нешта не ўласьцівае чалавецтву і перавышаючае чалавечыя здольнасьці. Крыніцы праўды яны, звычайна, шукаюць у саміх сабе ці ў сабе падобных. Гэтае цьверджанне цалкам даводзіцца тым, што ў такія часы не можа быць створана ніякай новай рэлігіі і што якія б то ні было спробы ў гэтым накірунку будуць не толькі бязбожнымі, але і недарэчна неразважлівымі. Загадзя можна прадказаць, што дэмакратычныя народы не паверац з лёгкасцю ў боскасць місіі новых пракокаў, што яны ахвотна будуць абсмейваць іх і пажадаюць знайсьці галоўны крытэр праўдзівасьці ўласных перакананняў і вераванняў не па-за, а ў межах самога чалавечага разумення.

Калі ўмовы існавання розныя і людзі няроўныя і непадобныя адзін на аднаго, сярод іх неадменна сустракаюцца асобы, вызначаючыяся цудоўнай адукаванасьцю, глыбокай вучонасьцю і вялізным інтэлектуальным уплывам, тым часам як масы адзначаны надзвычайным невуцтвам і абмежаванасьцю. У выніку людзі, жывучыя ў арыстакратычныя часы, натуральным чынам выяўляюць схільнасць кіравацца ў сваіх меркаваннях указаннямі адукаваных людзей ці ж усяго адукаванага стана, адначасова не выяўляючы схільнасьці лічыць беспамылковымі думкі масы.

Пад час стагоддзяў роўнасьці назіраецца якраз адваротнае.

Па меры таго як грамадзяне робяцца больш роўнымі і больш падобнымі адзін на аднаго, схільнасць кожнага з іх слепа давярацца пэўнаму чалавеку ці вызначанаму стану памяншаецца. Схільнасць давяраць масе павялічваецца і грамадзкая думка ўсё больш і больш пачынае кіраваць сьветам.

У дэмакратычных народаў грамадзкая думка, вядома, не з’яўляецца адзіным крытэрам праверкі індывідуальнай здольнасьці меркавання, але яе ўплыў робіцца непамерна больш магутным, чым дзе б там ні было яшчэ. У часы роўнасьці людзі не схільны давяраць адзін аднаму з нагоды свайго падабенства, але тое ж самае падабенства абумоўлівае іхную гатоўнасць выяўляць амаль бязмежны давер да думкі грамадзкасьці, таму што ім не здаецца неверагоднай думка пра тое, што, дзякуючы таму што ўсе валодаюць роўнымі пазнавальнымі здольнасьцямі, праўда заўсёды павінна быць на боку большасьці.

Калі чалавек, жывучы ў дэмакратычнай краіне, параўноўвае сябе з атачаючымі яго людзьмі, ён з гонарам адчувае сваю роўнасць з кожным із іх; але калі ён пачынае разважаць пра ўсю сукупнасць сабе падобных і супастаўляць сябе з іхнай велізнай масай, ён адразу ж адчувае сябе прыгнечаным, адчувае ўсю сваю нязначнасць і слабасць.

Тая ж самая роўнасць, якая вызваліла яго ад залежнасьці перад кожным асобна узятым грамадзянінам, пакідае яго самотным і безабаронным перад тварам рэчаіснай большасьці.

Грамадзкая думка ў дэмакратычных народаў, такім чынам, валодае вельмі дзіўнай магутнасьцю, пра прыроду якой народы, жывучыя ва ўмовах арыстакратычнага кіравання, не могуць скласьці сабе ні найменшага разумення. Грамадзкая думка не надае сваіх поглядаў, яна накладаецца на свядомасць людзей, пракрадаючыся ў глыбіні іхнай душы з дапамогай свайго роду магутнага ціску, здзяйсняемага калектыўным розумам на інтэлект кожнай асобы.

У Злучаных Штатах большасць прыняла на сябе абавязак забяспечваць індывід масай ужо гатовых думак, вызваляючы яго ад патрэбы ствараць свае ўласныя. Такім чынам, існуе немалая колькасць філасофскіх, этычных і

палітычных тэорый, якія кожны чалавек падзяляе без дасьледавання, верачы ў безпамылковасць калектыўнага розуму і, калі з асаблівай пільнасьцю разгледзець гэты прадмет, то высветліцца, што сама рэлігія пануе тут не столькі як навуку пра боскае адкрыццё, колькі як праява грамадзкай думкі.

Я ведаю, што амерыканскія палітычныя законы аддаюць большасьці суверэнныя правы на кіраванне грамадствам і гэта ў значнай ступені ўзмацняе натуральны ўплыў, які большасць і без таго робіць тут на розумы людзей, таму што няма нічога больш звыклага, уласьцівага чалавеку, чым прызнанне інтэлектуальнай перавагі над сабой свайго прыгнятальніка.

Гэтая палітычная ўсемагутнасць большасьці ў Злучаных Штатах сапраўды павялічвае тую ўладу, якую грамадзкая думка і без яе атрымала б над розумамі ўсіх суграмадзянаў. Палітычная магутнасць не з’яўляецца падмуркам гэтай улады. Яе крыніцы варта шукаць у самой роўнасьці, а не ў тых больш-менш папулярных інстытутах, якія людзі эгалітарнага грамадства здолелі стварыць для сябе. Можна выказаць здагадку, што інтэлектуальная ўлада колькаснай большасьці будзе не такой абсалютнай у дэмакратычнага народа падначаленага каралю, чым у нетрах чыста дэмакратычных грамадстваў; аднак пад час стагоддзя роўнасьці яна заўсёды будзе амаль неабмежаванай, і незалежна ад уласна палітычных законаў, кіруючых людзьмі, цалкам можна сцвярджаць, што давер да грамадзкай думкі стане свайго роду рэлігіяй, чым прарокам будзе колькасная большасць.

Духоўны аўтарытэт, такім чынам, набудзе іншыя формы, але яго ўлада не паменшыцца; я не толькі не веру ў тое, што ён павінен будзе знікнуць, але і прадказваю, што ён без цяжкасьцей здольны стаць занадта магутным і што можа здарыцца так, што ў канчатковым рахунку, ён абмяжуе сферу дзейнасьці індывідуальнага мышлення рамкамі, занадта цеснымі для годнасьці і шчасьця чалавецтва. У роўнасьці я выразна адрозніваю дзьве тэндэнцыі: адна із іх вабіць розум кожнага чалавека да новага мышлення, а іншая спрыяе таму, каб ён самаахвотна цалкам адмовіўся думаць. Я бачу, якім чынам, падначальваючыся вызначаным законам, дэмакратыя здольна задушыць тую самую духоўную вольнасць, росквіту якой так спрыяе дэмакратычнае грамадзкае ўладкаванне, задушыць так, што чалавечы дух, вызваліўшыся ад усіх путаў, некалі накладаемых на яго цэлымі станамі ці прыватнымі асобамі, можа прыкаваць сябе кароткім ланцугом да волевыяўлення элементарнай колькаснай большасьці.

Таму, калі, знішчыўшы розныя магутнасьці, якія звыш якой бы то ні было меры абцяжарвалі ці стрымлівалі ўзрост індывідуальнай самасвядомасьці, дэмакратычныя народы пачнуць ушаноўваць абсалютную ўладу большасьці, зло толькі пераменіць сваё аблічча. У гэтым выпадку людзі не знойдуць спосабу дамагчыся вольнага жыцця; яны толькі з вялікімі намаганнямі здолеюць распазнаць новую логіку рабства. Дадзеная акалічнасць, і я не стамлюся гэта паўтараць, вымушае глыбока задумацца ўсіх тых, хто перакананы ў святасьці вольнасьці чалавечага духу і хто ненавідзіць не толькі дэспатаў, але і сам дэспатызм. Што асабіста да мяне, то, адчуваючы на сваёй галаве цяжкую правіцу ўлады, я мала цікаўлюся пэўнай крыніцай майго прыгнёту і цалкам не больш размешчаны падстаўляць сваю шыю пад хамут толькі таму, што мне яго працягваюць мільёны рук.

# Глава III

# Чаму амерыканцы выяўляюць большую здольнасць і схільнасць да агульных ідэй, чым іхныя ангельскія продкі

Бог не думае пра чалавечы род як пра нейкую сукупнасць. Адзіным позіркам ён ахапляе асобна кожную асобу – часьцінку чалавецтва, – адначасова ўспрымаючы як агульныя рысы, роднячыя людзей паміж сабой так і адрозненні, аддзяляючыя іх адзін ад аднаго.

Бог, такім чынам, не мае патрэбы ў агульных ідэях; што азначае ён ніколі не адчувае патрэбы надаваць адзіную форму вялізнай колькасьці аналагічных аб'ектаў для таго, каб пра іх было больш зручна разважаць.

З чалавекам справа ідзе інакш. Калі ён паспрабуе разгледзець і вызначыць сваё дачыненне да кожнага пэўнага выпадку, з якім яму даводзіцца сутыкацца, то хутка разгубіцца сярод бясконцай шматлікасьці прыватнасьцей і нічога ўжо не будзе разумець; апынуўшыся ў такім бядотным становішчы, звяртаецца да недасканалага, але патрэбнага метаду, выяўляючага гэты недахоп і дапамагаючага яго пераадолець.

Павярхоўна агледзеўшы вызначаную колькасць прадметаў і заўважыўшы, што яны выяўляюцца падобнымі адзін на адзін, яго розум дае ім усім адну і тую ж назву, адкладвае іх убок і ідзе далей сваім шляхам.

Агульныя ідэі сведчаць не пра магутнасць чалавечага розуму, але, хутчэй, пра яго недасканаласць, таму што ў прыродзе няма ні абсалютна падобных адзін аднаму ідэнтычных фактаў, ні законаў, дастасоўваемых без разбору разам да шмат якіх з'яваў.

Агульныя ідэі выдатныя тым, што яны дазваляюць чалавечаму розуму выносіць свае меркаванні адразу пра цэлы шэраг з'яваў, але, з другога боку, выказваемыя імі разуменні ніколі не бываюць поўнымі і яны заўсёды вымушаюць нас губляць ад дакладнасьці роўна на столькі, наколькі мы выйграваем у часе.

Па меры таго як грамадства робіцца старэйшым, яно даведваецца пра новыя факты, авалодваючы імі штодня такім чынам, каб яны не супярэчылі ўжо засвоеным пэўным праўдам.

Па меры таго як чалавек вывучае ўсё больш праўд пэўнага роду, ён натуральным чынам знаходзіць здольнасць ахапіць усё большую колькасць агульных ідэй. Немагчыма разглядаць шмат пэўных фактаў па-асобку, не ўсталёўваючы на прыканцы нейкія сувязі паміж імі, злучаючыя іх разам. Некалькі індывідуальных асоб даюць уяўленне пра від; некалькі відаў з непазбежнасьцю прыводзяць да разумення роду. Звычка і схільнасць да агульных ідэй, такім чынам, заўсёды будуць узмацняцца па меры таго, як культура народа будзе рабіцца ўсё больш старажытнай, а яго веды – усё больш шырокімі.

Існуюць таксама і іншыя нагоды, падахвочваючыя людзей абагульняць свае ідэі ці ж, наадварот, адхіляючыя іх ад агульных ідэй.

Амерыканцы значна часьцей карыстаюцца агульнымі ідэямі і яны падабаюцца ім куды больш, чым ангельцам; на першы погляд гэта здаецца вельмі дзіўным, калі браць да ўвагі, што гэтыя два народы маюць адзінае паходжанне, што яны стагоддзямі жылі кіруючыся аднымі і тымі ж законамі і што паміж імі ўсё яшчэ адбываецца безперапынны памен думкамі і маральнымі ўяўленнямі. Кантраст стане яшчэ больш ашаламляючым, калі мы звернем позіркі на нашу Яўропу і супаставім адзін з адным два самыя асьвечаныя із яе народаў.

Ангельскі склад розуму з’яўляецца такім, што ён нібы б са шкадаваннем адрываецца ад назірання пэўных фактаў, каб ўзвысіцца да іхных вытокаў і нагод; калі ангелец наогул пачынае абагульняць, то ён робіць гэта насуперак самаму сабе.

У нас, наадварот, схільнасць да агульных ідэй, відаць, ператварылася ў запал такі нястрымліваемы, што ён патрабуе задавальнення пры першай жа магчымасьці. Штораніцы, прачынаючыся, я даведваюся, што толькі што вынайдзены нейкі ўсеагульны вечны закон, пра які я ніколі раней і не чуў. Ніводзін, нават самы сярэдні выдумшчык не будзе цалкам задаволены сваім першым літаратурным досьведам, калі паведамляемыя ў ім праўды маюць дачыненне толькі да аднаго-адзінюткага вялікага каралеўства, адчувае незадаволенасць сабой грунтуючыся на той падставе, што прадмет яго апісання не пашыраецца на усё чалавецтва.

Такое істотнае адрозненне паміж двума вельмі асьвечанымі народамі мне ўяўляецца дзіўным. Аднак, звярнуўшы, нарэшце, свой уяўны позірк на Англію і згадаўшы ўсё тое, што адбывалася ў ёй на працягу апошняй паловы стагоддзя, я з поўным перакананнем магу канстатаваць павелічэнне ў ёй цікавасьці да агульных ідэй па меры таго, як паслабляўся ўплыў яе старой канстытуцыі.

Такім чынам, адным толькі станам большай ці меншай асьвечанасьці народа немагчыма патлумачыць схільнасць чалавечага розуму да агульных ідэй ці ж яго агіду да іх.

Калі ўмовы існавання людзей вельмі розныя і няроўнасць носіць устойлівы характар, індывіды паступова робяцца такімі непадобнымі адзін на аднаго, што ствараецца ўражанне, быццам бы кожны стан уяўляе сабой асобную разнавіднасць чалавецтва; мы можам іх вывучаць толькі паасобку і, губляючы з поля зроку агульную нітку аб’ядноўваючую іх у вялізную сям’ю, мы разглядаем толькі некаторыя тыпы людзей, але не чалавека ў цэлым.

Таму ўсе людзі, жывучыя ў арыстакратычных грамадствах, ніколі не асэнсоўваюць сваё ўласнае існаванне з дапамогай занадта абстракных разуменняў і гэтага цалкам дастаткова для таго, каб у іх выпрацаваўся звыклы недавер і інстынктыўная агіда да агульных ідэй.

Чалавек, жывучы ў дэмакратычнай краіне, наадварот, бачыць вакол толькі больш-менш падобных на сябе людзей; ён не можа думаць пра нейкую адну частку чалавечага роду, не пашыраючы гэтага разумення да такіх памераў, што яно пачынае ўключаць у сябе чалавецтва ў цэлым. Усе праўды, дастасуемыя да яго самога, здаюцца яму ў роўнай меры, ці ж аналагічным чынам, дастасоўваючыміся да кожнага із яго суграмадзянаў і наогул да кожнага чалавека. Набыўшы звычку карыстацца агульнымі ідэямі ў тых абласьцях, якія яго больш усяго цікавяць, ён пераносіць гэтае ўменне на ўсе астатнія сферы, і такім чынам чалавечы дух надзяляецца гарачым, а часам і сляпым запалам да адкрыцця ўсіх агульных законаў і правіл, да адначасовага аперавання пад адной назвай велізнай масай аб’ектаў і з’яваў, да імкнення тлумачыць адзінай нагодай цэлую сукупнасць фактаў.

Нішто не даводзіць праўдзівасьці дадзенага цьверджання лепш, чым вядомае стаўленне антычнага сьвету да рабоў.

Самыя глыбакадумныя, самыя ўніверсальныя геніі Рыма і Грэцыі не здолелі дадумацца да такой усеагульнай і адначасова такой простай думкі, якой з’яўляецца ідэя падабенства прадстаўнікоў роду чалавечага і, такім чынам, ідэя роўнага адпаведна з нараджэннем права кожнага чалавека на вольнасць; наадварот, шмат намаганняў і прыдумак яны накіравалі на тое, каб давесьці, што рабства адпавядае самой прыродзе рэчаў і будзе існаваць заўсёды. Больш таго, тыя са старажытных,

каму давялося зведаць рабства перш чым стаць вольнымі і чые цудоўныя творы мы часткова здолелі захаваць, самі выстаўлялі рабства ў аналагічным асьвятленні.

Усе вялікія антычныя пісьменнікі былі прадстаўнікамі арыстакратыі рабаўладальнікаў ці, сама меней, разглядалі ўсталяванае панаванне гэтай арыстакратый як рэч саму сабой разумеючайся; іхны розум, вольна распасьціраўшыся ў шмат якія сферы, менавіта ў дадзеным пытанні выявіў усю сваю крайнюю абмежаванасць і для таго каб людзі зразумелі, што ўсе яны натуральным чынам з’яўляюцца падобнымі адзін на аднаго і роўнымі паміж сабой, самому Ісусу Хрысту патрэбна было спусьціцца на зямлю.

У часы роўнасьці ўсе людзі з’яўляюцца незалежнымі адзін ад аднаго, ізаляванымі і слабымі; вы не знойдзеце такога чалавека, чыя воля ўвесь час кіравала б рухамі натоўпу; пад час такіх перыядаў заўсёды здаецца, што чалавецтва развіваецца само па сабе. Таму, каб патлумачыць адбываючаяся ў сьвеце, патрэбна сканцэнтравацца на пошуку некалькіх асноўных нагод, уплываючых аднолькава на кожнага із нам падобных і, такім чынам, прымушаючых усіх самаахвотна ісьці па аднаму і таму ж шляху. Гэта, натуральна, прыводзіць таксама да таго, што чалавечы розум спасьцігае агульныя ідэі і набывае схільнасць да іх.

Вышэй я ўжо тлумачыў, якім чынам роўнасць умоваў існавання вымушае кожнага чалавека самастойна шукаць праўду. Лёгка зразумець, што падобны метад пошукаў павінен паступова накіроўваць чалавечае самаўсведамленне да ўспрымання агульных ідэй. Да таго часу пакуль я адкідаю традыцыі стана, прафесіі і сям’і, пазбягаючы дзякуючы гэтаму ўлады прэцэндэнту і знаходзячы ўласны шлях толькі з дапамогай свайго розуму, я натуральным чынам адчуваю схільнасць тлумачыць вытокі сваіх поглядаў няйнакш, як асаблівасьцямі самай прыроды чалавека і гэта абавязкова і амаль незалежна ад маіх жаданняў прыводзіць мяне да засваення вялікай колькасьці вельмі агульных разуменняў.

Усё вышэйпавядомленае цалкам тлумачыць нагоду таго, што ангельцы выяўляліся менш здольнымі і схільнымі да абагульнення ідэй, чым іхныя амерыканскія нашчадкі і асабліва іхныя суседзі-французы і дзякуючы чаму ў нашы дні ангельцы надзелены імі ў большай меры, чым у мінулым іхныя бацькі.

Ангельцы вельмі доўга былі добра асьвечаным і адначасова вельмі арыстакратычным народам; і ў той час як культура ўвесь час вабіла іх да стварэння дастаткова агульных ідэй, арыстакратызм звычаяў утрымліваў іх на пазіцыях пэўнага мышлення. Адсюль гэтая іхная школа філасофскай думкі, пазначаная адначасова як адвагай так і нясмеласьцю ідэй, а таксама шырокасьцю і вузкасьцю поглядаў, школа, яшчэ да гэтага часу пануючая ў Ангельшчыне і ўсё яшчэ абмяжоўваючая і скоўваючая там такую вялікую колькасць розумаў.

Акрамя гэтых, выстаўленых мной на першы план меркаванняў, існуюць таксама і іншыя, менш відавочныя, але не менш сур’ёзныя нагоды, распрацоўваючыя амаль ва ўсіх дэмакратычных народаў густ да агульных ідэй, часта даходзячы да запалу.

Агульныя ідэі могуць быць вельмі рознымі. Адны із іх паказваюць сабой вынік павольнай, карпатлівай, сумленнай працы інтэлекту і, такім чынам, пашыраюць сферу чалавечых ведаў.

Агульныя ідэі іншага тыпу лёгка нараджаюцца пры першым жа энергічным высілку розуму, не даючы нічога, акрамя вельмі павярхоўных і вельмі няпэўных разуменняў.

Людзі, жывучыя пад час стагоддзяў роўнасьці, вызначаюцца вялікай дапытлівасьцю пры недахопе вольнага часу; іхнае жыццё з'яўляецца такім дзейным, складаным, неспакойным і актыўным, што ў іх застаецца вельмі мала часу на развяжанні. Людзі дэмакратычных эпох паважаюць агульныя ідэі, таму што яны пазбаўляюць іх ад патрэбы вывучаць прыватныя выпадкі; гэтыя нешматлікія ідэі, калі можна так выказацца, маюць у сябе шмат чаго і хутка даюць вялікі прыбытак. Такім чынам, кінуўшы не вельмі ўважлівы, беглы погляд, людзі вераць, што бачаць нейкую агульную сувязь паміж вызначанымі прадметамі і, спыняючы далейшыя пошукі, а таксама не вывучаючы падрабязна, у чым заключаецца падабенства ці адрозненне паміж гэтымі прадметамі, яны спешна далучаюць іх да аднаго і таго ж класа і ідуць далей.

Адной із выбітных рыс дэмакратычных стагоддзяў з'яўляецца цяга да лёгкага поспеху і неадкладных задавальненняў, прачынаючуюся ва ўсіх людзях. Гэта мае дачыненне не толькі да інтэлектуальнай, але і да кожнай іншай дзейнасьці. Большасць із жывучых пад час роўнасьці людзей – вялікія славалюбы, але іхнае славалюбства носіць адначасова як бойкі так і млявы характар: яны жадаюць адразу дамагчыся вялікага поспеху, але пры гэтым імкнуцца пазбавіць сябе ад цяжкай працы. Гэтыя супярэчлівыя жаданні непасрэдна прыводзяць іх да пошукаў агульных ідэй, з дапамогай якіх, як яны спадзяюцца, ім атрымаецца з невялікімі выдаткамі стварыць нешта вялізнае і прыцягнуць увагу публікі без асаблівых намаганняў.

І я не ведаю, наколькі яны не маюць рацыю разважаючы падобным чынам, таму што публіка ніколькі не менш іх саміх баіцца глыбіні і звычайна шукае ў тварэннях духу не што іншае, як даступныя задавальненні і лёгкія, не патрабуючыя працы павучанні.

Калі арыстакратычныя нацыі ў недастатковай ступені карыстаюцца агульнымі ідэямі, часта выяўляючы ў стаўленні да іх неабачлівае грэбаванне, то дэмакратычныя народы, наадварот, заўсёды гатовы злоўжываць дадзенай разнавіднасьцю ідэй і аддаюцца ім з непераборлівым запалам.

# Глава IV

## Чаму амерыканцы не ставяцца з такой жа палкасьцю, як французы, да агульных ідэй палітычнага зместу

Я ўжо паведамляў, што амерыканцы ў меншай ступені схільны да агульных ідэй, чым французы. Гэта асабліва справядліва ў дачыненні да агульных ідэй палітычнага зместу.

Нягледзячы на тое што агульныя ідэі невымяральна глыбей напаўняюць амерыканскае заканадаўства, чым ангельскае і што амерыканцы значна больш за ангельцаў заклапочаны прывядзеннем практыкі юрыдычных дачыненняў у адпаведнасць з тэорыяй, Злучаныя Штаты ніколі не ведалі палітычных інстытутаў, прама-такі закаханых у агульныя ідэі, як гэта было ў нас з Нацыянальным сходам і з Канвентам; ніколі ўся амерыканская нацыя цалкам не адчувала запалу да такога роду ідэй, – у адрозненні ад французскага народа ў XVIII стагоддзі – і не выказвала такой сляпой веры ў дасканаласць і абсалютную праўдзівасць якой бы там ні было тэорыі.

Гэтыя адрозненні паміж амерыканцамі і намі народжаны шмат якімі нагодамі, самымі важнымі із якіх уяўляюцца наступныя.

Амерыканцы – гэта дэмакратычны народ, які заўсёды сам кіраваў сваімі грамадзкімі справамі; а мы – дэмакратычны народ, які на працягу доўгага часу мог толькі марыць пра самыя лепшыя спосабы іхнага вядзення.

Наша грамадзка-палітычная рэчаіснасць прывяла да таго, што мы ўспрынялі вельмі агульныя ідэі, маючыя дачыненне да дзяржаўнасьці і ўлады, яшчэ ў тыя часы, калі наша палітычная канстытуцыя перашкаджала паляпшаць гэтыя ідэі дасьведніцкім шляхам, паступова распазнаючы іхную неабгрунтаванасць, тады як у амерыканцаў гэтыя два бакі ўвесь час ураўнаважваюцца і натуральным шляхам узаемна выпраўляюць адзін аднаго.

На першы погляд можа здацца, што гэта цверджанне супярэчыць выказанаму раней меркаванню пра тое, што дэмакратычныя народы самой бурнай плынню іхнага практычнага жыцця навучаюцца паважаць тэорыю. Пры больш уважлівым разгляданні дадзенага пытання робіцца зразумелым, што ў гэтых становішчах няма ніякай супярэчнасьці.

Людзі, жывучыя ў дэмакратычных краінах, з прагнасьцю хапаюцца за агульныя ідэі таму, што ў іх мала вольнага часу і таму, што гэтыя ідэі пазбаўляюць іх ад патрэбы выдаткаваць час на разгляданне прыватных выпадкаў. Гэта правільна, але толькі тады, калі гаворка не ідзе пра рэчы, звыклыя і штодзённа неабходныя. Камерсанты з паспешнасьцю і амаль без якога б то ні было разважання ўхопяцца за прапанаваныя ім агульныя ідэі, маючыя дачыненне да філасофіі, палітыкі, навук і мастацтва, аднак яны абавязкова вывучаць тыя агульныя ідэі, якія маюць дачыненне да гандлю, і не прымуць іх безумоўна і дакладна.

Аналагічным чынам робяць і дзяржаўныя дзеячы, калі справа даходзіць да агульных ідэй і абагульненняў палітычнага зместу.

Такім чынам, калі існуе нагода хваляваацца, што дэмакратычныя народы ў тым ці іншым пытанні з’яўляюцца схільнымі слепа і празмеру давярацца агульным ідэям, няма лепшага спосабу выправіць становішча, чым прыцягнуць штодзённую, практычную ўвагу людзей да дадзенага пытання; гэта вымусіць іх добра паглыбіцца ў дэталі, а дэталі дапамогуць зразумець слабыя бакі тэорыі.

Гэтыя лекі часта выяўляюцца балючымі, але яны заўсёды эфектыўныя.

Менавіта такім спосабам дэмакратычныя інстытуты, прымушаючыя кожнага грамадзяніна браць практычны ўдзел у кіраванні грамадствам, сцішаюць тую празмерную схільнасць да ўспрымання палітычных тэорый агульнага зместу, якую нараджае роўнасць.

# Глава V

## Якім чынам у Злучаных Штатах рэлігія карыстаецца дэмакратычнымі інстытутамі

У папярэдніх главах я ўжо даў тлумачэнне таму, што людзі не могуць абыходзіцца без дагматычных уяўленняў і што іх наяўнасць надзвычай пажадана. Тут я б дадаў, што із усіх дагматычных перакананняў самымі патрэбнымі з’яўляюцца вераванні рэлігійнага характару. Гэта вельмі лёгка давесьці, нават калі разглядаць іх толькі з боку гледжання зацікаўленасьцей зямнога жыцця.

Практычна кожнае чалавечае здзяйсненне, наколькі б прыватны характар яно ні насіла, спараджаецца ўсеагульнымі ўяўленнямі людзей пра Бога, пра яго дачыненне да чалавечага роду, пра прыроду душы і пра абавязкі людзей перад сабе падобнымі. Гэтыя ідэі не могуць не мець ролю агульнай крыніцы, із якой бяруць пачатак усе астатнія ідэі і ўяўленні.

Таму людзі вельмі зацікаўлены ў тым, каб іхныя ідэі пра Бога, душу, усеагульныя абавязкі ў дачыненні да свайго стваральніка і сябе падобных былі б трывала ўсталяванымі, таму што якія б то ні было сумневы з нагоды гэтых першападстаў аддаюць дзейнасць людзей на волю сляпога выпадку і выракаюць іх на бездапаможнае, разгубленае існаванне ў сьвеце, пазбаўленае ў той ці іншай меры сэнсу і парадку.

Такім чынам, вельмі патрэбна, каб у гэтых пытаннях кожны із нас прыйшоў да вызначанай думкі; аднак, да няшчасьця, гэтыя пытанні з'яўляюцца такімі, што кожнаму чалавеку, пакінатаму выключна на сябе самога, вельмі цяжка вызначыць свае думкі, спадзяючыся толькі на ўласны розум.

Толькі інтэлект, цалкам вольны ад звычайных побытавых заклапочанасьцей, надзвычай унікліва і тонкі, вельмі добра натрэніраваны, здольны, выдаткаваўшы масу часу і намаганняў, спасьцігнуць гэтыя так патрэбныя праўды.

Да таго ж мы бачым, што нават самі філосафы, разглядаючы гэтыя праўды, амаль заўсёды адчуваюць сумневы; што з кожным крокам натуральнае святло, асвятляючае іх шлях, цьмянее, пагражаючы згаснуць цалкам і што, нягледзячы на ўсе іхныя намаганні, яны ўсё ж не здолелі выведаць нічога, акрамя нязначнай колькасьці супярэчлівых уяўленняў, над якімі чалавечая свядомасць бесперапынна б'ецца ўжо на працягу тысячагоддзяў, не будучы ў стане цьвёрда засвоіць праўду ці хаця б выявіць новыя памылкі. Падобныя здзяйсненні патрабуюць здольнасьцей значна пераважаючых сярэднія чалавечыя здольнасьці і нават калі б большасць людзей валодала імі, цалкам зразумела, што яны не будуць мець для гэтага вольнага часу.

Устаяўшыяся ідэі Бога і чалавечай прыроды неабходны для штодзённага практычнага жыцця людзей і гэтае ж самае практычнае жыццё перашкаджае ім спасьцігаць гэтыя ідэі.

Дадзенае цьверджанне здаецца мне дзіўным. Сярод навук існуюць такія, якія, будучы карыснымі для мас, з'яўляюцца цалкам ім даступнымі; некаторымі ж навукамі ў стане авалодаць толькі невялікая колькасць спецыялістаў і яны не культывуюцца большасцю, якая ў іх не мае патрэбы, калі не браць да ўвагі аддаленую магчымасць іхнага практычнага ўжывання. Абмяркоўваемыя ж намі пытанні неабходны для штодзённага жыцця ўсіх людзей, хаця іх вывучэнне пераважнай большасьці і недаступна.

Такім чынам, агульныя ідэі, злучаныя з разуменнем Бога і прыроды чалавека, адрозніваюцца ад усіх астатніх агульных ідэй тым, што іх патрэбна выняць са звыклай сферы дзейнасьці індывідуальнай свядомасьці, а таксама тым, што з імі мы больш за ўсё выйграем і менш усяго прайграем, калі прызнаем уладу аўтарытэта.

Асноўная мэта і галоўная каштоўнасць рэлігіі палягае ў тым, што на кожнае із гэтых першарадна важных для жыцця пытанняў яна павінна даць выразныя, дакладныя і зразумелыя большасьці адказы, здольныя вытрымаць працяглую праверку часам.

Існуюць рэлігіі цалкам ілжывыя і абсурдныя; тым не менш, можна сказаць, што кожная рэлігія, застаючаяся ў толькі што акрэсленай мной сферы ўплыву і не маючая намеру выходзіць за яе межы, – як гэта спрабавалі зрабіць шмат якія із іх, каб з усіх бакоў абмежаваць вольнае развіццё чалавечага розуму, – накладае на інтэлект патрэбныя цуглі; і варта прызнаць, што незалежна ад таго, ці ратуе рэлігія людзей на тым сьвеце, яна, прынамсі, вельмі спрыяе здабыванню імі шчасьця і годнасьці на гэтым сьвеце.

Гэтая праўда асабліва дастасоўваецца да людзей, жывучых у вольных краінах.

Калі ў нейкага народа разбураецца рэлігія, у самую высокую дзейнасць галаўнога мозга пранікаюць сумневы, напалову паралізуючы ўсе астатнія здольнасьці інтэлекту. Кожны чалавек прывучаецца не мець нічога вызначанага, акрамя блытаных і пераменлівых уяўленняў па пытаннях, маючых асаблівую важнасць для яго блізкіх і для яго самога; людзі дрэнна абараняюць свае думкі ці ж лёгка адмаўляюцца ад іх і, страціўшы надзею паасобку вырашыць самыя важныя праблемы чалавечага лёсу, яны маладушна перастаюць думаць пра іх наогул.

Такое становішча неадменна спусташае душы, яно паслабляе спружыны волі і рыхтуе грамадзянаў да рабства.

У такія часы здараецца, што людзі не толькі дазваляюць забраць у іх вольнасць, але і часта самі аддаюць яе.

Калі ў пытаннях рэлігіі, так жа як і палітыкі, перастае існаваць улада аўтарытэта, гэтая бязмежная незалежнасць хутка пачынае палохаць людзей. Пастаянная ўзрушанасць з нагоды ўсяго на сьвеце трывожыць і стамляе іх. Калі ў сьвеце свядомасьці ўсё прыходзіць у рух, людзі жадаюць, каб прынамсі ў вобласьці матэрыяльнай быў усталяваны цьвёрды, устойлівы парадак і, дзякуючы таму што яны ўжо не ў стане вярнуцца да сваіх старых перакананняў, яны аддаюць сябе ў рукі нейкага валадара.

Што да мяне, то я сумняваюся, што чалавек цалкам здольны выносіць адначасова поўную рэлігійную незалежнасць і абсалютную палітычную вольнасць і я прыйшоў да пераканання, што ў тым выпадку, калі ён не верыць, ён абавязаны падначальвацца нейкай уладзе, а калі ён вольны, то павінен быць вернікам.

Тым часам я не ведаю, ці выяўляецца гэтая вялізная карысць рэлігіі больш выразна ў народаў, у якіх умовы існавання роўныя, чым ва ўсіх іншых народаў.

Варта прызнаць, што роўнасць, даруючая сьвету вялікія даброты, у той жа самы час абуджае ў людзях, як я спадзяюся паказаць далей, вельмі небяспечныя інстынкты: яна вядзе чалавека да самаізаляцыі ад усіх атачаючых, прымушаючы кожнага займацца толькі самім сабой. Яна празмерна агаляе іхныя душы перад запалам да матэрыяльных асалод.

Самай важнай заслугай рэлігіі з’яўляецца іхная здольнасць надаваць прама процілеглыя пачуцці. Кожная рэлігія выводзіць прадмет чалавечых жаданняў за межы зямнога жыцця з яго дабротамі, натуральным чынам пераносячы душу ў найвышэйшыя сферы, бязмерна перавышаючыя пачуццёвы сьвет. Няма ніводнай рэлігіі, якая не накладала б на чалавека нейкіх абавязкаў у дачыненні да ўсяго чалавечага роду, далучаючы яго да ўсёй супольнасьці і такім чынам, адцягваючы індывід ад думак пра самога сябе. Гэта ўтрымліваецца нават у самых ілжывых і небяспечных рэлігійных вучэннях.

Рэлігійныя народы, такім чынам, з’яўляюцца натуральным чынам моцнымі менавіта ў тым дачыненні, у якім выяўляюцца слабымі дэмакратычныя народы; важнасць захавання рэлігіі народам, ідучым да роўнасьці, робіцца відавочнай.

У мяне няма ні права, ні жадання даследаваць тыя звышнатуральныя сродкі, якія абірае Бог для надання чалавечаму сэрцу пачуцця веры. У дадзеным выпадку я разглядаю рэлігіі з чыста чалавечага боку гледжання; я шукаю адказ на пытанне, якім чынам гэтыя пачуцці могуць захаваць сваю магутнасць пад час стагоддзяў дэмакратыі, у якія мы ўступаем.

Я ўжо адзначаў, што ў часы асьветы і роўнасьці чалавечая свядомасць з цяжкасьцю ўспрымае дагматычныя пастулаты, не адчуваючы ў іх рэчаіснай патрэбы, калі не лічыць вобласьці рэлігійных перакананняў. Гэта, перадусім, азначае, што ў такі час рэлігіі павінны з большай сціпласьцю, чым пад час якіх бы то ні было іншых стагоддзяў, трымацца ў сваіх уласных межах і не спрабаваць із іх выходзіць, таму што жадаючы пашырыць свой уплыў на пытанні не маючыя непасрэднага дачынення да рэлігіі, яны рызыкуюць тым, што ў іх цалкам перастануць верыць. Таму яны павінны старанна акрэсліць межы сваёй кампетэнцыі, кантралюючай дзейнасць чалавечай свядомасьці, за межамі якіх гэтай свядомасьці варта даць поўную волю і самастойнасць.

Магамет, спусьціўшыся з нябёс, прынёс разам з Каранам не толькі рэлігійныя дактрыны, але і палітычныя максімы, грамадзянскія і крымінальныя законы, навуковыя тэорыі. У Евангеллі, наадварот, гаворыцца толькі пра агульнае стаўленне людзей да Бога і дачыненні паміж сабой. Акрамя гэтага, яно нічаму не вучыць і ні ў што не абавязвае верыць. Аднаго толькі гэтага, акрамя тысячы іншых довадаў, дастаткова для таго, каб паказаць няздольнасць першай із гэтых двух рэлігій надоўга захоўваць сваё панаванне ў часы асьветы і дэмакратыі, тады як другой наканавана валадарыць пад час гэтых стагоддзяў, як і пад час усіх іншых.

Ідучы далей у сваіх разважаннях, я лічу, што рэлігіям, з боку гледжання звычайнага чалавека, недастаткова толькі старанна акрэсліць кола рэлігійных пытанняў, каб быць у стане захаваць сваё становішча пад час стагоддзяў дэмакратыі; іхны ўплыў таксама ў значнай меры залежыць ад характару спавядаемых імі веравучэнняў, ад вонкавых формаў прынятай імі звычаёвасьці і ад абавязкаў, накладаемых імі на вернікаў.

Разгледжаная мной заканамернасць, згодна з якой роўнасць выпрацоўвае ў людзях схільнасць да вельмі агульных і вельмі вялізных ідэй, павінна быць у асаблівай ступені дастасаванай да пытанняў рэлігійных. Падобныя адзін на аднаго і роўныя паміж сабой людзі з лёгкасьцю спасьцігаюць ідэю адзінага Бога, усталёўваючага агульныя законы для кожнага із іх і надзяляючага іх шчасьцем у будучым жыцці кіруючыя аднымі і тымі ж правіламі. Ідэя роўнасьці роду чалавечага няспынна вяртае іх да ідэі адзінага Стваральніка, тады як, наадварот, людзі, аддзеленыя адзін ад аднаго і адзначаныя істотнымі ўнутранымі адрозненнямі, ахвотна ствараюць столькі божышчаў, колькі існуе ў іх гарадоў, каст, кланаў і сямействаў, пракладваючы тысячы самастойных шляхоў, па якіх яны спадзяюцца падняцца на нябёсы.

Немагчыма адмаўляць, што само хрысьціянства так ці інакш выпрабавала на сабе ўплыў, які сацыяльна-палітычныя ўмовы рабілі на рэлігійныя перакананні.

У той час калі хрысьціянства з’явілася па зямлі, Усявышні, які, без сумневаў, падрыхтоўваў сьвет да яго прыходу, аб’яднаў значную частку чалавечага роду як незлічоную паству пад скіпетрам рымскіх кесараў. Людзі, складаўшыя гэтую

вялізную масу, былі вельмі адрознымі адзін ад аднаго; і ўсё ж, іх аб'ядноўвала хаця б тое, што ўсе яны жылі падначальваючыся адным і тым жа законам і што кожны із іх быў такім слабым і нікчэмным у параўнанні з веліччу валадара, што ўсё яны паміж сабой здаваліся роўнымі.

Патрэбна прызнаць, што гэты новы і незвычайны грамадзкі стан павінен быў схіліць людзей да ўспрымання ўсеагульных праўд, павучаемых хрысьціянствам і гэта служыць тлумачэннем той лёгкасьці і той шпаркасьці з якімі хрысьціянства здолела ў той час заваяваць душы.

Прама процілеглая сітуацыя склалася пасьля падзення Імперыі.

Раманскі сьвет тады раздрабніўся, калі так можна выказацца, на тысячы аскепкаў і кожная народнасць вярнулася да сваёй першапачатковай самабытнасьці. Хутка ў нетрах гэтых народнасьцей пачала фармавацца іерархія незлічоных рангаў; заявілі пра сябе расавыя адрозненні і касты падзялілі кожную нацыю на некалькі нацый. Сярод гэтага ўсеагульнага імкнення, якое, здавалася, павінна было б прывесьці ўсе чалавечыя супольнасьці да раздробненасьці на такую колькасць фрагментаў, якую толькі можна было сабе ўявіць, хрысьціянства не згубіла некалі вынайдзеныя і абвешчаныя ім асноўныя агульныя ідэі. Аднак яно паспрабавала прыстасавацца, наколькі здолела, да новых тэндэнцый, народжаных сітуацыяй раздробненасьці чалавечага грамадства. Людзі працягвалі ўшаноўваць адзінага Бога – стваральніка і захавальніка сусьвета, але кожны народ, кожны горад і, магчыма, кожны чалавек верылі, што яны могуць атрымаць нейкі асобны прывілей і знайсьці асабістых апекуноў перад аблічам усемагутнага валадара. Не маючы магчымасьці адкінуць адзіную боскасць, яны, сама меней, маглі бясконца павялічваць колькасць яго памагатых, надзяляючы іх бязмернай магутнасьцю. Пашырыўшаяся з гэтай нагоды ўшанаванне анёлаў і сьвятых для большасьці хрысьціянаў стала амаль балванаўшаноўваючым культам і некаторы час магло здавацца, што хрысьціянства вяртаецца да тых рэлігій, якія яно перамагло.

Мне ўяўляецца відавочным, што па меры таго як знікаюць бар'еры, падзяляючыя народы і грамадзянаў кожнай краіны, чалавечая свядомасць як бы сама па сабе звяртаецца да ідэі непаўторнай і ўсемагутнай істоты, прадпісаўшай усім людзям у роўнай меры адны і тыя ж законы. Таму пад час стагоддзяў дэмакратыі вельмі важна не перамешваць ушанаванне другарадных упаўнаважаных Боскай волі з ушанаваннем самаго Стваральніка.

Не менш відавочнай з'яўляецца для мяне і наступная праўда: пад час перыядаў панавання дэмакратыі рэлігіі павінны надаваць менш увагі вонкавай цырыманіяльнасьці і звычаёвасьці, чым пад час якіх бы то ні было іншых перыядаў.

Разважаючы пра філасофскі метад амерыканцаў, я ўжо пазначаў, што ў часы роўнасьці нішто так не абурае чалавечы дух, як ідэя падначалення фармальнасьцям. Жывучыя ў гэты час людзі з раздражненнем ставяцца да рыторыкі; сімвалы здаюцца ім па-дзіцячаму наіўнымі, штучнымі прыдумкамі, ахутваючымі і перабольшваючымі ў іхных вачах тыя праўды, якія ім было б больш уласьціва разглядаць цалкам голымі пры яскравым святле дня; цырымоніі іх цалкам не хвалююць і яны міжволі схіляюцца да таго, каб не надаваць істотнага значэння дэталям набажэнства.

Тым, хто ў дэмакратычныя часы абавязаны кантраляваць вонкавыя формы рэлігійнай звычаёвасьці, патрэбна надаваць асаблівую ўвагу гэтым прыродным інстынктам чалавечай свядомасьці, каб без патрэбы не ваяваць супраць іх.

Я цьвёрда перакананы ў патрэбнасьці вонкавых формаў звычаёвасьці; я ведаю, што яны спрыяюць канцэнтрацыі чалавечай свядомасьці на разважаннях пра абстрактныя праўды, дапамагаючы трывала іх засвойваць і апантана верыць у іх. Я не ўяўляю сабе, якім чынам можна захаваць нейкую рэлігію, знішчыўшы практыку яе вонкавых формаў набажэнства; аднак, з іншага боку, я лічу, што на працягу надыходзячых стагоддзяў было б асабліва небяспечным імкненне празмерна павялічваць колькасць звычаяў; іх, хутчэй, патрэбна было б скараціць, пакінуўшы толькі тыя, якія абсалютна неабходны для захавання самой дактрыны, з'яўляючайся сутнасьцю релігій[323] тады як рытуал – гэта толькі форма. Прыхільнікі той рэлігіі, якая будзе рабіцца ўсё больш рэгламентаванай, нягнуткай і патрабуючай усё больш строгага выканання дробных звычаяў у той час, калі людзі пачнуць знаходзіць усё большую роўнасць, даволі хутка выявяць, што ператварыліся ў замкнёны гурток апантана веруючых, аточаную масай скептычна настроеных людзей.

Я ведаю, мне запярэчаць, што рэлігіі, маючыя сваім прадметам усеагульныя і вечныя праўды, не могуць падобным чынам прыстасоўвацца да пераменлівых настрояў кожнага стагоддзя, не рызыкуючы расхістаць перакананасьці людзей у праўдзівасьці гэтых цьверджанняў. На гэта я адкажу, што патрэбна вельмі дакладна адрозніваць думкі, якія з'яўляюцца асноўнымі, складаючымі сутнасць дадзенага веравання і называемыя тэолагамі «знак веры», ад тым ці іншым чынам далучыўшыхся да іх другарадных уяўленняў. Рэлігіі абавязаны заўсёды цьвёрда абараняць першыя із іх, якім бы ні быў дух эпохі, але яны павінны самым старанным чынам асьцерагацца падобнай жа схільнасьці да ўяўленняў другога сорту ў той час, калі ўвесь сьвет прыйшоў у няспынны рух і калі дух, звыклы да зменлівасьці чалавечага існавання, з вялікай неахвотай застывае ў якім бы там ні было становішчы. Вонкавыя звычаі і неістотныя рэлігійныя ўяўленні маюць шанец, як мне здаецца, заставацца нязменнымі толькі тады, калі само грамадства застаецца нерухомым; ва ўсіх астатніх выпадках я схільны верыць у тое, што іхная нязменнасць утойвае ў сабе небяспеку.

Мы пабачым, што із усіх чалавечых жарсьцяў, нараджаемых ці падаграваемых роўнасьцю, павага да дабрабыту выяўляе асаьлівую актыўнасць, адначасова авалодваючы сэрцамі ўсіх людзей. Імкненне да дабрабыту ўяўляе сабой самую дзіўную і неадменную асаблівасць эпохі панавання дэмакратыі.

Ёсць некаторыя падставы меркаваць, што якая б то ні было рэлігія, робячая спробы знішчыць гэтую маці ўсіх жарсьцяў, сама, урэшце, будзе знішчана ёю. Калі яна пажадае цалкам адарваць людзей ад сузірання даброт гэтага сьвету, каб яны аддалі свой розум думкам пра даброты існавання на тым сьвеце, можна прадбачыць, што іхныя душы ўсё адно выслізнуць із яе рук, каб цалкам аддацца выключна матэрыяльным, імгненным асалодам.

Асноўнае заданне рэлігій складаецца ў патрэбе ачышчаць, кантраляваць і стрымліваць гэты занадта палымяны і аднабокі запал да дабрабыту, які адчуваецца людзьмі пад час перыядаў роўнасьці; але я лічу, што рэлігіі не мелі б рацыі, калі б паспрабавалі цалкам утаймаваць і знішчыць гэты запал. Яны ніколі не здолеюць

[323] У кожнай рэлігіі існуюць цырымоніі і звычаі, неаддзяляемыя ад самой сутнасьці яе знака веры, у дачыненні да якіх варта быць асабліва асьцярожнымі, каб нічога ў іх не перамяніць. Гэта з асаблівай навочнасьцю выяўляецца ў каталіцтве, у якім форма і сутнасць часта так узаемазвязаны, што не могуць быць аддзелены адно ад аднаго.

адарваць людзей ад шанавання багацця, але яны ўсё ж могуць пераканаць іх у тым, што абагачацца патрэбна толькі сумленнымі шляхамі.

Гэтае разважанне прыводзіць мяне да апошняга меркавання, якое нейкім чынам заключае ў сябе ўсе астатнія. Чым больш людзі прыпадабняюцца адзін да аднаго, карыстаючыся роўнымі правамі, тым больш вялікую важнасць набывае наступнае назіранне: рэлігіі, асьцярожна трымаючыся збоку ад плыні штодзённага жыцця, не павінны без патрэбы супрацьпастаўляць сябе агульнапашыраным ідэям і ўстойлівым зацікаўленасьцям, пануючых у масах, таму што грамадзкая думку ўсё больш і больш робіцца галоўнай і самай непераадольваемай магутнасьцю, удары якой не здолее доўга выносіць ніводная із супрацьстаячых ёй магутнасьцей. Гэта ў роўнай меры мае дачыненне як да дэмакратычнага народа, падначаленага дэспату так і да рэспублікі. У часы роўнасьці каралі могуць часта патрабаваць пакорнасьці, аднак грамадства заўсёды давярае большасьці і, такім чынам, па ўсіх пытаннях, не супярэчачых веры, патрэбна лічыцца з думкай большасьці.

У першай частцы свайго твору я ўжо пісаў пра тое, што амерыканскія сьвятары не бяруць удзел у грамадзкіх справах. Гэта – уражваючы, але далёка не адзіны прыклад іхнай стрыманасьці. Рэлігія ў Амерыцы – асобны сьвет, у якім кіруе сьвятар, але пры гэтым ён імкнецца ніколі не выходзіць за яго межы; усярэдзіне гэтага сьвету ён накіроўвае свядомасць людзей, за яго межамі ён пакідае іх самім сабе, вольнасьці і непастаянству, уласьцівым іхнай прыродзе і эпосе, пад час якой яны жывуць. Я не бачыў ніводнай краіны, дзе хрысьціянства было б менш апасрэдавана фармальнасцямі, знакамі і звычаямі, чым у Злучаных Штатах, і дзе б яно было пададзена чалавечай свядомасьці ў больш зразумелых, простых і агульных ідэях. Хаця амерыканскія хрысьціяне падзелены на шмат сект, яны разглядаюць сваю рэлігію ў адным і тым жа асьвятленні. Гэта так жа ставіцца да раманскай каталіцкай царквы, як і да іншых хрысьціянскіх вераванняў. Нідзе ў сьвеце каталіцкія сьвятары не выяўляюць такой нязначнай схільнасьці да дробнага фармалізму індывідуальных правіл паводзін, да незвычайных, асаблівых метадаў здабывання ратуючай набожнасьці, як у Злучаных Штатах, дзе яны заклапочаны не столькі літарай, колькі духам закона; нідзе, акрамя як тут, вучэнне Цэрквы, забараняючае культ сьвятых, які зневажае Бога, не павучаецца так навочна і так эфектыўна. Тым часам амерыканскія каталікі – вельмі рахманыя і чыстасардэчныя людзі.

Існуе яшчэ адно назіранне, у роўнай меры маючае дачыненне да святарства ўсіх злучын: амерыканскія сьвятары не спрабуюць завабіць чалавека з тым, каб усю сваю ўвагу ён засяродзіў на будучым існаванні; яны ахвотна пакідаюць частку яго душы вольнай для клопатаў штодзённага жыцця, відаць лічачы, што даброты гэтага сьвету з’яўляюцца хай і другараднымі, але цалкам годнымі ўвагі прадметамі, і, хаця самі не займаюцца прадукцыйнай працай, яны прынамсі цікавяцца дасягненнямі ў гэтай вобласьці, вітаюць прагрэс і, няспынна нагадваючы верніку пра замагільны сьвет як галоўную мэту яго жыцця з яго баязнямі і надзеямі, не забараняюць людзям сумленным шляхам дамагацца дабрабыту на гэтым сьвеце. Зусім не імкнучыся давесьці, што гэтыя два сьветы розныя і несумяшчальныя, яны, хутчэй усяго, спрабуюць выявіць кропкі судотыку і ўзаемасувязі паміж імі.

Усе амерыканскія сьвятары разумеюць, наколькі магутнай з’яўляецца інтэлектуальная ўлада большасьці і ставяцца да яе з павагай. Яны ніколі без крайняй патрэбы не выступаюць супраць яе. Яны ніколі не бяруць удзел у міжпартыйныя сварках, але ахвотна ўспрымаюць думкі, пануючыя у іхны час у

іхнай краіне, дазваляючы сабе без супраціўлення плысьці за вадой грамадзкіх настрояў і ідэй, захапляючых за сабой усё навокал. Яны спрабуюць выправіць сваіх сучаснікаў, але яны не аддзяляюць сябе ад іх. Таму публіка ніколі не адчувае да іх варожых пачуццяў; яна, хутчэй усяго, заўсёды падтрымлівае і абараняе іх, а іхныя перакананні карыстаюцца аўтарытэтам як дзякуючы сваім уласным вартасьцям, так і дзякуючы падтрымцы, рабімай ім большасьцю.

Такім чынам, ставячыся з павагай да ўсіх тым дэмакратычных інстынктаў, якія не супрацьстаяць рэлігійным уяўленням, і далей карыстаючыся падтрымкай некаторых із іх, рэлігія можа паспяхова ваяваць з духам індывідуальнай незалежнасьці – самым небяспечным із яе ворагаў.

# Глава VI

## Пра поспехі каталіцызму ў Злучаных Штатах

Амерыка – самая дэмакратычная краіна на зямлі, а ў той жа самы час, паводле годных даверу крыніц, каталіцкая рэлігія дамаглася ў ёй выбітных поспехаў. На першы погляд гэта здаецца дзіўным.

Неабходна выразна бачыць адрозненне паміж двума феноменамі: роўнасць прадугледжвае, што людзі пра ўсё жадаюць рабіць высновы самі; аднак, з іншага боку, яна прывучае іх да ідэі ўнікальнай, непасрэднай, роўнай для ўсіх дзяржаўнай улады. Таму людзі, жывучыя пад час дэмакратычных перыядаў, валодаюць моцна выяўленай схільнасьцю пазбаўляцца ад усіх рэлігійных аўтарытэтаў. Але, калі ўжо яны выяўляюць згоду падначаліцца нейкаму із падобных аўтарытэтаў, яны жадаюць, каб ён быў, ва ўсякім разе, адзіным і нязменным; рэлігійныя ўлады, атрымліваючыя свае паўнамоцствы не із аднаго і таго ж цэнтра, натуральным чынам шакуюць іхную свядомасць, і думка пра тое, што існуе шмат рэлігій і не існуе ніводнага сапраўднага веравызнання, з лёгкасьцю завалодвае іхнымі розумамі.

У нашы дні часьцей, чым пад час мінулых эпох, сустракаюцца каталікі, якія цалкам перастаюць верыць у Бога і пратэстанты, якія робяцца каталікамі. Калі разглядаць сітуацыю, у якой апынулася каталіцкая царква, із сярэдзіны, то ствараецца ўражанне, што царква губляе свой уплыў; калі ж разглядаць сітуацыю звонку, то ўплыў царквы здаецца павялічваючымся. Гэтаму ёсць тлумачэнне.

Людзі нашага часу, вядома, мала схільныя верыць у Бога; але ўжо калі яны далучаюцца да рэлігіі, то адразу ж выяўляюць у саміх сабе ўтоены інстынкт, незалежна ад іхнага жадання падштурхоўваючы іх да каталіцтва. Некаторыя дактрыны і звычаі, прынятыя ў раманскай каталіцкай царкве, здзіўляюць іх, аднак яны адчуваюць таемнае захапленне яе стройнай сістэмай кіравання і яна прыцягвае іх сваім вялікім адзінствам.

Калі б каталіцызм быў у стане, нарэшце, адрачыся ад напароджаных ім палітычных звад і нянавісьці, я амаль не сумняваюся ў тым, што той жа самы дух часу, які здаецца непасрэдна супрацьстаячым каталіцтву, перастаў бы быць занадта неспрыяльным для яго і каталіцкая царква здолела б імгненна дамагчыся вялікіх поспехаў.

Адзіным із самых вядомых недахопаў чалавечага розуму з’яўляецца жаданне прымірыць процілеглыя прынцыпы і знаходзіць заспакаенне коштам адмовы ад логікі. Бясспрэчна ж, заўсёды знаходзяцца і заўсёды будуць знаходзіцца людзі,

якія, падначаліўшыся ўладзе аўтарытэта ў частцы сваіх рэлігійных перакананняў, усё ж, жадалі б пазбавіцца ад гэтай улады ў дачыненні да іншай часткі сваіх вераванняў, каб дазволіць свайму розуму адвольна вагацца паміж падпарадкаваннем і вольнасьцю. Я, аднак, схільны верыць у тое, што колькасць падобных людзей будзе меншай пад час стагоддзяў дэмакратыі, чым пад час нейкіх іншых эпох і што нашы ўнукі ўсё больш і больш выразна будуць дзяліцца на дзьве катэгорыі, адна із якіх цалкам адмовіцца ад хрысьціянства, а другая далучыцца да раманскай каталіцкай царквы.

# Глава VII

## Пра тое, што вымушае ўсьведамленне дэмакратычных народаў імкнуцца да пантэізму

Трохі пазьней я пакажу, як пануючая ў дэмакратычных народаў схільнасць да вельмі агульных ідэй праяўляецца ў палітыцы; у наш час, аднак, у меня існуе жаданне патлумачыць той асноўны ўплыў, які яна робіць на філасофію.

Немагчыма адмаўляць, што ў нашы дні пантэізм стаў вельмі ўплывовым. Частка еўрапейскіх твораў відавочна нясе на сабе яго пячатку. Немцы ўводзяць яго ў філасофію, а французы – у літаратуру. Сярод мастацкіх твораў, надрукаваных у Францыі, вялікая частка ўтрымлівае ў сабе цьверджанні ці апісанні, запазычаныя із пантэістычных вучэнняў ці ж сведчачых пра існаванне ў іхных аўтараў некаторай сімпатыі да гэтых дактрын. Гэта ўяўляецца мне не вынікам чыстай выпадковасьці, а вынікам, надаваемай нейкай даўгачасовай нагодай.

Па меры таго як умовы існавання робяцца ўсё больш аднолькавымі і кожны асобны чалавек пачынае прыпадабняцца ўсім іншым, выяўляючыся ўсё больш слабым і маленькім, утвараецца ўстойлівая звычка разважаць не пра асобных грамадзян, а пра ўвесь народ у цэлым; забываючыся пра індывіды, мы разважаем пра людзкі род.

У такія часы чалавечай свядомасьці падабаецца разам ахопліваць вялікую колькасць разнастайных прадметаў; яна, свядомасць, няспынна спрабуе звязаць шмат якія наступствы з адной-адзінюткай нагодай.

Чалавек робіцца апантаным ідэяй адзінства, ён шукае яе паўсюдна і, паверыўшы ў тое, што знайшоў яе, супакойваецца і адпачывае з гэтай верай у душы. Але цалкам задаволены адкрыццём, што на сьвеце няма нічога іншага, акрамя адзінага тварэння і адзінага Стваральніка, ён усё ж адчувае некаторую нязручнасць, надаваемую гэтым першапачатковым падзелам сутнасьцей і самаахвотна спрабуе пашырыць і спрасціць сваю думку, аб’ядноўваючы ў адзінае цэлае Бога і светапабудову. Калі я сустракаюся з філасофскай сістэмай, згодна з якой усе матэрыяльныя і нематэрыяльныя, бачныя і нябачныя з’явы, належачыя гэтаму сьвету, па-сутнасьці не што іншае, як розныя часткі адзінай бясконцай істоты, якая адна толькі застаецца вечна нязменнай сярод пастаяннай пераменлівасьці і няспынных пераўтварэнняў усіх яго складнікаў, я без цяжкасьцей прыхожу да высновы, што падобная сістэма, хаця і знішчае чалавечую індывідуальнасць ці, магчыма, менавіта таму, што яна яе знішчае, будзе мець таемнае зачараванне для людзей, жывучых пры дэмакратыі; усе іхныя інтэлектуальныя навыкі рыхтуюць іх да разумення падобнай сістэмы і вядуць іх па

шляху да яе прызнання. Яна натуральным чынам прыцягвае да сябе і захоплівае іх уяўленне; яна цешыць іх ганарыстасць і патурае ляноце іхнага духу.

Із усіх разнастайных сістэм, з дапамогай якіх філасофія спрабавала патлумачыць уладкаванне светабудовы, пантэізм уяўляецца мне найбольш здольным спакусіць чалавечы дух пад час эпохі дэмакратыі; і ўсе тыя людзі, якія яшчэ ўмеюць шанаваць сапраўдную веліч чалавека, павінны аб'яднаць свае намаганні ў змаганні супраць пантэізму.

# Глава VIII

## Якім чынам роўнасць наводзіць амерыканцаў на думку пра магчымасць бязмежнага ўсканалення чалавека

Роўнасць падказвае чалавечай свядомасьці шмат ткія ідэі, якія без роўнасьці ніколі б не прыйшлі людзям у галовы, і яна мадыфікуе амаль усе тыя ідэі, якія людзям ужо былі вядомыя раней. У якасьці прыкладу возьмем ідэю пра магчымасць самаўдасканалення чалавека, таму што гэтая ідэя з'яўляецца адной із асноўных, ствараных чалавечай свядомасьцю, да таго ж, яна сама па сабе ўяўляе вялікую філасофскую тэорыю, уплыў якой на практычную дзейнасць людзей можна назіраць у кожны момант.

Нягледзячы на тое што чалавек у шмат якіх дачыненнях падобен на прадстаўнікоў жывёльнага сьвету, ён усё ж адзначаны адной, толькі яму належачай уласьцівасьцю: у адрозненні ад жывёл ён самаўдасканальваецца. Чалавецтва з самага пачатку не магло не заўважыць гэтага адрознення. Ідэя пра магчымасць чалавечага ўдасканалення, такім чынам, такая ж старажытная, як і сам сьвет; роўнасць не мела ніякага дачынення да яе з'яваўлення, аднак яна надала ёй новы характар.

Калі грамадзяне дзеляцца на станы адпаведна з іхным рангам, прафесіяй, шляхетнасьцю і калі ўсе яны вымушаны ісьці па таму жыццёваму шляху, які быў абраны для іх гульнёй выпадку, кожны із іх лічыць, што бачыць перад сабой крайнія межы чалавечых магчымасьцей і ніхто больш не спрабуе ваяваць з непазбежным лёсам. Арыстакратычныя народы, вядома, цалкам не адмаўляюць здольнасць чалавека ўдасканальвацца. Яны толькі лічаць, што яна не бязмежная; яны разглядаюць яе ў якасьці частковага паляпшэння, а не карэннага пераўтварэння; яны ўяўляюць сабе грамадзкі прагрэс у выглядзе паступовага паляпшэння ў будучыні тых жа самых сацыяльных умоваў і, лічачы, што чалавецтва ўжо зрабіла гіганцкі крок наперад і што яно яшчэ здолее зрабіць некалькі крокаў, яны загадзя абмяжоўваюць яго прагрэс некаторымі непераадольваемымі перашкодамі.

Яны ўсё ж не лічаць, што дасягнулі найвышэйшай выгоды і абсалютнай праўды (хто із людзей ці які із народаў былі калі-небудзь такімі вар'яцкімі, каб уявіць падобнае?), але ім падабаецца надаваць сабе, што яны вельмі блізка падышлі да той ступені велічы і спазнання, якія толькі з'яўляюцца даступнымі нашай недасканалай прыродзе; і таму што вакол іх не адбываецца ніякага руху, яны ахвотна ўяўляюць сабе, быццам бы ўсё знаходзіцца на сваіх месцах. Менавіта ў такія часы заканадаўцы лічаць, што зацьверджаныя імі законы з'яўляюцца непарушнымі, народы і каралі жадаюць узводзіць толькі вечныя манументы, а жывучае заклапочваецца пра лёсы будучых пакаленняў.

Аднак па меры таго, як касты знікаюць і станавыя адрозненні сціраюцца, калі людзі бязладна перамешваюцца і звычкі, звычаі і законы пачынаюць перамяняцца, калі раптам з’яўляюцца новыя факты і адкрываюцца новыя праўды, калі старыя думкі сыходзяць, саступаючы месца іншым уяўленням, тады чалавечай свядомасьці пачынае бачыцца выява ідэальнай, вечна выслізгаючай дасканаласьці.

Няспынныя перамены адбываюцца тады штохвілінна перад вачамі кожнага чалавека. Некаторыя із такіх перамен пагаршаюць яго становішча і ён пачынае вельмі выразна ўсведамляць, што ніякі народ і ніякі індывід, наколькі б ні былі яны асьвечанымі, не бывае бязгрэшным. Некаторыя перамены паляпшаюць яго долю і ён прыходзіць да высновы, што чалавек, увогуле, надзелены здольнасьцю бясконцага самаўдасканалення. Яго няшчасьці даюць яму зразумець, што ніхто не можа лісьліваць сябе надзеяй на адкрыццё абсалютнай ісьціны; поспехі ж натхняюць яго на нястомныя пошукі гэтай ісьціны. Такім чынам, заўсёды шукаючы, падаючы і паднімаючыся на ногі, часта засмучаны, але ніколі не расчараваны чалавек безупынна імкнецца наблізіцца да той бязмежнай велічы, абрысы якой ён невыразна разлічае на заканчэнні доўгага шляху, які чалавецтву яшчэ патрэбна пераадолець.

Цяжка ўявіць сабе дакладна, якія наступствы натуральным чынам выцякаюць із гэтай філасофскай тэорыі, згодна з якой чалавек здольны бязмежна ўдасканальвацца і наколькі вялізным з’яўляецца ўплыў, які яна робіць нават на тых людзей, якія, заўсёды аддаючы перавагу дзейнічаць, а не разважанням, здаецца, пагадняюць свае ўчынкі з дадзенай тэорыяй, нават не падазраючы пра яе існаванне.

Аднойчы я сустрэў амерыканскага матроса і запытаў яго, дзякуючы чаму ў яго краіне караблі будуюцца такімі недаўгавечнымі. На гэта ён адказаў мне без нейкіх ваганняў, што мастацтва навігацыі кожны дзень так хутка ідзе наперад, што нават самы лепшы карабель праз некалькі гадоў стане амаль не маючым карысьці.

У гэтых выпадковых словах неадукаванага чалавека, прытым сказаных дзякуючы пэўнай нагодзе, я ўгледзеў праявы агульнай, сістэматычнай ідэі, кіруючыся якой вялікі народ арганізуе сваё жыццё.

Арыстакратычныя нацыі адпаведна з прыродай свайго грамадзкага ўладкавання схільны занадта абмяжоўваць межы ўдасканалення людзей, тады як дэмакратычныя нацыі часам празмерна іх пашыраюць.

# Глава IX

## Чаму прыклад амерыканцаў не даводзіць справядлівасць цьверджання, што дэмакратычны народ не можа валодаць здольнасьцю і схільнасьцю да заняткаў навукамі, літаратурай і мастацтвам

Варта прызнаць, што із сучасных цывілізаваных народаў толькі нешматлікія дамагліся меншых поспехаў у фундаментальных і тэарэтычных навуках, чым Злучаныя Штаты, ці далі сьвету так жа мала вялікіх мастакоў, знакамітых паэтаў і ўслаўленых пісьменнікаў.

Шмат хто із еўрапейцаў, узрушаныя дадзеным назіраннем, пачалі разглядаць гэта ў якасьці натуральнага і непазбежнага выніку ўсталявання роўнасьці і пачалі лічыць, што калі дэмакратычнай дзяржаўнасьці і дэмакратычным інстытутам

некалі наканавана перамагчы ва ўсім сьвеце, то чалавечы дух будзе ўсё менш выразна разлічаць свецячыяся яму агні і людзі зноў апынуцца ў змроку.

Тыя, хто разважаюць падобным чынам, на маю думку, перамешваюць некалькі ідэй, якія патрэбна падзяляць і разглядаць па-асобку. Самі таго не жадаючы, яны перамешваюць разуменне дэмакратыі са спецыфічнымі асаблівасьцямі амерыканскага жыцця.

Рэлігійныя вераванні, якія вызнаваліся першымі імігрантамі і перададзеныя імі ў спадчыну сваім нашчадкам, былі адзначаны прастатой звычаяў набажэнства, строгасьцю і амаль жорсткасьцю багаслоўскіх прынцыпаў, варожасьцю да вонкавай сімволікі і пампезнай цырыманіяльнасьці. Яны, натуральна, не былі спрыяльнымі для развіцця вытанчаных мастацтваў і вельмі неахвотна дапускалі магчымасць літаратурных забавак.

Амерыканцы – гэта вельмі старажытны і вельмі асьвечаны народ, які апынуўся ў новай, бязмежнай краіне, дзе ён меў магчымасць разсяляцца згодна з ўласным жаданнем, забяспечваючы ўрадлівасць зямлі без асаблівых намаганняў. Гэта – беспрэцэдэнтны ў сусьветнай практыцы выпадак. Гэта таму што ў Амерыцы кожны знаходзіць, невядомыя дзе б там ні было яшчэ, магчымасьці здабываць ці ж памножыць сваё багацце. Паветра тут прасякнута карыслівасьцю і чалавечы мозг, безперапынна адцягваецца ад задавальненняў злучаных з вольнай гульнёй уяўлення і ад разумовай працай, не практыкуецца ні ў чым іншым, акрамя як у пагоні за багаццем. Прамысловыя і гандлёвыя станы існуюць у кожнай іншай краіне, не толькі ў Злучаных Штатах, але толькі тут усе людзі адначасова заняты прадукцыйнай працай і камерцыяй.

Тым часам я ўпэўнены, што калі б амерыканцы былі ў сьвеце адны, то валодаючы той вольнасьцю і ведамі, якія яны ўспадкавалі ад сваіх папярэднікаў і тымі жарсьцямі, якія яны набылі самі, яны б хутка выявілі, што прагрэсу ў практычных навуках немагчыма дамагацца на працягу працяглага часу, не надаючы ўвагі развіццю тэарэтычных дысцыплін, што ўсе мастацтвы і рамёствы ўдасканальваюцца адны дзякую другім і, наколькі б яны ні былі паглынуты пагоняй за галоўным прадметам іхных жаданняў, яны хутка зразумелі б, што для дасягнення гэтай мэты час ад часу патрэбна пераводзіць свой позірк і на іншыя рэчы.

Акрамя таго, схільнасць да інтэлектуальных задавальненняў уяўляецца такой уласьцівай душы цывілізаванага чалавека, што нават сярод тых асьвечаных нацый, якія менш за іншых размешчаны надаваць ім увагу, заўсёды існуе вызначаная колькасць захопленых імі грамадзянаў. Гэтая інтэлектуальная патрэба, аднойчы ўсвядомленая, хутка будзе задаволена.

Аднак якраз у той самы час, калі амерыканцы былі натуральным чынам схільны патрабаваць ад навукі толькі пэўнай, практычнай карыснасьці для ўтылітарных відаў майстэрства, а таксама сродкаў, з дапамогай якіх жыццё можна было зрабіць больш лёгкім і зручным, навуковая і літаратурная Яўропа ўзяла на сябе цяжар узвысіцца да агульных крыніц ісьціны, паралельна паляпшаючы ўсё тое, што можа прыносіць задавальненні ці ж задавальняць патрэбы чалавека.

Ва ўяўленні асьвечаных нацый Старога Сьвету жыхары Злучаных Штатаў асабліва вызначаюцца тым, што яны агульнасьцю паходжання і звычаяў вельмі цесна злучаны з адной із гэтых нацый. У гэтым народзе амерыканцы знаходзілі услаўленых навукоўцаў, таленавітых мастакоў, вялікіх пісьменнікаў і такім чынам

маглі набываць інтэлектуальныя багацці, не адчуваючы патрэбы самім займацца іхным назапашваннем.

Я не лічу, што акіян, размешчаны паміж Амерыкай і Яўропай, сапраўды іх падзяляе. Я лічу народ Злучаных Штатаў часткай ангельскага народа, якой было даручана дасьледаваць нетры Новага Сьвету, тым часам як астатняя частка нацыі, маючая больш вольнага часу і менш абцяжараная матэрыяльнымі турботамі, мела магчымасць прысьвяціць сябе разумовай дзейнасьці і ва ўсіх дачыненнях дапагаць развіццю чалавечага розуму.

Становішча, у якім апынуліся амерыканцы, такім чынам, цалкам унікальнае, і наўрад ці нейкі іншы дэмакратычны народ калі-небудзь здолее апынуцца ў падобнай сітуацыі. Іхнае пераважна пурытанскае паходжанне, іхныя выключна гандлёвыя навыкі, нават сама зямля, якую яны насяляюць, – усё, здаецца, аб’ядналася, каб адцягнуць іхны інтэлект ад заняткаў навукамі, літаратурай і вытанчанымі мастацтвамі; блізкасць Яўропы, дазваляючая ім не распрацоўваць гэтыя накірункі, не вяртаючыся да варварства; тысячы пэўных нагод, із якіх я здолеў патлумачыць толькі асноўныя, – усё супала дзіўным чынам, каб прывязаць амерыканскую сьвядомасць да турбот чыста матэрыяльнага плана. Іхныя запалы, патрэбы, адукацыя і акалічнасьці – сапраўды ўсё накіравана на тое, каб схіліць жыхара Злучаных Штатаў да зямлі. Толькі рэлігія падахвочвае яго час ад часу мімаходзь, несканцэнтраваным позіркам глядзець на нябёсы.

Таму давайце перастанем разглядаць усе дэмакратычныя народы як копіі, створаныя адпаведна з выявай і падабнымі на амерыканскі народ і паспрабуем, нарэшце, разгледзець асаблівасьці іхных уласных нацыянальных рыс.

Цалкам магчыма ўявіць сабе народ, які, не маючы ў сваім складзе ні каст, ні іерархіі, ні станаў і падначальваючыся ва ўсім закону, скасоўваючаму якія б то ні было прывілеі і пароўну дзелячаму спадчыну, усё ж будзе пазбаўлены святла культуры і вольнасьці. Гэта не пустая гіпотэза, таму што нейкі дэспат здольны прыйсьці да думкі пра тое, што роўнасць і невуцтва яго падданых адпавядаюць яго ўласным зацікаўленасьцям, таму што ў такім разе людзей лягчэй трымаць у рабстве.

Дэмакратычны народ дадзенага тыпу не толькі не выявіць ніякіх здольнасьцей і схільнасьцей да заняцця навукамі, літаратурай і мастацтвам, але нават можна выказаць здагадку, што ён цалкам застанецца ім чужы.

Сам закон пра спадкаемства з кожным пакаленнем будзе забяспечваць раздрабненне вялікіх багаццяў і ніхто не створыць новых. Бедната, пазбаўленая ведаў і вольнасьці, не прыйдзе да ідэі пра магчымасць самаабагачэння, а заможныя, не будучы ў стане сябе абараніць, дазволяць скінуць іх у галечу. Паміж немаёмасным і заможным хутка ўтворыцца поўная і непарушная роўнасць. Тады ніхто не будзе мець дастаткова часу і выказваць схільнасць да разумовай працы і інтэлектуальных асалод. Наадварот, усё здранцвее ў роўным невуцтве і аднолькавым рабстве.

Калі я ўяўляю сабе дэмакратычнае грамадства дадзенага тыпу, я адразу ж адчуваю сябе так, нібы апынуўся ў адным із тых Богам забытых нізкіх, змрочных і душных будынкаў, дзе сьвятло, пранікаючае знадворку, хутка пачынае блякнуць і згасаць. Мне здаецца, што на мяне раптам абвальваецца жахлівы цяжар і што я бязмэтава блукаю ў атачаючым змроку, каб знайсьці выйсьце, якое павінна зноў вывесьці мяне на паветра, да яскравага святла дня. Усяго гэтага, аднак, не можа адбыцца з ужо асьвечанымі народамі, якія, знішчыўшы існаваўшыя ў іх асобныя

правы і спадчынныя прэрагатывы, навекі замацаваўшыя маёмасць у руках вызначаных асоб ці вызначаных згуртаванняў, усё ж застануцца вольнымі.

Калі людзі, жывучыя ва ўмовах дэмакратычнага грамадства, сапраўды асьвечаны, яны з лёгкасьцю ўсведамляюць, што нішто не павінна іх абмяжоўваць, стрымліваць, гвалтоўна прымушаць задавальняцца дасягнутым становішчам.

Таму ўсе яны прыходзяць да ідэі пра патрэбу назапашвання сродкаў і калі яны вольныя, то ўсе яны спрабуюць назапашваць, хаця і не ва ўсіх гэта атрымліваецца ў роўнай ступені. Праўда, заканадаўства больш не спрыяе фармаванню прывілеяў, але сама прырода спрыяе гэтаму. Прыродная няроўнасць з’яўляецца такой значнай, што, як толькі кожны чалавек пачынае карыстацца ўсімі сваімі здольнасьцямі дзеля абагачэння, роўнасць багаццяў імгненна парушаецца.

Закон пра спадкаемства, па-ранейшаму перашкаджаючы ўтварэнню заможных сем’яў і кланаў, усё ж не перашкаджае асобным людзям рабіцца заможнымі. Гэты закон увесь час імкнецца прывесьці ўсіх грамадзянаў да агульнага узроўню дабрабыту, тым часам як яны самі няспынна імкнуцца выкараскацца із яго; няроўнасць іхных багаццяў павялічваецца па меры таго, як валячваецца іхная адукаванасць і яны робяцца больш вальнымі.

У наш час з’явілася секта, стаўшая знакамітай дзякуючы свайму духу і экстравагантнасьці, якая прапанавала засяродзіць усе даброты ў руках адзінай цэнтральнай улады, каб потым размяркоўваць іх паміж людзьмі ў адпаведнасьці з іхнымі заслугамі. Такім чынам, можна было б пазбавіцца ад поўнай і вечнай роўнасьці, пагражаючай, відаць, дэмакратычным грамадствам.

Існуе і іншы, больш прасты і менш небяспечны спосаб: нікому не надаючы ніякіх прывілеяў, можна ўсім даць роўную асьвету і аднолькавую незалежнасць і дазволіць кожнаму самаму клапаціцца пра свой дабрабыт. У гэтым выпадку прыродная няроўнасць адразу ж дасць пра сябе ведаць і багацце само пяройдзе ў рукі найбольш здольных людзей.

Дэмакратычныя і вольныя грамадствы, такім чынам, заўсёды будуць мець нямала заможных ці цалкам забяспечаных грамадзянаў. Гэтыя заможныя людзі не будуць мець паміж сабой такіх жа цесных сувязей, як гэта было з асобамі старой арыстакратыі, таму што яны будуць адрозніваца вялікай псіхалагічнай разнастайнасьцю тыпаў і амаль ніхто із іх не будзе мець такога ж гарантаванага і такога ж поўнага вольнага часу; пры гэтым іхная колькасць будзе бясконца больш вялікай, чым мог бы быць стан арыстакратыі цалкам. Гэтыя людзі не будуць занадта абцяжараны чыста матэрыяльнымі турботамі і здолеюць, безумоўна ў рознай ступені, накіраваць свае здольнасьці на разумовую працу і інтэлектуальныя асалоды: яны прысьвецяць сябе ім таму, што, хаця адна частка чалавечай свядомасьці і імкнецца да прадметаў абмежаваных, матэрыяльных і ўтылітарных, другая частка натуральным чынам імкнецца да бясконцага, духоўнага, прыгожага. Фізічныя патрэбы прывязваюць чалавека да зямнога, але, калі яны адчуваюцца не так востра, яго дух сам сабой распростваецца.

Не толькі значна павялічыцца колькасць тых, хто здолее зацікавіцца разумовай працай, але сам густ да задавальненняў інтэлектуальнага характару паступова будзе пашырацца, пракрадаючыся нават у тыя сацыяльныя пласты, якія пры арыстакратычным грамадзкім уладкаванні, здавалася б, не мелі б на іх ні часу ні здольнасьцей.

Калі больш не існуе спадчынных багаццяў, станавых прывілеяў і прэрагатываў, злучаных з радавітасьцю і калі крыніца магутнасьці кожнага

чалавека заключана толькі ў ім самім, робіцца відавочным, што галоўным фактарам, вызначаючым адрозненне багаццяў, з'яўляецца інтэлект. Усё тое, што спрыяе ўзмацненню, абагачэнню памяці і развіццю розуму, адразу ж знаходзіць вялізную каштоўнасць.

Карыснасць ведаў з вельмі незвычайнай выразнасьцю адчыняецца нават перад позіркам натоўпу. Тыя, каго не захапляе працэс спазнання, высока шануюць яго за вынікі і распачынаюць намаганні ў напрамку набыцця сякіх-такіх ведаў.

У часы асьвечанай і вольнай дэмакратыі нішто не падзяляе людзей і нішто не ўтрымлівае іх на сваіх месцах; яны падымаюцца ўгару па грамадзкіх усходах ці ж скочваюцца ўніз са дзіўляючай хуткасьцю. Прадстаўнікі ўсіх грамадзкіх станаў увесь час маюць стасункі паміж сабой, таму што яны вельмі блізкія адзін да аднаго. Яны штодня бачацца і абменьваюцца думкамі, пераймаючы і зайздросьцячы адзін аднаму; дзякуючы гэтаму ў народзе з'яўляецца шмат такіх ідэй, разуменняў і жаданняў, пра існаванне якіх ён бы і не падазраваў, калі б грамадства было нерухомым і строга падзеленым на рангі. Пад час дэмакратыі слуга ніколі не бывае цалкам чужым забавам і намаганням свайго гаспадара, бядняк – працы і вольнаму часу багацея; вясковы жыхар імкнецца быць падобным на гараджаніна, а правінцыял – на жыхара сталіцы.

Таму асобу не так проста абмежаваць чыста матэрыяльнымі заклапочанасьцямі і самы просты рамеснік будзе час ад часу ўпотай прагна пазіраць на самыя высокія сферы разумовай дзейнасьці. Стаўленне да чытання і да кніг у асяроддзі дэмакратычнага народу цалкам іншае, чым падчас арыстакратычнага кіравання; аднак яго чытаючае кола будзе ўвесь час пашырацца, уключыўшы ў сябе, у канчатковым выніку, усіх грамадзянаў.

Як толькі натоўп пачынае цікавіцца разумовай працай, ён усведамляе, што поспехі ў нейкай із інтэлектуальных сфер у вялізнай ступені дапамагаюць чалавеку знайсьці славу, магутнасць і багацце. Народжанае роўнасьцю неспакойнае славалюбства адразу ж пачынае дзейнічаць у гэтым, як і ў кожным іншым перспектыўным накірунку. Колькасць цікавячыхся навуковай дзейнасьцю, літаратурай і мастацтвамі робіцца вялізнай. У сьвеце інтэлектуальнай творчасьці назіраецца незвычайная актыўнасць; кожны спрабуе знайсьці ў ёй свой уласны шлях і гэтым прыцягнуць да сябе ўвагу атачаючых. Нешта падобнае адбываецца ў палітычным жыцці Злучаных Штатаў; палітычныя рашэнні тут часта недасканалыя, але ім няма злічэння; і, хаця вынікі індывідуальных намаганняў звычайна вельмі сьціплыя, іхны сумесны эфект заўсёды вельмі вялікі.

Такім чынам, цьверджанне пра тое, што людзі, жывучыя ў часы дэмакратыі, надзелены натуральнай абыякавасьцю да навук, літаратуры і мастацтваў, не з'яўляецца сапраўдным; патрэбна прызнаць толькі тое, што яны культывуюць іх на асаблівы манер, дадаючы да іх свае ўласныя вартасьці і недахопы.

# Глава X

## Чаму амерыканцы больш цікавяцца практычным ужываннем навук, а не іхнымі тэарэтычнымі аспектамі

Хаця дэмакратычная дзяржаўнасць і дэмакратычныя інстытуты і не стрымліваюць развіцця чалавечага мышлення, яны, бясспрэчна, спрыяюць таму, што яго намаганні канцэнтруюцца пераважна ў нейкіх вызначаных накірунках на

шкоду іншым. Гэтыя намаганні, абмежаваныя такім чынам, усё ж такія вялікія, што, я спадзяюся, мне прабачаць кароткі прыпынак у ходзе выкладання з мэтай разгледзець дадзеную праблему.

Некаторыя назіранні, зробленыя намі раней, калі гаворка ішла пра філасофскі метад амерыканцаў, з’яўляюцца цалкам прыдатнымі для гэтай мэты.

Роўнасць спараджае ў кожнага чалавека жаданне самому рабіць высновы пра ўсё; яна ва ўсіх дачыненнях распрацоўвае ў чалавеку густ да прадметаў рэчаісных і адчуваемых, выхоўваючы пагарду да традыцый і фармалізму. Гэтыя агульныя псіхалагічныя асаблівасьці перадусім выяўляюцца ў тым, чаму прысвечана дадзеная глава.

Людзі, займаючыяся навуковай дзейнасьцю ва ўмовах дэмакратычнага грамадзкага ўладкавання, увесь час адчуваюць баязнь, як бы ім не згубіцца ў сьвеце ўтопій. Яны не давяраюць сістэмам, яны аддаюць перавагу моцна трымацца за факты і вывучаюць іх дзеля іх саміх; дзякуючы таму што ніякае найменне не выклікае ў іх безумоўную павагу, яны ніколі не выяўляюцца схільнымі верыць настаўніку на слова, але, наадварот, пачнуць няспынныя пошукамі слабога месца ў яго вучэнні. Навуковыя традыцыі амаль не маюць над імі ўлады; яны ніколі не будуць марнаваць шмат часу на вывучэнне нюансаў нейкай навуковай школы і іх цяжка завабіць гучнымі словамі; яны спасьцігаюць, наколькі выяўляюцца здольнымі, асноўныя раздзелы цікавячага іх прадмета і паважаюць выкладаць іх простымі выказваннямі. Навуковыя пошукі, такім чынам, носяць больш энергічны, вольны і ўпэўнены характар, але іхныя мэты выяўляюцца менш узвышанымі.

Розум у стане, як мне ўяўляецца, падзяляць навуковыя спазнанні на трыársткі.

Першую частку складаюць найбольш чыстыя тэарэтычныя прынцыпы і самыя абстрактныя разуменні, практычнае ўжыванне якіх пакуль яшчэ не вядома ці ж можа быць здзейснена ў далёкай будучыні.

Другая частка складаецца із агульных праўд, якія, усё яшчэ засноўваючыся на чыстай тэорыі, тым часам вядуць прамым і кароткім шляхам да практыкі.

Метады практычнага выкарыстання і сродкі рэалізацыі навуковых ведаў уяўляюць сабой трэццюю частку.

Кожная із гэтых частак навукі можа культывавацца ў асобнасьці, хаця розум і досьвед вучаць нас, што адна із іх не здолее мець поспеху на працягу доўгага часу, калі яе цалкам адарваць ад двух іншых.

У Амерыцы чыста практычная навука распрацавана вельмі добра, тут клапатліва ставяцца і да тых раздзелаў тэорыі, якія надзённа неабходны для практычнага ўжывання, – у дадзеным дачыненні амерыканцы заўсёды дэманструюць мышленне яскравае, вольнае, арыгінальнае і плённае; аднак у Злучаных Штатах амаль немагчыма знайсьці чалавека, які прысьвяціў бы сябе заняткам фундаментальнымі, тэарэтычнымі і абстрактнымі раздзеламі чалавечых ведаў. У гэтым амерыканцы даводзяць да крайнасьці тую тэндэнцыю, якая, як я лічу, з’яўляецца характэрнай, хаця і ў меншай ступені, для ўсіх дэмакратычных народаў.

Вышэйшыя навукі ці ж вышэйшыя раздзелы навук ні ў чым так востра не маюць патрэбы, як у глыбакадумным назіранні, у абдумванні, і няма нічога менш прыдатнага для падобных заняткаў, чым дэмакратычнае ўладкаванне жыцця грамадства. Тут няма, у адрозненні ад арыстакратычных дзяржаваў, шматлікага стану, якому не патрэбна ні пра што турбавацца, таму што ў яго ўсё заўсёды ў

поўным парадку, а таксама іншага стану, які нічога не робіць таму, што страціў надзею палепшыць сваё становішча. Тут кожны дзейнічае: адны жадаюць дасягнуць улады, другія – завалодаць багаццем. Пасярод гэтай усеагульнай мітусьні, гэтага пастаяннага сутыкнення процілеглых зацікаўленасьцей, сярод гэтага мора людзей, якія круцяцца ў пошуках багацця, ці магчыма знайсьці заспакаенне, патрэбнае для складаных інтэлектуальных пабудоваў? Якім чынам затрымаць сваю думку на адной із такіх тэм, калі ўсё навакол рухаецца і самога чалавека кожны дзень валачэ з сабой і калыша гэты нястрымліваемы, усё на сьвеце пераварочваючы струмень?

Патрэбна выразна адрозніваць гэты від хранічнай узрушанасьці, пануючы ў нетрах мірнай, ужо цалкам склаўшайся дэмакратыі, ад тых бязладных і бурных рэвалюцыйных рухаў, якія амаль заўсёды спадарожнічаюць нараджэнню і развіццю дэмакратычнага грамадства.

Калі бурная рэвалюцыя адбываецца ў краіне, народ якой вельмі цывілізаваны, яна непазбежна надае пачуццям і ідэям, авалодваючымі людзьмі, нечаканы імпульс.

Асабліва гэта справядліва для тых дэмакратычных рэвалюцый, якія, разам прыводзячы ўсе станы дадзенага грамадства ў рух, адначасова вельмі распальваюць славалюбства ў сэрцы кожнага грамадзяніна.

Калі французы раптам дасягнулі такіх выдатных вынікаў у вобласьці дакладных навук у той самы момант, калі яны завяршалі знішчэнне парэшткаў старога феадальнага грамадства, то гэтую нечаканую пладзючасць думкі патрэбна аднесьці да заслуг не самой дэмакратыі, а той беспрэцэдэнтнай рэвалюцыі, якая спрыяла яе развіццю. Адбываўшаяся тады насіла характар прыватнага выпадку і было б неабдуманым ставіцца да яго як да праявы ўсеагульнай заканамернасьці.

Вялікія рэвалюцыі ў асяроддзі дэмакратычных народаў здараюцца не часьцей, чым у іншых народаў; асабіста я нават схільны лічыць, што яны бываюць у іх радзей. У нетрах гэтых нацый, аднак, пануе лёгкі, прыглушаны неспакой, свайго роду пастаяннае шараванне людзей адзін аб аднаго, якое хвалюе і адцягвае душу, не натхняючы і не ўзвышаючы яе.

Людзі, жывучыя ў дэмакратычным грамадстве, не толькі з цяжкасьцю аддаюцца глыбакадумным разважанням, але і, натуральна, не надаюць ім асаблівага значэння. Дэмакратычнае грамадскае ўладкаванне і яго інстытуты далучаюць асноўную масу людзей да бесперапыннай дзейнасьці; аднак навыкі мышлення, выпрацоўваемыя падчас дзейнасьці, не заўсёды з'яўляюцца спрыяльнымі для сапраўднага мышлення. Чалавек справы часта бывае вымушаны задавальняцца вынікамі прыкладнымі, прыблізнымі, таму што ён ніколі б не здолеў да канца рэалізаваць сваю задуму, калі б меў жаданне у кожнай яго дэталі дамагчыся дасканаласьці. Яму патрэбна няспынна засноўваць свае дзеянні на ідэях, абдумаць якія глыбока і ўсебакова ў яго не было вольнага часу, дзякуючы таму што своечасовасць ідэі для яго часта з'яўляецца больш карысная чым яе строгая праўдзівасць; акрамя таго, ён менш рызыкуе, карыстаючыся некаторымі ілжывымі прынцыпамі і не выдаткуючы свайго часу на ўсталяванне праўдзівасьці ўсіх гэтых прынцыпаў. Сьветам кіруюць не тыя праўды, якія патрабуюць доўгіх навуковых доказаў. Хуткае авалодванне пэўным фактам, штодзённае вывучэнне пераменлівых жарсьцяў натоўпу, уменне імгненна скарыстацца патрапіўшымся спрыяльным выпадкам вызначаюць поспех ва ўсіх справах.

Пад час перыядаў, калі амаль увесь сьвет дзейнічае, празмерная каштоўнасць звычайна прыпісваецца імклівым парывам розуму і ствараемым ім павярхоўным канцэпцыям і, наадварот, бязмерна губляе каштоўнасць яго глыбокая, павольная праца.

Падобнае стаўленне грамадзкай думкі ўплывае на меркаванні людзей, займаючыхся навуковай дзейнасьцю; яно пераконвае іх у тым, што яны цалкам могуць абыйсьціся і без глыбокіх разважанняў, ці ж аддаляе іх ад тых праблем, якія патрабуюць надзвычайнай засяроджанасьці.

Займацца навукай можна па-рознаму. Шмат хто із людзей ставяцца да інтэлектуальных вынаходніцсваў з эгаістычнай, карыслівай, практычнай цікавасьцю і іхную гарачнасць нельга блытаць з полымем таго бескарыслівага запалу, які палае ў сэрцах нешматлікіх; з аднаго боку, смага ўтылізаваць свае веды, з другога – апантанасць чыстым жаданнем спазнання. У мяне няма сумневаў, што зрэдку ў асобных людзей у душы нараджаецца жарснае, нязгасаючае імкненне да праўды, якой яны жывуць і безперапынна адчуваюць асалоду, не адчуваючы перанасычэння. Гэтая палкая, ганарлівая, бескарыслівая павага да праўды вядзе людзей прама да абстрактных вытокаў праўды, каб яны чэрпалі адтуль свае асноўныя думкі.

Калі б Паскаль разлічваў толькі на нейкую значную асабістую выгаду ці нават калі б ім рухала выключна жаданне ўласнай славы, я не думаю, што ён калі-небудзь здолеў бы сабраць разам, як гэта ў яго атрымоўвалася, усе здольнасьці свайго інтэлекту, каб мець магчымасць адкрываць самыя патаемныя сакрэты Стваральніка. Калі я ўяўляю сабе, з якой строгасьцю ён засьцерагаў сваю душу ад дробных клопатаў жыцця, каб аддаць яе ўсю, цалкам, гэтым пошукам, і як, дачасова разарваўшы сувязі паміж душой і целам, ён памёр, не дасягнуўшы саракагадовага веку, я застываю ў здзіўленні, разумеючы, што падобныя надзвычайныя намаганні не маглі быць выклiканымі нейкай пасрэднай нагодай.

Будучыня пакажа, ці здольны гэты, такі рэдкі і такі плённы запал, з такой жа лёгкасьцю нараджацца і развівацца ва ўмовах дэмакратыі, як і ў часы арыстакратычнага кіравання. Што асабіста да мяне, то я веру ў гэта не вельмі.

У арыстакратычных грамадствах стан, кіруючы грамадзкай думкай і кіруючы справамі, увесь час, з пакалення ў пакаленне, стаіць над масай і таму ён натуральным чынам прыходзіць да ўзнёслага ўяўлення пра самога сябе і пра чалавека ў цэлым. Гэты стан ахвотна вынаходзіць для сябе гераічныя ўцехі і прызначае ў якасьці сваіх жаданняў хвалебныя мэты. Арыстакратыі часта здзяйснялі вельмі тыранічныя і нялюдзкія справы, але яны рэдка спараджалі подлыя думкі, дэманструючы свайго роду ганарлівую пагарду да нізкіх задавальненняў нават тады, калі аддаваліся ім самі: гэта наладжвае душы ўсіх на вельмі высокі лад. Пад час арыстакратычных перыядаў пашыраюцца самыя розныя ідэі, злучаныя з уяўленнямі пра вартасць, магутнасць і веліч чалавека. Як і на ўсіх іншых людзей, гэтыя ідэі ўплываюць на дзеячоў навукі, стымулюючы натуральныя парывы душы да самых высокіх сфер думкі і падрыхтоўваючы яе да нараджэння узнёслай, амаль боскай павагі да праўды.

Навукоўцы гэтай эпохі адпаведна маюць схільнасць да тэорыі, і нават вельмі часта здараецца так, што пры гэтым яны засвойваюць неразважлівае грэбаванне да практыкі. «Архімед, – паведамляе Плутарх, – сэрцам быў такі узнёслы, што ніводнага разу не здагадаўся напісаць хаця б адну працу ў якой бы ён паведаміў пра спосаб вырабніцства і ўсталявання ўсіх гэтых баявых машын і, лічачы ўсю

гэтую навуку злучаную з вынаходніцтвам і зборкай прылад, а таксама ў цэлым усе віды майстэрства маючыя хаця б нейкую практычную карысць, нікчэмнымі, нізкімі і карыслівымі, ён займаў свой розум і час тым, што складаў творы толькі пра такія рэчы, хараство і выдасканаленая складанасць якіх не мелі ў сабе ніякага дамешку карыснага». Гэта чыста арыстакратычнае стаўленне да навукі.

Яно не можа быць такім жа ў дэмакратычных народаў.

Большая колькасць людзей, складаючых дэмакратычныя нацыі, прагна імкнецца да матэрыяльных, імгненных асалод, роўна як адчувае пастаянную незадаволенасць сваім становішчам і заўсёды гатова перамяніць яго; таму яны не думаюць ні пра што іншае, акрамя як пра сродкі паляпшэння сваёй долі ці пра памнажэнне свайго багацця. Людзям з падобным складам думак кожны новы метад, вядучы да абагачэння больш кароткім шляхам, кожная машына, памяншаючая аб’ём працы, кожная прылада, зніжаючая кошт вытворчасьці і кожнае вынаходніцтва, робячае асалоды больш даступнымі і разнастайнымі, здаюцца самымі вялікімі дасягненнямі чалавечага розуму. Дэмакратычныя народы адчуваюць прыхільнасць да навук, разумеюць іхную ролю і шануюць іх галоўным чынам з гэтага боку гледжання. Пад час арыстакратычных стагоддзяў ад навукі галоўным чынам патрабуецца ўменне дастаўляць інтэлектуальныя асалоды, пад час дэмакратычных жа стагоддзяў – задавальненні фізічныя.

Можна выказаць здагадку, што чым больш дэмакратычны, асьвечаны і вольны народ, тым больш вялікай у яго будзе колькасць гэтых эгаістычных знаўцаў навуковага генію і тым больш вялікія дасягненні будуць мець навуковыя вынаходніцствы, непасрэдна запазычваемыя прамысловасьцю, прыносячыя славу і нават уладу сваім аўтарам, дзякуючы таму што пры дэмакратыі працоўны стан бярэ ўдзел у грамадзкіх справах і тыя, хто яму служыць, могуць зарабіць як ушанаванні, так і грошы.

Лёгка ўявіць сабе, што ў грамадстве, арганізаваным падобным чынам, у свядомасьці людзей падсвядома будзе прысутнічаць непавага да тэорыі і што, наадварот, яны павінны будуць адчуваць не маючую прыкладаў цягу да практычнай навукі ці, прынамсі, да тых раздзелаў тэорыі, якія неабходны для практыкаў.

Дарэмна інстынктыўныя схільнасьці будуць падштурхоўваць іхны розум да вышэйшых інтэлектуальных сфер – асабістая зацікаўленасць неадменна верне іх у сярэднія сферы. Менавіта тут іхны дух дэманструе сваю магутнасць і сваю неспакойную энергію, ствараючы цуды. Тыя самыя амерыканцы, якія ніколі не вынайшлі ніводнага агульнага закона механікі, далі мараплаўству новую машыну, перамяніўшую аблічча сусьвету.

Я, вядома, далёкі ад думкі, што дэмакратычныя народы нашага часу вырачаны пабачыць, як згасаюць трансцэндэнтныя ліхтары чалавечага розуму, ці нават ад думкі пра тое, што яны не здолеюць запаліць у сваіх грудзях новыя ліхтары. На нашай стадыі развіцця чалавецтва, калі столькі адукаваных народаў адчуваюць пастаянную прагнасць да прадукцыйнай працы, сувязі, злучаючыя паміж сабой розныя часткі навукі, не могуць выслізнуць ад іхнай увагі; і сам густ да практыкі, калі ён культурны, павінен прызвычаіць людзей з павагай ставіцца да тэорыі. Калі столькі намаганняў выдаткуецца на практычнае прыстасаванне навуковых ведаў, калі штодня робіцца такая вялікая колькасць эксперыментаў, амаль немагчыма, каб запар і побач не выяўляліся вельмі агульныя

заканамернасьці. Такім чынам, вялікія адкрыцці будуць здзяйсняцца ў іх часта, хаця вялікія навукоўцы стануць рэдкімі.

Да таго ж я веру ў высокую місію навуковага паклікання. Калі дэмакратыя і не ў стане стымуляваць заняткі навукамі дзеля іх саміх, то, ва ўсякім разе, яна значна павялічвае колькасць займаючыхся імі людзей. Цяжка паверыць у тое, што сярод гэтай вялікай шматлікасьці час ад часу не будзе з'яўляцца нейкі геній абстрактнага складу мышлення, натхняемы адной толькі павагай да праўды. Можна быць упэўненым у тым, што такі геній здолее выведаць самыя глыбінныя таямніцы прыроды, якімі б ні былі настроі думак у яго час у яго краіне. Палёт яго думкі не мае патрэбы ў падтрымцы: дастаткова і таго, каб яму не перашкаджалі. У цэлым жа ўсё, што я хачу сказаць, зводзіцца да наступнага: пастаянная няроўнасць умоваў існавання падахвочвае людзей абмяжоўвацца ганарлівымі, стэрыльна чыстымі пошукамі абстрактных праўд, тады як дэмакратычная дзяржаўнасць і інстытуты схіляюць людзей да таго, што ад навукі яны чакаюць толькі неадкладных, практычна карыснах вынікаў.

Гэтая тэндэнцыя выяўляецца натуральнай і непазбежнай. Яна з'яўляецца цікавай сама па сабе і, магчыма, заслугоўвае асаблівай увагі.

Калі асобы, закліканыя ў нашы дні кіраваць народамі, выразна і загадзя ўсведамляюць з'яўленне гэтых новых імпульсаў, якія ў хуткім часе стануць непераадольнымі, яны здолеюць зразумець, што з наступленнем эры асьветы і вольнасьці людзі, жывучыя пад час стагоддзяў дэмакратыі, самі абавязкова ўдасканаляць прамыслова важныя раздзелы навук і што надалей усе намаганні дзяржаўнай улады павінны быць накіраваны на падтрымку чыстых тэарэтычных даследаванняў і выхаванне ў людзях жарснай прагнасьці да спазнання.

У наш час неабходна падтрымліваць цікавасць людзей да тэорыі; цягу да практыкі яны захаваюць самі і, замест таго каб няспынна канцэнтраваць свядомасць на дэталёвым разгляданні другасных з'яваў, было б нядрэнна часам абстрагавацца ад іх з мэтай узвысіць усведамленне да сузірання першападстаў.

У сувязі з тым што рымская цывілізацыя загінула з нагоды нашэсьця варвараў, мы, магчыма, залішне схільны лічыць, што цывілізацыя ніякім іншым спосабам загінуць не ў стане.

Калі крыніцам святла, асьвятляючага наш шлях, наканавана некалі патухнуць, яны будуць цьмянець паступова і загаснуць як бы самі па сабе. Абмежаваўшыся вывучэннем практычных навук, можна згубіць із выгляду асноўныя прынцыпы і калі яны выявяцца цалкам забытымі, мы будзем дрэнна карыстацца выведзенымі із іх метадамі і можа здарыцца так, што мы, страціўшы ўменне ствараць новыя метады, будзем бяздумна і нязграбна карыстацца тымі навуковымі прыёмамі сутнасьці якіх мы ўжо не здолеем зразумець.

Калі еўрапейцы трыста гадоў назад высадзіліся ў Кітаі, яны знайшлі, што там амаль усе мастацтвы і рамёствы дасягнулі вызначанай ступені дасканаласьці і былі здзіўлены той акалічнасьцю, што кітайцы, развіўшыся да гэтай мяжы, не пайшлі далей. Крыху пазьней еўрапейцы знайшлі там сякія-такія парэшткі тых глыбокіх ведаў, якія выявіліся згубленымі. Нацыя была прамысловай; у сваёй дзейнасьці яна здолела захаваць большасць навуковых метадаў, але сама навука там больш не існавала. Гэта патлумачыла еўрапейцам тое дзіўнае духоўнае здранцьвенне, якое яны выявілі ў асяроддзі гэтага народа. Кітайцы, ідучы па слядах сваіх бацькаў, забыліся пра кіраваўшыя імі матывы. Яны яшчэ карысталіся формуламі, не спрабуючы аднавіць іхны сэнс; яны зберагліі прылады працы, але не захавалі

ўменне ствараць і перамяняць іх. Такім чынам, кітайцы нічога не былі ў стане перапрацаваць. Яны павінны былі адмовіцца ад ідэі прагрэсу. Яны былі вымушаны заўсёды і ва ўсім пераймаць у сваіх бацькоў, каб не апынуцца ў непраглядным змроку, калі б яны хаця б на імгненне збочылі з пракладзенага да іх шляху. Крыніца чалавечых ведаў была амаль цалкам засмечана і, хаця яе струмень яшчэ бег, ён ужо не быў у стане стаць больш паўнаводным ці перамяніць сваю плынь.

І ўсё ж Кітай працягваў мірна існаваць на працягу стагоддзяў; яго заваёўнікі пераймалі яго норавы і звычаі; там панаваў парадак. Паўсюдна назіраліся прыкметы свайго роду матэрыяльнага дабрабыту. Рэвалюцыі адбываліся рэдка, а войнаў як такіх яны цалкам не ведалі.

Таму нам не варта суцяшаць сябе думкай пра тое, што варвары ад нас яшчэ далёка, таму што, акрамя народаў, дазваляючых з дапамогай гвалту выдраць светач праўды са сваіх рук, існуюць і іншыя, якія самі, уласнымі нагамі затоптваюць яго.

# Глава XI

## З якой мэтай амерыканцы выдаткуюць час на мастацствы

Я не маю намеру марнаваць час чытачоў і свой ўласны, даводзячы, якім чынам сярэднія памеры большасьці багаццяў, адсутнасць празмернасьцей, усеагульнае жаданне жыць добра і пастаянныя намаганні, пачынаемыя ўсімі і кожным з мэтай дасягнуць асабістага дабрабыту, вымушаюць людзей распрацоўваць у сваім сэрцы густ да карыснага за кошт павагі да выдатнага. Дэмакратычныя народы, адзначаныя ўсімі гэтымі асаблівасьцямі, распрацоўваюць тыя мастацтвы і рамёствы, якія робяць жыццё больш зручным, аддаючы перавагу перад тымі, мэта якіх – упрыгожванне жыцця; згодна са звычаем яны аддадуць перавагу карыснасьці перад хараством і жадалі б, каб само хараство было карысным.

Мне было б пажадана, аднак, пайсьці далей і, пазначыўшы галоўную рысу, абмяркаваць таксама і некаторыя іншыя.

Звычайна бывае так, што пад час стагоддзяў панавання прывілеяў занятак амаль усімі відамі мастацтва сам робіцца прывілеем, кожная прафесія ператвараецца ў замкнёны з усіх бакоў сьвет, у які далёка не кожнаму дазволена заходзіць. І нават калі нейкі із відаў мастацкай дзейнасьці вольны, нерухомасць, уласьцівая арыстакратычным нацыям, прыводзіць да таго, што ўсе тыя людзі, якія займаюцца адным і тым жа відам мастацтва ці рамяства, арганізуюцца, нарэшце, у выразна вызначаны стан, заўсёды складаючыся із адных і тых жа сямействаў усе асобы якіх ведаюць адзін аднаго і ў асяроддзі якіх хутка нараджаецца калектыўная думка і пачуццё карпаратыўнага гонару. Кожны мастак і рамеснік, належачы да вытворчага стана дадзенага тыпу, павінен не толькі зарабляць сабе багацце, але і ахоўваць сваё прафесійнае становішча. Наогул ён кіруецца не толькі асабістай выгодай і нават не зацікаўленасьцямі пакупніка, а зацікаўленасьцямі карпарацыі, якія палягаюць у тым, каб кожны майстар ствараў шэдэўры. Такім чынам, пад час арыстакратычных перыядаў мэта мастацтваў і рамёстваў вызначаецца патрэбай вырабляць рэчы як мага лепшыя, а не тым, каб вырабляць як мага хутчэй тавары, карыстаючыяся попытам.

Наадварот, калі кожная прафесія адчынена для ўсіх, калі шмат людзей няспынна то пачынаюць, то кідаюць ёю займацца, калі калегі не выяўляюцца

знаёмымі паміж сабой, не цікавяцца справамі адзін аднаго і амаль не сустракаюцца праз сваю шматлікасць, сацыяльныя сувязі паміж імі парушаюцца і кожны працаўнік, пакінуты на самога сябе, імкнецца толькі зарабіць як мага больш грошай пры найменшых выдатках; ён ні з чым не лічыцца, акрамя волі спажыўца. Хаця бывае так, што і спажывец адначасова саўдзельнічае ў адпаведным працэсе пераасэнсавання каштоўнасьцей.

У тых краінах, дзе багацце, як і ўлада, заўсёды сканцэнтраваны ў руках нешматлікіх, права карыстання ільвінай доляй даброт гэтага сьвету належыць невялікай пастаяннай колькасьці індывідаў; патрэбы, традыцыі, умеранасць жаданняў стрымліваюць ад асалоды карыстання гэтымі дабротамі ўсіх астатніх людзей.

Дзякуючы таму што гэты стан арыстакратыі, узнесены на вяршыню велічы, застаецца цалкам нерухомым, не памяншаючыся і не павялічваючыся ў колькасным дачыненні, яго патрэбы заўсёды застаюцца нязменнымі і выяўляюцца аднолькава. У людзях, якія належаць да гэтага стана і па спадчыне набываюць пануючае становішча, натуральным чынам развіваецца густ да цудоўна выкананых даўгавечных вырабаў.

Гэта ўплывае на агульныя ўяўленні нацыі пра мастацтва. Часта здараецца, што ў такіх народаў нават сяляне аддадуць перавагу застацца цалкам без рэчы іхнага жарснага жадання, чым набыць недасканалую па якасьці рэч.

У арыстакратычных грамадствах працаўнікі працуюць толькі для абмежаванага кола пакупнікоў, жаданні якіх вельмі цяжка задаволіць. Прыбытак, атрымліваемы майстрамі, галоўным чынам залежыць ад дасканаласьці іхнай працы.

Становішча робіцца іншым, калі ўсе прывілеі знішчаны, станы перамешваюцца і ўсе людзі няспынна апускаюцца ўніз і падымаюцца ўгару па сацыяльных усходах.

У кожным дэмакратычным грамадстве сустракаецца шмат грамадзянаў, якія пражываюць дастаўшаяся на іхную долю бацькаўскае багацце. Засвоеныя імі пад час лепшых перыядаў іхнага жыцця вызначаныя патрэбы, якія яны захоўваюць і тады калі ўжо больш не маюць магчымасьці іх задавальняць, вымушаюць гэтых людзей неспакойна адшукваць нейкія абыходныя шляхі здабывання згубленых магчымасьцей.

З іншага боку, у дэмакратычным грамадстве заўсёды існуе вельмі шмат людзей, чые багацці павялічваюцца, але чые жаданні павялічваюцца яшчэ хутчэй, чым іхныя багацці; гэтыя людзі вачамі пажыраюць усе тыя даброты, якія багацце абяцае ім задоўга да таго, як яны будуць здольнымі іх сабе дазволіць. Гэтыя людзі паўсюдна шукаюць спосабы скараціць шлях, вядучы іх да прадчуваемых задавальненняў. Сукупнасць гэтых двух сацыяльных відаў прыводзіць да таго, што ў дэмакратычных грамадствах заўсёды існуе шмат грамадзянаў, патрэбы якіх перавышаюць іхныя прыбыткі і якія ахвотна пагаджаюцца задавальняць іх хаця б часткова, чым цалкам адмовіцца ад аб’ектаў сваіх жаданняў.

Рамеснікі добра разумеюць гэтыя пачуцці, дзякуючы таму што яны самі адчуваюць іх: пад час перыяду арыстакратыі майстар імкнуўся прадаваць свае вырабы нешматлікім пакупнікам па вельмі вялікаму кошту; зараз ён бачыць, што можна хутчэй абагаціцца, прадаючы ўсім больш танныя тавары.

Але дамагчыся зніжэння кошту тавару можна толькі двума спосабамі.

Першы з іх складаецца ў распрацоўцы метадаў паляпшэння і паскарэння іхнай вытворчасьці на навуковым грунце. Другі шлях – выракляць большую колькасць амаль аднолькавых вырабаў, але горшай якасьці. У часы дэмакратыі ўсе разумовыя здольнасьці працаўніка засяроджаны на гэтых двух заданнях.

Ён імкнецца што ёсць моцы вынайсьці спосаб працаваць не толькі лепш, але і хутчэй, з меншымі выдаткамі і, калі гэта ў яго атрымліваецца, ён эканоміць, пагаршаючы ўнутраныя якасьці свайго вырабу не робячы яго, аднак, цалкам непрыдатным для ўжывання. Калі толькі заможныя людзі мелі гадзіннікі, амаль усе яны былі шыкоўна зроблены. Зараз пераважаючая большасць гадзіннікаў зроблена сярэдне, затое ўсе на сьвеце іх маюць. Такім чынам, дэмакратыя не толькі схіляе чалавечую свядомасць да карысных відаў мастацтва і рамёстваў, але і падахвочвае майстроў вельмі хутка выкрабляць шмат недасканалых рэчаў, а спажыўцоў – задавальняцца якасьцю гэтай прадукцыі.

Гэта не азначае, што пры дэмакратыі мастацтва не здольна пры патрэбе стварыць цудоўныя творы. Гэта часам здараецца, калі знаходзяцца пакупнікі, гатовыя аплаціць час і выдаткі майстра. Ва ўмовах вострага змагання ва ўсіх відах вытворчасьці, моцнай канкурэнцыі і незлічоных пошукаў абавязкова з'яўляюцца цудоўныя майстры ў дасканаласьці засвоіўшыя сакрэты сваёй прафесіі; аднак яны толькі ў рэдкіх выпадках маюць магчымасць паказваць усё, на што здольны: яны берагуць свае здольнасьці, яны свядома прытрымліваюцца залатой сярэдзіны, якую самі ж і вызначаюць і, хаця з'яўляюцца цалкам здольнымі перавысіць чакаемыя вынікі, засяроджваюць увагу толькі на пастаўленай перад сабой мэце. Наадварот, пры арыстакратыі майстры заўсёды працуюць на мяжы сваіх магчымасьцей і, калі іхныя вырабы не вельмі дасканалая, гэта адбываецца таму, што такімі з'яўляюцца межы іхнага майстэрства і ведаў.

Прыбыўшы ў нейкую краіну і пабачыўшы некалькі выдатных твораў мастацтва, створаных у гэтай краіне, я нічога яшчэ не магу сказаць пра яе дзяржаўнае ўладкаванне і палітычныя законы. Але калі я зразумеў, што творы мастацтва тут галоўным чынам сярэдняй якасьці, што рынак перапоўнены вялізнай колькасьцю танных тавараў, я ўпэўнены, што ў краіне, дзе гэта адбываецца, роля прывілеяў памяншаецца, станавыя перагародкі пачынаюць разбурацца і хутка ўсе станы пачнуць перамешвацца.

Майстры і рамеснікі, жывучыя пры дэмакратыі, не толькі імкнуцца зрабіць свае ўтылітарныя вырабы даступнымі для ўсіх грамадзянаў, але таксама што моцы імкнуцца надаць усёй сваёй прадукцыі вонкавы бляск, не адпавядаючы яе ўнутраным якасьцям.

Пры перамешванні ўсіх станаў кожны чалавек намагаецца выглядаць не тым, кім ён з'яўляецца ў рэчаіснасьці, і марнуе вялікія намаганні на тое, каб гэтага дамагчыся. Дэмакратыя не спараджае гэтае занадта натуральнае для чалавечага сэрца пачуцце, але яна яго матэрыяльна арэчаўляе: няшчырыя ўчыннасьці з'яўляюцца ўласцівымі для ўсім часоў, няшчырая раскоша з'яўляецца асабліва характэрнай для дэмакратычных стагоддзяў.

І няма такой хітрасьці, якой бы не скарысталася мастацтва і рамяство з мэтай задаволіць гэтыя новыя патрэбы, ствараемыя чалавечай ганарыстасьцю; стараннасць майстроў у дадзеным дачыненні часам заходзіць так далёка, што яны пачынаюць шкодзіць самі сабе. Людзі ўжо навучыліся так добра падрабляць дыяменты, што іх лёгка можна палічыць за сапраўдныя. Як толькі будзе вынайдзены спосаб выракляць такія фальшывыя дыяменты, што іх ужо будзе

немагчыма адрозніць ад сапраўдных, людзі, магчыма, страцяць цікавасць як да тых, так і да іншых і яны ператворацца ў простыя каменьчыкі.

Гэта прыводзіць мяне да размовы пра тыя віды мастацтва, якія маюць назву «вытанчаныя мастацствы».

Я не лічу, што дэмакратычная дзяржаўнасць з яе інстытутамі абавязкова павінна памяншаць колькасць людзей, якія займаюцца вытанчанымі мастацтвамі; аднак яны, інстытуты, робяць моцны ўплыў на характар і ролю гэтых відаў мастацтва. Дзякуючы таму што большасць людзей, стаўленне якіх да твораў вытанчаных мастацтваў ужо была сфармавана, зараз збяднелі, а, з другога боку, шмат хто із тых, хто яшчэ не стаў заможным, пераймаючы, пачалі выхоўваць у сабе густ да вытанчаных мастацтваў, агульная колькасць спажывальнікаў твораў мастацтва павялічваецца, а вось сапраўдных заможных знаўцаў робіцца значна менш. Шмат якія з'явы, адбываючыяся ў сферы вытанчаных мастацтваў, з'яўляюцца аналагічнымі тым, якія мы ўжо абмяркавалі, рзважаючы пра ўтылітарныя і спажывецкія віды мастацтва. Тут таксама назіраецца колькаснае павелічэнне прадукцыі і памяншэнне мастацкай каштоўнасьці кожнага вырабу.

Не маючы магчымасьці даўжэй імкнуцца да мастацкай велічы, майстры шукаюць элегантнасьці і кідаючагася ў вочы хараства; рэчаіснасць шануецца менш бачнасьці.

У арыстакратычных краінах была створана невялікая колькасць сапраўды вялікіх палотнаў, а ў дэмакратычных – вялікая кольксць прыемных выяваў. Арыстакратыі адліваюць свае манументы із бронзы, дэмакратыі ставяць помнікі із гіпсу.

Калі я ўпершыню падплываў да Нью-Ёрка з той часткі Атлантычнага акіяна, якая вядома пад назвай Іст-Рывер, я быў здзіўлены, пабачыўшы на беразе на некаторай адлегласьці ад горада некалькі невялікіх беламармуровых палацаў, частка якіх была пабудавана ў антычным стылі; на другі дзень, разгледзеўшы больш уважліва тую пабудову, якая асабліва прыцягнула мой позірк, я выявіў, што яе сьцены былі зроблены із цэглы, пабеленай вапнай, а калоны – із пафарбаванага дрэва. Усе будынкі, якімі я захапляўся напярэдадні, выявіліся такімі ж.

Дэмакратычныя сацыяльныя ўмовы і інстытуты, акрамя таго, абумоўліваюць з'яўленне ва ўсіх пераймальных мастацтвах цалкам вызначаных тэндэнцый, якія можна з лёгкасьцю выявіць. Маляры часта адмаўляюцца ад выявы душы, аддаючы перавагу маляваць толькі цела; выявай рухаў і ўражанняў яны падмяняюць увасабленне пачуццяў і думак, а на месца ідэалу яны, у канчатковым выніку, памяшчаюць рэчаіснасць.

Я сумняваюся, каб Рафаэль так жа паглыблена вывучаў драбнюткія дэталі чалавечага цела, як гэта робяць простыя мастакі нашых дзён. Ён не надаваў такога, як яны, значэння высокай ступені праўдзівасьці выявам падобных дэталяў, таму што лічыў, што яго мастацтва перавышае прыроду. Ён меў жаданне стварыць із чалавека істоту, перавышаючую чалавека; ён спрабаваў само хараство зрабіць яшчэ больш выдатным.

Наадварот, Давыд і яго вучні былі такім ж добрымі анатамістамі, як і мастакамі. Яны цудоўна аднаўлялі знаходзіўшыяся перад іхнымі вачамі мадэлі, але іхнае уяўленне рэдка нешта дадавала да гэтага; яны з дакладнасьцю адлюстррўвалі прыроду, тады як Рафаэль увасабляў нешта больш дасканалае, чым прырода. Яны пакінулі нам дакладную выяву чалавека, а тварэнні Рафаэля даюць нам магчымасць хаця б і не цалкам выразна пабачыць аблічча боскасьці.

Усё тое, што я паведаміў пра прынцыпы мастацкай трактоўкі ў малярстве, можна дапасаваць і да выбару сюжэтаў.

Мастакі Адраджэння, утаропіўшы позіркі ў нябёсы ці ж у глыбіню часоў, звычайна шукалі такія велічныя сюжэты, якія дазвалялі б напоўную разгуляцца іхнаму ўяўленню. Нашы маляры часта карыстаюцца сваім талентам для дакладнага адлюстравання падрабязнасьцей прыватнага жыцця, бесперапынна цякучага перад іхнымі пазіркамі, капіруючы ўсе куты звычайных прадметаў, арыгіналы якіх і сама прырода стварыла ў лішку.

# Глава XII

## Чаму амерыканцы адначасова будуюць такія маленькія і такія вялізныя пабудовы

Сказаўшы, што пад час стагоддзяў дэмакратыі помнікі мастацтва, павялічваючыся ў колькасным дачыненні, робяцца меншых памераў, я сам спяшаюся пазначыць, што ў гэтага правіла існуе выключэнне.

Пры дэмакратыі асобы вельмі нікчэмныя, але дзяржава, прадстаўляючая іх усіх і трымаючая іх усіх у сваіх руках, вельмі магутная. Нідзе грамадзяне не здаюцца такімі маленькімі, як у дэмакратычным грамадстве. Нідзе сама нацыя не здаецца такой вялізнай, што фантазія з лёгкасьцю малюе сабе яе грандыёзныя формы. У дэмакратычных грамадствах уяўленне людзей самаабмяжоўваецца, калі яны думаюць пра сябе, і бясконца пашыраецца, калі яны думаюць пра Дзяржаву. Даходзіць да таго, што насельніцтва, сціпла жывучае ў сваім цесным сядзібах, часта ўяўляе сабе нешта цалкам гіганцкіх памераў, калі гаворка заходзіць пра грамадзкія помнікі.

На тым месцы, дзе амерыканцы пажадалі заснаваць сваю сталіцу, яны абгарадзілі тэрыторыю, дастатковую для вялізнага горада, які ў наш час мае наўрад ці больш жыхароў, чым Пантуаз, але які хутка будзе мець іх мільён, як яны лічаць; таму яны ўжо зараз выкарчавалі дрэвы ў радыусе дзесяці лье, каб яны не стваралі цяжкасьцей будучым жыхарам гэтай уяўнай сталіцы. У цэнтры горада яны ўзвялі пышны палац, прызначаны для паседжанняў кангрэса, і далі яму пампезную назву Капітолій.

Некаторыя са штатаў штодня распрацоўваюць і ажыццяўляюць такія грандыёзныя праекты, што яны ўзрушылі б інжынерны геній вялікіх нацый Яўропы.

Такім чынам, дэмакратыя падахвочвае людзей не толькі вырабляць вялікую колькасць дробных вырабаў, але таксама ствараць і нешматлікія гіганцкія пабудовы. Паміж гэтымі дзвума крайнасьцямі, аднак, няма ўзаемасувязі. Некалькі захаваўшыхся разрозненых вялізных будынкаў, такім чынам, нічога яшчэ не паведамляюць пра дзяржаўнае ўладкаванне і грамадзкія інстытуты таго народа, які іх пабудаваў.

Хачу дадаць, хаця гэта выходзіць за межы маёй тэмы, што яны таксама нічога не паведамляюць пра веліч, асьвечанасць і сапраўдны росквіт гэтага народа.

Кожны раз, калі нейкая ўлада будзе здольнай накіраваць усе магчымасьці народа на выкананне нейкага аднаго праекта, у яе атрымаецца, не асабліва клапоцячыся пра майстэрства, выдаткаваўшы шмат часу, стварыць нешта вялізнае, із чаго, аднак, немагчыма будзе зрабіць выснову, што гэты народ вельмі шчаслівы,

вельмі асьвечаны ці хаця б вельмі моцны. Гішпанцы выявілі, што горад Мехіка меў шмат пышных храмаў і вялізныя палацы, але гэта ніколькі не перашкодзіла Картэсу заваяваць усю Мексіканскую імперыю маючы шэсць соцень пехацінцаў і шаснаццаць коней.

Калі б рымляне лепш ведалі законы гідраўлікі, яны б не пачыналі будаваць усе гэтыя акведукі, якія зараз атачаюць руіны іхных гарадоў і знайшлі б лепшае ўжыванне сваёй магутнасьці і багаццю. Вынайдзі яны паравы рухавік, яны, магчыма, не сталі б высьцілаць зямлю доўгімі адмыслова выдзеўбанымі каменнымі плітамі аж да крайніх межаў сваёй імперыі, будуючы так званыя «рымскія дарогі».

Гэтыя пабудовы з’яўляюцца выдатнымі помнікамі іхнага невуцтва і адначасова – іхнай велічы.

Народ, які не пакіне ніякіх іншых сведчанняў свайго існавання, акрамя некалькіх свінцовых труб у зямлі і сталёвых распорак паміж рэйкамі на яе паверхні, цалкам мог бы быць больш магутным валадаром прыроды, чым рымляне.

# Глава XIII

## Літаратурнае жыццё пад час стагоддзяў дэмакратыі

Калі вы ў Злучаных Штатах наведаеце кніжную краму і станеце ўважліва разглядаць амерыканскія кнігі на забітых імі палічках, колькасць назваў твораў уявіцца вам занадта вялікай, тады як, наадварот, твораў, належачых вядомым аўтарам, будзе занадта мала.

Перадусім вы знойдзеце шмат папулярных навуковых трактатаў, прызначаных пазнаёміць чытачоў з элементарнымі асновамі чалавечых ведаў. Пераважаючая частка гэтых прац была напісана ў Яўропе. Амерыканцы перавыдаюць іх, прыстасоўваючы для ўласных патрэб. Потым ідуць амаль незлічоныя рэлігійныя выданні: Біблія, павучанні, набожныя апавяданні, палемічныя трактаты, справаздачы дабрачынных устаноў. Сьледам за імі ідзе доўгі каталог палітычных памфлетаў: у Амерыцы партыі, ваюючы адна з адной, выдаюць не кнігі, а памфлеты, маючыя выгляд брашур, якія раскупляюцца з невегоднай хуткасьцю, праз дзень старэючы і паміраючы.

Сярод масы ўсёй гэтай шэрай літаратурнай прадукцыі, створанай чалавечым розумам, асабліва выдатнымі здаюцца тварэнні невялікай колькасьці аўтараў, вядомых у Яўропе ці годных таго, каб быць там вядомымі.

Хаця Амерыка нашых дзён, магчыма, менш чым усе іншыя цывілізаваныя краіны звяртае ўвагу на літаратуру, усё ж і тут сустракаецца шмат людзей, цікавячыхся духоўнай культурай, якія калі і не прысвячаюць ёй усё сваё жыццё, то, прынамсі, прысьвячаюць ёй гадзіны свайго вольнага часу. Аднак большасць кніг, у якіх маюць патрэбу падобныя чытачы, ствараецца ў Ангельшчыне. Амаль усе значныя творы ангельскіх пісьменнікаў перавыдадзены ў Злучаных Штатах. Літаратурны геній Вялікабрытаніі асвятляе сваімі прамянямі лясныя гушчары Новага Сьвету. Наўрад ці знойдзецца халупа піянера-землепраходніка, у якой няма хаця б некалькіх разрозненых тамоў Шэкспіра. Згадваецца, я сам першы раз прачытаў феадальную драму «Генрых V» у бярвенчатай сядзібе.

Амерыканцы не проста чэрпаюць штодня свой духоўны пажытак са скарбніцы ангельскай літаратуры, але і можна сказаць з поўнай упэўненасьцю, што яны распрацоўваюць літаратуру Ангельшчыны на сваёй уласнай глебе. Із малой

колькасьці людзей, якія займаюцца ў Злучаных Штатах складаннем літаратурных твораў, вялікая частка – ангельцы па паходжанню і, асабліва, па складу розуму. Дзякуючы гэтаму яны пераносяць у дэмакратычнае асяроддзе мастацкія ідэі і літаратурныя манеры, існуючыя ў літаратуры арыстакратычнай нацыі, якую яны разглядаюць у якасьці мадэлі. Яны малююць запазычанымі фарбамі чужыя норавы, амаль ніколі не малюючы рэчаіснае жыццё той краіны, дзе нарадзіліся, яны рэдка карыстаюцца ў ёй папулярнасьцю.

Грамадзяне Злучаных Штатаў так паверылі ў тое, што кнігі выдаюцца не для іх, што перш чым вынесьці ўласнае меркаванне адносна вартасьцей каго-небудзь са сваіх пісьменнікаў, яны звычайна чакаюць, як яго прымуць у Ангельшчыне. Гэтае стаўленне ў нейкім сэнсе нагадвае сітуацыю ў малярстве, калі аўтару арыгінала самаахвотна саступаюць права ацэньваць копію.

Такім чынам, жыхары Злучаных Штатаў, па сутнасьці, яшчэ не маюць уласнай літаратуры. Адзіныя аўтары, якіх я лічу сапраўднымі амерыканцамі, гэта журналісты. Яны валодаюць сьціплым літаратурным талентам, але яны выказваюцца на мове сваёй краіны і іх чуюць. Усе астатнія літаратары мне здаюцца тут чужакамі. Амерыканцы ставяцца да іх так жа, як мы пад час эпохі адраджэння вытанчанай літаратуры ставіліся да імітатараў старажытнагрэцкай і старажытнарымскай літаратур, то бок з цікавасьцю, але без усеагульнай сімпатыі. Яны здольны забаўляць людзей, але не ўплываюць на іхныя норавы.

Я ўжо выказваўся, што дадзены стан рэчаў цалкам не абумоўлены выключна толькі дэмакратычным характарам дзяржаўнага ўладкавання і што яго нагоды патрэбна шукаць у тых пэўных акалічнасьцях, якія наогул не залежаць ад дэмакратыі.

Калі б амерыканцы, цалкам захоўваючы сваё дзяржаўнае ўладкаванне і заканадаўства, мелі б іншае паходжанне і засялілі б іншую зямлю, я не сумняваюся, што яны стварылі б сваю літаратуру. Што да іхнага сягодняшнага стану, то я ўпэўнены, што яны, напрыканцы, створаць літаратуру, але яна будзе мець уласны, адпавядаючы ім характар, карэнным чынам адрозніваючыся ад той літаратуры, якую ствараюць амерыканскія пісьменнікі нашых дзён. Гэты характар магчыма папярэдне намаляваць ў агульных рысах.

Будзем лічыць, што літаратурай цікавіцца нейкі народ жывучы ва ўмовах панавання арыстакратыі; у гэтым выпадку разумовая праца так жа, як і справы, злучаныя з дзяржаўным кіраваннем, кантралюецца пануючым станам. Літаратура, як і ўсё грамадзкае жыццё, амаль цалкам сканцэнтравана ў руках гэтага стана ці ж найбольш блізкіх да яго станаў. Дадзеная акалічнасць, на маю думку, дае ключ да разумення ўсёй сітуацыі ў цэлым.

Калі ў адзін і той жа час аднымі і тымі ж пытаннямі цікавіцца невялікае, заўсёды пастаяннае адпаведна са складам кола людзей, яны з лёгкасьцю разумеюць адзін аднаго і ствараюць нейкія агульныя правілы, на якія павінен будзе арыентавацца кожны із іх. Калі ўвага гэтых людзей засяроджана на літаратуры, творчая праца іхнага духу хутка выявіцца падначаленай некалькім строгім законам, адыходзіць ад якіх будзе немагчыма.

Калі становішча гэтых людзей вызначаецца іхнымі спадчыннымі правамі, яны натуральным чынам будуць схільнымі не толькі ўсталёўваць свае ўласныя цьвёрдыя правілы, але і падпарадкоўвацца тым, якія былі наказаны іхнымі продкамі; збор іхных законаў будзе адначасова і строгім і традыцыйным.

Дзякуючы таму што яны не адчуваюць і ніколі не адчувалі патрэбы клапаціцца пра набыццё матэрыяльных даброт, так жа як і іхныя бацькі, яны мелі магчымасць на працягу некалькіх пакаленняў займацца разумовай дзейнасьцю. Яны мелі магчымасць вывучаць літаратуру як асобны від мастацтва і шанаваць яе дзеля яе самой, выпрацаваўшы ў сабе акадэмічны густ, ацэньваючы ўменне мастака падначальвацца канонам.

І гэта яшчэ не ўсё: людзі, пра якіх я кажу, пачынаюць і заканчваюць сваё жыццё ў дастатку ці багацці; таму ў іх натуральным чынам развіваецца густ да вытанчаных асалод і павага да вытанчаных, далікатных задавальненняў.

Больш таго, некаторая спешчанасць духу і сардэчная млявасць, набытыя імі часьцяком на працягу доўгага і ціхамірнага карыстання ўсімі дабротамі, прымушаюць іх пазбягаць нават тых задавальненняў, у якіх ім можа сустрэцца нешта цалкам нечаканае і жывое. Яны аддаюць перавагу забаўляцца, не выпрабоўваючы моцных хваляванняў; яны жадаюць, каб, абуджаючы ў іх цікавасць прадмет не захапляў бы іх цалкам.

А зараз паспрабуйце ўявіць сабе значную колькасць літаратурных твораў, напісаных людзьмі, якіх я паспрабаваў апісаць, ці ж напісанных для такіх людзей і вы без цяжкасьцей прыйдзеце да высновы, што ў падобнай літаратуры ўсё будзе загадзя спарадкавана і ўзгоднена. Самы нязначны із твораў будзе старанна адшліфаваны ў самых маленькіх яго прыватнасьцях; майстэрства і упартасць выдумшчыка будуць выяўляцца ва ўсім; кожны жанр будзе мець свае асобныя правілы, якія немагчыма парушаць і якія аддзяляюць яго ад усіх астатніх жанраў.

Стыль пачне здавацца амаль такім жа важным бокам творчасьці, што і думка, а форма не саступіць зместу; склад будзе вытанчаным, стрыманым і ўзнёслым. Ход думкі заўсёды будзе вызначацца шляхетнай сталасьцю, рэдка знаходзячы жвавасць, і пісьменнікі будуць больш клапаціцца пра якасць, чым пра колькасць напісанага імі.

Часам можа здарыцца так, што людзі, належачыя да адукаванага стана, ніколі ні з кім не маючыя стасункаў акрамя іх саміх і пішучыя толькі для свайго кола, страцяць якое б то ні было ўяўленне пра існаванне астатняга сьвету і гэта прывядзе іх да манернасьці і фальшы; яны абавяжуць сябе падначальвацца дробным літаратурным наказам, разлічаным выключна на іх саміх і з нагоды гэтага паступова пачнуць адкідаць патрабаванні цьвярозага розуму і, нарэшце, прыйдуць да адмаўлення законаў самой прыроды.

Жадаючы выказвацца на мове адрознай ад вульгарнай, яны створаць нешта падобнае на арыстакратычны жаргон, які наўрад ці будзе бліжэй да ідэалу прыгожай мовы, чым размова простага люду.

Такімі з’яўляюцца натуральныя небяспекі, падпільноўваючыя арыстакратычную літаратуру.

Усе арыстакратыі цалкам адрываючыя сябе ад народа, робяцца нямоглымі. Гэта аднолькава справядліва як у дачыненні да літаратуры, так і ў дачыненні да палітыкі[324].

---

[324] Усё гэта асабліва справядліва для тых арыстакратычных краін, якія доўгі час ціха і мірна жылі пад уладай манарха. Калі ў арыстакратычных дзяржавах пануе вольнасць, вышэйшыя станы вымушаны ўвесь час звяртацца за паслугамі да ніжэйшых станаў і, карыстаючыся іхнай дапамогай, яны самі збліжаюцца з імі. Дзякуючы гэтаму асобныя дэмакратычныя настроі часта пракрадаюцца ў іхныя сэрцы. Пры гэтым у прывілеяванага стану, кіруючага краінай, развіваюцца энергічнасць і прадпрымальнасць, густ да актыўнай і бурнай дзейнасьці, якія не могуць не ўплываць на ўсе яго літаратурныя творы.

Зараз давайце перавернем выяву і разгледзім яе адваротны бок.

Уявім сабе дэмакратычнае грамадства, якое дзякуючы старажытным традыцыям і сваёй сучаснай асьвечанасьці гатова цешыцца духоўнымі каштоўнасьцямі. Станавыя адрозненні тут перамяшаны і заблытаны; веды, роўна як і ўлада, вельмі рассычаны і, калі мне будзе дазволена так выказацца, раскіданы паўсюдна.

Такім чынам, у дадзеным выпадку мы маем справу з пярэстым натоўпам, інтэлектуальныя патрэбы якога павінны задавальняцца. Гэтыя новыя аматары духоўных асалод атрымалі неаднолькавую адукацыю; узроўні іхных ведаў цалкам розныя, яны не падобныя на сваіх бацькаў і яны як самі, так і іхныя пачуцці кожны раз перамяняюцца, дзякуючы таму што яны займаюцца то адной, то іншай справай, станавяцца больш заможнымі ці ж бяднеюць. Унутраны сьвет кожнага, такім чынам, не мае ніякай інтэлектуальнай сувязі з унутраным сьветам усіх астатніх людзей, таму што адсутнічаюць агульныя традыцыі і разумовыя звычкі і яны ніколі не маюць ні магчымасьці, ні жадання, ні часу прыйсьці да пагаднення адзін з адным.

Аўтары, аднак, нараджаюцца ў нетрах гэтай разнашэрснай, неспакойнай масы і менавіта яна размяркоўвае паміж імі прыбыткі і славу.

У такой сітуацыі, і мне гэта цалкам зразумела, не варта чакаць, што ў літаратуры, належачай падобнаму народу, павінны сустракацца шмат якія са строгіх умоўнасьцей, прынятых чытачамі і пісьменнікамі арыстакратычных часоў. І нават калі людзі адной дэмакратычнай эпохі распрацоўваюць некаторыя із гэтых умоўнасьцей, гэта нічога яшчэ не азначае для наступных эпох, таму што ў дэмакратычных нацый кожнае новае пакаленне – гэта новы народ. Пісьмовасць такіх нацый толькі з вялікімі цяжкасьцямі здольна падначальвацца строгім правілам і цалкам неверагодна, каб яна назаўсёды захавала гэтыя правілы.

Пры дэмакратыі далёка не ўсе, займаючыяся літаратурай людзі, атрымалі адмысловую літаратурную адукацыю, а тыя із іх, хто ў нейкай ступені пазнаёміўся з белетрыстыкай, большай часткай ідуць у палітыку ці ж авалодваюць нейкай іншай прафесіяй, у сувязі з чым літаратуры яны могуць выдаткаваць толькі рэдкія гадзіны, таемна аддаючыся паэтычным уцехам. Гэтую радасць, такім чынам, яны не ператвараюць у асноўны запал свайго жыцця, разглядаючы яе ў якасьці кароткачасовага адпачынку, так неабходнага чалавеку, занятаму сур'ёзнай працай. Такія людзі не дасягаюць дастатковай глыбіні разумення літаратуры як віду мастацтва, патрэбнай для таго, каб тонка адчуваць яе вытанчаныя нюансы; адценні і прыватнасьці выслізгваюць ад іхнай увагі. Маючы занадта мала часу для чытання, яны ні хвіліны не жадаюць марнаваць дарэмна. Ім падабаюцца такія кнігі, якія можна лёгка набыць, хутка прачытаць і якія не патрабуюць навуковых пошукаў для іхнага разумення. Яны маюць патрэбу ў даступных, сама агаляючыхся формах хараства, якімі можна адразу ж цешыцца; асабліва ім падабаецца ўсё нечаканае і новае. Ім, звыклым да манатоннага змагання за існаванне ў рэчаісным жыцці, неабходны моцныя, падвышаныя эмоцыі, раптоўныя прасвятленні, асляпляючыя ісьціны ці ж уражваючыя памылковыя погляды, якія ў адно імгненне вымушаюць іх забыцца пра саміх сябе і адразу, як бы гвалтоўна, пераносяць на месца малюемага дзеяння.

Ці патрэбна працягваць? Хто не здагадваецца і без маіх тлумачэнняў, што із гэтага вынікае?

Літаратура дэмакратычных стагоддзяў, узятая ў цэлым, у адрозненні ад літаратуры арыстакратычных часоў не здолее стварыць пра сябе ўражанне спарадкаванасьці, слушнасьці, вучонасьці і высокага майстэрства; яе форма звычайна будзе насіць сляды нядбайнасьці, а часам і закінутасьці. Яе склад часта будзе дзіўным, няправільным, перагружаным ці млявым і амаль заўсёды – дзёрзкім і палкім. Аўтары будуць больш клапаціцца пра тое, каб праца выконвалася хутка, чым пра дасканаласць дэталяў. Кароткіх твораў стане больш, чым тоўстых кніг, дасціпнасць будзе сустракацца часьцей, чым эрудыцыя, а арыгінальнае ўяўленне – часьцей глыбокага мышлення; у сферы думкі будзе панаваць неасьвечаная і амаль дзікая напорыстасць, часта ўвасабляемая ў празмернай разнастайнасьці і надзвычайнай пладавітасьці. Пісьменнікі будуць імкнуцца не столькі падабацца, колькі здзіўляць, што моцы спрабуючы завалодаць пачуццямі чытача, не звяртаючы асаблівай увагі на яго густ.

Часам, без сумневаў, будуць сустракацца пісьменнікі, абіраючыя іншы шлях, і калі іхныя творы будуць вышэй сярэдняга ўзроўню, яны здолеюць знайсьці сваіх чытачоў, нягледзячы на ўсе іхныя недахопы і вартасьці; падобныя выключэнні, аднак, будуць рэдкімі і нават тыя пісьменнікі, чыя творчасць у цэлым будзе вылучацца такім чынам, у шмат якіх прыватнасьцях заўсёды будуць адлюстроўваць пашыраную норму.

Я намаляваў два прама процілеглыя становішчы літаратурных спраў; нацыі, аднак, не пераходзяць раптоўна ад першага да другога; пераход мае паступовы характар і мае незлічоную шматлікасць нюансаў. Калі гэты пераход здзяйсняецца літаратурна адукаваным народам, амаль заўсёды настае момант, калі літаратурны геній дэмакратычных нацый знаходзіць агульную мову з мастацкім геніем арыстакратычнага тыпу і здаецца, што абодва імкнуцца кіраваць супольна ў царстве чалавечага духу.

Такія перыяды бываюць кароткачасовымі, але надзвычай яскравымі: яны плённыя без празмернасьцей і дзейныя без бязладдзя. Такой была французская літаратура XVIII стагоддзя.

Я зайшоў бы занадта далёка, сцвярджаючы, што літаратура нацыі заўсёды падначалена дзяржаўна-палітычнаму ўладкаванню. Я ведаю, што акрамя гэтых фактараў існуе шмат іншых нагод, абумаўліваючых характэрныя асаблівасьці літаратурных твораў; аднак гэтыя фактары мне ўяўляюцца асноўнымі.

Сувязі, існуючыя паміж сацыяльна-палітычнымі ўмовамі жыцця народа і спецыфікай літаратурнага таленту яго мастакоў слова, заўсёды вельмі шматлікія; той, хто добра знаёмы з жыццём народа, ніколі не можа быць цалкам не дасьведчаным у яго літаратуры.

# Глава XIV

## Літаратурная вытворчасць

Дэмакратыя не толькі прышчапляе прамысловым класам густ да літаратуры, але і ўносіць індустрыйны дух у нетры самай літаратуры.

Пры арыстакратыі чытаючае кола вузкае і пераборліва патрабавальнае; у дэмакратычнай дзяржаве чытачам не так ужо цяжка дагадзіць і колькасць іх сапраўды каласальная. З гэтай нагоды пісьменнік, жывучы пры арыстакратыі, не можа разлічваць на лёгкі поспех, ён ведае, што выдаткаваныя ім вялізныя

намаганні могуць прынесьці яму гучную славу, але ніколі не забяспечаць яго вялікімі грашамі, тады як пры дэмакратыі пісьменнік можа лісьлівіць сябе надзеяй танна знайсьці сякую-такую слыннасць і немалае багацце. Для гэтага не абавязкова выклікаць усеагульнае захапленне, дастаткова проста спадабацца.

Увесь час павялічваючыся натоўп чытачоў і хранічная патрэбна мець нешта новае забяспечваюць збыт нават такой кнізе, якая не вельмі высока ацэньваецца.

Дэмакратычная публіка часта паводзіць сябе ў дачыненні да аўтараў так жа, як каралі адпаведна са звычаем ставяцца да сваіх прыдворных: яна абагачае іх і пагарджае імі. Чаго яшчэ заслугоўваюць прадажныя душы, народжаныя пры дварах ці ганараваныя магчымасьцю жыць пры іх?

Дэмакратычныя літаратуры заўсёды маюць шмат аўтараў, якія ставяцца да літаратуры няйнакш, як да своеасаблівай галіны прамысловасьці і на іхных некалькіх вялікіх пісьменнікаў прыпадаюць тысячы гандляроў ідэямі.

# Глава XV

## Чаму вывучэнне старажытнагрэцкай і старажытнарымскай літаратур з’яўляецца асабліва карысным для дэмакратычнага грамадства

Тое, што звалася «народам» у большасьці дэмакратычных рэспублік антычнасьці, ніколькі не нагадвае народ у нашым сучасным разуменні гэтага слова. У Афінах усе грамадзяне бралі ўдзел у грамадзкіх справах, аднак, із больш чым трохсот пяцідзесяці тысяч жыхароў горада права грамадзянства мелі толькі дваццаць тысяч чалавек; усе астатнія былі рабамі і выконвалі большую частку тых абавязкаў, якія ў нашы дні ўзвалены на народ і нават на сярэднія станы.

Такім чынам, Афіны з іхным усеагульным выбарчым правам уяўлялі сабой у канчатковым выніку не што іншае, як арыстакратычную рэспубліку, у якой усе шляхетна народжаныя мелі роўнае права на ўдзел у кіраванні.

Змаганне патрыцыяў з плебеямі ў Рыме варта разглядаць у тым жа асьвятленні – як унутраную зваду паміж старэйшымі і малодшымі асобамі аднаго сямейства. Усе яны і фактычна, і духоўна належалі да арыстакратыі.

Патрэбна, акрамя таго, пазначыць, што на працягу ўсяго антычнага перыяда кнігі былі каштоўнай рэдкасьцю, што яны патрабавалі надзвычайных выдаткаў пры іхным капіяванні і пашыраліся з вялікімі выдаткамі. Гэтыя акалічнасьці прывялі да таго, што схільнасць і звычка да літаратурных заняткаў былі магчымымі толькі для вузкага кола людзей, утвараўшых нешта накшталт маленькай літаратурнай арыстакратыі ў асяроддзі эліты ўсёй палітычнай арыстакратыі. Таму нічога не сведчыць пра тое, што старажытныя грэкі і рымляне калі-небудзь ставіліся да літаратуры як да аднаго із відаў прадукцыйнай дзейнасьці.

Гэтыя два народы, вызначаўшыяся не толькі арыстакратычнай формай свайго палітычнага ўладкавання, але і быўшыя высокакультурнымі вольнымі нацыямі, павінны былі, такім чынам, надаць сваім літаратурным тварэнням спецыфічныя заганы і асаблівыя якасьці, характэрныя для літаратуры арыстакратычных часоў.

Сапраўды, дастаткова кінуць беглы погляд на творы, пакінутыя нам старажытнымі, каб выявіць, што, хаця гэтым пісьменнікам часам і неставала сюжэтнага багацця і разнастайнасьці, адвагі і моцы ўяўлення ці нейкай ступені

абагульненасьці думкі, яны заўсёды дэманстравалі дзіўнае майстэрства і дбайнасць аздаблення дэталяў; нішто ў іхных творах не здаецца напісаным спехам ці наўздагад; усё разлічана на сапраўдных знатакоў, усё накіравана на няспынны пошук ідэальнага хараства. Ніякая іншая літаратура акрамя антычнай не вылучае з такой выразнасцю тыя самыя ўласьцівасьці, якія натуральным чынам адсутнічаюць у пісьменнікаў, жывучых пры дэмакратыі. Не існуе ніякай іншай літаратуры, якая больш адпавядала б заданню навучання пад час стагоддзяў дэмакратыі. Яе вывучэнне – самы лепшы із усіх сродкаў пераадолення літаратурных недахопаў, уласьцівых гэтым стагоддзям, тым часам як іхныя натуральныя вартасьці без якога б то ні было папярэдняга засваення будуць выдатна развівацца самі па сабе.

Тут мне было б пажадана, каб мяне зразумелі правільна.

Вывучэнне літаратуры іншага народа можа быць карысным заняткам нават у тым выпадку, калі яна выяўляе цалкам іншыя сацыяльна-палітычныя ўяўленні і патрэбы.

Зацятае імкненне выкладаць толькі вытанчаную літаратуру ў грамадстве, дзе кожны чалавек адпаведна са звычаямі вымушаны прыкладаць вялізныя намаганні для таго, каб стварыць ці ж захаваць сваё багацце, прывяло б да выхавання вельмі адукаваных, але вельмі небяспечных грамадзянаў, таму што грамадзка-палітычныя ўмовы жыцця будуць штодня спараджаць у іх патрэбы, задавальняць якія яны так і не навучыліся на працягу сваёй адукацыі, яны будуць у імя старажытных грэкаў і рымлянаў выклікаць хваляванні ў дзяржаве замест таго, каб умацоўваць яе сваёй плённай працай.

Цалкам відавочна, што ў дэмакратычных грамадствах зацікаўленасьці асобы, роўна як і бяспека дзяржавы, патрабуюць, каб пераважная большасць грамадзянаў набывала не столькі літаратурную, колькі навуковую, камерцыйную і прамысловую адукаванасць.

Старажытнагрэцкая мова і лацінка не павінны выкладацца ва ўсіх школах; аднак, патрэбна, каб тыя, хто адпаведна з пакліканнем ці адпаведна са сваім маёмасным становішчам маючыя магчымасць прысьвяціць сябе літаратурнай дзейнасьці ці ж маючыя жаданне выпрацаваць у сабе літаратурны густ, мелі магчымасць знайсьці для сябе школы, дзе яны маглі б стаць цудоўнымі знаўцамі антычнай літаратуры і грунтоўна прасякнуцца яе духам. Для дасягнення гэтай мэты было б лепш мець некалькі выбітных універсітэтаў, чым вялікую колькасць дрэнных каледжаў, у якіх класіка не патрэбна і толькі перашкаджае засваенню неабходных ведаў.

Усе тыя, хто славалюбіва мараць, жывучы ва ўмовах дэмакратычнага грамадства, удасканаліцца ў літаратурнай сферы, павінны часта мець стасункі з творамі антычнасці. Гэта – своеасаблівая гігіена, станоўча ўплываючая на разумовыя здольнасьці.

Гэта не азначае, што я лічу літаратурную спадчыну старажытных бездакорнай. Я сцвярджаю толькі тое, што яна валодае тымі своеасаблівымі дадатнымі якасьцямі, якія цудоўным чынам могуць паслужыць свайго роду процівагай нашым пэўным недахопам. Яна ўтрымлівае нас ад падання ў самых небяспечных для нас месцах.

# Глава XVI

# Якім чынам амерыканская дэмакратыя перайначыла ангельскую мову

Калі чытач добра зразумеў усё тое, што было мной вышэй павядомлена пра літаратуру ў цэлым, ён без цяжкасьцей разбярэцца ў пытанні пра тое, якога роду ўплыў могуць рабіць сацыяльна-палітычнае ўладкаванне і інстытуты дэмакратычнага грамадства на саму мову – галоўную прыладу думкі.

Амерыканскія аўтары, па праўдзе кажучы, жывуць не столькі ў сваёй уласнай краіне, колькі ў Ангельшчыне, таму што яны няспынна вывучаюць творы ангельскіх пісьменнікаў і ўвесь час бяруць іх у якасьці ўзораў. Інакш справа ідзе з самім насельніцтвам: яго жыццё значна больш цясна злучана з тымі асаблівымі заканамернасьцямі, якія могуць дзейнічаць у Злучаных Штатах. Таму, калі вы маеце жаданне зразумець, якія перамены можа зведваць мова арыстакратычнага народа падчас ператварэння ў мову дэмакратычнага грамадства, варта надаць увагу не пісьмовым формам літаратурнай мовы, а размаўляльным.

Адукаваныя ангельцы, знатакі куды больш кампетэнтныя, чым я, тонкіх нюансаў ангельскай мовы, часта запэўнівалі мяне ў тым, што мова адукаваных станаў у Злучаных Штатах значна адрозніваецца ад мовы адукаваных станаў Вялікабрытаніі.

Яны наракалі не толькі на тое, што амерыканцы ўвялі ва ўжыванне шмат новых слоў (адрозненні паміж гэтымі аддаленымі адна ад другой краінамі цалкам тлумачаць дадзеную з’яву), але і абураліся тым, што гэтыя новыя словы былі галоўным чынам запазычаны або із партыйнага жаргону, або із раменснай ці ж справаводчай тэрміналогіі. Да таго ж, дадавалі яны, старыя ангельскія словы часта ўжываюцца амерыканцамі ў новым значэнні. І нарэшце, яны заяўлялі, што жыхары Злучаных Штатаў часта перамешваюць вельмі дзіўным чынам стылі гаворкі і часам амерыканцы ўжываюць разам такія словы, якія ў мове іхнай старой радзімы здаўна было прынята падзяляць.

Часта выслухоўваючы падобныя заўвагі ад людзей, якія здаваліся мне цалкам годнымі даверу, я сам быў вымушаны глыбока задумацца над гэтым пытаннем і мае разважанні, меўшыя выключна тэарэтычны характар, прывялі мяне да тых жа самым высноваў, што і іхныя практычныя назіранні.

У арыстакратыях мова, натуральна, павінна знаходзіцца ў тым стане заспакаення, якое характэрна для ўсяго іхнага існавання. Дзякуючы таму што ў жыцці не адбываецца амаль нічога новага і ствараецца мала новых рэчаў, людзям не патрэбна шмат новых слоў; і нават калі з’яўляецца нешта новае, яны вымушаюць сябе апісваць гэта з дапамогай вядомых слоў, значэнне якіх ужо замацавана традыцыяй.

Калі ж, нарэшце, чалавечы дух абуджаецца, або сам сабой, або пад уплывам святла пранікаючага звонку, створаныя новыя моўныя формулы і выразы носяць навуковы, інтэлектуальны, філасофскі характар – дакладная прыкмета таго, што іх паходжанне антыдэмакратычнае. Калі падзенне Канстантынопаля мела наступствам рэзкі наплыў на Захад візантыйскіх навукоўцаў і літаратараў, французская мова хутка выявілася наводненай вялікай колькасьцю новых слоў, меўшых запар грэцкія і лацінскія карані. Такім чынам, у Францыі тады сфармаваўся пласт навуковых, выкарыстоўваўшыхся толькі прадстаўнікамі адукаваных станаў неалагізмаў, з’яўленне якіх на працягу доўгага часу ніяк не адчуваў сам народ, і нават не здагадваўся пра іх існаванне.

Тая ж самая гісторыя паслядоўна паўтарылася ва ўсіх краінах Яўропы. Адзін толькі Мільтан увёў у ангельскую мову больш шасьці соцень слоў, амаль цалкам запазычаных з лацінкі, грэцкай ці іўрыту.

Пастаянная ўзрушанасць, пануючая ў асяроддзі дэмакратычнага грамадства, наадварот, мае вынікам няспыннае абнаўленне мовы, як і ўсяго ладу жыцця. Гэтае ўсеагульнае закісанне і суперніцства розумаў спараджае вялізную колькасць новых ідэй; старыя ідэі гінуць, ці абнаўляюцца, ці ж расшчапляюцца, знаходзячы бясконцыя нюансы і падрабязнасьці.

Таму ў мове часта можна сустрэць словы, адным із якіх ужо наканавана выходзіць із ужывання, а іншым – стаць агульнаўжываемымі.

Дэмакратычныя нацыі, акрамя таго, паважаюць перамены дзеля іх саміх. Гэта ў роўнай меры мае дачыненне як да палітыкі, так і да мовы. Таму нават тады, калі няма ніякай патрэбы замяняць словы, яны часам перамяняюць іх, падпарадкоўваючыся толькі свайму жаданню.

Геній дэмакратычных народаў выяўляе сябе не толькі ў вялікай колькасьці слоў, уводзімых у карыстанне, але таксама ў самай прыродзе тых ідэй, якія выяўляюцца з дапамогай новых слоў.

У гэтых народаў законы ў вобласьці мовы, так жа як і ва ўсіх іншых сферах грамадзкага жыцця, ствараюцца большасьцю. Воля большасьці тут выяўляе сябе дакладна так жа, як і ва ўсім астатнім. А менавіта: большасць выдаткуе больш значную частку свайго часу на практычныя справы, чым на навуковыя штудзіі, яе больш цікавяць палітыка і камерцыя, чым філасофскія разважанні ці ж мастацкая літаратура. Ільвіная доля слоў, створаных ці прынятых большасьцю, павінна несьці на сабе пячатку гэтых навыкаў і зацікаўленасьцей; яны галоўным чынам будуць служыць для выражэння патрэб прамысловасьці, партыйных прыхільнасьцей ці ж рэалій злучаных з грамадзкім кіраваннем. Мова будзе распрацоўвацца, пашыраючыся менавіта ў дадзеным накірунку, тады як, наадварот, моўнае багацце, злучанае з метафізікай і тэалогіяй, пачне паступова памяншацца.

Што ж да крыніцы із якой дэмакратычныя нацыі чэрпаюць свае новыя словы і спосабаў, якімі яны іх выраблююць, то іх лёгка ўсталяваць.

Людзі жывучыя ў дэмакратычных краінах, не вельмі знаёмы з мовамі Старажытнага Рыма і Афінаў і яны не схільны звяртацца да мінулага аж да антычнасьці, каб знайсьці там патрэбнае ім словазлучэнне. Калі часам яны і карыстаюцца навуковай этымалогіяй, то, звычайна, гэта адбываецца таму, што ганарыстасць падахвочвае іх весьці пошукі ў каранях памёршых моў, а цалкам не таму, што іхная эрудыцыя натуральным чынам падказвае ім падобныя словаўжыванні. Бывае так, што гэтыя словы найбольш часта сустракаюцца ў гаворцы самых невуцкіх людзей. Праўдзіва дэмакратычнае жаданне перамяніць свой грамадзкі статус часта прыводзіць да таго, што яны ахвотна акультурваюць пагарджаемыя віды заняткаў грэцкімі і лацінскімі назвамі. Чым менш прафесія патрабуе адукацыі, ведаў, тым больш навуковую і высакамоўную назву яна мае. Менавіта такім чынам нашы канатныя скакуны ператварыліся ў паветраных акрабатаў і фунамбулераў.

Пры недастатковым веданні памёршых моў дэмакратычныя народы ахвотна запазычваюць лексіку жывых моў; няспынна маючы стасункі паміж сабой, людзі, жывучыя ў розных краінах, ахвотна пераймаюць адзін аднаму, таму што з кожным днём яны ўсе больш і больш узаема прыпадабняюцца.

Аднак галоўную крыніцу новых слоў дэмакратычныя народы бачаць у сваіх уласных мовах. Час ад часу яны зноў здабываюць із уласнага слоўніка забытыя словы і выказванні, вяртаючы іх ва ўжыванне, ці ж забіраюць у некаторай сацыяльнай праслойкі спецыфічную для яе тэрміналогію, каб, надаўшы ёй фігуральнае значэнне, увесьці ў штодзённую гаворку; шмат слоў і выказванняў, якія спачатку з'явіліся ў прафесійнай тэрміналогіі ці ў сацыяльных арго, такім чынам увайшлі ў склад агульнаўжываемай лексікі.

Аднак самы звычайны спосаб абнаўлення мовы, ужываемай дэмакратычнымі народамі, палягае ў тым, што штодзённа ўжываемым словам і выказванням надаюцца незвычайныя значэнні. Гэты метад вельмі просты, аператыўны і зручны. Яго ўжыванне не патрабуе ніякай навуковай падрыхтоўкі і, больш таго, само невуцтва спрыяе яго эфектыўнасьці. Гэты метад, аднак, утойвае ў сабе сур'ёзную небяспеку для мовы. Падвойваючы значэнне аднаго і таго ж слова, дэмакратычныя народы ствараюць нявызначанасць, двухсэнсоўнасць як старога, так і новага яго значэнняў.

Нейкі аўтар пачынае з таго, што крыху пераіначвае першапачатковы сэнс вядомага слова ці выказвання і, перамяніўшы яго падобным чынам, аптымальна прыстасоўвае для сваёй мэты. Потым з'яўляецца другі аўтар, пераіначваючы значэнне дадзенага слова ў іншым накірунку і трэцці, прапануючы ўласны варыянт яго тлумачэння; дзякуючы таму што няма агульнапрызнанага суддзі, увесь час дзейнічаючага трыбунала, здольнага цьвёрда ўсталяваць значэнне дадзенага слова, яно захоўвае няўстойлівасць свайго становішча. У выніку гэтага пісьменнікі, відаць, амаль ніколі не лічаць сябе абавязанымі засяроджвацца на адной-адзінюткай думцы і здаецца, што яны заўсёды маюць на ўвазе цэлы комплекс ідэй, аддаючы чытачу магчымасць самому рабіць выснову, што ж менавіта маецца на ўвазе.

Такім з'яўляецца адно із непрыемных наступстваў дэмакратыі. Я хутчэй аддам перавагу, каб наша мова пакрылася калючкамі кітайскіх, татарскіх ці гуронскіх слоў, чым пагаджуся з неабходнасьцю страты французскімі словамі пэўнасьці іхнага значэння. Мілагучнасць і аднастайнасць – з'яўляюцца самымі важнымі, калі не галоўнымі вартасьцямі, вызначаючымі хараство мовы. Традыцыі і ўмоўнасьці таксама маюць у ёй істотную ролю, аднак без іх, у крайнім выпадку, можна абыйсьціся. Але без вызначаных, зразумелых слоў няма добрай мовы.

Роўнасць з непазбежнасьцю надае і шмат іншых пераўтварэнняў у мове.

Пад час перыядаў панавання арыстакратыі, калі кожная нацыя выяўляе схільнасць трымацца ўбаку ад усіх іншых нацый і імкнецца захаваць сваё ўласнае, непаўторнае аблічча, часта здараецца так, што родныя адпаведна з паходжаннем народы паступова робяцца такімі чужымі адзін аднаму, што, хаця яны яшчэ і здольны разумець адзін аднаго, але ўжо больш не размаўляюць на адной і той жа мове.

У такія часы кожная нацыя падзелена на вызначаную колькасць станаў, якія паміж сабой маюць мала стасункаў і цалкам не перамешваюцца; кожны із гэтых станаў выпрацоўвае і захоўвае ў нязменнасьці толькі яму аднаму ўласьцівыя інтэлектуальныя навыкі, ахвотней усяго карыстаючыся вызначанымі словамі і выказваннамі, якія як спадчына перадаюцца ад пакалення да пакалення. Таму адна і тая ж мова ўтрымлівае ў сабе гаворку беднякоў і гаворку дваран, навукоўцаў і простанародную гаворку. Чым глыбей гэтыя адрозненні і больш непераадольныя перашкоды паміж імі, тым больш вызначаным павінна быць гэтае размежаванне. Я

гатовы заключыць заклад, што моўныя нормы індыйскіх каст маюць каласальныя адрозненні і што гаворка недатыкальнага адрозніваецца ад гаворкі браміна наўрад ці менш, чым іхны лад жыцця.

Калі ж людзі, наадварот, не будучы больш прывязанымі кожны да свайго месца, няспынна маюць стасункі адзін з адным, калі каставасць знішчана, а станавы склад абнаўляецца і перамешваецца, усе словы мовы таксама перамешваюцца ў адно цэлае. Тыя з іх, якія не могуць падабацца большасьці, гінуць; астатнія ўтвараюць агульны фонд, адкуль кожны чалавек наўздагад бярэ прыкладна столькі, колькі яму патрэбна. Амаль усе дыялектныя адрозненні, падзяляючыя мовы Яўропы, відавочна сціраюцца; у Новым Сьвеце адсутнічаюць мясцовыя гаворкі і што ні дзень яны знікаюць у Старым.

Гэтая сацыяльная рэвалюцыя ў роўнай меры адлюстроўваецца як на мове, так і на стылістыцы.

Усё грамадства не толькі карыстаецца аднымі і тымі ж словамі, але і прызвычваецца ўжываць іх без якога б то ні было разбору. Правілы, дыктуемыя разуменнем стылю, амаль цалкам знішчаюцца. Наўрад ці можна сустрэць нейкія выказванні, якія адпаведна з самой сваёй прыродай здаюцца вульгарнымі ці ж, наадварот, узнёслымі. Індывіды, паходзячыя із розных сацыяльных пластоў, незалежна ад дасягнутага імі становішча, захоўваюць сваю манеру вымаўлення, звыклыя для іх выказванні і разуменні; паходжанне гэтых слоў, роўна як і паходжанне гэтых людзей, забываецца і ў мове пануе тая ж блытаніна, што і ў самым грамадстве.

Я ведаю, што ў ацэначнай класіфікацыі слоў існуюць правілы, не залежачыя ад той ці іншай формы грамадзкага ўладкавання, але вынікаючыя із самой рэчаіснасьці. У мове сустракаюцца выказванні і моўныя звароты, якія з’яўляюцца вульгарнымі таму, што тыя з’явы і пачуцці, якія яны пазначаюць, сапраўды нізінныя, тады як іншыя ўяўляюцца высокімі ў сувязі з сапраўды ўзнёслым характарам пазначаных імі разуменняў.

Перамешванне стануў не заўсёды будзе прыводзіць да знікнення гэтых адрозненняў. Роўнасць, аднак, не можа не знішчаць тыя адрозненні, якія былі абумоўлены выключна традыцыяналізмам і адвольнасьцю мышлення. Я не ведаю, ці будзе нават тая патрэбная ацэнкавая іерархія, пра якую я выказваўся вышэй, заўсёды карыстацца ў дэмакратычных народаў меншай, чым у іншых народаў, павагай, сярод іх жа таксама знойдуцца людзі, чыё выхаванне, спазнанні і вольны час будуць схіляць іх да пастаяннага вывучэння натуральных законаў мовы і якія, асабіста падначальваючыся гэтым законам, паднялі б іхны аўтарытэт.

Завяршаючы размову на гэтую тэму, у мяне ўзнікае жаданне вылучыць яшчэ адну, апошнюю, асаблівасць моў дэмакратычных народаў, якая, магчыма, здольна ахарактарызаваць іх больш паўна, чым усе астатнія ўласьцівасьці і рысы.

Вышэй я ўжо пазначаў, што дэмакратычныя народы выяўляюць схільнасць, а часам нават запал да агульных ідэй; гэта абумоўліваецца як уласьцівымі ім вартасьцямі, так і іхнымі недахопамі. Схільнасць да агульных ідэй у мовах дэмакратычных народаў выяўляецца ў пастаянным ужыванні радавых разуменняў і абстрактных слоў, а таксама ў манеры іх выкарыстання. У гэтым заключаецца вялізная магутнасць і вялізная слабасць дадзеных моў. Дэмакратычныя народы вельмі схільны да радавых разуменняў і абстрактных слоў таму, што яны пашыраюць дыяпазон думкі і, дазваляючы шмат што выяўляць у сціснутым выглядзе, дапамагаюць працы інтэлекту.

Пісьменнік дэмакратычнай эпохі ахвотна скарыстаецца абстрактным разуменнем «чалавечыя здольнасьці» замест пэўнага выказвання «здольныя людзі», не ўдакладняючы, якія ж менавіта здольнасьці ён мае на ўвазе. Ён напіша «рэчаіснасць», каб адным мазком пазначыць усё тое, што ў дадзены момант адбываецца ў яго перад вачамі, а ў разуменне «магчымасць» уключыць усё тое, што можа адбыцца ў сусьвеце з моманту яго выказвання.

Пісьменнікі дэмакратычнай эпохі безперапынна ствараюць падобныя абстрактныя словы і надаюць усё больш і больш абстрактны сэнс абстрактным словам ужо маючымся ў мове.

Больш таго, для надання сваёй гаворцы жвавасьці яны персаніфікуюць значэнні гэтых абстрактных слоў, вымушаючы кожнае з іх дзейнічаць накшталт рэчаіснай асобы. Яны выкажуцца, што «натуральны ход рэчаў патрабуе таго, каб светам кіравала адоранасць».

Лічу, што апошнюю думку лепш усяго патлумачыць мой уласны прыклад.

Я часта карыстаўся словам «роўнасць» у яго абсалютным значэнні; акрамя таго, я ў шмат якіх выпадках персаніфікаваў яго, заяўляючы, што роўнасць здзяйсняла адны дзеянні і ўстрымлівалася ад іншых. Не пабаюся сцвярджаць, што людзі, жыўшыя ў часы Людовіка XIV, не маглі б сказаць нічога падобнага; нікому б із іх ніколі і ў галаву не прыйшла думка пра тое, што слова «роўнасць» можна ўжываць без дачынення да нейкай пэўнай з'явы і яны хутчэй цалкам адмовіліся б ад гэтага слова, чым сталі б уяўляць роўнасць у абліччы жывой, персаніфікаванай алегорыі.

Гэтыя абстрактныя словы, якіх маюць шмат мовы дэмакратычных народаў і якія з кожнай нагоды выкарыстоўваюцца без нейкай сувязі з пэўным прадметам ці фактам, пашыраюць дыяпазон, але зацямняюць змест думкі; яны надаюць гаворцы жвавасць, пазбаўляючы яе сэнсавай вызначасьці. У сферы мовы, аднак, дэмакратычныя народы аддаюць перавагу невыразнасьці перад карпатлівай працай.

Да таго ж я не ўпэўнены, што нявызначанасць не ўтрымлівае ў сабе нейкага таемнага зачаравання для тых, хто выказваецца і піша пад час эпохі дэмакратыі.

Людзі, жывучыя ў гэтыя часы, часта выяўляюцца пакінутымі самі на сябе; разлічваючы толькі на ўласны розум, яны амаль заўсёды раздзіраюцца сумневамі. Акрамя гэтага, дзякуючы таму што іхнае грамадзкае становішча няспынна перамяняецца, сама нявызначанасць лёсу не дазваляе ім цьвёрда прытрымлівацца нейкага са сваіх перакананняў.

Такім чынам, думкі людзей, жывучых у дэмакратычных краінах, часта маюць няўстойлівы характар; іхныя выказванні павінны быць дастаткова прасторнымі для таго, каб ахапіць усе гэтыя ваганні. Дзякуючы таму што яны ніколі не ведаюць, ці будзе ідэя, якую яны выказваюць сёння, адпавядаць той новай сітуацыі, у якой яны апынуцца заўтра, яны натуральным чынам схільны да абстрактных слоў. Абстрактнае слова падобна скрыначцы з падвойным дном: вы можаце пакласьці ў яе якія заўгодна ідэі і непрыкметна для чужых вачэй забраць іх назад.

Ва ўсіх народаў падмурак мовы складаюць словы, выяўляючыя радавыя і абстрактныя разуменні; такім чынам, я не выстаўляю справу такім чынам, быццам бы падобныя словы сустракаюцца толькі ў мовах дэмакратычных народаў; я сцвярджаю толькі тое, што ў часы роўнасьці людзі асабліва схільны да павялічэння колькасьці слоў гэтага віда, ужываць іх у самым абстрактным значэнні, не

злучаным са значэннямі іншых слоў, карыстацца імі пры кожнай нагодзе нават тады, калі ў іх няма ніякай асаблівай патрэбы.

# Глава XVII

## Пра некаторыя крыніцы паэзіі ў дэмакратычных нацый

Тэрмін «паэзія» мае шмат самых розных вызначэнняў. Каб не стамляць чытача пошукамі найбольш удалага із іх, я лічу мэтазгодным адразу ж паведаміць яму пра свой выбар.

Паэзія, на мой погляд, – гэта пошук і ўвасабленне ідэала.

Сапраўдным паэтам з’яўляецца той мастак слова, які, адкідаючы частку рэчаісна існуючага, дапаўняючы выяву ўяўнымі падрабязнасьцямі і спалучаючы сапраўдныя, але ў жыцці ніколі разам не сустракаючыяся акалічнасьці, завяршае і ўдасканальвае прыроду. Такім чынам, паэзія павінна імкнуцца не да праўдзівасьці, а да прыгажосьці выяўлення, здольнай дарыць чалавечаму духу ўзнёслыя выявы.

Вершаванае паведамленне ўяўляецца мне ўвасабленнем ідэальнага хараства мовы, і ў гэтым сэнсе яно заўсёды будзе ў вышэйшай ступені паэтычным; аднак само па сабе вершаванае паведамленне не стварае паэзіі.

Мне было б пажадана высветліць, ці існуюць у практычнай дзейнасьці, у эмацыйным інтэлектуальным жыцці дэмакратычных народаў такія бакі, якія з нагоды іхнага дачынення да працы ўяўлення і разумення пра ідэал павінны разглядацца ў якасьці натуральных крыніц паэзіі.

Перадусім патрэбна прызнаць, што цяга да ідэалу і задавальненне, атрымліваемае пры назіранні яго ўвасабленняў, у дэмакратычных народаў ніколі не дасягаюць той магутнасьці і не атрымліваюць такога пашырэння, якіх яны дасягаюць у нетрах якой бы то ні было арыстакратыі.

У арыстакратычных нацыях людзі часам пагружаюцца ў такі стан, што цела чалавека дзейнічае як бы само па сабе, тым часам як яго душа ахоплена глыбокім заспакаеннем. У такіх краінах нават просты люд часта валодае паэтычным густам і душы дарослых людзей парой узнімаюцца ўвысь, пераадольваючы межы атачаючай рэчаіснасьці.

У дэмакратычных грамадствах, наадварот, павага да матэрыяльных асалод, ідэя пра магчымасць паляпшэння свайго жыцця, канкурэнцыя, прыцягальнасць хуткага поспеху маюць ролю тых стымулаў, якія, як пуга паганятага, падганяюць кожнага чалавека, прымушаючы яго імчацца па абранаму ім шляху і не дазваляючы нават на імгненне збочваць з яго. Амаль усе здольнасьці душы выдаткуюцца на гэтую гонку. Уяўленне не згасае цалкам, але яно ўсё падначальваецца патрэбам спасцігаць карыснае і аднаўляць рэчаіснасць.

Роўнасць не толькі вымушае людзей адварочвацца ад выяваў ідэалу, але і памяншае колькасць аб’ектаў, годных ідэальнага выяўлення.

Арыстакратычнае кіраванне, трымаючы грамадства ў стане нерухомасьці, спрыяе трываласьці і даўгавечнасьці дадатных ісьцін у рэлігійных вучэннях, падобна таму як яно падтрымлівае стабільнасць палітычных інстытутаў.

Яно не толькі навязвае рэлігійнасць чалавечай душы, але і схільна браць да ўвагі менавіта дадзенае, а не нейкае іншае рэлігійнае вучэнне. Арыстакратычны народ заўсёды будзе імкнуцца размясьціць паміж Богам і чалавекам магутных пасярэднікаў.

Можна сцвярджаць, што ў гэтым дачыненні арыстакратычныя перыяды кіравання з’яўляюцца надзвычай спрыяльнымі для паэзіі. Калі сусьвет населены звышнатуральнымі істотамі, не ўспрымаемымі чалавечымі органамі пачуццяў, але спасьцігаемымі ўяўным позіркам, уяўленне адчувае сябе вольным і паэты, знаходзячы тысячы розных прадметаў, годных выяўлення, заўсёды маюць незлічоную аўдыторыю, гатовую з цікавасьцюназіраць іхныя паэтычныя выявы.

Пад час стагоддзяў дэмакратыі, наадварот, бывае так, што рэлігійныя перакананні людзей робяцца не больш устойлівымі, чым іхныя юрыдычныя законы. Сумневы вяртаюць тады ўяўленне паэтаў на зямлю, і яны абмяжоўваюць сябе бачным, рэчаісным сьветам.

Нават тады, калі роўнасць не парушае падмуркаў рэлігіі, яна спрашчае іх; яна адцягвае ўвагу людзей ад другасных фактараў, каб засяродзіць яго пераважна на вярхоўным валадары.

Арыстакратыя натуральным чынам вядзе чалавечы дух да мінулага, трымаючы яго там у стане медытацыйнага назірання. Дэмакратыя, наадварот, надае людзям свайго роду інстынктыўную агіду да мінуўшчыны. У гэтым дачыненні арыстакратыя з’яўляецца значна больш спрыяльнай для росквіту паэзіі, чым дэмакратыя, дзякуючы таму што прадметы звычайна здаюцца больш велічнымі і таямнічымі па меры іх аддалення ад нас і дзякуючы гэтай падвойнай сувязі яны выяўляюцца больш прыдатнымі для выяўлення ідэалу.

Вызваліўшы паэзію ад мінулага, роўнасць забірае ў нас і частку сучаснасьці.

У арыстакратычных народаў заўсёды існуе вызначаная колькасць прывілеяваных асоб, ўладкаванне жыцця якіх, так бы мовіць, ні з аднаго боку не даступна для звычайных людзей; яны здаюцца ад прыроды надзеленымі ўладай, багаццем, слыннасьцю, розумам, вытанчанасьцю густу і вытанчанасьцю ва ўсім. Натоўп ніколі не бачыць іх з блізкай адлегласьці і не мае магчымасьці ўважліва іх разгледзець; такіх людзей без асаблівых цяжкасьцей можна намаляваць паэтычнымі сродкамі.

З іншага боку, у тых жа самых народаў існуюць невуцкія, гаротныя, закабаленыя станы, чыё існаванне дзякуючы іхнаму празмернаму грубіянству і галечы выяўляецца не менш маляўнічым, чым жыццё абраных з іхнай вытанчанасьцю і веліччу. Акрамя таго, дзякуючы таму што розныя станы, із якіх складаецца арыстакратычная нацыя, з’яўляюцца вельмі далёкімі адзін ад аднаго і дрэнна знаёмымі паміж сабой, уяўленне, перадаючае побыт прадстаўнікоў гэтых станаў, заўсёды можа нешта дадаць ці паменшыць у параўнанні з рэчаіснасьцю.

У дэмакратычных грамадствах, дзе кожны чалавек занадта нязначны і ўсе вельмі падобныя адзін на аднаго, кожны, разглядаючы сам сябе, адначасова бачыць і ўсіх іншых людзей. Таму паэты, жывучыя пад час стагоддзяў дэмакратыі, ніколі не могуць зрабіць выяву пэўнага чалавека асноўнай тэмай сваіх паэтычных апісанняў, таму што аб’ект сярэдніх памераў і вартасьцей, вельмі добра праглядаемы з усіх бакоў, ніколі не будзе адпавядаць ідэалу.

Такім чынам, роўнасць, усталёўваючыся на зямлі, высушвае вялікую частку старажытных крыніц паэзіі.

Паспрабуем паказаць, як яна расчыняе яе новыя крыніцы.

Калі сумневы ператварылі густанаселеныя нябёсы ў незаселеную пустыню і калі наступленне роўнасьці мела наступствам падрабненне кожнага чалавека да добра вядомых усім прапорцый, паэты, яшчэ не ўяўляючы сабе, чым жа яны могуць замяніць тыя вялікія тэмы, якія зышлі разам з арыстакратыяй, звярнулі свае

позіркі на неадушаўлённую прыроду. Страціўшы з поля зроку герояў і багаў, яны спачатку ўзяліся за выявы рэк і гор.

Гэта прывяло да з’яваўлення ў мінулым стагоддзі паэзіі, якую пераважна называюць «апісальнай».

Нехта лічыць, што падобнае славеснае малярства, упрыгожваючы матэрыяльныя неадушаўлёныя прадметы, уяўляючыя сабой дэталі вонкавага аблічча зямлі, з’яўляецца сапраўднай паэзіяй дэмакратычных стагоддзяў, але я лічу, што гэта памылка. Я лічу, што такая паэзія – з’ява часовая, пераходная.

Я перакананы, што, у канчатковым выніку, дэмакратыя вымусіць уяўленне адвярнуцца ад вонкавага ў дачыненні да чалавека сьвету з тым, каб яно засяродзілася на самым чалавеку.

Сузіранне прыроды можа даставіць дэмакратычным народам мімалётнае задавальненне, але па-сапраўднаму яны адушаўляюцца толькі тады, калі сузіраюць саміх сябе. Толькі гэта і падмацоўвае ў іх натуральныя крыніцы паэзіі і існуюць падставы лічыць, што ўсе тыя паэты, якія не будуць здабываць натхненне із гэтых крыніц, страцяць якую б то ні было ўладу над людзьмі, чые душы яны мелі намер зачараваць і, нарэшце, пабачаць, што аточаны толькі абыякавымі сведкамі іхнага экстазу.

Я ўжо пазначаў, наколькі ідэі прагрэсу і бязмежных магчымасьцей самаўдасканалення роду людзкага з’яўляюцца ўласьцівымі эпохам дэмакратыі.

Мінулае ніколькі не хвалюе дэмакратычныя народы, але яны ахвотна мараць пра будучыню і ў дадзеным дачыненні іхнае ўяўленне не ведае межаў, бязмерна пашыраючыся і разрастаючыся.

Гэта адчыняе перад паэтамі вельмі шырокае поле дзейнасьці, дазваляючы ім маляваць вельмі аддаленыя ад іх прадметы. Дэмакратыя, зачыняючая для паэзіі мінулае, адчыняе перад ёй будучыню.

Калі ўсе грамадзяне дэмакратычнага грамадства з’яўляюцца амаль роўнымі паміж сабой і падобнымі адзін на аднаго, паэзія не можа адчуваць схільнасьці да каго-небудзь аднаго із іх; сама нацыя, аднак, гатова ёй пазіраваць. Менавіта падабенства ўсіх індывідаў, не дазваляючае кожнаму із іх у асобнасьці рабіцца прадметам паэтычнай выявы, дае магчымасць паэтам абагульняць іх у адну выяву, разглядаючы ў выніку ўвесь народ у цэлым. Дэмакратычныя народы значна больш выразна, чым усе астатнія, уяўляюць сабе сваё ўласнае аблічча і іхныя велічныя вонкавыя формы дзіўным чынам адпавядаюць нашым уяўленням пра ідэал.

Я з лёгкасьцю прызнаю праўдзівасць цьверджання пра тое, што ў амерыканцаў няма паэтаў, але я не пагаджуся з тым, што ў іх няма паэтычных ідэй.

Неабжытыя абшары Амерыкі моцна турбуюць галовы еўрапейцаў, але самі амерыканцы пра іх цалкам не думаюць. Дзівы неадушаўлёнай прыроды пакідаюць іх абыякавымі і, магчыма, можна сказаць, што яны заўважаюць хараство атачаючых лясоў толькі тады, калі дрэвы пачынаюць валіцца пад ударамі іхных сякер. Іхнае вока наладжана інакш, перад позіркам амерыканцаў узнікаюць іншыя выявы. Яны бачаць сябе пераадольваючымі гэтыя дзікія прасторы: асушваючымі балоты, выпрамляючымі рэчышчы рэк, засяляючымі пустэльныя тэрыторыі і заваёўваючымі прыроду. Гэты бліскучы аўтапартрэт не толькі ўсплывае час ад часу ў свядомасьці амерыканцаў, але і, можна сказаць, увесь час малюецца перад уяўным позіркам кожнага із іх, адлюстроўваючы як самыя звычайныя яго ўчынкі, так і вялікія здзяйсненні.

Цяжка ўявіць сабе нешта больш нікчэмнае, пазбаўленае колераў, вартае жалю, адным словам, больш антыпаэтычнае, чым жыццё чалавека ў Злучаных Штатах, запоўненае самымі дробнымі зацікаўленасьцямі; аднак у ліку ідэй, кіруючых гэтым жыццём, заўсёды існуе адна поўная паэзіі ідэя, якая падобна нябачнаму сухажыллю робіць энергічным увесь арганізм.

Пад час перыядаў арыстакратычнага кіравання кожны народ, як і кожны чалавек, імкнецца да няспешнага, замкнёнага ўладкавання жыцця.

Пад час стагоддзяў дэмакратыі людзі робяцца вельмі рухомымі, таму што іх няспынна захапляюць моцныя, не церпячыя адкладання жаданні і гэта ўвесь час вымушае іх паднімацца з месца, рухацца і, такім чынам, жыхары розных краін перамешваюцца паміж сабой, сустракаючыся, слухаючы і пераймаючы адзін аднаму. Таму збліжаюцца, узаема-прыпадабняючыся, не толькі прадстаўнікі адной і той жа нацыі, асімілююцца самі нацыі, у сваёй сукупнасьці паказваючы позірку не што іншае, як выяву шырокай дэмакратыі, у якой кожны народ набывае права грамадзянства. Такім чынам, упершыню ў гісторыі адкрыта з'яўляецца ідэя адзінства ўсяго чалавечага роду.

Усё тое, што злучана з існаваннем чалавецтва ў яго адзінстве, робіцца невычарпальнай крыніцай, залатой жылай для паэзіі.

Паэты, жыўшыя ў часы арыстакратыі, стваралі цудоўныя выявы, сюжэтамі якіх былі вызначаныя падзеі із жыцця аднаго народа ці асобы, але ніхто із гэтых паэтаў не адважыўся дадаць да сваіх выяваў выяву лёсаў усяго чалавецтва, тады як паэты, жывучыя у перыяд панавання дэмакратыі, могуць брацца за выкананне гэтага задання.

Менавіта тады, калі кожны чалавек, накіроўваючы позірк за межы сваёй уласнай краіны, пачынае нарэшце ўсведамляць ідэю адзінства чалавецтва, Усявышні ўсё больш відавочна выяўляецца перад чалавечым духам ва ўсёй сваёй поўнай і абсалютнай велічы.

Калі, з аднаго боку, вера ў пазітыўныя рэлігійныя дагматы пад час стагоддзяў дэмакратыі часта выяўляецца хісткай, а перакананасць у існаванні магутнасьцей маючых ролю пасярэднікаў паміж Богам і людзьмі, якія б імёны гэтым пасярэднікам ні давалі, засьцілаецца сумневамі, то, з другога боку, людзі, жывучыя ў гэты час, унутрана схільны да ўспрымання куды больш грандыёзнай ідэі самой боскасьці, уплыў якой на чалавечае жыццё бачыцца ў новым, больш выразным асьвятленні.

Разглядаючы людзкі род у якасьці адзінага цэлага, яны без цяжкасьцей разумеюць, што яго лёс накіроўвае адна і тая ж магутнасць і прыходзяць да думкі пра тое, што ва ўчынках кожнага індывіда прасочваецца гэты ўсеагульны, нязменны план, у адпаведнасьці з якім Бог кіруе чалавечым родам.

Гэтая акалічнасць таксама можа разглядацца ў якасьці надзвычай плённай крыніцы паэзіі, вынайдзенай пад час стагоддзў дэмакратыі.

Паэты дэмакратычных часоў заўсёды будуць здавацца безталаннымі і халоднымі, калі яны будуць спрабаваць надзяліць сваіх богаў, дэманаў ці анёлаў целавымі формамі і паспрабуюць прымусіць іх спусьціцца з нябёс, каб ваяваць за зямлю.

Але, калі яны пажадаюць звязаць выкладаемыя імі буйныя падзеі з усім сусьветам і глабальнай задумай Усявышняга адносна яе і, не адвабражваючы дзейнасць вярхоўнага Валадара, паспрабуюць спасьцігнуць яго думкі, іх будуць

разумець і будуць у захапленні ад іх, таму што ўяўленне іхных сучаснікаў працуе ў тым жа самым накірунку.

Можна таксама выказаць здагадку, што паэты, жывучыя пад час дэмакратычных перыядаў, будуць маляваць не столькі людзей і іхныя здзяйсненні, колькі жарсьці і ідэі.

Выказванні, адзенне і штодзённыя паводзіны людзей у дэмакратычным грамадстве супярэчаць нашым уяўленням пра ідэал прыгажосьці. У гэтых рэчах саміх па сабе няма нічога паэтычнага і якія б то ні было спробы апаэтызаваць іх выявяцца няўдалымі з той нагоды, што яны з’яўляюцца занадта добра вядомымі ўсім тым, для каго ствараюць паэты. Гэта вымушае іх няспынна здымаць вонкавыя пакровы са з’яваў, успрыманых іхнымі арганамі адчуванняў, каб у канчатковым рахунку, хаця б трохі разглядзець саму душу. А на самай справе не існуе больш ідэальнага прадмета выяўлення, чым выява чалавека да такой ступені паглынутага сузіраннем глыбінь сваёй нематэрыяльнай прыроды.

У мяне няма ніякай патрэбы прабягаць у думках нябёсы і зямлю ў пошуках цудоўных тэм, утрымліваючых у сабе кантрасты паміж бязмежнай веліччу і бязмернай нікчэмнасьцю, паміж глыбокім змрокам і дзіўнай выразнасьцю, здольных разам выклікаць пачуцці глыбокай павагі, захаплення, пагарды і баязні. Мне дастаткова задумацца толькі пра сябе самаго: чалавек, прыходзячы із нябыту, перасякае адведзены яму адрэзак часу і назаўсёды знікае, каб рассыціцца ў Богу. Яго бачаць толькі адно імгненне, калі ён блукае паміж краямі двух прорваў, у адну із якіх ён падае.

Калі б чалавек быў цалкам пазбаўлены самаўсьведамлення, ён не ўяўляў бы цікавасьці для паэзіі, таму што немагчыма маляваць тое, пра змест чаго вы не маеце ніякага разумення. Калі б ён усведамляў сябе цалкам выразна, яго ўяўленне заставалася б бяздзейным, нічога не дадаючы да выявы. Чалавек, аднак, дастаткова адкрыты для таго, каб разумець сёе-тое ў самым сабе і дастаткова заняволены для таго, каб усё астатняе было пакрыта непранікаючым змрокам, у які ён няспынна і дарэмна апускаецца, імкнучыся канчаткова завалодаць самапазнаннем.

Не варта пагэтаму чакаць, што паэзія дэмакратычных народаў будзе натхняцца легендамі, што яна будзе жыць традыцыямі і старажытнымі ўспамінамі, што яна зноў паспрабуе засяліць сусьвет звышнатуральнымі істотамі ў рэчаіснасць якіх больш не вераць ні чытачы, ні самі паэты, ці што паэзія стане ствараць пазбаўленыя жыцця алегорыі ўчыннасьцей і заганаў, якія можна бачыць і ў іхным уласным абліччы. Дэмакратычнай паэзіі будзе нехапаць усіх гэтых мастацкіх багаццяў, але ў яе застанецца чалавек і гэтым яна цалкам задаволіцца. Чалавечыя лёсы, сам чалавек выняты із рамак свайго часу і сваёй краіны і пакінуты сам-насам з прыродай ці Богам, чалавек з яго жарсьцямі, сумневамі, нечуваным шанцаваннем і неспасьціжымымі няшчасьцямі ператворыцца для гэтых народаў у асноўны і амаль адзіны прадмет паэтычнага выяўлення; у тым, што гэта будзе менавіта так, пераконвае вывучэнне твораў, створаных самымі буйнымі із паэтаў, з’явіўшыхся з тых часоў, як сьвет пачаў паварочвацца да дэмакратыі.

Пісьменнікі нашых дзён, так шыкоўна аднавіўшыя выявы Чайльда Гаральда, Рэнэ і Жаселіна, не мелі намеру паведаміць пра ўчынкі аднаго чалавека; яны жадалі асьвятліць і акультурыць некаторыя, усё яшчэ застаючыя патаемнымі куткі чалавечага сэрца.

Такімі з’яўляецца паэмы дэмакратыі.

Роўнасць, такім чынам, не знішчыла ўсіх прадметаў паэзіі; паменшыўшы іх колькасць, яна павялічыла іхныя памеры.

# Глава XVIII

## Чаму амерыканскія пісьменнікі і прамоўцы часта бываюць напышлівымі

Я часта заўважаў, што амерыканцы, звычайна вядучыя дзелавыя перамовы на зразумелай, сухой мове, пазбаўленай якіх б там ні было ўпрыгожванняў і адзначанай такой празмернай прастатой, што яна часам выглядае вульгарнай, ахвотна звяртаюцца да напышлівасьці, калі жадаюць, каб іхны склад гучаў паэтычна. Тады іхныя выказванні цалкам, ад пачатку і да канца, робяцца высакамоўнымі і назіраючы за тым, як яны бесперапынна, пры кожным зручным выпадку шчодра рассыпаюць вобразныя выказванні, пачынае здавацца, што яны ніколі не выказваюцца проста.

Ангельцы таксама грашаць гэтым, але значна радзей.

Нагода гэтага можа быць усталявана без асаблівых цяжкасьцей.

У дэмакратычных грамадствах думкі кожнага грамадзяніна паглынуты разважаннямі пра вельмі нязначны прадмет, якім з’яўляецца ён сам. Калі ён, падняўшы вочы, глядзіць навакол, ён не бачыць нічога, акрамя вялізнай здані, маючай назву «грамадства», ці яшчэ больш велічнай выявы ўсяго чалавечага роду. Яго ўяўленні і ідэі або вельмі вызначаныя і зразумелыя, або празмерна агульныя і цьмяныя; паміж імі – пустуючая прастора.

Калі ён адрываецца ад думак пра самага сябе, ён заўсёды чакае, што яго ўвазе будзе прапанаваны незвычайны прадмет і толькі за такі кошт ён згодзен хаця б на імгненне забыцца пра свае шматлікія штодзённыя клопаты, якія дастаўляюць яму сапраўдныя хваляванні і радасьці жыцця.

Гэта, як мне здаецца, цалкам тлумачыць тое, чаму людзі, жывучыя пры дэмакратыі і ў цэлым заклапочаныя такімі нязначнымі справамі, патрабуюць ад сваіх паэтаў шырокіх задумаў і вялізных выяваў.

Са свайго боку пісьменнікі заўсёды ахвотна падпарадкоўваюцца гэтым інстынктам, якімі яны самі надзелены: яны няспынна падганяюць сваё ўяўленне, вымушаючы яго празмеру напружвацца і набракаць і, дасягаючы такім чынам гіганцкіх памераў выявы, яны нярэдка адмаўляюцца ад сапраўднай велічы.

Яны спадзяюцца падобным спосабам адразу прыцягнуць і з лёгкасьцю затрымаць позіркі натоўпу і гэта ў іх часта атрымліваецца, дзякуючы таму што натоўп шукае ў паэзіі толькі шырокасьці задумак і тэм, не маючы ні часу, каб дакладна памераць прапорцыі прапанаваных ім твораў, ні дастатковага густу, каб адразу адчуць іхную несуразмернасць. Аўтар і публіка ўзаемна разбэшчваюць адзін аднаго.

Мы ўжо бачылі раней, што крыніцы паэзіі ў дэмакратычных народаў цудоўныя, але нешматлікія. Яны хутка вычэрпваюцца. Не знаходзячы больш матэрыялу патрэбнага для ўвасаблення ідэалу, у рэчаіснасці паэты цалкам адмаўляюцца ад яго і спараджаюць пачвар.

Я не баюся таго, што паэзія дэмакратычных народаў выявіцца занадта нясмелай, ці таго, што яна занадта моцна будзе прыціскацца да зямлі. Я хутчэй асьцерагаюся таго, што яна можа ўвесь час лунаць у паднябессі, ператварыўшыся

нарэшце ў мастацтва, паказваючае цалкам надуманыя выявы. Мяне трывожыць думка, як бы творы дэмакратычных паэтаў, напоўненыя распрацаванымі і няскладнымі выявамі, перагружаныя апісаннямі, дзіўнымі спалучэннямі фарбаў і фантастычнымі істотамі, створанымі іхным уяўленнем, не вымусілі чытачоў часам тужыць пра рэчаісны сьвет.

# Глава XIX

## Некаторыя разважанні пра тэатральнае жыццё дэмакратычных народаў

Калі рэвалюцыя, перамяняючая грамадзка-палітычнае ўладкаванне жыцця арыстакратычнага народа, пачынае пракладаць сабе дарогу ў літаратуры, яе ўплыў звычайна, адчуваецца, перадусім, у тэатры, і менавіта тут яна заўсёды захоўвае сваю відавочнасць.

Дзякуючы непасрэднасьці свайго ўплыву кожны драматычны твор у вызначаным сэнсе застае гледача знянацку. У яго няма часу пакапацца ў сваёй памяці ці параіцца са знаўцамі; яму і ў галаву не прыходзіць супрацьстаяць новым літаратурным эмоцыям, пачынаючым у ім прачынацца; ён падначальваецца ім несьвядома, не паспеўшы ў іх разабрацца.

Не губляючы дарэмна часу, аўтары высвятляюць, у які бок так непрыкметна пачынае схіляцца густ публікі. У гэты ж бок яны разгортваюць і свае творы і тэатральныя п’есы, першымі зразумеўшымі і выказаўшы блізкасць наспяваючай літаратурнай рэвалюцыі, у хуткім часе здзяйсняюць яе на падмостках. Калі вы пажадаеце, забягаючы наперад, скласьці меркаванне пра літаратуру нейкага народа, ідучага да дэмакратыі, вывучайце яго тэатр.

Акрамя таго, нават у асяроддзі самых арыстакратычных нацый драматургія ўяўляе сабой найбольш дэмакратычны род літаратуры. Ніякія іншыя літаратурныя формы не дастаўляюць натоўпу столькі задавальнення, колькі яго прыносіць назіранне адбываючагася на падмостках. Драматычныя творы не патрабуюць папярэдняй падрыхтоўкі ці асаблівых ведаў. Яны захопліваюць вас адразу, наколькі б ні былі вы занятымі ці неадукаванымі. Калі яшчэ напалову некультурная павага да духоўных асалод пачынае пранікаць у той ці іншы грамадзкі стан, яна адразу ж заваблівае яго прадстаўнікоў у тэатр. Тэатры арыстакратычных нацый заўсёды запаўняліся гледачамі, цалкам не ўсё із якіх належалі да арыстакратыі. Толькі ў тэатры вышэйшыя станы перамешваліся з сярэднімі і ніжэйшымі станамі і калі першыя і не пагаджаліся з думкамі апошніх, то яны, ва ўсякім разе, памяркоўна ставіліся да таго, што яны выяўляліся ў іхнай прысутнасьці. Менавіта ў тэатры адукаваным, асьвечаным станам заўсёды былі неабходны асобныя намаганні, каб навязаць свае густы народу і каб самім не выпрабоўваць уплываў з боку густаў і думак народа. Партэр часта дыктуе ложам свае законы.

Калі нават арыстакратыі цяжка захаваць тэатр і не даць захапіць яго народу, няцяжка здагадацца, што народ стане ў ім паўнаўладным гаспадаром тады калі дэмакратычныя прынцыпы будуць прасякаць сабой законы і норавы краіны, калі станы перамяшаюцца адзін з адным, калі адрозненні паміж адукаванасьцю і невуцтвам, як і паміж багаццем і галечай, будуць памяншацца і калі пануючы стан страціць разам са сваімі спадчыннымі багаццямі сваю ўладу, свае традыцыі і свой вольны час.

У вобласьці літаратуры натуральныя густы і прыродныя схільнасьці дэмакратычных народаў, такім чынам, раней усяго выяяцца ў тэатры, і можна прадбачыць, што яны ўварвуцца ў яго гвалтоўным шляхам. У пісьмовасьці арыстакратычныя літаратурныя нормы будуць пераўтварацца патроху, паступова і, так бы мовіць, на легальным падмурку. У тэатры яны будуць скасаваны шляхам мецяжу.

Тэатр выяўляе вялікую частку вартасьцей і амаль усе заганы, уласьцівыя дэмакратычным літаратурам.

Дэмакратычныя народы без асаблівай павагі ставяцца да эрудыцыі і нікольki не клапоцяцца пра тое, што адбывалася ў Старажытным Рыме ці ў Афінах; яны жадаюць, каб гаворка ішла пра іх саміх і патрабуюць, каб выявы адлюстроўвалі сучаснасць.

Таму калі на падмостках часта ўвасабляюцца выявы антычных герояў з іхнымі маральнымі праблемамі і драматургі пякуцца пра адднасць антычным традыцыям, аднаго гэтага цалкам дастаткова, каб зрабіць выснову пра тое, што дэмакратычныя станы пакуль яшчэ не пануюць у тэатры.

Расін у прадмове да «Брытаніка» пакорліва просіць прабачэння за тое, што ён зрабіў Юнію адной із вясталак, тым часам як, адпаведна з думкай Аўла Гелія, паведамляе драматург, «у іхнае асяроддзе не бралі нікога маладзей шасьці і старэй дзесяці гадоў». Існуюць падставы меркаваць, што ён і не падумаў бы абвінавачваць сябе ці абараняцца супраць абвінавачванняў у здзяйсненні падобнага злачынства, калі б пісаў у нашы дні.

Такія паводзіны адлюстроўваюць не толькі стан літаратуры ў тыя часы, але таксама і стан самога грамадства. Дэмакратычны тэатр шчэ не з’яўляецца доказам таго, што нацыя з’яўляецца дэмакратычнай, таму што, як мы ўжо бачылі, нават у арыстакратыях можа здарыцца, што дэмакратычныя густы і думкі робяць свой уплыў на падмосткі; аднак тады, калі ў тэатры непадзельна пануе арыстакратычны дух, гэта неаспрэчна сведчыць пра тое, што ўсё грамадства ўяўляе сабой арыстакратыю і можна не баючыся зрабіць выснову, што ўсё той жа адукаваны, асьвечаны стан, які ўсталёўвае аўтарам свае законы, кіруе грамадзянамі і кіруе дзяржаўнымі справамі.

Нярэдка здараецца так, што вытанчанасць густу і схільнасць да фанабэрыстасьці, уласьцівыя арыстакратыі, прыводзяць яе да таго, што яна, з’яўляючыся заканадаўцай мод у тэатры, вымушае драматургаў выраблять, так бы мовіць, адбор якасьцей чалавечай прыроды. Арыстакратыю галоўным чынам цікавяць вызначаныя сацыяльныя ўмовы і акалічнасьці і ёй падабаецца знаходзіць іхныя адлюстраванні на падмостках; вызначаныя ўчыннасьці і нават вызначаныя заганы здаюцца ім годнымі асаблівай увагі драматургаў; яна прыхільна прынімае іхныя выявы, адначасова патрабуючы прыбраць з вачэй выявы ўсіх іншых чалавечых вартасьцей і недахопаў. У тэатры, як і ўсюды, арыстакратыя жадала б сустракацца толькі з магутнымі сеньёрамі, а калі і перажываць, то толькі за каралёў. Тое ж самае пра склад. Арыстакратыя ахвотна загадвае драматычным аўтарам тыя вымаўляемыя манеры і нормы, якія яны павінны аднаўляць; ёй было б пажаданым каб усе прытрымліваліся адзінага стылю.

З нагоды гэтага тэатр часта малюе толькі асобныя бакі чалавека ці нават часам надзяляе яго такімі рысамі, якія ніколі не сустракаюцца ў чалавечай прыродзе; тэатр адрываецца ад яе і губляе з ёю якую б то ні было сувязь.

У дэмакратычных грамадствах гледачы не маюць падобных пераваг і рэдка выяўляюць такое ж глыбокае непрыманне; на падмостках ім падабаецца назіраць тую ж самую бязладную сумесь акалічнасьцей, пачуццяў і думак, якую яны назіраюць у жыцці, тэатр робіцца больш захопліваючым, вульгарным і праўдападобным гледзішчам.

Тым часам драматургі, пішучыя для дэмакратычнай аўдыторыі, таксама адрываюцца ад чалавечай прыроды, схіляючыся, аднак, да процілеглай крайнасьці параўнальна з іхнымі папярэднікамі. Падахвочваемыя жаданнем перадаць драбнюткія падрабязнасьці і асаблівасьці бягучага моманту і пэўныя своеасаблівасьці вонкавага і ўнутранага аблічча пэўных людзей, яны забываюцца пра патрэбу аднаўляць у іх рысы ўласьцівыя ўсяму чалавечаму роду.

Пануючы ў тэатры, дэмакратычныя станы даюць драматургам поўную волю як у выбранні мастацкай трактоўкі сюжэта, так і ў выбранні саміх сюжэтаў.

Дзякую таму што павага да тэатра для дэмакратычных народаў з’яўляецца найбольш натуральнай із літаратурных схільнасьцей, колькасць драматургаў, гледачоў і пастаноў у іх увесь час павялічваецца. Усё гэта, складаемае із такіх розных элементаў раскіданых па ўсёй тэрыторыі краіны, не прызнае існавання адных і тых жа правіл і не падначальваецца адным і тым жа законам. Ні да якога пагаднення немагчыма прыйсьці пры такой вялізнай колькасьці суддзяў, не маючых кропак судатыкання і выносячых кожны свой уласны прысуд. Калі ў цэлым дэмакратыя надае сумневы ў мэтазгоднасьці існуючых літаратурных правіл і нормаў, то ў тэатры яна цалкам іх скасоўвае, нічым не замяняючы, акрамя сваволля кожнага аўтара і пераборлівасьці густу розных аўдыторый.

Тэатр таксама з асаблівай выразнасьцю дазваляе пабачыць усе тыя асаблівасьці, пра якія я ўжо паведамляў у агульных словах, уласьцівыя літаратурнай мове і літаратурнай творчасьці ва ўмовах дэмакратыі. Калі вы чытаеце крытычныя працы, у якіх ацэньваюцца драматургічныя творы створаныя ў часы Людовіка XIV, вас мімаволі здзіўляе тая глыбокая пашана, з якой публіка ставілася да падмосткавай праўдападобнасьці пастановы і тое значэнне, якое яна надавала логіцы выяўлення характараў, жадаючы, каб кожны персанаж заўсёды заставаўся самім сабой і не рабіў на падмостках нічога такога, што немагчыма было б лёгка патлумачыць і зразумець. У роўнай меры здзіўляе і тое значэнне, якое надавалася выбранню моўных формаў і тыя дробныя слоўнікавыя прыдзіркі, якія сыпаліся на галовы драматургаў.

Здаецца, што людзі жыўшыя ў часы Людовіка XIV, залішне высока шанавалі тыя прыватнасьці, якія можна было разгледзець у кабінеце, але якія на падмостках выслізгвалі ад іхнай увагі. Гэта таму што, у канчатковым рахунку, галоўнае заданне драматычнага твора ажыццяўляецца ў яго падмосткавай пастанове, а яго асноўная вартасць вызначаецца здольнасьцю хваляваць людзей. Падобнае стаўленне абумоўліваецца тым, што гледачы той эпохі былі адначасова і чытачамі драматычных твораў. Вяртаючыся із тэатра, яны бралі ў рукі тэкст, каб вынесьці сваё меркаванне пра пастаўлены твор.

У дэмакратычным грамадстве людзі глядзяць пастановы, але не чытаюць п’ес. Большасць прысутнічаючых на тэатральных пастановах шукаюць у іх не інтэлектуальных асалод, а моцных, бяручых за сэрца перажыванняў. Яны чакаюць, што ім будзе паказана пастанова і не разглядаюць яе з боку гледжання існуючых у яе змесьце літаратурных вартасьцей і, калі толькі аўтар у дастатковай меры валодае мовай і піша зразумела, а яго героі выклікаюць цікавасць і абуджаюць сімпатыю,

гледачы задаволены. Нічога іншага не патрабуючы ад мастацкай прыдумкі, яны адразу ж вяртаюцца да заклапочанасьцей рэчаіснага жыцця. Стыль, такім чынам, не мае асаблівай ролі, дзякуючы таму што на падмостках недахопы ў літаратурных правілах і нормах значна менш кідаюцца ў вочы.

Што ж да праўдзівасьці, то драматург, які захоўвае ёй вернасць, не ў стане часта ствараць творы, адзначаныя навізной, нечаканасьцю, дынамічнасьцю дзеяння. Таму звычайна аўтар ахвяруе праўдзівасьцю і публіка яму гэта даруе. Цалкам можна разлічваць на тое, што публіка не стане турбавацца з нагоды абранага вамі шляху, калі вы, нарэшце, прыведзяце яе да прадмета, здольнага яе расчуліць. Яна ніколі не папракне вас у тым, што вы ўсхвалявалі яе, парушыўшы пры гэтым правілы.

Гэтыя розныя пачуцці, якія я паспрабаваў апісаць, надзвычай вызначана выяўляюцца ў амерыканцаў, калі яны наведваюць тэатр. Патрэбна, аднак, прызнаць, што толькі вельмі нешматлікія із іх наогул робяць гэта. Хаця гледачоў і пастаноў у Злучаных Штатах зараз непамерна больш, чым было сорак гадоў назад, насельніцтва да гэтага роду забавак ставіцца яшчэ надзвычай стрымана.

Гэта тлумачыцца існаваннем своеасаблівых акалічнасьцей, з якімі чытач быў ужо пазнаёмлены і таму для нагадвання яму будзе дастаткова некалькіх слоў.

Пурытане, заснаваўшыя амерыканскія рэспублікі, былі не проста супернікамі зямных радасьцей, але і адчувалі своеасаблівы жах менавіта ў дачыненні да тэатра. Яны разглядалі яго ў якасьці агіднай забавы і там дзе іхныя перакананні панавалі непадзельна, тэатральныя пастановы былі абсалютна невядомымі. Падобныя настроі бацькаў-заснавальнікаў асад пакінулі глыбокі сьлед у духоўным жыцці іхных нашчадкаў.

Надзвычайная мернасць уладкавання жыцця і строгасць нораваў у Злучаных Штатах да гэтага часу мала спрыяюць развіццю тэатральнага мастацтва.

У краіне, не ведаўшай вялікіх палітычных катастроф, у краіне, дзе каханнне заўсёды вядзе непасрэднай і лёгкай дарагой да адружання, няма сюжэтаў для драмы. Людзі, занятыя на працягу кожнага будняга дня тыдня здабываннем грошай, а па-нядзелях молячыся Богу, не выказваюць ніякага спрыяння музе камедыі.

Для доказу таго, што тэатр у Злучаных Штатах непапулярны, дастаткова прывесьці адзін-адзінюткі факт. Амерыканцы, законы якіх дазваляюць не толькі поўную вольнасць слова, але нават і яго празмерную вольнасць, усё ж, прызначаюць для драматургаў адмысловую цэнзуру. Тэатральныя пастановы могуць ладзіцца толькі з дазволу гарадзкой адміністрацыі. Гэта вельмі навочна паказвае, што народы паводзяць сябе так жа, як і асобныя людзі. Яны бесшабашна аддаюцца сваім асноўньм жарсьцям, а потым з найвялікшай засьцярогай сочаць за тым, каб занадта не падпасьці пад уладу тых густаў, якімі яны самі не валодаюць.

Няма іншага літаратурнага накірунку, які такімі ж моцнымі і шматлікімі ніткамі быў бы злучаны з рэчаісным станам грамадства, як драма.

Тэатр адной эпохі ніколі не будзе падабацца людзям наступнай эпохі, калі яны падзелены рэвалюцыйным пераваротам, перамяніўшым норавы і законы.

Творы вялікіх пісьменнікаў, створаныя пад час іншых стагоддяў, працягваюць чытаць. Але ніхто не будзе глядзець п’есы, напісаныя для іншай аўдыторыі. Драматургі мінуўшых часоў жывуць толькі ў кнігах.

Традыцыйнасць густу асобных людзей, ганарыстасць, мода, талент актора могуць на некаторы час захаваць ці ж аднавіць арыстакратычны тэатр у нетрах

дэмакратыі, аднак ён хутка разваліцца сам па сабе. Яго не разбураюць, яго проста не наведваюць.

# Глава XX

## Пра некаторыя спецыфічныя асаблівасьці ўласьцівыя гісторыкам дэмакратычных часоў

Гісторыкі, ствараючыя творы пад час стагоддзяў арыстакратычнага кіравання, звычайна ставяць усе падзеі ў залежнасць ад волі і нораву некаторых людзей і ахвотна тлумачаць пачатак важнейшых рэвалюцыйных пераўтварэнняў збегам самых нікчэмных выпадковасьцей. Яны з уніклівасьцю апісваюць другарадныя падставы падзей і часта не заўважаюць асноўных.

Гісторыкі, жывучыя пад час стагоддзяў дэмакратыі, выяўляюць цалкам процілеглыя тэндэнцыі.

Большасць із іх амаль не надае ніякага значэння ўплыву індывіда на лёсы чалавечага роду ці ж уплыву прыватных грамадзянаў на долю ўсяго народа. Але наўзамен усе самыя нязначныя пэўныя факты яны тлумачаць уздзеяннем усеагульных асноўных магутнасьцей. З'яўленне гэтых процілеглых тэндэнцый цалкам тлумачальна.

Калі гісторыкі, жывучыя ў часы арыстакратыі, узіраюцца ў адбываючыяся на падмостках сусьвету падзеі, яны ад самага пачатку заўважаюць вельмі нязначную колькасць вядучых актораў, кіруючых ходам усёй пастановы. Гэтыя выбітныя асобы, выступаючы на пярэдні план, прыцягваюць да сябе і затрымліваюць на сабе позіркі; гісторыкі, заклапочаныя высвятленнем таемных матываў, падахвочваючых гэтых асоб дзейнічаць і выказвацца адпаведным чынам, забываюць пра ўсё на сьвеце.

Назіраючы за тым, як некаторыя людзі робяць важныя справы, яны засвойваюць перабольшанае ўяўленне пра магчымую магутнасць ўплыву асобы і натуральным чынам схіляюцца да думкі, што для тлумачэння рухаў усёй масы заўсёды патрэбна вяртацца да пэўнага ўчынку нейкага гістарычнага дзеяча.

Калі ж, наадварот, усе грамадзяне з'яўляюцца незалежнымі адзін ад аднаго і кожны із іх слабы, немагчыма знайсьці нікога, хто быў бы ў стане вырабіць вельмі моцны і галоўным чынам дастаткова працяглы ўплыў на масы. На першы погляд індывіды ўяўляюцца цалкам нямоглымі перад імі і здаецца, што грамадства само па сабе ідзе наперад дзякуючы вольнаму, самаахвотнаму спрыянню ўсіх складаючых яго людзей.

Гэта натуральным чынам вымушае чалавечы розум шукаць нейкую ўсеагульную падставу, здольную, разам уплываючы на галовы такой колькасьці людзей, павярнуць іх адначасова ў адзін і той жа бок.

Я цьвёрда перакананы ў тым, што нават у дэмакратычных нацыях адоранасць, заганнасць ці маральнасць прыватных індывідаў запавольваюць ці ж паскараюць натуральнае развіццё народа, але гэтыя віды выпадковых і другарадных нагод выяўляюцца бясконца больш шматстайнымі, таемнымі, заблытанымі і не такімі магутнымі, як асноўныя. З гэтай нагоды іх цяжэй выявіць і сачыць за імі ў часы роўнасьці параўнальна з часамі арыстакратыі, калі гісторыку воляй-няволяй даводзілася аналізаваць пэўныя дзеянні аднаго ці некалькіх грамадзкіх дзеячоў на фоне агульных падзей.

Гісторык дэмакратычных часоў хутка стамляецца ад падобнай працы; губляючыся ў лавіне фактаў і падзей і не маючы магчымасьці прыйсьці да выразнага разумення і простага тлумачэння ролі і ўплыву асоб, ён пачынае іх адмаўляць. Ён аддае перавагу таму каб распавядаць нам пра прыроджаныя ўласьцівасьці рас, фізіка-геаграфічныя асаблівасьці краіны ці ж пра дух цывілізацыі. Ён скарачае аб’ём сваёй працы, дастаўляючы чытачу большае задавальненне пры меншых выдатках.

Спадар дэ Лафайет у сваіх «Мемуарах» пісаў, што празмерны давер да сістэмы ўсеагульных падставаў – цудоўнае суцяшэнне для грамадзкіх дзеячоў сярэдняй рукі. Да гэтага я б дадаў, што ён у значнай меры суцяшае і сярэдніх гісторыкаў. Ён заўсёды дае ў іхнае распараджэнне некалькі важных аргументаў, дазваляючых ім лёгка пазбегнуць рашэння самага цяжкага прафесійнага задання і, спрыяючы іхнай разумовай слабасьці ці ляноце, усё ж стварае вакол іх арэол глыбакадумнасьці.

Што да мяне, то я лічу, што пад час якой бы то ні было эпохі адну частку падзей, адбываючыхся ў гэтым сьвеце, варта адносіць да падзей вельмі агульнага характару, а другую іхную частку – тлумачыць вельмі вызначанымі, своеасаблівымі нагодамі. Гэтыя дзьве катэгорыі нагод заўсёды ўзаемазлучаны, пераменяюцца толькі іхныя суадносіны. Нагоды агульнага плана лепш і больш паўна, чым акалічнасьці і ўплывы прыватнага парадку, тлумачаць становішча спраў пад час стагоддзяў дэмакратыі параўнальна з перыядамі арыстакратычнага кіравання. У часы арыстакратыі мае месца якраз процілеглае: вызначаныя акалічнасьці і ўплывы маюць вялікую ролю, а агульныя нагоды – меншую, калі, вядома, мы не разглядаем у якасьці ўсеагульнай нагоды саму няроўнасць грамадзкага становішча людзей, якая дазваляе асобам супрацівіцца натуральным падахвочванням усіх астатніх грамадзянаў.

Такім чынам, гісторыкі, спрабуючыя намаляваць жыццё дэмакратычнага грамадства, маюць рацыю ў тым, што яны надаюць вялікае значэнне нагодам агульнага плана і надаюць асноўную ўвагу іхнаму выяўленню; аднак яны не маюць рацыі ў тым, што цалкам адмаўляюць ролю ўздзеяння прыватных індывідаў грунтуючыся толькі на той падставе, што яе значэнне цяжка ўсталяваць і прасачыць.

Гісторыкі, жывучыя ў дэмакратычныя часы, не толькі схільны тлумачыць кожнае здарэнне нейкай глабальнай нагодай, але таксама празмерна размешчаны ўсталёўваць узаемасувязі паміж фактамі і стварыць із іх сістэму.

Пад час стагоддзяў арыстакратыі, калі ўся ўвага гісторыкаў накіравана на асобу і ўчынкі індывідаў, узаемасувязь паміж падзеямі выслізае ад іхнага позірку, ці, больш дакладна, яны загадзя не вераць у магчымасць існавання падобнай узаемасувязі. Ім здаецца, што кожны чалавек, з’яўляючыся на гістарычных падмостках, разрывае нітку гісторыі, пераіначваючы яе ход.

Пад час стагоддзяў дэмакратыі, наадварот, бачачы значна менш выбітных актораў, але значна больш насычаную падзеямі пастанову, гісторык лёгка можа ўсталяваць роднасныя ўзаемасувязі паміж гэтымі падзеямі і іх строгую спарадкаванасць.

Антычная пісьмовасць, пакінуўшая нам такія цудоўныя гістарычныя творы, не сфармавала ніводнай вялікай гістарычнай сістэмы, тады як у самых нязначных сучасных літаратурах назіраецца іх літаральнае засілле. Відаць, старажытныя

гісторыкі ў недастатковай меры карысталіся агульнымі тэорыямі, тым часам як нашы гісторыкі заўсёды блізкія да злоўжывання імі.

Творчасць гісторыкаў, жывучых у дэмакратычныя часы, адзначана яшчэ адной, больш небяспечнай асаблівасьцю.

Калі сляды ўплыву паводзін індывідаў на жыццё нацыі згублены, часта бывае так, што мы бачым рух сусьвету, не бачачы рухаюных яго магутнасьцей. Дзякуючы таму што ўсталяваць і прааналізаваць нагоды, уплываючыя па асобку на волю кожнага грамадзяніна, у выніку рухаючыя ўвесь народ, робіцца надзвычай цяжка, нас пачынае спакушаць думку пра тое, што гэты рух вымушаны, што чалавечае грамадства, само таго не ўсьведамляючы, падначальваецца перасягаючай яго і пануючай над ім магутнасьці.

Нават выснова пра зямны характар усеагульнай нагоды, кіруючай індывідуальнай воляй кожнага, не ратуе чалавечую волю. Адзіная нагода, дастаткова ўсеагульная для таго, каб разам уплываць на мільёны людзей і дастаткова магутная, каб накіраваць іх усіх у адным накірунку, лёгка малюецца магутнасьцю неперэадольваемай; бачучы, як перад ёй схіляюцца, вы гатовы паверыць у тое, што ёй немагчыма супрацьстаяць.

Такім чынам, гісторыкі, жывучыя пры дэмакратыі, не толькі адмаўляюць якім бы то ні было асобным грамадзянам у магчымасьці ўплываць на лёс свайго народа, але таксама забіраюць у саміх народаў здольнасць перамяніць уласную долю, падначальваючы іх або нязменнаму лёсу, або свайго роду сляпой непазбежнасьці. Адпаведна з іхнай думкай, кожная нацыя мае свой непазбежны лёс, прадвызначаны яе становішчам, паходжаннем, яе мінулым і прыроджанымі асаблівасьцямі і гэты лёс ніякія намаганні не здольны перамяніць. Яны прабстаўляюць пакаленні ў іхнай непарыўнай узаемасувязі і, ідучы такім чынам ад стагоддзя да стагоддзя, ад адных непазбежных падзей да іншых непазбежных падзей, даходзяць да часоў стварэння сьвету і куюць магутныя ланцугі, звязваючыя і аблытваючыя ўвесь людзкі род.

Яны не задавальняюцца пошукам логікі адбываючагася; іх задавальняе уласная здольнасць пераканаць чытача ў тым, што нічога іншага і не магло адбыцца. Разглядаючы становішча нейкай нацыі, дасягнуўшай вызначанай стадыі свайго гістарычнага развіцця, яны сцвярджаюць, што рух па гэтаму шляху насіў вымушаны і непазбежны характар. Гэта лягчэй, чым паказваць, якім чынам яна магла б абраць больш годны шлях.

Калі вы чытаеце творы гісторыкаў, жывучых пры арыстакратыі і асабліва гісторыкаў антычных, вам здаецца, што для таго, каб стаць валадаром свайго ўласнага лёсу і каб кіраваць сабе падобнымі, чалавеку патрэбна было толькі навучыцца ўтаймоўваць самога сябе. Калі вы праглядаеце гістарычныя працы напісаныя ў наш час, складаецца ўражанне: быццам бы чалавек цалкам нічога не можа зрабіць ні з самім сабой, ні са сваім асяроддзем. Старажытныя гісторыкі навучалі мастацтву самавалодання, гісторыкі нашых дзён амаль нічаму, акрамя пакорнасьці, не навучаюць. У іхных творах фігура аўтара часта знаходзіць значнасць, але само чалавецтва – заўсёды нікчэмнае.

Калі гэтая дактрына фатальнай непазбежнасці, з’яўляючаяся такой прывабнай для тых, хто піша пра гісторыю ў часы дэмакратыі, перадаючыся ад гісторыкаў да чытачоў, пашырыцца, такім чынам, на ўсе пласты народных мас і завалодвае грамадзкай свядомасьцю, то можна прадбачыць, што яна хутка паралізуе актыўнасць сучаснага грамадства і ператворыць хрысьціянаў у турак.

Да гэтага я б дадаў, што падобная дактрына з’яўляецца асабліва небяспечнай для той эпохі, пад час якой мы жывём: нашы сучаснікі і так маюць залішнюю схільнасць сумнявацца ў рэчаіснасьці вольнасьці волі, таму што кожны адчувае сваю слабасць, абмяжоўваючую яго з усіх бакоў. Яны, усё ж, усё яшчэ ахвотна прызнаюць магутнасць і незалежнасць людзей, уяўляючых сабой грамадзка-палітычнае адзінства. Патрэбна сачыць, каб гэтая ідэя не апынулася забытай, таму што заданне складаецца ў акультурванні чалавечых душ, а не ў іх поўным прыгнечанні.

# Глава XXI

## Пра парламенцкае красамоўства ў Злучаных Штатах

У арыстакратычнай дзяржаве ўсе людзі ўзаемазлучаны і залежаць адзін ад аднаго; паміж імі ўсімі існуе іерархічная сувязь, з дапамогай якой кожнага можна ўтрымаць на яго месцы і ўсё грамадства – у падначаленні. Нешта аналагічнае заўсёды можна сустрэць і ў палітычных інстытутах, створаных арыстакратычнымі народамі. Іхныя партыі натуральным чынам складаюцца із прыхільнікаў некаторых лідараў, якім яны падначальваюцца безумоўна, кіруючыся свайго роду інстынктам – звычкай падначальвацца, набытай імі падчас засваення жыццёвага досьведу. У свае групоўкі яны прыносяць норавы, пануючыя ва ўсім грамадстве.

У дэмакратычных краінах часта бывае так, што вялікая колькасць грамадзянаў ідзе да адной і той жа мэты; кожны із іх крочыць ці, прынамсі, лічыць, што крочыць кіруючыся сваімі ўласнымі меркаваннямі. Прызвычаіўсяшыся ўзгадняць свае дзеянні толькі з уласнымі ўнутранымі імпульсамі, людзі з цяжкасьцю падначальваюцца загадам звонку. Гэтую павагу і звычку да незалежнасьці яны захоўваюць і засядаючы ў нацыянальных сходах. Пагаджаючыся аб’яднацца з іншымі людзьмі для дасягнення адной і той жа мэты, кожны із іх мае жаданне застацца незалежным прынамсі ў выбары спосабаў асабістага саўдзелу ў агульнай справе.

Таму ў дэмакратычных краінах партыі з такой нецярплівасьцю ставяцца да спроб кіраваць імі і выяўляюць гатоўнасць падначальвацца толькі тады, калі небяспека выглядае занадта вялікай. І нават у тых выпадках, калі акалічнасьці спрыяюць умацаванню аўтарытэта лідараў, іхная ўлада можа быць дастатковай для таго, каб прымусіць сябраў партыі дзейнічаць і выказвацца адпаведным чынам, але яна амаль ніколі не бывае такой моцнай, каб прымусіць іх маўчаць.

У арыстакратычных народаў людзі, біручыя ўдзел у палітычных нарадах, – прадстаўнікі ўсё той жа арыстакратыі. Кожны із іх мае сваё ўласнае прывілеяванае і ўстойлівае грамадзкае становішча і месца, займаемае ім у палітычных інстытутах, часта ўяўляецца яму самому менш важным, чым тая роля, якую ён мае ў жыцці свайго краю. Гэта суцяшае яго ў выпадку, калі яго голас цалкам не ўплывае на ход абмеркавання дзяржаўных справаў і астужае яго запал, калі ён гатовы падшукваць для сябе хай нават і малапрыкметную палітычную пасаду.

У Амерыцы ж грамадзкая вага дэпутата звычайна вызначаецца выключна яго становішчам у заканадаўчых установах. Таму яго няспынна турбуе патрэба знаходзіць значнасць і ўплыў і ён адчувае моцнае жаданне з кожнай нагоды і без нагоды выказваць свае меркаванні.

Ён імкнецца быць на вачах, падахвочваемы не толькі ўласнай ганарыстасьцю, але і дзякуючы патрабаванням людзей, аддаўшых за яго свае галасы, а таксама патрэбнай увесь час падабацца і пагражаць ім.

У арыстакратычных народаў дэпутат заканадаўчага сходу рэдка адчувае непасрэдную залежнасць ад сваіх выбаршчыкаў; часам яны самі знаходзяцца ў непасрэднай залежнасьці ад яго і калі яны, нарэшце, адмаўляюць яму ў сваім даверы, ён лёгка можа выставіць уласную кандыдатуру ў іншым месцы ці ж, адмовіўшыся ад грамадзкай дзейнасьці, можа прысьвяціць сябе адасобленаму вольнаму існаванню і вольнай бяздзейнасьці, што таксама не пазбаўлена свайго хараства.

У такой дэмакратычнай краіне, як Злучаныя Штаты, давер выбаршчыкаў да дэпутата амаль ніколі не бывае пастаянным. Наколькі б ні былі малалікімі выбарныя ўстановы ўлады, нестабільнасць дэмакратычнага грамадства няспынна вымушае іх перамяняць свой склад. Давер выбаршчыкаў павінен заваёўвацца ўвесь час. Дэпутат ніколі не ўпэўнены ў выбаршчыках і, калі яны адварочваюцца ад яго, ён адразу ж апынаецца без якой бы то ні было падтрымкі, таму што яго грамадзкае становішча з’яўляецца занадта сціплым для таго, каб яго маглі добра ведаць людзі, якія не ўваходзяць у вузкае кола родных і блізкіх. І таму што грамадзяне жывуць ва ўмовах поўнай незалежнасьці, ён не можа разлічваць на тое, што яго сябрам ці ўраду без асаблівых цяжкасьцей атрымаецца навязаць яго кандыдатуру выбаршчыкам нейкай акругі, дзе яго цалкам не ведаюць. Таму ўсе парасткі яго лёсу фармуюцца ў той акрузе, якую ён прадстаўляе; менавіта на гэтым лапіку зямлі ён павінен прарасьці, каб падняцца да вышынь, дазваляючых яму кіраваць цэлым народам і ўплываць на лёсы сьвету.

Такім чынам, цалкам натуральна, што ў дэмакратычных краінах сябры абіраемых палітычных інстытутаў больш думаюць пра сваіх выбаршчыкаў, чым пра сваю партыю, тады як у арыстакратычных дзяржавах іх больш цікавяць справы іхнай партыі, чым зацікаўленасьці выбаршчыкаў.

Аднак тое, што ад іх жадаюць чуць іхныя выбаршчыкі, не заўсёды супадае з тым, што ім належала б рабіць грунтуючыся на зацікаўленасьцях прапагандуемых імі палітычных перакананняў.

Агульныя мэты той партыі, сябрам якой з’яўляецца дэпутат, часта патрабуюць ад яго маўчання тады, калі гаворка заходзіць пра сур’ёзныя пытанні, у якіх ён дрэнна разбіраецца; патрабуюць умеранасьці тады, калі гаворка ідзе пра прыватнасьці, здольныя абцяжарыць ажыццяўленне важных імпрэз і, нарэшце, часьцей усяго патрабуюць ад яго поўнага маўчання. Самую вялікую карысць грамадзкасьці сярэдні гаварун можа прынесьці тым, калі будзе маўчаць.

Аднак выбаршчыкі да дадзенага пытання ставяцца цалкам інакш.

Насельніцтва той ці іншай акругі даручае вызначанай грамадзянскай асобе браць удзел у кіраванні дзяржавай таму, што яно вельмі высокай думкі пра яго вартасьці. Дзякуючы таму што людзі здаюцца тым больш велічнымі, чым больш нікчэмным выглядае атачаючае іх становішча, існуюць падставы лічыць, што выбаршчыкі будуць мець тым больш высокую думку пра свайго выбранніка, чым радзей будуць сустракацца таленавітыя людзі сярод тых, каго ён прадстаўляе. Таму часта бывае так, што выбаршчыкі злучаюць са сваім дэпутатам тым больш вялікія надзеі, чым менш ад яго варта чаго б там ні было чакаць і, якім бы ні быў ён няздольным, яны не прапусьцяць выпадак і будуць патрабаваць ад яго

надзвычайных намаганняў, адпавядаючых таму грамадзкаму становішчу, якое ён набыў дзякуючы ім.

Выбаршчыкі ў сваім прадстаўніку бачаць не толькі дэпутата заканадаўчай установы ўсёй дзяржавы, але і абаронцу зацікаўленасьцей акругі ў заканадаўчым сходзе; яны нават выяўляюцца схільнымі разглядаць яго ў якасьці даверанай асобы сваіх выбаршчыкаў і лісліваць сябе надзеяй, што ён з роўнай стараннасьцю будзе абараняць як зацікаўленасьці ўсёй краіны, так і іхныя прыватныя зацікаўленасьці.

Таму выбаршчыкі загадзя ўпэўнены ў тым, што дэпутат, якога яны абяруць, будзе цудоўным прамоўцай, што ён будзе выступаць па магчымасьці часта, а ў выпадку, калі ён будзе вымушаны ўстрымлівацца ад выступленняў, ён здолее, прынамсі, у сваіх рэдкіх прамовах, даць аналіз усіх самых важных дзяржаўных пытанняў і разам з тым выказаць усе іхныя ўласныя дробныя прэтэнзіі і скаргі і зробіць гэта так, што замест пастаянных фантанаў слоў ён будзе час ад часу лаканічна выказваць усе свае погляды і патрабаванні выбаршчыкаў, падаючы іх у выглядзе свайго роду бліскучых і поўных рэзюмэ. Толькі на гэтых умовах яны абяцаюць галасаваць за яго ў наступны раз.

Гэта даводзіць да роспачы сумленных людзей, якія, усведамляючы сваю пасярэднасць, не пачыналі б самі сябе выстаўляць напаказ. Падахвочваемы такім чынам дэпутат, да вялікага засмучэння сяброў, просіць слова і, неразважліва далучаючыся да кола самых услаўленых прамоўцаў, пераблытвае ход спрэчак і дакучае сходу.

Усе законы, павялічваючыя залежнасць абранай асобы ад выбаршчыкаў, уплываюць не толькі на паводзіны заканадаўцаў, як ужо было адзначана, але і на іхныя выказванні. Яны адначасова ўплываюць як на ход спраў так і на манеру ведання дэбатаў.

Наўрад ці знойдзецца кангрэсмэн, які пагадзіцца вярнуцца да роднага агменю перш, чым выступіць хаця б з адной прамовай і які дазволіць перапыніць сваё выступленне перш, чым выкажа ў ім усё тое, што ён можа сказаць дзеля выгоды ўсіх дваццаці чатырох злучаных штатаў і асабліва дзеля карысьці прадстаўляемай ім акругі. Такім чынам, ён выстаўляе на суд сваіх слухачоў, сам таго не ўсьведамляючы, а таму вельмі блытана, вялікія агульныя праўды, перамяжоўваючы іх дробнымі прыватнымі фактамі, знайсьці і выказаць якія яму каштуе немалых высілкаў. Адпаведна, вельмі часта бывае так, што дэбаты, адбываючыяся ў гэтым прадстаўнічым сходзе, набываюць няпэўны, заблытаны характар і, здаецца, што яны не столькі ідуць, колькі цягнуцца, ледзь валакучы ногі, у накірунку да запланаванай мэты.

Я думаю, што нешта падобнае заўсёды павінна адбывацца ў дэмакратычных сходах грамадзкасьці.

Спалучэнне спрыяючых акалічнасьцей і добрых законаў магло б дапамагчы выбранню ў заканадаўчыя сходы дэмакратычнай дзяржавы людзей куды больш годных, чым тыя, каго амерыканцы выпраўляюць у кангрэс; аднак нішто не можа перашкодзіць пасрэдным асобам, апынуўшымся там, ахвотна раз-пораз выстаўляць сябе напаказ.

Лічу, што наўрад ці можна ад гэтага зла пазбавіцца цалкам, таму што яно залежыць не толькі ад рэгламенту правядзення паседжанняў, але і ад складу кангрэса і ад канстытуцыі краіны.

Самі жыхары Злучаных Штатаў, відаць, менавіта з гэтага боку гледжання глядзяць на гэты прадмет, таму што працяглы досьвед працы іхнай парламенцкай

сістэмы сведчыць пра тое, што яны не перапыняюць выступаў дрэнных прамоўцаў, але мужна падначальваюцца патрэбе іх выслухоўваць. Яны прыміраюцца з імі, як са злом, якое грунтуючыся на сваім уласным досьведзе, яны прызнаюць непазбежным.

Мы паказалі недахопы палітычнага жыцця пры дэмакратыі; разгледзім зараз яго вартасьці.

Тое, што адбывалася ў ангельскім парламенце на працягу ста пяцідзесяці гадоў, ніколі не мела наступствам ніякага шуму за межамі краіны; ідэі і пачуцці, выказваемыя ангельскімі прамоўцамі, не выклікалі асаблівых сімпатый нават у народаў, жывучых па суседству з вялікім тэатрам брытанскай вольнасьці, тады як ужо самыя першыя дэбаты, адбыўшыяся ў маленечкіх асамблеях паўночна-амерыканскіх асад пад час эпохі рэвалюцыі, усхвалявалі Яўропу.

Гэта абумоўлівалася не толькі выпадковым збегам пэўных акалічнасьцей, але і нагодамі агульнага, даўгачасовага характару.

Я не ўяўляю сабе нічога больш пышнага і ўражваючага, чым выступленне вялікага прамоўцы, абмяркоўваючага самыя важныя пытанні з трыбуны сапраўды дэмакратычнай асамблеі. Дзякуючы таму што ніякі вызначаны стан ніколі не прадстаўлены тут людзьмі, абавязанымі ахоўваць яго вузкастанавыя зацікаўленасьці, прамоўца заўсёды звяртаецца да ўсёй нацыі і ад імя ўсяго народа ў цэлым. Гэта надае высакароднасць яго думцы, надае асоблівую магутнасць і выразнасць яго выказванням.

Дзякуючы таму што прэцэндэнты губляюць сваю магутнасць, а прывілеі больш не злучаны з вызначанымі відамі ўласнасьці, пазбаўляючы некаторыя інстытуты і пэўных людзей іхных спадчынных правоў, абмеркаванне кожнага пытання, займаючага ўвагу грамадзкасьці, непазбежна вяртаецца да living рознастайных агульных уяўленняў, уласьцівых самой прыродзе чалавека. Дзякуючы гэтай нагодзе палітычныя дыскусіі дэмакратычнага народа, наколькі б нязначнымі ні былі праблемы да якіх яны маюць дачыненне, набываюць уласьцівасьці ўсеагульнасьці, часта выкліваючыя да сябе цікавасць усяго чалавецтва. Кожны чалавек цікавіцца гэтымі дыскусіямі таму, што гаворка ў іх ідзе пра чалавека, прырода якога паўсюдна адзіная.

Наадварот, у самых вялікіх арыстакратычных народаў пытанні найбольш агульнага характару заўсёды абмяркоўваюцца з дапамогай нейкіх пэўных аргументаў, запазычаных із практыкі дадзенай гістарычнай эпохі ці ж абумоўленых правамі нейкага аднаго стана; у выніку яны ўяўляюць цікавасць толькі для таго стана, пра які ідзе гаворка, ці ж, у лепшым выпадку, для таго народа, у нетрах якога ўтварыўся дадзены стан.

Гэта нагода побач з веліччу французскай нацыі і прыхільнасьцю да яе іншых народаў спрыяе таму, што нашы палітычныя дыскусіі часам выпрацоўваюць на астатні сьвет такое глыбокае ўражанне.

Нашы прамоўцы часта звяртаюцца да ўсіх людзей нават тады, калі іхныя прамовы адмыслова прызначаны для сваіх суграмадзянаў.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ.

## Уплыў дэмакратыі на пачуцці амерыканцаў

# Глава I

## Чаму дэмакратычныя народы з большым запалам і пастаянствам шануюць роўнасць, чым вольнасць

Наўрад ці існуе патрэба папярэджваць, што із усіх пачуццяў, народжаных у грамадстве роўнасцю ўмоваў, самай галоўнай і самай моцнай з’яўляецца павага да гэтай самай роўнасьці. Таму не варта здзіўляцца таму, што я выказваюся пра яе перш усіх.

Усе заўважылі, што ў наш час і асабліва ў Францыі гэтае імкненне да роўнасьці з кожным днём усё больш захоплівае чалавечыя сэрцы. Сотні разоў ужо гаварылася, што нашы сучаснікі з куды большай палкасьцю і сталасьцю выказваюць схільнасць да роўнасьці, чым да вольнасьці; аднак я не лічу, што нагоды дадзенай акалічнасьці выяўлены з дастатковай паўнатой. Паспрабую зрабіць гэта.

Цалкам магчыма ўявіць сабе тую крайнюю кропку, у якой вольнасць і роўнасць перасякаюцца і аб’ядноўваюцца.

Будзем лічыць, што ўсе грамадзяне саўдзельнічаюць у кіраванні дзяржавай і што кожны мае цалкам роўнае права браць у гэтым удзел.

У гэтым выпадку ніхто не будзе адрозніваца ад сабе падобных і ніводзін чалавек не здолее завалодаць тыранічнай уладай; людзі будуць цалкам вольнымі, таму што яны будуць цалкам роўнымі і яны будуць цалкам роўнымі, таму што будуць цалкам вольнымі. Менавіта да гэтага ідэалу імкнуцца дэмакратычныя народы.

Такой з’яўляецца самая поўная форма роўнасьці, якая толькі можа быць усталявана на зямлі; існуюць, аднак, тысячы іншых форм, якія, не будучы такімі ж дасканалымі, наўрад ці з’яўляюцца менш дарагімі для гэтых народаў.

Роўнасць можа быць усталявана для грамадства, не пашыраючыся на сферу палітычнага жыцця краіны. Кожны можа мець права выпрабоўваць адны і тыя ж радасьці жыцця, абіраць якую пажадаецца прафесію, мець доступ на ўсе грамадзкія сходы – словам, весьці аднолькавы з усімі лад жыцця і дамагацца матэрыяльнага дабрабыту з дапамогай адных і тых жа сродкаў без таго, каб усе бралі ўдзел у кіраванні дзяржавай.

Вызначанага роду роўнасць можа ўсталявацца ў палітычным жыцці нават пры поўнай адсутнасьці палітычнай вольнасьці. Індывід можа быць роўным з усімі астатнімі людзьмі, за выключэннем аднаго-адзінюткага чалавека, які, непадзельна пануючы над усімі, здольны без якога б то ні было адрознення набіраць із іх выканаўцаў сваёй улады.

Без цяжкасьцей можна было б прапанаваць шмат іншых гіпатэтычных пабудоваў, у якіх вельмі значная ступень роўнасьці здольна лёгка спалучацца з наяўнасцю большай ці меншай вольнасьці палітычных інстытутаў ці нават з інстытутамі, цалкам пазбаўленымі вольнасьці.

Хаця людзі, не будучы цалкам вольнымі, не могуць быць абсалютна роўнымі і хаця, адпаведна, роўнасць у сваім крайнім значэнні супадае з вольнасьцю, усе ж існуюць значныя падставы бачыць адрозненні паміж гэтымі двума разуменнямі.

Павага людзей да вольнасьці і тая схільнасць, якую яны адчуваюць да роўнасьці ў рэчаісным жыцці, – цалкам розныя пачуцці і я адважуся дадаць, што ў дэмакратычных народаў гэтыя пачуцці не роўныя па магутнасьці і значэнні.

Пры ўважлівым разгляданні можна пабачыць, што кожнае стагоддзе адзначана адной своеасаблівай рысай, з якой злучаны астатнія яго асаблівасьці; гэтая рыса амаль заўсёды спараджае асноватворчую ідэю ці ж пануючы запал стагоддзя, які, у канчатковым рахунку, прыцягвае да сябе і захоплівае сваёй плынню ўсе чалавечыя пачуцці і ўсе ідэі падобна таму, як вялікая рака прыцягвае да сябе кожны бегучы паблізу ручай.

Вольнасць паказвала сябе людзям у розныя часы ў розных формах; яна не злучана выключна з нейкай адной формай сацыяльнага ўладкавання і сустракаецца не толькі ў дэмакратычных дзяржавах. Таму яна не можа ўяўляць сабой адметнай рысы дэмакратычнай эпохі.

Той асаблівай, выключнай рысай, адрозніваючай дадзеную эпоху ад папярэднічаўшых, з'яўляецца роўнасць умоў існавання; пануючым запалам, рухаючым сэрцы людзей у такія часы, выступае павага да гэтай роўнасьці.

Не пытайце, якое такое хараство дэмакратычныя народы бачаць у тым, што ўсе іхныя грамадзяне жывуць аднолькава, не пытайце і пра асобныя нагоды, якія могуць патлумачыць такую іхную зацятую прыхільнасць менавіта да роўнасьці ў шэрагу ўсіх астатніх даброт, даваемых ім грамадствам: роўнасць выступае адметнай прыкметай іхнай эпохі. Гэтага цалкам дастаткова для тлумачэння той перавагі, якую яны надаюць роўнасьці.

Незалежна ад пазначанай нагоды, аднак, існуе шмат іншых матываў, якія ва ўсе часы згодна са звычаем вымушалі людзей аддаваць перавагу роўнасьці перад вольнасьцю.

Калі нейкі народ здолеў самастойна знішчыць у сябе ці хаця б паслабіць панаванне роўнасьці, ён дасягаў гэтага толькі ў выніку доўгіх і пакутлівых намаганняў. Для гэтага яму патрэбна была перамяніць сваё сацыяльнае ўладкаванне, скасаваць свае законы, трансфармаваць звычаі і норавы. Палітычную вольнасць, наадварот, патрэбна ўвесь час моцна трымаць у руках: дастаткова паслабіць намаганні і яна выслізгвае.

Такім чынам, людзі ўчэпіста трымаюцца за роўнасць не толькі таму, што яна для іх з'яўляецца каштоўнай; яны прывязаны да яе яшчэ і таму, што вераць у яе незнішчаемасць.

Самыя абмежаваныя і легкадумныя людзі ўсведамляюць, што празмерная палітычная вольнасць здольна стаць небяспечнай для спакою, спадчыннай маёмасьці і жыцця індывідаў. Наадварот, толькі надзвычай уважлівыя і праніклівыя людзі заўважаюць тую небяспеку для нас, якую ўтойвае ў сабе роўнасць і, звычайна, яны ўхіляюцца ад абавязку папярэджваць атачаючых пра гэтую пагрозу. Яны ведаюць, што тыя няшчасьці, якіх яны асьцерагаюцца, з'яўляюцца яшчэ вельмі далёкімі і цешаць сябе надзеяй, што гэтыя беды выпадуць толькі на долю будучых пакаленняў, да якіх сучаснаму пакаленню мала справы. Тое зло, якое прыносіць з сабой вольнасць, часам выяўляецца неадкладна; негатыўныя бакі вольнасьці бачны ўсім і ўсе больш-менш востра іх адчуваюць. Тое зло, якое можа вырабіць крайняя ступень роўнасьці, выяўляе сябе паступова; яно памаленьку пранікае ў тканкі грамадскага арганізму; яно заўважаецца толькі зрэдку і ў той момант, калі яно робіцца асабліва разбуральным, звычка да роўнасьці ўжо робіць людзей неадчувальнымі.

Тое дабро, якое прыносіць з сабой вольнасць, выяўляецца толькі праз доўгі час і таму заўсёды лёгка памыліцца ў нагодах, спарадзіўшых гэтае дабро.

Перавагі роўнасьці адчуваюцца неадкладна і штодня можна назіраць тую крыніцу, із якога яны паходзяць.

Палітычная вольнасць час ад часу даруе высокую асалоду абмежаванай колькасьці грамадзянаў.

Роўнасць штодня надзяляе кожнага чалавека масай дробных задавальненняў. Прывабнасць роўнасьці адчуваецца ўвесь час і дзейнічае на кожнага; яе чарам паддаюцца як самыя шляхетныя сэрцы так і самыя нізкія душы з захапленнем аддаюцца яго асалодам. Такім чынам, запал абуджаемы роўнасьцю, адначасова з’яўляецца як моцным, так і ўсеагульным.

Людзі не могуць карыстацца палітычнай вольнасьцю, не аплочваючы яе нейкімі ахвярамі і яны ніколі не авалодваюць ёю без вялікіх намаганняў. Радасьці ж дастаўляемыя роўнасьцю, не патрабуюць ні ахвяр, ні намаганняў – іх спараджае якая заўгодна нязначная падзея прыватнага жыцця і каб цешыцца імі, чалавеку дастаткова проста жыць.

Дэмакратычныя народы заўсёды з павагай ставяцца да роўнасьці, аднак бываюць перыяды, калі яны даводзяць гэтую павагу да ашалеласьці. Гэта здараецца тады, калі старая грамадзкая іерархія, доўга расхістваемая, канчаткова разбураецца ў выніку апошніх лютых міжусобных сутычак і калі бар’еры, падзяляўшыя грамадзянаў, нарэшце, выяўляюцца скасаванымі. У такія часы людзі накідаюцца на роўнасць, як на здабычу і ўшаноўваюць яе, як каштоўнасць, якую ў іх могуць выкрасьці. Запал да роўнасьці пранікае ва ўсе куткі чалавечага сэрца, перапаўняючы яго і завалодваючы ім цалкам. Не мае сэнсу тлумачыць людзям, што слепа аддаючыся аднаму выключнаму запалу, яны ставяць пад пагрозу свае самыя жыццёва важныя зацікаўленасьці: людзі застаюцца глухімі. Не мае сэнсу даводзіць людзям, што, пакуль яны глядзяць у іншы бок, яны губляюць вольнасць, выслізгаючую непасрэдна із іхных рук: яны застаюцца сляпымі ці, хутчэй, здольнымі бачыць ва ўсім сусьвеце толькі адзін-адзінюткі прадмет сваіх жаданняў.

Усё вышэйпавядомленае мае дачыненне да ўсіх дэмакратычных нацый. Тое, пра што гаворка пойдзе ніжэй, мае дачыненне толькі да нас саміх – да французаў.

У большай часткі сучасных нацый і асабліва ў народаў кантынентальнай Яўропы, імкненне да вольнасьці і сама ідэя вольнасьці пачалі нараджацца і распрацоўвацца толькі пачынаючы з таго часу, калі ўмовы існавання людзей пачалі ўраўноўвацца – як вынік гэтай самай роўнасьці. І менавіта абсалютныя манархі больш усяго для гэтага папрацавалі, выраўноўваючы чыны і станы сярод сваіх падданых. У гісторыі гэтых народаў роўнасць папярэднічала вольнасьці; такім чынам, роўнасць была ўжо з’явай даўняй, тады як вольнасць была яшчэ з’явай новай. Роўнасць ужо стварыла прыдатныя для сябе перакананні, звычаі і законы, тым часам як вольнасць упершыню ў поўнай адзіноце выйшла на авансцэну пры яскравым святле дня. Такім чынам, вольнасць існавала толькі ў выглядзе ідэі і ўнутранай схільнасьці, калі роўнасць ужо ўвайшла ў звычаі народаў, завалодала іхнымі норавамі і надала асобны накірунак самой непасрэднай жыццядзейнасьці людзей. Ці патрэбна здзіўляцца таму, што нашы сучаснікі аддаюць перавагу роўнасць перад вольнасьцю?

Я лічу, што дэмакратычныя народы адчуваюць прыроднае імкненне да вольнасьці; будучы пакінутымі самі на сябе, яны яе шукаюць, шануюць і хваравіта перажываюць яе страту. Аднак роўнасць надае ім запал, палкі, неспаталяемы, вечны і незадавальняемы; яны прагнуць роўнасьці ў вольнасьці і, калі яна ім выяўляецца недаступнай, яны жадаюць роўнасьці хаця б у рабстве. Яны

перанясуць нястачы, заняволенне, разгул варварства, але не перанясуць існаванне арыстакратыі.

Гэта справядліва для ўсіх часоў і асабліва для нашых дзён. Якія б людзі і якія б улады ні пажадалі паўстаць супраць гэтай непераможнай магутнасьці, яны будуць скінуты і знішчаны ёю. У наш час вольнасць не можа ўзяць верх без яе падтрымкі і нават дэспаты не здолеюць панаваць, не абапіраючыся на яе.

# Глава II

## Пра індывідуалізм у дэмакратычных краінах

Я паказаў, якім чынам пад час стагоддзяў роўнасьці кожны чалавек у самым сабе знаходзіць крыніцы сваіх перакананняў; зараз мне было б пажадана паказаць, якім чынам ён накіроўвае ўсе свае пачуцці на сваю ўласную асобу.

Слова «індывідуалізм» з'явілася вельмі нядаўна для пазначэння новай ідэі. Нашы бацькі мелі ўяўленне толькі пра эгаізм.

Эгаізм – гэта жарсная, празмернае павага да самога сябе, вымушаючая чалавека ставіцца да ўсяго на сьвеце толькі з боку гледжання асабістых зацікаўленасьцей і аддаваць перавагу сабе перад ўсімі астатнімі людзьмі.

Індывідуалізм – гэта ўзважанае, спакойнае пачуццё, падахвочваючае кожнага грамадзяніна ізаляваць сябе ад масы сабе падобных і замыкацца ў вузкім сямейным і сяброўскім коле. Стварыўшы для сябе, такім чынам, маленькае грамадства, чалавек ахвотна перастае трывожыцца пра ўсё грамадства ў цэлым.

Эгаізм спараджаецца сляпым інстынктам; індывідуалізм хутчэй паходзіць ад памылковасьці меркаванняў, чым ад сапсаванасьці пачуццяў. Яго нагода крыецца як у слабасьці розуму, так і ў заганах сэрца.

Эгаізм высушвае зародкі ўсіх чалавечых учыннасьцей, тады як індывідуалізм спачатку ўражвае толькі парасткі ўчыннасьцей грамадзкага характару; аднак з цягам часу ён закранае і забівае і ўсе астатнія і, у канчатковым выніку, сам ператвараецца ў эгаізм.

Эгаізм – гэта старажытная, як сам свет, загана. Ён у роўнай ступені ўласьцівы кожнай форме грамадзкага ўладкавання.

Індывідуалізм мае ўласна дэмакратычнае паходжанне і пагражае тым, што будзе ўзмацняцца па меры выраўноўвання ўмоваў існавання людзей.

У арыстакратычных народаў сем'і на працягу стагоддзяў захоўваюць сваё становішча і часта нават жывуць на адным і тым жа месцы. Дзякуючы гэтаму ўсе пакаленні як бы суіснуюць адначасова, робяцца, калі так можна выказацца, сучаснікамі адзін аднаго. Кожны чалавек амаль заўсёды ведае і шануе сваіх продкаў; ён думае пра лёс сваіх праўнукаў і турбуецца пра іх. Ён ахвотна выконвае свае абавязакі як у дачыненні да папярэднікаў, так і ў дачыненні да спадкаемцаў і яму часта даводзіцца ахвяраваць асабістымі выгодамі ў імя людзей, якіх ужо няма ці якіх яшчэ няма на сьвеце.

Акрамя таго, арыстакратычныя інстытуты вымушаюць кожнага чалавека мець цесныя дачыненні са шматлікімі са сваіх суграмадзян.

Дзякуючы таму што ў арыстакратычнай дзяржаве станы вызначана аддзелены адзін ад аднаго і ўстойлівыя, кожны стан у вачах сваіх прадстаўнікоў выконвае ролю свайго роду малой радзімы – разумення больш пэўнага і блізкага, чым разуменне бацькаўшчыны ў цэлым.

Дзякуючы таму што ў арыстакратычным грамадстве становішча кожнага чалавека строга вызначана ў дачыненні да тых, хто вышэй яго і хто ніжэй, у кожнага існуе нехта, стаячы над ім, у чыім заступніцтве ён мае патрэбу, і нехта, размешчаны ніжэй яго самога, ад каго ён можа запатрабаваць супрацы.

Людзі, жывучыя пад час арыстакратычных стагоддзяў, такім чынам, амаль заўсёды самым непасрэдным чынам злучаны з падзеямі і людзьмі, якія знаходзяцца за межамі іхнага прыватнага жыцця і таму кожны з іх часта схільны забывацца пра самога сябе. Праўда, пад час гэтых стагоддзяў агульнае разуменне чалавека як такога не мае вызначанага зместу і людзі наўрад ці думаюць пра тое, каб прысвяціць сваё жыццё ўсяму чалавецтву, аднак яны часта ахвяруюць сабой дзеля пэўных людзей.

Пад час дэмакратычных стагоддзяў, наадварот, абавязкі кожнага індывіда перад усім чалавецтвам усведамляюцца значна больш выразна, але служэнне пэўнаму чалавеку сустракаецца нашмат радзей: пачуцці, вабячыя людзей адзін да аднаго, робяцца больш усеахопліваючымі і сувязі, злучаючыя іх, не такія моцнымі.

У дэмакратычных народаў новыя сем'і безперапынна ўзнікаюць із нябыту, а ранейшыя няспынна знікаюць, і становішча ўсіх жывучых увесь час перамяняецца; злучаючая нітка часоў штохвілінна рвецца і сляды, пакідаемыя папярэднімі пакаленнямі, сціраюцца. Людзі лёгка забываюцца пра тых, хто жыў да іх і ніхто не думае пра тых, хто будзе жыць пасьля іх. Іх цікавяць толькі сучаснікі.

Па меры таго як кожны стан збліжаецца і перамешваецца з астатнімі, людзі, належачыя да аднаго і таго ж стана, робяцца абыякавымі і чужымі адзін аднаму. Арыстакратычнае ўладкаванне ўяўляла сабой ланцуг, злучаўшы паміж сабой па ўзыходзячай селяніна і караля; дэмакратыя разбівае гэты ланцуг і разбірае яго звёны паасобку.

Чым больш ураўноўваюцца сацыяльныя ўмовы існавання, тым больш сустракаецца ў грамадстве людзей, якія, не маючы дастаткова багацця ці ўлады, каб вырабляць значны ўплыў на вызначаную частку сабе падобных, усё ж, набылі ці захавалі дастатковы запас ведаў і матэрыяльных сродкаў, каб ні ад каго не залежаць. Такія людзі нікому нічога не павінны і нічога ні ад каго не чакаюць; яны прызвычаіліся заўсёды думаць самастойна пра саміх сябе і схільны лічыць, што іхны лёс цалкам знаходзіцца ў іхных уласных руках.

Такім чынам дэмакратыя не толькі вымушае кожнага чалавека забывацца пра сваіх продкаў, але і адганяе думкі пра нашчадкаў і адгарожвае яго ад сучаснікаў; яна пастаянна вымушае яго думаць толькі пра сябе самога, пагражаючы ў канчатковым выглядзе заняволіць яго ў адасобленую пустэчу свайго сэрца.

# Глава III

## У чым нагода таго, што пад канец дэмакратычнай рэвалюцыі індывідуалізм выяўляецца значна больш моцным, чым пад час якой бы то ні было іншай эпохі

Якраз у той момант, калі дэмакратычнае грамадства завяршае сваё фармаванне на парэштках арыстакратыі, гэтая самая ізаляванасць людзей адзін ад аднаго і спараджаемы ёю эгаізм асабліва здзіўляюць схільныя да назірання позіркі.

Такое грамадства не проста складаецца із вялікай колькасьці незалежных грамадзян, іх колькасць штодня павялічваецца за кошт людзей, якія толькі нядаўна

здабылі волю і ап'янелі ад сваёй новай улады. Гэтым апошнім з'яўляецца ўласцівай саманадзейная вера ў свае здольнасьці і яны, лічачы што пачынаючы ад гэтага часу ім ужо ніколі не спатрэбіцца дапамога атачаючых, без сарамлівасьці дэманструюць сваё жаданне думаць толькі пра саміх сябе.

Арыстакратыя звычайна не саступае сваіх правоў без працяглага змагання, падчас якога паміж рознымі станамі выбухае полымя непрымірымай нянавісьці. Такія пачуцці захоўваюцца і пасьля перамогі і іхныя праявы можна назіраць у абставінах наступаючай дэмакратычнай замятні.

Тыя із грамадзянаў, якія ў шэрагу знішчаемай іерархіі былі ў ліку першых, не жадаюць адразу ж забыцца пра сваю ранейшую веліч; на працягу доўгага часу яны пачуваюць сябе чужымі ў новым грамадстве. Усіх людзей, абвешчаных роўнымі ім, яны лічаць прыгнятальнікамі, лёс якіх не можа выклікаць у іх спагады; яны згубілі з вачэй сваіх былых субратаў па стану і не адчуваюць сябе больш злучанымі з імі агульнымі зацікаўленасьцямі; кожны із іх, аддаліўшыся ад спраў, лічыць, што яму, такім чынам, не застаецца нічога іншага, акрамя як займацца сабой. Наадварот, тыя, хто ў ранейшыя часы займаў больш нізкія прыступкі сацыяльных усходаў і каго рэвалюцыя раптам падняла да сярэдняга узроўню, не могуць карыстацца сваёй нядаўна здабытай вольнасьцю без пачуцця таемнай заклапочанасьці; калі яны выпадкова сустракаюцца з некім са сваіх былых гаспадароў, яны кідаюць на яго погляды, поўныя ўрачыстасьці і баязні і пазбягаюць стасункаў.

Такім чынам, звычайна, менавіта пад час перыяду зараджэння дэмакратычнага грамадства грамадзяне выяўляюць асаблівую схільнасць да раз'яднанання.

Дэмакратыя не падахвочвае людзей збліжацца з сабе падобнымі, а дэмакратычныя рэвалюцыі вымушаюць іх пазбягаць адзін аднаго і ўсталёўваюць у нетрах самой роўнасьці пачуццё нянавісьці, народжанае няроўнасьцю.

У амерыканцаў існуе тая вялізная перавага, што яны дасягнулі дэмакратыі, не зведаўшы дэмакратычных рэвалюцый і што яны не дамагаліся роўнасьці, а былі роўнымі ад нараджэння.

# Глава IV

## Як амерыканцы змагаюцца супраць індывідуалізму з дапамогай вольных інстытутаў

Дэспатызм, які згодна са сваёй прыродай заўсёды баязліва падазроны, бачыць у раз'яднанасьці людзей самы лепшы заклад уласнай трываласьці і, звычайна, усе свае намаганні накіроўвае на тое, каб людзей раз'яднаць. Із усіх заганаў чалавечага сэрца самай прыдатнай для яго – з'яўляецца загана эгаізму: тыран лёгка даруе сваім падданым адсутнасць павагі да яго, абы пры гэтым каб яны не паважалі адзін аднаго. Ён не патрабуе ад іх дапамогі ў кіраванні дзяржавай; дастаткова і таго, што яны самі не прэтэндуюць на кіраванне ёю. Ён называе «крыклівымі і неспакойнымі» тых людзей, якія спрабуюць аб'яднаць свае намаганні ў імя агульнага росквіту і, пераіначваючы значэнне слоў, абвяшчае «добрымі грамадзянамі» тых, хто думае толькі пра саміх сябе.

Такім чынам, дэспатызм спараджае якраз тыя заганы, развіццю якіх спрыяе таксама і роўнасць. Гэтыя дзьве з'явы фатальным чынам дапаўняюць і падмацоўваюць адна адну.

Роўнасць ставіць усіх людзей у адзін шэраг, не ствараючы ніякай узаемасувязі паміж імі. Дэспатызм наладжвае паміж імі падзяляючыя бар'еры. Роўнасць падахвочвае іх не клапаціцца пра атачаючых, а дэспатызм абвяшчае абыякавасць грамадзянскай учыннасьцю.

Такім чынам, хаця пагроза дэспатызму існуе заўсёды, асабліва небяспечным ён з'яўляецца пад час стагоддзяў дэмакратыі.

Цалкам зразумела, што менавіта пад час гэтых стагоддзяў людзі асабліва маюць патрэбу ў вольнасьці.

Калі грамадзяне вымушаны займацца грамадзкімі справамі, яны неадменна адрываюцца ад сваіх асабістых зацікаўленасьцей і час ад часу адрываюцца ад самасузірання.

Як толькі грамадзкія справы пачынаюць вырашацца агульнымі намаганнямі, кожны чалавек прыходзіць да разумення, што ён не такі ўжо і незалежны ад сабе падобных, як ён гэта ўяўляў сабе раней і што для таго, каб забяспечыць сабе падтрымку атачаючых, ён сам павінен выказваць ім спрыянне.

Калі дзяржавай кіруе грамадзкая думка ўсе людзі ўсведамляюць каштоўнасць грамадзкага прызнання і кожны спрабуе дамагчыся яго, імкнучыся знайсьці павагу і прыхільнасць тых людзей, сярод якіх ён павінен жыць.

Шмат якія із жарсьцяў, робячых чэрствым сэрцы і раз'ядноўваючых людзей, абавязаны, такім чынам, адыходзіць і хавацца ў глыбіні душы. Ганарыстасць маскіруецца; пагардлівасць не адважваецца нават высунуцца на свет божы. Эгаізм баіцца самога сябе.

Пры вольным кіраванні прызначэнне на вялікую частку дзяржаўных пасад адбываецца шляхам абрання і таму тым людзям, якім шляхетнасць душы ці турбота жаданняў не даюць замкнуцца ў вузкіх рамках прыватнага жыцця, штодня даводзіцца адчуваць і ўсьведамляць, што яны не могуць абыйсьціся без атачаючага іх насельніцтва.

Таму бывае, што чалавек, сваім славалюбствам падахвочваемы думаць пра сябе падобных, знаходзіць, што яму нейкім чынам выгадна забывацца пра ўсе інтрыгі, спараджаемыя выбарамі, пра заганныя сродкі, якімі нярэдка карыстаюцца кандыдаты і пра той паклёп, які пашыраюць іхныя супернікі. Выбары абуджаюць нянавісць і чым часьцей яны праводзяцца, тым больш магчымасьцей для яе праяўлення.

Гэтае зло, без сумневаў, з'яўляецца вялікім, але яно носіць праходзячы характар, тады як стноўчы ўплыў выбараў захоўваецца надоўга.

Жарснае жаданне быць абраным можа на некаторы час настроіць прыватных людзей на ваяўнічы лад; аднак тое ж самае жаданне амаль увесь час вымушае ўсіх людзей выказваць падтрымку адзін аднаму; і, калі здараецца так што суперніцтва на выбарах сварыць двух сяброў, выбарчая сістэма трывала аб'ядноўвае паміж сабой вялікую колькаць грамадзянаў, якія без яе заўсёды заставаліся б чужымі адзін для аднаго. Вольнасць стварае некаторыя сітуацыі абуджаючыя пачуццё нянавісьці, але дэспатызм спараджае ўсеагульную абыякавасць.

Амерыканцы змагаліся з індывідуалізмам, спараджаемым роўнасьцю, з дапамогай волі і перамаглі яго.

Заканадаўцы Амерыкі не палічылі, што стварэнне для ўсёй нацыі адной абіраемай установы само па сабе – сродак цалкам дастатковы, каб супрацівіцца такому злавеснаму і такому натуральнаму для грамадзкага арганізма захворванню дэмакратычных часоў; яны палічылі, што акрамя гэтага кожнай тэрыторыі варта

даць магчымасць жыць сваім уласным палітычным жыццём, з тым каб грамадзяне атрымалі неабмежаваную колькасць стымулаў дзейнічаць разам і штодня б адчувалі сваю залежнасць адзін ад аднаго.

Гэта былі мудрыя рашэнні.

Агульныя справы краіны знаходзяцца толькі ў веданні грамадзянаў, якія займаюць у ёй кіруючае становішча. Яны толькі зрэдку збіраюцца разам і, як гэта часта бывае, раз'язджаючыся і губляючы адзін аднаго із выгляду, не ўтвараюць паміж сабой трывалых сувязей. Аднак, калі гаворка ідзе пра кіраванне пэўнымі справамі нейкай акругі, знаходзячайся ў руках жывучых у ёй людзей, адны і тыя ж асобы заўсёды кантактуюць паміж сабой і выяўляюцца вымушанымі нейкім чынам знаёміцца і ўжывацца адна з другой.

Чалавека цяжка прымусіць пакінуць свае справы і дзейнічаць на карысць будучага ўсёй дзяржавы, таму што ён слаба ўяўляе сабе той уплыў, які лёс дзяржавы можа зрабіць на яго ўласную долю. Калі ж гаворка ідзе, напрыклад, пра будаванне дарогі каля яго зямельнага надзела, ён з першага позірку пабачыць непасрэдную залежнасць паміж гэтай нязначнай грамадзкай падзеяй і значна больш важнымі для яго асабістымі справамі, а таксама без падказкі выявіць цесную сувязь, злучаючую тут прыватныя зацікаўленасьці з зацікаўленасьцямі агульнымі.

Такім чынам, можна дасягнуць значна большых поспехаў, даручаючы грамадзянам займацца пэўнымі бягучымі справамі, чым даўшы ім магчымасць вырашаць глабальныя пытанні з мэтай зацікавіць іх праблемамі агульнай выгоды і ў гэтай сувязі прымусіць іх увесь час адчуваць патрэбу адзін у адным.

Прыхільнасць народа можна разам заваяваць якім-небудзь выбітным учынкам; аднак для таго, каб заслужыць павагу і шанаванне атачаючых, неабходна трывалая рэпутацыя заўсёды зычлівага, бескарыслівага чалавека, гатовага ўвесь час выказваць людзям маленькія паслугі і рабіць непрыкметныя добрыя справы.

Такім чынам, мясцовае самакіраванне і палітычная вольнасць, падахвочваючыя шмат каго із грамадзянаў высока шанаваць стаўленне да іх суседзей і блізкіх, няспынна вымушаюць людзей, нягледзячы на раз'ядноўваючыя іх інстынкты, мець стасункі і дапамагаць адзін аднаму.

У Злучаных Штатах самыя заможныя грамадзяне вельмі заклапочаны тым, каб не апынуцца ізаляванымі ад народа; наадварот, яны ўвесь час падтрымліваюць з імі сувязь, кожны дзень ахвотна выслухоўваючы кожнага чалавека і размаўляючы з ім. Яны ведаюць, што пры дэмакратыі заможныя заўсёды маюць патрэбу ў немаёмасных і што ў дэмакратычныя часы немаёмасных лягчэй прыцягнуць да сябе добрым стаўленнем, чым дабрадзействамі. Дзякуючы таму што сама значнасць дабрадзействаў, падкрэсліваючая адрозненне становішчаў, выклікае ў тых, хто імі карыстаецца, таемнае раздражненне, тады як простыя манеры выпрацоўваюць захапляючае ўражанне: ветлівасць амаль заўсёды прыцягвае да сябе людзей і нават праставатая вульгарнасць манер не заўсёды адштурхоўвае.

Заможныя людзі вельмі не адразу ж здолелі зразумець і ацаніць гэтую праўду. Звычайна яны супрацівяцца ёй на працягу усяго таго часу, пакуль ідзе дэмакратычная рэвалюцыя і нават пасьля яе пераможнага завяршэння яны не адразу з ёй пагаджаюцца. Яны ахвотна пагаджаюцца клапаціцца пра выгоду народа, але зацята жадаюць трымацца ад яго на адлегласьці. Яны лічаць, што гэтага дастаткова і вельмі глыбока папамыляюцца. Дзейнічаючы падобным чынам, яны могуць згалець, не выклікаючы ніякай спагады ў сэрцах атачаючых іх людзей.

Народ не патрабуе ад іх фінансавых ахвяраванняў, ён жадае, каб яны паступіліся сваёй ганарыстасьцю.

Можа здацца, што ў Злучаных Штатах усе здольнасьці чалавечага ўяўлення выдаткуюцца на вынаходніцтва сродкаў памнажэння багацця і задавальнення грамадзкіх патрэб. Самыя сьветлыя галовы кожнага рэгіёна няспынна накіроўваюць свае веды на пошукі новых сакрэтаў здольных палепшыць усеагульны дабрабыт і, адкрываючы нейкія із іх, яны спешна перадаюць іх натоўпу.

Разглядаючы блізка заганы і слабасьці ўласьцівыя шмат каму із людзей кіруючых Амерыкай, можна здзівіцца, даведаўшыся, што багацце народа павялічваецца. Падобнае здзіўленне з’яўляецца цалкам недарэчным. Росквіт амерыканскай дэмакратыі забяспечваецца далёка не абіраемымі службовымі асобамі; ён забяспечваецца тым, што гэтыя асобы прызначаюцца выбарным шляхам.

Было б няправільна палічыць, што патрыятызм амерыканцаў і тая стараннасць, з якой кожны з іх спрыяе дабрабыту сваіх суграмадзянаў, не мае пад сабой ніякай рэчаіснай падставы. Хаця асабістая зацікаўлнасць у Злучаных Штатах, як і ў кожным іншым месцы, абумоўлівае вялікую частку практычнай дзейнасьці людзей, яна, аднак, не рэгулюе ўсё іхнае жыццё.

Я часта бачыў, як амерыканцы ішлі на сапраўды сур’ёзныя ахвяры дзеля агульнай справы і я сотні разоў назіраў, як пад час крытычных момантаў яны рабілі адзін аднаму надзейную падтрымку.

Вольныя інстытуты, маючыяся ў распараджэнні жыхароў Злучаных Штатаў, і тыя палітычныя правы, якімі яны так часта карыстаюцца, няспынна з дапамогай тысячы самых розных спосабаў нагадваюць кожнаму грамадзяніну пра тое, што ён жыве ў грамадстве. Яны штохвілінна вяртаюць яго да думкі, што быць карысным для атачаючых – абавязак чалавека, што гэта цалкам адказвае яго ўласным зацікаўленасьцям і, дзякуючы таму што ў яго няма ніякай асаблівай нагоды ненавідзець атачаючых, дзякуючы таму што ён не з’яўляецца ні іхным рабом, ні іхным гаспадаром, ён без асаблівых намаганняў пачынае адчуваць да іх пачуццё шчырай зычлівасьці. Спачатку ён служыць агульным зацікаўленасьцям дзякуючы патрэбе, а потым, ужо кіруючыся свядомым выбарам; разлік ператвараецца ў інстынктыўнае падахвочванне і, так шмат працуючы дзеля выгоду сваіх суграмадзянаў, ён, нарэшце, знаходзіць звычку і схільнасць да служэння ім.

У Францыі вельмі шмат хто із людзей лічаць, што роўнасць умоваў існавання – з’яўляецца важнейшай із бед, якой толькі ненашмат чым саступае палітычная вольнасць. І калі ўжо тут вымушаны падначальвацца аднаму із іх, то, прынамсі, усімі магмымасьцямі спрабуюць пазбегнуць іншага. Што асабіста да мяне, то я сцвярджаю, што існуе толькі адзін эфектыўны сродак змагання супраць таго зла, якое можа быць народжана роўнасьцю. Гэты сродак – палітычная вольнасць.

# Глава V

## Пра ролю згуртаванняў у грамадзкім жыцці амерыканцаў

Я не маю намеру абмяркоўваць пытанні пра тыя палітычныя згуртаванні і таварыствы, з дапамогай якіх людзі спрабуюць абараніць сябе ад дэспатызму

большасьці ці ж ад незаконных замахаў каралеўскай улады. Мы ўжо абмяркоўвалі гэтае пытанне. Зразумела, што дзякуючы таму што кожны грамадзянін робіцца сам сабой менш магутным і менш здольным у адзіноце захаваць сваю вольнасць, небяспека тыраніі з наступленнем роўнасьці павялічваецца, калі грамадзяне не знойдуць нейкага спосабу гуртавацца для абароны сваёй вольнасьці. У дадзеным жа выпадку гаворка ідзе толькі пра тыя згуртаванні і асацыяцыі, якія складаюцца ў грамадзкім жыцці і не ставяць перад сабой ніякіх палітычных мэт.

Палітычныя згуртаванні складаюць толькі вельмі нязначную частку із той вялізнай колькасьці разнастайных асацыяцый, якія існуюць у Злучаных Штатах.

Амерыканцы самых розных узростаў, становішчаў і схільнасьцей няспынна аб’ядноўваюцца ў розныя звязы. Гэта не толькі згуртаванні камерцыйнага ці вытворчага характару, у якіх яны ўсе без выключэння бяруць удзел, але і тысячы іншых накірункаў: рэлігійна-маральныя таварыствы, згуртаванні сур’ёзныя і дробязныя, агульнадаступныя і замкнёныя, шматлюдныя і налічваючыя ўсяго некалькі чалавек. Амерыканцы аб’ядноўваюцца ў камітэты для таго, каб ладзіць сьвяты, засноўваць школы, будаваць гатэлі, сталовыя, царкоўныя будынкі, пашыраць кнігі, выпраўляць місіянераў на другі край сьвету. Такім чынам, яны засноўваюць лякарні, турмы, школы. Ці ідзе, нарэшце, гаворка пра тое, каб пашыраць святло праўды, ці пра тое, каб выхоўваць пачуцці, абапіраючыся на вялікія прыклады, яны аб’ядноўваюцца ў асацыяцыі. І заўсёды там, дзе ў Францыі на чале кожнага новага пачынання вы пабачыце прадстаўніка ўрада, а ў Ангельшчыне – прадстаўніка шляхты, будзьце ўпэўнены, што ў Злучаных Штатах вы пабачыце нейкі камітэт.

У Амерыцы мне сустракаліся такія асацыяцыі, пра магчымасць існавання якіх, прызнаюся, я не меў ніякага ўяўлення і я часта захапляўся той бясконцай вынаходлівасьцю з якой жыхары Злучаных Штатаў умеюць надаваць агульную мэту вялікай колькасьці людзей, дамагаючыся ад іх падтрымкі і гатоўнасьці самаахвотна ісьці да яе.

Пасьля гэтага я падарожнічаў па Ангельшчыне, у якой амерыканцы запазычылі некаторыя са сваіх законаў і шмат якія са звычаяў і мне здалося, што ангельцы далёка не пастаянна і не так спрактыкавана карыстаюцца правам стварэння асацыяцый.

Часта бывае так, што ангельцы, разлічваючы толькі на свае ўласныя здольнасьці, дамагаюцца вельмі значных вынікаў, тады як для амерыканцаў не існуе пачынання такога нікчэмнага, каб яны не здолелт вакол яго аб’яднацца. Відавочна, што першыя разглядаюць асацыяцыю як магутны сродак калектыўнага ўздзеяння, тым часам як другія ставяцца да яе як да адзіна магчымага спосаба ўздзення наогул.

Такім чынам, самай дэмакратычнай краінай у сьвеце з’яўляецца тая із краін, дзе ў нашы дні людзі дасягнулі самай вышэйшай дасканаласьці ў мастацтве разам дамагацца мэты, якая адказвае іхным агульным жаданням і часьцей іншых ужываць гэты новы метад калектыўнага ўздзеяння. Ці выпадковая гэта залежнасць ці ж паміж асацыяцыямі і роўнасьцю сапраўды існуе неадменная ўзаемасувязь?

У асяроддзі арыстакратычных грамадстваў, складаючыхся галоўным чынам із масы індывідаў не маючых ніякай магчымасьці дзейнічаць самастойна, заўсёды існуе невялікая колькасць вельмі магутных і вельмі заможных грамадзянаў, кожны із якіх мае магчымасць здзяйсняць вялікія справы.

У арыстакратычных грамадствах людзям няма ніякай патрэбы аб'ядноўвацца для дзейнасьці, таму што яны і без таго трывала аб'яднаны.

Кожны заможны і ўплывовы грамадзянін мае ролю свайго роду кіраўніка ўстойлівай асацыяцыі прымусовага характару, куды ўваходзяць усе тыя людзі, якіх ён вымушае саўдзельнічаць у выкананні сваіх задумаў.

У дэмакратычных народаў, наадварот, усе грамадзяне незалежныя і слабыя; яны амаль ні на што не здольны паасобку і ніхто із іх не ў стане абавязаць атачаючых выказаць яму спрыянне. Усе яны былі б бездапаможнымі, калі б не навучыліся самаахвотна дапамагаць адзін аднаму.

Калі б людзі, жывучыя ў дэмакратычных краінах, не мелі права ці гатоўнасьці аб'ядноўвацца ў палітычных мэтах, іх незалежнасць зведала б вялікую небяспеку, але яны яшчэ доўгі час маглі б захоўваць свае багацці і веды; калі б жа яны не набылі звычкі аб'ядноўвацца ў штодзённым жыцці, пад пагрозай апынулася б сама цывілізацыя. Народ, у якім асоба губляе магчымасць самастойна весьці буйныя справы, не набываючы пры гэтым здольнасьці весьці іх разам, хутка вернуўся б да варварства.

На жаль, тое ж самае грамадзкае ўладкаванне, выклікаючае ў дэмакратычных народаў, з аднаго боку, такую настойлівую патрэбу ствараць згуртаванні і асацыяцыі, з другога – абумоўлівае такое становішча, што стварэнне гэтых згуртаванняў даецца ім цяжэй, чым усім іншым народам.

Калі некалькі арыстакратаў выяўляюць жаданне стварыць нейкую супольнасць, гэта не ўяўляе для іх вялікай складанасьці. Дзякуючы таму што кожны із іх валодае самастойнай грамадзкай вагой, колькасць сябраў гэтага ўплывовага згуртавання можа быць невялікай і, дзякуючы таму што іх няшмат, ім лёгка ўсім пазнаёміцца, навучыцца разумець адзін аднаго і ўсталяваць некаторыя правілы.

У дэмакратычных краінах не існуе такіх жа спрыяльных умоваў; тут заўсёды згуртаванне, для таго каб мець нейкую ўплывовасць, павіннна налічваць вельмі вялікую колькасць удзельнікаў.

Я ведаю, што шмат каго із маіх сучаснікаў дадзеная акалічнасць не бянтэжыць. Каб таварыства мела магчымасць спраўляцца з заданнямі, невыканальнае для прыватных асоб, сцвярджаюць яны, урад павінен рабіцца ўсё больш дзейным і актыўным па меры таго, як грамадзяне будуць апускацца ў немач і бездапаможнасць. Яны лічаць, што, заяўляючы гэта, яны вырашаюць усе праблемы. Я лічу, аднак, што яны папамыляюцца.

Урад мог бы ўскласьці на сябе абавязкі некаторых самых буйных амерыканскіх асацыяцый і ў некаторых штатах такая спроба ўжо распачыналася. Аднак якая ж палітычная ўлада калі-небудзь стане здольнай дастаткова эфектыўна спраўляцца з усёй той масай незлічоных дробных спраў, якія штодня выконваюцца амерыканскімі грамадзянамі з дапамогай звязаў і згуртаванняў?

Лёгка прадказаць, што набліжаецца такі час, калі чалавек у адзіноце будзе ўсё менш здольным ствараць для сябе самыя простыя і жыццёва патрэбныя ўмовы існавання. Заданне дзяржаўнай улады, такім чынам, будзе няспынна ўскладняцца і самі намаганні ўлады, накіраваныя на тое, каб справіцца з гэтым заданнем, што ні дзень будуць усё больш пашыраць яе паўнамоцтвы.

Чым больш улада будзе падмяняць сабой асацыяцыі, тым больш прыватныя асобы, забываючы пра магчымасць супольных дзеянняў, будуць адчуваць патрэбу ў дапамозе з боку гэтай улады – такім з'яўляецца заганнае кола безперапынна

спараджаючых адзін аднаго нагод і вынікаў. Ці павінна, нарэшце, дзяржаўная адміністрацыя браць на сябе кіраванне ўсёй той прамысловасьцю, з якой не здольны спраўляцца асобныя грамадзяне? І калі, нарэшце, наступіць такі момант, калі з нагоды празмернага дзялення зямельнай уласнасьці зямля апынецца падзеленай на такія маленечкія лапікі, што яе можна будзе апрацоўваць толькі з дапамогай земляробчых асацыяцый, ці будзе абавязаны кіраўнік урада пакідаць стырна кіравання дзяржавай для таго, каб браць у рукі плуг?

Маральнасць і разумовае развіццё дэмакратычнага народа зведалі б не меншую небяспеку, чым яго гандаль і прамысловасць, у выпадку, калі б урад цалкам замясьціў сабой звязы і асацыяцыі.

Толькі падчас камунікавання людзей чалавечыя пачуцці і ідэі абнаўляюцца, сэрцы робяцца больш шляхетнымі, а інтулект атрымлівае развіццё.

Я паказаў, што ў дэмакратычных краінах амаль няма гэтага камунікавання. Таму яго патрэбна ствараць штучна. І зрабіць гэта можна толькі з дапамогай згуртаванняў.

Калі арыстакраты прынімаюць нейкія новыя ідэі ці калі перамяняюцца іхныя пачуцці, яны прыносяць іх з сабой на падмосткі таго грандыёзнага тэатра, у якім самі гуляюць вельмі значныя ролі і, выстаўляючы іх такім чынам на агляд натоўпу, робяць іх даступнымі для розумаў і сэрцаў усіх атачаючых людзей.

У дэмакратычных краінах толькі кіруючыя колы маюць магчымасць дзейнічаць падобным чынам, аднак цалкам зразумела, што іхная дзейнасць заўсёды будзе недастатковай, а часта – проста небяспечнай.

Урад не больш здольны стымуляваць і абнаўляць рух пачуццяў і ідэй вялікага народа, чым ён здольны кіраваць усімі прамысловымі прадпрыемствамі. Калі ўрад, пакінуўшы сферу палітыкі, рынецца наперад па гэтаму новаму шляху, ён, сам таго не жадаючы, пачне ўкараняць непераносную тыранію, таму што ўрад здольны толькі дыктаваць дакладныя правілы і пастановы. Спрыяючы вызначаным пачуццям і ідэям, ён ўкараняе іх, і яго парады заўсёды вельмі цяжка адрозніць ад загадаў.

Сітуацыя можа стаць нашмат горшай, калі ўрад прыйдзе да высновы, што поўнае спыненне якога б то ні было руху ў гэтай вобласьці адказвае яго сапраўдным зацікаўленасьцям. Тады ўсё заціхне і яго ўласныя вейкі зачыняцца ў цяжкім самаахвотным сне.

Таму патрэбна, каб урад не дзейнічаў у адзіноце.

У дэмакратычных народаў менавіта асацыяцыі павінны заняць месца тых магутных вяльможаў, якія зніклі тут са стварэннем роўных умоў існавання.

Як толькі некалькі жыхароў Злучаных Штатаў пачынаюць адчуваць адно і тое ж пачуццё ці прыходзяць да падобных ідэй з якімі яны б мелі жаданне азнаёміць грамадства, яны шукаюць аднадумцаў і, знайшоўшы іх, аб’ядноўваюцца. І тады яны перастаюць быць асобнымі індывідамі і робяцца заўважальнай магутнасьцю, дзеянні якой служаць напрыкладам; калі яны выказваюцца, да іх прыслухоўваюцца.

Калі я ўпершыню пачуў у Злучаных Штатах, што сто тысяч чалавек публічна ўзялі абавязак не ўжываць больш спіртных напояў, гэты выпадак здаўся мне не столькі сур’ёзным, колькі пацешным і спачатку я не мог зразумець, чаму гэтыя непітушчыя не задавальняюцца магчымасьцю сціпла папіваць ваду ў коле сваёй сям’і.

Потым да мяне дайшло, што гэтыя сто тысяч амерыканцаў, напалоханыя пашырэннем вакол сябе п’янства, пажадалі выказаць сваё спрыянне цьвярозасьці. Яны зрабілі дакладна так жа, як вёў бы сябе яснавяльможны пан, які, жадаючы выхаваць у шараговых грамадзянах пагарду да раскошы, сам апранаўся б вельмі проста. Можна ўявіць сабе, што, калі б гэтыя сто тысяч людзей жылі ў Францыі, то кожны із іх самастойна звярнуўся б да ўрада з прашэннем, каб ён ўзяў пад свой кантроль усе карчмы на тэрыторыі каралеўства.

На мой погляд, больш усяго нашай увагі заслугоўваюць амерыканскія асацыяцыі ў якіх людзі аб’яднаны па прынцыпу падабенства інтэлектуальных і маральных зацікаўленасьцей і мэт. Палітычныя і прамысловыя згуртаванні ў Амерыцы адразу кідаюцца ў вочы, тады як астатнія не трапляюцца ў поле нашага позірку і нават калі мы іх заўважаем, то дрэнна ў іх разбіраемся, таму што мы наўрад ці мелі магчымасць калі-небудзь назіраць нешта падобнае. Тым часам варта прызнаць, што яны так жа неабходны, а магчыма, нават больш неабходны амерыканскаму народу, чым першыя.

У дэмакратычных краінах уменне ствараць згуртаванні – першааснова грамадзкага жыцця; прагрэс усіх астатніх яе бакоў залежыць ад прагрэсу ў гэтай вобласьці.

Сярод законаў, кіруючых чалавечым грамадствам, існуе адзін, абсалютна неадменны і дакладны. Для таго каб людзі заставаліся ці рабіліся цывілізаванымі, патрэбна, каб іхная здольнасць аб’ядноўвацца ў звязы развівалася і ўдасканальвалася з той жа самай хуткасьцю, з якой сярод іх усталёўваецца роўнасць умоў існавання.

# Глава VI

## Узаемазалежнасць асацыяцый і перыядычнага друку

Калі трывалая, сталая залежнасць больш не злучае людзей паміж сабой, немагчыма дамагчыся таго, каб шмат хто із іх дзейнічалі разам, не пераканаўшы кожнага із іх, што гэтае самаахвотнае аб’яднанне ўсіх намаганняў патрэбна і адказвае асабістай цікавасьці кожнага із яго ўдзельнікаў.

Самы звыклы і зручны спосаб дасягнення гэтай мэты – публікацыя ў прэсе; толькі газета здольна прымусіць тысячы чытачоў адначасова задумацца над адным і тойым жа пытаннем.

Газета – гэта дарадца, якога не патрэбна шукаць; яна сама прыходзіць да вас і штодня коратка распавядае пра стан грамадзкіх спраў, не адрываючы вас ад уласных турбот.

Таму выданне газет набывае ўсё большае значэнне па меры таго, як людзі робяцца ўсё больш роўнымі і небяспека індывідуалізму павялічваецца. Мяркуючы, што газеты служаць гарантыяй вольнасьці, мы прынізілі б іхнае значэнне: яны падтрымваюць існаванне самой цывілізацыі.

Я цалкам не адмаўляю таго, што ў дэмакратычных краінах газеты часта прыводзяць грамадзянаў да вельмі неабдуманых злучынных дзеянняў; аднак, калі б не было газет, злучынныя дзеянні наўрад ці былі б магчымымі наогул. Такім чынам, выраблянае імі зло значнае меншае за тое зла, ад якога яны лякуюць.

Газета не толькі здольна прапанаваць шматлікім людям адзіны план дзеянняў, яна дае ім магчымасць злучыннага выканання тых задумаў, да якіх яны прыходзяць самі.

Уплывовыя грамадзяне, жывучыя ў арыстакратычных краінах, бачаць адзін аднаго здалёку і, калі яны жадаюць аб'яднаць свае намаганні, яны ідуць насустрач адзін аднаму, суправаджаемыя натоўпамі сваіх прыхільнікаў.

У дэмакратычных краінах, наадварот, часта бывае так, што вялікая колькасць людзей, адчуваючых жаданне ці патрэбу аб'яднацца, не могуць зрабіць гэтага таму, што ўсе яны, будучы маленечкімі, закінутымі ў натоўпе, не бачаць адзін другога і не могуць адзін аднаго знайсьці. І раптам з'яўляецца газета, публікуючая тыя думкі ці пачуцці, якімі адначасова, але паасобку ўсе яны захоплены. Яны ўсе адразу ж накіроўваюцца да гэтага святла і, падобна блукаючым агеньчыкам доўга шукаўшым адзін аднаго ў цемры, нарэшце сустракаюцца і аб'ядноўваюцца.

Газета, зблізіўшы іх, застаецца неабходным сродкам падтрымання іхнай сувязі.

Каб мець нейкую вагу, кожная асацыяцыя ў дэмакратычных народаў павінна быць шматлікай. Людзі, складаючыя яе, жывуць далёка адзін ад аднаго і кожны із іх моцна прывязаны да месца жыцця сціплымі памерамі свайго дастатку і шматлікасьцю дробных заклапочанасьцей, выклікаемых гэтай акалічнасьцю. Ім патрэбна знайсьці спосаб штодня мець стасункі і дзейнічаць разам, не збіраючыся разам. Такім чынам, наўрад ці існуе такая дэмакратычная асацыяцыя, якая можа абыйсьціся без сваёй газеты.

Такім чынам, паміж асацыяцыямі і газетамі існуе неабходная ўзаемасувязь: газеты ствараюць асацыяцыі, а асацыяцыі засноўваюць газеты; і калі сапраўдным з'яўляецца цьверджанне, што колькасць асацыяцый павінна павялічвацца па меры выраўнівання ўмоваў існавання, то не менш справядлівым будзе цьверджанне пра тое, што колькасць газет павялічваецца прама прапарцыянальна павелічэнню колькасьці асацыяцый.

Таму Амерыка мае як асацыяцый, так і газет больш, чым якая б то ні было іншая краіна ў сьвеце.

Гэтыя суадносіны паміж колькасьцю газет і асацыяцый вядуць нас да адкрыцця іншай залежнасьці – паміж становішчам перыядычнага друку і формай кіравання ў краіне. Мы знаходзім, што ў дэмакратычнага народа колькасць газет павінна памяншацца ці павялічвацца па меры ўзмацнення ці паслаблення цэнтралізацыі ўлады. Таму што ў дэмакратычных народаў немагчыма, як гэта робіцца пры арыстакратыі, перадаць у рукі прывілеяваных грамадзянаў кіраванне ўсімі мясцовымі справамі. Мясцовая ўлада павінна быць або скасавана, або перададзена вялікай колькасьці людзей, утвараючых сапраўдную, трывалую асацыяцыю, якая, будучы падмацавана законамі, уяўляе сабой адміністрацыю часткі тэрыторыі краіны. Гэтыя людзі адчуваюць патрэбу ў газеце, якая, штодня прыходзячы да іх, занятых уласнымі дробнымі турботамі, паведамляла б ім пра стан грамадзкіх спраў. Чым больш інстытутаў мае мясцовая ўлада, тым большая колькасць людзей заканамерна патрабуецца для выканання яе функцый, і чым вастрэй адчуваецца хранічная патрэбна ў такіх людзях, тым хутчэй павялічваецца колькасць газет.

Гэтая надзвычайная дробавасць адміністрацыйнай улады нашмат больш, чым вялікая палітычная вольнасць і абсалютная незалежнасць прэсы, абумаўлівае існаванне такой вялікай колькасьці газет у Амерыцы. Калі б усе жыхары Злучаных

Штатаў былі выбарцамі, падначальваючыміся сістэме, якая абмяжавала б іхнае права голасу толькі выбарамі сябраў заканадаўчых устаноў краіны, ім спатрэбілася б вельмі нязначная колькасць газет, таму што ў іх былі б вельмі важныя, але вельмі рэдкія нагоды дзейнічаць разам. Але ўсярэдзіне вялізнай нацыянальнай супольнасьці ў кожным штаце, у кожным горадзе і, так бы мовіць, у кожнай вёсцы законам агадана існаванне маленькіх асацыяцый, маючых на мэце мясцовае самакіраванне. Заканадаўства падобным чынам вымушае кожнага амерыканца штодня супрацоўнічаць з кім-небудзь са сваіх суграмадзянаў у якой-небудзь грамадзкай справе і кожнаму з іх патрэбна газета, у якой бы паведамлялася пра тое, што робяць іншыя людзі.

Я лічу, што дэмакратычны народ[325], не маючы нацыянальнага прадстаўніцтва, але пры наяўнасьці вялікай колькасьці раздробненых устаноў мясцовага самакіравання, у канчатковым рахунку будзе мець больш газет, чым другі дэмакратычны народ, у якога цэнтралізаваная ўлада існуе на ўзроўні нацыянальнага абіраемага заканадаўчага схода. Лепшым тлумачэннем вельмі шырокага размаху, які набыла дзейнасць штодзённай прэсы ў Злучаных Штатах, мне ўяўляецца тая акалічнасць, што ў амерыканцаў самая поўная нацыянальная вольнасць спалучаецца з разнастайнымі правамі, якімі надзелены мясцовыя ўстановы ўлады.

У Францыі і Ангельшчыне прынята лічыць, што для таго, каб колькасць газет хутка павялічваўся, дастаткова скасаваць абцяжарваючыя прэсу падаткі. Гэтае перакананне празмерна перабольшвае наступствы падобнага роду рэформы. Колькасць газет не павялічваецца толькі дзякуючы таму, што гэтая справа робіцца прыбытковай, але залежыць ад больш-менш часта адчуваемай вялікай колькасцю людзей патрэбы мець стасункі адзін з адным і дзейнічаць разам.

Я таксама злучыў бы растучы ўплыў газет з нагодамі маючымі значна больш агульны характар, чым тыя, якімі часта гэты ўплыў тлумачыцца.

Газета можа існаваць толькі пры той умове, што яна падзяляе вучэнне ці пачуцці, падзяляемыя шматлікімі людзьмі. Газета, такім чынам, заўсёды мае ролю друкарскай установы нейкай асацыяцыі, сябры якой з’яўляюцца яе пастаяннымі чытачамі.

Гэтая асацыяцыя можа быць больш-менш афармленай, больш-менш зачыненай, больш-менш шматлікай, але яна павінна існаваць сама меней як правобраз ідэі ў галовах людзей, таму што толькі дзякуючы ёй газета не гіне. Дадзенае цьверджанне прыводзіць нас да апошняга меркавання, якім і завершыцца гэтая частка.

Чым больш роўнымі робяцца ўмовы існавання, а людзі – індывідуальна слабейшымі, з тым большай лёгкасьцю яны паддаюцца ўплыву натоўпу і тым больш намаганняў патрабуецца ад іх, каб у адзіноце падзяляць перакананні, аспрэчваемыя натоўпам.

Газета выступае як прадстаўнік асацыяцыі; яна можа размаўляць з кожным чытачом ад імя ўсіх астатніх сваіх чытачоў і ёй тым прасьцей іх пераканаць, чым

325 Я маю на ўвазе дэмакратычны народ таму, што ўлада ў арыстакратычнага народа можа быць вельмі дэцэнтралізаванай, не спараджаючы пры гэтым унутранай патрэбы ў перыядычным друку, таму што ў гэтым выпадку мясцовая ўлада будзе знаходзіцца ў руках вельмі невялікай колькасьці людзей, дзейнічаючых або цалкам незалежна, або ведаючых адзін аднаго, маючых магчымасць непасрэдна сустракацца паміж сабой і прыходзіць да паразумення.

больш бездапаможнымі яны выглядаюць індывідуальна. Улада газет, такім чынам, павінна ўзмацняцца па меры таго, як людзі робяцца ўсё больш роўнымі.

# Глава VII

## Дачыненні паміж грамадзянскімі і палітычнымі асацыяцыямі

На зямлі існуе толькі адна нацыя, прадстаўнікі якой штодня карыстаюцца неабмежаванай вольнасьцю і правам аб'ядноўвацца з палітычнымі мэтамі. Гэтая ж самая нацыя – адзіная ў сьвеце, прадстаўнікі якой прыйшлі да думкі пра патрэбу ўвесь час карыстацца сваім правам і ствараць уласныя грамадзкія асацыяцыі, навучыўшыся, такім чынам, карыстацца ўсімі магчымымі дабротамі цывілізацыі. Ва ўсіх краінах, дзе палітычныя асацыяцыі забаронены, грамадзянскія згуртаванні – з'ява рэдкая.

Наўрад ці будзе справядлівым здагадка пра тое, што дадзеная акалічнасць носіць выпадковы характар; хутчэй напрошваецца выснова пра існаванне натуральнай і, магчыма, неабходнай узаемасувязі паміж гэтымі двума відамі асацыяцый.

Нейкая справа цалкам міжвольна аб'ядноўвае зацікаўленасьці розных людзей. Гэта магчыма кіраванне нейкім камерцыйным прадпрыемствам ці ж паспяховае завяршэнне аднаго із прамысловых пачынанняў. Усе зацікаўленыя асобы сустракаюцца, аб'ядноўваюцца і такім чынам паступова далучаюцца да ідэі асацыяцыі.

Чым большай робіцца колькасць гэтых дробных звязаў, тым большую здольнасць аб'ядноўвацца для грамадзкі важных спраў несвядома набываюць людзі.

Грамадзкія згуртаванні, такім чынам, падрыхтоўваюць глебу для стварэння палітычных асацыяцый; са свайго боку, аднак, палітычныя асацыяцыі ў вышэйшай ступені спрыяюць развіццю і ўдасканаленню спосабаў стварэння грамадзкіх асацыяцый.

Што да грамадзкага жыцця, то тут кожны чалавек у крайнім выпадку можа пераканаць сябе ў тым, што асабіста ён цалкам здольны абыйсьціся сваімі ўласнымі намаганнямі. У палітыцы гэта ніколі не прыйдзе яму ў галаву. Калі народ мае паўнакроўнае палітычнае жыццё, ідэя пра патрэбу асацыяцый і жаданне аб'яднацца складаюць частку штодзённых жыццёвых уражанняў усіх грамадзянаў, і якую б натуральную агіду ні адчувалі людзі да злучынных дзеянняў, яны заўсёды будуць гатовы супрацоўнічаць у імя зацікаўленасьцей сваёй партыі.

Такім чынам, палітыка робіць усеагульным набыткам схільнасць і звычку да асацыяцый; яна надае жаданне аб'ядноўвацца і навучае мастацтву стварэння звязаў масы людзей, якія ў адваротным выпадку заўсёды жылі б самі па сабе.

Палітыка не толькі спараджае шмат згуртаванняў, але і прыводзіць да стварэння вельмі шырокіх асацыяцый.

У грамадзкім жыцці рэдка бывае так, каб нейкая агульная зацікаўленасць падахвочвала значную колькасць людзей дзейнічаць разам. Вялікае мастацтва патрабуецца для таго, каб арганізаваць нешта падобнае.

Палітыка ж сама ўвесь час дае такія магчымасьці. Хаця агульнае значэнне асацыяцый па-сапраўднаму дэманструюць толькі вялікія згуртаванны.

Індывідуальна слабыя грамадзяне не маюць загадзя сфармаваных правільных уяўленняў пра магутнасць, якую яны могуць набыць, дзейнічаючы разам; каб яны гэта зразумелі, ім патрэбна яе паказаць. Із гэтага вынікае, што часам бывае прасьцей аб’яднаць агульнай мэтай масу людзей, чым сабраць разам намаганні некалькіх чалавек; дзе тысячы не бачыць асаблівага сэнсу ў згуртаванні, дзесяць тысяч бачаць яго цалкам выразна. У палітыцы людзі аб’ядноўваюцца для вырашэння вялікіх заданняў і тая выгода, якую яны здабываюць з дапамогай злучыннай дзейнасьці, дае ім практычны ўрок, пераконваючы ў карыснасьці ўзаемадапамогі нават для дасягнення значна меншых мэт.

Палітычная асацыяцыя адначасова пашырае вузкія кругі камунікавання шматлікіх індывідаў; наколькі б ні былі моцнымі натуральныя адрозненні паміж імі згодна з узростам, разумовым развіццём, забяспечанасьцю, асацыяцыя збліжае іх і вымушае кантактаваць. Аднойчы сустрэўшыся, яны ўжо заўсёды будуць ведаць, як магчыма знайсьці адзін аднаго.

Немагчыма браць удзел у большасьці грамадзкіх асацыяцый, не рызыкуючы доляй свайго багацця; так ідуць справы з усімі прамысловымі і гандлёвымі кампаніямі. Калі людзі яшчэ недасьведчаны ў мастацтве і асноўных законах стварэння асацыяцый, яны баяцца, што, упершыню аб’яднаўшыся падобным чынам, яны будуць вымушаны дорага заплаціць за свой досьвед. Таму яны хутчэй аддадуць перавагу адмовіцца ад сродку, які можа мець наступствам дасягненне поспеху, чым зведаць злучаную з ім рызыку. Значна менш ваганняў выклікае ў іх удзел у палітычных звязах, якія здаюцца ім больш бяспечнымі таму, што яны не рызыкуюць сваімі грашамі. Але ж немагчыма доўгі час належаць да падобных згуртаванняў, не засвоіўшы, якім чынам магчыма падтрымліваць парадак сярод вялікай колькасьці людзей і якія метады дазваляюць разам і пасьлядоўна рухацца да агульнай мэты. Яны навучаюцца падначальваць свае жаданні волі ўсіх астатніх і пагадняць свае асабістыя намаганні з агульнымі дзеяннямі, ці іншымі словамі ўсім тым рэчам, ведаць якія пры стварэнні грамадзкіх асацыяцый не менш патрэбна, чым пры стварэнні палітычных звязаў.

Удзел у палітычных згуртаваннях, такім чынам, можна разглядаць у якасьці ўсеагульнай дармавой школы, у якой кожны грамадзянін вывучае агульную тэорыю стварэння асацыяцый. І нават калі б палітычныя асацыяцыі не рабілі непасрэднага ўплыву на прагрэс у вобласьці фармавання грамадзянскіх згуртаванняў, знішчэнне першых нанесла б шкоду і другім.

Калі грамадзяне маюць права аб’ядноўвацца толькі з нагоды вызначаных патрэб, яны ставяцца да асацыяцый як да дзіўнай і нязвыклай формы і наўрад ці падумваюць пра яе. Калі ж ім дазволена вольна аб’ядноўвацца з якой заўгодна патрэбы, яны ў канчатковым выніку пачынаюць бачыць у асацыяцыі ўніверсальны і, так бы мовіць, унікальны сродак, з дапамогай якога людзі маюць магчымасць дапамагаць сабе ў дасягненні тых разнастайных мэт, якія яны ставяць перад сабой. Кожная новая патрэба адразу ж вяртае іх да гэтай ідэі. Такім чынам, як я ўжо адзначаў вышэй, уменне ствараць асацыяцыі робіцца першаасновай грамадзкага жыцця; усе вывучаюць і ўжываюць яе на практыцы.

Калі некаторыя асацыяцыі забаронены, а некаторыя дазволены, першыя загадзя цяжка адрозніць ад другіх. Адчуваючы сумневы, людзі імкнуцца трымацца збоку ад усіх асацыяцый і складаецца свайго роду агульная думка, паводле якой

якое б то ні было згуртаванне з’яўляецца справай дзёрзкай і амаль супрацьзаконнай[326].

Таму не чым іншым, як хімерай, з’яўляецца вера ў тое, што патрэба людзей у злучынных дзеяннях, будучы прыгнечанай у адным месцы, не перастане выяўляцца з ранейшай энергічнасьцю ва ўсіх астатніх месцах і што дастаткова толькі дазволіць людзям аб’ядноўвацца для ўвасаблення ў жыццё нейкіх задумаў і яны спешна рынуцца іх ажыццяўляць. Калі грамадзяне маюць магчымасць і звычку аб’ядноўвацца з якой заўгодна нагоды, яны так жа ахвотна будуць дзейнічаць разам пры вырашэнні не толькі буйных, але і дробных праблем. Аднак, калі яны будуць мець магчымасць аб’ядноўвацца толькі для нязначных спраў, у іх не будзе ні жадання, ні здольнасьцей дзейнічаць супольна. Дарэмна ім будзе даравана поўная вольнасць супольна займацца сваімі звыклымі справамі: яны будуць абыякава карыстацца падараванымі ім правамі і вы, выдаткаваўшы свае намаганні на тое, каб утрымаць іх ад удзелу ў забароненых звязах, са здзіўленнем выявіце, што не ў стане пераканаць іх ствараць дазволеныя згуртаванні.

Я не кажу, што немагчыма мець грамадзянскія згуртаванні ў тых краінах, дзе забаронены палітычныя звязы, таму што людзі не могуць жыць у грамадстве, не бяручы ўдзел у нейкіх грамадзкіх імпрэзах. Аднак я сцвярджаю, што грамадзкія асацыяцыі ў гэтых краінах заўсёды будуць вельмі нешматлікімі, дрэнна задуманымі і безталанна кіруемымі; яны або ніколі не возьмуцца за выкананне сур’ёзных заданняў, або, жадаючы іх вырашыць, не будуць здольнымі нешта зрабіць.

Гэта натуральным чынам прыводзіць мяне да думкі пра тое, што вольнасць стварэння асацыяцый у сферы палітыкі не ўяўляецца такой небяспечнай для грамадзкага спакою, як гэта прынята меркаваць і што можа здарыцца так, што яна, маючы наступствам на некаторы час узварушэнне дзяржавы, надалей будзе спрыяць яго ўмацаванню.

У дэмакратычных краінах палітычныя асацыяцыі ўяўляюць сабой, вобразна кажучы, магутных дзеячоў, жадаючых кіраваць дзяржавай. Таму ўрады ў нашы дні ставяцца да палітычных згуртаванняў дадзенага роду шмат у чым падобна на тое, як каралі пад час сярэдневечча ставіліся да магутных васалаў кароны: яны адчувалі да іх жах, перамяшаны з агідай і ваявалі з імі пры кожным зручным выпадку.

Наадварот, да грамадзкіх згуртаванняў урады адчуваюць пачуццё натуральнай прыхільнасьці, таму што яны з лёгкасьцю высвятляюць, што гэтыя асацыяцыі, зусім не засяроджваючы ўвагу грамадзянаў на дзяржаўных справах, адцягваюць іх ад думак пра гэта і ўсё больш актыўна займаючыся праектамі, якія не могуць быць выкананы ў становішчы грамадзкай бязладзіцы, памяншаюць

[326] Гэта асабліва правільна тады, калі выканаўчая ўлада надзелена паўнамоцтвамі дазваляць ці забараняць асацыяцыі грунтуючыся на сваім уласным меркаванні. Калі яна абмяжоўваецца забаронай некаторых згуртаванняў, даручаючы судам турботы пра пакаранне тых, хто не падпарадкоўваецца, зло будзе значна меншым: у гэтым выпадку кожны грамадзянін больш-менш загадзя ведае, на што можна разлічваць; так ці інакш, ён разглядае справу раней, чым яна дойдзе да суда, і, пазбягаючы ад удзелу ў забароненых згуртаваннях, бярэ ўдзел у дазволеных звязах. Менавіта такім чынам усе вольныя народы ўяўляюць сабе магчымасць абмежавання права ствараць асацыяцыі. Наадварот, калі заканадаўчыя ўстановы даручаць некаму права папярэдне разглядаць, якія згуртаванні шкодныя, а якія карысныя і дадуць яму права або забараняць усе згуртаванні ў самым зародку, або дазваляць ім дзейнічаць, ніхто больш не здолее загадзя прадбачыць, у якім выпадку можна аб’яднацца, а ў якім ад гэтага лепш устрымацца і таму ўвесь рух будзе цалкам паралізаваны. У першым выпадку закон накіраваны толькі супраць некаторых згуртаванняў, у другім – ён накіраваны супраць самога грамадства і наносіць яму шкоду. Я дапускаю магчымасць, што законны ўрад звернецца за дапамогай да першага закона, але пры гэтым ні за якім урадам я не прызнаю права ўводзіць закон другога тыпу.

небяспеку рэвалюцый. Урады, аднак, не прымаюць да ўвагі тую акалічнасць, што існаванне палітычных звязаў надзвычай палягчае жыццё і памнажае колькасць грамадзкіх згуртаванняў і таму, пазбягаючы небяспечнага зла, яны пазбаўлаюць сябе эфектыўнага сродку яго лячэння. Калі бачыш, як вольна кожны дзень амерыканцы аб'ядноўваюцца для таго, каб перамагла нейкая палітычная думка, ці ж з мэтай увесьці ва ўрад нейкага палітычнага дзеяча, а іншага – пазбавіць улады, цяжка бывае зразумець, дзякуючы чаму такія незалежныя людзі не пускаюцца штохвілінна ў заганы ўсёдазволенасьці.

Калі ж, з другога боку, вы будзеце думаць пра тую незлічоную шматлікасць прамысловых прадпрыемстваў, якія ў Злучаных Штатах ствараюцца калектыўнымі намаганнямі і калі вы заўважыце, што амерыканцы паўсюдна працуюць без перапынку, выконваючы нейкі важны і цяжкі праект, рэалізацыю якога скасавала б самая нікчэмная із рэвалюцый, вы лёгка зразумееце, дзякуючы чаму так моцна занятыя людзі не адчуваюць ні найменшай спакусы хваляваць дзяржаву ці ж парушаць той грамадзкі спакой, з якога яны самі здабываюць карысць.

Ці дастаткова таго, што мы разглядаем гэтыя з'явы па-асобку і ці не надышла пара выявіць злучаючы іх таемны вузел? Менавіта ў палітычных звязах амерыканцы ўсіх прафесій, настрояў думак і ўзростаў штодня выхоўваюць у сабе густ да калектыўнай дзейнасьці як такой і авалодваюць яе законамі. У гэтых звязах яны сустракаюцца з вялікай колькасьцю людзей, выказваюцца, выслухваюць адзін аднаго і натхняюцца на супольную працу па рэалізацыі ўсіх самых рознастайных пачынанняў. Усе свае веды, набытыя падобным чынам, яны пераносяць потым у штодзённае жыццё і тысячай разнастайных спосабаў карыстаюцца імі.

Такім чынам, менавіта задальненне ад шкоднай вольнасьці навучае амерыканцаў мастацтву памяншаць існуючую ў вольнасьці небяспеку.

Калі выбраць некаторыя моманты ў жыцці нейкай нацыі, то лёгка можна паказаць, што палітычныя звязы вырабляюць хваляванне ў дзяржаве і паралізуюць прамысловасць; аднак калі ўзяць усю гісторыю існавання дадзенага народа, то так жа лёгка будзе паказаць, што вольнасць асацыяцый у сферы палітыкі спрыяе росквіту і нават заспакаенню грамадзянаў.

У першай частцы гэтай працы я пісаў: «Неабмежаваную вольнасць асацыяцый не варта перамешваць з вольнасьцю друку: першая адначасова і менш патрэбная і больш небяспечная, чым другая. Нацыя можа абмежаваць яе, не губляючы над сабой кантролю; часам яна так і павінна зрабіць, каб выжыць». І некалькі далей: «Немагчыма не прызнаць, што із усіх магчымых вольнасьцей народ менш усяго можа дазволіць сабе неабмежаваную вольнасць асацыяцый у сферы палітыкі. Калі яна і не прыводзіць яго да анархіі, то ўвесь час набліжае, так бы мовіць, да краю гэтай прорвы».

Такім чынам, я не думаю, што нейкая нацыя заўсёды можа дазваляць сваім грамадзянам мець абсалютнае права ствараць палітычныя асацыяцыі і нават сумняваюся ў тым, што наогул існуе такая краіна ці такая эпоха, у якіх было б больш мудрым не абмяжоўваць вольнасць звязаў.

Нехта заявіць, што той народ не здолее захаваць унутранае заспакаенне, выклікаць павагу да сваіх законаў ці ствараць трывалы ўрад, які не абмяжуе права сваіх грамадзянаў ствараць згуртаванні даволі вузкімі рамкамі. Падобныя даброты, без сумневаў, каштоўныя; я разумею, што нацыя дзеля іхнага дасягнення ці захавання можа на некаторы час накласьці на сябе вельмі цесныя путы. І ўсё ж нядрэнна, калі яна пры гэтым будзе дакладна ведаць, чаго яны ёй каштуюць.

Я разумею, што для выратавання жыцця чалавека бывае патрэбным ампутацыя рукі, але я не хачу, каб мяне запэўнівалі ў тым, што ён здолее захаваць пасьля гэтага сваю ранейшую спрытнасць.

# Глава VIII

## Як амерыканцы супрацьстаяць індывідуалізму з дапамогай вучэння пра правільна разумеемую зацікаўленасць

Калі сьветам правіла нешматлікае згуртаванне магутных і заможных індывідаў, яны ахвотна заахвочвалі распрацоўку ўзнёслых ідэй пра абавязкі чалавека; ім падабалася надаваць погляды, адпаведна з якімі сапраўднай славы было годна толькі самаадрачэнне, таму што чалавеку, як і самому Стваральніку, належыць здзяйсняць добрыя справы, ніколькі не будучы ў іх зацікаўленым. У тыя часы дадзенае вучэнне мела ролю афіцыйнай маралі.

Я сумняваюся ў тым, што людзі пад час арыстакратычных стагоддзяў былі лепшымі, чым у іншыя часы, аднак цалкам вызначана, што тады яны няспынна распавядалі пра харастово ўчыннасьці і толькі ўпотай вывучалі яе карысныя ўласьцівасьці. Па меры таго як уяўленне перастае лунаць так высока і кожны канцэнтруецца на сабе самым, маралісты пачынаюць асьцерагацца гэтай ідэі самаахвяравання і не адважваюцца больш прапаноўваць яе людзям. Таму яны абмяжоўваюцца пошукамі той асабістай выгады, якую могуць атрымаць грамадзяне працуючы для выгоды ўсіх і, калі ў іх атрымліваецца адкрыць яшчэ адну із тых кропак, у якой асабістыя зацікаўленасьці перасякаюцца і перамешваюцца з агульнымі зацікаўленасьцямі, яны спяшаюцца выставіць яе на ўсеагульны агляд. Такім чынам, ізаляваныя назіранні робяцца агульнай тэорыяй і людзі, нарэшце, пачынаюць верыць у тое, што чалавек, служачы сабе падобным, служыць самому сабе і што добрыя справы адказваюць яго асабістым зацікаўленасьцям.

Я ўжо адзначаў у розных месцах гэтай працы, што жыхары Злучаных Штатаў амаль заўсёды ведаюць, якім чынам свой асабісты дабрабыт можна спалучаць з дабрабытам сваіх суграмадзянаў. Тут я хачу падкрэсліць тое, што дамагацца гэтага ўменне ім дапамагае агульная тэорыя.

У Злучаных Штатах амаль не гаворыцца пра харастово ўчыннасьці. Запэўніваюць, што яна з'яўляецца карыснай і штодня даводзяць гэта. Амерыканскія маралісты не дамагаюцца таго, каб чалавек ахвяраваў сабой дзеля атачаючых непасрэдна ў імя здзяйснення хвалебнага вычыну, але яны адважна заяўляюць, што падобныя ахвяры так жа неабходны тым, хто на іх ідзе, як і тым, каму яны карысны.

Яны заўважылі, што ў іхнай краіне і ў іхны час магутнасць, вымушаючая чалавека ўвесь час думаць пра самога сябе з'яўляецца неадольнай і, страціўшы надзею ёй супрацьстаяць, яны думаюць толькі пра тое, каб ёю кіраваць.

Таму яны не адмаўляюць таго, што кожны чалавек можа кіравацца ўласнымі зацікаўленасьцямі, аднак яны што сілы імкнуцца давесьці, што сумленнасць і прыстойнасць адказваюць зацікаўленасьцям кожнага чалавека.

Я не маю намеру разглядаць тут падрабязнасьці іхнай аргументацыі, таму што гэта занадта далёка адвяло б мяне ад маёй тэмы; мне дастаткова канстатавання таго факта, што яны здолелі пераканаць сваіх суграмадзянаў.

У свой час Мантэнь сказаў; «Калі я не абіраю прамую дарогу з нагоды яе прамізны, я выберу яе нарэшце, даведаўшыся на асабістым досьведзе, што гэта, як звычайна, – самы шчаслівы і зручны шлях».

Такім чынам, вучэнне пра правільна разумеемую зацікаўленасць не новае, аднак амерыканцамі нашых дзён яно прызнана паўсюдна. Яно стала тут папулярным і служыць абгрунтаваннем усіх відаў дзейнасьці. Яно наскрозь праймае ўсе іхныя развper. На вуснах беднякоў яно гучыць не радзей, чым у размовах заможных людзей.

У Яўропе ў адрозненні ад Амерыкі вучэнне пра зацікаўленасьці мае далёка не такія вытанчаныя і стройныя формы, да таго ж яно значна менш пашырана і асабліва не так актыўна прапаведуецца; яго прыхільнікі штодня выказваюць яму знакі адданасьці, якой яны больш не адчуваюць.

Амерыканцам, наадварот, падабаецца тлумачыць амаль усе свае ўчынкі з дапамогай гэтага вучэння; яны ахвотна падкрэсліваюць, што павага да сябе грунтуючаяся на дасведчанасьці ўвесь час вымушае іх дапамагаць адзін аднаму і надае ім гатоўнасць ахвяраваць дзеля выгоды дзяржавы частку свайго часу і маёмасьці. Я лічу, што ў дадзеным дачыненні яны часта не цалкам справядлівыя да сябе саміх, таму што часам у Злучаных Штатах, як і паўсюдна, можна бачыць грамадзянаў, ахопленых цалкам натуральным для людзей бескарыслівым, неразлічаным парывам. Амерыканцы, аднак, наўрад ці з’яўляюцца схільнымі прызнавацца ў тым, што могуць падначальвацца падобным душэўным рухам; яны хутчэй аддадуць перавагу аддаць належнае сваёй філасофіі, чым самім сабе.

Тут я мог бы закончыць, не спрабуючы вынесьці меркаванне з нагоды таго, што апісаў. Надзвычайная складанасць дадзенага прадмета паслужыла б для мяне вельмі дастатковым прабачэннем. Але я не жадаю паблажак і аддаю перавагу, каб мае чытачы, выразна бачачы маю мэту, адмовіліся б ісьці за мной, чым пакіну іх у стане недасведчанасьці.

Тэорыя слушна разумеемай асабістай зацікаўленасьці – не ўзнёслае, але зразумелае і дакладна распрацаванае вучэнне. Яно не імкнецца да дасягнення вялікіх мэт, аднак дамагаецца без асаблівых намаганняў усяго таго, што плануе. Дзякуючы таму што яно даступна для кожнага разумення, кожны з лёгкасьцю яго спасцігае і запамінае без цяжкасьцей. Выдатна прыстасоўваючыся да чалавечых слабасьцей, гэтае вучэнне набывае вялікую магутнасць і яму няцяжка захоўваць яе таму, што яно накіроўвае асабістую зацікаўленасць супраць самога сябе і, кіруючы жарсьцямі, карыстаецца той жа самай пугай, якая гэтыя жарсьці абуджае.

Вучэнне пра слушна разумеемыя зацікаўленасьці не спараджае вялікай самаахвярнасьці, але яно штодня патрабуе маленькіх ахвяр. Само па сабе яно не здольна зрабіць людзей учыннымі, аднак яно выхоўвае вялікую шматлікасць разважлівых, устрыманых, сталых, абачлівых грамадзянаў, умеючых трымаць сябе ў руках; і калі яно не вядзе вольнасць людзей прамым шляхам да ўчыннасьці, то непрыкметна набліжае іх да яе з дапамогай набываемых добрых звычак.

Калі б у вучэння пра слушна разумеемыя зацікаўленасьці калі-небудзь атрымалася цалкам стаць пануючым у маральнай вобласьці, прыклады высокай учыннасьці, без сумневаў, сустракаліся б радзей. Але я лічу, што ў гэтым выпадку грубая заганнасць таксама была б менш пашыранай. Гэтае вучэнне, магчыма, перашкодзіць няшматлікім дасягнуць маральных вышынь, значна перавышаючых сярэдні ўзровень, але шмат хто із тых, хто апусьціўся б ніжэй гэтага ўзроўню,

хапаюцца за яго і яно іх утрымлівае. Калі мецъ на ўвазе асоб, то яно іх зневажае. Калі ж мець на ўвазе ўсё чалавецтва, то яно акультурвае людзкія душы.

Не пабаюся сказаць, што із усіх філасофскіх тэорый вучэнне пра слушна разумеемыя зацікаўленасьці ўяўляецца мне найбольш дастаткова адпавядаючым патрэбам людзей нашага часу, а таксама тое, што ў ім я бачу самую надзейную із застаўшыхся ў іх гарантый супраць саміх сябе. Таму ўвага сучасных маралістаў павінна быць галоўным чынам накіравана на дадзенае вучэнне. Нават, нягледзячы на тое, што яны могуць лічыць яго недасканалым, яно ўсё ж павінна быць прынята як неабходнае.

У цэлым, я не лічу, што ў нас эгаізму больш чым у Амерыцы; адзінае адрозненне палягае ў тым, што там эгаізм носіць асьвечаны характар, а тут – не. Кожны амерыканец умее ахвяраваць часткай сваіх асабістых зацікаўленасьцей, каб выратаваць астатняе. Мы жадаем захаваць усё і часта ўсё губляем.

Вакол сябе я бачу толькі людзей, жадаючых, відаць, штодня надаваць славамі і справамі сваім сучаснікам думку пра тое, што карыснае ніколі не бывае ганебным. Ці атрымаецца мне, нарэшце, знайсьці такога чалавека, які б узяўся патлумачыць ім, што сумленнасць з’яўляецца карыснай?

На зямлі няма магутнасьці, здольнай перашкодзіць павелічэнню роўнасьці ўмоваў існавання і дзякуючы гэтаму яна, накіроўваючы чалавечы розум на пошукі карыснага, падахвочвае кожнага грамадзяніна займацца толькі самім сабой.

Пагэтаму варта чакаць, што асабістая зацікаўленасць у большай меры, чым калі б там ні было, стане галоўнай, калі не адзінай рухаючай магутнасьцю чалавечай дзейнасьці; застаецца, аднак, высветліць, як кожны чалавек будзе разумець свае асабістыя зацікаўленасьці.

Калі грамадзяне, робячыся роўнымі, застануцца невуцкімі і грубымі, цяжка прадказаць, да якой дурной крайнасьці яны дойдуць у сваім эгаізме і немагчыма сказаць загадзя, наколькі ганебную галечу і прыкрыя беды яны самі наклічуць на свае галовы, баючыся ахвяраваць маленькай часткай свайго дабрабыту дзеля росквіту атачаючых.

Я не думаю, што вучэнне пра зацікаўленасьці ў тым выглядзе, у якім яму навучаюць у Амерыцы, уяўляецца бязспэчна добрым ва ўсіх дачыненнях; аднак яно заключае ў сабе шмат такіх відавочных праўд, што дастаткова даць людзям адукацыю і яны самі спасцігнуць гэтыя праўды. Таму чаго б гэта ні каштавала пашырайце асьвету сярод іх, таму што стагоддзе сляпой самаахвярнасьці і інстынктыўнай учыннасьці даўно ўжо прамінула і я бачу, што настае час, калі самі вольнасць, грамадзкае заспакаенне і грамадзкае ўпарадкаванне не здолеюць існаваць без асьветы.

# Глава IX

## Якім чынам амерыканцы ўжываюць вучэнне пра слушна разумеемыя зацікаўленасьці ў вобласьці рэлігіі

Калі вучэнне пра слушна разумеемую асабістую зацікаўленасць абмяжоўвалася б зямнымі справамі, яно цалкам не было б такім уплывовым, таму што яно патрабуе нямала такіх ахвяр, якія могуць быць узнагароджаны толькі на тым сьвеце; і якія б намаганні ні распачынаў розум, даводзячы карыснасць

учыннасьці, чалавека, не жадаючага думаць пра сьмерць, заўсёды будзе вельмі цяжка прымусіць жыць годна.

Таму патрэбна ведаць, ці можа вучэнне пра слушна разумеемыя зацікаўленасці лёгка спалучацца з рэлігійнымі вераваннямі.

Філосафы, пашыраючыя гэтае вучэнне, пераконваюць людзей, што для шчаслівага жыцця патрэбна сачыць за сваімі пачуццямі і старанна ўтаймаўваць іх, што немагчыма знайсьці трывалага шчасьця, не адмаўляючыся ад тысячы мімалётных задавальненняў і што, нарэшце, павага да сябе патрабуе пастаяннай перамогі над самім сабой.

Заснавальнікі ледзь ці не ўсіх рэлігій казалі амаль адно і тое ж. Паказваючы людзям усё той жа шлях, яны толькі ставілі перад імі больш аддаленую мэту: не абяцаючы ўзнагароды на гэтым сьвеце за прынесеныя ахвяры, яны абяцалі пра асалоду ў сьвеце іншым.

І ўсё ж, я адмаўляюся верыць таму, што ўсе людзі, вядучыя грунтуючыся на рэлігійных матывах учынны лад жыцця, робяць так грунтуючыся толькі на той падставе, што разлічваюць на ўзнагароду.

Мне сустракалася нямала дбайных хрысьціянаў, цалкам захопленых палкімі турботамі пра ўсеагульнае шчасьце і я чуў іхныя разважанні пра тое, што яны такім чынам спадзяюцца заслужыць асалоду ў замагільным жыцці; я не магу, аднак, пазбавіцца ад думкі, што яны несправядлівыя да сябе. Я занадта паважаю іх, каб верыць ім на слова.

Гэта праўда, што хрысьціянства вучыць нас пра неабходнасць аддаваць перавагу зацікаўленасьцям іншых людзей перад асабістымі зацікаўленасьцямі, калі разлічваеш знайсьці нябёсы; аднак хрысьціянства таксама вучыць нас пра патрэбу рабіць дабро блізкім у імя павагі да Бога. Гэтае выказванне шыкоўнае: чалавек сваім розумам спасьцігае боскую прамудрасць; ён бачыць, што мэта Бога – захаванне светаўладкавання; ён сам вольна саўдзельнічае ў выкананні гэтай вялікай задумы і, ахвяруючы сваімі асабістымі зацікаўленасьцямі ў імя цудоўнай упарадкаванасьці ўсіх рэчаў і з'яваў, ён не чакае ніякай іншай узнагароды, акрамя задавальнення назіраць гэтае сьветаўладкаванне.

Таму я не веру, што адзіным стымулам паводзін рэлігійных людзей з'яўляецца асабістая зацікаўленасць, аднак я лічу, што зацікаўленасць – галоўны сродак, якім карыстаюцца самі рэлігіі з мэтай павесьці за сабой людзей і я не сумняваюся, што менавіта дзякуючы ёй яны завалодваюць свядомасьцю народных мас і робяцца папулярнымі.

Я не бачу таму ніякай відавочнай падставы, дзякуючы якой вучэнне пра слушна разумеемыя асабістыя зацікаўленасці павінна было б аддаляць людзей ад рэлігійных вераванняў; наадварот, я лічу, што мне атрымалася высветліць, якім чынам яны схіляюць людзей да рэлігійнасьці.

Будзем лічыць, што для дасягнення шчасьця на гэтым сьвеце нехта схільны кожны раз не давяраць інстынктыўным рухам душы, спакойна ўзважваючы ўсе свае ўчынкі, схільны слепа не паддавацца парыву першых жаданняў, авалодваючы замест гэтага мастацтвам перамагаць іх і здабываючы звычку з лёгкасьцю ахвяраваць мімалётнай асалодай у імя ўстойлівых каштоўнасцей, вызначаючых усё яго жыццё.

Калі такі чалавек верыць у спавядаемае ім рэлігійнае вучэнне, то ён амаль не адчуе цяжару тых повязей, якія яно накладае. Яго ўласны розум будзе раіць яму

падначаліцца наказаным абмежаванням, а набыты навык ужо загадзя падрыхтуе яго да патрэбы іх вытрымліваць.

Нават калі ў яго і паўстануць сумневы з нагоды аб’екта яго чаканняў, ён не дазволіць ім з лёгкасьцю спыніць сябе і прыйдзе да высновы, што мудрэй будзе ахвяраваць некаторымі дабротамі гэтага сьвету, дзеля таго каб захаваць сваё права на вялізную спадчыну, абяцаемую яму на тым сьвеце.

«Калі мы памыляемся, лічачы хрысьціянскую рэлігію сапраўднай, – сказаў Паскаль, – мы не так ужо шмат чаго губляем, але колькі няшчасьцяў утойвае ў сабе небяспека памыліцца, лічачы яе ілжывай!»

Амерыканцы не робяць выгляд, што яны цалкам абыякавыя да замагільнага жыцця; не дэманструюць яны і юнацкай ганарыстасьці, нібы-та пагарджаючы тымі небяспекамі, якіх яны спадзяюцца пазбегнуць.

Таму яны вызнаюць сваю рэлігію без якой бы то ні было сарамлівасьці і нясмеласьці; наадварот, нават у парыве рэлігійнай стараннасьці яны застаюцца такімі спакойнымі, паслядоўнымі і цьвярозымі, што здаецца, быццам бы не столькі сэрца, колькі розум вядзе іх да падножжа ахвярнікаў.

Амерыканцы не толькі асабіста зацікаўлены ва ўмацаванні іхнай рэлігіі, але і часта разглядаюць яе з боку гледжання той карысьці, якую яна можа прынесьці вернікам у зямным жыцці. Пад час сярэдневечча святары распавядалі толькі пра замагільнае жыццё; яны наўрад ці абцяжарвалі сябе доказамі магчымасьці для шчырага хрысьціяніна быць шчаслівым тут, на зямлі.

Амерыканскія прапаведнікі, наадварот, няспынна спускаюцца на зямлю і, магчыма, толькі з вялікімі намаганнямі ў іх атрымліваецца адарваць ад яе свае позіркі. Імкнучыся мацней закрануць душы сваёй паствы, яны штодня малююць перад яе вачамі выявы таго, наколькі спрыяльнымі для волі і грамадзкага парадку з’яўляюцца рэлігійныя пачуцці; слухаючы іх, часам бывае цяжка зразумець, якая ж асноўная мэта рэлігіі – здабыццё вечнай асалоды на тым сьвеце ці ж забеспячэнне дабрабыту на гэтым?

# Глава X

## Пра запал амерыканцаў да матэрыяльнага дабрабыту

У Амерыцы запал да матэрыяльнага дабрабыту не заўсёды з’яўляецца пераважаючым, але ён уласьцівы ўсім, хаця кожны разумее яго на свой уласны лад. Турботы пра задавальненне самых найменшых патрэб цела і пра здабыццё дробных жыццёвых выгод паўсюдна займае думкі амерыканцаў.

Нешта падобнае ўсё больш часта назіраецца і ў Яўропе.

Сярод нагод, выклікаючых з’яўленне падобных працэсаў у жыцці гэтых двух сусьветаў – Старога і Новага Сьвету, некаторыя маюць прамое дачыненне да маёй тэмы і таму я павінен іх паказаць.

Калі багацці спадчынна замацаваны за асобамі адных і тых жа сямействаў, вы бачыце, што значная колькасць людзей цешацца матэрыяльнай забяспечанасьцю, не адчуваючы пры гэтым выключнага запалу да матэрыяльных даброт.

Ціхамірнае валоданне каштоўнымі рэчамі не прывязвае да іх чалавечае сэрца так моцна, як гэта робіць не цалкам задаволенае жаданне валодаць імі і пастаянная баязнь іх страціць.

У арыстакратычных грамадствах заможныя людзі, ніколі не ведаючыя нястач, не бянтэжацца наконт свайго дабрабыту; яны з цяжкасьцю ўяўляюць сабе, што можна жыць неяк інакш. Такім чынам, матэрыяльны дабрабыт не з’яўляецца для іх мэтай жыцця; гэта – толькі вонкая выява іхнага жыцця. Яны ўспрымаюць яго як свайго роду незнішчаемую частку іхнага існавання і карыстаюцца дабротамі, не асабліва пра гэта задумваючыся.

Калі натуральная, інстынктыўная схільнасць да жыццёвых выгод, адчуваемая ўсімі людзьмі, задавальняецца без асаблівых намаганняў і хваляванняў, душэўныя здольнасьці чалавека накіроўваюцца ў іншым накірунку, ён ставіць перад сабой больш складаныя заданні і больш узнёслыя мэты, натхняючыя і цалкам захапляючыя яго.

Менавіта дзякуючы гэтай нагодзе арыстакраты часта выяўляюць напышлівую пагарду да тых самым жыццёвых даброт, якімі яны цешацца, а таксама надзвычайную стойкасць тады, калі яны вымушаны цалкам ад іх адмовіцца. Усе рэвалюцыі, абмяжоўваўшыя ці ж знішчаўшыя арыстакратычныя станы, паказалі, з якой лёгкасьцю людзі, прызвычаіўшыяся да багацця, могуць абыходзіцца нават без самага патрэбнага, тады як людзі, дасягнуўшыя камфорту дзякуючы сваёй працавітасьці, наўрад ці ў стане жыць, страціўшы свой дабрабыт.

Калі ад вышэйшых станаў арыстакратычнага грамадства перайсьці да яго ніжэйшых станаў, то мы выявім аналагічныя з’явы, народжаныя іншымі нагодамі.

У тых краінах, дзе пануе арыстакратыя, пазбаўляючы ўсё грамадства рухомасьці, народ, нарэшце, так жа прызвычваецца да сваёй немаёмаснасьці, як заможныя да сваёй раскошы. Адных пытанні матэрыяльнага дабрабыту не хвалююць таму, што яны карыстаюцца ім без якіх бы то ні было турбот, другіх – таму, што яны страцілі надзею калі-небудзь дасягнуць іх і іхным уяўленні пра іх з’яўляюцца недастатковымі для таго, каб жарсна іх жадаць. У грамадствах дадзенага тыпу ўяўленне немаёмасных увесь час занята выявамі замагільнага жыцця; няшчасьці і беды рэчаіснага існавання звужаюць уяўленне, але яно вырываецца із іхных сціскаючых абдымкаў і пускаецца на пошукі вечнай асалоды.

Калі ж, наадварот, станы перамяшаны, а прывілеі знішчаны, калі радавыя маёнткі раздрабняюцца, а асьвета і вольнасць пашыраюцца ўсё больш і больш, уяўленне немаёмасных запальваецца жарсным жаданнем знайсьці дабрабыт, а душы заможных ахапляе баязнь перад магчымасьцю яго страціць. З’яўляецца шмат людзей, маючых сярэдні дастатак. Яго цалкам хапае на тое, каб выхаваць у валодаючых ім густ да матэрыяльных асалод, аднак ён недастатковы для іхнага поўнага задавальнення. Гэты дастатак заўсёды даецца ім з вялікімі цяжкасьцямі і смакуюць яны яго з трапятаннем.

Таму яны ўвесь час імкнуцца набыць ці ж захаваць сваю долю такіх каштоўных, такіх няпоўных і такіх мімалётных асалод.

Спрабуючы высветліць, які запал павінен натуральным чынам стаць пануючым у душах людзей, унутраны сьвет якіх вызначаецца і абмяжоўваецца бязроднасьцю іхнага паходжання і сціпласьцю багацця, я знаходжу, што найбольш уласьцівай для іх з’яўляецца смага матэрыяльнага дабрабыту. Цяга да матэрыяльнага дабрабыту – запал, у вышэйшай ступені характэрны для сярэдняга стана; ён узмацняецца і пашыраецца разам з павелічэннем гэтага стану. Менавіта адсюль ён пачынае пракрадацца як у вышэйшыя станы грамадства, так і ў саму тоўшчу народных нізоў.

У Амерыцы мне не сустрэлася ніводнага чалавека, наколькі б ні быў ён немаёмасным, які б не кідаў погляды, поўныя надзеі і зайздрасьці, на камфортнае жыццё заможных людзей і чыё ўяўленне не было б загадзя захоплена назіраннем за выявамі, малюючымі даброты, у валоданні якімі лёс зацята яму адмаўляў.

З іншага боку, я ніколі не заўважаў у заможных амерыканцах той напышлівай пагарды да матэрыяльнага дабрабыту, якую часам выяўляе самая заможная і самая распушчаная частка арыстакратыі.

Амерыканскія багацеі ў сваёй большасьці некалі былі беднякамі; яны адчувалі на сабе джала нястач; яны доўга ваявалі з варожым ім лёсам і зараз, калі перамога здабыта, у іх яшчэ з'яўляюцца жывымі тыя пачуцці, з якімі яны ішлі на змаганне; яны здаюцца ахмялеўшымі ад асалоды карыстання тымі маленькімі радасьцямі, якіх яны дамагаліся на працягу сарака гадоў.

Нельга сказаць, што ў Злучаных Штатах, як і ў кожнай іншай краіне, не сустракаецца даволі значнай колькасьці заможных людзей, якія, успадкаваўшы маёмасць, безтурботна карыстаюцца не заробленай імі раскошай. Аднак нават такія людзі тут не здаюцца менш за іншых прывязанымі да задавальненняў матэрыяльнага жыцця. Імкненне да дастатку стала пануючай рысай нацыянальнага характару; вялікі струмень чалавечых жарсьцяў цячэ тут менавіта ў гэтым накірунку, захопліваючы за сабой усё, што сустракаецца на яго шляху.

# Глава XI

## Пра тыя спецыфічныя наступствы, якія спараджаюцца схільнасьцю да фізічных задавальненняў у дэмакратычныя часы

На падставе вышэйпавядомленага можна было б выказаць здагадку, што схільнасць да фізічных задавальненняў павінна ўвесь час прыводзіць амерыканцаў да бязладзіцы ў норавах, парушаць іхны сямейны спакой і, у канчатковым рахунку, паставіць пад пагрозу лёс самога грамадства.

Нічога гэтага, аднак, не адбываецца: прага да фізічных задавальненняў цалкам інакш выяўляецца ў дэмакратычных народаў, чым у народаў, жывучых пры арыстакратыі.

Часам здараецца так, што агіда да спраў, лішак багацця, адсутнасць веры і паслабленне дзяржаўнай улады паступова прывучаюць арыстакратыю бачыць у фізічных задавальненнях сваё адзінае суцяшэнне. У іншай сітуацыі магутнасць кароны ці ж слабасць народа, не пазбаўляючы шляхту яе багацця, вымушаюць яе самаўхіляцца ад улады і, зачыняючы перад вяльможамі шлях да вялікіх здзяйсненняў, пакідаюць іх сам-насам са сваімі неспакойнымі, мяцежнымі жаданнямі; тады яны з цяжкім сэрцам пачынаюць займацца сваёй уласнай пярсонай, спрабуючы ў цялесных асалодах знайсьці забыццё, сцерці ўспаміны пра сваю былую веліч.

Калі прагнасць да фізічных задавальненняў цалкам завалодвае душамі прадстаўнікоў арыстакратычнага стану, яны, звычайна, канцэнтруюць у гэтым адзіным накірунку ўсю тую энергію, якая была назапашана ў іх доўгай звычкай да ўлады.

Пошук простага дастатку такіх людзей не задавальняе: ім патрэбна пышная, бліскучая распушчанасць. Яны ствараюць культ чароўных фізічных асалод і, здаецца, прагнуць перасягнуць адзін аднаго ў мастацтве сама-знясілення.

І чым больш магутнай, годнай ухвалы і вольнай была некалі дадзеная арыстакратыя, чым больш яскравым быў бляск яе гераізму і ўчыннасьцей, тым больш гучнай і скандальнай, адпаведна з маімі глыбокімі перакананнямі, будзе благая слава пра яе заганы.

Схільнасць да фізічных задавальненняў не даходзіць у дэмакратычных народаў да падобных празмернасьцей. Павага да матэрыяльнага дабрабыту выступае ў іх у выглядзе стойкага, выключна моцнага, усеагульнага, але стрыманага запалу. Гаворка тут не ідзе пра пабудову вялізных палацаў, пра заваяванне самой прыроды ці пра тое, каб перасягнуць яе тварэнні і спустошыць увесь сьвет з мэтай найбольш поўнага спатолення жарсьцяў аднаго-адзінюткага чалавека. Гаворка ідзе пра тое, каб да свайго поля дадаць некалькі туазаў зямлі, пасадзіць фруктовы сад, пашырыць сваё жыллё, увесь час рабіць жыццё больш лёгкім і зручным, не даводзіць да стану адсутнасьці грошай і навучыцца задавальняць свае самыя малыя патрэбы без асаблівых намаганняў і амаль дарэмна. Гэтыя мэты выглядаюць нязначнымі, але душа моцна да іх прывязваецца: яна выношвае іх штодня да драбнюткіх падрабязнасьцей і, нарэшце, для яе яны засланяюць сабой ўвесь астатні сьвет, а часам нават пачынаюць перашкаджаць яе камунікаванню з Богам.

Могуць сказаць, што ўсё гэта мае дачыненне толькі да грамадзянаў, якія валодаюць не вельмі значным багаццем і што заможныя людзі выявяць густы і імкненні, аналагічныя тым, якія былі вядомымі пад час стагоддзяў арыстакратычнага кіравання. Я аспрэчваю гэтае цьверджанне.

У дачыненні да фізічных задавальненняў найбольш заможныя грамадзяне дэмакратычных дзяржаў не будуць выяўляць густаў, некалькі істотна адрозніваючыхся ад густаў усяго народа. Гэта будзе адбывацца або дзякуючы таму, што, выйшаўшы із народных нізоў, яны сапраўды захавалі гэтыя густы, або таму, што будуць упэўнены ў патрэбнасьці іх запазычыць. У дэмакратычных грамадствах эмацыйнае жыццё людзей адзначана ўмеранасьцю і спакоем і кожны чалавек павінен з гэтым лічыцца. Заганам з не меншымі намаганнямі, чым учыннасьцям, атрымліваецца выходзіць із-пад улады пашыраных нормаў.

Заможныя людзі дэмакратычных нацый, такім чынам, больш думаюць пра задавальненне сваіх самых нязначных патрэб, чым пра пошук незвычайных задавальненняў; яны задавальняюцца выкананнем сваіх шматлікіх сьціплых жаданняў, не аддаючыся ніякаму моцнаму, неўтаймаванаму запалу. Таму яны часьцей бываюць схільнымі да апатыі, чым да марнатраўства.

Асаблівая схільнасць да фізічных асалод, выяўляемая ў людзях дэмакратычных эпох, па сваёй прыродзе не з’яўляецца супярэчачай грамадзкаму ўпарадкаванню; наадварот, яна часта можа задавальняцца толькі пры ўмове захавання гэтага ўпарадкавання. Не варожая яна і маральнай прыстойнасьці, таму што добрыя норавы забяспечваюць грамадзкае заспакаенне і падахвочваюць працавітасць. Часам гэтая схільнасць здольна спалучацца нават са свайго роду рэлігійнай мараллю; людзі жадаюць як мага лепш пражыць зямное жыццё, не пазбаўляючы сябе шанцаў на наступную асалоду.

У ліку матэрыяльных даброт існуюць і такая, валоданне якімі лічыцца злачынным; ад іх узмоцнена ўстрымліваюцца. Тыя ж даброты, карыстанне якімі

ўхваляецца рэлігіяй і мараллю, захопліваюць людзей цалкам, авалодваючы іхнымі сэрцамі і ўяўленнем і так падначальваюць сабе іхнае жыццё, што ў пагоні за імі яны губляюць з вачэй куды больш значныя каштоўнасьці, складаючыя славу і веліч чалавечага роду.

Я папракаю роўнасць цалкам не за тое, што яна падштурхоўвае людзей на пошукі забароненых задавальненняў, а за тое, што, шукаючы асалодаў цалкам дазволеных, яны выяўляюцца з галавой паглынутымі гэтым заняткам.

Такім чынам, на зямлі можа ўсталявацца свайго роду прыстойны матэрыялізм, які, не разбэшчваючы людзкіх душ, усё ж зробіць іх больш спешчанымі і, нарэшце, непрыкметна будзе мець наступствам у людзей поўны заняпад душэўных здольнасьцей.

# Глава XII

## Чаму асобныя амерыканцы дэманструюць такую экзальтаваную духоўнасць

Хаця запал да зямных даброт з’яўляецца пануючым у асяроддзі амерыканцаў, ім знаёмы такія моманты заспакаення, калі іхныя душы, здаецца, разам разрываюць усе повязі, злучаючыя іх са сьветам плоці і нястрымана накіроўваюцца да нябёс.

Ва ўсіх штатах Паўночнай Амерыкі, а асабліва ў напаловузаселеных заходніх акругах, часам сустракаюцца прапаведнікі, пашыраючыя па зямлі слова Госпада.

Цэлымі сем’ямі, разам са старымі, жанчынамі і дзецьмі, амерыканцы перасякаюць цяжкапраходныя месцы і лясныя нетры, робячы вельмі доўгі шлях для таго, каб паслухаць гэтых прапаведнікаў; сустрэўшыся з імі і выслухаўшы іх, яны на шматлікія дні і ночы забываюцца пра свае справы, грэбуючы нават самымі неабходнымі патрабаваннямі цела.

То тут, то там у нетрах амерыканскага грамадства можна сустрэць людзей, напоўненых такой экзальтаванай і амаль роспачнай духоўнасьцю, якую наўрад ці сустрэнеш у Яўропе. Час ад часу тут утвараюцца дзіўныя секты, імкнучыяся знайсьці незвычайныя шляхі, вядучыя да вечнай асалоды. Тут шырока пашырана рэлігійная неразважлівасць.

Гэта не павінна нас здзіўляць.

Чалавек не сам надаў сабе цягу да бясконцага і павагу да ўсяго несьмяротнага. Гэтыя ўзнёслыя пачуцці ўзніклі не дзякуючы яго прымхам: іхны падмурак трывала спачывае ў самой чалавечай прыродзе; яны існуюць незалежна ад намаганняў людзей. Гэтыя пачуцці можна прыглушыць ці знявечыць, але іх немагчыма зьнішчыць.

У душы існуюць патрэбы, якія павінны быць задаволены; і якія б намаганні ні выдаткоўваліся на тое, каб адцягнуць яе ад іх, яна адразу ж пачынае тужыць, адчуваць турботу і замяшанне, не супакойваемыя пачуццёвымі асалодамі.

Калі розумы пераважнай большасьці людзей калі-небудзь засяродзяцца на пошуках матэрыяльных даброт, то варта чакаць, што гэта будзе мець наступствам бурную адваротную рэакцыю ў душах прыватных асоб. Яны роспачна кінуцца ў сьвет духоўны, баючыся застацца злучанымі тымі занадта цеснымі путамі, якія цела жадала б накласьці на іх.

Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што ў грамадстве, цалкам пагружаным у зямныя турботы, сустракаецца невялікая колькасць індывідаў, якія не жадаюць думаць ні пра што, акрамя нябёс. Я быў бы здзіўлены, калі б у народа, выключна занятага сваім дабрабытам, містыцызм не атрымаў бы хуткага развіцця.

Кажуць, што пустэчы вакол Фіваў былі заселены людзьмі, збегшымі ад перасьледаў імператараў і пакаранняў сьмерцю на цыркавых арэнах; што да мяне, то я лічу, што нагодамі, хутчэй, паслужылі раскоша Рыма і эпікурэйская філасофія Грэцыі.

Можна выказаць здагадку, што, калі б сацыяльныя ўмовы, акалічнасьці і законы так трывала не абмяжоўвалі амерыканскі розум пошукамі дабрабыту, ён, будучы накіраваным на нематэрыяльныя рэчы, быў бы здольны без асаблівых цяжкасьцей выявіць значна большую спрактыкаванасць, асьцярожнасць і стрыманасць. Але ён пачуваецца заняволеным у вузкія рамкі, із якіх, па ўсёй бачнасьці, яго не жадаюць выпускаць. Таму тады, калі ў яго атрымліваецца пераадолець гэтыя межы, ён ужо не ведае, да чаго прымацавацца і часам без аглядкі накіроўваецца да крайняй мяжы цьвярозага розуму.

# Глава XIII

## Чаму квітнеючыя амерыканцы з’яўляюцца такімі неспакойнымі

У некаторых аддаленых месцах Старога Сьвету часам яшчэ сустракаюцца невялікія паселішчы, якія здаюцца не закранутымі агульным віхурам, таму што яны захавалі марудлівае ўладкаванне жыцця, хаця вакол іх усё бурліла і хвалявалася. Большасць насельнікаў там вельмі неадукаваныя і бедныя, жыхары не бяруць удзел у дзяржаўных справах і ўрады часта іх прыціскаюць. І ўсё ж, твары гэтых людзей, звычайна, ціхамірныя, і выглядаюць яны жыццярадаснымі.

У Амерыцы я бачыў самых вольных, самых асьвечаных людзей на сьвеце, меўшых самыя спрыяльныя ўмовы для жыцця, аднак мне здавалася, што іхныя твары звычайна засмучаны нейкім лёгкім, як хмурынка, ценем; яны былі сур’ёзнымі, амаль сумнымі нават падчас забаваў.

Асноўная нагода гэтага парадоксу палягае ў тым, што першыя не думаюць пра тыя нястачы, якія ім даводзіцца перажываць, тады як другія ўвесь час думаюць пра тыя даброты, якіх яны пазбаўлены.

Дзіўна назіраць тую ліхаманкавую стараннасць, з якой амерыканцы імкнуцца дамагчыся поспеху і тыя іхныя няспынныя пакуты, выкліканыя невыразнымі баязнямі з нагоды таго, што яны выбралі не самы кароткі із вядучых да яго шляхоў.

Амерыканец так прывязаны да даброт гэтага сьвету, нібы ён упэўнены ва ўласнай неўміручасьці і пры гэтым ён з такой паспешнасьцю імкнецца завалодаць тымі із іх, якія апынаюцца ў межах яго дасягальнасьці, што можна падумаць, быццам бы ён штохвілінна асьцерагаецца страціць жыццё да таго, як паспее нацешыцца ім. Ён хапае ўсё, што яму трапляецца, але трымае нямоцна, адразу ж выпускаючы із рук, каб гнацца за новымі асалодамі.

Амерыканец клапатліва будуе сядзібу, у якой збіраецца правесьці свае старэчыя гады і прадае яе, яшчэ не прымацаваўшы канёк на даху; ён садзіць сад і здае яго ў арэнду, як толькі той пачынае прыносіць плён; ён падымае цаліну і раскарчоўвае поле, пакідаючы іншым клапаціцца пра яго жніво. Ён авалодвае

нейкай прафесіяй і кідае яе. Ён пасяляецца ў нейкім месцы і хутка пакідае яго, каб ісьці за сваімі пераменлівымі жаданнямі. Калі яго асабістыя справы даюць яму некаторы адпачынак, ён адразу ж кідаецца ў вір палітыкі. А калі пад канец года, запоўненага катаржнай працай, у яго яшчэ застаецца сякі-такі вольны час, ён праз сваю няўрымслівую цікавасць праводзіць яго то тут, то там, падарожнічаючы па бязмежных абшарах Злучаных Штатаў. Такім чынам, ён за некалькі дзён пераадольвае шлях роўны даўжынёй пяць соцень лье, каб адцягнуцца ад думак пра сваё шчасьце.

Нарэшце, прыходзіць сьмерць, спыняючая яго перш, чым ён адчуе сябе стомленым ад сваіх вечных не маючых карысьці пошукаў поўнага шчасьця.

Відовішча такіх шматлікіх шчаслівых людзей, не ведаючых ні ў чым патрэбы і пры гэтым адчуваючых моцную турботу, спачатку здзіўляе. Аднак гэта драма старая, як і сам сьвет; новым тут з’яўляецца толькі тое, што ў ёй бярэ ўдзел увесь народ.

Цягу да фізічных задавальненняў варта разглядаць у якасьці асноўнай крыніцы той таемнай заклапочанасьці, якая выяўляе сябе ва ўчынках амерыканцаў, і той нясталасьці, прыклады якой яны дэманструюць штодня.

Чалавек, засяродзіўшы ўсе магчымасьці сваёй душы адзіна на здабыванні даброт на гэтым сьвеце, заўсёды спяшаецца, Дзякуючы таму што ў яго не так шмат часу, каб іх знайсьці, займець і нацешыцца імі. Думка пра тое, што жыццё кароткае, няспынна падганяе яго. Незалежна ад колькасьці ўжо здабытых ім даброт, ён кожную хвіліну думае пра тысячы іншых – пра тыя, якімі сьмерць перашкодзіць яму завалодаць, калі ён не будзе спяшацца. Гэтая думка засмучае яго, палохае, надае шкадаванне і прыводзіць яго душу ў стан бесперапыннага замяшання, які кожны раз вымушае яго пераменяць свае планы і месца жыхарства.

Калі імкненне да матэрыяльнага дабрабыту злучаецца з такім дзяржаўным уладкаваннем, пры якім ні закон, ні звычай больш не ўтрымліваюць чалавека на сваім месцы, то гэта значна павялічвае душэўны неспакой грамадзянаў: у гэтай дзяржаве вы бачыце людзей, якія ўвесь час пераменяюць свой жыццёвы шлях праз бязнь не заўважыць той самай кароткай дарогі, якая павінна прывесьці іх да шчасьця.

Дарэчы, няцяжка зразумець, што калі людзі, жарсна шукаючыя фізічных задавальненняў, валодаюць моцнымі жаданнямі, то яны павінны з лёгкасьцю ад іх адмаўляцца. Дзякуючы таму што іхная канчатковая мэта – асалода, то сродак яе дасягнення павінен быць хуткім і простым, інакш цяжкасьці, злучаныя з атрыманнем задавальнення, пераважаць само задавальненне. Таму душы большасьці людзей адначасова адзначаны палкасьцю і млявасьцю, моцнасьцю і слабасьцю. Людзі часта не так баяцца сьмерці, як неабходнасьці працягваць намаганні для дасягнення пастаўленай мэты.

Роўнасць прамым шляхам прыводзіць яшчэ да некаторых вынікаў, якія мне патрэбна апісаць.

Калі знішчаны ўсе прэрагатывы, злучаныя з нараджэннем і багаццем, калі ўсе прафесіі і віды дзейнасьці даступныя ўсім і калі чалавек дзякуючы сваім уласным здольнасьцям у стане апынуцца на вяршыні кожнай із іх, славалюбівым людзям пачынае здавацца, што перад імі адкрыты лёгкія шляхі да вялікіх кар’ераў, і яны ахвотна пераконваюць сябе ў тым, што яны – абраннікі лёсу. Але гэты погляд памылковы і штодзённы жыццёвы досьвед карэктуе яго. Тая ж самая роўнасць, якая дазваляе кожнаму грамадзяніну сілкаваць вялікія надзеі, усіх грамадзянаў

малым узрушэнні ў сферы дзелавой актыўнасьці пад пагрозай апынаюцца ўсе прыватныя багацці разам і хістаюцца самі асновы дзяржаўнасьці.

Я перакананы, што перыядычнае паўтарэнне прамысловых крызісаў – хранічнае захворванне, уласьцівае дэмакратычным нацыям нашых дзён. Яго можна некалькі паменшыць, але немагчыма цалкам знішчыць, таму што яго падстава не выпадковая, а абумоўлена самім тэмпераментам гэтых народаў.

# Глава XX

## Якім чынам прамысловасць можа нараджаць арыстакратыю

Я паказаў, якім чынам дэмакратыя спрыяе прамысловаму развіццю грамадства, усімі шляхамі павялічваючы колькасць занятых у прамысловасьці людзей; зараз давайце паглядзім, якім кружным шляхам прамысловасць у сваю чаргу магла б прывесьці людзей да арыстакратыі.

Агульнапрызнана, што, калі працаўнік з дня на дзень заняты вырабам адной і той жа дэталі, канчатковая прадукцыя вырабляецца прасьцей, хутчэй і з меншымі выдаткамі.

У роўнай меры прызнана таксама, што, чым больш буйным з’яўляецца прадпрыемства, яго фонды і крэдыты, тым больш танным будуць яго вырабы.

Праўдзівасць гэтых цьверджанняў смутна адчувалася здаўна, але толькі ў нашы дні яна паўстала ва ўсёй відавочнасьці. Гэтыя прынцыпы ўжо знайшлі ўжыванне ў шмат якіх найбольш важных галінах прамысловасьці і паступова імі авалодваюць усе астатнія галіны.

У вобласьці палітыкі няма ніякіх іншых праўд, якія б заслугоўвалі большай увагі з боку заканадаўцаў, чым гэтыя дзьве новыя аксіёмы індустрыйнай навукі.

Калі працаўнік увесь час заняты вырабам толькі аднаго-адзінюткага прадмета, ён, нарэшце, пачынае выконваць гэтую працу з надзвычайным спрытам. Але, у той жа самы час ён губляе агульную здольнасць канцэнтраваць разумовыя намаганні на сваёй працы. З кожным днём ён робіцца ўсё больш майстэрскім, але ўсё менш працавітым і можна сказаць, чалавечая асоба дэградуе па меры таго, як удасканальваюцца якасьці працоўнага.

Што можна чакаць ад чалавека, які дваццаць гадоў свайго жыцця быў заняты вырабам шпількавых галовак? І на што далей ён можа накіраваць свае разумовыя здольнасьці – належачую яму долю магутнага чалавечага розуму, што так часта ўражваў увесь сьвет, – акрамя як на вынаходніцтва больш дасканалага спосабу вырабу шпількавых галовак!

Калі працоўны падобным чынам праводзіць значную частку свайго жыцця, яго думкі назаўсёды засяроджваюцца на прадмеце яго штодзённай працы; яго цела набывае вызначаныя рухальныя навыкі, ад якіх пазней ён не здолее пазбавіцца. Адным словам, ён належыць ужо не самому сабе, а абранай ім прафесіі. Дарэмна законы і маральныя павучанні імкнуцца знішчыць усе бар’еры, атачаючыя такога чалавека і адкрыць для яго з усіх бакоў тысячы розных шляхоў да дабрабыту; індустрыйная тэорыя, больш магутная, чым маральныя і юрыдычныя наказы, прывязвае яго да адной прафесіі, а часта і да аднаго месца, якое ён не можа пакінуць. Гэтая тэорыя надзяляе яго вызначаным грамадзкім становішчам, перамяніць якое ён не ў стане. Сярод усеагульнага руху яна вымушае яго прытрытрымлівацца нерухомасьці.

Па меры таго як прынцып падзелу працы знаходзіць усё больш шырокае ўжыванне, працаўнік робіцца ўсё больш бездапаможным, больш абмежаваным і залежным. З прагрэсам рамяства сам рамеснік рэгрэсуе. З другога боку, па меры таго як усё больш відавочна выяўляецца, што якасць і кошт прамысловай прадукцыі непасрэдна залежаць ад памераў прамысловага прадпрыемства і яго капіталу, знаходзіцца шмат вельмі заможных і адукаваных людзей, гатовых эксплуатаваць тыя галіны індустрыі, якія да таго часу заставаліся ў руках невуцкіх ці абмежаваных у сродках рамеснікаў. Гэтых заможных людзей прыцягвае маштабнасць патрэбных намаганняў і значнасць чакаемых вынікаў.

Такім чынам, індустрыйная навука ўвесь час пагаршае становішча працоўнага стана, у той жа самы час паляпшаючы становішча прамысловых магнатаў.

Тады як працаўнік ўсё больш і больш абмяжоўвае ўжыванне сваіх разумовых здольнасьцей вывучэннем адной-адзінюткай дэталі, прамысловец з кожным днём ахапляе сваім уяўным позіркам усё больш і больш складаную іхную сукупнасць і яго далягляд пашыраецца прама сумерна таму, наколькі звужаецца далягляд працаўніка. Неўзабаве апошні выявіцца маючым патрэбу толькі ў сваіх фізічных здольнасьцях без інтэлекту, тады як першаму, каб мець поспех, спатрэбяцца веды і амаль геніяльныя здольнасьці. Прамысловец усё больш і больш робіцца падобным на валадара вялізнай імперыі, а працоўны – на бязмоўнае стварэнне.

Таму паміж гаспадаром і працоўным у сучасны момант няма нічога агульнага і адрозненне паміж імі паглыбляецца з кожным днём. Іхныя дачыненні падобны на сувязь паміж крайнімі звёнамі аднаго доўгага ланцуга. Кожны із іх займае прызначанае для яго месца, якое ён не пакідае. Адзін знаходзіцца ў пастаяннай, непасрэднай, непазбежнай залежнасьці ад другога і, здаецца, народжаны падначальвацца, тады як гаспадар народжаны загадваць.

Што гэта, калі не арыстакратычная ўлада?

Калі ўмовы існавання ў рамках нацыі робяцца ўсё больш і больш роўнымі, патрэба ў прамысловых вырабах павялічваецца, робячыся набыткам самых шырокіх пластоў насельніцтва і таннасць тавараў, робячая іх даступнымі для сярэднезабяспечаных людзей, робіцца ўсё больш вырашаючай умовай фінансавага поспеху прамысловай дзейнасьці.

Такім чынам, з кожным днём робіцца ўсё больш відавочным, што самыя заможныя і адукаваныя людзі аддаюць свае грошы і веды прамысловасьці, імкнучыся шляхам стварэння буйных прадпрыемстваў, строга прытрымліваючыхся прынцыпу падзелу працы, задавальняць тыя новыя патрэбы людзей, якія выяўляюцца ва ўсіх пластах грамадства.

Такім чынам, па меры таго як асноўная маса насельніцтва краіны ідзе да дэмакратыі, дачыненні ў некаторым згуртаванні людзей занятых у прамысловасьці, робяцца ўсё больш арыстакратычнымі. Калі ў грамадстве ў цэлым адрозненні паміж людзьмі ўсё больш і больш сціраюцца, то ў прамысловым стане яны выяўляюцца з усё большай відавочнасьцю, пры гэтым няроўнасць тут павялічваецца настолькі, наколькі яна памяншаецца ва ўсім грамадстве.

Таму, калі пачынаеш разглядаць вытокі з’яваў, здаецца, што арыстакратыя натуральным чынам зараджаецца ў нетрах самой дэмакратыі.

Але гэта новаўтвораная арыстакратыя цалкам не падобна на сваю гістарычную папярэдніцу.

Перадусім варта пазначыць, што яна набывае пашырэнне толькі ў прамысловасьці, прытым толькі ў некаторых яе галінах і таму мае ролю выродлівага выключэння ў сістэме сацыяльнага ўладкавання грамадства.

Маленькія арыстакратычныя супольнасьці, утвараемыя некаторымі галінамі прамысловасьці ў нетрах шырокай дэмакратыі нашых дзён, складаюцца, падобна арыстакратычным грамадствам мінуўшых часоў, із некалькіх вельмі заможных і вялікай колькасьці вельмі немаёмасных людзей.

Гэтыя беднякі амаль не маюць магчымасьці перамяніць сваё становішча і стаць заможнымі; багацеі, аднак, увесь час ці страчваюць багацце ці ж адыходзяць ад спраў, атрымаўшы свае прыбыткі. Такім чынам, склад праслойкі беднякоў больш-менш устойлівы, тады як склад заможнай праслойкі нясталы. Кажучы па праўдзе, нягледзячы на тое што пры дэмакратыі бываюць заможныя людзі, стана заможных як такога тут не існуе, таму што гэтыя заможныя людзі не маюць станавай свядомасьці ці агульнай мэты, традыцый, чаканняў. У гэтай расьліны існуюць галіны і лісьце, але няма адзінага ствала.

Не толькі заможныя трывала не аб’яднаны адзін з адным, але можна сказаць, што не існуе ніякай сапраўднай сувязі паміж заможнымі і немаёмаснымі.

Яны не замацаваны навекі адзін да другога; аб’ядноўваючыя іх зацікаўленасьці ўвесь час іх і падзяляюць. У цэлым працоўны залежыць ад прадпрымальніка, але не ад пэўнага гаспадара. Гэтыя два чалавекі бачацца адзін з адным на фабрыцы, не сустракаючыся больш нідзе і, сутыкаючыся ў адной кропцы, захоўваюць вельмі вялікую дыстанцыю ва ўсіх астатніх дачыненнях. Прадпрымальнік нічога не патрабуе ад працоўнага, акрамя яго працы, а працоўны нічога не чакае ад прадпрымальніка, акрамя заробкаў. Першы не лічыць сябе абавязаным рабіць нейкае заступніцтва, другі не лічыць патрэбным нешта абараняць; іх не злучаюць ні пастаянныя стасункі, ні звычкі, ні абавязакі.

Прамысловая арыстакратыя амаль ніколі не жыве ў тых завадзкіх мястэчках, насельніцтвам якіх яна кіруе; яе мэта не ў тым, каб кіраваць гэтым насельніцтвам, а ў тым, каб карыстацца яго працоўнымі здольнасьцямі.

Сфармаваная такім чынам арыстакратыя не можа мець вялікай улады над людзьмі, якія на яе працуюць; і калі нават ёй на нейкае імгненне атрымліваецца падначаліць іх сваёй волі, то яны хутка выслізгваюць із-пад яе ўлады. Яна не ў стане жадаць і дамагацца замацавання гэтай улады.

Зямельная арыстакратыя мінуўшых стагоддзяў была абавязана адпаведна з законам ці ж лічыла сябе маральна абавязанай прыходзіць на дапамогу сваім падданым, дапамагаючы ім у іхным бядотным становішчы. Прамысловая арыстакратыя нашых дзён, наадварот, давёўшы да зглалення і атупення наёмных працоўных, пад час перыяду крызісаў аддае турботы пра іхнае харчаванне грамадзкай дабрачыннасьці. Гэта – натуральны вынік апісанага стану рэчаў. Працоўны і гаспадар сустракаюцца часта, але паміж імі не ўсталёўваюцца ніякіх сапраўдных стасункаў.

Кажучы ў цэлым, прамысловая арыстакратыя, набіраючая магутнасць на нашых вачах, – адна із самых жорсткіх арыстакратый, калі-небудзь існаваўшых на зямлі, аднак у той жа самы час яе ўлада з’яўляецца вельмі абмежаванай і не такой небяспечнай.

І ўсё ж менавіта ў гэты бок сябры дэмакратыі павінны ўвесь час звяртаць свае насьцярожаныя позіркі, таму што калі ўстойлівым прывілеям і ўладзе

арыстакратыі калі-небудзь зноў наканавана падначаліць сабе сьвет, то можна быць упэўненым, што прыйдуць яны праз гэтыя дзьверы.

# ЧАСТКА ТРЭЦЦЯЯ

## Уплыў дэмакратыі на норавы як такія

# Глава I

## Якім чынам норавы памякчаюцца па меры таго, як ураўноўваюцца ўмовы існавання людзей

Мы прызнаём, што на працягу некалькіх стагоддзяў умовы існавання людзей ураўноўваліся, адначасова заўважаем, што чалавечыя норавы рабіліся больш мяккімі. Ці з'яўляюцца гэтыя паралельна праходзіўшыя працэсы незалежнымі адзін ад аднаго, ці ж паміж імі існуе нейкая таемная сувязь, дзякуючы якой адзін не можа развівацца, не падштурхоўваючы другі?

Памякчэнню нораваў нейкага народа можа спрыяць шмат нагод; і ўсё ж, сярод іх усіх роўнасць умоваў існавання людзей мне ўяўляецца самай важнай. Роўнасць умоваў і памякчэнне нораваў, такім чынам, на мой погляд, з'яўляюцца не толькі адначасовымі з'явамі, але таксама і залежачымі адна ад адной.

Калі баечнікі жадаюць зацікавіць нас паводзінамі жывёл, яны надзяляюць іх чалавечымі думкамі і пачуццямі. Аналагічным чынам робяць і паэты, малюючыя духаў і анёлаў. Наколькі б крайняй ні была нястача і наколькі б поўнай ні была асалода, яны не зачэпяць наш розум і сэрца, калі не паўстануць перад намі ў выявах, увасабляючых нас саміх у іншых абліччах.

Усе гэтыя разважанні маюць вельмі непасрэднае дачыненне да разглядаемай намі тэмы.

Калі людзі ў арыстакратычным грамадстве падзелены на замкнёныя іерархічныя згуртаванні, адпавядаючыя роду іхных заняткаў, маёмаснаму становішчу і нараджэнню, асобы кожнага стану, лічачы сябе як бы дзецьмі аднаго сямейства, адчуваюць у дачыненні адзін да аднаго тое пачуццё сталай і актыўнай прыхільнасьці, якое ніколі не сустракаецца ў грамадзянаў дэмакратычнага грамадства.

Цалкам інакш, аднак, ставяцца адзін да аднаго прадстаўнікі розных станаў.

У арыстакратычнага народа кожная каста мае свае погляды, пачуцці, асобныя правы, сваё незалежнае ўладкаванне жыцця. Таму прадстаўнікі аднаго стану не падобныя на людзей, якія належаць да ўсіх іншых станаў; яны думаюць і адчуваюць цалкам інакш і наўрад ці лічаць, што ўсе яны складаюць адзінае чалавецтва.

З гэтай нагоды яны не могуць добра разумець пачуцці іншых людзей ці ж слушна ацэньваць іх на падставе ўласных крытэраў.

Часам яны выяўляюць палкую гатоўнасць дапамагчы адзін аднаму, але гэта не супярэчыць таму, што было сказана вышэй.

Тыя ж самыя арыстакратычныя інстытуты, якія прывялі да ўзнікнення стольскіх асобных відаў у межах адзінага роду людзкага, адначасова і аб’ядноўваюць іх усіх з дапамогай вельмі цеснай палітычнай сувязі.

Хаця прыгонны не адчувае ніякай натуральнай зацікаўленасьці ў лёсе дваранства, ён, прынамсі, лічыць сваім абавязкам аддана служыць таму із іх, хто з’яўляецца яго гаспадаром; і хаця дваранін лічыць сябе зробленым із іншага цеста, чым яго сяляне, ён, усё ж, падначальваючыся абавязку і гонару, вымушаны абараняць усіх жывучых у яго ўладаннях, нават рызыкуючы ўласным жыццём.

Цалкам відавочна, што падобныя ўзаемныя абавязкі не спараджаюцца натуральным правам, з’яўляючыся вынікам права палітычнага і што грамадства ў дадзеным дачыненні атрымала больш, чым магла б даць сама прырода чалавека. Дапамога рабілася не пэўнаму чалавеку, а толькі васалу ці сеньёру. Феадальныя інстытуты выявілі надзвычайную чуласць да бед вызначаных людзей, але не да бядотнага становішча ўсяго чалавечага роду. Яны спрыялі не столькі памякчэнню нараваў, колькі праявам шчодрасьці і, стымулюючы вялікую правільнасць, не спараджалі сапраўднай прыхільнасьці, таму што сапраўднае пачуццё прыхільнасьці можа з’яўляцца толькі паміж роўнымі людзьмі, а пад час стагоддзяў кіравання арыстакратыі роўнымі лічыліся толькі людзі, якія належаць да аднаго стану.

Калі аўтары сярэднявечных хронік, адпаведна са сваім паходжаннем ці выхаваннем належаўшыя да арыстакратыі, паведамляюць пра трагічнае заканчэнне жыцця нейкага двараніна, іхнае гора не ведае меры; пра масавыя ж збіцці і катаванні простых людзей яны паведамляюць, не здрыгануўшыся і не затаіўшы дыхання.

Гэта не азначае, што дадзеныя кніжнікі адчувалі звыклую нянавісць ці ўстойлівую пагарду да простага люду. Вайна паміж рознымі станамі ў дзяржаве яшчэ не была абвешчана. Яны падначальваліся хутчэй інстынкту, чым запалу і, таму што пра пакуты беднякоў яны мелі толькі самае цьмянае ўяўленне, яны не выяўлялі жывой цікавасьці да іхнай долі.

Падобным жа чынам дзейнічалі і прасталюдзіны, калі ланцуг феадальнай залежнасьці пачаў распадацца. Адны і тыя ж стагоддзі паказалі сьвету прыклады гераічнай адданасьці васалаў сваім сеньёрам і сведчанні нечуванай жорсткасьці, якая час ад часу праяўлялася ніжэйшымі станамі ў дачыненні да вышэйшых.

Не патрэбна лічыць, што падобная ўзаемная неадчувальнасць выклікалася толькі адсутнасьцю грамадзкага ўпарадкавання і асьветы, таму што яе сьляды выяўляюцца і ў падзеях наступных стагоддзяў, застаўшыхся, нягледзячы на ўсю іхную асьвечанасць і ўзорны парадак, усё ж арыстакратычнымі.

У 1675 годзе ніжэйшыя станы ў Брэтані паўсталі з нагоды ўвядзення новага падатку. Гэтыя бурныя хваляванні былі заспакоены з не маючай прыкладаў жорсткасьцю. Вось што паведамляе пра іх сваёй дачцэ сведка гэтых жахаў спадарыня дэ Севінье:

«Рашэ, 3 кастрычніка 1675 года.

Бог мой, наколькі пацешным з’яўляецца Ваш, дачка мая, ліст, адасланы з Экса! Перачытвайце, дарэчы, Вашы лісты перад тым, як іх пасылаць. Хай яны здзіўляюць Вас сваёй дасьціпнасьцю і, дастаўляючы гэтае задавальненне, служаць Вам суцяшэннем за тыя намаганні, якіх Вам каштаваў такі доўгі ліст. Такім чынам, Вы цалавалі ўвесь Праванс? Расцалаваўшы ўсю Брэтань, Вы не атрымаеце ні

найменшага задавальнення, калі, вядома, Вам не падабаецца пах віна. Жадаеце пачуць навіны із Рэна? Яго жыхары павінны былі сабраць падатак роўны сто тысяч экю з умовай, што, калі яны не знойдуць гэтай сумы на працягу дваццаці чатырох гадзін, яна будзе падвоена і запатрабавана з дапамогай жаўнераў. Жаўнеры выгналі жыхароў із усіх сядзіб на галоўнай вуліцы і забаранілі ўсім астатнім пускаць іх да сябе пад пагрозай сьмяротнага пакарання, так што можна было бачыць, як гэтыя няшчасныя – цяжарныя жанчыны, старыя і дзеці – са слязьмі на вачах пакідалі гэты горад, не ведаючы, куды ісьці, не маючы ні ежы, ні начлегу. Заўчора калесавалі скрыпача, з якога ўсё пачалося і які падбухторваў да крадзяжу гербавай паперы; ён быў чацьвертаваны і яго парэшткі былі павешаны ў чатырох канцах горада. Схапілі шэсцьдзесят гараджанаў і заўтра іх будуць вешаць. Гэта правінцыя паслужыць добрым урокам для ўсіх астатніх, асабліва навучыўшы іх той павазе, з якой варта ставіцца да губернатараў і губернатаршаў і адвучыўшы кідаць камяні ў іхны сад[329].

Надвор’е ўчора стаяла чароўнае, і спадарыня дэ Тарэнт была ў лесе. Ніякіх турбот ні з пакоем, ні з пачастункам для яе. Яна прыязджае верхам і такім жа чынам едзе назад».

У другім лісьце яна дадае:

«Вы вельмі пацешна пішаце мне пра нашы непрыемнасьці; мы так шмат больш не калясуем: аднаго на тыдзень для падтрымання правасуддзя. Праўда, што пакаранне сьмерцю праз павешанне зараз здаецца мне падмацоўваючым гледзішчам. З тых часоў як я знахожуся ў гэтай правінцыі, у мяне склаліся цалкам іншыя ўяўленні пра справядлівасць і правасуддзе. Вашы катаржнікі на галерах здаюцца мне таварыствам сумленных людзей, выдаліўшыхся ад сьвету, каб весьці спакойны лаж жыцця».

Было б памылкай лічыць, што спадарыня дэ Сэвіньі, напісаўшая гэтыя радкі, – натура эгаістычная, варварская: яна жарсна шанавала сваіх дзяцей і глыбока перажывала гора сваіх сяброў; чытаючы лісты, можна нават заўважыць, што яна з дабрынёй і цярплівасьцю ставілася да сваіх васалаў і слуг. Аднак спадарыня дэ Сэвіньі выразна не ўсведамляла, што азначаюць пакуты чалавека, калі гэты чалавек не дваранін.

У наш час самы бязлітасны із людзей, пішучы ліст самаму нячуламу із адрасатаў, не асьмеліўся б спакойна адпускаць такія жорсткія досьціпы, як тыя, што я толькі што паказаў і нават калі б яго ўласная мараль дазваляла яму так зрабіць, норавы, пануючыя ў асяроддзі народа, перашкодзілі б гэтаму.

Адкуль гэта ўзялося? Ці сталі мы больш чуллівымі, чым нашы бацькі? Не ведаю. Але можна сказаць вызначана, што наша чуллівасць распасьціраецца на значна большую колькасць суб’ектаў.

Калі народ амаль не ведае адрозненняў адпавядаючых чынам і ўсе людзі прыкладна аднолькава думаюць і адчуваюць, кожны із іх здольны імгненна ацаніць адчуванні ўсіх астатніх: для гэтага яму патрэбна толькі мімаходзь зазірнуць у самога сябе. Таму няма такой пакуты, якой бы ён не зразумеў без цяжкасьцей і ўся глыбіня якой засталася б таямніцай для яго пачуццяў. Цалкам не мае значэння, пра каго ідзе гаворка – пра незнаёмых ці нават пра ворагаў: яго ўяўленне адразу ж вымушае яго апынуцца на іхным месцы. Яно заўсёды дамешвае нешта асабістае ў яго пачуццё жалю і падахвочвае яго пакутаваць, калі раздзіраюць цела іншага чалавека.

---

[329] Кад адчуць дарэчнасць гэтага апошняга жарту, патрэбна нагадаць, што спадарыня дэ Грыньян была жонкай губернатара Праванса.

Пад час стагоддзяў дэмакратыі людзі рэдка ахвяруюць сабой дзеля іншых, але ім уласьціва агульнае пачуццё спачування, якое пашыраецца на ўсіх прадстаўнікоў роду чалавечага. Яны не будуць рабіць зло не маючае сэнсу і, калі гэта не вельмі шкодзіць ім самім, яны могуць палегчыць пакуты іншых людзей, прытым рабіць гэта з задавальненнем; яны не абыякавыя, а добрыя.

Хаця амерыканцы паклалі эгаізм, так бы мовіць, у падмурак сваёй сацыяльна-філасофскага вучэння, ім усё ж вельмі добра знаёма пачуццё жалю.

Няма краіны, дзе крымінальнае права ўжывалася б з большай мяккасардэчнасьцю, чым у Злучаных Штатах. Тым часам як ангельцы, відаць, сьвядома і педантычна захоўваюць у сваім крымінальным заканадаўстве крывавыя сляды сярэднявечных укладанняў, амерыканцы амаль выключылі пакаранне сьмерцю са сваіх кодэксаў.

Мне думаецца, што Паўночная Амерыка – адзіная краіна ў сьвеце, дзе за апошнія пяцьдзясят гадоў ніводзін грамадзянін не быў пазбаўлены жыцця за палітычныя парушэнні права.

Довадам таго, што незвычайная лагоднасць амерыканцаў абумоўлена галоўным чынам сацыяльным уладкаваннем іхнага грамадства, служыць іхная манера стасункаў са сваімі рабамі.

Кажучы ў цэлым, на тэрыторыі Новага Сьвету, магчыма, няма ніводнай еўрапейскай асады, дзе фізічныя ўмовы жыцця чарнаскурых былі б больш ніштаватымі, чым у Злучаных Штатах. І ўсё ж, і тут рабы адчуваюць жудасныя пакуты і ўвесь час зведваюць вельмі жорсткія пакаранні.

Няцяжка зразумець, што лёс гэтых няшчасных не выклікае асаблівага жалю ў сэрцах іхных гаспадароў і што яны ставяцца да рабства не толькі як да выгаднага для іх упарадкавання, але таксама і як да грамадзкага зла, якое іх наўрад ці зачэпіць. Такім чынам, адзін і той жа чалавек, поўны самых гуманных пачуццяў у дачыненні да сабе падобных, калі яны займаюць роўнае з ім становішча ў грамадстве, робіцца нячулым да іхных нягод, калі гэтая роўнасць знікае. Таму мяккасць грамадзкіх нораваў патрэбна тлумачыць роўнасьцю ў большай меры, чым цывілізаванасьцю і асьвечанасьцю людзей.

Тое, што я выказаў у дачыненні да асобаў, у вызначанай ступені дастасоўваецца і да цэлых народаў.

Калі кожная нацыя мае свае асобныя перакананні, вераванні, законы і звычаі, яна лічыць сябе як бы адзіным паўнапраўным прадстаўніком усяго чалавецтва ў цэлым і здольна ўспрымаць толькі ўласныя нягоды. Калі паміж народамі, наладжанымі падобным чынам, пачынаецца вайна, яна не абыйдзецца без праяўленняў варварства.

У часы самага высокага росквіту сваёй культуры рымляне перараэалі горла вайскаводам суперніка пасьля таго, як праводзілі іх па вуліцах, прывязанымі да калясніцы трыумфатара, і аддавалі палонных на з’ядзенне дзікім звярам дзеля забавы народа. Цыцэрон, які так голасна выказваўся супраць ідэі ўкрыжавання рымскага грамадзяніна, не прамовіў ніводнага слова ў якасьці асуджэння такіх жудасных злоўжыванняў вайсковымі перамогамі. Зразумела, што ў яго вачах чужынец не належаў да таго ж самага чалавечага роду, што і рымлянін.

Наадварот, па меры таго як народы зьбліжаюцца, прыпадабняючыся адзін аднаму, яны робяцца ўсё больш здольнымі на пачуццё ўзаемнага спачування, а іхныя ўяўленні пра правы народаў – больш гуманнымі.

# Глава II

## Якім чынам дэмакратыя спрашчае і палягчае звычайныя стасункі паміж амерыканцамі

Дэмакратыя не стварае трывалай узаемасувязі паміж людзьмі, але яна палягчае іхныя штодзённыя стасункі.

Уявіце сабе двух ангельцаў, воляй выпадку сустрэўшыхся сярод антыподаў; яны аточаны чужынцамі, мову і норавы якіх яны цалкам не ведаюць.

Гэтыя двое спачатку ўважліва агледзяць адзін аднаго, адчуваючы вострую зацікаўленасць і свайго роду таемны непакой, потым яны павернуцца ў розныя бакі ці ж калі яны падыдуць адзін да аднаго, то прыкладуць усе намаганні, каб падчас размовы захаваць халодны, няўважлівы выгляд і не размаўляць ні пра што, акрамя рэчаў малазначных.

Паміж імі, аднак, няма ніякай непрыязі; яны ніколі раней не бачыліся і ўзаемна размешчаны верыць у поўную прыстойнасць адзін аднаго. Чаму ж з такой стараннасцю яны імкнуцца пазбягаць адзін другога?

Каб гэта зразумець, патрэбна вярнуцца ў Англельшчыну.

Калі выключна паходжанне, незалежна ад памераў багацця, вызначае станавую прыналежнасць людзей, кожны дакладна ведае, якую приступку сацыяльных усходаў ён займае; ён не імкнецца з яе падняцца вышэй і не баіцца апусьціцца ніжэй. У грамадстве, ўладкаванным падобным чынам, людзі розных станаў рэдка маюць стасункі адзін з адным; аднак, калі выпадак вымушае іх уступаць у кантакты, яны ахвотна гэта робяць, не спадзеючыся і не баючыся страціць сваю станавую прыналежнасць. Іхныя стасункі не заснаваны па роўнасьці, але яны пазбаўлены нацягнутасьці.

Калі радавую арыстакратыю замяняе арыстакратыя грашовага мяшка, сітуацыя робіцца цалкам іншай.

Прывілеі прыватных людзей усё яшчэ надзвычай значныя, але магчымасць іх набыцця адкрыта для ўсіх; із гэтага вынікае, што людзі, валодаючыя імі, увесь час адчуваюць баязнь іх страціць ці хаця б аддаць частку із іх. Тыя ж, хто іх яшчэ не мае, жадаюць атрымаць іх якім бы то ні было чынам і, калі ў іх гэта не атрымліваецца, жадаюць хаця б здавацца маючымі прывілеі, што цалкам ім даступна. Дзякуючы таму што грамадзкая каштоўнасць людзей больш не вызначаецца відавочна і нязменна радавітасьцю, а бясконца перамяняецца ў залежнасці ад памераў іхнага багацця, ступені сацыяльных усходаў па-ранейшаму захоўваюцца, толькі зараз немагчыма з першага позірку ўпэўнена ўсталяваць, хто якую із іх займае.

Гэта адразу ж мае наступствам таемную грамадзянскую вайну ўсіх супраць усіх. Адны імкнуцца з дапамогай тысячы хітрыкаў пракрасьціся ў асярроддзе тых, хто вышэй іх, ці ж уявіць справу так, што яны да яго далучаны. Іншыя ўвесь час змагаюцца, адбіваючы націск гэтых узурпатараў іхных правоў, ці, хутчэй, адзін і той жа індывід мае дзьве заклапочанасьці: імкнучыся патрапіць у больш высокія грамадзкія сферы, ён адважна стрымлівае націск знізу.

Такім у нашы дні з'яўляецца становішча ў Ангельшчыне і я думаю, што менавіта гэта з'яўляецца галоўнай нагодай таго, пра што гаварылася вышэй.

У ангельцаў усё яшчэ з'уляецца вельмі моцным арыстакратычны гонар і, дзякуючы таму што межы арыстакратыі сталі невыразнымі, кожны із іх увесь час

асьцергаецца, як бы не скарысталіся яго ветлівасьцю. Не маючы магчымасьці з першага позірку ўсталяваць сацыяльную прыналежнасць сустракамых ім людзей, ён разважліва пазбягае камунікавання з імі. Ён асьцерагаецца, што, выказаўшы нязначнае спрыянне, ён, насуперак сваёй волі, знойдзе непажаданае знаёмства; ён асьцерагаецца рабіць і прымаць паслугі і з такой жа стараннасьцю ўхіляецца ад бестактоўнага выказвання ўдзячнасьці з боку незнаёмай асобы; ён пазбягае яе нянавісьці.

Шмат хто із людзей тлумачаць гэтую надзвычайную нетаварыскасць, замкнёнасць і маўклівасць ангельцаў нагодамі чыста фізіялагічнымі. Я ахвотна дапускаю, што кроў робіць некаторы ўплыў, але перакананы, што сацыяльныя нагоды маюць значна большую ролю. У дадзеным дачыненні доказам гэтага служаць амерыканцы.

У Амерыцы, дзе прывілеі, злучаныя з паходжаннем, ніколі не існавалі і дзе багацце не прыносіць ніякіх асаблівых правоў яго ўладальнікам, незнаёмыя паміж сабой людзі ахвотна сустракаюцца ў грамадзкіх месцах, не бачачы для сябе ніякай выгады ці небяспекі ў вольным абмене думкамі. Сустракаючыся выпадкова, яны не шукаюць і не пазбягаюць адзін аднаго, таму іхныя стасункі маюць нявымушаны, просты і адкрыты характар. Вы бачыце, што яны амаль нічога не чакаюць адзін ад аднаго і нічога не асьцерагаюцца і таму не адчуваюць сябе абавязанымі ні дэманстраваць сваё грамадзкае становішча, ні хаваць яго. Выказ іхнага твару можа быць халодным і сур’ёзным, але ён ніколі не бывае напышлівым ці скаваным і калі яны не кажуць адзін аднаму ні слова, то таму, што ў іх няма настрою размаўляць, а цалкам не таму, што яны лічаць маўчанне карысным для сябе.

У чужых краінах двое амерыканцаў адразу ж робяцца сябрамі на той простай падставе, што яны – амерыканцы. Ніякія забабоны не адштурхоўваюць іх адзін ад аднаго, а агульнасць радзімы – прыцягвае. Кроўнага адзінства двух ангельцаў недастаткова для іхнага збліжэнні: ім патрэбна яшчэ і роўнасць адпаведна з грамадзкім становішчам.

Амерыканцы, як і мы, звяртаюць увагу на гэтую нетаварыскасць ангельцаў паміж сабой і яна іх здзіўляе не менш, чым нас саміх. А тым часам амерыканцы блізкія да ангельцаў па паходжанню і рэлігіі, у іх адна мова і часткова падобныя норавы. Яны адрозніваюцца толькі па сацыяльных умовах існавання.

Таму існуюць падставы сцвярджаць, што стрыманасць ангельцаў з’яўляецца вынікам сацыяльна-палітычнай ўладкавання краіны ў большай ступені, чым фізіялагічных асаблівасьцей яе грамадзянаў.

# Глава III

## Чаму амерыканцы не такія адчувальныя у сябе на радзіме і выяўляюць такую крыўдлівасць, калі знаходзяцца ў нашай краіне

Згодна са сваім характарам амерыканцы помслівыя, як і ўсе сур’ёзныя, здольныя думаць народы. Яны амаль ніколі не даруюць абразу, аднак пакрыўдзіць іх нялёгка і іхная злосць распальваецца так жа павольна, як і згасае.

У арыстакратычных грамадствах, дзе малалікае зруртаванне асоб запраўляе ўсімі справамі, вонкавыя формы чалавечых стасункаў падначальваюцца больш-менш устолівым умоўнасьцям. Кожны лічыць, што дакладна ведае, якімі знакамі

належыць засьведчыць сваю павагу ці ж выявіць сваю прыхільнасць і веданне правіл этыкету з’яўляецца абавязковым для ўсіх.

Нормы паводзін, прынімаемыя пануючым станам, потым служаць узорам для ўсіх астатніх станаў і, больш таго, кожны із іх выпрацоўвае свой уласны кодэкс, якому павінны падначальвацца ўсе яго прадстаўнікі.

Навука шляхетнасьці і добрага густу, такім чынам, уяўляе сабой цэлы збор заблытаных правіл, авалодаць якімі ў дасканаласьці цяжка і якія, усё ж, рызыкоўна парушаць, так што людзі штодня трапляюць пад небяспеку мімаволі нанесьці ці ж зведаць жорсткую абразу.

Па меры таго як станавыя адрозненні сціраюцца і людзі, розныя адпаведна са сваёй адукацыяй і паходжаннем, сутыкаюцца і перамешваюцца ў адных і тых жа грамадзкіх месцах, дамовіцца пра правілы добрага тону робіцца амаль немагчыма. Калі закон не цалкам усталяваны, яго невыкананне не лічыцца злачынствам нават у вачах людзей дасьведчаных у гэтым законе; яны больш увагі надаюць зместу ўчынкаў, чым іхнай форме, адразу зрабіўшыся як менш ветлівымі, так і менш прыдзірлівымі.

Амерыканец не надае ніякага значэння вялікай колькасьці дробязяў; ён лічыць, што яны не маюць асабіста да яго непасрэднага дачынення, ці ж мяркуе, што атачаючыя не падазраюць пра існаванне гэтага дачынення. Таму ён або не ставіцца да іхных паводзін як да праявы непавагі да сябе, або прабачае іх; манеры амерыканца ад гэтага робяцца менш галантнымі, а характар набывае прастату і мужнасць.

Гэтая ўласьцівая амерыканцам узаемная памяркоўнасць і тая мужная даверлівасць, з якой яны ставяцца адзін да аднаго, абумоўлены яшчэ адной, больш агульнай і больш глыбокай нагодай.

Я ўжо асвятляў гэту нагоду ў папярэдняй главе.

Дзякуючы таму, што ў Злучаных Штатах людзі ў грамадзкім жыцці не так уражваючы адрозніваюцца адзін ад аднаго згодна са сваім грамадзкім становішчам і таму што ў палітычнай дзейнасьці гэтыя адрозненні ніякай ролі не маюць, амерыканец не лічыць сябе абавязаным выказваць каму б там ні было са сваіх суграмадзянаў знакі асаблівай павагі і сам іх ні ад каго не чакае. Не бачачы ў гэтым ніякай патрэбы, ён не шукае камунікавання з кім-небудзь са сваіх суайчыннікаў і таму з цяжкасьцю ўяўляе сабе, што яго кампанія можа выявіцца для некага непажаданай; нікім не пагарджаючы з нагоды больш нізкага грамадзкага становішча, ён не чакае, што нехта будзе пагарджаць ім самім з нагоды дадзенай акалічнасьці і не лічыць, што нехта мае намер яго пакрыўдзіць, да таго часу пакуль абраза робіцца відавочнай.

Сацыяльныя ўмовы аб’ектыўна спрыяюць таму, што амерыканцы рэдка крыўдзяцца на дробязі. З другога боку, тая дэмакратычная вольнасць, якой яны карыстаюцца, спрыяе ператварэнню гэтай лагоднасьці ў адну із асноўных рыс нацыянальнага характару.

Палітычныя інстытуты Злучаных Штатаў вымушаюць грамадзянаў усіх станаў увесь час кантактаваць паміж сабой і дзейнічаць разам у вялікіх пачынаннях. Занятыя падобным чынам людзі не маюць шмат часу для разважанняў пра дэталі этыкету і да таго ж яны занадта зацікаўлены ў падтрыманні згоды, каб затрымліваць на іх сваю ўвагу. Таму яны з лёгкасьцю набываюць навык судзіць пра тых, з кім сустракаюцца, перадусім грунтуючыся на тым, якія ад іх выходзяць

пачуцці і ідэі, не надаючы адмысловага значэння манерам і не дазваляючы сабе звяртаць увагу на дробязі.

Як я неаднаразова заўважаў у Злучаных Штатах, амерыканцу цяжка даць зразумець, што яго прысутнасць вам надакучыла. Кружным шляхам вы ніколі гэтага не дасягнеце.

Калі я з кожнай нагоды пярэчу амерыканцу, жадаючы даць яму адчуць, што гутарка з ім мяне стамляе, ён кожны раз распачынае новыя спробы пераканаць мяне; я пачынаю ўпарта маўчаць, тады ён уяўляе, што я глыбока задумаўся, асэнсоўваючы выказаныя ім довады, а калі я, нарэшце, разам падскокваю і, моўчкі, зыхожу, ён лічыць, што ў мяне існуе нейкая неадкладная справа, пра якую я яму не паведаміў; я магу пазбавіцца ад яго, толькі стаўшы яго сьмяротным ворагам.

На першы погляд здаецца дзіўным, што той жа самы чалавек, апынуўшыся ў Яўропе, адразу выяўляецца дробязным і цяжкім у стасунках і што тут ён робіцца такім жа крыўдлівым, наколькі дома быў неадчувальным да крыўдных рэчаў. Гэтыя такія два розныя вынікі грунтуюцца на адной і той жа падставе.

Дэмакратычныя інстытуты ў цэлым даюць людзям высокае ўяўленне пра сваю радзіму і пра саміх сябе.

Сэрца амерыканца, едучага за мяжу, напоўнена гонарам. Ён прыбывае ў Яўропу і адразу бачыць, што мы не так заклапочаны, насуперак яго чаканням, лёсам Злучаных Штатаў і вялікага народа, які насяляе іх. Гэта пачынае яго раздражняць.

Ён чуў, што ў нашым паўшар'і жыццё цалкам іншае. Ён і на ўласныя вачы бачыць, што сярод народаў Яўропы сляды станавых адрозненняў яшчэ цалкам не зніклі, што багацце і паходжанне па-ранейшаму забяспечваюць нейкія няпэўныя прывілеі, якія так жа цяжка не заўважыць, як і дакладна вызначыць. Гэтае відовішча здзіўляе яго і прыводзіць у хваляванне, таму што для яго яно цалкам новае; ніішто із бачанага ім у сваёй краіне не спрыяе яго разуменню. Таму ён не мае ні найменшага ўяўлення пра тое, якое месца яму належыць заняць у гэтай напалову разбуранай іерархіі, пасярод гэтых станаў, яшчэ цалкам вызначаных для таго, каб адчуваць нянавісць і пагарду адзін да аднаго, але ўжо такіх блізкіх, што ён заўсёды можа заблытацца ў адрозненнях паміж імі. Ён баіцца прэтэндаваць на месца, занадта для яго высокае, але асабліва асьцерагаецца паставіць сябе занадта нізка; гэта падвойная небяспека ўвесь час трымае яго ў напружанні, прыводзячы ў замяшанне і надаючы неўпэўненасць яго ўчынкам і прамовам.

Традыцыя паведамляе яму, што ў Яўропе цырыманіял мае незлічоную шматлікасць варыянтаў у залежнасьці ад рангу чалавека; гэтая здань мінуўшых часоў надае яму турбот і ён тым больш баіцца, што яму не выказваюць належачых знакаў павагі, чым менш ён уяўляе, у чым жа павінна складацца гэта ўвага. Такім чынам, ён заўсёды падобен на чалавека спрабуючага пазбегнуць пастак, атачаючых яго з усіх бакоў; свецкае камунікаванне для яго – не забаўка, а цяжкая праца. Ён узважвае ўсе вашы дзеянні, ці дапытліва разглядае выраз вашага твару і старанна аналізуе ўсе вашы выказванні, ці не ўтрымліваецца ў іх прыхаваных абразлівых для яго намёкаў. Я не ведаю, ці можна сустрэць хаця б аднаго жывучага ў вёсцы абшарніка, які быў бы больш прыдзірлівым чым ён у пытаннях правіл добрага выхавання; сябе ён вымушае падначальвацца самым дробязным законам этыкету і не спускае, калі яны парушаюцца кім бы там ні было ў дачыненні да яго; ён аднначасова празмеру педантычны і надзвычай патрабавальны; ён гатовы рабіць усё,

што патрэбна, але баіцца, што робіць занадта шмат і, не разбіраючыся толкам у дазволеных межах, робіцца збянтэжана-напышлівым і вельмі стрыманым.

Але гэта не ўсё. Чалавечае сэрца здольна на яшчэ на адзін дзіўны выкрут.

Амерыканец увесь час разважае пра тую выдатную роўнасць, якая пануе ў Злучаных Штатах; ён голасна ганарыцца сваёй краінай, здолеўшай дамагчыся гэтага; таемна, аднак, ён смуткуе з нагоды дадзенай акалічнасьці і імкнецца паказаць, што асабіста ён паказвае сабой выключэнне із гэтай агульнай, нахвальемай ім рэчаіснасьці.

Наўрад ці сустрэнецца амерыканец, які б не жадаў мець хаця б аддаленага сваяцтва з першымі перасяленцамі, заснавальнікамі асад, а што да адгалінаванняў шляхетных ангельскіх родаў, то Амерыка, як мне здалося, толькі імі і заселена.

Калі заможны амерыканец прыплывае ў Яўропу, то ён перадусім імкнецца атачыць сябе ўсімі прыкметамі раскошы; ён так моцна асьцерагаецца быць палічаным за шараговага грамадзяніна дэмакратычнай краіны, што вынаходзіць сотні спосабаў нагадаць вам пра сваё багацце, даючы ўсе новыя і новыя доказы гэтага. Звычайна, ён пасяляецца ў самым фешэнэбельным раёне горада і атачае сябе няспынна ходзячым натоўпам прыслугі.

Я чуў, як адзін амерыканец наракаў з нагоды таго, што нават у лепшых салонах Парыжа сустракаецца перамешанае грамадства. Пануючы ў іх густ не здаўся яму дастаткова вытанчаным і ён даў зразумець, што, на яго погляд, у іх нехапала строгасьці і вытанчанасьці манер. Ён не прызвычаіўся да таго, каб такая выдасканаленая інтэлектуальнасць была ўвасоблена ў такую вульгарную форму паводзін.

Падобныя парадоксы не павінны здзіўляць.

Калі б сляды старажытных арыстакратычных адрозненняў не былі цалкам знішчаны ў Злучаных Штатах, амерыканцы не былі б такімі простымі і памяркоўнымі ў сваёй уласнай краіне і былі б менш патрабавальнымі і напышлівымі ў нашай.

# Глава IV

## Высновы, вынікаючыя із трох папярэдніх глаў

Калі людзі адчуваюць натуральную спагаду да пакут адзін аднаго, калі яны часта і лёгка маюць стасункі паміж сабой, сустракаючыся штодня і не пакутуючы крыўдлівасьцю, лёгка зразумець, што ў выпадку патрэбы яны ахвотна выказваюць адзін аднаму дапамогу. Калі амерыканец звяртаецца за дапамогай да атачаючых, вельмі рэдка бывае, каб яны яму ў ёй адмовілі і я часта назіраў, як яны самаахвотна выказвалі гарачую падтрымку блізкаму. Ці адбываецца на дарозе нейкае неспадзяванае здарэнне, яны адразу ж адусюль збягаюцца да пацярпеўшага; ці раптоўна нейкую сям’ю спасьцігае гора, тысячы незнаёмых людзей самаахвотна адчыняюць свае капшукі; сціплыя, але вельмі шматлікія ахвяраванні палягчаюць патрэбу гэтага сямейства.

У самых цывілізаваных народаў планеты часта бывае так, што патрапіўшы ў бяду чалавек выяўляецца сярод натоўпу такім жа самотным, як дзікун у сваім лесе; падобнага амаль ніколі не пабачыш у Злучаных Штатах. Заўсёды халодныя ў стасунках і часта грубыя амерыканцы амаль не бываюць нячулымі і нават калі яны не спяшаюцца прапанаваць свае паслугі, то ў іх ніколі не адмаўляюць.

Усё гэта не супярэчыць таму, што я вышэй пісаў пра індывідуалізм. Фактычна гэтыя з’явы не толькі не выключаюць адна адну, але і непарыўна злучаны паміж сабой.

Роўнасць умоваў існавання поруч з тым, што яна дае людзям адчуванне незалежнасьці, выяўляе іхную немач; яны вольныя, але падпадаюць пад тысячы выпадковасьцей і жыццёвы досьвед вельмі хутка падказвае ім, што, нават калі яны звычайна не маюць патрэбы ў дапамозе іншых людзей, амаль заўсёды можа наступіць такі момант, калі без гэтай дапамогі яны не здолеюць абыйсьціся.

У Яўропе мы кожны дзень бачым, што людзі адной прафесіі, наколькі б чэрствымі і эгаістычнымі яны ні былі, ахвотна дапамагаюць адзін аднаму; у іх адны і тыя ж беды, і гэтага дастаткова, каб яны разам шукалі сродкі змагання з імі. Таму, калі аднаму із іх пагражае небяспека і іншыя з дапамогай нязначнай часовай ахвяры ці ж рэзкага намагання маюць магчымасць пазбавіць яго ад яе, яны паспрабуюць гэта зрабіць. І справа не ў тым, што яны глыбока зацікаўлены ў яго долі; у выпадку калі іхныя намаганні выяўляюцца не маючымі карысьці, яны адразу ж забываюцца пра яго, вяртаючыся да сваіх уласных справаў. Аднак у іх асяроддзі існуе свайго роду маўклівая і амаль міжвольная дамоўленасць, паводле якой кожны абавязаны выказаць іншым часовае спрыянне, каб самому мець магчымасць звярнуцца да іх за дапамогай.

Пашырце сказанае мной пра адзін стан на ўвесь народ у цэлым і вы зразумееце маю думку.

Усе грамадзяне дэмакратычнай дзяржавы фактычна злучаны паміж сабой маўклівым пагадненнем, аналагічным таму, пра якое я сказаў. Усе яны адчуваюць сваю слабасць і схільнасць да адных і тых жа небяспек і іхныя зацікаўленасьці, роўна як і сімпатыі, вымушаюць іх падначальвацца закону, згодна з якім яны абавязаны ў выпадку патрэбы прыходзіць адзін аднаму на дапамогу.

Чым больш падобнымі робяцца ўмовы існавання, тым больш відавочна людзі выяўляюць гэтую схільнасць прызнаваць узаемныя абавязкі.

У дэмакратыях ніхто вас не адорвае вялікімі дабрадзействамі, але затое вам увесь час выказваюцца добрыя паслугі. Чалавек тут вельмі рэдка выяўляе схільнасць да самаахвяравання, але ўсе людзі гатовы быць карыснымі.

# Глава V

## Якім чынам дэмакратыя перамяняе дачыненні паміж слугой і гаспадаром

Аднойчы амерыканец, які доўга вандраваў па Яўропе, сказаў мне: «Ангельцы ставяцца да сваіх слугак са здзіўляючай для нас пыхай і строгасьцю; французы ў сваю чаргу ў дачыненнях са сваімі служкамі часам даходзяць да фамільярнасьці ці ж выяўляюць у стасунках з імі такую ветлівасць, якую мы не здольны зразумець. Можна падумаць, што яны баяцца даваць загады. Дыстанцыя паміж гаспадаром і слугой дрэнна выконваецца».

Гэтае назіранне правільнае і я сам неаднаразова гэта заўважаў.

Я заўсёды лічыў, што на сьвеце няма такой краіны, дзе б у нашы дні прыслуга жыла ў большай строгасьці, чым у Ангельшчыне і, наадварот, больш прывольна, чым у Францыі. Нідзе становішча гаспадара не здаецца мне такім высокім ці ж такім незайздросным, як у гэтых двух краінах.

Недзе паміж гэтымі двума крайнасьцямі знаходзяцца амерыканцы.

Такімі з’яўляюцца вонкавыя, відавочныя факты. Для таго каб выявіць іх падставы, трэба вярнуцца ў далёкае мінулае.

Яшчэ ніхто не бачыў такога грамадства, дзе ўмовы існавання людзей сталі б такімі б роўнымі, што ў ім не сустракалася б ні багатых, ні бедных і, такім чынам, дзе не было б ні гаспадароў, ні служак.

Дэмакратыя не знішчае падмуркі існавання гэтых двух станаў, але яна перамяняе іхную свядомасць, а таксама дачыненні паміж імі.

У арыстакратычных народаў слугі ўтвараюць самастойны стан, які не больш схільны да пераўтварэнняў, чым стан гаспадароў. У гэтых станах амаль адразу ж усталёўваецца непарушны парадак; як першы, так і другі хутка спараджаюць усярэдзіне сябе іерархію са сваімі шматлікімі адметнымі прыкметамі і выразна вызначанымі рангамі; перамяняюцца пакаленні, але гэтае становішча застаецца непарушным. У адным грамадстве, такім чынам, існуюць два грамадствы, размешчаныя адзін над другім, якія заўсёды захоўваюць паміж сабой выразныя адрозненні, але падначальваюцца аналагічным прынцыпам.

Падобнае арыстакратычнае ўладкаванне робіць на розумы і норавы служак не меншы ўплыў, чым на светапогляд і этыку гаспадароў; і, хаця гэты ўплыў прыводзіць да розных вынікаў, у іх лёгка ўсталяваць дзеянне адной і той жа нагоды.

Як першыя так і другія ўтвараюць сабой дзьве маленькія нацыі пасярэдзіне адной нацыі і гэта заканчваецца тым, што ў іхным асяроддзі складаюцца дзьве розныя сістэмы ўяўленняў пра справядлівасць і несправядлівасць. Шмат якія праявы чалавечага жыцця разглядаюцца з розных, але неперамяняемых пазіцый. У грамадстве слуг, як і сярод гаспадароў, людзі робяць велізны ўплыў адзін на аднаго. Яны прызнаюць усталяваныя правілы і пры недастатковай распрацаванасьці законаў арыентуюцца на грамадзкую думку; ролю паліцыі ў іх выконваюць традыцыйныя навыкі і звычаі.

Гэтыя людзі, воляй лёсу выраканыя падпарадкоўвацца, без сумневаў, цалкам інакш, чым іхныя гаспадары, ставяцца да такіх рэчаў, як слава, учыннасць, сумленнасць, гонар. Аднак яны ствараюць уласныя ўяўленні пра славу, учыннасьці і сумленнасць, належачыя служкам і выпрацоўваюць, калі так можна выказацца, свайго роду кодэкс гонару служкі[330]

Не патрэбна лічыць, што ва ўсіх прадстаўнікоў ніжэйшага стану нізінны склад думак. Гэта было б грубай памылкай. Наколькі б ні быў нізкім стан, той, хто ў ім на першых ролях і хто не падумвае выйсьці із яго, займае арыстакратычную пазіцыю, прадугледжваючую існаванне ў яго узнёслых пачуццяў, шляхетнага гонару і самапавагі, якія робяць яго здольным здзяйсняць гераічныя, выдатныя ўчынкі.

У арыстакратычных народаў сярод слуг вяльможаў можна было сустрэць людзей, валодаючых шляхетнымі душамі і гарачымі сэрцамі, нёсшымі сваю службу, не адчуваючы ярма служкі і падначальваўшыхся волі сваіх гаспадароў, не баючыся іхнага гневу.

---

[330] Калі вы ўважліва і падрабязна вывучыце тыя асноўныя погляды, якімі кіруюцца гэтыя людзі, аналогія здасца яшчэ больш дзіўнай і вы са здзіўленнем выявіце ў іхным асяроддзі, гэтак жа як у вышэйшым грамадстве феадальнай іерархіі, гонар за сваё паходжанне, павагу да продкаў і спадкаемцаў, пагарду да ніжэйшых, баязлівае стаўленне да незнаёмых людзей, схільнасць да этыкету, густ да традыцый і даўніны.

На ніжніх прыступках іерархіі хатняй чэлядзі амаль ніколі не было такіх людзей. Можна выказаць здагадку, што тыя, хто займаў гэтыя ніжнія прыступкі, сапраўды валодалі нізіннымі душамі. Французы прыдумалі адмысловае слова для пазначэння гэтага апошняга віда слуг арыстакратыі. Яны назвалі яе «лакеямі».

Слова «лакей» з'яўлялася вельмі негатыўным тэрмінам, калі ўсе астатнія разуменні здаваліся недастатковымі для пазначэння чалавечай ганебнасьці; у сярэднявечным французскім каралеўстве, калі мелі жаданне коратка намаляваць пагарджаемую, апусьціўшуюся істоту, казалі, што ў яго лакейская душа. Аднаго гэтага цалкам хапала. Сэнс быў цалкам зразумелы.

Пастаянная няроўнасць умоваў не толькі надзяляе слуг вызначанымі ўчыннасьцямі і вызначанымі, толькі ім уласьцівымі, заганамі, але і ставіць іх у адметную пазіцыю – тварам да твару са сваімі гаспадарамі.

У арыстакратычных народаў бядняк з дзяцінства прызвычваецца да думкі пра тое, што ім будуць кіраваць. Куды б ён ні кінуў погляд, паўсюль ён адразу ж бачыць аблічча іерархіі і прыкметы падначалення.

У тых краінах, дзе пануе ўстойлівая няроўнасць умоваў, гаспадар з лёгкасьцю дамагаецца ад сваіх служак імгненнай, поўнай і паважаючай пакоры, таму што ў яго асобе ўшаноўваюць не толькі свайго гаспадара, але і ўвесь стан гаспадароў. Ён душыць волю падначаленых, увасабляючы сабой усю моц арыстакратыі.

Ён кіруе іхнымі ўчынкамі, у вызначанай ступені ён кіруе і іхнымі думкамі. Пры арыстакратыі гаспадар часта і нават цалкам несвядома валодае вялізнай уладай над меркаваннямі, звычкамі і норавамі тых, хто яму служыць і яго ўплыў выяўляецца куды больш магутным і глыбокім, чым гэта прадугледжана аўтарытэтам яго ўлады.

У арыстакратычных грамадствах не толькі існуюць спадчынныя кланы служак, падобныя шляхетным сямействам гаспадароў, але і ўсталёўваецца такое ўпарадкаванне, пры якім адна і тая ж сям'я служак на працягу некалькіх пакаленняў жыве побач з адным і тым жа сямействам гаспадароў (яны падобныя двум неперасякаючымся і не разбягаючымся ў розныя бакі паралельным прамым). Дадзеная акалічнасць робіць каласальны ўплыў на характар дачыненняў паміж гэтымі двума згуртаваннямі людзей.

Такім чынам, нягледзячы на тое што пры арыстакратыі паміж гаспадаром і служкай няма ніякага натуральнага падабенства, нягледзячы на тое што адпаведна з багаццем, адукацыяй, паглядамі і норавамі яны, наадварот, стаяць на зусім розных, аддаленых адна ад адной прыступках чалавечых усходаў, час, між іншым, злучае іх разам. Яны злучаны доўгім ланцугом агульных успамінаў і, наколькі б ні былі яны рознымі, яны пачынаюць прыпадабняцца адзін аднаму, тады як у дэмакратыях, дзе яны амаль роўныя, яны заўсёды адзін для аднаго застаюцца чужымі.

У арыстакратычных народаў гаспадары схільны ставіцца да сваіх служак як да найменш значных, самых нізкіх атрыбутаў сваёй уласнай асобы і таму часта, падахвочваемыя крайнім эгаізмам, выяўляюць цікавасць да іхнага лёсу.

Служкі са свайго боку з’яўляюцца вельмі блізкімі да думкі пра магчымасць разглядаць сябе з такога ж боку гледжання. Часам яны да такой ступені атаясамляюць сябе з асобай гаспадара, што, нарэшце,ператвараюцца ў яго прыналежнасць не толькі ў яго, гаспадара, але і ў сваіх уласных вачах.

У арыстакратыях слуга займае падначаленае становішча, перамяніць якое ён не ў стане; каля яго знаходзіцца іншы чалавек, займаючы больш высокае становішча, якое ён не можа страціць. З аднаго боку, невядомасць, бедната і вечная пакора, з другога – слава, багацце, вечнае права загадваць. Гэтыя два станы вельмі розныя і вельмі блізкія, разарваць іх можа толькі магіла.

У выпадку крайняй адданасьці служка канчаткова губляе цікавасць да самаго сябе; ён робіцца абыякавым да сваёй асобы; у некаторай ступені ён здраджвае сабе ці, хутчэй, пераносіць усе свае зацікаўленасьці цалкам на свайго гаспадара, якому і надае выяву ўласнай уяўляемай асобы. Ён з задавальненнем выхваляецца багаццем таго, хто яму дае загады, ён купаецца ў праменях яго славы, захапляецца яго шляхетнасьцю, няспынна цешыць сябе запазычанай веліччу, якой ён часта надае большую значнасць, чым той, хто валодае ёю ў рэчаіснасьці.

У гэтым дзіўным перамяшанні двух планаў існавання ёсць нешта адначасна чуллівае і смешнае.

Панскія жарсьці, завалодаўшыя душамі служак, набываюць формы і маштабы адпавядаючыя занімаемаму імі месцу; яны робяцца больш вузкімі і нізкімі. Тое, што было гонарам у адных, набывае выгляд дзіцячай ганарыстасьці і вартай жалю напышлівасьці ў іншых. Служкі вяльможы, звычайна, надзвычай педантычныя ў дачыненні да прызначаных яму знакаў ушанавання і больш яго самога пякуцца пра самыя нікчэмныя із яго прывілеяў.

Сярод нас яшчэ можна часам сустрэць каго-небудзь із гэтых старых служак арыстакратыі; яны пражылі свой час і хутка знікнуць разам з самой арыстакратыяй.

У Злучаных Штатах я не бачыў ніводнага чалавека, падобнага на іх. Амерыканцам цалкам незнаёмы падобны тып людзей і яны з вялікімі намаганнямі вераць у магчымасць іхнага існавання. Амерыканцам уявіць іхнае аблічча не прасьцей, чым нам уявіць тып старажытнарымскага раба ці сярэднявечнага прыгоннага. Усе гэтыя тыпы людзей, хаця і ў рознай ступені, з'яўляюцца вынікамі дзейнасьці адной і той жа нагоды. Яны аддаляюцца ад нас і разам са спарадзіўшым іх дзяржаўным уладкаваннем паступова знікаюць у змроку мінулага.

Роўнасць робіць са служкі і із гаспадара цалкам новых людзей і ўсталёўвае паміж імі новы тып дачыненняў.

Калі ўмовы існавання амаль роўныя, становішча людзей няспынна перамяняецца. Станы служак і гаспадароў яшчэ захоўваюцца, але яны ўжо не складаюцца ўвесь час із адных і тых жа індывідаў і асабліва із адных і тых жа сямействаў. Людзі ўжо не карыстаюцца пажыццёвым правам загадваць, як і не выпрабоўваюць вечнай патрэбы знаходзіцца ў падначаленні.

Дзякуючы таму што служкі не ўтвараюць асобнай праслойкі, яны не маюць сваіх адметных звычак, забабонаў ці маралі; у іхным асяроддзі вы не выявіце ніякага спецыфічнага складу думак і пачуццяў; ім не знаёмы адмысловыя прафесійныя заганы ці ўчыннасьці і ў іх тая ж адукацыя, тыя ж думкі, пачуцці, учыннасьці і заганы, што і ў іхных сучаснікаў. Сярод іх, як і сярод гаспадароў, сустракаюцца і сумленныя людзі, і шэльмы.

Сярод служак усталёўваецца такая ж роўнасць, што і сярод гаспадароў.

Дзякуючы таму што ў стане служак вы не знойдзеце выразнага рангавання ці строгай іерархіі, ад іх не варта чакаць ні крайняй ганебнасьці, ні той шляхетнасьці душы, якія былі ўласцівы служкам арыстакратыі у той жа меры, як і ўсім іншым арыстакратам.

У Злучаных Штатах я не сустрэў нікога, хто нагадаў бы мне выяву элітнага слугі, памяць пра якога ў Яўропе яшчэ захавалася; аднак, з іншага боку, ніхто мне там не нагадваў і лакеяў. Абодва гэтыя тыпы зніклі без следу.

У дэмакратыях слугі не толькі роўныя паміж сабой, у вызначаным сэнсе можна сказаць і пра іхную роўнасць са сваімі гаспадарамі.

Каб дадзенае цьверджанне стала цалкам зразумелым, яго патрэбна патлумачыць.

Служка ў кожны момант можа стаць гаспадаром і імкнецца ім стаць. Таму параўнальна з гаспадаром служка не з'яўляецца нейкім іншым тыпам чалавека.

Чаму ж тады першы мае права загадваць і што вымушае другога яму падпарадкоўвацца? Часовае і вольнае пагадненне, складзенае грунтуючыся на ўзаемным жаданні. Адзін із іх згодна са сваёй прыродай не ніжэй другога і падначальваецца яму толькі часова, на падставе дамовы. У межах, абумоўленых умовамі гэтага кантракта, адзін з іх – слуга, другі – гаспадар. Ва ўсіх астатніх дачыненнях яны з'яўляюцца раўнапраўнымі грамадзянамі і людзьмі.

Пераканаўча прашу майго чытача добра зразумець, што падобны пункт погляду на становішча служкі фармуецца не толькі ў галовах саміх служак. Аналагічным чынам становішча прыслугі разглядаецца таксама гаспадарамі, і дакладныя межы іхнай улады і пакорнасьці выразна акрэслены ў свядомасьці як першых, так і другіх.

Калі большасць грамадзянаў на працягу доўгага часу жывуць прыкладна ў роўных умовах і калі роўнасць у грамадстве – даўно прызнаны факт, грамадзкая думка, на якую выключэнні ніколі не ўплываюць, прызнае за чалавекам як такім некаторую каштоўнасць, за ніжняй і верхняй межамі якой кожнаму індывіду цяжка доўга знаходзіцца.

Дарэмна заможнасць і немаёмаснасць, улада і падпарадкаванне усталёўваюць іншы раз вялікую дыстанцыю паміж двума людзьмі, грамадзкая думка, грунтуючаяся на нармальным парадку рэчаў, зводзіць іх да агульнага ўзроўня, спараджаючы паміж імі вызначаную ўяўную роўнасць, нягледзячы на рэчаісную няроўнасць іхнага грамадзкага становішча.

Гэтая ўсемагутная думка ў канчатковым рахунку авалодвае душамі нават тых людзей, у чыіх зацікаўленасьцях вынікала б ваяваць супраць яе; уплываючы на свядомасць, яна адначасова падначальвае іхную волю.

У глыбіні душы ні гаспадар, ні слуга не ўгледжваюць больш значнага адрознення паміж сабой, не жадаюць дамагацца яго і не баяцца з ім сутыкнуцца. Таму ў іхных дачыненнях няма пагарды ці гневу, пакоры ці напышлівасьці.

Адзіным падмуркам сваёй улады гаспадар лічыць пагадненне, а служка бачыць у гэтым пагадненні адзіную нагоду свайго падначалення. Яны не палімізуюць паміж сабой адносна занімаемых імі становішчаў, але кожны выдатна ведае сваё месца і выконвае свае абавязкі.

У нашых войску жаўнеры набіраюцца прыкладна із тых жа станаў, што і афіцэры і маюць магчымасць атрымаць афіцэрскае званне. Па-за строем жаўнер лічыць сябе цалкам роўным са сваім камандырам і з'яўляецца такім на справе. Знаходзячыся ж пад сьцягам, ён з лёгкасьцю ім падпарадкоўваецца і яго самаахвотнае, дакладна вызначанае статутам падпарадкаванне не робіцца ад гэтага менш старанным, хуткім і вызначаным.

Гэтае параўнанне дае некаторае ўяўленне пра дачыненні паміж гаспадаром і служкай у дэмакратычным грамадстве.

Было б неразумным чакаць, што паміж гэтымі двума людзьмі можа калі-небудзь узнікнуць хаця б нейкае із тых гарачых і глыбокіх пачуццяў, якія парой саграваллі дачыненні старой арыстакратыі са сваёй чэляддзю, ці ж лічыць магчымым праяву самаадданага самаахвяравання.

Пры арыстакратыі служка бачыў свайго гаспадара здалёку і часта меў стасункі з ім толькі праз пасярэдніка. І ўсё ж яны звычайна моцна трымаліся адзін за аднаго

У дэмакратычных народаў служка знаходзіцца значна бліжэй да гаспадара; фізічна яны няспынна сутыкаюцца адзін з адным, але духоўнага збліжэння паміж імі не адбываецца; яны займаюцца аднымі і тымі ж агульнымі справамі, але амаль ніколі не маюць агульных зацікаўленасьцей.

У гэтых народаў служка ў сядзібе гаспадароў заўсёды лічыць сябе часовым жыхаром. Ён не ведаў іхных продкаў і не пабачыць іхных спадкаемцаў; нічога даўгачаснага ён ад іх не чакае. Чаму ён павінен жыць іхным жыццём і адкуль у яго возьмецца такое рэдкае самазабыццё? Іхнае становішча адносна адзін аднаго перамянілася, іхныя дачыненні таксама павінны перамяніцца.

Мне было б пажадана падмацаваць праўдзівасць усяго павядомленага вышэй прыкладам амерыканцаў, але я не змагу гэтага зрабіць, не ўдакладняючы педантычна асоб людзей, пра якіх пойдзе гаворка і месца іхнага жыхарства.

На Поўдні Злучаных Штатаў існуе рабства. Таму ўсё тое, пра што я паведамляў, да Поўдня не мае дачынення.

На Поўначы служкі большай часткай з'яўляюцца вызваленымі рабамі ці дзецьмі вольнаадпушчанікаў. Гэтыя людзі ў вачах публікі займаюць сумнеўнае становішча: закон ураўноўвае іх у правах са сваімі гаспадарамі, але грамадзкія норавы іх упарта адкідаюць. Яны самі не ведаюць дакладна свайго месца і амаль заўсёды трымаюцца або ганарыста, або рабалепна.

Аднак у тых жа самых паўночных штатах і асабліва ў Новай Ангельшчыне, сустракаецца даволі значная колькасць немаёмасных людзей, згодных за пенсіён на некаторы час падначаліцца волі сабе падобных. Я чуў, што гэтыя служкі звычайна выконваюць свае абавязкі дакладна і разумна і што, натуральна не лічачы сябе ніжэй за тых, хто імі кіруе, яны лёгка і ахвотна ім падначальваюцца.

Мне ўяўляецца, што падобныя служкі прыносяць з сабой у гэтую прафесію вызначаную мужнасць і шляхетнасць, народжаныя незалежнасьцю і роўнасьцю. Выбраўшы для сябе цяжкую службу, яны не імкнуцца рознымі спосабамі ўхіляцца ад яе і маюць дастаткова самапавагі, каб не адмаўляць сваім гаспадарам у той пакорнасьці, якую яны самі згодна са сваёй воляй ім абяцалі.

Гаспадары са свайго боку нічога не чакаюць ад сваіх служак, акрамя дакладнага і строгага выканання дамовы; яны не патрабуюць ад іх праяваў павагі; яны не чакаюць ад іх ні шанавання, ні ахвярнасьці; ім дастаткова таго, каб служкі былі пунктуальнымі і сумленнымі.

Я не магу таму сказаць, што пры дэмакратыі дачыненні паміж служкай і гаспадаром носяць невызначаны характар; яны спарадкаваны, але іншым чынам; правілы іншыя, але правілы ўсё ж існуюць.

Я зусім не збіраюся тут дасьледаваць, ці з'яўляецца гэтая новая, апісаная мной рэчаіснасць пагоршаным варыянтам папярэднічаўшых яму дачыненняў ці ж яна ўяўляе сабой зусім іншы іхны тып. З мяне дастаткова таго, што яна падначальваецца правілам і з’яўляецца ўстойлівай, таму што не так важна, якому

менавіта ўпарадкаванню падначальваюцца людзі, куды больш важнай з’яўляецца сама наяўнасць гэтага ўпарадкавання.

Але што я скажу пра тыя сумныя і бурныя эпохі, пад час якіх роўнасць зацьвярджае сябе сярод шуму і хваляванняў, а дэмакратыя, ужо будучы ўсталяванай заканадаўча, усё яшчэ вядзе цяжкія змаганні з забабонамі і норавамі?

Закон, а часткова і грамадзкая думка ўжо заяўляюць голасна, што не існуе прыроднага, пастаяннага адрознення служкі ад гаспадара. Гэта новая вера, аднак, яшчэ не пранікла ў самую глыбіню свядомасьці гаспадара, ці ж, больш дакладна, супраць яе паўстае яго сэрца. У сховішчах сваёй душы гаспадар усё яшчэ лічыць, што ён сам належыць да асобнай, вышэйшай пароды людзей; і ўсё ж ён не адважваецца гэтага сцвярджаць і з дрыгаценнем дазваляе зводзіць сябе да агульнага ўзроўню. Яго загады разам робяцца няўпэўненымі і рэзкімі; ён ужо не адчувае больш да сваіх служак тых заступніцкіх, зычлівых пачуццяў, якія спараджаюцца толькі доўгай непадзельнай уладай і, перамяніўшыся сам, ён здзіўляецца таму, што яго служкі таксама перамяніліся; ён жадае, каб людзі, якія так бы мовіць часова знаходзяцца ў паслужэнні, засвойвалі б адпаведную правілам пастаянную манеру дачыненняў, каб яны здаваліся задаволенымі і ганарыліся б сваім прымусовым становішчам, із якога яны рана ці позна павінны вызваліцца, каб яны ахвяравалі сабой у імя чалавека, не здольнага іх больш ні абараніць, ні загубіць і каб яны, нарэшце, былі б навечна прывязаны да істоты, якая амаль нічым не адрозніваецца ад іх саміх і існаванне якох такое ж недаўгавечнае.

У арыстакратычных народаў часта бывае так, што становішча хатняга служкі не спараджае ў душы падначаленага чалавека нізінных пачуццяў, таму што ён не цалкам усведамляе гэтае становішча і не ўяўляе сабе ніякага іншага, тады як тая каласальная няроўнасць, якая існуе паміж ім і гаспадаром, здаецца яму патрэбным і няўхільным вынікам нейкай таемнай заканамернасці Усявышняга.

Пры дэмакратыі ў становішчы хатняга служкі няма нічога зневажаючага, таму што яно абіраецца людзьмі грунтуючыся на сваім жаданні, прымаецца часова і ў вачах грамадзкасці не з'яўляецца ганебным, не ствараючы ніякай сталай няроўнасьці паміж служкай і гаспадаром.

Аднак падчас пераходу ад адной формы грамадзкага ўладкавання да другой амаль заўсёды настае момант, калі погляды людзей вагаюцца паміж арыстакратычнай катэгорыяй залежнасьці і дэмакратычным разуменнем гатаўнасьці падначальвацца.

У гэты час пакора губляе сваю маральную падставу ў вачах таго, хто падпарадкоўваецца; ён больш не лічыць яе сваім абавязкам, нейкім чынам нададзеным звыш, хоць яшчэ і не разглядае яе з чыста чалавечага боку гледжання; у яго вачах яна не валодае ні святасьцю, ні справядлівасьцю і ён падначальваецца ёй як зневажаючай, хаця і карыснай яму рэчаіснасьці.

У гэты момант у галовах служак з'яўляецца цьмяная і няпэўная выява роўнасьці; яны адпачатку не могуць распазнаць, дзе менавіта знаходзіцца тая самая роўнасць, на якую яны маюць правы, – ці ў самім іхным падначаленым становішчы ці ж за сьценамі гаспадарчай сядзібы і ў глыбіні сваіх сэрцаў яны паўстаюць супраць той залежнасьці, якую самі прызналі і выгодамі якой карыстаюцца. Яны пагадзіліся служыць, але ім сорамна падначальвацца; ім падабаюцца перавагі сваёй службы, але свайго гаспадара яны не паважаюць, ці, кажучы больш дакладна, яны амаль упэўнены ў тым, што самі павінны быць гаспадарамі і таму чалавека, які

аддае ім загады, схільны лічыць несправядлівым узурпатарам іхных уласных правоў.

Менавіта таму ў сядзібе кожнага грамадзяніна можна назіраць нешта падобнае таму сумнаму гледзішчу, якое разыгрываецца на палітычных падмостках, дзе няспынна вядзецца таемная міжусобная вайна паміж двума вечна не давяраючымі адзін аднаму, варожымі магутнасьцямі: гаспадар незычлівы, але мяккі, служка незычлівы і непакорны; у першага ўвесь час узнікае жаданне з дапамогай ганебных абмовак пазбавіцца ад абавязку заахвочваць і ўзнагароджваць, другому – пазбягаць абавязку падпарадкоўвацца. Павады хатняй улады боўтаюцца паміж імі і кожны спрабуе ўхапіцца за іх. Межы паміж уладай і тыраніяй, вольнасьцю і распушчанасьцю, правам і магутнасьцю здаюцца ім перамяшаўшыміся і размытымі і ніхто не ведае, хто ён такі, якімі з’яўляюцца яго магчымасьці, правы і абавязкі.

Падобная сітуацыя спараджаецца не дэмакратыяй, а рэвалюцыяй.

# Глава VI

## Якім чынам дэмакратычныя інстытуты і норавы павялічваюць кошт і скарачаюць тэрміны зямельнай рэнты

Тое, што было сказана мной пра слуг і гаспадароў, у вызначанай ступені дастасоўваецца да дачыненняў паміж землеўладальнікамі і арандатарамі. Гэтая тэма, аднак, заслугоўвае самастойнага разглядання.

У Амерыцы няма фермераў-арандатараў як такіх; кожны чалавек там з’яўляецца ўладальнікам той зямлі, якую ён апрацоўвае.

Патрэбна прызнаць, што законам дэмакратычнага развіцця ўласьціва моцная тэндэнцыя павялічваць колькасць землеўладальнікаў і памяншаць колькасць арандатараў. І ўсё ж працэсы, адбываючыяся ў Злучаных Штатах, патрэбна тлумачыць не столькі інстытутамі гэтай краіны, колькі ўнутраным становішчам у краіне. Кошты на зямлю ў Амерыцы невысокія і кожны лёгка можа стаць землеўладальнікам. Ураджайнасць нізкая, і дзякуючы гэтаму выбраленую сельскагаспадарчую прадукцыю толькі з вялікімі намаганнямі можна падзяліць паміж землеўладальнікам і арандатарам.

У гэтым, як і ў іншых дачыненнях, такім чынам, Амерыка ўнікальная і было б памылкай разглядаць яе ў якасьці прыкладу.

Я думаю, што ў дэмакратычных краінах, як і ў арыстакратычных, будуць існаваць як землеўладальнікі, так і арандатары, аднак іхныя дачыненні будуць насіць цалкам розны характар.

У арыстакратыях арэнда выплачваецца не толькі грашамі, але таксама павагай, прыхільнасьцю і паслугамі. У дэмакратычных краінах арэндная плата абмяжоўваецца толькі грашамі. Калі радавыя маёнткі падрабняюцца і пераходзяць із рук у рукі, калі знікае пастаянная прыхільнасць сям’і да зямлі, толькі выпадковасць зводзіць землеўладальніка і арандатара. Яны сустракаюцца на час, каб абмеркаваць умовы дамовы, а потым адзін з адным не бачацца. Гэта два чужыя адзін аднаму чалавекі, якіх вымушае сустракацца толькі агульная зацікаўленасць; сустрэўшыся, яны вядуць паміж сабой дзелавую размову, адзінай тэмай якой з’яўляюцца грошы.

Па меры таго як маёмасць падзяляецца і багацці разсяроджваюцца па ўсёй краіне, дзяржава напаўняецца адгалінаваннямі старажытных радоў, чые абмежаваныя багацці падупадаюць і нуварышамі, чые патрэбы растуць хутчэй іхных фінансавых магчымасьцей. Для такіх людзей важным з’яўляецца самы нязначны прыбытак і ніхто з іх не мае намеру выпускаць із рук якую б то ні было магчымасць зарабіць ці ж згубіць некаторую частку свайго прыбытку.

Пры перамешванні станаў вельмі вялікія багацці, роўна як і крайняя галеча, сустракаюцца ўсё радзей і радзей і з кожным днём сацыяльнае адрозненне паміж землеўладальнікамі і арандатарамі памяншаецца; першы ўжо не валодае ніякай натуральнай, неаспрэчнай перавагай над другім. А што, акрамя грошай, можа быць прадметам дамовы паміж двума роўнымі, абмежаванымі ў сродках людзьмі?

Чалавек, валодаючы ўсёй акругай з сотняй хутароў, разумее, што ён павінен адразу заваяваць сэрцы шмат каго із тысяч людзей; аўчынка здаецца яму годнай выдаткам на выраб. Каб дасягнуць вельмі важнай мэты, ён з лёгкасьцю ідзе на некаторыя ахвяры.

Той, хто валодае сотняй арпанаў зямлі, не заклапочваецца над падобнымі пытаннямі; для яго ўсё адно, будзе ці не яго арандатар ставіцца да яго зычліва.

Арыстакратыя, у адрозненні ад жывой істоты, не можа памерці адразу, у адзін дзень. Прынцыпы ўтвараючыя яе падмурак павольна разбураюцца ў глыбіні свядомасьці людзей, перш чым пачынаюць зведваць нападкі з боку законаў. Такім чынам, задаўга да таго, як пачынаецца вайна супраць арыстакратыі, можна назіраць паступовае распадзенне сувязей, злучаўшых аж да гэтага часу вышэйшыя станы грамадства з ніжэйшымі. З аднаго боку, выяўляюцца абыякавасць і пагарда, з другога – зайздрасць і абурэнне; дачыненні паміж заможнымі і немаёмаснымі робяцца ўсё больш рэдкімі і сухімі; кошт рэнты па зямлю павялічваецца. Гэта яшчэ не вынік дэмакратычнай рэвалюцыі, але гэта – дакладная прыкмета яе набліжэння. Таму што арыстакратыя, канчаткова выпусьціўшая ўладу над чалавечымі сэрцамі, падобна на дрэва з мёртвымі каранямі, якое тым лягчэй выварочваецца ветрам, чым яно вышэй.

За апошнія пяцьдзясят гадоў кошты на зямельную рэнту каласальна павялічыліся не толькі ў Францыі, але і ў большасьці краін Яўропы. Надзвычай хуткае развіццё сельскай гаспадаркі і прамысловасьці за гэты ж перыяд, на мой погляд, не служыць дастатковым тлумачэннем дадзенага феномену. Патрэбна выявіць нейкую іншую, больш важкую і глыбокую нагоду. Я думаю, што яе патрэбна шукаць у асаблівасьцях дэмакратычных інстытутаў існуючых у некаторых еўрапейскіх народаў, а таксама ў спецыфіцы дэмакратычных настрояў, ўплываючых у большай ці меншай ступені на ўсе астатнія чалавечыя пачуцці.

Я часта чуў, як буйныя ангельскія лендлорды выяўляюць радасць з нагоды таго, што ў нашы дні яны атрымліваюць са сваіх уладанняў нашмат больш грошай, чым атрымлівалі іхныя бацькі.

Магчыма, у іх існуюць нагоды радавацца, але напэўна яны не цалкам усведамляюць, чаму радавацца. Яны лічыць, што атрымліваюць чысты прыбытак, тады як усяго толькі здзяйсняюць абмен. За наяўныя грошы яны саступаюць свой уплыў і тое, што яны набываюць у фінансавым дачыненні, яны хутка губляюць у сферы палітычнай улады.

Існуе яшчэ адна прыкмета, згодна з якой з лёгкасьцю можна даведацца, што вялікая дэмакратычная рэвалюцыя здзяйсняецца ці ж падрыхтоўваецца.

Пад час сярэдневечча амаль уся зямля здавалася ў арэнду ў вечнае карыстанне ці, прынамсі, на вельмі вялікі тэрміны. Вывучаючы гаспадарчае жыццё тых часоў, бачыш, што тады тэрмін арэнды роўны дзевяноста дзевяці гадам сустракаўся часьцей, чым у нашы дні сустракаецца дванаццацігадовы тэрмін.

Тады людзі верылі ў неўміручасць сям'і, умовы здаваліся назаўсёды ўсталяванымі і ўсё грамадства ўяўлялася такім нерухомым, што ніхто не мог уявіць сабе, што ў яго нетрах калі-небудзь павінна пачацца закісанне.

Пад час стагоддзяў роўнасьці людзі думаюць іншым чынам. Яны з лёгкасьцю спасьцігаюць, што нішто не вечнае. Імі авалодвае ідэя нестабільнасьці.

Пры такім настроі думак як землеўладальнік, так і сам арандатар адчуваюць свайго роду інстынктыўны жах перад доўгатэрміновымі абавязацельствамі; яны баяцца, што ўмовы дамовы, выгадныя сёння, аднойчы перастануць быць такімі. Яны смутна чакаюць нейкіх раптоўных і неспадзяваных перамен у сваім жыцці. Яны баяцца саміх сябе, баяцца, як бы пры перамене іхных уласных жаданняў ім не давялося пашкадаваць пра немагчымасць кінуць тое, што некалі складала прадмет іхных жаданняў. І ў іх існуюць падставы гэтага баяцца, Дзякуючы таму што пад час стагоддзяў дэмакратыі сярод усеагульнага руху і пераменлівасьці менш за ўсё пастаянным выяўляецца чалавечае сэрца.

# Глава VII

## Пра ўплыў дэмакратыі на памеры заробкаў

Большая частка вышэйпавядомленых назіранняў з нагоды дачыненняў паміж служкамі і гаспадарамі цалкам дастасоўваецца да стасункаў паміж прадпрымальнікамі і працоўнымі.

Калі правілы сацыяльнай іерархіі выконваюцца ўсё менш строга, калі вяльможы губляюць свае пазіцыі, а маленькія людзі ўзвышаюцца, калі немаёмаснасць, так жа як і багацце, перастае быць спадчыннай доляй, можна назіраць, як з кожным днём памяншаецца тая дыстанцыя, якая ў рэчаіснасьці і ў грамадзкай думцы аддзяляе працаўніка ад гаспадара.

У галаве працаўніка фарміруецца больш высокае ўяўленне пра свае правы, пра сваю будучыню, пра самога сябе; яго сэрца напаўняецца новым славалюбствам, новымі жаданнямі і новыя патрэбы захапляюць яго. Кожны раз ён з пажадлівасьцю кідае позірк на прыбыткі тых, хто дае яму працу; нарэшце, ён прыходзіць да думкі пра патрэбу набыць сваю долю ад прыбыткаў і патрабуе ад іх больш высокай аплаты сваёй працы, што, звычайна, у яго атрымліваецца.

У дэмакратычных краінах, як і паўсюдна, прамысловасць большай часткай не патрабуе асаблівых выдаткаў і знаходзіцца ў руках людзей, якія не ўзвышаюцца сваім багаццем і адукацыяй над сярэднім узроўнем тых, каго яны наймаюць. Гэтыя прадпрымальнікі вельмі шматлікія, іх зацікаўленасьці цалкам розныя, а таму ім нялёгка дамовіцца паміж сабой і аб'яднаць свае намаганні.

З іншага боку, амаль усе працоўныя маюць сякія-такія надзейныя крыніцы існавання, што і дазваляе ім адмовіцца ад працы, калі яны не могуць атрымаць такі заробак, які яны лічаць справядлівай узнагародай за сваю працу.

Такім чынам, у тым пастаянным змаганні за памеры пенсіёну, якое вядуць гэтыя два станы, магутнасьці прыкладна роўныя і змаганне ідзе з пераменным поспехам.

Можна, усё ж, лічыць, што ў канчатковым выніку зацікаўленасьці працоўных павінны перамагчы, таму што тыя высокія заробкі, якія яны ўжо набылі, з кожным днём робіць іх усё менш залежнымі ад гаспадароў, а чым больш яны незалежныя, тым лягчэй ім дамагацца падвышэння заробкаў.

У якасьці прыкладу я вазьму тую галіну вытворчасьці, якая ў наш час найбольш шырока прадстаўлена як у нас, так і амаль ва ўсіх народаў сьвету, – земляробства.

У Францыі большасць наёмных сельскагаспадарчых працоўных самі маюць невялікія зямельныя дзялянкі, дзякуючы якім яны, у крайнім выпадку, могуць прахарчавацца не працуючы на іншых. Таму такія людзі, прапаноўваючы свае рукі буйнаму землеўладальніку ці суседу-арандатару і атрымліваючы адмову ў некаторай суме заробку, вяртаюцца на свае маленькія надзелы і чакаюць іншага зручнага выпадку.

Разглядаючы сітуацыю ў цэлым, я думаю, можна сцвярджаць, што павольнае, але непазбежнае павышэнне заробкаў – гэта адзін із законаў, кіруючых жыццём дэмакратычнага грамадства. З развіццём сацыяльнай роўнасьці павялічваюцца заробкі, а з павелічэннем заробкаў ураўноўваюцца сацыяльныя ўмовы.

У нашы дні, аднак, існуе адно сур’ёзнае, злоснае выключэнне із гэтага правіла.

У адной із папярэдніх главаў я паказаў, якім чынам арыстакратыя, будучы прагнанай із палітычнай і дзяржаўнай сфер, знайшла сабе прыстанак у некаторых галінах індустрыйнай дзейнасьці і там, хаця і ў іншых формах, зацьвердзіла сваю ўладу. Гэтая акалічнасць аказвае моцны ўплыў на узровень заробкаў.

Дзякуючы таму што для разгортвання той буйнай прамысловай вытворчасці, пра якую я кажу, патрэбна папярэдне валодаць вельмі вялікімі багаццямі, колькасць такіх прадпрымальнікаў вельмі малая. Будучы малалікім згуртаваннем, яны лёгка могуць аб’яднацца ў звяз і ўсталяваць такія заробкі, якая ім падабаюцца.

Колькасць працоўных у іх, наадварот, вельмі вялікая і іхная колькасць увесь час павялічваецца, таму што час ад часу настаюць перыяды небывалага росквіту, калі заробкі празмеру павялічваюцца, прыцягваючы на фабрыкі насельніцтва з усёй акругі. Але людзі аднойчы ступіўшы на гэты шлях, як мы ўжо бачылі, не здолеюць з яго сысьці, таму што ў іх вельмі хутка пачынаюць фармавацца некаторыя фізічныя навыкі і асаблівы склад розуму, якія робяць іх непрыдатнымі для якой бы то ні было іншай працы. Целы гэтых людзей, звычайна, губляюць гнуткасць і спрытнасць, у іх няма ні адукацыі, ні зберажэнняў і таму яны знаходзяцца амаль у поўнай залежнасьці ад літасьці іхнага гаспадара. Калі канкурэнцыя ці іншыя нечаканыя акалічнасьці памяншаюць прыбытак прадпрымальніка, ён можа, паменшыўшы іхныя заробкі амаль адпаведна са сваім меркаваннем, без цяжкасьцей забраць з іх тое, што сам страціў дзякуючы волі выпадку.

Калі яны ўсе разам адмовяцца працаваць, то гаспадар, чалавек вельмі заможны, з лёгкасьцю можа дазволіць сабе, не баючыся банкруцтва, чакаць таго моманту, калі патрэбна вымусіць іх вярнуцца да яго; што ж да іх саміх, то яны павінны працаваць штодня, каб не памерці, таму што яны наўрад ці валодаюць нейкай іншай уласнасьцю акрамя сваіх рук. Прыгнёт на працягу доўгага часу руйнаваў іх і, чым бяднейшымі яны робяцца, тым лягчэй іх прыгнятаць. Такім з’яўляецца заганнае кола, з якога яны ніякім чынам не здолеюць вырвацца.

Таму не варта здзіўляцца, калі заробкі ў гэтых галінах, якія часам нечакана павялічваюцца, усё ж у цэлым увесь час памяншаюцца, тады як у іншых прафесіях аплата працы, звычайна, вельмі павольна, але няспынна павялічваецца.

Гэтае залежнае, жабрацкае існаванне, якое ў наш час вымушана весьці частка насельніцтва прамыслова развітых раёнаў, – факт выключны, супярэчачы ўсяму таму, што адбываецца навакол, аднак ад гэтага ён не менш небяспечны і заслугоўваючы асаблівай, пільнай увагі з боку заканадаўцаў, так як вельмі цяжка ўтрымаць у нязменным становішчы адзін стан, калі ўсё грамадства прыйшло ў рух, а калі ўсё большая колькасць людзей вынаходзяць новыя шляхі, вядучыя да дабрабыту, вельмі складана прымусіць частку людзей мірна пераносіць пазбаўленні і душыць свае жаданні.

# Глава VIII

## Уплыў дэмакратыі на сям’ю

Я дасьледаваў пытанне пра тое, якім чынам у дэмакратычных народаў і асабліва ў амерыканцаў, сацыяльная роўнасць перамяняе характар дачыненняў паміж асобамі.

Зараз мне было б пажадана пайсьці далей і разабрацца ў іхным унутраным, прыватным жыцці. Мая мэта складаецца не ў тым, каб адкрыць тут новыя праўды, але паказаць, што шырока вядомыя факты маюць непасрэднае дачыненне да тэмы маёй працы.

Усе на сьвеце заўважылі, што ў нашы дні паміж рознымі асобамі сям’і ўсталяваўся новы тып дачыненняў, што дыстанцыя, аддзяляўшая некалі бацьку і сына, паменшылася і што бацькаўская ўлада калі і не скасавана, то, прынамсі, перайначана.

Нешта падобнае, але яшчэ больш дзіўнае назіраецца ў Злучаных Штатах.

У Амерыцы сям’і ў тым выглядзе, у якім яна была ў Рыме і ў іншых арыстакратычных грамадствах, не існуе. Асобныя перажыткі сямейнага ўпарадкавання выяўляюцца там толькі на працягу першых гадоў пасьля нараджэння дзяцей. У гэты час бацька, не сустракаючы супраціву, усталёўвае хатнюю дыктатуру, абумоўленую і апраўданую бездапаможнасьцю яго сыноў, іхнымі уласнымі зацікаўленасьцямі, а таксама яго неаспрэчнай перавагай.

Але як толькі малады амерыканец пачынае дасягаць сталасьці, злучаючае яго пачуццё сыноўскай пакорнасьці слабее з кожным днём. Робячыся сам сабе гаспадаром, ён неўзабаве пачынае несьці адказнасць за свае ўчынкі. У Амерыцы фактычна няма перыяду юнацтва. Выходзячы із дзіцячага ўзросту, чалавек усведамляе сябе мужчынай і пачынае пракладаць свой уласны шлях.

Было б няправільным лічыць, што гэта з’яўляецца вынікам нейкага ўнутранага змагання, падчас якога сыны дзякуючы адмысловай маральнай магутнасьці атрымліваюць тую волю, у якой ім адмаўлялі бацькі. Адны і тыя ж традыцыі і прынцыпы, вымушаючыя адных дамагацца незалежнасьці, надаюць некаторым думку пра тое, што дзеці маюць неаспрэчнае права карыстацца сваёй воляй.

Таму ў сыноў вы не заўважыце ніякай нянавісьці і неўтаймаванасьці, так доўга не згасаючых у людзях нават пасьля таго, як яны пазбыліся ад прыгнёту пануючай улады. Бацькі не адчуваюць тых шкадаванняў, поўных гаркаты і гневу,

якія звычайна захоўваюцца ў людзей страціўшых уладу: яны задаўга бачаць тую мяжу, дзе іхная ўлада заканчаецца і, калі час падыходзіць да гэтай мяжы, яны без болі адракаюцца ад сваіх паўнамоцтваў. Сыны загадзя прадбачаць наступлене таго моманту, калі іхныя ўласныя жаданні стануць для іх законам і аваладваюць воляй без мітусні і гвалту, як належачай ім маёмасьцю, якую ніхто не спрабуе ў іх забраць[331].

Магчыма, не без карысьці будзе паглядзець, наколькі цесна злучаны перамены, маючыя месца ў сямейных дачыненнях, з той сацыяльнай і палітычнай рэвалюцыяй, якая завяршаецца на нашых вачах.

Існуюць некаторыя асноватворныя прынцыпы, якія або пранізваюць усе бакі жыцця народа, або цалкам ім не прызнаюцца.

У тых краінах, дзе асноўнымі з’яўляюцца арыстакратычныя і іерархічныя прынцыпы грамадзкага ўладкавання, улада ніколі непасрэдна не звяртаецца да ўсёй сукупнасьці сваіх падданых. Дзякуючы таму што людзі злучаны адзін з адным, дастаткова накіроўваць першых. Астатнія ідуць за імі. Гэта мае дачыненне як да сям’і, так і да ўсіх згуртаванняў маючых свайго лідара. У арыстакратычных народаў, па праўдзе кажучы, у вачах грамадства бацька ўвасабляе сабой усю сям’ю. Грамадства кіруе сынамі рукамі іхнага бацькі; яно кіруе ім, а ён кіруе імі. Таму ўлада бацькі над дзецьмі мае не толькі прыродны характар. Яму нададзена палітычнае права кіраваць. Ён стваральнік і апірышча сям’і; ён таксама прадстаўнік грамадзкай улады ў ёй.

У дэмакратычных грамадствах, дзе доўгая рука ўрада адшуквае ў натоўпе кожнага асобнага чалавека, каб персанальна падначаліць яго агульным для ўсіх законам, у падобным пасярэдніку няма патрэбы; у вачах закона бацька – толькі больш сталы і больш заможны грамадзянін, чым яго сыны.

Калі ў грамадстве вялікая колькасць даброт размяркоўваецца вельмі нераўнамерна і калі няроўнасць умоваў існавання мае пастаянны характар, ідэя перавагі аваладвае ўяўленнем людзей; нават калі закон не дае бацьку асаблівых прэрагатыў, звычай і грамадзкая думка надзяляюць яго імі. Калі ж, наадварот, людзі згодна са сваім становішчам амаль не адрозніваюцца адзін ад другога і калі існуючыя адрозненні не вечныя, агульнае разуменне перавагі робіцца не такім важным і вызначаным; дарэмна заканадавец будзе імкнуцца паставіць таго, хто падначальваецца, нашмат ніжэй таго, хто загадвае, грамадзкія норавы ўраўноўваюць гэтых двух людзей паміж сабой і ўвесь час зводзяць іх на адзін і той жа ўзровень.

---

331 Амерыканцам, аднак, яшчэ не прыйшло ў галаву, як нам у Францыі, пазбавіць бацькаў падмурку іхнай улады, адмовіўшы ім у волі распараджацца пасмяротна сваёй маёмасьцю. У Злучаных Штатах права завяшчальніка нічым не абмежавана. У гэтым, як і амаль ва ўсім астатнім, лёгка заўважыць, што, хаця ў амерыканцаў палітычнае заканадаўства нашмат больш дэмакратычнае нашага, наша грамадзянскае заканадаўства бясконца больш дэмакратычнае, чым іхнае. Гэта няцяжка зразумець. Аўтарамі нашага грамадзянскага заканадаўства былі людзі, якія бачылі свае зацікаўленасьці ў тым, каб задавальняць дэмакратычныя жарсьці сваіх сучаснікаў ва ўсіх накірунках, прама і непасрэдна не пагражаўшых іхнай уласнай уладзе. Яны ахвотна пагадзіліся, каб некаторыя папулярныя прынцыпы рэгулявалі маёмасныя і сямейныя дачыненні, абы толькі не было спроб дапасаваць іх да сферы дзяржаўнага кіравання. Калі дэмакратычны струмень уварваўся ў вобласць грамадзянскіх законаў, яны спадзяваліся без цяжкасьцей знайсьці сабе схованку за дамбай палітычных законаў. У гэтым адначасова выявіліся іхныя спрытнасць і эгаістычнасць, аднак падобны кампраміс не мог быць даўгачасовым. Дзякуючы таму што палітычнае ўладкаванне не можа не зрабіцца падобным на грамадзянскае заканадаўства, і ў гэтым сэнсе можна сказаць, што ў кожнага народа самае вялікае палітычнае значэнне мае яго грамадзянскае заканадаўства.

Таму, нават калі я не бачу асаблівых прывілей, надаваемых заканадаўствам нейкага арыстакратычнага народа кіраўніку сям'і, мяне не пакідае ўпэўненасць у тым, што яго ўлада больш значная і прызнаная сям'ёй, чым улада бацькі ва ўлонні дэмакратычнага грамадства, таму што я ведаю, што, якімі б ні былі законы, у арыстакратыях старэйшы заўсёды стаіць вышэй, а малодшы – ніжэй, чым у дэмакратычных народаў.

Калі людзі больш жывуць успамінамі пра тое, што адбывалася ў мінулым, чым турботамі пра тое, што адбываецца зараз і калі іх больш хвалююць думкі іхных продкаў, чым патрэба думаць самім, бацька выступае ў якасьці натуральнага і патрэбнага злучаючага звяна паміж мінулым і сучасным – звяна, з дапамогай якога гэтыя два ланцугі злучаюцца. У арыстакратыях, такім чынам, бацька не толькі палітычны кіраўнік сямейства, ён таксама носьбіт традыцый, тлумачальнік звычаяў, крытэр маральнасьці. Яго выслухоўваюць з павагай, загаворваюць з ім няйнакш як вельмі паважліва і павага, якую адчуваюць да яго, заўсёды перамяшана з баязню.

Калі грамадства робіцца дэмакратычным і людзі бяруць у якасьці агульнага прынцыпу права кожнага мець пра ўсё на сьвеце сваё ўласнае меркаванне і бяруць да ўвагі даўнія думкі, але не ў якасьці правіла – уплыў поглядаў бацькі на сыноў робіцца менш значным, роўна як і яго законная ўлада.

Выкліканы дэмакратыяй падзел спадчынных маёнткаў, магчыма, больш чым усе астатнія фактары абумоўлівае перамену стасункаў паміж бацькам і дзецьмі.

Калі бацька сямейства мае некаторую ўласнасць, яго сыны і ён увесь час жывуць разам і разам робяць адну і тую ж працу. Звычка і патрэба зьбліжаюць іх, вымушаючы ўвесь час мець стасункі адзін з адным; паміж імі, такім чынам, не можа не ўсталявацца адмысловай блізкасьці, якая робіць уладу бацькі менш абсалютнай і якая дрэнна дапасуецца да вонкавых формаў пачцівасьці.

Хаця ў асяроддзі дэмакратычных народаў людзі, валодаючыя сьціплым багаццем, якраз і з'яўляюцца прадстаўнікамі таго самага стана, які надае магутнасць ідэям і пераіначвае правы ўсяго грамадства. Яго погляды і адначасова яго воля паўсюдна робяцца пануючымі і нават людзі, больш усяго схільныя супраціўляцца ёй, заканчаюць тым, што пераймаюць яго прыклад. Я сустракаў лютых ворагаў дэмакратыі, якія дазвалялі сваім дзецям зьвяртацца да іх на «ты».

Такім чынам, адначасова са стратай арыстакратыяй яе пануючага становішча назіраецца вызваленне бацькаўскай улады ад усяго таго, што было злучана са строгасьцю, умоўнасьцямі і легалізмам і вакол хатняга агменю ўсталёўваецца свайго роду роўнасць усіх сямейнікаў.

Я не ведаю, калі браць у цэлым, ці не зведвае грамадства страт з нагоды гэтага пераўтварэння, але я схільны верыць, што індывід выйгравае. Я лічу, што па меры таго, як норавы і законы робяцца больш дэмакратычнымі, стасункі паміж бацькам і сынам становяцца больш блізкімі і цёплымі; у гэтых стасунках радзей сустракаецца павучальны і загадваючы тон, а давер і цяплыня пачуццяў павялічваюцца і здаецца, што прыродная сувязь робіцца больш шчыльнай, тады як сацыяльная сувязь паслабляецца.

У дэмакратычнай сям'і бацька наўрад ці карыстаецца нейкай іншай уладай, акрамя той, якая надаецца яго пяшчотай і спрактыкаванасьцю чалавека ў гадах. Яго загады могуць не прызнавацца, але да яго парад звычайна ўважліва прыслухоўваюцца. І хаця ён не бачыць вакол сябе афіцыйных знакаў павагі, яго сыны, сама меней, ставяцца да яго з даверам. Яны не прытрымліваюцца

агульнапрызнаных формул стасункаў, але яны ўвесь час з ім размаўляюць і ахвотна раяцца кожны дзень. Зніклі гаспадар і прадстаўнік улады ў яго асобы, але бацька застаўся.

Для таго каб скласьці праўдзівае ўяўленне пра адрозненні паміж двума формамі грамадзкага ўладкавання з дадзенага боку гледжання, дастаткова бегла прагледзець дайшоўшае да нас сямейнае ліставанне арыстакратычнага перыяду. Яго склад заўсёды правільны, чапурысты, суровы і такі халодны, што скрозь словы з цяжкасьцю праглядаецца натуральнае пачуццё шчырай прыхільнасьці.

Наадварот, у дэмакратычных народаў ва ўсіх тых словах, з якімі сын звяртаецца да бацькі, чуецца нешта такое вольнае, крэўнае і далікатнае, што адразу выяўляе ўсталяванне ва ўлонні сям’і цалкам новых дачыненняў.

Аналагічныя пераўтварэнні перажываюць і стасункі паміж дзецьмі.

У арыстакратычнай сям’і, як і ва ўсім арыстакратычным грамадстве, усе пазіцыі дакладна вызначаны. Не толькі бацька займае сваё асаблівае становішча і карыстаецца вялізнымі прывілеямі, але і самі дзеці не з’яўляюцца роўнымі паміж сабой: узрост і стаць раз і назаўсёды вызначаюць кожнаму яго становішча, якое забяспечвае яму адмысловыя прэрагатывы. Дэмакратыя або паніжае вышыню большай часткі гэтых бар’ераў, або скасоўвае іх цалкам.

У арыстакратычным сямействе старэйшы сын успадкоўвае ільвіную долю уласнасьці і амаль усе правы, робячыся кіраўніком, а ў вызначанай ступені і гаспадаром сваіх братоў. Яму дастаюцца веліч і ўлада, ім – сярэдні дастатак і залежнасць.

І ўсё ж, памылкай было б лічыць, што ў арыстакратычных народаў прывілеі старэйшага з’яўляюцца выгаднымі толькі для яго самога і што яны нічога, акрамя зайздрасьці і нянавісьці атачаючых, не выклікаюць.

Старэйшы сын звычайна прыкладае ўсе намаганні, каб дамагчыся для сваіх братоў багацця і ўлады, таму што славутасць усяго роду павялічвае прэстыж яго кіраўніка, а малодшыя браты імкнуцца дапамагчы яму ва ўсіх яго пачынаннях, таму што веліч і магутнасць галоўнага прадстаўніка сямейства даюць яму вялікія магчымасці ўзвысіць усе адгалінаванні сямейнага дрэва.

Таму ўсе асобы арыстакратычнага сямейства вельмі цесна згуртаваны паміж сабой; іхныя зацікаўленасьці з’яўляюцца блізкімі, яны з’яўляюцца аднадумцамі, але рэдка бывае так, што іхныя сэрцы разумеюць адзін аднаго.

Дэмакратыя таксама надае братам узаемную прыхільнасць, але дамагаецца гэтага іншым шляхам.

Згодна з дэмакратычнымі законамі дзеці з’яўляюцца цалкам роўнымі паміж сабой і, такім чынам, незалежнымі. Іх нішто не аб’ядноўвае гвалтоўна, але таксама нішто і не адштурхвае і, дзякуючы таму што ў іхных жылах цячэ агульная кроў, таму што яны вырастаюць пад адным дахам, адчуваючы аднолькавую заклапочанасць бацькоў, таму што ніякія асаблівыя прывілеі іх не вылучаюць і не падзяляюць, паміж імі з лёгкасьцю нараджаецца добрая, шчырая прыхільнасць, уласьцівая юнацтву. Блізкія стасункі, склаўшыяся падобным чынам на самым пачатку жыцця, наўрад ці могуць быць сапсаваны нейкімі акалічнасьцямі, таму што з кожным днём братэрства ўсё мацней злучае іх, не даючы нагод для непаразуменняў.

Такім чынам, дэмакратыя прывязвае братоў адзін да аднаго не падабенствам зацікаўленасьцей, а агульнасьцю ўспамінаў, вольным пачуццём сімпатыі,

блізкасьцю поглядаў і густаў. Яна ажыццяўляе падзел іхнай спадчыны, але яна дазваляе ім захаваць духоўнае сваяцтва.

Людзкасць гэтых дэмакратычных нораваў з'яўляецца такой прыцягальнай, што нават самыя ўстойлівыя прыхільнікі арыстакратыі паддаюцца іхнаму ўплыву і, спазнаўшы іх на працягу некаторага часу, не адчуваюць жадання вярнуцца да прадстаўнічай і халоднай манеры дачыненняў, пануючай у арыстакратычным сямействе. Яны ахвотна захоўваюць дэмакратычныя хатнія звычкі, калі толькі гэта не перашкаджае ім аспрэчваць сацыяльныя і юрыдычныя нормы дэмакратыі. Аднак усе гэтыя аспекты ўзаемазлучаны і немагчыма карыстацца некаторымі з іх, не ставячыся памяркоўна да іншых.

Тое, што я выказаў пра сыновую павагу і бацькоўскую пяшчоту, цалкам дастасоўваецца да ўсіх міжвольных пачуццяў, крыніцай якіх з'яўляецца сама прырода чалавека.

Калі некаторы вызначаны склад думак і пачуццяў фарміруецца адмысловымі акалічнасьцямі жыцця, ад яго нічога не застаецца пры перамене гэтых акалічнасьцей. Закон, напрыклад, можа вельмі моцна прывязаць двух грамадзянаў адзін да аднаго, але, калі гэты закон будзе скасаваны, яны разыйдуцца. Не было нічога больш цяснага тых павязей, якія ў феадальным сьвеце злучалі васала з сеньёрам. У наш час гэтыя два чалавекі і ведаць адзін аднаго не жадаюць. Баязнь, удзячнасць і павага, некалі злучаўшыя іх, зніклі. Не засталося і следу.

Але інакш справа выглядае з натуральнымі пачуццямі людзей. Рэдка здараецца, што закон, падначальваючы сабе некаторым чынам гэтыя пачуцці, не паслабляе іх; жадаючы іх абагаціць, ён іх абядняе; будучы пакінутымі самі на сябе, гэтыя пачуцці заўсёды выяўляюцца больш глыбокімі і моцнымі.

Дэмакратыя, знішчаючая ці пакідаючая на забыццё амаль усе ранейшыя сацыяльныя ўмоўнасьці і перашкаджаючая стварэнню новых умоўнасьцей, вядзе да поўнага знікнення большасьці тых пачуццяў, якія нараджаюцца гэтымі ўмоўнасьцямі. Аднак іншыя пачуцці яна толькі перамяняе і часта надае ім такую інтэнсіўнасць і такую пяшчоту, якіх раней не было.

Я думаю, што ўвесь змест гэтай часткі і некалькіх папярэдніх можна на заключэнне абагульніць адной фразай: дэмакратыя паслабляе сацыяльныя сувязі, але яна ўмацоўвае натуральныя. Раз'ядноўваючы грамадзянаў, яна адначасова збліжае сваякоў.

# Глава IX

## Выхаванне дзяўчынак у Злучаных Штатах

Ніколі і нідзе не існавала грамадства, вольнага ад маралі і, як я ўжо пісаў у першай частцы гэтай працы, мараль ствараецца жанчынай. Таму ўсё тое, што ўплывае на ўладкаванне жыцця жанчын, на іхныя звычкі і думкі, мае вялікае палітычнае значэнне.

Амаль ва ўсіх пратэстанцкіх краінах дзяўчыны значна больш незалежныя і адказныя за свае паводзіны, чым у каталіцкіх народаў.

Гэтая незалежнасць яшчэ больш вялікая ў тых пратэстанцкіх дзяржавах, якія, падобна Ангельшчыне, захавалі ці здабылі права на самакіраванне. Такім чынам, вольнасць пракрадаецца ў сям'ю са сферы палітычных і рэлігійных дачыненняў.

У Злучаных Штатах пратэстанцкае веравучэнне спалучаецца з вельмі вольнай канстытуцыяй і з вельмі дэмакратычным дзяржаўным уладкаваннем; ні ў якой іншай краіне дзяўчыны ў такім юным узросьце так безумоўна не ададзены самім сабе.

Задаўга да таго, як маладая амерыканка дасягае ўзросту адружання, пачынаецца яе паступовае вызваленне із-пад матчынай апекі; яшчэ не цалкам пераступіўшы мяжу дзяцінства, яна ўжо самастойна думае, вольна выказваецца і робіць учынкі грунтуючыся на сваім разуменні; перад ёй увесь час адчыняецца шырокая панарама сьвету. Ад яе не толькі не спрабуюць нічога схаваць, але з кожным днём паказваюць свет усё больш і больш, прывучаючы глядзець на ўсё ўстойлівым, спакойным позіркам. Такім чынам, заганы грамадства і небяспекі, утойваючыяся ў ім, вельмі хутка выяўляюць сябе перад ёй. Яна іх выразна бачыць, цьвяроза ацэньвае і сустракае іх без баязні, таму што ўпэўнена ў сваіх магчымасьцях і гэтую ўпэўненасць, здаецца, падзяляюць усе атачаючыя.

Таму ад маладой амерыканкі амаль ніколі не варта чакаць праяваў той некранутай прастадушнасьці, падаграваемай абуджэннем жаданняў, ці ж той наіўнай і чыстасардэчнай непасрэднасьці, якімі ў еўрапейкі звычайна суправаджаецца пераход ад дзяцінства да юнацкасьці. Амерыканская дзяўчына, незалежна ад яе ўзросту, рэдка выяўляе сарамлівасць і дзіцячую недасьведчанасць. Як і ў еўрапейскай дзяўчыны, у яе ўзнікае жаданне падабацца, але яна дакладна ведае свой кошт. І калі яна і не аддаецца заганам, то, прынамсі, пра іх ведае; яна хутчэй маральна чыстая, чым інтэлектуальна нявінная.

Мяне часта здзіўляла і амаль палохала тая незвычайная гнуткасць і тая гераічная адвага, з якімі юныя амерыканкі кіравалі сваімі думкамі і выказваннямі, лавіруючы паміж рыфамі жартаўлівай размовы; на якіх філосаф сотню разоў спатыкнуўся б на той вузенькай сьцяжынцы, якую яны хутка і нязмушана прабягае, не патрапіўшы ў непрыемнае становішча.

Лёгка ўсталяваць, што, нават карыстаючыся поўнай вольнасьцю ранняй юнацкасьці, амерыканка на самай справе ніколі цалкам не губляе кантролю над сабой; яна цешыцца ўсімі дазволенымі задавальненнямі, ні ад аднаго із іх не губляючы галаву і яе розум ніколі не паслабляючы павадоў, хаця часта здаецца, што яны адпушчаны.

У Францыі, дзе нашы погляды і густы ўяўляюць сабой такую дзіўную сумесь із аскепкаў усіх стагоддзяў, мы часта даём жанчынам амаль манастырскае выхаванне, надаючы ім сарамлівасць і замкнёнасць, як у часы арыстакратыі, а потым адразу пакідаем іх без парад і падтрымкі ў становішчы хаосу, неадменнага для кожнага дэмакратычнага грамадства.

Амерыканцы больш паслядоўныя.

Яны зразумелі, што ў дэмакратычным грамадстве індывідуальная незалежнасць не можа не быць вельмі значнай, што моладзь заўсёды будзе нецярпялівай, што людзям будзе цяжка стрымліваць свае жаданні, што звычаі перамяняюцца, а грамадская думка часта выяўляецца няпэўнай ці нямоглай, што бацькаўскі аўтарытэт слабы, а ўлада чалавека пачынае аспрэчвацца.

Улічваючы дадзеныя акалічнасьці, яны вырашылі, што ў іх мала шанцаў задушыць у жанчыне самыя магутныя із жарсьцяў чалавечага сэрца і што больш надзейным для іх з’яўляецца шлях – навучыць жанчыну самастойна змагацца з гэтымі жарсьцямі. Не маючы магчымасьці захаваць яе ўчыннасць ад шматлікіх падпільноўваючых яе небяспек, яны жадаюць, каб яна сама ведала способы

абароны і больш разлічвала на магутнасць сваёй волі, чым на раскіданыя ці разбураныя бар’еры забарон. Таму замест таго, каб трымаць яе ў недасведчанасьці адносна сваіх магчымасьцей, яны няспынна імкнуцца ўмацаваць яе веру ва ўласныя здольнасьці. Не маючы ні магчымасьці, ні жадання ўвесь час трымаць дзяўчынку ў стане поўнай недасведчанасьці, яны спяшаюцца і дачасова аддаюць у яе распараджэнне веды пра ўсё на сьвеце. Зусім не хаваючы ад яе заганы сьвету, яны жадаюць, каб яна адразу пабачыла іх і папрактыкавалася ва ўменні іх пазбягаць і яны аддаюць перавагу атрымаць гарантыі яе прыстойнасьці, нават не вельмі шкадуючы яе нявіннасць.

Хаця амерыканцы – глыбока рэлігійны народ, яны не спадзяваюцца на веру як на адзінае апірышча жаночай учыннасьці; яны імкнуцца ўзброіць розум жанчыны. У гэтым, як і шмат у чым іншым, яны карыстаюцца адным і тым жа метадам. Спачатку яны прыкладаюць вялізныя намаганні для таго, каб незалежная асоба магла кіраваць сваёй воляй і, толькі дасягнуўшы мяжы чалавечых здольнасьцей, яны нарэшце звяртаюцца за дапамогай да рэлігіі.

Я ведаю, што падобнае выхаванне ўяўляе небяспеку; я не ігнарую таксама той факт, што яно схіляе да развіцця здольнасьці меркавання за кошт уяўлення і робіць жанчын хутчэй прыстойнымі і халоднымі, чым далікатнымі жонкамі і закаханымі сяброўкамі мужчын. Калі такое выхаванне і спрыяе падтрыманню грамадзкага спакою і парадку, то асабістае жыццё яно часта і шмат у чым пазбаўляе яго зачаравання. Аднак гэтае зло з’яўляецца другарадным і нам патрэбна прымірыцца з ім, кіруючыся меркаваннямі агульнай выгоды. Апынуўшыся ў сёняшняй сітуацыі, мы не можам дазволіць сабе такую раскошу, як выбар: нам патрэбна дэмакратычнае выхаванне, каб абараніць жанчыну ад тых небяспек, якімі пагражаюць ёй інстытуты і норавы дэмакратычнага грамадства.

# Глава X

## Як дзяўчына робіцца жонкай

У Амерыцы жанчына, адружыўшыся, беззваротна губляе сваю незалежнасць. І калі дзяўчыны карыстаюцца тут большай вольнасьцю, чым дзе б там ні было, то паводзіны жонак рэгламентуюцца самымі строгімі абавязкамі. Для адной бацькава сядзіба – увасабленне вольнага, радаснага існавання, другая жыве ў сядзібе свайго чалавека, як у кляштары.

Паміж гэтымі двума станамі, магчыма, няма такой уражваючай супярэчнасьці, як гэта ўяўляецца, і цалкам натуральна, што амерыканкі праходзяць першую стадыю з мэтай дасягнуць другую.

Глыбока рэлігійныя народы і прамыслова развітыя дзяржавы з асаблівай сур’ёзнасьцю ставяцца да ідэі адружання. Першыя лічаць, што для жанчыны спарадкаванае жыццё – лепшая гарантыя і самае надзейнае сведчанне яе маральнай чысьціні. Другія бачаць у гэтым лепшы заклад уладкаванасьці і росквіту сядзібы.

Амерыканцы разам уяўляюць сабой як пурытанскую, так і камерцыйную нацыю; таму як рэлігійныя перакананні, так і дзелавая хватка вымушаюць іх патрабаваць ад жанчыны такога самазабыўнага стаўлення да сваіх абавязкаў, якое вымушае яе ўвесь час ахвяраваць уласнымі задавальненнямі, якога ў Яўропе рэдка хто ад яе чакае. Інакш кажучы, у Злучаных Штатах пануе няўмольная грамадзкая

думка, якая старанна абмяжоўвае жанчыну вузкім колам хатніх зацікаўленасьцей і турбот і забараняючае ёй выходзіць за яго.

З'явіўшыся на сьвет, маленькая амерыканка знаходзіць гэтыя ідэі трывала ўсталяванымі; яна ўсьведамляе, якія із іх выцякаюць наступствы і хутка прыходзіць да пераканання, што яна не здолее ні на імгненне вызваліцца ад нормаў, прынятых яе сучаснікамі, не паставіўшы адразу ж пад небясьпеку спакой сваёй душы, сваю рэпутацыю і нават сваё грамадзкае становішча і, дзякуючы выхаваным у ёй цьвёрдасьці меркаванняў і ўстойлівасьці звычак, яна знаходзіць у сабе здольнасьці падначаліцца звычаям.

Можна сказаць, што менавіта ў звычцы да незалежнасьці яна чэрпае тую мужнасць, з якой без супраціву і пярэчанняў ідзе на ахвяру, калі прыходзіць час.

Амерыканка, акрамя таго, ніколі не трапляецца ў адружальную сетку, як у пастку, у якую яе зацягнулі ўласная прастадушнасць і няведанне. Яна загадзя ведае, што ад яе чакаюць, і самастойна, самахвотна ўскладае на сябе гэты цяжар. Яна трывала пераносіць сваё новае становішча таму, што выбрала яго сама.

Дзякуючы таму што ў Амерыцы дысцыпліна ў бацькаўскай сядзібе вельмі мяккая, а сямейныя повязі вельмі суровыя, дзяўчына, адружваючыся, імкнецца быць абачлівай і асьцярожнай. Раннія шлюбы тут з'яўляюцца вельмі рэдкімі. Амерыканкі, такім чынам, не адружваюцца да таго часу, пакуль не набяруцца патрэбнага жыццёвага досьведу і не дасягнуць сталасьці, тады як у іншых краінах большасць жанчын згодна са звычаем пачынаюць набываць досьвед і сапяваць толькі будучы адружанымі.

Дарэчы, я вельмі далёкі ад думкі, што ўсе тыя вялікія перамены, якія адбываюцца ва ўчынках і звычках амерыканскіх жанчын адразу пасьля таго, як яны адружваюцца, павінны разглядацца як вынік прымусу з боку грамадзкай думкі. Жанчыны часта бяруць на сябе гэтыя абавязкі, падначальваючыся толькі ўласнай волі.

Калі прыходзіць час абіраць чалавека, той спакойны і строгі склад думак, які ў амерыканцы быў закладзены і ўмацаваны вольным светаўспрыманнем, дазваляе ёй усьвядоміць, што легкадумнае і вольнае стаўленне да адружання – крыніца пастаяннай заклапочанасьці, а не асалод, што задавальненні бесклапотнай дзяўчыны не могуць быць забаўкамі жонкі і што жанчына знаходзіць сваё шчасьце толькі ў сям'і. Загадзя выразна бачачы той адзіны шлях, які ў стане прывесьці яе да сямейнага шчасьця, яна з першага кроку ступае на яго і ідзе да канца, не спрабуючы павярнуць назад.

Тая ж самая моц волі, якую выяўляюць маладыя амерыканскія жонкі, без ваганняў і скаргаў падначальваючыся строгім абавязкам свайго новага становішча, дарэчы, выяўляецца пад час перыядаў усіх вялікіх выпрабаванняў, што сустракаюцца ім на жыццёвым шляху.

У сьвеце няма краіны, дзе прыватная ўласнасць была б больш няўстойлівай, чым у Злучаных Штатах. Нярэдка бывае так, што на працягу свайго жыцця чалавек падымаецца і апускаецца па ўсіх прыступках усходаў, вядучых ад багацця да немаёмаснасьці.

Амерыканскія жанчыны пераносяць гэтыя перамены, захоўваючы спакой і неўтаймоўваемую энергію. Кажуць, што іхныя жаданні памяншаюцца адпаведна памяншэнню іхнага дастатку з такой жа лёгкасьцю, з якой і павялічваюцца.

Шукальнікі прыгод, з кожным годам усё шчыльней і шчыльней засяляючыя неабжытыя абшары Захаду, большай часткай, як я ўжо пісаў у першай кнізе,

выхадцы із Поўначы, кая мае старое англа-амерыканскае насельніцтва. Шмат хто із гэтых людзей, якія з такой адвагай кінуліся ў пагоню за багаццем, у сваіх родных месцах ужо цешыліся нябедным існаваннем. Яны вязуць з сабой сваіх сяброўак і вымушаюць іх дзяліць усе тыя незлічоныя небяспекі і пазбаўленні, якія заўсёды спадарожнічаюць падобным пачынанням. У самых аддаленых і дзікіх месцах я часта сустракаў маладых жанчын, з дзяцінства прызвычаіўшыхся да ўсіх выгод жыцця ў вялікіх гарадах Новай Ангельшчыны, практычна адразу пераехаўшых із заможных сядзіб сваіх бацькоў у дрэнна накрытыя халупы, пабудаваныя ў лясной глухмені. Хваляванні, хваробы, адзінота і нуда не знішчаюць іхную мужнасць. Іхныя твары здаюцца перамяніўшыміся, але іхныя позіркі захоўваюць цьвёрдасць. Яны выглядаюць адначасова сумнымі і рашучымі[332].

Я не сумняваюся, што менавіта пад час перыяду дзіцячага выхавання маладыя амерыканкі здолелі назапасіць у сабе тыя ўнутраныя здольнасьці, у якіх яны так маюць патрэбу пазьней.

Такім чынам, у абліччы амерыканскай жонкі выяўляецца ўсё тая ж асоба, якая склалася яшчэ ў дзіцячым і дзявочым узросьце, разам з пераменай ролі перамяняецца лад яе жыцця, але душа застаецца нязменнай.

# Глава XI

## Якім чынам роўнасць у Амерыцы спрыяе падтрыманню маральнасьці

Існуюць філосафы і гісторыкі, якія прама заяўляюць ці ж толькі намякаюць на тое, што жаночая маральнасць адрозніваецца большай ці меншай строгасьцю ў залежнасьці ад таго, наколькі блізка ці далёка яны жывуць ад экватара. Гэта вельмі танны спосаб выкруціцца із цяжкага становішча і ў такім разе нам было б дастаткова глобуса і цыркуля для таго, каб за хвіліну вырашыць адну із самых складаных праблем, стаячых перад чалавецтвам.

Я не лічу, што гэтая матэрыялістычная дактрына заснавана на фактах.

Адны і тыя ж нацыі выяўлялі пад час розных эпох сваёй гісторыі як чысьціню, так і распушчанасць нораваў. Такім чынам, спарадкаванасць ці непрыстойнасць іхных нораваў залежыць ад нейкіх пераменлівых фактараў, а не толькі ад прыродных асаблівасьцей краіны, якія заставаліся нязменнымі.

Я не адмаўляю таго, што пры некаторых кліматычных умовах запал, нараджаемы пры ўзаемным прыцягненні стацей, бывае асабліва палкім, але я думаю, што гэты натуральны запал заўсёды можа абуджацца ці ж душыцца сацыяльнымі ўмовамі і палітычнымі інстытутамі.

Хаця падарожнікі, пабываўшыя ў Паўночнай Амерыцы, адносна шмат якіх пытанняў выказваюць цалкам розныя меркаванні, яны ўсе згодны ў тым, што тамтэйшыя норавы невымерна больш строгія, чым у якім бы то ні было іншым месцы.

Цалкам зразумела, што ў дадзеным дачыненні амерыканцы значна перасягаюць сваіх родапачынальнікаў – ангельцаў. Каб давесьці гэта, дастаткова кінуць беглы позірк на абедзьве нацыі.

---

[332] (*332 заўвага аўтара пасьля заканчэння кнігі II)

У Ангельшчыне, як і ў кожнай іншай краіне, злыя языкі няспынна выказваюцца наконт жаночых слабасьцей. Можна часта чуць скаргі філосафаў і дзяржаўных мужоў на тое, што норавы недастаткова строгія і літаратура штодзённа дае гэта зразумець.

У Амерыцы ўсе кнігі, не выключаючы раманаў, лічаць, што жанчыны чыстыя і ніхто не распавядае пра свае сардэчныя прыгоды.

Гэтая надзвычайная строгасць амерыканскіх нораваў, без сумневаў, часткова прадвызначаецца прыроднымі ўмовамі краіны, расай, рэлігіяй. Аднак усіх гэтых нагод, якія сустракаюцца і ў іншых месцах, недастаткова для тлумачэння дадзенай з’явы. Яе немагчыма патлумачыць, не прыняўшы да ўвагі нейкага адмысловага фактару.

Дадзеным фактарам мне ўяўляецца роўнасць і створаныя ёй інстытуты[333].

Роўнасць умоў сама па сабе не спараджае строгасьці нораваў, але няма сумневаў у тым, што яна спрыяе выкананню маральных усталяванняў і ўзмацняе іх уплыў.

У арыстакратычных народаў шляхетнасць і маёмаснае становішча часта ўзводзяць паміж мужчынай і жанчынай перашкоды такія непераадольныя, што яны ніколі не будуць у стане злучыцца адзін з адным. Іх збліжае запал, але сацыяльныя ўмовы і грунтуючыяся на іх погляды перашкаджаюць ім мець пастаянную адкрытую сувязь. Гэта непазбежна спараджае шмат кароткачасовых і таемных сувязей. Прырода таемна кампенсуе тое, што было забрана ў яе з дапамогай магутнасьці закона.

Усяго гэтага не адбываецца тады, калі роўнасць умоваў разбурае ўсе ўяўныя ці сапраўдныя бар’еры, аддзяляючыя мужчыну ад жанчыны. У гэтым выпадку ніводная дзяўчына не лічыць, што яна не можа стаць жонкай мужчыны, які аддаў ёй перавагу і гэта амаль цалкам выключае маральную распушчанасць да адружання. Таму што, якой бы даверлівасьцю ні адрозніваўся запал, наўрад ці магчыма пераканаць жанчыну ў тым, што вы яе кахаеце, калі вы, маючы поўную магчымасць адружыцца з ёю, не робіце гэтага.

Тая ж самая нагода працягвае дзейнічаць, хаця і больш апасрэдавана, і пасьля вяселля.

Нішто так не апраўдвае незаконнае каханне ў вачах тых, хто яго адчувае, ці ж у вачах цікавячагася натоўпу, як думка пра тое, што адружанне было вынікам вымушанага ці выпадковага аб’яднання[334].

---

[333] Зусім не роўнасць робіць людзей амаральнымі і няверуючымі. Але калі людзі разбэшчаныя і нявераючыя і ў той жа час роўныя, вынікі амаральнасьці і няверы лёгка даюць пра сябе ведаць, таму што людзі маюць слабы ўплыў адзін на аднаго, а стана, які ўзяў бы на сябе турботы па ахове грамадства, не існуе. Роўнасць ніколі не псуе норавы, але часам выяўляе іхную сапсаванасць.

[334] У праўдзівасьці гэтага цверджання лёгка пераканацца, вывучаючы розныя еўрапейскія літаратуры. Калі нейкі еўрапейскі пісьменнік мае намер намаляваць у сваім творы нейкую із тых вялікіх катастроф, якія так часта адбываюцца ў нашых сямейных колах, ён загадзя ўзмоцнена намагаецца выклікаць спагаду чытача, апісваючы няроўнае ці вымушанае адружанне. Хаця трывала ўкаранiўшая памяркоўнасць ужо даўно расхістала нашы маральныя нормы, яму было б цяжка зацікавіць нас няшчасьцямі гэтых герояў, калі б ён не пачаў з апраўдання іхнай правіны. Гэты прыём амаль заўсёды дасягае жаданага эфекту. Тая штодзённасць, якую мы самі назіраем, задоўга падрыхтоўвае нас да спагадлівага стаўлення. Амерыканскія пісьменнікі не могуць прапанаваць сваім чытачам падобнага апраўдання ў якасьці праўдзівага; іхныя звычаі і законы супрацьстаяць падобным спробам і, страціўшы надзею стварыць прыемныя выявы распусты, яны цалкам іх не малююць. Часткова гэта служыць нагодай таго, што ў Злучаных Штатах публікуецца мала раманаў.

У краіне, дзе жанчына заўсёды вольна робіць свой выбар і дзе выхаванне забяспечвае ёй магчымасць зрабіць яго слушна, грамадзкая думка да падобных правін няўмольная.

Рыгарызм амерыканцаў часткова спараджаецца гэтым. Яны часта разглядаюць адружанне як цяжкую дамову, усе ўмовы якой, усё ж, павінны строга выконвацца абодвума бакамі, таму што яны мелі магчымасць усё ведаць загадзя і мелі поўную волю нічым сябе не абцяжарваць.

Такое стаўленне, навязваючы абавязак вернасьці, палягчае яе выкананне.

У арыстакратычных краінах мэтай адружання з'яўляецца не столькі звяз двух людзей, колькі аб'яднанне іхнай уласнасьці; таму часам бывае так, што нарачонага падбіраюць у школьным, а нарачоную – у грудным узросьце. Няма дзіва ў тым, што адружальныя повязі, аб'яднoўваючыя маёмасць адружаных, даюць волю іхным сэрцам шукаць сардэчных прыгод. Да гэтага іх падахвочвае сам дух іхнай дамовы.

Калі ж, наадварот, кожны сам сабе абірае спадарожніка жыцця, не зважаючы ні на якія вонкавыя цяжкасьці ці на нечыя ўказанні, то мужчына і жанчына звычайна збліжаюцца грунтуючыся на падабенстве густаў і думак і гэтае ж самае падабенства моцна ўтрымлівае іх адзін каля другога.

З нагоды адружання нашы бацькі мелі вельмі адмысловае меркаванне.

Дзякуючы таму, што яны заўважылі: тыя нешматлікія адружанні грунтаваўшыяся на каханні, якія здзясніліся ў іхны час, амаль заўсёды заканчаліся трагічна, у іх склалася трывалае перакананне ў тым, што ў дадзеным пытанні вельмі небяспечна прыслухоўвацца да голасу ўласнага сэрца. Гульня выпадку ўяўлялася ім больш празорлівай, чым вольнасць выбару.

Тым часам няцяжка зразумець, што прыклады, быўшыя перад іхнымі вачамі, нічога не даводзілі.

Перадусім варта пазначыць, што дэмакратычныя народы, надаючы жанчыне права вольна абіраць сабе чалавека, нямала пякуцца пра тое, каб іхная свядомасць папярэдне было асьвечана, а іхная вольнасць мела б магутнасць, неабходную для здзяйснення падобнага выбару, тады як у арыстакратычных народаў дзяўчына, таемна вырываючаяся із-пад бацькоўскай улады, каб самай кінуцца ў абдымкі мужчыны, добра даведацца пра якога яна не мела ні часу, ні патрэбнай здольнасьці разважаць, не валодае ніводнай із гэтых гарантый. Не варта здзіўляцца таму, што ўпершыню заваяваўшы права скарыстацца сваёй вольнасьцю, жанчыны ўжываюць яе сабе на зло, а таксама таму, што яны жорстка памыляюцца тады, калі, не атрымаўшы дэмакратычнага выхавання, яны пры адружанні жадаюць кіравацца дэмакратычнымі звычаямі. Аднак гэта яшчэ не ўсё.

Калі мужчына і жанчына імкнуцца да збліжэння насуперак няроўнасьці іхнага становішча ў арыстакратычным грамадстве, ім патрэбна пераадолець вельмі вялікія перашкоды. Здолеўшы разарваць ці паслабіць повязі, падначальваючыя іх бацькоўскай волі, яны павінны зноў набрацца цярпення, каб супрацьстаяць уладзе звычаю і тыраніі грамадзкай думкі; калі ж, нарэшце, яны дасягаюць фіналу сваёй рызыкоўнай задумы, то выяўляюць, што яны чужыя сярод сваіх сяброў і сваякоў; іх падзяляюць тыя забабоны, якія яны пераступілі. Гэтая рэчаіснасць хутка памяншае іхную мужнасць і робіць бязлітасным іхныя сэрцы.

Такім чынам, калі адружаныя адпаведна з каханнем, спачатку пачуваюць сябе няшчаснымі, а потым пачынаюць адчуваць сябе вінаватымі, то гэта не

патрэбна тлумачыць тым, што яны аддалі перавагу вольнасьці выбару, а хутчэй тым, што яны жывуць у грамадстве, падобнага выбару не дазваляючым.

Не патрэбна таксама забывацца і на тое, што тая самая магутнасць духу, якая дазваляе чалавеку люта паўстаць супраць усеагульнай памылкі, амаль заўсёды заводзіць яго за межы разумнага; таму што для таго, каб адважыцца абвясьціць вайну, нават справядлівую, ідэям свайго стагоддзя і сваёй краіны, ва ўсьведамленні павінна быць некаторая схільнасць да гвалту і авантурызму. Людзі падобнага склада, у якім бы накірунку яны не дзейнічалі, рэдка дасягаюць шчасьця і ўчыннасьці. Гэта, заўважу між іншым, тлумачыць, дзякуючы чаму ў часы самых патрэбных і самых сьвятых рэвалюцый сустракаецца так мала ўстрыманых, сумленных рэвалюцыянераў.

Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што чалавек, жывучы ў арыстакратычным грамадстве, якому пры адружанні выпадкова прыйдзе ў галаву ні з кім не раіцца і нічым не кіравацца, акрамя сваіх уласных меркаванняў і густаў, можа хутка выявіць, што ў яго сядзібе пасяліліся амаральнасць і пакуты. Аднак тады, калі падобныя дзеянні ў парадку рэчаў, калі бацькі падтрымліваюць яго, а грамадзкая думка прызнае, не патрэбна сумнявацца ў тым, што мір у сям’і стане больш мацным, а вернасць будзе больш надзейна захоўвацца.

Амаль усе мужчыны ў дэмакратычным грамадстве займаюцца або палітыкай, або нейкай прафесійнай дзейнасьцю, а сьціпласць дастатку, з іншага боку, абавязвае жанчын штодня заставацца ў сьценах уласнай сядзібы, з тым, каб асабіста і вельмі ўважліва сачыць за ўсімі дробязямі хатняй гаспадаркі.

Гэты вызначаны і неабходны падзел абавязкаў служыць тым натуральным бар’ерам, які, падзяляючы мужчын і жанчын, робіць дамаганні першых больш рэдкімі і менш энергічнымі і палягчае другім абараняць сваю ўчыннасць.

Гэта не азначае, што роўнасць умоваў існавання здольна калі-небудзь маральна ачысьціць чалавека, але яна надае амаральнасці менш небяспечны характар. Дзякуючы таму што ў мужчын няма ні масы вольнага часу, ні асаблівых магчымасьцей штурмаваць тыя цытадэлі ўчыннасьці, якія маюць намер бараніцца, у грамадстве адначасова сустракаюцца як шмат куртызанак, так і шмат сумленных жанчын.

Падобны стан рэчаў нараджае часам сумную індывідуальную заганнасць, але ён не перашкаджае ўсяму грамадству захоўваць бадзёрасць і моц; ён не падрывае сямейных сувязей і не паслабляе нацыянальную маральнасць. Небяспеку для грамадства тоіць у сабе не жахлівая разбэшчанасць прыватных асоб, а распушчанасць усіх яго грамадзянаў. З боку гледжання заканадаўцы, значна менш варта баяцца прастытуцыі, чым галантнага заляцання за прыстойнымі жанчынамі.

Такое бурнае, абцяжаранае пастаяннымі клопатамі жыццё, якое прыносіць людзям роўнасць, не толькі адцягвае іх ад кахання, не пакідаючы часу аддавацца яму, але і вядзе іх убок ад яго менш відавочным, але больш надзейным спосабам.

Усе людзі, жывучыя ў часы дэмакратыі, засвойваюць у большай ці меншай ступені прынцыпы мышлення, уласцівыя прамысловаму і камерцыйнаму станам; стыль іхных думак робіцца сур’ёзным, разлічваемым, грунтоўным; яны самаахвотна адварочваюцца ад ідэалу, каб ісьці да нейкай бачнай і блізкай мэты, якая ўяўляецца ім натуральным і патрэбным аб’ектам іхных жаданняў. Роўнасць, такім чынам, не забівае ўяўленне, але абмяжоўвае яго, не дазваляючы яму занадта адрывацца ад зямлі.

Няма людзей, менш схільных да летуценнасьці, чым грамадзяне дэмакратычнага грамадства і сярод іх амаль не сустрэнеш нікога, хто б ахвотна аддаваўся гэтаму бяздзейнаму, патрабуючаму адзіноты саманазіранню, якое звычайна папярэднічае моцным шчырым хваляванням і спараджае іх.

Праўда, што яны, высока шануючы яе, імкнуцца знайсьці такую глыбокую, спарадкаваную, спакойную шчырую прыхільнасць, якая робіць жыццё прыемным і бяспечным; але па добрай волі яны не імкнуцца да апантаных і капрызных пачуццяў, прыносячых пакуты і скарачаючых жыццё.

Я ведаю, што вышэйпавядомленае цалкам мае дачыненне толькі да Амерыкі і да Яўропы аж да сучаснага моманту, увогуле, не мае дачынення.

На працягу апошняй паловы стагоддзя, калі законы і ўладкаванне жыцця сталі з нябачанай магутнасьцю падштурхоўваць некаторыя еўрапейскія народы да дэмакратыі, дачыненні паміж мужчынай і жанчынай у асяроддзі гэтых нацый, па ўсёй бачнасьці, не зрабіліся больш спарадкаванымі і чыстымі. У некаторых мясцовасьцях можна назіраць нават адваротнае.

Маральнасць больш строга выконваецца толькі прадстаўнікамі некаторых станаў, а агульная мараль грамадства здаецца нізкай. Я не баюся гэтых цьверджанняў, таму што не адчуваю ў сабе схільнасьці ні ліслівіць маім сучаснікам, ні ліхасловіць у іхны адрас.

Гэтае гледзішча павінна прыгнятаць, але не павінна выклікаць здзіўленне.

Спрыяльны ўплыў дэмакратычнага дзяржаўнага ўладкавання на паляпшэнне нораваў – адна із тых з’яваў, якія выяўляюць сябе толькі праз працяглы час. Калі роўнасць умоваў выяўляецца station станоўчай для нораваў, то тыя радавыя мукі грамадства, у якіх гэтыя ўмовы з’яўляюцца на сьвет, робяць на грамадзкую мараль згубны ўплыў.

На працягу апошніх пяцідзесяці гадоў, перамяніўшых аблічча Францыі, мы рэдка карысталіся вольнасьцю, але затое заўсёды панавала бязладзіца. Сярод усяго гэтага хаосу ідэй і знішчэння вечных праўд, пад уплывам гэтай няскладнай мешаніны справядлівасьці з несправядлівасьцю, праўды з хлуснёй, правоў з рэчаіснасьцю грамадзкія ўяўленні пра ўчыннасць робяцца няпэўнымі, а індывідуальная маральнасць неўстойлівай.

Аднак усе рэвалюцыі, якімі б ні былі іхныя мэты і сродкі, спачатку спараджаюць аналагічную сітуацыю. Нават тыя із іх, якія, у канчатковым рахунку, усталёўваюць самы строгі кантроль над норавамі, пачынаюць з іхнага разняволення.

Тая распушчанасць і тыя хваляванні, сведкамі якіх мы часта бываем, не здаюцца мне таму даўгачасовымі. Ужо з’яўляюцца цікавыя прыкметы таго, што яны зжываюцца.

Няма нічога больш распутнага чым арыстакратыя, якая страціўшы ўладу захоўвае свае багацці і якая, аддаючыся вульгарным асалодам, мае на гэта шмат вольнага часу. Некалі адушаўляўшыя яе моцныя пачуцці і вялікія ідэі зніклі і зараз у яе не засталося нічога, акрамя дробных, грызучых душу заган, кішачых на ёй, як чэрві на трупе.

Ніхто не аспрэчвае таго факту, што французская арыстакратыя мінулага стагоддзя была вельмі распутнай, тады як старажытныя звычаі і ранейшыя перакананні яшчэ падтрымлівалі павагу да маральнасьці ў іншых станах нашага грамадства.

Так жа лёгка прыйсьці да агульнай пагаднення і адносна таго, што ў наш час сярод ацалелых адломкаў усё той жа арыстакратыі выяўляецца некаторая строгасць маральных прынцыпаў, тады як амаральнасць пашырылася ў сярэдніх і ніжэйшых пластах грамадства. Такім чынам, тыя сямействы, якія пяцьдзясят гадоў таму назад былі вядомы як надзвычай распушчаныя, сёння сталі самымі ўзорнымі і можа здацца, што дэмакратыя зрабіла станоўчы ўплыў толькі на мараль арыстакратычных станаў.

Рэвалюцыя, паменшыўшы прыбытак шляхты, прымусіла іх старанна займацца сваімі фінансавымі і сямейнымі справамі, пасяліла іх пад адзін дах разам з дзецьмі і, надаўшы нарэшце, больш разумны і сур'ёзны настрой іхным думкам, абудзіла ў іх непрыкметна для іх саміх павагу да веры, павагу да парадку і мірных асалод, да сямейных задавальненяў і дабрабыту, тады як астатняя частка нацыі, якая натуральным чынам валодала ўсімі гэтымі схільнасцямі, была захоплена струменем усёдазволенасьці, народжаным змаганнем за перамену палітычных законаў і парадкаў.

Ранейшая французская арыстакратыя выпрабавала на сабе наступствы рэвалюцыі, але пры гэтым яна не зведала рэвалюцыйных жарсьцяў і не была ахоплена спадарожнічаючымі ім, часта анархічным, парывам. Таму лёгка зразумець, дзякуючы чаму яна выпрабавала на сваёй маральнасці станоўчы ўплыў рэвалюцыі нават раней тых, хто рабіў гэту рэвалюцыю сваімі ўласнымі рукамі.

Такім чынам, можна сцвярджаць, хаця падобнае цьверджанне на першы погляд здасца дзіўным, што ў нашы дні тыя станы з'яўляюцца самымі антыдэмакратычнымі магутнасьцямі нацыі, якія з асаблівай навочнасьцю выяўляюць сваю прыхільнасць да маральных прынцыпаў, цалкам абгрунтавана лічачыхся дэмакратычнымі.

Я не магу не верыць у тое, што мы, здолеўшы выкараскацца із хаосу рэвалюцыйных хваляванняў і сабраўшы ўсе плады стварыўшай гэтыя хваляванні дэмакратычнай рэвалюцыі, пабачым, як тое, што сёння уяўляецца праўдзівым толькі няшматлікім, паступова стане праўдзівым для ўсіх.

# Глава XII

## Як амерыканцы разумеюць роўнасць паміж мужчынай і жанчынай

Я паказаў, якім чынам дэмакратыя знішчае ці пераўтварае розныя віды створанай грамадствам няроўнасьці. Але хіба гэта ўсё? Ці не можа яна, нарэшце, паўплываць на тую вялікую няроўнасць паміж мужчынай і жанчынай, якая аж да сучаснасьці ўяўляецца нам абгрунтаванай вечным законам прыроды?

Я думаю, што грамадзкі рух, ураўноўваючы становішча дзяцей і бацькаў, служак і гаспадароў і, бяручы ў цэлым, ураўноўваючы ніжэйшых з вышэйшымі, павялічвае статус жанчыны і павінен ўсё больш і больш ураўноўваць яе з мужчынай.

Аднак у дадзеным пытанні, больш чым у іншых, я адчуваю асаблівую патрэбу быць правільна зразуметым, таму што няма другога такога пытання, з нагоды якога грубае, няскладнае ўяўленне нашага стагоддзя стварала б такі ж неўтаймаваныя фантазіі.

У Яўропе існуюць людзі, якія, блытаючыся ў розных асаблівасьцях стацей, заяўляюць пра магчымасць усталявання паміж мужчынай і жанчынай не толькі роўнасьці, але і тоеснасьці. Яны надзяляюць абодвух аднымі і тымі ж функцыямі і правамі, ускладаючы на іх адны і тыя абавязкі; яны жадаюць, каб мужчыны і жанчыны разам працавалі, забаўляліся, займаліся справамі. Лёгка можна зразумець, што, спрабуючы падобным чынам ураўнаваць паміж сабой дзьве стаці, мы будзем мець у выніку іхную ўзаемную дэградацыю, таму што із падобнага грубага перамяшання такіх розных стварэнняў прыроды ніколі нічога путнага не атрымаецца, акрамя слабых мужчын і непрыстойных жанчын.

Амерыканцы цалкам інакш разумеюць той накірунак дэмакратычнай роўнасьці, які магчыма усталяваць паміж мужчынам і жанчынай. Яны лічаць, што, дзякуючы таму што прырода надала мужчыне і жанчыне такія розныя фізічныя і духоўныя ўласцівасьці, яна відавочным чынам прызначала гэтыя здольнасьці для выканання розных функцый і лічаць, што прагрэс складаецца не ў тым, каб вымушаць непадобныя паміж сабой істоты займацца прыкладна аднымі і тымі ж справамі, а ў тым, каб кожны з іх атрымаў магчымасць як мага лепш рабіць сваю справу. Амерыканцы ў дачыненні да двух стацей ужылі асноўны прынцып палітычнай эканоміі, які ў нашы дні пануе ў прамысловасьці. Яны старанна падзялілі функцыі мужчыны і жанчыны, з тым каб намаганні ўсяго грамадства давала максімальныя вынікі.

У Амерыцы больш, чым у іншых краінах сьвету, надаецца ўвагі пастаяннаму вызначанаму падзелу сфер дзейнасьці двух стацей, таму што амерыканцы жадаюць, каб абедзьве стаці крочылі нага ў нагу, але кожная із іх – заўсёды сваім асобным шляхам. Вы не пабачыце амерыканскіх жанчын, кіруючых вонкавымі справамі свайго сямейства, вядучымі гандаль ці ж, нарэшце, займаючыміся палітычнай дзейнасьцю, але вы таксама ніколі не пабачыце іх вымушанымі займацца грубай, некваліфікаванай працай ці ж цяжкай працай, патрабуючай вялікіх фізічных намаганняў. Ніводнае, нават самае беднае сямейства не з’яўляецца выключэннем із гэтага правіла.

Калі амерыканцы, з аднаго боку, не дазваляецца пакідаць кола яе мірных хатніх турбот, то, з другога боку, яе ніколі і не вымушаюць яго пакідаць.

У выніку атрымліваецца, што амерыканскія жанчыны, часам валодаючы мужчынскай магутнасьцю розуму і дзейнай энергіяй, у цэлым захоўваюць вельмі вытанчаны выгляд і пастаянную жаночасць манер, хаця нярэдка яны выяўляюць мужнасць духу і адвагу сэрца.

У сваю чаргу амерыканскія мужчыны не лічаць, што з нагоды ўжывання дэмакратычных прынцыпаў у сям’і аўтарытэт чалавека выявіцца скасаваным і ўсталюецца двоеўладдзе. Яны лічаць, што кожнае згуртаванне, каб быць эфектыўным, павінна мець свайго кіраўніка і што кіраўніком адружальнага звязу, натуральна, з’яўляецца мужчына. Таму яны не адмаўляюць яму ў праве кіраваць сваёй спадарожніцай і вераць, што ў маленькай супольнасьці, складаючайся із чалавека і жонкі, так жа як і ў вялікім грамадстве, уяўляючым сабой дзяржаўнае утварэнне, дэмакратыя імкнецца да таго, каб паставіць пад кантроль і ўзаконіць патрэбную для кіравання ўладу, а не да знішчэння якой бы то ні было ўлады.

Гэтая думка не з’яўляецца выключнай прыналежнасьцю аднай із стацей, аспрэчваемай другой.

Я ніколі не заўважаў, каб амерыканкі разглядалі ўладу чалавека як блаславёную ўзурпацыю іхных уласных правоў ці ж, наадварот, лічылі б сябе ёю

зняважанай. Мне здаецца, што яны адчуваюць свайго роду гонар за тое, што самаахвотна адмовіліся ад уласнай вольнасьці, бачачы адмысловую годнасць ва ўменні несьці цяжар, не спрабуючы ад яго пазбавіцца. Такімі з’яўляюцца пачуцці калі і не ўсіх, то, найменей, самых учынных із іх – астатнія маўчаць; не пачуеш у Злучаных Штатах і жонкі-блудніцы, крыкліва выступаючай за правы жанчыны, тым часам як сама яна топча самы сьвяты із адружальных абавязкаў.

Часта адзначалася, што нават на той ліслівасьці, якую еўрапейскія мужчыны марнатравяць перад жанчынамі, існуе налёт пагардлівасьці і, хаця еўрапейцы часта робяцца рабамі жанчыны, адчуваецца, што ў глыбіні душы яны ніколі не лічаць яе роўнай сабе.

У Злучаных Штатах жанчыну рэдка хваляць, але затое штодня выказваюць павагу да яе.

Амерыканцы ўвесь час дэманструюць поўны давер да розуму сваіх жонак і паважаюць іхную волю. Яны лічаць, што жанчыны не ў меншай ступені, чым мужчыны, здольны распазнаваць праўду ва ўсёй яе галізне і што ў жаночым сэрцы дастаткова цьвёрдасьці, каб ісьці за гэтай праўды; яны ніколі не спрабавалі ахоўваць яе ўчыннасць, роўна як і сваю, з дапамогай забабонаў, невуцтва ці баязні.

Па ўсёй бачнасьці, у Яўропе, дзе мужчыны з такой лёгкасьцю падначальваюцца дэспатызму жаночай улады, жанчыне, усё ж, адмоўлена ў валоданні некаторымі самымі асноўнымі якасьцямі чалавечай прыроды. Іх лічаць чароўнымі, але недасканалымі істотамі; і не патрэбна занадта ўжо здзіўляцца, што самі жанчыны пачынаюць ставіцца да сябе аналагічным чынам і блізкія да таго, каб лічыць сваім прывілеем магчымасць быць сварлівымі, слабымі і баязлівымі. Амерыканкі не патрабуюць сабе падобных правоў.

Акрамя таго, кажуць, што ў пытаннях маралі мы даравалі мужчыне амаль поўную недатыкальнасць і, такім чынам, разуменне ўчыннасьці ў дачыненні да яго мае адно значэнне і цалкам іншае значэнне яно мае тады, калі гаворка заходзіць пра яго спадарожніцу і што ў вачах грамадзкасьці адна і тая ж падзея можа адпаведна лічыцца злачынствам ці ж усяго толькі правінай.

Амерыканцы не ведаюць гэтага несправядлівага дзялення абавязкаў і правоў. У іх спакуснік зведвае такое ж ганьбаванне, як і яго ахвяра.

Гэта правільна, што амерыканцы рэдка атачаюць жанчын той паслужлівай увагай, якая ім ахвотна надаецца ў Яўропе, аднак усімі сваімі паводзінамі яны ўвесь час падкрэсліваюць, што лічаць жанчын учыннымі і далікатнымі і выказваюць такую вялізную павагу да іхных маральнай вольнасьці, што ў іхнай прысутнасьці кожны старанна сочыць за сваёй гаворкай, асьцерагаючыся прымусіць іх выслухоўваць тое, што можа іх засмуціць. У Амерыцы маладая дзяўчына мае магчымасць у адзіночку і без нейкай баязні выправіцца ў працяглае падарожжа.

Заканадаўцы Злучаных Штатаў, памякчыўшыя пакаранні амаль ва ўсіх артыкулах крымінальнага кодэкса, за згвалтаванне патрабуюць сьмяротнага пакарання і ніякае іншае злачынства не пераследуецца грамадзкай думкай з больш няўмольнай суровасьцю. Гэта цалкам тлумачальна: дзякуючы таму што амерыканцы даражэй усяго шануюць гонар жанчыны і больш усяго шануюць яе незалежнасць, пагэтаму ніякае пакаранне не здаецца ім занадта жорсткім для таго, хто супраць яе волі пазбаўляе жанчыну і таго і іншага.

У Францыі, дзе такое ж злачынства караецца значна мякчэй, часта бывае цяжка знайсьці склад прысяжных, які б вынес абвінаваўчы прысуд. Што гэта?

Пагарда да цнатлівасьці ці ж пагарда да жанчыны? Я не магу пазбавіцца ад пераканання, што як тое, так і другое.

Такім чынам, амерыканцы не лічаць, што мужчына і жанчына маюць абавязак і права займацца аднымі і тымі ж справамі, але выяўляюць роўную павагу да ролі кожнага із іх і разглядаюць іх у якасьці раўнакаштоўных істот, хаця і маючых рознае прызначэнне. Яны не чакаюць ад жанчыны мужчынскіх спосабаў і формаў ужывання сваёй адвагі, але яны ніколі не сумняюцца ў яе адвазе і калі яны лічаць, што чалавек і жонка не заўсёды павінны аднолькавым чынам ужываць свае разумовыя здольнасьці, то, прынамсі, яны лічаць, што жанчына валодае такой жа грунтоўнай здольнасьцю меркавання і такім жа добрым розумам, як і мужчына.

Такім чынам, амерыканцы, захоўваючы сацыяльную няроўнасць жанчын, усё ж, зрабілі ўсё магчымае, з мэтай маральна і інтэлектуальна падняць яе да ўзроўню мужчыны і тут, як мне здаецца, яны цудоўна ўлавілі сутнасць разумення дэмакратычнага прагрэсу.

Што асабіста да мяне, то я заяўляю без якіх бы то ні было ваганняў: хаця жанчына ў Злучаных Штатах ніколі не пакідае вузкага сямейнага кола і, хаця у ім яна ў некаторых дачыненнях выпрабоўвае моцную залежнасць, нідзе ў сьвеце, адпаведна з маімі ўяўленнямі, яна не мае такога ж высокага становішча. І зараз, калі я заканчваю гэтую кнігу, у якой паспрабаваў апісаць вельмі значныя дасягненні амерыканцаў, мяне запытаюць, што я лічу галоўнай нагодай незвычайнага росквіту і павелічэння магутнасьці гэтага народа, я б адказаў, што бачу яе ў надзвычай высокім становішчы амерыканскіх жанчын.

# Глава XIII

## Якім чынам роўнасць прыводзіць амерыканцаў да натуральнага падзелу на вялікую шматлікасць дробных прыватных колаў камунікавання

Можна было б выказаць здагадку, што канчатковым і непазбежным вынікам функцыянавання дэмакратычных інстытутаў павінна быць поўнае перамяшанне грамадзянаў як у прыватным, так і ў грамадзкім жыцці, вымушаючае іх весьці калектыўнае існаванне.

Падобнае тлумачэнне прыпісвае роўнасьці, народжанай дэмакратыяй, вельмі грубую і прама-такі тыранічную форму.

Не існуе такога грамадзкага ўладкавання і такіх законаў, якія былі б здольнымі зрабіць людзей настолькі аднолькавымі, каб адукацыя, матэрыяльнае становішча і густы ўжо не надавалі ім нейкага адрознення і калі розныя людзі могуць часам знаходзіць, што ў іхных зацікаўленасьцям адпавядае разам зрабіць нейкую адну справу, не варта лічыць, што яны калі-небудзь стануць дзейнічаць разам проста дзеля задавальнення. Таму людзі заўсёды будуць выслізгваць із рук заканадаўцы, што б ён ні распачынаў і, выбраўшыся таемна праз нейкую шчыліну із таго кола, у якое ён меў жаданне іх загнаць, яны створаць побач з вялізным дзяржаўным утварэннем маленькія прыватныя супольнасьці, аб’ядноўваючыя людзей згодна з падабенствам становішча, звычак і нораваў.

У Злучаных Штатах грамадзяне не маюць адзін перад адным нейкай перавагі; яны не павінны ні ўзаема падначальвацца, ні выяўляць знакаў павагі; яны разам здзяйсняюць правасуддзе і кіруюць дзяржавай, і ў цэлым яны ўсе

аб’ядноўваюцца, каб разглядаць пытанні, уплываючыя на іхны агульны лёс, але я ніколі не чуў, каб іх усіх заклікалі забаўляцца адным і тым жа спосабам ці весяліцца разам у адных і тых жа месцах.

Амерыканцы, з такой лёгкасьцю стасуючыяся паміж сабой падчас палітычных сходаў і судовых паседжанняў, наадварот, разбіваюцца на маленькія, адмежаваныя, старанна падабраныя кампаніі, каб цешыцца ў іх задавальненнямі прыватнага жыцця. Кожны амерыканец ахвотна прызнае ўсеагульную роўнасць грамадзянаў, але ў сваёй сядзібе ён будзе прымаць толькі вельмі невялікае кола сяброў і гасьцей.

Мне гэта ўяўляецца цалкам натуральным. Па меры таго як пашыраецца кола асоб бяручых удзел у грамадзкай дзейнасьці, сфера прыватных кантактаў звужаецца. Замест таго каб маляваць сабе выявы калектыўнага жыцця да якога прыйдуць грамадзяне новых грамадстваў, патрэбна асьцерагацца, на мой погляд, таго, што яны, нарэшце, будуць ствараць толькі вельмі маленькія згуртаванні.

У арыстакратычных народаў розныя станы ўяўляюць сабой нешта падобнае на вялізныя абгароджаныя тэрыторыі, із якіх немагчыма выйсьці і ў якія немагчыма патрапіць. Станы паміж сабой не маюць стасункаў, аднак усярэдзіне кожнага із іх людзі вымушаны, хочуць яны гэтага ці не, штодня кантактаваць. І нават тады, калі згодна са сваімі прыроднымі ўласьцівасцямі яны не падыходзяць адзін аднаму, усеагульная адпаведнасць, заснаваная на роўнасьці становішча, іх зблiжае.

Калі ж ні закон, ні звычай не ўсталёўваюць пастаянных, звыклых кантактаў паміж некаторымі людзьмі, справа вырашаецца выпадковым падабенствам поглядаў і схільнасьцей і гэта вядзе да стварэння незлічонай шматлікасьці прыватных супольнасьцей.

Пры дэмакратыі, грамадзяне якой ніколі моцна адзін ад аднаго не адрозніваюцца і калі яны натуральным чынам з’яўляюцца такімі блізкімі паміж сабой, што кожную хвіліну існуе магчымасць таго, што яны саб’юцца ў адну агульную масу, ствараецца шмат штучных і адвольных класіфікацыяй, з дапамогай якіх кожны спрабуе выбрацца ў бок із агульнага людзкога струменя, баючыся, што ён захопіць яго з сабой супраць яго волі.

І справа заўсёды будзе ісьці падобным чынам, таму што можна перамяніць створаныя людзьмі інстытуты, але не самога чалавека: якія б намаганні ўсё грамадства ні прыкладала да таго, каб зрабіць усіх грамадзянаў роўнымі і падобнымі паміж сабой, асабістая ганарыстасць кожнага індывіда заўсёды будзе спрабаваць пазбегнуць агульнага узроўню і недзе стварыць нейкую выгадную для сябе няроўнасць.

Пры арыстакратыі людзей падзяляюць высокія, нерухомыя перагародкі; пры дэмакратыі яны падзелены вялікай колькасьцю тонкіх, амаль нябачных нітак, якія кожны раз ірвуцца і няспынна пераносяцца з месца на месца.

Такім чынам, як бы блізка ні падышлі людзі да роўнасьці, у дэмакратычных народаў заўсёды будуць утварацца вельмі шматлікія маленькія прыватныя колы камунікавання ў сярэдзіне таго вялікага дзяржаўнага адзінства, якое і ўяўляе сабой грамадства. Але ніводнае із гэтых колаў сваімі манерамі не будзе нагадваць той вышэйшы стан, які пры арыстакратыі кіраваў дзяржавай.

# Глава XIV

## Некаторыя разважанні з нагоды амерыканскіх манер

На першы погляд няма нічога, што здавалася б менш важным, чым вонкавыя формы чалавечых паводзін і ўсё ж няма нічога, што шанавалася б людзьмі даражэй гэтых формаў; людзі прызвычваюцца да ўсяго, акрамя камунікавання з тымі асобамі, у якіх іншыя манеры. Пагэтаму ўплыў сацыяльна-палітычнага ўладкавання грамадства на паводзіны людзей і іхныя манеры патрэбна разглядаць з усёй сур’ёзнасьцю.

Манеры, кажучы ў агульным, нараджаюцца норавамі і, акрамя таго, часам яны з’яўляюцца вынікам адвольнага пагаднення паміж некаторымі асобамі. Яны ў роўнай меры з’яўляюцца як натуральнымі, так і саманабытымі ўласьцівасьцямі.

Калі людзі ўсьведамляюць, што іхная перавага не аспрэчваецца і не каштуе ім ніякіх намаганняў, калі штодня яны заняты ажыцьцяўленнем грандыёзных мэт, перадаючы іншым турботы пра прыватнасьці, калі яны аточаны той раскошай, якую яны не набывалі і якую не баяцца страціць, цалкам зразумела, што яны засвойваюць некаторую ганарлівую пагарду да дробных зацікаўленасьцей і матэрыяльных заклапочанасьцей жыцця і што іхным думкам уласьціва тая прыродная веліч, якая выяўляецца ў іхных выказваннях і манерах.

У дэмакратычных краінах у манерах людзей звычайна мала велічы, таму што зацікаўленасьці іхнага прыватнага жыцця вельмі абмежаваныя. Гэтыя манеры часта вульгарныя, таму што думкі людзей толькі зрэдку могуць падымацца вышэй хатніх заклапочанасьцей і абавязкаў.

Сапраўдная веліч манер складаецца ва ўменні заўсёды быць на сваім месцы, не прэтэндуючы на большае, але і не губляючы ўласнай годнасьці; гэтае ўменне цалкам даступна як рольніку, так і каранаванай асобе. У дэмакратычным грамадстве ніякае месца не ўяўляецца неаспрэчваемым і таму манеры грамадзянаў часта адрозніваюцца ганарлівасьцю, але рэдка – сапраўднай годнасьцю. Акрамя таго, іхны этыкет не мае вызначаных, добра прадуманых правіл.

Насельніцтва дэмакратычных краін занадта мабільнае для таго, каб некаторае зруртаванне асоб мела магчымасць выпрацаваць збор нормаў добрага тону і дамагчыся таго, каб яны выконваліся. Таму кожны чалавек паводзіць сябе ў большай ці меншай ступені па-свойму і ў грамадстве пануе некаторая непасьлядоўнасць правіл паводзін, таму што гэтыя правілы і манеры ўзгадняюцца з індывідуальнымі пачуццямі і ідэямі кожнага чалавека больш чым з ідэальнай нормай, загадзя прапанаванай усім для пераймання.

Ва ўсякім разе гэта больш заўважаецца тады, калі ўлада арыстакратыі скасавана толькі што, а не тады, калі яна ўжо даўным-даўно знішчана.

Новыя палітычныя інстытуты і новыя звычаі збіраюць разам, а часта вымушаюць і жыць разам людзей, атрымаўшых вельмі рознае выхаванне і адукацыю і ўсё яшчэ захоўваючых несумяшчальныя звычкі. Гэта ўвесь час стварае надзвычайную стракатасць манер. Людзі яшчэ захоўваюць памяць пра тое, што некалі існаваў збор некаторых правіл добрага тону, але яны ўжо больш не ведаюць, што ў ім утрымліваецца і дзе можна яго знайсьці. Людзі страцілі агульнае ўяўленне пра правілы добрага тону, але яшчэ не цалкам адважыліся наогул абыходзіцца без іх. Наадварот, із парэшткаў старых правіл кожны спрабуе стварыць нейкую адвольную і пераменлівую норму паводзін і, такім чынам, іхныя манеры пазбаўлены як рэгламентаванасьці так і велічнасьці, якія часта можна назіраць у паводзінах арыстакратычных народаў, прастаты і вольнасьці, часта выяўляемых грамадзянамі дэмакратычнага грамадства. Іхныя манеры адначасова ўяўляюцца як нязграбна сціснутымі, так і нецырымоннымі.

Падобнае становішча не з’яўляецца нармальным.

Калі роўнасць дасягае вызначанай поўнасьці і гістарычнай сталасьці, усе людзі пачынаюць думаць прыкладна аднолькава, займаючыся прыкладна аднымі і тымі ж справамі. Ім таму няма ніякай патрэбы дамаўляцца ці капіяваць адзін аднаго для таго, каб рабіць і выказвацца прыблізна падобным чынам. У іхных манерах мы няспынна заўважаем шмат дробных неадпаведнасьцей, але не бачым істотных адрозненняў. Падабенства паміж імі ніколі не дасягае абсалюту, таму што ў іх няма адзінай мадэлі, але і адрозненні паміж імі не бываюць поўнымі, таму што яны знаходзяцца ў адных і тых жа ўмовах. Засноўваючыся па першым ураханні, можна было б сказаць, што ва ўсіх амерыканцаў цалкам аднолькавыя манеры і толькі вельмі пільнае вывучэнне дазваляе заўважыць тыя нюансы, якія вызначаюць своеасаблівасьці манер кожнага із іх.

Ангельцаў вельмі забаўляюць манеры амерыканцаў і дзіўна тое, што аўтары падобных гумарыстычных апісанняў самі большай часткай належаць да тых сярэдніх станаў, да якіх гэтыя апісанні цалкам дастасоўваюцца. Такім чынам, гэтыя бязлітасныя крытыкі самі, звычайна, выступаюць носьбітамі ўсяго таго, што яны ганяць у Злучаных Штатах. Яны не разумеюць, што смяюцца над самімі сабой, да вялікай радасьці арыстакратаў іхнай уласнай краіны.

Нішто так не шкодзіць дэмакратыі, як вонкавыя формы праяўлення яе нораваў. Шмат хто із людзей ахвотна замірыліся б з яе заганамі, але не могуць пераносіць уласьцівых ёй манер.

І ўсё ж, я не пагаджуся з тым, што ў манерах дэмакратычных народаў няма нічога годнага ўхвалення.

У арыстакратычных нацый усе людзі, маючыя стасункі з прадстаўнікамі пануючага стана, звычайна, што моцы імкнуцца быць падобнымі на іх, што мае наступствам вельмі смешную і вельмі плоскую пераймальнасць. Калі дэмакратычныя народы і не маюць у сябе высокіх узораў добрых манер, яны, прынамсі, пазбаўлены ад патрэбы штодня бачыць іхныя дрэнныя копіі.

У дэмакратычным грамадстве манеры ніколі не бываюць такімі ж вытанчанымі, як манеры ўласьцівыя арыстакратычным народам, але пры гэтым яны ніколі не бываюць такімі ж грубымі. Вы не пачуеце ні лаянкавых слоў чарналюду, ні шляхетных, рафінаваных выказваннаў вяльможаў. Дэмакратычныя норавы часта адзначаны пошласьцю, але не грубіянствам ці ганебнасьцю.

Я ўжо выказваўся пра тое, што пры дэмакратыі не можа ўтварыцца колькі-небудзь рэчаісны збор строгіх правіл добрага тону. Гэта мае як свае нязручнасьці, так і свае перавагі. У арыстакратыях нормы прыстойнасьці надаюць кожнаму аднолькавае аблічча, нягледзячы на адрозненне іхных схільнасьцей. Гэтыя нормы прыхарошваюць і хаваюць прыроджаны характар. Манеры дэмакратычных народаў не адрозніваюцца падобнай прадуманасьцю і спарадкаванасьцю, але яны часта больш шчырыя. Яны ўяўляюць сабой як бы лёгкі, няшчыльна вытканы вэлюм, праз які лёгка праглядаюцца сапраўдныя пачуцці і асабістыя думкі кожнага чалавека. Таму тут форма і змест чалавечых учынкаў часта выступаюць цесна ўзаемазлучанымі і шырокая выява чалавецтва, магчыма, выглядае менш дэкараванай, затое больш праўдзівай. У пэўным сэнсе можна сказаць, што дэмакратыя не толькі не прыводзіць да фармавання некаторых манер, але і, наадварот, перашкаджае выпрацоўцы якіх бы то ні было манер.

У дэмакратычнай супольнасьці часам можна выявіць праяўленні арыстакратычных пачуццяў, жарсьцяў, учыннасьцей і заган, але не

арыстакратычных манер. Яны сціраюцца і знікаюць беззваротна, калі дэмакратычная рэвалюцыя завяршаецца.

Здаецца, што няма нічога больш даўгавечнага чым арыстакратычная пачцівасць, таму што яна захоўвае яе яшчэ на працягу некаторага часу пасьля таго, як арыстакратыя губляе сваё маёмаснае становішча і сваю ўладу; але таксама здаецца, што няма нічога больш мімалётнага гэтай пачцівасьці, таму што, як толькі яна адмірае, ад яе не застаецца і сьледу, так што нават цяжка сказаць, якой яна была. Замена сацыяльнага ўладкавання грамадства надае гэтае цудоўнае пераўтварэнне, для якога дастаткова жыцця ўсяго некалькіх пакаленняў.

Асноўныя рысы і асаблівасьці арыстакратыі застаюцца захаваўшыміся ў гісторыі пасьля яе знішчэння, але далікатныя, лёгкія формы яе нораваў і манер знікаюць із памяці людзей амаль адразу ж пасьля яе скасавання. Ніхто не можа ўявіць іх сабе, не пабачыўшы іх на ўласныя вочы. Іх знікненне не заўважаецца і не адчуваецца. Дзякуючы таму што для таго, каб выпрабаваць тое вытанчанае задавальненне, якое дастаўляюць шляхетнасць і вытанчанасць манер, патрэбна, каб чалавек быў падрыхтаваны да гэтага звычаем і выхаваннем; як толькі яны выходзяць із ужывання, густ да іх з лёгкасьцю губляецца.

Такім чынам, дэмакратычныя народы не толькі не могуць мець арыстакратычных манер, але і, не ўяўляючы іх сабе, не жадаюць іх мець. Дзякуючы таму што яны не адпавядаюць іхным уяўленням, то для іх яны як бы ніколі і не існавалі.

Падобнай страце немагчыма надаваць занадта вялікае значэнне, але можна адчуваць праз яе пачуццё шкадавання.

Мне вядома, што нярэдка адны і тыя ж людзі, валодаючы вельмі выхаванымі манерамі, вызначаліся надзвычайнай грубасьцю пачуццяў: прыдворнае жыццё вельмі пераканаўча даводзіць, што пад вонкавай веліччу часта хаваюцца вельмі нізінныя сэрцы. Але калі арыстакратызм манер і не мог нараджаць учыннасьці, то часам ён упрыгожваў саму ўчыннасць. Назіранне за шматлікім і магутным станам было вельмі не звычайным гледзішчам, у якім усе вонкавыя праявы жыцця, здавалася, штохвілінна выяўлялі прыродную ўзвышаннасць пачуццяў і думак, тонкі і правільны густ, пачцівасць манер.

Арыстакратызм манер стварыў прыгожыя ілюзіі адносна прыроды чалавека, і, хаця выява часта была ілжывай, гледачам яна дастаўляла высокае задавальненне.

# Глава XV

## Пра тое, наколькі сталымі з'яўляюцца амерыканцы і дзякуючы чаму гэта часта не перашкаджае ім рабіць неабдуманыя ўчынкі

Людзі, жывучыя ў дэмакратычных краінах, не шануюць тых наіўных, грубых і шумных забаваў, якім аддаецца просты люд арыстакратычных дзяржаў; яны лічаць іх дзяцячасьцю ці дурасьцю. Але не большую схільнасць яны выяўляюць і да інтэлектуальных, вытанчаных забаў арыстакратычных станаў; ім неабходны карысныя, грунтоўныя задавальненні і ім пажадана, каб у самой іх радасьці было нешта прыносячае прыбытак.

У арыстакратычных грамадствах народ ахвотна аддаецца парывам бурнай, шумнай весялосьці, якая адразу вымушае іх забывацца пра свае няшчасьці; жыхары

дэмакратычных краін не паважаюць такое апантанае самазабыццё і заўсёды адчуваюць шкадаванне, калі губляюць над сабой кантроль. Парывам фрывольнай весялосьці яны аддаюць перавагу сталым, нешматслоўным забавам, да якіх яны падыходзяць па-дзелавому, не забываючы пры гэтым і пра свае справы.

Існуюць такія амерыканцы, якія замест таго, каб выправіцца ў грамадзкія месцы і весела там скакаць у гадзіны вольнага часу, як гэта працягваюць рабіць іхныя калегі ў большасьці краін Яўропы, застаюцца адны ў сьценах сваёй сядзібы, каб выпіць. Такія людзі адразу адчуваюць падвойную радасць: яны абдумваюць свае справы і прыстойна п’янеюць каля хатняга агменю.

Раней самым пастаянным народам на зямлі я лічыў ангельцаў, але, пабачыўшы амерыканцаў, я перамяніў сваю думку.

Я не збіраюся сцвярджаць, што характар жыхароў Злучаных Штатаў не вызначаецца ў значнай меры іхным тэмпераментам. І ўсё ж, я лічу, што палітычныя інстытуты робяць на іх яшчэ большы ўплыў.

Я лічу, што сталасць амерыканцаў часткова спараджаецца іхным гонарам. У дэмакратычных краінах нават бядняк мае высокае ўяўленне пра сваю асабістую вартасць. Ён ахвотна разважае пра самога сябе, лічачы, што іншыя звяртаюць на яго ўвагу. Падобны настрой думак вымушае яго старанна сачыць за сваімі словамі і ўчынкамі і трымаць сябе замкнёна, каб не выяўляць сваіх недахопаў. Яму ўяўляецца, што, калі ён жадае выглядаць годным павагі, яму патрэбна захоўваць пастаянны і сур’ёзны выгляд.

Я, аднак, бачу іншую, больш глыбокую і моцную нагоду, натуральным чынам спараджаючую ў амерыканцаў тую сур’ёзную сталасць, якая мяне здзіўляе. Пры дэспатызме народ час ад часу захапляюць парывы буянай весялосьці, але ў цэлым ён пануры і стрыманы, таму што жыве ў баязні.

Пры абсалютнай манархіі, памякчанай традыцыямі і маральнымі ўстанаўленнямі, часта можна сустрэць спакойных, жыццярадасных асоб, таму што, маючы некаторую волю і дастатковую гарантыю бяспекі, людзі не абцяжараны самымі важнымі праблемамі чалавечага існавання. Усе вольныя ж народы глыбакадумна сур’ёзныя, таму што іхныя галовы звычайна заняты абдумваннем нейкіх рызыкоўных ці цяжкавыконваемых задумаў.

Асабліва гэта ўласьціва для тых вольных народаў, якія стварылі дэмакратычныя формы дзяржаўнага кіравання. У гэтым выпадку ва ўсіх станах дадзенага грамадства сустракаецца немалая колькасць людзей, увесь час заклапочаных сур’ёзнымі дзяржаўнымі справамі, а тыя із грамадзянаў, каго не цікавіць ідэя асабістага ўдзелу ў лёсах краіны, цалкам паглынуты турботамі пра павелічэнне сваёй прыватнай уласнасьці. У такога народа сур’ёзнасць не з’яўляецца больш спецыфічнай асаблівасьцю склада прыватных індывідаў, яна робіцца рысай нацыянальнага характару.

Кажуць, што ў невялікіх дэмакратычных дзяржавах антычнага сьвету грамадзяне з’яўляліся ў грамадзкіх месцах упрыгожанымі вянкамі із руж, што яны амаль увесь свой час марнавалі на скокі і тэатральныя гледзішчы. У існаванне падобных рэспублік я веру не больш, чым у існаванне дзяржавы Платона; і калі сапраўды там усё адбывалася так, як пра гэта распавядаюць, я бяру на сябе адвагу сцвярджаць, што гэтыя так званыя «дэмакратыі» былі створаны із цалкам іншага матэрыялу, чым нашы, і што паміж імі няма нічога агульнага, акрамя назвы.

Не варта, дарэчы, думаць, што людзі, жывучыя ў дэмакратычным грамадстве і вымушаныя шмат працаваць, лічаць, што яны заслугоўваюць спагады: якраз

наадварот. На сьвеце няма людзей, больш прыхільных да свайго ладу жыцця. Калі б іх вызвалілі ад клопатаў, дастаўляючых ім турботы, яны выявілі б, што іхнае жыццё стала прэсным і таму яны адчуваюць больш глыбокую прыхільнасць да сваіх клопатаў, чым арыстакратыя – да сваіх асалод.

Зараз я задаюся пытаннем, дзякуючы чаму тыя ж самыя дэмакратычныя народы, якім уласьцівы такі сур’ёзны склад розуму, паводзяць сябе часам так легкадумна і неабдумана?

Амерыканцы, амаль заўсёды захоўваючыя сталасць манер і халоднасць у стасунках, усё ж, часта выяўляюцца пад уладай нейкага раптоўнага запалу ці ж неабдуманага меркавання, выходзячых далёка за межы разумнага, пад уплывам якіх яны з самым сур’ёзным выглядам здзяйсняюць неймаверныя вар’яцтвы.

Гэта супярэчнасць не павінна здзіўляць.

Крайняя ступень галоснасьці спараджае адмысловае невуцтва. У дэспатычных дзяржавах людзі не ведаюць, што рабіць, таму што ім нічога не паведамляюць. Людзі, жывучыя ва ўмовах дэмакратыі, часта дзейнічаюць наўздагад таму, што ім паведамляюць усё. Першыя нічога не ведаюць, другія пра ўсё забываюцца. Яны не ўспрымаюць асноўных ліній выявы таму, што іхная увага раскідана па вялікай шматлікасьці дробных дэталяў.

У вольных і асабліва ў дэмакратычных дзяржавах усе тыя неабдуманыя выказванні, якія часам дазваляюць сабе грамадзкія дзеячы, як гэта ні дзіўна, не шкодзяць іхнай рэпутацыі, тады як у абсалютных манархіях дастаткова некалькіх выпадкова сарваўшыхся слоў, каб чалавек назаўсёды страціў аўтарытэт і загубіў кар’еру.

Гэта тлумачыцца тым, што ўжо было павядомлена вышэй. Калі чалавек нешта выказвае, знаходзячыся ў людным шумным натоўпе, шмат якія із яго слоў застаюцца непачутымі ці адразу ж вылятаюць із памяці яго слухачоў. Наадварот, сярод маўклівай нерухомай масы народа, у пануючай навакол цішыні вуха ловіць самы лёгкі шэпт.

У дэмакратычных грамадствах людзі заўсёды рухомыя; тысячы выпадковасьцей няспынна вымушаюць іх перамяняць ўладкаванне жыцця, якое заўсёды падпадае пад нешта няпэўна-неспадзяванае і нечаканае. У гэтай сувязі яны часта вымушаны займацца тым, што дрэнна ўмеюць рабіць; і выказвацца пра тое, у чым наўрад ці разбіраюцца; і хапацца за тую працу, якой яны не былі навучаны на працягу працяглага перыяду навучання.

У арыстакратычных дзяржавах кожны мае толькі адну мэту, якую ён увесь час імкнецца дасягнуць. У дэмакратычным грамадстве жыццё больш складанае і заблытанае: рэдка бывае так, што адзін і той жа чалавек не імкнецца да дасягнення шмат якіх мэт адначасова і мэты гэтыя часта вельмі далёкія адна ад адной. І дзякуючы таму што ён не можа добра ведаць усе аб’екты сваіх жаданняў, чалавек лёгка задавальняецца не цалкам дакладнымі ўяўленнямі пра іх.

Нават у тым выпадку, калі жыхар дэмакратычнай краіны не адчувае пазбаўленняў, яго жаданні ўсё адно вымушаюць яго дзейнічаць, таму што, аточаны з усіх бакоў матэрыяльнымі дабротамі, ён не бачыць сярод іх нічога такога, што было б для яго абсалютна недаступным. Таму ён усё робіць спехам, задавальняецца не цалкам тым, што жадаў і для абдумвання кожнага свайго дзеяння спыняецца толькі на імгненне.

Яго дапытлівасць не мае мяжы, але ў той жа самы час гэтую дапытлівасць вельмі проста задаволіць, таму што ён сам унутрана схільны пазнаць хутчэй як мага больш, чым глыбока вывучаць няшмат што.

Ён не мае часу і хутка страчвае жаданне ў нешта глыбока паглыбляцца.

Такім чынам, мышленне дэмакратычных народаў адзначана сур'ёзнасьцю таму, што сацыяльна-палітычныя ўмовы іх існавання ўвесь час вымушаюць іх займацца сур'ёзнымі справамі, а робяць неабдуманыя ўчынкі яны таму, што мала часу і ўвагі надаюць кожнай із гэтых спраў.

Пастаянны недахоп ўвагі патрэбна лічыць самай галоўнай заганай дэмакратыі.

# Глава XVI

## Дзякуючы чаму нацыянальная ганарыстасць у амерыканцаў носіць больш неспакойны і звадлівы характар, чым у ангельцаў

Усе вольныя народы ганарацца сабой, аднак нацыянальная ганарыстасць выяўляецца ў іх па-рознаму.

У сваіх стасунках з замежнікамі амерыканцы выяўляюцца непераносячымі якую б то ні было крытыку і ўвесь час прагнучымі ухваленняў. Ім падабаюцца самыя сьціплыя выказванні ўхвалы, але іх рэдка цалкам задавальняюць нават самыя нястрыманыя ўсхваленні; яны неадступна пераследуюць вас сваімі чаканнямі ўхвал і, калі вы не саступаеце іхным настойлівым прашэнням, яны пачынаюць хваліць сябе самі. Нібы-та сумняваючыся ў сваіх уласных вартасьцях, яны прагнуць увесь час мець перад вачамі іхныя выявы. Іхная ганарыстасць адзначана не толькі прагнасьцю, але таксама турботлівасьцю і зайздрослівасьцю. Увесь час патрабуючы ўсё, яно нічога не дае наўзамен. Яно сварліва вымольвае падачкі.

Я кажу каму-небудзь із амерыканцаў, што ён жыве ў выдатнай краіне і ён адказвае: «Праўда, на сьвеце няма іншай такой краіны!». Я выказваю захапленне той вольнасьцю, якой карыстаюцца грамадзяне яго краіны, і ён адказвае: «Вольнасць – гэта каштоўны дарунак! Але мала хто із народаў годны ім карыстацца». Я адзначаю чысьціню нораваў, пануючую ў Злучаных Штатах, а ён кажа: «Я лічу, што замежнік, вока якога прызвычаілася да той сапсаванасьці, якая назіраецца ў асяроддзі ўсіх іншых народаў, павінен быць узрушаны сузіраннем падобнай чысьціні». Нарэшце, я даю яму магчымасць разважаць на гэтую тэму ў адзіноце, але ён зноў бярэцца за мяне і не пакідае ў спакоі да таго часу, пакуль не вымусіць паўтарыць усё тое, што я ўжо казаў. Цяжка ўявіць сабе больш дакучлівае і больш шматслоўнае праяўленне патрыятызму. Яно стамляе нават тых, хто ставіцца да яго з павагай[335].

Іншая справа – ангелец. Ён спакойна цешыцца тымі сапраўднымі ці ж уяўнымі перавагамі, якімі, на яго погляд, валодае яго краіна. Нічколькі не хвалячы іншыя народы, ён нічога ад іх не патрабуе для свайго народа. Яго нічколькі не хвалююць як іхныя ганьбаванні, так і іхныя ўхвалы. Перад тварам усяго сьвету ён

[335] (*335 заўвага аўтара пасьля заканчэння кнігі II)

захоўвае стрыманасць, поўную грэбавання і нежаданне яго ведаць наогул. Яго ганарыстасць не мае патрэбы ў падмацаванні, таму што сілкуе сама сябе.

Дзіўна, што два народы, якія толькі нядаўна аддзяліліся ад аднаго падмурка, такія процілеглыя адзін аднаму адпаведна з манерай адчуваць і выказвацца.

У арыстакратычных краінах вяльможы валодаюць вялізнымі прывілеямі, на якіх спачывае іхная ганарыстасць і не імкнуцца карыстацца перавагамі, якія выцякаюць із гэтых прывілеяў. Гэтыя прывілеі дастаюцца ім па спадчыне і яны ў вызначанай меры разглядаюць іх як частку саміх сябе ці, сама меней, як натуральна, асабіста ім належачае права. Таму іхнае пачуццё ўласнай перавагі пазначана некаторай ціхамірнасьцю; ім і ў галаву не прыходзіць выхваляцца сваімі прэрагатывамі, якія відавочны кожнаму і якія нікім не аспрэчваюцца. Іхнае становішча з’яўляецца такім натуральным, што не патрабуе ніякіх выказванняў. Аточаныя арэолам сваёй самотнай велічы, яны захоўваюць нерухомасць, упэўненыя ў тым, што бачны адусюль без якіх бы то ні было намаганняў са свайго боку паказаць сябе ўсяму сьвету і ў тым, што ніхто не спрабуе прымусіць іх пакінуць сваё месца.

Калі грамадзкія справы знаходзяцца ў веданні арыстакратыі, нацыянальны гонар натуральным чынам набывае форму стрыманага, абыякавага да ўсяго напышлівага пачуцця, праявы якога запазычваюць усе астатнія станы нацыі.

Наадварот, калі сацыяльныя адрозненні з’яўляюцца вельмі нязначнымі, самыя нікчэмныя перавагі набываюць вялікае значэнне. Дзякуючы таму што кожны бачыць вакол сябе шмат людзей, ахопленых падобнымі ці аналагічнымі імкненнямі, яго пачуццё уласнай вартасьці робіцца патрабавальным і раўнівым. Яно чапляецца за нікчэмныя цацкі і ўпарта іх абараняе.

Пры дэмакратыі, калі маёмаснае становішча грамадзянаў вельмі няўстойлівае, людзі амаль заўсёды валодаюць толькі нядаўна здабытымі перавагамі. Менавіта таму дэманстрацыя гэтых пераваг дастаўляе ім бязмежнае задавальненне, пераконваючы іх і атачаючых у тым, што яны сапраўды цешацца гэтымі перавагамі. А дзякуючы таму што ў кожны момант яны могуць іх згубіць, яны адчуваюць няспыннае пачуццё трывогі і вымушаюць сябе паказваць усім, што яны іх яшчэ захоўваюць. Людзі, жывучыя ў дэмакратычным грамадстве, паважаюць сваю краіну так жа, як паважаюць саміх сябе, пераносячы формы асабістай ганарыстасьці на пачуццё нацыянальнага гонару.

Гэтая неспакойная, неспаталяемая ганарыстасць дэмакратычных народаў цалкам абумоўлена роўнасьцю і няўстойлівасцю ўмоваў існавання, таму што нават прадстаўнікі самай радавітай часткі арыстакратыі часам выяўляюць тыя ж самыя жарсьці, калі нейкі із нязначных бакоў іхнага існавання прыходзіць у некаторую няўстойлівасць і аспрэчваецца.

Стан арыстакратыі заўсёды рэзка адрозніваецца ад іншых станаў маштабамі і непахіснасьцю прывілей, аднак шмат хто із яго прадстаўнікоў амаль нічым не адрозніваюцца адзін ад аднаго, не лічачы эфемерных пераваг, якія штодня могуць ці губляцца ці набывацца.

Вядома, што прадстаўнікі магутнай арыстакратый, сабраўшыся ў сталіцы ці пры двары, з азвярэннем аспрэчвалі паміж сабой пустыя прывілеі, залежачыя ад капрызаў моды ці прымхаў валадара. У гэтым выпадку яны выяўлялі ў дачыненні адзін да аднаго тую ж самую дзіцячую зайздрослівасць, якая кіруе людзьмі пры дэмакратыі, падобнае ж раўнівае жаданне завалодаць самымі нязначнымі выгодамі,

аспрэчваемымі роўнымі ім людзьмі і аналагічную патрэбу выстаўляць на ўсеагульны агляд тыя перавагі, якімі яны карыстаюцца.

Калі б прыдворным калі-небудзь прыйшла ў галаву думка пра пачуццё нацыянальнага гонару, я не сумняваюся, што яно выявілася б у іх у формах, цалкам аналагічных тым, у якіх выяўляецца патрыятызм дэмакратычных народаў.

# Глава XVII

## Дзякуючы чаму грамадзкае жыццё у Злучаных Штатах выглядае адначасова бурным і аднастайным

Нішто, здавалася б, не ў стане выклікаць і падтрымліваць такую вострую зацікаўленасць, як вонкавыя праявы жыцця ў Злучаных Штатах. Матэрыяльнае становішча людзей, ідэі, законы тут няспынна перамяняюцца. Кажуць, што сама нерухомая прырода прыходзіць тут у рух – настолькі адчувальна яна штодня пераўтвараецца пад уздзеяннем намаганняў чалавечых рук.

І ўсё ж, такое бурлівае грамадства, калі яго доўга назіраць, пачынае здавацца аднастайным і глядач, які сузірае гэту жывую выяву, адчувае нуду.

У арыстакратычных народаў кожнаму чалавеку прыблізна прызначана свая сфера камунікавання, самі ж людзі, аднак, цалкам не падобныя адзін на аднаго: іхныя пачуцці, думкі, звычкі і густы карэнна адрозніваюцца. Нішто не рухаецца, але ўсё рознае.

У дэмакратычных грамадствах, наадварот, усе людзі падобныя адзін на аднаго і яны прыкладна робяць аднолькавыя ўчынкі. Яны выпрабоўваюць, гэта правільна, пастаянную суровую гульню выпадку; але, дзякуючы таму што іхныя ўзлёты і падзенні няспынна паўтараюцца, п’еса застаецца адной і той жа, перамяняюцца толькі імёны актораў. Вонкавы выгляд амерыканскага грамадства бачыцца ажыўленым дзякуючы таму што людзі і акалічнасьці тут увесь час перамяняюцца; але гэты выгляд аднастайны, таму што перамяняюцца яны ўсе на адзін манер.

Людзі, жывучыя ў дэмакратычныя часы, надзелены шматлікімі жарсьцямі, але яны большай часткай зводзяцца да імкнення да багацця ці ж паходзяць із яго. Гэта адбываецца не таму, што іхныя душы больш чэрствыя, але таму, што ў такія часы значэнне грошай сапраўды павялічваецца.

Калі ўсе грамадзяне з’яўляюцца незалежнымі і абыякавымі адзін да аднаго, кожны із іх можа атрымаць чыю-небудзь дапамогу, толькі ў тым выпадку калі аплоціць яе. Гэта да бясконцасьці пашырае сферы выкарыстання багацця і павялічвае яго каштоўнасць.

Дзякуючы таму што прэстыж, злучаны са старымі разуменнямі, знік, людзі больш не адрозніваюцца ці амаль не адрозніваюцца адпаведна са сваім паходжаннем, становішчам, прафесіяй. Наўрад ці застаецца нешта такое, акрамя грошай, што можа адразу вылучыць чалавека із масы і падняць некаторых людзей над агульным узроўнем. Адрозненні, грунтуючыяся на багацці, павялічваюцца па меры таго, як памяншаюцца і знікаюць усе астатнія.

У арыстакратычных народаў грошы забяспечваюць задавальненне толькі нязначнай колькасьці жаданняў із усяго іхнага шырокага спектру; пры дэмакратыі здаецца, што яны робяць даступнымі ўсе жаданні.

Таму звычайна выяўляецца, што асноўным ці дадатковым матывам, знаходзячымся ў падмурку паводзін амерыканцаў, з’яўляецца павага да багацця. Гэта надае ўсім іхным пачуццям рысы радавога падабенства і хутка робіць выяву іхнага жыцця стомляючай для назіральніка.

Гэтае вечнае паўтарэнне аднаго і таго ж запалу робіцца манатонным, роўна як і аднастайныя пэўныя прыёмы, якімі карыстаюцца дзеля задавальнення гэтага запалу

У такім заканадаўча ўсталяваным, мірным дэмакратычным грамадстве, якім з’яўляюцца Злучаныя Штаты, дзе чалавек не мае магчымасьці абагаціцца ні на вайне, ні на дзяржаўнай службе, ні з дапамогай палітычных канфіскацый, павага да багацця галоўным чынам падахвочвае людзей да заняткаў прамысловасьцю. А ў прамысловасьці ж, хаця яна часта прыводзіць да моцнага замяшання жарсьцяў і да вялікіх няшчасьцяў, немагчыма, усё ж, атрымаць поспех інакш, акрамя як авалодаўшы надзвычай спарадкаванымі навыкамі, цэлым комплексам дробных, аднастайных аперацый. Чым мацней запал у душы чалавека, тым больш рэгламентаванай з’яўляецца выява яго жыцця і тым больш аднастайнымі выяўляюцца яго рухі і ўчынкі. Можна сказаць, што сама палкасць жаданняў робіць амерыканцаў такімі акуратнымі, размеранымі людзьмі. Запал хвалюе іхныя душы, але ўпарадкоўвае іхнае жыццё.

Тое, што я кажу пра амерыканцаў, дастасоўваецца амаль да ўсіх астатніх людзей нашага часу. Людзкі род страчвае разнастайнасць; ва ўсіх кутках зямнога шара выяўляецца адзін і той жа чын дзеянняў, думак і пачуццяў. Гэта адбываецца не толькі таму, што ўсе народы пачалі больш стасавацца і больш прыпадабняцца адзін аднаму, але яшчэ і таму, што ў кожнай краіне людзі ўсё больш і больш пасьлядоўна адмаўляючыся ад тых адмысловых уяўленняў і пачуццяў, якія былі злучаны з іхнай каставай, прафесійнай ці сямейнай прыналежнасьцю, адначасова набліжаюцца да натуральнага стану чалавечай прыроды, сутнасць якой паўсюдна аднолькавая. Такім чынам, яны робяцца падобнымі, хаця і не пераймаюць адзін ў аднаго. Яны падобны на вандраўнікоў, паасобку блукаючых па вялізнаму лесу, усе сьцяжынкі ў якім вядуць у адно і тое ж месца. Калі ўсе разам заўважаюць гэтую цэнтральную кропку, яны, хаця і не шукаюць, і не бачаць, і не ведаюць адзін аднаго, непрыкметна зближаюцца. І якім жа будзе іх здзіўленне, калі ўсе яны сустрэнуцца ў адным месцы. Усе тыя народы, якія ўзялі за аб’ект свайго вывучэння і пераймання не нейкую вызначаную асобу, а прыроду чалавека як такую, прыйдуць, у канчатковым выніку, да адных і тых жа нораваў, падобна тым падарожнікам, якія сабраліся на лясной паляне.

# Глава XVIII

## Пра разуменне гонару ў Злучаных Штатах і ў дэмакратычных грамадствах[336]

[336] Слова «гонар» у французскай мове не заўсёды ўжываецца ў адным і тым жа сэнсе. 1. Перадусім, яно азначае пашану, славу ці ж тую павагу, якімі чалавек карыстаецца сярод сваіх суграмадзянаў; менавіта ў гэтым сэнсе гаворыцца, што ён «ганараваны заслужаным ушанаваннем». 2. Слова «гонар» таксама азначае той кодэкс правіл, з дапамогай якіх можна заслужыць гэтыя славу, пашану і павагу. У гэтым выпадку гаворыцца, што «вось такі-та чалавек заўсёды строга выконвае правілы гонару» ці што ён «парушыў правілы гонару». У гэтай главе я заўсёды выкарыстоўваю слова «гонар» у гэтым апошнім сэнсе.

Людзі, відаць, фарміруючы грамадзкае меркаванне пра дзеянні сабе падобных, карыстаюцца двума цалкам рознымі крытэрамі іхнай ацэнкі: або яны ацэньваюць іх у адпаведнасьці з простымі, падзяляемымі людзьмі ўсёй зямлі ўяўленнямі пра справядлівасць і несправядлівасць, або разглядаюць іх у асьвятленні надзвычай спецыфічных разуменняў, якія склаліся толькі ў пэўнай краіне пад час вызначанай гістарычнай эпохі. Часта здараецца, што нормы гэтых патрабаванняў розныя, часам яны з'яўляюцца адваротнымі, але, ніколі не супадаючы ва ўсім, яны цалкам адзін аднаго не знішчаюць.

У часы сваёй найвышэйшай магутнасьці кодэкс гонару кіруе воляй людзей у большай меры, чым іхныя вераванні і, хаця, людзі яму без якіх бы то ні было ваганняў, пакорліва падначальваюцца, яны ўсероўна захоўваюць нейкае інстынктыўна-цьмянае, але моцнае адчуванне таго, што існуе таксама больш агульны, больш старажытны і больш сьвяты закон, якому яны часам не падначальваюцца, не перастаючы ўсё ж яго прызнаваць. Існавалі ўчынкі, якія ў адзін і той жа час лічыліся гераічнымі і ганебнымі. Адмова ад дуэлі часта расцэньвалася падобным чынам.

Я лічу, што такія з'явы тлумачацца інакш, чым просты капрыз вызначаных індывідаў ці вызначаных народаў, хаця гэта да гэтага часу менавіта так і тлумачылася.

Род людзкі адчувае пастаянныя агульныя патрэбы, нараджаючыя маральныя законы, невыкананне якіх усе людзі натуральным чынам паўсюдна і ва ўсе часы злучалі з ідэямі правіны і ганьбы. Выказванне «рабіць ганебныя ўчынкі» азначала ўхіленне ад гэтых законаў, «рабіць ухвальныя ўчынкі» – падначаленне ім.

Акрамя таго, у нетрах вялізнай чалавечай супольнасьці склаліся больш адасобленыя згуртаванні, набыўшыя назву «народы», а ў асяроддзі гэтых апошніх сфармаваліся іншыя, яшчэ больш драбныя супольнасьці, якія набылі назву «станы» ці «касты».

Кожная із гэтых супольнасьцей уяўляе сабой як бы некаторы асобнік, якія ў сваёй сукупнасьці складаюць чалавечы род і, хаця іхныя прадстаўнікі па сваёй сутнасьці не адрозніваюцца ад усіх іншых людзей, яны трымаюцца ад іх некалькі асабняком і адчуваюць шэраг патрэб, уласьцівых толькі ім. Менавіта гэтыя асобныя патрэбы ў некаторых краінах абумоўліваюць спецыфічнае ўспрыманне чалавечых учынкаў і злучаных з імі ацэнак.

Агульная і пастаянная зацікаўленасць роду людзкага патрабуе таго, каб людзі не забівалі адзін аднаго, аднак можа здарацца так, што прыватная, часовая зацікаўленасць нейкага народу ці стану ў некаторых выпадках не толькі апраўдвае, але нават ушаноўвае чалавеказабойства.

Кодэкс гонару з'яўляецца не чым іншым, як зборам гэтых прыватных правіл, абгрунтаваных вызначанай грамадзкай сітуацыяй, з дапамогай якіх дадзены народ ці стан ганіць ці ж узвышае сваіх прадстаўнікоў.

Няма нічога менш прадукцыйнага для розуму, чым абстрактная ідэя. Таму я спешна звяртаюся да фактаў. Прыклад патлумачыць маю думку.

Я выберу самую незвычайную канцэпцыю гонару із усіх калі-небудзь існаваўшых на сьвеце, якая ўсё ж вядома нам лепш усяго, – кодэкс арыстакратычнага гонару, народжаны ў нетрах феадальнага грамадства. Я патлумачу яго з дапамогай таго, што было павядомлена вышэй, а ён у сваю чаргу патлумачыць вышэйпавядомленае.

Я не збіраюся дасьледаваць тут, калі і якім чынам узнікла сярэднявечная арыстакратыя, чаму яна такой глыбокай прорвай была аддзелена ад астатняй часткі нацыі і што было падмуркам і замацоўвала яе ўладу. Я бяру яе як існуючую дадзенасць і спрабую зразумець, дзякуючы чаму яна большасць учынкаў людзей разглядала і ацэньвала да такой ступені адмыслова.

Перадусім мяне ўражвае тое, што ў феадальным сьвеце ўчынкі не ацэньваліся дадатна ці адмоўна грунтуючыся толькі на іхным унутраным змесце, а часам успрымаліся выключна з улікам таго, кім была дзейная асоба ці аб'ект уздзеяння; гэта супярэчыць разуменням агульналюдзкага сумлення. Некаторыя ўчынкі, такім чынам, цалкам даравальныя для прасталюдзіна, лічыліся ганебнымі для дваранскага гонару; ацэнка іншых учынкаў перамянялася ў залежнасьці ад таго, менавіта хто пакутаваў ад іх – прадстаўнік арыстакратыі ці ж чалавек не належаўшы да яе асяроддзя.

Калі падобнае адрозненне падыходаў толькі нараджалася, дваранства ўяўляла сабой арганізаваную групоўку, аддзеленую ад народа, над якім яно панавала, знаходзячыся на недасягаемай вышыні ўласнай перавагі, ва ўмовах якой яно і замкнулася на самым сабе. Каб захаваць сваё адмысловае становішча, складаўшае яго магутнасць, яно мела патрэбу не толькі ў палітычных прывілеях: яму таксама былі патрэбнымі свае адмысловыя ўяўленні пра ўчыннасьці і заганы.

Тое, што тыя ці іншыя ўчыннасьці ці заганы былі ў большай ступені ўласьцівыя шляхце, чым прасталюдзінам; што некаторыя ўчынкі ў дачыненні да вілана лічыліся нормай, але рабіліся караемымі, калі яны былі накіраваны супраць двараніна, насіла адвольны характар, але тое, што сумленнасць ці ганебнасць учынкаў чалавека ацэньвалася ў залежнасьці ад яго становішча, з'яўлялася ўжо вынікам самога ўладкавання арыстакратычнага грамадства. Гэта назіралася практычна ва ўсіх краінах, меўшых арыстакратыю. Пакуль у грамадстве захоўваецца хаця б адзін із арыстакратычных перажыткаў, гэтыя забабоны ў ім існуюць: спакушэнне чарнаскурай дзяўчыны наўрад ці сапсуе рэпутацыю амерыканца, адружанне з ёю лічыцца ганебным.

У некаторых выпадках феадальны гонар перадвызначае помсту, ганьбуючы таго, хто гатовы даравацць абразу; у некаторых выпадках ён загадна патрабуе, каб людзі стрымлівалі свае пачуцці, патрабуючы ад іх забывацца пра саміх сябе. У гэтым кодэксе гонару не было ніякага разумення ні пра людзкасць, ні пра дабрыню, але ў ім узвышалася шчодрасць; шыраня душы ў ім цанілася вышэй дабрачыннасьці, ён дазваляў людзям абагачацца з дапамогай азартных гульняў, на вайне, але толькі не працай; вялікія злачынствы ў ім лічыліся за лепшае, чым дробязныя махінацыі. Прагнасць лічылася менш агіднай, чым скупасць. У ім часта ўхваляўся гвалт, тады як хітрасць і здрада заўсёды асуджаліся з пагардай.

Падобныя дзіўныя ўяўленні не былі створаны выключна дзівацтвамі тых, хто ствараў гэтыя нормы.

Стан, у якога атрымліваецца стаць на чале кіравання, узвысіўшыся над усімі астатнімі і які ўвесь час прыкладае намаганні для таго, каб захаваць сваё панаванне, павінен асабліва паважаць тыя ўнутраныя якасьці, якія маюць непасрэднае дачыненне да велічы і славы і лёгка спалучаюцца з гонарам і ўладалюбствам. Гэты стан адважна ламаў усе натуральныя чалавечыя ўяўленні, каб паставіць пазначаныя духоўныя якасьці вышэй усіх астатніх. Напрошваецца думка, што яны ахвотна ўшаноўвалі асобныя віды дзёрзкіх, бліскучых заган вышэй мірнай

і сьціплай учыннасьці. Нейкім чынам падобныя погляды дадзенага стана былі вымушанымі, абумоўленымі яго становішчам.

Замест шмат якіх вартасьцей і вышэй іх усіх сярэднявечная шляхта ставіла ваярскую адвагу.

Падобнае спецыфічнае ўяўленне зноў-такі з непазбежнасцю абумоўлівалася своеасаблівасьцю сацыяльнага ўладкавання.

Феадальная арыстакратыя была створана вайной і для вайны; сваю ўладу яна знайшла і ўтрымлівала з дапамогай зброі. Таму для яе не было нічога больш важнага чым ваярскі гераізм і адвагу яна ставіла, натуральна, вышэй усіх астатніх вартасьцей. Такім чынам, усё тое, што служыла вонкавымі праявамі гэтай адвагі, нават на шкоду цьвярозаму розуму і людзкасьці, ухвалялася, а часта і перадвызначалася ёю. Фантазія прыватных людзей магла ўплываць толькі на дэталі гэтай сістэмы каштоўнасьцей.

Звычай, паводле якога чалавек, атрымалы ўдар па шчацэ, павінен быў лічыць сябе вельмі абражаным і абавязаным забіць на паядынку таго, хто нямоцна яго стукнуў, – гэты звычай быў створаны гульнёй выпадку, але правіла, адпаведна з якім дваранін не мог спакойна пераносіць абразу і лічыўся зганьбаваным, калі дазваляў стукнуць сябе без бою, вынікала із саміх прынцыпаў улады і патрэб вайсковай арыстакратыі.

Такім чынам, у пэўным сэнсе можна сцвярджаць, што законы гонару насілі выпадкова-адвольны характар, аднак іх адвольнасць заўсёды была абмежавана некаторымі патрэбнымі рамкамі. Гэты збор прыватных правіл, які нашы продкі называлі «кодэкс гонару», здаецца мне такім далёкім ад самаволі выпадковасьці, што я без цяжкасьцей змагу патлумачыць нават самыя непасьлядоўныя і дзіўныя із яго наказаў іхнай сувяззю з нешматлікімі пастаяннымі, нязменнымі патрэбнамі феадальнага грамадства.

Прасачыўшы дзеянне кодэкса феадальнага гонару ў вобласці палітыкі, я без асаблівых цяжкасьцей патлумачу яго дэмаршы.

Сацыяльнае ўладкаванне і палітычныя інстытуты сярэднявечных дзяржаў былі такімі, што цэнтральная ўлада ніколі непасрэдна не кіравала грамадзянамі. Можна сказаць, што ў іхных вачах гэтая ўлада цалкам як бы не існавала: кожны ведаў толькі вызначанага чалавека, якому быў абавязаны падначальвацца. Праз гэтага чалавека ён, не ўсведамляючы сітуацыі, быў злучаны з усімі астатнімі людзьмі. Такім чынам, усё ўладкаванне феадальнага грамадства трымалася на пачуцці вернасьці персоне вызначанага сеньёра. Калі гэтае пачуццё знікала, адразу ж наставала анархія.

Усе прадстаўнікі арыстакратыі, такім чынам, штодня адчувалі значэнне пачуцця вернасьці свайму палітычнаму правадыру, дзякуючы таму што кожны із іх быў адначасова і сеньёрам і васалам і павінен быў як кіраваць, так і падначальвацца.

Захоўваць вернасць свайму сеньёру, пры патрэбе ахвяраваць сабой дзеля яго, дзяліць з ім поспехі і няшчасьці, дапамагаць яму ў кожным яго пачынанні – такімі з’яўляюцца галоўныя патрабаванні кодэкса феадальнага гонару ў вобласьці палітыкі. Здрада васала асуджалася грамадзкай думкай з надзвычайнай суровасьцю. Яе называлі асобным ганебным словам – «падступства».

Наадварот, пад час сярэдневечча можна выявіць толькі нешматлікія сляды таго пачуцця, якое складала жыццё антычнага грамадства. Я маю на ўвазе патрыятызм. Само гэтае слова ў нашай мове з’явілася не так даўно[337].

Феадальныя інстытуты засланілі сабой бацькаўшчыну ад людзкіх позіркаў, зрабіўшы павагу да радзімы не такім абавязковым пачуццем. Выхоўваючы ў чалавеку жарснае пачуццё вернасьці пэўнаму чалавеку, яны вымушалі людзей забывацца пра нацыю. Таму ў феадальным кодэксе гонару ніколі не было строгага закона, патрабаваўшга ад чалавека венасьці сваёй краіне.

Гэта не азначае, што сэрцы нашых продкаў не адчувалі павагі да радзімы, аднак гэтая павага насіла характар інстынктыўнага, няпэўнага і слабога пачуцця, якое пачало ўсьведамляцца і ўзмацняцца па меры таго, як разбураліся станы і пачаўся працэс цэнтралізацыі ўлады.

Адрозненне выразна выяўляецца ў супярэчлівасьці тых меркаванняў, якія выносяцца народамі Яўропы з нагоды падзей уласнай гісторыі і выяўляюць светаўспрыманне пакаленняў, выказваючых гэтыя меркаванні. Канэтабль Бурбона ў вачах сваіх сучаснікаў зганьбіў сябе тым, што падняў зброю супраць свайго караля. З нашага ж боку гледжання, ён больш усяго зганьбіў сябе тым, што ваяваў супраць сваёй краіны. Мы так жа жарсна таўруем яго, як і нашы продкі, але грунтуючыся на іншых матывах.

З мэтай патлумачыць сваю думку я ўзяў кодэкс феадальнага гонару, таму што яго асаблівасьці найбольш рэльефныя і мы знаёмы з імі лепш, чым з усімі астатнімі бакамі той эпохі; але я мог бы ўзяць іншыя прыклады і прыйшоў бы да таго ж выніку іншым шляхам.

Хаця мы ведаем пра старажытных рымлянаў менш чым пра нашых продкаў, але мы ўсё ж ведаем, што на славу і ганьбу ў іх былі своеасаблівыя погляды, якія не былі непасрэдным вынікам усеагульных уяўленняў пра дабро і зло. Шмат якія із чалавечых учынкаў яны ацэньвалі па-рознаму, у залежнасьці ад таго, кім з’яўлялася здзейсніўшая іх асоба: ці быў гэта рымскі грамадзянін ці чужак, вольны чалавек ці ж раб. Яны ўслаўлялі асобныя заганы і некаторыя ўчыннасьці лічыліся ў іх вышэй усіх астатніх.

У той самы час, сцвярджае Плутарх у жыццяапісанні Карыялана, адвага ў Рыме шанавалася больш за усе іншыя вартасьці. Гэта падмацоўваецца тым, што адвагу пачалі зваць словам virtus, то бок словам, пазначаючым учыннасць наогул, маральную дасканаласць, ужываючы да адмысловага адгалінавання чалавечай годнасьці агульна-радавое імя. Дайшло да таго, што на-лаціне пра ўчыннасць пачалі выказвацца як пра мужнасць. Хто здольны не разгледзець у гэтым патрэбы унікальнай палітычнай супольнасьці, створанай з мэтай заваёвы сьвету?

Аналагічныя назіранні могуць быць зроблены ў дачыненні да кожнай нацыі, таму што, як я ўжо выказваўся, кожны раз, калі людзі збіраюцца ў адмысловую супольнасць, сярод іх адразу ж утвараецца разуменне гонару, то бок прыдатная для іх сукупнасць поглядаў і думак з нагоды таго, што патрэбна ўхваляць ці ганіць. Своеасаблівасць звычаяў і асобныя мэты супольнасьці заўсёды з’яўляюцца крыніцай пэўных правіл маральных паводзін.

У вызначанай меры гэта дастасоўваецца да дэмакратычнага грамадства, як і да ўсіх іншых. Мы выявім, што гэтыя назіранні падмацоўваюцца таксама жыццём амерыканцаў[338].

---

[337] Само слова «patrie» (бацькаўшчына) сустракаецца ў французскіх пісьменнікаў толькі пачынальна з XVI стагоддзя.

У амерыканцаў яшчэ сустракаюцца некаторыя разрозненыя ўяўленні, запазычаныя са старажытнага еўрапейскага кодэкса арыстакратычнага гонару. Гэтыя традыцыйныя погляды вельмі нешматлікія; яны не маюць глыбокіх каранёў і сур'ёзнага ўплыву. Гэтыя погляды падобны на рэлігійнае вучэнне, асобныя храмы якога дазволілі захаваць, але ў якія больш ніхто не ходзіць.

На фоне гэтых напалову сцёртых экзатычных разуменняў пра гонар з'явіліся новыя ўяўленні ў сукупнасьці складаючыя тое, што можна было б назваць сучасным амерыканскім «кодэксам гонару».

Я паказаў, якім чынам жыццё няспынна вымушае амерыканцаў займацца камерцыяй і прамысловасьцю. Іхнае паходжанне, грамадзкае ўладкаванне, палітычныя інстытуты, сама зямля, на якой яны жывуць, нястрымана вабяць іх у дадзеным накірунку. У наш час, такім чынам, яны ўяўляюць сабой амаль выключна прамыслова-гандлёвую супольнасць, насяляючую новую вялізную краіну, распрацоўка рэсурсаў якой з'яўляецца іхнай галоўнай мэтай. Гэта характэрная рыса асабліва адрознівае ў нашы дні амерыканскі народ ад усіх астатніх народаў.

Гэта азначае, усе тыя магчымыя вартасьці, якія здольны рэгуляваць жыццё грамадства і спрыяць гандлю, павінны асабліва шанавацца ў асяроддзі гэтага народа і людзі, грэбуючыя імі, не здолеюць пазбегнуць грамадзкага асуджэння.

Наадварот, усе тыя няўрымслівыя праявы гераізму, якія часта прыносяць грамадству славу, але яшчэ часьцей – хваляванні, павінны шанавацца менш згодна з думкай таго ж самага народа. Імі можна занядбаць, не губляючы павагу сваіх суграмадзянаў і, больш таго, чалавек, набываючы падобныя вартасьці, рызыкуе страціць гэтую павагу.

Не меншай своеасаблівасьцю пазначана і амерыканская класіфікацыя заган.

Існуюць некаторыя схільнасьці, асуджаемыя з боку гледжання цьвярозага розуму і ўсеагульных маральных уяўленняў чалавецтва, але адпавядаючыя пэўным, імгненным патрэбам амерыканскага грамадства і яно вельмі неахвотна іх ганіць, а часам нават ухваляе. Для прыкладу я прывёў бы іхную асаблівую павагу да грошай і злучаныя з гэтым, паходзячыя ад яе схільнасьці. Для таго каб узараць, акультурыць, пераўтварыць гэты вялізны маланаселены кантынент, які з'яўляецца іхным набыткам, амерыканцам патрэбна штодня знаходзіць унутранае апірышча ў выглядзе нейкага моцнага запалу. Такім запалам здольна служыць толькі смага абагачэння. Таму павага да грошай не толькі не асуджаецца ў Амерыцы, але і лічыцца годнай ушанавання ў выпадку, калі яна не пераходзіць усталяваную для яго грамадствам мяжу. Амерыканец называе шляхетным і годным ухвалы той самы запал, які нашы сярэднявечныя продкі лічылі годнай пагарды прагнасьцю. Са свайго боку ён назваў бы сляпой і варварскай лютасьцю тую смагу перамог і ваярскі запал, якія ўвесь час вялі іх усё ў новыя і новыя бітвы.

У Злучаных Штатах багацці адносна лёгка губляюцца і знаходзяцца зноў. Рэсурсы гэтай не маючай краю краіны невычарпальныя. Гэты народ, надзелены ўсімі патрэбамі і апетытамі растучага арганізма, заўсёды бачыць вакол сябе больш матэрыяльных даброт, чым ён у стане ўхапіць, нягледзячы на ўсе свае намаганні завалодаць імі. Для такога народа небяспека ўтойваецца не ў страце некалькіх індывідаў, якая адразу ж папаўняецца, а ў бяздзейнасьці і апатыі ўсіх людзей. Адвага прамысловага прадпрымальніцтва – асноўная нагода іхнага хуткага развіцця, іхнай моцы і велічы. Індустрыя гэтаму народу ўяўляецца ў выглядзе

---

[338] Тут я маю на ўвазе амерыканцаў жывучых у тых штатах, дзе не існуе рабства. Толькі гэтыя штаты даюць поўную выяву сапраўды дэмакратычнага грамадства.

вялікай латарэі, у якой нязначная колькасць людзей штодня прайгравае, але дзякуючы якой дзяржава ўвесь час абагачаецца. Такі народ павінен таму прыхільна ставіцца да прадпрымальніцкай адвагі і высока яе шанаваць. Аднак пры кожным сьмелым пачынанні кожны рызыкуе страціць сваё багацце, калі на яго вырашыцца, а таксама грошы ўсіх тых людзей, якія даручыліся яму.

Амерыканцы, надзяліўшыя дзелавую рашучасць свайго роду высокай вартасьцю, ва ўсякім разе не павінны асуджаць адважных прадпрымальнікаў.

Гэтым тлумачыцца тое, што ў Злучаных Штатах да збанкрутаванага камерсанта ставяцца з надзвычайнай спагадай: падобнае няшчасьце не лічыцца для яго ганебным. У дадзеным дачыненні амерыканцы адрозніваюцца не толькі ад еўрапейскіх народаў, але і ад усіх сучасных гандлёвых нацый; адпаведна са сваім становішчам і патрэбамі яны таксама не падобныя ні на адну із іх.

З суровасьцю, невядомай у астатнім сьвеце, у Амерыцы ставяцца да ўсіх тых заганаў, якія адпаведна са сваёй прыродай здольны сапсаваць чысьціню нораваў і падрываюць трываласць адружальных сувязей. На першы погляд гэтая акалічнасць, здаецца дзіўна супярэчачай той памяркоўнасьці, якая выяўляецца ў іншых пытаннях. Суіснаванне ў аднаго і таго ж народа такіх мяккіх і такіх строгіх маральных пастаноў не можа не здзіўляць.

Гэтыя з’явы, аднак, выяўляюцца куды больш узаемазлучанымі, чым можна выказаць здагадку. У Злучаных Штатах грамадзкая думка толькі мякка стрымлівае запал да багацця, які спрыяе ўзростанню прамысловасьці і росквіту нацыі, з асаблівай рашучасьцю асуджаючы тыя маральныя заганы, якія адцягваюць людзей ад пошукаў дабрабыту і засмучаюць унутраны спакой сям’і, так патрэбны для паспяховага вядзення спраў. Каб карыстацца павагай суграмадзянаў, амерыканцы вымушаны весьці прыстойны лад жыцця. У гэтым сэнсе можна сказаць, што яны цнатлівасць лічаць справай гонару.

Амерыканскія ўяўленні пра гонар супадаюць са старажытным еўрапейскім кодэксам гонару ў адным дачыненні: і там, і там мужнасць ставіцца на чале ўсіх астатніх учыннасьцей, таму што мужнасць лічыцца самай важнай і патрэбнай вартасьцю мужчыны. Аднак у гэтае разуменне імі ўкладаецца розны змест.

У Злучаных Штатах ваярскі гераізм шануецца невысока. Лепш вядомы і больш высока шануецца той від мужнасьці, які дазваляе чалавеку грэбаваць лютасьцю бурлячага акіяна, каб як мага хутчэй прыплыць у порт прызначэння; пераносіць без скаргаў цяжар жыцця ў дзікай глухмені і тую адзіноту, пераносіць якую больш пакутліва чым усе астатнія пазбаўленні; тая мужнасць, якая дае магчымасць чалавеку амаль абыякава перажыць страту набытага дзякуючы вялікім намаганням багацця і адразу ж вымушае яго распачынаць намаганні зноў, каб набыць сабе новае багацце. Падобная мужнасць асобліва патрэбна для падтрымання і росквіту амерыканскага грамадства і таму яна карыстаецца ў яго асяроддзі асаблівай пашанай і славай. Чалавек не надзелены ёй, страчвае павагу.

Я прывяду яшчэ адну, апошнюю рысу, якая дапаможа больш рэльефна выявіць асноўную думку дадзенай главы.

У кожным дэмакратычным грамадстве, падобным грамадству Злучаных Штатаў, дзе багацці невялікія і ненадзейныя, працуюць усе без выключэння і праца прыносіць людзям усё. Гэтая сітуацыя пачала злучацца з разуменнем гонару і выкарыстоўвацца супраць бяздзейнасьці.

У Амерыцы мне часам сустракаліся заможныя маладыя людзі, згодна са складам свайго характару цалкам не размешчаныя працаваць і ўсё ж яны былі

вымушаны авалодваць нейкай прафесіяй. Іхная натура і іхнае багацце давалі ім магчымасць захоўваць бяздзейнасць; грамадзкая думка настойліва забараняла ім гэта і яны былі вымушаны падначаліцца. Наадварот, у еўрапейскіх краінах, дзе арыстакратыя ўсё яшчэ змагаецца з нясучым яе струменем, я часта сустракаў людзей, патрэбы і схільнасьці якіх увесь час падахвочвалі іх да дзейнасьці, але якія, аднак, каб не згубіць павагу з боку роўных сабе людзей, знаходзіліся ў стане бяздзейнасьці, аддаючы перавагу таму каб нудзіцца і жыць у сціснутых абставінах.

У гэтых двух такіх процілеглых абавязках немагчыма не ўгледзець праяўленне двух розных законаў, кожны із якіх усё ж народжаны разуменнем гонару.

Тое, што нашы продкі звалі «гонарам» як такім, было ў рэчаіснасьці толькі адной із яго форм. Яны надалі радавое імя гонару не чаму іншаму, як аднаму із яго відаў. Таму пад час стагоддзяў дэмакратыі кодэкс гонару выконвае тую ж ролю, што і ў арыстакратычныя часы. Не складана будзе паказаць, што ён выступае тут у іншым абліччы.

Перамяніўся не толькі змест яго наказаў, але і, як мы хутка пабачым, значна паменшылася іх колькасць; законы сталі менш выразна сфармуляванымі і ім не падначальваюцца так абявазкова, як раней.

Становішча кожнай касты заўсёды значна больш непэўнае, чым становішча народа. На сьвеце няма нічога больш выключнага чым тая сітуацыя, калі маленькая супольнасць, складаючаяся із асоб адных і тых жа сямействаў, як, напрыклад, арыстакратыя сярэдневечча, лічыць сваім абавязкам сканцэнтраваць і ўтрымаць ва ўласных руках усю адукацыю, багацце і ўладу, перадаючы іх па спадчыне.

Але чым больш выключным з’яўляецца становішча той ці іншай супольнасьці, чым больш шматлікімі выяўляюцца яго асобныя патрэбы, тым больш павялічваецца колькасць правіл у яго кодэксе гонару, – правіл, адпавядаючых дадзеным патрэбам.

Такім чынам, у колькасным дачыненні наказаў гонару заўсёды будзе менш у народа, не падзеленага на касты, чым ва ўсіх іншых народаў. Калі некалі з’явяцца нацыі, у якіх будзе цяжка выявіць нават сляды станавага падзелу, іхны кодэкс гонару абмяжуецца невялікай колькасьцю правіл, ды і самі гэтыя правілы памаленьку будуць збліжацца з маральнымі законамі, прынятымі ўсім чалавецтвам.

Такім чынам, законы кодэкса гонару ў дэмакратычнага народа павінны быць менш мудрагелістымі і менш шматлікімі, чым у арыстакратыі.

Яны таксама павінны былі быць менш вызначынымі; гэта з непазбежнасьцю вынікае із усяго, павядомленага вышэй.

Калі правілы гонару не такія шматлікія, а іхныя характэрныя асаблівасьці не такія адмысловыя, часта іх бывае цяжка распазнаць.

На гэта існуюць і іншыя нагоды.

Пад час сярэднявечча ў арыстакратычных народаў, нягледзячы на перамену пакаленняў, кожнае сямейства заставалася несьмяротным і непарушным; не пераменяліся як ідэі, так і ўмовы існавання.

Таму ў тыя часы кожны чалавек меў перад сабой адны і тыя ж прадметы, якія ён разглядаў з аднаго і таго ж боку гледжання; яго вочы паступова вывучылі гэтыя прадметы да драбнюткіх падрабязнасьцей і яго позірк з цягам доўгага часу не мог не набыць праніклівасьці і зоркасьці. З нагоды гэтага людзі, жыўшыя пры феадалізме, вызначаліся не толькі тым, што іхны кодэкс гонару складалі вельмі

незвычайныя маральныя ўяўленні, але таксама тым, што кожнае із гэтых уяўленняў адлюстроўвалася ў іхнай свядомасьці ў формах вызначаных і дакладных.

Гэта ніколі не магчыма ў такой краіне, як Амерыка, дзе ўсе грамадзяне знаходзяцца ў пастаянным руху, дзе грамадства штодня пераўтвараючыся само, разам са сваімі патрэбамі перамяняе і погляды. У падобнай краіне людзі, мімаходзь заўважаючы існуючыя правілы гонару, рэдка маюць вольны час для таго, каб пільна іх вывучаць.

Але нават у цалкам нерухомым грамадстве было б вельмі цяжка ўсталяваць для слова «гонар» неперамяняемае значэнне.

Дзякуючы таму што пад час сярэдневечча ў кожнага стана было сваё разуменне гонару, да згоды па гэтаму пытанню магла прыйсьці толькі абмежаваная колькасць людзей, што з'яўлялася закладам дакладнасьці і вызначанасьці гэтага разумення. Акрамя таго, усе тыя, хто прызнаваў разуменне гонару, займалі ў грамадстве аднолькавае і ўласьцівае толькі ім становішча і з нагоды гэтага былі натуральным чынам размешчаны да таго, каб пагаджацца з наказамі законаў, створаных толькі для іх.

Таму разуменні гонару набылі завершаную, старанна дэталізаваную форму кодэкса, у якім усё прадугледжвалася і загадзя было абавязковым для выканання і якім усталёўваліся цьвёрдыя, заўсёды відавочныя нормы паводзін. У такой дэмакратычнай нацыі, якой з'яўляецца амерыканскі народ, дзе ўсе рангі і чыны перамяшаны і дзе грамадства ў цэлым уяўляе сабой адзіную масу, запар складаючуюся із падобных, але не абсалютна падобных элементаў, загадзя ніколі немагчыма быць цалкам упэўненым у тым, што кодэксам гонару дазваляецца, а што забараняецца.

Гэты народ, безумоўна, усведамляе ў глыбіні душы існаванне агульнанацыянальных патрэб, спараджаючых падобныя гледжанні ў сферы маральнасьці; аднак падобныя калектыўныя меркаванні ніколі не з'яўляюцца ў свядомасьці ўсіх грамадзян адначасова, у адной і той жа форме і з адной і той жа магутнасьцю. Закон гонару ў іх існуе, але ён часта мае патрэбу ў тлумачальніках.

Сітуацыя ўяўляецца яшчэ больш заблытанай у такой дэмакратычнай краіне, як наша, дзе розныя станы старога грамадства, дасягнулі некаторага збліжэння, але яшчэ не здолеўшы перамяшацца, увесь час абменьваюцца адзін з адным рознымі, часта процілеглымі разуменнямі гонару, дзе кожны згодна са сваім уласным жаданнем аспрэчвае адну частку думак, успадкаваных ад яго продкаў, захоўваючы іншую іхную частку. Разнабой адвольных ацэнак дасягае такога размаху, што цалкам не дазваляе ўсталяваць нейкага агульнага правіла. У выніку тут амаль немагчыма сказаць загадзя, якія ўчынкі будуць у гонары, а якія зведаюць асуджэнне. Гэта брыдкія перыяды, але яны не працягваюцца не доўга.

У дэмакратычных нацый кодэкс гонару непазбежна, будучы не цалкам дакладным, не мае асаблівай магутнасьці, таму што дрэнна разумеемы закон не так проста ўжываць з упэўненасьцю і цвёрдасьцю. Грамадзкая думка – натуральны і суверэнны тлумачальнік законаў гонару – заўсёды выносіць свой прысуд з ваганнямі, калі не бачыць выразна, у які бок патрэбна схіліцца, асуджаючы ці ўхваляючы тую ці іншую падзею. Часам грамадзкая думка ў гэтым выпадку падзяляецца на процілеглыя меркаванні, а яшчэ часьцей захоўвае безстароннасць, не бяручы ўдзел ў адбываючымся.

Адносная слабасць законаў гонару ў дэмакратычных грамадствах абумоўлена таксама шматлікімі іншых нагодамі.

У арыстакратычных краінах ідэнтычныя разуменні гонару заўсёды падзяляюцца толькі вызначаным колам людзей, часта вельмі абмежаваным і заўсёды адлучаным ад усіх астатніх сабе падобных. Таму ў свядомасьці гэтых людзей уяўленні пра гонар лёгка перамешваюцца з усім тым, што вылучае іх із астатняй масы. Гонар пачынае ўспрымацца імі як адметная рыса іхнага сацыяльнага аблічча; яны ўжываюць розныя правілы яе кодэкса з запалам асабістай зацікаўленасьці і выяўляюць сапраўдную палкасць, калі так можна выказацца, у жаданні падначальвацца ім.

Праўдзівасць дадзенага цьверджання з поўнай відавочнасьцю даводзіцца чытаннем у зборах сярэднявечных пастаноў звычайнага права тых артыкулаў, якія маюць дачыненне да судовых паядынкаў. У іх вы выяўляеце, што дваране, вырашаючы свае цяжбы, павінны былі карыстацца дзідай і мячом, тады як віланы ваявалі на палках, «бяручы да ўвагі тое, – сцвярджаецца ў судоўніках, – што віланы не маюць гонару». Гэта не азначае, як можна ўявіць сабе пад час нашых дзён, што гэтыя людзі лічыліся пагарджаемымі; гэта азначае толькі тое, што іхныя ўчынкі ацэньваліся грунтуючыся на іншых крытэрыях, чым учынкі арыстакратаў.

Дзіўнай на першы погляд уяўляецца наступная заканамернасць: пад час перыядаў найвышэйшай магутнасьці кодэкса феадальнага гонару яго наказы ў цэлым выяўляюцца найбольш дзіўнымі, настолькі дзіўнымі, што можа здацца, быццам бы абязковасць падначалення ім непасрэдна адпавядае таму, наколькі яны адыходзяць ад патрабаванняў цьвярозага розуму. Дадзеная заканамернасць часам наводзіла на думку пра тое, што магутнасць гонару абумоўлівалася менавіта экстравагантнасьцю яе законаў.

Абедзьве гэтыя з’явы ў рэчаіснасьці маюць адзінае паходжанне, але яны не вынікаюць адна із другой.

Вычварнасць кодэкса гонару знаходзіцца ў прамой прапарцыянальнай залежнасьці ад таго, наколькі дастаткова і дакладна ён выяўляе спецыфічныя патрэбы, адчуваемыя вельмі вузкім колам людзей, а яго магутнасць абумоўлена тым, што ён выяўляе патрэбы менавіта гэтага кола маючых уладу. Такім чынам, уплыў кодэкса гонару не вызначаецца тым, што ён мудрагелісты, але яго вычварнасць і магутнасць выклікаюцца адной і той жа нагодай.

Яшчэ адна заўвага.

У арыстакратычных народаў назіраецца строгі падзел усіх згодна з рангам і чынам, але яны ўсе строга вызначаны. Кожны чалавек у сваім коле займае месца, якое ён не можа пакінуць і яго жыццё працякае сярод людзей, аналагічным чынам прывязаных да свайго становішча. У такіх нацый ніхто не можа спадзявацца на тое, што ён незаўважаемы, ці ж баяцца гэтага. Кожны, наколькі б нізкім ні было яго становішча, мае сваю ролю на грамадзкіх падмостках і не можа пазбегнуць ганьбавання ці ўхвалення дзякуючы сваёй невядомасьці.

Наадварот, у дэмакратычных дзяржавах, дзе ўсе грамадзяне перамяшаны ў адзін увесь час рухаючыся натоўп, грамадзкай думцы няма за што ўчапіцца; цікавячыя яе суб’екты ўвесь час выслізгваюць ад яе ўвагі. У падобнай сітуацыі ўжыванне кодэкса гонару заўсёды павінна быць менш патрэбным і настойлівым, таму што разуменне гонару адрозніваецца ад простай прыстойнасьці, існуючай сама па сабе і цалкам задавальняючайся ўсвеядамленнем сваёй вартасьці, менавіта тым, што яна ўздзейнічае толькі тады, калі прыцягвае да сябе ўвагу шырокай грамадзкасьці.

Калі чытач добра засвоіў усё вышэйпавядомленае, ён павінен быў зразумець, што паміж сацыяльнай няроўнасьцю і тым, што мы называем «гонарам», існуе цесная, патрэбная ўзаемасувязь, якая, калі я не памыляюся, ніколі перш не падкрэслівалася. Таму мне неабходна зрабіць яшчэ адно, апошняе намаганне, каб лепш высветліць гэтую ўзаемасувязь.

Нацыя самавызначаецца як самастойная частка чалавечага роду. Акрамя некаторых агульных патрэб, уласьцівых усім людзям, яна знаходзіць уласныя зацікаўленасьці і адмысловыя патрэбы. І як толькі яны ўсталёўваюцца, у нетрах гэтай нацыі адразу ж фарміруюцца вызначаныя меркаванні адносна таго, што заслугоўвае ганьбавання ці заахвочання, характэрныя менавіта для дадзенай супольнасьці і называемыя яго грамадзянамі кодэксам гонару.

Калі ў асяроддзі дадзенай нацыі ўтвараецца вышэйшая каста, у сваю чаргу аддзяляючая сябе ад усіх астатніх станаў, у яе з’яўляюцца свае адмысловыя патрэбы, якія адпаведна нараджаюць і спецыфічныя думкі. Кодэкс гонару гэтай касты, мудрагеліста аб’ядноўваючы характэрныя нацыянальныя погляды з больш спецыфічнымі ўяўленнямі дадзенай касты, аддаляецца, наколькі гэта можна ўявіць, ад простых і ўсеагульных чалавечых каштоўнасьцей. Дасягнуўшы гэтай вышэйшай кропкі, вернемся назад.

Станы перамешваюцца, прывілеі скасаваны. Людзі, складаючыя нацыю, зноў прыпадабняюцца адзін аднаму і ўраўноўваюцца паміж сабой. Іх зацікаўленасьці і патрэбы робяцца падобнымі і паступова ўсе тыя асобныя ўяўленні, якія кожная каста называла кодэксам гонару, знікаюць. Кодэкс гонару пачынае выяўляць толькі спецыфічныя патрэбы нацыі, усталёўваючы яе самабытнасць сярод іншых народаў.

Калі дазволена будзе выказаць здагадку, што ў канчатковым выніку ўсе расы пераняшаюцца адна з другой і што народы сьвету дасягнуць да гэтага моманту такога стану, калі ўсе яны будуць мець адны і тыя ж патрэбы і зацікаўленасьці, не адрозніваючыся больш адзін ад аднаго нейкімі характэрнымі асаблівасьцямі, чалавецтва цалкам адмовіцца ад звычкі надзяляць учынкі людзей умоўнай значнасьцю. Усе людзі будуць ацэньваць іх аднолькава: агульныя патрэбы чалавецтва, усведамляемыя розумам і сумленнем кожнага, стануць усеагульным крытэрам іх каштоўнасьці. У гэтым выпадку ў сьвеце захаваюцца толькі самыя простыя, агульныя разуменні пра дабро і зло, маючыя натуральную і патрэбную ўзаемасувязь з ідэямі ўхалення і ганьбавання.

Такім чынам, паспрабую сціснуць сваю думку да памераў аднаго-адзінюткага вызначэння: кодэкс гонару спараджаецца не чым іншым, як непадобнасьцю і няроўнасьцю людзей; яго ўплыў слабее па меры таго, як гэтыя адрозненні сьціраюцца, і ён знікае разам з імі.

# Глава XIX

## Чаму ў Злучаных Штатах сустракаецца так шмат славалюбівых людзей і так мала сапраўдных славалюбаў.

Першае, што ўражвае ў Злучаных Штатах, – гэта незлічоная шматлікасць людзей, імкнучыхся перамяніць сваё грамадскае становішча. Другое – амаль поўная адсутнасць неўтаймоўваемых славалюбаў у краіне, дзе славалюбівымі з’яўляюцца ўсе. Няма амерыканца, які б не быў перапоўнены жаданнем выбіцца ў людзі, але амаль ніхто із іх не выпрабоўвае празмерных надзеяў і не меціць вельмі

высока. Усе жадаюць няспынна набываць багацце, рэпутацыю, уладу, але толькі нешматлікія мараць дасягнуць сапраўднага размаху ва ўсіх сваіх пачынаннях. Гэта на першы погляд здаецца дзіўным, таму што вы не заўважыце ні ў норавах, ні ў законах Амерыкі нічога такога, што абмяжоўвала б іхныя жаданні і перашкаджала б ім накіроўвацца ў якім заўгодна накірунку.

Не так проста, відаць, знайсьці падстававую сувязь паміж роўнасьцю ўмоваў і так званай рэчаіснасьцю, таму што ў нас гэтая самая роўнасць, ледзь усталяваўшыся, адразу ж мела наступствам росквіт амаль бязмежнага славалюбства. Я перакананы, усё ж, што нагоду пазначанай вышэй акалічнасьці варта шукаць галоўным чынам у сацыяльным уладкаванні і дэмакратычных норавах амерыканцаў.

Усе рэвалюцыі прыводзяць да павелічэння славалюбства ў людзей. Гэта асабліва справядліва для рэвалюцый скасоўваючых арыстакратыю.

Калі ранейшыя перашкоды, аддзяляўшыя натоўп ад славы і ўлады, раптам выявіліся скасаванымі, пачалося ўсеагульнае нястрымнае ўзыходжанне да тых здаўна жадаеых вяршынь велічы, нацешыцца якімі нарэшце з’явілася магчымасць. Пад час перыяду перашапачатковай узрушанасьці ад перамогі ніштo не здаецца людзям немагчымым. Яны не толькі не ўсведамляюць межаў сваіх жаданняў, але і магчымасць іх задавальнення ўяўляецца ім амаль бязмежнай. У атмасферы імклівага абнаўлення звычаяў і законаў, калі ўсе людзі і ўсе нормы зацягваюцца ў адзін вялізны вір, грамадзяне падымаюцца на вяршыні велічы і валяцца з іх з нечуванай хуткасьцю і ўлада так хутка пераходзіць із рук у рукі, што ніхто не павінен адчайвацца, чакаючы свайго шанцу схапіць яе.

Варта, акрамя таго, памятаць, што людзі, знішчаючыя ўладу арыстакратыі, жылі пад яе законамі; яны назіралі арыстакратыю ва ўсёй яе пышнасьці і несьвядома запазычылі народжаныя ёю пачуцці і ідэі. Таму ў той час, калі арыстакратыя знікае, яе дух працягвае лунаць над масай і арыстакратычныя інстынкты яшчэ доўга захоўваюцца ў людзях пасьля перамогі над самай арыстакратыяй.

У сувязі з гэтым славалюбівыя жаданні, пакуль працягваецца дэмакратычная рэвалюцыя, будуць амаль бязмернымі; яны застануцца такімі ж і некаторы час пасьля таго, як рэвалюцыя завершыцца.

Із памяці людзей не сціраюцца раптоўна ўспаміны пра тыя незвычайныя падзеі, сведкамі якіх яны былі. Жарсьці, абуджаныя рэвалюцыяй, не знікаюць разам з ёй. Адчуванне нестабільнасьці захоўваецца і з аднаўленнем грамадзкага парадку. Ідэя пра магчымасць лёгкага поспеху пераджывае тыя дзіўныя скажонасьці лёсаў, якія і спарадзілі яе. Жаданні застаюцца занадта грандыёзнымі, нягледзячы на тое, што магчымасьці іхнага задавальнення памяншаюцца з кожным днём. Хаця каласальныя багацці робяцца рэдкасьцю, імкненне да вялікага багацця працягвае жыць у душах людзей паўсюдна абуджаючы безгрунтоўныя амбіцыі, таемна дашчэнту спальваючыя сэрцы тых, хто іх адчувае.

Тым часам апошнія сляды бітвы паступова сціраюцца і пережыткі арыстакратычнага мінулага знікаюць канчаткова. Забываюцца тыя вялікія падзеі, якія суправаджалі скасаванне арыстакратыі. Вайна замяняецца мірным заспакаеннем і ў нетрах новага сьвету зноў усталёўваецца ўлада парадку: жаданні людзей пачынаюць сувымярацца з іхнымі магчымасьцямі, усталёўваюцца ўзаемасувязі паміж патрэбамі, ідэямі і пачуццямі, і людзі робяцца больш-менш роўнымі – дэмакратычнае грамадства знаходзіць, нарэшце, трывалы падмурак.

Калі мы пачнём разглядаць дэмакратычнае грамадства дасягнуўшае гэтага ўстойлівага і нармальнага стану, то яно ўявіць нашаму позірку выяву, цалкам адрозную ад той, якая толькі што была вывучана намі і мы здолеем без цяжкасьцей вызначыць, што славалюбства, узмацняемае падчас ураўноўвання ўмоў існавання, паслабляецца тады, калі гэтыя ўмовы робяцца роўнымі.

Калі вялізныя багацці рздрабняюцца, а адукаванасць пашыраецца, ніводзін чалавек не выяўляецца цалкам пазбаўленым ведаў і маёмасьці; калі скасаваны станавая прывілеяванасць і станавая недзеяздольнасць і калі людзі назаўсёды разарвалі путы, трымаўшыя іх у нерухомасьці, ідэя прагрэсу ўспрымаецца свядомасьцю кожнага із іх; жаданне ўзвысіцца нараджаецца разам ва ўсіх сэрцах і кожны жадае пакінуць сваё ранейшае месца. Славалюбства робіцца ўсеагульным запалам.

Аднак роўнасць умоваў, даючая ўсім грамадзянам некаторыя матэрыяльныя магчымасьці, перашкаджае кожнаму із іх завалодаць занадта значнымі сродкамі і гэта з непазбежнасьцю вымушае іх абмяжоўваць свае жаданні даволі вузкімі рамкамі. Таму ў дэмакратычных народаў славалюбства адзначана палкасьцю і пастаянствам, але звычайна яно не адважваецца меціць занадта высока; і чалавек, звычайна, на працягу ўсяго свайго жыцця жарсна імкнецца дасягнуць тых дробных мэт, якія з’яўляюцца для яго дасягальнымі.

Людзей, жывучых пры дэмакратыі, ад вялікіх славалюбівых намераў адхіляюць не столькі сціпласць іхнага багацця, колькі тыя напружаныя намаганні, якія яны распачынаюць з мэтай палепшыць сваё становішча. Усе здольнасьці сваёй душы яны мабілізуюць на дасягненне пасрэдных мэт. І гэта неадменна хутка абмяжоўвае іхны далягляд і абядняе духоўна. Яны маглі б маючы значна менш сродкаў, захаваць веліч сваёй душы.

Невялікая колькасць вельмі заможных грамадзянаў у дэмакратычным грамадстве не складаюць выключэння із гэтага правіла. Чалавек, які паступова набывае багацце і ўладу, засвойвае падчас доўгай працы звычку да ашчаднасьці і сціпласьці, ад якой ён не ў стане потым пазбавіцца. Душа, у адрозненні ад архітэктурнай пабудовы, не можа дабудоўвацца паступова.

Аналагічнае назіранне з’яўляецца справядлівым і ў дачыненні да сыноў такога чалавека. Самі яны ад нараджэння належаць да вышэйшых грамадзкіх пластоў, аднак іхныя бацькі некалі займалі вельмі сціплае становішча; дзеці раслі ў атмасферы такіх пачуццяў і ідэй, ад якіх пазьней ім не так лёгка вызваліцца. Можна лічыць, што яны адначасова ўспадкоўваюць як багацце, так і інстынкты свайго бацькі.

Наадварот, здараецца і так, што куды больш бядны атажылак некалі магутнага арыстакратычнага сямейства будзе мець куды больш шырокія славалюбівыя задумы, дзякуючы таму што традыцыйныя погляды людзей яго пароды і агульныя настроі думак яго касты дазваляюць яму яшчэ некаторы час трымацца на плаву, незалежна ад сціпласьці яго дастатку.

Людзі дэмакратычных стагоддзяў не дазваляюць сабе захапляцца грандыёзнымі славалюбівымі задумамі яшчэ і таму, што яны добра ўяўляюць, колькі часу прайдзе перш, чым яны будуць у стане ўзяцца за іхнае ажыццяўленне. «Вялікая перавага шляхетнага нараджэння, – сказаў Паскаль, – палягае ў тым, што чалавек у васямнаццаць ці дваццаць гадоў займае такое становішча, якое прасталюдзін мае магчымасць набыць толькі каля пяцідзясяці; такім чынам, ён без цяжкасьцей выйграе трыццаць гадоў». Славалюбівым людзям у дэмакратычным

грамадстве, звычайна, і не хапае гэтых трыццаці гадоў. Роўнасць, даючая кожнаму чалавеку магчымасць дамагацца ўсяго, перашкаджае хуткаму ўзвышэнню людзей.

У дэмакратычным грамадстве, як і ў кожным іншым, існуе магчымасць набыць толькі вызначаную колькасць вялікіх багаццяў і, дзякуючы таму што шляхі, вядучыя да іх, адкрыты для ўсіх без выключэння, цалкам натуральна, што пасоўванне кожнага чалавека да іхнага набыцця выяўляецца запаволеным. Калі ўсе прэтэндэнты здаюцца больш-менш роўнымі і цяжка вылучыць некага із іх, не парушаючы прынцыпу роўнасьці, вышэйшага закону для дэмакратычных грамадстваў, першая думка, якая прыходзіць на розум, – прымусіць іх усіх ісьці нага ў нагу і для ўсіх прызначыць выпрабаванне.

Такім чынам, па меры таго як людзі робяцца ўсё больш і больш падобнымі адзін на аднаго і прынцыпы роўнасьці, не сустракаючы супраціву, усё больш пранізваюць грамадзкія інстытуты і норавы, правілы пасоўвання па сацыяльных усходах робяцца ўсё менш гнуткімі, а само пасоўванне запавольваецца; хутка дасягнуць вызначанай вагі ў грамадстве робіцца ўсё цяжэй.

Адчуваючы нянавісць да прывілеяў і выпрабоўваючы складанасьці з абраннем годных, грамадства прыходзіць да патрэбы прымушаць усіх людзей, незалежна ад іх дадзеных, праходзіць шэраг адных і тых жа выпрабаванняў і ўсім без адрознення выконваць шмат дробных папярэдніх умоваў, на якія яны марнуюць сваю маладосць і падчас выканання якіх іхнае ўяўленне згасае так, што яны ўжо адчайваюцца калі-небудзь нацешыцца чаканымі дабротамі. І калі яны, нарэшце, знаходзяць магчымасць здзейсніць выдатныя ўчынкі, яны губляюць густ да іх.

У Кітаі, дзе роўнасць умоваў з’яўляецца шырока пашыранай, спрадвеку ўсталяванай нормай, чалавек можа перайсьці із адной грамадзкай пасады на іншую толькі пасьля таго, як пройдзе конкурсныя выпрабаванні. Яго экзаменуюць пры кожным кроку па службовых усходах; гэтая ідэя вельмі глыбока ўвайшла ў іхныя маральныя ўяўленні і я памятаю, як у адным із прачытаных мной кітайскіх раманаў герой пасьля шматлікіх выпрабаванняў лёсу скарае нарэшце сэрца сваёй дамы тым, што паспяхова здае экзамен. Грандыёзным славалюбівым задумам цяжка дыхаецца ў падобнай атмасферы.

Тое, што я кажу пра палітыку, справядліва для ўсіх бакоў жыцця: роўнасць паўсюдна прыводзіць да адных і тых жа вынікаў. Там, дзе рух людзей не рэгулюецца і не стрымліваецца законамі, і тое і другое цалкам дасягаецца з дапамогай канкурэнцыі.

Таму ў добра ўладкаваным дэмакратычным грамадстве такімі рэдкімі бываюць бліскучыя, імклівыя кар’еры; яны ўяўляюць сабой выключэнні із агульнага правіла. Менавіта іхная выключнасць вымушае забывацца пра тое, наколькі яны нешматлікія.

Людзі із дэмакратычнага грамадства, у канчатковым рахунку, спасьцігаюць усе гэтыя праўды. З цягам часу яны ўсьведамляюць, што законы адкрываюць перад імі амаль неабмежаванае поле дзейнасьці, на якое ўсе могуць з лёгкасьцю ступіць, зрабіўшы некалькі крокаў, але пры гэтым ніхто не можа цешыць сябе надзеяй на хуткае пасоўванне. Паміж сабой і канчатковымі вялікімі мэтамі сваіх жаданняў яны бачаць шмат дробных прамежкавых перашкод, якія ім патрэбна павольна пераадольваць; падобная перспектыва, загадзя стамляючы іх, забівае жаданне да славалюбівых задумаў. Яны адракаюцца ад далёкіх, сумнеўных чаканняў, аддаючы

перавагу пошукам менш узнёслых і больш даступных асалод. Ніякі закон не абмяжоўвае іхныя магчымасьці, яны звужаюць іх самі.

Я сказаў, што вялікія славалюбы пад час стагоддзяў дэмакратыі сустракаюцца радзей, чым у арыстакратычныя часы; дадам таксама, што, калі яны, нягледзячы на ўсе натуральныя перашкоды, усё ж нараджаюцца, само іхнае славалюбства мае цалкам іншы выгляд.

У арыстакратычных дзяржавах дарога, адчыняецца перад славалюбівымі людзьмі, часта вельмі шырокая, а яе межы нязменныя. У дэмакратычных краінах, звычайна, марачыя пра кар’еру вымушаны ступаць на вельмі цесную сьцяжынку, але, як толькі яны яе пераадольваюць, іхная дзейнасць больш ужо нічым не абмяжоўваецца. Дзякуючы таму што індывіды тут не валодаюць магутнасьцю, ізаляваны адзін ад аднаго і знаходзяцца ў бесперапынным руху, таму што прэцэдэнты таксама не маюць асаблівай моцы, а дзеянне законаў вельмі недоўгачасовае, дэмакратычнае грамадства робіць толькі слабое супраціўленне якім бы то ні было навінам, а яго сацыяльная структура, відаць, ніколі не адрозніваецца ні цьвёрдасьцю, ні вялікай трываласьцю. Таму славалюбівыя людзі, узяўшы, аднойчы, уладу ў свае рукі, лічаць сябе маючымі права рабіць усё, што ім пажадана і, калі ўлада выслізгвае ад іх, яны адразу ж пачынаюць абдумваць магчымасць здзяйснення дзяржаўнага перавароту, каб вярнуцца да ўлады.

Гэта надае палітычнаму славалюбству пры дэмакратыі апантаны, рэвалюцыйны характар, які рэдка ў некалькі падобнай ступені выяўляецца ў людзях, жывучых у арыстакратычным грамадстве.

Выява маральнага стану дэмакратычных нацый звычайна ўяўляе сабой раўніну, усеяную незлічонай колькасьцю дробных, вельмі цьвярозых жаданняў, над якімі то тут, то там зрэдку ўзвышаюцца моцныя неўтаймаваныя жарсьці славалюбаў. Добра ўзважаныя, стрыманыя, але далёка ідучыя славалюбівыя задумы тут амаль не сустракаюцца.

Вышэй я ўжо паказаў, з дапамогай якой таемнай магутнасьці роўнасць здолела скарыць сэрцы людзей, аддаўшы іх пад ўладу запалу да матэрыяльных асалод і выключную схільнасць да імгненнай сучаснасьці; гэтыя пачуцці, не маюць нічога агульнага са славалюбствам і ўсё ж, дамешваюцца да яго так, што яно афарбоўваецца, так бы мовіць, у іхныя колеры.

Я лічу, што славалюбівыя людзі ў дэмакратычным грамадстве менш, чым калі-небудзь і дзе б там ні было яшчэ, заклапочаны лёсам і думкамі пра будучыя пакаленні: яны захоплены і імкнуцца толькі да зацікаўленасьцей бягучага моманту. Яны хутка вырашаюць шмат надзённых пытанняў, аддаючы перавагу падобнай актыўнасьці перад заданнем ўзвядзення манументальных нерукатворных помнікаў: імгненны поспех яны шануюць вышэй чым даўгавечную славу. Ад людзей яны, перадусім, патрабуюць падначалення. Больш за ўсё на сьвеце яны прагнуць улады. Іхныя манеры амаль заўсёды застаюцца ззаду ад набываемага імі грамадзкага становішча, у выніку чаго, нават валодаючы вялізнымі багаццямі, яны часта захоўваюць такія вульгарныя густы, што можа здацца, быццам бы яны толькі для таго і дамагаліся вярхоўнай улады, каб забяспечыць сабе магчымасць з большай лёгкасьцю задавальняць свае пасрэдныя, грубыя патрэбы.

Я лічу, што ў нашы дні славалюбівыя пачуцці людзей патрэбна акультурваць, парадкаваць, надаваць ім нейкую сувымяральнасць, але пры гэтым жаданне іх празмернага паслаблення ці ж прыгнечання было б надзвычай небяспечным. Патрэбна паспрабаваць і загадзя ўсталяваць для славалюбівых

намераў іхныя крайнія межы, за якія ім ніколі не будзе дазволена выйсьці, але патрэбна ўважліва сачыць, каб ім не вельмі перашкаджалі развівацца ўсярэдзіне дазволеных межаў.

Я вымушаны прызнацца ў тым, што, на маю думку, дэмакратычным грамадствам варта асьцерагацца не столькі дзёрзкасьці, колькі пасрэднасьці жаданняў суграмадзянаў: што самай жахлівай на маё меркаванне ўяўляецца магчымасць таго, што ў няспыннай мітусні дробных заклапочанасьцей прыватнага жыцця славалюбства канчаткова страціць свае здольнасьці і размах; што чалавечыя жарсьці адначасова пачнуць як супакойвацца, так і брыдоціцца, у выніку чаго грамадства будзе рухацца больш запаволена і марудна да куды менш высокіх мэт.

Пагэтаму я лічу, што кіраўнікі новага грамадства зробяць памылку, калі пажадаюць закалыхаць сваіх грамадзянаў у стане занадта спакойнага, занадта ціхамірнага шчасьця і што было б лепш, калі б кіраўніцтва ўсклала на іх выкананне нейкіх цяжкіх і небяспечных спраў з мэтай абудзіць іхнае славалюбства і даць ім магчымасць ужыць свае здольнасьці.

Маралісты няспынна наракаюць на тое, што асноўнай заганай нашай эпохі стала ганарыстасць.

У некаторым сэнсе гэта так: фактычна кожны лічыць, што ён лепш за свайго суседа і ніхто не жадае падначальвацца вышэйшаму. Аднак з другога боку гэтая думка цалкам памылковая, таму што той жа самы чалавек, які не здольны ні падначальвацца субардынацыі, ні захоўваць сапраўдную роўнасць, сам сябе, усё ж, пагарджае так, што лічыць, быццам бы ён народжаны толькі для таго, каб цешыцца вульгарнымі задавальненнямі. Ён ахвотна аддаецца пад уладу нікчэмных жаданняў, не адважваючыся брацца за нешта значнае і ўзнёслае; ён наўрад ці ўяўляе сабе толкам, што гэта такое.

Таму я не толькі далёкі ад думкі рэкамендаваць нашым сучаснікам пакору, але і меў бы жаданне, каб былі распачаты спробы надаць ім больш высокія ўяўленні пра сябе і пра чалавечую годнасць; пакора для іх не такая ўжо і бясшкодная; больш за ўсё ім, на мой погляд, не хапае гонару. Я ахвотна саступіў бы некалькі нашых нікчэмных учыннасьцей за адну падобную загану.

# Глава XX

## Пра шукальнікаў прыбытковых месцаў у некаторых дэмакратычных народаў

Калі грамадзянін Злучаных Штатаў набывае нейкую адукацыю і ўласнасць, ён спрабуе абагаціцца, заняўшыся гандлем ці прамысловасьцю, ці ж ён купляе зямельную дзяльніцу, цалкам пакрытую лесам і робіцца піянерам. Ад дзяржавы ён патрабуе толькі, каб яна не перашкаджала яму працаваць і гарантавала б атрыманне вынікаў яго ўласнай працы.

У большай частцы еўрапейскіх краін чалавек, калі ён пачынае адчуваць свае здольнасьці і калі яго жаданні павялічваюцца, перадусім задумваецца пра тое, як бы яму заняць нейкую афіцыйную пасаду. Такія процілеглыя вынікі, выклікаемыя адной і той жа нагодай, заслугоўваюць таго каб мы коратка на іх спыніліся.

Пакуль дзяржаўныя пасады нешматлікія, дрэнна аплочваюцца і ненадзейныя і пакуль вытворчасць, наадварот, дае самыя шырокія магчымасьці і цудоўныя

перспектывы, усе тыя людзі, каму роўнасць штодня надае новыя, нецярплівыя жаданні, накіроўваюцца ў прамысловасць, а не ў адміністрацыйныя ўстановы.

Калі ж, аднак, тым часам як становішча розных грамадзкіх пластоў ураўноўваецца, людзі не валодаюць дастатковай адукацыяй ці ж ім не дастае магутнасьці духу, а гандаль і прамысловасць, стрымліваемыя ў сваім развіцці, даюць толькі цяжкія, павольныя спосабы абагачэння, грамадзяне, страціўшы надзею палепшыць сваё становішча ўласнымі намаганнямі, з паспешнасьцю звяртаюцца да кіраўніка дзяржавы і патрабуюць яго дапамогі. Магчымасць палегчыць сваё жыццё за кошт грамадзкага набытку пачынае ўяўляцца ім калі і не адзіным, то, прынамсі, самым простым і даступным шляхам для таго, каб выбрацца із тых умоваў, якія іх больш не задавальняюць; шуканне пасад робіцца самым пашыраным із усіх відаў чалавечай дзейнасьці. Усё так і павінна адбывацца, асабліва ў буйных цэнтралізаваных манархіях, дзе колькасць аплочваемых пасад такая вялізная і існаванне функцыянераў такое трывалае, што ніхто не страчвае надзею набыць нейкае месца і мірна цешыцца ім, як сваім радавым маёнткам.

Я не буду спыняцца на тым, што гэтае паўсюднае празмернае жаданне дамагацца дзяржаўных прызначэнняў з'яўляецца вялікім грамадзкім злом, што яно знішчае ў душы кожнага грамадзяніна пачуццё ўласнай незалежнасьці, што яно атручвае ўсю нацыю ў цэлым, робячы яе схільнай да прадажнасьці і дагодлівасьці, што яно пазбаўляе мужчын гераізму. Я не буду разважаць пра тое, што падобны род заняткаў спараджае толькі не маючую карысьці актыўнасць, бунтуючую краіну, нiколькі яе не абагачаючы. Усё гэта зразумела само сабой.

Але я маю жаданне падкрэсліць, што ўрад, прытрымліваючыся дадзенай тэндэнцыі, аддае пад сур'ёзную небяспеку не толькі ўласны спакой, але і само сваё існаванне.

Я ведаю, што ў такі час, як наш, калі павага, якую некалі адчувалі да носьбітаў улады, паступова згасае, урадаўцам можа здацца патрэбным больш цясна прывязаць да сябе кожнага чалавека, выкарыстоўваючы яго асабістыя зацікаўленасьці і яны могуць палічыць зручным для сябе падначальваць нават пачуцці людзей, каб трымаць іх у маўчанні і захоўваць парадак. Гэтага, аднак, надоўга не хопіц, і тое, што на працягу вызначанага перыяду магло здавацца крыніцай магутнасьці, у канчатковым рахунку, неадменна робіцца крыніцай турбот і слабасьці.

Як і ва ўсіх іншых краінах, колькасць грамадзкіх пасад у дэмакратыях не можа быць неабмежаванай, тады як колькасць іхных славалюбівых шукальнікаў у дэмакратычных народаў нічым не абмежавана: яна няспынна, нястрымана, хаця і павольна, павялічваецца па меры таго, як умовы існавання ўсё больш і больш ураўноўваюцца. Адзіная мяжа для іх – агульная колькасць самога насельніцтва.

Таму ў тым выпадку, калі для славалюбства не будзе ніякага іншага выйсця, акрамя дзяржаўнай службы, урад непазбежна некалі сутыкнецца з наяўнасьцю пастаяннай апазіцыі, таму што яго заданнем стане патрэба задаволіць з дапамогай абмежаваных магчымасьцей жаданні няспынна павялічваючайся колькасьці людзей. Кіраўніцтву неабходна цьвёрда засвоіць, што із усіх народаў сьвету цяжэй усяго накіроўваць і стрымліваць нацыю прашэльнікаў. Якія б намаганні ні прыкладалі яе лідары, яны ніколі не здолеюць яе задаволіць і пастаянна патрэбна будзе асьцерагацца таго, як бы з часам яна не перавярнула дагары нагамі ўсю канстытуцыю краіны, пераміўшы вонкавыя формы дзяржаўнасьці толькі для таго, каб атрымаць вакантныя месцы.

Манархі нашых часоў, якія імкнуцца прыцягнуць да сябе людзей, спрабуючы задавальняць усе тыя іхныя новыя жаданні, якія нараджае роўнасць, у канчатковым выніку будуць шкадаваць, што цалкам сталі на такі шлях. Аднайчы ім адкрыецца, што яны аддалі пад небяспеку сваю ўладу менавіта тым, што зрабілі яе такой патрэбнай і што было б больш сумленна і надзейна навучыць кожнага са сваіх падданых мастацтву задавальняцца ўласнымі сродкамі і магчымасьцямі.

# Глава XXI

## Дзякуючы чаму вялікія рэвалюцыі стануць рэдкімі

Народ, жыццё якога на працягу стагоддзяў вызначалася сістэмай каставых і станавых адрозненняў, можа дасягнуць дэмакратычнага грамадзкага ўладкавання толькі ў выніку доўгай чарады больш-менш хваравітых пераўтварэнняў і пасьля шматлікіх выпадковых перамен, падчас якіх маёмаснае становішча і погляды людзей хутка пераменяюцца, а ўлада часта пераходзіць з адных рук у іншыя.

Нават тады, калі гэтая вялікая рэвалюцыя завяршаецца, народжаныя ёю рэвалюцыйныя звычкі захоўваюцца на працягу яшчэ доўгага часу, выклікаючы наступнае глыбокае закісанне ў масах.

Дзякуючы таму што ўсё гэта адбываецца ў той час, калі ўмовы існавання людзей ураўноўваюцца, была зроблена выснова пра існаванне таемных суадносін, таемнай сувязі паміж самой роўнасьцю і рэвалюцыямі, дзякуючы чаму адно быццам бы не можа ажыццяўляцца, не выклікаючы другога.

У дадзеным пытанні высновы розуму, здавалася б, падмацоўваюцца жыццёвым досьведам.

У краіне, дзе станы больш-менш роўныя, адсутнічае нейкая відавочная сувязь, аб’ядноўваючая людзей паміж сабой і трывала трымаючая іх на сваіх месцах. Ніхто із іх не валодае ні пастаянным правам, ні ўладай кіраваць і ніхто адпаведна са сваім становішчам не абавязаны падначальвацца, але кожны, здолеўшы атрымаць некаторую адукацыю і забяспечыць сабе сякі-такі дастатак, можа абраць свой шлях і ісьці па ім незалежна ад усіх сабе падобных.

Тыя ж самыя нагоды, якія знішчаюць залежнасць грамадзянаў адзін ад аднаго, штодня нараджаюць у іхных душах новыя, неспакойныя жаданні і няспынна людзей падганяюць.

Цалкам натуральнай, таму з’яўляецца думка пра тое, што ў дэмакратычным грамадстве ідэі, рэчы і людзі павінны вечна пераменяць свае формы і становішчы і што дэмакратычныя стагоддзі павінны быць часам бясконцых, імклівых ператварэнняў.

Ці так гэта ў рэчаіснасьці? Ці мае наступствам роўнае становішча людзей хранічныя, раз-пораз паўтараючыяся рэвалюцыі? Ці ўтрымлівае яна ў сабе нешта, парушаючае ход грамадзкага жыцця, перашкаджаючае грамадству трывала замацавацца і абуджаючае ў людзях схільнасць без канца пераменяць свае законы, вучэнні і норавы? Я так не лічу. Дзякуючы таму што гэтая тэма з’яўляецца такой важнай, я прашу чытача ўважліва сачыць за маёй думкай.

Амаль усе рэвалюцыі, пераменяўшыя жыццё народаў, здзяйсняліся або для таго, каб умацаваць, або для таго, каб скасаваць роўнасць. Адкіньце другарадныя фактары, вывучаючы падставы вялікіх хваляванняў і вы амаль заўсёды выявіце няроўнасць. Падставамі хваляванняў выступалі то немаёмасныя, меўшыя жаданне

захапіць маёмасць заможных, то самі заможныя, спрабаваўшыя заняволіць немаёмасных. Таму, калі б у вам атрымалася стварыць такое грамадства, у якім у кожнага было б што губляць і не было б асаблівай спакусы некага рабаваць, вы б зрабілі вельмі шмат для ўсталявання міру на зямлі.

Я не адкідаю той факт, што ў вялікіх дэмакратычных народаў заўсёды будуць сустракацца вельмі немаёмасныя і вельмі заможныя грамадзяне; аднак немаёмасныя тут замест таго, каб утвараць пераважную большасць нацыі, як гэта заўсёды бывае ў арыстакратычным грамадстве, з'яўляюцца вельмі малалікімі і закон не аб'ядноўвае іх разам ідэяй пра непазбежнасць той галечы, якая дасталася ім у спадчыну.

Са свайго боку заможныя людзі таксама нешматлікія і не валодаюць сапраўднай магутнасьцю; яны не маюць відавочных прывілеяў і нават само іхнае багацце, не будучы злучаным з зямлёй і не вызначаемае памерамі зямельных уладанняў, губляе сваю навочнасць і робіцца як бы нябачным. І дзякуючы таму што тут больш няма расы беднякоў, тут таксама няма і расы багацеяў; людзі штодня выбіваюцца із гушчы народных мас і няспынна туды ж вяртаюцца. Яны не ўтвараюць із сябе адасобленага стану, які была б магчымасць лёгка выявіць і ababраць. Акрамя таго, яны аб'яднаны з масай сваіх суграмадзянаў тысячамі таемных і такіх трывалых нітак, што народ наўрад ці здолее выступіць супраць іх, не зрабіўшы шкоды самаму сабе. Паміж гэтымі двума крайнімі пластамі дэмакратычнага грамадства знаходзіцца незлічоная колькасць амаль роўных паміж сабой людзей, якіх немагчыма назваць ні заможнымі, ні немаёмаснымі ў поўным сэнсе гэтых слоў і маёмасць якіх, дастатковая для таго, каб самі яны жадалі парадку, з'яўляецца недастаткова вялікай для таго, каб выклікаць зайздрасць да сябе.

Гэтыя людзі з'яўляюцца натуральнымі ворагамі якіх бы то ні было грамадзкіх узрушэнняў; іхная інэртнасць трымае ў стане спакою ўсіх тых, хто знаходзіцца вышэй ці ніжэй іх, надаючы ўстойлівасць усяму грамадству.

Гэта цалкам не азначае, што яны задаволены сваім існуючым становішчам ці адчуваюць натуральны жах перад рэвалюцыяй, у выніку якой яны, не выпрабаваўшы пазбаўленняў, атрымаюць сваю частку здабычы. Наадварот, яны апантаны выключнай смагай абагачэння, стрымліваемай, аднак, тым, што яны не ведаюць дакладна, каго патрэбна рабаваць. Грамадзкае ўладкаванне, няспынна абуджаючае ў іх жаданні, абмяжоўвае гэтыя жаданні патрэбнымі рамкамі. Надаючы людзям больш шырокія магчымасьці перамяняць сваё жыццё, яно робіць іх менш зацікаўленымі ў гэтых пераменах.

Людзі, жывучыя ў дэмакратычных грамадствах, не толькі не маюць натуральнага жадання рабіць рэвалюцыі, але і асьцерагаюцца іх.

Не бывае ніводнай рэвалюцыі, якая ў той ці іншай меры не ўяўляла б небяспеку існуючай уласнасьці. Большасць насельніцтва дэмакратычных краін валодае ўласнасьцю; і людзі не проста з'яўляюцца ўласнікамі, але жывуць у такім асяроддзі, дзе яны надаюць уласнасьці адмысловае значэнне.

Калі мы ўважліва разгледзім станы, складаючыя сучаснае грамадства, то без цяжкасьцей зразумеем, што ніводзін із іх не выяўляе такога зацятага і трывалага пачуцця ўласнасьці, як сярэдні стан.

Беднякі часта мала клапоцяцца пра тое, што маюць, таму што пакуты, выклікаемыя маёмасным недахопам, значна перасягаюць для іх тое задавальненне, якое ім дастаўляе іхная сьціплая маёмасць. Заможныя ж людзі маюць шмат іншых

неспаталяемых жарсьцяў, акрамя тых жаданняў, задавальненне якіх забяспечваецца багаццем і якія ў выніку шматгадовых стамляючых намаганняў накіраваных на захаванне свойго вялікага багацця і звычкі да багацця як бы дакучаюць, губляюць першапачатковую прывабнасць.

Наадварот, людзі, жывучыя ў прыемным дастатку, роўна далёкім як ад раскошы, так і ад галечы, вельмі высока шануюць сваю маёмасць. Дзякуючы таму што яны яшчэ вельмі блізкія да беднасьці, яны добра адчуваюць выклікаемыя ёю пакуты і баяцца іх. Ад немаёмаснасьці іх аддзяляе толькі невялікае багацце, з якім яны злучаюць усе свае боязі і надзеі. Пастаянныя маёмасныя заклапочанасьці і штодзённыя намаганні, накіраваныя на павелічэнне свайго багацця, усё больш мацна і трывала прымацоўваюць іх да ўласнасьці. Думка пра магчымасць страты самай маленькай яго часткі для іх невыносная, а поўную страту ўласнасьці яны расцэньваюць як самае жахлівае із няшчасьцяў. Хаця роўнасць умоваў няспынна павялічвае колькасць менавіта такіх заўзятых, вечна занепакоеных дробных уласнікаў.

Такім чынам, у дэмакратычных грамадствах большасьці грамадзянаў уяўляецца не цалкам зразумелым, што яны маглі б набыць у выніку рэвалюцыі, але яны штохвілінна так ці інакш усведамляюць, што яны могуць праз яе страціць.

У іншым месцы гэтага твора я ўжо пісаў пра тое, якім чынам роўнасць, натуральна, прыцягвае людзей да прамысловай і гандлёвай дзейнасьці і якім чынам яна прыводзіць да павелічэння і пашырэння зямельнай уласнасьці і, нарэшце, я паказаў, якім чынам роўнасць запальвае ў душы кожнага чалавека палкае, нязгасаемае жаданне павялічваць сваё багацце. Няма нічога больш чужога рэвалюцыйным настроям, чым усе гэтыя тэндэнцыі і зацікаўленасьці.

Можа здарыцца і так, што канчатковыя вынікі рэвалюцыі зробяць спрыяльны ўплыў на прамысловасць і гандаль, аднак яе пачатковыя стадыі амаль заўсёды прыводзяць да спусташэння прамыслоўцаў і гандляроў, таму што рэвалюцыя не можа не выклікаць рэзкай агульнай перамены кан’юнктуры рынку і часовага парушэння балансу, існуючага паміж вытворчасьцю, прапановай і попытам.

Акрамя таго, я не ведаю нічога, што супярэчыла б рэвалюцыйным настроям і маралі ў большай меры, чым норавы і этыка гандляроў. Камерцыя адпаведна са сваёй прыродай глыбока варожая якім бы то ні было моцным жарсьцям. Ёй падабаюцца стрыманасць і кампрамісы, з асаблівай асьцярожнасцю яна пазбягае гневу. Гандлёвы люд церпялівы, згодлівы, лісьлівы і схільны да выкарыстання крайніх захадаў толькі тады, калі яны абсалютна неабходны. Камерцыя робіць людзей незалежнымі адзін ад аднаго, надае ім ідэю пра высокую каштоўнасць сваёй асобы, выклікае ў іх жаданне весьці свае ўласныя справы і вучыць дамагацца ў іх поспеху; такім чынам, прышчапляючы ім павагу да вольнасьці, яна адварочвае іх ад рэвалюцый.

Падчас рэвалюцый уладальнікам рухомай маёмасці даводзіцца асьцерагацца больш, чым усім астатнім уласнікам, таму што, па-першае, іхную маёмасць лягчэй усяго захапіць і, па-другое, яна губляецца раз і назаўсёды. Меншая небяспека падпілноўвае землеўладальнікаў, якія, губляючы прыбытак са сваіх зямель, прынамсі, спадзяюцца, нягледзячы на ўсе нягоды, захаваць за сабой хаця б саму зямлю. Такім чынам, цалкам відавочна, што перспектыва рэвалюцыйных рухаў палохае першых нашмат больш, чым другіх.

Народы, такім чынам, адчуваюць усё меншую схільнасць здзяйсняць рэвалюцыі па меры таго, як павялічваецца, робячыся ўсё больш разнастайнай, іхная рухомая маёмасць, і па меры таго, як павялічваецца колькасць людзей, валодаючых ёю.

Больш таго, якой бы ні была спецыяльнасць чалавека і якога б тыпу ўласнасьцю ён ні валодаў, усім людзям уласьціва адна агульная рыса.

Ніхто ніколі не бывае цалкам задаволены маючымся ў яго багаццем і ўсе штодня, выкарыстоўваючы тысячу спосабаў, імкнуцца яго павялічыць. Вазьміце кожнага чалавека ў які заўгодна перыяд яго жыцця і вы выявіце, што ён выношвае новыя планы, як зрабіць сваё існаванне больш камфартабельным. Не кажыце яму пра зацікаўленасьці і правы чалавецтва: гэтыя дробныя хатнія праблемы на час паглынаюць усе яго думкі і ён жадае, каб грамадзкія хваляванні пачаліся не зараз, а некалі потам.

Гэта не толькі перашкаджае ім здзяйсняць рэвалюцыі, але і адбівае да іх ахвоту наогул. Бурныя палітычныя жарсьці маюць малую ўладу над людзьмі, якія ўсёй душой актыўна пякуцца пра паляпшэнне ўласнага матэрыяльнага становішча. Запал, з якім яны бяруцца за дробныя справы, дазваляе ім захаваць спакой тады, калі гаворка заходзіць пра нешта большае.

Гэта правільна, што ў дэмакратычных грамадствах час ад часу з’яўляюцца прадпрымальныя, славалюбівыя грамадзяне, чые грандыёзныя задумы не дазваляюць ім задавальняцца пасоўваннем па звычайнаму шляху. Такія людзі паважаюць і вітаюць рэвалюцыі; аднак толькі з вялізнымі цяжкасьцямі яны могуць выклікаць іх, калі нейкія надзвычайныя падзеі не прыходзяць ім на дапамогу.

Ніхто не можа паспяхова супрацьстаяць духу свайго часу і сваёй краіны і, наколькі б ні быў магутным чалавек, яму будзе цяжка надаць сваім сучаснікам такія пачуцці і ідэі, якія супярэчаць іхным уласным жаданням і пачуццям. Не варта, таму думаць, што ў выпадку, калі роўнасць стане даўно ўсталяваўшымся, неаспрэчным фактам, наклаўшым адбітак на паводзіны і норавы людзей, яны з лёгкасьцю дазволяць зацягнуць сябе ў небяспечныя авантуры, ідучы за нейкім неразважным кіраўніком ці адважным наватарам.

Яны дарэчы не выказваюць яму адкрытага супраціву, выкарыстоўваючы нейкія мудрагелістыя камбінацыі і нават не маюць загадзя абдуманага намеру супраціўляцца. Яны не ваююць супраць яго актыўна, часам яны нават апладыруюць яму, але за ім не ідуць. Яго намаганням яны таемна супрацьстаўляюць сваю інэртнасць, яго рэвалюцыйным схільнасьцям – свае кансерватыўныя зацікаўленасьці, яго авантурызму – свае абывацельскія густы і звычку бавіць час дома; узлётам яго геніяльнасці яны супрацьстаўляюць цьвярозы розум, яго паэзіі – сваю прозу. З вельмі вялікімі намаганнямі ў яго атрымліваецца разварушыць іх на кароткае імгненне, але яны адразу ж выслізгваюць ад яго і зноў падаюць, нібы завабліваемыя магутнасьцю уласнага цяжару. Ён вымотваецца, жадаючы прывесьці ў рух гэты абыякава раскіданы натоўп і, нарэшце, выяўляе сваю немач не таму, што яны здабылі над ім верх, але таму, што ён застаўся ў адзіноце.

Я не сцвярджаю, быццам людзі, жывучыя ў дэмакратычным грамадстве, маларухомыя згодна са сваёй прыродай; наадварот, я лічу, што ў нетрах такога грамадства пануе вечны рух і што ў ім ніхто не ведае заспакаення. Але я таксама лічу, што гэтыя людзі рухаюцца ў вызначаных межах, якія яны наўрад ці калі-небудзь пераступаюць. Яны штодня перамяняюць, замяняюць і абнаўляюць

другарадныя дэталі, але з вялікай асцярожнасьцю, аднак, імкнучыся не закрануць падмуркі. Яны паважаюць перамены, але баяцца рэвалюцый.

Хоць амерыканцы ўвесь час паляпшаюць ці касуюць некаторыя са сваіх законаў, яны вельмі далёкія ад таго, каб выяўляць рэвалюцыйныя жарсьці. Лёгка заўважыць па таму, як хутка яны пачынаюць стрымліваць сябе і супакойвацца, калі грамадзкае хваляванне робіцца пагрозлівым, і менавіта ў той момант, калі жарсьці здаюцца асабліва напаленымі, яны супакойваюцца, таму што баяцца рэвалюцыі як самага жахлівага із бедстваў і таму што кожны із іх перапоўнены ўнутранай рашучасьцю ахвяраваць шмат чым, абы пазбегнуць рэвалюцыйных узрушэнняў. Ні ў адной краіне сьвету пачуццё ўласнасьці не носіць такога актыўнага, неспакойнага характару, як у Злучаных Штатах і нідзе большасць насельніцтва не выяўляе такой малой цікавасьці да грамадзкіх вучэнняў, якія нейкім чынам пагражаюць пераменіць іх законы пра ўласнасць і валоданне ёю.

Я часта заўважаў, што тыя тэорыі, якія з'яўляюцца рэвалюцыйнымі адпаведна сваёй прыродзе, таму што яны не могуць ажыццявіцца без рашучых, а часам і хуткіх перамен у вобласьці маёмасных правоў і статусу грамадзянскіх асоб, у Злучаных Штатах карыстаюцца куды меншай папулярнасьцю, чым у буйных манархічных дзяржавах Яўропы. Хаця асобныя амерыканцы і засвойваюць гэтыя вучэнні, масы адкідаюць іх з пачуццём інстынктыўнага жаху.

Без ваганняў я сцвярджаю, што вялікая частка тых праўд і выказванняў, якія ў Францыі згодна са звычкай завуцца дэмакратычнымі, была б адкінута дэмакратыяй Злучаных Штатаў. Гэта лёгка зразумець. Ідэі і пачуцці амерыканцаў дэмакратычныя; мы ж, еўрапейцы, усё яшчэ апантаныя рэвалюцыйнымі жарсьцямі і ідэямі.

Калі амерыканцы калі-небудзь выпрабуюць на сабе магутную буру рэвалюцыі, то гэтая рэвалюцыя будзе выклікана наяўнасьцю чарнаскурых на зямлі Злучаных Штатаў, то бок гэтая рэвалюцыя будзе выклікана не роўнасьцю ўмоваў існавання людзей, а якраз наадварот – іхнай няроўнасьцю.

Пакуль сацыяльныя ўмовы роўныя, кожны чалавек ахвотна замыкаецца ў сабе, забываючыся пра грамадства. Калі заканадаўцы дэмакратычных народаў не спрабуюць нейтралізаваць гэтую згубную тэндэнцыю ці нават патураюць ёй, мяркуючы, што зацікаўленасьці людзей, такім чынам, адцягваюцца ад палітыкі і небяспека рэвалюцы  адтэрміноўваеццм, можа здарыцца так, што, у канчатковым выніку, яны самі прывядуць людзей да таго зла, якога жадалі пазбегнуць і можа наступіць такі момант, калі неўтаймаваныя жарсьці некалькіх чалавек, падтрыманыя неразумным эгаізмам і маладушнасьцю шматлікіх людзей, здолеюць у выніку прымусіць грамадзкі арганізм выпрабаваць нечаканыя пазбаўленні і зменлівасць лёсу.

У дэмакратычным грамадстве толькі нешматлікія згуртаванні і меншасьці жадаюць рэвалюцыйных пераўтварэнняў, але часам у гэтых меншасьцей атрымліваецца іх здзейсніць.

Я не сцвярджаю таго, што дэмакратычныя нацыі быццам бы цалкам гарантаваны ад рэвалюцый, я кажу толькі пра тое, што іхнае грамадзкае ўладкаванне не толькі не вядзе іх да непазбежных рэвалюцый, але і, магчыма, адварочвае ад іх. Дэмакратычныя народы, будучы пакінутымі самі на сябе, не бяруць з лёгкасьцю ўдзел у вялікіх авантурах; у рэвалюцыі яны зацягваюцца толькі несьвядома і, зрэдку беручы ў іх удзел, ніколі не выступаюць іхнымі ініцыятарамі.

Дадам таксама, што тады, калі ім атрымаецца стаць асьвечанымі і набыць гістарычны досьвед, яны не дапускюць здзяйснення рэвалюцый.

Мне добра вядома, што ў дадзеным дачыненні самі грамадзкія інстытуты могуць мець значную ролю, што яны або заахвочваюць, або стрымліваюць інстынкты, народжаныя сацыяльным уладкаваннем. Таму, паўтаруся, я цалкам не сцвярджаю таго, быццам бы народ, стварыўшы ў сябе роўныя ўмовы для жыцця людзей, ужо толькі гэтым гарантуе сябе ад рэвалюцый. Я, аднак, перакананы ў тым, што, якія б інстытуты і згуртаванныі ні існавалі ў такога народа, буйныя рэвалюцыйныя сутычкі ў яго заўсёды будуць мець непамерна менш люты характар і будуць больш рэдкімі, чым звычайна лічыцца. І я з лёгкасьцю ўяўляю сабе такое палітычнае ўладкаванне, якое ў спалучэнні з роўнасьцю магло б стварыць самае стабільнае грамадства із усіх калі-небудзь існаваўшых у гісторыі нашага заходняга сьвету.

Тое, што я паведамляў пра з’явы рэчаіснага існавання, дастасоўваецца таксама і да ідэй.

У Злучаных Штатах вас ўражваюць дзьве акалічнасьці: надзвычай пераменлівы характар большай часткі чалавечай дзейнасьці і дзіўная ўстойлівасць некаторых прынцыпаў. Тым часам як самі людзі бесперапынна рухаюцца, іхныя душы і свядомасць нібы-та знаходзяцца ў стане амаль поўнага заспакаення.

Як толькі нейкае меркаванне набывае пашырэнне на амерыканскай глебе і пускае ў ёй карані, можна падумаць, што ніякая магутнасць на зямлі не здольна яго выкарчаваць. У Злучаных Штатах падмуркі рэлігійных, філасофскіх, этычных і нават палітычных навук застаюцца нязменнымі, а калі і пераменяюцца, то толькі ў выніку ўплыву таемных, часта цалкам незаўважаемых і вельмі працяглых працэсаў. Нават самыя недарэчныя із забабонаў знікаюць неспасьцігаема павольна, нягледзячы на тое, што яны выклікаюць тысячы ўвесь час паўтараючыхся канфліктных сітуацый і непаразуменняў паміж людзьмі.

Вы чуеце, як вакол вас паўтараюць пра тое, што прыродзе і звычаям дэмакратычнага грамадства з’яўляецца ўласьцівай няспынная перамена настрояў і ідэй. Гэта, магчыма, адпавядае рэчаіснасьці тады, калі гаворка ідзе пра такія маленькія дэмакратычныя нацыі, як, напрыклад, антычныя полісы, дзе ўсе грамадзяне да адзінага мелі магчымасць сабрацца ў нейкім адным грамадзкім месцы і разам даць сябе захапіць нейкаму красамоўнаму прамоўцу. Нічога падобнага я не назіраў у штодзённым жыцці вялікага дэмакратычнага народа, займаючага процілеглае ўзбярэжжа нашага акіяна. Што мяне больш усяго ўразіла ў Злучаных Штатах, дык гэта тыя неймаверныя цяжкасьці, якія выпрабоўвае чалавек, адважыўшыся адкрыць большасьці людзей вочы на сапраўдны змест засвоеных імі ідэй ці ж на сапраўдны выгляд нейкага із абраннікаў. Публікацыі і прамовы наўрад ці дадуць нейкі вынік; да гэтай мэты вядуць толькі асабістыя ўражанні і перажыванні саміх людзей, ды і то не з першага разу.

Гэта, аднак, здаецца дзіўным толькі на першы погляд: пры больш уважлівым вывучэнні ўсё тлумачыцца само сабой.

Я не думаю, што можна лёгка, як некаторыя сабе ўяўляюць, выкараніць забабоны дэмакратычнага народа, перамяніць яго погляды ці ж замяніць новымі рэлігійнымі, філасофскімі, палітычнымі і маральнымі асновамі ўжо склаўшыяся ў іх перакананні – словам, здзяйсняць значныя і частыя рэвалюцыі ў вобласьці свядомасьці. Гэта не азначае, што розум гэтых людзей знаходзіцца ў бяздзейнасьці. Працуючы безупынна, ён, аднак, выяўляе сябе, перадусім, у тым, што да

бясконцасьці вар’іруе разнастайныя вынікі, выцякаючыя із вядомых становішчаў, чым займаецца пошукам новых прынцыпаў. Імкліваму, прамому парыву наперад ён аддае перавагу вярчэнню вакол сваёй восі. Сферу сваёй дзейнасьці ён пашырае паступова, у выніку няспыннага паспешлівага руху, але ніколі не перасоўвае яе раптам.

Людзі, маючыя роўныя правы, роўную адукацыю і багацце, то бок, кажучы коратка, роўныя ўмовы існавання, неадменна павінны валодаць вельмі падобнымі патрэбнамі, звычкамі і густамі. Дзякуючы таму што яны ўспрымаюць рэчаіснасць пад адным і тым жа кутом бачання, іхная свядомасць натуральным чынам схільна да ўспрымання ці ўсведамлення аналагічных ідэй і, хаця кожны із іх можа адысьці ўбок ад сваіх сучаснікаў і сфармаваць свае ўласныя перакананні, яны, нарэшце, прыходзяць, цалкам не падазраючы і не жадаючы гэтага, да цэлага шэрага агульных для ўсіх іх поглядаў.

Чым больш уважліва я разглядаю вынікі ўплыву роўнасьці на свядомасць людзей, тым глыбейшым робіцца маё перакананне ў тым, што інтэлектуальная анархія і сумятня розумаў, сведкамі якіх мы з’яўляемся, не з’яўляюцца натуральным станам для дэмакратычных народаў, хаця шмат хто менавіта так і лічыць. Я думаю, што іх патрэбна разглядаць хутчэй як прыкметы выпадковыя, абумоўленыя маладосьцю гэтых народаў і ўласьцівыя толькі дадзенаму пераходнаму перыяду, калі людзі ўжо разарвалі старыя сацыяльныя сувязі, злучаўшыя іх адзін з адным, але яшчэ захоўваюць каласальныя адрозненні ў тым, што да іх паходжання, адукацыі і нораваў. Такім чынам, захаваўшы надзвычай разнастайныя ідэі, інстынкты і густы, яны не захавалі нічога, што перашкаджала б ім выяўляць іх вольна. Асноўныя погляды людзей робяцца падобнымі па меры таго, як пачынаюць прыпадабняцца ўмовы іхнага існавання. Дадзеная заканамернасць уяўляецца мне ўсеагульнай і пастаяннай, усе астатнія носяць характар выпадковы і праходзячы.

Я ўпэўнены, што ў нетрах дэмакратычнага грамадства вельмі рэдка можна будзе сустрэць чалавека, здольнага раптам стварыць новую сістэму ідэй, вельмі далёкіх ад тых, якія падзяляюцца яго сучаснікамі і нават калі такі наватар абвесьціцца, я лічу, што спачатку ён зведае вялізныя цяжкасьці, імкнучыся зрабіць так, каб яго выслухалі, а потым – яшчэ большыя цяжкасьці, дамагаючыся, каб яму паверылі.

Калі ўмовы жыцця амаль роўныя, адзін чалавек вельмі неахвотна дазваляе другому ў чымсьці сябе пераканаць. Калі ўсё жывуць у цесным суседзтве, калі разам вывучалі адно і тое ж і вядут падобны лад жыцця, людзі не маюць ніякай натуральнай схільнасьці абіраць некага са сваіх у якасьці правадыра і сляпа ісьці за ім: яны наўрад ці давяраюць словам падобнага на іх ці роўнага ім чалавека.

Справа не толькі ў тым, што ў дэмакратычным грамадстве губляецца давер да тых ведаў, якімі валодаюць некаторыя індывіды. Як я ўжо пісаў вышэй, тут хутка пачынае губляцца агульнае ўяўленне пра тое, што які б там ні было асобны чалавек здольны валодаць інтэлектуальнай перавагай над усімі астатнімі.

Па меры таго як людзі ўсё больш узаема прыпадабняюцца, догма пра іхную інтэлектуальную роўнасць памаленьку пранікае ў іхныя перакананні і кожнаму наватару, кім бы ён ні быў, робіцца ўсё цяжэй і цяжэй здабываць і ўтрымліваць моцную ўладу над розумамі. Таму ў такіх дзяржавах нечаканыя інтэлектуальныя рэвалюцыі адбываюцца рэдка, таму што, акінуўшы ўяўным позіркам гісторыю сьвету, мы пабачым, што рашучая, хуткая ломка грамадзкіх поглядаў спараджалася

не столькі магутнасьцю разумення і доказаў, колькі аўтарытэтам імя грамадзкага дзеяча.

Патрэбна таксама ўлічыць тую акалічнасць, што людзей, якія жывуць у дэмакратычным грамадстве, патрэбна пераконваць паасобку, таму што паміж імі няма ніякіх злучаючых нітак, тады як у грамадстве арыстакратычнага тыпу дастаткова пераканаць усяго некалькіх чалавек. А ўсе астатнія пойдуць за імі. Калі б Лютар жыў пад час стагоддзя роўнасьці і не меў бы ў якасьці слухачоў валадарачых сеньёраў і каранаваных асоб, яму, магчыма, было б цяжэй перамяніць аблічча Яўропы.

Гэта не азначае, што насельніцтва дэмакратычных дзяржаў натуральным чынам цьвёрда перакананае ў праўдзівасьці сваіх поглядаў і моцна трымаецца за свае перакананні. Яны часта адчуваюць сумневы, якія адпаведна з іхным поглядам ніхто не ў стане вырашыць. Пад час такіх перыядаў чалавечая свядомасць адчувае патрэбу ў пераменах, але, не падначальваючыся націску нейкай накіроўваючай магутнасьці, яна разгойдваецца сама па сабе і не рухаецца наперад[339].

Нават заваяваўшы давер дэмакратычнага народа, вы сытукнецеся з яшчэ адным складаным заданнем – патрэбай прыцягнуць да сябе яго ўвагу. Вельмі цяжка вымусіць выслухаць сябе людзей, якія жывуць пры дэмакратыі, калі гаворка не ідзе пра іх саміх. Яны не прыслухоўваюцца да таго, што гаворыцца, таму што яны заўсёды заклапочаны станам сваіх уласных спраў.

У дэмакратычных краінах сапраўды сустракаецца мала бяздзейных людзей. Жыццё тут працякае ў атмасферы руху і шуму. І людзі так заняты практычнай дзейнасьцю, што ў іх застаецца мала часу для разважанняў. Асабліва я хачу падкрэсліць той факт, што яны не проста заняты, але вельмі паглынуты сваёй дзейнасьцю. Яны вечна ў дзейнасьці. І кожнае іхнае дзеянне патрабуе канцэнтрацыі ўсіх душэўных здольнасьцей; той запал, які яны выдаткуюць на справы, перашкаджае ім запальвацца ад ідэй.

Я думаю, што абудзіць запал дэмакратычнага народа ў дачыненні да нейкай тэорыі – справа вельмі і вельмі цяжкая, калі гэтая тэорыя не мае відавочнай, прамой і непасрэднай сувязі са штодзённай практыкай яго жыцця. Таму такі народ не адмаўляецца з лёгкасьцю ад сваіх ранейшых перакананняў. Таму што менавіта запал вымушае чалавечы дух пакідаць пракладзеныя шляхі і здзяйсняе, як вялікія інтэлектуальныя, так і палітычныя рэвалюцыі.

Такім чынам, дэмакратычныя народы не маюць ні вольнага часу, ні схільнасьці да пошукаў новых поглядаў. Нават тады, калі яны пачынаюць

---

[339] Разважаючы пра тое, якое ж становішча грамадства з'яўляецца найбольш спрыяльным для вялікіх інтэлектуальных рэвалюцый, я лічу, што гэта павінна быць нешта сярэдняе паміж поўнай роўнасьцю ўсіх грамадзянаў і абсалютнай ізаляцыяй станаў. У каставым грамадстве перамяняюцца пакаленні, ніколькі не перамяняючы сацыяльнага становішча людзей; пры гэтым адны людзі нічога большага і не жадаюць, а іншыя – не спадзяюцца на нешта лепшае. Уяўленне драмае ў атмасферы гэтай цішыні і ўсеагульнай нерухомасьці і нават сама думка пра рух больш не прыходзіць людзям у галовы. Калі станы выяўляюцца скасаванымі, а ўмовы – амаль роўнымі, усе людзі прыходзяць у становішча няспыннага руху, аднак кожны із іх ізаляваны, незалежны і слабы. Нягледзячы на вялізныя адрозненні паміж гэтымі двума грамадзкімі сітуацыямі, яны, усё ж, падобныя ў адным: вялікія рэвалюцыі, адбываючыяся ў чалавечай свядомасьці, – з'явы для іх надзвычай рэдкія. Паміж гэтымі крайнасьцямі, аднак, у гісторыі народаў выяўляецца пераходны перыяд, бліскучая, неспакойная эпоха, калі ўмовы існавання яшчэ не так умацаваліся, каб закалыхваць розум і калі гэтыя ўмовы яшчэ такія няроўныя, што людзі захоўваюць здольнасць рабіць адзін на аднаго глыбокі духоўны ўплыў. А асобныя індывіды яшчэ здольны перамяняць перакананні ўсіх атачаючых. Менавіта пад час такіх перыядаў нараджаюцца магутныя рэфарматары і новыя ідэі раптоўна перамяняюць аблічча сьвету

сумнявацца ў праўдзівасьці тых поглядаў, якія ў іх ужо існуюць, яны, усё ж, іх захоўваюць, таму што іхная замена запатрабавала б зашмат часу і разумовых намаганняў на абследаванне; яны пакідаюць іх пры сабе не ў якасьці рэчаісных, а ў якасьці агульнапрынятых.

Існуюць таксама і іншыя, больш сур'ёзныя нагоды, супрацьдзейнічаючыя таму, каб дактрыны, засвоеныя дэмакратычнымі народамі, маглі з лёгкасьцю зведаць значныя перамены. Я ўжо пазначаў дадзеныя нагоды напачатку гэтай кнігі.

Калі ў такога народа ўплыў асобы такі нікчэмны, што амаль роўны нулю, то, наадварот, уплыў, здзяйсняемы масай на свядомасць кожнага індывіда, вельмі вялікі. Нагоды гэтага я патлумачыў вышэй. У сучасны момант я толькі маю жаданне сказаць, што было б памылкай думаць, быццам бы дадзеная акалічнасць залежыць ад формы дзяржаўнага ўладкавання і быццам бы большасць, губляючы сваю палітычную ўладу, павінна будзе страціць сваё панаванне над розумамі.

У арыстакратыях часта сустракаюцца людзі, адзначаныя веліччу і магутнасьцю ўласнай душы. Выявіўшы сваё непагадненне з пераважаючай большасьцю суграмадзянаў, яны замыкаюцца ў сабе і ў гэтым знаходзяць падтрымку і суцяшэнне. У дэмакратычных народаў усё з'яўляецца інакш. У іх грамадзкае прызнанне здаецца такім жа патрэбным, як і паветра, якім дыхаюць, і чалавек, жывучы ў разладзе з масамі, усё адно, што не жывучы наогул. Масе няма ніякай патрэбы выкарыстоўваць магутнасць законаў, каб падначаліць сабе тых, хто думае інакш. Цалкам дастаткова яе ўласнага асуджэння. Адчуванне сваёй ізаляванасьці і бездапаможнасьці адразу ж пачынае прыціскаць іншадумцаў, даводзячы да іх роспачы.

Заўсёды, калі ўмовы выяўляюцца роўнымі, грамадзкая думка цяжкім прыгнётам кладзецца на свядомасць кожнага індывіда: яна кіруе ім, ахінае яго і душыць. Асновы сацыяльнага ўладкавання грамадства ў большай ступені абумоўлены гэтым фактарам, чым палітычнымі законамі. Па меры таго як сціраюцца адрозненні паміж людзьмі, кожны з іх усё больш востра адчувае сваю немач перад тварам усіх астатніх. Не знаходзячы нічога, што магло б падняць чалавека над масай ці яшчэ неяк вылучыць із яе, ён губляе давер да самога сябе, калі ваюе супраць большасьці: ён не толькі сумняваецца ў сваіх здольнасьцях, але і губляе ўпэўненасць у сваім праве і ў сваёй правасьці і амаль гатовы прызнаць памылковасць сваіх поглядаў таму, што большасць сцвярджае процілеглае.

Большасьці няма патрэбы прымушаць яго: яна яго пераконвае.

Таму як бы ні была арганізавана ўлада ў дэмакратычным грамадстве і як бы яно яе ні ўраўнаважвала, чалавеку тут заўсёды будзе вельмі цяжка верыць у тое, што аспрэчваецца масай і прытрымлівацца тых поглядаў, якія былі ёю асуджаны.

Гэта цудоўным чынам спрыяе ўстойлівасьці перакананняў.

У выпадку калі нейкае меркаванне прымаецца дэмакратычным народам і ўкараняецца ў свядомасьці большасьці людзей, яно само па сабе, без якіх бы то ні было намаганняў захоўвае надалей свае пазіцыі, дзякуючы таму што ніхто на яго не нападае. Людзі, спачатку аспрэчваўшыя яго як ілжывае, нарэшце, пагадняюцца з ім як з агульнапрызнаным, а тыя, хто ў глыбіні душы працягвае яму пярэчыць, нічым сябе не выяўляюць, усімі магчымасьцямі імкнучыся не браць удзел у небяспечным і не маючым карысьці змаганні.

Праўдзіва, што, калі большасць людзей, складаючых дэмакратычны народ, пераменяе свае погляды, яна здольна адпаведна са сваёй воляй здзяйсняць дзіўныя,

імгненныя пеавароты ў сьвеце ідэй. Аднак гэтыя погляды перамяніць вельмі цяжка і амаль так жа цяжка канстатаваць, што яны ўжо перамяніліся.

Часам бывае так, што час, падзеі ці ж адзінкавыя намаганні прыватных індывідаў у канчатковым рахунку прыводзяць да расхіствання ці знішчэння таго ці іншага агульнападзяляемага ўяўлення, што адбываецца паступова, цалкам непрыкметнае для вока назіральніка. Ніхто не ваюе відавочна супраць гэтага ўяўлення. Ніхто не аб’ядноўваецца, каб абвясьціць яму вайну. Яго яскравыя прыхільнікі без шуму адракаюцца ад яго адзін за адным і ў выніку гэтага непрыкметнага штодзённага дэзерцірства, нарэшце, выяўляецца, што гэтае ўяўленне пачынае падзяляцца толькі невялікай колькасьцю людзей.

У такой сітуацыі яно яшчэ пануе на працягу некаторага часу.

Дзякуючы таму што яго супернікі працягваюць маўчаць або толькі таемна дзеляцца сваімі думкамі, яны самі на працягу доўгага часу не могуць заўважыць таго, што карэнны пераварот ужо адбыўся і, раздзіраючыся сумневамі, застаюцца бяздзейнымі. Яны назіраюць і захоўваюць маўчанне. Большасць ужо не верыць, але падтрымлівае бачнасць веры і гэтай пустой здані грамадзкай думкі цалкам хапае на тое, каб астудзіць запал наватараў, трымаючы іх у стане паважаючага маўчання.

Мы жывём пад час эпохі, якая была сведкай самых імклівых перамен, якія калі-небудзь адбываліся ў свядомасьці людзей. І, усё ж, можа здарыцца так, што светапоглядныя падмуркі чалавечых перакананняў хутка знойдуць такую ўстойлівасць, якой яны не ведалі ні пад час аднаго із мінуўшых стагоддзяў нашай гісторыі. Такі час яшчэ не прыйшоў, але, магчыма, ён набліжаецца.

Чым больш пільна я ўзіраюся ў патрэбы і інстынкты дэмакратычных народаў, тым больш пераконваюся ў тым, што, калі роўнасць некалі трывала ўсталюецца ва ўсім сьвеце, вялікія духоўныя і палітычныя рэвалюцыі стануць значна больш рэдкай з’явай і ажыццяўляць іх будзе куды больш складана, чым гэта звычайна ўяўляецца.

У сувязі з тым што людзі, жывучыя ў дэмакратычным грамадстве, заўсёды здаюцца ўзбуджанымі, няўстойлівымі, няспынна кудысьці спяшаючыміся і гатовымі перамяняць свае жаданні і ўладкаванне жыцця, ствараецца ўражанне, быццам бы яны маюць жаданне разам скасаваць усе свае законы, прыняць новыя перакананні і засвоіць новыя норавы. Нікому не прыходзіць у галаву, што роўнасць, хаця і вабіць людзей да перамен, адначасова нараджае ў іх зацікаўленасьці і схільнасьці, якія патрабуюць стабільнасьці для таго, каб быць задаволенымі. Роўнасць падштурхоўвае людзей наперад і адначасова трымае іх на месцы, яна падганяе іх, моцна прывязваючы да зямлі, яна запальвае іхныя жаданні і абмяжоўвае іх здольнасьці.

Гэта выяўляецца не адразу: жарсьці, падзяляючыя ў дэмакратычным грамадстве людзей, цалкам відавочныя, тады як таемная магутнасць, стрымліваючая і аб’ядноўваючая людзей, не бачна з першага позірку.

Ці адважуся я сцвярджаць гэта, калі вакол мяне адны руіны? Калі я думаю пра лёс будучых пакаленняў, мяне больш за ўсё палохаюць зусім не рэвалюцыі.

Калі грамадзяне па-ранейшаму будуць абмяжоўвацца ўсё больш вузкім колам прыватных, хатніх зацікаўленасьцей, без стамлення аддаючы ім свае здольнасьці, існуе небяспека, што ім нарэшце стануць як бы недаступнымі тыя высокія, магутныя грамадзянскія пачуцці, якія бунтуюць народы, спрыяючы, ўсё ж, іхнаму развіццю і абнаўленню. Калі я бачу, наколькі хутка перамяняе сваіх уладальнікаў уласнасць і наколькі неспакойнай і пякучай робіцца смага ўласнасьці,

я не магу пазбавіцца ад уласнай баязні адносна таго, што людзі дойдуць да такой мяжы, калі ўсе новыя тэорыі пачнуць здавацца ім небяспечнымі, кожныя навіны будуць лічыцца непрыемнай турботай, а кожная праява грамадзкага прагрэсу – першым крокам вядучым да рэвалюцыі, праз баязнь перад якой яны цалкам адмовяцца рухацца. Павінен прызнацца, мяне сапраўды палохае магчымасць таго, што імі ў выніку да такой ступені завалодае подлы запал да імгненных асалод, што дзеля яго яны адкінуць зацікаўленасьці сваёй уласнай будучыні і зацікаўленасьці сваіх нашчадкаў, аддаўшы перавагу бязвольна падначаліцца свайму сумнаму лёсу, чым прызнаць патрэбным і здзейсніць рэзкае, энергічнае намаганне з мэтай пераламаць яе ход.

Прынята лічыць, быццам бы новыя грамадствы адчуваюць жаданне штодня перамяняць сваё аблічча, я ж, наадварот, асьцерагаюся, як бы яны не зрабіліся ў выніку занадта нерухомымі, захоўваючымі у нязменным выглядзе свае інстытуты, забабоны і норавы, і як бы род людзкі, самаабмежаваўшыся, не спыніўся ў развіцці. Я асьцерагаюся, як бы чалавечая свядомасць не стала вечна згортвацца і разгортвацца, засяродзіўшыся на самой сабе і не спараджаючы новых ідэй; я баюся, як бы чалавек не замардаваў сябе пасрэднай, адмежаванай і бясплоднай актыўнасьцю і як бы чалавецтва, нягледзячы на ўсю бесперапынную мітусню, не перастала пасоўвацца наперад.

# Глава XXII

## Дзякуючы чаму дэмакратычным народам уласьціва жаданне міру, тады як дэмакратычнае войска жадае вайны

Тыя ж самыя зацікаўленасьці, баязні і жарсьці, якія ўстрымліваюць дэмакратычныя народы ад рэвалюцый, адхіляюць іх і ад вайны; баявы дух і рэвалюцыйныя настроі згасаюць адначасова і дзякуючы ўздзеянню адных і тых жа нагод.

Увесь час павялічваючаяся колькасць заможных прыхільнікаў міру, павелічэнне рухомай уласнасьці, так хутка вынішчаемай вайной, мяккасць нораваў і чуллівасць, нараджаемыя роўнасьцю, здольнасць спачуваць, сухі і ашчадны розум, амаль не адчувальны да паэтычных і буяных жарсьцяў, выклікаемых баявымі дзеяннямі, – усе гэтыя нагоды аб’ядноўваюцца, каб загасіць ваяўнічасць духу дэмакратычнага народа.

Я думаю, што ў якасьці ўсеагульнай увесь час дзейнічаюць заканамернасьці можна прыняць наступнае правіла; у цывілізаваных народаў ваяўнічыя эмоцыі робяцца больш радкімі і менш моцнымі па меры таго, як ураўноўваюцца ўмовы існавання людзей.

Вайна, ўсё ж – гэта няшчасьце, якому падпадаюць ўсе народы, як дэмакратычныя, так і недэмакратычныя. Наколькі б моцным ні было імкненне гэтых нацый да міру, патрэбна, каб яны захоўвалі гатоўнасць адбіць напад, іншымі словамі, ім патрэбна мець войска.

Фартуна, ужо выказаўшая насельніцтву Злучаных Штатаў столькі знакаў асаблівай літасьці, размясьціла іх на пустэльнай тэрыторыі, дзе яны, так бы мовіць, не ведаюць суседства. Ім цалкам дастаткова мець усяго некалькі тысяч жаўнераў, аднак гэтая сітуацыя з’яўляецца спецыфічна амерыканскай. Да дэмакратыі яна не мае ніякага дачынення.

Роўнасць, а таксама адпавядаючыя ёй норавы і дзяржаўныя інстытуты не вызваляюць дэмакратычны народ ад абавязку ўтрымліваць войска, і гэтае войска заўсёды робіць вельмі вялікі ўплыў на яго лёс. Таму так важна даследаваць псіхалогію і пачуцці тых людзей, із якіх складаецца гэтае войска.

У арыстакратычных народаў, асабліва ў такіх, дзе грамадзкае становішча чалавека вызначаецца выключна яго паходжаннем, у войску пануе тая ж самая няроўнасць, што і ў самым грамадстве: афіцэр – гэта дваранін, жаўнер – прыгонны. Першы заклікaны кіраваць, другі – падначальвацца. Таму ў арыстакратычным войску славалюбівыя намеры жаўнера абмежаваны вельмі вузкімі рамкамі.

Славалюбства афіцэраў таксама не бязмежнае.

Арыстакратычны стан не з’яўляецца простай часткай іерархічна арганізаванага грамадства. Усярэдзіне ён сам заўсёды ўладкаваны грунтуючыся на іерархічным прынцыпе: складаючыя яго людзі нязменна стаяць адзін над адным. Сярод іх адным згодна з правам свайго нараджэння наканавана кіраваць палком, іншым – кіраваць ротай. Дасягнуўшы крайняй мяжы сваіх чаканняў, яны спыняюцца самі, цалкам задаволеныя сваім лёсам.

Існуе таксама і іншая важная нагода, астужаючая жаданне афіцэра арыстакратычнага войска дамагацца павышэння ў чыне.

У арыстакратычных народаў афіцэр, незалежна ад яго ваярскага звання, займае высокае становішча ў грамадстве. У яго ўласных вачах ваярскае званне амаль заўсёды рэч другарадная ў параўнанні з яго грамадзкім становішчам. Абіраючы для сябе ваярскую ніву, дваранін не столькі падпарадкоўваецца ўласнаму славалюбству, колькі выконвае свайго роду абавязак, накладаемы на яго нараджэннем. Ён ідзе на ваярскую службу, каб годна правесьці бесклапотныя гады сваёй юнацкасьці і потым мець магчымасць у сямейным і сяброўскім колах падзяляцца сякімі-такімі гераічнымі ўспамінамі са сваё вайсковае жыццё. Выбранне вайсковай кар’еры цалкам не дыктуецца яго імкненнем набыць уласнасць, пашану і ўладу, таму што ён ужо валодае ўсімі гэтымі перавагамі і можа цешыцца імі, не пакідаючы сваёй сядзібы.

У дэмакратычным войску ўсе жаўнеры маюць магчымасць стаць афіцэрамі, што надае ўсеагульнае жаданне дамагацца падвышэння па службе і амаль бязмежна пашырае мяжу славалюбства ў вайскоўцаў.

Са свайго боку афіцэр не бачыць ніякай натуральнай перашкоды, вымушаючай яго абмяжоўвацца атрыманнем таго ці іншага ваярскага звання і кожны наступны чын у яго вачах мае вялізнае значэнне, таму што яго грамадзкае становішча амаль заўсёды вызначаецца яго ваярскім званнем.

У дэмакратычных народаў афіцэры часта не маюць нічога, акрамя свайго пенсіёну і не могуць прэтэндаваць на нейкае грамадзкае прызнанне, акрамя ўшанаванняў за свае ваярскія заслугі. Таму пры кожным новым яго прызначэнні і падвышэнні пермяняецца ўсё яго жыццё і ён робіцца як бы іншым чалавекам. Матывы, маючыя ў жыцці арыстакратычнага войска другарадныя ролі, такім чынам, набылі вядучае значэнне, зрабіліся выключнямі, вызначаючымі само існаванне дэмакратычнага войска.

У часы старой французскай манархіі да афіцэраў звярталіся няйнакш як карыстаючыся іхным дваранскім званнем. У нашы дні да іх звяртаюцца толькі карыстаючыся ваярскіх званем. Гэтая маленькая перамена ў форме моўнага выказвання цалкам пераканаўча сведчыць пра тое, што ўжо адбылася буйная

рэвалюцыя, пераўтварыўшая сацыяльнае ўладкавануне грамадства і ўладкаванне яго ўзброенай моцы.

У дэмакратычным войску амаль усе вайскоўцы апантаны жаданнем выслужыцца. Гэта – гарачае, зацятае, сталае жаданне. Яно падмацоўваецца ўсімі астатнімі жаданнямі і згасае толькі са сьмерцю чалавека. Хаця няцяжка заўважыць, што із усіх войскаў, існуючых на зямлі, падвышэнне па службе ў мірны час павольней усяго павінна адбывацца менавіта ў дэмакратычным войску. Дзякуючы таму што колькасць ваярскіх званняў тут натуральным чынам абмежавана, а колькасць прэтэндэнтаў на іх амаль незлічоная і над усімі пануе неадменны закон роўнасьці, ніхто не здолее зрабіць хуткай кар’еры, а шмат хто не здолее нават пасунуцца з месца. Такім чынам, выклікаючы самую настойлівую патрэбу ў службовым падвышэнні, дэмакратычнае войска дае сваім вайскоўцам найменшыя магчымасьці для росту, чым якое б то ні было іншае войска.

Таму ўсе славалюбівыя людзі ў шэрагах дэмакратычнага войска з нецярпеннем чакаюць войны, таму што дзякуючы ёй вызваляюцца вакансіі і нарэшце дазваляецца парушыць права старэйшага па веку – адзіны прывілей, уласьцівы дэмакратыі.

Такім чынам, мы прыходзім да дзіўнай высновы пра тое, што із усіх войскаў найбольш жарсна жадае ваяваць войска дэмакратычных дзяржаў, тым часам як самі народы гэтых дзяржаў шануюць мір больш усіх астатніх народаў. І самым дзіўным ва ўсім гэтым з’яўляецца тая акалічнасць, што такія процілеглыя вынікі былі народжаны адной і той жа нагодай – роўнасьцю.

Будучы роўнымі, усе грамадзяне штодня адчуваюць жаданне перамяніць да лепшага ўмовы свайго існавання і павялічыць сваё багацце, увесь час шукаючы для гэтага магчымасьці. Гэта вымушае іх шанаваць мір, спрыючы росквіту прамысловасьці і даючы магчымасць кожнаму із іх даводзіць да канца свае пачынанні. З іншага боку, тая ж самая роўнасць, павялічваючы кошт ваярскіх званняў у вачах тых, хто абраў кар’еру вайскоўца і, робячы іх цалкам даступнымі для ўсіх, вымушае ваяроў марыць пра пале бітваў. У абодвух выпадках людзі выяўляюць аналагічную турботу розуму, такую ж неспатольную цягу да асалод і роўнае славалюбства. Рознымі з’яўляюцца толькі сродкі іхнага дасягнення і задавальнення.

Наяўнасць такіх процілеглых зацікаўленасьцей у нацыі і ў войска ўяўляе сабой вялікую небяспеку для дэмакратычнага грамадства.

Калі народ губляе ваяўнічасць духу, ваярская служба адразу ж перастае быць шануемай і прафесійныя вайскоўцы прылічаюцца да самага ніжэйшага разраду дзяржаўных службоўцаў. Іх невысока шануюць і дрэнна разумеюць. То бок адбываецца нешта, прама процілеглае таму, што назіраецца пад час стагоддзяў арыстакратыі. У войска зараз ідуць не лепшыя, а горшыя грамадзяне краіны. Чалавек задумваецца пра вайсковую ніву толькі тады, калі ўсе астатнія для яго зачынены. Такім чынам, ствараецца заганнае кола, із якога цяжка выбрацца. Эліта нацыі ўхіляецца ад вайсковай кар’еры як малапаважаемай, а пашанай яна не карыстаецца таму, што эліта нацыі яе пазбягае.

Таму не варта дзівіцца таму, што вайскоўцы войска дэмакратычных краін часта выяўляюць неспакойны, бурклівы характар, будучы незадаволенымі сваім лёсам, хаця ўмовы службы тут, звычайна, значна лепшыя, а дысцыпліна менш суровая, чым ва ўсіх іншых войсках. Ваяр пачувае сябе чалавекам другога гатунку, і яго прыніжанае самалюбства надае яму густ да вайны, якая давядзе яго

патрэбнасць, ці ж схільнасць да рэвалюцый, падчас якіх ён спадзяецца са зброяй у руках дамагчыся таго палітычнага ўплыву і той асабістай павагі, у якіх яму адмаўляюць.

Склад войска дэмакратычных краін робіць гэтую апошнюю пагрозу вельмі рэчаіснай.

У дэмакратычным грамадстве амаль усе грамадзяне валодаюць уласнасьцю, якую патрэбна захаваць, тады як кіраўнікі дэмакратычнага войска галоўным чынам складаюцца із пралетараў. Вялікая іхная частка мала што можа страціць падчас грамадзянскіх хваляванняў. Асноўная маса народа натуральным чынам значна больш, чым у часы арыстакратыі, баіцца рэвалюцый; вайсковая вярхушка, аднак, баіцца іх значна менш.

Акрамя таго, дзякуючы таму што ў дэмакратычных народаў, як я ўжо выказваўся, найбольш заможныя, адукаваныя і таленавітыя грамадзяне амаль не ідуць на ваярскую службу, войска як такое ўрэшце ператвараецца ў свайго роду маленькую самастойную нацыю, пазначаную больш нізкім інтэлектуальным узроўнем і больш грубымі норавамі і звычаямі, чым уся нацыя ў цэлым. У той час калі гэтая маленькая нецывілізаваная нацыя валодае зброяй і толькі яна ведае, як ёю карыстацца.

Тая пагроза бяспекі дэмакратычных народаў, якую ўтойвае ў сабе ваяўнічы, мяцежны дух войска, у рэчаіснасьці ўзмацняецца не чым іншым, як мірным норавам грамадзянскіх асоб; няма нічога больш небяспечнага арганізаванага войска ў нацыі, страціўшай ваяўнічасць. Празмерная павага ўсіх грамадзянаў да спакою штодня аддае канстытуцыйную ўладу краіны на літасць вайскоўцаў.

Таму, абагульняючы дадзеную думку, можна сказаць наступнае: хаця зацікаўленасьці і эмоцыі дэмакратычных народаў выклікаюць у іх натуральнае імкненне да міру, іхнае войска няспынна падштурхоўвае іх да войн і рэвалюцый.

Вайсковыя перавароты, амаль немагчымыя ў арыстакратычных дзяржавах, уяўляюць сабой сталую пагрозу для дэмакратычных нацый. Гэтую небяспеку варта лічыць найбольш сур’ёзнай із усяго таго, што чакае іх у будучыні; патрэбна, каб іхныя дзяржаўныя дзеячы ўзмоцнена імкнуліся знайсьці эфектыўны сродак супраць яе.

Калі нацыя адчувае сябе ўнутрана зняможанай неспакойнай ганарыстасьцю свайго войска, думка пра вайну першай прыходзіць у галаву, каб хаця б нечым пацешыць дакучлівае славалюбства вайскоўцаў.

Я не хачу блага адзывацца пра вайну: вайна амаль заўсёды пашырае разумовы гарызонт народа, узвышае яго пачуцці. У некаторых выпадках толькі яна здольна стрымліваць надзвычайнае развіццё некаторых схільнасьцей, натуральным чынам спараджаемых роўнасьцю, ці ж можа разглядацца ў якасьці неабходнага сродку лячэння некаторых застарэлых хвароб, да якіх схільна дэмакратычнае грамадства.

Вайна мае вялізныя перавагі, аднак не патрэбна спакушацца тым, што яна здолее паменшыць пазначаную мной небяспеку. Яна толькі дазваляе яе адкласьці, і пасьля заканчэння вайны гэтая небяспека робіцца яшчэ больш грознай, дзякуючы таму што войска з яшчэ большым нецярпеннем пачынае ставіцца да міру, спазнаўшы густ вайны. Вайна можа стаць ратуючым сродкам толькі для такога народа, які заўсёды будзе прагнуць ваярскай славы.

Я прадбачу, што ўсе тыя вайсковыя правадыры, якіх дадуць сьвету дэмакратычныя нацыі, выявяць, што ім лягчэй перамагаць у бітвах, чым

наладжваць мірнае жыццё свайго войска пасьля перамогі. Дэмакратычным народам заўсёды будзе цяжка рабіць дзьве рэчы: пачынаць вайну і заканчваць яе.

Да таго ж, калі вайна і прыносіць асаблівыя выгоды дэмакратычным народам, яна, з іншага боку, надае ім такія небяспекі, якіх не баяцца, ва ўсякім разе ў той жа ступені, арыстакратычныя дзяржавы. Прывяду толькі два прыклады.

Хаця вайна адпавядае патрэбам войска, яна перашкаджае той незлічонай масе грамадзян, часта даводзячы іх да роспачы, якія штодня маюць патрэбу ў міры, каб задавальняць свае сьціплыя патрэбы. Таму небезпадстаўнымі з’яўляюцца баязні адносна таго, што вайна, пачынаемая з разлікам запабегчы грамадзянскіх хваляванняў, сама можа выклікаць іх, толькі ў іншых формах.

Кожная працяглая вайна ўяўляе вельмі вялікую небяспеку для вольнасьці ў дэмакратычных краінах. Гэта не азначае, што пасьля кожнай перамогі неадменна патрэбна баяцца таго, як бы генералы-параможцы не надумаліся гвалтам захапіць вярхоўную ўладу на манер Сулы ці Цэзара. Існуе небяспека цалкам іншага роду. Вайна не заўсёды аддае дэмакратычныя народы пад уладу вайсковых урадаў, але яна заўсёды бязмерна ўзмацняе ўладу грамадзянскага ўрада ў гэтых народаў; яна амаль непазбежна канцэнтруе ў руках апошняга кіраванне ўсімі людзьмі і кантроль над усёй уласнасьцю і рэсурсамі краіны. Калі вайна і не прыводзіць да дэспатызму з дапамогай гвалту, то яна спакваля вымушае людзей прызвычвацца да яго.

Усе тыя, хто імкнецца пазбавіць вольнасьці дэмакратычную нацыю, павінны ведаць, што самы дакладны і самы кароткі шлях да гэтага ляжыць праз вайну. Гэта – першая аксіёма навукі.

Павелічэнне колькасьці войска і вольных пасад уяўляецца відавочным сродкам вырашэння праблемы тады, калі незадавальненне славалюбства афіцэраў і жаўнераў робіцца небяспечным. На некаторы час гэта здымае напружанне, але так жа пагражае павялічыць яго ў будучыні.

Павелічэнне войска здольна даць даўгачасовы эфект у арыстакратычным грамадстве, таму што тут ваярскае славалюбства з’яўляецца толькі прывілеем аднаго стану і кожнаму чалавеку вызначана мяжа яго ўзрастання, так што дадзены захад здольны прынесьці задавальненне амаль усім рухомым славалюбствам вайскоўцам.

Павелічэнне войска, аднак, нічога не дасць дэмакратычнаму грамадству, таму што колькасць славалюбівых прэтэндэнтаў у ім заўсёды павялічваецца ў дакладнай адпаведнасьці з павелічэннем колькасьці самога войска. Тыя людзі, спадзяванні якіх вы задаволіце, стварыўшы новыя пасады, адразу ж замяняюцца новым натоўпам, жаданне якога вы не здолееце задаволіць, ды і першыя хутка зноў пачынаюць жаліцца, таму што ў войску назіраецца ўсё тое ж незаспакаенне духу, якое пануе і ў самым дэмакратычным грамадстве: людзі жадаюць набываць не нейкія вызначаныя чыны, а магчымасць пастаяннага службовага павышэння. Хаця іхныя жаданні і не празмерныя, яны няспынна абнаўляюцца. Такім чынам, дэмакратычны народ, павялічваючы сваё войска, толькі на імгненне заспакойвае славалюбства свайго ваярства, аднак гэтыя славалюбівыя намеры адраджаюцца ў яшчэ больш небяспечных формах, таму што павялічваецца колькасць апантаных імі людзей.

Што асабіста да мяне, то я лічу, што турбота і мяцежнасць духу з’яўляюцца хваробай, уласьцівай самой прыродзе дэмакратычнага войска і што змагацца з гэтым безсэнсоўна. Заканадаўцам дэмакратычных дзяржаў не варта лісьлівіць сябе надзеяй, быццам бы яны здолеюць знайсьці такую форму вайсковага ўладкавання,

якая б сама па сабе заспакойвала і стрымлівала вайскоўцаў; гэта будзе толькі знясільваючым марнаваннем магчымасьцей, не прыводзячым да мэты.

Сродкі змагання з недахопамі войска варта шукаць не ў самым войску, а ў грамадстве ў цэлым.

Дэмакратычныя народы адчуваюць натуральную баязнь перад грамадзянскімі хваляваннямі і дэспатызмам. Патрэбна толькі ператварыць гэтыя інстынктыўныя пачуцці ва ўсведамляемае, разумнае, устойлівае стаўленне да жыцця. Калі грамадзяне авалодалі, нарэшце, уменнем мірна і выгадна карыстацца вольнасьцю, адчуўшы яе станоўчасць, калі яны выхавалі ў сабе мужную павагу да парадку і самаахвотна падначальваюцца правілам, – гэтыя грамадзяне, абіраючы для сябе ваярскую кар’еру, прыносяць у войска несьвядома і як бы насуперак сваім жаданням дадзеныя навыкі і норавы. Агульны маральны стан нацыі, робячы ўплыў на маральны дух войска, памякчае меркаванні і ўціхамірвае жаданні, спараджаемыя ваярскім жыццём, ці ж з дапамогай усемагутнай грамадзкай думкі душыць іх цалкам. Майце асьвечаных, прыстойных, сталых і вольных грамадзянаў – і вы атрымаеце дысцыплінаваных і паслухмяных жаўнераў.

Таму кожны закон, які ў імя ўтаймавання мяцежнага духу войска будзе імкнуцца да паслаблення вальналюбства ў асяроддзі грамадзянскага насельніцтва і да затушоўвання ў яго выразных уяўленняў пра права і пра правы, будзе дзейнічаць непасрэдна супраць сваёй мэты. Ён будзе не столькі перашкаджаць, колькі спрыяць усталяванню вайсковай тыраніі.

Урэшце, як бы там ні было, наяўнасць вялікага войска заўсёды будзе ўяўляць небяспеку для дэмакратычнага народа, і самым эфектыўным спосабам паменшыць гэту небяспеку было б скарачэнне войска; аднак такім сродкам могуць скарыстацца не ўсе народы.

# Глава XXIII

## Якая частка вайскоўцаў дэмакратычнага войска з’яўляецца самай ваяўнічай і рэвалюцыйна наладжанай

Надзвычайная шматлікасць войска параўнальна з колькасьцю ўтрымліваючага іх народа з’яўляецца істотнай сутнасьцю войска дэмакратычнай дзяржавы; нагоды гэтага я патлумачу крыху пазьней.

З іншага боку, людзі, жывучыя ў часы дэмакратыі, рэдка абіраюць кар’еру вайскоўцаў.

Таму дэмакратычныя народы хутка бываюць вымушаны адмовіцца ад прынцыпа самаахвотнага набору ў войска і вяртацца да прымусовага набору на вайсковую службу. Умовы іхнага існавання абавязваюць іх звяртацца да гэтага апошняга сродку і няцяжка прадказаць, што ўсе дэмакратычныя народы возьмуць яго на ўзбраенне.

Калі ваярская павіннасць з’яўляецца абавязковай, яна размяркоўваецца раўнамерна, без якіх бы то ні было адрозненняў на ўсіх грамадзян. Гэта таксама з непазбежнасьцю вынікае із уладкавання жыцця і стану думак гэтых народаў. Урад можа рабіць амаль усё што толькі пажадае, абы яго рашэнні былі разам накіраваны на ўсё насельніцтва; супраціўленне яму звычайна ўзнікае не з нагоды цяжару абавязкаў, а з нагоды нераўнамернасьці іхнага размеркавання.

І дзякуючы таму што ўсе грамадзяне з’яўляюцца вайсковаабавязанымі, цалкам зразумела, што кожны із іх праводзіць пад сьцягамі толькі некалькі гадоў.

Такім чынам, усе акалічнасьці аб’ектыўна абумоўліваюць часовы характар адбывання ваярскай службы, тады як у большай частцы арыстакратычных дзяржаў вайсковая служба – прафесія, абіраемая жаўнерам ці ж ускладаемая на яго на ўсё жыццё.

Гэтая акалічнасць мае сур’ёзныя наступствы. Сярод жаўнераў, складаючых шэрагі дэмакратычнага войска, некаторыя прывязваюцца да вайсковага жыцця, але вялікая іхная частка, закліканая пад сьцягі супраць волі і заўсёды гатовая вярнуцца да родных агменяў, сур’ёзна не думае пра вайсковую кар’еру і марыць толькі пра дэмабілізацыю. Гэтыя людзі не набываюць патрэб і ніколі не засвойваюць і паловы тых жарсьцяў, якія спараджаюцца ладам жыцця прафесійнага вайскоўца. Яны выконваюць свае ваярскія абавязкі, але ў іхных душах цалкам захоўваецца цяга да ранейшага, грамадзянскага жыцця з яго зацікаўленасьцямі і жаданнямі. Таму яны не прасякаюцца вайсковым духам, але, хутчэй, прыносяць з сабой у войска грамадзянскі дух і не губляюць яго. У войску дэмакратычнага народа менавіта простыя жаўнеры ў найвялікшай меры валодаюць рысамі грамадзянскіх людзей і з асаблівай павагай ставяцца да нацыянальных звычаяў і грамадзкай думкі краіны. Менавіта жаўнерская маса дае асаблівую надзею на тое, што дэмакратычнаму войску можна прышчапіць павагу да вольнасьці і павагу да законнасьці, якія былі нададзены самаму народу. Нешта цалкам процілеглае адбываецца ў арыстакратычных дзяржавах, дзе жаўнеры, урэшце, губляюць усе кантакты са сваімі суграмадзянамі, жывячы сярод іх як чужынцы, а часта і як ворагі.

У арыстакратычным войску ахоўваючым элементам выступае афіцэрскі корпус, таму што толькі афіцэр захоўвае трывалыя сувязі з грамадзянскай часткай народа і ніколі не адмаўляецца ад магчымасьці рана ці позна вярнуцца ў яе, заняўшы сваё месца. У дэмакратычных войсках гэтую ролю выконвае жаўнер, пры гэтым кіруемы тымі ж самымі матывамі.

Наадварот, часта здараецца так, што ў дэмакратычным войску афіцэрскі корпус засвойвае густы і жаданні цалкам не ўласьцівыя густам і жаданням нацыі. Гэта зразумела.

У дэмакратычных дзяржавах чалавек, робячыся афіцэрам, парывае ўсе ніткі злучаўшыя яго з грамадзянскім жыццём; ён назаўсёды пакідае гэтае ўладкаванне жыцця і не мае ні найменшага жадання вярнуцца да яго. Яго сапраўднай радзімай робіцца войска, таму што яго значэнне цалкам і даастатку вызначаецца яго чынам і той пасадай, якую ён займае. Таму яго асабісты лёс непасрэдна вызначаецца лёсам войска, яго ўзлётамі і падзеннямі; толькі з ім пачынаючы з гэтага часу злучаюцца яго надзеі і спадзяванні. Дзякуючы таму што зацікаўленасьці афіцэрства вельмі адрозныя ад зацікаўленасьцей краіны, можа здарыцца так, што яно будзе жарсна жадаць войны ці ж рыхтаваць пераварот у той самы момант, калі нацыя больш за ўсё мае патрэбу ў стабільнасьці і міру.

Існуюць, усё ж, фактары, спрыяючыя памякчэнню яго ваяўнічага, неспакойнага характару. Хаця славалюбства з’яўляецца ўсеагульнай і пастаяннай рысай дэмакратычных народаў, яно рэдка, як мы ўжо пазначалі, набывае ў іх крайнія формы. Калі ўраджэнец сярэдніх станаў нацыі, прайшоўшы ўсе самыя нізкія вайсковыя чыны, робіцца афіцэрам, то для яго гэта ўжо вялізны крок наперад. Ён патрапіў у сферу перасягаючую тую, якую займаў у грамадзянскай

частцы народа і набыў правы, якія ў большай часткі дэмакратычных нацый заўсёды будуць разглядацца як незабіраемыя[340].

Дасягнуўшы гэтага з дапамогай вялізных намаганняў, ён ахвотна спыняецца і марыць нацешыцца сваім трыумфам. Боязь рызыкнуць тым, чым ён валодае, астуджае ў яго сэрцы палкае жаданне набыць тое, чаго ў яго яшчэ няма. Пераадолеўшы першую, самую цяжкую перашкоду, замінаўшую яго пасоўванню, ён цярпліва прымірaецца з патрэбай доўга чакаць чарговага падвышэння. Яго славалюбства сцішаецца па меры таго, як, дасягаючы ўсё больш высокага звання, ён усьведамляе, што можа шмат чаго страціць. Калі я не памыляюся, кіруючая вярхушка дэмакратычнага войска заўсёды будзе найменш ваяўнічай і рэвалюцыйна наладжанай часткай войска.

Сказанае мной пра афіцэраў і жаўнераў недастасоўваецца да таго шматлікага стану вайскоўцаў, якія ва ўсіх войсках займаюць прамежкавае паміж імі становішча, я маю на ўвазе ўнтэр-афіцэраў.

Гэты стан унтар-афіцэраў, які аж да сучаснасьці не пакінуў наколькі-небудзь прыкметнага сьледу ў гісторыі, пачынаючы з гэтага часу закліканы мець, згодна з маім перакананнем, вельмі значную ролю.

Падобна афіцэру, унтар-афіцэр у думках разрывае ўсе повязі, злучаючыя яго з грамадзянскай часткай народа; ён так жа, як афіцэр, лічыць вайсковую службу справай свайго жыцця, злучаючы з войскам, магчыма, нават больш чым афіцэр усе свае спадзяванні і надзеі; аднак у адрозненні ад афіцэра ён яшчэ не дасягнуў ніякага высокага, самастойнага становішча і таму не можа сабе дазволіць спыніцца і перадыхнуць у чаканні таго моманту, калі ён здолее падняцца яшчэ вышэй.

Згодна з самой прыродай сваіх службовых абавязкаў, якія з’яўляюцца нязменнымі, унтар-афіцэр вырачаны весьці непрыкметнае, сціснутае, пазбаўленае выгод і надзейнасьці існаванне. Поўнае небяспек вайсковае жыццё яшчэ нічога не дае яму наўзамен. Яно злучана для яго толькі з патрэбай адчуваць пазбаўленні і падначальвацца – патрэбай нават больш цяжкай, чым пераадоленне баязні за ўласнае жыццё. Яго пакуты абвастраюцца ўсьведамленнем таго, што грамадзкае ўладкаванне і прынцыпы вайсковага ўладкавання даюць яму магчымасць вырвацца са свайго бядотнага становішча: з дня на дзень ён сапраўды можа стаць афіцэрам. Тады ён стане камандырам, будзе адзначаны знакамі павагі, знойдзе незалежнасць, правы і будзе мець магчымасць усім гэтым цешыцца. Аднак гэты прадмет яго жаданняў не проста здаецца яму непараўнальным, ён ніколі, аж да авалодання ім, не бывае ўпэўнены ў тым, што ён для яго дасягаемы. Яго ўласнае ваярскае званне на дае яму абсалютна ніякіх гарантый; ён штодня адчувае сваё поўнае бяспраўе перад сваімі камандырамі, узмоцненае ўладнымі патрабаваннямі вайсковай дысцыпліны. Кожная нязначная правіна ці нечы капрыз у момант могуць пазбавіць яго ўсяго таго, што ён цяжкай працай зарабляў на працягу некалькіх гадоў. Таму да таго часу, калі ён здабудзе чакаемы афіцэрскі чын, ён як бы не мае ніякіх заслуг і яго вайсковая кар’ера як бы пачынаецца менавіта з гэтага моманту. Калі чалавек увесь час і настойліва падганяецца сваёй маладосьцю, патрэбай, жарсьцямі, духам свайго часу, надзеямі і баязнямі, у яго сэрцы не можа не ўспыхнуць полымя роспачнага славалюбства.

---

[340] Становішча афіцэра ў дэмакратычным грамадстве фактычна з’яўляецца значна больш забяспечаным і трывалым, чым дзе-небудзь яшчэ. Чым менш афіцэр уяўляе сабой як асоба, тым большае значэнне ён надае свайму ваярскаму званню і тым большую заклапочанасць выказваюць пра яго заканадаўцы, лічачы справядлівым і патрэбным забяспечыць яму магчымасць спакойна карыстацца вынікамі сваёй працы.

Таму ўнтар-афіцэры жадаюць войны, яны жадаюць яе заўсёды і якім бы то ні было коштам і, калі ім у гэтым адмаўляюць, яны жадаюць рэвалюцыі, якая, прыпыняючы дзеянне законаў і правіл, дае ім надзею пад прыкрыццём бязладзіцы і разгулу палітычных жарсцяў прагнаць свайго афіцэра і заняць яго месца. Няма нічога недарэчнага ў тым, што ўнтар-афіцэры здольны здзейсніць пераварот, таму што дзякуючы агульнасьці паходжання і звычак яны робяць вялікі ўплыў на жаўнераў, нягледзячы на тое што імі рухаюць цалкам іншыя жарсьці і жаданні.

Было б памылкай думаць, быццам бы адрозненні ў зацікаўленасьцях і схільнасьцях афіцэраў, унтэр-афіцэраў і жаўнер носяць часовы ці ж лакальны характар. Яны будуць выяўляцца ва ўсе эпохі ў войску ўсіх дэмакратычных нацый.

У кожным дэмакратычным войску ўнтэр-афіцэр заўсёды будзе ў найменшай ступені выяўляць схільнасць да міру, падзяляць прыстойныя норавы насельніцтва краіны, а жаўнер заўсёды будзе выступаць самым непасрэдным носьбітам гэтага нораву. Жаўнер будзе прыносіць з сабой у войска магутнасць ці слабасць нацыянальнага духу; ён будзе ўвасабляць сабой сапраўдны нацыянальны тып. Калі нацыя неадукаваная і слабая, ён дазволіць сваім камандырам несьвядома ці ж супраць сваёй волі прыцягнуць яго да ўдзелу ў хваляваннях. Калі ж нацыя асьвечана і дзейная, ён сам закліча іх да парадку.

# Глава XXIV

## Дзякуючы чаму напачатку вайсковых кампаній дэмакратычнае войска выяўляецца слабейшым за іншыя, робячыся ўсё больш грозным на працягу вайны

Кожнае войска, пачынаючае баявыя дзеянні пасьля доўгага міру, рызыкуе быць пераможаным; кожнае войска, вядучае ўзброенае змаганне на працягу працяглага часу, мае добрыя шанцы на перамогу. У асаблівай меры гэтая праўда дастасоўваецца да войска дэмакратычных дзяржаў.

У арыстакратычных краінах ваярская служба лічыцца прывілеяванай дзейнасьцю і вайскоўцы карыстаюцца павагай нават у мірны час. На ваярскую службу ідуць таленавітыя, высокаадукаваныя, вельмі славалюбівыя людзі; войска ва ўсіх дачыненнях не саступае ўзроўню развіцця нацыі, а часам нават перавышае яго.

Мы бачылі, як, наадварот, у дэмакратыях нацыянальная эліта паступова пачынае пазбягаць вайсковай кар’еры, каб, абраўшы іншыя шляхі, дамагацца для сябе аўтарытэту, улады і перадусім – багацця. Пасьля доўгага міру, а пад час дэмакратый мірныя перыяды вельмі працяглыя, войска заўсёды ў сваёй уласнай краіне знаходзіцца ў занядбаным становішчы. Менавіта ў такім становішчы і застае яго вайна; і да таго часу, пакуль становішча войска рэзка не перамяняе сітуацыю, краіна і войска зведваюць сур’ёзныя небяспекі.

Я ўжо тлумачыў, што ў дэмакратычным войску ў мірны час права старэйшага па веку з’яўляецца самым высокім і строга выконваемае законам павышэння па службе. Гэта вынікае, як я паведамляд, не толькі із прынцыпаў стварэння гэтага войска, але таксама із самога грамадзкага ўладкавання дадзеных народаў і таму будзе ўласьціва ім заўсёды.

Акрамя таго, дзякуючы таму што ў гэтых народаў становішча афіцэра ў краіне цалкам абумоўліваецца яго ваярскім званнем, якое толькі і забяспечвае яму

павагу суграмадзянаў і ўсе тыя жыццёвыя выгоды, якімі ён карыстаецца, ён не ідзе ў адстаўку і не звальняецца із войска аж да апошніх дзён свайго жыцця.

У выніку ўздзеяння гэтых двух нагод дэмакратычны народ, нарэшце, пасьля доўгага мірнага існавання, бяручы ў рукі зброю, выяўляе, што ўсе яго вайсковыя камандыры – старыя. Я кажу не толькі пра генералаў, але і пра малодшых афіцэраў, вялікая частка якіх практычна не ведала падвышэння ці ж расла вельмі павольна. Акінуўшы позіркам доўгі час не ваяваўшае дэмакратычнае войска, вы са здзіўленнем выявіце, што ўсе жаўнеры ў ім – амаль дзеці, а ўсе камандыры – у сталых гадах і, такім чынам, першыя із іх пазбаўлены досьведу, а другія – энергіі.

Дадзеная акалічнасць у значнай меры прадвызначае вайсковыя паразы, таму што першай умовай паспяховага вядзення вайны з'яўляецца маладосць камандыраў. Я ніколі б не адважыўся гэта заявіць, калі б так не сказаў самы вялікі із вайсковых правадыроў нашага часу.

У войску арыстакратычных дзяржаў гэтыя дзьве заканамернасьці дзейнічаюць некалькі іншым чынам.

Дзякуючы таму што падвышэнне па службе ў іх вызначаецца не столькі правам старэйшага па веку, колькі шляхетнасьцю роду, сярод камандыраў кожнага рангу тут заўсёды сустракаецца некаторая колькасць маладых людзей, якія аддаюць вайне ўсю сваю невыдатканую энергію цела і душы.

Акрамя таго, людзі, імкнучыяся пры арыстакратыі да ваярскіх ушанаванняў, займаюць у грамадстве цалкам устойлівае становішча і таму рэдка здараецца, што яны пачынаюць старэць на вайсковай службе. Прысьвяціўшы ваярскай кар'еры самыя дзейныя гады сваёй маладосьці, яны згодна з уласным жаданнем ідуць у адстаўку, каб правесьці каля роднага агменю рэштку сваіх спелых гадоў.

Доўгі мір не толькі прыводзіць да старэння афіцэрскага корпусу ў дэмакратычным войску, але яшчэ і прышчапляе ўсім афіцэрам такія фізічныя і разумовыя звычкі і навыкі, якія робяць іх малапрыдатнымі для вайны. Той, хто на працягу доўгага часу жыў у мірнай, умеранай атмасферы дэмакратычных нораваў, спачатку дрэнна пераносіць тую грубую працу і тыя суровыя вымогі, якія ўскладаюцца на яго вайной. І калі афіцэры і не страцілі канчаткова густу да зброі, засвоены імі лад жыцця, сама меней, перашкаджае ім паспяхова весьці баявыя дзеянні.

У арыстакратычных народаў жыццё грамадзянскай часткі насельніцтва не робіць наколькі-небудзь значнага спешчваючага ўплыву на ваярскія норавы, таму што ў гэтых народаў войскам кіруюць арыстакраты. А арыстакратыя ж, наколькі б ні была яна прывязана да вытанчанай раскошы, заўсёды валодае шматлікімі іншымі жарсьцямі, акрамя заклапочанасьці пра выгоды і таму ахвотна ахвяруе на час уласным дабрабытам з мэтай больш поўна задаволіць іншыя свае жарсьці.

Я адзначаў, наколькі павольна адбываецца падвышэнне па службе ў дэмакратычным войску ў мірны час. Спачатку афіцэры з нецярпеннем прымiраюцца з дадзеным становішчам; яны хвалююцца, адчуваюць трывогу, прыходзяць у роспач; з цягам часу, аднак, вялікая частка із іх утаймоўваецца. Тыя, хто валодае адмысловым славалюбствам, здольнасьцямі і магчымасьцямі, пакідаюць войска, іншыя, сувымераўшы ўласныя схільнасьці і жаданні са сваёй не выклікаючай вялікай зайздрасьці доляй, урэшце пачынаюць ацэньваць ваярскую службу з боку гледжання каштоўнасьцей грамадзянскай часткі насельніцтва. Вышэй усяго яны шануюць тую забяспечанасць і тую трываласць грамадзкага становішча, якія яна можа прынесьці; усе свае віды на будучыню яны злучаюць з

надзейнасьцю гэтай сціплай узнагароды і не патрабуюць нічога, акрамя права мірна ёю карыстацца.

Такім чынам, доўгі мір не толькі напаўняе дэмакратычнае войска састарэлымі афіцэрамі, але і выхоўвае пачуцці ўласьцівыя старасьці нават у афіцэраў, знаходзяыхся ў поўным росквіце здольнасьцей.

Я таксама ўжо пазначаў, што ў мірны час вайсковая служба ў дэмакратычных краінах не лічыцца прэстыжнай і на яе ідуць неахвотна.

Такая непрыхільнае стаўленне грамадства цяжкім грузам цісьне на войска, прыцічкаючы яго маральны дух. І таму, калі нарэшце пачынаецца вайна, баявы дух войска не мае магчымасьці адразу распрастацца, зноў набыўшы пругкасць і магутнасць.

Падобная нагода паслаблення маральнага духу невядома арыстакратычнаму войску. Іхныя афіцэры ніколі не лічаць сябе зняважанымі ва ўласных вачах ці ж у вачах сваіх блізкіх, таму што незалежна ад свайго ваярскага звання яны з'яўляюцца фігурамі самі па сабе.

І нават калі ўплыў міру адбіваўся б у роўнай меры як на адным так і іншым войску, вынікі ўсё ж былі б рознымі.

Калі афіцэры арыстакратычнага войска губляюць баявы дух і жаданне ўславіць сваю зброю, у іх усё ж яшчэ захоўваецца некаторая павага да гонару свайго стану і ўкаранiўшаяся звычка быць наперадзе, паказваючы асабісты прыклад. Калі ж густ да вайны і ваярскае славалюбства губляюць афіцэры дэмакратычнага войска, то ў іх за душой не застаецца нічога.

Таму я лічу, што дэмакратычны народ, пачынаючы весьці вайну пасьля доўгага міру, нашмат больш рызыкуе зведаць паразу, чым арыстакратычная дзяржава, але яно не павінна лёгка падаць духам ад гэтых няшчасьцяў, таму што па меры працягу вайны шанцы яго войска на перамогу павышаюцца.

Калі ж вайна, робячыся зацяжной, нарэшце, адрывае ўсіх грамадзянаў ад мірнай працы і прыводзіць да банкруцтва іхныя дробныя прадпрыемствы, здараецца так, што тыя ж самыя пачуцці, якія вымушалі іх так высока шанаваць мір, зараз заклікаюць іх да зброі. Вайна, разбурыўшы ўсе галіны прамысловасьці, сама робіцца адзінай вялізнай яе галіной і толькі да яе накіроўваюцца ўсе палкія і славалюбівыя намеры, спараджаемыя роўнасьцю. Менавіта таму дэмакратычныя народы, з такім нежаданнем выходзячыя на палі бітваў, часам здзяйсняюць на іх цуды гераічнасьці, калі ўжо іх вымусілі, урэшце, узяцца за зброю.

Па меры таго як вайна ўсё больш прыцягвае позіркі ўсяго народа да войска і людзі бачаць, наколькі хутка яна можа прынесьці славу і значную ўзнагароду, на вайсковую службу пачынае ісьці нацыянальная эліта; усе прадпрымальныя, адважныя, ваяўнічыя па натуры людзі, якіх нараджае не толькі арыстакратыя, але ўсе пласты грамадства, накіроўваюцца ў войска.

Дзякуючы таму што вайна з няўмольнай патрабавальнасьцю вызначае сваё месца кожнаму із вялізнай колькасьці прэтэндэнтаў на ваярскія заслугі, у выніку заўсёды выяўляюцца людзі, валодаючыя талентам вайсковых правадыроў. На працягу доўгай вайны дэмакратычнае войска перажывае тое ж самае, што ўвесь народ перажывае падчас рэвалюцыі. Вайна знішчае ўсе правілы, даючы магчымасць выдатным людзям раптам з'яўляцца на падмостках. Афіцэры, састарыўшыяся як душой так і целам пад час мірнага перыяду, пакідаюць войска, ідуць у адстаўку ці паміраюць. На іхныя месцы рашуча накіроўваецца натоўп маладых людзей, ужо прайшоўшых баявую загартоўку і злучаючых з вайной свае

далёка ідучыя задумы і палкія жаданні. Яны жадаюць як бы там ні было і безупынна расьці ад звання да звання; ззаду іх падштурхоўваюць іншыя, надзеленыя тымі ж жарсьцямі і жаданнямі, якіх у сваю чаргу таксама падштурхоўваюць ідучыя ззаду і так да бясконцасьці – мяжа ўсталёўваецца толькі агульнай колькасьцю самога войска. Роўнасць дазваляе кожнаму чалавеку адчуваць славалюбівыя жаданні. А баявыя страты даюць усім славалюбам шанцы ажыццявіць гэтыя жаданні. Смерць няспынна прарэжвае шэрагі, стварае вакансіі, завяршаючы і пачынаючы ваярскія кар’еры.

Вайна да таго ж раскрывае наяўнасць таемнай узаемасувязі паміж духам войска і норавамі дэмакратычнага народа.

Людзі, жывучыя пры дэмакратыі, адчуваюць натуральнае жаданне хутка набыць тыя даброты, якіх яны прагнуць і цешыцца імі з лёгкім сэрцам. Вялікая колькасць гэтых людзей паважае рызыку і менш баіцца сьмерці, чым розных цяжкасьцей. З такім настроем яны займаюцца камерцыяй і прамысловасьцю. Калі ж яны прыносяць падобны настрой на поле бойкі, ён вымушае іх самаахвотна рызыкаваць сваім жыццём, каб імгненна здабываць сабе лаўры перамогі. Ніякая іншая выява велічы не захоплівае ўяўленне дэмакратычнага народа больш моцна, чым асляпляючая ваярская слава, здабываемая імкліва, без карпатлівых намаганняў, з рызыкай толькі для ўласнага жыцця.

Такім чынам, хаця зацікаўленасьці і схільнасці грамадзянаў дэмакратычнага грамадства адхіляюць іх ад вайны, уласьцівы ім склад думак робіць іх цалкам прыдатнымі для паспяховага вядзення баявых дзеянняў; яны з лёгкасьцю робяцца добрымі жаўнерамі, як толькі атрымліваецца адарваць іх ад сваіх справаў і мірнага дабрабыту[341].

Такім чынам, калі мір асабліва шкодны для дэмакратычнага войска, то вайна дае яму такія перавагі, якіх ніколі не мае іншае войска; і гэтыя спачатку ледзь прыкметныя перавагі не могуць у канчатковым рахунку не прывесьці іх да перамогі.

Арыстакратычны народ, ваюючы супраць дэмакратычнай нацыі, моцна рызыкуе апынуцца пераможаным ёю, калі ў яго не атрымалася перамагчы яе ў выніку першых жа баявых аперацый.

# Глава XXV

## Пра дысцыпліну ў дэмакратычным войску

Шырокае пашырэнне, перадусім у арыстакратычных краінах, атрымала думка пра тое, што занадта вялікая сацыяльная роўнасць, пануючая ў дэмакратычных грамадствах, з цягам часу робіць жаўнера незалежным ад афіцэра і такім чынам мае наступствам развал вайсковай дысцыпліны.

Гэта памылка. У рэчаісным жыцці існуюць два тыпы дысцыпліны, якія не варта змешваць. Калі афіцэр – дваранін, а жаўнер – прыгонны, калі першы із іх заможны, а другі немаёмасны, калі адзін адукаваны і надзелены ўладай, а другі невуцкі і нямоглы, паміж імі лёгка ўсталёўваецца дачыненне самай поўнай залежнасьці і пакоры. Жаўнер быў прывучаны да ваярскай дысцыпліны, можна сказаць, яшчэ да таго, як паступіў у войска, ці хутчэй ваярская дысцыпліна ў дадзеным выпадку з’яўляецца не чым іншым, як завершанай формай сацыяльнага

[341] (*341 заўвага аўтара пасьля заканчэння кнігі)

падпарадкавання. У арыстакратычным войску шарагоўцы даволі лёгка робяцца як бы абыякавымі да ўсяго на сьвеце, акрамя загадаў сваіх камандыраў. Жаўнер дзейнічае бяздумна, без жарсьцяў здабывае перамогі і памірае без скаргаў. У такім стане ён больш не чалавек, але зноў жа – вельмі небяспечная жывёла, вымуштраваная для вайны.

Дэмакратычныя народы павінны адмовіцца ад спроб калі-небудзь дамагчыся ад сваіх жаўнераў падобнага сляпога, дробнага, пакорлівага, заўсёды нязменнага паслухмянства, якое арыстакратычныя народы без цяжкасьцей надаюць сваім жаўнерам. Сацыяльна-палітычнае ўладкаванне грамадства пры дэмакратыі ніякім чынам не падрыхтоўвае людзей да падобнага падпарадкавання; дэмакратыі рызыкуюць страціць свае натуральныя перавагі, калі пажадаюць дамагчыся яго штучным шляхам. Ваярская дысцыпліна ў дэмакратычных народаў не павінна спрабаваць душыць вольныя парывы душы ў жаўнераў; яна павінна імкнуцца толькі да таго, каб імі кіраваць; нараджаемае ёю падпарадкаванне з'яўляецца не такім безумоўным, але затое яно больш энергічнае і разумнае. Яна караніцца ў волі таго, хто падначальваецца, абапіраючыся не толькі на яго інстынкты, але і на розум і таму яна часта набывае большую жорсткасць сама па сабе, калі гэтага патрабуе бяспека. У арыстакратычным войску дысцыпліна падчас вайны трохі паслабляецца, таму што гэтая дысцыпліна заснавана на звычках, якія парушаюцца вайной. Дысцыпліна ў дэмакратычным войску, наадварот, умацоўваецца перад тварам ворага, таму што кожны жаўнер вельмі добра разумее, што ў імя перамогі ён павінен маўкліва падначальвацца.

Народы, дамагаўшыя найбольш значных поспехаў у вайне, не ведалі ніякай іншай дысцыпліны, акрамя той, пра якую я толькі што павядоміў. Пад час старажытнасьці ў войска браліся толькі вольныя і меўшыя грамадзянскія правы людзі, якія, мала адрозніваючыся адзін ад аднаго, адпаведна са звычаем мелі стасункі як роўныя. У гэтым сэнсе можна лічыць войска антычных дзяржаў дэмакратычным войскам, хаця самі ўтвараўшыя іх грамадствы былі арыстакратыямі. Таму ў гэтым войску паміж афіцэрам і жаўнерам усталёўваліся блізкія дачыненні субратоў па зброі. У гэтым пераконвае чытанне «Параўнальных жыццяапісанняў» Плутарха. Жаўнеры ў яго часта і вельмі вольна размаўляюць са сваімі камандырамі, а тыя ахвотна выслухваюць прамовы сваіх жаўнераў і адказваюць ім. Гэтыя вайскаводы пераконвалі сваіх падначаленых словам і справай, а не магутнасьцю прымусу і баязню пакарання. Для жаўнераў яны ў роўнай меры былі і камандырамі і паплечнікамі.

Я не ведаю, ці была ваярская дысцыпліна ў старажытных грэкаў і рымлянаў даведзена да такой дасканаласьці ва ўсіх сваіх нюансах, як у рускім войску, аднак гэта не перашкодзіла Аляксандру Вялікаму заваяваць Азію, а Рыму – увесь старажытны сьвет.

# Глава XXVI

## Некаторыя меркаванні з нагоды войн у дэмакратычных грамадствах

Калі прынцып роўнасьці пачынае замацоўвацца ў жыцці не толькі адной нацыі, але адначасова і шмат у якіх суседніх народаў, як гэта адбываецца ў Яўропе ў нашы дні, людзі, насяляючыя гэтыя краіны, нягледзячы па адрозненне моваў,

звычаяў і законаў, падобныя адзін на аднаго тым, што ў роўнай меры асьцерагаюцца войн і адчуваюць падобную павагу да міру[342].

Дарэма славалюбства ці гнеў падахвочваюць валадароў брацца за зброю: свайго роду ўсеагульная апатыя і зычлівасць падданых улагоджваюць іх і мячы вывальваюцца із іхных рук. Войны робяцца больш рэдкімі.

Па меры таго як роўнасць, адначасова развіваючыся ў шмат якіх краінах, зацягвае ў прамысловасць і гандаль насельніцтва гэтых дзяржаў, людзі не толькі выяўляюць падабенства схільнасьцей і густаў, але іхныя зацікаўленасьці зьбліжаюцца і пераплятаюцца ў такой ступені, што ніводная із нацый не можа прычыніць шкоды іншым нацыям, не зведваючы пры гэтым пакут самой і што ўсе народы пачынаюць ставіцца да вайны як да катастрофы, амаль такой жа жудаснай для перамогшага, як і для пераможанага.

Таму, з аднаго боку, пад час стагоддзяў дэмакратыі вельмі цяжка прымусіць народы ваяваць адзін з адным, але, з другога боку, амаль немагчымай з’яўляецца такая сітуацыя, каб два народы ў поўнай адзіноце ваявалі адзін з адным. Зацікаўленасьці ўсіх народаў так пераплецены, а іхныя светапогляды і патрэбы з’яўляюцца такімі блізкімі, што ніводзін з іх не здолее захоўваць спакой пад час перыяду ўсеагульнай узрушанасьці. Такім чынам, войны робяцца больш рэдкімі, але тады, калі яны пачынаюцца, яны ахопліваюць значна большую тэрыторыю.

Жывучыя па суседству дэмакратычныя народы прыпадабняюцца адзін аднаму не толькі, як я ўжо паведамляў, у нейкіх вызначаных дачыненнях, але ў канчатковым рахунку робяцца падобнымі амаль ва ўсім[343].

А гэтае ж падабенства паміж народамі мае надзвычай важныя ў вайсковым дачыненні наступствы.

Калі я задаюся пытаннем, дзякуючы чаму Швейцарская канфедэрацыя XV стагоддзя вымушала трымцець самыя шматлікія і магутныя нацыі Яўропы, тады як

---

[342] Лічу, няма патрэбы тлумачыць чытачу, што баязнь перад вайной, выяўляемая еўрапейскімі народамі, не надаецца выключна толькі зацьверджаннем роўнасьці ў іхных грамадствах. Незалежна ад гэтай увесь час дзейнічаючай нагоды моцны ўплыў на іх стаўленне да вайны надаюць шматлікія выпадковасьці, із якіх я перадусім вылучыў бы надзвычайную іхную стомленасць; застаўшуюся пасьля войн Французскай рэспублікі і Імперыі.

[343] Гэта надаецца як тым, што дадзеныя народы маюць аднолькавае сацыяльна-палітычнае ўладкаванне, так і тым, што сацыяльныя ўмовы іхнага існавання адпаведна са сваёй прыродай падахвочваюць людзей мець стасункі паміж сабой і пераймаць адзін аднаму. Калі грамадзяне падзелены на касты і на станы, яны не толькі моцна адрозніваюцца адзін ад аднаго, але і не выяўляюць ні найменшага жадання ці тэндэнцыі быць падобнымі; наадварот, кожны з іх усё мацней і мацней імкнецца захаваць у недатыкальнасьці свае ўласныя перакананні і звычкі, каб застацца самімі сабой. Сярод іх вельмі жывучым з’яўляецца дух індывідуальнай непаўторнасьці. Калі нейкі народ робіцца дэмакратычным, то бок калі ён не мае больш каст і станаў і калі ўсе грамадзяне прыкладна роўныя адпаведна са сваёй адукацыяй і маёмасным становішчам, пачуцці людзей набываюць прама процілеглы накірунак. Людзі ўзаема прыпадабняюцца і больш таго нейкім чынам пакутуюць, калі ім не атрымліваецца быць падобным адзін на аднаго. Зусім не жадаючы захаваць тое, што яшчэ можа адрозніваць іх адзін ад аднаго, яны імкнуцца страціць гэтыя адметныя прыкметы, каб стаць неаддзяляемай часткай агульнай масы, якая ў іхных вачах з’яўляецца адзіным носьбітам права і магутнасьці. Дух індывідуальнай непаўторнасьці сярод іх амаль вынішчаны. У часы арыстакратыі нават роўныя і падобныя адзін на аднаго людзі імкнуцца прыдумаць для сябе штучныя адрозненні. У часы дэмакратыі нават тыя, хто адрозніваюцца адзін ад аднаго, жадаюць стаць падобнымі і адзін у аднаго запазычваюць – такім моцным з’яўляецца ўплыў агульнага светаадчування на свядомасць кожнага асобнага чалавека. Нешта падобнае назіраецца таксама і ў дачыненнях паміж народамі. Для таго каб два суседнія народы маглі заставацца вельмі адмысловымі, моцна адрознымі адзін ад другога, абодва яны павінны мець арыстакратычнае грамадзкае ўладкаванне, дзякуючы таму што арыстакратычны дух спрыяе індывідуалізацыі. Але два суседнія народы не могуць быць дэмакратычнымі без таго, каб адразу ж не ўспрымаць падобных поглядаў і нораваў, таму што дух дэмакратыі вымушае людзей асімілявацца.

у нашы дні яе вайсковая магутнасць дакладна адпавядае колькасьці яе насельніцтва, я прыхожу да высновы, што швейцарцы сталі падобнымі на ўсіх сваіх суседзяў, а яны ў сваю чаргу – падобнымі на швейцарцаў. Падобнымі настолькі, што адрозніваюцца толькі колькасьцю войска, колькасная перавага якіх неадменна прыносіць перамогу. Адным із вынікаў адбываючайся ў Яўропе дэмакратычнай рэвалюцыі з’явілася панаванне колькаснага фактара на палях усіх бітваў, што прымушае ўсе малыя народы ўваходзіць у склад вялікіх дзяржаў ці, прынамсі, заключаць з імі палітычныя звязы.

Дзякуючы таму што колькасцьператварылася ў вызначаючы фактар вайсковага поспеху, кожны народ вымушаны усімі магчымасьцямі імкнуцца вывесьці на поле бою як мага большую колькасць людзей.

Калі пад сьцягі можна было збіраць лепшае ў сваім родзе войска тыпу швейцарскай пяхоты ці французскай кавалерыі XVI стагоддзя, ніхто не лічыў патрэбным ствараць вельмі вялікае войска, але зараз, калі ўсе жаўнеры не вельмі адрозніваюцца адзін ад аднаго, становішча перамянілася.

Нагода, напараджаючая гэтую новую патрэбу, дае таксама і сродкі яе задавальнення. Дзякуючы таму што, як я ўжо пазначаў, усе роўныя паміж сабой людзі з’яўляюцца аднолькава слабымі, дзяржаўная ўлада, натуральна, значна больш моцная ў дэмакратычных народаў, чым у якім бы то ні было іншым грамадстве. Гэтыя народы, такім чынам, не толькі адчуваюць жаданне забраць на вайсковую службу ўсё мужчынскае насельніцтва краіны, але і маюць магчымасць гэта ажыццявіць, так што пад час стагоддзяў роўнасьці, як уяўляецца, войска колькасна павялічваецца па меры таго, як згасае ваярскі дух нацыі.

Пад гэтых стагоддзяў дзякуючы дзеянню тых жа нагод перамяняюцца і спосабы вядання вайны.

У сваёй кнізе «Валадар» Макіявелі піша: «Значна цяжэй скарыць народ, кіруемы манархам і баронамі, чым народ, кіруемы манархам і рабамі». Давайце заменім, каб нікога не пакрыўдзіць, слова «рабамі» на «дзяржаўнымі службоўцамі» і мы атрымаем вялікую праўду, цалкам дастасоўваемую да нашага прадмета.

Вялікаму арыстакратычнаму народу вельмі цяжка заваяваць сваіх суседзяў, роўна як і быць заваяваным імі. У яго не атрымліваецца заваяваць суседзяў таму, што ён ніколі не можа аб’яднаць усю сваю моц і захаваць яе адзінства на працягу працяглага часу; ён не можа быць заваяваны таму, што вораг паўсюдна будзе сустракаць агмені супраціўлення. Вайну на тэрыторыі нейкай арыстакратычнай дзяржавы я б параўнаў з баявымі дзеяннямі ў горнай мясцовасьці: пераможаныя кожны раз маюць магчымасць зноў сабрацца на новай пазіцыі і трывала яе абараняць.

Прама процілеглае назіраецца ў дэмакратычных народаў. Яны без асаблівых цяжкасьцей выводзяць на поле бітвы ўсю маючуюся ў іх магутнасць і, калі нацыя багатая і шматлікая, яна лёгка перамагае, але ў выпадку, калі яна зведвае паразу і вораг прыходзіць на яе тэрыторыю, у яе застаецца мала рэсурсаў для супраціўлення і, калі справа даходзіць да захопу сталіцы, нацыя гіне. Тлумачыцца гэта вельмі проста: дзякуючы таму што кожны грамадзянін індывідуальна ізаляваны і слабы, ніхто не ў стане абараніць сам сябе ці падтрымаць іншых. У дэмакратычнай краіне магутнасьцю валодае толькі дзяржава; калі вайсковая моц дзяржавы скасавана з нагоды знішчэння яе войска, а яе кіруючая ўлада паралізавана дзякуючы захопу сталіцы, краіна ўяўляе сабой не што іншае, як некіруемае, ні да чаго непрыдатнае насельніцтва, няздольнае ваяваць супраць арганізаванага наступаючага войска

суперніка. Я ведаю, што гэтую небяспеку можна паменшыць, даўшы правінцыям некаторыя правы і вольнасьціі, але гэты сродак заўсёды будзе не цалкам дастатковым.

У падобнай сітуацыі насельніцтва не толькі не здолее працягваць вайну, але баюся, што і не пажадае гэтага рабіць.

У адпаведнасьці з нормамі, прынятымі сярод цывілізаваных нацый, войны вядуцца не дзеля прысваення асабістай маёмасьці грамадзянаў, але толькі для захопу палітычнай улады, прыватная ўласнасць знішчаецца толькі выпадкова і ў імя дасягнення асноўнай мэты.

Калі супернік, разграміўшы войска арыстакратычнай нацыі, прыходзіць на яе тэрыторыю, дваране, хаця яны адначасова з’яўляюцца і заможнымі грамадзянамі, аддаюць перавагу працягваць індывідуальнае супраціўленне, чым скарацца, таму што, калі пераможац застанецца гаспадаром краіны, ён забярэ ў іх палітычную ўладу, якую яны шануюць нават вышэй, чым сваю ўласнасць. Таму яны аддаюць перавагу змаганню перад прызнаннем сябе пераможанымі – самаму жахліваму для іх няшчасьцю і ім без цяжкасьцей атрымліваецца весьці за сабой народ, на працягу доўгага часу прывучаны ісьці за імі і падначальвацца ім, народ, які да таго ж амаль нічым не рызыкуе ў гэтай вайне.

У тых жа нацый, дзе пануе роўнасць умоваў існавання, кожны грамадзянін надзелены толькі маленечкай доляй палітычнай улады, а часта і цалкам ёю абдзелены; з другога боку, усе яны незалежныя і валодаюць уласнасьцю, якую могуць страціць, так што яны значна менш баяцца таго, што будуць заваяваны і значна больш асьцерагаюцца самой вайны, чым народ арыстакратычнай дзяржавы. Насельніцтва дэмакратычнай краіны заўсёды будзе вельмі цяжка схіліць да таго, каб яно ўзялося за зброю тады, калі вайна пачынае весьціся на яе тэрыторыі. Таму так патрэбна даць гэтым народам палітычныя правы і выхаваць у іх грамадзянскую самасвядомасць, здольныя надаць ім некаторыя із тых зацікаўленасьцей і матываў, якімі кіруюцца прадстаўнікі дваранства пры арыстакратыі.

Патрэбна, каб валадары і іншыя ўрадаўцы дэмакратычных нацый моцна засвоілі, што са звычкай і запалам да матэрыяльнага дабрабыту можна паспяхова змагацца толькі толькі з дапамогай звычкі і жарснага шанавання вольнасьці. У адваротным выпадку я не ўяўляю сабе нічога менш здольнага выстаяць перад захопнікам, чым нейкі із дэмакратычных народаў, не маючы вольных інстытутаў.

У былыя часы баявыя дзеянні вяліся малым войскам і ўяўлялі сабой дробныя ўзброеныя сутычкі і доўгія аблогі. Зараз даюцца буйныя бітвы і, як толькі з’яўляецца магчымасць вольна ісьці наперад, войска накіроўваецца да сталіцы суперніка, каб адным ударам закончыць вайну.

Кажуць, што гэтую новую сістэму вынайшаў Напалеон. Адзін чалавек, кім бы ён ні быў, не ў стане стварыць нешта падобнае. Спосаб ведання вайны, ужываемы Напалеонам, быў падказаны яму ўсёй сацыяльна-палітычнай сітуацыяй яго эпохі і эфектыўнасць гэтага спосабу абумаўлівалася тым, што ён выдатна адпавядаў дадзенай сітуацыі, а таксама тым, што Напалеон першым узяў яго на ўзбраенне. На чале войска ён першым прайшоў шлях, злучаючы сталіцы ўсіх краін. Аднак гэты шлях адкрыўся для яго пасьля знішчэння феадальнага грамадства. Існуюць некаторыя падставы меркаваць, што, калі б гэты выдатны чалавек нарадзіўся гадоў трыста таму назад, ён не здолеў бы пажынаць плады з дапамогай дадзенага спосабу ведання вайны ці хутчэй ён выкарыстаў бы іншы спосаб.

Што да грамадзянскіх войнаў, то дадам пра гэта ўсяго некалькі слоў, таму што баюся выпрабоўваць цярплівасць чытача.

Большая частка таго, што я паведаміў адносна знешній войн, з яшчэ большай падставай дастасоўваецца да грамадзянскіх войнаў. Людзі, жывучыя ў дэмакратычных краінах, не надзелены прыроднай ваяўнічасьцю; у іх часам прачынаецца баявы дух, калі яны насуперак свайму жаданню апынаюцца на палях бітваў, але дружна падымацца адпавесна з уласным жаданнем і свядома аддаваць сябе на пазбаўленні, прыносімыя вайной і асабліва вайной грамадзянскай, – на гэта чалавек із дэмакратычнага грамадства наўрад ці адважыцца. Толькі самыя роспачныя із авантурыстаў пойдуць на падобную рызыку; маса грамадзянскага насельніцтва не кранецца з месца.

І нават калі б гэтая маса пажадала дзейнічаць, ёй было б не так лёгка гэта зрабіць, таму што ў сваім асяроддзі яна не знойдзе ні людзей, валодаючых трывалым, даўно ўсталяваўшымся аўтарытэтам, якім яна пажадала б падначальвацца, ні агульнапрызнаных лідараў, здольных аб’яднаць усіх незадаволеных, узначаліць іх і павесьці за сабой. Няма тут і нізавых палітычных магутнасьцей, здольных зрабіць дзейсную падтрымку народным масам у іхным супраціве цэнтральнаму ўраду.

У дэмакратычных краінах маральная магутнасць большасьці вялізная і матэрыяльныя магчымасьці, якімі яна валодае, несумерныя з магчымасьцямі тых, хто можа спачатку аб’яднацца супраць яе. Таму партыя, засеўшая ў цытадэлі большасьці, выказваючаяся ад яе імя і карыстаючаяся яе магутнасьцю, імгненна і без цяжкасьцей здабывае перамогу над усімі асобнымі спробамі супраціву. Яна не дае ім нават часу з’явіцца на сьвет, знішчаючы іх у зародку.

Людзі, ахвочыя здзейсніць рэвалюцыю ў дэмакратычнай краіне з дапамогай зброі, не маюць, такім чынам, ніякай іншай магчымасці здабыць перамогу акрамя раптоўнага захопу ўсяго дзяржаўнага апарата цалкам, што ў іх можа атрымацца хутчэй у выніку дзяржаўнага перавароту, чым з нагоды грамадзянскай вайны, таму што, як толькі пачнуцца рэгулярныя вайсковыя дзеянні, перамога амаль заўсёды будзе забяспечана той партыі, якая прадстаўляе дзяржаву.

Толькі ў адным выпадку магчымы пачатак грамадзянскай вайны ў дэмакратычным грамадстве: калі адбываецца раскол у войску і частка войска падымае сьцяг паўстання, а другая іхная частка захоўвае вернасць ураду. Войска – гэта маленькае грамадства, адзначанае вельмі цеснымі ўзаемасувязямі і высокай актыўнасьцю і валодаючае здольнасьцю на працягу некаторага часу задавальняцца выключна ўласнымі магчымсьцямі. Грамадзянская вайна можа быць крывавай, але яна не можа быць доўгай, таму што або паўстаўшае войска перацягвае на свой бок урад з дапамогай непасрэднай дэманстрацыі сваёй магутнасьці ці дзякуючы першай жа сваёй перамозе – і тады вайна заканчаецца, або ў выпадку пачатку ўзброенага змагання тая частка войска, якая не атрымлівае падтрымкі з боку арганізаванай дзяржаўнай улады, хутка сама сабой разбяжыцца ці будзе знішчана.

Таму можна прызнаць сапраўдным наступнае шырокае абагульненне: пад час стагоддзяў роўнасьці грамадзянскія войны будуць значна радзейшымі і хуткімі[344].

---

[344] Само сабой зразумела, што я тут маю на ўвазе адзіныя дэмакратычныя дзяржавы, а не федэратыўныя дэмакратычныя дзяржавы. Дзякуючы таму што ў федэрацыях асноўная ўлада заўсёды рэчаісна знаходзіцца, нягледзячы ні на якія палітычныя прыдумкі, у руках мясцовых устаноў кіравання, а не ў руках цэнтральнага

# ЧАСТКА ЧАЦЬВЁРТАЯ

## Пра той уплыў, які дэмакратычныя ідэі і пачуцці робяць на палітычнае грамадства.

Кніга не дасягне мэты, калі, паказаўшы, якія ідэі і пачуцці выклікаюцца роўнасьцю, я не пакажу на астатку, якім чынам гэтыя ж пачуцці і ідэі здольны непасрэдна ўплываць на формы кіравання чалавечым грамадствам.

Для гэтага мне давядзецца часта звяртацца да ўжо выказаных раней думак. Спадзяюся, аднак, што чытач не адмовіцца пайсьці сьледам за мной, калі знаёмыя шляхі могуць прывесці яго да новых праўд.

# Глава I

## Роўнасць надае грамадзянам натуральную схільнасць да вольных інстытутаў.

Роўнасць, робячы людзей незалежнымі адзін ад аднаго, выпрацоўвае ў іх звычку і схільнасць кіравацца ў прыватным жыцці толькі ўласнымі жаданнямі і воляй. Тая поўная незалежнасць, якой яны ўвесь час карыстаюцца як у стасунках з роўнымі сабе, так і ў асабістым жыцці, надае ім незадаволенасць якой бы то ні было формай улады і хутка фарміруе ў іх разуменне палітычнай вольнасьці і адданасць ёй. Людзі, жывучыя ў такі час, такім чынам, вельмі схільны да ўспрымання ідэі вольных інстытутаў. Вазьміце кожнага з іх і, калі вы здолееце дастацца да яго інстынктыўных пачуццяў, вы выявіце, што із розных форм кіравання ён больш усяго прызнае і шануе тую, кіраўніка якой ён абраў сам і дзеянні якой знаходзяцца пад яго кантролем.

Із усіх палітычных наступстваў, спараджаемых сацыяльнай роўнасьцю, менавіта гэтае імкненне да незалежнасьці перадусім кідаецца ў вочы, запалохваючы маладушных, і не без падстаўна, таму што ў дэмакратыях анархія набывае самыя жахлівыя якасьці, чым у якім бы то ні было іншым грамадстве. Калі ж грамадзяне пазбаўлены магчымасьці ўплываць адзін на аднаго, то ў выпадках, калі стрымліваючая іх дзяржаўная ўлада паслабляецца, хутка настае палітычны хаос і, дзякуючы таму што кожны асобны грамадзянін аддае перавагу трымацца ад усяго збаку, уся пабудова сацыяльнага ўладкавання імгненна рассыпаецца ў пыл.

Усё ж, я перакананы, што анархія – гэта не асноўнае, а найменшае із ліхаў, якіх патрэбна асьцерагацца пад час стагоддзяў дэмакратыі.

Насамрэч роўнасць спараджае дзьве тэндэнцыі: першая вядзе людзей да незалежнасьці і можа раптам падштурхнуць іх да анархіі; другая тэндэнцыя выяўляецца не такой хуткай і не такой відавочнай, але яна значна больш мэтанакіравана вядзе людзей да занявольвання.

---

ўрада, грамадзянская вайна тут з'яўляецца не чым іншым, як прыкрытай формай вайны паміж рознымі дзяржавамі.

Людзі хутка распазнаюць першую тэндэнцыю і ўсімі сродкамі ёй супрацівяцца, дазваляючы, аднак, цягнуць сябе ў іншым накірунку, таму што не бачаць яго небяспекі. Пагэтаму неабходна паразважаць пра яго больш падрабязна.

Ні ў якой разе я не ганьбую роўнасць за тое, што яна напараджае непакорлівасць; якраз за гэта я яе і хвалю. Я прыхожу ў стан захаплення, калі я бачу, як яна фарміруе ў розумах і сэрцах людзей нейкае смутнае ўяўленне пра палітычную незалежнасць і інстынктыўнае імкненне да яе, выпрацоўваючы, такім чынам, лекі ад хваробы, ёй жа нараджаемай. Менавіта гэтым прыцягвае мяне роўнасць.

# Глава II

## Пра тое, што ўяўленні грамадзян пра кіраванне ў дэмакратычных грамадствах натуральным чынам спрыяюць канцэнтрацыі ўлады.

Ідэя прамежкавых інстытутаў улады, знаходзячыхся паміж манархам і яго падданымі, уяўлялася цалкам натуральнай у арыстакратычным грамадстве, дзе гэтая ўлада апынілася ў руках прыватных асоб ці сямействаў, якія дзчкуючы свайму паходжанню, адукацыі і багаццю не мелі сабе роўных і былі як бы заклікані кіраваць іншымі. Пад час стагоддзя роўнасьці гэтая ідэя, натуральна, адсутнічае ў розумах людзей з нагоды адваротных уласьцівасьцей; укараніць яе ў свядомасць можна толькі штучна і ўтрымліваць у ёй – толькі з вялікімі намаганнямі. Разам з тым грамадзяне, практычна не разважаючы, прымаюць ідэю адзінай і цэнтралізаванай улады, якая сама кіруе імі.

Дарэчы, у палітыцы, так жа як у філасофіі і рэлігіі, дэмакратычны народ з радасьцю ўспрымае простыя і агульныя ідэі. Складаныя канцэпцыі не ўспрымаюцца розумам і людзям падабаецца пачуваць сябе вялікай нацыяй, усе грамадзяне якой адпавядаюць адной мадэлі і кіруюцца адзінай уладай.

Сьледам за ідэяй адзінай і цэнтралізаванай улады пад час эпохі роўнасьці ў розумах людзей амаль міжвольна зараджаецца ідэя адзінага заканадаўства. Дзякуючы таму што кожны чалавек мала чым адрозніваецца ад сваіх суседзяў, ён не разумее, чаму закон, ужываемы да аднаго із іх, не можа быць пашыраны на ўсіх астатніх. Самыя нязначныя прывілеі выклікаюць у яго агіду. Самыя найменшыя адрозненні ў палітычных інстытутах аднаго і таго ж грамадства спараджаюць незадаволенасць яго грамадзянаў. Таму аднастайнасць законаў уяўляецца людзям самай важнай умовай добрага кіравання.

Я ўпэўнены, што тое ж разуменне адзінага закона, аднолькава пашыранага на ўсе сацыяльныя згуртаванні, было чужым чалавечай свядомасьці пад час стагоддзяў арыстакратыі. У той час яно не магло прыйсьці да гэтай ідэі ці ж адкідала яе.

Гэтыя процілеглыя памкненні розуму, нарэшце, ператвараюцца ў такія сляпыя інстынкты і такія трывалыя звычкі, што яны пачынаюць кіраваць учынкамі людзей незалежна ад асаблівасьцей асобы. Нягледзячы на бясконцую разнастайнасць сярэднявечнага жыцця і тады сустракаліся цалкам падобныя індывіды, аднак гэта не перашкаджала заканадаўцу надзяляць кожнага із іх рознымі абавязкамі і рознымі правамі. І, наадварот, у наш час урады знясільваюць

сябе ў спробах навязаць адны і тыя ж звычаі і законы зруртаваннм насельніцтва, якія яшчэ маюць паміж сабой мала агульнага.

Па меры ўраўнавання ў таго ці іншага народа ўмоваў існавання асобныя індывіды драбнеюць, тым часам як грамадства ў цэлым уяўляецца больш вялікім, ці, больш дакладна, кожны грамадзянін, стаўшы падобным на ўсіх іншых, губляецца ў натоўпе і тады перад намі ўзнікае велічная ў сваім адзінстве выява самога народа.

Усё гэта, натуральна, спараджае ў людзей эпохі дэмакратыі вельмі высокія ўяўленні пра грамадскія прэрагатывы і празмеру сьціплае – пра правы асобы. Яны лёгка пагаджаюцца з тым, што выгода першага з іх – гэта ўсё, а зацікаўленасьці асобы – нішто. Яны ахвотна мірацца з тым, што ўлада, увасабляючая сабой усё грамадства, нясе ў сабе больш мудрасьці і ведаў, чым кожны із людзей, складальных гэтае грамадства і што весьці кожнага грамадзяніна за руку з’яўляецца не толькі правам, але і абавязкам улады.

Калі б мы мелі жаданне лепш вывучыць нашых сучаснікаў і дастацца да вытокаў іхных палітычных поглядаў, мы пабачылі б там шмат якія із тых ідэй, толькі што павядомленых мной, і, напэўна, здзівіліся б, выявіўшы так шмат агульнага ў народаў, так часта ваяваўшых паміж сабой.

Амерыканцы лічаць, што ў кожным штаце вярхоўная ўлада павінна ўсталёўвацца самім народам. Аднак, як толькі ўстановы ўлады сфармаваны, амерыканцы нават і не думаюць іх у нечым абмяжоўваць, ахвотна пагаджаючыся з тым, што ўлада мае права рабіць усё.

Амерыканцы не могуць сабе ўявіць, каб асобныя гарады, сем’і або асобныя грамадзяне карысталіся адасобленымі прывілеямі. Яны цьвёрда перакананы ў тым, што кожны закон павінен аднолькава ўжывацца ў розных частках аднаго і таго ж штата ў дачыненні да ўсіх грамадзян, жывучых у ім.

Гэтыя погляды ўсё шырэй і шырэй пашыраюцца зараз і ў Яўропе, пракрадаючыся нават у свядомасць тых нацый, якія найбольш рашуча адкідаюць дагмат народаўладдзя. Гэтыя нацыі вызнаюць іншыя перакананні адносна прыроды ўлады, чым амерыканцы, аднак яны разглядаюць яе пад тым жа кутом зроку: у тых і ў іншых сціраецца і знікае ўяўленне пра патрэбу прамежкавай улады. Са свядомасьці людзей хутка выветрываецца ідэя права як неад’емнай прыналежнасьці толькі абмежаванага кола індывідаў, яе месца займаюць уяўленні пра ўсемагутны і адзіны для ўсяго грамадства закон. Гэтыя ўяўленні ўкараняюцца і замацоўваюцца ў свядомасьці па меры таго, як людзі ўраўноўваюцца ў сваіх правах і ўмовах існавання. Гэтыя ідэі нараджаюцца роўнасьцю і ў сваю чаргу паскараюць працэс усталявання роўнасьці.

У Францыі, дзе дадзеныя рэвалюцыйныя пераўтварэнні насілі больш рашучы характар, чым у якой бы то ні было іншай еўрапейскай краіне, гэтыя погляды цалкам авалодалі свядомасьцю грамадзянаў. Калі ўважліва прыслухацца да таго, што кажуць лідары нашых розных партый, мы пераканаемся, што няма нікога, хто не падзяляў бы гэтых поглядаў. Большасць лічыць, што ўрад дзейнічае незадавальняюча, але ўсе сыходзяцца на думцы, што ён павінен дзейнічаць яшчэ больш актыўна і ўсё браць у свае рукі. Нават тыя, хто вядзе паміж сабой сапраўдную вайну, адпаведна з гэтым пытаннем прытрымліваюцца адзіных поглядаў. Цэнтралізацыя, усюдыіснасць, усемагутнасць грамадскай улады, аднастайнасць яе законаў – вось найбольш характэрныя рысы ўсіх нараджаючыхся

сёння палітычных сістэм. Гэтыя рысы мы выяўляем у падмурку самых мудрагелістых утопій. Яны пераследуюць чалавека ў яго марах.

Калі падобныя ўяўленні міжволі ўзнікаюць у розумах простых сьмяротных, яны тым больш лёгка авалодваюць свядомасьцю ўрадаўцаў.

У той час калі старое грамадзкае ўладкаванне Яўропы знікае і развальваецца, манархі прыходзяць да новых перакананняў адносна сваёй улады і сваіх абавязкаў. Яны нарэшце зразумелі, што цэнтральная ўлада, якую яны ўвасабляюць, можа і павінна асабіста, у адпаведнасьці з адзіным планам кіраваць усімі справамі і ўсімі грамадзянамі ў дзяржаве. Гэтыя погляды, якія, адважуся сцвярджаць, ніколі раней не падзяляліся манархамі Яўропы, сёння ўсё глыбей пракрадаюцца ў іхную свядомасць і не жадаюць саступаць месца іншым канцэпцыям.

Такім чынам, сёння людзі менш падзелены, чым гэта можна было б сабе ўявіць; яны ўвесь час спрачаюцца адзін з адным па пытанню пра тое, у чые рукі будзе перададзена вярхоўная ўлада, але лёгка падначальваюцца правам і абавязкам гэтай улады над сабой. Усе ўспрымаюць урад як увасабленне адзінай і натуральнай улады, якая ўсё прадбачыць і ўсё можа.

Якія б то ні было іншыя палітычныя ідэі здаюцца другараднымі і праходзячымі і толькі гэтая застаецца непарушнай, ні з чым не параўнальнай праўдай.

Публіцысты і дзяржаўныя дзеячы безумоўна яе прынімаюць, натоўп з прагнасьцю хапаецца за яе; кіруемыя і маючыя ўладу з аднолькавым жарам ідуць за ёй; яна ўсюдыісная, здаецца, што яна існавала заўсёды.

Такім чынам, гэтая ідэя ўяўляецца не выпадковым вынаходніцтвам чалавечага разумення, а выступае натуральнай перадумовай сучаснага стану чалавечага грамадства[345].

# Глава III

## Пра тое, што пачуцці людзей у дэмакратычных грамадствах адпавядаюць іхным ідэям пра канцэнтрацыю ўлады

Калі пад час эпохі роўнасьці людзі лёгка ўспрымаюць ідэю моцнай цэнтральнай улады, то толькі таму, што прызнаваць і падтрымліваць гэтую ўладу людзей вымушаюць іхныя звычаі і пачуцці. Паспрабую патлумачыць гэта некалькімі словамі, таму што асноўныя меркаванні на гэты конт ужо былі выказаны раней.

Людзі, жывучыя ў дэмакратычным грамадстве і не бачачыя навакол ні кіраўнікоў, ні падначаленых, пазбаўлены звыклых і абавязковых сацыяльных сувязей, ахвотна замыкаюцца ў сабе і лічаць сябе вольнымі ад грамадства. Мне ўжо давялося даволі шмат разважаць на гэтую тэму, калі гаворка ішла пра індывідуалізм. Людзі амаль заўсёды з цяжкасьцю адрываюць сябе ад асабістых

[345] Людзі злучаюць веліч ідэі адзінства са сродкамі яе дасягнення, Бог – з вынікам. Такое разуменне ідэі велічы вымушае людзей разменьвацца на тысячу дробязей. Прымусіць усіх крочыць у нагу да адзінай мэты – такой з'яўляецца ідэя, якая склалася ў чалавечых галовах. Зрабіць здзяйсненні людзей бясконца разнастайнымі, але так, каб гэтыя здзяйсненні шматлікімі шляхамі вялі да ажыццяўлення адзінай вялікай задумы, – такой з'яўляецца Боская ідэя. Чалавечая ідэя адзінства амаль заўсёды бясплодная, ідэя Бога надзвычай прадукцыйная. Людзі імкнуцца засьведчыць сваю веліч, спрашчаючы сродкі; у Бога ж простая мэта, а сродкі яе дасягнення бясконца шматстайныя.

спраў, каб заняцца справамі грамадзкімі, таму натуральным выглядае іхнае імкненне перакласьці гэтыя турботы на таго адзінага відавочнага і пастаяннага абаронцу калектыўных зацікаўленасьцей, якім з’яўляецца дзяржава.

Яны не проста губляюць густ да грамадзкай дзейнасьці, але часта ў іх проста не хапае для гэтага часу. У дэмакратычным грамадстве прыватнае жыццё набывае такія актыўныя формы, робіцца такім неспакойным, запоўненым жаданнямі і працай, што на палітычнае жыццё ў чалавека амаль не застаецца ні здольнасьцей, ні вольнага часу.

Мне б не хацелася думаць, што заняпад цікаўнасьці да грамадзкай дзейнасьці непераадольны; змаганне з ім і з’яўляецца галоўнай мэтай маёй кнігі. Проста я сцвярджаю, што сёння гэтая апатыя нястомна запаўняе душы пад уплывам нейкіх таемных магутнасьцей і, калі яе не спыніць, яна захопіць людзей цалкам.

У мяне ўжо была магчымасць паказаць, што мацнеючая цяга людзей да дабрабыту і няўстойлівы характар уласнасьці вымушаюць дэмакратычныя народы асьцерагацца сацыяльнай бязладзіцы. Схільнасць да стабільнасьці грамадзкага жыцця робіцца ў іх адзіным палітычным запалам, нарастаючым па меры адмірання іншых палітычных памкненняў; гэта натуральным чынам схіляе грамадзян да таго, каб увесь час перадаваць цэнтральнай уладзе ўсё новыя і новыя правы, таму што яны лічаць, што толькі яна адна, абараняючы саму сябе, зацікаўлена і мае неабходныя магчымасьмі абараніць іх ад анархіі. Дзякуючы таму што пад час эпохі роўнасьці ніхто не абавязаны выказваць спрыянне блізкаму, так жа як ніхто не мае права разлічваць на значную падтрымку з боку, кожны індывід з’яўляецца адначасова і незалежным, і безабаронным. Гэтыя два становішчы, якія не патрэбна ні аб’ядноўваць, ні падзяляць, выпрацоўваюць у чалавека дэмакратычнага грамадства вельмі дваістыя інстынкты. Незалежнасць надае яму ўпэўненасць і пачуццё ўласнай вартасьці сярод роўных, а немач дае яму час ад часу адчуць патрэбу чужой падтрымкі, якую яму не ад каго чакаць, таму што ўсе атачаючыя яго, аднолькава слабыя і абыякавыя. У сваёй роспачы ён мімаволі накіроўвае позіркі на той гмах, які ў адзіноце ўзвышаецца пасярод усеагульнага заняпаду. Менавіта да яе звяртаецца ён увесь час са сваімі патрэбамі і спадзяваннямі, менавіта яе ён, урэшце, пачынае ўспрымаць як адзіную падтрымку, патрэбную яму пры ўласнай нямогласьці[346].

[346] У дэмакратычным грамадстве толькі цэнтральная ўлада займае трывалае становішча і з’яўляецца паслядоўнай у сваіх дзеяннях. Жыццё грамадзянаў схільна там да пастаянных перамен. Вядома, аднак, што кожная ўлада натуральным чынам імкнецца да пашырэння сферы свайго ўплыву. І, у канчатковым выніку, яна гэтага дамагаецца, нястомна і мэтанакіравана ўплываючы на людзей, чые думкі, жаданні і грамадзкае становішча штодзённа перамяняюцца. Часта грамадзяне працуюць на гэтую ўладу, самі таго не жадаючы. Эпоха дэмакратыі – эпоха эксперыментаў, новых ідэй і авантур. У гэты час заўсёды знойдзецца шмат людзей, далучаных да цяжкіх пачынанняў, якімі яны займаюцца, не зважаючы на іншых сябраў грамадства. Гэтыя людзі лёгка пагаджаюцца з агульным прынцыпам нябрання ўдзелу ўладамі ў прыватных справах, аднак кожны з іх жадаў бы, каб урад у выглядзе выключэння менавіта яму зрабіў дапамогу ў яго пэўнай справе і ён актыўна шукае гэтай падтрымкі, заўсёды за кошт зацікаўленасьцей іншых грамадзян. Дзякуючы таму што вялізная шматлікасць людзей адначасова прытрымліваецца падобнага боку гледжання, уплыў цэнтральнай улады памаленьку пашыраецца на ўсе сферы іхнага жыцця, хаця кожны ў асобнасьці жадаў бы абмежавання гэтага ўплыву. Такім чынам, кожны дэмакратычны ўрад пашырае кола сваіх прэрагатываў самім фактам працяглага знаходжання ва ўладзе. Час працуе на яго; із усіх няшчасьцяў ён здабывае выгаду; знаходзячыся ў палоне сваіх жарсьцяў, людзі дапамагаюць яму, нават не здагадваючыся пра гэта. Таму можна сказаць, што чым больш старым з’яўляецца дэмакратычнае грамадства, тым больш цэнтралізаваным у ім з’яўляецца кіраванне.

Усё гэта дазваляе нам зразумець, што нярэдка адбываецца ў дэмакратычных грамадствах, дзе людзі, якія так хваравіта ставяцца да якіх бы то ні было ўрадаўцаў, спакойна ўспрымаюць уладу гаспадара і могуць быць адначасова як ганарлівымі, так і нявольніцкі дагодлівымі.

Нянавісць людзей да прывілеяў павялічваецца па меры таго, як самі прывілеі робяцца больш рэдкімі і менш значнымі. Можна сказаць, што вогнішча дэмакратычных жарсьцяў разгараецца якраз тады, калі для яго застаецца ўсё менш гаручага матэрыялу. Я ўжо паказваў на нагоды гэтага феномена. Няроўнасць не здаецца такой абуральнай, калі ўмовы чалавечага існавання розныя; пры ўсеагульнай аднастайнасьці якое б то ні было адхіленне ад яе ўжо выклікае пратэст, тым большы, чым вышэй ступень гэтай аднастайнасьці. Таму цалкам нармальна, што імкненне да роўнасьці ўзмацняецца з зацьверджаннем самой роўнасьці: задавальняючы яе вымогі, людзі распрацоўваюць яе.

Пастаянная і ўсё нарастаючая нянавісць, якую адчуваюць дэмакратычныя народы да найменшых прывілеяў, дзіўным чынам спрыяе паступовай канцэнтрацыі ўсіх палітычных правоў у руках таго, хто выступае адзіным прадстаўнікам дзяржавы. Валадар, узвышаючыся абавязкова і безумоўна над усімі грамадзянамі, не выклікае нічыёй зайздрасьці, пры гэтым кожны яшчэ лічыць сваім абавязкам забраць у сабе падобных усе прэрагатывы і перадаць іх яму.

Чалавек часоў дэмакратыі з крайняй агідай падначальваецца свайму суседу, якога лічыць роўным сабе; ён адмаўляецца прызнаваць яго больш асьвечаным, чым ён сам; ён не верыць у яго справядлівасць і раўніва ставіцца да яго ўлады; ён яго асьцерагаецца і пагарджае ім; яму падабаецца ўвесь час нагадваць свайму суседу пра іхную агульную падначаленасць аднаму і таму ж гаспадару.

Якая б то ні было цэнтральная ўлада, падначальваючыся гэтым натуральным інстынктам, выяўляе схільнасць да роўнасьці і заахвочвае яе, таму што роўнасць у значнай меры палягчае дзейнасць самай гэтай улады, пашырае і ўмацоўвае яе.

Можна таксама сцвярджаць, што які б то ні было цэнтральны ўрад паважае аднастайнасць. Аднастайнасць пазбаўляе яго ад патрэбы выдаваць бясконцую колькасць законаў; замест таго каб ствараць законы для ўсіх людзей, урад падганяе ўсіх людзей без разбору пад адзіны закон. Такім чынам, урад імнецца да таго ж, да чаго імкнуцца і грамадзяне і неўхваляе тое ж самае, што і яны. Гэта адзінства пачуццяў, якое ў дэмакратычных народаў выяўляецца ў падабенстве намераў кожнага індывіда і ўладаўцы, усталёўвае паміж імі прыхаваную, але сталую сімпатыю. Ураду за ўласьцівыя яму схільнасці даруюцца яго памылкі; давер народа ён страчвае толькі пад час перыяду эксцэсаў і памылак, аднак гэты давер хутка аднаўляецца пры чарговым звяртанні да народа. Грамадзяне ў дэмакратычным грамадстве часта адчуваюць нянавісць да пэўных прадстаўнікоў цэнтральнай улады, але яны заўсёды паважаюць саму гэтую ўладу.

Такім чынам, двума рознымі шляхамі я прыйшоў да адной і той жа мэты. Я паказаў, што роўнасць замацоўвае ў людзях ідэю цэнтралізаванага, адзінага і моцнага ўрада. Я паказаў, што яна надае людзям схільнасць да такога ўрада. Менавіта да такой формы кіравання імкнуцца сёння народы. Да гэтага іх вядзе натуральная патрэбна душ і сэрцаў, таму калі яны самі не будуць сябе стрымліваць, то абавязкова да яе прыйдуць.

Я лічу, што пад час будучых стагоддзяў дэмакратычнага развіцця асабістая незалежнасць і мясцовыя вольнасьці заўсёды будуць штучна падтрымліваццa. Натуральным спосабам кіравання стане цэнтралізацыя[347].

# Глава IV

## Пра некаторыя заканамерныя і выпадковыя нагоды, вядучыя дэмакратычныя народы да цэнтралізацыі ўлады або перашкаджаючыя гэтаму

Усе дэмакратычныя народы міжвольна імкнуцца да цэнтралізацыі ўлады, аднак гэтае імкненне ў розных народаў рознае. Яно залежыць ад своеасаблівасьці ўмоваў, якія могуць паскорыць або замарудзіць натуральнае развіццё грамадства. Гэтыя ўмовы вельмі шматлікія, таму спынюся толькі на некаторых.

У людзей, якія, перш чым стаць роўнымі, мелі працяглы перыяд вольнага развіцця, інстынкты вольнасьці ў вызначанай ступені заглушаюць інстынкты роўнасьці. Таму, нягледзячы на тое, што цэнтральная ўлада пашырае свае прывілеі, у гэтым грамадстве прыватныя асобы ніколі цалкам не губляюць сваю незалежнасць.

Калі ж роўнасць пачынае развівацца ў краіне, народ якой або цалкам не ведаў вольнасьці, або занадта доўга жыў па-за ёй, як гэта мае месца ў краінах Яўропы, то даўнія звычкі народа хутка і самым натуральным чынам аб’ядноўваюцца са звычкамі і дактрынамі новага грамадзкага ўладкавання і тады цэнтралізацыя ўлады адбываецца сама сабой. Дзяржава са здзіўляючай хуткасьцю акумулюе ўладу і разам дасягае крайняй мяжы сваёй магутнасьці, тым часам як яе грамадзяне ў момант робяцца ў вышэйшай ступені безабароннымі.

Ангельцы, якія тры стагоддзі таму назад у бязлюдных абшарах Новага Сьвету заснавалі дэмакратычнае грамадства, яшчэ ў сябе на радзіме набылі навыкі ўдзелу ў грамадзкім жыцці: яны ведалі суд прысяжных, вольнасць слова і прэсы, індывідуальную вольнасць, яны былі знаёмы з ідэяй закона і ведалі, як да яго ставіцца. Інстытуты вольнасьці і мужныя норавы, перанесеныя ў Амерыку, дапамаглі ім абараніць незалежнасць новай дзяржавы.

У амерыканцаў, такім чынам, вольнасць з’яўляецца старэйшай за роўнасць, якая выяўляецца адносна маладой. У Яўропе, наадварот, роўнасць, народжаная абсалютнай уладай і знаходзіўшаяся пад кантролем манархаў, пашырылася сярод народаў нашмат раней, чым яны пазнаёміліся з ідэяй вольнасьці.

Я сцвярджаў, што ў дэмакратычных грамадствах урад натуральным чынам уяўляўся чалавечаму розуму ў выглядзе адзінай і цэнтралізаванай улады і што разуменне прамежкавай улады не ўспрымалася ім. Гэта асабліва справядліва ў дачыненні да тых дэмакратычных нацый, у якіх прынцып роўнасьці здабыў перамогу ў выніку гвалтоўнай рэвалюцыі. Калі станы, кіраваўшыя мясцовымі справамі, былі раптам змецены рэвалюцыйнай бурай, разгубленая маса народа, не меўшая яшчэ ні ўладкавання, ні досьведу, патрэбных для кіравання гэтымі справамі, павярнула свой позірк на дзяржаву, даручыўшы ёй ўсе справы і стырны кіравання. Цэнтралізацыя стала ў нейкай ступені патрэбнай. Няма патрэбы ні ўхваляць, ні ганіць Напалеона за тое, што ён засяродзіў у сваіх руках усю

[347] (*347 заўвага аўтара пасьля заканчэння кнігі)

адміністрацыйную ўладу: са знікненнем дваранства і вышэйшай буржуазіі яна перайшла да яго сама сабой. Напалеону было б так жа цяжка адмовіцца ад улады, як і ўзяць яе. Амерыканцы ніколі не сытукаліся з падобнай патрэбай; не выпрабаваўшы рэвалюцыі і маючы спрадвечны досьвед самакіравання, яны ніколі не адчувалі патрэбы нават кароткачасова ўскладаць на дзяржаву функцыі апекуна. Такім чынам, у дэмакратычных народаў цэнтралізацыя ўлады з'яўляецца вынікам не толькі развіцця роўнасьці, але і таго працэсу, у выніку якога гэтая роўнасць усталёўваецца.

На пачатковым этапе кожнай вялікай дэмакратычнай рэвалюцыі, калі вайна паміж рознымі станамі яшчэ толькі зараджаецца, народныя масы імкнуцца да цэнтралізацыі грамадзкай улады ў руках урада, з тым каб вырваць у арыстакратыі кіраванне на месцах. На завяршаючым этапе рэвалюцыі, наадварот, ужо страціўшая ўладу арыстакратыя, звычайна, сама спрабуе перадаць дзяржаве кіраванне ўсімі справамі баючыся дробязнай тыраніі народа, стаўшага роўным з ёй, а часам і яе гаспадаром.

Такім чынам, да пашырэння прэрагатыў улады не заўсёды імкнецца адзін і той жа стан грамадзянаў. Падчас дэмакратычнай рэвалюцыі ў краіне заўсёды знаходзіцца стан, пераважаючы іншыя сваёй колькасьцю або багаццем, які дзякуючы адмысловым прыхільнасьцям ці ўласных зацікаўленасьцям жадаў бы цэнтралізацыі дзяржаўнай улады, нягледзячы на тое, што адчувае агіду да ўлады свайго суседа – пачуццё ўсеагульнае і сталае ў дэмакратычных народаў. Можна пазначыць, што сёння ў Ангельшчыне менавіта ніжэйшыя станы ўсімі сродкамі спрабуюць знішчыць незалежнасць мясцовых установаў улады і перанесьці кіраванне ад перыферыі ў цэнтр, тым часам як вышэйшыя станы імкнуцца ўтрымаць мясцовае кіраванне ў межах яго ранейшых паўнамоцтваў. Адважуся выказаць здагадку, што прыйдзе дзень, калі сітуацыя пераменіцца на прама процілеглую.

Усё выкладзенае вышэй добра тлумачыць, чаму дзяржаўная ўлада павінна быць больш моцнай, а індывіды больш слабымі ў дэмакратычным грамадстве, прыйшоўшым да роўнасьці шляхам доўгага і цяжкага сацыяльнага развіцця, чым у тым, дзе грамадзяне былі роўныя спрадвечна. Амерыканцы – яскравы таму прыклад.

Людзі, насяляючыя Злучаныя Штаты, ніколі не былі раз'яднаны нейкімі прывілеямі, яны ніколі не ведалі дачыненняў, усталёўваючыхся паміж падначаленым і гаспадаром і, дзякуючы таму што яны не адчуваюць ні баязні, ні нянавісьці адзін да аднаго, у іх ніколі не ўзнікала патрэбы ў валадары, бяручым удзел ва ўсіх іхных справах. На долю амерыканцаў выпаў рэдкі поспех: яны запазычалі ў ангельскай арыстакратыі ідэю правоў асобы і схільнасць да вольнага самакіравання на месцах, яны здолелі захаваць і тое і іншае таму, што ў іх не было патрэбы ваяваць супраць арыстакратыі. Ва ўсе часы асьвета дапамагала людзям захоўваць незалежнасць. Гэтае цьверджанне з'яўляецца асабліва справядлівым пад час эпохі дэмакратыі. Лягчэй усяго заснаваць адзінае і ўсемагутнае кіраванне, калі грамадзяне мала чым адрозніваюцца адзін ад аднаго: для гэтага дастаткова іхных інстынктаў. А вось для таго, каб у гэтых жа ўмовах стварыць і захаваць другарадныя ўстановы ўлады, а таксама вольныя асацыяцыі, здольныя ва ўмовах незалежнасьці і індывідуальнай немачы грамадзянаў супрацьстаяць тыраніі, не разбураючы парадку, людзям неабходны асаблівая мудрасць, веды і майстэрства.

Такім чынам, канцэнтрацыя ўлады і асабістае занявольванне ў дэмакратычным грамадстве будуць узмацняцца не толькі сумерна нарастанню роўнасьці, але таксама і дзякуючы невуцтву грамадзянаў.

Вядома, што ў неасьвечаныя часы ва ўрадаў часта нехапала ведаў, каб удасканаліць дэспатызм, а ў грамадзянаў, – каб ад яго пазбавіцца. Аднак наступствы гэтага для тых і іншых былі далёка не аднолькавымі.

Наколькі б невуцкім ні быў дэмакратычны народ, кіруючая ім цэнтральная ўлада ніколі не бывае начыста пазбаўленай ведаў, таму што яна без цяжкасьцей прыцягвае да сябе ўсіх найбольш пісьменных людзей краіны, а ў выпадку патрэбы мае магчымасць пазычыць іх і за мяжой. Такім чынам, у дэмакратычным, але малаадукаваным грамадстве не можа не выяўляцца вялізнага і хуткага нарастання адрознення ў інтэлектуальных здольнасьцях прадстаўніка суверэннай улады і кожнага із яе падданых. Гэта яшчэ больш палягчае завяршэнне канцэнтрацыі ўлады ў адных руках. Адміністрацыйная магутнасць дзяржавы ўвесь час павялічваеццца з той нагоды, што яна адна застаецца здольнай да кіравання.

У арыстакратычным грамадстве, наколькі б ні было яно асьвечаным, нішто падобнае немагчыма, таму што веды там дастаткова раўнамерна размеркаваны паміж манархам і лепшымі із грамадзянаў.

Паша, кіруючы сёння ў Ягіпце, выявіў, што насельніцтва гэтай краіны складаецца із людзей раўнапраўных, але малапісьменных. Таму, каб кіраваць імі, ён паехаў у Яўропу, дзе атрымаў патрэбныя веды. Незвычайная адукаванасць манарха ў спалучэнні з непісьменнасцю і дэмакратычнай немаччу яго падданых дазволілі яму без цяжкасьцей дасягнуць вышэйшай ступені цэнтралізацыі ўлады і ператварыць краіну ў сваю мануфактуру, а яе жыхароў – у працоўных гэтай мануфактуры.

Я лічу, што празмерная цэнтралізацыя палітычнай улады павінна прывесьці да грамадзкага незадавальнення і ў канчатковым выніку да паслаблення самога ўрада. Аднак я не адмаўляю, што цэнтралізаваная грамадзкая магутнасць вельмі здольна на значныя здзяйсненні ў вызначаны час і ў вызначаным месцы. Асабліва калі гаворка ідзе пра вайну, дзе поспех залежыць у большай ступені ад умення хутка засяродзіць усе рэсурсы на вызначаным накірунку, чым ад памеру гэтых рэсурсаў. Таму менавіта падчас войн народы адчуваюць жаданне, а часта і патрэбу ва павелічэнні паўнамоцтваў цэнтральнай улады. Усе вялікія вайскаводы шануюць цэнтралізацыю, павялічваючую іхную магутнасць, а ўсе вялікія дыктатары паважаюць вайну, якая вымушае народы засяроджваць усю ўладу ў руках дзяржавы. Такім чынам, дэмакратычная тэндэнцыя, дзякуючы якой увесь час пашыраюцца прывілеі дзяржавы і абмяжоўваюцца правы прыватных грамадзянаў, значна больш хутка і пасьлядоўна развіваецца ў дэмакратычным грамадстве, чым у якім бы то ні было іншым, таму што яно дзякуючы свайму становішчу зведвае частыя і разбуральныя войны і самаму яго існаванню часьцей пагражаюць разнастайныя небяспекі.

Я ўжо паказваў, якім чынам боязь бязладзіцы і схільнасць да матэрыяльнага дабрабыту непрыкметна падштурхоўваюць дэмакратычныя народы да пашырэння паўнамоцтваў цэнтральнага ўраду, адзінай магутнасьці, уяўляемай ім дастаткова стабільнай, дастаткова мудрай і дастаткова моцнай, каб выратаваць іх ад анархіі. Хачу толькі дадаць, што ва ўсіх выпадках, калі ўладкаванне ў дэмакратычным грамадстве парушаецца і робіцца хісткім, гэты ўсеагульны інстынкт спрацоўвае і

вымушае грамадзянаў усё больш і больш ахвяраваць сваімі правамі дзеля свайго спакою.

Такім чынам, народ ніколі не бывае такім размешчаным да пашырэння паўнамоцтваў цэнтральнай улады, як пасьля працяглай і крывавай рэвалюцыі, у выніку якой ён забраў усе багацці ў іхных былых уладальнікаў, падарваў усе вераванні, напоўніўшы грамадства шалёнай нянавісьцю, узаемавыключаючымі зацікаўленасьцямі і змагаючыміся фракцыямі. Менавіта тады нараджаецца сляпая павага да грамадзкага заспакаення і грамадзяне запальваюцца нястрымліваемым запалам да парадку.

Мной разгледжаны некалькі фактараў, спрыяючых цэнтралізацыі ўлады. Аднак я яшчэ нічога не сказаў пра самыя важныя із іх.

Асноўнымі сярод выпадковых фактараў, спрыяючых засяроджванню кіравання ўсімі справамі ў руках уладцы ў дэмакратычным грамадстве, з’яўляюцца яго ўласнае паходжанне і схільнасьці.

Людзі, жывучыя пад час эпохі роўнасьці, натуральна, адчуваюць размяшчэнне да цэнтральнай улады і ахвотна пашыраюць яе прывілеі; аднак у тым выпадку, калі гэтая ўлада цалкам адпавядае іхных зацікаўленасьцям і неўсведамляемым імкненням, давер да яе амаль не мае мяжы і людзі, аддаючы нешта ўладзе, лічаць, што даюць гэта сабе.

Засяроджванне адміністрацыйнай улады ў цэнтры будзе праходзіць больш павольна і цяжка там, дзе ўрадаўцы хаця б у нечым будуць прытрымлівацца старых, арыстакратычных парадкаў, чым там, дзе новыя ўрадаўцы, усім абавязаныя толькі самім сабе, сваімі звычкамі і паходжаннем, забабонамі і інстынктамі непарыўна злучаны з ідэяй роўнасьці. Я не маю намеру гэтым сцвярджаць, што ўрадаўцы арыстакратычнага паходжання ў часы дэмакратыі не імкнуцца да цэнтралізацыі ўлады. Я лічу, што ў гэтым пытанні яны з’яўляюцца такімі ж настойлівыя, як і ўсе іншыя, таму што выдатна ўсьведамляюць перавагі роўнасьці. Аднак магчымасьці дасягнення гэтай мэты ў іх больш абмежаваны, дзякуючы таму што грамадзяне менш ахвотна ідуць насустрач жаданням урадаўца-арыстакрата. Адсюль правіла: чым менш арыстакратычны ўрадавец у дэмакратычным грамадстве, тым вышэй ступень цэнтралізацыі ўлады.

Калі старажытная дынастыя каралёў кіруе ў арыстакратычным грамадстве і натуральныя забабоны манарха знаходзяцца ў поўным пагадненні з забабонамі шляхты, то ўласьцівыя гэтаму грамадству заганы развіваюцца цалкам вольна і ніхто не шукае сродкаў змагання з імі. Адваротнае адбываецца тады, калі атажылак нейкага арыстакратычнага роду выяўляецца на чале дэмакратычнага народа. Звычкі, памяць, адукацыя ўвесь час схіляюць такога ўрадаўца да выказвання ідэй няроўнасьці, тым часам як народ дзякуючы свайму грамадзкаму становішчу нястомна набывае звычкі, нараджаемыя роўнасьцю. У такіх выпадках грамадзяне нярэдка звяртаюцца да стрымлівання цэнтральнай улады не столькі праз яе тыранічны характар, колькі дзякуючы яе арыстакратычнаму паходжанню; яны цьвёрда абараняюць сваю незалежнасць не толькі таму, што жадаюць быць вольнымі, але перадусім таму, што жадаюць заставацца роўнымі.

Рэвалюцыя, скасоўваючая старую каралеўскую дынастыю і ставячая на чале дэмакратычнага грамадства новых людзей, мае магчымасць часова паслабіць цэнтральную ўладу. Аднак, наколькі б анархічнай ні здавалася рэвалюцыя напачатку, можна без нейкіх сумневаў сцвярджаць, што канчатковым, лагічным яе вынікам будзе пашырэнне і зацьверджанне прэрагатываў гэтай самай улады.

Галоўнай і нейкім чынам адзінай неабходнай умовай цэнтралізацыі грамадзкай улады з’яўляецца рэчаісная ці ўяўляемая прыхільнасць людзей да роўнасьці. Таму майстэрства дэспатызму, некалі такое складанае, зараз спрашчаецца: можна сказаць, што яно звялося да падтрымкі голага прынцыпа.

# Глава V

## Пра тое, што ў сучасных еурапейскіх дзяржавах вярхоўная ўлада ўзмацняецца, нягледзячы на няўстойлівасць становішча саміх урадаўцаў

Паразважаўшы над тым, што сказана вышэй, можна са здзіўленнем і баязьню выявіць, што ў Яўропе ўсё, здаецца, спрыяе неабмежаванаму ўзмацненню паўнамоцтваў цэнтральнай улады і паслабленню грамадзянскіх правоў асобы, існаванне якой робіцца ўсё менш надзейным, трывалым і незалежным.

Дэмакратычныя грамадствы Яўропы выяўляюць тыя ж усеагульныя і ўстойлівыя тэндэнцыі цэнтралізацыі ўлады, што і амерыканцы, але, акрамя гэтага, яны схільны яшчэ і да шматлікіх другарадных і выпадковых фактараў, якія амерыканцам невядомы. Ствараецца ўражанне, што кожны крок у накірунку да роўнасьці ўсё больш набліжае гэтыя народы да дэспатыі.

Дастаткова паглядзець вакол і на саміх сябе, каб у гэтым пераканацца.

На працягу ўсёй эпохі панавання арыстакратыі, якая папярэднічала эпосе дэмакратыі, еўрапейскія манархі страцілі ці былі пазбаўлены шмат із якіх сваіх натуральных правоў. Менш за стагоддзе таму назад у некаторых краінах Яўропы прыватныя асобы або амаль незалежныя гільдыі запраўлялі судаводствам, набіралі і ўтрымлівалі войска, спаганялі падаткі, а нярэдка самі выдавалі ці тлумачылі законы. Дзяржава зноў жа паўсюдна засяродзіла толькі ў сваіх руках гэтыя натуральныя атрыбуты суверэннай улады. Ва ўсім, што мае дачыненне да кіравання, яна больш не дапускае існавання пасярэднікаў паміж сабой і грамадзянамі, кіруючы імі непасрэдна ў іхных штодзённых справах. Я далёкі ад таго, каб ганіць падобнага роду канцэнтрацыю ўлады, я толькі канстатую яе.

Пад час той жа самай эпохі ў Яўропе існавала шмат перыферыйных устаноў кіравання, прадстаўляўшых мясцовыя зацікаўленасьці і здзяйсняўшых вядзенне спраў на месцах. Большасць із гэтых устаноў самакіравання спыніла існаванне, астатнія ж усё больш хутка губляюць сваю незалежнасць. Па ўсёй Яўропе зніклі ці павінны вось-вось знікнуць прывілеі дваран, вольнасьці гарадоў і правінцыйнае самакіраванне.

За апошнія пяцьдзясят гадоў Яўропа прайшла праз шматлікія рэвалюцыі і контррэвалюцыі, якія ўсе ў ёй пераіначылі. Аднак усе гэтыя падзеі выяўляюцца падобнымі ў адным: усе яны падрывалі ці разбуралі ўладу на месцах. Мясцовыя прывілеі, якія французская нацыя захоўвала ў заваяваных правінцыях, былі знішчаны намаганнямі манархаў, заваяваўшых саміх французаў. Гэтыя валадары адкінулі ўсе навіны, прынесеныя рэвалюцыяй, за выключэннем цэнтралізацыі: гэта адзінае, што яны гатовы былі перыняць ад рэвалюцыі.

Маю жаданне падначыць, што розныя правы, якія ўжо ў наш час былі паслядоўна забраны ў цэлых станаў, карпарацый і прыватных грамадзянаў, не былі пакладзены ў падмурак стварэння больш дэмакратычных устаноў мясцовай улады, а сканцэнтраваліся ў руках вярхоўных урадаўцаў. Паўсюдна дзяржава ўсё больш і

больш імкнецца самастойна кіраваць усімі, нават самымі нікчэмнымі із яе грамадзянаў, ва ўсіх самых нязначных іхных справах[348].

Амаль усе дабрачынныя ўстановы старой Яўропы належалі прыватным асобам ці карпарацыям; сёння гэтыя ўстановы ў той ці іншай ступені залежаць ад урадаўцаў, а ў шмат якіх краінах непасрэдна кіруюцца імі. Дзяржава застаецца сёння практычна адзіным карміцелем галодных, суцяшальнікам усіх зведваючых няшчасьці.

Нароўні з дабрачыннасьцю ў большасьці краін у нашы дні дзяржаўны характар набыла і адукацыя. Дзяржава атрымлівае, а часам і сама забірае дзіцёнка ад маці, каб даручыць яго выхаванне сваім упаўнаважаным; яна сама фармірує пачуцці і склад думак новага пакалення. У адукацыі, як і ва ўсім іншым, пануе дух аднастайнасьці; разнастайнасць, як і вольнасць, знікаюць са школы.

Я таксама не баюся сцвярджаць, што сёння амаль ва ўсіх хрысьціянскіх дзяржавах, як каталіцкіх, так і пратэстанцкіх, рэлігія знаходзіцца пад небяспекай апынуцца ў руках урадаўцаў. Пры гэтым урадаўцы не прэтэндуюць на тое, каб асабіста выкладаць рэлігійную догму; яны ставяць перад сабой заданне падначаліць сваёй волі прафесійных прапаведнікаў; яны пазбаўляюць святарства яго ўласнасьці, вызначаюць памеры заробкаў царкоўных служак і пры гэтым узурпіруюць дзеля асабістых зацікаўленасьцей іхны ўплыў на народныя масы. Урадаўцы імкнуцца ператварыць святара ў свайго функцыянера, а часта і ў паслугача, з дапамогай якога можна глыбей пракрасьціся ў душу кожнага граждзяніна[349].

Гэта, аднак, толькі адзін бок медаля.

Магутнасць урадаўца пашыраецца сёння не толькі на ўсю сферу ранейшых устаноў улады; межы гэтай сферы ўжо не могуць стрымаць яго ўладу і яна пачынае пашырацца на тыя вобласьці, якія раней заўсёды былі сферай індывідуальнай вольнасьці. Шмат якія віды дзейнасьці, якія ніколі да гэтага не кантраляваліся дзяржавай, сёння падпадаюць пад яе кантроль, пры гэтым колькасць такіх відаў дзейнасці ўвесь час павялічваецца.

У арыстакратычным грамадстве дзяржава непасрэдна кіравала сваімі грамадзянамі толькі тады, калі іхная дзейнасць мела яскрава выяўляемую сувязь з агульнанацыянальнымі зацікаўленасьцямі, ахвотна аддаючы ім поўную волю ва ўсіх іхных справах. У тыя часы ўрад як бы не браў да ўвагі той факт, што памылкі і

[348] Паступовае паслабленне індывіда перад тварам грамадства можна было б паказаць грунтуючыся на тысячах прыкладаў. Прывяду толькі адзін, злучаны з перадачай спадчыны. У арыстакратычных краінах звычайна з вялікай павагай ставяцца да апошняй волі чалавека. У старажытных народаў Яўропы гэтае пытанне набывала, ледзь ці не форму забабонаў: грамадзкая думка не толькі нічым не абмяжоўвала паміраючага ў яго жаданнях, але і падмацоўвала кожнае із іх аўтарытэтам сваёй магутнасьці, забяспечваючы іхнае непазбежнае выкананне. Калі ўсе жывучыя з'яўляюцца слабымі, волю памёршых шануюць менш. Яе заганяюць у вузкія рамкі закона і, калі яна пераходзіць за яго мяжу, вярхоўная ўлада яе скасоўвае або бярэ пад свой кантроль. Пад час сярэдневечча права перадачы спадчыны не было нічым абмежавана. Сёння французы не маюць магчымасьці без удзелу дзяржавы размеркаваць паміж сваімі дзецьмі сваю маёмасць. Кіруючы французам на працягу ўсяго яго жыцця, дзяржава жадае распараджацца таксама яго апошняй воляй.

[349] Разам з павелічэннем абавязкаў цэнтральнай улады павялічваецца і колькасць функцыянераў, прадстаўляючых гэтую ўладу. Яны ўтвараюць сабой нацыю ў асяроддзі кожнай нацыі і, дзякуючы таму што ўрад забяспечвае трываласць іхнага становішча, паступова займаюць месца арыстакратыі. Амаль паўсюдна у Яўропе ўлада ажыццяўляецца двума спосабамі: па-першае, выкарыстоўваючы баязнь, якую адчувае частка грамадзянаў у дачыненні да яе функцыянераў; па-другое, эксплуатуючы імкненне грамадзянаў самім далучыцца да ліку гэтых функцыянераў.

галеча асобных грамадзян ставяць пад сумнеў усеагульны дабрабыт і таму спроба перашкодзіць збядненню кожнай асобы грамадства павінна быць справай усеагульнай.

Сёння дэмакратычныя дзяржавы кінуліся ў супрацьлеглую крайнасць.

Робіцца відавочным, што шмат хто із урадаўцаў не толькі жадаюць кіраваць усім народам, але лічаць сябе адказнымі за справы і лёсы кожнага свайго падданага, што яны гатовы весьці па жыцці кожнага із іх за руку, а ў выпадку патрэбы зрабіць яго шчаслівым супраць яго волі.

У сваю чаргу асобныя грамадзяне ўсё часьцей разглядаюць дзяржаўную ўладу з гэтага ж боку гледжання, звяртаючыся да яе з усімі сваімі патрэбамі і ставячыся да яе як да свайго роду кіраўніка ці настаўніка.

Адважуся сцвярджаць, што няма ніводнай еўрапейскай краіны, дзе ўрад, стаўшы больш цэнтралізаваным, не ўзяў бы на сябе драбнюткія кантралюючыя функцыі: паўсюдна ён, як ніколі раней, пракрадаецца ў прыватнае жыццё грамадзянаў, па-свойму рэгулюе ўсё менш значныя віды дзейнасьці, з усіх бакоў атачаючы грамадзянаў сваімі турботамі, парадамі і прымусамі.

Раней урадавец жыў на прыбытку ад зямлі ці на сабраныя падаткі. Сёння, калі яго патрэбы павялічыліся сумерна магутнасьці, гэтых сродкаў ужо недастаткова. Калі раней у некаторых абставінах манарх прызначаў новыя падаткі, сёння ён вымушаны карыстацца пазыкамі. Такім чынам, дзяржава паступова робіцца даўжнікам большасьці заможных грамадзянаў і канцэнтруе ў сваіх руках вялізныя багацці.

Нязначныя сродкі грамадзянаў прыцягваюцца ёю іншым спосабам.

Па меры таго як людзі перамешваюцца, а ўмовы іхнага існавання выраўноўваюцца, у немаёмасных з’яўляецца ўсё больш сродкаў, ведаў і жаданняў. У іх узнікае імкненне палепшыць сваё жыццё і яны спрабуюць дамагчыся гэтага з дапамогай зберажэнняў. У сваю чаргу гэтыя працоўныя зберажэнні прыводзяць да ўзнікнення незлічонай колькасці невялікіх назапашванняў, якія павольна, але непазбежна павялічваюцца. Аднак, дзякуючы таму што яны застаюцца разрозненымі, вялікая частка із іх ляжыць мёртвым грузам. У сваю чаргу гэта мае наступствам з’яўленне філантрапічных установаў, якія, калі я не памыляюся, могуць хуткім часам ператварыцца ў адзін із самых буйных нашых палітычных інстытутаў. Філантропы ўзнамерыліся аб’яднаць назапашванні немаёмасных і карыстацца прыбыткамі ад іх. У некаторых краінах гэтыя дабрачынныя таварыствы застаюцца незалежнымі ад дзяржавы, аднак у сваёй большасьці яны трапляюць пад яе кантроль, а дзе-нідзе гэтыя таварыствы замяняюцца ўрадавымі ўстановымі. У гэтых краінах дзяржава ўзваліла на сябе цяжкі цяжар цэнтралізацыі і здабывання прыбыткаў са штодзённых назапашанняў шматлікіх мільёнаў працоўных.

Такім чынам, з дапамогай пазык дзяржава прыцягвае грошы заможных грамадзянаў, а з дапамогай ашчадных кас мае магчымасць распараджацца грашамі беднякоў. Багацці краіны сцякаюцца да яе па ўсіх каналах і ў тым большых памерах, чым вышэй ступень роўнасьці грамадзянаў, дзякуючы таму што ў дэмакратычным грамадстве толькі дзяржава надае давер прыватным асобам з той нагоды, што яна ўяўляецца валодаючай некаторай магутнасьцю і стабільнасьцю[350].

---

[350] Сёння ў асяроддзі народа павялічваецца імкненне да дабрабыту і ўрад усё больш падначальвае сабе крыніцы гэтага дабрабыту. Таму людзі двума рознымі шляхамі ідуць да свайго заняволення: схільнасць да дабрабыту, з аднаго боку, спараджае ў іх нежаданне браць удзел у кіраванні і, з другога боку, ставіць іх ва ўсё больш залежнае становішча ад урадаўцаў.

Такім чынам, урадавец кіруе не толькі дзяржаўным бюджэтам, але і пашырае сваю дзейнасць на прыватную ўласнасць; будучы кіраўніком для кожнага грамадзяніна, ён часам з’яўляецца таксама яго гаспадаром, эканомам і касірам.

Зараз цэнтральны ўрад не толькі засяродзіў у сваіх руках усё кола ранейшых прэрагатыў улады; пашыраючы і прымнажаючы іх, ён дзейнічае з большым спрытам, больш актыўна і незалежна, чым калі б то ні было раней.

За апошні час урады Яўропы выдатна засвоілі навуку адміністравання; сёння яны робяць значна больш, у іхных дзеяннях больш упарадкаванасьці, спрытнасьці і ашчаднасьці. Ствараецца ўражанне, што яны ўвесь час абагачаюцца ўсімі ведамі, запазычанымі ў сваіх грамадзянаў. З кожным днём кіраўнікі Яўропы ўсё больш падначальваюць сабе сваіх функцыянераў, вынаходзячы ўсе новыя сродкі, каб кіраваць імі ва ўсіх іхных справах найбольш простымі спосабамі. Для іх ужо недастаткова кіраваць усімі справамі праз сваіх прадстаўнікоў, зараз яны спрабуюць наладзіць кантроль за тым, як іхныя прадстаўнікі вядуць гэтыя справы. Такім чынам, дзяржаўная адміністрацыя не толькі падначальваецца сёння адной уладзе, яна ўсё больш канцэнтруецца ў адным месцы і ў адных руках. Урад цэнтралізуе сваю дзейнасць, пашыраючы пры гэтым свае прэрагатывы: гэта падвойвае яго магутнасць.

Калі вывучаеш уладкаванне судовай улады існаваўшае некалі ў большасьці еўрапейскіх краін, уражваюць дзьве рэчы: незалежнасць гэтай улады і межы яе кампетэнцыі.

Суды вырашалі не толькі ўсе спрэчкі паміж асобнымі грамадзянамі, але вельмі часта служылі арбітрам у спрэчках паміж грамадзянамі і дзяржавай.

Я тут маю на ўвазе не прэрагатывы палітычнага і адміністрацыйнага характару, якія былі ўзурпаваны судамі ў некаторых краінах, але толькі пра тыя судовыя паўнамоцтвы, якія паўсюдна належалі судам. Ва ўсіх краінах Яўропы існавалі і існуюць да гэтага часу шматлікія правы асобы. Большасць іх была злучана з больш агульным правам уласнасьці, рэалізацыя якога рэгулявалася судом і без чыйго дазволу дзяржава не магла парушыць дадзены закон.

Гэтая напалову палітычная ўлада прынцыпова адрознівала еўрапейскі суд ад усіх іншых, таму што ва ўсіх народаў існуюць суддзі, але не ўсе народы надаюць ім такія паўнамоцтвы.

Калі паглядзець, што адбываецца зараз у дэмакратычных дзяржавах Яўропы, якія лічацца вольнымі, а таксама і ў іншых краінах, мы пабачым, што паўсюдна нароўні з гэтымі судамі ўзнікаюць іншыя, больш залежныя, прызначаныя выключна для рашэння тых спрэчных пытанняў, якія могуць узнікнуць паміж уладай і грамадзянамі. Незалежнасць ранейшай судовай улады захоўваецца, але пры гэтым звужаецца яе юрысдыкцыя спробуючы ператварыць яе ў арбітра толькі па прыватных справах.

Колькасць судоў новага тыпу ўвесь час павялічваецца і іхныя паўнамоцтвы пашыраюцца. Такім чынам, урад усё больш упэўнена пазбаўляе сябе ад абавязку дамагацца ўхвалы яго волі і правоў ад іншай улады. Не маючы магчымасьці абыйсьціся без суддзяў, ён жадаў бы, прынамсі, абіраць іх для сабе і трымаць увесь час у руках. Іншымі словамі, паміж сабой і грамадзянамі краіны ўрад меў бы жаданне размясціць замест самога правасуддзя толькі яго здань.

Такім чынам, дзяржаве ўжо недастаткова манаполіі на вырашэнне ўсіх судовых спраў; яна ўсё часьцей і часьцей бескантрольна і без права абскарджання прысуду сама прымае рашэнні па ўсіх гэтых пытаннях[351].

У народаў сучаснай Яўропы існуе яшчэ адна нагода, якая, незалежна ад усіх ужо пералічаных вышэй, спрыяе пастаяннаму пашырэнню сферы дзейнасьці вярхоўнай улады і яе прэрагатываў і якой раней не асабліва асьцерагаліся. Нагода гэтая – развіццё прамысловасьці, чаму спрыяе прагрэс роўнасьці.

Прамысловая вытворчасць звычайна мае наступствам збіранне людзкой масы у адным месцы і ўсталёўвае паміж імі новыя, складаныя ўзаемадачыненні. Яна ставіць гэтыя масы перад вельмі вялікім і часта раптоўным выбарам паміж багаццем і галечай, падчас якога грамадзкі спакой выяўляецца пад пагрозай. Нарэшце, прамысловая праца падрывае здароўе, а часам пагражае самаму жыццю занятых ёю людзей. Таму стан прамысловых працоўных патрабуе большай рэгламентацыі, кантролю і стрымлівання, чым іншыя станы. І цалкам натуральна, што з павелічэннем прамысловай вытворчасьці павялічваюцца і паўнамоцтвы ўрада.

Гэтая праўда з’яўляецца ўніверсальнай, аднак існуюць некаторыя асаблівасьці, дастасуючыяся менавіта да краін Яўропы.

На працягу папярэднічаўшых стагоддзяў арыстакратыя валодала зямлёй і была ў стане абараняць яе. Правы ўласнасьці на зямлю, такім чынам, былі гарантаваны і ўладальнікі нерухомасьці карысталіся вялікай незалежнасьцю. Такое становішча абумовіла з’яўленне адпаведных законаў і звычаяў, існуючых да гэтага часу, нягледзячы на частыя перадзелы землі і спусташэнне дваранства. І сёння землеўладальнікі і земляробы ў адрозненні ад іншых грамадзянаў з вялікай лёгкасьцю выходзяць із-пад кантролю дзяржаўнай улады.

Пад час гэтых жа самых стагоддзяў панавання арыстакратыі, адкуль бярэ пачатак наша гісторыя, рухомая маёмасць мала што азначала, а яе ўладальнікі былі слабымі і пагарджаемымі. Прамыслоўцы ж утваралі нейкі адасоблены стан у чужародным асяроддзі арыстакратычнага сьвету і, дзякуючы таму што ў іх не было пастаяннага заступніцтва, яны не былі абаронены і часта не мелі магчымасьці абараніць сябе самі.

У выніку гэтага, зрабілася звыклым ставіцца да сродкаў прамысловай вытворчасьці як да маёмасьці адмысловага роду, не заслугоўваючай той пашаны і не павіннай валодаць тымі ж гарантыямі, што ўласнасць наогул. На прамыслоўцаў глядзелі як на невялікі стан, не маючы непасрэднага дачынення да сацыяльнага ўладкавання, незалежнасць якога мала што азначала, таму што яна рабілася пастаяннай ахвярай схільнасьці валадароў да разнастайных рэгламентацый. Сапраўды, калі ўважліва вывучыць сярэднявечныя законы, то можна са здзіўленнем выявіць, што ў гэтыя часы асабістай незалежнасьці каралі рознымі спосабамі рэгламентавалі прамысловую дзейнасць, аж да драбнюткіх дэталяў. І ў гэтым дачыненні цэнтралізацыя была вельмі актыўнай і ўсёахопліваючай.

З таго часу ў сьвеце адбылася вялікая рэвалюцыя; прыватная ўласнасць на сродкі вытворчасьці, быўшая некалі ў зачаткавым стане, была распрацавана і

---

[351] У сувязі з гэтым у Францыі выкарыстоўваюць даволі дзіўны сафізм. Як толькі ўзнікае судовы працэс паміж адміністрацыяй і прыватнай асобай, звычайнаму суддзі ў кіраванні ім адмаўляюць, каб нібы-та не аб’ядноўваць дзьве ўлады: адміністрацыйную і юрыдычную. Можна падумаць, што наданне ўраду права судзіць і кіраваць адначасова не з’яўляецца аб’яднаннем гэтых двух улад, пры гэтым аб’яднаннем у вышэйшай ступені згубным і найбольш тыранічным.

заваявала ўсю Яўропу. Стан людзей, занятых прамысловасьцю, значна павялічыўся, увабраўшы ў сябе рэшткі іншых станаў; ён вырас не толькі лікава, але і ў сваёй значнасьці, у багацці. Ён увесь час павялічваецца, і нават тыя, хто не належыць да яго, так ці інакш з ім злучаны. Быўшы ў свой час асобным станам, ён зараз пагражае ператварыцца ў асноўны, калі не адзіны стан грамадства. Тымчасам палітычныя погляды і звычаі, некалі народжаныя ім, працягваюць існаваць. Гэтыя погляды і звычаі ніякім чынам не перамяніліся, па-першае, таму, што яны старыя, а па-другое, таму, што цалкам адпавядаюць новым ідэям і агульнапрынятым сёння звычаям.

Заняўшы больш важкае месца ў грамадстве, уласнасць на сродкі вытворчасьці, усё ж, не дадала сабе правоў. Стаўшы больш шматлікім, стан вытворцаў не стаў менш залежным, насупраць, ствараецца ўражанне, што ён прыносіць з сабой дэспатызм, які натуральным чынам узмацняецца па меры яго развіцця[352].

Па меры павелічэння індустрыялізацыі ў грамадстве ўзнікае патрэба ў будаванні дарог, каналаў, партоў, ажыццяўленні іншых прац, маючых вызначанае грамадзкае значэнне і спрыяючых павелічэнню дабрабыту. Аднак чым больш дэмакратычнай з’яўляецца краіна, тым больш цяжка асобным грамадзянам выконваць падобнага роду працы і, наадварот, тэм больш лягчэй выконваць іх дзяржаве. Бяруся сцвярджаць, што сёння большасць урадаўцаў выяўляюць відавочнае імкненне самастойна займацца падобнага роду справамі і гэтым яшчэ больш падначальваюць сабе жыхароў сваіх краін.

З другога боку, па меры таго як дзяржава робіцца больш магутнай і выдаткі яе павялічваюцца, яна сама пачынае спажываць ва ўсё большых памерах прамысловую прадукцыю, выраблямую на яе заводах і мануфактурах. Такім чынам, у кожным каралеўстве манарх робіцца самым буйным прамыслоўцам; ён запрашае да сябе і трымае на службе самую вялікую колькасць інжынераў, архітэктараў, механікаў, рамесьнікаў.

Але ён не толькі першы із прамыслоўцаў, ён імкнецца да таго, каб стаць патронам, а больш дакладна, гаспадаром усіх іншых прамыслоўцаў.

Дзякуючы таму што грамадзяне, набываючы роўнасць, робяцца менш магутнымі, яны вымушаны аб’ядноўвацца, каб мець магчымасць займацца

---

[352] Маю жаданне падмацаваць гэтую тэзу некаторымі фактамі. Прыродныя крыніцы індустрыйнага багацця знаходзяцца ў шахтах. Таму, як толькі ў Яўропе ўзмацнілася індустрыйная вытворчасць, прадукцыя шахт пачала прыцягваць да сябе ўсеагульную цікавасць. Эксплуатацыя ж шахт пагоршылася ў сувязі з маёмаснымі падзеламі, стаўшымі магчымымі дзякуючы роўнасьці. Тады ўрадаўцы запатрабавалі сабе права на валоданне змесьцівам шахт і на кантроль за іхнай эксплуатацыяй. Ніколі раней нічога падобнага не адбывалася ў дачыненні да іншых відаў уласнасьці. Такім чынам, шахты, заўсёды быўшыя прыватнай уласнасьцю і як такія падпадаўшыя пад тыя ж абавязацельствы і карыстаўшыяся тымі ж гарантыямі, што і іншыя віды нерухомасьці, сталі аб’ектам грамадзкай зацікаўленасьці. Сёння дзяржава іх эксплуатуе ці здае ў канцэсію, іхныя ўладальнікі ператварыліся ў асоб, маючымі права карыстацца шахтамі як чужой уласнасьцю, пры гэтым гэтае права рэгулюецца дзяржавай. Акрамя таго, дзяржава амаль паўсюдна настойвае на праве кіраваць імі, рэгламентуе іхную дзейнасць, вымушаючы іх працаваць так, як яна лічыць патрэбным, пастаянна іх кантралюе. Калі ж былыя гаспадары шахтаў выказваюць супраціўленне, дзяржава з дапамогай адміністрацыйных судоў забірае ў іх шахты і перадае права на іх іншым асобам. Такім чынам, дзяржава трымае ў сваіх руках не толькі шахты, але і шахцёраў. Па меры развіцця прамысловасьці павялічваецца і эксплуатацыя старых шахт, акрамя таго, засноўваюцца новыя. Насельніцтва шахцёрскіх мястэчак увесь час павялічваецца. Кожны дзень урады пашыраюць свае ўладанні ў нас пад носам, засяляючы іх сваімі служкамі.

прамысловай дзейнасьцю. Дзяржаўная ж улада, натуральна, імкнецца да таго, каб паставіць гэтыя згуртаванні пад свой кантроль.

Патрэбна прызнаць, што гэтыя калектыўныя ўтварэнні, маючыя назву асацыяцыі, уяўляюць сабой больш грозную магутнасць, чым прыватная асоба, і пры гэтым нясуць меншую адказнасць за свае справы. Таму дзяржаўная ўлада цалкам слушна дае ім меншую незалежнасць, чым прыватным асобам.

Урадаўцы тым больш ахвотна паступаюць такім чынам, чым больш гэта адпавядае іхным уласным схільнасьцям. У дэмакратычных народаў грамадзянскае супраціўленне цэнтральнай уладзе магчыма здзейсніць толькі з дапамогай асацыяцый. Зразумела, што ўлады ставяцца да гэтых асацыяцый без асаблівага захаплення, таму што не могуць іх кантраляваць. Пры гэтым варта падначыць, што часта і самі грамадзяне ставяцца да іх з таемным пачуццём баязні і зайздрасьці, перашкаджаючым ім абараняць гэтыя таварыствы.

Устойлівасць і працягласць існавання гэтых невялікіх згуртаванняў прыватных асоб сярод усеагульнай немачы і нестабільнасьці здзіўляе і турбуе грамадзянаў; ім ужо пачынае здавацца, што вольнасць дзеянняў, з'яўляючаяся натуральным атрыбутам існавання гэтых асацыяцый, існуе нейкі небяспечны прывілей.

Дарэчы, усе гэтыя асацыяцыі, нараджаючыяся сёння, можна параўнаць з людзьмі, правы якіх не замацаваны часам і якія з'яўляюцца пад час эпохі, калі слаба распрацавана ўяўленне пра правы прыватных грамадзянаў і калі дзяржаўная ўлада бязмежная. Нядзіва, што асацыяцыі губляюць сваю вольнасць, не паспеўшы нарадзіцца.

Ва ўсіх еўрапейскіх краінах існуюць вызначаныя катэгорыі асацыяцый, стварэнне якіх магчыма толькі пасьля таго, як дзяржава разгледзіць іхны статус і дасць дазвол на іхную дзейнасць. У шмат якіх краінах пачыналіся спробы пашырыць гэтае правіла на ўсе віды асацыяцый. Лёгка сабе ўявіць, што магло б адбыцца ў выпадку поспеху дадзенага пачынання.

Справа ў тым, што, як толькі вярхоўная ўлада даможацца агульнага права дазваляць дзейнасць усіх тыпаў асацыяцый толькі на вызначаных умовах, яна адразу ж запатрабуе права кантраляваць гэтыя таварыствы і кіраваць імі, з тым каб яны ў сваёй дзейнасьці не парушалі гэтыя умовы. Такім чынам, дзяржава, падначальваючы сабе тых, хто меў бы жаданне аб'яднацца ў асацыяцыі, імкнецца паставіць у залежнасць ад сябе і тых, хто ўжо з'яўляецца сябрамі асацыяцый, што азначае практычна ўсіх людзей, жывучых у наш час.

Урадаўцы ўзурпуюць і прыстасоўваюць для ўласных зацікаўленасьцях усё большую частку той новай магутнасьці, якая зараз ствараецца ў сьвеце прамысловай вытворчасьцю. Прамысловасць кіруе намі, а яны кіруюць прамысловасьцю.

Я надаю такое значэнне сказанаму вышэй таму, што адчуваю баязнь, як бы імкнучыся найлепш патлумачыць сваю думку я не пераіначыў бы яе.

Калі ж чытач знойдзе, што прыклады, прыведзеныя мной у пацверджанне маіх слоў, недастаткова пераканаўчыя або дрэнна падабраны; калі ён лічыць, што я ў чымсьці перабольшваю ступень узмацнення дзяржаўнай улады і, наадварот, звыш меры звужаю тую сферу, дзе існуе яшчэ індывідуальная вольнасць, то я прашу яго адкласьці на час гэтую кнігу і самому разгледзець усе тыя пытанні, пра якія ішла гаворка. Хай ён уважліва вывучыць тое, што штодня адбываецца з намі і па-за намі, хай распытае сваіх суседзяў, хай, нарэшце, уважліва паназірае за самім сабой.

Упэўнены, што ён без павадыра прыйдзе – іншым, праўда, шляхам – да тых жа самых высноваў, што і я.

Ён заўважыць, што на працягу мінуўшых пяцідзесяці гадоў цэнтралізацыя паўсюдна ўзмацнялася самымі разнастайнымі спосабамі. Войны, рэвалюцыі, заваёвы – усё спрыяла яе павелічэнню. Усе грамадзяне працавалі на цэнтралізацыю. За гэты перыяд часу мы бачылі на чале разнастайных пачынанняў розных людзей, якія пераменяліся з дзіўнай хуткасьцю; іхныя думкі, зацікаўленасьці, жарсьці былі бясконца разнастайнымі, аднак усе яны ў той ці іншай ступені імкнуліся да цэнтралізацыі. Інстынкт цэнтралізацыі быў адзіным устойлівым пачаткам у атмасферы дзіўнай пераменлівасьці ўладкавання жыцця і думак людзей.

І вось калі чытач паглыбіцца ва ўсе дэталі гэтых спраў людзкіх і пажадае аб'яднаць іх у адзіную выяву, ён будзе здзіўлены.

З аднаго боку, падарваны ці скасаваны магутныя дынастыі, паўсюдна народы вядуць роспачнае змаганне з усталяванымі імі законамі, знішчаючы або абмяжоўваючы ўладу сваіх сеньёраў і валадароў. Усе народы, не здзяйсніўшыя пакуль рэвалюцыі, дрыгацяць ад нецярпення, таму што іх натхняе той жа дух паўстання. І з другога боку, у гэты ж самы анархічны час, у гэтых жа самых непакорлівых народаў дзяржава ўвесь час пашырае свае прэрагатывы, робіцца ўсё больш цэнтралізаванай, прадпрымальнай, абсалютнай і ўсемагутнай. Грамадзяне знаходзяцца пад пільным наглядам урадавых устаноў. Кожны дзень непрыкметна для сябе яны ахвяруюць дзяржаве новую часцінку сваёй асабістай вольнасьці. Гэтыя людзі, якія час ад часу перакульваюць пасады і топчуць каралёў, – гэтыя людзі ўсе лягчэй і лягчэй, не выяўляючы ніякага супраціву, падначальваюцца першаму жаданню якога заўгодна дзяржаўнага службоўцы.

Такім чынам, ствараецца ўражанне, што сёння адбываюцца дзьве рознанакіраваныя рэвалюцыі: адна ўвесь час паслабляе ўладу, другая яе нястомна ўзмацняе. Ніколі раней улада не ўяўлялася нам ні такой слабой, ні такой моцнай.

Аднак аналіз рэчаіснасьці паказвае, што гэтыя дзьве рэвалюцыі цесна ўзаемазлучаны, што ў іх агульны падмурак і што, ажыццяўляючыся па-рознаму, яны вядуць людзей да адной мэты.

Рызыкну ў апошні раз паўтарыць тое, што я ўжо неаднаразова пазначаў у розных месцах сваёй кнігі: ні ў якім разе немагчыма блытаць сам факт роўнасьці з рэвалюцыяй, у выніку якой роўнасць усталёўваецца ў грамадзкім жыцці і ў законах: менавіта тут знаходзяцца падставы ўсіх нашых непаразуменняў.

Усе былыя палітычныя рэжымы, як найбольш магутныя, так і самыя нікчэмныя, былі сфармаваны ў часы арыстакратыі і таму ўяўлялі і абаранялі, у большай ці меншай ступені, прынцып няроўнасьці і прывілеяў. Каб сёння ва ўрадзе перамаглі новыя патрэбы, адпавядаючыя зацікаўленасьцям нарастаючай роўнасьці, нашым сучаснікам давялося або скасаваць старыя рэжымы, або прымусіць іх пераменіць намеры. Гэта мела наступствам рэвалюцыі, якія ў сваю чаргу прышчапілі людзям густ да крывавых хваляванняў і самастойнасьці, нараджаемымі якой заўгодна рэвалюцыяй, якую б мэту яна ні пераследавала.

Я не ведаю ніводнай краіны ў Яўропе, дзе б усталяванню роўнасьці не папярэднічалі або не ішлі за ёй рэзкія перамены ў становішчы ўласнасьці і асобы. І амаль заўсёды гэтыя перамены суправаджаліся выбухам анархіі і распушчанасьці нораваў, таму што адбываліся яны пад час змагання найменш культурнай часткі грамадства з часткай, найбольш далучанай да культуры.

Менавіта тут вытокі двух прама процілеглых рэвалюцыйных традыцый, пра якія гаворка ішла вышэй. Пакуль дэмакратычная рэвалюцыя была ў разгары, людзі, занятыя разбурэннем старой, арыстакратычнай улады, супраціўляйшайся рэвалюцыі, былі натхнёны вялікай ідэяй незалежнасьці. Але па меры таго, як роўнасць рабілася ўсё больш поўнай, яны паціху пачалі саступаць тым натуральным інстынктам, якія гэтая роўнасць спараджае, спрыяўшым узмацненню і цэнтралізацыі дзяржаўнай улады. Яны жадалі быць вольнымі, каб стаць роўнымі, і, па меры таго як роўнасць замацоўвалася з дапамогай вольнасьці, яна рабіла гэту вольнасць усё мене дасягальнай.

Гэтыя два становішчы заўсёды ішлі адзін за другім. Нашы бацькі паказалі, як народ можа стварыць рэжым бязмернай тыраніі менавіта тады, калі ён выходзіць із пад улады арыстакратаў і кідае выклік усім манархам. Гэтым жа яны паказалі ўсяму сьвету, якім чынам можна адначасова дамагчыся незалежнасці і страціць яе.

Сёння людзі бачаць, што паўсюдна падаюць старыя рэжымы, яны бачаць, як знікаюць старыя аўтарытэты, скасоўваюцца старыя перагародкі; усё гэта непакоіць розумы нават самых мудрых людзей, якія, не бачачы нічога, акрамя магутнай рэвалюцыі, пашыраючайся перад іхнымі вачамі, перакананы, што чалавецтва ўступае ў эпоху анархіі. Калі б яны задумаліся над тым, да чаго павінна, у канчатковым рахунку, прывесьці гэтая рэвалюцыя, яны б, хутчэй усяго, адчувалі б іншыя небяспекі.

Што да мяне, то я, прызнаюся, не давяраю ідэі вольнасьці, якая так натхняе маіх сучаснікаў; я добра бачу, што народы паводзяць сябе сёння вельмі неспакойна, аднак я не бачу, каб яны сталі больш схільнымі да вольнасьці. Таму я асьцерагаюся, як бы пасьля заканчэння ўсіх гэтых закалотаў, пахіснуўшых пасады, урадаўцы не сталі б больш магутнымі, чым калі-небудзь раней.

# Глава VI

## Якога дэспатызму варта асьцерагацца дэмакратычным народам.

Падчас свайго знаходжання ў Злучаных Штатах я заўважыў, што дэмакратычнае грамадзкае ўладкаванне, падобнае амерыканскаму, дае рэдкія магчымасьці для ўсталявання дэспатызму, а, вярнуўшыся ў Яўропу, я пабачыў, што шмат хто іх нашых кіраўнікоў ужо выкарысталі ідэі, пачуцці і патрэбы, народжаныя гэтым грамадзкім уладкаваннем, каб пашырыць межы сваёй улады. Гэта прывяло мяне да думкі пра тое, што хрысьціянскія народы могуць, урэшце, выпрабаваць тыя ж уціскі, якія некалі зведалі шмат якія са старажытных народаў.

Больш дэталёвы аналіз гэтага пытання і пяць гадоў новых роздумаў не паменшылі маёй баязні, перамяніўшы, аднак, яе нагоду.

Раней ніводзін манарх, якой бы ўсёмагутнай і абсалютнай ні была яго ўлада, не адважыўся б аднаасобна, без дапамогі прамежкавых устаноў улады кіраваць усімі часткамі вялікай імперыі. Ніхто не спрабаваў прымусіць усіх падданых без разбору скрупулёзна выконваць адзіныя законы, ніхто не спрабаваў кіраваць кожным чалавекам ва ўсіх яго справах. Людзям ніколі і ў галаву не прыходзіла магчымасць падобнай задумы. Але калі б нехта і задумаў ажыццявіць нешта падобнае, ён быў бы вымушаны хутка адмовіцца ад рэалізацыі такой шырокай задумы з нагоды недахопу асьвечаных людзей, недасканаласьці адміністрацыйных

структур і, перадусім, наяўнасьці натуральных перашкод, абумоўліваемых няроўнасьцю ўмоваў існавання людзей.

Мы ведаем, што ў часы найвышэйшай магутнасьці цэзараў розныя народы, насяляўшыя Рымскую імперыю, захоўвалі свае разнастайныя норавы і звычаі; падначальваючыся адзінаму манарху, большасць правінцый, усё ж, мелі ўласныя ўстановы кіравання; у іх былі моцныя і дзейныя муніцыпалітэты і, хаця уся поўната ўлады ў імперыі была засяроджана ў руках аднаго імператара і ён у выпадку патрэбы мог вырашаць якія заўгодна справы, падрабязнасьці грамадзкага і асабістага жыцця прыватных асоб звычайна пазбягалі яго кантролю.

Сапраўды, імператары валодалі вялізнай і нікім не абмяжоўваемай уладай, дазваляўшай ім вольна аддавацца сваім, часта дзіўным заганам, выкарыстоўваючы для іхнага задавальнення моц усёй дзяржавы. Злоўжываючы ўладай, яны часта незаконным шляхам пазбаўлялі таго ці іншага грамадзяніна маёмасьці ці жыцця, іхная тыранія цяжарам клалася на прыватных асоб. Аднак яна не магла пашырыцца на занадта вялікую іхную колькасць. У якасьці аб’екта тыраніі абіраліся некаторыя найбольш важныя асобы, астатнія ігнараваліся; тыранія была лютай, але вельмі абмежаванай.

Мне здаецца, што, усталюйся зараз дэспатызм у дэмакратычных грамадствах, ён меў бы іншы характар: ён быў бы менш жорсткім, але больш усёахопліваючым і, прыніжаючы людзей, ён не аддаваў бы іх на пакуты[353].

Я не сумняваюся, што пад час такога асьвечанага і эгалітарнага перыяду, як наш, манархі маглі б лёгка аб’яднаць у сваіх руках усю дзяржаўную ўладу, усё больш вольна і глыбока пранікаючы ў кола прыватных зацікаўленасьцей грамадзянаў, чаго ніколі не маглі сабе дазволіць валадары старажытнага сьвету. Аднак гэтая ж самая роўнасць, якая спрыяе ўсталяванню дэспатызму, адначасова памякчае яго. Мы ўжо ведаем, што па меры таго, як людзі робяцца больш падобнымі адзін на аднаго і роўнымі, грамадзкія норавы памякчаюцца і набываюць больш гуманны характар. Калі ніхто із грамадзянаў не вылучаецца ні асаблівай уладай, ні багаццем, тыранічная ўлада як бы пазбаўляецца сваёй прыцягальнасьці і цыраманіяльнасьці. Калі ўсе станы асярэдненыя, жарсьці людзей выяўляюцца ўмеранымі, фантазіі – прыгнечанымі, задавальненні – простымі. Гэтая ўсеагульная ўмеранасць робіць умераным і самога кіраўніка, абмяжоўваючы яго жаданні вызначанымі межамі.

Да гэтых довадаў, запазычаным мной із самай прыроды чалавечага грамадства, я мог бы дадаць і шмат іншых, не маючых непасрэднага дачынення да абмяркоўваемай намі тэмы, але ў мяне няма жадання выходзіць за мной самім прызначаную мяжу.

Дэмакратычныя ўрады могуць быць жорсткімі і падступнымі ў моманты масавых народных хваляванняў і вялікай небяспекі, але гэтыя крызісы будуць рэдкімі і кароткачасовымі.

---

[353] Да цэнтралізацыі ўлады дэмакратычныя народы ўвесь час падштурхоўваюць не толькі іхныя ўласныя схільнасьці, але і запалы тых, хто імі кіруе. Лёгка можна прадбачыць, што амаль усе здольныя і славалюбівыя грамадзяне, жывучыя ў дэмакратычнай краіне, будуць усімі сродкамі імкнуцца пашырыць прэрагатывы дзяржаўнай улады таму, што кожны із гэтых грамадзянаў спадзяецца аднойчы самому стаць каля стырна ўлады. Было б пустым марнаваннем часу спрабаваць давесьці ім, што залішняя цэнтралізацыя з’яўляецца пагібельнай для дзяржавы, яны ж цэнтралізуюць дзеля саміх сябе. Сярод дэмакратычна наладжаных грамадзкіх дзеячоў да дэцэнтралізацыі ўлады імкнуцца або бескарысьлівыя, або сярэднія палітыкі. Аднак першых мала, а другія не ў стане нешта зрабіць.

Калі я думаю пра дробязнасць зацікаўленасьцей нашых сучаснікаў, мяккасць іхных нораваў, пра шырату іхных ведаў, пра чысьціню іхнай веры і пакорнасьці іхнай маралі, пра іхную акуратнасць і працавітасць, пра ўстрыманасць, якую яны выяўляюць як у заганах так і ва ўчыннасьцях, я думаю, што іхныя кіраўнікі будуць не столькі тыранамі, колькі іхнымі настаўнікамі.

Таму я лічу, што тая форма прыгнёту, якая пагражае дэмакратычным народам, ні ў чым не будзе нагадаць тое, што было раней; мае сучаснікі не здолеюць знайсьці ёй аналогаў у сваёй памяці. Я сам дарэмна шукаю вызначэнне, якое б дакладна выяўляла ідэю гэтага прыгнёту ў тым выглядзе, як я яго сабе сфармуляваў; старыя словы «дэспатызм» і «тыранія» з’яўляюцца непрыдатнымі. Гэтая з’ява з’яўляецца новай і таму яе патрэбна хаця б пазначыць, калі мы не можа даць ёй назву.

У меня існуе жаданне ўявіць сабе, у якіх новых формах у нашым сьвеце будзе развівацца дэспатызм. Я бачу незлічоныя натоўпы роўных і падобных адзін на аднаго людзей, марнуючых сваё жыццё ў нястомных пошуках маленькіх і бробязных радасьцей, запаўняючых іхныя душы. Кожны із іх, узяты ў асобнасьці, абыякавы да лёсу ўсіх іншых: яго дзеці і найбольш блізкія із сяброў і складаюць для яго ўвесь людзкі род. Што ж да іншых суграмадзянаў, то ён знаходзіцца каля іх, але не бачыць іх; ён дакнаецца да іх, але не адчувае; ён існуе толькі сам сабой і толькі для сябе. І калі ў яго яшчэ захавалася сям’я, то ўжо можна прынамсі сказаць, што бацькаўшчыны ў яго няма.

Над усім гэтым натоўпам узвышаецца гіганцкая ахоўваючая ўлада, забяспечваючая ўсіх задавальненнямі і назіраючая за лёсам кожнага ў натоўпе. Гэтая ўлада абсалютная, скрупулёзная, справядлівая, абачлівая і пяшчотная. Яе можна было б параўнаць з бацькоўскім уплывам, калі б яе заданнем, падобна бацькоўскаму, была падрыхтоўка чалавека да дарослага самастойнага жыцця. А тым часам гэтая ўлада, наадварот, імкнецца да таго, каб захаваць людзей у іхным дзіцячым стане; яна жадала б, каб грамадзяне атрымлівалі задавальненні і каб не думалі ні пра што іншае. Яна ахвотна працуе для агульнай выгоды, але пры гэтым жадае быць адзіным упаўнаважаным і арбітрам; яна клапоціцца пра бяспеку грамадзянаў, прадугледжвае і забяспечвае іхныя патрэбы, палягчае ім атрыманне задавальненняў, бярэ на сябе кіраўніцтва іх асноўнымі справамі, кіруе іхнай прамысловасьцю, рэгулюе права перадачы спадчыны і займаецца яе падзелам. Чаму ж бы ёй цалкам не пазбавіць іх ад неспакойнай патрэбы думаць і жыць на гэтым сьвеце?

Менавіта такім чынам гэтая ўлада робіць усё менш карысным і рэдкім звяртанне да вольнасьці выбару, яна ўвесь час звужае сферу дзеяння чалавечай волі, паступова пазбаўляючы кожнага асобнага грамадзяніна магчымасьці карыстацца ўсімі сваімі здольнасцямі. Роўнасць цалкам падрыхтавала людзей да падобнага ўладкавання: яна навучыла мірыцца з ёю, а часам нават ставіцца да яе як да нечага маючага выгоду.

Пасля таго як усе грамадзяне па чарзе пройдуць праз моцныя абдымкі кіраўніка і ён выляпіць із іх тое, што яму патрэбна, ён пашырыць свае магутныя далоні на грамадства ў цэлым. Ён пакрые яго сеткай дробных, мудрагелістых, аднастайных законаў, перашкаджаючых найбольш арыгінальным розумам і моцным душам узнесьціся над натоўпам. Ён не скасуе волю людзей, але размякчыць яе, сагне і накіруе; ён будзе рэдка падахвочваць да дзейнасьці, але ўвесь час будзе супрацівіцца таму, каб нехта дзейнічаў адпаведна са сваёй

ініцыятывай; ён нічога не разбурыць, але будзе перашкаджаць нараджэнню новага; ён не будзе тыраніць, але перашкаджаць, душыць, нерваваць, тушыць, робіць неразумным і пераўтвараць, урэшце, увесь народ у статак палахлівых і працавітых жывёл, павадыром якіх будзе выступаць урад.

Я заўсёды быў упэўнены, што падобная форма рабства, ціхая, мерная і мірная, выяву якой я толькі што намаляваў, магла б спалучацца, хаця гэта і цяжка сабе ўявіць, з некаторымі вонкавымі атрыбутамі вольнасьці і што яна цалкам можа ўсталявацца нават у цені народнай улады.

Нашых сучаснікаў увесь час праследуюць два варагуючыя паміж сабой пачуцці: яны адчуваюць патрэбу ў тым, каб імі кіравалі, і адначасова жаданне заставацца вольнымі. Будучы не ў стане адмовіцца ад аднаго із гэтых супярэчлівых інстынктаў, грамадзяне спрабуюць задаволіць іх абодва адразу. Яны жадалі б мець уладу адзіную, ахоўваючую і ўсемагутную, але абраную імі самімі. Яны жадалі б спалучаць цэнтралізацыю з уладай народа. Гэта б іх неяк залагодзіла. Знаходзячыся пад апекай, яны супакойваюць сябе тым, што сваіх апекуноў яны абралі самі. Кожны асобны грамадзянін згодзен быць прыкутым да ланцуга, калі ён бачыць, што канец гэтага ланцуга знаходзіцца ў руках не аднаго чалавека і нават не цэлага класа, а ўсяго народа.

Пры такой сістэме грамадзяне выходзяць із залежнасьці толькі на момант абрання свайго гаспадара, а потым зноў трапляюць у яе.

Сёння шмат хто лёгка прыстасаваўся да падобнага кампрамісу паміж адміністрацыйным дэспатызмам і ўладай народа, лічачы рэчаіснай гарантыяй вольнасьці асобы той факт, што турбота пра яе перададзена дзяржаўнай уладдзе. Мяне ж гэта цалкам не задавальняе. Асоба гаспадара з’яўляецца значна менш важнай для мяне, чым неабходнасць паслухмянства.

Дарэчы, я не буду адмаўляць, што падобная сістэма бясконца больш лепшая чым тая, якая, сабраўшы разам усе кіруючыя паўнамоцтвы, перадала б іх у рукі адной безадказнай асобы або згуртавання падобных асоб. Із усіх розных форм, якія мае магчымасць набыць дэмакратычны дэспатызм, гэта была б, бясспрэчна, найгоршай.

Калі кіраўнік абіраецца народам ці знаходзіцца пад кантролем сапраўды абіраемага і незалежнага парламента, ціск, здзяйсняемы ім на індывіда, часта бывае больш значным, аднак ён ва ўсякім разе менш зневажаючы для іх, таму што кожны грамадзянін, калі яго прыціскаюць і прыводзяць у стан бездапаможнасьці, яшчэ мае магчымасць лічыць, што гэтае яго падначаленне – саступка самаму сабе і што ён прыносіць у ахвяру аднаму са сваіх жаданняў усе астатнія.

Я таксама прызнаю, што вярхоўная ўлада, прадстаўляючая ўсю нацыю і залежачая ад яе волі, карыстаецца ўсімі забранымі ёю ў кожнага грамадзяніна правамі і паўнамоцтвамі не толькі ў інтарэсах кіраўніка дзяржавы, але і для выгоды самай дзяржавы, узнагароджваючы такім чынам прыватныя асобы за прынесеную імі ў імя грамадства ахвяру асабістую незалежнасць. Стварэнне народнага прадстаўніцтва ў краіне з моцна цэнтралізаванай уладай азначае памяншэнне, але не знішчэнне зла, якое ў стане прынесьці звыш цэнтралізацыя.

Я добра разумею, што такім чынам захоўваецца магчымасць асабістага ўдзелу грамадзянаў у найбольш важных дзяржаўных справах, але пры гэтым яна скасоўваецца пры вырашэнні дробных і прыватных пытанняў. Аднак не варта забывацца, што найбольш небяспечным з’яўляецца запрыгоньваць людзей менавіта ў дробязях. Са свайго боку я быў бы схільны лічыць, што вольнасць менш патрэбна

ў вялікіх справах, чым у дробязях, калі б я быў упэўнены, што існуе магчымасць адно адзяліць ад другога.

Неабходнасць падначальвацца ў дробных справах адчуваецца штодзённа ўсімі без выключэння грамадзянамі. Яна не прыводзіць іх у роспач, аднак увесь час сціскае і вымушае раз-пораз адмаўляцца ад праяўлення сваёй волі. Яна заглушае іхны розум і абурае душу, тым часам як паслухмянства, патрэбнае толькі ў найбольш складаных, але рэдкіх выпадках, прыводзіць да рабства далёка не заўсёды, ды і не ўсіх. Не мае ніякай карысьці даваць тым самым грамадзянам, якіх вы зрабілі такімі залежнымі ад цэнтральнай улады, магчымасць час ад часу абіраць прадстаўнікоў гэтай улады: гэты звычай, такі важны, але такі рэдкі і кароткачасовы, пры якім грамадзяне рэалізуюць волю выбару, не ратуе іх ад далейшай дэградацыі, калі яны губляюць здольнасць адчуваць і дзейнічаць самастойна, паступова губляючы сваю чалавечую годнасць.

Дадам яшчэ, што хутка яны зробяцца няздольнымі рэалізаваць і гэты свой адзіны застаўшыся ў іх вялікі прывілей. Дэмакратычныя народы, увёўшыя вольнасць у сферу палітыкі, узмацніўшы пры гэтым дэспатызм у сферы выканаўчай улады, прыйшлі да рэчаў вельмі дзіўных. Так, яны лічаць, што грамадзяне няздольны самі весьці дробныя справы грунтуючыся проста на цьвярозым розуме. Калі ж гаворка ідзе пра кіраванне цэлай дзяржавай, то гэтым грамадзянам яны гатовы даручыць неабмежаваную ўладу. Людзі па чарзе робяцца то цацкамі ў руках кіраўніка, то яго валадарамі, то больш, чым каралямі, то менш, чым простыя сьмяротныя. Выпрабаваўшы разнастайныя выбарчыя сістэмы і не знайшоўшы ніводнай, якая б іх задаволіла, яны здзіўляюцца і шукаюць новыя, быццам бы зло, якое яны бачаць навакол, сыходзіць толькі ад канстытуцыі краіны, а цалкам не ад саміх абіраючых.

І сапраўды, цяжка ўявіць сабе, якім чынам людзі, якія цалкам адмовіліся ад звычкі самім кіраваць сваімі справамі, маглі б удала абраць тых, хто павінен імі кіраваць. Таму і немагчыма паверыць, што ў выніку галасавання народа, валодаючага лакейскімі схільнасьцямі, можа быць створаны мудры, энергічны і ліберальны ўрад.

Канстытуцыя, рэспубліканская ў сваёй прэамбуле і ўльтра манархічная ў астатнім, заўсёды здавалася мне нейкім недаўгавечным монстрам. Заганы кіраўнікоў і неразумнасць кіруемых павінны вельмі хутка яе разбурыць і тады народ, стаміўшыся ад сваіх прадстаўнікоў і ад сябе самога, або створыць вольныя палітычныя інстытуты, або зноў паслухмяна ляжа каля ног аднаго гаспадара[354].

# Глава VII

## У якасьці працягу таго, пра што гаварылася ў папярэдніх главах.

[354] Я часта пытаю сябе, што адбудзецца, калі сёння, пад час калі дэмакратычныя норавы размякчаны, а войска выяўляе неспакой, уладу ў нейкай із краін захопіць вайсковы ўрад. Я думаю, што ў сваёй дзейнасьці гэты ўрад недалёка адыдзе ад выявы, апісанай мной ў главе, да якой ставіцца дадзеная нататка і што падобны ўрад не адновіць дзікіх рыс вайсковай алігархіі. Я ўпэўнены, што ў гэтым выпадку адбылося б зліццё звычак грамадзянскага службоўцы і жаўнера. Урад набыў бы ваярскі дух, а войска – звычкі грамадзянскага кіравання. У выніку ўсталявалася б упарадкаванае, зразумелае, выразнае, абсалютнае кіраванне; народ ператварыўся б у войска, а грамадства – у казарму.

Я лічу, што лягчэй усталяваць абсалютнае і дэспатычнае кіраванне ў той краіне, дзе ўмовы існавання людзей роўныя, чым там, дзе гэтага няма і я думаю, што, калі падобнае кіраванне будзе там усталявана, яно не толькі будзе ўціскаць грамадзянаў гэтай краіны, але надоўга пазбавіць кожнага із іх ад шмат якіх галоўных чалавечых вартасьцей.

Таму я лічу, што менавіта пад час эпохі дэмакратыі больш усяго патрэбна асьцерагацца дэспатызму.

Я думаю, што вольнасць імпанавала б мне ва ўсе часы, аднак сёння я адчуваю да яе асаблівую павагу.

З другога боку, я ўпэўнены, што ў тых, хто ў будучыні паспрабуе прыйсьці да ўлады, абапіраючыся на арыстакратыю з яе прывілеямі, нічога не атрымаецца. Нічога не атрымаецца і ва ўсіх тых, хто пажадае сканцэнтраваць і захаваць уладу ў руках аднаго стана. Сёння няма кіраўніка, які быў бы дастаткова моцным і майстэрскім, каб усталяваць дэспатыю шляхам падтрымлівання пастаянных адрозненняў паміж падданымі. Не існуе сёння і заканадаўцы, такога мудрага і магутнага, каб ён быў у стане падтрымліваць вольныя ўстановы, не абапіраючыся пры гэтым на вольнасць як на галоўны прынцып і як на знак. Таму тым нашым сучаснікам, хто змагаецца за незалежнасць і годнасць сабе падобных, патрэбна праяўляць сябе змагарамі за роўнасць, а адзіны спосаб пераканаць у гэтым людзей – стаць роўнымі ім: ад гэтага залежыць поспех іхнай сьвятой справы.

Такім чынам, гаворка ідзе не пра тое, каб аднавіць арыстакратычнае грамадства, але зрабіць так, каб воля нарадзілася ў тым дэмакратычным грамадстве, у якім нам прызначана жыць Богам.

Гэтыя дзьве аксіёмы здаюцца мне простымі, зразумелымі і плённымі і яны натуральным чынам падводзяць да разважанняў пра тое, якім можа быць вольны ўрад у народа, стварыўшага роўныя ўмовы існавання людзей.

Само грамадзкае ўладкаванне дэмакратычных народаў і іхныя патрэбы патрабуюць, каб улада іхнага кіраўніка была больш аднастайнай, цэнтралізаванай, шырокай, усюдыпранікаючай і моцнай, чым ва ўсіх іншых народаў. Грамадства тут, натуральна, валодае большай актыўнасьцю і магутнасьцю, а індывід больш залежны і слабы: калі першы робіць больш, то другі павінен рабіць менш, гэта непазбежна.

Таму не патрэбна спадзявацца на тое, што ў дэмакратычных краінах сфера асабістай незалежнасьці стане некалі такой жа шырокай, як у арыстакратычных дзяржавах. Ды і няма патрэбы да гэтага імкнуцца, таму што ў арыстакратычных народаў грамадства часта прыносіцца ў ахвяру аднаму чалавеку, а дабрабыт вялікай колькасьці людзей – велічы нешматлікіх.

Адначасова патрэбна і пажадана, каб цэнтральная ўлада, кіруючая дэмакратычным народам, была моцнай і актыўнай. Ні ў якім разе немагчыма яе паслабляць, рабіць млявай, але пры гэтым патрэбна перашкаджаць злоўжыванню з яе боку сваім спрытам і магутнасьцю.

Пад час эпохі панавання арыстакратыі незалежнасць прыватных асоб забяспечвалася тым, што манарх не адзін кіраваў сваімі падданымі, ён быў вымушаны дзяліцца сваёй уладай з арыстакратыяй, так што дзяржаўная ўлада, знаходзіўшаяся ў розных руках, не ціснула ўсім сваім цяжарам на кожнага чалавека.

Манарх не толькі не займаўся ўсім аднаасобна, але большасць замяшчаўшых яго службоўцаў атрымлівалі ўладу не ад яго, а адпаведна са спадчынным правам і

таму яны не былі ўвесь час у яго ў кулаку. Ён не меў магчымасьці ў кожны момант прызначаць ці звальняць іх грунтуючыся на сваім капрызе, падначальваць усіх без разбору самым найменшым сваім жаданнем. Гэта таксама гарантавала незалежнасць прыватных асоб.

Я добра разумею, што сёння ўжо немагчыма карыстацца гэтымі ж сродкамі, але я бачу дэмакратычныя метады, якія былі б здольныя іх замяніць.

Замест таго каб перадаваць кіраўніку ўсю ўладу, забраную ў карпарацый ці ў дваран, частку яе можна даручыць часова сфармаваным із простых грамадзянаў прамежкавым установам кіравання. Тады вольнасць прыватных асоб будзе больш надзейна абаронена, пры гэтым не зведае ўціску і іхная роўнасць.

Амерыканцы, не такія пераборлівыя як мы ў словах, захавалі назвы графстваў для большасьці сваіх адміністрацыйных акруг, але пры гэтым яны часткова замянілі кіраванне графстваў правінцыйнымі асамблеямі.

Я цалкам згодзен з тым, што пад час эпохі роўнасьці было б неразумна і несправядліва ствараць інстытут спадчынных функцыянераў, аднак нішто не перашкаджае замяніць іх у нейкай меры абіраемымі службоўцамі. Выбары – гэта дэмакратычны сродак, дазваляючы функцыянеру захоўваць незалежнасць перад тварам цэнтральнай улады ў такой жа ці нават у большай ступені, чым гэта дазваляла спадчыннае права ў арыстакратычным грамадстве.

У арыстакратычных краінах жыве вялізная колькасць заможных і ўплывовых грамадзянаў, якія ў стане задавальняцца сваімі ўласнымі магчымасьцямі і сродкамі і якіх нялёгка прыгнятаць, тым больш таемна. Менавіта дзякуючы ім вярхоўная ўлада выяўляе агульную ўмеранасць і стрыманасць.

У дэмакратычных краінах падобнага роду індывідаў, бясспрэчна не існуе, але там можна стварыць нешта падобнае штучным чынам.

Я цьвёрда ўпэўнены, што нанова стварыць арыстакратыю немагчыма, але я лічу, што прыватныя асобы, аб’ядноўваючыся ў асацыяцыі, могуць ствараць вельмі заможныя, вельмі ўплывовыя і вельмі моцныя згуртаванні, адным словам, згуртаванні, роўныя па магутнасьці арыстакратычным магнатам.

Такім спосабам можна было б дасягнуць шмат якіх самых важных палітычных пераваг арыстакратыі, пазбягаючы яе небяспечных недахопаў. Палітычная, прамысловая, камерцыйная і нават навуковая ці літаратурная асацыяцыя заўсёды будзе дзейнічаць як адукаваны і магутны падданы, якога немагчыма ні сагнуць адпаведна са сваім жаданнем, ні прыгнятаць цішком і які, абараняючы свае ўласныя правы перад тварам улады, ратуе ўсеагульную вольнасць.

Пад час эпохі арыстакратыі кожны чалавек цесна злучаны са шматлікімі сваімі суграмадзянамі, так што ў выпадку небяспекі гэтыя суграмадзяне заўсёды прыходзяць яму на дапамогу. Пад час эпохі роўнасьці кожны індывід натуральным чынам ізаляваны: у яго няма ні адданых сяброў, у якіх ён меў бы магчымасць папрасіць падтрымку, не існуе стана, які мог бы праявіць да яго сваю сімпатыю; чалавека можна лёгка ізаляваць, растаптаўшы яго правы. У наш час у прыгнечанага грамадзяніна існуе толькі адзін спосаб абароны – гэта зварот да ўсяго народа або, калі народ застаецца глухім, зварот да ўсяго чалавецтва. А адзіны сродак абароны – гэта прэса. Таму для дэмакратычнага народа вольнасць прэсы бясконца даражэй, чым для якога б то ні было іншага; яна адна здольна лекаваць большую колькасць тых хвароб, якія ў стане спарадзіць роўнасць. Роўнасць ізалюе і паслабляе людзей, але прэса стаіць каля кожнага як магутная зброя, якой можа скарыстацца самы

самотны і самы слабы із іх. Роўнасць пазбаўляе кожнага індывіда падтрымкі сваіх блізкіх, аднак прэса дае яму магчымасць заклікаць на дапамогу ўсіх сваіх суграмадзянаў, усіх людзей. Друкаваны станок спрыяў усталяванню роўнасьці, ён жа застаецца лепшым сродкам выпраўлення яе недахопаў.

Я лічу, што людзі ў арыстакратычным грамадстве могуць яшчэ абыходзіцца без вольнасьці друку, але тыя, хто жыве ў дэмакратычным грамадстве, абыйсьціся без яе ўжо не могуць. Гарантыю іхнай асабістай незалежнасьці я не магу даверыць ні высокім палітычным асамблеям, ні ўладзе парламента, ні абвешчанай уладзе народа.

Усе гэтыя рэчы да вызначанага моманту могуць суіснаваць з індывідуальным рабствам, але гэтае рабства ніколі не будзе абсалютным пры вольнай прэсе. Прэса перадусім з'яўляецца дэмакратычнай прыладай вольнасьці. Аналагічныя меркаванні можна выказаць і ў дачыненні да судовай улады. Судовая ўлада самой сваёй сутнасьцю накіравана на абарону зацікаўленасьцей прыватных асоб, таму яна ахвотна звяртае сваю ўвагу на пытанні вельмі пасрэдныя. Акрамя таго, гэтай уладзе не ўласьціва самой прыходзіць на дапамогу ўсім уціскаемым, але яна заўсёды побач з тымі із іх, хто найбольш гаротны. Гэты апошні, якім бы слабым мы яго сабе ні ўяўлялі, заўсёды мае магчымасць прымусіць суддзю выслухаць яго скаргу і даць на яе адказ: гэта абумоўлена самай спецыфікай судовай улады.

Падобная ўлада набывае асаблівае значэнне ў справе абароны вольнасьці тады, калі кіраўнік увесь час намагаецца браць удзел ва ўсіх сферах чалавечай дзейнасьці і калі прыватныя асобы занадта слабыя, каб абараніць сябе і занадта ізаляваныя, каб разлічваць на дапамогу сабе падобных. Аўтарытэт суда ва ўсе часы быў самай сур'ёзнай гарантыяй асабістай незалежнасьці, але пад час эпохі дэмакратыі гэта асабліва актуальна, таму што правы і зацікаўленасьці прыватных асоб тут заўсёды падпадаюць пад небяспеку, калі судовая ўлада не ўзмацняецца і не пашырае сваю мяжу па меры выраўноўвання ўмоваў жыцця.

Роўнасць выпрацоўвае ў людзях шматлікія надзвычай небяспечныя для вольнасьці схільнасьці, на якія ў заканадаўцы заўсёды павінны быць адкрыты вочы. Нагадаю толькі пра асноўныя.

Людзі, жывучыя ў дэмакратычным грамадстве, з цяжкасьцю разумеюць карысць фармальнасьцей; яны адчуваюць да іх інстынктыўную пагарду. Раней я ўжо выказваўся пра нагоды гэтай з'явы. Фармальнасьці выклікаюць у людзях не толькі пачуццё пагарды, але часта і нянавісьці. Дзякуючы таму што людзі звычайна цягнуцца да лёгкіх і дасягальных радасьцей, яны выяўляюцца нястрыманымі ў імкненні да прадметаў якога б то ні было жадання і самыя нязначныя затрымкі прыводзяць іх у роспач. Гэтыя норавы, перанесеныя ў сферу палітычнага жыцця, наладжваюць людзей супраць фармальнасьцей, якія штодня перашкаджаюць ім або зацягваюць выкананне нейкай іхнай задумы.

Тым часам нязручнасьці, з якімі людзі ў дэмакратычных краінах злучаюць фармальнасьці, у вышэйшай ступені карысныя для вольнасьці. Іхная галоўная вартасць у тым, што яны служаць бар'ерам паміж моцным і слабым, кіруючым і кіруемым, даюць магчымасць стрымліваць адных і даюць час прыстасавацца другім. Патрэба ў фармальнасьцях павялічваецца па меры таго, як кіраўнік робіцца больш дзейным і магутным, а яго падданыя ўсё больш апатычнымі і нямоглымі. Такім чынам, дэмакратычныя народы па сваёй прыродзе ў большай ступені, чым

усе іншыя, маюць патрэбу ў фармалізме, але, што таксама натуральна, яны яго менш за ўсё шануюць. Гэтае цьверджанне заслугоўвае самай сур'ёзнай увагі.

Няма нічога больш сумнага, чым напышлівая пагарда, якую выяўляюць большасць нашых суайчыннікаў да пытанняў формы. Справа ў тым, што сёння самыя дробныя фармальнасьці набываюць значэнне, якога яны раней не мелі; з імі злучаны шмат якія із самых вялікіх зацікаўленасьцей чалавецтва.

Я лічу, што калі дзяржаўныя людзі, жыучыя пад час стагоддзяў арыстакратыі, маглі часам безпакарана пагарджаць фармальнасьцямі, быць вышэй іх, то сёняшнія кіраўнікі павінны самым уважлівым чынам ставіцца да самай нязначнай фармальнасьці і абыходзіцца без яе толькі ў крайнім выпадку. У арыстакратыях да фармальнасьцей ставіліся з забабонным жахам; нам патрэбна ўзвесьці іх у асьвечаны культ.

Другім абсалютна натуральным і вельмі небяспечным інстынктам для дэмакратычных народаў з'яўляецца іхная схільнасць пагарджаць правамі асобы, надаючы ім мала значэння.

Звычайна людзі прызвычваюцца да аднаго права і шануюць яго ў залежнасьці ад яго значнасьці ці ж дзякуючы працягласьці яго дзеяння. Правы асобы, якія мы зараз сустракаем у дэмакратычных народаў, звычайна, не маюць вялікага значэння, цалкам нядаўна сфармуляваны і з'яўляюцца вельмі нестабільнымі, таму яны часта і лёгка прыносяцца ў ахвяру і парушаюцца без якіх-то ні было пакут сумлення.

Здараецца, што ў той жа час і ў тых жа краінах, дзе зараджаецца натуральная пагарда да правоў асобы, правы грамадства пашыраюцца і замацоўваюцца, то бок людзі пачынаюць адчуваць меншую прыхільнасць да правоў прыватных асоб менавіта ў той момант, калі ўзнікае патрэба захаваць і абараніць нешматлікія із яшчэ застаўшыхся у іх правоў.

Таму менавіта ў часы дэмакратыі сапраўдныя змагары за вольнасць і веліч чалавека павінны неадкладна і рашуча перашкаджаць таму, каб грамадзкая ўлада магла лёгка прынесьці ў ахвяру асобныя правы некалькіх грамадзянаў у імя рэалізацыі сваіх глабальных задумаў. У наш час небяспечна дазволіць прыціскаць нават апошняга із грамадзянаў; самыя недасканалыя правы асобы не могуць быць безпакарана заменены самаволяй улад. Тлумачыцца гэта проста: калі парушаюцца асабістыя правы індывіда пад час эпохі, калі чалавечая свядомасць прасякнута патрэбнасьцю і святасьцю існуючых законаў, то зло наносіцца толькі таму, хто гэтыя правы страчвае; але парушэнне гэтых правоў у наш час мае наступствам глыбокае пераіначванне нацыянальных нораваў і пагражае ўсяму грамадству ў цэлым, таму што сама ідэя падобнага роду правоў у нас увесь час перамяняецца і гатова знікнуць.

Існуюць некаторы звычкі, думкі і заганы, уласьцівыя рэвалюцыйнай эпосе. Усе яны ў абавязковым парадку спараджаюцца працяглай рэвалюцыяй, а потым робяцца ўсеагульным набыткам не залежачым ад характару гэтай рэвалюцыі, яе мэт і месца дзеяння.

Калі нейкі народ за кароткі прамежак часу неаднаразова перамяняў кіраўнікоў, погляды і законы, то грамадзяне, утвараючыя гэты народ, урэшце, набываюць густ да перамен і да таго, што гэтыя перамены адбываюцца хутка і гвалтоўным шляхам. Тады яны натуральным чынам пачынаюць адчуваць недавер да фармальнасьцей, немач якіх яны маюць магчымасць назіраць штодня і з

нецярпеннем пераносяць прыгнёт законаў, якія столькі разоў парушаліся на іхных жа вачах.

Калі звычайных разуменняў справядлівасьці і маралі выяўляецца недастаткова, каб патлумачыць і апраўдаць усе навіны, штодзённа спараджаемыя рэвалюцыяй, тады звяртаюцца да прынцыпа грамадзкай карысьці або ствараюць догму пра палітычную патрэбу і ахвотна ідуць на тое, каб без пакут сумлення прыносіць у ахвяру прыватныя зацікаўленасьці і таптаць асабістыя правы грамадзянаў дзеля хутчэйшага дасягнення агульнай мэты.

Гэтыя звычаі і ідэі, якія я б назваў рэвалюцыйнымі, таму што іх спараджае кожная рэвалюцыя, выяўляюцца як у арыстакратычным, так і ў дэмакратычным грамадствах. Аднак у першым выпадку яны не такія распрацаваныя і жывучыя, таму што ім супрацівяцца іншыя звычаі, ідэі, заганы і капрызы. Як толькі рэвалюцыя заканчваецца, рэвалюцыйныя норавы самі сабой знікаюць, і грамадства вяртаецца да ранейшага палітычнага жыцця. У краінах дэмакратыі становішча некалькі іншае: тут захоўваецца пастаянная небяспека таго, што рэвалюцыйныя інстынкты, стаўшы больш мяккімі і ўпарадкаванымі, могуць пастулова ператварыцца ва ўрадавыя норавы і адміністрацыйныя звычкі.

Такім чынам, ні для якой іншай краіны рэвалюцыя не ўтойвае ў сабе столькі небяспек, як для краіны дэмакратычнай, таму што тут, акрамя выпадковага і мінучага зла, без якога не можа існаваць ніводная рэвалюцыя, заўсёды існуе верагоднасць нарадзіць сталае, калі не вечнае зло.

Я пагаджаюся з тым, што супраціўленне бывае сумленным, а паўстанні законнымі. Я не настойваю катэгарычна на тым, што людзі жывучыя пад час эпохі дэмакратыі, не маюць права здзяйсняць рэвалюцыі, але я лічу, што перш, чым на яе адважыцца, ім варта падумаць больш грунтоўна, чым калі б там ні было і, цалкам магчыма, што ім выявіцца больш карысна зведаць сёняшнія нязручнасьці, чым адважыцца на ўжыванне такіх вельмі небяспечных лекаў.

Маю жаданне закончыць сваю працу выкладаннем агульнай ідэі, якая змяшчала б не толькі асобныя думкі, існуючыя ў дадзенай главе, але і тыя, дзеля якіх і была задумана гэтая кніга.

Пад час эпохі арыстакратыі, папярэднічаўшай нашаму часу, у грамадстве існавалі магутныя людзі, тады як грамадзкая ўлада была вельмі нераспрацаванай. Само ўяўленне пра грамадства было невызначаным і ўвесь час змешвалася з разнастайнымі ўстановамі ўлады, кіраваўшымі грамадзянамі. Асноўныя намаганні людзей у той час былі накіраваны на тое, каб пашырыць і ўмацаваць грамадзкую ўладу, яе прэрагатывы і, наадварот, абмежаваць незалежнасць індывідаў больш вузкімі рамкамі, падначаліць прыватныя зацікаўленасьці агульнай карысьці.

Людзей у наш час чакаюць іншыя небяспекі, хвалююць іншыя турботы.

У большасьці сучасных дзяржаваў кіраўнік, якімі б ні былі яго паходжанне, паўнамоцтвы і пасада, нададзены практычна ўсёй паўнатой улады, а прыватныя асобы ўсё больш апускаюцца да крайняй мяжы слабасьці і залежнасьці.

Раней усё было інакш. Тады нідзе немагчыма было сустрэць усеагульнага адзінства і аднастайнасьці. Сёння мы ўсе з’яўляемся такімі падобнымі, што асоба індывіда хутка цалкам рассыціцца ў безаблічнасьці нейкай агульнай фізіяноміі. Нашы бацькі заўсёды былі гатовы некалькі злоўжываць ідэяй святасьці правоў прыватнай асобы, мы ж, натуральна, схіляемся да другой крайнасьці, мяркуючы, што зацікаўленасьці індывіда заўсёды павінны падначальвацца зацікаўленасьцям грамадства.

Палітыка ў чалавечым грамадстве перамяняецца, пачынаючы з гэтага часу патрэбна шукаць новыя лекі ад новых хвароб.

Надаць дзяржаўнай уладзе дастаткова шырокія, але зразумелыя і вызначаныя паўнамоцствы; даць прыватным асобам пэўныя правы і гарантаваць ім неаспрэчную магчымасць карыстацца гэтымі правамі; захаваць за індывідам тыя долі незалежнасьці, магутнаьці і самабытнасьці, якія ён здолеў яшчэ захаваць; паставіць яго на адзін узровень з грамадствам – такімі, на мой погляд, з’яўляюцца галоўныя заданні, вырашэнню якіх павінен прысьвяціць сябе заканадавец новай эпохі, у якую мы ўступілі.

Складаецца ўражанне, што сучасныя кіраўнікі заклапочаны, перадусім тым, каб з дапамогай сваіх падданых здзяйсняць вялікія справы. А мне было б пажадана, каб яны пабольш думалі пра тое, як зрабіць вялікімі саміх падданых; каб яны менш шанавалі працу, а больш працоўнага і каб яны ўвесь час памяталі пра тое, што не можа доўгі час заставацца моцным народ, у асяроддзі якога кожны чалавек індывідуальна слабы і што яшчэ не знойдзены грамадзкія формы і палітычныя камбінацыі, якія б зрабілі энергічным народ, які складаецца із маладушных і млявых грамадзян.

Я бачу, што мае сучаснікі адданы дзвум прама процілеглым, але аднолькава згубным ідэям.

Адны бачаць у роўнасьці толькі нараджаемыя ёю анархічныя тэндэнцыі. Яны баяцца вольнасьці асабістага выбару, яны баяцца саміх сябе.

Другія – іх менш, але яны больш адукаваныя – прытрымліваюцца іншага погляду. Побач са шляхам, вядучым ад роўнасьці да анархіі, яны, напрыканцы, разгледзелі іншы шлях, па якому людзі непазбежна рухаюцца да свайго занявольвання. Яны загадзя духоўна рыхтуюцца да немінучага рабства і, не спадзеючыся застацца вольнымі, яны ўжо сёння ўсім сэрцам ушаноўваюць свайго будучага гаспадара.

Першыя адмаўляюцца ад вольнасьці таму, што лічаць яе небяспечнай, другія таму, што лічаць яе немагчымай.

Калі б я належаў да ліку апошніх, я ніколі не напісаў бы гэтую працу, а абмежаваўся б тым, што таемна шкадаваў бы пра лёс сабе падобных.

Я таксама меў жаданне агаліць небяспекі, якімі роўнасць пагражае незалежнасьці чалавека, таму што я цьвёрда ўпэўнены, што менавіта гэтыя небяспекі з’яўляюцца найбольш грознымі і найменш прадказальнымі із усяго таго, што хавае ад нас будучыня. Але я не лічу гэтыя небяспекі непераадольнымі.

Людзі, якія жывуць пад час пачынаючайся эпохі дэмакратыі, адчуваюць натуральную схільнасць да незалежнасьці, таму яны, так жа натуральна, з няцярпімасьцю ставяцца да ўсталяваных парадкаў: іх стамляе ўстойлівасць нават таго ўладкавання, якое іх задавальняе. Яны шануюць уладу, але схільны пагарджаць і ненавідзець тых, хто яе ажыццяўляе. Яны лёгка выслізгваюць ад рук улады, карыстаючыся сваёй нязначнасьцю і рухомасьцю.

Гэтыя інстынкты будуць увесь час аднаўляцца, таму што яны спараджаюцца самім грамадзкім уладкаваннем, якое застанецца нязменным. На працягу доўгага часу яны будуць перашкаджаць усталяванню дэспатызму і служыць зброяй кожнаму новаму пакаленню, якое пажадае змагацца за вольнасць людзей.

Будзем жа глядзець у будучыню з тым ратавальным жахам, які вымушае быць напагатове і змагацца, а не з тым размякчаючым і бяздзейным жахам, які толькі абурае і забівае душу.

# Глава VIII
## Агульныя заўвагі

Перш чым назаўсёды развітацца з тым, што так доўга цікавіла мяне, мне б было пажадана ў апошні раз кінуць позірк на ўсе тыя з'явы, якія складаюць выяву новага сьвету і зрабіць, нарэшце, агульную выснову з нагоды таго, які ўплыў робіць роўнасць на лёсы людзей. Аднак мяне спыняе надзвычайная складанасць гэтай задумы: перад выглядам такога грандыёзнага задання ў мяне цямнее ў вачах і розум перастае мне падначальвацца.

Тое новае грамадства, якое было прадметам майго апісання і якое я спрабую ацаніць, яшчэ толькі нараджаецца. Час яшчэ не сфармаваў яго; нарадзіўшая яго вялікая рэвалюцыя ўсё яшчэ працягваецца, із таго, што адбываецца сёння, амаль немагчыма зразумець, што ж павінна сысьці разам з самой рэвалюцыяй і што павінна застацца пасьля яе.

Нараджаючыся сьвет яшчэ напалову завалены парэшткамі сьвету аджываючага; пасярод усеагульнай бязладзіцы чалавечых спраў ніхто не ў стане сказаць, што застанецца ад старых інстытутаў і нораваў, а што знікне назаўсёды.

Нягледзячы на тое што рэвалюцыя, здзяйсняемая ў грамадзкім уладкаванні, заканадаўстве, поглядах і пачуццях людзей, з'яўляецца яшчэ далёкай ад свайго завяршэння, ужо зараз магчыма супаставіць вынікі яе здзяйсненняў з тым, што сьвет бачыў раней. Апускаючыся стагоддзе за стагоддзем у глыбіню гісторыі аж да самай ранейшай антычнасьці, я не бачу нічога, што магло б адпавядаць сучаснаму сьвету. Мінулае не азарае святлом будучыню, і розум блукае ў цемры.

Дарэчы, пасярод гэтай, пакуль яшчэ нязвыклай, невыразнай і шырокай выявы будучыні я распазнаю ўжо некаторыя найбольш істотныя рысы і паказваю на іх.

Я бачу, што дабро і зло размеркавана ў сьвеце раўнамерна. Знікаюць звышзаможныя, павялічваецца колькасць сярэдніх станаў, памнажаюцца жаданні і задавальненні; няма больш ні празмернага росквіту, ні беспрасьветнай галечы. Славалюбства стала ўсеагульным пачуццём, але пры гэтым вельмі славалюбівых людзей робіцца ўсё менш. Людзі ізаляваны адзін ад аднаго і слабыя, а грамадства дынамічнае, празорлівае і моцнае; прыватныя асобы заняты дробнымі турботамі, а ўрад – выключна справамі дзяржаўнай важнасьці.

Жыхары не энергічныя, аднак норавы мяккія, а законы гуманныя. Прыклады самаахвяравання, высокай маральнасці, бліскучага і чыстага гераізму сустракаюцца рэдка, затое грамадзяне робяцца больш прыстойнымі, амаль зніклі гвалт і жорсткасць. Працягласць жыцця чалавека павялічваецца, а яго ўласнасць робіцца больш надзейнай. Чалавек жыве не асабліва прывабным, але зручным і мірным жыццём. Менш стала занадта вытанчаных або занадта грубых задавальненняў, менш пачцівасьці ў манерах, але і менш грубіянства ў камунікаванні. Зараз усё радзей можна сустрэць людзей вельмі добра адукаваных, але няма і поўных невукаў. Геніі рэдкія, але веды робяцца ўсё больш даступннымі. Чалавечы розум развіваецца пад уплывам аб'яднаных намаганняў усяго народа, а не ў выніку магутных імпульсаў, зыходзячых ад некаторых яго прадстаўнікоў. Вынікі працы зараз не такія дасканалыя, але больш плённыя. Слабеюць усе сувязі, злучаючыя чалавека з расай, станам, радзімай, але ўзмацняецца яго сувязь з чалавецтвам.

Калі сярод разнастайнасьці гэтых з'яваў шукаць тое, якое мне ўяўляецца найбольш усеагульным і ўражваючым уяўленне, то я прыхожу да высновы, што ўсё, што адбываецца са станамі, у тысячах варыянтаў паўтараецца і ў іншых абласьцях. Амаль усе крайнасьці памякчаюцца і прыглушаюцца, усё выбітное сціраецца, саступаючы месца чамусьці асярэдненаму, якое адначасова не так узвышаецца, але і не так нізка апускаецца, з'яўляецца не такім бліскучым, але і не такім нікчэмным, як гэта было раней.

Калі сьвет быў запоўнены людзьмі вельмі вялікімі і вельмі маленькімі, вельмі заможнымі і вельмі немаёмаснымі, вельмі адукаванымі і вельмі невуцкімі, я не звяртаў увагу на другіх, засяроджваючы яе на першых, таму што іхны выгляд цешыў мяне. Але я разумею, што гэтая радасць была вынікам маёй слабасьці, тым, што я не ў стане ахапіць позіркам адначасова ўсё тое, што мяне атачае і таму маю права абіраць із вялізнай шматлікасьці рэчаў тыя, якія цешаць вока. Іншая справа Бог, чый позірк разам неадменна ахоплівае ўвесь сусьвет і які выразна бачыць адначасова як увесь людзкі род, так і кожнага чалавека ў асобна.

Натуральна лічыць, што больш усяго стваральніку і аберагальніку людзей прыемна бачыць не росквіт прыватных грамадзянаў, але павышаючыся дабрабыт усіх; то бок тое, што мне здаецца заняпадам, у яго вачах уяўляецца прагрэсам, тое, што бянтэжыць мяне, яму падабаецца. Магчыма, што роўнасць яшчэ недастаткова развілася, але яна з'яўляецца больш справядлівай і гэтая справядлівасць надае ёй веліч і хараство.

Я спрабую ўявіць сабе накірунак погляду Бога і грунтуючыся на ім рабіць высновы пра справы людзкія.

Ніхто на зямлі не ў стане пакуль з поўнай упэўненасьцю сцвярджаць, што новае ўладкаванне грамадства вышэй таго, якое было раней, але ўжо зараз можна сказаць, што яно цалкам іншае.

Арыстакратычнаму грамадству былі ўласьцівымі некаторыя заганы і ўчыннасьці, якія знаходзяцца ў такой супярэчнасьці з духам новых народаў, што яны ўжо ніколі не здолеюць іх успрыняць. Існуюць добрыя схільнасьці і благія інстынкты, якія былі чужымі старому грамадству, але з'яўляюцца натуральнымі для новага, існуюць таксама ідэі, якія былі блізкія першаму, але адкідаюцца другім. І тое і іншае ўяўляе сабой як бы два розных чалавецтвы, кожнае із якіх мае свае вартасьці і свае недахопы, свае добрыя і свае дрэнныя бакі.

Таму патрэбна выявіць асцярожнасць і не рабіць высноваў пра нараджаючаяся грамадства грунтуючыся на тых уяўленнях, якія былі створаны зараз знікаючым грамадствам. Гэта было б неразумна таму, што гэтыя два грамадствы цалкам розныя і несупастаўляемыя паміж сабой.

Было б таксама неразумна патрабаваць ад людзей нашага часу ўчыннасьцей, непасрэдна выцякаючых із таго грамадзкага ўладкавання, пры якім жылі іхныя продкі, таму што само гэтае ўладкаванне знікла і пад яго парэшткамі загінула ўсё тое добрае і благое, што яно ў сабе несла.

Аднак мы сёння яшчэ дрэнна гэта ўсведамляем.

Я ведаю, што шмат хто із нашых сучаснікаў маюць жаданне больш уважліва разабрацца з усімі інстытутамі, поглядамі і ідэямі, вырасшымі ў нетрах старога, арыстакратычнага грамадства: яны згодны развітацца з некаторымі із іх, але іншыя жадалі б захаваць і ў новым грамадстве.

Я лічу, што яны марнуюць час і здольнасьці на сумленны, але не могучы мець вынікаў занятак.

Зараз гаворка не ідзе пра тое, каб захаваць асобныя перавагі, даваемыя людзям няроўнасьцю ўмоваў іхнага існавання, а пра тое, каб пашыраць новыя даброты, якія ў стане ім стварыць роўнасць. Нам не патрэбна імкнуцца быць падобнымі на сваіх бацькаў, мы павінны імкнуцца да сваіх уласных ідэалаў шчасьця і велічы.

Што да мяне, то, дасягнуўшы заканчэння свайго шляху і разглядаючы здалёк, але разам усе тыя розныя прадметы, якія па дарозе прыцягнулі маю ўвагу, я адчуваю сябе поўным баязні і надзеі. Я бачу вялікую небяспеку, якой можна пазбегнуць, вялікае зло, якога можна запабегчы або паменшыць; я ўсё больш зацьвярджаюся ў перакананні, што для таго, каб стаць сумленным і квітнеючым, грамадству патрэбна толькі моцна гэтага пажадаць.

Я ведаю, што шмат хто із маіх суайчыннікаў лічаць, што народы на гэтым сьвеце не з’яўляюцца гаспадарамі саміх сябе, што яны неадменна павінны падначальвацца нейкай непераадольнай і неспасьціжымай магутнасьці, папярэдне вызначанымі ранейшымі падзеямі, расай, глебай ці кліматам.

Усё гэта хлуслівыя і баязлівыя тэорыі, здольныя спарадзіць толькі лядачых людзей і слабыя народы. Усявышні зрабіў так, што род чалавечы не цалкам незалежны, але ён і не такі ўжо закабалены. Усявышні акрэслівае, гэта правільна, кожнаму чалавеку нейкае фатальнае кола, за якое ён не ў стане выбрацца, аднак у шырокай прасторы якога чалавек вольны і ўсемагутны. Гэта ж можна сцвярджаць і ў дачыненні да народаў.

Сёння нацыі ўжо не ў стане адмовіцца ад роўнасьці, аднак ад іх залежыць, ці прывядзе яна іх да рабства ці вольнасьці, да асьветы ці варварства, да росквіту ці галечы.

# Нататкі аўтара да другой кнігі

## *332

У сваім падарожным дзённіку я выявіў наступны запіс, паказваючы, якія выпрабаванні часта зведваюць амерыканскія жанчыны, згаджаючыяся суправаджаць сваіх чалавекаў у неабжытыя раёны. Усё апісанае ніжэй рэчаісная праўда.

«...Час ад часу мы сустракаем пляцоўкі разаранай цаліны. Усе яны падобныя адна на адну. Апішу тую, дзе мы спыніліся сёння вечарам, гэта дасць агульнае ўяўленне пра ўсе іншыя.

Званочкі, якія першапраходнікі вешаюць на шыю жывёл, каб лягчэй было адшукаць іх у лесе, яшчэ здалёк апавясьцілі нас пра наяўнасць распрацаванай плячоўкі. Хутка мы пачулі стук сякеры, якой секлі ў лесе дрэвы. Па меры таго як мы набліжаліся, сляды разбурэння ўсё настойлівей паведамлялі нам пра наяўнасць цывілізаванага чалавека. Абсечаныя галінкі пакрывалі дарогу; напалову абгарэлыя або пасечаныя сякерай ствалы дрэў перашкаджалі нам праехаць. Хутка мы апынуліся ў лесе, дзе ўсе дрэвы, здавалася, напаткала раптоўная смерць. Пасярэдзіне лета яны ўяўлялі із сябе зімовы выгляд. Агледзеўшы дрэвы, мы заўважылі, што на іхнай кары нанесены глыбокія колавыя надрэзы, якія, спыняючы рух расьлінных сокаў, спрыяюць хуткаму засыханню дрэў. Мы зразумелі, што менавіта із гэтага звычайна пачынае піянер-рольнік. Не маючы магчымасьці на працягу першага года высекчы ўсе дрэвы, растучыя на яго новай пляцоўцы, ён засаджвае ўсю прастору паміж імі кукурузай, а потым мярцвіць дрэвы, каб яны не засланялі сваімі галінамі ўраджай. За полем, якое ўяўляла сабой першы, яшчэ недасканалы выгляд цывілізацыі ў незаселеным краі, мы раптам заўважылі халупу

уладальнікаў. Яна была размешчана ў цэнтры пляцоўкі зямлі, больш дагледжанай, чым іншыя, але і тут чалавеку даводзілася вытрымліваць няроўнае змаганне з лесам: дрэвы былі высечаны, але не выкарчаваны, іхныя ствалы загрувашчвалі зямлю, якую некалі зацянялі. Паміж высахшых ствалоў прабіваліся пшаніца, парасткі дуба, разнастайных відаў расьлін і травы, усё гэта перамешвалася і расло адначасова на непакорлівай і напалову дзікай зямлі. А пасярод гэтай магутнай і разнастайнай расьліннасьці ўзвышалася сядзіба піянера; тут такую сядзібу называюць «бярвеністая халупа». Як і атачаючая пляцоўка, гэтае вясковае жыллё ўяўляла сабой вынік новай, паспешлівай дзейнасьці: яго даўжыня не перавышала трыццаці футаў, вышыня пятнаццаці, сьцены і дах былі складзены із неапрацаваных бярвенняў, паміж ствалами пракладзеных мохам і глінай, каб засланіць унутранае памяшканне ад холаду і дажджу.

Набліжалася ноч і мы вырашылі прасіцца да гаспадара сядзібы.

Пачуўшы нашы крокі, дзеці, якія гулялі ў лясных зарасніках, паспешна падхапіліся на ногі і пабеглі да хаты, як быццам бы выгляд чалавека напалохаў іх. Іхнае адступленне засланялі два вялізныя напалову дзікія сабакі з выцягнутымі пысамі і тырчачымі вушамі, якія пры нашым набліжэнні з грозным рычаннем выскачылі із халупы. Потым на парозе свайго жылля з’явіўся сам піянер, ён хутка і вывучаючы агледзеў нас, падаў знак сабакам вярнуцца ў хату і выдаліўся сам, паказаўшы ім прыклад і ўсім сваім выглядам даўшы зразумець, што наша з’яўленне не выклікала ў яго ні цікавасьці, ні заклапочанасьці.

Мы заходзім у гэтае бярвенчатае жыллё. Усярэдзіне нішто не нагадвае сялянскіх сядзіб Яўропы; тут шмат лішняга і недастае самага патрэбнага. Адзінае акно прычынена мусьлінавай фіранкай; у глінабітным агмені гарыць полымя, асвятляючае ўсё ўсярэдзіне; над агменем вісіць выдатны наразны карабін, скура лані, пёры арла; справа ад агменю развешана мапа Злучаных Штатаў, якую прыўздымае і калыша вецер, дзьмучы праз шчыліны ў сьцяне; каля мапы на паліцы, пабудаванай із дрэнна апрацаванай дошкі, некалькі кніг. Я заўважыў Біблію, шэсць першых песень паэмы Мілтана і дзьве драмы Шэкспіра. Уздоўж сьцен замест шафаў стаяць куфры. У цэнтры пакоя груба зроблены стол, ножкі якога, збітыя яшчэ са свежага, не ачышчанага ад кары дрэва, растуць, здаецца, непасрэдна із падлогі. На стале я бачу чайнік із ангельскага фарфору, срэбныя лыжкі, некалькі вышчарбленых кубкаў і газеты.

У гаспадара сядзібы вуглаватыя рысы твару і доўгія канцавіны, што выдае ў ім жыхара Новай Ангельшчыны. Відавочна, што гэты чалавек нарадзіўся не ў гэтай глухмені, дзе мы яго сустрэлі; ужо вонкавы выгляд дазваляе зрабіць выснову, што яго юнацкія гады прайшлі ў інтэлігентным асяроддзі і што ён належыць да той пароды неспакойных, дзелавых і адважных людзей, якія спакойна робяць тое, што можна патлумачыць толькі гарэннем запалу і якія могуць на час аддацца першабытнаму жыццю, каб хутчэй скарыць і цывілізаваць пустуючыя землі.

Пабачыўшы, што мы пераступілі парог яго сядзібы, гаспадар накіраваўся нам насустрач і, як гэта прынята, павітаўся з намі за руку, але пры гэтым яго твар заставаўся напружаным. Ён першым пачаў распытваць нас пра тое, што адбываецца ў сьвеце і, задаволіўшы сваю цікавасць, замоўк. Здавалася, ён стаміўся ад нашага шуму і дакучлівасьці. Прыйшла наша чарга распытаць яго і ён даў усе патрэбныя нам звесткі. Потым не спяшаючыся і дастаткова грунтоўна ён пачаў уладкоўваць нас на ноч. Бачачы, што ён заняты такой прыемнай для нас справай, мы ўсё ж чамусьці не адчувалі да яго пачуцця падзякі. Магчыма, таму, што, выказваючы нам гасьціннасць, ён як бы падначаліўся сваёй долі: ён выконваў абавязак, не адчуваючы пры гэтым радасьці.

Па другі бок агменю сядзіць жанчына, закалыхваючая малога. Не спыняючы свой занятак, яна робіць нам знак галавой. Як і гаспадар, жанчына знаходзіцца ў самым квітнеючым узросьце, яе вонкавы выгляд не адпавядае беднаце жыцця, а адзенне сведчыць пра незатухшае яшчэ жаданне выглядаць прывабнай. Аднак рысы яе твару выдаюць стомленасць, у вачах застылі пяшчота і сталасць, ва ўсёй яе фігуры адчуваецца

рэлігійная пакора, улагоджанасць пачуццяў і нейкая натуральная і спакойная рашучасць, дазваляючая пераадолець усе жыццёвыя нягоды без баязні і папроку.

Дзеці атачылі яе; яны здаровыя, непаседлівыя і энергічныя, гэта сапраўдныя дзеці бязлюддзя. Час ад часу маці кідае на іх погляд, поўны радасьці і шчырасьці. Параўноўваючы іхную магутнасць і яе безабароннасць, можна падумаць, што яна знясіліла сябе, даўшы ім жыццё, але нікольki пра гэта не шкадуе.

У хаце перасяленцаў няма ні ўнутраных перагародак, ні склепа. Вечарамі ўся сям’я знаходзіць прытулак у адным пакоі. Жыллё піянера – гэта цэлы сьвет, каўчэг цывілізацыі, закінуты ў акіяне расліннасьці. На адлегласьці сотні крокаў ад яго вечны лес зноў раскідае свой цень, і чалавек зноў адчувае сябе самотным».

## *335

Калі адкінуць тых, хто цалкам не думае, а таксама тых, хто не адважваецца выказаць тое што думае, усё адно выявіцца, што пераважаючая большасць амерыканцаў задаволена палітычнымі інстытутамі, якія імі кіруюць і, хутчэй усяго, гэта так і ёсць. Я разглядаю падобны настрой грамадзкай думкі як прыкмету, але не як доказ дыхтоўнасьці амерыканскіх законаў. Нацыянальны гонар, задаволеныя гэтымі законамі запалы, выпадковыя здарэнні, незаўважаныя заганы і, самае галоўнае, зацікаўленасць большасьці, замыкаючая рот апазіцыі, – усё гэта на працяглы час можа ствараць ілюзію як у аднаго чалавека, так і ў цэлага народа.

Зірніце на Ангельшчыну на працягу ўсяго XVIII стагоддзя. Ніколі яшчэ народ не марнатравіў столькі ліслівасьці самому сабе, ніводны народ не быў такім задаволеным сабой. Усё было добра ў канстытуцыі, усё было бездакорна аж да відавочных недахопаў. Сёння ж маса ангельцаў толькі тым, здаецца, і занята, што даводзіць недасканаласць гэтай канстытуцыі па ўсіх пазіцыях. Хто мае рацыю: ангельскі народ мінулага стагоддзя ці ж ангельскі народ нашых дзён?

Тое ж самае адбылося і ў Францыі. Не выклікае сумневаў той факт, што ў часы Людовіка XIV вялікая частка народа была ў захапленні ад існаваўшай тады формы кіравання. Моцна памыляюцца тыя, хто лічыць, што з гэтым перыядам злучаны заняпад нораваў у Францыі. У гэты час тут, бяспрэчна, існавала дагодлівасць, аднак сам дух сэрвілізму адсутнічаў. Пісьменнікі таго часу з непадробленым натхненнем узвышалі каралеўскую ўладу над усімі іншымі, самы цёмны селянін у сваёй спарахнеўшай сядзібе ганарыўся славай свайго манарха і быў гатовы загінуць з радасным крыкам: «Жыве кароль!» Але менавіта гэтыя формы кіравання для нас сталі ненавіснымі. Дык хто ж памыляўся, французы часоў Людовіка XTV ці сёняшнія французы?

Таму меркаванні пра законы патрэбна выносіць, грунтуючыся не толькі на настроях народа, якія ад стагоддзя да стагоддзя перамяняюцца, але і з улікам больш узнёслых матываў і больш абагульненага досьведу.

Прыхільнасць, якую народ адчувае да сваіх законаў, сведчыць толькі пра тое, што не патрэбна спяшацца іх перамяняць.

## *341

У главе, да якой ставіцца дадзеная нататка, гаворка ідзе пра адну небяспеку. Хачу паказаць яшчэ на адну, якая сустракаецца радзей, але якой варта асабліва асьцерагацца.

Калі цяга да матэрыяльных задавальненняў і дабрабыту, такая натуральная для людзей жывучых пад час эпохі роўнасьці, цалкам захопіць розумы грамадзянаў дэмакратычнай дзяржавы, то нацыянальны дух можа стаць такім не прынімаючым ваяўнічасці, што імкненне да міру здольна выціснуць із асяроддзя самога войска яго натуральную зацікаўленасьць у вайне. У атмасферы ўсеагульнай памяркоўнасьці жаўнеры хутка засвояць, што нашмат больш прасьцей і зручней няспешна павышацца ў званнях у мірны час, чым імкліва рабіць кар’еру коштам нягод і недахопаў паходнага жыцця. У гэтых умовах войска без асаблівай стараннасьці будзе брацца за зброю і ваяваць

недастаткова энергічна; яно само не пойдзе на непрыяцеля, яго давядзецца падштурхоўваць.

Пры гэтым не патрэбна думаць, што міралюбны настрой войска засьцеражэ яго ад удзелу ў рэвалюцыі, таму што рэвалюцыі і асабліва вайсковыя перавароты, якія здзяйсняюцца вельмі хутка, спалучаны з падвышанай небяспекай, але не патрабуюць знясільваючай ваярскай працы; яны задавальняюць ганарыстыя памкненні са значна меншымі выдаткамі, чым вайна; у іх рызыкуюць толькі жыццём, якое людзі дэмакратычных часоў шануюць менш, чым жыццёвыя даброты.

Няма нічога больш небяспечнага для вольнасьці і спакою народа, чым войска, якое баіцца выяваць, таму што, не разлічваючы больш знайсьці сваю веліч і значэнне на палях бітваў, яно будзе шукаць іх у іншых месцах. І тады можа здарыцца, што людзі, складаючыя дэмакратычнае войска, не набыўшы жаўнерскіх учыннасьцей, страцяць грамадзянскія зацікаўленасьці, а войска, застаючыся крыніцай турбот, страціць сваю баяздольнасць.

Тут я паўтару тое, пра што ўжо выказваўся раней. Лекі ад падобнай небяспекі існуюць не ў самым войску, а ў краіне. У дэмакратычнага народа, які захоўвае мужны характар, заўсёды будуць існаваць баяздольныя жаўнеры.

# Справаздача

## Зробленая ў Акадэміі прававых і палітычных навук 15 студзеня 1848 года з нагоды працы спадара Шербюлье «Пра дэмакратыю ў Швейцарыі»

Шаноўныя!

Спадар Шербюлье, прафесар агульнага права Жэнеўскай акадэміі, апублікаваў працу пад назвай «Пра дэмакратыю ў Швейцарыі», прысьвечаную грамадзкім інстытутам і норавам сваёй краіны і падараваў адзін асобнік гэтай кнігі Акадэміі прававых навук.

Мне здалося, спадары, што тэма, разглядаемая аўтарам, вельмі важная і праца заслугоўвае таго, каб зведаць адмысловы аналіз; я распачаў яго ў надзеі на тое, што ён будзе мець некаторую карысць.

Я наўмысна пакідаю па-за ўвагай сёняшнія праблемы, як гэта і прынята рабіць у гэтых сьценах; не згадваю пра тыя апошнія падзеі, якія ад нас не залежаць. Мне было б пажаданым разгледзець у Швейцарыі не столько палітычнае жыццё грамадства, колькі само ўладкаванне гэтага грамадства, законы, якія ім кіруюць, іхнае паходжанне, тэндэнцыі і характар распрацоўкі. Спадзяюся, што зроблены такім чынам эскіз усё ж будзе ўяўляць цікавасць. Тое, што адбываецца зараз у Швейцарыі, не адзінкавы выпадак, гэта хутчэй прыватная праява агульнага руху, які будзе мець наступствам скасаванне ўсёй старой сістэмы ўстаноў у Яўропе. Хаця падмосткі невялікія, але гэтаму гледзішчу з’яўляецца ўласьцівай велічнасць, да таго ж яго яшчэ вылучае і арыгінальнасць. Магчыма, ні ў адной іншай краіне дэмакратычная рэвалюцыя, ахапіўшая сёння ўвесь сьвет, не праходзіла пры такіх складаных і дзіўных акалічнасьцях. Адзін народ, складаючыся із розных рас, размаўляючы на розных мовах, вызнаючы некалькі рэлігій, маючы розныя

нанканфармісцкія секты, дзьве цэрквы, у роўнай меры нададзеныя прывілеямі, дзякуючы чаму ўсе палітычныя праблемы адразу ж робяцца праблемамі рэлігійнымі, а ўсе рэлігійныя – непазбежна прыводзяць да палітыкі; і, нарэшце, два грамадствы – старое і маладое, жывучыя ў гармоніі, нягледзячы на адрозненне ва ўзросьце, – такой з’яўляецца рэчаіснасць у Швейцарыі. Каб праўдзіва намаляваць гэту рэчаіснасць, аўтару кнігі, на мой погляд, патрэбна было б выбраць больш высокую кропку, чым тая, якую, абраў ён. У прадмове Шербюлье заяўляе, што будзе прытрымлівацца прынцыпа нестароннасьці і я веру ў яго шчырасць. Ён нават асьцерагаецца, як бы занадта аб’ектыўны характар яго твора не надаў некаторую манатоннасць выкладанню. Гэтыя баязні цалкам не маюць падставы. Аўтар і сапраўды спрабуе быць безстароннім, аднак гэта ў яго дрэнна атрымліваецца. У яго кнізе прысутнічаюць навуковасць, праніклівасць, сапраўдны талент, не выклікаючая сумневаў шчырасць, выяўляючая сябе ў палкіх меркаваннях; чаго там няма, дык гэта безстароннасьці. У кнізе шмат дасціпнасьці, але мала вальнадумства.

Да якой жа палітычнай сістэмы схіляецца аўтар? Спачатку гэта даволі цяжка зразумець. У некаторым сэнсе ён ухваляе паводзіны радыкальна настроеных каталікоў, у той час калі, будучы рашучым супернікам каталіцызму, ён не супраць у заканадаўчым парадку забараніць яго пашырэнне ў тых раёнах Швейцарыі, дзе каталіцызм яшчэ не мае кіруючых пазіцый. З другога боку, ён зацяты супернік дэсідэнствуючых сектаў пратэстантаў. Адмаўляючы народны ўрад, ён знаходзіцца ў апазіцыі і да ўраду шляхты; у рэлігіі – пратэстанцкая царква, кіруемая дзяржавай; у палітыцы – дзяржава на чале з буржуазнай арыстакратыяй: такім з’яўляецца, як нам уяўляецца, ідэал аўтара. Але ж гэта – мінулае, гэта – Жэнева напярэдадня яе апошніх рэвалюцый.

Мы з цяжкасьцю можам вызначыць, што аўтару падабаецца, затое заўсёды зразумела, што ён не ўхваляе. А не ўхваляе ён дэмакратыю. Калі гаворка заходзіць пра дэмакратычную рэвалюцыю, ён заўсёды выказваецца пра яе як пра свайго ворага; адчуваецца, што яна закранула яго погляды, яго прыхільнасьці і, магчыма, яго зацікаўленасьці. Ён крытыкуе не толькі тыя ці іншыя праявы дэмакратыі, але і на яе падмуркі; ён не жадае бачыць яе вартасьцей, вышукваючы толькі недахопы. У зле, якое яна можа прынесьці, ён не адрознівае тое сталае і фундаментальнае, да чаго патрэбна ставіцца як да непазбежнасьці і тое, што з’яўляецца выпадковым і праходзячым і можа быць лёгка выпраўлена. Відаць, дадзеную тэму патрэбна было б распрацоўваць чалавеку, які не так асабіста зацікаўлены і не так непасрэдна бярэ ўдзел у адбываючыхся ў сваёй краіне падзеях, як Шербюлье. Пра гэта можна толькі пашкадаваць. На працягу далейшага аналізу мы пабачым, што швейцарская дэмакратыя мае патрэбу ў сур’ёзнай дапрацоўцы і паляпшэнні сваіх законаў. Але каб такая праца была эфектыўнай, перадусім патрэбна перастаць ненавідзець гэтую дэмакратыю.

Спадар Шербюлье даў назву сваёй кнізе «Пра дэмакратыю ў Швейцарыі». Мяркуючы па накірунку, можна выказаць здагадку, што, з боку гледжання аўтара, Швейцарыя з’яўляецца краінай, прыклад якой дазваляе распрацаваць тэарэтычнае вучэнне пра дэмакратыю ці ж дае магчымасць рабіць высновы пра самі дэмакратычныя інстытуты. У гэтым, як мне здаецца, выяўляецца асноўная нагода амаль усіх недахопаў кнігі. Яе лепш было б назваць «Пра дэмакратычную рэвалюцыю ў Швейцарыі», рэвалюцыя ж там працягваецца ўжо пятнаццаць гадоў. Таму швейцарская дэмакратыя з’яўшляецца не столькі ўсталяванай формай

кіравання, колькі зброяй, якой звычайна карыстаюцца, каб разбурыць, а часам абараніць старое грамадства. На гэтым прыкладзе можна вывучаць асобныя з'явы, уласьцівыя рэвалюцыйнаму працэсу пад час нашай дэмакратычнай эпохі, але немагчыма апісаць дэмакратыю ў яе ўстойлівым, трывалым і спакойным стане. Той, хто не ўлічвае дадзеных акалічнасьцей, з цяжкасьцю здолее зразумець тую выяву, якую ўяўляюць сабой палітычныя інстытуты Швейцарыі; што ж да мяне, то мне было б вельмі цяжка патлумачыць, як я ацэньваю сучаснасць, не кажучы пра тое, як я разумею мінулае.

Зараз шырока пашырылася памылковае ўяўленне пра тое, што ўяўляла із сябе Швейцарыя тады, калі грымнула Французская рэвалюцыя. Дзякуючы таму што швейцарцы на працягу доўгага часу жылі ва ўмовах рэспублікі, лічылася, што яны знаходзяцца значна бліжэй, чым іншыя жыхары Еўрапейскага кантынента, да ідэалаў і інстытутаў вольнасьці ў сучасным іхным разуменні. Насамрэч усё было інакш.

Нягледзячы на тое што незалежнасць швейцарцаў нарадзілася на сьвет у выніку паўстання супраць арыстакратыі, урад, утварыўшыся сьледам за гэтым, хутка пераняў у арыстакратыі яе традыцыі і законы, а таксама яе погляды і схільнасьці. Вольнасць гэты ўрад разглядаў няйнакш як адну із прывілеяў; ідэя вольнасьці ў якасьці ўсеагульнага і спрадвечнага права кожнага чалавека была такой жа чужой для гэтага ўрада, як і для прынцаў аўстрыйскага роду, якіх рэвалюцыя прагнала са Швейцарыі. Дзякуючы гэтаму вельмі хутка ўся ўлада засяродзілася ў руках невялікіх адасобленых ці ж сама-папаўняючыхся арыстакратычных кланаў. На поўначы гэтыя кланы паставілі пад свой кантроль прамысловасць, на поўдні набылі форму вайсковага згуртавання. Але як там, так і тут яны ў роўнай меры вызначаліся зачыненым, элітарным характарам. У большасьці кантонаў да трох чвэрцяў жыхароў былі пазбаўлены не толькі прамога, але і ўскоснага ўдзелу ў кіраванні краінай; акрамя таго, у кожным кантоне жыла значная колькасць асоб, пазбаўленых якіх бы то ні было правоў.

Гэтыя невялікія супольнасьці, утрарыўшыяся пад час перыяду такіх бурных падзей, хутка сталі такімі трывалымі, што ўжо ніякія перамены не здолелі іх пахіснуць. Арыстакратыя, знайшоўшая там свой прытулак, не падштурхоўваемая народам, але і не кіруемая каралём, утварыла нерухомую сацыяльную структуру, прыбраную ў старое сярэднявечнае адзенне.

Час даўно ўжо дазволіў новаму мышленню пракрасьціся ў самыя манархічныя рэжымы Яўропы, але Швейцарыя працягвала для яго заставацца зачыненай.

Прынцып падзелу ўлады быў прыняты ўжо ўсімі публіцыстамі, але ў Швейцарыі ён не ўжываўся. Вольнасць друку, існаваўшая, ва ўсякім разе фактычна, у большасьці абсалютных манархій Яўропы, у Швейцарыі не давала пра сябе ведаць ні фактычна, ні юрыдычна; магчымасць ствараць палітычныя згуртаванныі тут не прызнавалася, а таму ніколі і не існавала; вольнасць слова была абмежавана вельмі вузкімі рамкамі. Падатковая роўнасць, да якой імкнуліся ўсе асьвечаныя ўрады, адсутнічала тут так жа, як і раўнапраўе. Прамысловае развіццё сустракала шматлікія перашкоды, асабістая вольнасць не гарантавалася ніякімі законамі. Адсутнічала ў Швейцарыі і вольнасць веравызнання, ужо пачынаўшая пракрадацца ў самыя артадаксальныя дзяржавы. Сектанцкая дзейнасць была катэгарычна забаронена ў шмат якіх кантонах і ва ўсіх абмежавана.

Рэлігійныя адрозненні амаль па ўсёй краіне мелі наступствам палітычныя цяжкасьці.

У такім становішчы знаходзілася Швейцарыя, калі ў 1798 годзе Французская рэвалюцыя магутнасьцю зброі прыйшла на яе тэрыторыю. Яна на некаторы час разбурыла старыя палітычныя ўстановы, не стварыўшы наўзамен нічога больш трывалага і даўгачасовага. Праз некалькі гадоў Напалеон пазбавіў швейцарцаў ад анархіі, прымусіўшы іх падпісаць акт пра пасярэдніцтва; ён жа даў ім роўнасць, але не вольнасць; палітычныя законы, якія ён навязаў Швейцарыі, былі складзены так, што паралізавалі ўсё грамадзкае жыццё. Улада, дзейнічаючая ад імя народа, але знаходзячаяся далёка ад яго, была цалкам перададзена ў рукі выканаўчых установ.

Калі праз некалькі гадоў Акт пра пасярэдніцтва сышоў у нябыт разам з яго аўтарам, швейцарцы не набылі большай вольнасьці, затое страцілі роўнасць. Старыя арыстакратычныя кланы паўсюдна вярнулі сабе стырна кіравання і аднавілі элітарныя аджыўшыя свой век прынцыпы ўлады, панаваўшыя да рэвалюцыі. Усё вярнулася, як справядліва адзначае Шербюльe, да становішча 1798 года. Кіраўнікі еўрапейскай кааліцыі былі памылкова абвінавачваны ў тым, што яны гвалтоўна правялі ў Швейцарыі гэтую рэстаўрацыю. Рэстаўрацыя была праведзена з іхнага ведама, але не імі. Праўда складаецца ў тым, што швейцарцы былі ў той момант ахоплены, як, дарэчы, і ўсе іншыя народы кантынента, нейкай кароткачасовай, але ўсеагульнай рэакцыяй, раптам ажывіўшай па ўсёй Яўропе старое грамадства. Але дзякуючы таму што ў Швейцарыі гэтая рэстаўрацыя была праведзена не самаўладцамі, чые зацікаўленасьці, у канчатковым рахунку, былі адрознымі ад зацікаўленасьцей стана старой арыстакратыі, а самім гэтым прывілеяваным станам, рэстаўрацыя выявілася больш поўнай, сляпой і паслядоўнай, чым у іншых краінах Яўропы. Яна была не дэспатычнай, а элітарнай. Яе ўстановы заканадаўчай улады выявіліся ў поўным падначаленні ў выканаўчай улады, а апошняя – у поўнай залежнасьці ад радавой арыстакратыі; сярэдні стан быў адхілены ад грамадзкай дзейнасьці, а ўвесь народ – ад палітычнага жыцця. Такі выгляд мела амаль уся Швейцарыя аж да 1830 года.

Толькі тады пачалася для яе новая эра дэмакратыі!

Гэтае кароткае ўступленне мела на мэце патлумачыць два моманты.

Першы: Швейцарыя – гэта адна із еўрапейскіх краін, дзе рэвалюцыя не мела глыбокага характару, затое наступіўшая за ёй рэстаўрацыя вызначалася асаблівай паўнатой; усе чужыя і варожыя новаму мышленню ўстановы былі адноўлены ў сваіх правах, рэвалюцыйныя ж элементы былі вымушаны адступіць.

Другі: на большай частцы Швейцарыі народ да гэтага часу пазбаўлены магчымасьці браць хаця б самы малы ўдзел у кіраванні краінай; законы, гарантуючыя грамадзянскія вольнасьці, вольнасць сходаў, вольнасць слова, вольнасць друку і рэлігіі, заўсёды так жа мала, калі не менш, былі вядомы большасьці грамадзянаў гэтых рэспублік, як і іхным сучаснікам – падданым манархічных рэжымаў.

Усё гэта часта застаецца па-за ўвагай Шербюльe, але мы ў сваім дасследаванні палітычных установ Швейцарыі павінны ўвесь час пра гэта памятаць.

Усім вядома, што ў Швейцарыі вярхоўная ўлада падзелена на дзьве часткі: з аднаго боку, гэта федэральныя ўстановы, з другога – кантанальныя муніцыпалітэты.

Шербюльe пачынае з апавядання пра тое, што адбываецца ў кантонах, – і ён мае рацыю: рэчаісная грамадзкая ўлада знаходзіцца менавіта там. Ідучы за яго прыкладам, пачну з аналізу кантанальных канстытуцый.

Усе кантанальныя канстытуцыі сёння маюць дэмакратычны характар, але ўсе яны ў чымсьці адрозныя.

У большасьці кантонаў народ даручыў кіраванне абіраемым ім асамблеям, у некаторых жа пакінуў яго за сабой. Тут грамадзяне збіраюцца ў поўным складзе і прымаюць патрэбныя рашэнні. Шербюльe называе форму кіравання ў першых кантонах прадстаўнічай дэмакратыяй, у другіх – чыстай дэмакратыяй.

Я б папрасіў у акадэміі дазволу не каментаваць далей вельмі цікавае дасьледаванне чыстай дэмакратыі, зробленае аўтарам. На гэта ў мяне існуе шмат нагод. Справа ў тым, што, хаця кантоны, жывучыя ва ўмовах чыстай дэмакратыі, мелі вялікую ролю ў гісторыі і яшчэ маюць магчымасць мець яе ў палітычным жыцці краіны, іхнае дасьледаванне прыносіць не столькі карысць, колькі задавольвае староннюю цікавасць.

Чыстая дэмакратыя – гэта з’ява ўнікальная і выключная нават для самой Швейцарыі, дзе толькі адна трынаццатая частка насельніцтва кіруецца такім чынам. Да таго ж гэтая з’ява часовая. Не цалкам усьведамляецца і тое, што ў тых швейцарскіх кантонах, дзе народ больш усяго прызвычаіўся да самакіравання, існуе значны персанал, надзелены прадстаўнічай уладай, якому народ даручыў урадавыя турботы. Аднак, вывучаючы навейшую гісторыю Швейцарыі, лёгка заўважыць, што кола пытанняў, вырашаемых самім народам увесь час звужаецца, тады як абавязкі народных прадстаўнікоў, наадварот, штодня робяцца ўсё больш шматлікімі і разнастайнымі. Такім чынам, прынцып чыстай дэмакратыі саступае месца процілеглай, то бок прадстаўнічай, форме дэмакратыі. Першая непрыкметна робіцца выключэннем, другая – правілам.

Акрамя таго, чыстая дэмакратыя ў Швейцарыі належыць да іншай эпохі, яна нічаму не можа нас навучыць ні ў сучаснасьці, ні ў будучыні. Хаця мы і карыстаемся для пазначэння яе праяваў тэрмінам, запазычаным із сучаснай навуковай літаратуры, самі яны засталіся ў мінулым. У кожнага перыяда існуе свая галоўная ідэя, перад якой ніштo не можа выстаяць. І калі пад час перыяда панавання гэтай ідэі з’яўляюцца нейкія іншыя, варожыя ці процілеглыя ёй ідэі, яна адразу ж пачынае з імі змаганне і калі не ў стане іх знішчыць, то прыстасоўвае і асімілюе іх. Сярэднявечча закончыла тым, што надало арыстакратычнае аблічча нават самой ідэі дэмакратычнай вольнасьці. Сярод самых рэспубліканскіх законаў побач з усеагульным выбарчым правам яно размясьціла рэлігійныя перакананні, звычаі, норавы, пачуцці, звычкі, згуртаванні і сямейныя кланы, якія, аддзяліўшыся ад народа, валодалі рэчаіснай уладай. Таму невялікія ўрады швейцарскіх кантонаў патрэбна разглядаць няйнакш як у якасьці апошніх і паважаемым аскепкаў знікшага сьвету.

Наадварот, прадстаўнічыя дэмакратыі Швейцарыі цалкам адпавядаюць новаму мышленню. Усе яны ўзніклі на аскепках старога арыстакратычнага грамадства; усе яны з’яўляюцца вытворнымі ад адзінага прынцыпу народаўладдзя, і ўсе амаль аднолькава выкарысталі гэты прынцып у сваіх законах.

Мы пабачым, што гэтыя законы вельмі недасканалыя, іх адных, без гістарычных сведчанняў, хапіла б, каб давесьці, што ў Швейцарыі дэмакратыя і нават вольнасць застаюцца з’явамі новымі, не маючымі пакуль досьведу.

Перадусім патрэбна заўважыць, што нават у прадстаўнічых дэмакратыях Швейцарыі народ непасрэдна ажыццяўляе частку сваёй улады. У шэрагу кантонаў асноўныя законы, прайшоўшы легіслатуру, выносяцца на ўсенародны рэферэндум. У гэтых вызначаных выпадках прадстаўнічая дэмакратыя зноў ператвараецца ў чыстую дэмакратыю. Амаль ва ўсіх кантонах народ, час ад часу, звычайна даволі часта, павінен выказаць сваю думку з нагоды таго, жадае ён ці не жадае перамяніць канстытуцыю. Гэта перыядычна ставіць пад сумнеў усе законы адразу.

Усю заканадаўчую ўладу, якую народ не пакінуў сабе, ён перадаў адзінай асамблеі, якая працуе пад яго наглядам і ад яго імя. Ні ў адным із кантонаў няма двухпалатных парламентаў, паўсюдна яны ўяўляюць сабой адзінае цэлае. Таму праца не толькі не запавольваецца патрэбай узгадняць свае рашэнні з другой палатай, але і не запавольваецца доўгімі слуханнямі законапраектаў. Абмеркаванне агульных законаў, падначальваючыся вызначаным фармальнасьцям, можа часам зацягнуцца, аднак самыя важныя пастановы могуць быць прапанаваны, абмеркаваны і прыняты за вельмі кароткі тэрмін у выглядзе дэкрэтаў і пастаноў. Гэтыя дэкрэты робяцца заканадаўчымі актамі хутка рэагуючымі на працэс такі непрадказальны, такі імклівы і нястрымліваемы, як запал народнай масы.

Няма нічога, што супрацьстаяла б заканадаўчаму сходу. Падзелу, а тым больш незалежнасьці заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады адна ад другой насамрэч тут не існуе.

Ні ў адным із кантонаў прадстаўнікі выканаўчай улады непасрэдна народам не абіраюцца. Яны абіраюцца прадстаўнікамі заканадаўчай улады. Такім чынам, выканаўчая ўлада не валодае звычайна ўласьцівай ёй магутнасьцю; яна з’яўляецца толькі чужым тварэннем і заўсёды будзе заставацца адданай прыслужніцай іншай улады. Але гэта не адзіная нагода яе слабасьці. Нідзе ў Швейцарыі выканаўчая ўлада не ажыццяўляецца адным чалавекам. Яе звычайна давяраюць невялікаму сходу, дзе адказнасць падзелена на ўсіх, а рэалізацыя ўлады абцяжарана. Акрамя таго, выканаўчая ўлада пазбаўлена шмат якіх, уласьцівых ёй прэрагатыў. Яна не рэалізуе права вета або карыстаецца ім у вельмі абмежаваных межах у дачыненні да прынятых законаў. Яна пазбаўлена права памілавання, не мае магчымасьці прызначаць ці звальняць сваіх службоўцаў. У яе, уласна кажучы, сваіх службоўцаў і няма, таму яна вымушана звычайна весьці справы толькі з дапамогай муніцыпальных службовых асоб.

Аднак асноўны недахоп законаў швейцарскай дэмакратыі заключаецца ў дрэннай канстытуцыі і дрэнным уладкаванні судовай улады. Шербюлье выказваецца пра гэта, але, на мой погляд, недастаткова. Згодна з маім меркаваннем, ён сам не да канца разумее, што ў дэмакратычным грамадстве судовая ўлада перадусім стаіць як на варце зацікаўленасьцей народа, так і выступае гарантам выканання ім законнасьці.

Ідэя незалежнасьці судовай улады – гэта сучасная ідэя. Пад час сярэднявечча яна была невядомай ці ж, сама меней, пра яе мелі толькі невыразнае ўяўленне. Можна сказаць, што першапачаткова ва ўсіх краінах Яўропы выканаўчая і судовая ўлада былі аб’яднаны. Нават у Францыі, дзе, у якасьці шчасьлівага выключэння, правасуддзе здаўна існавала самастойна, немагчыма сцвярджаць пра поўны падзел гэтых двух відаў улады. Праўда, патрэбна заўважыць, што там не судовая ўлада знаходзілася ў руках адміністрацыі, а, наадварот, частка адміністрацыйных функцый кантралявалася судовай уладай. Швейцарыя, наадварот, па-сутнасьці выявілася адзінай еўрапейскай краінай, дзе юрыдычныя службы цалкам зрасліся з

установамі палітычнай улады і ператварыліся ў іхны прыдатак. Можна сказаць, што наша ўяўленне пра правасуддзе як пра нейкую вольную і нестароннюю магутнасць, маючую магчымасць супрацьстаяць якой заўгодна магутнасьці і маючую магчымасць прымусіць кожнага грамадзяніна да непазбежнага выканання закона, – гэтае ўяўленне заўсёды было чужым швейцарцам, ды і зараз яно яшчэ не цалкам заваявала іхныя розумы.

Новыя канстытуцыі, без сумневаў, прызначылі судам больш адмежаванае існаванне, чым тое, якое яны мелі ў старой структуры ўлады, аднак не зрабілі іх больш незалежнымі. Суды ніжняй інстанцыі абіраюцца народам і падлягаюць перавыбранню, а Вярхоўны суд кожнага кантона абіраецца не выканаўчай уладай, а заканадаўчай, пры гэтым нішто не абараняе яго сябраў ад штодзённай перамены настрою парламенцкай большасьці.

Народ ці прадстаўляючая яго асамблея не толькі абіраюць суддзяў, але і нічым не абмяжоўваюць сябе ў абранні. Звычайна, ніякай іхнай прафесійнай кваліфікацыі не патрабуецца. Дарэчы, суддзя – просты выканавец законаў і не мае права дашуквацца, ці адпавядае канстытуцыі той ці іншы закон. Па праўдзе сказаць, судаводства знаходзіцца ў руках большасьці, якая ажыццяўляе яго з дапамогай сваіх суддзяў.

Але нават калі б судовая ўлада ў Швейцарыі набыла б у заканадаўчым парадку патрэбныя ёй правы і незалежнасць, ёй так жа цяжка было б выконваць свае функцыі, таму што правасуддзе – гэта заўсёды магутнасць традыцый і грамадзкай думкі, абапіраючайся на прававыя норавы і погляды.

Я мог бы лёгка выявіць недахопы апісанага мной упарадкавання і давесьці, што ўсе яны перашкаджаюць народнаму кіраванню нармальна развівацца, падштурхоўваюць яго на паспешныя рашэнні і тыранічныя дзеянні. Але гэта завяло б мяне занадта далёка. Таму я абмяжуюся тым, што параўнаю гэтыя законы з тымі, якія выпрацавала ў сябе больш старое, больш мірнае і квітнеючае дэмакратычнае грамадства. Спадар Шербюлье лічыць, што недасканалае грамадзкае ўладкаванне швейцарскіх кантонаў – гэта адзінае, што ў стане стварыць ці з чым згодна мірыцца дэмакратыя. Параўнанне, якое прапаную я, давядзе адваротнае і пакажа, якім чынам у іншых умовах, таксама грунтуючыся на прынцыпе народаўладдзя, але маючы больш досьведу, майстэрства і мудрасьці, здолелі прыйсьці да іншых вынікаў. У якасьці прыкладу я вазьму штат Нью-Ёрк, у якім жыве столькі ж людзей, колькі ва ўсёй Швейцарыі.

У штаце Нью-Ёрк, як і ў швейцарскіх кантонах, прынцып кіравання заснаваны на вярхоўнай уладзе народа, ажыццяўляемай з дапамогай усеагульнага галасавання. Аднак амерыканскі народ рэалізуе сваё права на ўладу толькі аднойчы, калі абірае сваіх упаўнаважаных. Ніколі і ні пры якіх умовах ён не прысвойвае сабе нічога ад заканадаўчай, выканаўчай або судовай улады. Ён абірае тых, хто павінен кіраваць ад яго імя і адмаўляецца ад сваёй улады да наступных выбараў.

Нягледзячы на тое што законы пермяняюцца, іхны падмурак заўсёды стабільны. У Амерыцы спрадвеку не лічылі патрэбным, як у Швейцарыі, аддаваць канстытуцыю на перыядычныя перагляды, само чаканне якіх трымае народ у напружанні. Таму тут у выпадку ўзнікнення нейкай новай сітуацыі, калі заканадаўчая ўлада прымае рашэнне пра патрэбу занясення перамен у канстытуцыю, гэтыя перамены робяцца ў адпаведнасьці з распрацаванай працэдурай.

Хаця тут, як дарэчы і ў Швейцарыі, заканадаўчая ўлада не можа не адчуваць уплыву грамадзкай думкі, яна ўладкавана такім чынам, каб супрацьстаяць яе капрызам. Ніводзін праект не стане законам, пакуль не будзе разгледжаны двума палатамі дэпутатаў. Гэтыя два дэпутацкія згуртаванні абіраюцца адным і тым жа парадкам і складаюцца із такіх жа прадстаўнікоў народа. Абедзьве палаты, такім чынам, прадстаўляюць народ, але рознымі спосабамі: першая заклікана адлюстроўваць яго штодзённыя перамяняючыяся настроі, другая – яго сталыя звычкі і схільнасьці.

У штаце Нью-Ёрк падзел улады мае не дэкларатыўны, а рэчаісны характар.

Выканаўчая ўлада знаходзіцца ў руках не згуртавання асоб, а аднаго чалавека, які нясе за яе ўсю паўнату адказнасьці і які карыстаецца сваімі правамі і прэрагатывамі рашуча і цьвёрда. Будучы абраным народам, ён не з’яўляецца, як у Швейцарыі, стаўленікам і агентам заканадаўчай улады; ён роўны ёй; ён, як і яна, прадстаўляе толькі ў іншай сферы вярхоўную ўладу народа, ад імя якога і дзейнічаюць яны абедзьве. Яны чэрпаюць магутнасць із адной і той жа крыніцы. Ён не толькі мае назву выканаўчай улады, але рэчаісна валодае яе натуральнымі і законнымі паўнамоцтвамі. Ён кіруе войскам штата, прызначае яго вышэйшых камандыраў; ён абірае большасць службовых асоб штата; ён валодае правам памілавання; вета, накладаемае ім на рашэнні заканадаўчых устаноў, хаця і не з’яўляецца канчатковым, але мае надзвычайную эфектыўнасць. Таму, калі губернатар штата Нью-Ёрк і не валодае ўладай нейкага канстытуцыйнага манарха Яўропы, ён, усё ж, мае непамерна больш правоў, чым якая б то ні было кантанальная рада ў Швейцарыі.

Аднак найбольш уражваючымі з’яўляюцца адрозненні ва ўладкаванні судовай улады.

Суддзя, будучы выхадцам із народа і знаходзячыся ў поўнай ад яго залежнасьці, уяўляе сабой, усё ж, уладу, якой падначальваецца сам народ. Судовая ўлада займае тут выключнае становішча дзякуючы свайму паходжанню, кампетэнцыі, сталасьці, але асабліва таму, што карыстаецца падтрымкай грамадзкіх нораваў і разуменняў.

Сябры вышэйшых судовых інстанцый не абіраюцца, як у Швейцарыі, заканадаўчым сходам, уладай калектыўнай, а таму старонняй, часта сляпой і ніколі не нясучай ніякай адказнасьці, а прызначаюцца губернатарам штата. Вышэйшы судовы чын, аднойчы прызначаны, лічыцца як бы нязменным. Яго ўвагі не пазбягае ніводзін працэс, які б то ні было прысуд можа быць абвешчаны толькі ім. Можна сказаць, што ён не толькі інтэрпрэтуе закон, ён яго ацэньвае; калі заканадаўчая ўстанова у выніку партыйнага змагання парушае літару і дух закона, суд скасоўвае яе рашэнні шляхам адмаўлення іх выконваць; такім чынам, калі суддзя не можа прымусіць народ не перамяняць сваю канстытуцыю, ён у стане, прынамсі, абавязаць яго шанаваць тую, якая дзейнічае. Ён не кіруе народам, ён яго стрымлівае і абмяжоўвае. Судовая ўлада, такая нязначная ў Швейцарыі, у Амерыцы з’яўляецца сапраўдным рэгулятарам дэмакратыі.

Калі зараз ва ўсіх падрабязнасьцях разгледзець амерыканскую канстытуцыю, то мы не знойдзем у ёй нічога ад арыстакратыі. У ёй няма і намёку на прывілеі для нейкага аднаго стана, ды і цалкам на прывілеі; адны і тыя ж правы для ўсіх, усе правы выходзяць ад народа і да яго ж вяртаюцца; усе ўстановы падначалены адзінаму заданню, працілеглыя тэндэнцыі адсутнічаюць; ва ўсім і ўсюды дамінуе прынцып дэмакратыі. І вось гэтыя-та такія дэмакратычныя ўрады валодаюць

значна большай стабільнасьцю, развіваючыся больш мірна і раўнамерна, чым дэмакратычныя ўрады Швейцарыі.

Часткова гэта можна патлумачыць адрозненнямі ў законах.

Законы штата Нью-Ёрк, апісаныя мной, заклікаНы змагацца з натуральнымі недахопамі дэмакратыі, законы ж Швейцарыі, наадварот, здаюцца створанымі такім чынам, каб памнажаць іх. Тут яны стрымліваюць народ, там яны яго падштурхоўваюць. У Амерыцы асьцерагаюцца, як бы ўлада не стала занадта тыранічнай, тады як у Швейцарыі ўсё накіравана на тое, каб зрабіць яе яшчэ больш неўтаймоўваемай.

Я не перабольшваю ступень таго ўплыву, які здольны зрабіць механізм дзейнічаючых законаў на лёсы народаў. Я ведаю, што ўсе вялікія падзеі на гэтым сьвеце абумоўлены больш глыбокімі і агульнымі нагодамі, але немагчыма адмаўляць і той факт, што дзяржаўныя ўстановы валодаюць сваімі ўласнымі якасьцямі і што яны спрыяюць або росквіту, або заняпаду грамадства.

Калі б замест таго, каб катэгарычна аспрэчваць амаль усе законы сваёй краіны, спадар Шербюлье здолеў бы паказаць на іхныя недахопы і на тое, якая існуе магчымасць іх выправіць, не пераМяняючы іхных прынцыпаў, яго кніга больш бы заслугоўвала ўвагі будучых пакаленняў і была б больш карыснай для сучаснікаў.

Паказаўшы, што сабой уяўляе дэмакратыя ў кантонах, аўтар спрабуе вызначыць яе ўплыў на ўсю Швейцарскую канфедэрацыю.

Перш чым пайсьці сьледам за Шербюлье, патрэбна зрабіць тое, чаго не зрабіў ён сам, а менавіта: вызначыць, што ж уяўляе сабой федэральны ўрад, як ён уладкаваны юрыдычна і фактычна і як ён працуе.

Дазволім спачатку запытаць сябе, ці збіраліся заканадаўцы Швейцарскай канфедэрацыі стварыць федэрацыю або проста лігу, іншымі словамі, ці прадугледжвалі яны, што кантоны павінны ахвяраваць часткай свайго суверэнітэту ці ж цалкам не павінны? Калі ўлічыць, што кантоны адмовіліся ад шмат якіх са сваіх спрадвечных і неад’емных правоў, на пастаяннай аснове саступіўшы іх федэральнаму ўраду, калі нагадаць таксама, што гэты ўрад дзейнічае адпаведна з воляй большасьці, то можна з упэўненасьцю сцвярджаць, што швейцарскія заканадаўцы дамагаліся праўдзіва федэральнага ўладкавання, а не лігі. Патрэбна, праўда, прызнаць, што ў іх гэта дрэнна атрымалася.

Без якіх бы то ні было ваганняў магу заявіць, што федэральная канстытуцыя Швейцарыі з’яўляецца самай недасканалай із усіх канстытуцый дадзенага тыпу, калі б там ні было існаваўшых на сьвеце. Чытаючы яе, выпрабоўваеш адчуванне, што патрапіў у сярэднявечча і дзівішся таму, што пад час нашага асьвечанага і шмат чаго пабачыўшага стагоддзя мог з’явіцца на сьвет такі заблытаны і недасканалы дакумент[355].

Часта і справядліва сцвярджаюць, што дамова празмерна абмежавала правы канфедэрацыі, што яна пакінула паза межамі кампетэнцыі федэральнага ўрада рашэнне шмат якіх пытанняў агульнанацыянальнага характару, якія павінны былі б знаходзіцца ў кампетэнцыі федэральнага сходу; напрыклад, паштовую службу, кантроль мер і шаляў, вырабніцтва грошай... Таму слабасць урада тлумачаць невялікай колькасьцю пакінутых на яго рашэнне заданняў.

---

[355] Не патрэбна забывацца на тое, што гэтая справаздача напісана ў 1847 годзе, то бок яшчэ да таго, як рэвалюцыйны пераварот 1848 года меў наступствам рэформу старой федэратыўнай дамовы.

Сапраўды, дамова пазбавіла ўрад канфедэрацыі шмат якіх із яго натуральных і патрэбных правоў, але слабасць урада тлумачыцца не гэтым: умей ён карыстацца нададзенымі правамі, яму б іх цалкам хапіла, каб хутка набыць і ўсе тыя, якіх яму нехапае.

Федэральны сход мае права набіраць войска, прызначаць падаткі, аб'яшчаць вайну, заключаць мір і гандлёвыя пагадненні, прызначаць амбасадараў. Пад яго аховай знаходзяцца кантанальныя канстытуцыі і вялікія прынцыпы роўнасьці ўсіх перад законам. Гэта дазваляе яму ў выпадку патрэбы браць удзел ва ўсіх мясцовых справах. Федэральны сход рэгулюе дарожныя пошліны і стан дарог, што дае яму магчымасць кіраваць ці ажыццяўляць кантроль за найбольш буйнымі грамадзкімі пачынаннямі. Нарэшце, федэральны сход у адпаведнасьці з артыкулам 4 дамовы распачынае ўсе патрэбныя захады для забеспячэння ўнутранай і вонкавай бяспекі Швейцарыі, што дае яму магчымасць рабіць практычна ўсё.

Самыя магутныя федэральныя ўрады не мелі такіх шырокіх паўнамоцтваў, таму я цалкам не лічу, што ў Швейцарыі кампетэнцыя цэнтральнай улады празмеру абмежавана; проста мне здаецца, што межы гэтай улады не вельмі дакладна вызначаны.

Чаму ўрад канфедэрацыі, маючай такія шырокія паўнамоцтвы, валодае такой малой уладай? Адказ просты: таму што ён не мае сродкаў, каб рабіць тое, што ён быў бы ў стане рабіць адпаведна з правам. Ніколі ніводзін урад не валодаў такімі недасканалымі ўстановамі ўлады, выракаючых яго на бяздзейнасць і бездапаможнасць.

Сутнасьцю федэральных урадаў з'яўляецца тое, што яны дзейнічаюць не ад імя народа, а ад імя дзяржаў, складаючых канфедэрацыю. Калі б пытанне ставілася інакш, канстытуцыя адразу ж перастала б быць федэральнай.

Адсюль, акрамя усяго іншага, з непазбежнасьцю вынікае, што федэральныя ўрады менш адважныя ў сваіх рашэннях і больш марудлівыя ў іхнай рэалізацыі, чым усе іншыя ўрады.

Большасць федэральных заканадаўцаў спрабавала з дапамогай больш-менш мудрагелістых прыёмаў, на вывучэнне якіх я зараз не буду марнаваць час, часткова пераадолець гэты натуральны недахоп федэратыўнага ўладкавання. Але швейцарцы зрабілі гэты недахоп нашмат больш відавочным, чым дзе б там ні было яшчэ, надаўшы яму спецыфічныя формы. У іх парламентары не толькі дзейнічаюць ад імя кантонаў, якія яны прадстаўляюць, але, акрамя таго, звычайна, яны не могуць прыняць ніводнага рашэння, калі яно папярэдне не было ўхвалена ці прынята ў гэтых кантонах. Яны амаль нічога не здольны вырашыць самі, кожны із іх лічыць сябе абмежаваным наказам выбаршчыкаў, дадзеным загадзя; такім чынам, федэральны сход ператвараецца ў дарадчую асамблею, дзе, уласна кажучы, не мае сэнсу раіцца, дзе выказваюць прамовы перад тымі, хто не прынімае рашэнняў, а толькі здольны іх выконваць. Федэральны сход – гэта ўрад, якому нічога не патрэбна і які абмяжоўваецца толькі выкананнем таго, што пажадае кожны із дваццаці двух кантанальных урадаў. Гэта такі ўрад, які, якім бы ні быў ход падзей, не ў стане нічога вырашыць, ні пра што не ў стане паклапаціцца і нічога не ў стане прадугледзець. Цяжка прыдумаць нешта іншае, што б больш мацна павялічвала натуральную інэртнасць федэральнага ўрада, ператвараючы яго слабасць у нейкую старэчую нямогласць.

Акрамя таго, існуюць іншыя нагоды, якія незалежна ад заганаў, уласьцівых усім федэральным канстытуцыям, тлумачаць звыклую слабасць урада Швейцарскай канфедэрацыі.

Канфедэрацыя не толькі мае нямоглы ўрад; можна сказаць, што яна цалкам пазбаўлена свайго ўласнага ўрада. З гэтага боку гледжання яе канстытуцыя сапраўды ўнікальная. На чале канфедэрацыі знаходзяцца палітычныя лідары, якія яе не прадстаўляюць. Федэральная рада, фарміруючая выканаўчую ўладу Швейцарыі, абіраецца не федэральным сходам і ў яшчэ меншай ступені швейцарскім народам; гэта выпадковы ўрад, які канфедэрацыя пазычае кожныя два гады ў Берне, Цюрыху ці Люцэрне. Гэты ўрад, абіраемы жыхарамі аднаго кантона для таго, каб кіраваць справамі гэтага кантона, такім чынам, робіцца дадаткова яшчэ і ўрадам усёй краіны. Відаць, гэта адзін із самых вялікіх палітычных кур'ёзаў у гісторыі права. Наступствы падобнай рэчаіснасьці заўсёды вартыя жалю і прыводзяць да надзвычайных сітуацый. Вось, напрыклад, якія дзіўныя падзеі адбыліся ў 1839 годзе. У гэтым годзе федэральны ўрад засядаў у Цюрыху і канфедэрацыяй кіраваў цюрыхскі ўрад. І вось у Цюрыху адбываецца кантанальная рэвалюцыя. Народнае паўстанне скасоўвае канстытуцыйны ўрад. Адразу ж федэральны сход апынаецца без старшыні і федэральнае жыццё замірае да таго часу, пакуль кантон не зрабіў ласку выдаць іншыя законы і абраць новае кіраўніцтва. Перамяніўшы сваю мясцовую адміністрацыю, жыхары Цюрыха, не жадаючы гэтага, пазбавілі галавы Швейцарыю.

Але нават калі б Швейцарская канфедэрацыя мела сваю выканаўчую ўладу, урад усё ж не быў бы ў стане вымусіць слухацца сябе, таму што пазбаўлены магчымасьці прамога, непасрэднага ўплыву на грамадзян. Адна гэтая нагода слабасьці ўрада мае большае значэнне, чым усе іншыя разам узятыя; але каб яна зрабілася зразумелай, мала проста яе пазначыць.

Федэральны ўрад можа валодаць нешматлікімі паўнамоцтвамі і быць моцным, калі ў рамках гэтых паўнамоцтваў ён здольны дзейнічаць самастойна, без якіх бы то ні было пасярэднікаў, як гэта робяць звычайныя ўрады, маючыя неабмежаваныя магчымасьці. Калі яго службовыя асобы маюць магчымасць звярнуцца непасрэдна да кожнага грамадзяніна, калі яго суды ў стане дамагчыся ад кожнага грамадзяніна падначалення законам, тады ён лёгка здолее вымусіць сябе слухацца: яму ж патрэбна асьцерагацца толькі супраціўлення прыватных грамадзян, а пры гэтых умовах якое б то ні было супраціўленне будзе пераадолена судовым шляхам.

І насупраць, федэральны ўрад можа мець вельмі шырокую сферу дзейнасьці і карыстацца вельмі слабым аўтарытэтам, калі замест таго каб звяртацца непасрэдна да грамадзян, ён будзе абавязаны дзейнічаць праз урады кантонаў. У гэтым выпадку, калі кантанальны ўрад будзе супраць, федэральная ўлада будзе мець перад сабой ужо не падданага, а хутчэй суперніка, якога можна прывесьці да розуму толькі шляхам вайны.

Такім чынам, магутнасць федэральнага ўрада заключаецца не столькі ў аб'ёме нададзеных яму правоў, колькі ў яго магчымасьці карыстацца імі грунтуючыся на сваім меркаванні; ён заўсёды моцны, калі мае магчымасць кіраваць грамадзянамі; ён заўсёды слабы, калі яго ўлада пашыраецца толькі на мясцовыя ўрады.

У гісторыі стварэння канфедэрацый вядомы прыклады абодвух сістэм. Але ні ў адной із вядомых мне канфедэрацый цэнтральная ўлада не была да такой

ступені пазбаўлена магчымасьці рабіць прамы ўплыў на грамадзянаў як у Швейцарыі. Тут федэральны ўрад практычна не ў стане самастойна рэалізаваць ніводнае са сваіх правоў. Ніводны функцыянер не залежыць выключна ад яго, няма судоў, якія б адмыслова абаранялі суверэнітэт федэральнага ўрада. Ён падобны на істоту, якой далі жыццё, пазбавіўшы пры гэтым жыццёва важных установ.

Такой зрабіла канстытуцыю краіны федэратыўная дамова. А зараз разам з аўтарам разглядаемай намі кнігі паглядзім, як дэмакратыя ўплывае на канстытуцыю.

Немагчыма адмаўляць той факт, што дэмакратычныя рэвалюцыі, за пятнаццаць гадоў перамяніўшыя практычна ўсе кантанальныя канстытуцыі, зрабілі вялізны ўплыў на федэральны ўрад. Аднак гэты уплыў пашыраўся ў двух прама процілеглых накірунках. Таму ў гэтым падвойным феномене патрэбна добра разабрацца.

Дэмакратычныя рэвалюцыі, прайшоўшыя ў кантонах, былі накіраваны на тое, каб надаць вялікую актыўнасць і магутнасць мясцовым установам самакіравання. Створаныя гэтымі рэвалюцыямі, абапіраючыміся на народ і падштурхоўваемымі ім, новыя ўрады адчулі сябе больш моцнымі, чым тыя, якія былі скасаваны. А дзякуючы таму што падобнае абнаўленне не закранула федэральны ўрад, то не магла не стварыцца, і яна сапраўды стварылася, такая сітуацыя, пры якой цэнтральны ўрад на фоне рэгіянальных улад выявіўся яшчэ больш друзлым, чым ён быў раней. Разам з усталяваннем дэмакратыі ўзмацніліся такія пачуцці як кантанальны гонар, інстынкт рэгіянальнай незалежнасьці, нецярпімасць да якога б то ні было кантролю над ўнутранымі справамі кантона, раўнівае стаўленне да цэнтральнай і вярхоўнай улады; з гэтага боку гледжання можна сцвярджаць, што дэмакратыя паслабіла і без таго слабы ўрад канфедэрацыі, яшчэ больш абцяжарыўшы яго звычайную штодзённую дзейнасць.

Але, з другога боку, яна зрабіла яго больш энергічным, стварыла яму як бы новыя ўмовы існавання.

Заснаванне дэмакратычных устаноў у Швейцарыі мела наступствам дзьве абсалютна новыя з’явы.

Да гэтага кожны кантон жыў сваімі ўласнымі турботамі і ўласнымі зацікаўленасьцямі. Прыход дэмакратыі падзяліў усіх швейцарцаў незалежна ад таго, у якіх кантонах яны жывуць, на два згуртаванні: на тых, хто падтрымлівае дэмакратычныя прынцыпы і тых, хто выступае супраць. Гэтая сітуацыя аб’яднала людзей па зацікаўленасьцях і жарсьцях; грамадзяне адчулі патрэбу адзінай і агульнай улады, якая пашыралася б на ўсю краіну. Федэральны ўрад, такім чынам, упершыню адчуў за сабой магутнасць, якой яму заўсёды нехапала; ён здолеў абаперціся на палітычную партыю – магутнасць небяспечную, але патрэбную ў дэмакратычных краінах, дзе ўрад амаль нічога без яе не можа.

Дэмакратыя не толькі падзяліла Швейцарыю на два лагеры, яна памясьціла краіну ў адно із двух згуртаванняў, на якія падзяліўся ўвесь сьвет. Яна сфармавала вонкавую палітыку Швейцарыі, знайшоўшы ёй натуральных сяброў і непазбежных ворагаў; каб падтрымліваць адных і адбіваць напор другіх, яна выклікала ў краіне непераадольваемую патрэбу ў цэнтральным урадзе. Рэгіянальны стан грамадзкага мышлення яна замяніла агульнанацыянальным мышленнем.

Такімі з’яўляюцца непасрэдныя вынікі ўсталявання дэмакратыі, дзякуючы якім яна спрыяла ўмацаванню федэральнага ўрада. Не менш вялікім, аднак, з’яўляецца і той ускосны ўплыў, які яна зрабіла і доўга яшчэ будзе рабіць.

Супраціўленне і цяжкасьці, якія сустракае федэральны ўрад, тым больш мацныя і разнастайныя, чым больш існуе адрозненняў паміж народамі аб’яднанымі ў канфедэрацыю, у іхных звычаях, звычках, ідэях, палітычных установах. Заданне амерыканскага ўрада палягчае не столькі супадзенне зацікаўленасьцей грамадзянаў, колькі дасканалае падабенства законаў, сацыяльных умоў і поглядаў. Можна таксама сказаць, што дзіўная слабасць ранейшага федэральнага ўрада Швейцарыі тлумачыцца, перадусім, значнымі адрозненнямі і супярэчнасьцямі ў грамадзкай думцы, поглядах і законах жыхароў гэтай краіны, якімі ён павінен быў кіраваць. Падначаліць адзінай палітыцы, весьці ў адным накірунку людзей такіх далёкіх і непадобных адзін на аднаго, было вельмі складаным заданнем. Нават значна лепш уладкаваны і маючы больш граматную арганізацыю ўрад наўрад ці дамогся б тут поспеху. Асноўны вынік адбываючайся ў Швейцарыі дэмакратычнай рэвалюцыі павінен складацца ў тым, каб забяспечыць пасьлядоўна ва ўсіх кантонах перавагу аднастайнасьці некаторых палітычных інстытутаў, некаторых ідэй і падобных прынцыпаў кіравання. Калі дэмакратычная рэвалюцыя ўзмацняе з аднаго боку ў кантонах дух незалежнасьці ў дачыненні да цэнтральнага ўрада, яна ж шмат у чым, з другога боку, палягчае яго дзейнасць, памяншаючы ў значнай ступені нагоды супраціўлення цэнтральнаму ўраду. Гэта не азначае, што ўрады кантонаў з вялікім жаданнем будуць падначальвацца федэральнаму ўраду, аднак пры існаванні ў іх гэтага жадання падначальвацца яму стане бясконца прасьцей.

Каб зразумець сёняшні стан краіны і прадказаць яе развіццё на бліжэйшы час, патрэбна ўважліва вывучыць абодва гэтыя супярэчлівыя вынікі дэмакратычных перамен, якія я апісаў.

Калі прыняць да ўвагі толькі адну тэндэнцыю, можна прыйсьці да высновы, што ўрачыстасць дэмакратыі ў кіраванні кантонамі неадкладна прывядзе да заканадаўчага пашырэння сферы ўплыву федэральнага ўрада і канцэнтрацыі ў яго руках кіраўніцтва рэгіянальнымі справамі, адным словам, прывядзе да цэнтралізацыі ўсяго жыцця ў краіне. Я, аднак, перакананы, што падобнага роду рэвалюцыя яшчэ доўга будзе сутыкацца на сваім шляху з вельмі больш значнымі цяжкасьцямі, чым гэта прынята лічыць. Не думаю, што сёння кантанальныя ўрады з большай радасьцю, чым іхныя папярэднікі, прымуць гэтыя перамены; наадварот, яны зробяць усё магчымае, каб іх не дапусьціць.

І ўсё ж я лічу, што з цягам часу, нягледзячы на супраціўленне, федэральнаму ўраду наканавана пашырыць сваю ўладу. У гэтым яму дапамогуць не столькі законы, колькі акалічнасьці. Кола яго прэрагатыў, можа, істотна і не пашырыцца, але ён будзе інакш і часьцей карыстацца імі. Не павялічыўшы свае правы юрыдычна, фактычна ён памацнее, будзе развівацца не столькі за кошт іншага іхнага тлумачэння; панаваць над Швейцарыяй ён будзе раней, чым навучыцца кіраваць ёю.

Можна таксама прадбачыць, што тыя, хто аж да сучаснасьці больш усяго супрацівяцца пашырэнню ўплыву цэнтральнай улады, хутка будуць яе ахвотна падтрымліваць або дзякуючы імкненню пазбегнуць частага ціску з боку так дрэнна ўладкаванага ўрада, або з мэтай засьцерагчы сябе ад яшчэ больш блізкай і яшчэ больш невыноснай тыраніі мясцовай улады.

Пачынаючы ад гэтага часу відавочным робіцца той факт, што, якія б перамены ні рабіліся ў тэксце дамовы, федэральная канстытуцыя Швейцарыі глыбока і безпаваротна перамянілася. Канфедэрацыя стала цалкам іншай. Яна ўзнікла ў якасьці новай еўрапейскай з’явы; палітыка дзейнасьці прыйшла на змену

палітыцы застою і абыякавасьці; яе чыста муніцыпальнае існаванне стала нацыянальным – больш цяжкім, больш трывожным, менш стабільным, але больш годным.

# Прамова

## выказаная ў палаце дэпутатаў 27 студзеня 1848 года пры абмеркаванні праекта пажаданняў у адказ на пасадную прамову.

Спадарства!

Я не маю намеру працягваць абмеркаванне таго прыватнага пытання, якое тут пачата. Я лічу, што гэта будзе больш карысным, калі нам давядзецца абмяркоўваць закон пра турмы. Мэта, якая прывяла мяне на трыбуну, мае больш агульны характар.

Абмяркоўваемы тут параграф 4 падахвочвае дэпутатаў кінуць агульны погляд на ўсю ўнутраную палітыку і ў прыватнасьці на той яе аспект, пра які выказваўся і ўнёс папраўку мой шаноўны сябар спадар Бійо.

Менавіта ў дачыненні да гэтага боку дыскусіі я і меў бы жаданне выказаць сваё меркаванне перад палатай.

Спадарства, не ведаю памыляюся я ці не, але мне здаецца, што рэчаіснасць, сучасны узровень грамадзкай свядомасьці, стан розумаў у Францыі выклікаюць трывогу і засмучэнне. Што да мяне, і я паведамляю пра гэта цалкам шчыра, то ўпершыню за пятнаццаць гадоў я адчуваю пачуццё баязні за нашу будучыню. Падмацаваннем таго, што я маю рацыю служыць тое, што не толькі ў мяне складаецца такое ўражанне; я ўпэўнены, тыя хто мяне слухае, могуць адказаць што і ў іхных акругах існуюць людзі, якія падзяляюць маю трывогу, што заклапочанасць і баязнь пасяліліся ў сэрцах, што ў краіне вельмі моцным з’яўляецца адчуванне нестабільнасьці, прадвесніка рэвалюцыі, якое часта загадзя пра іх апавяшчае, а часам і спараджае.

Калі я правільна зразумеў тое, што паведаміў на заканчэнні спадар міністр фінансаў, кабінет прызнае абгрунтаванасць такога ўражання, але нагодай яго міністр лічыць прыватнасьці: нядаўнія падзеі ў палітычным жыцці, сходы, ўсхваляваўшыя розумы, прамовы, абудзіўшыя жарсьці.

Спадарства, баюся, што, атаясамляючы зло з пазначанымі нагодамі, мы бяромся за лячэнне не хваробы, а яе сімптомаў. Я перакананы, што хвароба складаецца ў іншым, яна мае больш агульны і глыбокі характар. Хвароба, якую патрэбна лекаваць чаго б гэта ні каштавала і якой, паверце, ніхто із нас не пазбегне, – зразумейце, ніхто, калі мы не зробім захадаў, – уразіла грамадзкую свядомасць, грамадзкія норавы. Менавіта на гэта я хачу звярнуць вашу ўвагу. Грамадзкія норавы, грамадзкая свядомасць у небяспецы; акрамя таго, згодна з маім перакананнем, урад спрыяў і спрыяе пашыранню гэтай небяспекі. Вось чаму я выйшаў на трыбуну.

Спадарства, у маёй душы пасяляюцца турбота і баязнь, калі я ўважліва ўглядаюся ў тое, што адбываецца ў кіруючым стане, то бок стане, маючым палітычныя правы, і ў стане кіруемым. Возьмем кіруючы стан (да яго я далучаю не толькі сярэдні стан, але і ўсіх грамадзян валодаючых і рэалізуючых свае палітычныя правы незалежна ад свайго становішча). Тое, што я назіраю там,

коратка можна выказаць так: грамадзкія норавы пераіначваюцца, яны ўжо зведалі глыбокія перамены, яны псуюцца дзень пры дні; на змену грамадзкім думкам, пачуццям, ідэям прыходзяць прыватныя зацікаўленасьці, мэты, погляды, асабістыя патрэбы.

Я не буду акцэнтаваць увагу палаты на гэтых сумных акалічнасьцях, а толькі звярнуся да маіх супернікаў, да маіх калег із урадавай большасьці. Я прашу іх зрабіць для сябе статыстычны агляд корпуса выбаршчыкаў, выправіўшых іх у палату: залічыце ў першае згуртаванне тых, хто галасуе грунтуючыся не на палітычных перакананнях, а на пачуцці асабістага сяброўства ці добрасуседства; у другое – тых, хто галасуе грунтуючыся не на меркаванняў грамадзкай мэтазгоднасьці, а на чыста мясцовых зацікаўленасьцях; нарэшце, у трэцюю будуць уключаны тыя хто галасуюць грунтуючыся па чыста асабістых матывах. Ці шмат застанецца выбаршчыкаў, якія не ўвайшлі ў гэтыя згуртаванні? Ці складаюць выбаршчыкі, запытаю я маіх калег, галасуючыя грунтуючыся на бескарыслівых матывах, рухомыя грамадзкімі поглядамі і жарсьцямі, большасць сярод тых, хто даручыў ім дэпутацкі мандат? Я ўпэўнены ў адваротным. Дазволю сабе запытацца, ці не павялічваецца, на іхны погляд, на працягу апошніх пяці, дзесяці, пятнаццаці гадоў колькасць грамадзянаў, галасуючых за іх грунтуючыся на асабістай, прыватнай зацікаўленасьці і ці не памяншаецца непазбежна колькасць выбаршчыкаў, якія зрабілі свой выбар грунтуючыся на палітычных перакананнях? І, нарэшце, хай мае апаненты скажуць, ці не здаецца ім, што на нашых вачах усё больш замацоўваецца своеасаблівая цярпімасць да фактаў, пра якія я кажу. Нейкая вульгарная і нізкая мараль, кіруючыся якой чалавек маючы палітычныя правы, лічыць сябе маючым права скарыстацца імі ў асабістых мэтах, у зацікаўленасьцях дзяцей, жонкі, бацькоў? І ці не пашырылася гэтая з'ява так, што пачынае ўспрымацца як абавязак бацькі сямейства? Ці не набывае ўсё больш і больш пашырэнне гэтая новая мараль, невядомая пад час вялікіх перыядаў нашай гісторыі, пад час эпохі пачатку нашай Рэвалюцыі, ці не авалодвае яна ўсё новымі і новымі розумамі? Вось пра што я меў бы жаданне запытаць.

На жаль, гэта не што іншае, як глыбокая і паслядоўная дэградацыя нораваў у грамадзкім жыцці.

Калі я перавожу свой позірк з жыцця грамадства на прыватнае жыццё, на тое, што ў ім адбываецца і чаму ўсе вы з'яўляецеся сведкамі, асабліва на працягу апошняга года – скандалы, злачынствы, правіны, парушэнні права, не кідаючыяся ў вочы заганы, пра якія нам паведамляе судовая практыка, – я, адчуваю баязнь. Хіба я не маю рацыю? Хіба я не маю рацыю, сцвярджаючы, што псаванне зведваюць не толькі грамадзкія норавы, але і норавы прыватнага жыцця? (*Воклічы непагаднення ў цэнтры*).

Прашу заўважыць, што я выказваюся не як прававед, а як палітык. Ці ведаеце вы, у чым галоўная нагода таго, што прыватныя норавы перамяняюцца да горшага? Ды менавіта ў тым, што псуюцца грамадзкія норавы. Мараль адышла на задні план, пра яе не згадваюць у жыццёвай мітусьні. Карыслівыя памкненні ў грамадзкім жыцці замянілі безкарыслівыя падахвочванні, яны ж кіруюць балем і ў прыватным жыцці.

Ёсць думка, што існуюць дзьве маралі: мараль палітычная і мараль прыватнага жыцця. Вядома, калі рэчаіснасць з'ўляецца такой, якой я яе бачу, ніколі памылковасць гэтага цьверджання не падмацоўвалася з большай відавочнасьцю і большай гаркатой, як у наш час. Так, у нашым прыватным жыцці –

і я ў гэтым перакананы – адбываецца нешта, што турбуе, трывожыць сумленных грамадзян. Я лічу, што адбываючаяся з норавамі ў прыватным жыцці ў большай ступені абумоўлена працэсамі ў нашых грамадзкіх норавах. (*Воклічы непагаднення ў цэнтры*.)

Спадарства, калі вы мне не верыце, паверце таму, што думаюць пра гэта ў Яўропе. Я лічу што я не менш чым хто б там ні было ведаю пра тое, што гавораць пра нас.

Дык вось, запэўніваю вас у шчырасьці маіх пачуццяў: я не проста засмучаны, я ў роспачы ад таго, што чытаю і чую штодня, я ў роспачы ад таго, які козыр супраць нас даюць факты, павядомленыя мной, якімі пагібельнымі для нас з’яўляюцца іхныя наступствы для ўсёй нацыі, для нацыянальнага характару. Я прыхожу ў роспач, калі бачу, як паслабляецца магутнасць Францыі ў сьвеце, як марнуецца не толькі маральная магутнасць Францыі ...

СПАДАР ЖАНВЬЕ. – Прашу слова. (*Рух у зале*).

СПАДАР ДЭ ТАКВІЛЬ. – ...але і магутнасць яе прынцыпаў, ідэй, пачуццяў.

Францыя першай у сьвеце сярод грымот першай сваёй рэвалюцыі абвясьціла прынцыпы, выявіўшыяся жыццяздольнымі ва ўсіх сучасных грамадствах. У гэтым яе слава, самае каштоўнае ў яе гісторыі. І вось, спадарства, гэтыя прынцыпы падрываюцца сёння нашым жыццём. Бачачы прыклады іхнага ўжывання, народ пачынае сумнявацца ў саміх прынцыпах. Народы Яўропы глядзяць на нас і думаюць, маем мы рацыю ці не. Яны задаюць сабе пытанне, ці сапраўды мы, як пра гэта не раз гаварылася, вядзём чалавецтва да шчасьця і росквіту ці мы яго заахвочваем следам за сабой да маральных страт і спусташэння. Вось, спадарства, што больш усяго засмучае мяне ў тым, што наша краіна паказвае сьвету. Вось што шкодзіць не толькі нам, але і нашым прынцыпам, нашай справе, нашай інтэлектуальнай спадчыне, якія я як француз шаную больш, чым фізічныя і матэрыяльныя багацці. (*Рух у зале*.)

Спадарства, калі выява, паказваемая намі Яўропе, яе далёкім куткам, робіць такое ўражанне на адлегласьці, то як яе ўспрымаюць у Францыі, у прыватнасьці тыя станы, якія, не маючы палітычных правоў і вырачаныя дзякуючы нашым законам на палітычную бяздзейнасць, пазіраюць на нас, адзіна ўпаўнаважаных уплываць на гэты тэатр жыцця? Якое ўражанне, на ваш погляд, вырабляе на іх гэты спектакль? Што да мяне, то я ў жаху. Сцвярджаецца што няма небяспекі, калі няма народнага абурэння. Сцвярджаецца, раз усё цэлае, няма матэрыяльных разбурэнняў, хваляванняў у грамадстве, рэвалюцыя грымне не хутка.

Дазвольце мне вам сказаць: вы памыляецеся. Сапраўды, няма хваляванняў на справе, але яны глыбока ўкараніліся ў розумах. Паглядзіце, што адбываецца ў асяроддзі працоўных, хаця яны, я прызнаю, паводзяць сябе спакойна. Сапраўды, іх не раздзіраюць уласна палітычныя жарсьці ў такой ступені, як раней, але хіба не бачна, што іхныя трывогі із палітычных ператварыліся ў сацыяльныя? Хіба не бачна, што ў працоўным асяроддзі пашыраюцца ідэі, думкі, накіраваныя не столькі супраць тых ці іншых законаў, установаў, самога ўрада, колькі супраць грамадзкага ўладкавання, супраць саміх яго падмуркаў? Ці ведаеце вы, пра што яны выказваюцца кожны дзень? Хіба вы не чуеце, як яны без канца паўтараюць, што тыя, хто стаіць вышэй іх, няздольны і нявартыя кіраваць імі, што размеркаванне існуючага ў сьвеце багацця з’яўляецца несправядлівым, што ўласнасць грунтуецца на прынцыпах далёкіх ад справядлівасьці. І хіба не відавочна, што, калі падобныя гледжанні ўкараняюцца, пашыраюцца паўсюдна, заваладваюць масамі, патрэбна

чакаць, што рана ці позна – я не магу дакладна сказаць калі і як, – яны прывядуць да самых грозных рэвалюцый?

Я глыбока, спадары, перакананы: сёння мы спім на вулкане. (*Крыкі пратэсту*.) Я ў гэтым цалкам упэўнены. (*Рух у зале*.)

А зараз дазвольце мне ў некалькіх словах паспрабаваць абмаляваць з усёй праўдзівасьцю і шчырасьцю сапраўдных вінаватых, галоўную нагоду таго зла, пра якое я вам паведаміў.

Я далёкі ад думкі, што вінаватым, і тым больш галоўным вінаватым усіх гэтых бедстваў, з’яўляецца ўрад. Зразумела, што працяглыя рэвалюцыі, якія так часта зведвала гэтая зямля, пакінулі ў душах адчуванне асаблівай нестабільнасьці. Я разумею, што жарсьці, узрушэнні ў партыях маглі мець другарадныя, хаця і важныя наступствы, могучыя патлумачыць тыя вартыя жалю факты, пра якія ішла гаворка. Але я надаю ўладзе занадта вялікую ролю ў сучасным грамадстве і перакананы, што яна робіць вялікі ўплыў на адбываючаяся ў сьвеце, у тым ліку і тады, калі здараецца вялікае зло, палітычнае ці маральнае.

Як жа спрыяла ўлада таму, што здарылася гэтае зло? Як атрымалася, што адбыліся такія згубныя перамены ў норавах грамадзянаў, а потым і ў прыватным жыцці? Якая тут роля ўрада?

Думаю, спадары, можна, нікога не пакрыўдзіўшы, сказаць, што ўрад, асабліва ў апошнія гады, захапіў вельмі шырокія правы, набыў больш значны ўплыў і больш значныя і разнастайныя прэрагатывы, чым калі б там ні было. Ён валодае значна большай уладай, чым маглі б сабе ўявіць тыя, хто яе даваў і нават тыя, хто яе атрымаў у 1830 годзе. З другога боку, можна сцвярджаць, што прынцып вольнасьці атрымаў значна меншае развіццё, чым чакалася. Я не ацэньваю саму падзею, я шукаю яе вынікі. Няўжо вы лічыце, што калі такі нечаканы вынік, такі дзіўны паварот чалавечых лёсаў падмануў нізінныя жарсьці, злачынныя надзеі, то ён не пакінуў у замяшанні шляхетныя памкненні, бескарысьлівыя пачуцці, што для шмат якіх сумленных сэрцаў ён не азначаў расчараванне ў палітыцы, душэўны заняпад?

Але фатальным ударам для грамадзкай маральнасьці выявілася тое, якім шляхам гэты вынік быў атрыманы: утойліва, у нейкай ступені падробленым чынам. Завалодаўшы старымі паўнамоцтвамі, скасаванымі, як усе лічылі, у Ліпені, дзейнічаючы ў рамках старых правоў, здавалася бануляваных, аднавіўшы дзейнасць старых законаў, якія ўсе лічылі страціўшымі магутнасць, выкарыстоўваючы новыя законы ў іншым тлумачэнні, чым тое, якое было ім нададзена на пачатку; дзякуючы ўсім гэтым таемным механізмам, гэтай майстэрскай і настойлівай механіцы, урад атрымаў большы абшар для дзеянняў, больш актыўнасьці і ўплыву, чым ён калі-небудзь меў у Францыі.

Вось, спадарства, што зрабіла ўлада і ў прыватнасьці сучасны ўрад. І вы лічыце, спадарства, што пазначаным мной таемным і падробленым спосабам здабыцця магутнасьці, ужытым нечакана, то бок з выкарыстаннем іншых сродкаў, чым тыя, якія вызначаны канстытуцыяй, што гэтае дзіўнае гледзішча, выяўляючае спрытнасць і майстэрства і паказваемае ўсей нацыі на працягу вось ужо некалькіх гадоў, здольна палепшыць грамадзкія норавы?

Асабіста я глыбока перакананы ў адваротным. Я не лічу, што мае супернікі кіраваліся ганебнымі падахвочваннямі; больш таго, я ахвотна дапускаю, што, карыстаючыся крытыкуемымі мной сродкамі, яны лічылі, што дзейнічаюць у мажах непазбежнага зла, што веліч мэты засланіла ад іхнага позірку небяспеку і

амаральнасць сродкаў. Я маю жаданне ў гэта верыць. Але хіба сродкі сталі ад гэтага менш небяспечнымі? Мае супернікі лічаць, што рэвалюцыя, закрануўшая пятнаццаць гадоў назад правы ўлады, была неабходнай. Добра! І што гэта было зроблена не грунтуючыся на асабістай заікаваўленасьці. Я ахвотна веру. Але не менш праўдзівым з'яўляецца і тое, што яна была здзейснена сродкамі, аспрэчваемымі грамадзкай мараллю. Праўдзіва і тое, што рэвалюцыя была здзейснена, абапіраючыся не на шляхетныя, а на нізінныя ўласьцівасьці людзей, на іхны запал, слабасьці, выгоду, а то і заганы. (*Рух у зале.*) Такім чынам, ставячы перад сабой, магчыма, сумленную мэту, людзі здзейснілі ўчынкі, якія такімі не з'яўляюцца. А для гэтага яны павінны былі апеляваць да сумленнасьці, аддаць ёй даніну павагі, увесьці яе ў штодзённы ўжыванне тых, каму былі патрэбнымі не шляхетныя мэты і сумленныя сродкі, а грубае задавальненне іхных асабістых зацікаўленасьцей з дапамогай даверанай ім улады. Так былі як бы заахвочаны амаральнасць і загана.

Я хачу прывесьці толькі адзін прыклад. Гаворка ідзе пра міністра – я не буду агучваць яго імя, – уключанага ў склад кабінета, хаця яго калегі, як і ўся Францыя, ведалі, што ён няварты займаць гэтую пасаду. Потым ён выйшаў са складу кабінета, таму што занадта шмат хто даведаліся пра яго нягодныя ўчынкі. І куды ж яго перамясьцілі? На самую высокую пасаду судовай улады, адкуль ён хутка патрапіў на лаву падсудных.

Дык вось, спадарства, я не лічу гэты факт адзінкавым. Я яго ацэньваю як сімптом агульнага захворвання, як самую характэрную рысу цэлай палітыкі: ідучы шляхамі, вамі абранымі, вы мелі патрэбу ў такіх людзях.

Маральнае зло, пра якое я згадваў, пашырылася, ахапіла ўсю краіну перадусім дзякуючы нагодзе, якую міністр замежных спраў назваў злоўжываннем уплывамі. Менавіта гэтым шляхам вы ўплывалі, непасрэдна і без пасярэднікаў, на норавы грамадства, але ужо не з дапамогай прыкладаў, а здзяйсненняў. У меня няма жадання пагаршаць становішча, у якім знаходзяцца міністры. Я добра ведаю, пад якую спакусу яны патрапілі. Я добра ведаю, што яшчэ ніколі ні ў адной краіне ўрад не падпадаў пад падобныя спакусы, нідзе яшчэ ў руках урадаўцаў не знаходзілася столькі сродкаў карупцыі, нідзе яшчэ ўрад не меў перад сабой такі нязначны палітычны стан, знаходзячыся ў палоне такіх патрэбаў. Ураду здалося, што значна лягчэй уздзейнічаць на яго з дапамогай карупцыі, і гэтаму жаданню выявілася немагчымым супрацьстаяць. Дапускаю, што міністры паддаліся гэтаму вялікаму злу ненаўмысна, а дзякуючы жаданню скарыстацца асабістай выгодай, але не здолелі ўтрымацца на гэтым крутым схіле; я ў гэтым упэўнены. Я папракаю іх адзіна за тое, што яны ступілі на яго, выбралі такую першапачатковую пазіцыю, пры якой, каб кіраваць, яны вымушаны былі мець справу не з думкамі, пачуццямі, прынцыпамі, а з асабістымі зацікаўленасьцямі. Не сумняваюся, што на гэтым шляху ва ўрадаўцаў не было магчымасьці павярнуць назад, як бы ім гэтага ні жадалася; яны патрапілі пад уплыў фатальнай магутнасьці, якая няўмольна штурхала іх наперад, дзе б яны ні знаходзіліся. Ім нічога не заставалася, акрамя як проста жыць. На гэтым шляху ім дастаткова было праіснаваць восем гадоў, каб зрабіць тое, што яны зрабілі, каб не толькі скарыстацца ўсімі заганнымі сродкамі кіравання, пра якія ішла гаворка, але і вычарпаць іх да канца.

Дзякуючы магутнасьці гэтай фатальнасьці звыш меры павялічылася колькасць пасад; пазьней іх пачало нехапаць і тады ўлады былі вымушаны падзяліць іх, стварыўшы больш дробныя пасады, каб размеркаваць іх сярод

большай колькасьці людзей, а калі не пасады, то ва ўсякім разе аклады, як гэта было зроблена для ўсіх фінансавых службаў. У выніку атрымалася так, што, калі, нягледзячы на механізм стварэння і раздачы пасад, іх выявілася ўсё ж недастаткова, улады прыдумалі падробленыя сродкі, як мы бачылі ў справе Пеці, з дапамогай якіх штучна рабіліся вакантнымі раней занятыя месцы.

Спадар міністр замежных спраў нам неаднаразова заяўляў, што апазіцыя выяўляецца несправядлівай у сваіх нападках, што яе папрокі жорсткія, неабгрунтаваныя, неправамерныя. Але мне было б пажадана асабіста запытаць спадара міністра, ці абвінавачвала апазіцыя калі-небудзь, нават пад час самых неспрыяльных момантаў, яго ў тым, што сёння з’яўляецца даказаным? (*Рух у зале*). Без сумневаў, апазіцыя вылучыла сур’ёзныя папрокі міністру замежных спраў, магчыма празмерныя, не ведаю. Але яна ніколі не вылучала абвінавачванняў у тым, у чым спадар міністр нядаўна прызнаўся.

Што да мяне, то я заяўляю: я не толькі ніколі не вылучаў падобных абвінавачванняў супраць спадара міністра замежных спраў, але нават ніколі не падазраваў, што такое магчыма. Ніколі, ніколі не паверыў бы, чуючы, як спадар міністр замежных спраў па-майстэрску прамаўляе із гэтай трыбуны пра правы маральнасьці ў палітыку, чуючы гэтыя прамовы і маючы, нягледзячы на сваю прыналежнасць да апазіцыі, пачуццё гонару за сваю краіну, я, вядома, ніколі не паверыў бы ў магчымасць таго, што адбылося; я хутчэй бы перастаў паважаць яго, а перш – паважаць сябе, чым выказаў бы здагадку пра тое, што выявілася праўдай. Ці веру я, што спадар міністр замежных спраў, калі вымаўляў гэтую выдатную і шляхетную прамову, думаў насамрэч інакш? Я не стаў бы гэтага сцвярджаць. Лічу, што спадар міністр замежных спраў, падпарадкоўваючыся інстынкту, густу, павінен быў паступіць інакш. Але яго пацягнула за сабой супраць яго волі нейкая палітычная і ўрадавая наканаванасць, якой ён выявіўся паслухмяным. Пра яе я сказаў вышэй.

Тады спадар міністр запытаў, што сур’ёзнага пабачылі ў тым здарэнні, якое сам ён назваў нязначным. Сур’ёзным з’яўляецца тое, што вы ў ім бралі ўдзел, менавіта вы, сваімі прамовамі менш чым хто-небудзь із палітычных дзеячоў гэтай палаты даваўшы нагоду падазраваць сябе ў падобных учынках.

І калі гэты ўчынак, гэтае гледзішча пакідае глыбокае, цяжкае, вартае жалю ўражанне пра маральнасць наогул, то якое ж уражанне застаецца пра маральнасць адпраўляючых уладу? Адно параўнанне мяне асабліва ўразіла, як толькі я даведаўся пра тое, што адбылося.

Тры гады назад адзін са службоўцаў міністэрства замежных спраў, служачы высокага рангу, разышоўся ў палітычных думках з міністрам па аднаму пытанню. Ён выказаў свае непагадненні не ў дыскусіі, а пры галасаванні.

Спадар міністр замежных спраў заявіў, што ён не бачыць далейшай магчымасьці супрацоўнічаць з чалавекам, які не падзяляе яго погляды. Ён яго звольніў, больш дакладна кажучы, проста выставіў за дзьверы. (*Рух у зале*.)

А сёння іншы службовец, стаячы менш высока ў іерархіі, але больш блізкі да спадара міністра замежных спраў, здзяйсняе ўчынкі, пра якія вы ведаеце. (*Воклічы: «Слухайце! Слухайце!»*)

На пачатку спадар міністр замежных спраў не адмаўляеў, што ён ведаў пра іх; потым ён пачаў адмаўляць, дапускаю, што ў нейкі момант ён сапраўды пра гэта не ведаў.

ЗЛЕВА. – Ды не ж! Не!

СПАДАР ДЭ ТАКВІЛЬ. – Але калі ён можа адмаўляць, што ведаў пра гэтыя факты, ён не можа прынамсі адмаўляць таго, што яны мелі месца і што ён пра іх ведае сёння; яны ж з’яўляюцца вядомымі для ўсіх. Аднак гаворка ідзе не пра палітычныя непагадненні паміж вамі і прадстаўніком улады, а пра маральныя разыходжанні, пра тое, што з’яўляецца асабліва дарагім сэрцу і свядомасьці чалавека. Тут зганьбаваны не толькі міністр, але і чалавек. Звярніце на гэта ўвагу!

І вось вы, не даравваўшы іншадумства пры абмяркаванні сур’ёзнага пытання ад годнага чалавека, які ўсяго толькі галасаваў супраць вас, вы не асуджаеце, больш таго, вы ўзнагароджваеце супрацоўніка, які, дзейнічаючы магчыма, насуперак вашым задумам, падспутна вас скампраметаваў, паставіў у самае цяжкае і сур’ёзнае становішча пачынаючы з таго часу, як вы далучыліся да палітычнага жыцця. Вы не выдаляеце яго ад сябе, больш таго, вы яго ўзнагароджваеце, аддаеце яму ўшанаванні.

Што, па-вашаму, можна думаць пра ўсё гэта? Жадаеце вы ці не, але ўзнікае думка: або вы адчуваеце асаблівую прыхільнасць да падобных здрад, або вы не выяўляецеся вольным яго пакараць. (*Шум у зале*.)

Не веру, нягледзячы на ваш вялізны талент, што вы здолееце выйсьці із гэтай сітуацыі. Калі на самай справе чалавек, пра якога я згадваў, дзейнічаў насуперак вашаму жаданню, чаму вы пакінулі яго пры сабе? Калі вы яго не звольнілі, калі вы яго ўзнагароджваеце, калі вы адмаўляецеся выказаць яму сваю пагарду, хай нават невялікую, вы вымушаеце зрабіць тую выснову, якую зрабіў я.

ЗЛЕВА. – Вельмі добра! Вельмі добра!

СПАДАР АДЫЛОН-БАРО. – Гэта вырашальны момант!

СПАДАР ДЭ ТАКВІЛЬ. – Але, спадарства, будзем лічыць, што я памыляюся адносна нагод таго вялікага зла, пра якое ішла гаворка. Будзем лічыць, што ні ўрад, ні кабінет тут ні пры чым. Хіба, спадарства, зло ад гэтага робіцца меншым? Хіба мы не павінны, дзеля нашай краіны, дзеля нас саміх, прыкласьці самыя энергічныя і настойлівыя намаганні, каб справіцца з ім?

Я ўжо казаў, што гэтае зло рана ці позна – не ведаю, як і дзе гэта пачнецца, – прывядзе да самых значных рэвалюцыйных падзей у краіне, можаце быць упэўненымі.

Калі я высвятляю, якой была галоўная нагода, прывёўшая пад час той ці іншай эпохі, у таго ці іншага народа, да пазбаўлення ўлады станаў, стаяўшых на чале грамадства, я сустракаюся з падзеямі, выяўляю асобы, бачу тую ці іншую выпадковую ці другарадную нагоду, але, паверце, найбольш рэчаіснай нагодай, найбольш дзейснай, прыводзячай да страты ўлады, заўсёды з’яўляецца тая, што палітыкі перасталі быць годнымі ўлады. (З*ноў шум у зале*.)

Згадайце старую манархію. Яна была больш магутнай чым сёняшняя ўлада, больш моцнай спрадвечна; яна была больш надзейнай чым сёняшняя, абапіраючайся на старыя звычаі, норавы, вераванні. Яна была больш моцнай і, усё ж, яна развалілася ў пыл. Чаму? Вы думаеце, такім было перапляценне абставін? Ці дзякуючы таму ці іншаму чалавеку, фінансаваму праліку, дзякуючы клятве ў зале для гульні ў мяч Лафайета, Мірабо? Не, спадарства. Больш глыбокая, сапраўдная нагода ў тым, што кіруючы стан стаў з нагоды сваёй абыякавасьці, эгаізму, заганаў няздольным і нявартым кіраваць краінай. (*Воклічы: «Вельмі добра! Выдатна!»).*

Вось сапраўдная нагода.

І, спадарства, калі лічыцца патрэбным клапаціцца пра лёс радзімы ва ўсе часы, гэта тым больш патрэбна рабіць у наш час. Хіба вы не адчуваеце, чыста інтуітыўна, як дрыжыць зямля ў Яўропе? (*Рух у зале*.) Хіба вы не адчуваеце, так бы мовіць, подых ветру рэвалюцый? Ніхто не ведае дзе ён зараджаецца, адкуль дзьме, што нясе з сабой. І ў гэты час вы спакойна пазіраеце на дэградацыю нораваў у грамадстве, калі не сказаць больш рашуча.

Я выказваюся тут без гаркаты, выказваюся, думаецца мне, нестаронне. Я крытыкую людзей у дачыненні да якіх не адчуваю гневу. Я лічу сябе абавязаным сказаць сваёй краіне тое, што з’яўляецца маім глыбокім і прадуманым перакананнем. Такім чынам, маё глыбокае, прадуманае перакананне заключаецца ў тым, што норавы ў грамадстве дэградуюць і што гэтая дэградацыя прывядзе вас, і даволі хутка, да новых рэвалюцый. Няўжо жыццё каралёў трымаецца на больш моцных, цяжэй рвучыхся нітках, чым жыццё іншых людзей? Ці ўпэўнены вы ў сёняшнім і ў заўтрашнім дні? Ці ведаеце вы, што будзе з Францыяй праз год, месяц, нават дзень? Вам гэта невядома; затое вядома, што на гарызонце з’явіўся буран і ён набліжаецца да нас. Няўжо вы дазволіце, каб ён заспеў вас знянацку? (*Воклічы ў цэнтры залы.)*

Спадарства, я малю вас не рабіць гэтага; я не прашу, я малю вас. Я б ахвотна стаў на калені перад вамі – такой рэчаіснай і сур’ёзнай здаецца мне небяспека, настолькі я перакананы, што гаварыць пра гэта патрэбна не дзеля прыгожых слоў. Так! Небяспека вялікая. Адхіліце яе, пакуль існуе час. Выпраўце зло, карыстаючыся эфектыўнымі сродкамі не супраць сімптомаў, а супраць самай хваробы.

Тут гаворка ішла пра перамены ў заканадаўстве. Я вельмі схільны лічыць, што гэтыя перамены не толькі будуць карыснымі, але і неабходнымі. У прыватнасьці, я лічу карыснай выбарную рэформу, не цярпячую адкладанняў парламенцкую рэформу. Але я недастаткова неразважлівы, спадарства, каб не ведаць, што не законы вызначаюць лёс народаў; не, не ўздзеянне механізма законаў правакуе вялікія падзеі ў гэтым сьвеце: яны адбываюцца, спадарства, пад уплывам духу кіравання. Захавайце законы, калі пажадаеце, хаця я лічу, што вы дарэмна гэта робіце, захавайце іх. Пакіньце сабе тых жа людзей, калі вам гэта дае задавальненне, я не буду пярэчыць гэтаму. Але напрамілы Бог, перамяніце дух кіравання, таму што, паўтараю, вы ідзеце да прорвы. (*Жывая ўхвала злева*.)

*Тэкст узяты із газеты «Маніцёр» ад 28 студзеня 1848 года.*